НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»



# БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## КНІГА
## II






Мінск
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
2007

УДК 94 (476.7)
ББК 63.3(4 Беи)
Г 20

Рэдакцыйная калегія:

*Г.П.Пашкоў*
*А.І.Лакотка*
*Л.В.Календа*
*М.Ф.Пілінeнка*
*Л.У.Языковіч*

Пад навуковай рэдакцыяй члена-карэспандэнта
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.І.Лакоткі.

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Г 20 **Гарады і вёскі Беларусі** : Энцыклапедыя. Т. 4, кн. 2. Брэсцкая вобласць / рэдкал. : Г.П.Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БелЭн, 2007. — 608 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0388-7.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе навейшых архіўных і інш. крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі: 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, уключаючы і тыя, якія зараз перасталі існаваць. Чацвёрты том выдання прысвечаны населеным пунктам 8 раёнаў Брэсцкай вобласці.

**УДК 94(476.7)**
**ББК 63.3(4 Беи)**

ISBN 978-985-11-0388-7 (т. 4, кн. 2)
ISBN 985-11-0302-0
ISBN 978-985-11-0302-3

ПОЛЬШЧА

ПРУЖАНСКІ РАЁН

ЖАБІНКАЎСКІ РАЁН

БРЭСЦКІ РАЁН

КОБРЫНСКІ Р-Н

вдсх. Белавежская Пушча

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

КАМЯНЕЦ

ВЫСОКАЕ

Маштаб 1:400 000

Лічбамі пазначаны:

1. Свіцічы
2. Калонія Кругель
3. Браневічы
4. Селяховічы
5. Мікалаева
6. Завадзькавічы
7. Старышова
8. Голы Барок
9. Чабахі
10. Пруска-Багуслаўская
11. Пруска-Валгінова
12. Пруска-Велівейская
13. Баяры



# КАМЯНЕЦКІ РАЁН

Размешчаны на ПдЗ вобласці. Плошча 1690 км$^2$. Насельніцтва 40,9 тыс. чал. (2006), у т.л. гарадскога 13,8 тыс. чал. (33,7%). Цэнтр раёна — г. Камянец. Раён уключае г. Высокае і 234 сельскія населеныя пункты, у т.л. пас. Белавежскі, 14 сельсаветаў: Агароднiцкі, Белавежскі, Відамлянскі, Войскі, Воўчынскі, Вярховіцкі, Дзмітравіцкі, Каленкавіцкі, Камянюцкі, Навіцкавіцкі, Пелішчанскі, Раснянскі, Ратайчыцкі, Рэчыцкі. Мяжуе на З і Пн з Польшчай, на Пд з Брэсцкім, на ПдУ — з Жабінкаўскім, на У — з Кобрынскім і Пружанскім р-намі Брэсцкай вобл.

Раён размешчаны ў межах Прыбугскай раўніны, паверхня тэр. плоска-хвалістая, з агульным нахілам з Пн на Пд. Пераважаюць вышыні 140—170 м, найбольшая вышыня над узроўнем мора — 198 м (5 км на ПнЗ ад в. Войская). Сярэдняя тэмпература студзеня -4,6 °С, ліпеня +18,4 °С. Пераважаюць дзярнова-падзолістыя (49,4%), дзярнова-падзолістыя забалочаныя (19,6%) глебы, сустракаюцца тарфяна-балотныя, дзярновыя і дзярнова-карбанатныя забалочаныя. Сельгасугоддзі займаюць 60,4% тэр. (110,6 тыс. га, за сельгаспрадпрыемствамі замацавана 80,3 тыс. га, з іх ворыва 55,5 тыс. га), лясы — 27% (пераважна хвойныя, на ПнУ), балоты — 1,1%. Карысныя выкапні: торф, гліны, буд. пяскі, пясчана-жвіровы матэрыял. Асноўнымі воднымі артэрыямі з'яўляюцца р. Заходні Буг і яго прытокі Лясная і Пульва. На Пн раёна частка ўгоддзяў Нац. парку «Белавежская пушча» (у т.л. адм. цэнтр парку).

У гады Вял. Айч. вайны з канца чэрв. 1941 г. да канца ліп. 1944 г. Камянеччына была акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія за час акупацыі загубілі ў раёне 5406 чал., спалілі в. Ляскі разам з жыхарамі. На тэр. раёна дзейнічалі партыз. брыгада «Савецкая Беларусь», раённая антыфаш. арг-цыя, падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ.

Раён утвораны 15.1.1940 г., падзелены 12.10.1940 г. на 14 сельсаветаў: Агароднiцкі (у 1962—64 — 1-ы Агароднiцкі), Відамлянскі, Войскі, Дварцоўскі, Дзмітравіцкі, Мікалаеўскі, Навіцкавіцкі, Падбельскі, Пашукоўскі, Пелішчанскі, Прускаўскі, Ратайчыцкі, Рэчыцкі, Турнаўскі. 16.8.1945 г. далучаны Бялоўскі с/с былога Гайнаўскага р-на, 16.7. 1954 г. ліквідаваны Войскі, Дварцоўскі, Мікалаеўскі, Навіцкавіцкі, Падбельскі, Прускаўскі, Турнаўскі сельсаветы, тады ж Бялоўскі с/с перайменаваны ў Ражкоўскі. 8.8.1959 г. да раёна былі далучаны г.п. Жабінка, Крыўлянскі, Мацеевіцкі (13.10.1961 перайменаваны ў Якаўчыцкі), Сакскі, Сцепанкоўскі сельсаве-



*Дубрава ў Белавежскай пушчы.*



*Камянецкая вежа.*



*Сімяонаўская царква (1914) ў г. Камянец.*

ты скасаванага Жабінкаўскага р-на (25.12.1962 перададзены Кобрынскаму р-ну). 17.11.1959 г. ліквідаваны Ражкоўскі с/с. 15.1.1962 г. Пашукоўскі с/с перайменаваны ў Навіцкавіцкі. 17.4.1962 г. далучана тэр. скасаванага Высокаўскага р-на, у т.л. г. Высокае і Агародніцкі (у 1962—64 — 2-і Агародніцкі), Баршчэўскі, Бушміцкі, Вярховіцкі, Воўчынскі, Расянскі сельсаветы. 14.4.1964 г. ўтвораны Войскі, Камянецкі, Камянюцкі сельсаветы, скасаваны 1-ы Агароднiцкі с/с. 26.7.1968 г. Бушміцкі с/с перайменаваны ў Каленкавіцкі. 3.7.1972 г. Баршчэўскі перайменаваны ў Малазводскі, 18.10.1982 г. скасаваны, паўн. частка з в. Баршчэва перададзена Ратайчыцкаму с/с, паўд. частка — Брэсцкаму р-ну. 19.5.1986 г. скасаваны Камянецкі с/с, 18.8.1986 г. ўтвораны Белавежскі с/с.

У складзе насельніцтва беларусы складаюць 82,6%, украінцы — 7,7%, рускія — 6,7%, палякі — 2,2%. Па тэр. раёна праходзяць чыгунка Брэст—Высокае—Беласток, аўтадарогі Брэст—Камянец—Камянюкі, Высокае—Пружаны—Слонім, Камянец—Жабінка, Кобрын—Камянец—Высокае, Брэст—Высокае. Працуюць



*У нетрах Белавежскай пушчы.*



прадпрыемствы харчовай, дрэваапрацоўчай прам-сці, вытв-сці буд. матэрыялаў, у т.л. сумеснае бел.-расійскае ААТ «Белавежскія сыры», Камянецкі філіял ААТ «Савушкін прадукт», ААТ «Вярховіцкі крухмальны завод» і інш., 18 сельгаспрадпрыемстваў (пераважна арыентаваных на малочна-мясную жывёлагадоўлю), у т.л. ААТ «Белавежскі», «Агра-Зарэчча» і «Камянецкая Пушча». Дзейнічаюць гімназія, 18 сярэдніх, 8 базавых, 3 пач. школы, 5 школ-садоў, 2 школы-інтэрнаты, 4 дзіцячыя муз. школы і школа мастацтваў, с.-г. прафесійна-тэхнічны каледж, 2 вытв.-вучэбныя камбінаты, 5 пазашкольных устаноў (у т.л. рэсурсны цэнтр інфармацыйных тэхналогій, цэнтр карэкцыйна-развівальнай адукацыі і рэабілітацыі, дзіцячы сац. прытулак), 20 дзіцячых дашкольных устаноў, 21 дом культуры, 11 сельскіх клубаў, 43 бібліятэкі. У сістэме аховы здароўя жыхароў раёна 5 бальніц (у т.л. цэнтральная раённая ў Камянцы і Высокаўская гарадская), 4 амбулаторыі, 21 фельч.-акушэрскі пункт, 11 аптэк, аптэчных кіёскаў і пунктаў, таксама на тэр. раёна знаходзяцца абласная туберкулёзная бальніца «Вярховічы», санаторый «Белая Вежа». Дзейнічаюць Музей прыроды Белавежскай пушчы (у в. Камянюкі), філіял абласнога краязнаўчага музея «Камянецкая вежа», музей хлеба (у в.



*Рэзідэнцыя Дзеда Мароза ў Белавежскай пушчы.*



*Зубр на вадапоі.*

Расна). У 2003 г. ў Белавежскай пушчы адкрылася рэзідэнцыя бел. Дзеда Мароза. Выдаецца раённая газ. «Навіны Камянеччыны».

**КАМЯНЕЦ** – горад, цэнтр Камянецкага р-на, за 39 км на Пн ад Брэста, на беразе р. Лясная (прыток Зах. Буга), за 28 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Баранавічы—Брэст. На скрыжаванні аўтадарог Брэст—Камянюкі і Кобрын—Высокае. 8569 жыхароў (2005).

Паводле археалагічных даследаванняў, у 10—11 ст. тут існавала невял. паселішча. Як паведамляе Іпацьеўскі летапіс, у 1276 г. па загадзе валынскага кн. Уладзіміра Васількавіча «градаруб» (дойлід) Алекса разам з тутэйшымі жыхарамі заснаваў на р. Лясная ўмацаванае пасяленне. Назву Камянец атрымаў ад камяністай зямлі, дзе ўзводзілася збудаванне як паўн.-зах. фарпост рус. зямель. Асновай яго абароны былі роў і вал з умацаваннямі, а таксама 30-мятровая мураваная вежа («Белая вежа»). Вежа знаходзілася ўнутры кальцавога вала і дамінавала над драўлянымі ўмацаваннямі. Рэшткі землянога вала і драўлянага замка канчаткова зніклі ў 1903 г. пад час правядзення земляных работ. У 1289 г. пасля смерці кн. Уладзіміра Васількавіча кн. Мсціслаў Давыдавіч паслаў свае засады ў Камянец, але горад аказаўся заняты драгічынскім кн. Юрыем Львовічам. Пад пагрозай асады ён вымушаны быў пакінуць горад, але пры гэтым моцна яго спустошыў і разбурыў. З 1366 г. Камянец у складзе ВКЛ, належаў малодшаму сыну Гедзіміна Кейстуту. Добра ўмацаваны, размешчаны на вял. гандлёвым шляху з Брэста ў Гродна і з Кракава ў Вільню, ён стаў даволі буйным гандлёвым цэнтрам. Гэта было месца адпачынку і палявання князёў. Горад тройчы падвяргаўся нападам крыжакоў. У 1375 г. яны зрабілі набег на ваколіцы Камянца, захапілі шмат палонных, жывёлы, а ў 1378 г. горад быў узяты штурмам і дашчэнту спалены. Нямала пацярпеў ён і ад міжусобіц. У 1383 г. князь Януш Мазавецкі выкарыстаў міжусобную барацьбу вял. князя Ягайлы з Вітаўтам і захапіў горад. Але праз год Ягайла ўзяў Камянец штурмам. Заключыўшы мір з Ягайлам у 1384 г., Вітаўт далучыў горад да сваіх зямель, але ў 1390 г. мірны дагавор быў парушаны і войска Ягайлы зноў захапіла Камянец. Тут у 1409 г. Ягайла прымаў пасла папы рымскага. З 1413 г. Камянец стаў цэнтрам пав. Трокскага, з 1520 г. — Падляшскага, з 1566 г. — Берасцейскага ваяводстваў. Значнае развіццё атрымалі рамёствы і гандаль. У 1426 г. горад пацярпеў ад чумы. У 1503 або 1518 г. (розныя звесткі) атрымаў магдэбургскае права, а з 1524 г. меў герб: на блакітным полі выява ся-



*Будынак Камянецкага раённага выканаўчага камітэта.*



*Помнік заснавальніку горада Камянец.*





рэбранай вежы. У тагачасным апісанні Камянца ўпамінаюцца вуліцы: Брэсцкая, Літоўская, Васкрасенская, Свіная, Пасечная, Сямёнаўская, Падбельская, Затыльная і інш. Паводле рэестра вайск. падаткаў ВКЛ Камянец выстаўляў у час войнаў 50 коней і 50 коп грошай. У 16 ст. Камянец быў цэнтрам ключа, групы маёнткаў у Брэсцкім ваяв. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай (1654—67) разбураны. Горад пачаў паступова трацiць палітычнае і эканам. значэнне. У 17—18 ст. тут пабудаваны замкава-палацавыя комплексы, дзейнічала тэкстыльная мануфактура Радзівілаў.

У 1673 г. ў Камянцы пабудаваны кляштар пры праваслаўнай Васкрасенскай царкве. У 1723 г. ўзведзены касцёл, пры якім дзейнічала школа. У 1789 г. ў ёй было 20 вучняў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 г. Камянец у складзе Рас. імперыі, дробнае мястэчка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1795—1940 гг. меў назву Камянец-Літоўскі. У канцы 18 — пач. 19 ст. належаў графу Вяльгорскаму, пазней мястэчка перайшло ва ўладанне ген.-лейтэнанта Гальберга. У чэрв. 1812 г. разрабавана французскімі войскамі. Летам 1820 г. ў маёнтку Камянец-Літоўскі адбываліся хваляванні сялян, 30.7.1820 г. сюды былі накіраваны войскі. Многія ўдзельнікі выступленняў былі арыштаваны і аддадзены пад суд. У 1851 г. ў час пажару згарэла шмат пабудоў. У 1885 г. мястэчка, цэнтр воласці, 3099 жыхароў, валаснoе праўленне, 2 праваслаўныя царквы, касцёл, багадзельня, школа, гарбарня, 3 заезныя двары, крамы, за 2 вярсты ў сядзібе Старышава — піўзавод. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 4,6 тыс. жыхароў, 2 царквы, касцёл, сінагога, 4 малітоўныя дамы, мужчынскае і жаночае нар. вучылішчы, лячэбніца, паштовая станцыя, хлебазапасны магазін, 8 ветраных млыноў, 2 маслабойні, цагельны з-д, 5 кузняў, свечачны з-д, 3 гарбарні, аптэка, 106 дробных гандлёвых крам, 11 піцейных дамоў, штогод праводзілася 9 кірмашоў. У крас. 1906 г. ў мястэчку адбываліся забастоўкі рабочых на прадпрыемствах. У 1905 г. ў мужчынскім нар. вучылішчы было 140 навучэн-

*Бюст У.Л.Бядулі ў г. Камянец.*



*Петрапаўлаўскі касцёл у г. Камянец.*



*Будынак гімназіі г. Камянец.*

цаў, у жаночым — 90. У 1912—14 гг. пабудавана Сімяонаўская царква. У 1914 г. працавала 7 дробных прадпрыемстваў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны ў Брэсцкім пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 322 двары, 2348 жыхароў, касцёл, царква, 3 лесапільні, вінакурня, цэх па апрацоўцы аўчын, 2 маслабойні, электрастанцыя (з 1931), мылаварны з-д (з 1939). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. гар. пасёлак, цэнтр раёна ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 4,5 тыс. жыхароў, 700 жылых пабудоў, дзейнічалі электрастанцыя, 3 цагельныя з-ды, маслазавод, гарбарня, 4 млыны, 2 пач. школы, бальніца, пошта. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 22.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў раёне і горадзе 5,4 тыс. чалавек. Дзейнічалі Камянецкая раённая антыфаш. арг-цыя (май 1942 — ліп. 1944), падп. к-ты КП(б)Б і ЛКСМБ. У час акупацыі створана яўр. гета. Восенню 1942 г. ўсё насельніцтва гета было вывезена ў Высокае і знішчана. Вызвалены 22.7.1944 г. часцямі 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944 г.

У 1971 г. ў Камянцы 5,1 тыс. жыхароў. З 24.6.1983 г. Камянец — горад. Працуюць сырзавод, харчовы з-д, камбінаты каап. прам-сці і быт. абслугоўвання. У горадзе гімназія, сярэдняя, муз., дзіцяча-юнацкая спарт. школы, 2 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, 2 дамы культуры, клуб, кінатэатр, 2 б-кі, бальніца, паліклініка, філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла сав. воінаў, актывістаў і мірных жыхароў. Помнікі архітэктуры: Камянецкая вежа 13 ст., Сімяонаўская царква (1914). Радзіма бел. жывапісца Ф.У.Дарашэвіча.



*Святкаванне Дня пісьменнасці ў г. Камянец. 2005 г.*



*Адзін з карпусоў Камянецкай раённай бальніцы.*

**АБРАМАВА** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Камянца, 55 км ад Брэста, 46 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, непадалёк ад аўтадарогі Камянец—Камянюкі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

У 1857 г. калонія, 88 рэвізскіх душ, дзярж. ўласнасць. У 2-й пал. 19 ст. яўр. калонія Абрамава (Плясішча), у Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. налічвалася 16 двароў, 133 жыхары, каля 120 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі, дзейнічаў малітоўны дом. У 1905 г. 100 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, калонія ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 18 двароў, 97 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 24 двары, 128 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1942 г. вёска была спалена, загінулі 76 мірных жыхароў.



У 1960 г. ў вёсцы 61 жыхар, у 1970 г. 47 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Свярдлова.

У складзе СВК «Хадасы».

**АБЯРОЎШЧЫНА** — вёска, цэнтр Раснянскага с/с, за 38 км на З ад Камянца, 43 км ад Брэста, 0,5 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Высокае—Пясчатка (мяжа з Польшчай). 416 гаспадарак, 1064 жыхары (2005).

У складзе СВК «Савецкая Беларусь». Паштовае аддз., б-ка, дзіцячы сад, 2 дзярж. і 3 прыватныя магазіны, аддз. АСБ «Беларусбанк», камбікормавы з-д ААТ «Белавежскі», асфальтавы з-д, буракапункт Жабінкаўскага цукровага з-да, ААТ «Аграпрадукт», мытны пост.

**АГАРОДНІКІ** — вёска, цэнтр Агародніцкага с/с, на р. Пульва, за 40 км на З ад Камянца, 45 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, паблізу ад аўтадарогі Высокае—Пружаны—Слонім. 136 гаспадарак, 378 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., пры фальварку Александрыя маёнтка Высока-Літоўск, уласнасць памешчыка К.Сапегі. Паводле інвентара маёнтка 1845 г. ў вёсцы налічвалася 8 двароў, 60 наяўных сялянскіх душ. У 2-й пал. 19 ст. ў Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні; уласнасць Патоцкіх. У складзе Хмялі-Агародніцкай сельскай грамады, якой у 1890 г. належала 222,5 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі, 36 дзес. лугу. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы налічвалася 49 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 120 жыхароў. У 1905 г. 128 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 10 двароў, 52 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета ў Высокаўскім р-не Брэсцкай вобл., 16 двароў, 83 жыхары. У сельсавеце працавалі 4 пач. школы, вадзяны млын, 4 магазіны. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 15 жыхароў вёскі. На вясковых могілках пахаваны 73 сав. воіны, 16 ваеннапалонных, мірныя жыхары, якія загінулі ў вайну. У час калектывізацыі раёна ў вёсцы арганізаваны калгас «Зара». З 1952 г. ў калгасе «Бальшавік», які 14.12.1962 г. перайменаваны ў калгас «Дружба» (цэнтр — в. Агароднікі). У 1960 г. ў вёсцы 57 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 62 жыхары.

Цэнтр ААТ «Александрыя-Агра». У вёсцы базавая школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі. Помнік на брацкай магіле сав. воінаў.



*Фрагмент парку культуры ў г. Камянец.*



*Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан у цэнтры г. Камянец.*

Помнік археалогіі — селішча паморскай культуры (4—2 ст. да н.э.).

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Камянца, 55 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 6 гаспадарак, 8 жыхароў.

У 1-й пал. 19 ст. сяло ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у сяле 110 рэвізскіх душ, дзярж. ўласнасць. З 1860-х г. у Войскай вол. тых жа павета і губерні. У 1885 г. — 9 двароў, 99 жыхароў, дзейнічала праваслаўная Васкрасенская царква на могілках (з 1841). Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 17 двароў, 120 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы (Васкрасенская і Ушэсцеўская), нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, ветраны млын, кузня. У 1905 г. 177 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Войскай, з 3.3.1928 г. ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 18 двароў, 82 жыхары. З 12.10.1940 г. — цэнтр сельсавета Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 24 двары, 124 жыхары. У склад сельсавета ўваходзілі 9 паселішчаў, 361 двор з насельніцтвам 2004 чал. На тэр. сельсавета працавалі 4 пач. школы, 7 ветраных млыноў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 10 жыхароў вёскі. У 1960 г. ў вёсцы 122 жыхары. З 1962 г. ў саўгасе «Белавежскі» (з 1982 саўгас «Першамайскі», у 1991 рэарганізаваны ў калгас). З 14.4.1964 г. вёска ў Дзмітравіцкім с/с. У 1970 г. 64 жыхары.

У складзе СВК «Хадасы».



*Ушэсцеўская царква (19 ст.) у в. Агароднікі.*

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 59 км на ПдЗ ад Камянца, 38 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Ставы—Высокае. 25 гаспадарак, 42 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Ставы, які належаў графіні Красінскай. Працавала вясковая крама. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 234 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 ст. ў Воўчынскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 53 двары, 399 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 443 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Воўчынскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 62 двары, 257 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Стаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл., на той час 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 жыхароў вёскі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Бераг». З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 262 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. 242 жыхары, у калгасе імя Свярдлова.

У складзе СВК «Стаўскі».

**АЛЕШКАВІЧЫ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Камянца, 35 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарогах Высокае—Задвор'е і Камянец—Брэст. 41 гаспадарка, 60 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Турнаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. ў складзе маёнтка Дзяменічы, уласнасць Баяроўскай, 298 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. 59 двароў, 475



жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1905 г. ў вёсцы 543 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Турнаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. вёска ў Турнаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 76 двароў, 231 жыхар. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 жыхароў вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Свабодная Праца», дзейнічала пач. школа. У 1950 г. ў вёсцы 98 двароў, 353 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Відамлянскім с/с. З 1956 г. ў калгасе «Перамога». У 1959 г. ў вёсцы 289 жыхароў, у 1970 г. 245 жыхароў.

У складзе ААТ «Агра-Турна». Крама. Помнік на магіле 18 партызан дывізіі Каўпака, якія загінулі 22—23.3.1944 г.

**АЛЕШКАВІЧЫ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Камянца, 28 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 28 гаспадарак, 54 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе фальварка Алешкавічы маёнтка Трасцяніца, уласнасць памешчыцы Муханавай з Патоцкіх. У 1833 г. ў вёсцы 36 двароў, 236 рэвізскіх душ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у маёнтку Трасцяніца баронаў Марэнгеймаў, 235 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. налічвалася 50 гаспадарак, 355 жыхароў, дзейнічалі школа граматы, кузня. У 1905 г. ў вёсцы 365 жыхароў. У 1921—39 гг. у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Гродзенскай вобл. З 12.10.1940 г. вёска ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 10 жыхароў вёскі. У час пасляваеннай калектывізацыі ў вёсцы арганізаваны калгас «Свабодная праца». З 1956 г. ў калгасе «Радзіма». У 1960 г. ў вёсцы 192 жыхары, у 1970 г. 150 жыхароў. З 7.9.2006 г. ў Відамлянскім с/с.

У складзе ААТ «Відамлянскае». Дзейнічае магазін.

**АЛЬВУС** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Камянца, 47 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Бушмічы—Пагранічная. 10 гаспадарак, 20 жыхароў (2005).

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1923 г. вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 4 двары, 27 жыхароў. З 12.10.1940 г. калонія Альвус (на той час 104 жыхары) у Бушміцкім с/с Кляшчэльскага р-на, з 16.8.1945 г. Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас імя Ракасоўскага (50 членаў). У 1960 г. ў вёсцы 148 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, з 26.7.1968 г. ў Вярховіцкім с/с. У 1970 г. 98 жыхароў, у калгасе імя Дзяржынскага.

У складзе СВК «Агра-Ніва».

**АМЕЛЯНЕЦ** — вёска ў Каленкавіцкім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Камянца, 66 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Амелянец—Вярховічы—Высокае. 119 гаспадарак, 337 жыхароў (2005).

У канцы 16 ст. вёска ў Берасцейскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Упамінаецца пры апісанні межаў Белавежскай пушчы ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. сяло пры ўрочышчы Гай у Вярховіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Дзярж. ўласнасць, у 1857 г. 559 рэвізскіх душ. У 1885 г. 90 двароў, 623 жыхары. Дзейнічалі праваслаўная царква, нар. вучылішча, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 143 двары, 809 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, кузня, піцейны дом. У 1905 г. 870 жыхароў. У нар. вучылішчы на гэты час налічваліся 103 вучні. У канцы 19 ст. прыходу царквы належала 75 дзес. зямлі, 270 двароў, 2499 прыхаджан. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 44 двары, 213 жыхароў. У лютым 1925 г. ў вёсцы згарэла драўляная

царква, у гэтым жа годзе сюды была перавезена царква з Яблачынскага манастыра (Польшча). З 12.10.1940 г. вёска (на той час 611 жыхароў) — цэнтр Амелянецкага с/с Кляшчэльскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 22.6.1941 г. да 19.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. гітлераўцы расстралялі ў вёсцы 6 мірных жыхароў. Вызвалены воінамі 65-й арміі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 28 воінаў-землякоў. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не. У 1947 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1950 г. аб'ядноўваў 261 жыхара вёскі. З 16.7.1954 г. ў Бушміцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 436 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 1964 г. — цэнтр калгаса «Зара». З 26.7.1968 г. ў Каленкавіцкім с/с. У 1970 г. — 351 жыхар.

Цэнтр СВК «Амелянец». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, магазін, Крыжаўзвіжанская царква.

**АНТОНЫ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 14 км на У ад Камянца, 53 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст-Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 9 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 47 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Гарадзечанскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 27 двароў, 141 жыхар. З 12.10.1940 г. вёска ў Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 36 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 воінаў-землякоў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 167 жыхароў. У 1970 г. 102 жыхары, у калгасе «Світанне».

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**АПАКА** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Камянца, 60 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Апака—Вярховічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёскі Вялікая і Малая Апака ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара за 1845 г. вёска Вялікая Апака 4 двары, 33 жыхары, у складзе фальварка Апака маёнтка Капылы, уладанне памешчыцы Караліны Пуслоўскай; у 1857 г. — вёска (92 рэвізскія душы) маёнтка Даўбізна, уласнасць памешчыка Вікенція Сняжко. У 1890 г. фальварак Апака належаў Ігнату Пуслоўскаму. Вёска Вялікая Апака адносілася да Сіпурскай сельскай грамады; в. Малая Апака — да Апацкай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Вярховіцкай вол. тых жа павета і губерні, у в. Вялікая Апака (Мартынюкі) — 8 двароў, 67 жыхароў, у в. Малая Апака — 25 двароў, 168 жыхароў, дзейнічалі кузня, хлебазапасны магазін, у аднайменным маёнтку (уласнасць сельскага тав-ва) — 17 двароў, 116 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў в. Малая Апака 10 двароў, 53 жыхары, у в. Вялікая Апака 18 двароў, 93 жыхары. З 12.10.1940 г. вёскі Малая Апака (на той час 177 жыхароў) і Вялікая Апака (275 жыхароў) у Бушміцкім с/с Кляшчэльскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1964 г. вёскі зліліся ў адну. З 26.7.1968 г. ў Вярховіцкім с/с. У 1970 г. ў вёсцы 38 жыхароў, у калгасе імя Дзяржынскага.

У складзе СВК «Агра-Ніва».

**АСІНКІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 15 км на У ад Камянца, 54 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2005).

На пачатку 20 ст. хутар у Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 16 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. хутар у Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., 4 двары,



20 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 24 жыхары. У 1970 г. 28 жыхароў, у калгасе «Світанне».

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**АСІННІКІ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Камянца, 50 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Стаўпавіскі. 18 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

У 1857 г. дзярж. ўласнасць, 92 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Дмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. цэнтр Асіннікаўскай сельскай грамады, 19 двароў, 122 жыхары. У 1905 г. ў вёсцы 152 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 7 двароў, 35 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 25 двароў, 151 жыхар. У 1941 г. 22 двары, 128 жыхароў. У жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску. У Вял. Айч. вайну загінулі і прапалі без вестак на фронце 8 жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 115 жыхароў. У 1970 г. 99 жыхароў, уваходзіла ў саўгас «Белавежскі».

У складзе СВК «Хадасы».

**БАБІЧЫ** — вёска ў Войскім с/с, на беразе р. Лясная, за 8 км на ПдЗ ад Камянца, 35 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, каля аўтадарогі Камянец—Астрамечава. 49 гаспадарак, 82 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска і маёнтак у Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) уласнасць Шэмета, налічвалася 203 рэвізскія душы. Бабіцкая сельская грамада ў 1890 г. мела 300 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 36 двароў, 306 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, ветраны млын, кузня. У 1905 г. 322 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 15 двароў, 112 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 39 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 14 вяскоўцаў. У 1948 г. ў пач. школе было 37 вучняў. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Малянкова. У 1960 г. 78 двароў, 342 жыхары. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. 261 жыхар, у калгасе імя Леніна. З 19.5.1986 г. ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**БАГАЧЫ** — вёска ў Войскім с/с, за 7 км на З ад Камянца, 46 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Белавежскі. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска і маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1845 г. маёнтак і вёска ўласнасць памешчыка Райнольда Шукевіча. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы было 4 двары цяглыя і 3 двары агароднікаў, 41 рэвізская душа, 96 дзес. зямельных угоддзяў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Войскай вол., 6 двароў, 37 жыхароў, ветраны млын. У 1905 г. 58 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Войскай, з 1928 г. ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., у 1923 г. 27 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на, на той час 11 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 вясковец. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. 46 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. 35 жыхароў, у калгасе імя Леніна. З 19.5.1986 г. ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**БАРАНКІ** — вёска ў Відамлянскім с/с, на р. Лясная, за 6 км на Пд ад Камянца, 35 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Брэст. 16 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У 1567 г. маёнтак Баранкі ў Брэсцкім пав. ВКЛ, уласнасць Туравай, якая вы-

стаўляла коней у літ. войска. У сярэдзіне 19 ст. 2 аднайменныя вёскі ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) в. Вялікія Баранкі (204 рэвізскія душы) і в. Малыя Баранкі (53 рэвізскія душы) у складзе маёнтка Баранкі, уласнасць Каржанеўскага, затым Пашынскай. У 2-й пал. 19 ст. ў Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. вёска Баранкі, 49 двароў, 393 жыхары, хлебазапасны магазін; маёнтак Баранкі, 1 двор, 5 жыхароў. На 1905 г. ў вёсцы 456 жыхароў, у маёнтку 15 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 30 двароў, 149 жыхароў, у аднайменным фальварку 1 двор, 3 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 49 двароў, 286 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы дзейнічала падп. група. У канцы 1940-х г. арганізаваны калгас імя Суворава, з 1950 г. вёска ў калгасе імя Чкалава. Дзейнічала пач. школа (у 1948 яе наведвалі 29 вучняў). У 1960 г. ў вёсцы 165 жыхароў, у 1970 г. 110 жыхароў. Уваходзіла ў калгас «Кастрычнік».

У складзе ААТ «Відамлянскае». На Пд ад вёскі, на левым беразе р. Лясная захавалася гарадзішча (раскопкі не праводзіліся), што сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці.

**БАРАДЗЁЎКА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 42 км на З ад Камянца, 45 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, паблізу ад аўтадарогі Высокае—Пружаны. 38 гаспадарак, 63 жыхары (2005).

У 1-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Высока-Літоўск ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уладанне Сапегаў. Паводле інвентара маёнтка за 1845 г. ў вёсцы 29 двароў, 201 жыхар. У 2-й пал. 19 ст. ў Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні, уласнасць графіні Патоцкай, у 1857 г. — 200 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 56 двароў, 377 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, карчма. У 1905—06 гг. жыхары вёскі Барадзёўка прымалі актыўны ўдзел у выступленнях сялян маёнтка Высока-Літоўск, які належаў памешчыцы Патоцкай. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 62 двары, 319 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Гольскім с/с Высокаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 16 жыхароў вёскі. З 16.8.1945 г. ў Ваўсовіцкім с/с. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Калініна (на 1.1.1949 — 35 гаспадарак), дзейнічала пач. школа (81 вучань). З 1952 г. ў калгасе «Савецкая Беларусь». З 16.7.1954 г. ў Расненскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 380 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. 310 жыхароў.

У складзе СВК «Савецкая Беларусь». Крама. Радзіма ген. П.Л.Рудчука, які ў Вял. Айч. вайну камандаваў 185-й стралк. дывізіяй.

**БАРШЧЭВА** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Камянца, за 35 км ад Брэста, за 15 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 49 гаспадарак, 90 жыхароў (2005).

Паселішча ўпамінаецца ў 2-й пал. 15 ст. ў дакументах запісаў зямельных дач каралём Казімірам, у Берасцейскім пав. ВКЛ. У сярэдзіне 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара за 1845 г. маёнтак належаў памешчыкам графам Грабоўскім. У склад маёнтка ўваходзілі 4 фальваркі, 5 вёсак, каля 2884 дзес. зямлі, 4 карчмы, 2 ветраныя млыны, млын на валавой цязе, 2 вінакурні. Паводле 8-й рэвізіі (1833) тут было 15 дваровых людзей, 836 рэвізскіх душ. У вёсцы на гэты час 35 двароў, 276 рэвізскіх душ, 420 дзес. ворыўнай зямлі, 17 дзес. сядзібнай зямлі, 23 дзес. сенакосу. З 1940 г. дзейнічала Ануфрыеўская царква. Паводле 10-й рэвізіі (1857) вёска ў складзе маёнтка Бабічы, які належаў Карловічу, налічвалася 278 рэвізскіх душ. У 1885 г. сяло ў Ратайчыцкай вол. тых жа павета і гу-



берні, 33 двары, 353 жыхары, царква, ветраны млын, карчма. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 65 двароў, 441 жыхар, царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма, кузня. У 1905 г. ў сяле 521 жыхар, у маёнтку — 19 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., у 1923 г. 18 двароў, 152 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 540 жыхароў. З 12.10.1940 г. — цэнтр Баршчэўскага с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ўваходзілі 11 паселішчаў з насельніцтвам 3193 чал., на яго тэр. працавалі 3 пач. школы, паравы млын, 5 магазінаў, б-ка, царква. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 18 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў 7-гадовай школе 230 вучняў. У 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Іскра». З 1953 г. Баршчэва ў калгасе «Ленінскі шлях». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 431 жыхар. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. 319 жыхароў. З 3.7.1972 г. ў Малазводскім, з 18.10.1982 г. ў Ратайчыцкім с/с.

У складзе ААТ «Белавежскі». Дзейнічаюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, магазін, царква.

**БАЯРЫ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 13 км на У ад Камянца, 52 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Кобрын. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 146 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., у 1923 г. — 20 двароў, 80 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 29 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. захопнікі расстралялі тут 11 актывістаў і жыхароў вёскі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. У 1959 г. ў вёсцы 103 жыхары, у 1970 г. 79 жыхароў, уваходзіла ў калгас «Світанне».

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**БЕЛАВЕЖСКІ** — пасёлак, цэнтр Белавежскага с/с, за 25 км на З ад Камянца, 50 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 736 гаспадарак, 2238 жыхароў (2005).

Пасёлак будаваўся адначасова з буйным свінагадоўчым комплексам (на 108 тыс. галоў) у 1981—85 гг. У будоўлі, якая была аб'яўлена ўдарнай камсамольскай, удзельнічалі ўсе раёны вобласці. З 18.7.1986 г. пасёлак, цэнтр саўгаса-камбіната «Белавежскі», з 18.8.1986 г. — цэнтр сельсавета. У 1995 г. 628 двароў, 2200 жыхароў. У склад сельсавета, акрамя пасёлка, уваходзяць вёскі Манчакі (з 7.9.2006) і Міневічы.

Цэнтр ААТ «Белавежскі». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, лазнева-пральны камбінат, магазіны.

**БЕЛАЯ** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 27 км на Пн ад Камянца, 66 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянюкі—Амелянец. 21 гаспадарка, 45 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. 57 рэвізскіх душ, дзярж. ўласнасць. У 1921—39 гг. у

*Ануфрыеўская царква (1840) у в. Баршчэва.*



складзе Польшчы. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Бялоўскага с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1933 г. тут быў створаны культ.-асв. гурток, які меў бел. накіраванасць. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы налічвалася 28 гаспадарак, 180 жыхароў. У жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі ў вёсцы 26 двароў, загубілі 2 мірных жыхароў. Вызвалена вёска 17.7. 1944 г. У гады Вял. Айч. вайны загінулі 11 жыхароў. З 16.7.1945 г. ў Камянецкім р-не. У 1950 г. дзейнічаў калгас «Савецкі пагранічнік». З 16.7.1954 г. ў Ражкоўскім, з 17.11.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1959 г. ў вёсцы 79 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. — 64 жыхары. У межах Нац. парку «Белавежская пушча». Магазін.

**БЕРАЗНЯКІ** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 5 км на ПдУ ад Камянца, 46 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Жабінка. 20 гаспадарак, 58 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Пруска, уласнасць памешчыка Велавейскага. У 1857 г. 110 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 21 двор, 149 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. На 1905 г. 35 двароў, 178 жыхароў. У 1921—39 гг. у Польшчы, у складзе Камянец—Літоўскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 16 двароў, 74 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 28 двароў, 206 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 7 жыхароў вёскі. У сак. 1947 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Перамога». У 1948 г. ў пач. школе 72 вучні. Пасля ўз'яднання гаспадарак у калгасе імя Будзённага, які 15.10.1957 г. быў перайменаваны ў калгас «40 год Кастрычніка». З 16.7.1954 г. ў Пелішчанскім с/с. У 1960 г. 107 жыхароў, у 1970 г. — 92 жыхары.

У складзе ААТ «Агра-Пелішча».

**БОБІНКА** — вёска ў Каленкавіцкім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Камянца, 70 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Амелянец—Вярховічы—Высокае. 18 гаспадарак, 42 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Вярховіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. 106 рэвізскіх душ, вёска ў складзе маёнтка Бабінка, які належаў Прыемскай. Паводле перапісу 1897 г. налічвалася 27 двароў, 220 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Непадалёк размяшчаўся аднайменны маёнтак, 2 двары, 6 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 239 жыхароў, у маёнтку 10 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 12.10.1940 г. ў Амелянецкім с/с Кляшчэльскага р-на, з 16.8.1945 г. Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 жыхар вёскі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Савецкі пагранічнік». З 1952 г. ў калгасе імя Кірава. З 16.7.1954 г. ў Бушміцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 230 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, з 26.7.1968 г. ў Каленкавіцкім с/с. У 1970 г. 135 жыхароў, у калгасе «Зара».

У складзе СВК «Амелянец».

**БРАНЕВІЧЫ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Камянца, 42 км ад Брэста, 34 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. ў Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) вёска маёнтка Кругель памешчыка Падгурскага, у вёсцы 103 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Кругельскай сельскай грамады, 15 двароў, 112 жыхароў. У 1905 г. 107 жыхароў. У 1921—39 гг. у Польшчы, у складзе Турнаўскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. вёска ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 22 двары, 93 жыхары. З 1954 г. ў складзе Ратайчыцкага с/с. У 1960 г. — 62 жыхары. У 1970 г. — 41 жыхар, у калгасе «Радзіма». З 7.9.2006 г. ў Відамлянскім с/с.



У складзе ААТ «Відамлянскае».

**БУШМІЧЫ** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Камянца, 43 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Каленкавічы—Апака. 60 гаспадарак, 137 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Капылы, уласнасць памешчыцы К.Пуслоўскай. Паводле інвентару маёнтка за 1845 г. ў в. Бушмічы, 51 двор, 338 жыхароў, 399 дзес. ворыўнай зямлі, 20 дзес. лугу. У 1897 г. вёска ў Вярховіцкай вол. тых жа павета і губерні, 85 двароў, 547 жыхароў, побач знаходзілася прыватная сядзіба Бушмічы дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня. У 1905 г. — 558 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 58 двароў, 237 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 638 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр Бушміцкага с/с у Кляшчэльскім, з 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 9 жыхароў вёскі. У канцы 1940-х г. арганізаваны калгас імя Молатава. У 1948 г. ў 7-гадовай школе 116 вучняў. З 1958 г. ў калгасе «Расія». У 1960 г. ў вёсцы 537 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 26.7.1968 г. ў Вярховіцкім с/с. У 1970 г. 394 жыхары.

У складзе СВК «Агра-Ніва». Базавая школа, клуб, б-ка. Радзіма тэатральнага дзеяча Ул.Стэльмаха.

**БУЧАМЛЯ 1** — вёска ў Войскім с/с, за 14 км на З ад Камянца, 50 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Шастакова—Высокае. 26 гаспадарак, 68 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. фальварак і вёска ў межах Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 8-й рэвізіі (1833) Бучамля — фальварак маёнтка Трасцяніца, уладанне графоў Патоцкіх (пазней як спадчына па жаночай лініі перайшоў Мастоўскім, потым Мухана-вым), побач з фальваркам аднайменная вёска, 18 двароў, 119 рэвізскіх душ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) — вёска маёнтка Трасцяніца ва ўладанні баронаў Марэнгеймаў, 137 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. — в. Бучамля-Сухаволя, 27 двароў, 192 жыхары, побач з вёскай карчма і сядзіба пры ёй. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, в. Бучамля 1 у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., у 1923 г. 13 двароў, 71 жыхар. У 1940 г. в. Бучамля-Сухаволле 1, 26 двароў, 182 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну загінулі на франтах 9 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 164 жыхары. У 1970 г. 308 жыхароў.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**БУЧАМЛЯ 2** — вёска ў Войскім с/с, за 16 км на З ад Камянца, 49 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Шастакова—Высокае. 12 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

Вядома з пач. 20 ст. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, в. Бучамля 2 у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., у 1923 г. 2 двары, 13 жыхароў. У 1940 г. в. Бучамля-Сухаволле 2, 15 двароў, 83 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну загінулі на франтах 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Бучамля 2 — 79 жыхароў. У 1970 г. — 70 жыхароў.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**БУЧАМЛЯ 3** — вёска ў Войскім с/с, за 17 км на З ад Камянца, 48 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Шастакова—Высокае. 68 гаспадарак, 114 жыхароў (2005).

Маёнтак Бучамля ўпершыню ўзгадваецца ў апісаннях пушчаў ВКЛ. У 1567 г.

з маёнтка Бучамля Р.Каліховіч і княгіня Масальская выстаўлялі ў войска коней. У сярэдзіне 19 ст. ў межах Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 8-й рэвізіі (1833) Бучамля — маёнтак памешчыка Івана Быльчынскага (яму ж маёнтак належаў і ў 1845), у яго склад уваходзіў аднайменны фальварак, хутар Салаўца, в. Лускава; налічвалася 13 цяглавых гаспадарак, 80 рэвізскіх душ, 215 дзес. памешчыцкай і 238 дзес. сялянскай зямлі; дзейнічалі карчма, ветраны млын, вінакурня. Побач знаходзіліся фальварак і вёска Бучамля маёнтка Трасцяніца ва ўладанні Патоцкіх. Паводле 10-й рэвізіі (1857) вёска, казённае ўладанне, 197 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. — вёска Бучамля-Казённая, 39 двароў, 287 жыхароў, хлебазапасны магазін, млын. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Бучамля 3 у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., у 1923 г. — 8 двароў, 94 жыхары. У 1940 г. — вёска Бучамля, 52 двары, 275 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну загінулі на франтах 7 вяскоўцаў. З 1945 г дзейнічаў дзіцячы дом, працавала пач. школа, у 1948 г. ў ёй 106 вучняў. У 1950 г. вяскоўцы арганізавалі калгас імя Суворава. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Бучамля 3 — 364 жыхары, у дзіцячым доме 46 выхаванцаў. У 1970 г. — 286 жыхароў.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**БЯЛЁВА** — вёска ў Дзмітраўскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Камянца, 43 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Янушы. 86 гаспадарак, 183 жыхары (2005).

Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 263 рэвізскія душы, дзярж. ўласнасць. У канцы 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У складзе Бялеўскай сельскай грамады, каля 500 дзес. прыдатнай зямлі, 97 дзес. лугу (1890). Паводле перапісу 1897 г. 69 двароў, 385 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 416 жыхароў. Дзейнічала нар. вучылішча (86 вучняў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. ў вёсцы 24 жылыя двары і 26 нежылых, 215 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 89 двароў, 415 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 13 вяскоўцаў. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічалі калгас «Палітаддзелец» (аб'ядноўваў 84 гаспадаркі), 7-гадовая школа. З 16.7. 1954 г. ў складзе Дзмітравіцкага с/с. У 1960 г. ў вёсцы 354 жыхары, уваходзіла ў саўгас імя Дзмітрава.

У складзе СВК «Хадасы». Пач. школа.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Камянца, 37 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі на аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 38 гаспадарак, 95 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе фальварка Каралін маёнтка Капылы (уладанне памешчыцы Караліны Пуслоўскай) у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара маёнтка за 1845 г. ў вёсцы 49 двароў, 324 рэвізскія душы, 343 дзес. ворыўнай зямлі. У канцы 19 ст. ў Вярховіцкай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў Бярозаўскай сельскай грамадзе, 80 двароў, 519 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня; непадалёк знаходзілася сядзіба маёнтка Серыкі памешчыцы Пуслоўскай, карчма. На 1905 г. 537 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., у 1923 г. 50 двароў, 228 жыхароў. У 1940 г. — 136 двароў, 653 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Вярховіцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 20 воінаў-землякоў. У вёсцы дзейнічалі пач. школа (у 1948 — 38 вучняў), калгас «Рассвет» (у 1950 — 99 членаў). У 1960 г. ў Бярозаўцы 290 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў



Камянецкім р-не. У 1970 г. 223 жыхары, уваходзіла ў калгас «Расія».

У складзе ААТ «Каралін». Магазін.

**ВАЎКОВІЧЫ** — вёска ў Расненскім с/с, за 37 км на З ад Камянца, 50 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Брэст—Высокае—Пясчатка (мяжа з Польшчай). 69 гаспадарак, 149 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 16 ст. як сяло ў складзе Берасцейскага пав. і ваяв. ВКЛ, шляхецкае ўладанне. У 1567 г. ўласнасць Фёдара Ваўкавіцкага, які выстаўляў 1 каня ў войска; у 1589 г. ўзгадваецца ў судовых дакументах як уласнасць яго сына Данілы. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 8-й рэвізіі (1833) і інвентароў 1845 г. ў ваколіцах вёскі значыліся аднайменныя маёнткі памешчыкаў: Тэрэзіі Завістоўскай (116 дзес. зямлі, 4 дваровыя душы, у вёсцы да маёнтка належалі 5 двароў, 50 рэвізскіх душ), Іосіфа і Самуіла Эйнараў (82 дзес. зямлі ў маёнтку, у вёсцы 5 цяглых двароў, 47 рэвізскіх душ, 100 дзес. сялянскай зямлі), Тэафіла Багуслаўскага (289 дзес. зямлі ў маёнтку, у вёсцы 13 двароў, 99 рэвізскіх душ, 171 дзес. зямлі), Сухадольскіх (набыты ў 1842 у Анэлі Дамброўскай, 52 рэвізскія душы, 145 дзес. сялянскай зямлі, карчма пры паштовай дарозе), Фехнераў (78 дзес. зямлі ў маёнтку, у вёсцы 6 двароў, 46 рэвізскіх душ, 84 дзес. зямлі), таксама маёнткі Андрэя Тэўнера (170 дзес. зямлі, у в. Лясок 8 двароў, 64 рэвізскія душы, 2 карчмы — у вёсцы і пры паштовай дарозе) і Франца Корна (200 дзес. зямлі, у в. Лясок 10 двароў, 77 рэвізскіх душ). Паводле 10-й рэвізіі (1857) у ваколіцах вёскі аднайменныя маёнткі Багуслаўскіх, Оберна, Завістоўскіх, Такаржэўскага, Фехнераў, Эйнараў (да якіх ў вёсцы належалі 269 рэвізскіх душ), у 1890 г. маёнткі Завістоўскага, Невяроўскага, Грышкевіча, Памяранскага, Такаржэўскіх. Паводле перапісу 1897 г. вёска і выселак Ваўковічы, у вёсцы 60 двароў, 415 жыхароў, на выселку 1 двор, 2 жыхары. У 1905 г. ў вёсцы 465 жыхароў, на 2 аднайменных хутарах 12 і 7 жыхароў, у пасёлку 4 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 18 двароў, 107 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 87 двароў, 390 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр Ваўковіцкага с/с Кляшчэльскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 5 воінаў-землякоў. У час акупацыі ням.-фаш. захопнікі расстралялі ў Ваўковічах 4 мірных жыхароў. У цэнтры вёскі помнік на брацкай магіле сав. воінаў, якія загінулі ў баях 24—27.7.1944 г. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не. У сак. 1948 г. 60 сял. гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Савецкі пагранічнік». У 1948 г. ў сярэдняй школе 341 вучань. З 16.7.1954 г. ў Раснянскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 358 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. 294 жыхары, уваходзіла ў калгас імя Леніна.

У складзе СВК «Полаўцы». Магазін.

**ВІДАМЛЯ** — цэнтр Відамлянскага с/с, за 9 км на Пд ад Камянца, 30 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на скрыжаванні аўтадарог Брэст—Камянец—Камянюкі і Высокае—Пружаны—Слонім. 328 гаспадарак, 861 жыхар (2005).

У 17 ст. вёска ў Берасцейскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Упамінаецца ў дакументах пад 1646 г. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав Гродзенскай губ. З 1850-х г. у складзе Турнянскай вол. таго ж павета. Згодна 10-й рэвізіі (1857) вёска, 283 рэвізскія душы, у складзе маёнтка Чэнаўчыцы, уласнасць Грабоўскіх. У 1885 г. ў вёсцы 34 двары, 357 жыхароў, школа, карчма; побач аднайменны маёнтак памешчыка Грабоўскага, 829 дзес. зямлі. У 1905 г. — 507 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Турнянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 40 двароў, 198 жыха-

роў. У 1940 г. — 70 двароў, 352 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Відамлянскага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ўваходзілі 14 вёсак і 6 хутароў, дзейнічалі калгас імя Молатава (32 гаспадаркі), 7 пач. школ, 6 ветраных млыноў, сельпо, цагельны з-д. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. спалілі вёску (87 двароў). Вызвалена воінамі 30-й кавалерыйскай дывізіі. Пры вызваленні вёскі вызначыўся Ф.П.Хахракоў, якому прысвоена званне Героя Сав. Саюза. За гады вайны на франтах загінулі 6 воінаў-землякоў. У 1950 г. вёска — цэнтр калгаса «Кастрычнік», арганізаванага на базе дробных гаспадарак. У 1948 г. ў 7-гадовай школе 66 вучняў. У 1960 г. ў вёсцы 317 жыхароў, у 1970 г. — 409 жыхароў.

Цэнтр ААТ «Відамлянскае». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, дзіцячы сад, 4 магазіны, кафе, філіял «Беларусбанка».

**ВІЛЫ** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 25 км на Пн ад Камянца, 65 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Камянец—Камянюкі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. ўрочышча Вілы ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут 44 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 12.10.1940 г. вёска ў Бялоўскім с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. З 16.8.1945 г. вёска ў Камянецкім р-не. З 16.7.1954 г. ў Ражкоўскім, з 17.4.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 15 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. 12 жыхароў. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**ВОЙСКАЯ** — вёска, цэнтр Войскага с/с, за 13 км на З ад Камянца, 52 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 301 гаспадарка, 941 жыхар (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з канца 16 ст. як двор у Берасцейскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у Рас. імперыі. У 1751—75 гг. пабудавана драўляная Свята-Троіцкая царква. У 1-й пал. 19 ст. маёнтак і аднайменная вёска, уласнасць памешчыкаў Бухавіцкіх, у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы 2 двары, 18 наяўных сялянскіх душ, 22 дзес. ворыўнай зямлі, 6 дзес. сенакосу. Памешчыку належала 60 дзес. зямлі. Паводле інвентара 1845 г., маёнтак знаходзіўся ў закладзе ў двараніна Міхаіла Радзевіча, 121 дзес. зямлі. У склад маёнтка ўваходзілі вёскі Войская і Пераходы. З 1850-х г. сяло, цэнтр валасці тых жа павета і губерні. У 1857 г. налічвалася 48 рэвізскіх душ, дзярж. ўласнасць. У 1885 г. ў сяле 13 двароў, 152 жыхары, дзейнічалі валаснoе праўленне, школа, карчма. За 4 вярсты ў Лісоўчыцах працаваў цагельны завод. У 1890 г. маёнтак належаў Войцаху Багуслаўскаму; у сяле 126 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі, 21 дзес. лугу, мясцоваму царк. прыходу належала 93 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 18 двароў, 143 жыхары, царква, нар. вучылішча, валаснoе праўленне, хлебазапасны магазін, 2 вет-



*Царква (1755) у в. Войская.*



раныя млыны, кузня, карчма. У 1905 г. 197 жыхароў; у нар. вучылішчы 62 вучні. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1923 г. 41 двор, 258 жыхароў, цэнтр гміны ў Брэсцкім пав. Палескага ваяв., з 23.3.1928 г. ў Ратайчыцкай гміне. У 1926—27 гг. дзейнічаў гурток Беларускай сял.-рабочай грамады. У 1940 г. 52 двары, 348 жыхароў, пач. школа, хата-чытальня. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета ў Камянецкім р-не Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ўваходзілі 13 паселішчаў, 410 двароў, 1887 жыхароў. На яго тэрыторыі (57 км$^2$) працавалі 6 пач. школ, 6 ветраных млыноў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 8 вяскоўцаў. У 1948 г. ў 7-гадовай школе 74 вучні. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Чапаева. З 16.7.1954 г. ў складзе Агародніцкага с/с, з 14.4.1964 г. зноў цэнтр сельсавета. У 1960 г. ў вёсцы 238 жыхароў, у 1970 г. 247 жыхароў, цэнтр калгаса «Беларусь».

Цэнтр калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, дзіцячы сад, 4 магазіны, малітоўны дом евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Царква Раства Багародзіцы. Курганны могільнік крывічоў (датуецца 11—12 ст.).

**ВОЛЯ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 15 км на У ад Камянца, 54 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 24 гаспадаркі, 26 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 16 ст. У 1570 г. ў Берасцейскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Паселішча ўпамінаецца ў судовых дакументах ад 16.5.1625 г. па справе аб кражы мёду і пчол з пасек Белавежскай пушчы. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. ў складзе маёнтка Чамяры ў Дварцоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., уласнасць графа Грабоўскага. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 274 рэвізскія душы. У вер. 1878 г. сяляне вёсак Воля і Ганцы не дапускалі размежавання зямель, аказалі супраціўленне ўладам. У падаўленні сял. хваляванняў прымалі ўдзел 2 роты салдат Смаленскага пях. палка. Паводле перапісу 1897 г. вёска — цэнтр сельскай грамады, 70 двароў, 497 жыхароў, побач — маёнтак Пятра Тагодзіна, дзейнічалі хлебазапасны магазін, карчма, кузня. На 1905 г. — 611 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Дварцоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 37 двароў, 171 жыхар. У 1940 г. 70 двароў, 377 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Дварцоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну за сувязь з партызанамі расстраляны 29 жыхароў вёскі. У вёсцы дзейнічала падп. група (кіраўнік В.М.Хоміч). На франтах загінулі і прапалі без вестак 16 вяскоўцаў. Дзейнічала пач. школа (у 1948 — 65 вучняў). У 1949 г. арганізаваны калгас «Зара камунізму». Пазней вёска ўвайшла ў калгас «Светлы шлях». З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. У 1960 г. 321 жыхар, у 1970 г. 194 жыхары.

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**ВОЎКАСТАВЕЦ** — вёска ў Каленкавіцкім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Камянца, 70 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарогах Амелянец—Вярховічы—Высокае і Амелянец—Каленкавічы—Камянец. 22 гаспадаркі, 44 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыцы Ганны Чачкоўскай. Паводле інвентара 1845 г. ў маёнтку 694 дзес. зямлі, у т.л. 14 дзес. сядзібнай, 237 дзес. ворыўнай зямлі, 64 дзес. сенакосу. Сялянам належала 135 дзес. ворыва. У вёсцы на гэты час 9 двароў, 58 рэвізскіх душ. Кожны двор адбываў баршчыну па 3 дні на тыдзень. Дзейнічалі карчма, хлебазапасны магазін. У канцы 19 ст. вёска і фальварак у Вярховіцкай вол. тых жа павета і губерні. У 1897 г. ў вёсцы 24 двары, 141 жыхар, у фальварку — 1 двор, 4 жыхары; у былой карчме 1 двор, 5 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы — 143 жыхары, у маёнтку —

10 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 23 двары, 96 жыхароў. У вёсцы дзейнічаў гурток Беларускай сял.-рабочай грамады (БСРГ). У 1940 г. — 260 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Амелянецкім с/с Кляшчэльскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 жыхары вёскі. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не. У пасляваенныя гады працавала пач. школа (у 1948 — 47 вучняў). З 16.7.1954 г. ў Бушміцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 182 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, з 26.7.1968 г. ў Каленкавіцкім с/с. У 1970 г. 113 жыхароў, у калгасе «Зара».

*Гаспадарчая пабудова (19 ст.) з бутавага каменю ў в. Воўчын.*

*Дом са старой забудовы в. Воўчын.*





У складзе СВК «Амелянец».

**ВОЎЧЫН** — вёска, цэнтр Воўчынскага с/с, на р. Пульва, за 52 км на ПдЗ ад Камянца, 45 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Кастары. 194 гаспадаркі, 514 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 16 ст. як двор у Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Солтанаў. У 1586 г. стараста астрынскі Яраслаў Солтан заснаваў у Воўчыне царкву святых Мікалая і Георгія. У 17-м ст. належаў Гансеўскім, у 1638 г. пры Александры Гансеўскім пабудаваны касцёл Прасвятой Багародзіцы. З 1708 г. ўласнасць гетмана польнага літоўскага К.Сапегі, які ў 1719 г. перадаў Воўчын канюшаму вялікаму літоўскаму Я.Флемінгу. У 1721 г. маёнтак Воўчын набыла князёўна Канстанцыя Чартарыйская, жонка ген.-лейтэнанта польскага войска Станіслава Панятоўскага (1676—1762). У 1732 г. ў Воўчыне нарадзіўся будучы кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Тут быў пабудаваны палац і касцёл Св. Троіцы (1733, мураваны, замест драўлянага). У 1738 г. маёнтак набыў Міхаіл Чартарыйскі. У 1744 г. тут пабудаваны аднапавярховы палац, які меў 36 пакояў, пры ім цагляны флігель, тэатр, аранжарэя, цяпліцы. Княжацкія пакоі былі ўпрыгожаны габеленамі, падлога выкладзена эбенавым, махагонавым і ружовым дрэвам, мэбля дастаўлена з Францыі. У 1791 г. ў мястэчку 13 хрысціянскіх, 37 яўр. і казённых дамоў. У цэнтры мураваная ратуша, гандлёвыя рады, яўр. школа. З 1792 г. да 1830 г. працавала суконная ф-ка, якая належала Мюльбару. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, з 1801 г. ў Гродзенскай губ. Чартарыйскія валодалі Воўчынам каля 100 гадоў. У 1828 г. Канстанцін Чартарыйскі, каб аплаціць даўгі, прадаў Воўчын Пуслоўскім. Пры іх быў адноўлены палац, адрамантаваны касцёл. За ўдзел у паўстанні 1831 г. маёнтак быў канфіскаваны ў памешчыка Фелікса Пуслоўскага і перададзены Гродзенскай



палаце дзярж. маёмасці. Паводле інвентара 1845 г. — уласнасць памешчыцы Караліны Пуслоўскай (пазней належаў Марчэўскім). У склад маёнтка ўваходзілі фальварак, вёска і мястэчка Воўчын, в. Катэра; усяго 1284 дзес. зямлі, 545 рэвізскіх душ, у т.л. ў в. Воўчын 26 двароў, 196 наяўных сял. душ. У мястэчку дзейнічалі сельскі магазін, вінакурня, саладоўня, 2 вадзяныя млыны, 2 карчмы, заезны двор, ваенны шпіталь, гандлёвыя лаўкі. У 1862 г. ў мястэчку адчынілася нар. вучылішча. У 1868 г. касцёл быў пераўтвораны ў царкву. З 1860-х г. цэнтр Воўчынскай вол. ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. ў мястэчку 102 двары, 804 жыхары (у т.л. 440 мяшчан), дзейнічалі валасное праўленне (у воласць уваходзілі 39 паселішчаў, 860 двароў), 2 царквы, яўр. малітоўны дом, школа, вадзяны млын, 4 піцейныя дамы, праводзіліся штогод 2 кірмашы; у вёсцы 26 двароў, 229 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 73 двары, 593 жыхары, 2 царквы, яўр. малітоўны дом, сінагога, нар. вучылішча, валасное праўленне, 4 кузні, 2 шавецкія, 2 кравецкія, 3 фарбавальныя, пераплётная, сталярная майстэрні, лазня, 2 пякарні, вінакурня, 15 дробных крам, тракцір, штогод праводзіліся 3 кірмашы; у вёсцы 36 двароў, 293 жыхары, вадзяны млын; у маёнтку — 6 двароў, 44 жыхары, кузня, хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 413 жыхароў, у мястэчку — 501 жыхар, у маёнтку 10 жыхароў, у нар. вучылішчы 98 вучняў. У 1919 г. былы касцёл быў вернуты каталікам. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка Воўчын — цэнтр Воўчынскай гміны ў Брэсцкім пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў мястэчку 32 двары, 190 жыхароў, у вёсках Новы Воўчын — 13 двароў, 92 жыхары, Стары Воўчын — 21 двор, 130 жыхароў. У 1931 г. за ўдзел у выступленні ў абарону сваіх сервітутных правоў былі арыштаваны 90 вяскоўцаў. У 1938—87 гг. у Троіцкім касцёле захоўваліся астанкі Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1940 г. ў Воўчыне 196 двароў, 1180 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Воўчынскага с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. Дзейнічалі 7-гадовая школа, паравы млын, сельпо, паштовае аддз., царква, касцёл, сінагога. У Вял. Айч. вайну з 22.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1942 г. гітлераўцы загубілі 395 мірных жыхароў вёскі, спалілі 6 двароў. Вызвалена 27.7.1944 г. воінамі 54-й гв. стралк. дывізіі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 23 вяскоўцы. Пасля вайны на р. Пульва дзейнічала гідраэлектрастанцыя. У сярэдняй школе ў 1948 г. — 320 вучняў. У 1949 г. ў в. Новы Воўчын арганізаваны калгас імя Жданава, у 1950 г. ў в. Стары Воўчын — калгас



*Троіцкі касцёл (1733) у в. Воўчын.*



*Мікалаеўская царква (19 ст.) у в. Воўчын.*

«Перадавік». Паводле перапісу 1959 г. ў в. Стары Воўчын — 380 жыхароў, у в. Новы Воўчын — 127 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, цэнтр калгаса імя Жданава. У 1970 г. ў вёсцы 162 двары, 460 жыхароў; з 16.5.1989 г. з'яўлялася цэнтрам калгаса «Прагрэс». У 1992 г. — 199 двароў, 502 жыхары.

У складзе ААТ «Усход—Камянец». Сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, 4 магазіны. Брацкая магіла 23 сав. воінаў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну ў баях у ваколіцах Воўчына 22.6.1941 г. і 27—31.7.1944 г.) і помнік на магіле ахвяр фашызму. Помнікі архітэктуры: Троіцкі касцёл пач. 18 ст., палац 19 ст. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы П.А.Гупянца.


*П.А.Гупянец.*

**ВУГЛЯНЫ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 7 км на ПнУ ад Камянца, 45 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 30 гаспадарак, 50 жыхароў (2005).

У пач. 19 ст. вёска, з 1801 г. ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., адносілася да маёнтка ген. Гальберга. У 1818—20 гг. тут адбываліся антыпрыгонніцкія сял. хваляванні. У 1846 г. ў складзе маёнтка Камянец-Літоўскі, уласнасць ротмістра Антона Насаржэўскага, 50 двароў, 365 жыхароў, 15 дзес. сядзібнай, 83 дзес. ворыўнай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў складзе Камянец-Літоўскай вол., Вуглянскай сельскай грамады, 56 двароў, 352 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. На 1905 г. — 552 жыхары, дзейнічала нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. — 53 двары, 261 жыхар. З 12.10.1940 г. вёска ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941—42 гг. ням.-фаш. акупанты расстралялі 3 жыхароў вёскі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 7 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Кірава. Дзейнічала пач. школа (у 1948 — 48 вучняў). З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 247 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 211 жыхароў, у калгасе імя Кірава. З 19.5.1986 г. ў Рэчыцкім с/с.

У складзе СВК «Кансуэла».

**ВУЖЫКІ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 48 км на ПдЗ ад Камянца, 42 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Высокае. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Грамяча. Паводле інвентара маёнтка 1847 г. ў вёсцы мелася 37 двароў, 253 наяўныя сял. душы. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 274 рэвізскія душы, адносілася да маёнтка Грамяча, уласнасць Пузіны. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 49 двароў, 396 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. На 1905 г. — 427 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 39 дамоў, 196 жыхароў. У 1940 г. — 62 двары, 365 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Воўчынскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. ням.-фаш. акупанты расстралялі сям'ю Марчукоў (5 чал.). На франтах загінулі і прапалі без вестак 20 жыхароў вёскі. У 1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «1 Мая». З 1951 г. ў калгасе імя Жданава (16.5.1989 перайменаваны ў калгас «Прагрэс»). У 1960 г. 208 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. 140 жыхароў.

У складзе ААТ «Усход—Камянец».

**ВУЛЬКА** — вёска ў Агароднiцкім с/с, за 48 км ад Камянца, 53 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Такары. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска Вулька Пужыцкая маёнтка Полаўцы, уласнасць памешчыка Старжынскага, 164 рэвізскія



душы паводле 10-й рэвізіі (1857). З 1860-х г. ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. ў складзе Вулькаўскай сельскай грамады, больш як 716 дзес. зямельных угоддзяў, у т.л. каля 344 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 47 двароў, 307 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 283 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 28 двароў, 123 жыхары. У 1940 г. — 47 двароў, 346 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Такарскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл., з 16.8.1945 г. ў Агароднікскім с/с. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 жыхар вёскі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Чырвоная паляна». З 25.12.1951 г. ў калгасе «Савецкі пагранічнік». У 1960 г. ў вёсцы 182 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. 164 жыхары.

У складзе ААТ «Макарава-Агра».

**ВЫГНАНКА** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Камянца, 32 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Ратайчыцы. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска маёнтка Кругель, уласнасць памешчыка Падгурскага. Паводле 10-й рэвізіі (1857) 110 рэвізскіх душ. З 1860-х г. у Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 22 двары, 140 жыхароў, у складзе Кругельскай сельскай грамады. У 1905 г. — 136 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Гродзенскай губ.; у 1923 г. — 7 гаспадарак, 51 жыхар. У 1940 г. 25 двароў, 126 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 7 жыхароў вёскі. У 1960 г. 76 жыхароў, у 1970 г. 57 жыхароў, у калгасе «Радзіма».

У складзе ААТ «Агра-Турна».

**ВЫСОКАЕ** — горад, на р. Пульва, за 40 км на З ад Камянца, 39 км ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, аўтадарогамі звязаны з Брэстам, Камянцом, Пружанамі. 5207 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 14 ст. пад назвай Высокі Горад. У 1494 г. горад атрымаў магдэбургскае права і герб, які ўяўляў сабой шчыт з выемкамі па баках, з выявай сярэбранай



*Рэшткі брамы і земляных валоў Высокаўскага замка.*

двухпавярховай вежы-брамы на блакітным полі. Гараджане мелі ўласны адм. орган — магістрат, дазвалялася займацца рамёствамі, гандлем, трымаць карчму. З 1511 г. ва ўладаннях Яна Багдана Храптовіча па мянушцы Літавар. У далейшым горад не аднойчы мяняў гаспадароў, належаў Іодкам, вял. князю, потым Хлявіцкім, Трызнам, Войнам. У 1603 г. закладзены касцёл Св. Тройцы, які меў 44 аршыны даўжыні і 12 — шырыні, найбольшы звон насіў імя святых Пятра і Паўла. У 1647 г. Андрэй Война прадаў горад Паўлу Сапегу, ваяводу віцебскаму. Сапегі валодалі горадам больш за паўтара стагоддзя. Імі на правым беразе Пульвы быў узведзены замак, умацаваны землянымі валамі і сістэмай вадаёмаў, закладзены парк. Замак моцна пацярпеў у час войнаў 1654—67 і 1700—21 гг., але абодва разы быў адноўлены. Пасля буйнога пажару 1784 г., які знішчыў гал. будынак, замак больш не адбудоўваўся. Да нашага часу захаваліся рэшткі валоў, сцен і брама замка. У 1671 г. горад атрымаў грамату на «вечны» кірмаш, з таго часу штогод у ліп.—жн. праводзіліся кірмашы, якія цягнуліся 4 тыдні. Вырабы мясц. умельцаў адзначаліся ўзнагародамі на замежных выставах. У 1735 г. касцёл абнавілі; на той час налічвалася 2573 прыхаджаніны. У 1773—85 гг. быў узведзены кляштар баніфратаў (на сродкі канцлера Аляксандра Сапегі), пры якім адчынены шпіталь на 20 ложкаў. Дзейнічаў цагельны з-д, які ў 1788 г. выпрацаваў 22 тыс. штук цэглы і 8 тыс. дахоўкі (у адзін абпал). У 1794—97 гг. існаваў арганізаваны Францыскам Сапегам водны гандлёвы шлях з Высокага ў Гданьск. З 1795 г. горад у складзе Прусіі, з 1807 г. ў Рас. імперыі, мястэчка Высока-Літоўск Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., ва ўладанні графоў Патоцкіх. У 1816 г. побач з руінамі замка пабудаваны палац, парк пашыраны за межы былога замкавага вала (яго плошча вырасла з 30 да больш чым 50 га; у 1895 г. парк рэканструяваны). У студз. 1821 г. Гродзенская ўрачэбная ўправа дала дазвол на адкрыццё аптэкі і шпіталя, пасля таго як у 1820 г. былі зачынены касцёл і кляштар і манахі-баніфраты пакінулі Высока-Літоўск. У 1826—28 гг. працавала суконная мануфактура (22 машыны, 12 ткацкіх станкоў, 118 рабочых), меўся вадзяны млын. У 1834, 1851, 1855 гг. мястэчка перажыло моцныя пажары. З 1861 г. цэнтр Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. У час паўстання 1863—64 гг. атрад Рамана Рагінскага 24.1.1863 г. заняў мястэчка. У 1869 г. пабудавана мураваная Крыжаўзвіжанская царква за кошт сродкаў, канфіскаваных у паўстанцаў, на месцы драўлянай царквы (1840), у 1872 г. М.Патоцкай адноўлены касцёл (у 1950-я будынак перададзены пад гра-



*Будынак былога манастыра баніфратаў (18 ст.) у г. Высокае.*



*Былы абарончы вал Высокаўскага замка.*



мадскія патрэбы, пазней разабраны). У 1886 г. ў мястэчку 2729 мяшчан і 284 жыхары іншых саслоўяў, валаснoе праўленне, царква, касцёл, капліца, сінагога, 4 малітоўныя дамы, 2 школы, аптэка, бальніца, паштовая станцыя, з-д па вырабе фарбы, 2 гарбарныя з-ды, 3 вадзяныя млыны, 102 дробныя крамы, 4 карчмы, заезны двор, за год праходзілі 15 базараў і 2 кірмашы. У канцы 19 ст. царкве належалі 46 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі, у прыходзе налічвалася 369 двароў, 2954 прыхаджаніны. Паводле перапісу 1897 г. ў Высока-Літоўску 256 двароў, 3093 жыхары, валасное праўленне, царква, касцёл, капліца, сінагога, 4 малітоўныя дамы, мужчынскае і жаночае нар. вучылішчы, яўр. школа, паштовае аддз., лазня, канатны і свечачны з-ды, 4 ветраныя млыны, 8 кузняў, 14 абутковых, 13 кравецкіх, 8 сталярных, 4 шорныя майстэрні, 2 маслабойні, 108 дробных крам у гандлёвых радах і 13 пры дамах, 2 заезныя двары, 14 піцейных устаноў. Кожны чацвер праводзіліся базары, 9 разоў на год кірмашы. У пач. 20 ст. маёнтак Высока-Літоўск, уласнасць М.Патоцкай, меў 3150 дзес. зямлі, ахопліваючы мястэчка і 6 навакольных вёсак. У маёнтку вялася селекцыйная праца па вывядзенні лепшых гатункаў насення збожжавых і траў. У 1905 г. ў мужчынскім нар. вучылішчы 121 вучань, у жаночым — 34 навучэнкі. 9.1.1906 г. ў Высока-Літоўску адбылася палітычная забастоўка. У 1914 г. ў мястэчку 3,8 тыс. жыхароў, 12 дробных прадпрыемстваў. З 1915 г. акупіравана герм. войскамі, іх у пач. 1919 г. змянілі польскія войскі. 1.8.1920 г. мястэчка вызвалена Чырвонай Арміяй, устаноўлена сав. ўлада, але ў канцы жн. яно зноў захоплена польскімі войскамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавору ў 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр Высока-Літоўскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв., у 1923 г. — 236 двароў, 2,1 тыс. жыхароў. Дзейнічаў падп. райком КПЗБ.

У 1939 г. 6,1 тыс. жыхароў. З 4.12. 1939 г. ў Брэсцкай вобл., з 15.1.1940 г. — горад Высокае, цэнтр Высокаўскага р-на. У 1940 г. ў горадзе працавалі гарбарны (15 рабочых) і цагельны з-ды, маслазавод (10 рабочых), 6 млыноў, 7 пякарняў, 3 няпоўныя сярэднія школы, пошта, тэлеграф. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў горадзе 1297 чал. У час акупацыі дзейнічаў падп. райком ЛКСМБ. Горад вызвалены 27.7.1944 г. часцямі 28-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе Люблін-Брэсцкай аперацыі. У 1945 г. ў горадзе дзейнічалі з-ды па вырабе алею і мыла, пякарня, ваўначоска і інш., быў адчынены дзіцячы дом, у 1956 г. пераўтвораны ў школу-інтэрнат. У 1958 г. створаны Высокаўскі Міжкалгасбуд. Паводле перапісу 1959 г.



*Высокаўскі палац.*



*Варварынская капліца (1772) у г. Высокае.*

ў Высокім 2,6 тыс. жыхароў. З 1962 г. горад у Камянецкім р-не.

Працуюць з-д жалезабетонных вырабаў, сырзавод, Камянецкае раённае вытв. аб'яднанне па тэхн. забеспячэнні сельскай гаспадаркі, лясніцтва, сярэдняя, муз. і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, санаторная школа-інтэрнат, СПТВ механізацыі сельскай гаспадаркі, Дом культуры, Дом дзіцячай і юнацкай творчасці, 2 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, 2 б-кі, бальніца. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан. Помнікі архітэктуры: Варварынская капліца (1772), Крыжаўзвіжанская царква (1869), сядзіба і парк 1-й пал. 19 ст.



*Крыжаўзвіжанская царква (1869) у г. Высокае.*

У 1940—62 гг. горад з'яўляўся цэнтрам Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. Раён створаны 15.1.1940 г., 12.10.1940 г. падзелены на 12 сельсаветаў: Агародніцкі, Баршчэўскі, Вярховіцкі, Воўчынскі, Гольскі, Лумненскі, Лютаўскі, Навасёлкаўскі, Расненскі, Стаўскі, Такарскі, Тымянкоўскі. У склад раёна ўваходзілі 116 паселішчаў, налічвалася каля 8 тыс. сял. гаспадарак (у т.л. 2,4 тыс. хутарскіх), 17 былых панскіх маёнткаў, 47 школ. У час удакладнення сав.-польскай мяжы 16.8. 1945 г. Польшчы перададзены Гольскі, Лумненскі, Такарскі (часткова), Тымянкоўскі сельсаветы, адначасова да Высокаўскага р-на былі далучаны Амелянецкі, Бушміцкі, Ваўковіцкі сельсаветы б. Кляшчэльскага р-на (скасаванага ў сувязі з перадачай большай яго часткі Польшчы). 16.7.1954 г. скасаваны Амелянецкі, Ваўковіцкі, Лютаўскі, Навасёлкаўскі, Стаўскі сельсаветы, паселішчы перададзены ў суседнія сельсаветы. 17.4.1962 г. раён скасаваны, уся яго тэр. разам з г. Высокае ўвайшла ў Камянецкі р-н.



*Фрагмент старой забудовы ў г. Высокае.*

**ВЯЛІКА ВЯЛІКАЯ** —вёска ў Відамлянскім с/с, за 10 км на Пд ад Камянца, 31 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарогах Камянец—Брэст і Высокае—Пружаны. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

Упершыню вёска ўпамінаецца ў 1646 г. ў судовых справах, уваходзіла ў Брэсцкі пав. і ваяв. ВКЛ. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 14 двароў, 97 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. — 20 двароў, 165 жыхароў. З 12.10.1940 г. — вёска ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 вясковец. У 1949 г. арганізаваны калгас «Светлы шлях». З кастр. 1949 г. вёска ў складзе калгаса «Кастрычнік». У 1960 г. 69 жыхароў, у 1970 г. 61 жыхар.

У складзе ААТ «Відамлянскае».



**ВЯЛІКА МАЛАЯ** – вёска ў Відамлянскім с/с, за 10 км на Пд ад Камянца, 31 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст–Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарогах Камянец–Брэст і Высокае–Пружаны. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 30 двароў, 100 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. – 17 двароў, 80 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 7 жыхароў вёскі. З кастр. 1949 г. ў складзе калгаса «Кастрычнік». У 1960 г. ў вёсцы – 117 жыхароў, у 1970 г. – 89 жыхароў.

У складзе ААТ «Відамлянскае».

**ВЯЛІКІ ЛЕС** – вёска ў Рэчыцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Камянца, 57 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст–Баранавічы, 12 км ад аўтадарогі Камянец–Кобрын. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе фальварка Дварцы маёнтка Дамброва ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыцы Бахмецьевай. Паводле інвентара 1847 г. 21 двор, 156 жыхароў, 14 дзес. сядзібнай, 168 дзес. ворыўнай зямлі. У канцы 19 ст. ў Дварцоўскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. сяло Вялікі Лес пры ўрочышчы Загароддзе 41 двор, 363 жыхары, дзейнічалі цагельня, нар. вучылішча, царква, хлебазапасны магазін, карчма, ветраны млын, кузня. На 1905 г. ў сяле 332 жыхары, у нар. вучылішчы 84 вучні. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Дварцоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. – 36 двароў, 179 жыхароў. У 1940 г. – 51 двор, 250 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Дварцоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну 20.8.1941 г. акупанты спалілі вёску (65 двароў), загубілі 1 жыхара. У 1943 г. расстраляны 3 жыхары вёскі. Вызвалена 27.7.1944 г. воінамі 152-га гв. стралк. палка 50-й гв. стралк. дывізіі. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Гвардзеец». З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 127 жыхароў, у 1970 г. 94 жыхары, уваходзіла ў калгас «Светлы шлях».

У складзе СВК «Кансуэла».

**ВЯЛІКІЯ КАМАРНІКІ** – вёска ў Агароднiцкім с/с, за 45 км на З ад Камянца, 47 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст–Беласток, на аўтадарозе Высокае–Кастары. 22 гаспадаркі, 53 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёскі Вялікія і Малыя Камарнікі ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Адносіліся да маёнтка Свіцічы, які належаў памешчыкам Віслоцкім. Паводле інвентара маёнтка за 1845 г. ў в. Вялікія Камарнікі – 23 двары, 142 сял. душы, у в. Малыя Камарнікі – 8 двароў, 50 наяўных сял. душ. У 2-й пал. 19 ст. вёскі ў Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. У 1890 г. ў складзе Камарніцкай сельскай грамады, 331 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі, 37 дзес. лугу. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Малыя Камарнікі 14 двароў, 95 жыхароў, у в. Вялі-



*Троіцкі касцёл (1872) у г. Высокае. Здымак 2005 г.*

кія Камарнікі — 37 двароў, 222 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёскі ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў в. Вялікія Камарнікі — 15 двароў, 74 жыхары, у в. Малыя Камарнікі — 4 двары, 25 жыхароў. У 1940 г. ў Вялікіх Камарніках 33 двары, 169 жыхароў, у Малых Камарніках — 20 двароў, 123 жыхары. З 12.10.1940 г. вёскі ў Агародніцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 6 вяскоўцаў. У канцы 1940-х г. у в. Вялікія Камарнікі арганізаваны калгас «Світанне», у в. Малыя Камарнікі — калгас імя Ватуціна. З 1952 г. вёскі ў калгасе «Бальшавік» (14.12.1962 перайменаваны ў калгас «Дружба»). У 1960 г. ў Вялікіх Камарніках — 147 жыхароў, у Малых Камарніках — 119 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. адпаведна 122 і 95 жыхароў. У 1972 г. вёскі зліліся ў адзін населены пункт.

У складзе ААТ «Александрыя-Агра».

**ВЯЛІЧКАВІЧЫ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 60 км на ПдЗ ад Камянца, 52 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Кастары. 58 гаспадарак, 143 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) тут 230 рэвізскіх душ, адносілася да маёнтка Ставы, уласнасць графіні Красінскай. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 58 двароў, 387 жыхароў. На 1905 г. 369 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 35 двароў, 212 жыхароў. У 1940 г. — 448 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. Дзейнічалі пач. школа, каап. крама. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў школе навучаліся 25 дзяцей. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Катоўскага, з 1952 г. ў складзе калгаса «Усход». З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 236 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 202 жыхары.

У складзе ААТ «Усход—Камянец». Магазін.

**ВЯЛІЧКІ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Камянца, 52 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Каленкавічы. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. — 25 двароў, 169 жыхароў, у складзе Вялічкаўскай сельскай грамады. У 1921—39 гг. у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1940 г. — 22 двары, 119 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 2 жыхары вёскі. Паводле перапісу 1959 г. — 109 жыхароў, у 1970 г. — 63 жыхары.

У складзе СВК «Хадасы».

**ВЯРБА** — пункт прыпынку на лініі Брэст—Беласток, у Агародніцкім с/с, за 35 км на З ад Камянца, 37 км ад Брэста, за 11 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Высокае. 15 гаспадарак, 38 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Свіцічы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара 1845 г. вёска належала памешчыкам Вісломкім. У 1857 г. ў в. Вярба 14 рэвізскіх душ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. хутар у Агародніцкім с/с Высокаўскага р-на. У 1960 г. — 27 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 25 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба».

**ВЯРХІ** — вёска ў Расненскім с/с, за 32 км на З ад Камянца, 54 км ад Брэста, 3,5 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камя-



нец—Белавежскі—Высокае. 42 гаспадаркі, 101 жыхар (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Высока-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Вярховіцкай сельскай грамадзе, 41 двор, 309 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 243 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. — 50 двароў, 237 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Расненскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У гады Вял. Айч. вайны ў вёсцы дзейнічала падп. камсамольская група (кіраўнік У.Карабко). У 1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Пушкіна, з 1952 г. ў калгасе «Савецкая Беларусь». У 1960 г. ў вёсцы 185 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. 155 жыхароў.

У складзе СВК «Савецкая Беларусь».

**ВЯРХОВІЧЫ** — вёска, цэнтр Вярховіцкага с/с, за 26 км на ПнЗ ад Камянца, 39 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Каленкавічы—Высокае. 230 гаспадарак, 543 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 16 ст., як двор у Берасцейскім пав. ВКЛ. У 1567 г. з маёнтка Вярховічы Васіль Копаць выстаўляў коней для войска. У 1577 г. шляхецкае ўладанне, 151 гаспадарка. Упамінаецца ў судовых дакументах ад 16.11.1582 г., двор, уласнасць Войны. У ліст. 1655 г. каля Вярховіч маскоўскія войскі разграмілі гетмана польнага Паўла Сапегу і асадзілі Камянец. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 17 ст. тут пасяліліся шматлікія перасяленцы з Валыні, потым з'явіліся перасяленцы-яўрэі, пабудавалі карчму і ў 1878 г. гандлёвыя рады. У 2-й пал. 19 ст. мястэчка, цэнтр Вярховіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Аднайменны маёнтак належаў памешчыкам Ротам. У 1878 г. Іван Рот арганізаваў у маёнтку ферму па развядзенні буйной рагатай жывёлы, якая на выстаўках неаднаразова адзначалася медалямі. У 1885 г. мястэчка, 84 жыхары, дзейнічалі валаснoе праўленне, царква (1818), малітоўны дом, піваварны з-д, 12 крам, ветраны млын, за 1 вярсту ад мястэчка знаходзіўся вінакурны з-д. У склад воласці ўваходзілі 22 паселішчы (724 двары, 5922 жыхары). У канцы 19 ст. царк. прыходу належала 99 дзес. зямлі, 691 двор, да яго адносіліся 3098 прыхаджан мужчынскага і 2855 жаночага полу.

У 1890 г. ў маёнтку І.Рота 1023 дзес. зямлі, у мястэчку 99 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 23 двары, 384 жыхары, 2 царквы, хлебазапасны магазін, яўр. малітоўны дом, урачэбны прыёмны пакой, валаснoе праўленне, нар. вучылішча, 2 абутковыя, кравецкая, фарбавальная, сталярная майстэрні, 5 дробных крам, карчма, кожны аўторак праводзіліся базары, 7 разоў у год — кірмашы. У маёнтку 5 двароў, 53 жыхары, вінакурны з-д, ветраны млын. У фальварку Вярховічы 4 двары, 53 жыхары, кузня. У 1905 г. — 248 жыхароў, у нар. вучылішчы было 106 вучняў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр Вярховіцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў мястэчку было 45 двароў, 223 жыхары, у фальварку 1 двор, 18 жыхароў. У 1940 г. — 50 двароў, 275 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета ў Высокаўскім р-не Брэсцкай вобл. У былым маёнтку (20 двароў, 100 жыхароў) быў арганізаваны калгас «Парыжская камуна». Дзейнічалі 7-гадовая школа, паштовае аддз., сельпо, бальніца, аптэка. У Вял. Айч. вайну з 22.6.1941 г. да 27.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 65-й арміі. На франтах загінулі 4 жыхары вёскі. У першыя пасляваенныя гады працавалі МТС, спіртзавод, абутковая майстэрня, школа, іншыя прадпрыемствы. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 623 жыхары, у 1970 г. — 773 жыхары, у калгасе «Расія».

Дзейнічаюць крухмальны з-д, участак Вярхоўскага прам.-гандлёвага камбіната, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, 2 бальніцы, амбулаторыя, аптэка, камбінат





быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, магазіны. Помнік на брацкай магіле 137 сав. воінаў, 12 партызан, якія загінулі пры вызваленні сельсавета ў ліп. 1944 г. Мікалаеўская царква (пабудавана ў 1933 як касцёл), царква на могілках (пач. 20 ст.). У склад сельсавета ўваходзяць 16 паселішчаў, 855 гаспадарак, 2026 жыхароў.

**ГАЛЁНЧЫЦЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 8,5 км на ПнЗ ад Камянца, 47 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Янушы—Каленкавічы. 20 гаспадарак, 34 жыхары (2005).

У 1845 г. маёнтак і вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыкаў Цяльшэўскіх. У вёсцы было 15 двароў, 98 наяўных душ, 145 дзес. зямлі; у маёнтку 4 дваровыя душы, 164 дзес. зямлі. Дзейнічалі хлебазапасны магазін, карчма, ветраны млын. У 2-й пал. 19 ст. ў Войскай вол. таго ж павета. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 19 двароў, 131 жыхар, і маёнтак, працавалі школа граматы, хлебазапасны магазін, ветраны млын, кузня. У 1905 г. ў вёсцы — 130 жыхароў, у маёнтку — 20 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і калонія, у 1923 г. разам 20 двароў, 132 жыхары; уваходзілі ў Войскую, з 3.3.1928 г. ў Дзмітравіцкую гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. — 40 двароў, 215 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Агароднікцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 жыхары вёскі. У сак. 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Пагранічнік» (23 гаспадаркі), з 20.3.1951 г. ў калгасе «Новы шлях». У 1960 г. ў вёсцы 124 жыхары. З 10.3.1962 г. ў саўгасе «Белавежскі» (у 1982 перайменаваны ў «Першамайскі», у 1991 рэарганізаваны ў калгас). З 1.14.1964 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1970 г. 128 жыхароў.

У складзе СВК «Хадасы».

**ГАЛОЎЧЫЦЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Камянца, 49 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Каленкавічы. 52 гаспадаркі, 123 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уладанне Янішэўскага. Паводле 10-й рэвізіі (1857) — 75 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст. вёска і маёнткі ў Войскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. ў вёсцы звыш 153 дзес. зямлі, маёнткі Івана Магільніцкага (больш за 100 дзес. зямлі) і Сцяпана Нічыпарука (больш за 80 дзес. зямлі). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 25 двароў, 170 жыхароў. У аднайменным маёнтку дзейнічалі школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 кузні. У 1905 г. ў вёсцы 199 жыхароў, у маёнтку 11 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак, у 1923 г. разам 19 двароў, 96 жыхароў; у Войскай, з 3.3.1928 г. ў Дзмітравіцкай гмінах Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 6 вяскоўцаў. У 1948 г. ў пач. школе 41 вучань. 27.11.1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Франтавік», з 20.3.1951 г. ў калгасе «Новы шлях». У 1960 г. ў вёсцы 141 жыхар. З 10.3.1962 г. ў саўгасе «Белавежскі» (у 1982 перайменаваны ў «Першамайскі», у 1991 рэарганізаваны ў калгас). З 11.4.1964 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1970 г. 188 жыхароў.

У складзе СВК «Хадасы». Дзейнічаюць Дом сац. паслуг, бібліятэка.

**ГАНЦЭВІЧЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Камянца, 53 км ад Брэста, 42 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец-Каленкавічы. 19 гаспадарак, 36 жыхароў (2005).

Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 126 рэвізскіх душ, дзярж. ўласнасць. У канцы 19 ст. вёска ў Войскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У складзе Ганцэвіцкай сельскай грамады, мелася звыш 280 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 28 двароў, 179 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, кузня. У 1905 г. — 185 жыхароў. У 1921—



39 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Войскай, з 3.3.1928 г. Дзмітравіцкай гмінах Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 22 двары, 98 жыхароў. У 1940 г. 45 двароў, 213 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Агародніцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У вер. 1950 г. вяскоўцы арганізаваліся ў калгас «1 Мая», з 20.3.1951 г. ў калгасе «Новы шлях». У 1960 г. 149 жыхароў. З 10.3.1962 г. ў саўгасе «Белавежскі» (у 1982 перайменаваны ў «Першамайскі», у 1991 рэарганізаваны ў калгас). З 11.4.1964 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1970 г. — 136 жыхароў.

У складзе СВК «Хадасы».

**ГАНЦЫ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 17 км на У ад Камянца, 55 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2005).

Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 34 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Чамяры ў Дварцоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., уладанне графа Грабоўскага. У вер. 1878 г. сяляне вёсак Ганцы і Воля аказалі супраціўленне ўладам, не дапускалі правядзення размежавання зямель. У падаўленні сял. хваляванняў прымалі ўдзел 2 роты Смаленскага пях. палка. Паводле перапісу 1897 г. ў Воленскай сельскай грамадзе, 11 двароў, 84 жыхары, дзейнічала кузня. На 1905 г. — 95 жыхароў. У 1921—39 гг. у Польшчы, вёска ў складзе Дварцоўскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 13 двароў, 68 жыхароў. У 1940 г. — 23 двары, 108 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Дварцоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 жыхары вёскі. У лютым 1943 г. вёска цалкам была спалена карнікамі (24 двары), загінулі 5 мірных жыхароў. У 1950 г. вёска ўваходзіла ў склад калгаса «Зара камунізму». З 16.7.1954 г. ў складзе Рэчыцкага с/с. У 1960 г. ў вёсцы 86 жыхароў, у 1970 г. — 36 жыхароў, у калгасе «Светлы шлях».

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».



*Петрапаўлаўская царква (18 ст.) у в. Гарадзішча.*

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Камянца, 46 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск, на аўтадарозе Камянец—Каленкавічы. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

У канцы 18 ст. вёска ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ, дзейнічала драўляная Петрапаўлаўская царква. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уладанне памешчыкаў Матусевічаў. Згодна 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы 17 двароў, 79 рэвізскіх душ. Памешчыку належала 171 дзес. зямлі, сялянам 166 дзесяцін. У 2-й пал. 19 ст. сяло ў Войскай вол. таго ж павета. У 1885 г. сяло, 13 двароў, 119 жыхароў, праваслаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 21 двор, 155 жыхароў, і выселак — 1 двор, 7 жыхароў; маёнтак — 2 двары, 18 жыхароў. Царква, школа граматы, хлебазапасны магазін, ветраны млын, кузня. У 1905 г. ў сяле — 176 жыхароў, у маёнтку — 3 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска і фальварак у Войскай, з 3.3.1928 г. Дзмітравіцкай гмінах Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы — 21 двор, 94 жыхары; у фальварку — 2 двары, 15 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 31 двор, 271 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Агародніцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял.

Айч. вайну на фронце загінуў 1 жыхар. У 1950 г. дзейнічаў калгас «Савецкая Беларусь». У 1960 г. ў вёсцы 176 жыхароў. З 11.4.1964 г. ў Дзмітравіцкім с/с, у саўгасе імя Дзімітрава.

У складзе ААТ «Камянецкая пушча».

**ГАРОШКАЎКА 1** — вёска ў Камянюцкім с/с, на р. Белая, за 28 км на Пн ад Камянца, 67 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянюкі—Амелянец. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. ў вёсцы 102 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. — 19 двароў, 108 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Бялоўскім с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. 22.8.1941 г. ням.-фаш. захопнікі спалілі вёску, загубілі 9 жыхароў. З 16.8.1945 г. ў Камянецкім р-не. З 16.7.1954 г. ў Ражкоўскім, з 17.11.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 52 жыхары, у 1970 г. — 63 жыхары. Уваходзіла ў склад саўгаса імя Дзімітрава. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**ГАРОШКАЎКА 2** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 29 км на Пн ад Камянца, 67 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянюкі-Амелянец. 14 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут 108 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. З 12.10.1940 г. ў Бялоўскім с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы 21 двор, 93 жыхары. 25.8.1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску (16 двароў). На франтах загінулі 3 жыхары. З 16.8.1945 г. ў Камянецкім р-не. З 16.7.1954 г. ў Ражкоўскім, з 17.11.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 64 жыхары. З 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. — 59 жыхароў. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**ГВОЗДЗЬ 1** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 18 км на Пн ад Камянца, 57 км ад Брэста, 45 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пашукі. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. ўрочышча ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 88 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1940 г. — 19 двароў, 107 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Падбельскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску; на фронце загінуў 1 жыхар вёскі. З 16.7. 1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. ў Навіцкім, з 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. ў вёсцы 28 жыхароў. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**ГВОЗДЗЬ 2** — вёска ў Камянюцкім с\с, за 19 км на Пн ад Камянца, 58 км ад Брэста, 46 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец-Пашукі. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. ў ёй налічвалася 29 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1940 г. — 9 двароў, 51 жыхар. З 12.10. 1940 г. вёска ў Падбельскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску. З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім, з 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. ў вёсцы 18 жыхароў. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**ГЛІНІШЧЫ** — хутар, да 1960 г. ў Вярховіцкім с/с.

**ГЛЫБОКІ ВУГАЛ** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 21 км на ПнУ ад Камянца, 60 км ад Брэста, 49 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пашукі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2005).



У канцы 19 ст. — пач. 20 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 69 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1940 г. — 15 двароў, 90 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Падбельскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. захопнікі спалілі 2 гаспадаркі. На фронце загінуў 1 жыхар вёскі. З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1. 1962 г. ў Навіцкавіцкім, з 14.4.1964 г. у Камянюцкім с/с. У 1959 г. ў вёсцы было 33 жыхары, у 1970 г. — 21 жыхар. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**ГОЛЫ БАРОК** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 4 км на ПнУ ад Камянца, 43 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец-Кобрын. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2005).

У 1-й пал. 19 ст. вёска складзе маёнтка Камянец-Літоўскі ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара 1846 г. маёнтак — уласнасць малалетніх нашчадкаў ротмістра Антона Насаржэўскага. У вёсцы на гэты час 15 двароў, 133 наяўныя душы. З 1860-х г. у Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 18 двароў, 115 жыхароў. У 1921—39 г. ў Польшчы, вёска ў складзе Камянец-Літоўскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 20 двароў, 89 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 24 двары, 122 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. у Рэчыцкім с/с. У 1948 г. радыёфікавана. У 1950 г. ўваходзіла ў калгас «XIX партз'езд». У 1959 г. ў вёсцы 109 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 84 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава. З 1983 г. вёска ў Рэчыцкім с/с.

У складзе СВК «Кансуэла».

**ГОРЫ** — вёска ў Войскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Камянца, 51 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., дзярж. уласнасць. Паводле 10-й рэвізіі (1857) 27 рэвізскіх душ, паводле перапісу 1897 г. — 9 двароў, 70 жыхароў, у складзе Палінаўскай сельскай грамады. У 1905 г. — 74 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 7 гаспадарак, 33 жыхары. У 1940 г. — 20 двароў, 97 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 жыхары вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «17 верасня». У 1950 г. ў вёсцы 20 двароў, 73 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім, з 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 80 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Леніна. З 19.5. 1986 г. ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**ГРУДАВІКІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Камянца, 50 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Дамброва ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыцы Бахмецьевай. Паводле інвентара маёнтка за 1847 г. ў вёсцы было 10 двароў, 75 сял. душ, 6 дзес. сядзібнай, 80 дзес. ворыўнай зямлі, 16 дзес. сенакосу. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Дварцоўскай вол. і сельскай грамадзе, 12 двароў, 92 жыхары. На 1905 г. — 122 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Дварцоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 10 двароў, 58 жыхароў. З 12.10. 1940 г. вёска (17 двароў, 80 жыхароў) у Дварцоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 жыхары вёскі. З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 67 жыха-

роў, у 1970 г. — 40 жыхароў, уваходзіла ў калгас «Светлы шлях».

У складзе СВК «Кансуэла».

**ГРУШАЎКА** (да 1964 Більдзейкі) — вёска ў Відамлянскім с/с, за 11 км на Пд ад Камянца, 28 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Брэст—Камянец. 35 гаспадарак, 76 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска Більдзейкі ў Турнаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі — 260 рэвізскіх душ (1857), уласнасць Грабоўскіх. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 66 двароў, 439 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 499 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Турнаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 62 двары, 274 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. Дзейнічаў калгас імя Молатава. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 3 воіны-землякі, 7 мірных жыхароў загінулі ад рук ням.-фаш. захопнікаў. З жн. 1950 г. ў калгасе «Кастрычнік». Працавала пач. школа. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 253 жыхары, у 1970 г. — 203 жыхары.

У складзе ААТ «Агра-Турна».

**ГРЫМЯЧА** — вёска ў Воўчынскім с/с, на беразе р. Пульва, за 50 км на ПдЗ ад Камянца, 50 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Высокае. 19 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

У 19 ст. маёнтак і вёска Грымяча ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Належалі памешчыкам Віслоцкім (калежскаму рэгістратару Люцыяну Віслоцкаму, затым яго сынам). Паводле 8-й рэвізіі (1833) у маёнтку 1568 дзес. зямлі, у т.л. больш за 756 дзес. ворыва, 553 сял. душы, у т.л. 342 працаздольныя. У склад маёнтка ўваходзілі аднайменныя фальварак і вёска, таксама вёскі Мельнікі і Вужыкі. Дзейнічалі гаспадарскі двор, кузня, 2 заезныя двары, 1 млынок, вадзяны і ветраны млыны, вінакурня. У в. Грымяча — 30 двароў, 197 жыхароў. З 1860-х г. у Воўчынскай вол. тых жа павета і губерні. Да сярэдзіны 19 ст. тут сфарміраваўся сядзібна-паркавы комплекс. У канцы 19 — пачатку 20 ст. маёнтак належаў памешчыку Пузіну (у 1890 — 731 дзес. зямлі), дзейнічала Грымячская сельская грамада (465 дзес. зямлі). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 299 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 319 жыхароў. У 1921—39 гг. ў Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 38 двароў, 129 жыхароў. У 1940 г. — 53 двары, 305 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Воўчынскім с/с Высокаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 20 воінаў-землякоў. У 1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Чкалава, з 1951 г. ў калгасе імя Жданава. У 1948 г. ў 7-гадовай школе 185 вучняў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 304 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 138 жыхароў, у калгасе імя Жданава (16.5.1989 перайменаваны ў калгас «Прагрэс»).

У складзе ААТ «Усход—Камянец».

**ГРЫМЯЧА** — хутар у Воўчынскім с/с, за 52 км на ПдЗ ад Камянца, 52 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск, на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Высокае. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. (з 1860-х у Воўчынскай вол.). У сярэдзіне 19 ст. ў тым жа павеце, фальварак у складзе маёнтка Віслоцкіх. У канцы 19 ст. — ва ўласнасці памешчыка Пузіны. Паводле перапісу 1897 г. ў фальварку 6 двароў, 88 жыхароў, дзейнічала кузня. У 1905 г. — 9 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, маёнтак у Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. хутар у Воўчынскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1950 г. тут арганізаваны калгас «Чырвоны Сцяг», у які аб'ядналіся 83 жыхары хутара. З 1951 г. ў калгасе імя Жданава (16.5.1989 перайменаваны ў



калгас «Прагрэс»). У 1959 г. — 107 жыхароў. З 17.4. 1962 г. ў Камянецкім р-не.

У складзе ААТ «Усход—Камянец».

**ГУЛЕВІЧЫ** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Камянца, 49 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Пашукі. 46 гаспадарак, 76 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Пруска, які належаў памешчыку Насаржэўскаму; паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 183 рэвізскія душы. У 1890 г. тут каля 200 дзес. зямельных угоддзяў, у складзе Гулевіцкай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 38 двароў, 277 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У 1905 г. — 280 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 22 двары, 111 жыхароў. У 1940 г. — 62 двары, 258 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Навіцкавіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 27.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пад час акупацыі гітлераўцы расстралялі 5 жыхароў вёскі. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Гвардыя», з вер. 1950 г. ў калгасе «Бальшавік». З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 284 жыхары, у 1970 г. — 255 жыхароў.

У складзе ААТ «Новы шлях».

**ГУРКІ** — хутар, да 1976 г. ў Ратайчыцкім с/с.

**ГУРЫНЫ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 15 км на У ад Камянца, 54 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Кобрын. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у складзе маёнтка Віжнае, уласнасць Жайкоўскага, 67 рэвізскіх душ. У 1905 г. — 151 жыхар. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 26 гаспадарак, 107 жыхароў. У 1940 г. — 39 двароў, 165 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 10 жыхароў вёскі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 129 жыхароў. Уваходзілі ў калгас «Світанне».

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**ГЯРШОНЫ** — вёска, да 1972 г. ў Войскім с/с.

**ДАЎБІЗНА** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Камянца, 43 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Вярховічы—Пагранічная. 110 гаспадарак, 301 жыхар (2005).

Вядома з канца 16 ст. ў складзе Берасцейскага пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ як шляхецкае ўладанне. У сярэдзіне 19 ст. вёскі Даўбізна Вялікая і Даўбізна Малая ў складзе маёнтка Даўбізна ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыка Вікенція Сняжко. Згодна з планам маёнтка 1833 г. мелася 84 валокі зямлі. У склад маёнтка ўваходзілі хутар Красіцы, вёскі Вялікая і Малая Даўбізна, Малая Апака, усяго 68 цяглых двароў, 504 рэвізскія душы. На гэты час у в. Малая Даўбізна 95 рэвізскіх душ, 12 двароў, у в. Вялікая Даўбізна — 318 рэвізскіх душ, 44 двары (пазней вёскі зліліся). Дзейнічалі 2 піцейныя дамы, млын на коннай цязе, вінакурня, цагельня, кузня. Паводле апошняй рэвізіі (1857) у вёсцы налічвалася 346 рэвізскіх душ. У студз. 1863 г. каля маёнтка В.Сняжко адбыўся бой паміж паўстанцамі і ўрадавымі войскамі. У выніку згарэлі гасп. пабудовы, бровар. Загінулі 5 паўстанцаў, сярод іх гаспадар маёнтка. Паводле перапісу 1897 г. ў Вярховіцкай вол., у в. Даўбізна — 86 двароў, 539 жыхароў, у маёнтку — 1 двор, 7 жыхароў, у былой карчме — 1 двор, 6 жыхароў. У 1905 г. — 553 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага

ваяв. У 1923 г. — 41 двор, 177 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Бушміцкім с/с Кляшчэльскага, з 16.8.1945 г. Высокаўскага р-наў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 жыхары вёскі. У чэрв. 1950 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага. Дзейнічала пач. школа (у 1948 — 37 вучняў). У 1960 г. ў вёсцы 399 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 26.7.1968 г. ў Вярховіцкім с/с. У 1970 г. — 301 жыхар, цэнтр калгаса імя Дзяржынскага.

Цэнтр СВК «Агра-Ніва». Клуб, сярэдняя школа-сад, пач. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Брацкая магіла 30 сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні Камянеччыны.

**ДАЎБНЁВА** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Камянца, 37 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 84 двары, 153 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска і маёнтак у Высока-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) уласнасць Каржанеўскіх, у вёсцы 141 рэвізская душа. У 1890 г. маёнтак (уласнасць Амаліі Каржанеўскай, 417 дзес. сельгасугоддзяў), урочышча (уласнасць Грыгор'ева, 36 дзес.), вёска (у сельскай грамадзе, 817 дзес. зямлі). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 79 двароў, 565 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 кузні, карчма; у маёнтку — 3 двары, 48 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы — 591 жыхар, у маёнтку — 12 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. — 136 двароў, 815 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Баршчэўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 30 воінаў-землякоў. У час акупацыі вёска была спалена карнікамі (116 двароў). У 1949 г. арганізаваны калгас «Камунар». Дзейнічала пач. школа (у 1948 — 98 вучняў). У 1960 г. ў вёсцы 517 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 448 жыхароў, у калгасе «Ленінскі шлях». З 3.7.1972 г. ў Малазводаўскім с/с, з 18.10.1982 г. ў Ратайчыцкім с/с.

У складзе ААТ «Белавежскі».

**ДАШЭВІЧЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 16 км на Пн ад Камянца, 55 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Камянец—Камянюкі. 29 гаспадарак, 53 жыхары (2005).

У 1857 г. ў вёсцы 166 рэвізскіх душ, дзярж. уласнасць. У канцы 19 ст вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Дашэвіцкая сельская грамада ў 1890 г. мела 25 дзес. сядзібнай, 100 — ворыўнай зямлі, 35 дзес. лесу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 44 двары, 256 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 45 двароў, 259 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 33 двары, 166 жыхароў. У 1940 г. — 53 двары, 262 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У 1948 г. ў пач. школе 25 вучняў. У час пасляваеннай калектывізацыі раёна жыхары вёсак Дашэвічы, Хваяноўка аб'ядналіся ў калгас імя Кірава. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 201 жыхар, у 1970 г. — 206 жыхароў, у саўгасе «Белавежскі».

У складзе ААТ «Камянецкая пушча». За 0,5 км ад вёскі курганны могільнік.

**ДВАРЦЫ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад Камянца, 52 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 120 гаспадарак, 267 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска, цэнтр Дварцоўскай вол. ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 395 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Дамброва, уласнасць памешчыка Канавыйцына. У 1885 г. — 45 двароў, 511 жыхароў, валаснае праўленне, ветраны млын. Паводле перапісу 1897 г.



ў вёсцы 66 двароў, 517 жыхароў, валасное праўленне, хлебазапасны магазін, 2 кухні, карчма. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, да 19.3.1928 г. з'яўлялася цэнтрам Дварцоўскай гміны ў Брэсцкім пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 12 двароў, 84 жыхары. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. У 1940 г. — 75 двароў, 353 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Дварцоўскага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ўваходзілі 12 паселішчаў (321 двор, 1551 жыхар). На яго тэр. працавалі 3 пач. школы, цагельны з-д, 3 ветраныя млыны. У Вял. Айч. вайну ў 1942—44 гг. за сувязь з партызанамі расстраляны 11 жыхароў вёскі. У крас. 1942 г. на прымусовыя работы ў Германію вывезены 76 вяскоўцаў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 22 жыхары. У 1950 г. ўтвораны калгас «Светлы шлях» (аб'ядноўваў 79 двароў, 500 жыхароў, пазней узбуйнены). З 16.7.1954 г. ў складзе Рэчыцкага с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 313 жыхароў. У 1970 г. — 249 жыхароў, цэнтр калгаса «Светлы шлях».

У складзе СВК «Кансуэла». Пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Радзіма бел. мастака М.А.Маеўскага.

**ДВАРЭЦ** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Камянца, 43 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Амелянец—Вярховічы—Высокае. 31 гаспадарка, 47 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. фальварак Дварэц у складзе маёнтка Капылы Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара 1845 г. ўласнасць памешчыцы Караліны Пуслоўскай. У фальварку мелася 763 дзес. зямлі, да яго адносіліся вёскі Каленкавічы, Падбур'е. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак у Вярховіцкай вол. тых жа павета і губерні, 22 двары, 212 жыхароў, дзейнічала кузня. У 1905 г. ў маёнтку — 130 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 16 двароў, 107 жыхароў. У 1940 г. — 250 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Бушміцкім с/с Кляшчэльскага, з 16.8.1945 г. Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 14 жыхароў вёскі. Вызвалена ад ням.-фаш. акупантаў 27.7.1944 г. воінамі 152-га гв. палка 50-й гв. стралк. дывізіі. У пасляваенныя гады працавала пач. школа (у 1948 — 27 вучняў). У 1960 г. — 208 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, з 26.7. 1968 г. ў Вярховіцкім с/с. У 1970 г. ў вёсцы 156 жыхароў, уваходзіла ў калгас імя Дзяржынскага.

У складзе СВК «Агра-Ніва».

**ДЗМІТРАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Дзмітравіцкага с/с, за 12 км на Пн ад Камянца, 49 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Брэст—Камянец—Камянюкі. 243 гаспадаркі, 609 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 16 ст. ў складзе Берасцейскага пав. і ваяводства ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1786 г. пабудавана драўляная Спаса-Праабражэнская царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 1-й пал. 19 ст. сяло ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Адносілася да фальварка Ямна маёнтка Дамброва. Паводле інвентара маёнтка за 1847 г. уладанне памешчыкаў Сівераў і Бахмецьевай, у с. Дзмітравічы 311 наяўных сял. душ, 344 дзес. ворыўнай, 28 дзес. сядзібнай зямлі. З 1860-х г. цэнтр Дзмітравіцкай вол. тых жа павета і губерні. У 1885 г. сяло, 42 двары, 399 жыхароў, валаснoe праўленне, царква, школа, за 1 вярсту ў сядзібе Ямна вінзавод. Паводле перапісу 1897 г. 74 двары, 498 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма. Пры сяле знаходзілася сядзіба Андрэя Жуковіча, 1 двор, 3 жыхары. У 1905 г. — 560 жыхароў, у нар. вучылішчы 97 навучэнцаў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, сяло, цэнтр Дзмітравіцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 89 двароў, 402 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Дзмітравіцкага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 121

двор, 614 жыхароў, 7-гадовая школа, бетонны з-д, маслазавод, пошта. У склад сельсавета ўваходзілі 16 паселішчаў (648 двароў, 3542 жыхары). У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 25 жыхароў вёскі. Пасля вайны працавала 7-гадовая школа. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Пагранічнік», з 1950 г. цэнтр узбуйненага калгаса імя Дзімітрава. У 1959 г. на землях калгаса быў створаны саўгас «Белавежскі». У 1960 г. ў вёсцы 372 жыхары. З 1964 г. цэнтр саўгаса імя Дзімітрава (у 1991 рэарганізаваны ў калгас). У 1970 г. — 616 жыхароў.

Цэнтр ААТ «Камянецкая пушча». Пач. школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аптэка, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, 3 магазіны, царква. На могілках помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ДЗЯМЯНЧЫЦЫ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Камянца, 28 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 29 гаспадарак, 58 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з сярэдзіны 16 ст., у складзе Берасцейскага пав. ВКЛ. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Турнянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Дзямянчыцы, уласнасць памешчыцы Баяроўскай. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 402 рэвізскія душы. У 1905 г. — 826 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Турнаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. вёска ў Турнаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 166 двароў, 620 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 15 жыхароў вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Сталінскі шлях». З 16.7. 1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. — 297 жыхароў, дзейнічала пач. школа. З ліст. 1961 г. ў калгасе «Радзіма». У 1970 г. — 239 жыхароў. З 7.9.2006 г. ў Відамлянскім с/с.

У складзе ААТ «Агра-Турна». Магазін.

**ДУБАВОЕ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 55 км на ПдЗ ад Камянца, 48 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Кастары. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 202 рэвізскія душы, у складзе маёнтка Ставы, уласнасць графіні Красінскай. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Дубаўскай сельскай грамады, 47 двароў, 311 жыхароў, хлебазапасны магазін, вадзяны млын на р. Пульва (уласнасць Леснянскага жаночага Свята-Багародзіцкага манастыра). У 1905 г. ў вёсцы 392 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. З 12.10. 1940 г. вёска ў Воўчынскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 108 двароў, 306 жыхароў. У 1940 г. — пач. школа. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 10 жыхароў вёскі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Вызваленне», з 1951 г. ў складзе калгаса імя Жданава (16.5.1989 перайменаваны ў калгас «Прагрэс»). У 1960 г. ў вёсцы 144 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 49 жыхароў.

У складзе ААТ «Усход—Камянец».

**ДУБРАЎЦЫ** (да 1964 Свінева) — вёска ў Каленкавіцкім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Камянца, 70 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Амелянец—Высокае. 31 гаспадарка, 75 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска Свінева ў Вярховіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) — 299 рэвізскіх душ, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 80 двароў, 539 жыхароў, у складзе Свінеўскай сельскай грамады, хлебазапасны магазін, кузня. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 39 двароў, 164 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска (на той час 406 жыхароў) у Амелянецкім с/с Кля-



шчэльскага р-на. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 жыхароў вёскі. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Бушміцкім с/с. У 1960 г. — 280 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, з 26.7.1968 г. ў Каленкавіцкім с/с. Уваходзіла ў калгас «Зара».

У складзе СВК «Амелянец».

**ДУБРОВА** — вёска, да 1972 г. ў Рэчыцкім с/с.

**ДЫМНІКІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 20 км на У ад Камянца, 59 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пружаны. 31 гаспадарка, 61 жыхар (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. ў вёсцы 380 жыхароў, у аднайменным фальварку — 9 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 47 двароў, 218 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 81 двор, 411 жыхароў, дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. акупанты расстралялі 12 жыхароў вёскі, на франтах загінулі і прапалі без вестак 18 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 273 жыхары. З 1962 г. ў калгасе «Світанне». У 1970 г. — 215 жыхароў.

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**ЕЛІНСКІ БОР** — хутар, да 1997 г. ў Камянюцкім с/с.

**ЖДАНКІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 5 км на ПнУ ад Камянца, за 44 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

У пач. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка, які належаў генералу Гальбергу. У 1818—20 гг. ў вёсцы адбываліся антыпрыгонніцкія сял. хваляванні. У сярэдзіне 19 ст. адносілася да маёнтка Камянец-Літоўскі Камянец-Літоўскай вол., уласнасць ротмістра Антона Насаржэўскага. Паводле інвентара 1846 г. ў вёсцы 9 двароў, 40 жыхароў, 3 дзес. сядзібнай і 21 дзес. ворыўнай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Вуглянскай сельскай грамады, 9 двароў, 60 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне. У 1923 г. — 7 двароў, 23 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 10 двароў, 30 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Навіцкавіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. вёска ў Рэчыцкім с/с. У 1960 г. — 25 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 22 жыхары, уваходзіла ў калгас імя Кірава. З 19.5. 1986 г. ў Рэчыцкім с/с.

У складзе СВК «Кансуэла».

**ЖЫЛІЧЫ** — вёска ў Войскім с/с, за 4 км на З ад Камянца, за 43 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Баршчэва—Высокае. 21 гаспадарка, 40 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., дзярж. уласнасць. Паводле 10-й рэвізіі (1857) 85 рэвізскіх душ. У 1890 г. ў складзе Жыліцкай сельскай грамады, больш за 300 дзес. зям. угоддзяў. Паводле перапісу 1897 г. 19 двароў, 132 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 169 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 6 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 29 двароў, 178 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 жыхары вёскі. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. — 128 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с, уваходзіла ў калгас імя Леніна. З 19.5.1986 г. ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Радзіма бел. скульптара П.І.Лука.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Расненскім с/с, за 30 км на З ад Камянца, 52 км ад

Брэста, 10 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Баршчэва—Высокае. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У 18 ст. хутар у Берасцейскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Уваходзіў у склад маёнтка Расна, шляхецкая ўласнасць. З 1722 г. знаходзіўся ў закладзе ў Юрыя Матушэвіча, які ў хуткім часе перадаў Забалацце кляштару (13 цяглых двароў). У сярэдзіне 19 ст. адносілася да маёнтка Расна, уласнасць Грабоўскіх, 77 рэвізскіх душ (1857). У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Высока-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Чарнева-Забалацкай сельскай грамады, 20 двароў, 124 жыхары. На 1905 г. — 132 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 8 двароў, 53 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска (на той час 25 двароў, 126 жыхароў) у Баршчэўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 жыхар вёскі. У 1950 г. дзейнічаў калгас «Сцяг». З 1957 г. ў калгасе «Савецкая Беларусь». З 16.7.1954 г. ў Расненскім с/с. У 1960 г. — 115 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 94 жыхары.

У складзе СВК «Савецкая Беларусь». Вёска — радзіма бел. паэта В.А.Жуковіча.

**ЗАВАДЗЬКАВІЧЫ** — вёска ў Войскім с/с, за 3 км на З ад Камянца, 42 км ад Брэста, за 31 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Брэст—Камянюкі. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У складзе маёнтка Пруска, уласнасць Багуслаўскага, паводле 10-й рэвізіі (1857) налічвалася 60 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. адносілася да Завадзькавіцкай сельскай грамады, 9 двароў, 72 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. ў Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 8 двароў, 48 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 9 двароў, 74 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 жыхар вёскі. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. — 35 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 27 жыхароў, у калгасе імя Леніна. З 19.5.1986 г. ў Войскім с/с. У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**ЗАВЯРШАНЫ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 17 км на Пд ад Камянца, 25 км ад Брэста, за 17 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Камянец. 38 гаспадарак, 69 жыхароў (2005).

Паселішча ўпершыню ўпамінаецца ў сярэдзіне 15 ст., калі кароль Казімір запісаў 6 душ у Завяршанах Лявону Шалолічу. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. вёска ў Турнаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 297 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Чэнаўчыцы, уласнасць Грабоўскіх. Паводле перапісу 1897 г. — 79 двароў, 569 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 637 жыхароў, у карыстанні сельскай грамады больш за 655 дзес. зямельных угоддзяў. Непадалёку знаходзіўся аднайменны хутар, уласнасць памешчыка Міхаіла Грабоўскага. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Турнаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 44 двары, 207 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 96 двароў, 699 жыхароў, працавала пач. школа. З 12.10.1940 г. ў Турнаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі 5 мірных жыхароў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 12 вяскоўцаў. У сак. 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У 1950 г. ў вёсцы 82 двары, 314 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Відамлянскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 259 жыхароў, у 1970 г. — 197 жыхароў.



У складзе ААТ «Агра-Турна». Магазін.

**ЗАГАРОДНЯЯ** (да 1964 Зламышле) — вёска ў Воўчынскім с/с, за 54 км на ПдЗ ад Камянца, 43 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Кастары. 18 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. ў складзе маёнтка Ставы графіні Красінскай, 173 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. — 39 двароў, 255 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 309 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. ў вёсцы 52 двары, 260 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Стаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 вясковец. У 1950 г. ў калгасе «За Радзіму». З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 156 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, уваходзіла ў калгас імя Свярдлова.

У складзе СВК «Стаўскі».

**ЗАДВАРАНЫ** — вёска ў Войскім с/с, за 12 км на З ад Камянца, 51 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Брэст—Белавежскі—Высокае. 9 двароў, 20 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Войскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Яленка, уласнасць Магільніцкага; у 1857 г. налічвалася 105 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў складзе Селяхоўскай сельскай грамады, 20 двароў, 116 жыхароў, 3 ветраныя млыны, кузня. У 1905 г. — 155 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Войскай, з 1928 г. ў Ратайчыцкай гмінах Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 3 двары, 24 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 15 двароў, 81 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Войскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 3 жыхары вёскі. З 16.7.1954 г. ў Агароднiцкім, з 14.4.1964 г. зноў у Войскім с/с. У 1960 г. — 63 жыхары; у 1970 г. — 56 жыхароў, уваходзіла ў калгас «Беларусь».

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**ЗАДВОР'Е** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Камянца, 26 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Брэст—Камянец. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Турнаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. ў складзе маёнтка Чэнаўчыцы, уласнасць Грабоўскіх, 158 рэвізскіх душ. У 1890 г. ў карыстанні вясковай сельскай грамады 415 дзес. зямельных угоддзяў. У 1897 г. 32 двары, 263 жыхары, школа, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 290 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Турнаўскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1929 г. — 35 двароў, 169 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 57 двароў, 296 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Турнаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 4 жыхары вёскі. У ліст. 1944 г. ад рук ням.-фаш. акупантаў загінулі 2 актывісты. У 1948 г. ў пач. школе 43 вучні. У 1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Шлях да камунізму». З 16.7.1954 г. ў Відамлянскім с/с. З 1956 г. ў калгасе «Перамога». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 168 жыхароў, у 1970 г. — 122 жыхары.

У складзе ААТ «Агра-Турна».

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Агародніцкім с/с, за 46 км ад Камянца, 51 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 36 гаспадарак, 59 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., дзярж. ўласнасць, у 1857 г. — 337 рэвізскіх душ. У 1890 г. ў складзе Залескай сельскай грамады, якая мела 982 дзес. зямельных угоддзяў. Паводле перапісу 1897 г. вёска Залессе (Пужыцы), 66 двароў, 456 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска

ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 57 двароў, 237 жыхароў. У чэрв. 1932 г. сяляне вёскі адмаўляліся выконваць дарожныя павіннасці, аказалі супраціўленне войту і паліцыі. Удзельнікі хваляванняў былі арыштаваны. У 1940 г. ў вёсцы 74 двары, 486 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Такарскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 10 жыхароў вёскі. З 16.8.1945 г. ў Агародніцкім с/с. У 1948 г. ў пач. школе 128 вучняў. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас «Ленінскі шлях» (160 членаў), працаваў млын. У 1960 г. ў вёсцы 392 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 304 жыхары.

У складзе ААТ «Макарава-Агра».

**ЗАЛЯШАНЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 15 км на Пн ад Камянца, 54 км ад Брэста, 43 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Хадасы—Ражкоўка. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да Ходаскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 9 двароў, 64 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 3 двары, 12 жыхароў, у аднайменным фальварку — 5 жыхароў. У 1940 г. — 19 двароў, 72 жыхары. З 12.10. 1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага раёна Брэсцкай вобл. Дзейнічала пач. школа (у 1948 — 78 вучняў) У 1959 г. ў вёсцы 60 жыхароў, уваходзіла ў саўгас «Белавежскі».

У складзе СВК «Хадасы».

**ЗАНАВІНЫ** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 27 км на Пн ад Камянца, 66 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянюкі—Амелянец. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 55 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1940 г. ў вёсцы 11 гаспадарак, 65 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Бялоўскім с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну 28.8.1941 г. была поўнасцю спалена ням.-фаш. акупантамі. Вызвалена 27.7.1944 г. воінамі 152-га гв. палка 30-й гв. стралк. дывізіі. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не, з 16.7.1954 г. ў Ражкоўскім, з 17.11.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с, з 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 14.4. 1964 г. ў Камянюцкім с/с. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**ЗАРАЧАНЫ** (да 1964 Царкоўнікі) — вёска ў Войскім с/с, за 17 км на З ад Камянца 55 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Высокае. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. сяло ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У складзе маёнтка Камянец-Літоўскі, уласнасць ротмістра Антона Насаржэўскага, у 1846 г. 29 двароў, 184 рэвізскія душы. У 1857 г. налічвалася 184 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 ст. ў Ратайчыцкай вол. таго ж павета, дзярж. ўласнасць. У 1885 г. — 30 двароў, 225 жыхароў, праваслаўная царква, школа. У 1890 г. мелася каля 450 дзес. зямельных угоддзяў, 47 дзес. належалі царкве. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 45 двароў, 291 жыхар, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, ветраны млын, кузня. У 1921—39 гг. ў Польшчы, вёска ў Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 6 двароў, 46 жыхароў. У 1940 г. — 57 двароў, 358 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 жыхары вёскі. У 1960 г. ў вёсцы 190 жыхароў. Уваходзіла ў калгас імя Калініна. З 14.4.1964 г. вёска ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Агародніцкім с/с, за 45 км на З ад Камянца, 50 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя



сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны. 29 гаспадарак, 38 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., уваходзіла ў склад Зарэчанскай сельскай грамады; у 1890 г. зямельныя ўгоддзі складалі 584 дзес., у т.л. 237 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 35 двароў, 246 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Непадалёк знаходзіўся вадзяны млын (належаў Тваркоўскаму). У 1905 г. ў вёсцы 286 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 44 двары, 221 жыхар. У кастр. 1924 г. сяляне вёскі аказалі супраціўленне войту, які хацеў спагнаць недаімкі па падатках. У 1940 г. — 63 двары, 309 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Агародніцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 18 жыхароў вёскі. У 1960 г. ў вёсцы 253 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 227 жыхароў, у калгасе «Дружба».

У складзе ААТ «Макарава-Агра».

**ЗЯНЬКІ** — вёска ў Войскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Камянца, 32 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Трасцяніца. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Кругель, уласнасць Падгурскага, у 1857 г. — 90 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Кругельскай сельскай грамады, 12 двароў, 97 жыхароў. У 1905 г. — 112 жыхароў. У 1921—39 гг. ў Польшчы, вёска ў Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 12 гаспадарак, 70 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1944 г. вёска была спалена ням.-фаш. акупантамі. У 1950 г. ў складзе калгаса імя Маленкова. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. — 113 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 86 жыхароў, уваходзіла ў калгас імя Леніна. З 19.5. 1986 г. ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**ІНДЫЧЫ** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 14 км ад Камянца, 43 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Жабінка. 28 гаспадарак, 46 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. сяло ў Жыцінскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Пелішча, уласнасці Лышчынскіх. У 1885 г. — 19 двароў, 239 жыхароў, праваслаўная царква, карчма, у вёсцы размяшчалася валаснoе праўленне. У 1890 г. ў складзе Індычскай сельскай грамады, 200 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі, 38 дзес. сенажацяў. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 27 двароў, 218 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма. У выселку Індычы 5 двароў, 15 жыхароў. У 1905 г. — 314 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Жыцінскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 15 двароў, 60 жыхароў. У 1940 г. — 40 двароў, 194 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Пелішчанскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 10 жыхароў вёскі. У маі 1943 г. за сувязь з партызанамі расстраляны 2 жыхары вёс-



*Царква (19 ст.) у в. Індычы.*

кі. У 1949 г. арганізаваны калгас «1 Мая». Пазней у калгасе імя Будзённага, з 15.10. 1957 г. ў калгасе «40 год Кастрычніка». У 1960 г. ў вёсцы 147 жыхароў, у 1970 г. — 131 жыхар.

У складзе ААТ «Агра-Пелішча».

**КАВАЛІКІ** — вёска ў Агародніцкім с/с, за 42 км на З ад Камянца, 46 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны. 63 гаспадаркі, 122 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Высока-Літоўск, уладанне кн. К.Сапегі. Паводле інвентара 1845 г. ў вёсцы 25 двароў, 174 наяўныя сял. душы. У 1857 г. 160 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Высока-Літоўск ва ўласнасці Патоцкіх. У канцы 19 ст. ў складзе Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. Адносілася да Кавалікоўскай сельскай грамады, мелася 428 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 61 двор, 379 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1905 г. — 406 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 58 двароў, 268 жыхароў. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ (кіраўнік У.Л.Будзько). З 12.10.1940 г. вёска (на той час 89 двароў, 458 жыхароў) у Агародніцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 13 жыхароў вёскі. У пасляваенныя гады ў час калектывізацыі ў вёсцы арганізаваны калгас «Ленінец» (у 1950 аб'ядноўваў 49 гаспадарак). З 1951 г. ў складзе калгаса «Савецкі Пагранічнік». У 1960 г. ў вёсцы 385 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 327 жыхароў.

У складзе ААТ «Макарава-Агра».

**КАЗІМІРАВА** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Камянца, 46 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Апака—Каленкавічы. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. фальварак у Вярховіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. — 11 двароў, 68 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 11 двароў, 56 жыхароў. У 1940 г. — 134 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Бушміцкім с/с Кляшчэльскага, з 16.8.1945 г. Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 106 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 26.7.1968 г. ў Вярховіцкім с/с. 81 жыхар, у калгасе імя Дзяржынскага.

У складзе СВК «Агра-Ніва».

**КАЛЕНКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Каленкавіцкага с/с, за 25 км на ПнЗ ад Камянца, 59 км ад Брэста, 17 км ад чыг. станцыі Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, аўтадарогамі звязана з Высокім і Камянцом. 181 гаспадарка, 489 жыхароў (2005).

У канцы 16 ст. вёска ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У сяр. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад фальварка Дварэц маёнтка Капылы. Паводле інвентара маёнтка за 1845 г. ўласнасць памешчыцы К.Пуслоўскай, 64 двары, 500 рэвізскіх душ, 499 дзес. ворыўнай зямлі, 200 дзес. лугу. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Вярховіцкай вол. тых жа павета і губерні. У 1885 г. — 64 двары, 548 жыхароў, школа, карчма. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 114 двароў, 681 жыхар, працавалі нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма, кузня. У 1905 г. ў вёсцы 695 жыхароў, у нар. вучылішчы — 91 вучань. У час сав.-польскай вайны ў 1920 г. Каленкавічы былі спалены. К 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 61 двор, 268 жыхароў. У 1940 г. — 644 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Бушміцкім с/с Кляшчэльскага, з 16.8.1945 г. Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 13 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў пач. школе 142 вучні. У 1949 г. арганіза-



ваны калгас «Парыжская камуна». З 1952 г. цэнтр калгаса імя Кірава, з 1959 г. — калгаса «Праўда». З 16.7.1954 г. ў Вярховіцкім с/с. У 1960 г. 599 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 26.7.1968 г. — цэнтр сельсавета. У 1970 г. — 502 жыхары.

Цэнтр ААТ «Каленкавічы». Базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі.

**КАЛОНІЯ КРУГЕЛЬ** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Камянца, 32 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Ратайчыцы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2005).

У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, калонія Кругель побач з аднайменнай вёскай у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 53 жыхары. У 1940 г. — хутары Кругель, 24 двары, 190 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У 1950 г. ў калгасе імя Сталіна (у 1961 перайменаваны ў калгас «Радзіма»). У 1970 г. — 43 жыхары.

У складзе ААТ «Агра-Турна».

**КАЛЯДЫ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Камянца, 27 км ад Брэста на аўтадарозе Высокае—Пружаны. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у складзе фальварка Алешкавічы маёнтка Трасцяніца, уласнасць Патоцкіх. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы 5 двароў, 34 сял. душы. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у складзе маёнтка Трасцяніца, уладанне баронаў Марэнгеймаў. У 2-й пал. 19 ст. ў Ратайчыцкай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Алешкавіцкай сельскай грамадзе, 7 двароў, 54 жыхары. На 1905 г. — 66 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Турноўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. — 9 двароў, 41 жыхар. З 12.10. 1940 г. ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 3 жыхары вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Свабодная праца», з 1950 г. ў калгасе «Кастрычнік». У 1960 г. ў вёсцы 26 жыхароў. У 1970 г. — 19 жыхароў, у калгасе «Кастрычнік».

У складзе ААТ «Відамлянскае».

**КАМАРОЎШЧЫНА** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Камянца, 41 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарогах праз Камянец. 20 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

У пач. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., адносілася да маёнтка ген. Гальберга. У 1818—20 гг. ў вёсцы адбываліся сял. антыпрыгонніцкія выступленні. У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Камянец—Літоўскі, уласнасць ротмістра Антона Насаржэўскага, затым памешчыка Іванова. Паводле інвентара 1846 г. ў вёсцы 17 двароў, 89 жыхароў. У канцы 19 ст. ў Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. У 1897 г. ў вёсцы было 18 двароў, 111 жыхароў, хлебазапасны магазін. На 1905 г. — 165 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 18 двароў, 87 жыхароў. У 1940 г. — 17 двароў, 107 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 жыхары вёскі. У крас. 1948 г. вёска радыёфікавана. У 1949 г. арганізаваны калгас «XIX з'езд ВКП(б)» (22 гаспадаркі). З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с, з 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 85 жыхароў, у 1970 г. — 88 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава. З 19.5.1986 г. ў Рэчыцкім с/с.

У складзе СВК «Кансуэла».

**КАМЯНЮКІ** — вёска, цэнтр Камянюцкага с/с, на р. Правая Лясная, за 21 км на Пн ад Камянца, 60 км ад Брэста, 47 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Брэст—Камянюкі. 506 гаспадарак, 118 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. тут налічвалася 135 рэвізскіх душ, дзярж. ўласнасць. У




1905 г. — 276 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1940 г. — 53 двары, 249 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Пашукоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За гады акупацыі фашысты расстралялі 30 жыхароў вёскі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 13 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў 7-гадовай школе 63 вучні. У пасляваенныя гады ў вёсцы дзейнічаў калгас імя Жданава (на 1.3.1949 аб'ядноўваў 14 гаспадарак), з 1953 г. ў калгасе «Беларусь». У 1950 г. — 65 гаспадарак, 223 жыхары. У 1959 г. ў вёсцы 368 жыхароў. З 14.4.1964 г. — цэнтр сельсавета. У 1970 г. — 374 жыхары.

Цэнтр Нац. парку «Белавежская пушча». Працуюць дрэваапрацоўчы цэх, сярэдняя школа (экалагічная), Дом культуры, 2 б-кі, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, магазіны. Помнік на брацкай магіле сав. воінаў. Музей прыроды.

**КАТЭРА** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 50 км на ПдЗ ад Камянца, 47 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Воўчын. 27 гаспадарак, 46 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Воўчын, уласнасць памешчыцы Караліны Пуслоўскай. Паводле інвентара 1845 г. ў вёсцы 30 двароў, 190 жыхароў, 279 дзес. ворыўнай зямлі. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Катэрскай сельскай грамады, 43 двары, 317 жыхароў, хлебазапасны магазін, вадзяны млын. У 1905 г. ў вёсцы 401 жыхар. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 11 двароў, 69 жыхароў. У 1940 г. — 60 двароў, 289 жыхароў, каап. крама. З 12.10. 1940 г. вёска ў Воўчынскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 8 вяскоўцаў. У 1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Сцяг Працы» (74 члены). З 1951 г. ў калгасе імя Жданава. У 1960 г. ў вёсцы 196 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 162 жыхары. З 1989 г. ў калгасе «Прагрэс».

У складзе ААТ «Усход—Камянец».

**КАСТАРЫ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 58 км на ПдЗ ад Камянца, 50 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Кастары. 18 гаспадарак, 59 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У



*Зубры ў Белавежскай пушчы.*



1857 г. ў вёсцы 117 рэвізскіх душ, адносілася да маёнтка Ставы графіні Красінскай. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Кастарскай сельскай грамады, 29 двароў, 197 жыхароў, хлебазапасны магазін. На 1905 г. ў вёсцы 199 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 32 гаспадаркі, 169 жыхароў. У 1940 г. — 224 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 8 жыхароў вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Сталінец», з 12.1.1952 г. ў калгасе «Усход». З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 119 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 58 жыхароў.

У складзе ААТ «Усход—Камянец». Магазін.

**КАПЫЛЫ** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Камянца, 43 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на ліні Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Вярховічы. 50 гаспадарак, 94 жыхары (2005).

У сярэдзіне 16 ст. ў Брэсцкім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1567 г. ваявода Менскі, дзяржаўца Камянецкі з маёнтка Капылы выстаўляў пошту, 7 коней. Згадваецца ў судовых справах ад 16.11.1582 г., уладанне Войны. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. вёска і аднайменны фальварак у складзе маёнтка (графства) Капылы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уладанне памешчыцы К.Пуслоўскай. Паводле інвентара 1845 г. ў склад маёнтка ўваходзілі 5 фальваркаў (Капылы, Каралін, Сіроцін, Дварэц, Апака), вёскі: Капылы, Кунаховічы, Бушмічы, Бярозаўка, Ясінаўка, Міневічы, Сушкі, Каленкавічы, Падбур'е, Сіпурка, Апака, усяго 388 двароў, 2910 рэвізскіх душ, 9838 дзес. зямлі. На гэты час у фальварку Капылы — 704 дзес. зямлі, у вёсцы 50 двароў (з іх 29 адбывалі павіннасці ў фальварку Капылы, астатнія ў фальварку Каралін), 353 рэвізскія душы. Дзейнічала карчма. У 2-й пал. 19 ст. вёска і маёнтак у Вярховіцкай вол. тых жа павета і губерні. У 1890 г. маёнтак належаў Феліксу Пуслоўскаму, каля 1165 дзес. зямлі, у вёсцы — 679 дзес. У 1905 г. ў вёсцы 653 жыхары. У 1921—39 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 52 двары, 283 жыхары. У снеж. 1939 г. ў былым маёнтку арганізаваны калгас «Прагрэс». З 12.10.1940 г. вёска ў Вярховіцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 16 жыхароў вёскі. У 1960 г. ў вёсцы 772 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, уваходзіла ў склад калгаса «Расія».

У складзе ААТ «Каралін». Магазін.

**КАРАЛІН** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Камянца, 47 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Вярховічы. 110 гаспадарак, 301 жыхар (2005).

У сярэдзіне 19 ст. фальварак Каралін у складзе маёнтка Капылы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыцы К.Пуслоўскай. Паводле інвентара 1845 г. ў фальварку 648 дзес. зямлі, да фальварка адносілася в. Бярозаўка. У 1890 г. ў Вярховіцкай вол., фальварак належаў Ф.Пуслоўскаму, 841 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў фальварку 1 двор, 42 жыхары. У 1905 г. — 30 жыхароў. У 1921—39 гг. ў Польшчы. Фальварак уваходзіў у склад Вярховіцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. — 62 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Вярховіцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 3 жыхары вёскі. У пасляваенныя гады ў былым маёнтку Каралін быў створаны калгас «Перамога» (60 гаспадарак на 1.1.1949). У 1948 г. ў пач. школе — 60 вучняў. У 1960 г. — 61 жыхар. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. ў вёсцы 259 жыхароў, з'ўлялася цэнтрам калгаса «Расія».

Цэнтр ААТ «Каралін». Клуб, б-ка, школа-сад.




**КАШЧЭНІКІ** — вёска ў Войскім с/с, за 18 км на З ад Камянца, 55 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 17 гаспадарак, 35 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Войскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Перкавічы, уласнасць Насаржэўскіх, у 1857 г. — 188 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 70 двароў, 353 жыхары, перасоўная школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, кузня. У 1905 г. — 381 жыхар. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. Уваходзіла ў Войскую, з 1928 г. — у Ратайчыцкую гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 29 двароў, 112 жыхароў. У 1940 г. — 62 двары, 267 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Войскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 10 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў пач. школе 35 вучняў. У 1950 г. дзейнічаў калгас імя Горкага (аб'ядноўваў 47 двароў, 106 жыхароў). З 16.7.1954 г. ў Агародніцкім, з 14.4.1964 г. зноў у Войскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 171 жыхар, у 1970 г. — 120 жыхароў, уваходзіла ў калгас «Беларусь».

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**КЛЕПАЧЫ** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, за 10 км на Пн ад Камянца, 49 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Камянюкі. 25 гаспадарак, 38 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Ямна, які належаў Сасноўскаму; у 1857 г. ў вёсцы 104 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 21 двор, 173 жыхары, у складзе Кляпацкай сельскай грамады, якой належала больш за 340 дзес. зямлі. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У 1923 г. вёска (18 двароў, 127 жыхароў) і аднайменны фальварак (9 двароў, 49 жыхароў) у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. — вёска (36 двароў, 200 жыхароў) і хутар (3 двары, 16 жыхароў). З 12.10.1940 г. ў Навіцкавіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты расстралялі тут 12 раённых актывістаў, сярод іх нам. старшыні райвыканкома, былы сакратар Камянецкага падп. райкома КПЗБ К.К.Кузько. Пахаваны за 2 км на ПдЗ ад вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Рассвет», з вер. 1950 г. ў калгасе «Бальшавік». Дзейнічала пач. школа (у 1948 — 99 вучняў). З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 238 жыхароў, у 1970 г. — 190 жыхароў.

У складзе ААТ «Новы шлях».

**КОЛАДНА** — вёска ў Агародніцкім с/с, за 45 км на ПдЗ ад Камянца, 40 км ад Брэста, за 6 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Воўчын. 33 гаспадаркі, 72 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., дзярж. уласнасць, у 1857 г. — 137 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 30 двароў, 193 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 229 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 12 двароў, 53 жыхары. У 1940 г. — 170 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Баршчэўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 13 жыхароў вёскі. У канцы 1940-х г. арганізаваны калгас імя С.Лазо, у 1950 г. аб'ядноўваў 25 двароў, 109 жыхароў. З 1952 г. ў калгасе «Бальшавік» (14.12.1962 перайменаваны ў калгас «Дружба»). У 1960 г. ў вёсцы 141 жыхар. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 129 жыхароў.

У складзе ААТ «Александрыя-Агра». У ваколіцах вёскі захаваўся археал. помнік — стаянка эпохі мезаліту (выяўлена ў 1926).



**КРУГЕЛЬ** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Камянца, 33 км ад Брэста, за 19 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Ратайчыцы. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

Згадваецца ў 2-й пал. 15 ст. як сяло ў Камянецкай вол. Берасцейскага пав. ВКЛ, кароль Казімір запісаў сяло Дашку Барубічу. У 1567 г. з маёнтка Кругель выстаўляліся коні і зброя для войска. У сярэдзіне 19 ст. сяло, былое шляхецкае ўладанне ў Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Кругель памешчыка Падгурскага. У 1857 г. ў вёсцы 90 рэвізскіх душ. У 1885 г. — 12 двароў, 120 жыхароў, праваслаўная царква, карчма. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 17 двароў, 126 жыхароў, царква, карчма, хлебазапасны магазін. У складзе Кругельскай сельскай грамады. Царкве належала каля 50 дзес. зямлі. Непадалёк знаходзіўся аднайменны маёнтак двараніна Браніслава Падгурскага, які валодаў 505 дзес. ворыўнай зямлі, у маёнтку працаваў паравы млын. У чэрв. 1906 г. сяляне маёнтка арганізавалі с.-г. стачку. У 1905 г. ў сяле 156 жыхароў, нар. вучылішча (73 вучні). У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. вёска (17 двароў, 95 жыхароў) і фальварак (1 двор, 27 жыхароў). У 1940 г. — 27 двароў, 180 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 8 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў сярэдняй школе 297 вучняў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Маяк», з 1950 г. ў калгасе імя Сталіна (з 1961 калгас «Радзіма»). У 1960 г. ў вёсцы 174 жыхары.

У складзе ААТ «Агра-Турна». Вёска — радзіма бел. пісьменніка У.В.Гніламёдава і воіна-інтэрнацыяналіста В.М.Дудара, які загінуў у Афганістане.

**КРЫНКІ** — вёска ў Воўчынскім с/с, на правым беразе р. Заходні Буг, за 59 км на ПдЗ ад Камянца, 51 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Воўчын. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У 2-й пав. 19 ст. сяло Крынкі ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. адносілася да маёнтка Ставы, 107 рэвізскіх душ, уласнасць графіні Красінскай. У 1885 г. ў сяле 15 двароў, 120 жыхароў, царква, школа. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 21 двор, 139 жыхароў, праваслаўная царква, нар. вучылішча. Побач знаходзіліся аднайменны дзярж. маёнтак, 2 двары, 5 жыхароў, і сядзіба царк. прычту, 2 двары, 13 жыхароў. На 1905 г. ў сяле 188 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1940 г. — 196 жыхароў, каап. крама. З 12.10.1940 г. вёска ў Навасёлкаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 3 жыхары вёскі. У час пасляваеннай калектывізацыі ў вёсцы арганізаваны калгас «Чырвоны араты». З 12.1.1952 г. ў складзе калгаса «Усход». З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. — 81 жыхар. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 58 жыхароў.

У складзе ААТ «Усход—Камянец». За 3 км на ПнУ ад вёскі брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі 22.6.1941 г.

**КРЫЎЛЯНЫ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 11 км на У ад Камянца, 50 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Кобрын. 26 гаспадарак, 46 жыхароў (2005).

У 1857 г. ў складзе маёнтка Чамяры, уласнасць графа Грабоўскага, 189 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст. вёска ў Дварцоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. цэнтр Крыўлянскай сельскай грамады, 58 двароў, 423 жыхары, 4 ветраныя млыны, 2 кузні. На 1905 г. — 389 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Дварцоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 31 двор, 150 жыхароў. У 1940 г. — 72 двары, 320 жыхароў. 12.3.1940 г. ў вёсцы арганізаваны першы на Камянеччыне

калгас імя Варашылава, які аб'яднаў 38 гаспадарак. Яму былі перададзены землі Рэчыцкай царквы. З 12.10.1940 г. вёска ў Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. захопнікі загубілі 4 жыхароў вёскі. На франтах загінулі 13 вяскоўцаў. Вызвалены 18.7.1944 г. воінамі 148-га гв. стралк. палка 50-й гв. дывізіі. З 21.3.1951 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях», які ў 1963 г. быў перайменаваны ў «Світанне» (з цэнтрам у в. Рэчыца). У 1948 г. ў пач. школе 72 вучні. У 1960 г. — 212 жыхароў, у 1970 г. — 151 жыхар.

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**КУКАЛЬЧЫЦЫ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 16 км на У ад Камянца, 54 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 173 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 23 двары, 65 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска (на той час 32 двары, 163 жыхары) у Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі 4 жыхароў вёскі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, з 21.3.1951 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (у 1963 перайменаваны ў калгас «Світанне»). У 1950 г. — 34 двары, 130 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 125 жыхароў, у 1970 г. — 90 жыхароў.

У складзе СВК «Кансуэла».

**КУНАХОВІЧЫ** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Камянца, 41 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Вярховічы—Пагранічная. 45 гаспадарак, 101 жыхар (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Адносілася да фальварка Каралін маёнтка Капылы, уладанне К.Пуслоўскай. Паводле інвентара маёнтка за 1845 г. ў вёсцы 26 двароў, 189 рэвізскіх душ, 182 дзес. ворыўнай зямлі, 67 дзес. лугу. З 1860-х г. у Вярховіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Кунаховіцкай сельскай грамады, 38 двароў, 266 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 281 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 32 двары, 144 жыхары. У 1940 г. — хутары Кунаховічы, 45 двароў, 210 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Вярховіцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 13 вяскоўцаў. У 1950 г. арганізаваны калгас «Ударнік», пазней вёска ў калгасе «Расія». У 1960 г. — 182 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 207 жыхароў, у калгасе «Расія».

У складзе СВК «Агра-Ніва».

**КУСЦІЧЫ** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 22 км а ПдЗ ад Камянца, 28 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 32 гаспадаркі, 68 жыхароў (2005).

У ваколіцах вёскі захаваўся курганны могільнік, выяўлены ў 1937 г. Даследаванні 9 курганоў устанавілі, што археалагічны помнік датуецца 11—12 ст. Належаў дрыгавічам. У 2-й пал. 15 ст. сяльцо ў Берасцейскім пав. ВКЛ. У 1-й пал. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Адносілася да фальварка Горкі маёнтка Трасцяніца, уладанне графіні Патоцкай (па мужу Мастоўскай), пазней яе дачкі Юзэфы Муханавай. Паводле інвентара 1845 г. ў вёсцы 33 двары, 192 сял. душы, больш за 360 дзес. сельгасугоддзяў. Паводле перапісу 1897 г. ў Ратайчыцкай вол., у складзе Кусцічскай сельскай грамады, 53 двары, 412 жыхароў, школа граматы, ветраны млын, кузня. У 1905 г. ў вёсцы 440 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 43 двары, 222 жыхары. У 1940 г.



ў вёсцы 95 двароў, 485 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Баршчэўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 10 жыхароў вёскі. У 1940 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка», з 1950 г. ў калгасе імя Будзённага, дзейнічала пач. школа. З 16.7.1954 г. ў складзе Ратайчыцкага с/с. У 1960 г. ў вёсцы 325 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 197 жыхароў, у калгасе «Радзіма».

У складзе ААТ «Белавежскі». Магазін.

**ЛАВЫ** — хутар, да 1997 г. ў Камянюцкім с/с. У 1940 г. — хутар, 11 двароў, 30 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Падбельскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі хутар. Пасля вайны адбудаваны, з 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім, з 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с, знаходзіўся ў межах запаведніка «Белавежская пушча».

**ЛАХАВІЧЫ** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Камянца, 51 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пашукі. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. вёска ў Навіцкавіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах прапалі без вестак 2 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 65 жыхароў. З 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім с/с. У 1970 г. — 55 жыхароў.

У складзе ААТ «Новы шлях».

**ЛАШЭВІЧЫ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 7,5 км на Пд ад Камянца, 32 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Брэст. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Турнаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Відамлянскай сельскай грамады, 12 двароў, 93 жыхары. У 1905 г. — 118 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, уваходзіла ў Турнаўскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. — вёска, 12 двароў, 71 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 жыхар вёскі. У 1960 г. — 52 жыхары, у 1970 г. — 26 жыхароў.

**ЛЕШАНКА** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 16 км на Пд ад Камянца, 27 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Камянец. 21 гаспадарка, 38 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Турнаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) — 124 рэвізскія душы, вёска ў складзе маёнтка Чэнаўчыцы, уласнасць Грабоўскіх. Лешнянская сельская грамада ў 1890 г. мела 296 дзес. зямельных угоддзяў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 31 двор, 237 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 273 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Турнаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 38 двароў, 195 жыхароў. У 1940 г. — вёска, 52 двары, 190 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Турнаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 жыхары вёскі. У 1948 г. ў пач. школе 58 вучняў. У 1950 г. дзейнічаў калгас «Запаветы Ільіча», які аб'ядноўваў 53 двары, 256 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Відамлянскім с/с. З 1956 г. ў калгасе «Перамога». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 196 жыхароў, у 1970 г. — 130 жыхароў.

У складзе ААТ «Агра-Турна».

**ЛЕШНЯ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Камянца, 27 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны. 34 гаспадаркі, 72 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. — пач. 20 ст. вёска ў Турнаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) вёска ў складзе маёнтка Дзяменічы, уласнасць Баяроўскай, 174 рэвізскія душы. Лешнянская сельская грамада ў 1890 г. мела 372 дзес. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 46 двароў, 310 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Турнаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 46 двароў, 242 жыхары. У 1940 г. — вёска, 63 двары, 309 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. ў Турнаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. ў Вораўскім лесе непадалёк ад вёскі ням.-фаш. акупанты расстралялі 18 жыхароў яўр. нацыянальнасці. На фронце загінуў 1 вясковец. У 1948 г. ў пач. школе 65 вучняў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Ракасоўскага. З 16.7.1954 г. ў складзе Відамлянскага с/с, з 1956 г. ў калгасе «Перамога». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 219 жыхароў, у 1970 г. — 171 жыхар.

У складзе ААТ «Агра-Турна». Магазін.

**ЛІПНА** — вёска ў Войскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Камянца, 51 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Ратайчыцы. 55 гаспадарак, 116 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., дзярж. ўласнасць, у 1857 г. — 259 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. вёска Ліпна, 54 двары, 389 жыхароў, і выселак Ліпна, 2 двары, 14 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 453 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 47 двароў, 193 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1944 г. было спалена карнікамі 66 двароў. На франтах загінулі 11 вяскоўцаў. У 1948 г. ў пач. школе 49 вучняў. У 1950 г. працаваў калгас «Новае жыццё», які аб'ядноўваў 68 двароў, 274 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. — 294 жыхары. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім, з 19.5.1986 г. ў Войскім с/с. Уваходзіла ў калгас імя Леніна.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Магазін. Радзіма бел. жывапісца В.М.Сабалеўскага.

**ЛІСОЎЧЫЦЫ** — вёска ў Войскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Камянца, 58 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Капылы. 95 двароў, 174 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з канца 16 ст. Уваходзіла ў склад Берасцейскага пав. і ваяводства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. сяло маёнтка Целяцічкага, у 1857 г. налічвалася 196 рэвізскіх душ. З 1860-х г. ў Войскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1885 г. сяло Лісоўчыцы (або Баканцы), 30 двароў, 289 жыхароў, царква. Непадалёк знаходзіўся маёнтак Лісоўчыцы, уласнасць памешчыц Стрэжамінскай і Тамашэнскай, 97 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 48 двароў, 287 жыхароў, праваслаўная царква, школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, 2 кузні, карчма; у маёнтку 3 двары, 75 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 334 жыхары, у маёнтку 10 жыхароў, цагельны з-д. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Войскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы і аднайменным фальварку 3 двары, 17 жыхароў. У 1940 г. — вёска, 270 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Войскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну 10.10.1942 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі 8 вясковых актывістаў, арганізатараў калгаса «Новае жыццё». 6 жыхароў былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію. На франтах загінулі і прапалі без вестак 14 вяскоўцаў. У пасляваенныя гады дзейнічала пач. школа, 102 вучні ў 1948 г. З 16.7.1954 г. ў Агароднікскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 281 жыхар. З 14.4.1964 г. зноў у Войскім с/с. У



1970 г. — 249 жыхароў, у калгасе «Беларусь».

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Дом сац. паслуг, б-ка, магазін. Царква Іаана Хрысціцеля (19 ст.). Помнік на магіле калгасных актывістаў. Археал. помнікі — курганныя могільнікі, датуюцца 11 ст.

**ЛУМНА** — вёска ў Расненскім с/с, за 40 км на З ад Камянца, 46 км ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Высока—Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарогах праз г. Высокае. 44 гаспадаркі, 148 жыхароў (2005).

У 1-й пал. 17 ст. вёска ў Берасцейскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Войнаў. У 1747 г. Андрэй Война прадаў вёску разам з г. Высокае і суседнімі вёскамі віцебскаму ваяводу Паўлу Сапегу. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі. У 1-й пал. 19 ст. ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., вёска і хутар у складзе аднайменнага маёнтка, уласнасць памешчыка К.І.Высоцкага. Паводле інвентара маёнтка за 1847 г. ў вёсцы 37 двароў, 343 сял. душы, больш за 342 дзес. зямлі. У маёнтку 14 дваровых людзей. У вёсцы дзейнічалі карчма, вінакурня. Сяляне адбывалі штотыднёвы і гадавы прыгон. З 2-й пал. 19 ст. ў Палавецкай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 59 двароў, 356 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма, ветраны млын, кузня. У 1905 г. ў вёсцы 355 жыхароў, у маёнтку (уласнасць Лізаветы Вендлянд, жонкі ген.-лейтэнанта) — 52 жыхары, цагельны з-д, 646,5 дзес. ворыўнай зямлі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Палавецкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 52 двары, 241 жыхар, у фальварку — 7 двароў, 76 жыхароў. З 1928 г. працавалі млын і лесапільны завод. У 1940 г. ў вёсцы 73 двары, 368 жыхароў, у былым маёнтку — 19 двароў, 87 жыхароў. 28.2.1940 г. тут быў арганізаваны калгас «17 верасня». З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Лумненскага с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. На тэр. сельсавета працавалі 4 пач. школы, лесапільны з-д, паравы млын. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 12 жыхароў. З 16.8.1945 г. (у сувязі з тым, што значная часта тэр. сельсавета была перададзена Польшчы) вёска ў складзе Ваўкавіцкага с/с. Працавала 7-гадовая школа (у 1948 — 130 вучняў). З 16.7.1954 г. ў Расненскім с/с, з 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З ліп. 1959 г. ў калгасе «Савецкая Беларусь». У 1960 г. ў вёсцы 421 жыхар, у 1970 г. — 379 жыхароў.

У складзе СВК «Савецкая Беларусь». Фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ЛУСКАЛЫ** — вёска ў Войскім с/с, за 13 км на З ад Камянца, 52 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 11 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

Паводле інвентара 1845 г. вёска ў складзе маёнтка Бучамля, які належаў памешчыку У.Быльчынскаму. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы было 80 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст. вёска ў Войскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Лускалыўская сельская грамада ў 1890 г. мела 217 дзес. зямельных угоддзяў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 22 двары, 158 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветраны млын, 2 кузні. У 1905 г. — 245 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы, уваходзіла ў Войскую, з 1928 г. ў Ратайчыцкую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 12 жылых і 4 нежылыя двары, 79 жыхароў. У 1940 г. — вёска, 32 двары, 162 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Войскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Зорка». У 1950 г. ў вёсцы 28 гаспадарак, 117 жыхароў. З 16.7.1954 г. ў Агароднікім, з 14.4.1964 г. зноў у Войскім с/с. У 1970 г. — 91 жыхар, у калгасе «Беларусь».

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**ЛЮБАШКІ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Камянца, 52 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя

сувязі па аўтадарозе Камянец—Каленкавічы. 32 гаспадаркі, 46 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. сяло ў Войскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) — 277 рэвізскіх душ, дзярж. уласнасць. Любашкаўская сельская грамада ў 1890 г. мела 622 дзес. ворыўнай зямлі, царкве належалі 42 дзес. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 58 двароў, 453 жыхары, хлебазапасны магазін, 5 ветраных млыноў, 2 кузні, царква. У 1905 г. — 519 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў Польшчы, уваходзіла ў склад Войскай, з 3.3.1928 г. Дзмітравіцкай гмін Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 51 гаспадарка, 271 жыхар. У 1940 г. ў вёсцы, 87 двароў, 425 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Агародніцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі ў Клепачоўскім лесе 6 жыхароў вёскі, сярод іх 3 дэпутатаў сельсавета. За гады вайны на франтах загінулі і прапалі без вестак 18 вяскоўцаў. У 1948 г. ў пач. школе 48 вучняў. 30.8.1949 г. арганізаваны калгас «Ленінскі камсамол», з 20.3.1951 г. вёска ў калгасе «Новы шлях». У 1960 г. ў вёсцы 318 жыхароў. З 10.3.1962 г. ў саўгасе «Белавежскі» (з 1982 — «Першамайскі»). З 14.4.1964 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1970 г. — 213 жыхароў.

У складзе СВК «Хадасы». У наваколлі вёскі ва ўрочышчы Курганы захаваўся курганны могільнік 11—12 ст.

**ЛЯСКІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Камянца, 55 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Дварцы. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. ў складзе маёнтка Турна графа Грабоўскага, у 1857 г. — 151 рэвізская душа. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Дварцоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 36 двароў, 257 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня, ветраны млын, Лясковская сял. грамада, мела 112 дзес. ворыўнай зямлі. У 1905 г. — 266 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дварцоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 32 двары, 172 жыхары. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. З 15.1.1940 г. ў Камянецкім р-не Брэсцкай вобл., у вёсцы 45 двароў, 287 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Дварцоўскім с/с. На 1.5.1941 г. ў вёсцы 54 двары, 256 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 4.5.1943 г. ням.-фаш. захопнікі спалілі вёску, загубілі 216 жыхароў. У вёсцы базіраваўся штаб партыз. атрада імя Чкалава брыгады «Савецкая Беларусь». Пасля вайны Ляскі аднавіліся. З 16.7.1954 г. ў складзе Рэчыцкага с/с. У 1960 г. ў вёсцы 68 жыхароў, у 1970 г. — 36 жыхароў, у калгасе імя Кірава. У 1980 г. ў калгасе «Светлы шлях».

У складзе СВК «Кансуэла». На паўн. ускраіне вёскі брацкая магіла ахвяр фашызму.

**ЛЯСОК** — вёска ў Раснянскім с/с, за 35 км на З ад Камянца, 56 км ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Кунаховічы. 39 гаспадарак, 85 жыхароў (2005).

У 1-й пал. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 8-й рэвізіі (1833) і інвентароў 1844—46 гг. у вёсцы — 8 двароў, 64 рэвізскія душы маёнтка Ваўковічы Андрэя Тэрнера, дзейнічала карчма; 10 двароў, 77 рэвізскіх душ маёнтка Ваўковічы Франца Корна (памешчыку належалі 93 дзес., сялянам — 107 дзес. зямлі). З 1860-х г. у Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 36 двароў, 286 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 6 гаспадарак, 74 жыхары. У 1940 г. — 58 двароў, 285 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Раснянскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 9 вяскоўцаў. У 1948 г. арганізаваны калгас «30 год ВЛКСМ», дзейнічала пач. школа (46 вучняў). З 1952 г. вёска ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь». Паводле перапісу



1959 г. ў вёсцы 176 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 166 жыхароў.

У складзе СВК «Савецкая Беларусь».

**ЛЯЦКІЯ** — хутар у Камянюцкім с/с, за 22 км на Пн ад Камянца, 60 км ад Брэста, 48 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарогах Камянюкі—Брэст і Віскулі—Пружаны. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

Згадваецца як урочышча Ляцкія пры апісанні межаў Белавежскай пушчы ў ВКЛ. У канцы 19 — пач. 20 ст. ўрочышча ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 14 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. З 12.10.1940 г. ў Падбельскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 жыхары. З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім, з 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. — 12 жыхароў, у 1970 г. — 33 жыхары. У межах Нац. парку «Белавежская пушча». Лясніцтва, магазін.

**МАКАВІШЧА** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 15 км на Пн ад Камянца, 52 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Камянец—Камянюкі. 21 двор, 30 жыхароў (2005).

Паводле 10-й рэвізіі (1857) вёска ў складзе маёнтка Пашукі, уладанне Насаржэўскіх. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У лютым 1863 г. сяляне Макавішча разам з сялянамі іншых вёсак адмовіліся выконваць павіннасць у маёнтку адстаўнога падпалкоўніка Насаржэўскага. Макавішчанская сельская грамада ў 1890 г. мела 278 дзес. сядзібнай і 89 ворыўнай зямлі, 50 дзес. лесу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 33 двары, 224 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 47 двароў, 220 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 28 двароў, 129 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы, 41 двор, 231 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 2 жыхары вёскі. У 1948 г. ў пач. школе 52 вучні. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 172 жыхары, у 1970 г. — 173 жыхары, у саўгасе імя Дзімітрава.

У складзе СВК «Хадасы».

**МАКАРАВА** — вёска ў Агароднiцкім с/с, за 42 км на З ад Камянца, 45 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Такары. 151 гаспадарка, 396 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Высока-Літоўск, уласнасць памешчыка К.Сапегі, пазней належала Патоцкім. Паводле інвентара 1845 г. ў вёсцы 34 двары, 242 жыхары, карчма. У 2-й пал. 19 ст. ў Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. У 1857 г. — 302 рэвізскія душы. У 1890 г. Макараўская сельская грамада мела 319 дзес. ворыўнай і сядзібнай зямлі, 59 дзес. лугу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 67 двароў, 381 жыхар, хлебазапасны магазін, пры карчме 1 двор, 6 жыхароў. У 1905 г. — 413 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 28 жылых і 7 нежылых двароў, 262 жыхары. У вёсцы дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ (кіраўнік М.М.Казусік). У 1940 г. ў вёсцы 78 двароў, 297 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Агароднiцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 10 вяскоўцаў. У 1948 г. ў пач. школе было 47 вучняў. У кастр. 1950 г. арганізаваны калгас «Партызан Беларусі» (аб'яднаў 172 вяскоўцы), з 25.12.1951 г. цэнтр калгаса «Савецкі пагранічнік». У 1960 г. ў вёсцы 398 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 399 жыхароў.

Цэнтр ААТ «Макарава-Агра». Пач. школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі.

**МАНЧАКІ** — вёска ў Белавежскім с/с, за 20 км на З ад Камянца, 54 км ад

Брэста, 11 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Войская—Белавежскі. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Перкавічы, уладанне Насаржэўскіх, затым Івановых. У 1857 г. ў вёсцы 173 рэвізскія душы. У канцы 19 ст. вёска ў Войскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Манчакоўскай сельскай грамадзе, 53 двары, 295 жыхароў, ветраны млын. У 1905 г. ў вёсцы 296 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Войскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 43 двары ,159 жыхароў. У 1940 г. — вёска, 53 двары, 279 жыхароў, каап. крама. З 12.10.1940 г. ў Раснянскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 8 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў пач. школе — 44 вучні. У 1949 г. арганізаваны калгас імя А.Матросава. З 16.7.1954 г. ў Вярховіцкім с/с. З 1958 г. ў складзе калгаса «Расія». У 1960 г. — 188 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 113 жыхароў. З 7.9.2006 г. ў Белавежскім с/с.

У складзе ААТ «Каралін».

**МАРТЫНЮКІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 5 км на ПнУ ад Камянца, 44 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па шашы Камянец—Кобрын і па іншых напрамках праз Камянец. 68 гаспадарак, 174 жыхары (2005).

У пач. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка ген. Гальберга. У 1818—20 гг. тут адбываліся антыпрыгонніцкія сял. хваляванні. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Камянец-Літоўскі, уласнасць памешчыка А.Насаржэўскага. Паводле інвентара 1846 г. ў вёсцы 10 двароў, 46 жыхароў, 26 дзес. ворыўнай зямлі. У 1857 г. ў вёсцы 85 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст. ў Камянец-Літоўскай вол. і Мартынюцкай сельскай грамадзе. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 124 жыхары, хлебазапасны магазін. На 1905 г. — 250 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 16 двароў, 80 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 25 двароў, 140 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 жыхар вёскі. У 1948 г. радыёфікавана. У 1950 г. дзейнічаў калгас «Іскра» (аб'ядноўваў 35 двароў, 129 жыхароў). З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 178 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 157 жыхароў, у калгасе імя Кірава. З 19.5.1986 г. ў Рэчыцкім с/с.

Цэнтр СВК «Кансуэла». Школа-сад, Дом культуры, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**МАРТЫНЮКІ** — вёска, да 1977 г. ў Вярховіцкім с/с.

**МАЧУЛІШЧА** — вёска ў Агароднікцкім с/с, за 48 км на З ад Камянца, 46 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Кастары. 65 гаспадарак, 127 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Дзярж. уласнасць, у 1857 г. — 326 рэвізскіх душ. У 1886 г. вёска, 57 двароў, 198 жыхароў, цагельны з-д, карчма. У 1890 г. Мачулішчанская сельская грамада валодала 977 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Мачулішча (Пужыгі) 73 двары, 509 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 538 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Воўчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 58 двароў, 284 жыхары. У чэрв. 1932 г. жыхары вёсак Мачулішча і Залессе адмовіліся выконваць дарожныя павіннасці, выступілі супраць улад гміны. У выніку былі арыштаваны 28 чалавек. У 1940 г. ў вёсцы 182 двары, 1069 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў складзе Такарскага с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 16 жыхароў вёскі. З 16.8.1945 г. ў Воўчынскім с/с.



У канцы 1940-х г. вяскоўцы арганізаваліся ў калгас імя Чапаева. З 16.7.1954 г. ў Агародніцкім с/с. З ліп. 1959 г. ў калгасе «Савецкі Пагранічнік». У 1960 г. ў вёсцы 431 жыхар. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 337 жыхароў.

У складзе ААТ «Макарава». Дзейнічае фельч.-акушэрскі пункт.

**МАЧУЛЬСКІЯ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Камянца, 57 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пашукі. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. ў Дварцоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Дварцоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. ў вёсцы 9 двароў, 29 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Дварцоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 17 жыхароў, у 1970 г. — 16 жыхароў, у складзе калгаса «Светлы шлях».

У складзе СВК «Кансуэла».

**МЕЛЬНІКІ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 56 км на З ад Камянца, 42 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Кастары. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 8-й рэвізіі (1833) вёска ў складзе маёнтка Грымяча, 8 двароў, 59 рэвізскіх душ, вадзяны млын. У 1857 г. адносілася да маёнтка Ставы, уласнасць графіні Красінскай. У канцы 19 ст. ў Воўчынскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсы 14 двароў, 101 жыхар. На 1905 г. — 85 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. ў вёсцы 61 двор, 267 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Стаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 5 вяскоўцаў. У час пасляваеннай калектывізацыі ў вёсцы быў арганізаваны калгас, з 1950 г. ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Свярдлова. З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 57 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 41 жыхар.

У складзе СВК «Стаўскі».

**МЕЛЬНІКІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 13 км на У ад Камянца, 52 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Кобрын. 7 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 116 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 18 двароў, 64 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 24 двары, 129 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 6 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 99 жыхароў. У 1970 г. — 63 жыхары, у калгасе «Світанне».

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**МІКАЛАЕВА** — вёска ў Войскім с/с, за 5 км на З ад Камянца, 44 км ад Брэста, 43 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Баршчэва—Высокае. 117 гаспадарак, 289 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. сяло ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., дзярж. ўласнасць, у 1857 г. — 98 рэвізскіх душ. У 1885 г. ў сяле 27 двароў, 191 жыхар, царква, школа, карчма. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Мікалаеўскай сельскай грамады, 36 двароў, 248 жыхароў, Веліка-Ельнянская царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, цагельня, карчма. У 1905 г. — 281 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 45 гаспадарак, 246 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 54 двары, 280 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. цэнтр Мікалаеўскага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. Плошча тэр. сельсавета складала 45 км², уваходзілі 13 паселішчаў (460 двароў, 2206 жыхароў),

*Мікалаеўская царква (2-я пал.19 ст.) у в. Мікалаева.*



дзейнічалі 2 цагельныя з-ды, 2 ветраныя млыны, 3 пач. школы. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 вяскоўцаў. У 1950 г. — 67 двароў, 256 жыхароў, пач. школа (у 1948 — 32 вучні), калгас імя Гуляева, пазней вёска у калгасе імя Леніна. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. — 274 жыхары. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 255 жыхароў, у калгасе імя Леніна. З 19.5.1986 г. ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Базавая школа, клуб, амбулаторыя, аддз. сувязі, 2 магазіны, помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну, царква.

**МІНЕВІЧЫ** — вёска ў Белавежскім с/с, за 20 км на З ад Камянца, 50 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. Пазначана пад 1567 г. ў метрыцы Жыгімонта Аўгуста як маёнтак. У 1-й пал. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Капылы, уласнасць Пуслоўскіх. Паводле інвентара 1845 г. належала Караліне Пуслоўскай, у вёсцы было 11 двароў, 75 жыхароў, 110 дзес. ворыўнай зямлі. У 1857 г. — 77 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Міневіцкай сельскай грамады Вярховіцкай вол., 16 двароў, 133 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 134 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 6 двароў, 17 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 26 двароў, 145 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Раснянскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1948 г. ў пач. школе 24 вучні. У 1949 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас (аб'яднаў 24 гаспадаркі). З 16.7.1954 г. ў Вярховіцкім с/с. З 1958 г. ў калгасе «Расія». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 91 жыхар. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 59 жыхароў. З 18.8.1986 г. ў Белавежскім с/с.

У складзе ААТ «Белавежскі».

**МІНКАВІЧЫ** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Камянца, 31 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Баршчэва—Высокае. 37 гаспадарак, 63 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома як маёнтак у 1631 г. ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., з 1860-х г. ў Ратайчыцкай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 68 двароў, 441 жыхар, хлебазапасны магазін, кузня, 2 ветраныя млыны. У 1905 г. — 508 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. ў вёсцы і фальварку 23 двары, 123 жыхары. З 15.1.1940 г. ў Высокаўскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Баршчэўскім с/с. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не.

У складзе ААТ «Белавежскі». Аддз. сувязі, магазін, школа, клуб, бібліятэка.

**МЛЫНЫ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Камянца, 32 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны. 18 гаспадарак, 34 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Трасцяніца, улас-



насць баронаў Марэнгеймаў, у 1857 г. — 62 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 94 жыхары, хлебазапасны магазін, вадзяны млын. Побач знаходзіліся аднайменныя ўрочышча і сядзіба барона Корфа. У 1905 г. ў вёсцы 120 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 8 двароў, 41 жыхар. У 1940 г. ў вёсцы 25 двароў, 125 жыхароў. З 12.10. 1940 г. ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 3 вяскоўцы. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, у ім аб'ядналіся 19 гаспадарак. У 1950 г. — 24 гаспадаркі, 67 жыхароў. У 1960 г. — 102 жыхары. З 1961 г. ў калгасе «Радзіма» (цэнтр — в. Ратайчыцы). У 1970 г. — 82 жыхары. З 7.9.2006 г. ў Відамлянскім с/с.

У складзе ААТ «Відамлянскае».

**МУРАЎЧЫЦЫ** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Камянца, 32 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Баршчэва—Высокае. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Шастакова. У 1857 г. — 118 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 36 двароў, 207 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 224 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 10 двароў, 63 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 39 двароў, 200 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Баршчэўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 10 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Хрушчова. У 1960 г. ў вёсцы 118 жыхароў. З 3.7.1972 г. ў Малазводаўскім с/с, уваходзіла ў калгас «Ленінскі шлях». З 18.10.1982 г. ў Ратайчыцкім с/с.

У складзе ААТ «Белавежскі».

**МУРЫНЫ ВЯЛІКІЯ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад Камянца, за 39 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Брэст—Камянюкі. 47 гаспадарак, 87 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска Мурыны і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара 1846 г. ўласнасць памешчыка Станіслава Букрабы, зямельныя ўгоддзі маёнтка займалі 645 дзес. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы 25 двароў, 186 сял. душ. З 1860-х г. ў Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 37 двароў, 254 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 20 двароў, 119 жыхароў. У 1940 г. ў в. Мурыны Вялікія 47 двароў, 266 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў маі—чэрв. 1942 г. ва ўрочышчы Равец побач з вёскай ням.-фаш. захопнікі расстралялі 140 мірных грамадзян яўр. нацыянальнасці. На франтах загінулі і прапалі без вестак 14 вяскоўцаў. У 1948 г. ў пач. школе 68 вучняў. У 1949 г. арганізаваны калгас «30 год БССР». У 1960 г. ў вёсцы 214 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 201 жыхар, у калгасе імя Кірава. З 19.5.1986 г. ў Відамлянскім с/с.

У складзе ААТ «Відамлянскае».

**МУРЫНЫ МАЛЫЯ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Камянца, за 38 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст.



*Мікалаеўская царква (19 ст.) у в. Мурыны Малыя.*

Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Брэст—Камянюкі. 8 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

У канцы 19 ст. вёска Мурыны Малыя ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Мурынскай сельскай грамады, 9 двароў, 57 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 6 двароў, 26 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 13 двароў, 90 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У 1950 г. вёска ў складзе калгаса «30 год БССР». У 1960 г. — 50 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 46 жыхароў, у калгасе імя Кірава. З 19.5.1986 г. ў Відамлянскім с/с.

У складзе ААТ «Відамлянскае».

**МІШАНКІ** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 25 км на Пн ад Камянца, 55 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянюкі—Амелянец. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2005), гл. Гарошкаўка.

У пач. 20 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 72 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Пружанскім пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. ў Бялоўскім с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 22 двары, 94 жыхары. У Вял. Айч. вайну 22.8.1941 г. вёска была поўнасцю спалена ням.-фаш. карнікамі. Вызвалена 17.7.1944 г. З 16.8.1945 г. ў Камянецкім р-не, з 16.7. 1954 г. ў Ражкоўскім, з 17.11.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 54 жыхары. З 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. — 50 жыхароў, уваходзіла ў саўгас імя Дзімітрава. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**МЫКШЫЦЫ** — вёска ў Расненскім с/с, за 35 км на З ад Камянца, за 45 км ад Брэста, 2 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Высокае—Пагранічная. 32 гаспадаркі, 62 жыхары (2005).

У 1-й пал. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Расна памешчыкаў Грабоўскіх. Паводле 10-й рэвізіі (1857) — 154 рэвізскія душы. Мыкшыцкая сельская грамада ў 1890 г. мела ў карыстанні 282 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі, 61 дзес. лугу. Паводле перапісу 1897 г. ў Высока-Літоўскай вол., 67 двароў, 381 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 5 двароў, 45 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Расненскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 15 вяскоўцаў. У канцы 1940-х г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму», з 1952 г. ў калгасе «Савецкая Беларусь». З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 214 жыхароў.

*Ваколіца в. Мурыны Малыя.*





У складзе СВК «Савецкая Беларусь».

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 60 км на ПдЗ ад Камянца, за 51 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Кастары. 200 гаспадарак, 541 жыхар (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. — 487 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Ставы, уласнасць графіні Красінскай. У 1885 г. ў вёсцы 81 двор, 526 жыхароў, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 108 двароў, 690 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай размяшчаўся аднайменны выселак, 2 двары, 16 жыхароў. У 1905 г. — 725 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 117 двароў, 403 жыхары. 1.5.1931 г. ў вёсцы адбылася дэманстрацыя. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Навасёлкаўскага с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 195 двароў, 943 жыхары, цэментны з-д (4 рабочыя), пач. школа, каап. крама. На тэр. сельсавета працавалі 2 пач. школы, паравы млын. Напярэдадні Вял. Айч. вайны тут размяшчалася пагранічная застава. 22.6.1941 г. пагранічнікі трымалі абарону на працягу 14 гадзін, усе загінулі ў няроўным баі. Пахаваны ў брацкай магіле на ўскраіне вёскі. Імя пагранічніка — снайпера І.П.Каліноса носяць мясц. школа і вуліца. На франтах загінулі і прапалі без вестак 30 вяскоўцаў. У гады акупацыі загінулі 8 жыхароў. У канцы 1940-х г. арганізаваны калгас «Змагар», з 12.1.1952 г. вёска — цэнтр калгаса «Усход». У 1948 г. ў 7-гадовай школе было 84 вучні. З 16.7.1954 г. вёска ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. — 587 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 502 жыхары.

Цэнтр ААТ «Усход—Камянец». Базавая школа, Дом культуры, 2 б-кі, дзіцячы сад, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, царква, брацкая магіла сав. воінаў і партызан.

**НАВІЦКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Навіцкавіцкага с/с, за 8 км на ПнУ ад Камянца, за 47 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Пашукі. 158 гаспадарак, 373 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Клюкавічы, уласнасць памешчыка Восіпа Ягалкоўскага. У лютым 1863 г. тут адбываліся сял. хваляванні. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Навіцкавіцкай сельскай грамады, 50 двароў, 366 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач размяшчалася сядзіба Клюкавічы. У 1905 г. ў вёсцы 400 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 55 двароў, 267 жыхароў. Дзейнічаў падп. райком КПЗБ. У 1940 г. ў Навіцкавічах 91 двор, 486 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Навіцкавіцкага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ў гэты час ўваходзілі 18 паселішчаў (11 вёсак і 7 хутароў), 558 двароў з насельніцтвам 2924 чал., працавалі 4 пач. школы, 3 ветраныя млыны, маслазавод. Плошча тэр. сельсавета складала 63 км$^2$. У Вял. Айч. вайну з 22.6.1941 г. да 21.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. карнікі расстралялі 3 мірных жыхароў. У гады вайны на франтах загінулі 24 вяскоўцы. Вызвалена воінамі 50-й гв. стралк. дывізіі. У 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Бальшавік» (33 гаспадаркі на 1.3.1949). У 1950 г. да калгаса былі далучаны суседнія гаспадаркі. Узбуйнены калгас аб'ядноўваў 367 гаспадарак, 10 паляводчых брыгад, меў 5850 га зямлі. Дзейнічала пач. школа (у 1948 — 92 вучні). З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 389 жыхароў. З 15.1.1962 г. зноў цэнтр сельсавета. У 1970 г. — 448 жыхароў, цэнтр калгаса «Бальшавік».

Цэнтр ААТ «Новы шлях». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Помнік

землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Радзіма бел. жывапісца П.В.Зарэцкага.

**НАВІКІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 15 км на У ад Камянца, 54 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 63 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Гарадзечанскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 11 гаспадарак, 47 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 17 двароў, 72 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. захопнікі расстралялі сям'ю Мартынюкоў (4 чал.). На фронце загінулі 2 жыхары вёскі. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас «Чырвоны Бор». Паводле перапісу 1959 г. — 71 жыхар. У 1970 г. — 64 жыхары, у калгасе «Світанне».

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**НАРОЎШЧЫНА** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 15 км на У ад Камянца, 54 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 189 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Гарадзечанскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 19 двароў, 93 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 3 вяскоўцы. У 1950 г. дзейнічаў калгас «17 верасня». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 90 жыхароў. У 1970 г. — 57 жыхароў, у калгасе «Світанне».

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**НОВАЯ РАСНА** — вёска ў Расненскім с/с, за 33 км на З ад Камянца, 54 км ад Брэста, 2,5 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 307 гаспадарак, 853 жыхары (2005).

Назва паселішча паходзіць ад старажытнаславянскага «рясно» — прыгожа, шчодра. Паводле пісьмовых крыніц вядома з сярэдзіны 15 ст. У кнізе рэгістрацыі актаў у канцылярыі ВКЛ было запісана: «Севлашку да Юшку Трацэвічам сяло Расна, што за баярскім было». Не-



*Фёдараўская царква (1997) у в. Новая Расна.*



аднаразова мяняла ўладальнікаў. З 1507 г. «маёнтак Расна з людзьмі» належаў пісару вял. князя Ігнату Мікітавічу. У 1589 г. маёнтак Расна і в. Чапялі належалі Андрэю Войну. У наступныя паўтара стагоддзя Раснай з навакольнымі вёскамі валодалі Войны, Ёдкавічы, Пяткевічы, Хлявіцкія, Сапегі. Пасля Паўн. вайны ў 1722 г. ад Сапегаў Расна перайшла пад залог у 50 тыс. злотых Юрыю Матушэвічу. Выкупіць яе Сапегі не змаглі. У 18 ст. — мястэчка. Тут пражывала значная колькасць гандляроў і рамеснікаў. З 1744 г. дзейнічаў манаскі ордэн марыявітаў. Быў пабудаваны касцёл св. Ганны і кляштар, якому Юрый Матушэвіч падарыў фальварак і в. Забалацце з 13 цяглымі сялянамі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. мястэчка і аднайменны маёнтак у Высока-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., уласнасць Грабоўскіх, у 1857 г. — 289 рэвізскіх душ. У 1868 г. кляштар быў зачынены. У 1885 г. ў мястэчку і маёнтку 46 двароў, 331 жыхар, 2 праваслаўныя царквы, кірха, лютэранская капліца, сінагога, піцейны дом, штогод праводзіліся 2 кірмашы. Паводле перапісу 1897 г. ў мястэчку 12 двароў, 71 жыхар, царква, яўр. малітоўны дом, царк.-прыходская школа, 2 крамы, карчма, штогод праводзіліся 9 кірмашоў; у маёнтку Расна 7 двароў, 74 жыхары, вадзяны млын, кузня. Маёнтак (1650 дзес. зямлі) з фальваркамі Марцэлін і Чарнова належаў графу Карлу Грабоўскаму. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў былым кляштары размяшчалася настаўніцкая семінарыя. У 1905 г. ў мястэчку — 460 жыхароў, у маёнтку — 18 жыхароў. У 1921—39 гг. у Польшчы, у складзе Высока-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў мяст. Расна 53 двары, 275 жыхароў, у хутары Новая Расна (былым маёнтку) — 17 двароў, 93 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Раснянскага с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У вёсцы на гэты час 111 двароў, 583 жыхары, на хутары — 12 двароў, 44 жыхары. На тэр. сельсавета меліся 3 пач. школы, сельпо, 3 магазіны, лясніцтва, царква. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 9 жыхароў вёскі. У 1949 г. ў вёсках Старая і Новая Расна арганізаваны калгасы «Сталінскі шлях» і «Пераможца», якія ў 1952 г. аб'ядналіся ў калгас «Савецкая Беларусь» (старшынёй калгаса шмат гадоў працаваў двойчы Герой Сац. працы У.Л.Бядуля). У 1960 г. ў в. Старая Расна — 309 жыхароў, в. Новая Расна — 126 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У далейшым вёскі зліліся ў адну, цэнтр сельсавета быў перанесены ў в. Абяроўшчына. У 1970 г. — 536 жыхароў.

Цэнтр ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга СВК «Савецкая Беларусь». Сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі. Музей хлеба. Фёдараўская царква, касцёл Св. Ганны (1744).

**ОРЛЯ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 57 км на ПдЗ ад Камянца, 42 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Кастары. 13 гаспадарак, 32 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна 10-й рэвізіі (1857) у складзе маёнтка Ставы графіні Красінскай, 225 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Орлянскай сельскай грамадзе, 42 двары, 305 жыхароў. На 1905 г. ў вёсцы 417 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага вав. У 1923 г. — 17 жылых і 8 нежылых гаспадарак, 136 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 326 жыхароў, пач. школа, каап. крама. З 12.10.1940 г. ў Стаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У чэрв. 1941 г. ў раёне вёскі вялі абарончыя баі воіны 62-га ўмацаванага р-на. На франтах загінулі і прапалі без вестак 10 вяскоўцаў. З 1944 г. дзейнічала пач. школа, у 1948 г. — 19 вучняў. З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 165 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 92 жыхары, у калгасе імя Свярдлова.

У складзе СВК «Стаўскі». Магазін.




**ПАГРАНІЧНАЯ** (да 1964 вёскі Новая Голя і Старая Голя) — вёска ў Расненскім с/с, за 38 км на З ад Камянца, 54 км ад Брэста, за 7 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Брэст—Высокае—Пясчатка (мяжа з Польшчай). 162 гаспадаркі, 447 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска Голя ў Палавецкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. вёска ў маёнтку Полаўцы графа Старжынскага, 267 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 83 двары, 690 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, ветраны млын. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Палавецкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 50 двароў, 245 жыхароў. У 1940 г. ў в. Голя 42 двары, 250 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Гольскага с/с у Высокаўскім р-не Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ўваходзілі 8 вёсак і хутары. На тэр. сельсавета працавалі 5 пач. школ, сяльпо, 4 магазіны, 3 кузні. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 вяскоўцы. 16.8.1945 г. Гольскі с/с быў перададзены Польшчы. Пасля ўдакладнення сав.-польскай граніцы вёска з 8.7.1950 г. ў Ваўковіцкім с/с. У 1949 г. ў вёсцы Голя 1 — 39 двароў, у в. Голя 2 — 74 двары. З 1951 г. ў калгасе імя Калініна, потым імя Леніна. З 16.7.1954 г. ў Расненскім с/с. У 1960 г. вёскі Старая Голя (33 жыхары) і Новая Голя (319 жыхароў). У 1961 г. сюды з в. Сухадол перанесены цэнтр калгаса. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1964 г. вёскі аб'яднаны ў адну пад назвай Пагранічная.

Цэнтр СВК «Полаўцы». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі. Помнік 27 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПАДБЕЛА** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, за 15 км на ПнУ, 54 км ад Брэста, за 43 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Пашукі. 129 гаспадарак, 337 жыхароў (2005).

У 16 ст. маёнтак Падбела ў Брэсцкім пав. ВКЛ. У 1567 г. Рыгор Каліхові́ч ставіў з маёнтка каня для войска. У 1-й пал. 19 ст. 2 аднайменныя вёскі ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Згодна 8-й рэвізіі (1833) вёска ў складзе аднайменнага маёнтка, уладанне Карла Старавольскага, усяго 256 дзес. зямлі, у вёсцы 9 двароў, 60 рэвізскіх душ, 81 дзес. ворыўнай зямлі; аднайменная вёска, уладанне памешчыцы Сузінавай, 17 цяглых двароў, 105 рэвізскіх душ, 12 дваровых душ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) в. Падбела аднайменнага маёнтка памешчыка Старавольскага, 49 рэвізскіх душ; в. Падбела маёнтка Хаманціны памешчыка Цяльшэўскага, 101 рэвізская душа; в. Падбела аднайменнага маёнтка памешчыка Велавейскага, 122 рэвізскія душы. З 1860-х г. у Дзмітравіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. вёскі: Падбела Старавольскага, 8 двароў, 77 жыхароў; Падбела Цяльшэўскага, 21 двор, 138 жыхароў; Падбела Велавейскага, 27 двароў, 230 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. дзейнічала нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсках Падбела 1 — 29 двароў, 171 жыхар, Падбела 2 — 6 двароў, 38 жыхароў, Падбела 3 — 19 двароў, 105 жыхароў, у фальварку Падбела — 17 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Пашукоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. На гэты час у вёсках Падбела 1 — 59 двароў, 278 жыхароў, Падбела 2 — 11 двароў, 57 жыхароў, Падбела 3 — 33 двары, 152 жыхары. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 вяскоўцаў. У 1950 г. жыхары вёсак Падбела 1 і Падбела 2 аб'ядналіся ў калгас «Беларусь». У в. Падбела 3 дзейнічаў калгас імя Заслонава, які ў 1952 г. далучыўся да калгаса «Беларусь». У 1958 г. ў калгасе «Бальшавік». Дзейнічала пач. школа. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсках Падбела 1 — 212 жыхароў, Падбела 2 — 46 жыхароў, Падбела 3 — 141 жыхар. З 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім с/с. З 10.6.1963 г. ў калгасе «Новы шлях». У 1970 г. ў вёсках Падбела 1 — 193 жыхары, Падбела 2 — 52 жыха-



ры, Падбела 3 — 118 жыхароў. У 1972 г. ўсе 3 вёскі аб'ядналіся ў адну.

У складзе ААТ «Новы шлях». Школа-сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПАДБЕЛЬСКІЯ АГАРОДНІКІ** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Камянца, 59 км ад Брэста, 47 км ад чыг ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пашукі. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 300 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1940 г. ў вёсцы 52 двары, 311 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Падбельскага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У склад сельсавета на гэты час уваходзіла 21 паселішча (12 вёсак, 9 хутароў), 205 гаспадарак з насельніцтвам 1333 чал. На тэр. сельсавета працавалі 2 смалакурныя з-ды, 2 пач. школы, лясніцтва. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. вёска была спалена. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. Вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў 17.7.1944 г. У 1950 г. ў вёсцы 126 жыхароў, дзейнічаў калгас «Наватар». З 1954 г. ў калгасе «Беларусь». З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім, з 4.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. — 84 жыхары. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**ПАДБРАДЗЯНЫ 1** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Камянца, 47 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Жабінка. 33 гаспадаркі, 53 жыхары (2005).

З пач. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 8-й рэвізіі (1833) 13 двароў, 94 сял. душы. У 1844 г. ў складзе маёнтка Падбрадзяны, належала памешчыцы Станіславе Букрабе. Зямельныя ўгоддзі маёнтка складалі 549 дзес., з іх 310 дзес. належалі сялянам. У канцы 19 ст. ў Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. Частка вёскі ўваходзіла ў Падбрадзянскую, другая частка ў Чамярскую сельскія грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 42 двары, 265 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма; у аднайменным пасёлку — 1 двор, 13 жыхароў. У 1905 г. — 198 жыхароў. У 1921—39 гг. у Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 40 двароў, 227 жыхароў. У 1940 г. ў в. Падбрадзяны 1 — 43 двары, 165 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Пruскаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну за сувязь з партызанамі акупанты расстралялі 3 вяскоўцаў. На франтах загінулі 9 жыхароў вёсак Падбрадзяны 1 і 2. У 1949 г. арганізаваны калгас «Вялікі Кастрычнік». З 16.7.1954 г. ў Пелішчанскім с/с. З 15.10.1957 г. ў калгасе «40 год Кастрычніка». У 1960 г. — 208 жыхароў, у 1970 г. — 164 жыхары.

У складзе ААТ «Агра-Пелішча».

**ПАДБРАДЗЯНЫ 2** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Камянца, 48 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Жабінка. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. пас. Падбрадзяны ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., 1 двор, 13 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, калонія ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. вёска Падбрадзяны 2, 21 двор, 105 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пелішчанскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 87 жыхароў. У 1970 г. — 77 жыхароў, у калгасе «40 год Кастрычніка».

У складзе ААТ «Агра-Пелішча».

**ПАДБУР'Е** — вёска ў Каленкавіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Камянца, 64 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Вярховічы—Амелянец. 56 гаспадарак, 93 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе фальварка Апака маёнтка Капылы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара маёнтка за 1845 г. ўладанне памешчыцы К.Пуслоўскай, у вёсцы 28 двароў. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 72 рэвізскія душы, дзярж. ўласнасць. У канцы 19 ст. ў Вярховіцкай вол. і ў складзе Падбурскай сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 71 двор, 481 жыхар, хлебазапасны магазін, піцейны дом. На 1905 г. — 490 жыхароў. У сав.-польскую вайну ў 1920 г. вёска была спалена. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 32 двары, 170 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 485 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Амелянецкім с/с Кляшчэльскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 17 вяскоўцаў. У 1942 г. акупанты расстралялі 11 жыхароў вёскі, сярод іх сав. актывістаў. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не. У 1950 г. арганізаваны калгас «Бальшавіцкі сцяг», у гэты час у вёсцы 92 двары, 353 жыхары, пач. школа (у 1948 — 57 вучняў). З 1951 г. ў калгасе «Праўда». У 1960 г. — 398 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 26.7.1968 г. ў Каленкавіцкім с/с. У 1970 г. — 323 жыхары.


*У.Л.Бядуля.*

У складзе ААТ «Каленкавічы». Помнік на брацкай магіле сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г.

**ПАДЛЕССЕ** — хутар, да 1976 г. ў Навіцкавіцкім с/с.

**ПАДОМША** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 14 км на Пн ад Камянца, за 51 км ад Брэста, 39 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Камянюкі. 68 гаспадарак, 143 жыхары (2005).

У 1857 г. ў вёсцы 263 рэвізскія душы, дзярж. ўласнасць. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. Падомшанская сельская грамада, мела каля 670 дзес. зямлі, 50 дзес. лесу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 66 двароў, 465 жыхароў, хлебазапасны магазін, у аднайменным выселку 2 двары, 9 жыхароў. У 1905 г. — 50 гаспадарак, 530 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Дзмітравіцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 61 двор, 298 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 83 двары, 405 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 9 жыхароў вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Стаханавец». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 282 жыхары. У 1970 г. — 312 жыхароў, у саўгасе імя Дзімітрава.

У складзе ААТ «Камянецкая пушча». Радзіма двойчы Героя Сац. Працы У.Л.Бядулі.

**ПАДРАЧАНЫ** — вёска, да 1972 г. ў Камянецкім с/с.

**ПАЛІНАЎКА** — вёска ў Войскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Камянца, за 48 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 30 гаспадарак, 52 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., дзярж. ўласнасць, у 1857 г. — 245 рэвізскіх душ. У 1890 г. Палінаўская сельская грамада мела ў карыстанні каля 600 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 56 двароў, 348 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 387 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 55 гаспадарак, 244 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 78 двароў, 334 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. ням.-фаш. захопнікі за сувязь з партызанамі расстралялі 6 жыхароў вёскі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 14 вяскоўцаў. Працавала пач. школа, у якой у 1948 г. было 36 вучняў. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас «Усход». З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. — 227 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 205 жыхароў. З 19.5.1986 г. ў Войскім с/с.



У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**ПАНАСЮКІ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Камянца, 59 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянюкі —Амелянец. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска, дзярж. уласнасць, у 1857 г. — 135 рэвізскіх душ. У пач. 20 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 230 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 12.10.1940 г. вёска ў Бялоўскім с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі ў вёсцы настаўніка і дэпутата сельсавета, мясц. жыхароў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 9 вяскоўцаў. З 16.8.1945 г. ў Камянецкім р-не. Дзейнічала пач. школа, у 1948 г. ў ёй навучалася 68 дзяцей. З 16.7.1954 г. ў Ражкоўскім с/с, з 17.11. 1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 143 жыхары. У 1970 г. — 92 жыхары, у саўгасе імя Дзімітрава.

У складзе ААТ «Камянецкая пушча».

**ПАНІКВЫ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 57 км на ПдЗ ад Камянца, 50 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Кастары. 91 гаспадарка, 204 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. Пад 1533 г. пазначаны як уладанне Ваганоўскага. У 1631 г. маёнтак Панікі, уласнасць Брэсцкай калегіі іезуітаў. У 1774 г. вёска і фальварак. У 2-й пал. 19 ст. сяло ў Воўчынскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., былое шляхецкае уладанне. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у складзе маёнтка Воўчын памешчыцы Пуслоўскай, 276 рэвізскіх душ. У 1885 г. — 40 двароў, 322 жыхары, драўляная Успенская царква. Паводле перапісу 1897 г. адносіліся да Паніквенскай сельскай грамады, 54 двары, 516 жыхароў, царква, школа граматы. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 73 двары, 311 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 118 двароў, 558 жыхароў, пач. школа.З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 29 жыхароў вёскі. Вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў 28.7.1944 г. У пасляваенныя гады працавалі пач. школа (у 1948 — 45 вучняў), млын. У 1950 г. дзейнічаў калгас «Усход» (260 членаў). З 12.1.1952 г. гаспадарка ўзбуйнілася, адбылося аб'яднанне з суседнімі калгасамі «Пралетарый», «Сталінец», імя Катоўскага, «Чырвоны араты», «Змагар»; цэнтрам калгаса стала в. Навасёлкі. З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 456 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 375 жыхароў, у калгасе «Усход».

У складзе ААТ «Усход—Камянец». Магазін. Свята-Успенская царква — помнік нар. драўлянага дойлідства (сярэдзіна 19 ст.).

**ПАСТУХОВА БАЛОТА** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Камянца, 67 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянюкі—Амялянец. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. ўрочышча Пастухова Балота ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 39 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 12.10.1940 г. ў Бялоўскім с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. У 1941 г. хутар, 10 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну 19.8.1941 г. поўнасцю спалена ням.-фаш. захопнікамі. З 16.8.1945 г. ў Камянецкім р-не, з 16.7.1954 г. ў Ражкоўскім, з 17.11.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. — 19 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. — 13 жыхароў. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**ПАЎЛЮКОЎШЧЫНА** — вёска, да 1997 г. ў Рэчыцкім с/с.

Была вядома ў пач. 20 ст., у Дварцоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Дварцоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. ў Дварцоўскім, з 16.7.1954 г. ўваходзіла ў Рэчыцкі с/с.

**ПАШУКІ** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, за 16 км на Пн ад Камянца, 55 км ад Брэста, 44 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, аўтадарогамі звязана з Камянцом і Камянюкамі. 41 гаспадарка, 85 жыхароў (2005).

Маёнтак Пашукі ўпамінаецца ў 16 ст. ў апісанні каралеўскіх пушчаў у былым ВКЛ. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе фальварка Пашукі маёнтка Камянец-Літоўскі ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыка Антона Насаржэўскага. Згодна 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы 4 двары, 33 рэвізскія душы. У лютым 1863 г. ў маёнтку адбываліся сял. хваляванні. Сяляне навакольных вёсак адмаўляліся выконваць павіннасці. У 1877 г. ў вёсцы пабудавана царква на месцы папярэдняга храма (архітэктар В.Палікарпаў), царкве належалі 91 дзес. зямлі. У прыходзе было 202 двары, 1722 жыхары. У канцы 19 ст. ў складзе Дзмітравіцкай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 8 двароў, 72 жыхары. У 1905 г. ў сяле 110 жыхароў, у маёнтку 8 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 18 двароў, 117 жыхароў. У 1920-я г. тут працаваў лесазавод, які належаў памешчыку Герасімаву. У 1940 г. ў Пашуках 29 двароў, 200 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Пашукоўскага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ўваходзілі 10 паселішчаў (361 двор, 1865 жыхароў), працавалі паравы млын, лесапільны з-д, 5 пач. школ, 2 ветраныя млыны. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. захопнікі загубілі 4 жыхароў вёскі. На франтах загінулі 8 вяскоўцаў. У 1947 г. пабудавана гідраэлектрастанцыя на р. Лясная. У 1948 г. ў пач. школе 23 вучні. У канцы 1940-х г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Рассвет». З 1952 г. ў калгасе «Беларусь». 16.7.1954 г. да сельсавета далучана тэр. скасаванага Навіцкавіцкага с/с. З 1958 г. ў калгасе «Бальшавік», з 10.6.1963 г. цэнтр калгаса «Новы шлях». У 1960 г. ў вёсцы 198 жыхароў. 15.1.1962 г. сельсавет (у сувязі з пераносам цэнтра сельсавета) перайменаваны ў Навіцкавіцкі. У 1970 г. — 135 жыхароў.

У складзе ААТ «Новы шлях». Магазін. Свята-Прачысценская царква.

**ПАШУЦКАЯ БУДА** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 22 км на Пн ад Камянца, 60 км ад Брэста, 50 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пашукі. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 172 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. У кастр. 1932 г. ў вёсцы дзейнічаў забастовачны к-т лесарубаў. У 1940 г. ў вёсцы 30 двароў, 241 жыхар. З 12.10. 1940 г. ў Падбельскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну 2.8.1941 г. вёска была спалена. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў. У 1950-я г. у калгасе «Наватар». Пазней у запаведніку «Белавежская пушча». З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 74 жыхары. З 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. — 66 жыхароў. У межах Нац. парку «Белавежская пушча». Магазін.

**ПЕЛІШЧА** — вёска, цэнтр Пелішчанскага с/с, за 12 км на ПдУ ад Камянца, 41 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Жабінка. 583 гаспадаркі, 1500 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 16 ст. пад назвай Пелішчава ў складзе Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Жыцінскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1885 г. — 70 двароў, 718 жыхароў, школа,





*Касцёл Сэрца Ісуса (1934) у в. Пелішча.*

піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Пелішчанскай сельскай грамады, у вёсцы 109 двароў, 851 жыхар, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейны дом; у аднайменным выселку 5 двароў, 24 жыхары, карчма. У 1905 г. ў вёсцы 1085 жыхароў, у нар. вучылішчы 93 навучэнцы. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жыцінскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 157 двароў, 786 жыхароў. З 1927 г. дзейнічаў механічны млын. У 1934 г. пабудаваны цагляны касцёл Сэрца Ісуса. У 1940 г. ў вёсцы 188 двароў, 950 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ўваходзілі 16 паселішчаў, працавалі калгас, маслазавод, 7-гадовая школа, 3 пач. школы, 3 ветраныя млыны. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 19.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. фашысты расстралялі дырэктара мясц. школы. Вызвалена 19.7.1944 г. воінамі 1-га механізаванага корпуса. У брацкай магіле ў вёсцы пахаваны 8 танкістаў 19-й механізаванай брыгады 28-й арміі, якія загінулі 21.7.1944 г. ў час прарыву варожай абароны каля в. Пелішча. У гонар танкістаў пастаўлены помнік — танк на пастаменце. На франтах загінулі 8 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў 7-гадовай школе 176 вучняў. У сак. 1949 г. арганізаваны калгас імя Будзённага (аб'ядноўваў 128 гаспадарак, меў 113 коней, 3 кузні, млыны і інш.). Гаспадарка некалькі разоў узбуйнялася. З 15.10.1957 г. — цэнтр калгаса «40 год Кастрычніка». У 1960 г. ў вёсцы 917 жыхароў, у 1970 г. — 158 жыхароў.

Цэнтр ААТ «Агра-Пелішча». Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, бальніца, амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, Камянецкі раённы сац. прыют, царква. Касцёл Сэрца Ісуса. Помнік на брацкай магіле сав. воінаў і ў гонар землякоў.

**ПЕРАСЕК** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Камянца, 57 км ад Брэста, 31 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. ўрочышча Перасекі ў Белавежска-Александраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 124 жыхары. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы, у Дварцоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 23 двары, 145 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 19 двароў, 92 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Дварцоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску (22 двары). З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 48 жыхароў. У 1970 г. — 62 жыхары, у калгасе «Светлы шлях».

У складзе СВК «Кансуэла».

**ПЕРАМОГА** — вёска ў Вярховіцкім с/с, 25 км на ПнЗ ад Камянца, 38 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Каленкавічы. 38 гаспадарак, 102 жыхары (2005).

**ПЕРКАВІЧЫ** — вёска ў Войскім с/с, за 17 км на З ад Камянца, 56 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 28 гаспадарак, 44 жыхары (2005).

У канцы 19 ст. вёска і аднайменныя фальваркі ў Войскай вол. Брэсцкага пав.

Гродзенскай губ. У 1890 г. Перкаўская сельская грамада мела 299 дзес. ворыўнай зямлі, 14 дзес. лугу; побач фальварак (належаў В.Юрчанку), 473 дзес. зямлі, 86 дзес. лесу; фальварак (розныя ўладальнікі), 50 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 26 двароў, 173 жыхары, 2 ветраныя млыны, кузня. У 1905 г. — 185 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і аднайменная асада, у 1923 г. разам — 16 двароў, 69 жыхароў, у Войскай, з 1928 г. ў Ратайчыцкай гмінах Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. ў вёсцы 71 двор, 380 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Войскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 вяскоўцы. У 1948 г. ў пач. школе 27 вучняў. З 16.7.1954 г. ў Агародніцкім, з 14.4.1964 г. зноў у Войскім с/с. У 1960 г. — 174 жыхары. У 1970 г. — 149 жыхароў, у калгасе «Беларусь».

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас».

**ПЛЯНТА** — вёска ў Агародніцкім с/с, за 39 км на ПдЗ ад Камянца, 36 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Высокае. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. фальварак Плянта ў Высока-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. належаў Аляксандру Віслоцкаму, які валодаў 1186 дзес. зямельных угоддзяў. Паводле перапісу 1897 г. — 2 двары, 18 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 23 двары, 108 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 43 двары, 229 жыхароў, каап. крама. З 12.10.1940 г. ў Агародніцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 жыхары вёскі. У 1950 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, з 1952 г. ў калгасе «Бальшавік» (14.12.1962 перайменаваны ў калгас «Дружба»). У 1960 г. ў вёсцы 156 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 121 жыхар.

У складзе ААТ «Макарава-Агра».

**ПЛЯНТА** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Камянца, 37 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Брэст. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. маёнтак у Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 8 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 5 двароў, 24 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 21 двор, 101 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 3 вяскоўцы. У 1950 г. вёска ў калгасе імя Чкалава. У 1960 г. ў вёсцы 63 жыхары, у 1970 г. — 31 жыхар.

У складзе ААТ «Відамлянскае».

**ПЛЯНТА** — вёска, да 1997 г. ў Камянюцкім с/с, у межах Нац. парку «Белавежская пушча».

Паводле перапісу 1897 г. існаваў пас. Плянта (Бартноўшчына), 4 двары, 34 жыхары, ветраны млын, у Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Гарадзечанскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 2 фальваркі, 7 двароў, 36 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім с/с. З 14.4.1964 г. ўваходзіла ў Камянюцкі с/с.

**ПРАХОДЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Камянца, 50 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 25 гаспадарак, 37 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. маёнтак і вёска Праходы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара 1845 г. маёнтак — уласнасць памешчыка Мацвея Цярпілоўскага, 56 дзес. зямлі, з іх 25 дзес. належалі сялянам. Паводле 8-й рэвізіі (1833) да маёнтка Праходы ў вёсцы 2 двары, 11



рэвізскіх душ, маёнтак Войск памешчыка Іосіфа Бухавецкага — 7 двароў, 42 рэвізскія душы. Паводле 10-й рэвізіі (1857) в. Праходы у складзе маёнтка Праходы (уладанне Сасноўскага і Янішчэўскага) — 115 рэвізскіх душ; 15 душ — дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 34 двары, 228 жыхароў, і аднайменны фальварак (належаў Элеаноры Прылуцкай) у Войскай вол., школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, 2 кузні. У 1905 г. — 321 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Войскай, з 3.3.1928 г. Дзмітравіцкай гмінах Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 41 двор, 194 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 70 двароў, 392 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Агародніцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 8 вяскоўцаў. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас «Новы шлях» (аб'ядноўваў 63 двары, 233 жыхары). У 1960 г. — 272 жыхары. З 11.4.1964 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1970 г. — 204 жыхары, у саўгасе «Белавежскі».

У складзе СВК «Хадасы».

**ПРУСКА-БАГУСЛАЎСКАЯ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 5 км на У ад Камянца, 44 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Кобрын. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 15 двароў, 106 жыхароў, хлебазапасны магазін, у выселку Пруска 5 двароў, 38 жыхароў, ветраны млын. Непадалёк размяшчаўся маёнтак Пруска, уласнасць Марыі Валгіновай. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 12 двароў, 70 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 23 двары, 137 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с (цэнтр — в. Шчэрбава) Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. ў Прускаўскім лесе расстраляны 4 мірныя жыхары. Вызвалена воінамі 18.7.1944 г. 148-га гв. палка 50-й гв. стралк. дывізіі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 7 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт». З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 110 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 108 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава. З 19.5.1986 г. зноў у Рэчыцкім с/с.

У складзе СВК «Кансуэла».

**ПРУСКА-ВАЛГІНОВА** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 5 км на У ад Камянца, 43 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 16 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска Пруска Валгінова ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Шчэрбаўскай сельскай грамадзе, 12 двароў, 108 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 21 двор, 132 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 37 двароў, 241 жыхар. З 12.10.1940 ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 8 вяскоўцаў. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас «Чырвоны сцяг» (аб'ядноўваў 40 двароў, 129 жыхароў). З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 147 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 106 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава. З 19.5.1986 г. ў Рэчыцкім с/с.

У складзе СВК «Кансуэла». Помнік воінам-вызваліцелям, байцам 50-й гв. стралк. дывізіі, якія ў ліп. 1944 г. прымалі ўдзел у вызваленні раёна ад ням.-фаш. захопнікаў.

**ПРУСКА-ВЕЛІВЕЙСКАЯ** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 5 км на ПдУ ад Камянца, 41 км ад Брэста. 20 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Жабінка. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы

55 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Пруска памешчыка Насаржэўскага, затым Іванова. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 14 гаспадарак, 89 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 вяскоўцы. У 1949 г. жыхары вёскі далучыліся да калгаса «Перамога», які дзейнічаў у в. Беразнякі, пазней вёска ў калгасе імя Будзённага, з 15.10. 1957 г. ў калгасе «40 год Кастрычніка». Працавала пач. школа (у 1948 — 46 вучняў). З 16.7.1954 г. ў Пелішчанскім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 111 жыхароў, у 1970 г. — 81 жыхар.

У складзе СВК «Агра-Пелішча».

**ПРЫАЗЁРСКІ** — пасёлак у Відамлянскім с/с, за 6 км ад Камянца, 37 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Жабінка, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Відамля—Пружаны. 101 гаспадарка, 246 жыхароў (2005).

Рэсп. санаторый «Белая вежа», аддз. сувязі, пач. школа, магазін, бібліятэка.

**ПЯСКІ** — вёска ў Агародніцкім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Камянца, 35 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск (2,5 км ад чыг. прыпынку Вярба) на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Брэст—Высокае. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Свіцічы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губерні. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у вёсках Пяскі і Вербы налічвалася 12 двароў, 88 рэвізскіх душ. Паводле інвентара 1845 г. ўласнасць памешчыкаў Віслоцкіх. У 1857 г. ў Пясках 85 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст. вёска Пяскі-Вербы ў Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. Адносілася да Свіціцкай сельскай грамады У 1890 г. грамада мела пры вёсцы 268 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 27 двароў, 168 жыхароў. У 1921—39 гг. у Польшчы, калонія Пяскі ў Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 15 двароў, 83 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 184 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Баршчэўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 6 вяскоўцаў. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас «Бальшавік» (аб'яднаў 40 двароў, 168 жыхароў). З 16.7.1954 г. ў Агародніцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 164 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, з 14.12.1962 г. ў калгасе «Дружба». У 1970 г. — 169 жыхароў.

У складзе ААТ «Александрыя-Агра». Непадалёк ад вёскі, на правым беразе ручая Люта захаваўся курганны могільнік. Раскопкі не праводзіліся.

**ПЯСЧАТКА** — вёска ў Раснянскім с/с, за 40 км на З ад Камянца, 56 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі на аўтадарозе Высокае—Пагранічная. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў маёнтку Полаўцы, уласнасць графа Старжынскага, у 1857 г. — 267 рэвізскіх душ. З 1860-х г. цэнтр Палавецкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. тут 53 двары, 391 жыхар, валасное праўленне, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма. У 1905 г. — 468 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Палавецкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 23 двары, 96 жыхароў. У 1940 г. — в. Пясчатка Палавецкая, 378 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Гольскім с/с Кляшчэльскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. захопнікі загубілі 10 жыхароў вёскі. З 16.8.1945 г. ў складзе Польшчы, пасля ўдакладнення сав.-польскай мяжы з 8.7.1950 г. ў Ваўковіцкім с/с. З 16.7.1954 г. вёска ў Расненскім с/с. У 1960 г. — 221 жыхар. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 127 жыхароў.

У складзе СВК «Полаўцы».

**РАДАСЦЬ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Камянца, 36 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Брэст. 36 гаспадарак, 58 жыхароў (2005).



Вядома з 18 ст. У 1773 г. ўладанне М.Сцярпінскай, паводле інвентара 1781 г. вёска, карчма. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Баршчова ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць графоў Грабоўскіх. Паводле інвентара маёнтка за 1845 г. ў вёсцы 25 двароў. 199 сялянскіх душ, 11 дзесяцін сядзібнай, 276 дзес. ворыўнай зямлі, 46 дзес. лугу. У 2-й пал. 19 ст. сяло ў Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. У 1885 г. — 30 двароў, 324 жыхары, школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Радаснай сельскай грамады, 53 двары, 375 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. Дзейнічала царква, якой належала 51 дзес. зямлі, у т.л. 19,5 дзес. ворыва, у прыход уваходзілі 202 двары (1632 жыхары). На 1905 г. — 350 жыхароў, дзейнічала нар. вучылішча (54 вучні). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 32 двары, 153 жыхары. Побач калонія Радасць-Пагост, 1 двор, 9 жыхароў. У 1924 г. адкрыта школа з польскай мовай навучання. У 1940 г. ў вёсцы 71 двор, 389 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 16 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў пач. школе 55 вучняў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Вялікая Радасць», пазней вёска ў калгасе «Кастрычнік». У 1960 г. ў вёсцы было 254 жыхары, з 14.4. 1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 186 жыхароў, у калгасе імя Кірава. З 19.5.1986 г. ў Відамлянскім с/с.

У складзе ААТ «Відамлянскае». Б-ка, магазін. Дзейнічае фальклорна-этнаграфічны калектыў «Радасць». У наваколлі вёскі захаваўся курганны могільнік — помнік археалогіі 8—10 ст.

**РАДЗЕВІЧЫ** — вёска ў Каленкавіцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Камянца, 62 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Каленкавічы. 71 гаспадарка, 143 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Вярховічы (належаў Ячыноўскай), у 1857 г. — 382 рэвізскія душы. З 1860-х г. у Вярховіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў Радзевіцкай сельскай грамадзе, у вёсцы 104 двары, 577 жыхароў, побач знаходзіўся карчэмны дом маёнтка Вярховічы, які належаў памешчыку Роту, дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня. На 1905 г. ў вёсцы 582 жыхары. У гады 1-й сусветнай і сав.-польскай войнаў вёска была двойчы спалена. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 42 двары, 183 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Вярховіцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 25 жыхароў вёскі. У час акупацыі ў 1942 г. гітлераўцы загубілі 12 мірных жыхароў. У 1948 г. ў вёсцы дзейнічала пач. школа (76 вучняў), працаваў калгас «Парыжская камуна» (60 гаспадарак). З 1951 г. ў складзе калгаса «Праўда». У 1960 г. ў вёсцы 517 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 26.7.1968 г. ў Каленкавіцкім с/с. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 458 жыхароў.

У складзе ААТ «Каленкавічы».

**РАЖКОЎКА** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Камянца, 56 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, звязана з Камянцом аўтадарогамі праз Хадасы і Дзмітравічы. 55 гаспадарак, 87 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., дзярж. уласнасць, паводле 10-й рэвізіі (1857) — 416 рэвізскіх душ. З 1860-х г. у Дзмітравіцкай вол. тых жа павета і губерні. У 1890 г. ў Ражкоўскай сельскай грамадзе, 530 дзес. ворыўнай зямлі, 71 дзес. лесу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 107 двароў, 571 жыхар, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1940 г. ў вёсцы 103 двары, 476 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай

вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. пабудавана драўляная царква Казанскай Божай маці, будаўніцтва якой звязана з выратаваннем жыхароў вёскі ад расстрэлу. У сак. 1944 г. ў раёне вёскі вяла баі партыз. дывізія С.А.Каўпака. На вясковых могілках пахаваны 29 партызан, якія загінулі ў гэтых баях. У пасляваенныя гады працавала пач. школа, у 1948 г. — 105 вучняў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Шлях да камунізму». 16.7.1954 г. ўключана ў Бялоўскі с/с, адначасова стала цэнтрам сельсавета, які ў сувязі з гэтым быў перайменаваны ў Ражкоўскі. З 17.11.1959 г. зноў у Дзмітравіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 317 жыхароў, у 1970 г. — 274 жыхары, у саўгасе «Белавежскі».

У складзе СВК «Хадасы». Аддз. сувязі.

**РАЗАЛІМ** — хутар, да 1974 г. ў Ратайчыцкім с/с.

**РАНІ** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 6 км на ПдУ ад Камянца, 40 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2005).

Паселішча ўпамінаецца ў 2-й пал. 15 ст. ў дакументах запісаў зямельных дач каралём Казімірам. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у маёнтку Пруска, уласнасць Велавейскага, у 1857 г. — 95 рэвізскіх душ. З 1860-х г. ў Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. У 1890 г. Рані-Беразнякоўская сельская грамада мела 248 дзес. ворыўнай зямлі, больш як 16 дзес. лугу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 23 двары, 172 жыхары. У 1905 г. — 30 гаспадарак, 175 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 25 двароў, 136 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 36 двароў, 135 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да канца ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. жыхары вёскі разам з суседняй в. Беразнякі аб'ядналіся ў калгас «Перамога». Пазней у калгасе імя Будзённага (15.10.1957 перайменаваны ў калгас «40 год Кастрычніка»). З 16.7. 1954 г. ў Пелішчанскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы — 122 жыхары, у 1970 г. — 92 жыхары.

У складзе ААТ «Агра-Пелішча».

**РАТАЙЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Ратайчыцкага с/с, за 16 км на ПдЗ ад Камянца, 30 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарогах на Камянец, Высокае і Астрамечава. 133 гаспадаркі, 384 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 8-й рэвізіі (1833) — 44 двары, 305 рывізскіх душ, у складзе маёнтка Трасцяніца, які належаў графам Патоцкім. Паводле 10-й рэвізіі (1857) — 276 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 ст. — цэнтр Ратайчыцкай вол. тых жа павета і губерні. У 1885 г. ў вёсцы 34 гаспадаркі, 374 жыхары, валасное праўленне, школа, піцейны дом. У склад воласці ў гэты час уваходзілі 22 паселішчы (481 двор, 2524 жыхары мужчынскага і 2427 жаночага полу), у карыстанні знаходзілася 6170 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў складзе Ратайчыцкай сельскай грамады, 67 двароў, 478 жыхароў, нар. вучылішча (73 вучні), валасное праўленне, ветраны млын, кузня, карчма, непадалёк размяшчалася сядзіба барона Корфа. У 1905 г. — 630 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр Ратайчыцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 61 двор, 261 жыхар. З 12.10.1940 г. цэнтр Ратайчыцкага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. На той час у вёсцы 121 гаспадарка, 617 жыхароў; у склад сельсавета ўваходзілі 16 паселішчаў. У Вял. Айч. вайну ў 1941 г. акупанты расстралялі 3 жыхароў вёскі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 26 жыхароў. У 1948 г. ў пач. школе 90 вучняў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Герой Сацыялістычнай Працы», які аб'яднаў 47 гаспадарак. З 1950 г. цэнтр калгаса імя



Сталіна (з 1961 калгас «Радзіма»). У 1960 г. ў вёсцы 496 жыхароў, у 1970 г. — 409 жыхароў.

У складзе ААТ «Белавежскі». Сярэдняя школа, базавая школа-сад, клуб, б-ка, аптэка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. За 0,8 км на ПдУ ад вёскі захаваўся помнік археалогіі — бескурганны могільнік. Выяўлены ў 1929 г. ў час рамонту дарогі. Адносіцца да ранняга жалез. веку і эпохі Кіеўскай Русі (11—12 ст.). За 0,3 км ад вёскі — курганны могільнік (датуецца 11—13 ст.), належаў дрыгавічам.

**РОБЕНКА** — вёска ў Войскім с/с, за 10 км на З ад Камянца, 48 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 30 гаспадарак, 65 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., адносілася да маёнтка Яленка, уласнасць Магільніцкага, у 1857 г. — 204 рэвізскія душы. З 1860-х г. у Войскай вол. У 1897 г. ў Робенкаўскай сельскай грамадзе, 39 двароў, 237 жыхароў, 2 ветраныя млыны, 2 кузні. У 1905 г. — 315 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, уваходзіла ў Войскую, з 1928 г. ў Дзмітравіцкую гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 7 двароў, 46 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 52 двары, 259 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 7 жыхароў вёскі. Дзейнічала пач. школа, у 1948 г. ў ёй 54 вучні. У 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Сцяг Перамогі». З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. — 205 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 181 жыхар, у калгасе імя Леніна. З 19.5.1986 г. ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Магазін.

**РУДАВЕЦ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 62 км на ПдЗ ад Камянца, 37 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Ставы. 32 гаспадаркі, 88 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у складзе маёнтка Лазовіцы памешчыка Брындзы, 63 рэвізскія душы. З 1860-х г. у Воўчынскай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў Рудавецкай сельскай грамадзе, 17 двароў, 121 жыхар. На 1905 г. — 106 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1923 г. — 7 двароў, 51 жыхар. У 1940 г. ў вёсцы 45 двароў, 231 жыхар, каап. крама. З 12.10.1940 г. ў Стаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 11 жыхароў вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «На варце», з 1950 г. вёска ў калгасе імя Свярдлова. З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 136 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 109 жыхароў.

У складзе СВК «Стаўскі». Магазін.

**РЭЧЫЦА** — вёска, цэнтр Рэчыцкага с/с, за 12 км на У ад Камянца, 51 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Кобрын. 101 гаспадарка, 277 жыхароў (2005).

У 1567 г. пазначана ў перапісе Войска Літоўскага, уладанне Паца. На 1588 г. фальварак Рэчыцкі ў Берасцейскім старостве ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 1857 г. ў складзе маёнтка Антонін, 124 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Жыцінскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1873 г. пабудавана Успенская царква. У канцы 19 ст. прыход валодаў 79 дзес. зямлі, ахопліваў 352 двары, 2792 прыхаджаніны. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 24 двары, 202 жыхары; у выселку Рэчыца Палявая пры маёнтку Антонін 4 двары, 22 жыхары. У 1905 г. — 282 жыхары, у нар. вучылішчы 102 вучні. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жыцінскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У

1923 г. — 25 двароў, 125 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Рэчыцкага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ўваходзілі 12 вёсак і 2 хутары. Дзейнічаў калгас імя Варашылава, 3 пач. школы, пошта, 2 ветраныя млыны. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 152-га стралк. палка 50-й стралк. дывізіі. У вёсцы знаходзіцца брацкая магіла танкістаў, якія загінулі ў баях 22.6.1941 г. На франтах загінулі 6 жыхароў вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя газеты «Праўда». У 1948 г. ў 7-й гадовай школе 97 вучняў. З 21.3.1951 г. цэнтр калгаса «Ленінскі шлях» (у 1963 перайменаваны ў калгас «Світанак»). Дзейнічала МТС. У 1960 г. ў вёсцы 86 жыхароў, у 1970 г. — 103 жыхары.

Цэнтр дзярж. УП «Рэчыцкае». Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт, лясніцтва, аддз. сувязі, магазіны. Помнікі на брацкай магіле сав. воінаў і землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Успенская царква.

**САРАВА** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 6 км ад Камянца, 45 км ад Брэста, 34 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Камянюкі. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. калонія Сарава Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. — 206 рэвізскіх душ, дзярж. ўласнасць. З 1860-х г. у Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і воласці. Паводле перапісу 1897 г. — 10 двароў, 63 жыхары, у складзе Сараўскай сельскай грамады. У 1905 г. — 74 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, калонія ў Камянецка-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 7 гаспадарак, 47 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 61 жыхар. У 1970 г. — 43 жыхары, у саўгасе імя Дзімітрава.

У складзе ААТ «Камянецкая пушча».

**СВІЦІЧЫ** — вёска ў Агародніцкім с/с, за 40 км на З ад Камянца, 2 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Брэст. 24 двары, 53 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 16 ст. як паселішча Свецічова ў Берасцейскім пав. і ваяводстве ВКЛ. У 1519 г. шляхецкая ўласнасць. У 1647 г. Андрэй Война прадаў Свіцічы разам з Высокім і вёскамі Лумна, Расна, Зубічы і інш. віцебскаму ваяводу Паўлу Сапегу. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. маёнтак і вёска Свіцічы, уласнасць Віслоцкіх, у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Згодна 8-й рэвізіі (1833) — 433 сял. душы, у т.л. 277 працаздольных, 62 цяглыя гаспадаркі, 37 дваровых людзей. Паводле інвентара 1845 г. ў маёнтку было больш за 1880 дзес. сельгасугоддзяў. У склад маёнтка ўваходзілі фальварак Свіцічы і 5 вёсак (Свіцічы, Вярба, Пяскі, Малыя і Вялікія Камарнікі). У в. Свіцічы на гэты час налічвалася 19 двароў, 127 жыхароў. У 1857 г. ў вёсцы 100 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 ст. вёска і маёнтак у Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. У 1890 г. маёнтак належаў Аляксандру Віслоцкаму, мелася 721 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі, усяго 1186 дзес. сельгасугоддзяў; вёска ў Свіціцкай сельскай грамадзе, 197 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 25 двароў, 155 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 153 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў калоніі Свіцічы было 25 двароў, 135 жыхароў, у аднайменнай вёсцы — 21 двор, 93 жыхары. У 1940 г. вёска (32 двары, 220 жыхароў) і хутары (27 двароў, 170 жыхароў). З 12.10.1940 г. ў Агародніцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 3 жыхары вёскі. У 1948 г. ў пач. школе 81 вучань. Арганізаваны ў вёсцы калгас «Маяк» у 1950 г. аб'яднoўваў 13 гаспадарак. З 1952 г. ў калгасе «Бальшавік» (14.12.1962 перайменаваны ў кал-



гас «Дружба»). У 1960 г. ў вёсцы было 179 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 143 жыхары. У 1972 г. хутары зліліся з вёскай.

У складзе ААТ «Александрыя-Агра».

**СВІШЧОВА** — вёска ў Войскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Камянца, 54 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Баршчэва—Высокае. 104 гаспадаркі, 283 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска адносілася да маёнтка Свішчова, уласнасць Грынявецкага, у 1857 г. — 143 рэвізскія душы. З 1860-х г. у Ратайчыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. Свішчоўская сельская грамада мела 205 дзес. зямельных угоддзяў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 27 двароў, 179 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветраны млын, кузня. У 1905 г. — 164 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы — 26 двароў, 129 жыхароў, у фальварку — 5 двароў, 27 жыхароў. У 1940 г. вёска, 39 двароў, 228 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 9 вяскоўцаў. У 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Молатава (аб'ядноўваў 18 гаспадарак). У 1948 г. ў пач. школе 89 вучняў. У 1950 г. — 53 двары, 210 жыхароў, цэнтр калгаса імя Калініна. З 14.4.1964 г. ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, б-ка, магазін. У наваколлі вёскі захаваўся курганны могільнік дрыгавічоў 11—12 ст. (каля 20 насыпаў вышынёй 0,2—1,6 м).

**СЕЛІШЧА ВЯЛІКАЕ** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 22 км на Пн ад Камянца, 61 км ад Брэста, 48 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Камянюкі. 27 двароў, 44 жыхары (2005).

У 1-й пал. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) вёска Селішча, 193 рэвізскія душы, дзярж. ўласнасць. Пасля 1861 г. ў складзе Дзмітравіцкай вол. таго ж пав. Дзейнічала сельская грамада, якой у 1890 г. належала 529 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі, 126 дзес. лугу. Непадалёк знаходзілася ўрочышча Селішча, уласнасць Аляксея Чычэрына. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 51 двор, 337 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 420 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. — 11 двароў, 57 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 32 двары, 129 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. ў Пашукоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну 20.8.1941 г. ням.-фаш. захопнікі спалілі вёску. З 17.4.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 109 жыхароў. У 1970 г. — 114 жыхароў, у саўгасе імя Дзімітрава. З 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**СЕЛІШЧА МАЛОЕ** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 23 км на Пн ад Камянца, 62 км ад Брэста, 49 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Камянюкі. 8 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Дамброва, уласнасць памешчыкаў Сівераў і Бахмецьевай. Паводле інвентара маёнтка за 1847 г. вёска ў складзе фальварка Ямна, 17 двароў, 129 жыхароў, 11 дзес. сядзібнай, 136 ворыўнай зямлі, 28 дзес. сенакосу. З 1860-х г. у Дзмітравіцкай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 34 гаспадаркі, 195 жыхароў, хлебазапасны магазін, побач з вёскай сядзіба Малое Селішча, 1 двор, 5 жыхароў. У 1905 г. — 311 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 7 двароў, 38 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 24 двары, 139 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Пашукоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У

Вял. Айч. вайну 28.8.1941 г. вёска была поўнасцю спалена. З 17.4.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 60 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. 59 жыхароў. У межах Нац. парку «Белавежская пушча».

**СЕДРУЖ** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Камянца. 45 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны. 31 гаспадарка, 55 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 312 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Жыцінскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 14 двароў, 52 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 52 двары, 248 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну 10.3.1943 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі за сувязь з партызанамі 8 жыхароў вёскі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. У 1948 г. ў пач. школе 34 вучні. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас імя Чарняхоўскага (аб'ядноўваў 28 гаспадарак). З 16.7.1954 г. ў Пелішчанскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 223 жыхары, у 1970 г. — 185 жыхароў, у калгасе «40 год Кастрычніка».

У складзе ААТ «Агра-Пелішча».

**СЕЛЯХОВІЧЫ** — вёска ў Войскім с/с, за 10 км на захад ад Камянца, 56 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 33 гаспадаркі, 66 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Яленка, уласнасць Магільніцкага, у 1857 г. ў вёсцы 234 рэвізскія душы. З 1860-х г. у Войскай вол. У 1890 г. Селяховіцкая сельская грамада мела больш за 500 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 57 двароў, 350 жыхароў, перасоўная школа граматы, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, 3 кузні. У 1905 г. — 434 жыхары. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Войскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 40 двароў, 165 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 66 двароў, 318 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. ў Войскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 9 вяскоўцаў. У 1948 г. ў пач. школе 53 вучні. У 1950 г. — 67 гаспадарак, 208 жыхароў, арганізаваны калгас імя Панамарэнкі. З 16.7.1954 г. ў Агароднiцкім, з 14.4.1964 г. зноў у Войскім с/с. У 1970 г. — 231 жыхар, у калгасе «Беларусь».

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Магазін.

**СІНІТЫЧЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 16 км на поўнач ад Камянца, 55 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток. 15 двароў, 21 жыхар (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Пашукі, уласнасць памешчыкаў Насаржэўскіх. У 1857 г. — 156 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У лютым 1863 г. вяскоўцы разам з сялянамі суседніх вёсак адмовіліся выконваць павіннасці ў маёнтку Пруска адстаўнога падпалкоўніка Насаржэўскага. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 28 двароў, 207 жыхароў, хлебазапасны магазін. Адносілася да Сінітыцкай сельскай грамады. У 1905 г. ў вёсцы 47 двароў, 350 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 41 двор, 300 жыхароў. У Вял. Айч. вайну загінулі на франтах і прапалі без вестак 9 вяскоўцаў. У пасляваенныя гады пачала працаваць пач. школа, у 1948 г. ў ёй было 53 вучні. У 1949 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Маладая гвардыя». З 28.2.1959 г. ў саўгасе «Белавежскі». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 168 жыхароў, у 1970 г. — 137 жыхароў, у саўгасе «Белавежскі» (з 1982 саўгас «Першамайскі»).

У складзе СВК «Хадасы».

**СІПУРКА** — вёска ў Каленкавіцкім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Камянца, 62 км ад



Брэста, 22 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст-Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Амелянец—Вярховічы—Высокае. 19 гаспадарак, 41 жыхар (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе фальварка Апака маёнтка Капылы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара 1845 г. ўласнасць К.Пуслоўскай, у вёсцы 22 двары, 241 жыхар. З 1860-х г. у Вярховіцкай вол. Паводле перапісу 1897 г. 34 двары, 227 жыхароў, хлебазапасны магазін, вадзяны млын на р. Сіпурка. У 1905 г. — 220 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 24 двары, 92 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 234 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Амелянецкім с/с Кляшчэльскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 жыхары вёскі. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не. З 16.7.1954 г. ў Бушміцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 123 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, з 26.7.1968 г. ў Каленкавіцкім с/с. У 1970 г. — 103 жыхары, у калгасе «Зара».

У складзе СВК «Амелянец».

**СІЎКІ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 60 км на ПдЗ ад Камянца, 21 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Кастары. 10 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Ставы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыцы Красінскай, у 1857 г. — 84 рэвізскія душы. З 1860-х г. у Воўчынскай вол. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 23 двары, 159 жыхароў, хлебазапасны магазін. На 1905 г. ў вёсцы — 192 жыхары, у маёнтку — 5 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 28 двароў, 150 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 172 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 6 вяскоўцаў. У 1950 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас «Пралетарый» (на той час 40 членаў). З 1952 г. ў складзе калгаса «Усход». З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. — 92 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 52 жыхары.

У складзе ААТ «Усход—Камянец».

**СМОЛЬНІКІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 14 км на У ад Камянца, 53 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Кобрын. 9 двароў, 16 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. Паводле рэвізіі 1563 г. сяло, 39 валок зямлі, у Дабучынскай вол., у Кобрынскай эканоміі, у Берасцейскім, з 1566 у Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1597 г. ў Мініцкім войтаўстве. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 247 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 31 двор, 162 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 49 двароў, 215 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 9 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны бор», з 21.3.1951 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях» (у 1963 перайменаваны ў калгас «Світанне»). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 180 жыхароў, у 1970 — 138 жыхароў.

У складзе УП «Рэчыцкае».

**СОСНЫ** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Камянца, 41 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Жабінка. 29 двароў, 55 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Сосны памешчыка Івана Церпілоўскага. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы 1 двор, 7 рэвізскіх душ, 13 дзес. зямлі, памешчыку належала 30 дзес. зямлі. У канцы 19 ст. ў Жыцінскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 10 двароў, 73 жыхары, у маёнтку — 2 двары, 88 жыхароў, у складзе Грабоўскай сельскай

грамады. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Жыцінскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 10 двароў, 46 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 12 жыхароў. У 1940 г. вёска Сосны, 15 двароў, 80 жыхароў, і аднайменныя хутары, 3 двары, 15 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Пелішчанскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 7 жыхароў вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». Пазней у калгасе імя Будзённага, з 15.10.1957 г. ў калгасе «40 год Кастрычніка».

У складзе ААТ «Агра-Пелішча».

**СТАВЫ** — вёска ў Воўчынскім с/с, за 56 км на ПдЗ ад Камянца, 36 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарогах праз Воўчын з Высокім і праз Вялікія Матыкалы з Брэстам. 182 двары, 511 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц маёнтак Ставы вядомы з сярэдзіны 15 ст. Уваходзіў у склад Берасцейскага пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1460 г. ўзгадваецца ў сувязі з будаўніцтвам касцёла, у 1461 г. маёнтак быў перададзены рымска-каталіцкай царкве. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1852 г. ўласнасць графіні Красінскай. У 1857 г. — 447 рэвізскіх душ. У 1805 г. тут пабудавана драўляная Міхайлаўская царква. З 1860-х г. сяло ў Воўчынскай вол. тых жа павета і губерні. У 1864 г. касцёл пераўтвораны ў праваслаўную царкву (вернуты каталікам у 1919). У 1885 г. ў сяле 80 двароў, 527 жыхароў, царква, капліца, школа граматы, 2 вадзяныя млыны на р. Пульва. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 111 двароў, 679 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, карчма; царк. прыход налічваў 208 двароў, больш за 2 тыс. прыхаджан, мелася 109 дзес. зямлі. На 1905 г. ў сяле 736 жыхароў, у маёнтку — 7 жыхароў, у нар. вучылішчы — 89 вучняў. У 1906 г. ў маёнтку адбыліся хваляванні. Сяляне адмаўляліся выконваць павіннасці, былі пашкоджаны памешчыцкія с.-г. машыны. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Воўчынскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 71 двор, 323 жыхары. 1.5.1927 г. адбылася першамайская дэманстрацыя, арганізаваная мясц. ячэйкай КПЗБ, у якой удзельнічалі каля 800 чалавек, у т.л. жыхары навакольных вёсак. У выніку падаўлення выступлення паліцыяй загінуў 1 чалавек, 2 былі паранены, 26 чал. арыштаваны. З 12.10.1940 г. вёска (199 двароў, 959 жыхароў) — цэнтр Стаўскага с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У склад сельсавета ўваходзілі 6 вёсак, навакольныя хутары, дзейнічалі 4 пач. школы, паравы млын. У Вял. Айч. вайну 22.6.1941 г. да канца ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1941 г. каля вёскі вялі цяжкія абарончыя баі пагранічнікі, стрымліваючы пераправу ням.-фаш. войск праз Зах. Буг. У 1948 г. ў 7-гадовай школе 220 вучняў. Дзейнічаў калгас «За Радзіму», на 1.1.1949 г. ў яго склад уваходзілі 17 гаспадарак. З 16.7.1954 г. ў Воўчынскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 494 жыхары. З 17.4. 1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 378 жыхароў, цэнтр калгаса імя Свярдлова.

Цэнтр СВК «Стаўскі». Базавая школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, Ануфрыеўская царква. Помнікі сав. пагранічнікам, якія загінулі ў абарончых баях 1941 г., і воінам, якія загінулі ці памерлі ад ран у час баёў 24—28.7.1944.

**СТАНЬКОВІЧЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Камянца, 51 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2005).

Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 92 рэвізскія душы, дзярж. ўласнасць. У канцы 19 ст. вёска ў Войскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Станьковіцкая сельская грамада ў 1890 г. мела больш за



240 дзес. зямлі, 48 дзес. лугу, 6 дзес. лесу. Паводле перапісу 1897 г. 25 двароў, 166 жыхароў, хлебазапасны магазін, ветраны млын. У 1905 г. — 191 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Войскай, з 3.3.1928 г. ў Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 15 двароў, 76 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Агародніцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 29 двароў, 172 жыхары. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 вяскоўцы. 21.9.1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Сталінская моладзь», з 20.3.1951 г. ў калгасе «Новы шлях». У 1960 г. ў вёсцы 118 жыхароў. З 10.3.1962 г. ў саўгасе «Белавежскі» (у 1991 рэарганізаваны ў калгас). З 11.4.1964 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1970 г. — 102 жыхары.

У складзе СВК «Хадасы».

**СТАРЫШОВА** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 1 км на ПнЗ ад Камянца, 40 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Брэст—Камянюкі. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы мелася 24 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. — 7 двароў, 75 жыхароў. Непадалёк знаходзіўся аднайменны маёнтак, уласнасць Аляксандра Ісакевіча, 56 дзес. зямлі, 2 дзес. лесу. У 1905 г. ў вёсцы 55 жыхароў, у маёнтку — 3 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы — 4 двары, 17 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Мікалаеўскім, з 16.7.1954 г. ў Камянецкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 16 жыхароў, уваходзіла ў саўгас імя Дзімітрава. З 19.5.1986 г. ў Дзмітравіцкім с/с.

У складзе СВК «Хадасы».

**СТАЎПАВІСКІ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Камянца, 62 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянюкі—Амелянец. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

Упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1640 г. як сяло ў Берасцейскім пав. ВКЛ. Згодна 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 104 рэвізскія душы, дзярж. уласнасць. На пач. 20 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. — 78 жыхароў. У 1921—39 гг. у Польшчы. З 12.10.1940 г. вёска ў Бялоўскім с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы было 20 двароў, 76 жыхароў. У 1942 г. Стаўпавіскі былі поўнасцю спалены. Вызвалены ад ням.-фаш. захопнікаў 17.7.1944 г. З 16.8.1945 г. ў Камянецкім р-не, з 16.7.1954 г. ў складзе Ражкоўскага, з 17.11.1959 г. Дзмітравіцкага с/с. У 1959 г. ў вёсцы 94 жыхары; у 1970 г. — 71 жыхар, у саўгасе імя Дзімітрава.

У складзе ААТ «Камянецкая пушча».

**СТРАЛІ** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Камянца, 42 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Жабінка. 31 двор, 64 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1840 г. ў складзе маёнтка Камянец-Літоўскі, уласнасць ротмістра Антона Насаржэўскага, затым яго нашчадкаў. Паводле 8-й рэвізіі (1833) — 27 двароў, 235 рэвізскіх душ, згодна 10-й рэвізіі (1857) — 211 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 ст. ў Жыцінскай вол. і Стральской сельскай грамадзе таго ж павета. Паводле перапісу 1897 г. тут 31 двор, 254 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жыцінскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 18 двароў, 77 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Пелішчанскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час у вёсцы 41 двор, 257 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 8 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, затым у калгасе імя Будзённага (15.10.1957 перайменаваны ў калгас «40 год Кастрычніка»). У 1960 г. — 144 жыхары, у 1970 г. — 134 жыхары.

У складзе ААТ «Агра-Пелішча».

**СТУПІЧОВА** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, на р. Лясная, за 5 км на Пн ад Камянца, 44 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Навіцкавічы. 22 двары, 40 жыхароў (2005).

У 1-й пал. 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыка Матушавіцкага. Паводле плану 1805 г. зямельныя ўгоддзі займалі звыш 500 дзес. Пабудовы маёнтка: жылы дом, хлявы, сельскі запасны рыбны магазін. Сяляне займаліся рыбалоўствам. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у в. Ступічова 19 двароў, 111 сялянскіх душ. З 1842 г. маёнтак і вёска ва ўладанні Сульжынскіх. Паводле 10-й рэвізіі (1857) вёска ў складзе маёнтка Ступічова, 123 рэвізскія душы. У канцы 19 ст. ў складзе Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 24 двары, 178 жыхароў, хлебазапасны магазін, у аднайменным фальварку — 3 двары, 36 жыхароў. На 1905 г. — 33 двары, 203 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 26 двароў, 112 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Навіцкавіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 37 двароў, 223 жыхары. У Вял. Айч. вайну з 22.6.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 21.7.1944 г. воінамі 50-й гв. стралк. дывізіі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 14 вяскоўцаў. У пасляваенныя гады пачала дзейнічаць пач. школа, у 1948 г. ў ёй было 78 вучняў. У 1950 г. ў складзе калгаса «Усход» (аб'ядноўваў 40 двароў, 173 жыхары). З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. зноў у Навіцкавіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 206 жыхароў, у 1970 г. — 139 жыхароў, у калгасе «Бальшавік».

У складзе ААТ «Новы шлях».

**СУХАДОЛ** — вёска ў Расненскім с/с, за 40 км на З ад Камянца, 56 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Высокае—Пагранічная. 48 гаспадарак, 87 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы сяло і маёнтак Сухадол з сярэдзіны 16 ст. Паводле апісання Берасцейскага староства ў 1566 г. сяло ў Палавецкім войтаўстве, 22 валокі зямлі, належала баярам путным, якія плацілі павіннасці з кожнай валокі 106 грошай у год. Вызваляліся ад павіннасцей баяры, якія ўдзельнічалі ў вайне. У 1567 г. маёнтак ва ўласнасці Станіслава Сухадольскага. У 17 ст. вёска ў Берасцейскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паселішча насялялі баяры путныя, якія служылі ў ахове Берасцейскага замка, вазілі пошту. У час вайны з кожных 2 валок зямлі (каля 43 га) выстаўлялі 1 узброенага воіна. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі. У 1857 г. ў вёсцы 251 рэвізская душа, у маёнтку Полаўцы графа Старжынскага. З 1860-х г. сяло ў Палавецкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1885 г. — 35 двароў, 294 жыхары, праваслаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 43 двары, 377 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, 6 ветраных млыноў, кузня. У 1905 г. — 430 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Палавецкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 34 двары, 156 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 80 двароў, 450 жыхароў, каап. крама, пач. школа. З 12.10.1940 г. ў Гольскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну загінулі і прапалі без вестак 14 вяскоўцаў. З 16.8.1945 г. ў Ваўковіцкім с/с. У 1948 г. ў 7-гадовай школе 151 вучань. У сак. 1948 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Леніна, у 1951 г. гаспадарка была ўзбуйнена за кошт далучэння суседніх калгасаў (у 1961 цэнтр калгаса быў перанесены ў в. Пагранічная). З 16.7.1954 г. ў Расненскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 329 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 233 жыхары.

У складзе СВК «Полаўцы».

**СУШКІ** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Камянца, 46 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лі-



ніі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Капылы. 26 гаспадарак, 58 жыхароў (2005).

Упершыню згадваецца ў 16 ст. як сяленне Сушкова ў Берасцейскім пав. ВКЛ. У канцы 19 — пач. 20 ст. маёнтак Сушкі ў Вярховіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., уласнасць графіні М.В.Грабоўскай, каля 1 тыс. дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў маёнтку 3 двары, 100 жыхароў, кузня. У 1905 г. — 40 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, фальварак у Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10. 1940 г. хутары Сушкі (на той час 50 двароў, 284 жыхары) у Вярховіцкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 3 жыхары. У 1947 г. арганізаваны калгас «30 год Кастрычніцкай рэвалюцыі» (у 1950 — 80 членаў). У 7-гадовай школе ў 1948 г. было 75 вучняў. У 1960 г. ў вёсцы 162 жыхары. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 165 жыхароў, у калгасе «Расія».

У складзе ААТ «Каралін».

**СЮЛКІ** — вёска ў Войскім с/с, на р. Крывуля за 8 км на З ад Камянца, 47 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі на аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 20 гаспадарак, 29 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. сяло ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. — 74 рэвізскія душы, у складзе маёнтка Яленка, уласнасць Магільніцкага. З 1860-х г. у Войскай вол. тых жа павета і губерні. У 1885 г. — 11 двароў, 100 жыхароў, праваслаўная царква, школа. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 18 двароў, 116 жыхароў, нар. вучылішча, царква, кузня. У 1905 г. ў сяле 192 жыхары, побач аднайменны маёнтак, 5 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Войскай, з 1928 г. ў Ратайчыцкай гмінах Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 8 двароў, 89 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 28 двароў, 124 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Мікалаеўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 вяскоўцы. У 1948 г. ў пач. школе 42 вучні. З 16.7.1954 г. ў Ратайчыцкім с/с. У 1960 г. — 129 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 105 жыха-



*Рэшткі брамы царквы ў в. Сюлкі.*

роў, у складзе калгаса імя Леніна. З 19.5.1986 г. ў Войскім с/с.

У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Радзіма самадзейнага мастака А.У.Васілеўскага.

**ТАКАРЫ** — вёска ў Агародніцкім с/с, за 45 км на З ад Камянца, 50 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Вулька. 36 гаспадарак, 85 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 16 ст. як шляхецкае ўладанне. У 1567 г. А.Букраба з маёнтка Такары выс-



*Памятная дошка В.М. Ігнатоўскаму ў в. Такары.*

таўляў для войска коней. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 1-й пал. 19 ст. сяло і 5 аднайменных маёнткаў. У 1816 г. пабудавана Міхайлаўская царква. Паводле 8-й рэвізіі (1833) і інвентароў маёнткаў за 1844—47 гг. існавалі: маёнтак памешчыка Лянкевіча, фальварак, у вёсцы 39 рэвізскіх душ, больш за 312 дзес. зямлі; маёнтак памешчыкаў Валковіцкіх, у вёсцы 29 рэвізскіх душ, больш за 81 дзес. зямлі; маёнтак Паўла Залеўскага, фальварак, у вёсцы 20 двароў, 121 рэвізская душа, 486 дзес. памешчыцкай і 350 дзес. сялянскай зямлі, млын, карчма, вінакурня; маёнтак Аляксандра Такаржэўскага, 7 рэвізскіх душ, 31 дзес. зямлі; маёнтак Івана Такаржэўскага, у вёсцы 3 двары 19 рэвізскіх душ, 58 дзес. памешчыцкай, 34 дзес. сялянскай зямлі. У 1857 г. ў Такарах усяго 292 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 ст. ў Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. сяло Токары, праваслаўная царква (больш за 2500 прыхажан), нар. вучылішча, кузня, карчма. У 1890 г. маёнткі Токары належалі Паўлу Залескаму (274 дзес.), Тэафіліі Такаржэўскай (звыш 87 дзес.), Міхаілу Груявіцкаму (47 дзес.), Казіміру Янкоўскаму, Ігнату Валкавіцкаму (64 дзес.), Іосіфу Лянкевічу (225 дзес.). У 1905 г. ў нар. вучылішчы 80 навучэнцаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы Такары 92 двары, 529 жыхароў, побач аднайменныя фальваркі, 7 двароў, 84 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 182 двары, 1069 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Такарскага с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 4 вяскоўцы. 16.8.1945 г. тэр. сельсавета перададзена Польшчы. У 1948 г. ў пач. школе 83 вучні. Пасля ўдакладнення сав.-польскай мяжы з 8.7.1950 г. вёска ў Агародніцкім с/с. У час калектывізацыі арганізаваны калгас «Савецкі пагранічнік», гаспадарка неаднаразова ўзбуйнялася. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 220 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 181 жыхар.

У складзе ААТ «Макарава-Агра». Міхайлаўская царква.

**ТРАСЦЯНІЦА** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Камянца, 29 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны. 42 двары, 90 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 15 ст. сяло ў Берасцейскім пав. ВКЛ, уласнасць Сангушкаў. У 1582 г. маёнтак Трасцяніца. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара 1845 г. маёнтак — уласнасць Патоцкіх, 5045 дзес. зямлі. У склад маёнтка ўваходзілі фальваркі Трасцяніца, Алешкавічы, Бучамля, Гуркі. Дзейнічалі карчма, 3 млыны, піваварны і вінакурны з-ды. Да фальварка Трасцяніца





Праабражэнская царква (1870-я г.) у в. Трасяніца.

адносіліся вёскі Ратайчыцы, Рудавец, Ніўкі, 642 дзес. зямлі. У канцы 19 ст. ў Ратайчыцкай вол. таго ж павета. Дзейнічала Спаса-Праабражэнская драўляная царква (з 1877). Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 3 гаспадаркі, 15 жыхароў. На пач. 20 ст. маёнтак належаў барону К.М.Корфу, які валодаў 866 дзес. зямлі. У 1905 г. ў сяле 24 жыхары, у маёнтку — 72 жыхары. Летам 1906 г. ў маёнтку адбываліся сял. хваляванні. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 39 гаспадарак, 219 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 75 двароў, 421 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. З чэрв. 1941 г. да 26.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вёску загінулі 22 воіны 50-й гв. стралк. дывізіі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 24 жыхары вёскі. У 1948 г. ў пач. школе было 72 вучні. У сак. 1949 г. арганізаваны калгас імя Сталіна (у ліст. 1961у калгасе «Радзіма» з цэнтрам у в. Ратайчыцы). У 1960 г. ў вёсцы 245 жыхароў, у 1970 г. — 218 жыхароў.

У складзе ААТ «Белавежскі». Царква, брацкая магіла сав. воінаў-вызваліцеляў, бескурганны могільнік (4—2 ст. да н.э.).

**ТУМІН** — вёска ў Расненскім с/с, за 32 км на З ад Камянца, 48 км ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 68 гаспадарак, 82 жыхары (2005).

У 2-й пал. 16 ст. ў Брэсцкім пав. ВКЛ. У 1567 г. з маёнтка Тумін Багдан Тумінскі, якому належаў маёнтак, выстаўляў коней, а таксама слугу для войска. У 1-й пал. 19 ст. вёска ў складзе аднайменнага маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Згодна 8-й рэвізіі (1833) у маёнтку 634 дзес. зямлі, 177 рэвізскіх душ, у т.л. ў вёсцы 151 жыхар, 25 двароў, 312 дзес. сельгасугоддзяў. Паводле 10-й рэвізіі (1857) вёска ў аднайменным маёнтку Тумін, уласнасць Квапішэўскага, 146 рэвізскіх душ. З 1860-х г. у Палавецкай вол. тых жа павета і губерні. У 1890 г. маёнтак належаў Канстанціну Васільеву. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 36 двароў, 240 жыхароў, хлебазапасны магазін, у маёнтку 1 двор, 15 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы — 306 жыхароў, у маёнтку — 45 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Палавецкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы і фальварку 24 двары, 116 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 69 двароў, 950 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Лумненскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 15 вяскоўцаў. З 16.8.1945 г. ў Ваўковіцкім с/с. У 1948 г. арганізаваны калгас «Наперад», дзейнічала пач. школа, на той час 33 вучні. З 16.7.1954 г. ў Расненскім с/с, з 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 1959 г. ў калгасе «Савецкая Беларусь». У 1960 г. — 215 жыхароў, у 1970 г. — 222 жыхары.

У складзе СВК «Савецкая Беларусь». Магазін.



Пасудзіна 4—2-га ст. да н.э. з бескурганнага могільніка в. Трасяніца.

**ТУРНА ВЯЛІКАЯ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 15 км на Пд ад Камянца, 25 км ад горада і чыг. вузла Брэст, на аўтадарозе Камянец—Брэст. 172 гаспадаркі, 453 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска Турна ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уваходзіла ў склад маёнтка Чэнаўчыцы, уласнасць памешчыкаў Грабоўскіх. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 264 рэвізскія душы. Пасля 1861 г. вёска ў Турнянскай вол. тых жа павета і губерні. Турнянскай сельскай грамадзе належалі 570 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 61 двор, 471 жыхар, валаснoе праўленне, хлебазапасны магазін. На 1905 г. — 517 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр Турнаўскай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. вёска Турна Вялікая, цэнтр Турнаўскага с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У вёсцы на той час 92 двары, 482 жыхары, пач. школа. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 4 жыхары вёскі. У 1942 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі 12 жыхароў вёскі. З 16.7.1954 г. ў Відамлянскім с/с. У 1959 г. ў вёсцы 352 жыхары, цэнтр калгаса «Перамога». У 1970 г. — 336 жыхароў.

Цэнтр ААТ «Агра-Турна». Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, школа, магазін, філіял ашчаднага банка. Помнік на брацкай магіле воінаў і партызан.

**ТУРНА МАЛАЯ** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 17 км на Пд ад Камянца, за 23 км ад Брэста, на аўтадарозе Камянец—Брэст. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. маёнтак Турна ў Турнаўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., уласнасць графа Міхаіла Грабоўскага, зямельныя ўгоддзі складалі 1500 дзес. Паводле перапісу 1897 г. 127 жыхароў, вінакурны з-д. У 1905 г. — 139 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Турнаўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. вёска Турна Малая ў Турнаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 14 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 вясковец. З 16.7.1954 г. вёска ў Відамлянскім с/с. Паводле перапісу 62 жыхары, у 1970 г. — 52 жыхары.

У складзе ААТ «Агра-Турна».

**УНУЧКІ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 14 км на Пн ад Камянца, за 48 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарогах Камянец—Камянюкі і Камянец—Каленкавічы. 17 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска маёнтка Пашукі, уласнасць памешчыкаў Насаржэўскіх. У 1857 г. — 45 рэвізскіх душ. З 1860-х г. ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска і аднайменны маёнтак (належаў Флору Штарку). Паводле перапісу 1897 г. вёска, 12 двароў, 84 жыхары, у Сінітыцкай сельскай грамадзе; у маёнтку — 2 двары, 14 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 20 двароў, 101 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 15 двароў, 80 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 33 двары, 157 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У гады Вял. Айч. вайны на франтах загінулі і прапалі без вестак 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 135 жыхароў. У 1970 г. — 115 жыхароў, у саўгасе імя Дзімітрава.

У складзе ААТ «Камянецкая пушча».

**ХАДАСЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 12 км на Пн ад Камянца, 50 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Ражкоўка. 182 гаспадаркі, 517 жыхароў (2005).

У 1845 г. маёнтак Хадасы Горныя, уласнасць Аўгусціна Сузіна. Да яго адносілася в. Хадасы, 8 двароў, 56 наяўных душ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) вёскі Хадасы Горныя і Хадасы Дольныя (68 рэвізскіх душ) у складзе маёнтка Хадасы, уласнасць Сузіна; вёска Хадасы (22 рэвізскія душы), дзярж. ўласнасць. У другой пал. 19 ст. ў Дзмітравіцкай вол.



Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Хадасы Горныя (6 двароў, 61 жыхар, хлебазапасны магазін), Хадасы Дольныя (9 двароў, 78 жыхароў, хлебазапасны магазін); маёнткі Хадасы Горныя (уласнасць Емяльяна Сузіна, 231 дзес. зямлі, 8 дзес. лесу), Хадасы Дольныя (уласнасць Жазефіны Манькоўскай, 119 дзес. зямлі, 9 дзес. лесу), Хадасы-Залешаны (уласнасць Міхаліны Фішар, 53 дзес. зямлі, 5 дзес. лесу); выселак Ходасы (2 двары, 9 жыхароў), аколіца Хадасы (8 двароў, 42 жыхары). У 1905 г. вёскі Хадасы Малыя (253 жыхары) і Хадасы Вялікія (266 жыхароў) і маёнткі Хадасы Горныя (4 жыхары) і Хадасы Дольныя (7 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. вёскі Хадасы-Аколіца (7 двароў, 23 жыхары), Ходасы (3 двары, 7 жыхароў) і фальваркі Ходасы Дольныя (4 двары, 16 жыхароў) і Хадасы Горныя (1 двор, 14 жыхароў). У 1940 г. вёска, 24 двары, 207 жыхароў, і хутар, 4 двары, 17 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 6 жыхароў. У 1950 г. ў вёсцы 58 двароў, 254 жыхары, калгас «8 Сакавіка», пач. школа. У 1959 г. арганізаваны саўгас «Белавежскі» (з 1991 — калгас «Першамайскі». У 1970 г. ў вёсцы 296 жыхароў, цэнтр саўгаса «Першамайскі».

Цэнтр СВК «Хадасы». Помнік землякам. Дзіцячы сад, клуб, б-ка, магазін.

**ХАМУЦІНЫ** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, за 15 км на Пн ад Камянца, 54 км ад Брэста, 43 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Пашукі. 44 гаспадаркі, 82 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска маёнтка Хамуціны, уласнасць памешчыка Цяльшэўскага, у 1857 г. ў вёсцы 101 рэвізская душа. Пасля 1861 г. ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. налічвалася 15 двароў, 156 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 179 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 31 двор, 182 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 50 двароў, 262 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Пашукоўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты загубілі 11 жыхароў вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Васілеўскага. З 1952 г. ў калгасе «Беларусь», з 1958 г. ў калгасе «Бальшавік», з 1963 г. ў калгасе «Новы шлях». З 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім с/с. У 1960 г. — 227 жыхароў, у 1970 г. — 199 жыхароў.

У складзе ААТ «Новы шлях».

**ХАЦІНАВА** — вёска ў Ратайчыцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Камянца, 33 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Лышчыцы на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны. 162 гаспадаркі, 471 жыхар (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Мінкавічы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыка Івана Швыйкоўскага. Паводле інвентара 1845 г. ў вёсцы 227 наяўных сял. душ, у 1857 г. — 239 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 ст. ў Ратайчыцкай вол. Хацінаўская сельская грамада мела 318 дзес. сядзібнай і ворыўнай зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 62 двары, 389 жыхароў, школа граматы, ветраны млын, карчма. У 1905 г. — 423 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 63 двары, 310 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 376 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Баршчэўскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 вяскоўцаў. За гады акупацыі гітлераўцы загубілі 6 мірных жыхароў вёскі. У 1948 г. ў пач. школе 61 вучань. У 1949 г. арганізаваны калгас «Іскра Ільіча». З 1953 г. ў калгасе «Ленінскі шлях». У 1960 г. ў вёсцы 281 жыхар. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 307 жыхароў. З 3.7.1972 г. ў Малазводскім, з 18.10.1982 г. ў Ратайчыцкім с/с.

У складзе ААТ «Белавежскі».





**ХВАЯНАЎКА** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 17 км на Пн ад Камянца, 55 км ад Брэста, 31 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Камянюкі. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 10-й рэвізіі (1857) у вёсцы 151 рэвізская душа, дзярж. ўласнасць. З 1860-х г. у Дзмітравіцкай вол. Хваянаўская сельская грамада ў 1890 г. мела каля 400 дзес. ворыўнай зямлі, 27 дзес. лесу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 36 двароў, 236 жыхароў, у сядзібе Хваянаўка (належала Далінскаму) — 1 двор, 5 жыхароў. У 1905 г. — 46 гаспадарак, 260 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 3 двары, 20 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 39 двароў, 175 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 8 жыхароў вёскі. У 1942 г. за сувязь з партызанамі ў Прускаўскім лесе расстраляны 3 вяскоўцы. У 1950 г. ў складзе калгаса імя С.М.Кірава. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 125 жыхароў. У 1970 г. — 99 жыхароў, у саўгасе «Белавежскі».

У складзе СВК «Хадасы».

**ХМЯЛІ** — вёска ў Агародніцкім с/с, за 41 км на З ад Камянца, 44 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Катэра. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе фальварка Александрыя маёнтка Высока-Літоўск ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара 1845 г. ўладанне кн. К.Сапегі, у вёсцы 11 двароў, 84 наяўныя сял. душы. У 1857 г. вёска маёнтка Высока-Літоўск графіні Патоцкай. У канцы 19 ст. ў складзе Высока-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. На 1890 г. у Хмялёва-Агародніцкай сельскай грамадзе, якой належала каля 322 дзес. лугу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 18 двароў, 134 жыхары, вадзяны млын на р. Пульва (пры ім 8 жыхароў). На 1905 г. ў вёсцы 144 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 7 двароў, 34 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 110 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Агароднінкім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 жыхары вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «8 Сакавіка» (у 1950 налічваў 37 членаў), з 1952 г. вёска ў калгасе «Бальшавік» (14.12.1962 перайменаваны ў калгас «Дружба»). У 1960 г. — 108 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не.

У складзе ААТ «Александрыя-Агра».

**ХЛЕВІШЧА** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Камянца, 46 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Высокае—Пагранічная. 32 гаспадаркі, 56 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска казённага маёнтка Хлевішча, у 1857 г. ў ёй 304 рэвізскія душы. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Палавецкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1864 г. пабудавана Аляксандра-Неўская царква. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 73 двары, 490 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, 3 ветраныя млыны, кузня. У 1905 г. — 498 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Палавецкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 12.10.1940 г. вёска ў Бушміцкім с/с Кляшчэльскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 5 вяскоўцаў. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не. У 1948 г. ў пач. школе 68 вучняў. У 1950 г. ў вёсцы 69 двароў, 267 жыхароў, калгас імя Вярхоўнага Савета СССР. У 1960 г. ў вёсцы 370 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не, з 26.7.1968 г. ў Вярховіцкім с/с. У 1970 г. — 224 жыхары, у калгасе імя Дзяржынскага.

У складзе СВК «Агра-Ніва». Магазін. Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г.



**ЦЯРЭСІНЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Камянца, 55 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Каленкавічы. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска маёнтка Грымчыцы, уласнасць Глухавецкага. У 1857 г. — 45 рэвізскіх душ. З 1860-х г. у Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 83 жыхары, у складзе Вялічкаўскай сельскай грамады. У 1905 г. — 27 двароў, 100 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 46 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 19 двароў, 102 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 87 жыхароў. У 1970 г. — 86 жыхароў, у саўгасе «Белавежскі».

У складзе СВК «Хадасы».

**ЧАБАХІ** — вёска ў Рэчыцкім с/с, на р. Лясная, за 4 км на ПнУ ад Камянца, 43 км ад Брэста, за 32 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

У пач. 19 ст. ўласнасць ген. Гальберга. У 1818—20 гг. у вёсцы адбываліся сял. хваляванні. У сяр. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., у складзе маёнтка Камянец-Літоўскі Антона Насаржэўскага. Паводле інвентара 1846 г. ў вёсцы 3 двары, 16 сялянскіх душ. У канцы 19 ст. вёска ў Камянец-Літоўскай вол. тых жа пав. і губ. Паводле перапісу 1897 г. — 6 двароў, 37 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 4 двары, 22 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 11 двароў, 33 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. вёска была спалена. З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 54 жыхары, з 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 46 жыхароў, у калгасе імя Кірава. З 19.5.1986 г. ў Рэчыцкім с/с.

У складзе СВК «Кансуэла».

**ЧАМЯРЫ 1** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 7 км на У ад Камянца, 46 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 63 гаспадаркі, 129 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст., згадвалася як сяленне Чамяры Берасцейскага пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1-й пал. 19 ст. вёска маёнтка Падбрадзяны, належала памешчыку Станіславу Букрабу, у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы было 4 двары, 27 рэвізскіх душ. У 1857 г. казённае ўладанне, 150 рэвізскіх душ. Пасля 1861 г. сяло ў Камянец-Літоўскай вол. тых жа павета і губерні. У 1863 г. пачалося будаўніцтва драўлянай царквы на сродкі кобрынскага акруговага начальніка Грабавецкага, у 1864 г. будаўніцтва спынена ў сувязі з патрабаваннем мясц. святара перанесці храм на новае месца. У 1869 г. будаўніцтва было адноўлена. У 1890 г. дзейнічала сельская грамада, якая мела 770 дзес. ворыўнай зямлі, 63 дзес. лугу, 6 дзес. лесу. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 44 двары, 309 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 375 жыхароў, дзейнічала нар. вучылішча (97 вучняў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 37 гаспадарак, 130 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 58 двароў, 307 жыхароў, пач. школа. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 27.6.1941 г. да 18.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 148-га палка 50-й гв. стралк. дывізіі. У гады вайны фаш. акупанты загубілі 8 мірных жыхароў вёскі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 28 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Суворава. З 16.7.1954 г. ў Рэчыцкім с/с. Паводле перапісу 1959 г. — 273 жыхары. З 1964 г. ў Камянецкім с/с. У

1970 г. — 213 жыхароў, у калгасе імя Кірава. З 19.5.1986 г. ў Рэчыцкім с/с.

У складзе СВК «Кансуэла». Клуб, б-ка, магазін. Курганны могільнік 12—13 ст. за 1,1 км на ПдЗ ад вёскі.

**ЧАМЯРЫ 2** — вёска ў Рэчыцкім с/с, за 7 км на У ад Камянца, 46 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Кобрын. 17 двароў, 31 жыхар (2005).

У 2-й пал. 19 ст. маёнтак ў Дварцоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай вобл. У 1890 г. ўласнасць графа Міхаіла Грабоўскага, 504 дзес. ворыўнай зямлі, 150 дзес. лугу, 800 дзес. лесу. У 1905 г. — 121 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Дварцоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 27 гаспадарак, 164 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 46 двароў, 256 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска Чамяры 2 у Рэчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням.-фаш. захопнікі расстралялі 6 жыхароў вёскі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У 1948 г. ў пач. школе 32 вучні. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 201 жыхар, у 1970 г. — 118 жыхароў. З 14.4.1964 г. ў Камянецкім с/с. У 1970 г. — 213 жыхароў, у калгасе імя Кірава. З 19.5.1986 г. зноў у Рэчыцкім с/с.

У складзе дзярж. УП «Рэчыцкае».

**ЧАПЯЛІ** — вёска ў Расненскім с/с, за 33 км на З ад Камянца, 54 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 24 двары, 62 жыхары (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 2-й пал. 16 ст., у складзе Берасцейскага пав. і ваяводства ВКЛ. У 1589 г. ў складзе маёнтка Расна, уладанне Данілы Валкавіцкага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. вёска маёнтка Расна, уладанне памешчыка графа Грабоўскага, у 1857 г. — 147 рэвізскіх душ. З 1860-х г. у Высока-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 32 двары, 220 жыхароў, 232 дзес. ворыўнай і сядзібнай зямлі, 15 дзес. лугу, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 259 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 12 двароў, 60 жыхароў. З 1940 г. ў вёсцы 40 двароў, 198 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Расненскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 6 вяскоўцаў. У 1941 г. акупанты расстралялі 2 жыхароў вёскі. У 1948 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь» (на 1.1.1949 аб'ядноўваў 39 гаспадарак). Абслугоўваўся Высокаўскай і Вярховіцкай МТС. У 1960 г. ў вёсцы 129 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не.

У складзе СВК «Савецкая Беларусь».

**ЧАРНАКІ** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Камянца, 51 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пашукі. 56 гаспадарак, 118 жыхароў (2005).

Вядома з 17 ст., згадваецца ў 1641 г. як сяленне ў Берасцейскім пав., 15 двароў (6 з іх займаліся ловам баброў), 10 валок зямлі з 25 пуставалі. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. У 1847 г. ў складзе маёнтка Даброва, уласнасць графоў Сівераў і Бахмецьевай. Паводле інвентара ў гэты час у вёсцы меліся 51 двор, 260 рэвізскіх душ, 34 дзес. сядзібнай і 408 дзес. ворыўнай зямлі. У 2-й пал. 19 ст. адносілася ад маёнтка Янова, уласнасць Кавальскага, у 1857 г. — 333 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. ў складзе Дзмітравіцкай гміны таго ж пав., 94 двары, 632 жыхары, хлебазапасны магазін. На 1905 г. — 700 жыхароў. У 1921—39 гг. у Польшчы, у складзе Дзмітравіцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 20 двароў, 132 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 90 двароў, 471 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Навіцкавіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. На франтах загінулі 11 вяскоўцаў. Вызвалена 21.7.1944 воінамі 50-й



гв. стралк. дывізіі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Ударнік». З вер. 1950 г. ў калгасе «Бальшавік». У 1948 г. ў пач. школе 75 вучняў. З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. зноў у Навіцкавіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 430 жыхароў. У 1970 г. — 323 жыхары, у калгасе «Новы шлях».

У складзе ААТ «Новы шлях». Магазін.

**ЧАРНЁВА** — вёска ў Расненскім с/с, за 30 км на З ад Камянца, 52 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2005).

У сяр. 19 ст. вёска маёнтка Расна Грабоўскіх, у 1857 г. — 58 рэвізскіх душ у Высока-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Чарнёва-Запольскай сельскай грамадзе, 19 двароў, 112 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. — 130 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Высока-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 5 двароў, 36 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 31 двор, 170 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Расненскім с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 5 жыхароў вёскі. У 1943 г. акупанты расстралялі 2 мірных жыхароў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Кагановіча. Абслугоўваўся Вярховіцкай МТС. Пазней у складзе калгаса «Камунар». З 1957 г. ў калгасе «Савецкая Беларусь». У 1948 г. ў пач. школе 93 вучні.

У складзе СВК «Савецкая Беларусь».

**ЧВІРКІ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Камянца, 69 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Стаўпавіскі. 35 гаспадарак, 48 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. ў ёй 570 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 12.10.1940 г. вёска ў Бялоўскім с/с Гайнаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 22.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 152-га палка 50-й гв. стралк. дывізіі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 10 жыхароў вёскі. З 16.8.1945 г. ў Камянецкім р-не. У 1948 г. ў пач. школе 78 вучняў. З 16.7.1954 г. ў Ражкоўскім, з 17.11.1959 г. ў Дзмітравіцкім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 262 жыхары, у 1970 г. — 209 жыхароў.

У складзе ААТ «Камянецкая пушча». Дзейнічае Дом сац. паслуг.

**ШАЛІЧЫ 1** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Камянца, 32 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны. 11 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

У 1857 г. вёска ў складзе маёнтка Шалічы, уладанне памешчыка Целяцідкага, 186 рэвізскіх душ. У 2-й пал. 19 ст. вёска Шалічы ў Камянец-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1890 г. Шаліцкая сельская грамада мела каля 450 дзес. зямлі. Непадалёк знаходзіўся маёнтак Шалічы (цяпер в. Шалічы 2). Паводле 1897 г. ў вёсцы 35 двароў, 316 жыхароў, хлебазапасны магазін. На 1905 г. — 310 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска Шалічы 1 у складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 20 двароў, 112 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 47 двароў, 260 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 4 жыхары вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Рассвет». Дзейнічала пач. школа. У 1960 г. ў вёсцы 122 жыхары. У 1970 г. — 85 жыхароў, у калгасе «Кастрычнік».

У складзе ААТ «Відамлянскае».

**ШАЛІЧЫ 2** — вёска ў Відамлянскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Камянца, 33 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Высокае—Пружаны—Слонім. 15 гаспадарак, 31 жыхар (2005).

У канцы 19 ст. маёнтак Шалічы ў Камянецка-Літоўскай вол. Брэсцкага пав.

Гродзенскай губ. У 1890 г. ўласнасць памешчыка Міхаіла Целяціцкага, 320 дзес. зямлі, 60 дзес. лесу. У 1905 г. ў маёнтку 15 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска Шалічы 2 у складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 10 двароў, 56 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 24 двары, 187 жыхароў. З 12.10. 1940 г. ў Відамлянскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 6 жыхароў вёскі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Дружба». Дзейнічала пач. школа. У 1960 г. ў вёсцы 80 жыхароў. У 1970 г. — 67 жыхароў, у калгасе «Кастрычнік».

У складзе ААТ «Відамлянскае».

**ШАСТАКОВА** — вёска ў Войскім с/с, за 19 км на З ад Камянца, 53 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Баршчэва—Высокае. 29 гаспадарак, 58 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. Узгадваецца пад 1577 г. як с. Шастакоў у Камянецкай вол. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1-й пал. 19 ст. вёска і аднайменны маёнтак у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Уласнасць памешчыкаў Гафмейстараў. У 1857 г. — 271 рэвізская душа. Тут жыў дзеяч рэв. руху 1840—60 гг. А.П.Гафмейстар. У 1830-я г. яго бацькі пераехалі ў маёнтак Шастакова. У маёнтку нарадзіўся Р.Л.Траўгут (4.1.1826—24.7.1864), адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. на Беларусі і ў Польшчы, бацька якога арандаваў маёнтак Шастакова. У 1850 г. А.П.Гафмейстар пасля высылкі адкрыў у Шастакове школу для сялян, быў сябрам Р.Л.Траўгута. У 2-й пал. 19 ст. вёска і маёнтак у Ратайчыцкай вол. тых жа павета і губерні. У 1890 г. землі ў маёнтку Шастакова належалі Івану Жытаву (каля 250 дзес.) і Сямёну Сцялецкаму (532 дзес.). Шастакоўскай сельскай грамадзе належала 370 дзес. зямельных угоддзяў. У 1885 г. ў вёсцы 32 двары, 543 жыхары, карчма, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. ў Шастакове 70 двароў, 422 жыхары, хлебазапасны магазін, 3 ветраныя млыны, 2 кузні, карчма. У 1905 г. — 438 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ратайчыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы — 36 двароў, 200 жыхароў, у фальварку — 5 двароў, 83 жыхары. У 1940 г. вёска, 92 двары, 500 жыхароў, і хутар, 19 двароў, 102 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Ратайчыцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 7 вяскоўцаў. У 1948 г. ў пач. школе 71 вучань. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан» (у 1950 аб'ядноўваў 56 гаспадарак, 228 жыхароў). У 1960 г. ў вёсцы 247 жыхароў. З 14.4. 1964 г. ў Войскім с/с. У 1970 г. — 174 жыхары, у калгасе імя Калініна.

*Ваколіца в. Шастакова.*



У складзе калект. сялянскага аб'яднання «Колас». Магазін. За 2,5 км на ПнУ ад вёскі курганны могільнік дрыгавічоў (11—13 ст.).

**ШЧЭРБАВА** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Камянца, 45 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, на аўтадарозе Камянец—Жабінка. 75 гаспадарак, 156 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст., на той час сяленне ў Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. У сяр. 19 ст. вёска маёнтка Пруска, уласнасць памешчыка Насаржэўскага. Паводле 10-й рэвізіі (1857) — 338 рэвізскіх душ. Пасля 1861 г. ў Камянецка-Літоўскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай



губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 67 двароў, 616 жыхароў, у складзе Шчэрбаўскай сельскай грамады, хлебазапасны магазін. У 1905 г. дзейнічала нар. вучылішча, 67 вучняў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Камянец-Літоўскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 59 двароў, 278 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 102 двары, 470 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Прускаўскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 7 жыхароў вёскі. У 1948 г. ў пач. школе 87 вучняў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», пазней у калгасе імя Будзённага (15.10.1957 перайменаваны ў калгас «40 год Кастрычніка»). З 16.7.1954 г. ў Пелішчанскім с/с. У 1960 г. — 394 жыхары, у 1970 г. — 355 жыхароў. Помнік 33 землякам з вёсак Беразнякі, Індычы, Пелішча, Падбрадзяны, Седруж, Стралі, Шчэрбава, якіх ням.-фаш. захопнікі загубілі ў Вял. Айч. вайну.

У складзе ААТ «Агра-Пелішча». Клуб, б-ка, магазін.

**ШЫШОВА** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Камянца, 49 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пашукі. 41 гаспадарка, 76 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. як паселішча ў Берасцейскім пав. Трокскага ваяв. ВКЛ. Пад 1577 г. пазначана як дзярж. маёнтак у актах Берасцейскага гродскага суда. У 2-й пал. 17 ст. сяло і маёнтак у Берасцейскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, належалі жонцы скарбніка Падольскага Фядоры Тышкоўскай. У 1685 г. яна фундавала будаўніцтва Успенскай царквы, на ўтрыманне свяшчэнніка запісала 1,5 валокі зямлі, а таксама сенакосы і агароды пры сядзібе. У сярэдзіне 19 ст. сяло ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Дзейнічала Успенская царква. У 1890 г. Шышоўская сельская грамада мела больш за 300 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 54 двары, 399 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, карчма. Непадалёк знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне памешчыка Вікенція Матушэвіча, 3 двары, 35 жыхароў. У 1905 г. ў сяле 420 жыхароў, дзейнічала нар. вучылішча (75 вучняў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 52 двары, 264 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 77 двароў, 454 жыхары, і хутар, 3 двары, 15 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Навіцкавіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 8 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Маякоўскага, з вер. 1950 г. ў калгасе «Бальшавік» (з цэнтрам у в. Навіцкавічы). З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім, з 15.1.1962 г. зноў у Навіцкавіцкім с/с. У 1960 г. — 300 жыхароў, у 1970 г. — 231 жыхар.

У складзе ААТ «Новы шлях». Магазін. Царква, помнік землякам на могілках. Радзіма В.Р.Ігнацюка, які загінуў пры выкананні інтэрнацыяльнага абавязку ў Афганістане.

**ЮЎСІЧЫ** — вёска ў Каленкавіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Камянца, 59 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Высокае—Каленкавічы. 52 гаспадаркі, 111 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Вярховіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 57 двароў, 388 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня. У 1905 г. — 400 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 38 двароў, 163 жыхары. У 1940 г. ў вёсцы 420 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Бушміцкім с/с Кляшчэльскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 вяскоўцаў. З 16.8.1945 г. ў Высокаўскім р-не. У 1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Сталінскі сцяг», з 1951 г. ў складзе калгаса «Праўда». З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. З 26.7.1968 г. ў Каленкавіцкім с/с. У 1970 г. — 300 жыхароў, у калгасе «Праўда».

У складзе ААТ «Каленкавічы».

**ЯКУБОВІЧЫ** — вёска ў Пелішчанскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Камянца, 38 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Жабінка. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе аднайменнага маёнтка ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ., уласнасць памешчыцы Лізаветы Дарашэвіч. Паводле 8-й рэвізіі (1833) у вёсцы 2 двары, 17 рэвізскіх душ, 2 дзес. сядзібнай, 24 дзес. ворыўнай зямлі. У канцы 19 ст. вёска ў Жыцінскай вол. тых жа павета і губерні. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 10 двароў, 73 жыхары. У 1905 г. — 97 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жыцінскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 5 двароў, 29 жыхароў. У 1940 г. ў вёсцы 20 двароў, 90 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Пелішчанскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 3 вяскоўцы. У 1970 г. — 70 жыхароў, у калгасе «40 год Кастрычніка».

У складзе ААТ «Агра-Пелішча».

**ЯЛОВЫ ГРУД** — вёска ў Камянюцкім с/с, за 20 км на Пн ад Камянца, 59 км ад Брэста, 48 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Пашукі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. ўрочышча Яловы Груд у Белавежска-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. ва ўрочышчы 21 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1940 г. хутар, 4 двары, 21 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Падбельскім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. ням.-фаш. захопнікі спалілі хутар (5 гаспадарак). З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім с/с. У 1959 г. — 7 жыхароў. З 15.1.1962 г. ў Навіцкавіцкім, з 14.4.1962 г. ў Камянюцкім с/с. У 1970 г. — 3 жыхары.

**ЯМЕНКА** — вёска ў Навіцкавіцкім с/с, за 9 км на Пн ад Камянца, 48 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Брэст—Баранавічы, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Камянюкі. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. Пазначана пад 1640 г. як сяло ў Берасцейскім пав. і ваяв. ВКЛ. У сяр. 19 ст. вёска маёнтка Ямена, уладанне Сасноўскага, у 1857 г. ў вёсцы 86 рэвізскіх душ. Пасля 1861 г. ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 22 двары, 175 жыхароў, хлебазапасны магазін. У складзе Клепачанскай сельскай грамады, якая мела каля 400 дзес. зямлі. На 1905 г. — 200 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 16 двароў, 91 жыхар. У 1940 г. ў вёсцы 32 двары, 180 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Навіцкавіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. ням.-фаш. акупанты расстралялі 2 жыхароў вёскі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. Вызвалена 21.7.1944 г. воінамі 50-й гв. стралк. дывізіі. У 1949 г. арганізаваны калгас «Зара». На 1950 г. ў вёсцы 32 двары, 127 жыхароў. З вер. 1950 г. ў складзе калгаса «Бальшавік». З 16.7.1954 г. ў Пашукоўскім с/с. У 1960 г. ў вёсцы 110 жыхароў. З 15.1.1962 г. зноў ў Навіцкавіцкім с/с. У 1970 г. — 93 жыхары.

У складзе ААТ «Новы шлях».

**ЯНУШЫ** — вёска ў Дзмітравіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Камянца, 54 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, на аўтадарозе Камянец—Каленкавічы. 21 двор, 36 жыхароў (2005).

У сяр. 19 ст. вёска ў Брэсцкім пав., адносілася да маёнтка Грымчыцы, уласнасць Глухавецкага, у 1857 г. — 205 рэвізскіх душ. У канцы 19 ст. вёска ў Дзмітравіцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 134 жыхары мужчынскага і 125 жаночага полу, у складзе Вялічкавіцкай сельскай грамады, дзейнічалі школа граматы, хлебазапасны магазін. Побач знаходзіўся аднайменны выселак, 6 двароў,



17 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Дзмітравіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. — 47 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Дзмітравіцкім с/с Камянецкага р-на Брэсцкай вобл., на той час 41 двор, 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 8 вяскоўцаў. Працавала пач. школа, у 1948 г. — 45 вучняў. У 1949 г. жыхары вёсак Янушы і Вялічкі аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны Сцяг». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 178 жыхароў. У 1970 г. — 128 жыхароў, у саўгасе «Белавежскі».

У складзе ААТ «Камянецкая пушча».

**ЯСІНОЎКА** — вёска ў Вярховіцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Камянца, 45 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Высока-Літоўск на лініі Брэст—Беласток, транспартныя сувязі па аўтадарозе Камянец—Белавежскі—Высокае. 52 двары, 111 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе фальварка Сірацін маёнтка Капылы ў Брэсцкім пав. Гродзенскай губ. Паводле інвентара 1845 г. ўладанне памешчыцы К.Пуслоўскай. У вёсцы 46 двароў, 305 рэвізскіх душ, 387 дзес. ворыўнай зямлі, 153 дзес. сенакосу. Паводле перапісу ў складзе Ясіноўскай сельскай грамады, 77 двароў, 500 жыхароў, карчма, хлебазапасны магазін, 2 кузні. У 1905 г. — 513 жыхароў. Вёска моцна пацярпела ў час 1-й сусветнай і сав.-польскай войнаў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вярховіцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 20 жылых і 7 нежылых двароў. У 1940 г. вёска, 94 двары, 450 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў с/с Высокаўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 12 вяскоўцаў. У 1945 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка» (абслугоўваўся Вярховіцкай МТС), пазней у складзе калгаса «Расія». У 1948 г. ў пач. школе займаліся 60 вучняў. У 1960 г. — 336 жыхароў. З 17.4.1962 г. ў Камянецкім р-не. У 1970 г. — 251 жыхар.

У складзе ААТ «Каралін». Клуб, б-ка, магазін.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 2, воп. 1, спр. 76; ф. 93, воп. 1, спр. 349; ф. 254, воп. 1, спр. 614; ф. 1016, воп. 1, спр. 154—156, 166—170; ф. 1041, воп. 1, спр. 44.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 1, спр. 157; воп. 5, спр. 1016, 2115, 2124, 2310, 2315, 2319; ф. 30, воп. 5, спр. 6760, 6763; воп. 9, спр. 2387.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1, воп. 5, спр. 345; ф. 1928, спр. 124, 125.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна, ф. 1, воп. 17, спр. 1069; воп. 28, спр. 369; ф. 18, воп. 4, спр. 341; ф. 31, воп. 3, спр. 46; ф. 96, воп. 1, спр. 11, 34, 46, 48, 75, 80, 81, 97, 113, 143, 312, 385, 524, 640, 698, 709, 710, 717, 761, 780, 814, 1103, 1124, 1406; воп. 11, спр. 135, 1240.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 524.
Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском..., составленная старостою мстиславским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 г. Вильна, 1867.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 3. Вильна, 1870.
Список о составе волостей, общин и селений Гродненской губернии. Гродно, 1870.
Ординация королевских пущ в лесничествах бывшего Великого княжества Литовского, составленная по инструкции... в 1641-м году. Вильна, 1871.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Гродненской губернии на 1887 г. Гродно, 1888.
Список землевладельцев Гродненской губернии. Гродно, 1890.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 18. Вильна, 1891.
Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897.
Указатель населенным местностям Гродненской губернии... Гродно, 1905.
Памятная книжка Гродненской дирекции народных училищ на 1905/06 учебный год. Гродно, 1905.

Русская историческая библиотека. Т. 27. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 1. Книги записей. Т. 1. СПб., 1910.
Опись документов Виленского центрального архива древних актовых книг. Вып. 10. Вильна, 1913.
Русская историческая библиотека. Т. 33. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3. Книги публичных дел. Т. 1. Переписи войска литовского. Пг., 1915.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1 (IX—XVIII ст.). Мн., 1936.
Жучкевич В.А., Малышев А.Я., Рогозин Н.Е. Города и сёла Белорусской ССР: Ист.-геогр. очерки. Мн., 1959.
Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Док. и материалы. Т. 1 (1921—1929 гг.). Мн., 1962.
Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962.
Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1966.
Кисель В.П. Каменец: Ист.-эконом. очерк. Мн., 1976.
Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1984.
Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944): [Зб. дак. і матэрыялаў]. Мн., 1995.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мн., 1997.
Памяць: Камянецкі р-н. Мн., 1997.
Литовская метрика. Кн. 227 (1533—1535). Книга судных дел 8/ Подготовили И.Валиконите, С.Лазутка, Н.Шлимене и др. Вильнюс, 1999.
Там же. Кн. 51 (1566—1574). Книга записей 51/ Подготовили А.Балюлис, Р.Рагаускене. Вильнюс, 2000.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 2001.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 6, кн. 1. Мн., 2001.
Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у канцы XVI ст.; Берасцейскі павет у канцы XVI ст. (карты) // Атлас гісторыі Беларусі: Ад старажытнасці да нашых дзён: (Дадаткі да 6-томнай «Энцыкл. гісторыі Беларусі»). Мн., 2004.
Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 3. Warszawa, 1882—83; T. 13. Warszawa, 1893.
Skorowidz miejscowosci Rzeczypospolitej Polskiej. T. 8. Warszawa, 1924.




Лічбамі пазначаны:

1. Птушкафабрыка
2. Фруктовы
3. Мазуры

Маштаб 1:350 000

# КОБРЫНСКІ РАЁН

Размешчаны на З Брэсцкай вобл. Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе вобласці. 12.10.1940 г. падзелены на 13 сельсаветаў: Батчынскі, Жухавецкі, Закросніцкі, Засімаўскі, Казішчанскі, Кісялёвіцкі, Красналескаўскі, Лепясоўскі, Пескаўскі, Стрыгаўскі, Тэвельскі, Хідрынскі, Яроміцкі. 8.8.1959 г. да Кобрынскага р-на далучаны Аніскавіцкі, Гарадзецкі і Грушаўскі сельсаветы скасаванага Антопальскага р-на, Верхалескі, Дзівінскі, Навасёлкаўскі, Павіццеўскі, Хабовіцкі сельсаветы скасаванага Дзівінскага р-на. 4.4.1960 г. да раёна таксама далучаны Стрыганецкі с/с Брэсцкага р-на. 25.12.1962 г. — Восаўскі с/с Маларыцкага р-на. Цэнтр — г. Кобрын. Пл. 2 тыс. км², насельніцтва 40,2 тыс. чал. (2005). Сярэдняя шчыльнасць 20 чал. на 1 км². Уключае 162 населеныя пункты, падзяляецца на 13 сельсаветаў: Аніскавіцкі, Астроміцкі, Батчынскі, Бухавіцкі, Восаўскі, Гарадзецкі, Дзівінскі, Залескі, Кісялёвіцкі, Навасёлкаўскі, Павіццеўскі, Тэвельскі, Хідрынскі. Па тэр. раёна праходзяць чыгункі і аўтадарогі Брэст—Гомель і Брэст—Мінск. Па Дняпроўска-Бугскім канале і р. Мухавец суднаходства. Пераважная частка тэр. раёна занята Брэсцкім Палессем. Паверхня раўнінная, значна забалочаная. 90% яе размешчана на вышынях 145—150 м. Найвышэйшы пункт раёна 167,7 м знаходзіцца на П ад в. Тэўлі. Карысныя выкапні: торф, сапрапель, гліны, суглінкі. З рэк, якія цякуць па тэр. Кобрынскага р-на, найбольшая Мухавец з прытокамі Дахлоўка, Шэўня, Кобрынка, Трасцяніца. У межах раёна размешчаны Дняпроўска-Бугскі і Арэхаўскі каналы. Найбольшае возера — Любань. Пад лесам знаходзіцца 26% тэрыторыі. Балотамі занята 7% плошчы. Найбольшы балотны масіў — Вялікі Лес. У раёне створаны заказнікі мясц. значэння: Клішча, Мелянкова, Дзівін-Вялікі Лес, геалагічны — тарфяны заказнік Ёлка.

Агульная плошча с.-г. угоддзяў 116,5 тыс. га. У раёне развіты мяса-малочная жывёлагадоўля, свінагадоўля. Выро-



*Дняпроўска-Бугскі канал у Кобрынскім раёне.*



*Раённае святкаванне «Дажынак».*







Панарама г. Кобрын.

шчваюць бульбу, буракі, лён-даўгунец, кармавыя культуры, агародніну. Дзейнічаюць племзавод «Дружба», птушкафабрыка. Працуюць прадпрыемствы харч. прам-сці (Кобрынскі і Гарадзецкі кансервавыя з-ды), а таксама будаўнічых матэрыялаў, металаапрацоўкі, паліўнай (торфапрадпрыемства «Кобрынскае»), лясной галін і інш.

У раёне адкрыты пункт пропуску прыгранічнага насельніцтва Дзівін—Самары.

**КОБРЫН** — горад, цэнтр Кобрынскага р-на Брэсцкай вобласці, прыстань на р. Мухавец, чыг. станцыя на лініі Брэст—Гомель. За 52 км на У ад Брэста, 295 км ад Мінска. Транспартныя сувязі па аўтадарогах на Брэст, Ковель, Маларыту, Мінск, Пінск. Насельніцтва 50 549 чал. (2005).

Згодна з паданнем, Кобрын засн. ў 11—12 ст. нашчадкам кіеўскага кн. Ізяслава на месцы рыбацкага паселішча на востраве пры ўпадзенні р. Кобрынка ў Мухавец. Упершыню ўпамінаецца пад 1287 г. у

Святкаванне Дня горада Кобрын.





Іпацьеўскім летапісе як уласнасць валынскага кн. Уладзіміра Васількавіча (унук галіцка-валынскага кн. Рамана Мсціславіча), які завяшчаў г. Кобрын і с. Гарадзец сваёй жонцы Вользе Раманаўне. У гэты час горад знаходзіўся ў складзе Галіцка-Валынскага княства, у 1-й пал. 14 ст. — у ВКЛ. Паводле пісьмовых крыніц, у 1366 г. былі пацверджаны правы вял. кн. ВКЛ Альгерда на Кобрын і навакольныя землі; пазней горад перайшоў да яго сына Фёдара. Пасля смерці кн. Фёдара ў выніку падзелу яго ўладанняў паміж сынамі (Раманам, Гуркай і Сангушкам) утварылася Кобрынскае княства (1404). На працягу 15 ст. княства існавала ў ВКЛ як самастойная адміністрацыйна-тэр. і судовая акруга; падзялялася на Кобрынскую і Прушанскую (Пружанскую) воласці.

Родапачынальнікам князёў Кобрынскіх стаў кн. Раман Фёдаравіч. Першы раз князь упамінаецца ў 1387 г., калі ручаўся каралю Уладзіславу II Ягайлу за Алехну Дзмітрыевіча. Ён узначальваў навагародцаў у 1393 г. пад час іх паходаў на ўладанні маскоўскага князя, а ў 1394 г. — на Пскоў. У тым жа годзе ў каралеўскіх скарбовых рэестрах запісаны выдатак «за латы, накаленнікі, шлем і г.д. для князя Рамана». У1404 г. вял. кн. Вітаўт пацвердзіў правы Рамана на дзедзічнае ўладанне Кобрынам, Грушавам, Несухожам і Міланавічамі. У 1411—17 гг. Раман быў пры двары караля, дзе пасля і памёр. Пасля смерці Рамана Кобрын атрымаў у спадчыну яго сын Сямён Раманавіч — шчыры прыхільнік вял. кн. Свідрыгайлы ў вайне з Ягайлам. Калі ў 1431 г. кароль пайшоў на Луцк, дзе знаходзіўся Свідрыгайла, Сямён Раманавіч першы закрыў шлях Ягайлу. Паводле сведчання польскага гісторыка 15 ст. Я.Длугаша, каралеўскі ваявода Грыцько Кірдзіевіч у час сечы з кн. Сямёнам разбіў ушчэнт яго атрад, а самога князя «трупам палажыў». Але апошняе не адпавядае рэчаіснасці, бо Сямён Раманавіч, як вынікае з пісьмовых крыніц, жыў да 1460 г. У 1465 г. княгіня Ульяна (дачка Сямёна Гальшанскага і пляменніца трэцяй жонкі Вітаўта; памерла каля 1500) з сынам Іванам са сваіх уладанняў адпісалі на царкву Святога Спаса-Кобрынскага манастыра млын на р. Шэўня з сажалкай і зямлёй, а ігумену Варлааму — 10 сакаў мёду, святару і дзякану — па 3 сакі і 2 капы грошаў.



*Будынак былога Спаскага манастыра ў Кобрыне.*

Іван Сямёнавіч стаў апошнім мужчынскім прадстаўніком роду князёў Кобрынскіх. Ён быў адзіны з гэтага роду, хто не ўдзельнічаў у палітычным жыцці ВКЛ. У 1469 г. кн. Іван Сямёнавіч запісаў на свайго слугу Сеньку Сярговіча, які валодаў царквой святога Міколы палову «дворышча Таратопскага». У 1473 г. разам са сваёй жонкай Фядорай, дачкой пана Івана Рагацінскага, фундаваў царкву ў гонар Божага Нараджэння ў Дабучыне (Пружаны). Пасля смерці кн. Івана Сямёнавіча (каля 1490) вял. кн. ВКЛ і кароль Польшчы Казімір IV Ягелончык пакінуў Кобрынскае княства ва ўладанні яго ўдавы, якая ў 1492 г. выйшла замуж за Юрыя Паца, намесніка кіеўскага (памёр у 1506). У 1491 г., выконваючы волю памерлага кн. Івана Сямёнавіча, княгіня Фядора Іванаўна адпісала ўладанне Корчыцы Спаскаму манастыру. Каля 1507 г. прыняла каталіцкую веру пад імем Соф'я (памерла ў 1512). 4.6.1507 г. грамата вял. кн. ВКЛ і караля Польшчы



*Мікалаеўская царква ў Кобрыне.*

Аляксандра пацвердзіла правы княгіні Фядоры Іванаўны на валоданне Кобрынам і маёмасцю, атрыманую ад свайго першага мужа. У 1508 г. яна перадала Кобрын ва ўладанне сястры кн. Івана Сямёнавіча Ганне Сямёнаўне і яе мужу Венцлаву (Вацлаву) Станіслававічу Косцевічу згодна з іх просьбай. Пасля смерці Ганны Сямёнаўны і ў сувязі са згасаннем роду князёў Кобрынскіх княства было скасавана, а яго тэрыторыю вял. кн. ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт І Стары 6.4.1519 г. перадаў у пажыццёвае ўладанне ў якасці староства маршалку ВКЛ В.Косцевічу. З 1519 г. Кобрын — цэнтр аднайменнага староства, у 1520—66 гг. — Кобрынскага пав. Падляшскага ваяв., з 1566 г. ў складзе Берасцейскага пав. Пасля смерці В.Косцевіча ў 1532 г. правы на Кобрынскае староства ад Жыгімонта І Старога атрымала каралева Бона Сфорца (паводле іншых звестак, яна валодала Кобрынам у 1549—56). У Кобрыне існаваў касцёл святога Іероніма з багадзельняй (паводле даследаванняў Э.Малішэўскага, засн. ў 1500). З гэтага часу юрыдычна аформілася Кобрынская эканомія — феад. зямельнае ўладанне, падпарадкаванае каралю. Паводле «Ардынацыі аб каралеўскіх прыбытках» 1589 г. канчаткова выдзелілася ў выніку падзелу паміж дзярж. і каралеўскім скарбам. Кобрынская эканомія ў 16—17 ст. надавалася ва ўтрыманне членам каралеўскай сям'і жаночага полу. Паводле рэвізіі 1563 г., якая была састаўлена каралеўскім рэвізорам Дз.Сапегаю, Кобрынская эканомія налічвала каля 77 тыс. дзес. зямлі, падзялялася на воласці (6 у 1563) і войтаўствы. На яе тэрыторыі знаходзіліся гарады Кобрын, Дабучын (Пружаны), мяст. Гарадзец. У 1563 г. ў Кобрыне дзейнічалі касцёл, 3 праваслаўныя царквы (Прачысценская, Петрапаўлаўская і Мікалаеўская), праваслаўны Спаскі манастыр. У 1589 г. ўладальніца



*Петрапаўлаўская царква ў Кобрыне.*



Кобрына Ганна Ягелонка надала яму магдэбургскае права (дзейнічала да 1766) і герб: шчыт з выявамі святой Ганны і Маці Божай з дзіцем; была пабудавана ратуша.

Паводле інвентароў 16 ст., умацаванні горада складаліся з драўляных Верхняга (былога ўмацаванага дзяцінца ў месцы сутокаў Кобрынкі і Мухаўца) і Ніжняга (былога пасада 14—15 ст.) замкаў (існавалі з 14 ст.). Верхні замак меў форму амаль што правільнага круга, па перыметру быў абнесены валам і ровам-каналам. Паводле інвентару 1597 г., замак уяўляў сабою абарончы комплекс з сценамі-гароднямі, сярод якіх знаходзіліся 8 вежаў. Ніжнія часткі гародняў (а іх налічвалася 32) не запаўняліся зямлёю, а выкарыстоўваліся як каморы. У верхніх частках былі зроблены баявыя галерэі з байніцамі, крытыя дахам. Вежы знаходзіліся амаль на аднолькавай адлегласці адна ад другой (дзве з іх адначасова з'яўляліся брамамі). На вежах размяшчаліся верхнія баявыя памяшканні і дазорныя пляцоўкі, завершаныя гонтавымі гатрамі. Брама, якая выходзіла да моста цераз роў, што раздзяляў замкі, мела больш складаную ярусную кампазіцыю (з 4 памяшканнямі ў ярусах). Мост быў на палях з лазняй пасярод і ўпіраўся ў вежу-браму Верхняга замка. Размешчаны ў ёй пад'ёмны механізм падымаў перад брамай апошні пралёт моста. Злева ад брамы знаходзіўся дом для варты. Ніжні замак прымыкаў да Верхняга і размяшчаўся паміж Кобрынкай і Мухаўцом; меў у плане выгляд няправільнага прамавугольніка. Ахоўваўся 5 вежамі, гароднямі і парканам. У адной з вежаў размяшчаўся млын. Ніжні замак быў менш умацаваным і выкарыстоўваўся пераважна як комплекс двара староства. Некаторыя вежы гэтага замка прызначаліся для гасп. і вытворчых мэт. Злева ад гар. брамы на тэр. Ніжняга замка знаходзіліся жылы дом старосты, сад. Сярод гасп. пабудоў замка, паводле інвентара 1596 г., меліся лямус, каморы, піўніца (каля яе другі сад). Побач з кобрынскімі замкамі размяшчаўся фальварак з жылымі і гасп. памяшканнямі. Горад развіваўся на процілеглым ад Ніжняга замка беразе Кобрынкі, у 1597 г. складаўся з 2 частак: асноўнай тэрыторыі («места») і Замухавецкага прадмесця; налічваў 550 сядзібных пляцаў (335 у «месцы» і 115 на тэр. прадмесця). Цэнтрам Кобрына з'яўлялася рынкавая плошча з ратушай і 32 пляцамі забудовы. З гар. вуліц, названых у інвентары 1597 г., самай вялікай была вуліца Пінская, якая цягнулася ад рынка на У, мела рэгулярную планіроўку і ўключала па 78 пляцаў у кожным з процілеглых бакоў забудовы. Тут таксама размяшчалася касцёльная плябанія. Іншыя вуліцы Кобрына налічвалі: Чараватыцкая — 60 двароў (тут знаходзілася Петрапаўлаўская царква), Ратманская — 42 двары, Балотная (аднабаковая) — 31 двор, Брэсцкая — 65 дваровых пляцаў, Астрамечаўская — 50 пляцаў (размяшчалася Мікалаеўская царква), «вуліца над Кобрынкай» (цягнулася ад рынка) — 4 двары. Яшчэ на адной «вуліцы над Кобрынкай», якая, верагодна, з'яўлялася працягам першай уздоўж ракі, знаходзіліся 10 пляцаў, Прачысценская царква і багадзельня, Брэсцкая і Астрамечаўская вуліцы размяшчаліся на тэр. прадмесця.

Пасля падпісання Брэсцкай уніі 1596 г. кобрынскі Спаскі манастыр стаў уніяцкім, належаў ордэну базыльянаў, меў свайго архімандрыта, некаторы час падпарадкоўваўся непасрэдна літ. правінцыялу (у 1713 архімандрыя адноўлена). Пры манастыры ў 1626 г. была засн. базыльянская школа. У вер. 1626 г. ў манастыры меркавалася склікаць царк. сабор з мэтаю прымірэння праваслаўных і грэка-католікаў Рэчы Паспалітай. Непрыняцце гэтай ідэі рымскай курыяй і кіраўніцтвам праваслаўнай царквы прывяло да таго, што ў Кобрыне адбыўся толькі сабор грэка-каталіцкага вышэйшага і сярэдняга кліра на чале з уніяцкім мітрапалітам І.В.Руцкім.

У сярэдзіне 17 ст. Кобрын налічваў каля 1700 жыхароў і 500 дамоў. Горад значна пацярпеў у час нар.-вызваленчай і антыфеад. вайны 1648—51 гг. У 1648 г. Кобрынам авалодалі сял.-казацкія атрады, якія пад кіраўніцтвам Гладкага разбілі полк драгунаў стольніка ВКЛ В.Гансеўскага. У 1757 г. агульнае дзяржаўства на Брэсцкую і Кобрынскую эканоміі тэрмінам на 6 гадоў атрымаў Ежы Флемінг. Замест падзелу на воласці і войтаўства адбыўся падзел эканоміі на губерні і ключы, да якіх дапісваліся яшчэ асобныя вёскі, фальваркі і інш. Узнікла Кобрынская губ. з 8 ключоў (у яе складзе былі Кобрын, 9 сёл і 2 фальваркі). Ваенныя дзеянні, агульны гасп. заняпад прывялі да скасавання ў 1766 г. самакіравання, але Кобрынская эканомія захавалася (да 1795). З 1768 г. яе рэарганізацыяй займаўся А.Тызенгаўз, аднак скарачэнне колькасці насельніцтва, прыцягненне значных сіл на будаўніцтва Каралеўскага (Дняпроўска-Бугскага) канала, агульнае палітычнае пагаршэнне сітуацыі ў краіне не далі станоўчых вынікаў. У 1784 г. Кобрын наведаў апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. З 1791 г. горад — цэнтр Кобрынскага пав. Брэсцкага ваяв. 17.9.1794 г. на тэр. Кобрынскага пав. каля в. Крупчыцы (цяпер Жабінкаўскі р-н), адбыўся адзін з самых значных баёў паміж паўстанцамі пад камандаваннем К.Серакоўскага і рус. войскамі пад кіраўніцтвам А.В.Суворава (прынялі ўдзел да 20 тыс. чал.).



Будынак Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А.В.Суворава.

У 1790-я г. Кобрын налічваў больш за 2 тыс. жыхароў, 300 дамоў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, павятовы горад Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. Кобрын і маёнтак Кобрынскі ключ з сядзібай у 1795 г. падараваны Кацярынай II Сувораву. Пасля смерці фельдмаршала маёмасць была распрададзена яго нашчадкамі. З 1808 г. сядзіба знаходзілася ва ўладанні Г.Гельвіча, потым — у Шацільскіх, з 1852 г. — у Аляксандра Міцкевіча, брата паэта Адама Міцкевіча. Пазней частка маёнтка належала Л.А.Зялінскаму; у 1890 г. 245 дзес. зямлі Кобрынскага ключа валодала М.Скаўронская, 196 дзес. зямлі — Г.Міцкевіч. У канцы 18 — пач. 19 ст. ў горадзе знаходзіліся 3 царквы, драўляныя касцёлы. У Айчынную вайну 1812 г. ў Кобрыне і наваколлі 15(27). 7.1812 г. адбыўся бой паміж рус. дывізіямі К.В.Ламберта і Я.І.Чапліца 3-й Заходняй арміі А.П.Тармасава і атрадам




Мемарыяльная дошка на доме, дзе жыў А.М. Мартынаў, у Кобрыне.







*У парку культуры і адпачынку імя А.В.Суворава ў Кобрыне.*

саксонскага корпуса Ж.-Л.Рэнье з перамогай рус. войск (у 1912 устаноўлены помнік у гонар перамогі). У выніку ваенных дзеянняў 1812 г. ў Кобрыне згарэлі 548 дамоў з 630. У 1813 г. ў горадзе быў расквatараваны Іркуцкі гусарскі полк, у якім служыў карнет А.С.Грыбаедаў. У 1825 г. налічвалася 1954 жыхары, 4 мураваныя і 457 драўляных дамоў. У 1828 г., паводле Указа імператара Мікалая I, у Спаскім манастыры адкрылася духоўнае вучылішча. Пасля 1839 г. манастыр быў зачынены, а яго маёнткі перададзены ў казну. На гар. тэрыторыі яму належалі (да 1842) драўляны дом фальварка з амбарам і 3 юрыдыкі з 17 пляцамі. На тэр. юрыдык размяшчаліся манастыр, дом шпітальны і прыходскае вучылішча. На ўскраіне горада па дарозе на Пінск знаходзілася Кобрынская пляба-



*Помнік у гонар перамогі 1812 г. ў Кобрыне.*



*Гасцініца «Суворaў» у Кобрыне.*


*Сабор Аляксандра Неўскага ў Кобрыне.*

нія, план, рэестр і дакументы якой згарэлі ў час пажару касцёла 1835 г. Паводле інвентара плябаніі 1830 г., яна налічвала 32 дзес. 1050 сажняў зямлі, 4 гаспадаркі, 27 сялян. У 1843 г. ў Кобрыне праводзіліся 2 ярмаркі: Петрапаўлаўская і Успенская. У 1846 г. было завершана будаўніцтва шашы Масква—Варшава, якая прайшла праз горад. У сувязі з гэтым гараджане вызваляліся ад пастояў войска; яны выконвалі такую павіннасць толькі ў час ваенных паходаў і праходжання розных вайск. атрадаў (да 1850). Праз горад таксама праходзіў гандл. шлях на Ашмяны і Вілейку. У 1848 г. ў Кобрыне было 550 двароў, 1673 жыхары, працавалі бальніца (на 15 ложкаў), 5 прадпрыемстваў па вырабе свечак, металічны з-д. У 1864 г. — часовая ваенная і гар. бальніцы (размяшчаліся ў наёмных прыстасаваных будынках), 2 багадзельні, прыходскае вучылішча (16 вучняў), павятовае духоўнае вучылішча (81 вучань); у горадзе і павеце налічвалася 104 043 жыхары, 6 урачоў. У 1882 г. праз горад пракладзена Палеская чыгунка (прайшла па паўн. ускраіне). У 1886 г. дзейнічалі царква, касцёл (мураваны, пабудаваны ў 1846 на месцы згарэлага ў 1812), сінагога. У 1887 г. 8120 жыхароў, у 1890 г. працавалі 6 крам, гасцініца, пошта, 3 карчмы, меліся царква і сінагога. У 1897 г. Кобрын — горад, 10 355 жыхароў, каля 30 прадпрыемстваў; чыг. станцыя, 9 двароў, 84 жыхары. Побач з горадам, каля р. Мухавец, знаходзілася юрыдыка Кобрынская (пасад Стрыгаўскай вол.), 8 двароў, 57 жыхароў. Сярод прадпрыемстваў у 1896 г. дзейнічалі: 4 гільзавыя папяросныя ф-кі (98 рабочых), 12 мукамольных з-даў (17 рабочых), 2 маслабойныя прадпрыемствы (6 рабочых), 3 гарбарні (6 рабочых), 6 цагельняў (17 рабочых), 3 прадпрыемствы па вырабе свечак (3 рабочыя). У 1897—1905 гг. працавала Кобрынскае вінакурнае прадпрыемства, з 1898 г. — 3 друкарні. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. у Кобрыне дзейнічаў камітэт Усерасійскага саюза чыгуначнікаў. У 1914 г. працавалі 25 дробных прадпрыемстваў (72 рабочыя). З 1915 г. Кобрын быў акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. 30.7.1920 г. вызвалены Чырвонай Арміяй, да 13.9.1920 г. дзейнічаў павятовы ваенна-рэв. к-т (на доме, дзе размяшчаўся рэўком, у 1959 устаноўлена мемарыяльная дошка).


*Сквер імя А.І.Марозава ў Кобрыне.*



З 1921 г. Кобрын у складзе Польшчы, цэнтр аднайменных гміны і павета Палескага ваяв. Дзейнічаў павятовы к-т КПЗБ, адбыліся дэманстрацыі рабочых і сялян у 1925, 1931 і 1936 гг., рэв. выступленне сялян Кобрынскага пав. ў жн. 1933 г. На будынку № 6 па вуліцы Савецкай, у якім у 1920-я г. размяшчалася явачная кватэра КПЗБ, у 1959 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1921 г. ў Кобрыне 878 будынкаў, 8208 жыхароў; у 1931 г. — 1342 будынкі, 10 101 жыхар. У 1922—23 гг. на тэр. Кобрынскага пав. працавалі 88 дзярж. школ (усе з выкладаннем на польскай мове, 5728 вучняў) і 3 прыватныя школы (1 польская і 2 яўрэйскія). З вер. 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. — цэнтр Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. Кобрын — горад, 11 020 жыхароў, 1323 жылыя будынкі. Дзейнічалі гарсавет, парт. ўстановы, электрастанцыя, друкарня райгазеты «Труд», лесапільны з-д (120 рабочых), паравы млын (15 рабочых), 4 маторныя млыны з маслабойкамі (53 рабочых), 2 майстэрні па вырабе валёнак, 2 мылаварні, 3 ваўначоскі, 4 цагельні (17 рабочых), вяровачная майстэрня, 5 ліманадных з-даў, 14 хлебапякарняў, жывёлабойня (27 рабочых). Працавалі Дом сац. культуры, б-ка, пошта, тэлеграф, сярэдняя (у 1939 — гімназія, 1121 вучань) і 4 пач. школы (у 1939 — нар. школы, 1828 вучняў), 2 кінатэатры, 2 аптэкі, бальніца, 2 амбулаторыі, лазня, 26 гандл. кропак, 2 гасцініцы. У 1940 г. арганізаваны 10 арцелей, у т.л. мясная, кравецкая, слясарная, гарбарная і г.д.

У Вял. Айч. вайну Кобрын і раён з 23.6.1941 г. да 20.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі толькі ў горадзе каля 6900 чал. На тэр. Кобрына і раёна ў гады вайны дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б (ліст. 1943 — 19.7.1944) і ЛКСМБ (1.9.1943—19.7.1944), партыз. брыгады імя Сталіна, імя Чапаева, «Савецкая Беларусь», асобныя партыз. атрады імя Катоўскага, «Сокалы», група «Іскра». Вызвалены ў ходзе Люблін-Брэсцкай аперацыі 1944 г.; 12 вайск. часцям нададзены найменні «Кобрынскіх». З 1946 г. працуе Кобрынскі ваенна-гіст. музей імя А.В.Суворава. Паводле



*Касцёл Спачыну Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Кобрын.*



*Фрагмент святкавання Дня Незалежнасці ў г. Кобрын.*



*Дзіцячая школа мастацтваў у г. Кобрын.*



*Адміністрацыйны будынак Кобрынскага ўпраўлення магістральных газаправодаў «Белтрансгаз» у Кобрыне.*



*Цэх сарціроўкі яек на Кобрынскай птушкафабрыцы.*

перапісаў насельніцтва Кобрын налічваў у 1959 г. 13 686 жыхароў, у 1970 г. — 24 900 жыхароў. З 7.3.1963 г. Кобрын з'яўляецца горадам абласнога падпарадкавання. У 1996 было 51,6 тыс. жыхароў. У горадзе працуюць інструментальны і аўтарамонтны з-ды, прадзільна-ткацкая і швейная ф-кі, ільнозавод, хлебазавод, масласырзавод, кансервавы з-д, птушкафабрыка, мэблевая ф-ка, «Сельгастэхніка», друкарня, 8 сярэдніх, базавая і муз. школы, 2 спартыўныя, школа-інтэрнат, 2 б-кі, 2 кінатэатры, Дом культуры, бальніца. Выдаюцца газ. «Кобрынскі веснік» (раней наз. «Камуністычная праца») і «Кобрынінфарм».




*Спецыялізаваная дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву ў г. Кобрын.*

На тэрыторыі Кобрына знаходзяцца: помнікі гісторыі — брацкая магіла 174 сав. воінаў (помнік устаноўлены ў 1959 у скверы імя В.П.Пуганава); брацкая магіла 30 сав. воінаў і партызан (помнік устаноўлены ў 1957); 4 брацкія магілы сав. воінаў на могілках (пахаваны каля 40 воінаў); абеліск у гонар 200-годдзя пачатку будаўніцтва Дняпроўска-Бугскага канала (устаноўлены ў 1975); абеліск на месцы загубы мірных жыхароў (устаноўлены ў 1975); магіла ахвяр фашызму (абеліск устаноўлены ў 1967); помнік у гонар 40-й гадавіны перамогі ў Вял. Айч. вайне; помнік перамогі ў 1812 г. (адноўлены ў 1951); помнік падпольшчыкам (устаноўлены ў 1974); помнік А.В.Сувораву (устаноўлены ў 1964); помнікі архітэктуры — Мікалаеўская царква (пабудавана з дрэва ў 1750 за межамі горада, перанесена на тэр. Кобрына ў 1839, часткова перабудавана ў 1860-я г.); касцёл Спачыну Найсвяцейшай Дзевы Марыі (1843); Петрапаўлаўская царква (пач. 20 ст.); будынак паштовай станцыі (пабудаваны ў 1846); сабор Аляксандра Неўскага (1868); Спаскі манастыр (15—18 ст.); сядзібны дом Суворава (1794); гар. парк імя Суворава; будынак былой сінагогі (пабудаваны ў 2-й пал. 19 ст.).



*Брацкая магіла савецкіх воінаў у скверы імя В.П.Пуганава ў Кобрыне.*



У г. Кобрын нарадзіўся Герой Сав. Саюза У.М.Кірмановіч (у гады Вял. Айч. вайны быў камандзірам знішчальнай процітанкавай батарэі).

**АВАДЫ** (мясц. назва Овады) — вёска ў Хідрынскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын на лініі Брэст—Гомель, 51 км ад Брэста. 16 гаспадарак, 38 жыхароў (2005).

Упершыню ўпамінаюцца ў 1747 г. У 1890 г. Авады — вёска Верхалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 178 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 116 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1905 г. 154 жыхары. З 1915 г. вёска была акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; 4 двары, 22 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 30.10.1959 г. ў Верхалескім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 20 двароў, 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Авады акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 79 жыхароў. У 1999 г. 19 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (з 2004 СВК «Узыходзячая зара»; цэнтр — в. Хідры).

**АГАРОДНІКІ** (мясц. назва Огоріднікі) — вёска ў Батчынскім с/с, за 8 км на З ад горада і чыг. ст. Кобрын, 46 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Жабінка. 12 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

У 1597 г. Агароднікі — сяло Патрыкаўскага войтаўства Кобрынскага старства Брэсцкага ваяв. ВКЛ. Размяшчалася пры фальварку Чаравачыцы, налічвала 10 валок зямлі, падзеленых па паўвалокі. Вяскоўцы выконвалі агародніцкую службу ў полі, а жанчыны — на агародах. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) вёска ў складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 1897 г. вёска ў Прускаўскай вол. Кобрынскага пав., 20 двароў, 178 жыхароў; 236 дзес. зямлі (на 1890). У 1905 г. 193 жыхары. З 1915 г. Агароднікі акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; 22 двары, 126 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Батчынскім с/с таго ж раёна і вобласці. У 1940 г. хутары Агароднікі налічвалі 41 двор, 221 жыхара. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас «Радзіма» (старшыня Ф.Я.Белюсь). У 1970 г. ў вёсцы 84 жыхары. У 1999 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Ільіча» (з 2004 СВК «Батчы»; цэнтр — в. Батчы).

**АДРЫНКА** (мясц. назва Одрынка) — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 35 км на ПнУ ад г. Кобрын, 16 км ад чыг. ст. Гарадзец на лініі Брэст—Гомель, 79 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брэст—Мінск. 1 двор, 1 жыхар (1999).

У 1897 г. Адрынка — лясная ахова, 7 жыхароў, у Іласкай вол. Кобрынскага пав.



*У.М.Кірмановіч.*



*Малельны дом баптыстаў у г. Кобрын.*





Гродзенскай губ. Побач знаходзіліся: лясная ахова Адрынка (Мазуры), 4 жыхары і выселак Адрыні (Астраўкі), 2 двары, 28 жыхароў, шкіпінарны з-д. У 1905 г. аховы: Адрынка (3 жыхары) і Адрынка-Мазуры (2 жыхары). З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; 11 двароў, 59 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзямідаўшчынскім, з 16.7.1954 г. ў Грушаўскім, з 21.1.1961 г. ў Гарадзецкім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска, 62 жыхары. У 1949 г. створаны калгас «Бальшавік» (старшыня М.Гаранюк), 17 гаспадарак. У 1999 г. вёска Адрынка ў складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец).

**АКЦЯБР** (да 1940 Камень-Шляхецкі; мясц. назва Камень-Шляхэцькі) — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 19 км на ПнУ ад г. Кобрын, 8 км ад чыг. ст. Гарадзец на лініі Брэст—Гомель, 69 км ад Брэста. 273 гаспадаркі, 607 жыхароў (2005).

У 1524 г. Жыгімонт (Сігізмунд) І Стары выдаў пацвярджальны прывілей на маёмасць Камень дваранам Верашчакам. У 1582 г. Камень у Кобрынскім старостве; Стафан Баторый надаў Верашчакам прывілей, які перадаваў маёмасць з Кобрынскага пад Берасцейскі прысуд. У 1739 — маёнтак, уладанне Верашчакаў, у Брэсцкім ваяв.; у 1777 г. — Камень-Шляхецкі, уладанне князёў Шуйскіх. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў складзе Гродзенскай губ. У 1864 г. было адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. Камень-Шляхецкі — сяло Гарадзецкай вол., 45 двароў, 590 жыхароў, меліся царква, школа, праводзіліся 2 ярмаркі. У 1890 г. — сяло, 683 $^3/_4$ дзес. зямлі; царк. прычт, 77 дзес. зямлі; пасёлак (на тэр. Залескай вол.), 27 $^1/_2$ дзес. зямлі; другі пасёлак (Гарадзецкая вол.), 213 $^3/_4$ дзес. зямлі розных уладальнікаў. Побач знаходзіліся аднайменныя 5 маёнткаў, уладанні: Э.Чарноцкага, 250 дзес. зямлі (разам з фальваркам Адэлін); Юсціны Багуслаўскай, 281$^1/_4$ дзес. зямлі; І.Бржастоўскага, 91 дзес. зямлі; І.Пятрова, 175 дзес. зямлі; Уладзіслава Міцкевіча, 102 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. Камень-Шляхецкі: сяло, 119 двароў, 792 жыхары, хлебазапасны магазін; царк. прычт, 2 двары, 12 жыхароў, царква (у 1888 у праваслаўным Камень-Шляхецкім прыходзе 2650 вернікаў), нар. вучылішча, 1 двор, 7 жыхароў (у 1889/90 навуч. годзе вучыліся 60 хлопчыкаў, 1 дзяўчынка; у 1892—93 — 72 хлопчыкі, 5 дзяўчынак; у 1905—06 — 76 хлопчыкаў, 11 дзяўчынак). 5 маёнткаў налічвалі 70 жыхароў. У 1905 г. сяло налічвала 896 жыхароў, 5 маёнткаў — 36 жыхароў. З 1915 г. сяло і маёнткі акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі.

У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска (68 двароў, 312 жыхароў) і 5 фальваркаў (36 жыхароў). У 1930-я г. працавалі школа, чытальня, вячэрнія курсы, тэатральны і харавы гурткі. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Акцябрскага с/с, з 31.3.1959 г. ў Гарадзецкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. на тэр. сельсавета знаходзіліся 5 вёсак, 164 хутары, 505 двароў, 2265 жыхароў; у вёсцы — 152 двары, 681 жыхар, няпоўная сярэдняя школа (257 вучняў), хата-чытальня, каап. крама, сельсавет (тэлефона не было). У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 129 землякоў. На ўшанаванне іх памяці ў 1979 г. каля клуба ўстаноўлены помнік. На вясковых могілках у 2 магілах пахаваны 3 і 7 партызан, якія загінулі ў баях з ням. акупантамі 13.3.1943 г. і 19.4.1944 г. У 1965 г. на магілах пастаўлены абеліскі. У 1949 г. 40 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас (старшыня А.П.Шаўчук); у вёсцы працавала хата-чытальня. У 1999 г. 277 гаспадарак, 641



жыхар, цэнтр калгаса «Кастрычнік». Размешчаны 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа. Помнік архітэктуры — драўляная Свята-Пакроўская царква (пабудавана ў 1937).

У в. Акцябр нарадзіўся доктар філасофскіх навук, праф. Г.П.Давідзюк.

**АЛЬХОЎКА** (мясц. назва Ольхіўка) — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 62 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Макраны. 52 гаспадаркі, 137 жыхароў (2005).

У 1897 г. Альхоўка — вёска Верхалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 19 двароў, 190 жыхароў, 368 $^1/_2$ дзес. зямлі (на 1890). У 1905 г. было 238 жыхароў. З 1915 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; 12 двароў, 73 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Верхалескім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не, з 30.10.1959 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 85 двароў, 155 жыхароў, пач. школа. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 40 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Калініна (старшыня П.І.Пшано). У 1970 г. 201 жыхар. У 1999 г. 60 гаспадарак, 145 жыхароў, у складзе калгаса імя Чкалава (з 2004 СВК «Верхалескі»; цэнтр — в. Верхалессе). Працуе магазін.

**АНДРОНАВА** — вёска ў Батчынскім с/с, на паўд.-зах. беразе р. Шэўня (прыток Мухаўца). За 6 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 58 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Камянец. 153 гаспадаркі, 417 жыхароў (2005).

У 1465 г. ў лісце княгіні Ульяны ўпамінаецца Андронаўская зямля. У 1563 г. Андронава — востраў «на грунце» сяла Батчы, у Кобрынскай эканоміі Падляшскага, з 1566 г. Брэсцкага ваяв. ВКЛ. У 1729 г. — сяло, 14 валок зямлі, мелася царква (уніяцкая). У 1704 г. брэсцкі падстараста Ян Бенклеўскі пацвердзіў Андронаўскай царкве 1,5 валокі зямлі, якія былі нададзены ёй яго продкамі. Пасля 3-га падзелу Рэчы паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 1886 г. Андронава — сяло Стрыгаўскай вол. Брэсцкага пав., 23 двары, 264 жыхары; меліся праваслаўная царква і піцейны дом. У 1890 г. сяло налічвала 393 дзес. зямлі, царк. прычт меў 48 $^1/_4$ дзес. зямлі; аколіца Андронава (уладанні розных уласнікаў) — 93 дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне Фелікса Банькоўскага, 552 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Андронаве 53 двары, 329 жыхароў, прыходская царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. Вакол сяла размяшчаліся: маёнтак Андронава, 41 жыхар, працаваў маслабойны з-д; жылы дом Андронава (6 жыхароў) і 4 прыватнаўласніцкія сядзібы Андронава, якія налічвалі адпаведна 7, 16, 5 і 5 жыхароў. У 1905 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі: сяло (452 жыхары) і маёнтак (84 жыхары). З 1915 г. сяло і маёнтак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска Андронава (35 двароў, 183 жыхары) і 2 фальваркі: Андронава 1 — 4 двары, 43 жыхары; Андронава 2 — 2 двары, 7 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Батчынскім с/с таго ж раёна і вобласці. У 1940 г. Андронава: хутары, 11 двароў, 77 жыхароў, была школа; былыя фальваркі 1-ы, 2-і, 3-і — 4 двары, 25 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1970 г. 458 жыхароў. У 1999 г. 132 гаспадаркі, 339 жыхароў, цэнтр аграфірмы-калгаса «Патрыкі». Размешчаны клуб, адм. будынак гаспадаркі.



*Г.П.Давідзюк.*

**АНІСКАВІЧЫ** (мясц. назва Оніскови́чы) — вёска, цэнтр Аніскавіцкага с/с, за 34 км на ПдУ ад г. Кобрын, 8 км ад чыг. ст. Гарадзец на лініі Брэст—Гомель. 78 км ад Брэста. 79 гаспадарак, 197 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як с. Вуглы Вугольскага войтаўства Кобрынскай эканоміі ВКЛ. У 1563 г. сяло размяшчалася сярод балот на Пд ад в. Бародзічы, а валокі (рэзаныя валокі) раздаваліся сялянам астраўкамі. Усяго налічвалася 21 валока зямлі, з якіх 1 вольная была нададзена войту І.Валатковічу; 18 гаспадарак. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска Вуглы складалася з 8 пасёлкаў: Аніскавічы, Вашчэвічы, Выгода, Дашэвічы, Дубіны, Мелянкова, Соўплі, Старадубцы; 1130 дзес. зямлі, у складзе Гарадзецкай вол. У 1897 г. вёска Вуглы (Аніскавічы), 44 двары, 251 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1905 г. в. Аніскавічы, 321 жыхар. З 1915 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; 70 двароў, 394 жыхары. У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр Аніскавіцкага с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. на тэр. Аніскавіцкага с/с знаходзіліся 13 вёсак, 87 хутароў, было 2214 жыхароў; в. Аніскавічы налічвала 64 двары, 454 жыхары, дзейнічалі пач. школа, каап. крама, сельсавет (тэлефона не было). У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Аляксандра Неўскага (старшыня М.Даўжук). У 1970 г. ў вёсцы 292 жыхары. У 1999 г. 86 гаспадарак, 239 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны). Размешчаны будынак выканкома сельсавета, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа.

**АРЭХАЎСКІ** (мясц. назва Орэхаўкі) — пасёлак у Дзівінскім с/с, за 42 км на ПдУ ад г. Кобрын, 24 км ад чыг. ст. Гарадзец на лініі Брэст—Гомель, 86 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Павіцце—Дзівін—Кобрын. 307 гаспадарак, 1077 жыхароў (2005).

Пабудаваны пасёлак у 1980-я г. на месцы непраходнага балота. У 1999 г. 324 гаспадаркі, 1248 жыхароў, цэнтр саўгаса «Днепра-Бугскі» (раней «Арэхаўскі»). Размешчаны адм. будынак саўгаса, Дом культуры, амбулаторыя, дзіцячы сад, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, лазня, 2 магазіны, сталовая, сярэдняя школа, бібліятэка.

**АСМОЛАВІЧЫ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 28 км на ПнУ ад г. Кобрын, 9 км ад чыг. ст. Гарадзец на лініі Брэст—Гомель, 72 км ад Брэста. 22 гаспадаркі, 32 жыхары (2005).

У 1786 г. Асмолавічы — сяло ў Брэсцкай эканоміі Брэсцкага ваяв., 1 валока 90 маргоў зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1897 г. вёска Іласкай вол., каля гандл. шляху Антопаль—Пружанскі павет, 33 двары, 198 жыхароў, 189 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі (на 1890), нар. вучылішча. Вясковыя пабудовы размяшчаліся каля царк. прычта. Побач знаходзіўся аднайменны пасёлак, 16 жыхароў, карчма. У 1905 г. ў вёсцы 194, у пасёлку — 17 жыхароў. З 1915 г. вёска і пасёлак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; 25 двароў, 97 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, тэатральны гурток. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзямідаўшчынскім, з 16.7.1954 г. ў Грушаўскім, з 21.1.1961 г. ў Гарадзецкім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Асмолавічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г.



да ліп. 1944 г. У 1970 г. было 136 жыхароў. У 1999 г. 28 гаспадарак, 51 жыхар, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец).

**АСТРАЎЛЯНЫ** (мясц. назва Островляны) — вёска ў Хідрынскім с/с, за 4 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 46 км ад Брэста. 81 гаспадарка, 227 жыхароў (2005).

У 1897 г. Астраўляны — вёска Прускаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ, 22 двары, 133 жыхары, меліся хлебазапасны магазін, майстэрня; 106 дзес. зямлі (разам з урочышчам Вялікі Роў, 1890). У 1905 г. вёска (159 жыхароў) і аднайменнае ўрочышча (9 жыхароў). З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 2 двары, 19 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Пескаўскім, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім, з 18.12.1972 г. ў Хідрынскім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 25 двароў, 131 жыхара. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Астроўскага. У 1999 г. 60 гаспадарак, 163 жыхары, у складзе аграфірмы «Беларусь» (з 2004 СВК «Вербнае»; цэнтр — в. Пескі).

**АСТРОМІЧЫ** (да 1970 Астромічы Каралеўскія, мясц. назва Остромічы) — вёска, цэнтр Астроміцкага с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 57 км ад Брэста. На шашы Брэст—Мінск. 293 гаспадаркі, 840 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як сяло і маёнткі Астрамечаны ў Кобрынскім пав. ВКЛ. У 1559 г. адзін з маёнткаў Астрамечаны знаходзіўся ва ўладанні Барыса, Васкі, Івана Харычаў; другі — Мацвея, Андрэя Жалабовічаў і Богуша Казловіча. У с. Астрамечаны сваю частку аселасці і маёмасці мелі Лазар Мачаловіч (разам з людзьмі), Лаўрын Лубвіч і Фёдар Мацкевіч. У 1563 г. сяло Астрамеч у Кобрынскай эканоміі, 24 валокі зямлі, з якіх 22 асадныя, 2 вольныя: войту Астрамецкага войтаўства І.Дашковічу (1 валока), двум баброўнікам па паўвалокі — Д.Бабковічу і М.Еськавічу. У 1597 г. сяло Астравец, 24 валокі зямлі, у Кобрынскім старостве; знаходзілася ў пажыццёвым уладанні ў Крыштофа Зяновіча, ваяводы брэсцкага, паводле прывілея караля Стафана Баторыя. У 1612 г. маёнтак Двор Астрамеч і с. Астрамеч Брэсцкага пав. былі ва ўладанні К.Гарноўскага. У 1786 г. сяло налічвала 24 валокі 50 маргоў зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1874 г. было адкрыта нар. вучылішча. У 1890 г. Астромічы Каралеўскія — вёска Падалескай вол., 430 дзес. зямлі; аколіца (розныя ўладальнікі), 134 дзес. зямлі; маёнтак, уладанне Уладзіслава Баяроўскага, 345 дзес. зямлі. Непадалёку размяшчаліся: в. Астромічы Шляхецкія, 38 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі; аднайменны маёнтак, уладанне Станіслава Манькоўскага, 236 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі; фальварак Астромеч, уладанне П.Шыраева (разам з маёнткам Запруды, лясной дачай Гіркаўка — 736 дзес. зямлі). У 1897 г. вёска Астромічы Каралеўскія (Зарубічы) налічвала 17 двароў, 133 жыхароў, в. Астромічы Каралеўскія (Гадкі) — 30 двароў, 71 жыхара; в. Астромічы Каралеўскія (Канец) — 18 двароў, 109 жыхароў; аднайменны выселак — 9 жыхароў, мелася кузня. Тры пасёлкі Астромеч Каралеўскі (пры Маскоўска-Варшаўскай шашы) налічвалі 36 жыхароў, ветраны млын, краму штучнага гандлю; аднайменны маёнтак — 35 жыхароў. У в. Астромічы Шляхецкія — 13 двароў, 76 жыхароў; у аднайменных: аколіцы — 10 двароў, 56 жыхароў; маёнтку — 35 жыхароў. У 1905 г. ў раёне сучаснай вёскі існавалі: в. Астромічы (336 жыхароў) і в. Астромеч Шляхецкі (129 жыхароў); маёнткі Астромеч каралеўскі (16 жыхароў) і Астромеч Шляхецкі (17 жыхароў). Працавала нар. вучылішча, у якім у 1905/06 навуч.

годзе вучыліся 70 хлопчыкаў, 8 дзяўчынак. У 1906 г. сяляне в. Астромічы адмаўляліся працаваць у памешчыка. З 1915 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Вёска Астромеч Каралеўскі налічвала 52 двары, 299 жыхароў, аднайменны фальварак — 2 двары, 30 жыхароў. Вёска Астромеч Шляхецкі — 20 двароў, 108 жыхароў; фальварак — 4 двары, 30 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Жухавецкім с/с, з 16.7.1954 г. Астромічы — цэнтр сельсавета таго ж раёна і вобласці. У 1940 г. існавалі хутары: Астромеч Каралеўскі (61 двор, 361 жыхар, дзейнічалі паравы млын, магазін) і Астромеч Шляхецкі (30 двароў, 190 жыхароў, працавала пач. школа). Побач знаходзіліся аднайменныя былыя маёнткі — 2 двары, 15 жыхароў, і 1 двор, 20 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У баях за вызваленне в. Астромічы загінулі 18 воінаў Сав. Арміі (пахаваны каля гандл. цэнтра; у 1961 на магіле ўстаноўлены помнік). У 1969 г. налічваліся 78 гаспадарак, 222 жыхары. У 1999 г. 285 гаспадарак, 908 жыхароў, цэнтр калгаса імя Мічурына. На тэр. сучаснай вёскі размешчаны Дом культуры, б-ка, муз. і сярэдняя школы, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная і шавецкая майстэрні, 2 магазіны. Дзейнічае малітоўны дом евангельскіх хрысціян-баптыстаў.


*Аўтапрабег па месцах баявой славы ў в. Астромічы.*

**БАЛОТЫ** (Вялікія Балоты; мясц. назва Болота) — вёска ў Кісялёвіцкім с/с, за 15 км на пдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 61 км ад Брэста. 249 гаспадарак, 523 жыхары (2005).

У 1513 г. сяло Балоты было перададзена Кобрынскаму касцёлу. У 1559 г. маёнтак Балачане ў складзе Кобрынскага пав. ВКЛ, уладанне Фёдара Балоцкага з братамі Кірылам і Тарасам. У 1623 г. Балоты — маёнтак, уладанне луцкіх езуітаў. У 1652 г. вядома Балоцкая царква (у маёнтку). Ад Луцкага езуіцкага калегіума ёй быў нададзены фундуш на пару валоў, жыта, 50 злотых і г.д. У маёнтку і сяле Балоты (Блоты) дзейнічалі карчма і бровар. У 1672 г. К.П.Брастоўскі атрымаў прывілей на маставы мыт у маёнтку. У 1773 г. Балоты — паезуіцкі фальварак у Брэсцкім ваяв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1882 г. паводле праекта інжынера Ф.Афанасьева пабудавана драўляная Свята-Параскева-Пятніцкая царква (на месцы старога храма; захавалася да нашага часу); праваслаўны прыход у 1888 г. налічваў 1385 вернікаў. У 1890 г. на месцы сучаснай вёскі і ў яе наваколлі існавалі: пас. Снежкі-Балоты, с. Блоты-паезуіцкія (царк. прычт, 32 дзес. зямлі); маёнткі — Блоты-паезуіцкія, уладанне А.Гана (разам з 4 фальваркамі 3819 дзес. зямлі), Блоты-шляхецкія, уладанне П.Базілеўскага (454 $^1/_4$ дзес. зямлі), Блоты, уладанне Ф.Гіржа (48 дзес. зямлі). Дзейнічала Блоцкае нар. вучылішча, якое ў 1889/90 навуч. годзе наведвалі 64 хлопчыкі, у 1892—93 гг. — 46 хлопчыкаў, у 1905—06 гг. — 93 хлопчыкі. У 1897 г. на тэр. Блоцкай вол. вядомы маёнткі: Блоты-



паезуіцкія (50 жыхароў) і Блоты-шляхецкія (29 жыхароў). У 1905 г. маёнткі адпаведна налічвалі 26 і 16 жыхароў. У час сав.-польскай вайны ў 1920 г. каля вёскі ў баі з польскімі інтэрвентамі загінулі 20 чырвонаармейцаў. Пахаваны на паўн. ускраіне сучаснай вёскі (надмагілле ўстаноўлена ў 1983). У 1921 г. фальварак Блоты (Балоты)-шляхецкія і в. Балота Вялікія, 114 дамоў, 771 жыхар, у складзе Балоцкай (Блоцкай) гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, чытальня, тэатральны гурток. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кісялёвіцкім с/с таго ж раёна і вобласці. У 1940 г. хутары: Балоты-шляхецкія (8 двароў, 50 жыхароў) і Вялікія Балоты (356 двароў, 1303 жыхары); б. маёнтак Балота (3 двары, 30 жыхароў). У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. 966 жыхароў. У 1999 г. вёска, 256 гаспадарак, 570 жыхароў, цэнтр калгаса «Усход». Працуюць магазін, клуб, б-ка, сярэдняя школа.

У в. Балоты нарадзіўся дырэктар Кісялёвіцкай сярэдняй школы М.А.Салей, які ў Вял. Айч. вайну быў падрыўніком партыз. атрада імя Катоўскага.

**БАРОДЗІЧЫ** (мясц. назва Бородзічы) — вёска ў Гарадзецкім с/с, на паўд.-ўсх. беразе Каралеўскага канала. За 29 км на ПдУ ад г. Кобрын, 5 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 73 км ад Брэста, 46 гаспадарак, 75 жыхароў (2005).

У 1500 г. ўпершыню згадваецца Бародзіцкая воласць. З 1516 г. Бародзічы і воласць Бародзіцкая ва ўладанні Мікалая Кезгайлы (Кежгайлы) у ВКЛ. Адпаведна дамове 1528 г. паміж Мікалаем Мікалаевічам і яго стрыечным братам Станіславам Станіслававічам Янавічамі-Кезгайлавічамі воласць Бародзіцкая адышла да М.М.Кезгайлы. У 1554 г. яго сын Станіслаў з жонкай Соф'яй Аляксандраўнай Хадкевічоўнай прадалі воласць за 1,5 тыс. коп літоўскіх грошай біскупу луцкаму і брэсцкаму Валерыяну Пратасевічу, які ў 1559 г. запісаў яе капітуле Віленскай. Вёскі Бародзіцкай вол. (Таракані, Брашэвічы, Сімановічы, Літоўскае, Бародзічы і інш.) размяшчаліся на вял. адлегласці адна ад адной уздоўж усх. межаў Кобрынскага пав. і не стваралі адзінага гасп. комплекса ўладанняў Віленскай капітулы. Вёскі Бародзічы і Мяфёдавічы (Няхведавічы) утваралі своеасаблівы востраў на тэр. Кобрынскага пав. і з прычыны сваёй аддаленасці ад астатніх вёсак воласці паступова страцілі гасп. значнасць. Гасп. цэнтрам воласці стала в. Брашэвічы, а ў інвентары 1747 г. Бародзічы пазначаны як незаселеная вёска (з 1636 Брашэвіцкі ключ знаходзіўся ва ўладанні Альбрыхта Станіслава Радзівіла). У 1766 г. Бародзічы — сяло маёнтка Брашэвічы, уладанне Віленскай капітулы, мелася праваслаўная царква. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1886 г. сяло Антопальскай вол., 17 двароў, 247 жыхароў, царква (праваслаўны прыход у 1888 складаўся з 2288 вернікаў), 2 піцейныя дамы. У 1890 г. сяло налічвала 364 $^1/_4$ дзес. зямлі, царк. прычт — 60 дзесяцін. Каля сяла знаходзіліся: сядзіба Уладзіслава Сімановіча (18 дзес.) і фальварак Бародзічы, уладанне Сафіі фон Брэверыч. У 1897 г. ў сяле (побач праходзіў Дняпроўска-Бугскі канал) было 49 двароў, 294 жыхары, царква, школа граматы; у фальварку — 3 двары, 19 жыхароў. З 1915 г. сяло і фальварак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. ў складзе Антопальскай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы; вёска — 25 дамоў, 118 жыхароў, школа; фальварак — 5 двароў, 34 жыхары; асада — 2 дамы, 10 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Худлінскім, з 16.7.1954 г. ў Грушаўскім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не, з 21.1.1961 г. ў Гарадзецкім с/с. У 1940 г. вёска налічвала 333



*М.А.Салей.*

жыхары. У Вял. Айч. вайну Бародзічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. арганізаваны калгас «8 Сакавіка» (старшыня Ф.Сцепанюк). Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы было 273 жыхары. У 1999 г. 52 гаспадаркі, 81 жыхар, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Размешчаны магазін, бібліятэка.

**БАРШЧЫ** (мясц. назва Боршчі) — вёска ў Бухавіцкім с/с, каля р. Дахлоўка (прыток Мухаўца). За 23 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 68 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарогах на Кобрын. 6 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

У 1795 г. Баршчы — вёска Кобрынскай эканоміі ВКЛ, было 22 двары, 160 жыхароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Казішчанскай вол., 101 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся 3 маёнткі: Баршчы-Рэчыца, уладанне С.Вяроўкіна-Шэлюты, 216 дзес. зямлі; Гуска-Баршчы, уладанне М.Астрамецкай, 350 дзес. зямлі; Гуска-Баршчы, уладанне А.Андронаўскага, 222 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы было 11 двароў, 86 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін, кузня, ветраны млын; у маёнтках: Баршчы (Гуска) — 22 жыхары; Баршчы — 15 жыхароў; Баршчы (Рэчыца) — 20 жыхароў, дзейнічаў цагельны з-д; Баршчы (Асавіца), 6 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 81 жыхара; існавалі маёнткі: Баршчы — 7 жыхароў, Баршчы-Рэчыца — 5 жыхароў. У 1921 г. ў складзе Падалескай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы; вёска — 8 двароў, 33 жыхары; фальварак — 1 двор, 7 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Засімскім, з 16.7.1954 г. ў Яроміцкім (19.7.1976 перайменаваны ў Бухавіцкі) сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 21 двор, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1999 г. 9 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (з 2004 СВК «Мінянскі»; цэнтр — в. Мінянка).

**БАРЫСАВА** — вёска ў Кісялёвіцкім с/с, за 4 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 47 км ад Брэста. На скрыжаванні аўтадарог Мінск—Брэст і Кобрын—Дзівін. 187 гаспадарак, 492 жыхары (2005).

Згадваецца ў дакументах 1563 г. як в. Барысавічы. Знаходзілася каля Кобрына, дзе жылі зямяне Барысаўцы. У 1890 г. Барысава — вёска Боцкай (Балоцкай) вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., у ёй налічвалася 238 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: пасёлак — 245 дзес. зямлі (разам з в. Замосце і пас. Кісялёўцы) і маёнтак, уладанне Восіпа Віткоўскага, 156 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 32 двары, 241 жыхар, меліся хлебазапасны магазін, ветраны млын, піцейная ўстанова. Маёнтак налічваў 15 жыхароў. У 1905 г. вёска (351 жыхар) і маёнтак (6 жыхароў). З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Балоцкай (Блоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 19 двароў, 150 жыхароў, працавала школа; фальварак — 1 двор, 12 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. ў Хідрынскім с/с таго ж раёна і вобласці. У 1940 г. ў вёсцы 50 двароў, 301 жыхар, дзейнічаў цагельны з-д (6 рабочых, 200 тыс. цаглін за сезон). У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 362 жыхары. У 1999 г. 179 гаспадарак, 460 жыхароў, у складзе калгаса «Новы шлях» (з 2004 «Магдалінскі»; цэнтр — в. Магдалін). Працуе пач. школа.

**БАРЫСАЎКА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 44 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 69 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Макраны—Дзівін—Кобрын. 121 гаспадарка, 227 жыхароў (2005).



У 1668 г. Барысаўка — прысёлак Палескага ключа Брэсцкай эканоміі. Разам з прысёлкам Оса налічвала 24 валокі зямлі, з іх 1 вольная, 23 гаспадаркі. У 1682 г. прысёлкі Барысаўка і Оса таго ж ключа і эканоміі, 30 гаспадарак, 24 валокі зямлі, з якіх 1 валока была нададзена на Дзівінскую царкву, 2 валокі знаходзіліся ва ўладанні дзівінскага войта, 4 валокі — у прыватным уладанні дзвюх асоб; адпаведна лісту камісарскаму, 7 валок былі «пустыя». У 1789 г. вёска Барысаўка ў складзе Дзівінскага ключа Брэсцкай эканоміі, 25 гаспадарак, карчма, студня. Разам з в. Оса налічвала 44 валокі зямлі, 224 жыхары. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Барысаўка — вёска Макранскай вол., 2338 дзес. зямлі; у 1897 г. было 102 двары, 609 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, піцейная ўстанова. У 1905 г. 809 жыхароў. У 1921 г. вёска ў складзе Дзівінскай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 130 двароў, 653 жыхары. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, тэатральны гурток. З 1939 г. вёска ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Восаўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.8.1959 г. ў Маларыцкім, з 25.12.1962 г. ў Кобрынскім р-нах. У 1940 г. было 217 двароў, 830 жыхароў, працавалі пач. школа, чытальня, кааператыў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Акупанты 23.9.1942 г. ў лесе расстралялі 206 жыхароў вёскі і навакольных хутароў, а вёску спалілі дашчэнту (225 двароў). Пасля вайны в. Барысаўка адрадзілася. Ахвяры фашызму пахаваны на месцы загубы за 0,8 км на ПнЗ ад вёскі (у 1978 пастаўлены помнік). На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1965 г. ўстаноўлены абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 627 жыхароў. У 1999 г. 130 гаспадарак, 313 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба народаў» (цэнтр — в. Воса). Размешчаны магазін, клуб, б-ка, базавая школа.

**БАСЯЧ** (мясц. назва Босяч) — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 7 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 53 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Івацэвічы. 43 гаспадаркі, 118 жыхароў (2005).

У 1629 г. Басяч — маёнтак у Брэсцкім ваяв. Рэчы Паспалітай. Упершыню ўпамінаецца ў 1589 г. як сяло. Пад 1631 г. маёнтак Басячы пазначаны ў матэрыялах Віленскага цэнтр. архіва. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Стрыгаўскай вол., 144 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: аколіца (розныя ўладальнікі), 311 дзес. зямлі; 2 маёнткі: уладанне А.Басяцкага, 203 дзес. зямлі; уладанне А.Слаўскага, 167 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы было 30 двароў, 207 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін; у ваколіцы — 14 двароў, 92 жыхары; у маёнтках Басяч: 30 і 13 жыхароў; Басяч (Канавалаўшчына) — 4 жыхары. У 1905 г. вёска налічвала 283 жыхары, маёнтак — 34. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 35 двароў, 196 жыхароў; калонія — 10 двароў, 72 жыхары. У 1930-я г. працавалі школа і вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 68 двароў, 333 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1948 г. 57 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Перамога» (старшыня Л.Гузюк). Паводле перапісу 1970 г. 208 жыхароў. У 1999 г. 58 гаспадарак, 132 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (з 2004 СВК «Пакроўскі»; цэнтр — в. Бухавічы). Працуе магазін.

**БАТЧЫ** — вёска, цэнтр Батчынскага с/с, за 12 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 8 км ад чыг. ст. Батча (на лініі Жабінка—Іванава), 47 км ад Брэста. 154 гаспадаркі, 466 жыхароў (2005).



*Помнік землякам, загінуўшым у Вялікую Айчынную вайну, у в. Бельск.*

Батчы вядомы з 16 ст. як сяло ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. сяло ўваходзіла ў Паляціцкае войтаўства Кобрынскай эканоміі, налічвала 46 гаспадарак, 47 валок зямлі, з якіх «на плаце» лічыліся 42 валокі. У 1597 г. Батчы — сяло, цэнтр войтаўства, 45 валок зямлі сяла лічыліся на чыншы, 2 валокі вольныя. Дзейнічала карчма. У 1786 г. сяло ў Брэсцкай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1863 г. было адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. вёска ў Прускаўскай вол., 64 двары, 461 жыхар, 1270 $^3/_4$ дзес. зямлі (у 1890); меліся школа, піцейны дом. У 1897 г. было 90 двароў, 555 жыхароў, працавалі нар. вучылішча, хлебазапасны магазін; у 1905 г. 599 жыхароў. З 1915 г. вёска акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 49 двароў, 268 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. Батчы — цэнтр сельсавета таго ж раёна і вобласці. У 1940 г. было 128 двароў, 590 жыхароў, меліся пач. школа, магазін, хата-чытальня, будынак сельсавета не быў тэлефанізаваны. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1970 г. налічваліся 122 гаспадаркі, 339 жыхароў. У 1999 г. 145 гаспадарак, 411 жыхароў, цэнтр калгаса «Запаветы Ільіча» (з 2004 СВК «Батчы»). На тэр. сучаснай вёскі размешчаны будынкі выканкома сельсавета і адміністрацыі калгаса, 8-гадовая школа, б-ка, магазін, Дом культуры, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі і ветэрынарны пункты, сталовая.

**БЕЛЬСК** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 75 км ад Брэста. 314 гаспадарак, 739 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. Бельск — маёнтак Брэсцкага пав. ВКЛ. Адпаведна ваеннаму перапісу 1567 г. ўладальнікамі маёнтка з'яўляліся Багдан Панкевіч і яго сын. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Бельск — вёска Верхалескай вол.; разам з пас. Паджылле налічвала 633 $^1/_2$ дзес. зямлі. Побач з вёскай знаходзіліся 3 аднайменныя маёнткі; уладанні Сіміліцыяна Бельскага (319 дзес. зямлі), Станіслава Бельскага (1623 $^1/_2$ дзес. зямлі) і Паўла Скібнеўскага (316 дзес. зямлі). У 1897 г. ў вёсцы 61 двор, 363 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. Каля вёскі існавалі ўжо 5 маёнткаў Бельск, з якіх уладанне Скібнеўскага налічвала 2 двары, 10 жыхароў. Астатнія маёнткі належалі Бельскім: Рыгору (5 жыхароў), Іасафату (5 жыхароў), Сіміліцыяну (9 жыхароў), нашчадкам іншых Бельскіх (3 двары, 28 жыхароў, ветраны млын). Забудова 3 маёнткаў размяшчалася смежна з вясковымі будынкамі. У 1905 г. ў вёсцы было 657 жыхароў, у маёнтку — 56 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. Бельск у складзе Навасёлкаўскай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы; вёска — 117 двароў, 670 жыхароў; фальварак — 3 двары, 21 жыхар. У 1930-я г. ў вёсцы праца-



валі школа, вячэрнія курсы для дарослых, чытальня. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. 221 двор, 1123 жыхары, мелася пач. школа, арганізавана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. 15.3.1940 г. Дзівінскі райком КП(б)Б прыняў пастанову аб падтрымцы сялян у справе арганізацыі калект. гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну Бельск акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. За 3 км на ПдУ ад вёскі 24—25.3.1944 г. ў баі з ворагам загінулі 20 сав. воінаў і 1 партызан атрада імя М.М.Чарнака брыгады імя Сталіна (у 1946 устаноўлены абеліск). За гады вайны ў барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі 9 вяскоўцаў. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1979 г. ўстаноўлены помнік. У 1949 г. 50 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «За радзіму» (старшыня П.Крачка). У 1970 г. было 1113 жыхароў. У 1999 г. 338 гаспадарак, 803 жыхары, цэнтр калгаса «За радзіму». На тэр. вёскі ёсць базавая школа, дзіцячы сад, б-ка, магазін, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт.

**БОРКІ** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 23 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 67 км ад Брэста. Каля шашы Брэст—Баранавічы. 32 гаспадаркі, 67 жыхароў (2005).

У 1563 г. згадваецца балота Боркі каля Ілаўска. У 1786 г. Боркі — сяло ў Брэсцкай эканоміі, 16 валок зямлі. У 1795 г. вёска Кобрынскай эканоміі, 17 гаспадарак, 94 жыхары. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Падалескай вол., 93 дзес. зямлі. Побач знаходзілася аднайменнае ўрочышча, уладанне П.Паўзуна, 60 дзес. зямлі. У 1897 г. Боркі — вёска, 13 двароў, 83 жыхары; дом (б. Жухавецкая застава) пры Варшаўска-Маскоўскай шашы, 11 жыхароў; 2 прыватнаўласніцкія сядзібы Боркі (Палоншчызна), 16 і 11 жыхароў. У 1905 г. вёска (183 жыхары) і фальварак (7 жыхароў). З 1915 г. Боркі акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. ў складзе Падалескай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы; 20 двароў, 121 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Красналескім с/с таго ж раёна і вобласці, з 16.7.1954 г. ў Астроміцкім с/с. У 1940 г. вёска налічвала 29 двароў, 162 жыхары, хутар, 2 двары, 15 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны бор». Паводле перапісу 1970 г. 224 жыхары. У 1999 г. 38 гаспадарак, 89 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (з 2004 ААТ «Астромічы»; цэнтр — в. Плянта). Працуе магазін.

**БРЫЛЁВА** — вёска ў Кісялёвіцкім с/с, за 6 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 50 км ад Брэста. На шашы Мінск—Брэст. 83 гаспадаркі, 195 жыхароў (2005).

Упершыню згадваецца ў 1549 г. як сяло. У 1563 г. Брылёва — урочышча каля г. Кобрын, у Кобрынскім пав. ВКЛ. У 1739 г. маёнтак у Брэсцкім ваяв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Блоцкай (Балоцкай) вол., 120 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: урочышча, уладанне Д.Вайнштэйна, 20 дзес. зямлі; 2 маёнткі, уладанні Я.Брадзінскай (214 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі) і Ф.Гіржа (51 дзес. зямлі). У 1897 г. ў вёсцы было 15 двароў, 105 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін; у маёнтках: Брылёва, 36 жыхароў; Брылёва-Падлясок, 17 жыхароў. У 1905 г. вёска (209 жыхароў) і маёнтак (8 жыхароў). З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Балоцкай (Блоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска, фальварак і асада разам налічвалі



*Свята-Пакроўская царква ў в. Бухавічы.*

26 дамоў, 157 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кісялёвіцкім с/с. У 1940 г. Брылёва — хутар, 45 двароў, 236 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Пасля вайны працаваў торфазавод «Брылёва». Паводле перапісу 1970 г. 329 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 79 гаспадарак, 201 жыхар, у складзе калгаса «Новы шлях» (з 2004 «Магдалінскі»; цэнтр — в. Магдалін).

**БУХАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Бухавіцкага с/с, на р. Мухавец. За 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 58 км ад Брэста. На шашы Брэст—Масква. 139 гаспадарак, 378 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як вёска і маёнтак у Кобрынскім пав. ВКЛ. У 1559 г. маёнтак Бухавічы знаходзіўся ва ўладанні братоў Галянішчавічаў. У маёнтку, ва ўрочышчы Гарбанцы, была пабудавана Бухавецка-Гарбанская царква, якая ў 1599 г. атрымала фундуш на землі ад Верашчакаў. Маёнтак Бухавічы пазначаны пад 1631 г. у дакументах Віленскага цэнтр. архіва. Сяло Бухавічы ўваходзіла ў Астрамецкае войтаўства Кобрынскай эканоміі, у 1563 г. налічвала 11 гаспадарак, 13 валок зямлі. У 1597 г. сяло Кобрынскага староства, 13 валок зямлі; знаходзілася ў пажыццёвай заставе ў ваяводы брэсцкага Крыштофа Зяновіча, паводле прывілея караля Стафана Баторыя. У 1786 г. сяло налічвала 11 валок зямлі, аднайменны засценак — 12 маргоў зямлі. Маёнтак Бухавічы (ці Кулікоўшчызна, ці Астрамеч) з 1732 г. закладзены Бухавецкаму дамініканскаму манастыру (у 1674 пабудаваны дамініканскі касцёл). Манастыр існаваў да 1832 г. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) сяло і маёнтак у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1886 г. меліся 2 праваслаўныя царквы (адна з іх былы касцёл, да якога ў 1889 прыбудавана званіца); прыход налічваў 2637 вернікаў (на 1888). У 1890 г. Бухавічы — сяло Падалескай вол. Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 359 дзес. зямлі, царк. прычт — 60 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі; маёнтак, уладанне С.Капшэўскай, 241 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы было 44 двары, 254 жыхары, працаваў хлебазапасны магазін, дзейнічала прыходская Пакроўская царква на месцы былога касцёла (захавалася да нашага часу), меўся дом царк. ахоўніка (4 жыхары). Побач існавалі фальварак Бухавічы (Карастоўка) — 7 жыхароў; прыватнаўласніцкая сядзіба Бухавічы — 53 жыхары, дзейнічаў ветраны млын. У 1905 г. вёска, 289 жыхароў, і 2 маёнткі: Бухавічы (20 жыхароў) і Бухавічы Малыя (3 жыхары). З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У в. Бухавічы было 20 двароў, 106 жыхароў, у фальварку — 4 двары, 26 жыхароў. Фальварак Бухавічы Малыя (Карастоўка) налічваў 2 двары, 16 жыхароў. У 1930-я г. дзейнічалі школа, чытальня, тэатральны гурток.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г.



ў Яроміцкім с/с, з 19.7.1976 г. цэнтр Бухавіцкага с/с. У 1940 г. вёска налічвала 58 двароў, 260 жыхароў; былы маёнтак — 150 га зямлі (у т.л. 70 га ворыва, 5 га саду), гасп. пабудовы, сыраварню; 3 жылыя дамы (на 12 кватэр) — 37 жыхароў; працаваў паравы млын. У Вял. Айч. вайну в. Бухавічы акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У першы дзень вайны некаторы час тут размяшчаўся штаб 4-й арміі. У 1948 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь». Паводле перапісу 1970 г. 87 гаспадарак, 238 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 127 гаспадарак, 372 жыхары, цэнтр калгаса «Перамога» (з 2004 СВК «Пакроўскі»). Размешчаны адм. будынкі выканкома сельсавета і калгаса, клуб, б-ка, базавая школа, дзіцячы сад, магазін, аддз. сувязі. Помнік архітэктуры — Пакроўская царква.

**БЫСТРЫЦА** — вёска ў Залескім с/с, за 4 км на У ад горада і чыг. ст Кобрын, 51 км ад Брэста. На скрыжаванні аўтадарог Мінск—Брэст і Кобрын—Лунінец. 241 гаспадарка, 683 жыхары (2005).

У 1541 г. Быстрычы — маёнтак каля Кобрына, уладанне манастыра Святога Спаса ў Кобрыне (нададзена манастыру Іванам Сямёнавічам Кобрынскім). У 1597 г. млынар Быстрыцы Лягатаўскага войтаўства Кобрынскага староства меў 2 валокі зямлі. У 1742 г. Быстрыцы ці Млынары — сяло ў Кобрынскім старостве, 30 маргоў зямлі, мелася царква. У 1786 г. было 10 валок 18 маргоў зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1897 г. Быстрыца — вёска Залескай вол., 56 двароў, 333 жыхары, працаваў хлебазапасны магазін; 385 $^1/_2$ дзес. зямлі (на 1890). У 1905 г. ў вёсцы 342 жыхары. З 1915 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 12 двароў, 60 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Закросніцкім, з 16.7.1954 г. ў Залескім сельсаветах. У 1940 г. хутары Быстрыца, 74 двары, 330 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. 345 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 221 гаспадарка, 609 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава (з 2004 СВК «Быстрыца»; цэнтр — в. Залессе). Працуе магазін.

**БЯРОЗА** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 60 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах на Камянец, Пружаны, Баранавічы. 103 гаспадаркі, 205 жыхароў (2005).

У 1559 г. Бяроза (Беразое) — маёнтак і сяло Кобрынскага пав. ВКЛ. Частка маёнтка знаходзілася ва ўладанні пана Касцюшкі, другая частка — у Сенкі, Дзяменція і Карнілы Кулневічаў. У пісьмовых крыніцах 1563 г. згадваецца як засценак Бярозавае, 3 валокі зямлі. У 1597 г. сяло Бяроза ўваходзіла ў Лягатаўскае войтаўства Кобрынскага староства, меліся 32 валокі зямлі, 3 засценкі (усяго з засценкамі 40 валок); знаходзілася ў пажыццёвым уладанні З.В.Гузельфа. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У



*Свята-Крыжаўзвіжанская царква ў в. Бяроза.*

1864 г. пабудавана драўляная Крыжаўзвіжанская царква (захавалася да нашага часу; у 1888 Бярозскі праваслаўны прыход налічваў 1999 вернікаў). У 1886 г. Бяроза — сяло Стрыгаўскай вол., Кобрынскага пав., 30 двароў, 328 жыхароў, царква, школа. У 1890 г. сяло налічвала 349 дзес. зямлі, царк. прычт — 55 дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне Восіпа Трашынскага, 237 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі. У 1897 г. ў сяле 62 двары, 398 жыхароў, меліся прыходская царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У маёнтках: Бяроза — 29 жыхароў, Божы Дар (ці Бяроза) — 7 жыхароў. У 1905 г. ў сяле налічваўся 471 жыхар, у маёнтку Бяроза — 46 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; у в. Бяроза было 79 дамоў, 358 жыхароў, у фальварку — 2 дамы, 8 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа і тэатральны гурток.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Яроміцкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім с/с. У 1940 г. вёска налічвала 111 двароў, 507 жыхароў; былы маёнтак — 2 двары, 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 46 вяскоўцаў загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі. У 1965 г. на ўшанаванне іх памяці ў двары школы ўстаноўлены помнік. У 1950 г. 45 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Сцяг Перамогі» (старшыня В.Дзямянчук). У 1970 г. было 162 гаспадаркі, 452 жыхары. У 1999 г. ў вёсцы 119 гаспадарак, 244 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (з 2004 СВК «Пакроўскі»; цэнтр — в. Бухавічы). Размешчаны магазін, б-ка, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік архітэктуры — Крыжаўзвіжанская царква.

**БЯРОЗА-КАСЦІНСКАЯ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 15 км на Пн ад горада і чыг. ст. Кобрын, 66 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах на Камянец, Пружаны, Баранавічы. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У 1890 г. Бяроза-Касцінская — маёнтак Стрыгаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., уладанне А.Лышчынскай, 232 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі. У 1897 г. маёнтак налічваў 18 жыхароў, у 1905 г. — 57 жыхароў. З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 8 двароў, 47 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 11.8.1959 г. ў Казішчанскім с/с. У 1940 г. хутар, 18 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1999 г. было 17 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (з 2004 СВК «Пакроўскі»; цэнтр — в. Бухавічы).

**БЯРОЗНА** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 27 км на ПнУ ад г. Кобрын, 11 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 71 км ад Брэста. Каля шашы Мінск—Брэст. 91 гаспадарка, 179 жыхароў (2005).

У 1555 г. Бярозна — маёнтак у Кобрынскім пав. ВКЛ, уладанне зямяніна Д.Мацковіча. Ён не меў свайго сына і ўсынавіў зямяніна Яна Церабенскага, якому пазней пакінуў у спадчыну маёмасць адпаведна завяшчанню. 18.6.1558 г. Сігізмунд (Жыгімонт) ІІ Аўгуст сваёй граматай пацвердзіў правы Церабенскага на Бярозну. Другі маёнтак Бярозна, які знаходзіўся «паўмілі» ад Грушава, належаў пану Еску Аляхновічу з братамі. У 1563 г. Бярозна — сяло воласці Гарадзецкага двара, Грушаўскага войтаўства Кобрынскай эканоміі. Мела 15 валок зямлі, 13 гаспадарак. У 1786 г. сяло ў складзе Брэсцкай эканоміі, 15 валок зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1795 г. ў вёсцы было 8 жыхароў. У сядзібе Бярознаўскага стражніка знаходзіліся жылы дом, пякарня і іншыя гасп. пабудовы. Ва ўрочышчы каля вёскі размяшчалі-



ся карчма, бровар. У 1890 г. вёска ў Іласкай вол., налічвала 1171 $^{1}/_{2}$ дзес. дзямлі; у 1897 г. — 96 двароў, 533 жыхары, працаваў хлебазапасны магазін. Каля вёскі праходзіў гандл. шлях Антопаль—Пружанскі павет; размяшчаўся ўчастак Бярозна, 17 дзес. зямлі, уладанне А.Максімовіча (1890). У 1905 г. вёска налічвала 565 жыхароў. З 1919 г. акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 32 двары, 112 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. ў Іласкім с/с таго ж раёна і вобласці, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы было 573 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. 412 жыхароў. У 1999 г. 99 гаспадарак, 200 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (з 2004 СВК «Шамятоўка»; цэнтр — в. Шамятоўка). Працуе магазін.

**ВЕРХАЛЕССЕ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 60 км ад Брэста. 165 гаспадарак, 429 жыхароў (2005).

У 1668 г. Верхалессе — сяло Палескага ключа Брэсцкай эканоміі, 24 валокі зямлі, з якіх 18 аселых (17 гаспадарак). У 1682 г. сяло ў Чарнянскім войтаўстве таго ж ключа, 24 валокі зямлі, з якіх на чыншу 8 валок, на уніяцкую царкву прыходзіліся 2 валокі (вольныя), у войта — 2 валокі (вольныя). Інвентар адзначаў дрэнную якасць зямлі («злы грунт»). У 1789 г. вёска ў Астроўскім ключы той жа эканоміі, 24 гаспадаркі, 120 жыхароў, дзейнічалі карчма, бровар. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. 19.12.1795 г. вёска была падаравана былому генерал-дырэктару пошт каралеўскай французскай службы Дзюку дэ Паліньяку, налічвала 182 жыхары. У 1874 г. адкрыта



*Коннаспартыўная школа ў в. Верхалессе.*

нар. вучылішча. У 1886 г. Верхалессе (Мажахіны) — сяло Верхалескай вол. Кобрынскага пав., 22 двары, 295 жыхароў, Мікалаеўская царква, школа, ветраны млын, піцейны дом. Верхалескі праваслаўны прыход у 1888 г. налічваў 1720 вернікаў. У нар. вучылішчы ў 1889/90 навуч. годзе займаліся 45 хлопчыкаў, 1 дзяўчынка; у 1892—93 гг. — 42 хлопчыкі. У 1897 г. было 45 двароў, 327 жыхароў, 693 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі (на 1890), меліся хлебазапасны магазін, прыходская царква (царк. прычт — 146 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі). У 1905 г. налічвалася 396 жыхароў. З 1915 г. сяло акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у

*Мікалаеўская царква ў в. Верхалессе.*



Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 57 двароў, 357 жыхароў, працавала школа.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. — цэнтр сельсавета таго ж раёна і вобласці, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не, з 30.10.1959 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 103 двары, 309 жыхароў, дзейнічалі пач. школа, паравы млын, магазін, сельсавет. У Вял. Айч. вайну в. Верхалессе акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У баях з ням. акупантамі загінулі 58 землякоў. На ўшанаванне іх памяці каля школы ў 1977 г. ўстаноўлены помнік. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 131 гаспадарка, 430 жыхароў. У 1999 г. 172 гаспадаркі, 439 жыхароў, цэнтр калгаса імя Чкалава (з 2004 СВК «Верхалескі»). Размешчаны будынак адміністрацыі калгаса, магазін, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі.

**ВОСА** — вёска, цэнтр Восаўскага с/с, за 40 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 69 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Макраны—Дзівін—Кобрын. 149 гаспадарак, 380 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1566 г. вёска Осая ў Дзівінскім войтаўстве Палескай вол., 36 заселеных участкаў. У 1668 г. Воса — сяло Палескага ключа Брэсцкай эканоміі Рэчы Паспалітай. Разам з сялом Барысаўка налічвала 24 валокі зямлі. У 1789 г. вёска ў Дзівінскім ключы той жа эканоміі, 16 гаспадарак, карчма. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. 19.12.1795 г. вёска падаравана ва ўладанне нашчадкам ген.-фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага; 168 жыхароў. У 1890 г. вёска (1332 $^1/_2$ дзес. зямлі) і маёнтак, уладанне Леапольда Гоха (449 $^1/_2$ дзес. зямлі), у Дзівінскай вол. У 1897 г. ў вёсцы 65 двароў, 397 жыхароў, прыпісная царква да Дзівінскай Успенскай царквы; у маёнтку — 10 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 967 жыхароў, маёнтак — 10 жыхароў. У 1911 г. вёска (487 жыхароў) і 5 аднайменных маёнткаў (разам 40 жыхароў) — уладанні Трафіма, Харлампа, Калістрата Сергіевічаў, Пятра Лесніка. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Дзівінскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 93 дамы, 468 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, чытальня, тэатральны і харавы гурткі.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. — цэнтр сельсавета, з 8.8.1959 г. ў Маларыцкім, з 25.12.1962 г. ў Кобрынскім р-нах. У 1940 г. вёска, 108 двароў, 661 жыхар, працавалі пач. школа, сельпо з 1 гандл. кропкай, пажарнае дэпо, сельсавет. На тэр. сельсавета было 8 населеных пунктаў. У Вял. Айч. вайну Воса акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. 60 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Савецкая Беларусь» (старшыня Д.Сергіевіч). Паводле перапісу ў 1959 г. ў вёсцы было 462 жыхары. У 1970 г. 164 гаспадаркі, 529 жыхароў, размяшчалася праўленне калгаса. У 1999 г. ў вёсцы 169 гаспадарак, 435 жыхароў, цэнтр калгаса «Дружба народаў». Размешчаны будынкі выканкома сельсавета і адміністрацыі калгаса, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, камбінат быт. абслугоўвання, ветэрынарны ўчастак, аддз. сувязі.

**ВОСАЎЦЫ** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 65 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Баранавічы. 31 гаспадарка, 58 жыхароў (2005).

Упершыню ўпамінаюцца ў 1563 г. як урочышча. У 1897 г. Восаўцы ў Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 6 уласніцкіх сядзіб, 46 жыхароў (разам). Сярод сядзіб знаходзіўся дом ляснога ахоўніка Восаўцы, 6 жыхароў. У 1905 г. ўрочышча, 61 жыхар. У 1911 г. фальварак, 61 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрын-



скага пав. Палескага ваяв.; вёска і леснічоўка, 10 двароў, 88 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Жухавецкім, з 16.7.1954 г. ў Астроміцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 10 двароў, 101 жыхар, працаваў магазін. У Вял. Айч. вайну Восаўцы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1948 г. створаны калгас «30 гадоў Кастрычніка» (старшыня Абрамчук). Паводле перапісау 1959 г. ў вёсцы 121 жыхар, у 1970 г. — 154 жыхары. У 1999 г. было 36 гаспадарак, 74 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна (з 2004 ААТ «Астромічы»; цэнтр — в. Плянта).

**ВОСТРАВА** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 9 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 64 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Камянец. 55 гаспадарак, 124 жыхары (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. згадваецца як с. Станкі. У 1712 г. Вострава — вёска Чаравачыцкага ключа Кобрынскай эканоміі ВКЛ. Розныя ўладальнікі мелі ў вёсцы 2 ці 4 валокі зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У маёнтку Востраў (Вострава), што быў каля вёскі, пасля адстаўкі з службы ў рус. арміі жыў адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. Р.Л.Траўгут. У крас. 1863 г. ён узначаліў Кобрынскі паўстанцкі атрад, у чэрвені разам з Брэсцкім атрадам Я.Ваньковіча зрабіў рэйд на Піншчыну і паўн. Валынь; у ліп. 1863 г. выехаў у Варшаву (з кастрычніка — кіраўнік Нац. ўрада ў Варшаве). Пасля казні Траўгута ў жн. 1864 г. маёнтак канфіскаваны. У 1890 г. маёнтак, 694 $^1/_2$ дзес. зямлі, знаходзіўся ва ўладанні Л.Навамейскага; у вёсцы было 420 $^3/_4$ дзес. зямлі. У 1897 г. вёска налічвала 36 двароў, 283 жыхары, меўся хлебазапасны магазін, у маёнтку — 36 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 412 жыхароў, у маёнтку — 41 жыхар. З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; фальварак (1 дом) і вёска (36 дамоў, 200 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Стрыгаўскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. Вострава — хутары, 52 двары, 338 жыхароў; былы фальварак налічваў 5 двароў, 40 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. 235 жыхароў. У 1999 г. вёска, 57 гаспадарак, 125 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзімітрава (з 2004 ААТ «Стрыгава»; цэнтр — в. Стрыгава).

**ВЫГОДА** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, на Дняпроўска-Бугскім канале. За 32 км на ПдУ ад г. Кобрын, 8 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 76 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Лунінец і далей на пароме. 12 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

У 1890 г. Выгода — пасёлак у складзе в. Вуглы Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Разам з 7 іншымі пасёлкамі ў вёсцы Выгода налічвала 1130 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменны маёнтак, уладанне П.Штэра; пасёлкі Камень-Каралеўскі, Франопаль і Выгода — 140 дзес. зямлі (розныя ўладальнікі). У 1897 г. Вуглы (Выгода) — вёска, 20 двароў, 133 жыхары, піцейны дом. У 1905 г. вёска Выгода (145 жыхароў) і казённы плот Выгода (15 жыхароў). З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 12 двароў, 56 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 133 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. 15 вясковых гаспада-

рак аб'ядналіся ў калгас імя Крупскай (старшыня А.Дубіна). Паводле перапісу 1970 г. 84 жыхары. У 1999 г. ў вёсцы 15 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны). Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Брэсцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну М.П.Леановіча (быў камісарам партыз. брыгады імя Чапаева).

**ВЯЛІКІ РУДЗЕЦ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, на паўд. беразе Дняпроўска-Бугскага канала. За 29 км на ПдУ ад г. Кобрын, 5 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 73 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Лунінец і далей на пароме. 26 гаспадарак, 54 жыхары (2005).

У 1563 г. Вялікая Рудца — урочышча-востраў с. Вуглы Вуглоўскага войтаўства Кобрынскай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска, 968 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з пас. Жукі), і пасёлак, 92 дзес. зямлі; у Гарадзецкай вол. Побач знаходзіліся 2 аднайменныя маёнткі, уладанні: А.Штэра, 2100 $^1/_4$ дзес. зямлі (разам з калоніяй Дзюрдзюўка), і Б.Снежкі-Блоцкага, 674 дзес. зямлі. У 1897 г. вёскі: Рудзец 1 — 33 двары, 214 жыхароў, хлебазапасны магазін; Рудзец 2 — 44 двары, 257 жыхароў; выселак Рудзец (Вугал) — 5 жыхароў. У 2 маёнтках адпаведна 13 і 42 жыхары. У 1905 г. вёска налічвала 520 жыхароў, маёнткі — 6 і 20 жыхароў. У 1911 г. вёска Рудзец, 504 жыхары; 2 маёнткі Рудзец — уладанне Андронаўскіх (53 жыхары) і ўладанне Б.Снежкі-Блоцкага (8 жыхароў). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Вялікі Рудзец — вёска (33 двары, 136 жыхароў) і фальварак (2 двары, 18 жыхароў). У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, чытальня, тэатральны гурток. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Гарадзецкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 284 жыхары. У Вял Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Шчорса (старшыня Кулік). Паводле перапісу 1959 г. Вялікі Рудзец налічваў 217 жыхароў, у 1970 г. — 143 жыхары. У 1999 г. вёска, 29 гаспадарак, 67 жыхароў, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Працуе магазін.

**ВЯЛІКІЯ ЛЕПЯСЫ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, на ўсх. беразе р. Лепясоўка. За 2 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 48 км ад Брэста. На шашы Кобрын—Баранавічы. 511 гаспадарак, 1420 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў складзе Кобрынскай эканоміі, у Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. Лепясы — маёнтак у Брэсцкім ваяв. Тут быў пабудаваны манастыр з царквою Крыжа Гасподняга, які ў 1638 г. атрымаў 1 валоку 9 маргоў зямлі і дазвол на рыбную лоўлю ад В.Ю.Прышыхоцкага і яго жонкі Р.А.Пякарскай. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Лепясы — вёска ў Стрыгаўскай вол. Кобрынскага пав., 314 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся маёнткі Лепясы і Дубава, уладанне Дз.Гразмана, 256 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска Вялікія Лепясы (2 вярсты ад чыгункі Брэст—Бранск і р. Мухавец), 35 двароў, 227 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, карчма (жылы дом) і крама (8 жыхароў), дзейнічаў цагельны з-д (дом для рабочых і аховы, 2 жыхары). Каля вёскі размяшчаліся: дом аховы пры пляціне № 4, 8 жыхароў; маёнтак, 8 жыхароў; ваенныя казармы (пры Маскоўска-Варшаўскай шашы) — 2562 вайскоўцы і інш., 2 палкавыя царквы, палкавыя майстэрні, ваенны сход з буфетам, салдацкая чайная і прадуктовая крама. У 1905 г. ў вёсцы 284 жыхары. У 1911 г. вёска Вялікія Лепясы налічвала 379 жыхароў, казармы Лепясы (адносіліся да ваеннага ведамства) — 2578 чал., маёнтак Лепясы, ула-



данне Дз.Грозмана — 25 жыхароў, пры плаціне Лепясы (ведамства шляхоў зносін) пражывалі 10 чал. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 33 двары, 184 жыхары; фальварак Лепясы — 2 двары, 11 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, хата-чытальня.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Лепясоўскага с/с, з 30.10. 1959 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. ў вёсцы 75 двароў, 409 жыхароў, цагельны з-д, магазін, сельсавет, пач. школа, хата-чытальня, дзіцячы сад, крама. На тэр. сельсавета знаходзіліся 13 населеных пунктаў, 276 хутароў (1530 жыхароў), 475 двароў, 2368 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Вялікія Лепясы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1947 г. ў вёсцы дзейнічалі медпункт, цагельны з-д (старшыня сельсавета Н.І.Шаўчук). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 457 жыхароў, у 1970 г. — 882 жыхары. У 1999 г. 457 гаспадарак, 1246 жыхароў, у складзе калгаса «Кобрынскі» (цэнтр — в. Імянін).

**ВЯЛІЧКАВІЧЫ** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, за 32 км на ПдУ ад г. Кобрын, 12 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 76 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Арэхаўскі—Балата. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

У 1890 г. Вялічкавічы — пасёлак у складзе в. Чалішчавічы Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Разам з іншымі пасёлкамі ў вёсцы налічвалася 383 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. — вёска, 12 двароў, 79 жыхароў. З 1915 г. Вялічкавічы акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 17 двароў, 84 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 74 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. 47 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 9 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны).

**ГАЙКОЎКА** — вёска ў Хідрынскім с/с, на паўд. беразе р. Гайкоўка (прыток Мухаўца). За 14 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын (на лініі Брэст—Гомель), 50 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Макраны. 96 гаспадарак, 245 жыхароў (2005).

У 1540 г. зямля каля в. Азяты была перададзена каралеўскаму канюшаму Гайцы. У 1890 г. Гайкоўка — вёска Верхалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 797 $^1/_4$ дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне М.Казярадскай, 430 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы (побач праходзіла шаша Кобрын—Уладава) было 43 двары, 326 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, піцейная ўстанова; у маёнтку — 7 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 233 жыхары, маёнтак — 4 жыхары. З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі. У 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 27 дамоў, 167 жыхароў, школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 30.10.1959 г. ў Верхалескім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска, 72 двары, 480 жыхароў, дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну Гайкоўка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. 253 жыхары. У 1999 г. 92 гаспадаркі, 255 жыхароў, у складзе ўчастка № 4 калгаса «Зара» (з 2004 «Узыходзячая зара»; цэнтр — в. Хідры). Размешчаны магазін, клуб.

**ГАРАДЗЕЦ** — вёска, цэнтр Гарадзецкага с/с, на канале Мухавец (Каралеўскі канал). За 22 км на У ад г. Кобрын, 68 км ад Брэста; чыг. станцыя на лініі Брэст—



*Гарадзецкая Ушэсцеўская царква.*

Гомель. 568 гаспадарак, 1362 жыхары (2005).

Вядомы з 12 ст., згадваецца ў 1142 г., у час княжацкіх міжусобіц. У 1286 г. валынскі кн. Уладзімір Васількавіч у духоўнай грамаце завяшчаў сваёй жонцы Вользе Раманаўне разам з г. Кобрын і сяло Гарадзец. Пазней Гарадзец — горад у вотчынным уладанні князёў Кобрынскіх, з пач. 16 ст. ўваходзіў у лік каралеўскіх «сталовых маёнткаў». У 1563 г. Гарадзец — горад і Двор Кобрынскай эканоміі (з 1532), з 1566 г. ў складзе Брэсцкага ваяв. ВКЛ. У горадзе існавалі рынак, 5 вуліц (Кобрынская, Прышыхоцкая, Пінская, Грушаўская, вуліца ўздоўж царквы), Ільінская царква (мела 2 вольныя валокі зямлі), звыш 193 гаспадарак (паводле Ю.А.Якімовіча — 205 двароў; сярод гаспадароў 2 кушняры, каваль), прадмесце, агароды. У Двары Гарадзецкім меліся агароды, 2 млыны, ахова. Воласць Гарадзецкага двара складалася з 2 войтаўстваў (даход ад воласці — 275 коп 11 грошаў). У 1589 г. каралева Ганна Ягелонка даравала гораду магдэбургскае права без уласнага кіравання: Гарадзец па ўсіх справах падпарадкоўваўся Кобрынскаму магістрату, але меў уласную пячатку бурмістра. У 1597 г. ў горадзе налічваліся 60 валок зямлі, з якіх 57 былі «на плаце», 1 — вольная на войта, 2 — на царкву; меліся рынак, царква Ільінская, дом святара, агароды, млыны, 5 піўных і 1 мядовая карчма. На тэр. Двара размяшчаліся свіран, дом чэлядзі, кухня, пякарня, стайні, гумно, стадола. Па рэвізіі 1618 г. горад налічваў 222 пляцы, з якіх збіралася даходу 218 коп 13 грошаў. У 1633 г. дзейнічаў Гарадзецкі касцёл, для якога адпаведна лісту каралеўскага рэвізора Я.Валовіча былі адмераны 15 «аселых» і 3 пустыя валокі зямлі ў с. Грушава. У 1742 г. уніяцкая Ільінская царква карысталася 2 вольнымі валокамі зямлі, у 1789 г. пад царквою лічыліся 13 «вольных» пляцоў. Пасля 1757 г. Гарадзец — мястэчка, цэнтр Гарадзецкага ключа (уваходзілі вёскі Асмаловічы, Углы (Вуглы), Грушава, Камень Каралеўскі, Худлін і Чалішчавічы). У 1784 г. апошні польскі кароль Станіслаў Аўгуст наведаў мястэчка па дарозе на Гродзенскі сейм. Адначасова кароль разам са світаю агледзеў пабудаваны Каралеўскі канал (1775—83), праехаў па канале на спец. боце $^{1}/_{4}$ вярсты да другога шлюза.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Гарадзец у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У жніўні 1820 г. жыхары і сяляне мястэчка адмаўляліся выконваць павіннасці на карысць свайго ўладальніка. 24.8.1820 г. ў Гарадзец прыбыў кобрынскі земскі аканом, сюды была накіравана таксама ваенная каманда ў колькасці 50 чалавек. У 1860 г. мястэчка налічвала 149 двароў, мелася прыстань, дзе загружалася тавараў штогод на 220 тыс. рублёў, да 1866 г. дзейнічала каталіцкая парафія. У 1878 г. было 1264 жыхары, паштовая станцыя; у 1876 г. ў Гарадзец перавезена драўляная Вазнясенская царква з в. Камень-Шляхецкі (захавалася да нашага часу). У 1865 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. — цэнтр Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав., 74 двары, 1331 жыхар, дзейнічалі валаснное праўленне, 2 царквы (у 1888 у Гарадзецкім праваслаўным прыходзе 2576 вернікаў), 2 сінагогі, школа, 4 крамы, 3 заезныя дамы, 2 ветраныя млыны, піцейны дом. Каля мястэчка былі сыраварня, ветраны млын. У 1890 г. ў мястэчку 822 дзес. зямлі, царк. прытч займаў 120 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі. Маёнтак Гара-



дзец, уладанне П.Штэра, налічваў 5800 дзес. зямлі (разам з 4 фальваркамі). У 1897 г. — мястэчка, каля гандл. шляху Кобрын—Пінск, Палескай чыгункі, Дняпроўска-Бугскага канала; 279 двароў, 275 жылых дамоў, 1691 жыхар, меліся 2 царквы, 2 яўр. малітоўныя дамы, сінагога, нар. вучылішча (у 1889/90 навуч. годзе вучыліся 82 хлопчыкі, 20 дзяўчынак; у 1892—93 — 89 хлопчыкаў, 17 дзяўчынак; у 1905—06 — 185 хлопчыкаў, 15 дзяўчынак), валаснoе праўленне, мяшчанская ўправа, пошта, хлебазапасны магазін, 14 крам, 4 ветраныя млыны, 4 кузні, цагельны з-д, 3 піцейныя дамы. У дзень Святой Тройцы праводзіліся ярмаркі. Побач з мястэчкам знаходзіліся аднайменныя: маёнтак (пры чыгунцы), 7 двароў, 51 жыхар; пасёлак (каля чыг. станцыі), 6 жыхароў; дом і млын, 3 жыхары — уладанні П.Штэра. Пры Дняроўска-Бугскім канале існавала плаціна № 1 з ахоўным домам участка № 2 Брэсцка-Літоўскага аддзялення Ковенскай акр., налічвалася 8 жыхароў. У 1905 г. ў мястэчку было 2949 жыхароў, у маёнтку — 22, у казённай плаціне — 7 жыхароў. З 1915 г. Гарадзец акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі.

У 1921 г. Гарадзец — цэнтр гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. Мястэчка і фальварак налічвалі 99 двароў, 688 жыхароў; чыг. станцыя — 10 двароў, 65 жыхароў. У 1931 г. гміна Гарадзецкая налічвала 418 км², 58 населеных пунктаў, 9500 жыхароў. У 1932 г. былі пабудаваны Дом народны (мелася зала са сцэнай), пажарнае дэпо; з 1928 г. дзейнічала б-ка (знаходзілася ў плябаніі), 611 кніг на польскай мове, 82 чытачы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр сельсавета таго ж раёна і вобласці, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. мястэчка, 305 двароў, 1153 жыхары, дзейнічалі 2 паравыя млыны, рус. няпоўная сярэдняя школа, фельчарскі пункт, хата-чытальня, каап. крама. У Гарадзецкі с/с уваходзілі 34 населеныя пункты (578 двароў, 2410 жыхароў). У Вял. Айч. вайну Гарадзец акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Пры вызваленні вёскі і раёна ў баях з ворагам загінулі 20 воінаў 12-й гв. стралк. дывізіі 61-й арміі. У 1958 г. на магіле воінаў у скверы ўстаноўлены помнік, які таксама ўшаноўвае памяць 78 землякоў, якія загінулі ў барацьбе з ням. акупантамі ў 1941—45 гг. Паводле перапісу 1970 г. 1356 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 574 гаспадаркі, 1461 жыхар, цэнтр калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»). Размешчаны будынкі выканкома сельсавета і адміністрацыі гаспадаркі (у 1977 каля будынка ўстаноўлены бюст Ф.Э.Дзяржынскага), клуб, бальніца, кафэ, сярэдняя школа, дзіцячы сад, амбулаторыя, аптэка, б-ка, магазін. Помнік архітэктуры — Свята-Ушэсцеўская царква (18 ст.).

**ГАРЫЗДРЫЧЫ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 60 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Камянец—Кобрын і Брэст—Баранавічы. 19 гаспадарак, 36 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне Гарэздрычы ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. Гарыздрычы — сяло Астрамецкага войтаўства Кобрынскай эканоміі, 15 валок зямлі, 10 гаспадарак. У 1598 г. згодна з прывілеем вял. кн. ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта III Вазы с. Гарыздрычы атрымаў у пажыццёвае ўладанне зямянін Берасцейскага ваяв. Беняш Бухавецкі. 25.5.1589 г. жыхары сяла адмовіліся выконваць баршчыну і іншыя павіннасці на карысць новага гаспадара. Бухавецкі падаў скаргу на сялян вознаму Берасцейскага пав. Я.Б.Лепясоўскаму. Паводле інвентара 1697 г. сяло ў Лягатаўскім войтаўстве Кобрынскага староства. У 1710 г. сяло (15 валок зямлі) ва ўладанні С.Русецкага, пазней яго жонкі Ганны Трызнянкі; у 1760—91 гг. уладанне Ляскоўскіх. У 1786 г. фальварак, 12 валок зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Пас-

палітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. З 1890 г. вёска ў Падалескай вол., 320 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак — уладанне П.Шыраева (разам з хутарам Багданаўка 646 дзес. зямлі). У 1897 г. ў вёсцы было 37 двароў, 249 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін, кузня; у маёнтку — 21 жыхар, мыза. У 1905 г. вёска налічвала 355 жыхароў, маёнтак — 27 жыхароў. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 34 двары, 172 жыхары; фальварак — 2 двары, 10 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. Гарыздрычы: хутары — 35 двароў, 225 жыхароў; былы маёнтак — 3 двары, 12 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. арганізаваны калгас «12 Сакавіка» (старшыня М.Дубовік). Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 165 жыхароў, у 1970 г. — 138 жыхароў. У 1999 г. былі 22 гаспадаркі, 45 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (з 2004 СВК «Мінянскі»; цэнтр — в. Мінянка).



*Царква ў в. Гірск.*

**ГІРСК** — вёска ў Кісялёвіцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад г. Кобрын, 9 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 63 км ад Брэста. 120 гаспадарак, 212 жыхароў (2005).

У 1897 г. Гірск — вёска Блоцкай (Балоцкай) вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 80 двароў, 579 жыхароў, меліся кузня, 2 дробязныя крамы, 719 дзес. зямлі (на 1890). Побач з вёскай праходзіў гандл. шлях Гарадзец—Навасёлкі. У 1905 г. ў вёсцы 484 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Балоцкай (Блоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 68 дамоў, 468 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 31.3.1959 г. ў Акцябрскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. налічвалася 798 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў раёне вёскі ў 1942—44 гг. у баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 32 партызаны асобна дзейнічаўшага атрада імя Р.І.Катоўскага. Ахвяры пахаваны за 3 км на У ад вёскі (у 1965 установулены абеліск). У 1947 г. ў Гірску працавала пач. школа. У 1950 г. 42 гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас імя Катоўскага. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 766 жыхароў, у 1970 г. — 562 жыхары. У 1999 г. было 138 гаспадарак, 253 жыхары, у складзе калгаса «Усход» (цэнтр — в. Балоты). Працуе магазін.

**ГЛІНЯНКІ** (мясц. назва Глынянкы) — вёска ў Тэвельскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 3 км ад чыг. ст. Стаўпы (на лініі Брэст—Баранавічы), 55 км ад Брэста. Аўтадарогамі звязана з Жабінкай, Кобрынам, Камянцом. 98 гаспадарак, 309 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне Глінянкі ў Трокскім, затым Берасцейскім ваяводствах ВКЛ. У 1563 г. Глінянка (Глінянкі) — сяло Глінянскага войтаўства (войт Волас Хіліманові) Кобрынскай эканоміі ВКЛ, 27 валок зямлі, 26 гаспадарак (сярод гаспадароў лаўнік, каваль). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав., з 1801 г. ў



Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ўваходзіла ў склад Мураўёўскай вол., налічвала 156 $^3/_4$ дзес. зямлі, з іх 4 $^1/_2$ дзес. належалі С.Хведчуку. Побач знаходзіўся маёнтак Глінянкі, уладанне С.Цяльшэўскага, 653 дзес. зямлі (разам з хутарам Песцянькі і ўрочышчам Красналескі). У 1897 г. ў вёсцы 19 двароў, 150 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін; у маёнтку — 6 двароў, 65 жыхароў. У 1905 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі вёска (167 жыхароў), хутар (11 жыхароў) і 2 маёнткі (16 і 48 жыхароў). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мацясаўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв.; вёска (10 двароў, 62 жыхары) і фальварак (3 двары, 26 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Стрыгаўскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. хутары, 52 двары, 224 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 27 землякоў. У 1965 г. на ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. ў Глінянках 215 жыхароў, у 1970 г. — 161 жыхар. У 1999 г. ў вёсцы 98 гаспадарак, 323 жыхары, цэнтр калгаса «Глінянскі». Размешчаны будынак адміністрацыі калгаса, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад.

**ГРУШАВА** (мясц. назва Грушово) — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 28 км на ПнУ ад г. Кобрын, 6 км ад чыг. ст. Гарадец (на лініі Брэст—Гомель), 72 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Лунінец. 263 гаспадаркі, 514 жыхароў (2005).

Вядома з 15 ст. як сяло Кобрынскага княства ВКЛ. У 1404 г. ліст вял. кн. ВКЛ Вітаўта ўпамінае Грушава сярод іншых населеных пунктаў, якія ён аддаў кн. Раману Фёдаравічу (родапачынальнік князёў Кобрынскіх). Жонка кн. Сямёна Раманавіча княгіня Ульяна завяшчала пасля смерці дварышча Чаравачыцы і с. Грушава дачцэ Ганне (жонка Фёдара Бельскага). 22.8.1495 г. вял. князь літ. Аляксандр выдаў Ганне Фёдаравай пацвярджэнне на гэтыя землі. З 1519 г. пасля



*Помнік аднавяскоўцам, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Глінянкі.*

смерці Ганны сяло знаходзілася ва ўладанні яе другога мужа маршалка ВКЛ Вацлава Касцевіча, з 1532 г. ў Кобрынскай эканоміі, уладанне каралевы Боны. У 1-й пал. 16 ст. паміж вёскамі Кобрынскай эканоміі Іласк, Бярозна і Грушава знаходзілася «добра» зямян Грушаўскіх — Еські Аляхновіча з братамі. Адпаведна вайск. перапісу 1528 г. пан Алехна з Грушава выстаўляў 2 коней. У 1563 г. сяло Грушава ў Грушаўскім войтаўстве воласці Гарадзецкага двара Кобрынскай эканоміі, 24 валокі зямлі (зямля дрэннай якасці), 23 гаспадаркі, 1 валока вольная — на войта І.Ільяшэвіча; сярод гаспадароў Грушава былі 2 лаўнікі. Меліся царква з сядзібай святара С.Грыцковіча (на царкву 3 валокі зямлі) і млын (млынар А.Ансаповіч). Пад 1646 г. пазначаны маёнтак Грушавы. У 1668 г. вёска той жа эканоміі, Д.Валовіч атрымаў тут 6 валок зямлі. У 1677 г. двор Грушава Кобрынскай эканоміі купіў Самуіл Лукоўскі.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1795 г. Грушава падаравана імператрыцай Кацярынай II фельдмаршалу А.В.Сувораву. У 1812 г. маёмасць купіў Антоній Радзевіч, харунжы кобрынскі. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. Грушава — сяло Іласкай вол., 78 двароў, 917 жыхароў, царква, піцейны дом, Іласкае валасное праўленне. У 1890 г. сяло налічвала 1344 $^3/_4$ дзес. зямлі, царк. прычт займаў 185 дзес. зямлі (у 1888 у праваслаўным прыходзе 3206 вернікаў). Побач знаходзіўся маёнтак Грушава, уладанне Генрыха Радзевіча, 1741 дзес. зямлі (ра-

зам з лясньмі дачамі Студзенка, Белалессе). З 1881 г. маёнткам валодала і пэўны час жыла ў ім вядомая польская пісьменніца Марыя Радзевіч (дачка Г.Радзевіча). У 1897 г. Грушава: сяло — 175 двароў, 1040 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, царква (царк. прычт — 4 двары, 9 жыхароў); маёнтак — 7 двароў, 76 жыхароў, вінакурны з-д, кузня, 2 вінныя падвалы. У 1905 г. сяло, 1065 жыхароў, працавала нар. вучылішча (у 1905/06 навуч. годзе — 100 хлопчыкаў, 3 дзяўчынкі). Маёнтак Грушава налічваў 47 жыхароў. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 101 двор, 431 жыхар; фальварак — 5 двароў, 39 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Худлінскім с/с, з 16.7.1954 г. вёска — цэнтр сельсавета таго ж раёна і вобласці, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не, з 21.1.1961 г. ў Гарадзецкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 877 жыхароў, працавала новаарганізаваная МТС (5 трактароў, 2 аўтамашыны), у былым маёнтку — 11 коней, 23 каровы і г.д. У Вял. Айч. вайну Грушава акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Пры вызваленні вёскі загінулі 2 сав. воіны. У 1967 г. на іх магіле ў цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск, які таксама ўшаноўвае памяць 37 землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. У 1948 г. вёска радыёфікавана; 12 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Леніна (старшыня С.Жаглей). Паводле перапісу 1959 г. Грушава налічвала 646 жыхароў, у 1970 г. — 930 жыхароў. У 1971 г. 289 гаспадарак, 945 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 224 гаспадаркі, 599 жыхароў, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Размешчаны базавая школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, 3 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, рамонтна-экскаватарныя майстэрні.

**ГУЦКІ** — вёска ў Батчынскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 50 км ад Брэста. Аўтадарогамі звязана з Жабінкай, Кобрынам, Камянцом. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

Упершыню згадваюцца ў 1737 г. У 1890 г. Гуцкі — вёска Стрыгаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 156 дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне А.Біча, 92 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 17 двароў, 166 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін; у маёнтку — 1 двор, 12 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 197 жыхароў, маёнтак — 27 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска і фальварак разам — 25 двароў, 151 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Батчынскім с/с таго ж раёна і вобласці. У 1940 г. Гуцкі — хутары, 45 двароў, 170 жыхароў. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Малянкова (32 гаспадаркі). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 138 жыхароў, у 1970 г. — 66 жыхароў. У 1999 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе аграфірмы-калгаса «Патрыкі» (цэнтр — в. Андронава). У 2004 г. Гуцкі далучаны да ААТ «Кобрынская птушкафабрыка».

**ДЗЕВЯТКІ** (мясц. назва Дыв'яткі) — вёска ў Залескім с/с, за 6 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 50 км ад Брэста. На скрыжаванні аўтадарог Кобрын—Лунінец і Брэст—Мінск. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2005).

У 1563 г. ўпамінаецца Лазар Дзевяціч у с. Залессе. У 1890 г. Дзевяткі — вёска Залескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 308 $^1/_2$ дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне О.Верашчагі, 242 $^3/_4$ дзес. зямлі. Аколіцы Дзевяткі, Карылаўшчына і іншыя налічвалі 358 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска, 40 двароў, 350 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, ветраны млын (жылы дом Д.Паўлючыка, 1 жыхар); у маёнтку — 18 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 358 жыхароў, маёнтак — 7 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 46 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з



15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Закросніцкім с/с, з 16.7.1954 г. ў Залескім сельсаветах. У 1940 г. Дзевяткі — хутары, 75 двароў, 260 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 26 вясковых гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Дружба». Паводле перапісу 1959 г. 208 жыхароў, у 1970 г. — 155 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава (з 2004 СВК «Быстрыца»; цэнтр — в. Залессе).

**ДЗЕВЯТКІ** (мясц. назва Дыв'яткі) — вёска ў Тэвельскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 70 км ад Брэста. На аўтадарозе Кобрын—Камянец. 80 гаспадарак, 214 жыхароў (2005).

Згадваюцца ў 1563 г. як сяло Дашкавічы. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1890 г. Дзевяткі — вёска Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 459 $^1/_4$ дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак, уладанне І.Багуслаўскай, 1882 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з хутарам Ківацічы, фальваркамі Свічы і Заверша). У 1897 г. ў вёсцы 53 двары, 351 жыхар, працавалі хлебазапасны магазін, кузня, у 1905 г. — 396 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 25 дамоў, 109 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Тэвельскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 64 двары, 306 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. На франтах вайны і ў партыз. барацьбе загінулі 37 землякоў. На ўшанаванне іх памяці ў 1965 г. на паўн. ускраіне вёскі ўстаноўлены абеліск. У 1949 г. 42 гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас імя Куйбышава. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 262 жыхары, у 1970 г. — 232 жыхары. У 1971 г. 77 гаспадарак, 238 жыхароў. У 1999 г. было 89 гаспадарак, 246 жыхароў, цэнтр калгаса «1 Мая». Размешчаны адм. будынак гаспадаркі, магазін, бібліятэка.

**ДЗІВІН** (мясц. назвы Дывьін, Дывын) — сяло, цэнтр Дзівінскага с/с, каля воз. Любань. За 33 км на ПдУ ад горада і 35 км ад чыг. ст. Кобрын, 78 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах на Брэст, Драгічын. 1460 гаспадарак, 3532 жыхары (2005).

Першае ўпамінанне пра Дзівін у 1466 г. У 1546 г. мястэчка, цэнтр Дзівінскай вол.



*Прачысценская царква ў в. Дзівін.*



*Званіца царквы Параскевы Пятніцы ў в. Дзівін.*

Брэсцкага (Берасцейскага) пав. ВКЛ. У 1566 г. цэнтр Дзівінскага войтаўства і Палескай вол.; згодна з рэестрам у мястэчку 184 двары, рынак (квадратны ў плане), 5 вуліц: Павіцкая (на в. Павіцце), Кобрынская, Берасцейская, Ратманская, Крывая; Пятніцкая царква (на вуліцы Кобрынскай). У 1629 г. кароль Жыгімонт III пацвердзіў дзівінцам права на штотыднёвы кірмаш па чацвяргах. З 1642 г. Дзівін меў магдэбургскае права, аднак войта з шляхты прызначаў кароль. У 1668 г. Дзівін — горад у складзе Палескага ключа Брэсцкай эканоміі, 53 валокі зямлі, 2 царквы, 2 млыны, агароды, карчма. У 1682 г. тут існавалі 2 царквы (мелі 2 вольныя валокі зямлі), ратуша (2 валокі), касцёл (4 валокі), 2 млыны, карчма. У 1789 г. горад і Двор у Дзівінскім ключы Брэсцкай эканоміі. У горадзе рынкавая плошча, 4 вуліцы, 194 гаспадаркі (з іх 173 хрысціянскія), 872 жыхары; у Двары жылы дом, бровар, студня і іншыя гасп. пабудовы.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. З сак. 1797 г. мяст. Дзівін, 988 жыхароў, падаравана нашчадкам ген.-фельдмаршала графа П.А.Румянцава-Задунайскага. У 1819 г. сяляне і жыхары мястэчка (звыш 200 двароў, 1000 жыхароў) адмовіліся выконваць павіннасці на карысць свайго ўладальніка да канчатковага разгляду справы аб іх вольнасці. 20.8.1819 г. ў Дзівін прыбыло 300 узброеных салдат. Жыхары мястэчка вызвалілі арыштаваных. Улады былі вымушаны дазволіць местачкоўцам выбраць 10 чал. для перамоў. Асэсар Гродзенскага губ. кіравання і кобрынскі земскі аканом у прысутнасці салдат зачыталі сялянам Указ губ. кіравання, у якім яны прасілі ваеннай дапамогі ў губернатара і адзначалі, што духавенства падтрымлівае сял. пратэст. У 1862 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. мястэчка — цэнтр Дзівінскай вол., 159 двароў, 1644 жыхары, 5516 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі (на 1890), валаснoе праўленне, 3 праваслаўныя царквы (511 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі ў 1890), сінагога, школа, 5 крам, заезны двор, 2 піцейныя дамы, 3 ярмаркі. Каля мястэчка знаходзіўся маёнтак Дзівін, уладанне А.Ягміна (з 1846 належаў памешчыку Мініну), ветраны млын, 8135 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі (разам з іншымі маёнткамі і фальваркамі Ягміна). Юрыдыка Дзівінская займала 428 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі (у 1846 маёнтак, 33 вярсты ад Кобрына), 619 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі (1806), 76 рэвізскіх душ. У 1888 г. ў мястэчку 2516 жыхароў, у праваслаўным прыходзе — 3663 вернікі. У 1897 г. мястэчка, 873 двары, 3796 жыхароў, 3 царквы, сінагога, яўр. малітоўны дом, нар. вучылішча (у 1889/90 навуч. годзе займаліся 74 хлопчыкі, 9 дзяўчынак; у 1892—93 — 71 хлопчык, 9 дзяўчынак), лячэбніца, валаснoе праўленне, паштовае аддз., 2 хлебазапасныя магазіны, 15 крам, маслабойня, 14 млыноў, піцейны дом; 6 аднадзённых ярмарак на год. У маёнтку было 60 жыхароў. У 1905 г. Дзівін налічваў 3967 жыхароў, у нар. вучылішчы вучыліся 100 хлопчыкаў, 4 дзяўчынкі; у маёнтку — 58 жыхароў. У 1911 г. ў мястэчку 4347 жыхароў, у аднайменным маёнтку — 42 жыхары (уладанне У.Чарнова). З 1915 г. мястэчка і маёнтак акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з 1919 г. — польскімі войскамі.

У 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; мястэчка — 373 дамы, 2299 жыхароў; фальварак, хутары і калонія — 71 двор, 403 жыхары. У 1931 г. Дзівінская гміна налічвала 8326 жыхароў, 84 населеныя пункты, займала пл. 280 км²; у мястэчку працавалі яўр. б-ка, тэатральны і харавы гурткі. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. — цэнтр раёна і сельсавета Брэсцкай вобл., з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. мястэчка налічвала 1009 двароў, 4187 жыхароў, асада вайсковая Дзівін — 13 двароў, 64 жыхары; працавалі паштовае аддз., 7-гадовая школа (400 вучняў), аптэка, бальніца з амбулаторыяй, ветпункт, нар. дом, 20 прыватных крам, хлебны і кніжны магазіны, 2 маторныя млыны, 3



хлебапякарні, бойня, рэстаран, сельпо, шавецкая і кавальская арцелі, з-д прахаладжальных напіткаў, маслазавод. За 2 км ад мястэчка на ўчастку былых асаднікаў у сак. 1940 г. арганізавана МТС (дырэктар Аўсеенка). Дзівінскі р-н налічваў 138 населеных пунктаў, 11 сельсаветаў, 26 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 24.6.1941 г. Дзівін акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў раёне і вёсцы 2819 жыхароў. Вызвалены 21.7.1944 г. часцямі 61-й арміі 1-га Бел. фронту. У цэнтры вёскі пахаваны 74 сав. воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў баях пры вызваленні вёскі (у 1949 устаноўлены абеліск). 1450 вяскоўцаў расстраляны ням. акупантамі ў 1942 г., пахаваны на тэр. з-да металічных вырабаў (у 1951 пастаўлены абеліск). У 1945 г. адноўлена МТС (не было трактароў), пачала друкавацца райгазета «Ленінскі прызыў» (адказны рэдактар А.Мельнікаў), у 1947 г. будавалася няпоўная сярэдняя школа, працавалі раённы клуб, б-ка, новы магазін. На тэр. раёна дзейнічалі 11 хат-чытальняў. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Зара», у 1950 г. адчынены яслі, пачалося ўзвядзенне новага будынка райбальніцы. Паводле перапісу 1959 г. Дзівін — сяло, 3489 жыхароў, у 1970 г. — вёска, цэнтр калгаса «Новае жыццё», 4677 жыхароў. У 1999 г. 1553 гаспадаркі, 4293 жыхары. Размешчаны будынкі выканкома сельсавета і адміністрацыі калгаса, Дом культуры, клуб, 3 б-кі, школа-інтэрнат, муз., спарт. і сярэдняя школы, 2 дзіцячыя сады, камбінат быт. абслугоўвання, кафэ, 11 магазінаў, бальніца, аптэка, ветлячэбніца, аддз. сувязі. Працуюць маслазавод, пякарня, філіял Кобрынскай мэблевай ф-кі, аддз. «Сельгастэхнікі», 2 лясніцтвы. Помнікі архітэктуры — цэрквы Прачысценская (пач. 20 ст.) і Параскева-Пятніцкая (1740).

**ДЗЯМІДАЎШЧЫНА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 32 км на ПнУ ад г. Кобрын, 8 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Лунінец), 76 км ад Брэста. На аўтадарозе Кобрын—Антопаль. 76 гаспадарак, 139 жыхароў (2005).

У 1563 г. Дзямідаўшчына — урочышча на грунце г. Гарадзец, у Кобрынскай эканоміі ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Іласкай вол., 513 $^1/_2$ дзес. зямлі, 478 жыхароў (1885). Побач знаходзілася аднайменная пусташ, уладанне Ганны Сельван, 16 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. вёска налічвала 81 двор, 475 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін; у 1905 г. — 545 жыхароў, у 1911 г. — 529 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; 61 двор, 328 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр сельсавета таго ж раёна, з 16.7.1954 г. ў Грушаўскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не, з 21.1.1961 г. ў Гарадзецкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 124 двары, 559 жыхароў, працавалі цагельны з-д, аддз. сувязі, пач. школа (86 вучняў), сельсавет (тэлефанізаваны). Каля вёскі размяшчаліся залежы торфу (85 га) і гліны. На тэр. сельсавета знаходзіліся 8 вёсак, 322 хутары, 419 двароў, 2467 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Дзямідаўшчына акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Пры вызваленні вёскі загінулі 3 сав. воіны. У 1966 г. на магіле ўстаноўлены абеліск, які таксама ўшаноўвае памяць землякоў, загінуўшых у баях з ням. акупантамі. У 1946 г. працавала хата-чытальня. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 350 жыхароў, у 1970 г. — 339 жыхароў. У 1999 г. было 83 гаспадаркі, 173 жыхары, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Ёсць базавая школа, аддз. сувязі, магазін, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт.

**ДОБРАЕ** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, за 39 км на ПдУ ад г. Кобрын, 19 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 83 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Арэхава—Балоты. За 3 км на ПдЗ ад вёскі ўрочышча Воўчыя Ямы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2005).

У 1563 г. Добрае — урочышча-востраў с. Чалішчавічы ў Кобрынскай эканоміі ВКЛ. Пад 1577 г. маёнтак Добрынскі пазначаны ў вопісе дакументаў Віленскага цэнтр. архіва. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Добрэ — пасёлак у складзе в. Чалішчавічы Гарадзецкай вол., 78 жыхароў (1885). Разам з іншымі пасёлкамі вёска налічвала 383 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. вёска, 15 двароў, 88 жыхароў, у 1905 г. — 89 жыхароў, у 1911 г. — 129 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 17 двароў, 87 жыхароў. У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы было 76 жыхароў, у 1970 г. — 32 жыхары. У 1999 г. вёска, 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны).

**ДУБІНЫ** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, каля Арэхаўскага канала. За 33 км на ПдУ ад г. Кобрын, 14 км ад чыг. ст. Антопаль (на лініі Брэст—Баранавічы), 79 км ад Брэста. Аўтадарогай Арэхаўскі—Балоты звязана з Кобрынам. 47 гаспадарак, 121 жыхар (2005).

Упершыню згадваецца ў 1546 г. як урочышча Дубавое ў складзе Чалішчавіч і Вуглоў. У 1890 г. Дубіны — пасёлак у складзе в. Вуглы Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 1130 дзес. зямлі (разам з 7 іншымі пасёлкамі в. Вуглы), 57 жыхароў (1885). У 1897 г. вёска Вуглы (Дубіны), 8 двароў, 76 жыхароў. У 1905 г. было 160 жыхароў, у 1911 г. — 203 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 9 двароў, 40 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 32 жыхары. У Вял. Айч. вайну Дубіны акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. вяскоўцы стварылі калгас «Маладая гвардыя». У 1965 г. на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. налічвалася 148 жыхароў, у 1970 г. — 180 жыхароў. У 1999 г. ў в. Дубіны 51 гаспадарка, 126 жыхароў, цэнтр калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»). Дзейнічаюць магазін, фельч.-акушэрскі пункт.

**ДУБОВАЕ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 8 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 54 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Высокае. 21 гаспадарка, 26 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. Дубовае — сяло Лягатаўскага войтаўства Кобрынскага староства, 10 валок зямлі, 10 гаспадарак, уладанне памешчыка Чапавіцкага. У 1597 г. сяло, 10 валок зямлі, карчма (на арэндзе) і засценак (4 маргі зямлі). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Стрыгаўскай вол., 129 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: пасёлак (17 $^1/_2$ дзес. зямлі) і маёнтак — уладанне Дамецкага, Мількоўскага і інш. (184 $^1/_2$ дзес. зямлі). У 1897 г. вёска налічвала 25 двароў, 194 жыхары, меўся хлебазапасны магазін; маёнтак — 8 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 249 жыхароў, у маёнтку — 13 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 28 двароў, 147 жыхароў, фальварак — 3 двары, 19 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лепясоўскім, з 30.10.1959 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 40 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да



ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. было 144 жыхары, у 1970 г. — 190 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 22 гаспадаркі, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Кобрынскі» (цэнтр — в. Імянін).

**ЖУКІ** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, за 31 км на ПдУ ад г. Кобрын, 11 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 75 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Арэхава—Балоты. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

Упершыню згадваюцца ў 1563 г. як Жукавая Навінка ў складзе с. Чалішчавічы. У 1885 г. Жукі — вёска ў Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 162 жыхары. У 1897 г. 21 двор, 137 жыхароў. Побач знаходзіліся 2 выселкі: Жукі (Разлом, Вялікі Лес), 2 двары, 15 жыхароў; Жукі (Прожар), 1 двор, 7 жыхароў. У 1911 г. ў вёсцы 292 жыхары. Ва ўрочышчы Разлом—Вялікі Лес знаходзіўся хутар, уладанне Івана і Апанаса Кулікоў, 18 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 26 двароў, 139 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 158 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Краіны Саветаў (старшыня В.Я.Дывінец). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 163 жыхары, у 1970 г. — 82 жыхары. У 1999 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны).

**ЖУХАЎЦЫ** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 56 км ад Брэста. На шашы Кобрын—Лунінец. 97 гаспадарак, 246 жыхароў (2005).

У 1844 г. Жухаўцы — вёска аднайменнага маёнтка ў Кобрынскім пав., уладанне Адама і Калікста Астрамецкіх, 4 двары, 24 рэвізскія душы. Маёнтак складаўся з вёскі і фальварка Жухаўцы, в. Падбер'е, налічваў звыш 233 дзес. зямлі. У 1890 г. вёска ў Падалескай вол. таго ж павета Гродзенскай губ., 166 дзес. зямлі (разам з вёскамі Падбер'е, Куксы). Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне К.Астрамецкага, 137 дзес. зямлі. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі аднайменныя: вёска — 19 двароў, 132 жыхары, быў хлебазапасны магазін; 3 жылыя дамы — 18 жыхароў; дом аховы № 15 на 7-й вярсце ст. Запруды-Кобрын — 6 жыхароў; 4 прыватнаўласніцкія сядзібы — 32 жыхары. У 1905 г. вёска (136 жыхароў) і маёнтак (17 жыхароў). У 1911 г. вёска — 163 жыхары, 2 аднайменныя маёнткі (уладанні Астрамецкага і Дамброўскай) — 12 жыхароў, шашэйная будка — 5 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; фальварак — 1 двор, 7 жыхароў; вёска і асада — 23 двары, 127 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета таго ж раёна і вобласці, з 16.7.1954 г. ў Астроміцкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 24 двары, 123 жыхары, будынак выканкома сельсавета, пач. школа, хата-чытальня, магазін; аднайменныя хутары — 8 двароў, 55 жыхароў; былы маёнтак — 2 двары, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Жухаўцы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы было 167 жыхароў, у 1970 г. — 194 жыхары. У 1974 г. каля шашы Масква—Брэст і моста цераз р. Мухавец устаноўлены помнік І.І.Арлову, аднаму з арганізатараў партыз. руху на Кобрыншчыне ў Вял. Айч. вайну. У 1999 г. ў Жухаўцах 91 гаспадарка, 279 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына (цэнтр — в. Астромічы).

**ЗАБАВА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 64 км ад Брэста. На шашы Кобрын—Макраны. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

З 1890 г. Забава была ў валоданні біскупаў Кракаўскіх. У 1897 г. Забава —

маёнтак (уладанне А.Юшкевіч) у Верхалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 1001 дзес. зямлі (1890), 6 двароў, 51 жыхар. У 1905 г. пасёлак, 47 жыхароў. У 1911 г. вёска ў Навасёлкаўскай вол. таго ж павета, 55 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 3 двары, 22 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Верхалескім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не, з 30.10.1959 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. вёска налічвала 16 двароў, 84 жыхары. У Вял. Айч. вайну Забава акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У сак. 1948 г. ў вёсцы пачалося будаўніцтва першага ў Дзівінскім р-не цагельнага з-да. Паводле перапісу 1959 г. 73 жыхары, у 1970 г. — 44 жыхары. У 1999 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса імя Чкалава (з 2004 СВК «Верхалескі»; цэнтр — в. Верхалессе).


*М.К.Юскавец.*

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, за 31 км на ПдУ ад г. Кобрын, 10 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 75 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Арэхава—Балоты. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У 1890 г. Забалацце — пасёлак у складзе в. Чалішчавічы Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 383 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі (разам з 3 іншымі пасёлкамі вёскі). У 1897 г. вёска Чалішчавічы (Забалацце), 9 двароў, 63 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 15 двароў, 79 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 77 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 87 жыхароў, у 1970 г. — 74 жыхары. У 1999 г. 15 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны).

**ЗАБУЖКІ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 5 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 41 км ад Брэста. На шашы Мінск—Брэст. 39 гаспадарак, 82 жыхары (2005).

У 1890 г. Забужкі — вёска ў Прускаўскай вол. Кобрынскага пав., 68 дзес. зямлі. У 1905 г. ў вёсцы 93 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 9 двароў, 74 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Пескаўскім, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім, з 18.12.1972 г. ў Хідрынскім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 24 двары, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Забужкі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Будзённага (старшыня М.Амяльчук). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы было 129 жыхароў, у 1970 г. — 118 жыхароў. У 1999 г. ў Забужках 39 гаспадарак, 95 жыхароў, у складзе аграфірмы «Беларусь» (з 2004 СВК «Вербнае»; цэнтр — в. Пескі).

**ЗАВЕРША** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 5 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 72 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Пружаны—Высокае. 54 гаспадаркі, 93 жыхары (2005).

У 1658 г. Завершы — сяло маёнтка Півацічы ў Брэсцкім ваяв. ВКЛ. У 1717 г. фальварак. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска Мураўёўскай вол. таго ж павета, 321 дзес. зямлі. Побач знаходзілася аднайменнае ўладанне О.Сандзецкага, 13 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі, і маёнтак Заверша, уладанне І.Багуслаўскай, 1882 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі (разам з хутарамі Півацічы і фальваркамі Свішчы і Дзевяткі). У 1897 г. ў вёсцы 54 двары, 410 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, кузня; у сядзібе Заверша — 8 жыхароў, піцейны дом. У 1905 г. вёска, 399 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 41



двор, 201 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Тэвельскім с/с. У 1940 г. вёска налічвала 69 двароў, 558 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. 40 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «12 Сакавіка». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы было 334 жыхары, у 1970 г. — 293 жыхары. У 1999 г. 70 гаспадарак, 134 жыхары, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Дзевяткі).

У в. Заверша нарадзіўся акадэмік Акадэміі навук БССР, доктар ветэрынарных навук, праф., засл. дзеяч навукі БССР М.К.Юскавец.

**ЗАВУЖОЎЕ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 6 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 64 км ад Брэста. Аўтадарогі адыходзяць на Пружаны, Камянец. 37 гаспадарак, 82 жыхары (2005).

Назва сучаснай вёскі паходзіць ад р. Ужавая, якая ўпамінаецца ў 1563 г. на мяжы з сялом Залессе. У 1597 г. Завужоўе — сяло ў Залескім войтаўстве Кобрынскага староства, 13 валок зямлі. Пры сяле меўся засценак, 10 валок зямлі. У 1742 г. сяло ў Чаравачыцкім ключы Брэсцкай эканоміі, 14 валок зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Казішчанскай вол. таго ж павета, 538 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з сядзібай Германы). У 1897 г. ў вёсцы (каля Маскоўска-Брэсцкай чыгункі і Кобрынска-Пружанскага гандл. шляху) 25 двароў, 201 жыхар, меўся вятрак. У 1911 г. 285 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 14 дамоў, 79 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Казішчанскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 35 двароў, 222 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Завужоўе 227 жыхароў, у 1970 г. — 176 жыхароў. У 1999 г. 42 гаспадаркі, 103 жыхары, у складзе калгаса імя Гагарына (з 2004 СВК «Тэўлі»; цэнтр — в. Тэўлі).

У в. Завужоўе нарадзіўся доктар філасофскіх навук, праф., член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР М.Т.Іаўчук.

**ЗАКАЛНЕЧЧА** — вёска ў Кісялёвіцкім с/с, каля Казацкага канала. За 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 59 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Балоты—Кобрын.



*М.Т.Іаўчук.*

У 1897 г. Закалнечча — фальварак (уладанне А.Гана) у складзе Блоцкай (Балоцкай) вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 9 жыхароў. У 1905 г. маёнтак налічваў 10 жыхароў. З 1921 г. калонія ў складзе Польшчы, у Балоцкай (Блоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 20 дамоў, 152 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кісялёвіцкім с/с. У 1940 г. хутары Закалнечча налічвалі 65 двароў, 254 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. Закалнечча — вёска, 126 жыхароў, у 1970 г. — хутар, 20 жыхароў, у складзе калгаса «Новы шлях» (з 2004 «Магдалінскі»; цэнтр — в. Магдалін). У сучасны перыяд вёска не заселена.

**ЗАКРОСНІЦА** — вёска ў Залескім с/с, за 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 56 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Кобрын—Іванава, Мінск—Брэст. 108 гаспадарак, 270 жыхароў (2005).

Упамінаецца ў 1563 г. як сяло Красноўскае. У 1742 г. Закросніца — сяло ў складзе Кобрынскай эканоміі, 25 валок зямлі. У 1786 г. 15 валок зямлі; у 1789 г. ў Закросніцкім ключы той жа эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Залескай вол., 549 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя:

маёнтак (Закросніца ці Пятрова), уладанне А.Цітовіча, 410 дзес. зямлі; пасёлак, розныя ўладальнікі, 24 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 68 двароў, 460 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін; у маёнтку было 13 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 471 жыхара. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 16 двароў, 105 жыхароў. У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр сельсавета, з 16.7.1954 г. ў Залескім с/с. У 1940 г. вёска, 72 двары, 330 жыхароў, меліся няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня, магазін, сельсавет. Закросніцкі с/с налічваў 15 населеных пунктаў, 2615 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У сак. 1944 г. ў вёсцы ў баі з ням. акупантамі загінулі партызаны атрада імя Суворава І.В.Марозаў і К.Калагаў, а таксама 2 піянеры. На ўшанаванне памяці загінуўшых у 1973 г. на доме А.Е.Лакішыка ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Змагар». Паводле перапісу 1959 г. ў в. Закросніца 312 жыхароў, у 1970 г. — 241 жыхар. У 1999 г. 112 гаспадарак, 266 жыхароў, на тэр. Брэсцкай сортавыпрабавальнай станцыі. Тут працуюць 8-гадовая школа, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Адзіночны курган на беразе р. Мухавец.



*К.У.Тунчык.*

**ЗАЛЕСКІ** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, за 29 км на ПдУ ад г. Кобрын, 10 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 75 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Арэхаўскі—Кісялёўцы. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

У 1563 г. Залессе — урочышча-востраў с. Чалішчавічы Кобрынскай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Залескі — пасёлак у складзе в. Чалішчавічы Гарадзецкай вол., 383 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з 3 іншымі пасёлкамі в. Чалішчавічы). У 1897 г. вёска Чалішчавічы (Залескі), 11 двароў, 67 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 11 двароў, 54 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 61 жыхара. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў Залесках 63 жыхары, у 1970 г. — 55 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 10 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны).

У в. Залескі нарадзіўся К.У.Тунчык, механік-вадзіцель баявой машыны пяхоты ў Афганістане, які загінуў 12.7.1987 г. ў баі пад г. Кандагар.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска, цэнтр Залескага с/с, каля Дняпроўска-Бугскага канала. За 8 км на У ад горада і чыг. ст. Кобрын, 54 км ад Брэста. На шашы Кобрын—Іванава. 268 гаспадарак, 741 жыхар (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Трокскім, а затым Берасцейскім ваяводствах ВКЛ. У 1563 г. Залессе — сяло Сялецкага войтаўства Кобрынскай эканоміі, 25 валок зямлі, з якіх 2 валокі вольныя служкоўскія, 25 гаспадарак. У гэтым жа годзе каралеўскія рэвізоры перадалі значную частку зямель Грушаўскай царкве. У 1597 г. з 25 валок зямлі сяла 1 валока вольная была дадзена на войта (Даніла Грыдковіч), другая вольная — на шатэрніка (лавец птушак). Лістом караля Генрыха 6 валок сяла былі нададзены пажыццёва Войну Лавіцкаму, 17 валок зямлі былі «на плаце». У сяле дзейнічала карчма. У 1633 г. сяло Кобрынскай эканоміі, 25 валок зямлі, з якіх паводле прывілея вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Уладзіслава IV Вазы 6 валок былі нададзены Марціну Лазавіцкаму. Пад 1644 г. пазначана ў вопісе дакументаў Віленскага цэнтр. архіва стараж. актавых кніг. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі,



у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1867 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. сяло — цэнтр Залескай вол., 28 двароў, 272 жыхары; знаходзіліся валаснoе праўленне, праваслаўная царква, школа. У 1890 г. ў Залессі 549 дзес. зямлі. Побач размяшчаўся аднайменны маёнтак, уладанне П.Штэрна, 276 дзес. зямлі. У 1897 г. сяло (пры гандл. шляху Кобрын—Антопаль), 38 двароў, 311 жыхароў, меліся царква, хлебазапасны магазін, валаснoе праўленне (пры ім жылы дом з 6 жыхарамі), нар. вучылішча, 3 жыхары. У вучылішчы ў 1892/93 навуч. годзе вучыліся 58 хлопчыкаў, у 1905—06 гг. — 73 хлопчыкі, 12 дзяўчынак. Маёнтак пры паштовым шляху Пінск—Кобрын у 1897 г. налічваў 11 жыхароў. У 1905 г. Залессе — сяло, 320 жыхароў; маёнтак, 15 жыхароў; сядзіба, 11 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 33 двары, 237 жыхароў; фальварак — 2 двары, 18 жыхароў. У 1930-я г. працавала школа.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Закросніцкім с/с, з 16.7.1954 г. — цэнтр сельсавета. У 1940 г. Залессе — хутары, 78 двароў, 382 жыхары; меліся запасы торфу, працаваў торфазавод. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У вызваленчых баях з ням. акупантамі ў 1944 г. загінулі 6 партызан атрада імя А.В.Суворава. Ахвяры пахаваны каля Дома культуры. У 1969 г. на магіле ўстаноўлены помнік, які таксама ўшаноўвае памяць 28 аднавяскоўцаў, што загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. У 1948 г. 72 гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас імя А.В.Суворава. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Залессе было 370 жыхароў, у 1970 г. — 397 жыхароў. У 1999 г. 228 гаспадарак, 620 жыхароў, цэнтр калгаса імя Суворава (з 2004 СВК «Быстрыца»). Размешчаны будынкі выканкома сельсавета і адміністрацыі калгаса, 2 магазіны, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, лазня, сталовая, сярэдняя школа, аддз. сувязі. У 1980 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены помнік А.В.Сувораву.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 2 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 62 км ад Брэста. На аўтадарозе Кобрын—Камянец. 54 гаспадаркі, 105 жыхароў (2005).

У 1563 г. Залессе — сяло Залескага войтаўства Кобрынскай эканоміі; 50 валок зямлі, з якіх 3 вольныя былі нададзены на служкоўства (падлазнікі), 1 вольная — на войта (Андрэй Бобр, меў 3 валокі зямлі), чыншавых («на плаце») 46 валок. Усяго 48 гаспадарак (сярод гаспадароў каваль, лаўнік). У 1597 г. сяло, 50 валок зямлі, з якіх 2 вольныя (на войта і асочніка). Нашчадкі А.Бабра валодалі 3 валокамі зямлі. Пры сяле дзейнічала карчма. У 1786 г. сяло той жа эканоміі; у 1790 г. фальварак, на які апошні вял. князь ВКЛ і кароль Польшчы Станіслаў Аўгуст Панятоўскі надаў прывілей I. і С. Малішэўскім. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Мураўёўскай вол., 466 дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак, уладанне Б.Карыбут-Дашкевіча, 712 дзес. зямлі (разам з маёнткам Рынкі і ўрочышчам Асавіца). Пры в. Залессе мелася асобнае ўладанне М.Каліша, 44 $^1/_4$ дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 37 двароў, 319 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін; у 1905 г. вёска налічвала 383 жыхары, хутар — 9 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 29 двароў, 138 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Тэвельскім с/с. У 1940 г. вёска, 9 двароў, 356 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Залессе акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 59 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Маладая гвардыя». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 322 жыхары, у 1970 г. — 217 жыха-

роў. У 1999 г. 70 гаспадарак, 134 жыхары, у складзе калгас «1 Мая» (цэнтр — в. Дзевяткі). Ёсць клуб, бібліятэка.

**ЗАПРУДЫ** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 62 км ад Брэста. На аўтадарозе Кобрын—Баранавічы. 91 гаспадарка, 239 жыхароў (2005).

У 1886 г. Запруды — вёска Іласкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., меліся паштовая станцыя, крама. У 1890 г. вёска ў Падалескай вол. таго ж павета, 110 $^3/_4$ дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне П.Шыраева, 736 дзес. зямлі (разам з фальваркам Астрамеч і лясной дачай Гіркаўка). У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі: вёска (пры Маскоўска-Варшаўскай шашы), 18 двароў, 117 жыхароў; выселак Запруды (Дзеркачова), 1 двор, 7 жыхароў; былыя паштовая станцыя, 11 жыхароў, і карчма, 18 жыхароў; дом аховы № 14 на 17-й вярсце ад ст. Свадбіч — ст. Запруды, 6 жыхароў; дом Запруды (Бор), 6 жыхароў; лясныя старожкі: Запруды, 11 жыхароў, і Запруды (Горкаўка), 5 жыхароў; 3 прыватнаўласніцкія сядзібы — Запруды, 11 жыхароў; Запруды (Цямніца), 6 жыхароў; Запруды (Буда), 9 жыхароў. У 1905 г. Запруды — вёска (156 жыхароў) і маёнтак (22 жыхары). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 14 двароў, 80 жыхароў; фальварак — 2 двары, 25 жыхароў. У 1927 г. адкрыта б-ка (45 кніг на польскай мове, 39 чытачоў); працавалі школа, тэатральны гурток, праводзіліся нядзельныя чытанні. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Красналескаўскім, з 16.7.1954 г. ў Астроміцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 20 двароў, 56 жыхароў; былы маёнтак — 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Запруды акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У першыя дні вайны непадалёку ад вёскі размяшчаўся запасны камандны пункт 4-й арміі Зах. фронту. Каля вёскі ў баях з ням. акупантамі загінулі 27 сав. воінаў і 2 партызаны. Пахаваны каля лясніцтва (у 1957 устаноўлены помнік). У 1949 г. 27 гаспадарак з вёсак Запруды і Мачульнікі аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны араты» (старшыня А.П.Брашавец). Паводле перапісу 1959 г. ў Запрудах было 128 жыхароў, у 1970 г. — 156 жыхароў. У 1999 г. 97 гаспадарак, 257 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (з 2004 ААТ «Астромічы»; цэнтр — в. Плянта). Працуюць магазін, амбулаторыя, базавая школа.

**ЗАСІМЫ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, на паўд. беразе р. Дахлоўка (прыток Мухаўца). За 16 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 61 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Яромічы—Рэчыца і далей па шашы Мінск—Брэст. 65 гаспадарак, 153 жыхары (2005).

У 1795 г. Засімы — 2 вёскі (3 двары, 20 жыхароў; 2 двары, 14 жыхароў) у Кобрынскай эканоміі Брэсцкага ваяв. ВКЛ. У 1890 г. адна вёска ў Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 368 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 34 двары, 217 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1905 г. было 273 жыхары. У 1911 г. — 296 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 44 двары, 231 жыхар. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр Засімскага с/с, з 16.7.1954 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 63 двары, 284 жыхары, меліся пач. школа, хата-чытальня, магазін, сельсавет. На тэр. сельсавета налічвалася 16 населеных пунктаў, 286 двароў, 1334 жыхары. У Вял. Айч. вайну Засімы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У баях з ням. акупантамі каля вёскі ў 1942—43 гг. загінулі 26 партызан атрада імя Чапаева; пры вызваленні вёскі 17.7.1944 г. загінулі 43 сав. воіны. Пахаваны ў цэнтры вёскі (у 1958 устаноўлены абеліск). У 1950 г. 30 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Тэльмана. Паводле



перапісу 1959 г. ў Засімах было 283 жыхары, у 1970 г. — 235 жыхароў. У 1999 г. 72 гаспадаркі, 165 жыхароў, у складзе дапаможнай гаспадаркі «Засімы». Працуе магазін.

**ЗОСІНА** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 73 км ад Брэста. Звязана з аўтадарогай Кобрын—Івацэвічы. 51 гаспадарка, 131 жыхар (2005).

У 1921 г. Зосіна — вёска ў Байкоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 21 двор, 119 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бакунскім с/с таго ж раёна. У Вял. Айч. вайну Зосіна акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1970 г. вёска ў Астроміцкім с/с Кобрынскага р-на, 64 жыхары. У 1999 г. 54 гаспадаркі, 160 жыхароў, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Лука).

**ІЗАБЕЛІН** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 12 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 56 км ад Брэста. На аўтадарозе Кобрын—Дзівін. 34 гаспадаркі, 65 жыхароў (2005).

Згадваецца ў 1563 г. як сяло Гварычы. У 1629 г. ўпамінаецца зямянін Мікалай Вырыкоўскі. У 1890 г. Ізабелін — маёнтак (уладанне Э.Выржыкоўскага) у Блоцкай (Балоцкай) вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 362 дзес. зямлі. У 1905 г. налічваў 16 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Блоцкай (Балоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; незаселены (на 1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хідрынскім с/с, з 16.7.1954 г. да 18.12.1972 г. ў Пецькаўскім с/с таго ж раёна. У 1940 г. хутары, 11 двароў, 38 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. ў в. Ізабелін было 118 жыхароў. У 1999 г. 33 гаспадаркі, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (з 2004 СВК «Узыходзячая зара»; цэнтр — в. Хідры). Працуе магазін.

**ІЛАСК** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 25 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 69 км ад Брэста. На шашы Брэст—Мінск. 58 гаспадарак, 100 жыхароў (2005).

У 1563 г. Выловско — сяло і балота Грушаўскага войтаўства, воласці Гарадзецкага двара Кобрынскай эканоміі ВКЛ; 30 валок зямлі, з якіх 5 (вольных) нададзены на служкоўства (асочнікі і палазнік), 30 гаспадарак. У 1762 г. сяло ў Гарадзецкім ключы той жа эканоміі, 30 валок зямлі. Вял. князь ВКЛ і кароль Польшчы Аўгуст III выдаў на яго прывілей С. і Д. Гарышам. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Іласкай вол., 499 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне К.Шэміёта, 2090 дзес. зямлі (разам з 2 ляснымі дачамі). У 1897 г. вёска — цэнтр воласці (пры ваенна-камунікацыйнай дарозе Запруды—Дзеткавічы), 56 двароў, 391 жыхар, працаваў хлебазапасны магазін; маёнтак — 7 двароў, 91 жыхар, дзейнічалі царква, крухмальны з-д, валаснoе праўленне, царк. прычт, карчма. У 1905 г. ў вёсцы 382 жыхары, у маёнтку — 58 жыхароў. У 1911 г. вёска налічвала 252 жыхары, маёнтак — 100 жыхароў, на крухмальным з-дзе працавалі 8 рабочых. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 25 двароў, 156 жыхароў; фальварак — 1 двор, 28 жыхароў. У 1926 г. адкрыта б-ка (72 кнігі на польскай мове). У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, чытальня. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Іласкага с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 95 двароў, 353 жыхары, меліся пач. школа, каап. крама, сельсавет. На тэр. сельсавета знаходзіліся 8 населеных пунктаў, 118 хутароў, 519 двароў, 2112 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1946 г. працавала хата-чытальня. Паводле перапісу




1959 г. ў вёсцы 329 жыхароў, у 1970 г. — 323 жыхары. У 1999 г. 74 гаспадаркі, 137 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (з 2004 СВК «Шамятоўка»; цэнтр — в. Шамятоўка).

**ІМЯНІН** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Кобрын, 55 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Высокае. 268 гаспадарак, 708 жыхароў (2005).

У 1519 г. Імянін — маёнтак у Кобрынскім пав. ВКЛ. Вял. князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт І Стары сваёй граматай пацвердзіў правы баярына кобрынскага Некраша Сямёнавіча Качаноўскага на вечнае ўладанне 2 часткамі маёнтка Імянін і с. Байкавічы (знаходзілася каля Імяніна). Адпаведна з граматай уладар маёнтка атрымаў землі за службу яшчэ ад кн. Івана Сямёнавіча Кобрынскага каля 1459 г. У 1559 г. маёнтак ва ўладанні пана Льва Некрашэвіча і 4 братоў Ждановічаў. У 1563 г. Імянін — маёнтак і сяло каля г. Кобрын у Брэсцкім ваяв.; у 1589 г. — уладанне Т.Л.Заранка, пазней — Кобрынскага манастыра, у 1693 г. — маёнтак. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1845 г. маёнтак Імянін і в. Востраў, уладанне Фелікса і Віктара Пуслоўскіх, 2644 дзес. зямлі. У склад маёнтка ўваходзілі вёска і фальварак Імянін (40 двароў, 305 рэвізскіх душ, 6 дваровых сялян), в. Востраў (25 двароў, 192 рэвізскія душы). У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1890 г. вёска ў Стрыгаўскай вол., 737 дзес. зямлі. Каля вёскі знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне Севярына Навамейскага (магчыма, з 1877), 951 дзес. зямлі; пры вёсцы розныя ўладальнікі мелі 71 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска — 73 двары, 483 жыхары, хлебазапасны магазін; 2 дамы для рабочых (Імянін), 63 і 7 жыхароў; 3 маёнткі, уладанні Валянціны, Адольфа і нашчадкаў Іллі Стэфаноўскіх: 21, 1 і 2 жыхары. У 1905 г. вёска (621 жыхар) і маёнтак (97 жыхароў). У 1911 г. Імянін — вёска, 278 жыхароў; хутар, 319 жыхароў; 2 аднайменныя маёнткі, уладанні Севярына Стэфаноўскага і Фелікса Навамейскага, 165 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 74 двары, 469 жыхароў; фальварак — 5 двароў, 118 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа і чытальня. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лепясоўскім, з 30.10.1959 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. хутары Імянін налічвалі 145 двароў, 760 жыхароў; былы маёнтак — 3 двары, 8 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Імянін акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1946 г. працавала 7-гадовая школа. У 1950 г. 35 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Краіна Саветаў». Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 704 жыхары, у 1970 г. — 648 жыхароў. У 1974 г. на доме, у якім да пач. Вял. Айч. вайны жыў Б.М.Сурын, камандзір 123-га авіяцыйнага знішчальнага палка, устаноўлена мемарыяльная дошка. У 1999 г. 270 гаспадарак, 706 жыхароў, цэнтр калгаса «Кобрынскі». Ёсць магазін, б-ка, дзіцячы сад, муз. і сярэдняя школы.

**КАЗІШЧА** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 18 км на Пн ад горада і чыг. ст. Кобрын, 69 км ад Брэста. Аўтадарогамі звязана з Кобрынам, Жабінкай, Пружанамі. 54 гаспадаркі, 89 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. Казішча — сяло Кобрынскай эканоміі, 5 гаспадарак, 7 валок зямлі, з якіх 4 валокі вольныя (асочніцкія). У 1597 г. сяло ў складзе Лягатаўскага войтаўства той жа эканоміі; 7 валок зямлі, з якіх 1 вольная (асочніцкая). Пры сяле меліся $^{3}/_{10}$ валокі (вольныя) зямлі, якія былі нададзены сялянам «на выган». Засценак налічваў 4 валокі зямлі. Інвентар адзначаў дрэнную якасць зямлі. У 1786 г. сяло Кобрынскай эканоміі, 7 валок 229 маргоў зямлі. У 1795 г. 2 гаспадаркі, 12 жыхароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. ім-



перыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. Казішча — сяло, цэнтр Казішчанскай вол., 46 двароў, 432 жыхары, меліся валасное праўленне, царква (праваслаўны прыход у 1888 налічваў 1826 вернікаў), школа, кузня, заезны двор. У 1890 г. — сяло, 1112 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі; царк. прычт, 110 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі; у нар. вучылішчы ў 1889/90 навуч. годзе вучыліся 64 хлопчыкі; у 1892—93 гг. — 80 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі; у 1905—06 гг. — 92 хлопчыкі. У 1897 г. сяло (каля гандл. шляху Кобрын—Пружаны), 80 двароў, 581 жыхар, Свята-Троіцкая царква, нар. вучылішча, валасное праўленне, хлебазапасны магазін, кузня, 3 ветраныя млыны, піцейны дом. У 1905 г. сяло налічвала 598 жыхароў, у 1911 г. — 638 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 93 двары, 532 жыхары.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. — цэнтр Казішчанскага с/с, з 11.8.1959 г. да 19.7.1976 г. ў Яроміцкім с/с. У 1940 г. вёска, 140 двароў, 680 жыхароў, працавалі пач. школа, хата-чытальня, магазін, сельсавет. На тэр. сельсавета было 11 населеных пунктаў, 338 двароў, 2013 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Казішча акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Каля вёскі ў баях з ням. акупантамі ў 1943 г. і пры яе вызваленні ў ліп. 1944 г. загінулі 12 воінаў Сав. Арміі і партызан брыгады імя Чапаева М.Усікаў. Пахаваны каля будынка былой школы (у 1965 устаноўлены абеліск). На могілках таксама пахаваны партызан атрада імя Чапаева І.А.Петруковіч, які загінуў у баі з ням.-фаш. акупантамі 13.6.1944 г. (у 1976 устаноўлена стэла). У 1948 г. ў в. Казішча пабудаваны клуб і хата-чытальня, у 1950 г. створаны калгас імя Хрушчова (старшыня Б.Качан). Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 512 жыхароў, у 1970 г. — 386 жыхароў. У 1999 г. 78 гаспадарак, 132 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (з



*Страусавая ферма ў в. Казішча.*

2004 СВК «Пакроўскі»; цэнтр — в. Бухавічы). Працуюць магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік архітэктуры — Свята-Троіцкая царква (сярэдзіна 19 ст.).

**КАЛОНІЯ** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 65 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Баранавічы. 26 гаспадарак, 59 жыхароў (2005).

У 1890 г. Калонія — 2 маёнткі ў Іласкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., уладанні Н.Волкава, 535 дзес. зямлі, і Л.Камінскага, 76 дзес. зямлі. У 1897 г. маёнтак Калонія, 3 двары, 16 жыхароў, уладанне Н.Я.Наскова. Побач знаходзіліся маёнткі: Вінніца — 15 жыхароў (уладанне нашчадкаў Баржноўскай), Вінніца (Калонія) — 6 жыхароў, в. Вінніца (Калонія) — 25 двароў, 172 жыхары, працаваў хлебазапасны магазін. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; в. Калонія-Вінніца і фальварак Калонія — 10 двароў, 81 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Іласкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска Вінніца, 135 жыхароў, створаны калгас «17 Верасня». У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. вёска Калонія, 23 гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная зорка» (старшыня М.Крыштафовіч). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы налічвалася ў 118 жыхароў, у 1970 г. — 146 жыхароў. У 1999 г. 29 гаспадарак, 73 жыхары, у скла-

дзе калгаса «Праўда» (з 2004 СВК «Шамятоўка»; цэнтр — в. Шамятоўка).

**КАЛУБЕЛІ** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 11 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 55 км ад Брэста. На шашы Брэст—Мінск. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2005).

У 1890 г. Калубелі — вёска Залескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 118 дзес. зямлі. Побач знаходзілася аднайменная аколіца, 67 дзес. зямлі (розныя ўладальнікі). У 1897 г. ў вёсцы 26 двароў, 170 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін. У 1905 г. 162 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 14 двароў, 67 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Закросніцкім с/с таго ж раёна. У 1940 г. вёска налічвала 34 двары, 140 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. Калубелі — хутары ў Залескім с/с, 135 жыхароў, у 1970 г. — вёска таго ж сельсавета, 100 жыхароў. У 1999 г. 22 гаспадаркі, 34 жыхары, у складзе калгаса імя Мічурына (цэнтр — в. Астромічы). Дзейнічае магазін.

**КАЛЮХІ** — вёска ў Кісялёвіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 59 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Балоты. 17 гаспадарак, 37 жыхароў (2005).

У 1787 г. Калюхі — маёнтак у Брэсцкім ваяв. ВКЛ. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1897 г. вёска Блоцкай (Балоцкай) вол., 19 двароў, 170 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін, было 565 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі (разам з в. Арлы, 1890). У 1905 г. 250 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Блоцкай (Балоцкай) гміне Кобрынскага пав.; вёска — 8 дамоў, 50 жыхароў; фальварак — 2 двары, 26 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кісялёвіцкім с/с. У 1940 г. хутары, 28 двароў, 140 жыхароў; былы фальварак — 14 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Калюхі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Сталінскі шлях». Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 117 жыхароў, у 1970 г. — 93 жыхары. У 1999 г. 20 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (з 2004 ААТ «Кісялёўцы»; цэнтр — в. Кісялёўцы).

**КАМЕНКА** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 13 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 65 км ад Брэста. Аўтадарогай звязана з Кобрынам. 41 гаспадарка, 66 жыхароў (2005).

У 1563 г. Каменнае — сяло ў Трокскім ваяв. ВКЛ, у Кобрынскай эканоміі, 8 валок зямлі, 6 гаспадарак. У 1597 г. сяло ў складзе Лягатаўскага войтаўства той жа эканоміі, 8 валок зямлі, засценкі сяла налічвалі 11 маргоў зямлі; уладанне пані Крапіўніцкай на пажыццёвым праве адпаведна даніне вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Стафана Баторыя (1533—86) і каралевы Ганны. Інвентар адзначаў дрэнную якасць зямлі сяла. Побач з Каменкай існаваў лес, 57 валок зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, 2 двары, 14 жыхароў. У 1890 г. вёска Каменка ў складзе Казішчанскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 1161 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі (разам з урочышчамі Паддуб'е і Выдзерка). У 1897 г. ў вёсцы 79 двароў, 518 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, кузня, 3 ветраныя млыны, вінная крама. У 1905 г. 516 жыхароў. У 1911 г. 494 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 56 двароў, 329 жыхароў. У 1930-я г. дзейнічалі школа, чытальня, тэатральны гурток. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Казішчанскім с/с таго ж раёна, з 11.8.1959 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 98 двароў, 517



жыхароў, мелася пач. школа. У Вял. Айч. вайну Каменка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У вер. 1942 г. ням. акупантамі расстраляны 152 вяскоўцы і спалены 48 двароў. У 1979 г. на магіле ахвяр фашызму ўстаноўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 262 жыхары, у 1970 г. — 233 жыхары. У 1999 г. 48 гаспадарак, 76 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (з 2004 СВК «Пакроўскі»; цэнтр — в. Бухавічы). Працуе магазін.

**КАМЕНЬ** (да 1940 Камень Каралеўскі) — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 15 км на У ад г. Кобрын, 8 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 59 км ад Брэста; чыг. станцыя на лініі Жабінка—Драгічын. На шашы Кобрын—Іванава. 133 гаспадаркі, 278 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім, затым Берасцейскім ваяводствах ВКЛ. У 1563 г. Камень — сяло Угольскага (Вугольскага) войтаўства воласці Гарадзецкага двара Кобрынскай эканоміі, 58 валок зямлі (з іх 21 валока не заселена), 33 гаспадаркі. Інвентар адзначаў дрэнную якасць зямлі. Пад 1606 г. Камень пазначаны як вёска і двор, уладанне Умястоўскіх. У 1698 г. сяло Гарадзецкага ключа той жа эканоміі; паводле прывілея вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Аўгуста II Моцнага знаходзілася ва ўладанні Якава Лянкевіча. У 1742 г. сяло, 58 валок зямлі. У 1757 г. кароль Аўгуст III выдаў прывілей Самуілу Маевічу на 12 валок сяла ў пажыццёвае ўладанне. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска Камень Каралеўскі ў Гарадзецкай вол., 540 жыхароў (1885), 598 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: пасёлак і 2 маёнткі — адпаведна 379 і 450 дзес. зямлі (уладанне нашчадкаў К.Сулкоўскага). У 1897 г. вёска, 95 двароў, 585 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейная ўстанова; 2 маёнткі налічвалі па 9 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 685 жыхароў, у маёнтку — 8 жыхароў. У 1911 г. вёска, 735 жыхароў; аднайменны маёнтак (уладанне А.Сулкоўскага) — 14 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; у вёсцы і фальварку разам 43 двары, 285 жыхароў. У 1930-я г.працавалі школа і вячэрнія курсы.



*Помнік на магіле ахвяр фашызму ў в. Каменка.*

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. — цэнтр сельсавета таго ж раёна, з 16.7.1954 г. ў Гарадзецкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска, 152 двары, 681 жыхар, бел. няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня, фельч.-акушэрскі пункт, сельсавет (тэлефанізаваны). На тэр. сельсавета знаходзіліся 5 вёсак, 291 хутар, 459 двароў, 2051 жыхар. У Вял. Айч. вайну в. Камень акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. створаны калгас «Сталінскі шлях». У 1965 г. каля клуба на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў баях з ням. акупантамі, устаноўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 197 жыхароў, у 1970 г. — 435 жыхароў. У 1999 г. 151 гаспадарка, 341 жыхар, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-




Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Ёсць клуб, магазін, б-ка, базавая школа, аддз. сувязі.

**КАТАШЫ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 10 км на Пд ад горада і чыг. ст. Кобрын, 48 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Макраны. 83 гаспадаркі, 214 жыхароў (2005).



*Возера ў в. Каташы.*

У 1691 г. Каташы — сяло ў Брэсцкім ваяв. ВКЛ; р. Катоўка на мяжы з сялом Корчыц. У 1890 г. вёска Верхалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 178 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі. У 1897 г. было 17 двароў, 122 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У 1905 г. 133 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; 7 дамоў, 49 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хідрынскім, з 16.7.1954 г. да 18.12.1972 г. ў Пецькаўскім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 19 двароў, 128 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Каташы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. 30 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя А.Васілеўскага. Паводле перапісу 1959 г. Каташы — хутары, 90 жыхароў, у 1970 г. — 204 жыхары. У 1999 г. 86 гаспадарак, 210 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (з 2004 СВК «Узыходзячая зара»; цэнтр — в. Хідры). Дзейнічаюць магазін, клуб. У в. Каташы знаходзяцца вайск. могілкі часоў 1-й сусветнай вайны.

**КІВАЦІЧЫ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 5 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 72 км ад Брэста. На шашы Кобрын—Камянец. 19 гаспадарак, 47 жыхароў (2005).

У 1528 г.Ківацічы — маёнтак, уладанне М.Паца, у Камянецкім пав. Падляшскага, з 1566 г. Брэсцкага ваяводстваў ВКЛ. Побач зКівацічамі праходзіла мяжа Кобрынскага пав. Пад 1577 г. у стараж. актавых кнігах пазначаны маёнтакКівачычы. У 1577 і 1597 гг. працягваліся спрэчкі па размежаванні зямель маёнтка і каралеўскага Вежыцкага двара. У 1610 г. на сродкі Мікалая і Сафіі Пацаў пабудаваны касцёл Пятра і Паўла (згарэў у 1798 ад маланкі). У 1671 г. маёнтак у Брэсцкім ваяв., куды ўваходзілі сёлы Свішчы (20 валок зямлі) і Завершы (10 валок зямлі). Пасля ПацаўКівацічы знаходзіліся ва ўладанні Мержаеўскага, пазней Ласковічаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1886 г. маёнтак у Мураўёўскай вол., дзейнічаў касцёл (перанесены з Алізараўшчызны у 1845), праводзіліся ярмаркі. У 1890 г.Ківацічы — сяло, касцёльны прычт 35 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі; хутар, уладанне І.Багуслаўскай, 1882 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі (разам з фальваркамі Свішчы, Завершы, Дзевяткі); пусташ, уладанне В.Пячко, 59 дзес. зямлі. УКіваціцкім нар. вучылішчы ў 1889/90 навуч. годзе займаліся 65 хлопчыкаў, 6 дзяўчынак, у 1892—93 гг. — 82 хлопчыкі, у 1905—06 гг. — 52 хлопчыкі, 19 дзяўчынак. У 1897 г. маёнтак, 6 двароў, 67 жыхароў. Побач знаходзіўся касцёл, прычтавая сядзіба, 3 двары, 8 жыхароў. У 1905 г. ў маёнтку 21 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв.; фальварак — 4 двары, 39 жыхароў; калонія — 4 двары, 31 жыхар. У 1932 г. адкрыта б-ка (70 кніг на польскай мове, 20 чытачоў); працавалі школа, вячэрнія курсы, чытальня, тэатральны і харавы гурткі.



З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Тэвельскім с/с таго ж раёна. У 1940 г. існавалі 2 вёскі: Старыя Ківацічы, 10 двароў, 69 жыхароў, і Новыя Ківацічы, 25 двароў, 170 жыхароў; пас. Ківацічы, 2 двары, 20 жыхароў; б. маёнтак Ківацічы, 5 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 117 жыхароў, у 1970 г. — 83 жыхары, працавала пач. школа. У 1999 г. 22 гаспадаркі, 48 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (цэнтр — в. Дзевяткі). Помнік нар. драўлянага дойлідства — званіца касцёла (19 ст.).

**КІСЯЛЁЎЦЫ** — вёска, цэнтр Кісялёвіцкага с/с, за 9 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 55 км ад Брэста. Каля шашы Брэст—Мінск. 227 гаспадарак, 561 жыхар (2005).

У 1730 г. згадваецца царква ў в. Кісялёўцы. У 1886 г. Кісялёўцы (Замосце) — сяло Блоцкай (Балоцкай) вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 11 двароў, 143 жыхары, меліся царква, піцейны дом. У 1890 г. сяло, царк. прычт, 55 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі. Побач знаходзіліся 2 аднайменныя пасёлкі: 245 дзес. (разам з в. Замосце і пас. Барысава) і 50 дзес. зямлі; маёнтак, уладанне Г.Віткевіча, 1000 дзес. зямлі; хутар, уладанне І.Нікацюка, 58 дзес. зямлі. У 1897 г. сяло Замосце (Кісялёўцы), 41 двор, 236 жыхароў, дзейнічалі царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. Пабудовы сяла размяшчаліся сумежна з маёнткам, які налічваў 37 жыхароў. У 1905 г. ў сяле 190 жыхароў, у маёнтку — 19 жыхароў. У 1911 г. сяло налічвала 205 жыхароў, маёнтак — 65 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Блоцкай (Балоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 14 дамоў, 129 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр сельсавета таго ж раёна. У 1940 г. вёска, 62 двары, 305 жыхароў, працавалі хата-чытальня, магазін, пач. школа, аддз. сувязі, сельсавет. На тэр. Кісялёвіцкага с/с у 1940 г. знаходзіліся 14 населеных пунктаў (у т.л. 1 вёска), 737 двароў, 3112 жыхароў, 4 ветраныя млыны. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў Ківацічах было 385 жыхароў, у 1970 г. — 435




*Вёска Кісялёўцы на карце 1886 г.*

жыхароў. У 1999 г. 215 гаспадарак, 574 жыхары, у складзе калгаса «Світанне» (з 2004 ААТ «Кісялёўцы»). Працуюць магазін, клуб, амбулаторыя, аптэка, сталовая, сярэдняя і муз. школы. Помнікі археалогіі — 6 курганоў ва ўрочышчы Ямішча.

**КЛЯТЫШЧА** — вёска ў Восаўскім с/с, за 38 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 75 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Макраны—Дзівін—Кобрын. 82 гаспадаркі, 167 жыхароў (2005).

У 1566 г. вёска Клецішча ў Дзівінскім войтаўстве Палескай вол., 6 заселеных участкаў. У 1668 г. Клятышча — сяло Палескага ключа Брэсцкай эканоміі, 6 валок зямлі. 30 гаспадарак. У 1682 г. сяло, 23 гаспадаркі; у 1786 г. — 6 валок 155 маргоў зямлі, У 1789 г. сяло Дзівінскага ключа той жа эканоміі, 25 гаспадарак, 134 жыхары. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У сак. 1797 г. Кацярына II падаравала в. Клятышча А.В.Сувораву, 269 жыхароў. У 1819 г. вёска — уладанне Кахлеўска-


*Новая царква ў в. Корчыцы.*

га, які паведамляў у Гродзенскае губ. праўленне, што сяляне гатовы былі аказаць падтрымку жыхарам Дзівіна ў іх выступленні супраць свайго ўладальніка. У 1890 г. — вёска, 659 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі, і маёнтак (уладанне Уладзіслава Кахлеўскага), 1481 дзес. зямлі; у Дзівінскай вол. У 1897 г. вёска, 51 двор, 371 жыхар, меўся хлебазапасны магазін; маёнтак, 27 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 1320 жыхароў, у маёнтку — 14 жыхароў. У 1911 г. вёска налічвала 430 жыхароў, маёнтак (уладанне Іосіфа Чарноцкага) — 32 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дзівінскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 49 двароў, 258 жыхароў; фальварак — 2 двары, 32 жыхары. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Восаўскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Маларыцкім, з 25.12.1962 г. ў Кобрынскім р-нах. У 1940 г. Клятышча — хутар (4 двары) і вёска (47 двароў, 257 жыхароў), мелася пач. школа. У 1940 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 387 жыхароў, у 1970 г. — 429 жыхароў. У 1999 г. 99 гаспадарак, 229 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба народаў» (цэнтр — в. Воса). Ёсць бібліятэка.

**КЛЯШЧЫ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 6 км ад чыг. ст. Стаўпы (на лініі Брэст—Баранавічы), 50 км ад Брэста. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

У 1563 г. Кляшчы — сяло Паляціцкага войтаўства Кобрынскай эканоміі, 11 валок зямлі, 11 гаспадарак. У 1597 г. сяло на тэр. Баціцкага (Батчынскага) войтаўства Кобрынскага староства, 11 валок зямлі, з якіх 1 вольная валока нададзена пастуху. У 1742 г. сяло ў Чаравачыцкім ключы Брэсцкай эканоміі, 11 валок зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Прускаўскай вол., 197 дзес. зямлі. Побач знаходзіўся маёнтак Кляшчы-Літвінкі, уладанне І.Шадурскага, 677 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі. У 1897 г. вёска — 15 двароў, 124 жыхары, працаваў хлебазапасны магазін, і маёнтак — 29 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 141 жыхара; маёнтак — 25 жыхароў. У 1911 г. вёска, 149 жыхароў, і аднайменны маёнтак, уладанне Станіслава Шадурскага (25 жыхароў) — у Прускаўска-Раманаўскай вол. таго ж павета. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 18 двароў, 82 жыхары, і фальварак — 3 двары, 27 жыхароў. У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10 1940 г. ў Стрыгаўскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. вёска — 17 двароў, 110 жыхароў, пач. школа, і былы маёнтак — 3 двары, 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Кляшчы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. 20 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны волат» (старшыня К.Саўчук). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы налічвалася 85 жыхароў, у 1970 г. — 613 жыхароў. У 1999 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Глінянскі» (цэнтр — в. Глінянкі).

**КОРЧЫЦЫ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 12 км на Пд ад горада і чыг. ст. Кобрын, 57 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Дзівін. 182 гаспадаркі, 490 жыхароў (2005).



Па пісьмовых крыніцах вядомы з 14 ст. як сяленне і маёнтак Корчычы. З 15 ст. згадваюцца як сяло Кобрынскага княства. У 1497 г. (паводле іншых дадзеных у 1491) княгіня Фядора (Тэадора) Іванаўна (з роду Рагацінскіх, жонка кн. Івана Сямёнавіча Кобрынскага) запісала с. Корчычы з усімі даходамі манастырскай царкве Св. Спаса ў Кобрыне. Гэтае наданне было пацверджана ў 1512 г. вял. князем ВКЛ і каралём Польшчы Жыгімонтам І Старым, у 1633 г. — яго жонкай каралевай Бонай, у 1647 г. — каралём Уладзіславам IV і г.д. У 1549 г. ў с. Корчыцы «два жеребіи а Римоновских дымы» і «другой жеребій Здавновских». У 1668 г. Корчыцы — фундушавае сяло Кобрынскай архімандрыі, якое згодна з універсалам Міхаіла Казіміра Паца вызвалялася ад ваенных пабораў і пастою. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1846 г. — 2 вёскі: Корчыцы-Забужкі — 23 двары, 199 жыхароў, і Корчыцы-Кіганы — 12 двароў, 93 жыхары, у складзе фальварка Антанін, які быў пабудаваны ў 1839 г. ва ўрочышчы Палонна архіепіскапам мінскім і бабруйскім Антоніем. У 1842 г. фальварак (складаўся з 4 вёсак, меліся карчма Звягода пры дарозе на в. Імянін і кузня) у ліку іншых былых маёнткаў Кобрынскага манастыра перададзены ў казённае ведамства (упраўляючы Я.Відацкі). У 1890 г. вёскі — Корчыцы-Кіганы, 421 $^1/_2$ дзес. зямлі, і Корчыцы-Забужкі, 601 $^1/_2$ дзес. зямлі, — на тэр. Верхалескай вол. У 1897 г. ў в. Кіганы (Корчыцы) 30 двароў, 215 жыхароў, меліся царква на могілках, хлебазапасны магазін; у в. Забужкі (Корчыцы) — 42 двары, 304 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1911 г. вёска Корчыцы ў Навасёлкаўскай вол. Кобрынскага пав., 569 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Вёскі — Корчыцы Вялікія, 26 двароў, 166 жыхароў, і Корчыцы Малыя, 21 двор, 77 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа і вячэрнія курсы.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 30.10.1959 г. ў Верхалескім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска Корчыцы Вялікія налічвала 64 двары, 315 жыхароў, в. Корчыцы Малыя — 42 двары, 179 жыхароў; працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгасы: імя Варашылава ў в. Корчыцы Вялікія (старшыня М.А.Кірылюк), імя Чапаева ў в. Корчыцы Малыя (25 гаспадарак, старшыня Ф.Кірылюк). Паводле перапісу 1959 г. вёскі налічвалі: Корчыцы Вялікія — 260 жыхароў, Корчыцы Малыя — 160 жыхароў; 1970 г. адпаведна 262 і 144 жыхары. Пазней вёскі аб'ядналіся ў адну пад назвай Корчыцы. У 1999 г. вёска, 187 гаспадарак, 523 жыхары, цэнтр калгаса «Сцяг Перамогі» (з 2004 СВК «Раданежскі»). Ёсць клуб, б-ка, дзіцячы сад, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, ветучастак.

**КУСТОВІЧЫ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 23 км на ПнУ ад г. Кобрын, 10 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 67 км ад Брэста. 152 гаспадаркі, 304 жыхары (2005).

Упершыню згадваюцца ў 1549 г. У 1738 г. Кустовічы — маёнтак у Брэсцкім ваяв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Іласкай вол., 509 жыхароў (1885), 788 дзес. зямлі (разам з хутарам Лешчаны). Побач знаходзіліся 2 аднайменныя маёнткі — уладанні: нашчадкаў С.Парнеўскага, 493 дзес. зямлі (разам з хутарам Пясочна); Анэлі Астрамецкай і Эміліі Варатынецкай, 144 дзес. зямлі (разам з урочышчам Турось). Пасёлак Кустовічы налічваў 286 дзес. зямлі, належаў розным уласнікам. У 1897 г. вёска (4 вярсты ад Дняпроўска-Бугскага канала), 114 двароў, 815 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У маёнтках: нашчадкаў Парнеўскіх — 4 двары, 9

жыхароў; памешчыкаў Варатынецкіх — 2 двары, 9 жыхароў. У 1905 г. вёска (667 жыхароў) і маёнтак (13 жыхароў). У 1911 г. вёска налічвала 886 жыхароў, аднайменны фальварак (уладанне Георгія Парнеўскага) — 4 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 93 двары, 392 жыхары. У 1931 г. працавалі б-ка, школа, вячэрнія курсы, чытальня, тэатральны гуртой. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Акцябрскім, з 31.3.1959 г. ў Гарадзецкім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў Кустовічах 726 жыхароў, рыбная база, пач. школа. У Вял. Айч. вайну каля вёскі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі ў 1942 і 1943 гг. загінулі 5 партызан і 4 сав. воіны; 13 жыхароў вёскі былі расстраляны ням. карнікамі ў студз. 1943 г. У 1986 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на могілках і на ўсх. ускраіне вёскі ўстаноўлены 3 абеліскі. У 1949 г. 36 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Андрэева. Паводле перапісу 1959 г. вёска Кустовічы налічвала 268 жыхароў, у 1970 г. — 615 жыхароў. У 1999 г. 155 гаспадарак, 389 жыхароў. Працуюць магазін, клуб, б-ка, торфапрадпрыемства «Кобрынскае».


*І.Г.Саўчук.*


*Свята вёскі Лелікава.*

**ЛАСТАЎКІ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 4 км ад чыг. ст. Стаўпы (на лініі Брэст—Баранавічы), 45 км ад Брэста. 41 гаспадарка, 103 жыхары (2005).

У 1563 г. Ластаўкі — сяло Глінянскага войтаўства Кобрынскай эканоміі, 29 валок зямлі, з якіх вольных: 1 валока на войта, 2 валокі на службоўства; 18 гаспадарак (сярод гаспадароў 2 лаўнікі). У 1786 г. сяло Брэсцкай эканоміі, 29 валок зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска Прускаўскай вол., 418 дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне В.Шадурскага, 664 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. вёска, 35 двароў, 264 жыхары, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін; маёнтак налічваў 17 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 294 жыхары, у маёнтку — 23 жыхары. У 1911 г. вёска (285 жыхароў) і маёнтак (36 жыхароў; розныя ўладальнікі) знаходзіліся на тэр. Прускаўска-Раманаўскай вол. таго ж павета. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 18 дамоў, 78 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Стрыгаўскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. 67 двароў, 263 жыхары. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 30 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Горкага. Паводле перапісу 1959 г. Ластаўкі налічвалі 272 жыхары, у 1970 г. — 155 жыхароў. У 1999 г. 48 гаспадарак, 124 жыхары, у складзе калгаса «Глінянскі» (цэнтр — в. Глінянкі). Працуе магазін.

У в. Ластаўкі нарадзіўся І.Г.Саўчук, машыніст экскаватараў Кобрынскай машынна-меліярацыйнай станцыі Галоўпалессеводбуда.

**ЛЕЛІКАВА** — вёска ў Дзівінскім с/с, на паўд.-ўсх. беразе Церабовіцкага канала. За 47 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 97 км ад Брэста. 332 гаспадаркі, 1077 жыхароў (2005).



Вядома ў 16 ст. на тэр. Ратненскага пав. Каралеўства Польскага. У 1546 г. ўпамінаюцца Лолікаўцы. У 1774 г. Лелікава – маёнтак у складзе Холмскай зямлі Рэчы Паспалітай (тэр. Польшчы). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Ковельскім пав. У 1883 г. вёска, цэнтр Лелікаўскай вол., у Ратненскай паліцэйскай акрузе. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак, уладанне Быкоўскіх. Мелася каталіцкая капліца Ратненскай парафіі. У 18 ст. ў вёсцы пабудавана драўляная Дзмітрыеўская царква (захавалася да нашага часу). З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Камень-Кашырскага пав. Палескага ваяв., 157 дамоў, 744 жыхары. На тэр. гміны налічвалася 136 населеных пунктаў, 10 372 жыхары. У 1930-я г. ў вёсцы працавалі школа, вячэрнія курсы, чытальня, тэатральны гурток. У 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. – цэнтр Лелікаўскага с/с, потым у складзе Павіццеўскага, Дзівінскага (1970) сельсаветаў, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў в. Лелікава 266 двароў, 1294 жыхары, меліся няпоўная сярэдняя і пач. школы, магазін, хата-чытальня, паштовае аддз., сельсавет (тэлефанізаваны), медпункт, пажарнае дэпо, участкі лясгаса і леспрамгаса. На тэр. сельсавета знаходзіліся 4 населеныя пункты, 378 двароў, 1489 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 39 аднавяскоўцаў (у 1965 на могілках устаноўлены абеліск). У 1949 г. 60 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная зорка». Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 960 жыхароў, у 1970 г. – 1084 жыхары, дзейнічала праўленне калгаса. У 1999 г. 354 гаспадаркі, 1064 жыхары, цэнтр калгаса «Чырвоная зорка». Працуюць магазін, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, аддз. сувязі. Помнік архітэктуры – Дзмітрыеўская царква.

**ЛІПАВА** – вёска ў Гарадзецкім с/с, за 19 км на У ад г. Кобрын, 63 км ад Брэста; чыг. станцыя на лініі Жабінка–Драгічын. 49 гаспадарак, 110 жыхароў (2005).

У 1890 г. Ліпава – вёска Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 214 жыхароў (на 1885), 380 дзес. зямлі. Побач з вёскай знаходзіліся аднайменныя: маёнтак, уладанне І.Аніхімоўскага, 460 $^1/_2$ дзес. зямлі, і ўчастак (розныя ўладальнікі), 129 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы было 44 двары, 266 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін; у маёнтку – 3 двары, 27 жыхароў. У 1905 г. вёска (301 жыхар) і маёнтак (8 жыхароў), у 1911 г. адпаведна 309 і 5 жыхароў (маёнтак знаходзіўся ва ўладанні Надзеі Буш). У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Вёска Ліпава і асада Ліпава-Садовіна ра-



*Указальны знак пры ўездзе ў в. Лелікава.*



*М.П.Гром.*



*Тэнісны корт міжнароднага класа ў в. Лелікава.*

зам налічвалі 21 двор, 115 жыхароў; фальварак Ліпава — 1 двор, 5 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Каменскім, з 16.7.1954 г. ў Гарадзецкім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 331 жыхар. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 30 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Будзённага (старшыня М.Брашчук). Паводле перапісу 1959 г. Ліпава налічвала 237 жыхароў, у 1970 г. — 241 жыхара. У 1999 г. 60 гаспадарак, 132 жыхары, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Працуе магазін.

У в. Ліпава нарадзіўся М.П.Гром, які ў Вял. Айч. вайну быў сувязным у партыз. брыгадзе «За Радзіму» імя Флегантава.

**ЛІПАВА** — вёска ў Дзівінскім с/с, за 26 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 72 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Дзівін. 25 гаспадарак, 37 жыхароў (2005).

У 1563 г. ўрочышча Ліпнікі ў складзе с. Хабовічы. У 1566 г. вёска Ліпавая ў Дзівінскім войтаўстве Палескай вол., 22 заселеныя ўчасткі. У 1668 г. Ліпава — фальварак Палескага ключа Брэсцкай эканоміі, 22 валокі зямлі. У 1789 г. фальварак у Дзівінскім ключы той жа эканоміі, размяшчаўся дворны агарод. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Ліпава — маёнтак у Блоцкай (Балоцкай) вол., уладанне Е.Тумінскай, 3440 дзес. зямлі (разам з фальваркам Мікалаева). У 1897 г. ў маёнтку 1 двор, 37 жыхароў, у 1905 г. было 29 жыхароў. У 1911 г. вёска, 213 жыхароў. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дзівінскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 16 дамоў, 116 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Ягмінаўскім, з 16.7.1954 г. ў Дзівінскім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 29 двароў, 187 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. жыхары вёсак Ор і Ліпава арганізавалі калгас імя 70-годдзя І.В.Сталіна. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Ліпава было 154 жыхары, у 1970 г. — 192 жыхары. У 1999 г. 34 гаспадаркі, 54 жыхары, у складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Дзівін).

**ЛІПНІКІ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, на паўн. беразе Дняпроўска-Бугскага канала. За 22 км на ПдУ ад г. Кобрын, 6 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 66 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па лясной дарозе і далей па шашы Кобрын—Лунінец. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2005).

У 1563 г. ўпамінаецца ўрочышча Ліпавы Груд Гарадзецкага гасп. двара. У 1897 г. Франопаль (Ліпнікі) — вёска пры Палескай чыгунцы, у Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 18 двароў, 107 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 50 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Каменскім, з 16.7.1954 г. ў Гарадзецкім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. 22.12.1942 г. ням. акупанты спалілі в. Арол (12 двароў), якая знаходзілася за 1 км на Пд ад в. Ліпнікі, на беразе Дняпроўска-Бугскага канала. 18 вяскоўцаў загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1974 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. Ліпнікі налічвалі 57 жыхароў (вёска і аднайменны хутар), у 1970 г. — 49 жыхароў. У 1999 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец).

**ЛІТВІНКІ** (Ліцвінкі) — вёска ў Батчынскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 5 км ад чыг. ст. Батча (на лініі Брэст—



Кобрын), 52 км ад Брэста. 78 гаспадарак, 206 жыхароў (2005).

У 1563 г. Літвінкі — сяло воласці Чаравачыцкага двара Кобрынскай эканоміі, 19 валок зямлі, 19 гаспадарак. Побач знаходзіўся засценак, 60 маргоў зямлі, уладанне В.Твароўскага. У 1597 г. сяло ў Патрыкаўскім войтаўстве Кобрынскага староства, 19 валок зямлі, з якіх 1 валока вольная (на войта). У 1712 г. вёска Чаравачыцкага ключа Кобрынскай эканоміі; па 6 валок зямлі ў вёсцы мелі Ядоўскі і Пачобут. У 1744 г. вял. князь ВКЛ і кароль Польшчы Аўгуст III выдаў Шагану і Іаанне Абрагімовічам прывілей на 12 валок зямлі ў вёсцы (на чыншавай аплаце) Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1886 г. вёска ў Прускаўскай вол., 28 двароў, 334 жыхары; працавала нар. вучылішча, у якім у 1889/90 навуч. годзе займаліся 26 хлопчыкаў, у 1892—93 гг. — 27 хлопчыкаў, 2 дзяўчынкі. У 1890 г. Літвінкі налічвалі 548 $^1/_4$ дзес. зямлі; уладальнік І.Мальчук пры вёсцы меў 63 дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне Шадурскіх, 1421 $^1/_2$ дзес. зямлі (у 1841 маёнтак, спадчыннае ўладанне І.І.Шадурскага, уключаў фальваркі і вёскі Літвінкі, Пруск, Ластоўкі з 533 сялянамі). У 1897 г. ў вёсцы 47 двароў, 398 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін; у маёнтку — 33 жыхары; у пас. Літвінкі 2 — 1 двор, 10 жыхароў (сям'я Ю.Паразоўскага). У 1905 г. вёска налічвала 428 жыхароў, маёнтак — 32 жыхары; у нар. вучылішчы ў 1905—06 гг. вучыліся 32 хлопчыкі, 8 дзяўчынак. У 1911 г. ў вёсцы 490 жыхароў, у маёнтку С.Шадурскага — 50 жыхароў, у маёнтку Б.Шадурскага — 44 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 27 двароў, 134 жыхары, і фальварак — 3 двары, 20 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Батчынскім с/с таго ж раёна. У 1940 г. Літвінкі: хутары — 64 двары, 340 жыхароў, і былы маёнтак — 2 двары, 33 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1948 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча» (старшыня Мальчук). Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 344 жыхары, у 1970 г. — 304 жыхары. У 1999 г. 81 гаспадарка, 218 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Ільіча» (з 2004 СВК «Батчы»; цэнтр — в. Батчы).

У в. Літвінкі нарадзілася В.С.Селівонік, удзельніца рэв. руху ў Зах. Беларусі, ганаровы грамадзянін г. Брэст (1969).


*В.С.Селівонік.*

**ЛУКА** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 72 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Кобрын—Івацэвічы і Брэст—Мінск. 234 гаспадаркі, 651 жыхар (2005).

У 1897 г. Лука — вёска Іласкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 28 двароў, 229 жыхароў, мелася кузня. Побач знаходзіліся аднайменныя: выселак (пры Маскоўска-Брэсцкай шашы; 6 жыхароў) і лясная ахова (5 жыхароў). У 1905 г. вёска налічвала 200 жыхароў, выселак — 9, ахова — 7 жыхароў. У 1911 г. ў вёсцы 316 жыхароў. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 29 дамоў, 146 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Іласкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 366 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1944 г. ням. акупанты расстралялі 30 вяскоўцаў (у 1974 на ўшанаванне іх памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка). У 1949 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 223 жыхары, у 1970 г. — 213 жыхароў. У 1999 г. 228 гаспадарак, 721 жыхар, цэнтр племзавода «Дружба». Працуюць магазін, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, дзіцячы сад, сярэдняя школа.

**ЛУЦЭВІЧЫ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 6 км на ПнУ ад горада і чыг. ст.

Кобрын, 49 км ад Брэста. На шашы Брэст—Мінск. 133 гаспадаркі, 357 жыхароў (2005).

У 1890 г. Луцэвічы — вёска ў Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 214 $^1/_2$ дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны пасёлак, 22 дзес. зямлі (розныя ўладальнікі). У 1897 г. ў вёсцы 48 двароў, 323 жыхары, хлебазапасны магазін, кузня, піцейны дом; дом аховы №16 на 14-й вярсце ад ст. Запруды—Кобрын налічваў 7 жыхароў. У 1905 г. вёска, 335 жыхароў. У 1911 г. вёска (415 жыхароў) і аднайменны дом каля шашы (5 жыхароў). З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 18 двароў, 103 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лепясоўскім, з 30.10.1959 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 65 двароў, 259 жыхароў, і б. фальварак Луцэвічы, 6 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Луцэвічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1947 г. пабудаваны будынак пач. школы. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 280 жыхароў, у 1970 г. — 300 жыхароў. У 1999 г. 143 гаспадаркі, 387 жыхароў, у складзе калгаса «Кобрынскі» (цэнтр — в. Імянін). Працуюць магазін, пач. школа.


*С.Дз.Страчук.*

**ЛУШЧЫКІ** — вёска ў Астроміцкім с/с, каля р. Мухавец. За 13 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 56 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Брэст—Баранавічы. 53 гаспадаркі, 123 жыхары (2005).

У 1563 г. сяло Укалоды (Уклоды) Астрамецкага войтаўства Кобрынскай эканоміі; 6 валок зямлі, з якіх 4 вольныя валокі былі дадзены на асочніцтва, а 2 валокі «на плаце» (баброўніцкія). Асочнікі (І.Карагодавіч з 2 сынамі і 2 браты Аўдзеевічы) ахоўвалі Кобрынскую пушчу разам з ляснічымі; баброўнікі плацілі чынш. У 1597 г. сяло Лягатаўскага войтаўства той жа эканоміі, 6 валок зямлі, з якіх 1 валока вольная (на асочніцтва). Інвентар адзначаў дрэнную якасць зямлі сяла. У 1742 г. сяло Лушчыкі (Уклоды), у складзе Кобрынскай эканоміі, 7 валок зямлі. У 1795 г. вёска, 5 гаспадарак, 26 жыхароў. Каля вёскі, у моста цераз р. Мухавец, знаходзіўся жылы дом ляснічага з гасп. пабудовамі і млыном. У 1890 г. ў складзе Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 357 дзес. зямлі. У 1897 г. 48 двароў, 293 жыхары, хлебазапасны магазін; побач размяшчалася былая карчма, 6 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 326 жыхароў. У 1911 г. 358 жыхароў. У 1921 г. ў Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 30 дамоў, 188 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Жухавіцкім, з 16.7.1954 г. ў Астроміцкім сельсаветах. У 1940 г. Лушчыкі — хутары, 60 двароў, 263 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 6 жыхароў вёскі, 23 вяскоўцы былі расстраляны ням. акупантамі. У 1957 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск. У 1949 г. 35 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Шлях Ільіча» (старшыня А.Дз.Страчук). Паводле перапісу 1959 г. Лушчыкі налічвалі 265 жыхароў, у 1970 г. — 236 жыхароў. У 1999 г. 39 гаспадарак, 76 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына (цэнтр — в. Астромічы).

У в. Лушчыкі нарадзіўся С.Дз.Страчук, які ў гады Вял. Айч. вайны з'яўляўся сакратаром арг-цыі КСМЗБ, а таксама знаходзіўся на ваенна-будаўнічых работах у сав. тыле.

**ЛЫШЧЫКІ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 53 км ад Брэста. На чыг. ст. Стаўпы (на лініі Брэст—Баранавічы). Транспартныя сувязі па аўтадарогах на Камянец, Жабінку. 53 гаспадаркі, 107 жыхароў (2005).

У 1563 г. згадваецца с. Данкавічы. У 1786 г. Лышчыкі — сяло ў Брэсцкай эканоміі, 27 валок 7 маргоў зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у скла-



дзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Мураўёўскай вол., 248 $^1/_2$ дзес. зямлі. Побач знаходзіліся: маёнтак Лышчыкі, уладанне А.Чарноцкай, 217 дзес. зямлі; 2 маёнткі Лышчыкі-Боркі, уладанні В. і С. Властоўскіх (Уластоўскіх, 167 дзес. зямлі), П.Баркоўскага (90 $^1/_2$ дзес. зямлі). У 1897 г. вёска, 21 двор, 294 жыхары, меліся хлебазапасны магазін, кузня, ветраны млын, і сядзіба млынара (8 жыхароў); у 2 маёнтках 9 і 12 жыхароў, у фальварку — 11 жыхароў. У 1905 г. вёска, 248 жыхароў, і 3 аднайменныя маёнткі — адпаведна 2, 8 і 9 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 13 двароў, 78 жыхароў, фальварак — 5 жыхароў, калонія — 4 двары, 19 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа і вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Стрыгаўскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 57 двароў, 290 жыхароў. З 1949 г. арганізаваны калгас «Новая зара» (старшыня Ф.І.Міхнюк). Паводле перапісу 1959 г. ў Лышчыках было 307 жыхароў, у 1970 г. — 254 жыхары. У 1999 г. 63 гаспадаркі, 120 жыхароў, у складзе калгаса «Глінянскі» (цэнтр — в. Глінянкі). Працуе магазін.

У в. Лышчыкі нарадзіўся бел. літаратуразнавец і перакладчык І.А.Чарота.

**ЛЯГАТЫ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, на паўд.-ўсх. беразе р. Шэўня (прыток Мухаўца). За 6 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 57 км ад Брэста. На шашы Кобрын—Высокае. 118 гаспадарак, 307 жыхароў (2005).

У 1563 г. згадваюцца як с. Легатавічы. У 1597 г. Лягаты — сяло, цэнтр Лягатаўскага войтаўства Кобрынскага староства, 31 валока зямлі, з якіх 1 валока вольная (была нададзена войту). У 1724 г. сяло ў Кобрынскім ключы Брэсцкай эканоміі, 31 валока зямлі. У 1757 г. паводле прывілея вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Аўгуста III Марыя і Францыск Астроўскія атрымалі ў сяле 3 валокі зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска Стрыгаўскай вол., 521 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: аколіца, 98 дзес. зямлі, і маёнтак, уладанне К.Кунаховіча, 366 $^3/_4$ дзес. зямлі. Маёнтак Лабачоў-Лягаты, уладанне Міцкевіча, налічваў 129 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы (5 вёрст ад чыгункі Брэст—Бранск) 89 двароў, 534 жыхары, хлебазапасны магазін; у маёнтках: Лягаты — 40 жыхароў, Лягаты (Лабачова) — 13 жыхароў. У 1905 г. вёска, 628 жыхароў, і маёнтак, 31 жыхар. У 1911 г. вёска налічвала 559 жыхароў; аднайменны маёнтак, уладанне Меланні Баркоўскай, 30 жыхароў; маёнтак Лабачова-Лягаты, уладанне Грудзінскага — 31 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 71 двор, 402 жыхары, фальварак — 1 двор, 13 жыхароў. У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лепясоўскім, з 30.10.1959 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. хутары Лягаты — 110 двароў, 528 жыхароў, і асада — 5 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. створаны калгас імя К.Маркса. Паводле перапісу 1959 г. ў Лягатах 501 жыхар, у 1970 г. — 365 жыхароў. У 1999 г. 124 гаспадаркі, 296 жыхароў, у складзе калгаса «Кобрынскі» (цэнтр — в. Імянін). Дзейнічае магазін.



*І.А.Чарота.*

**ЛЯСКОВА** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 12 км на Пн ад горада і чыг. ст. Кобрын, 57 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Высокае і Брэст—Баранавічы. 71 гаспадарка, 172 жыхары (2005).

У 1559 г. — маёнтак і сяло Ляскоўскае, у Кобрынскім пав., уладанне Рыгора і Фёдара Аглядовічаў. Пад 1602 г. пазначаны маёнтак Ляскова. У 1629 г. маёнтак, уладанне Ляскоўскіх, у Брэсцкім ваяв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалі-

тай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Ляскова — вёска ў Стрыгаўскай вол., 148 дзес. зямлі; аколіца, 66 $^1/_2$ дзес. зямлі, і 3 маёнткі — уладанні: В.Ляскоўскага, 144 $^1/_2$ дзес. зямлі; К.Стэфаноўскай, 121 дзес. зямлі; Франкоўскага, 145 $^1/_2$ дзес. зямлі (маёнтак Ляскова-Лягаты). У 1897 г. вёска — 42 двары, 279 жыхароў, хлебазапасны магазін; аколіца (вёска) — 10 двароў, 65 жыхароў, 2 кузні, сталярная і калёсная майстэрні. Побач знаходзіліся 3 маёнткі Ляскова, адпаведна 17, 7 і 4 жыхары. Жылы дом Ляскова (Мелехава) пры ўрочышчы Мелехава налічваў 11 жыхароў. У 1905 г. вёска (291 жыхар) і маёнтак (18 жыхароў). У 1911 г. ў вёсцы 354 жыхары, у маёнтку (уладанне Вацлава Ляскоўскага) — 14 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 66 двароў, 374 жыхары; фальварак — 1 двор, 20 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска — 76 двароў, 450 жыхароў, былы фальварак — 2 двары, 25 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Ляскова акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 445 жыхароў, у 1970 г. — 362 жыхары. У 1999 г. 90 гаспадарак, 215 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (з 2004 СВК «Пакроўскі»; цэнтр — в. Бухавічы). На зах. ускраіне вёскі пахаваны рус. воіны, якія загінулі на Кобрыншчыне 13.7.1812 г. ў баях з напалеонаўскімі войскамі. У 1986 г. на магіле насыпаны курган і ўстаноўлена стэла.


*М.П.Мікулік.*

**ЛЯХЧЫЦЫ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 59 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе цераз канал Бона і далей па аўтадарозе Дзівін—Кобрын. 64 гаспадаркі, 173 жыхары (2005).

Назва вёскі ўтворана ад слова «ляха» — незасеянае поле («ляшыць» — значыць засяваць). Паводле нар. падання, назва паходзіць ад прозвішча першапасяленца Ляха, які быў палякам.

Каля вёскі былі знойдзены крамянёвыя наканечнікі стралы і дзіды.

У 1563 г. Ляхчыцы — сяло, 7 валок зямлі, у складзе Сялецкага войтаўства Кобрынскай эканоміі ВКЛ. Таксама ўпершыню ўпамінаецца ўрочышча Княжая Гара, на якім, паводле нар. падання, пахавана княгіня Вольга. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У гэты ж час упамінаюцца прадстаўнікі Ляхчыц Дзятлік і Марчук. У 1890 г. вёска Блоцкай (Балоцкай) вол., 913 дзес. зямлі, у 1897 г. было 38 двароў, 268 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1905 г. вёска (367 жыхароў) і аднайменны маёнтак (13 жыхароў). У 1911 г. вёска налічвала 318 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Блоцкай (Балоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 40 дамоў, 214 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 30.10.1959 г. ў Верхалескім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 73 двары, 285 жыхароў, працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну Ляхчыцы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 32 гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас імя Мічурына. Потым разам з вёскамі Корчыцы, Хадынічы, Верхалессе і Альхоўка складалі калгас «Перамога». Паводле перапісу 1959 г. ў Ляхчыцах было 211 жыхароў, у 1970 г. — 253 жыхары. У 1999 г. 72 гаспадаркі, 204 жыхары, у складзе калгаса «Сцяг Перамогі» (з 2004 СВК «Раданежскі»; цэнтр — в. Корчыцы). Ёсць Дом сац. паслуг, б-ка, магазін, лазня. Каля вёскі знаходзяцца 2 магілы ахвяр фашызму і курган Княжая Гара.

**МАГДАЛІН** — вёска ў Кісялёвіцкім с/с, на Кобрынскім канале. За 6 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 49 км ад Брэста. Каля шашы Мінск—Брэст. 243 гаспадаркі, 638 жыхароў (2005).



У 1890 г. Магдалін — маёнтак Блоцкай (Балоцкай) воласці Кобрынскага пав., уладанне С.Тумінскай і С.Закржэўскай, 214 дзес. зямлі. У 1897 г. ў маёнтку 31 жыхар, у 1905 г. — 58 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Блоцкай (Балоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 63 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., 12.10.1940 г. ў Кісялёвіцкім с/с. У 1940 г. хутары Магдалін, 20 двароў, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1948 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Новы шлях» (уступілі ў яго ўсе 46 гаспадарак; старшыня П.Р.Каранчук, сакратар камсамольскай арг-цыі). Паводле перапісу 1959 г. Магдалін налічваў 235 жыхароў, у 1970 г. — 319 жыхароў. У 1965 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ўстаноўлены помнік. У 1999 г. 220 гаспадарак, 580 жыхароў, цэнтр калгаса «Магдалінскі». Працуюць магазін, Дом культуры, б-ка, школа, фельч.-акушэрскі пункт.

У в. Магдалін нарадзіўся М.П.Мікулік, які ў гады Вял. Айч. вайны з'яўляўся партызанам атрада імя Суворава брыгады імя Молатава. Удзельнічаў у вызваленні Кобрына, наладжванні пантонных і паромных пераправаў.

**МАЗІЧЫ** — вёска ў Батчынскім с/с, на паўн.-ўсх. беразе р. Мухавец. За 7 км на З ад горада і чыг. ст. Корын, 45 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Жабінка. 38 гаспадарак, 85 жыхароў (2005).

У 1890 г. Мазічы — вёска Стрыгаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 144 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся 2 аднайменныя маёнткі, уладанні В.Брадзінскага, 68 дзес. зямлі, і М.Верашчакі, 187 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска (пры Палескай чыгунцы і р. Мухавец), 25 двароў, 186 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін; маёнтак, 6 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 229 жыхароў, маёнтак — 57 жыхароў. У 1911 г. вёска (229 жыхароў) і маёнтак (55 жыхароў). З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 16 дамоў, 120 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Батчынскім с/с. У 1940 г. хутары, 43 двары, 198 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 148 жыхароў, у 1970 г. — 137 жыхароў. У 1999 г. 41 гаспадарка, 79 жыхароў, у складзе аграфірмы-калгаса «Патрыкі». У 2004 г. Мазічы далучаны да ААТ «Кобрынская птушкафабрыка».

**МАЗУРЫ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 31 км на ПнУ ад г. Кобрын, 9 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 75 км ад Брэста. Каля шашы Мінск—Брэст. 39 гаспадарак, 54 жыхары (2005).

У 1563 г. Мозыр — урочышча с. Вуглы. У 1731 г. Мазуры ці Беразіно — маёнтак у Брэсцкім ваяв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1885 г. вёска Іласкай вол., 254 жыхары. У 1897 г. 49 двароў, 297 жыхароў, хлебазапасны магазін, 421 $^3/_4$ дзес. зямлі (1890). У 1905 г. ў вёсцы 313 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 49 дамоў, 269 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, чытальня. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзямідаўшчынскім, з 16.7.1954 г. ў Грушаўскім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не, з 21.1.1961 г. ў Гарадзецкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 401 жыхар. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас імя М.Астроўскага (старшыня М.Багачук). Паводле перапісу 1959 г. Мазуры налічвалі 194 жыхары, у 1970 г. — 225 жыхароў. У 1999 г. 48 гаспадарак, 75 жыхароў, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Працуе магазін.

У в. Мазуры нарадзіўся камандзір партыз. атрада імя С.М.Кірава Брэсцкага партыз. злучэння П.Н.Паплаўскі (мемарыяльная дошка ўстаноўлена на будынку магазіна ў 1975).

**МАЗУРЫ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 3 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 42 км ад Брэста Каля шашы Мінск—Брэст. 101 гаспадарка, 284 жыхары (2005).

У 1897 г. Мазуры — вёска Прускаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 22 двары, 148 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін; 116 дзес. зямлі (на 1890). У 1905 г. ў вёсцы 173 жыхары. У 1911 г. 171 жыхар. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 16 дамоў, 118 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Пескаўскім, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім, з 18.12.1972 г. ў Хідрынскім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 34 двары, 190 жыхароў, працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Аляксандра Неўскага. Паводле перапісу 1959 г. Мазуры налічвалі 150 жыхароў, у 1970 г. — 224 жыхары. У 1999 г. 86 гаспадарак, 283 жыхары, у складзе аграфірмы «Беларусь» (з 2004 СВК «Вербнае»; цэнтр — в. Пескі). Працуе пач. школа.

**МАЛЫ РУДЗЕЦ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, на паўд.-зах. беразе Дняпроўска-Бугскага канала. За 27 км на ПдУ ад г. Кобрын, 7 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 71 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Арэхаўскі—Кісялёўцы. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў (2005).

У 1563 г. Малая Рудца — урочышча-востраў с. Вуглы Вугольскага войтаўства Кобрынскай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав. У 1921 г. вёска Малы Рудзец, 33 двары, 162 жыхары, у складзе Гарадзецкай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Гарадзецкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 357 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Катоўскага. Паводле перапісу 1959 г. 261 жыхар, у 1970 г. — 167 жыхароў. У 1999 г. ў в. Малы Рудзец было 27 гаспадарак, 48 жыхароў, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Помнік землякам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны ў баях з ням. акупантамі (устаноўлены ў 1965 на паўн. ускраіне вёскі).

**МАЛЫШЫ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 8 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 63 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Камянец. 35 гаспадарак, 80 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 17 ст. як сяленне Берасцейскага ваяв. Пад 1676 г. пазначана ў вопісе дакументаў Віленскага цэнтр. архіва стараж. актавых кніг. У 1717 г. Малышы — сяло ў Брэсцкім ваяв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Стрыгаўскай вол., 325 $^1/_2$ дзес. зямлі. Побач знаходзіліся 2 аднайменныя маёнткі — уладанні: А.Краскоўскага, 43 дзес. зямлі, і М.Маслевіча, 142 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска (за 4 вярсты ад Маскоўска-Брэсцкай чыгункі) налічвала 36 двароў, 242 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У маёнтках адпаведна было 15 і 7 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 269 жыхароў, у маёнтках — 26 і 11 жыхароў. У 1911 г. вёска — 320 жыхароў, аднайменны маёнтак (уладанне Таўбе) — 7 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 39 двароў, 229 жыхароў, і фальварак — 7 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Стрыгаўскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім



сельсаветах. У 1940 г. вёска — 57 двароў, 256 жыхароў, і былы фальварак — 3 двары, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас «Светлы шлях» (старшыня П.Сюсюра). Паводле перапісу 1959 г. ў в. Малышы было 257 жыхароў, у 1970 г. — 196 жыхароў. У 1999 г. 42 гаспадаркі, 83 жыхары, у складзе калгаса імя Дзімітрава (з 2004 ААТ «Стрыгава»; цэнтр — в. Стрыгава).

**МАЛЫЯ ЛЕПЯСЫ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 6 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 50 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Баранавічы. 16 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

У 1890 г. Лепясы Малыя — пасёлак у Стрыгаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 85 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. вёска (за 2 вярсты ад чыгункі Брэст—Бранск і р. Мухавец), 9 двароў, 67 жыхароў. У 1905 г. 71 жыхар, у 1911 г. 92 жыхары. У 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 12 дамоў, 74 жыхары. У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лепясоўскім, з 30.10.1959 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 18 двароў, 74 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1948 г. створаны калгас «Чырвоны сцяг». Паводле перапісу 1959 г. Малыя Лепясы налічвалі 97 жыхароў, у 1970 г. — 77 жыхароў. Размяшчалася праўленне калгаса. У 1999 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Кобрынскі» (цэнтр — в. Імянін).

**МАЦЫ** — вёска ў Тэвельскім с/с, на паўн.-зах. беразе р. Шэўня (прыток Мухаўца). За 14 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 64 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Камянец. 44 гаспадаркі, 90 жыхароў (2005).

У 1563 г. сяло Осавая Глінянскага войтаўства Кобрынскай эканоміі; 12 валок зямлі, 11 гаспадарак. У 1742 г. сяло Мацы ці Осава (Восава), 12 валок зямлі, Вежацкі ключ Брэсцкай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Мураўёўскай вол., 342 $^3/_4$ дзес. зямлі; пры вёсцы ў П.Кузьмуна меліся 14 дзес. зямлі. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне А.Малахоўскага, 414 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з фальваркам Глінянка і ўрочышчам Цямніца). У 1897 г. вёска — 52 двары, 339 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны; маёнтак — 12 двароў, 60 жыхароў. У 1905 г. вёска, 420 жыхароў; маёнтак, 8 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 36 двароў, 181 жыхар. У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Стрыгаўскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 67 двароў, 359 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Мацы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы было 263 жыхары, у 1970 г. — 171 жыхар. У 1999 г. 49 гаспадарак, 101 жыхар, у складзе калгаса імя Дзімітрава (з 2004 ААТ «Стрыгава»; цэнтр — в. Стрыгава).



*М.М.Макарук.*

У в. Мацы нарадзіўся ген.-лейтэнант, ваенна-паветраны і ваенна-марскі аташэ пры пасольстве Рас. Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь (з 2001) М.М.Макарук.

**МЕЛЬНІКІ** — вёска ў Батчынскім с/с, на паўн. беразе р. Мухавец. За 13 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 36 км ад Брэста. На шашы Кобрын—Камянец. 12 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

У 1890 г. Мельнікі — вёска Прускаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 182 $^1/_4$ дзес. зямлі. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак Мельнікі ці Новыя Чаравачыцы, уладанне К. і І. Мазеўскіх, 771 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з фальваркамі Урсынава і Канцінава). У 1897 г. вёска — 18 двароў, 179 жыхароў, хлебазапасны

магазін; аднайменныя хутар і маёнтак — па 6 жыхароў у кожным. У 1905 г. ў вёсцы 198 жыхароў, у маёнтку — 14 жыхароў. У 1911 г. вёска (160 жыхароў) і маёнтак (22 жыхары) у Прускаўска-Раманаўскай вол. таго ж павета. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 18 дамоў, 84 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Батчынскім с/с. У 1940 г. хутары, 37 двароў, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Мельнікі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Фрунзе. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 140 жыхароў, у 1970 г. — 74 жыхары. У 1999 г. 12 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Ільіча» (з 2004 СВК «Батчы»; цэнтр — в. Батчы).

**МЕЛЯНКОВА** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, на паўд.-зах. беразе Арэхаўскага канала. За 35 км на ПдУ ад г. Кобрын, 11 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 81 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Арэхаўскі—Балоты. 45 гаспадарак, 87 жыхароў (2005).

У 1563 г. Меленткова — урочышча-востраў с. Вуглы Вуглоўскага войтаўства Кобрынскай эканоміі. У 1890 г. Мелянкова — пасёлак у складзе в. Вуглы, 1130 дзес. зямлі (разам з 7 іншымі пасёлкамі вёскі), у Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1897 г. Вуглы (Мелянкова) — вёска, 55 двароў, 316 жыхароў. У 1905 г. 382 жыхары, у 1911 г. 374 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 61 дом, 279 жыхароў. У 1930-я г. працавала школа, у якой праводзіліся нядзельныя чытанні. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 388 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна» (старшыня М.Крываль). Паводле перапісу 1959 г. вёска Мелянкова налічвала 346 жыхароў, у 1970 г. — 246 жыхароў. У 1999 г. 55 гаспадарак, 119 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны).

**МІНЯНКА** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 60 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Брэст—Баранавічы. 66 гаспадарак, 150 жыхароў (2005).

У 1599 г. ўпамінанне Мінянкі напэўна рэчкі. У 1890 г. Мінянка — вёска Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 290 $^1/_2$ дзес. зямлі. Побач знаходзіўся аднайменны пасёлак, 7 $^1/_2$ дзес. зямлі (розныя ўладальнікі). У 1897 г. вёска, 44 двары, 290 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, кузня. У 1905 г. 352 жыхары, у 1911 г. 445 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 34 дамы, 172 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. хутары, 69 двароў, 246 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. 42 гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас імя Куйбышава. Паводле перапісу 1959 г. Мінянка налічвала 239 жыхароў, у 1970 г. — 230 жыхароў, на яе тэрыторыі размяшчалася праўленне калгаса. У 1999 г. вёска, 83 гаспадаркі, 180 жыхароў, цэнтр калгаса «Звязда» (з 2004 СВК «Мінянскі»). Дзейнічаюць магазін, клуб, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, сярэдняя школа, аддз. сувязі.

**МУХАЎЛОКІ** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 59 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Брэст—Баранавічы. 32 гаспадаркі, 45 жыхароў (2005).

Пад 1606 г. пазначаны як двор Мухаўлока. У 1727 г. Мухаўлокі — маёнтак у Брэсцкім ваяв. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў



Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска, 320 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі, і маёнтак, уладанне М.Матноўскай, 409 дзес. зямлі; у Падалескай вол. У 1897 г. вёска, 35 двароў, 228 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак — 6 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы 285 жыхароў, у маёнтку — 9 жыхароў. У 1911 г. вёска налічвала 314 жыхароў, маёнтак (уладанне Дамброўскай) — 3 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска і асада, 16 дамоў, 80 жыхароў. У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Жухавецкім, з 16.7.1954 г. ў Астроміцкім сельсаветах. У 1940 г. хутары — 33 двары, 177 жыхароў, і фальварак — 1 двор, 14 жыхароў; працавала пач. школа (пасля 1945 — школа-сямігодка). У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 12 вяскоўцаў (у 1965 устаноўлены абеліск). Паводле перапісу 1959 г. Мухаўлокі налічвалі 212 жыхароў, у 1970 г. — 206 жыхароў. У 1999 г. 38 гаспадарак, 65 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына (цэнтр — в. Астромічы). Дзейнічае магазін.

**МЯРНІЦА** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 7 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 62 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Камянец. 15 гаспадарак, 37 жыхароў (2005).

У 1563 г. Мерніцкі засценак на мяжы с. Залессе. «Того застенка Залесскаго дано на мерніцтво за лістом короля его мілості мернику Кобринскому, Черевачицкому, Вежецкому, Городецкому Климу Тимофеевичу 4 волокі с каждой по 30 грошей на рок 65».

У 1890 г. Мярніца — маёнтак у Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ.; уладанне Ул.Багушэўскага, 324 дзес. зямлі. Побач знаходзілася аднайменная пустка, уладанне Г.Прымачука, 17 дзес. зямлі. У 1897 г. маёнтак налічваў 3 двары, 25 жыхароў, у 1905 г. — 2 маёнткі: 69 і 7 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв.; вёска і калонія, 8 дамоў, 58 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Стрыгаўскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 12 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісаў 1959 і 1970 гг. вёска налічвала 79 жыхароў. У 1999 г. 15 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе калгаса імя Дзімітрава (з 2004 ААТ «Стрыгава»; цэнтр — в. Стрыгава).

У в. Мярніца нарадзілася вучоны-фізік Р.Г.Запарожчанка, якая развіла метад матэматычнага мадэліравання працэсаў у лазерах і нелінейна-аптычных асяроддзях.



*Р.Г.Запарожчанка.*

**МЯФЁДАВІЧЫ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, у сутоках Каралеўскага і Дняпроўска-Бугскага каналаў. За 27 км на ПдУ ад г. Кобрын, 4 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 71 км ад Брэста. 88 гаспадарак, 158 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як в. Няхнедавічы (Нехведзевічы) Бародзіцкай вол. Кобрынскага пав. ВКЛ. Паводле інвентара Бародзіцкай вол. 1558 г. вёска займала 2-е месца ў воласці па колькасці жыхароў і прыносіла даходу 17 $^{1}/_{2}$ коп грошаў (з 1559 ва ўладанні капітулы Віленскай). Да сярэдзіны 18 ст. вёскі Мяфёдавічы і Барoдзічы страцілі сваё гасп. значэнне сярод іншых сёл. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1843 г. маёнтак і вёску Мяхведавічы арандавалі Дзвонскія (раней уладанне Брашэвіцкага касцёла; 355 $^{2}/_{3}$ дзес. зямлі). Вёска налічвала 37 двароў, 287 жыхароў, дзейнічала карчма; у фальварку меліся жылыя і гасп. пабудовы, хлебазапасны магазін. У 1890 г. вёска Антопальскай вол., 380 жыхароў (1885), 1336 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак, уладанне М.Любімавай, 264 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі. У 1897 г. вёска, 82 двары, 561 жыхар, хле-

базапасны магазін, у 1905 г. 591 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 47 дамоў, 297 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Гарадзецкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 601 жыхара. У Вял. Айч. вайну Мяфёдавічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Чкалава (старшыня Я.Якімчук). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 542 жыхары, у 1970 г. — 445 жыхароў. У 1999 г. 99 гаспадарак, 180 жыхароў, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Працуюць магазін, клуб, бібліятэка.


З.З.Дзенісюк.

У в. Мяфёдавічы нарадзіўся З.З.Дзенісюк, які ў гады Вял. Айч. вайны з'яўляўся падпольшчыкам, разведчыкам, падрыўніком, сувязным асобнага партыз. атрада імя Катоўскага.

**НАВАСАДКІ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад горада чыг. ст. Кобрын, 57 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Макраны—Кобрын. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

У 1789 г. Навасадкі — вёска, 4 валокі зямлі, 8 гаспадарак, 44 жыхары, бровар, карчма (на арэндзе з 1709); у Азяцкім ключы Брэсцкай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1897 г. вёска ў Верхалескай вол., 9 двароў, 75 жыхароў, меліся ветраны млын, 221 дзес. зямлі (1890). У 1905 г. 132 жыхары. У 1911 г. вёска Навасёлкаўскай вол. таго ж павета, 137 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 10 дамоў, 60 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 30.10.1950 г. ў Верхалескім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы было 29 двароў, 106 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Навасадкі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары, у 1970 г. — 83 жыхары. У 1999 г. вёска, 18 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе калгаса «Сцяг Перамогі» (з 2004 СВК «Раданежскі»; цэнтр — в. Корчыцы).

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад г. Кобрын, 16 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 72 км ад Брэста. На шашы Брэст—Мінск. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

У 1897 г. Навасёлкі (Лука) — вёска, 27 двароў, 174 жыхары, хлебазапасны магазін, 287 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі (1890); у Іласкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. было 175 жыхароў, у 1911 г. — 185 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 19 дамоў, 89 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. ў Іласкім с/с. У 1940 г. вёска налічвала 159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням.-фаш. захопнікі спалілі вёску (32 двары) і расстралялі 67 жыхароў. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1974 г. ўстаноўлены помнік (на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі). Пасля вайны вёска адноўлена. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Кутузава. Паводле перапісу 1959 г. Навасёлкі налічвалі 91 жыхара, у 1970 г. — 97 жыхароў. У 1999 г. ў вёсцы 18 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе калгаса «Праўда» (з 2004 СВК «Шамятоўка»; цэнтр — в. Шамятоўка).

**НАВАСЁЛКІ** — вёска, цэнтр Навасёлкаўскага с/с, за 25 км на Пд ад горада і чыг. ст. Кобрын, 71 км ад Брэста. 372 гаспадаркі, 819 жыхароў (2005).

У 1563 г. ўпамінаюцца навасельскія баяры. У 1567 г. Навасёлкі — маёнтак, уладанне С.Стахорскага, на тэр. Брэсцкага пав. У 1747 г. маёнтак, уладанне Я.Стахорскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) ў складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1886 г. Навасёлкі — сяло Верхалескай вол., 50 двароў, 495 жыхароў, дзей-



нічалі валаснае праўленне, Міхайлаўская царква (захавалася да нашага часу), ветраны млын, піцейны дом. За 3 вярсты ад сяла знаходзіўся шклозавод Паўлопаль. У 1890 г. Навасёлкі — вёска і сяло. Сяло складалася з пасёлкаў Крупчыцы, Хамяняты, Валынцы, Бурды, Заграбы і Яшчукі (1-е Навасёлкаўскае сельскае т-ва), 491 дзес. зямлі. Вёска складалася з пасёлкаў Заграбы, Дзехцяры і Пацелі (2-е Навасёлкаўскае сельскае т-ва). Каля сяла і вёскі размяшчаліся 8 аднайменных маёнткаў, уладанні: Ул.Жыромскага (280 дзес. зямлі), П.Валіцкай (174 дзес. зямлі), Ю.Астраменцкага (44 дзес. зямлі), А.Фядзюшкі (52 дзес. зямлі), С.Сямашкі (172 дзес. зямлі), Р.Анцуты (30 дзес. зямлі), А.Баяроўскай (94 дзес. зямлі), В.Мыслоўскага (252 дзес. зямлі). У 1897 г. ў сяле (6 пасёлкаў) 107 двароў, 665 жыхароў, меліся Верхалескае валаснае праўленне, царква, царк. прычт (3 двары, 17 жыхароў), царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, урачэбны прыёмны пакой, дробязная крама; у вёсцы (2 пасёлкі) — 27 двароў, 175 жыхароў, дзейнічалі ветраны млын, піцейны дом. У 7 аднайменных маёнтках, уладаннях: Мыслоўскага — 2 двары, 3 жыхары; Валіцкіх — 2 двары, 12 жыхароў; Фядзюшкі — 5 жыхароў; Астраменцкага — 12 жыхароў; Ягакоўскага — 3 двары, 15 жыхароў; Сямашкі — 2 двары, 5 жыхароў; Задзірноўскага — 2 двары, 2 жыхары. У 1905 г. Навасёлкі — сяло (820 жыхароў) і маёнтак (42 жыхары). У 1911 г. сяло, цэнтр аднайменнай воласці таго ж павета, 1046 жыхароў; маёнтак — 11 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Навасёлкаўскай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска і фальварак, 242 дамы, 1205 жыхароў. На тэр. гміны 58 населеных пунктаў, 8246 жыхароў. У 1930-я г. ў вёсцы працавалі школа і вячэрнія курсы. 3.8.1933 г. сяляне навакольных вёсак, якія ўдзельнічалі ў масавым паходзе на маёнтак памешчыкаў Малачэўскіх (в. Булькава Жабінкаўскага р-на) з мэтай прымусіць іх выплаціць запазычанасць сезонным рабочым, разграмілі некалькі сядзіб асаднікаў і атакавалі паліцэйскі ўчастак у в. Навасёлкі. З Брэста на дапамогу паліцэйскім прыбылі салдаты і атрады паліцыі. У памяць аднаго з буйнейшых сял. выступленняў 1933 г. ў Кобрынскім пав. ў скверы в. Навасёлкі ў 1967 г. ўстаноўлены абеліск.



*Фартух з в. Навасёлкі. 1930-я г.*

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. — цэнтр Навасёлкаўскага с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска, 286 двароў, 1409 жыхароў, працавалі няпоўная сярэдняя школа, сельпо з



*Міхайлаўская царква ў в. Навасёлкі.*

гандл. кропкай, аддз. сувязі, медпункт, сельсавет (тэлефанізаваны), ветэрынарны пункт, грамадскае сховішча збожжа. На тэр. сельсавета знаходзіліся 5 населеных пунктаў, 668 двароў, 3309 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 2 воіны Сав. Арміі (пахаваны на могілках, у 1969 устаноўлены абеліск) і 22 вяскоўцы (помнік устаноўлены ў 1965 у цэнтры вёскі). У 1948 г. ў Навасёлках пачалося будаўніцтва клуба, быў арганізаваны калгас імя Леніна (аб'ядноўваў 14 гаспадарак), які стаў першым у Дзівінскім р-не (старшыня І.А.Ніканчук). У ліст. 1949 г. ў калгас уступілі 125 гаспадарак. Паводле перапісу 1959 г. Навасёлкі налічвалі 1194 жыхары, у 1970 г. — 1156 жыхароў. У 1999 г. было 400 гаспадарак, 926 жыхароў, цэнтр калгаса «Сцяг Леніна». Працуюць 2 магазіны, бальніца, амбулаторыя, аптэка, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа (пры ёй дзейнічае музей), дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, ветучастак, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання. Помнік архітэктуры — Міхайлаўская царква (19 ст.).

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 4 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 67 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах на Кобрын, Камянец, Пружаны. 19 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

У 1897 г. Навасёлкі — вёска ў Мураўёўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 22 двары, 181 жыхар; 338 дзес. зямлі (на 1890). Сядзіба Навасёлкі налічвала 8 жыхароў. У 1905 г. вёска, 221 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 7 дамоў, 47 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Тэвельскім с/с. У 1940 г. вёска, 39 двароў, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Навасёлкі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Молатава. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы было 138 жыхароў, у 1970 г. — 101 жыхар. У 1999 г. 21 гаспадарка, 29 жыхароў, у складзе калгаса імя Гагарына (з 2004 СВК «Тэўлі»; цэнтр — в. Тэўлі).

**НЯТРЭБА** — вёска ў Гарадзецкім с/с, на паўд.-зах. беразе Каралеўскага канала. За 15 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 59 км ад Брэста. Каля шашы Брэст—Мінск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2005).

У 1897 г. Нятрэба — маёнтак у Блоцкай (Балоцкай) воласці Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 7 жыхароў. У 1905 г. маёнтак, 7 жыхароў. У 1911 г. пас. Рачкі-Нятрэба Гарадзецкай вол. таго ж павета, 50 жыхароў. З 1921 г. вёска Нятрэба-Рачкі ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 8 дамоў, 50 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Акцябрскім, з 31.3.1959 г. ў Гарадзецкім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска Нятрэба, 74 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы было 53 жыхары, у 1970 г. — 38 жыхароў. У 1999 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Акцябр).

**ОР** (мясц. назвы Ар, Гір) — хутар у Дзівінскім с/с, за 28 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 74 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Кобрын—Дзівін. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2005).

У 1650 г. згадваецца рака каля в. Навасёлкі. У 1890 г. Ор — урочышча Макранскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 31 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі. У 1897 г. вёска, 4 двары, 29 жыхароў. У 1905 г. вёска (29 жыхароў) і хутар (7 жыхароў). У 1911 г. вёска Макранскай вол., 66 жыхароў; аднайменны фальварак, уладанне І.Чарноцкага, 7 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Дзівінскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 10 дамоў, 74 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай



вобл., з 12.10.1940 г. ў Ягмінаўскім, з 16.7.1954 г. ў Дзівінскім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 24 двары, 104 жыхары. У Вял. Айч. вайну Ор акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. жыхары вёсак Ор і Ягмінава аб'ядналіся ў калгас імя 70-годдзя І.В.Сталіна. Паводле перапісу 1959 г. вёска Ор налічвала 51 жыхара, у 1970 г. — 48 жыхароў. У 1999 г. хутар, 3 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Дзівін).

**ПАВІЦЦЕ** — вёска, цэнтр Павіццеўскага с/с, за 49 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 95 км ад Брэста. Аўтадарогамі звязана з Маларытай, Кобрынам, Драгічынам. 720 гаспадарак, 1823 жыхары (2005).

25.8.1546 г. сяло Паветцы Палескага ключа Ратненскага пав. У 1563 г. Павіты — вёска Ратненскага пав., на тэр. Каралеўства Польскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Валынскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лелікаўскай гміне Камень-Кашырскага пав. Палескага ваяв.; в. Павіць і хутар, 309 дамоў, 1651 жыхар. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, чытальня, тэатральны і харавы гурткі. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр сельсавета, з 8.8.1950 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска, 301 двор, 2328 жыхароў, працавалі маторны млын, пач. школа, сельсавет, магазін. На тэр. сельсавета знаходзіліся 4 населеныя пункты (разам з в. Павіць), было 440 двароў, 2902 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 70 землякоў. На ўшанаванне іх памяці ў 1982 г. каля клуба ўстаноўлены помнік. На 2 вясковых могілках пахаваны 20 партызан і мірныя жыхары, загінуўшыя ў гады вайны (у 1967 устаноўлены помнік). У 1947 г. працавалі хата-чытальня, бальніца, 7-гадовая школа. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Будзённага. Паводле перапісу 1959 г. Павіцце налічвала 1732 жыхары, у 1970 г. — 2244 жыхары. У 1999 г. 767 гаспадарак, 1982 жыхары, цэнтр саўгаса «Арэхаўскі». Ёсць Дом культуры, 3 б-кі (дзіцячая і дарослая), сталовая, сярэдняя школа, бальніца, аптэка, ветучастак, аддз. сувязі, 6 магазінаў. Дзейнічаюць лясніцтва, камбінат быт. абслугоўвання. Помнік архітэктуры — Свята-Прачысценская царква (пач. 20 ст.).





*Знешні выгляд і фрагмент інтэр'ера Свята-Прачысценскай царквы ў в. Павіцце.*

**ПАДАЛЕССЕ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 11 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 55 км ад Брэста. Каля шашы Брэст—Мінск. 29 гаспадарак, 67 жыхароў (2005).

У 1599 г. ўпамінаецца с. Падалескае. У 1890 г. Падалессе — вёска, 127 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з в. Плянта), пасёлак (19 дзес. зямлі) і аколіца (178 дзес. зямлі), у

Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 26 двароў, 173 жыхары, меліся хлебазапасны магазін, кузня. У 1905 г. 176 жыхароў. У 1911 г. вёска і сядзіба Падалессе, 194 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Падалескай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 32 дамы, 176 жыхароў. У 1931 г. на тэр. гміны 86 населеных пунктаў, 7040 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. хутары, 51 двор, 157 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. вёска Падалессе налічвала 183 жыхары, у 1970 г. — 152 жыхары. У 1999 г. 31 гаспадарка, 78 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (з 2004 СВК «Пакроўскі»; цэнтр — в. Бухавічы).

**ПАДБЕР'Е** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 56 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Баранавічы. 34 гаспадаркі, 66 жыхароў (2005).

У 1844 г. Падбер'е — вёска маёнтка Жухаўцы, уладанне Адама і Калікста Астрамецкіх, 1 двор, 8 рэвізскіх душ. У 1890 г. вёска, 166 дзес. зямлі (разам з вёскамі Жухаўцы і Куксы), і аколіца, 83 дзес. зямлі; у Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 103 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1905 г. вёска (128 жыхароў) і маёнтак (11 жыхароў). У 1911 г. вёска, 98 жыхароў, і 2 аднайменныя фальваркі, уладанні Пжылуцкага (7 жыхароў) і Бутлера (2 жыхары). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 17 двароў, 91 жыхар; фальварак — 2 двары, 10 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Жухавецкім, з 16.7.1954 г. ў Астроміцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска — 19 двароў, 120 жыхароў, і былы фальварак — 17 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень». Паводле перапісу 1959 г. — хутары, 113 жыхароў, у 1970 г. — вёска, 149 жыхароў. У 1999 г. 42 гаспадаркі, 94 жыхары, у складзе калгаса імя Мічурына (цэнтр — в. Астромічы).

**ПАДЗЯМЕННЕ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 26 км на ПнУ ад г. Кобрын, 9 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 70 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Іванава. 41 гаспадарка, 51 жыхар (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне Падзімнае ў Трокскім, затым Берасцейскім ваяводствах ВКЛ. У 1563 г. Падзімная (Падзяменне) — сяло Грушаўскага войтаўства воласці Гарадзецкага двара Кобрынскай эканоміі, 15 валок зямлі, 15 гаспадарак. У 1597 г. сяло той жа эканоміі; 8 валок зямлі сяла былі нададзены мяшчанам г. Гарадзец. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1848 г. Падзяменне — маёнтак (раней уладанне Гарадзецкага касцёла), у склад якога ўваходзілі: фальварак з жылымі і гасп. пабудовамі, сельскім хлебазапасным магазінам; вёска, 72 гаспадаркі, 477 рэвізскіх душ, карчма. Землі сялян вёскі былі размешчаны цераспалосна з зямлёй фальварка. Вяскоўцы прытрымліваліся праваслаўнага веравызнання і належалі да прыхода Грушаўскай царквы (за 3 вярсты ад вёскі). У 1886 г. вёска ў Іласкай вол., 74 двары, 681 жыхар, заезны двор. У 1897 г. 143 двары, 779 жыхароў, хлебазапасны магазін, 1222 дзес. зямлі (1890). За 2 вярсты ад вёскі Дняпроўска-Бугскі канал. У 1905 г. вёска налічвала 835 жыхароў, у 1911 г. — 742 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 48 дамоў, 204 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзямідаўшчынскім, з 16.7.1954 г. ў Грушаўскім, з 21.1.1961 г. ў Гарадзецкім сельсаветах. У 1940 г. ў вёс-



цы 609 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 28.11.1942 г. ням. акупантамі расстраляны 30 мірных жыхароў вёскі (пахаваны на могілках, у 1985 устаноўлены абеліск). У 1949 г. 71 гаспадарка аб'ядналася ў калгас імя М.Ю.Лермантава (старшыня А.М.Нічык). Паводле перапісу 1959 г. Падзяменне налічвала 245 жыхароў, у 1970 г. — 303 жыхары. У 1999 г. 52 гаспадаркі, 78 жыхароў, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец).

**ПАЛЯЦІЧЫ** — вёска ў Батчынскім с/с, за 8 км на З ад горада і чыг. ст. Кобрын, 49 км ад Брэста. На шашы Жабінка—Драгічын. 91 гаспадарка, 281 жыхар (2005).

Вядомы з 16 ст. як сяло і маёнтак у Кобрынскім пав. ВКЛ. У 1559 г. маёнтак належаў В.Ц.Варашыла, пазней А.Ф.Рэзанавай, яе мужу К.Мізгіру, С.Рэзану. У 1563 г. сяло Паляцічы, 17 валок зямлі, 17 гаспадарак, у Паляціцкім войтаўстве Кобрынскай эканоміі. Пад 1567 г. пазначана ў перапісе войска Літоўскага. У стараж. актавых кнігах згадваецца маёнтак Паляцічы пад 1580 г. У 1597 г. сяло ў Батчынскім войтаўстве Кобрынскага староства, 17 валок зямлі, карчма. У 1697 г. сяло ў Чаравачыцкім ключы; адпаведна з прывілеем вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Аўгуста II Моцнага віцебскі чашнік А.Саковіч атрымаў права чыншу на копу з валокі зямлі сяла. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Прускаўскай вол., 120 дзес. зямлі, і маёнтак, уладанне Іосіфа Рынкевіча (у 1845 Яцкі Рынкевіча, 542 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі (з лесам у Пружанскім пав.). У 1881—89 гг. Рынкевічы пабудавалі аднапавярховы мураваны сядзібны дом, гасп. двор, заклалі парк з невял. вадаёмам і сад. У 1897 г. ў вёсцы было 13 двароў, 115 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, былая карчма (3 жыхары), у маёнтку — 32 жыхары. У 1905 г. вёска, 131 жыхар, і маёнтак, 22 жыхары. У 1911 г. вёска налічвала 149 жыхароў, маёнтак (уладанне Рынкевіча) — 51 жыхара. З 1915 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. У жн. 1915 г. ў баях каля вёскі загінулі 126 салдат рус. арміі (у 1916 на магілах устаноўлены надмагіллі, каля шашы Кобрын—Батчы). У час сав.-польскай вайны ў 1920 г. пры спробе знішчыць чыг. мост каля вёскі ў баі з польскімі войскамі загінулі звыш 100 чырвонаармейцаў (пахаваны на паўн. ускраіне вёскі, у 1965 устаноўлены абеліск, у 1985 стэла). З 1921 г. вёска і фальварак знаходзіліся ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Вёска налічвала 17 двароў, 143 жыхары, фальварак — 4 двары, 38 жыхароў. У 1922 г. ў вёсцы была створана падп. камуністычная арг-цыя. Ячэйкі падпольшчыкаў дзейнічалі ў вёсках Батчы, Варатынічы, Іласк, Корчыцы, Тэўлі і іншых Кобрынскага пав. У 1925 г. жыхары вёскі ўдзельнічалі ў першамайскай дэманстрацыі ў Кобрыне, 25.2.1931 г. — у дэманстрацыі ў гонар Міжнар. дня беспрацоўных, 8.11.1931 г. — у дэманстрацыі ў в. Літвінкі і інш. У 1935—37 гг. у Паляцічах размяшчаўся Кобрынскі райком КПЗБ. Жыхары вёскі І.Какала, Г.Смольскі, Р.Глек у розны час з'яўляліся сакратарамі Кобрынскіх райкомаў КПЗБ і КСМЗБ. У 1973 г. на ўшанаванне памяці аб дзейнасці ячэйкі КПЗБ на доме жыхара вёскі Кастылюка ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Батчынскім с/с. У 1940 г. вёска — 37 двароў, 187 жыхароў, і былы маёнтак — 4 двары, 12 жыхароў, у якім арганізаваны калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну Паляцічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1947 г. адноўлены калгас імя Варашылава (старшыня С.М.Трус; 12 сем'яў), абслугоўваўся Кобрынскай МТС. Паводле перапісу 1959 г. вёска Паляцічы налічвала 140 жыхароў, у 1970 г. — 141 жыхара. У 1999 г. 92 гаспадаркі, 288 жыхароў, у




складзе аграфірмы-калгаса «Патрыкі» (цэнтр — в. Андронава). У 2004 г. вёска далучана да ААТ «Кобрынская птушкафабрыка». Працуюць б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая.

**ПАТРЫКІ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 41 км ад Брэста. Каля шашы Мінск—Брэст. 166 гаспадарак, 482 жыхары (2005).

У 1559 г. сяло і маёнтак Патрыкавічы ў Кобрынскім пав. ВКЛ, уладанні Я.С.Мрочкавіча з братамі стрыечнымі. У 1563 г. Патрыкі — сяло Патрыкаўскага войтаўства воласці двара Чаравачыцкага Кобрынскай эканоміі, 21 валока зямлі, 21 гаспадарка. У 1597 г. сяло той жа воласці Кобрынскага староства, 21 валока зямлі, з якіх 1 валока вольная была нададзена на пушкара замка Кобрынскага; пры сяле мелася карчма. Пад 1646 г. пазначана ў вопісе дакументаў Віленскага цэнтр. архіва стараж. актавых кніг. У 1712 г. вёска Чаравачыцкага ключа Кобрынскай эканоміі, 2 валокі зямлі ў ёй нададзены пану Урбанскаму; 1 $^{2}/_{7}$ валокі — пану Ягалкоўскаму. У 1742 г. сяло таго ж ключа і эканоміі, 14 валок зямлі, і маёнтак Патрыкі (Мрочкі). У 1786 г. ў сяле 21 валока 175 маргоў зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. Працяглы час Патрыкі былі ў валоданні Масальскіх. У 1844 г. маёнтак, уладанне Фёдара Казановіча, 716 дзес. зямлі; складаўся з аднайменных фальварка і вёскі, 22 двары, 210 рэвізскіх душ. Пад 1886 г. пазначаны як вёска ў Кобрынскім пав. У 1890 г. вёска ў Прускаўскай вол., 256 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі. Побач знаходзіліся 4 аднайменныя маёнткі, уладанні: К.Савіцкага, 149 дзес. зямлі; К.Масальскага, 251 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі; М.Няцэцкага, 72 дзес. зямлі; К.Радавіцкай, 600 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 32 двары, 202 жыхары, працавалі хлебазапасны магазін, ветраны млын з жылым домам (11 жыхароў); у 4 маёнтках адпаведна: 28, 45, 4 і 29 жыхароў. Пры Маскоўска-Варшаўскай шашы меліся: ахоўны дом №16 Патрыкі — 5 жыхароў, старожка Патрыкі — 3 жыхары. У 1905 г. існавалі: вёска — 232 жыхары, шашэйная будка — 5 жыхароў, 4 маёнткі — 16, 21, 23 і 8 жыхароў. У 1911 г. вёска налічвала 227 жыхароў; 4 маёнткі (уладанні Савіцкага, Пахнеўскага і Кузьміцкага, Баркоўскай, Завадскай) — 19, 32, 7 і 61 жыхара; шашэйная старожка — 6 жыхароў. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 19 двароў, 158 жыхароў, і 4 фальваркі (разам) — 5 двароў, 41 жыхар. У 1930-я г. працавала школа, праводзіліся нядзельныя чытанні.

З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Пескаўскім, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім, з 18.12.1972 г. ў Хідрынскім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 53 двары, 300 жыхароў, пач. школа; былыя маёнткі Патрыкі 1, 2, 3, 4 — 27 двароў, 190 жыхароў. На пл. 82 га тэр. былых маёнткаў арганізавана прыгарадная гаспадарка Кобрынскага гарпрамхарчгандлю. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. На фронце загінулі 34 вяскоўцы. У 1947 г. дзейнічаў саўгас «Патрыкі» (дзяржгадавальнік), у 1948 г. 40 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «17 верасня». На 19.9.1948 г. калгас налічваў 55 гаспадарак, 40 коней, 31 павозку, 34 плугі, 52 бараны, 5 конных малатарань, каля 195 га ворыва (старшыня К.Р.Грынюк). Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 265 жыхароў, саўгас «Патрыкі» — 136 жыхароў; у 1970 г. — 245 жыхароў. У 1999 г. 171 гаспадарка, 470 жыхароў, у складзе аграфірмы «Беларусь» (з 2004 СВК «Вербнае»; цэнтр — в. Пескі). Ёсць клуб, б-ка, магазін, школа-сад, фельч.-акушэрскі пункт, швейная майстэрня.

У в. Патрыкі нарадзіўся бел. мастак, лаўрэат Дзярж. прэміі Беларусі М.П.Кузьміч.

**ПАЎЛАВА** — вёска ў Залескім с/с, за 16 км на ПнУ ад г. Кобрын, 5 км ад чыг. ст. Камень (на лініі Жабінка—Драгічын),



60 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Кобрын—Іванава. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

У 1890 г. Паўлава — маёнтак, уладанне С.Семянюк, 100 дзес. зямлі, у Залескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1897 г., ўладальніцкая сядзіба Паўлава (Ганчараўшчызна), 10 жыхароў, і жылы дом той жа назвы, 4 жыхары. У 1905 г. маёнтак, 16 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; фальварак (колькасць жыхароў паводле перапісу 1921 не паказана). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Закросніцкім, з 16.7.1954 г. ў Залескім сельсаветах. У 1940 г. хутары Паўлава-Рачкі — 6 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. хутары, 50 жыхароў, у 1970 г. вёска, 42 жыхары. У 1999 г. вёска, 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе калгаса імя Суворава (з 2004 СВК «Быстрыца»; цэнтр — в. Залессе).

**ПЕРАЛЕССЕ** — вёска ў Восаўскім с/с, за 47 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 70 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Макраны—Дзівін. 20 гаспадарак, 46 жыхароў (2005).

У 1897 г. Перавессе — пасёлак, у Макранскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 2 двары, 10 жыхароў. Побач праходзіў гандл. шлях Дзівін—Макраны і знаходзілася казённая лясная дача. У 1905 г. ўрочышча Перавессе, 10 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дзівінскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Восаўскім с/с, з 8.8.1959 г. ў Маларыцкім, з 25.12.1962 г. ў Кобрынскім р-нах. У 1940 г. хутары Перавессе, 32 двары, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. хутары Перавессе, 96 жыхароў, у 1970 г. вёска той жа назвы, 55 жыхароў. У 1999 г. вёска Пералессе, 27 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе калгаса «Дружба народаў» (цэнтр — в. Воса).

**ПЕРКІ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 34 км ад Брэста. На шашы Мінск—Брэст. 45 гаспадарак, 104 жыхары (2005).

Знойдзены ў вёсцы ў 1912 г. манетны скарб (1512 сярэбраных, білонных і медных манет 17 ст.) сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах у далёкай мінуўшчыне.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. сяло Пірковічы ў Патрыкаўскім войтаўстве воласці Чаравачыцкага двара Кобрынскай эканоміі ВКЛ, 16 валок зямлі, 16 гаспадарак. Пад 1567 г. Пірковічы пазначаны ў перапісе войска Літоўскага. У 1597 г. сяло Пярковічы, 16 валок зямлі, карчма (1 валока зямлі), млын на р. Трасцяніца (40 маргоў зямлі пры сяле). Млынар Чаравачыцкі атрымаў каля сяла 1 валоку зямлі. У 1742 г. сяло Перкі ці Пірковічы (16 валок зямлі) у Чаравачыцкім ключы Брэсцкай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска, 187 $^1/_2$ дзес. зямлі, і маёнтак, уладанне В.Палубінскага, 380 $^1/_2$ дзес. зямлі; у Прускаўскай вол. У 1897 г. ў вёсцы 25 двароў, 174 жыхары, хлебазапасны магазін; у маёнтку — 36 жыхароў. Пры Маскоўска-Варшаўскай шашы існаваў дом аховы №17 Перкі, 5 жыхароў. У 1905 г. вёска — 198 жыхароў, маёнтак — 30 жыхароў. У 1911 г. вёска налічвала 214 жыхароў; маёнтак (уладанне Мілачэўскай) — 65 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска і фальварак (разам) — 10 двароў, 80 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Пескаўскім, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім, з 18.12.1972 г. ў Хідрынскім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 37 двароў, 215 жыхароў,

мелася крама; былы маёнтак, 5 двароў, 25 жыхароў; дарожная будка Перкі, 4 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. Перкі налічвалі 169 жыхароў, у 1970 г. — 124 жыхары. У 1999 г. вёска, 36 гаспадарак, 106 жыхароў, у складзе аграфірмы «Беларусь» (з 2004 СВК «Вербнае»; цэнтр — в. Пескі).

**ПЕСКІ** — вёска ў Хідрынскім с/с, каля р. Мухавец. За 8 км на З ад горада і чыг. ст. Кобрын, 37 км ад Брэста. На шашы Мінск—Брэст. 253 гаспадаркі, 716 жыхароў (2005).


*С.К.Тур.*

У 1563 г. ўпамінаецца Песак — урочышча Чаравачыцкага двара. У 1712 г. Пескі — вёска ў Чаравачыцкім ключы Брэсцкай эканоміі. 4 валокі вясковай зямлі былі нададзены пану Урбанскаму, 2 валокі — пану Блоцкаму, 1 валока — пану Падэраволю. У 1742 г. сяло, 19 валок зямлі, у 1795 г. — 13 гаспадарак, 87 жыхароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска Прускаўскай вол., 519 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі (разам з сядзібай Падбендзюгі). У 1897 г. ў вёсцы 55 двароў, 400 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін. Каля р. Мухавец знаходзіўся дом аховы пры плаціне № 5 (6 жыхароў). У 1905 г. вёска, 429 жыхароў, і плаціна Пескі, 8 жыхароў. У 1911 г. хутары Пескі, 483 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 16 дамоў, 83 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр Пескаўскага с/с, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім, з 18.12.1972 г. ў Хідрынскім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 107 двароў, 464 жыхары, меліся нафтавы млын, няпоўная сярэдняя школа, сельпо з гандл. кропкай, хата-чытальня, сельсавет; арганізаваны калгас імя Сталіна (37 гаспадарак, 270 га ворыва, 3 фермы). На тэр. сельсавета знаходзілася 14 населеных пунктаў, 415 двароў, 2067 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням. акупантамі каля вёскі загінулі 6 воінаў Сав. Арміі і 2 партызаны (пахаваны на паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, у 1958 устаноўлены помнік). У гады вайны ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 160 жыхароў вёсак калгаса «XXI з'езд КПСС». На ўшанаванне іх памяці ў 1966 г. ўстаноўлены абеліск. У 1948 г. ў в. Пескі арганізаваны калгас «8 Сакавіка». У 1959 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся 3 вёскі: Пескі 1 (154 жыхары), Пескі 2 (65 жыхароў) і Пескі 3 (184 жыхары); у 1970 г. зліліся ў адну вёску, 431 жыхар. У 1999 г. ў в. Перкі 246 гаспадарак, 744 жыхары, цэнтр аграфірмы «Беларусь» (з 2004 СВК «Вербнае»). Працуюць амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, 2 кафэ, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, млын. Малітоўны дом евангельскіх хрысціян-баптыстаў.

У вёсцы нарадзіліся ўдзельнік нац.-вызв. вайны ў Іспаніі, камандзір аднаго з партыз. атрадаў на Жытоміршчыне ў Вял. Айч. вайну С.К.Тур (мемарыяльная дошка ўстаноўлена ў 1974 на будынку школы), дзярж. дзеяч Беларусі П.І.Ратайка.

**ПЕСЦЯНЬКІ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 3 км ад чыг. ст. Стаўпы (на лініі Брэст—Баранавічы), 56 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах на Камянец, Кобрын, Жабінку. 24 гаспадаркі, 64 жыхары (2005).

У 1563 г. сяло Песцянчычы Якаўчыцкага войтаўства воласці Вежацкага двара Кобрынскай эканоміі ВКЛ, 15 валок зямлі, 15 гаспадарак. У 1597 г. сяло Песцянькі Церабесаўскага войтаўства воласці Вежацкага двара, 15 валок зямлі, 2 засценкі. У 1742 г. сяло ў Вежацкім ключы Брэсцкай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска, 458 $^{3}/_{4}$ дзес. зямлі, і аднайменны хутар, уладанне Ст.Цяльшэўскага, 653 дзес. зямлі (разам з маёнткам Глінянка і ўрочышчам Краснадескі), у Мураўёўскай вол. У



1897 г. ў вёсцы 49 двароў, 327 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня; у 1905 г. 357 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 15 дамоў, 77 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Стрыгаўскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 65 двароў, 275 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Песцянькі 181 жыхар, у 1970 г. — 133 жыхары. У 1999 г. 28 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе калгаса «Глінянскі» (цэнтр — в. Глінянкі).

**ПЕЦЬКІ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 45 км ад Брэста. На аўтадарозе Кобрын—Макраны. 110 гаспадарак, 312 жыхароў (2005).

У 1668 г. Пецькі — фундушавае сяло Кобрынскай архімандрыі. Універсал Міхаіла Казіміра Паца вызваляў сялян ад ваенных пабораў і пастою войска. У 1747 г. камісарскі дэкрэт зацвердзіў размежаванне зямель фальварка Пецькі з вёскамі Патрыкі і Хідры. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1842 г. фальварак Пецькі (Петкі) б. Кобрынскага манастыра перададзены ў казённае ведамства (упраўляючы маёнткам памешчык Я.Відацкі). У фальварку (24 валокі 19 маргоў 25 прутоў зямлі) разам з жылымі і гасп. пабудовамі меўся сад (100 фруктовых дрэў, 18 пчаліных вуллёў); у вёсцы — 21 двор, 162 жыхары, дзейнічалі карчма, кузня. У 1890 г. вёска ў Верхалескай вол., 447 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі. У 1897 г. 42 двары, 258 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін. У 1905 г. вёска налічвала 339 жыхароў, аднайменны маёнтак — 4 жыхары. У 1911 г. вёска ў Навасёлкаўскай вол., 286 жыхароў. У 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 22 дамы, 121 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хідрынскім с/с, з 16.7.1954 г. — цэнтр Пецькаўскага с/с, з 18.12.1972 г. зноў у Хідрынскім с/с. У 1940 г. хутары Пецькі, 85 двароў, 251 жыхар. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1946 г. ў вёсцы працавалі пач. школа, драмгурток. У 1949 г. арганізаваны калгас «Партызан Беларусі» (аб'ядноўваў 44 гаспадаркі). Паводле перапісу 1959 г. вёска Пецькі налічвала 228 жыхароў, у 1970 г. — 246 жыхароў. У 1999 г. 102 гаспадаркі, 273 жыхары, у складзе калгаса «Зара» (з 2004 СВК «Узыходзячая зара»; цэнтр — в. Хідры). Ёсць магазін, бібліятэка.

У в. Пецькі нарадзіўся Б.Р.Ільясюк, былы старшыня Кобрынскага гарвыканкома.



*Б.Р.Ільясюк.*

**ПЛАШЧЫНЫ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, каля р. Дахлоўка (прыток Мухаўца). За 22 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 66 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Брэст—Мінск і далей па аўтадарозе Яромічы—Рэчыца. 1 гаспадарка, 1 жыхар (1999).

У 1897 г. Плашчыны (Баршчы) — вёска ў Казішчанскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 12 двароў, 94 жыхары; 60 дзес. зямлі (1890). У 1905 г. ў вёсцы 98 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 19 дамоў, 86 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Засімскім, з 16.7.1954 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 17 двароў, 99 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. Плашчыны — хутары, 47 жыхароў, у 1970 г. — вёска, 40 жыхароў.

**ПЛОСКАЕ** — вёска ў Хідрынскім с/с, каля канала Бона. За 8 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 53 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Коб-

рын—Дзівін. 70 гаспадарак, 190 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. Плоскае — сяло Кобрынскай эканоміі ВКЛ, 3 валокі зямлі. У 1597 г. сяло Сялецкага войтаўства Кобрынскага староства. У 1669 г. ўласнасць Брэсцкага езуіцкага калегіума, якому кароль Міхаіл выдаў пацвярджальны прывілей на сяло (вядомы таксама пацвярджальны прывілей Аўгуста II 1698). У 1751 г. сяло Брэсцкага ваяв., уладанне езуітаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Блоцкай (Балоцкай) воласці, 186 $^1/_2$ дзес. зямлі. Побач з вёскай знаходзіліся 2 аднайменныя маёнткі, уладанні: нашчадкаў Медушэўскай (70 дзес. зямлі) і Міцкевіча (199 дзес. зямлі). У 1897 г. вёска — 23 двары, 145 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, ветраны млын; маёнтак — 6 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 262 жыхары, маёнтак — 14 жыхароў. У 1911 г. ў вёсцы 176 жыхароў, у маёнтку (уладанні М.Свянціцкай) — 13 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Блоцкай (Балоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска і фальварак (разам) — 14 дамоў, 51 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хідрынскім, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім, з 18.12.1972 г. у Хідрынскім сельсаветах. У 1940 г. хутары, 28 двароў, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 172 жыхары, у 1970 г. — 218 жыхароў. У 1999 г. 72 гаспадаркі, 190 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (з 2004 СВК «Узыходзячая зара»; цэнтр — в. Хідры). Працуе магазін.

**ПЛЯНТА** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 64 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Бяроза. 109 гаспадарак, 271 жыхар (2005).

У 1890 г. Плянта — вёска Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 127 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з в. Падалессе). Побач знаходзіліся 3 маёнткі: Плянта, уладанне М.Ховен, 2772 дзес. зямлі (разам з фальваркам Стрыі); Плянта-Куліноўская, уладанне Б.Грынявіцкага, 56 дзес. зямлі; Плянта-Вінцэнтава, уладанне нашчадкаў М.Лянчыцкага, 148 дзес. зямлі; 2 фальваркі Плянта, уладанні: В.Бухавецкага, 136 дзес. зямлі (разам з маёнткам Кулін-Коўшчына), і Э.Эйсымонт, 104 дзес. зямлі. У 1897 г. — 2 дамы для батракоў, 22 жыхары; лясная ахова, 11 жыхароў; 3 фальваркі — 48, 8 і 16 жыхароў. У 1905 г. маёнтак, 58 жыхароў, і лесапільны з-д, 23 жыхары. У 1911 г. хутары Плянта, 102 жыхары; 2 маёнткі Плянта (адзін з іх належаў сенатару Харузіну), 6 і 26 жыхароў; 3 маёнткі Плянта-Куліноўская: 5, 23 і 20 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; калонія — 51 двор, 309 жыхароў, і фальварак — 7 жыхароў. У 1931 г. ў Плянце працавала жаночая школа (4 настаўніцы), быў пабудаваны Народны дом, у якім меліся зала са сцэнай, чытальня. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Жухавецкім, з 16.7.1954 г. ў Астроміцкім сельсаветах. У 1940 г. хутары Плянта 1 і 2, 50 двароў, 324 жыхары; пасёлак, 3 двары, 30 жыхароў; дзейнічалі магазін, пач. школа, абласная школа трактарыстаў. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням. акупантамі каля вёскі ў 1943 г. загінулі партызаны брыгады імя Чапаева І.А.Грабянчук і В.П.Вайцюк. У 1965 г. на магіле ўстаноўлены помнік, які таксама ўшаноўвае памяць 44 землякоў, што загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 і 1970 гг. вёска налічвала 301 жыхара. У 1999 г. 117 гаспадарак, 347 жыхароў, цэнтр калгаса імя Леніна (з 2004 ААТ «Астромічы»; цэнтр — в. Плянта). Ёсць магазін, клуб, б-ка, швейная майстэрня.

**ПРЫЛУКІ ВЯЛІКІЯ** — вёска ў Астроміцкім с/с, каля р. Мухавец. За 12 км



на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 56 км ад Брэста. 19 гаспадарак, 44 жыхары (2005).

У 16 ст. Прылукі — маёнтак і сяло ў Кобрынскім пав. ВКЛ. У 1559 г. маёнтак знаходзіўся ва ўладанні М.Лазаровіча з братамі. У 1571 г. сяло Прылукі — каралеўская маёмасць у Брэсцкім ваяв. У 1669 г. ўласнасць Брэсцкага езуіцкага калегіума; вял. князь ВКЛ і кароль польскі Міхаіл Вішнявецкі пацвердзіў калегіуму прывілей на сяло. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Прылукі — вёска ў Залескай вол., 137 $^1/_4$ дзес. зямлі. Побач знаходзіліся 3 аднайменныя маёнткі, уладанні А.Манцэвіча, 649 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з фальваркам Асташава); І.Урсын-Нямцэвіча, 188 $^1/_2$ дзес. зямлі (разам з фальваркам Асташава); С.Скіндэра, 59 $^1/_2$ дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 121 жыхар, працаваў хлебазапасны магазін; у пас. Наваселіцы (Прылукі) — 13 двароў, 97 жыхароў; на хутары Асташава (Прылукі) — 36 жыхароў; у 2 маёнтках Прылукі — 4 жыхары. У 1905 г. вёска (144 жыхары), маёнтак (95 жыхароў) і фальварак (5 жыхароў). З 1921 г. вёска Прылукі Вялікія ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 11 дамоў, 60 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Закросніцкім, з 16.7.1954 г. ў Залескім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 22 двары, 102 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1948 г. арганізаваны калгас імя Чапаева. Паводле перапісу 1959 г. 91 жыхар, у 1970 г. — 85 жыхароў. У 1999 г. 23 гаспадаркі, 55 жыхароў, у складзе калгаса імя Мічурына (цэнтр — в. Астромічы).

**ПРЫЛУКІ МАЛЫЯ** — вёска ў Залескім с/с, на паўд. беразе р. Мухавец. За 9 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 53 км ад Брэста. Каля шашы Брэст—Мінск. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2005).

У 1921 г. Прылукі Малыя — вёска ў Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 14 двароў, 98 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Закросніцкім, з 16.7.1954 г. ў Залескім сельсаветах. У 1940 г. ў вёсцы 34 двары, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 61 жыхар, у 1970 г. — 44 жыхары. У 1999 г. вёска, 5 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава (з 2004 СВК «Быстрыца»; цэнтр — в. Залессе).

**ПТУШКАФАБРЫКА** — пасёлак у Батчынскім с/с, за 2 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 55 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах на Камянец, Жабінку, Баранавічы. 216 гаспадарак, 669 жыхароў (2005).

Засн. ў 1962 г. разам з птушкафабрыкай, якая ў сучасны перыяд уваходзіць у склад рэсп. аб'яднання «Белптушкапрам». У 1999 г. налічваліся 202 гаспадаркі, 707 жыхароў. У пасёлку працуюць дзіцячы сад, клуб, бібліятэка.

**РАЧКІ** — вёска ў Залескім с/с, за 17 км на ПнУ ад г. Кобрын, 6 км ад чыг. ст. Камень (на лініі Жабінка—Драгічын), 61 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Іванава. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

У 1563 г. Рачка — урочышча-востраў с. Вуглы. У 1796 г. Рачкі — маёнтак у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1897 г. пасёлак Рачок (Нятрэба) у Іласкай вол., 3 двары, 33 жыхары. У 1905 г. ўрочышча, 30 жыхароў, у Гарадзецкай вол. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; калонія Рачкі — 7 двароў, 53 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Закросніцкім, з 16.7.1954 г. ў Залескім сельсаветах. У 1940 г. існаваў хутар Паўлава-Рачкі, 6 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з

чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. Рачкі — хутар, 76 жыхароў, у 1970 г. — вёска, 42 жыхары. У 1999 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў, на тэр. Брэсцкай абласной сортавыпрабавальнай станцыі.

**РУХОВІЧЫ** — вёска ў Дзівінскім с/с, за 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 59 км ад Брэста. На аўтадарозе Кобрын—Дзівін. 80 гаспадарак, 198 жыхароў (2005).




*Вёска Руховічы на карце 1886 г.*

У 1563 г. Руховічы — сяло ў Кобрынскай эканоміі ВКЛ, 11 валок зямлі. У 1597 г. сяло Сялецкага войтаўства той жа эканоміі. У 1747 г. Руховічы — маёнтак у Кобрынскім ключы аднайменнай эканоміі, межаваў з маёнткамі Луцкага езуіцкага калегіума Балоты і Стрыгава. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. Вёска Руховічы пазначана на карце 1886 г. У 1897 г. вёска ў Блоцкай (Балоцкай) воласці, 59 двароў, 395 жыхароў, 1649 дзес. зямлі (на 1890), працаваў хлебазапасны магазін. У 1905 г. 512 жыхароў. У 1911 г. 446 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Блоцкай (Балоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 77 дамоў, 398 жыхароў. У 1930-я г. мелася школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 30.10. 1959 г. ў Хабовіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска, 106 двароў, 452 жыхары, дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. 35 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Жданава (старшыня Ю.Лазарчук). Паводле перапісу 1959 г. Руховічы налічвалі 314 жыхароў, у 1970 г. — 451 жыхара (на тэр. Кісялёвіцкага с/с). У 1999 г. 96 гаспадарак, 225 жыхароў, у складзе калгаса імя Кутузава (з 2004 СВК «Кутузаўскі»; цэнтр — в. Хабовічы). Ёсць магазін, клуб, школа.

**РЫБНА** — вёска ў Кісялёвіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 56 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Балоты. 121 гаспадарка, 323 жыхары (2005).

Пад 1631 г. маёнтак Рыбны пазначаны ў дакументах Віленскага цэнтр. архіва. У 1897 г. Рыбна — вёска, 57 двароў, 372 жыхары; 475 $^1/_2$ дзес. зямлі (на 1890), хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны; у Блоцкай (Балоцкай) воласці Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. ў вёсцы 444 жыхары. У 1911 г. 509 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Блоцкай (Балоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 41 дом, 272 жыхары. У 1930-я г. ў вёсцы працавалі школа і чытальня. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Кісялёвіцкім с/с. У 1940 г. хутары — 120 двароў, 534 жыхары, і пасёлак — 15 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 36 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Світанне» (старшыня Б.В.Дрык). Паводле перапісу 1959 г. ў в. Рыбна 540 жыхароў, у 1970 г. — 390 жыхароў. У 1999 г. 122 гаспадаркі, 332 жыхары, у складзе калгаса «Світанне» (з 2004 ААТ «Кісялёўцы»; цэнтр — в. Кісялёўцы).

**РЫНКІ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 6 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 68 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Камянец. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).



Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім, затым Берасцейскім ваяводствах ВКЛ. У 1563 г. Рымкі — сяло ў Глінянскім войтаўстве Кобрынскай эканоміі ВКЛ, 12 валок зямлі, 12 гаспадарак (сярод іх лаўнік Ш.Рымковіч з сынамі). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Рынкі — маёнтак, уладанне К.Дашкевіча, 712 дзес. зямлі (разам з фальваркам Залессе і ўрочышчам Асавіца), і ўрочышча, уладанне М.Каліша, 4 дзес. зямлі; у Мураўёўскай вол. У 1897 г. ў маёнтку 4 двары, 43 жыхары, у 1905 г. — 18 жыхароў. З 1921 г. фальварак у складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 3 двары, 5 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Тэвельскім с/с. У 1940 г. вёска, 25 двароў, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. Рынкі налічвалі 97 жыхароў, у 1970 г. — 68 жыхароў. У 1999 г. 15 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (з 2004 СВК «Глінянскі»; цэнтр — в. Дзевяткі). Працуе сярэдняя школа.

**РЭЧЫЦА** — вёска ў Бухавіцкім с/с, каля канала Мухавец. За 21 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 65 км ад Брэста. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2005).

У 1563 і 1597 гг. упамінаецца р. Рэчыца. У 1668 г. Рэчыца — сяло Палескага ключа Кобрынскай эканоміі, 28 валок зямлі; з 1664 г. знаходзілася ва ўладанні Дзівінскага касцёла. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1897 г. вёска ў Казішчанскай вол., 12 двароў, 79 жыхароў; 81 дзес. зямлі (на 1890). У 1905 г. вёска налічвала 79 жыхароў. У 1911 г. 102 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; аколіца — 17 двароў, 91 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Засімскім, з 16.7.1954 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. вёска, 41 двор, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вер. 1942 г. ням.-фаш. акупантамі спалены 33 жыхары разам з вёскай (45 двароў). У 1965 г. на гэтым месцы ўстаноўлены помнік, які таксама ўшаноўвае памяць партызан брыгады імя Чапаева (базіравалася ў раёне вёскі). У гады Вял. Айч. вайны ў лесе, непадалёку ад в. Рэчыца, падпольшчыкі стварылі харч. базу для нар. мсціўцаў. Пасля вайны вёска адрадзілася. У 1950 г. арганізаваны калгас імя Панамарэнкі (старшыня Ц.Анішчук). Паводле перапісу 1959 г. Рэчыца налічвала 109 жыхароў, у 1970 г. — 85 жыхароў. У 1999 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў, на тэр. аблсельгасбуда.

**СЛАЎНАЕ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 17 км на Пн ад горада і чыг. ст. Кобрын, 68 км ад Брэста. Танспартныя сувязі па аўтадарогах на Пружаны, Жабінку, Баранавічы. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У 1563 г. Слаўнае — урочышча на мяжы с. Бярозы. У 1890 г. Слаўнае — вёска, 74 дзес. зямлі, і маёнтак, уладанне К.Карклінскага, 52 дзес. зямлі; у Стрыгаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1897 г. вёска налічвала 12 двароў, 100 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У маёнтку — 4 жыхары. У 1905 г. вёска (127 жыхароў) і маёнтак (4 жыхары). У 1911 г. ў вёсцы 153 жыхары, у маёнтку — 3 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 21 двор, 135 жыхароў, і фальварак — 7 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Казішчанскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. хутары, 32 двары, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. вёска Слаўнае налічвала 152 жыхары, у 1970 г. — 123 жыхары. У 1999 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе

калгаса імя Гагарына (з 2004 СВК «Тэўлі»; цэнтр — в. Тэўлі).

**СМАЛЯРНЯ** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 74 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Брэст. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

У 1921 г. Смалярна — вёска ў Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 7 дамоў, 22 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. ў Іласкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска налічвала 134 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў баях каля вёскі загінулі 2 воіны Сав. Арміі (пахаваны на ўсх. ускраіне вёскі, помнік устаноўлены ў 1969). У 1949 г. створаны калгас імя Ракасоўскага. Паводле перапісу 1959 г. вёска Смалярня налічвала 116 жыхароў, у 1970 г. — 95 жыхароў. У 1999 г. 18 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе калгаса «Праўда» (з 2004 СВК «Шамятоўка»; цэнтр — в. Шамятоўка).

**СОЎПЛІ** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, за 36 км на ПдУ ад г. Кобрын, 10 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 80 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Арэхаўскі—Гарадзец і далей па шашы Кобрын—Лунінец. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У 1563 г. Сабалёвая Навінка — урочышча с. Вуглы. У 1885 г. Соўплі — вёска Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 77 жыхароў. У 1890 г. пасёлак у складзе в. Вуглы (1130 дзес. зямлі разам з 7 іншымі пасёлкамі) тых жа воласці і павета. У 1905 г. вёска, 132 жыхары. У 1911 г. 121 жыхар. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 15 дамоў, 89 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска, 124 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. арганізаваны калгас «12 Сакавіка» (старшыня В.Соўпель). Паводле перапісу 1959 г. Соўплі налічвалі 92 жыхары, у 1970 г. — 56 жыхароў. У 1999 г. 8 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны).

**СТАРАДУБЦЫ** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, за 37 км на ПдУ ад г. Кобрын, 11 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 81 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Арэхаўскі—Гарадзец і далей па шашы Кобрын—Лунінец. 29 гаспадарак, 49 жыхароў (2005).

У 1563 г. Стары Дуб — урочышча с. Вуглы. У 1885 г. Старадубцы — вёска Гарадзецкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 172 жыхары. У 1890 г. пасёлак у складзе в. Вуглы тых жа воласці і павета, 1130 дзес. зямлі (разам з 7 іншымі пасёлкамі). У 1897 г. вёска Вуглы (Старадубцы), 28 двароў, 177 жыхароў. У 1905 г. вёска, 218 жыхароў. У 1911 г. 240 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 34 дамы, 183 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. 231 жыхар. У Вял. Айч. вайну Старадубцы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1950 г. арганізаваны калгас «Новы мір» (26 гаспадарак; старшыня І.А.Нінінчук). Паводле перапісу 1959 г. 216 жыхароў, у 1970 г. — 172 жыхары. У 1999 г. 36 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны).

**СТАРАЯ ТЭМРА** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 32 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 76 км ад Брэста. Каля шашы Брэст—Мінск. 28 гаспадарак, 39 жыхароў (2005).

У 1793 г. Тэмра — урочышча, 12 валок 15 маргоў зямлі, у Кобрынскай пушчы Брэсцкай эканоміі. Паводле прывілея апошняга вял. князя ВКЛ і караля польскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага знаходзілася ва ўладанні М.Іскры (на 50



гадоў). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. Тэмра — пушча, уладанне Г.Цімафеевай, 369 дзес. зямлі; маёнтак Тэмра-Лука, уладанне П.Шыраева, 1016 дзес. зямлі; хутар А.Лук'яненкі; у Зелаўскай вол. У 1897 г. існавалі: пас. Тэмра — 5 двароў, 44 жыхары; 2 аднайменныя выселкі — 3 двары, 15 жыхароў; выселкі Тэмра (Бярэзіна) — 6 жыхароў, і Тэмра (Горкі 2) — 5 жыхароў; пасёлкі — Тэмра 1 (Бярэзіна), 4 двары, 22 жыхары, і Тэмра 2 (Бярэзіна) — 7 двароў, 35 жыхароў. У 1905 г. — 2 фальваркі Тэмра (22 жыхары) і аднайменны пасёлак (151 жыхар). У 1911 г. Тэмра — пасёлак, 95 жыхароў; фальварак, уладанне А.Янкоўскага, 8 жыхароў; маёнтак, уладанне Дз.Тарушкіна, 15 жыхароў; пры маёнтку знаходзіліся аднайменныя: лясная старожка, 7 жыхароў (сям'я П.Чыпуры); хутар Б.Волкава, 17 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Зелаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; 2 фальваркі і вёска — 24 дамы, 162 жыхары (разам). У 1930-я г. працавалі школа і вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзеткавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не (Астроміцкі с/с). У 1940 г. вёска Старая Тэмра, 340 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 26 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны сцяг». У 1999 г. 38 гаспадарак, 62 жыхары, у складзе племзавода «Дружба» (цэнтр — в. Лука). Ёсць магазін.

**СТАСЮКІ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 8 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 66 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Высокае—Кобрын. 29 гаспадарак, 43 жыхары (2005).

У 1742 г. Стасюкі — сяло ў Чараваччыцкім ключы Брэсцкай эканоміі, 47 маргоў зямлі. У 1786 г. сяло, 3 валокі 38 маргоў зямлі. У 1795 г. вёска Кобрынскай эканоміі, 2 гаспадаркі, 14 жыхароў. Пасля



*Цэнтр в. Стрыгава.*

3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Казішчанскай вол., 681 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска, 39 двароў, 340 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня, ветраны млын. У 1905 г. 321 жыхар, у 1911 г. 340 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Стрыгаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 24 дамы, 145 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Казішчанскім, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 50 двароў, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Стасюкі 206 жыхароў, у 1970 г. — 156 жыхароў. У 1999 г. 35 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса імя Гагарына (з 2004 СВК «Тэўлі»; цэнтр — в. Тэўлі).

**СТРЫГАВА** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 6 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 56 км ад Брэста. На аўтадарозе Кобрын—Камянец. 227 гаспадарак, 577 жыхароў (2005).

У 1513 г. вёска Стрыгаво перададзена Кобрынскаму касцёлу. Пад 1597 г. пазначана ў інвентары Кобрынскага староства; 27 валок зямлі. У 1747 г. Стрыгава — маёнтак Луцкага езуіцкага калегіума ў Брэсцкім ваяв., меліся бровар і карчма. У 1773 г. паезуіцкі фальварак; у 1774 г., паводле прывілея апошняга вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Станіслава Аў-



*Свята-Уладзімірская царква ў в. Стрыгава.*

густа Панятоўскага, маёнтак, уладанне О.Чыжа Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У Айчынную вайну 1812 г. каля в. Стрыгава 13.8.1812 г. 38-ы егерскі полк рус. арміі адбіў наступленне напалеонаўскай кавалерыі. Аўстра-саксонцы панеслі значныя страты і адступілі (помнік у гонар 150-годдзя перамогі над напалеонаўскімі войскамі ўстаноўлены ў 1962 у скверы каля клуба). У 1886 г. Стрыгава — сяло, цэнтр Стрыгаўскай вол., 73 двары, 656 жыхароў, меліся валаснoе праўленне, царква праваслаўная, школа, піцейны дом. У 1890 г. — сяло, 737 $^1/_2$ дзес. зямлі; царк. прычт, 42 дзес. зямлі; маёнтак, уладанне І.Пузыны, 841 дзес. зямлі. Панская сядзіба (не захавалася) знаходзілася адасоблена ад вёскі і ўключала мураваны сядзібны дом, гасп. двор, парк, вадаём. Маёнтак вылучаўся высокім узроўнем земляробства. У часы гаспадарання Іаанны Пузыны Стрыгава разам з маёнткамі Высокае, Белагурна і Моладава быў уключаны ў лік лепшых рас. маёнткаў за 1897 г. У 1897 г. сяло Стрыгава, 118 двароў, 825 жыхароў, дзейнічалі прыходская царква, валаснoе праўленне, хлебазапасны магазін, піцейны дом, нар. вучылішча, у якім у 1889/90 навуч. годзе займаўся 61 хлопчык, у 1892—93 гг. — 51 хлопчык і 2 дзяўчынкі, у 1905—06 гг. — 67 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак. У маёнтку Стрыгава 107 жыхароў. У 1905 г. сяло налічвала 1032 жыхары, маёнтак — 102 жыхары. У 1911 г. сяло, 841 жыхар; маёнтак, уладанне князя Пузыны, 125 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска і фальварак — 115 дамоў, 559 жыхароў (разам). У 1930-я г. працавалі школа і вячэрнія курсы.

З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр Стрыгаўскага с/с, з 11.8.1959 г. ў Тэвельскім с/с. У 1940 г. вёска, 140 двароў, 795 жыхароў, дзейнічалі пошта, пач. школа, магазін, хата-чытальня. На тэр. сельсавета знаходзіліся 15 населеных пунктаў, 607 двароў, 3138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. акупантамі пры вызваленні вёскі і наваколля загінулі 33 воіны Сав. Арміі (пахаваны ў скверы, помнік устаноўлены ў 1958). На могілках пахаваны лётчык В.М.Пятунін, які загінуў у баі 29.9.1944 г. (у 1949 устаноўлены абеліск). У 1948 г. ў вёсцы працавала хата-чытальня; арганізаваны калгас «Новае жыццё». У 1949 г. створаны калгас імя Дзімітрава (старшыня Ф.Я.Яўчук). Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 585 жыхароў, у 1970 г. — 461 жыхар, мелася сярэдняя школа. У 1999 г. 223 гаспадаркі, 590 жыхароў, цэнтр калгаса імя Дзімітрава (з 2004 ААТ «Стрыгава»). Дзейнічаюць сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад, Дом культуры, 2 магазіны, кафэ, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання. Помнік архітэктуры — Свята-Уладзімірская царква.

**СТРЫІ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 60 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Кобрын—Высокае і Кобрын—Баранавічы. 68 гаспадарак, 78 жыхароў (2005).



Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім, затым Берасцейскім ваяводствах ВКЛ. У 1563 г. Стрыевічы — сяло Астрамецкага войтаўства Кобрынскай эканоміі, 27 валок зямлі, з якіх 2 вольныя, асочніцкія; 27 гаспадарак. У 1597 г. сяло Стрыева (Стрыі) на тэр. Лягатаўскага войтаўства, каля р. Рэчыца, меўся млын, у млынара 20 маргоў зямлі, у сяле — 2 валокі зямлі. Сяло Стрыевічы Астрамецкага войтаўства налічвала 27 валок зямлі і знаходзілася ва ўладанні З.Газельфа. У 1741 г. сяло Стрыі ў Кобрынскай эканоміі. У 1795 г. вёска, 1 гаспадарка, 5 жыхароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска, 63 $^1/_4$ дзес. зямлі, і фальварак, уладанне М.Ховена, 2772 дзес. зямлі (разам з маёнткам Плянта); у Падалескай вол. У 1897 г. ў вёсцы 73 двары, 322 жыхары, меліся хлебазапасны магазін, кузня, у маёнтку — 34 жыхары. У 1905 г. вёска налічвала 470 жыхароў, маёнтак — 17 жыхароў. У 1911 г. вёска (553 жыхары) і аднайменны фальварак (49 жыхароў). З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 57 двароў, 270 жыхароў, і калонія — 7 двароў, 55 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа і вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Засімскім, з 16.7.1954 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. хутары — 107 двароў, 494 жыхары, і былы фальварак — 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы Стрыі 396 жыхароў, у 1970 г. — 284 жыхары. У 1999 г. 70 гаспадарак, 190 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (з 2004 СВК «Мінянскі»; цэнтр — в. Мінянка). Працуе бібліятэка.

**СУХОЎЧЫЦЫ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 37 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Брэст. 46 гаспадарак, 124 жыхары (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне Суховічы ў складзе Трокскага ваяв. ВКЛ. У 1563 г. сяло Патрыкаўскага войтаўства Чаравачыцкага двара Кобрынскай эканоміі, 20 валок зямлі, 20 гаспадарак. У 1597 г. сяло Сухоўчыцы, 20 валок зямлі, мелася карчма. У 1712 г. вёска ў Чаравачыцкім ключы той жа эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Прускаўскай вол., 274 $^1/_2$ дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: маёнтак, уладанне Р.Мікутовіч, 305 дзес. зямлі, і аколіца, 158 дзес. зямлі (разам з аколіцай Паеўшчызна, розныя ўладальнікі). У 1897 г. вёска — 28 двароў, 220 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак — 17 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 226 жыхароў, маёнтак — 22 жыхары; мелася нар. вучылішча, у якім у 1905/06 навуч. годзе займаліся 31 хлопчык і 7 дзяўчынак. У 1911 г. вёска, 236 жыхароў; маёнтак, уладанне Мікутовіча, 31 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 16 дамоў, 106 жыхароў, і фальварак — 6 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа і вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Пескаўскім, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім, з 18.12.1972 г. ў Хідрынскім сельсаветах. У 1940 г. хутары — 50 двароў, 215 жыхароў, і былы маёнтак — 3 двары, 12 жыхароў; працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1947 г. дзейнічала адноўленая пач. школа, у 1949 г. арганізаваны калгас «Партызан» (22 гаспадаркі). Паводле перапісу 1959 г. Сухоўчыцы налічвалі 124 жыхары, у 1970 г. — 85 жыхароў. У 1999 г. 38 гаспадарак, 105 жыхароў, у складзе аграфірмы «Беларусь» (з 2004 СВК «Вербнае»; цэнтр — в. Пескі).

У в. Сухоўчыцы нарадзіўся адзін з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партыз. руху на тэр. Брэсцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну М.А.Саўчук.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Залескім с/с, за 10 км на ПнУ ад г. Кобрын, 6 км ад чыг. ст. Камень (на лініі Брэст—Баранавічы), 54 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Іванава. 99 гаспадарак, 249 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв. ВКЛ. Каралева Бона Сфорца ў 1555 г. перадала пінскаму і кобрынскаму старосце С.Фальчэўскаму правы на маёнтак Сялец. У 1563 г. сяло Сялецкага войтаўства Кобрынскай эканоміі, 25 валок зямлі, з якіх 1 валока (вольная) была нададзена на войта Грышчона Азашэвіча; 23 гаспадаркі. У 1597 г. сяло, 25 валок зямлі, засценак (37 маргоў), карчма. Інвентар адзначаў дрэнную якасць зямлі. У 1571 г. вял. князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт II Аўгуст сваім дэкрэтам надаў вольнасці зямянам маёнтка Сялец у Кобрынскай эканоміі. У 1786 г. сяло, 25 валок 22 маргі зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Залескай вол., 474 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі; у 1897 г. — 56 двароў, 384 жыхары, меліся хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны. У 1905 г. ў вёсцы 454 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 20 дамоў, 135 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Закросніцкім, з 16.7.1954 г. ў Залескім сельсаветах Кобрынскага р-на. У 1940 г. хутары, 92 двары, 376 жыхароў. У Вял. Айч. вайну Сялец акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 411 жыхароў, у 1970 г. — 304 жыхары. У 1999 г. 100 гаспадарак, 247 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава (з 2004 СВК «Быстрыца»; цэнтр — в. Залессе). Працуе магазін.

**ТУРНАЯ** — вёска ў Залескім с/с, за 11 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 57 км ад Брэста. На шашы Мінск—Брэст. 31 гаспадарка, 60 жыхароў (2005).

У 1563 г. ўпамінаецца р. Турна. У 1637 г. Турная (Турны, ці Млынары) — маёнтак у Брэсцкім ваяв. ВКЛ, 20 маргоў зямлі. У 1786 г. ў маёнтку 47 маргоў зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска, 498 дзес. зямлі; маёнтак, уладанне Н.Сабанскай, 609 дзес. зямлі; пасёлак, 45 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі (розныя ўладальнікі); у Залескай вол. У 1897 г. вёска, 84 двары, 566 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. Побач знаходзіліся мыза Турна, 8 жыхароў, і дом для паромнай пераправы Турная (Замлыны) пры р. Мухавец, 16 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 571 жыхара, маёнтак — 15 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 20 дамоў, 143 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Закросніцкім, з 16.7.1954 г. ў Залескім сельсаветах. У 1940 г. вёска налічвала 99 двароў, 417 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў вёсцы дзейнічалі з восені 1941 г. да крас. 1944 г. антыфаш. к-т і з 12.8.1943 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. камсамольская арг-цыя (у канцы 1943 — 17 членаў). Антыфаш. к-т узначальвалі Д.С.Барысюк і Ц.М.Краўчук. У 1975 г. ў гонар падпольшчыкаў на зах. ускраіне вёскі ўстаноўлены помнік. У 1987 г. на доме Краўчука, дзе ў 1941—44 гг. размяшчалася канспіратыўная кватэра арг-цыі, устаноўлена мемарыяльная дошка. У баях з ням.-фаш. акупантамі ў раёне вёскі ў 1943—44 гг. загінулі партызаны атрадаў імя Суворава і Арлова (партыз. брыгада імя Чапаева). У 1955 г. на магіле (за 1,5 км на Пн ад вёскі) устаноўлены помнік, які таксама ўшаноўвае памяць 42 жыхароў вёсак Закросніца, Прылукі, Рачкі, Турная, што загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі ў гады Вял. Айч. вайны. У 1948 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Калініна (70 гаспадарак, старшыня С.М.Лукашук).



Паводле перапісу 1959 г. 294 жыхары, у 1970 г. — 206 жыхароў. У 1999 г. вёска, 47 гаспадарак, 92 жыхары, на тэр. Брэсцкай абласной сортавыпрабавальнай станцыі. Працуе магазін.

У в. Турная нарадзіўся Дз.С.Барысюк, удзельнік падп. барацьбы супраць акупацыі Польшчай Зах. Беларусі і камандзір Турнянскага антыфаш. к-та ў гады Вял. Айч. вайны.

**ТЭЎЛІ** — вёска, цэнтр Тэвельскага с/с, за 14 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 52 км ад Брэста. На аўтадарозе Камянец—Кобрын. Чыг. станцыя на лініі Брэст—Баранавічы. 230 гаспадарак, 570 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне Тэваль Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1563 г. ўпамінаюцца Іван, Панько, Даніла Тэвелевічы — лаўнікі с. Залессе. У 1566 г. кобрынскі староста Ст.А.Давойна, троцкі кашталян А.Валовіч і іншыя падпісалі ліст на заснаванне ў Тэўлях царквы святога Дзмітрыя (царкве надалі 2 валокі зямлі). У 1679 г. Тэвелі — сяло ў Кобрынскай эканоміі, 50 валок зямлі. У 1712 г. вёска ў Чаравачыцкім ключы Кобрынскай эканоміі, у якой падчашы браслаўскі Баркоўскі меў 6 валок зямлі. Паводле інвентарнага апісання сяла 1724 г. царква мела 1 вольную валоку зямлі. У 1746 г. вял. князь ВКЛ і кароль Польшчы Аўгуст III сваім прывілеем пацвердзіў рус. ліст 1566 г. Давойны і іншых. У 1764 г. Тэўлі — сяло, дзейнічала уніяцкая царква. У 1786 г. вёска ў Тэвельскім ключы той жа эканоміі (уваходзілі 4 вёскі). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1845 г. вёска аднайменнага маёнтка, 18 гаспадарак, 157 жыхароў. Маёнтак, уладанне М.Ф.Непакайчыцкага, налічваў 486 дзес. зямлі (разам з в. Тэўлі). У 1886 г. Тэўлі — сяло ў Мураўёўскай вол., 26 двароў, 283 жыхары, дзейнічалі 2 царквы, школа, піцейны дом, станцыя Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. У 1888 г. Тэвельскі праваслаўны прыход налічваў 1506 вернікаў. У 1890 г. — сяло, 306 $^1/_2$ дзес. зямлі; царк. прычт, 95 $^1/_2$ дзес. зямлі; хутар, уладанне А.Дзяконскага, 390 дзес. зямлі. Побач з сялом знаходзіліся аднайменныя: маёнтак, уладанне К.Высоцкага, 325 дзес. зямлі (разам з хутарам Шляг), і сядзібы В.Снігурскага (24 дзес. зямлі), Л.Нямцэвіча (42 дзес. зямлі), О.Саковіча (26 $^1/_2$ дзес. зямлі), О.Стржалкоўскага (11 дзес. зямлі), А.Акунеўскага (10 $^1/_2$ дзес. зямлі). У 1897 г. 42 двары, 313 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, заезны двор і піцейны дом (пры Тэвельскім гандл. тракце, 3 жыхары), чыг. станцыя (7 двароў, 53 жыхары), 2 царквы, прычтавая сядзіба (12 жыхароў), нар. вучылішча (3 жыхары). У 2 выселках Тэўлі 2 двары, 21 жыхар, у 6 аднайменных сядзібах — 72 жыхары, у фальварку — 20 жыхароў, у маёнтку — 5 гаспадарак, 51 жыхар. У нар. вучылішчы ў 1889/90 навуч. годзе займаліся 51 хлопчык, 11 дзяўчынак, у 1892—93 гг. — 48 хлопчыкаў, 4 дзяўчынкі, у 1905—06 гг. — 49 хлопчыкаў, 11 дзяўчынак. У 1905 г. Тэўлі — сяло, 410 жыхароў; паштовая станцыя, 8 жыхароў; чыг. станцыя, 62 жыхары; 7 маёнткаў,



*Дз.С.Барысюк.*



*Свята-Успенская царква ў в. Тэўлі.*

95 жыхароў. У 1-ю сусветную вайну ў жн. 1915 г. каля вёскі ў баях з войскамі кайзераўскай Германіі загінулі каля 200 салдат рус. арміі (у 1916 устаноўлены надмагіллі). Падчас сав.-польскай вайны ў баях побач з вёскай з польскімі войскамі загінулі 50 чырвонаармейцаў, якія пахаваны ў 3 брацкіх магілах (надмагіллі ўстаноўлены у 1925—26). З 1921 г. Тэўлі ў складзе Польшчы, у Мацясоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 62 двары, 473 жыхары, і калонія — 3 жыхары. У 1931 г. вёска — цэнтр гміны таго ж павета (уваходзілі 75 населеных пунктаў, 9244 жыхары), працавалі школа і тэатральны гурток.

З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр Тэвельскага с/с. У 1940 г. ў вёсцы 120 двароў, 758 жыхароў, дзейнічалі нафтавы і газагенератарны млыны, няпоўная сярэдняя школа, хатачытальня, пошта, ветпункт, сельпо з гандл. кропкай, сельсавет (тэлефанізаваны), фельч.-акушэрскі пункт, чыг. станцыя. На тэр. сельсавета налічваліся 14 населеных пунктаў, 454 двары, 2749 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 62 аднавяскоўцы (у 1967 устаноўлены помнік). Пры вызваленні вёскі ад ням. акупантаў у ліп. 1944 г. ў баях загінуў 51 воін 55-й гв. стралк. дывізіі 28-й арміі 1-га Бел. фронту (у 1958 устаноўлены помнік). У 1949 г. 36 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Чкалава (старшыня Г.П.Каліш). Паводле перапісу 1959 г. ў в. Тэўлі было 638 жыхароў, у 1970 г. — 613 жыхароў. У 1999 г. 250 гаспадарак, 624 жыхары, цэнтр калгаса імя Гагарына (з 2004 СВК «Тэўлі»). Працуюць 3 магазіны, клуб, б-ка, бальніца, аптэка, амбулаторыя, школа-сад, сталовая, аддз. сувязі, ветучастак, камбінат быт. абслугоўвання. Помнікі архітэктуры: Свята-Успенская царква (1874), Свята-Дзмітрыеўская капліца (18 ст.). За 0,5 км ад вёскі знаходзяцца Вайсковыя могілкі.

**УШКАВІЦА** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 36 км ад Брэста. Каля шашы Мінск—Брэст. 59 гаспадарак, 167 жыхароў (2005).

У 1563 г. ўпамінаюцца зямяне Юшковічы [ад асабовага імя Юшко (Яўфімій)]. У 1890 г. Ушкавіца — вёска ў Прускаўскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 71 $^1/_4$ дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: маёнтак, уладанне А.Апацэвіча, 105 дзес. зямлі, і аколіца, 122 дзес. зямлі (разам з аколіцай Патрыкі). У 1897 г. ў маёнтку 8 жыхароў, у аднайменных жылых дамах пры ўрочышчах Лаза, Масмышчы, Пральня — 11 жыхароў. У 1905 г. існавалі вёска (167 жыхароў) і маёнтак (25 жыхароў). У 1911 г. вёска налічвала 143 жыхары, маёнтак — 37 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 56 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Пескаўскім, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім, з 18.12.1972 г. ў Хідрынскім сельсаветах. У 1940 г. хутары, 29 двароў, 142 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 26 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас імя Пушкіна (старшыня І.Дзмітрук). Паводле перапісу 1959 г. Ушкавіца налічвала 92 жыхары, у 1970 г. — 117 жыхароў. У 1999 г. 51 гаспадарка, 138 жыхароў, у складзе аграфірмы «Беларусь» (з 2004 СВК «Вербнае»; цэнтр — в. Пескі).

У в. Ушкавіца нарадзіўся П.А.Міхайлаў, бел. мовазнавец, педагог, спецыяліст у галіне дыялекталогіі, анамастыкі, лінгвагеаграфіі, навук. тэрміналогіі.


*П.А.Міхайлаў.*

**ФРУКТОВЫ** — пасёлак у Батчынскім с/с, на р. Мухавец. За 4 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 44 км ад Брэста. Каля шашы Мінск—Брэст. 167 гаспадарак, 492 жыхары (2005).

У 1959 г. сядзіба саўгаса «Патрыкі», 136 жыхароў; у складзе Пецькаўскага с/с Кобрынскага р-на. У 1970 г. пас. Фруктовы — сядзіба таго ж саўгаса. 194 жыхары. У 1965 г. на ўшанаванне памяці 34 земля-



коў, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. акупантамі ў Вял. Айч. вайну, у цэнтры пасёлка ўстаноўлены помнік. У 1999 г. 126 гаспадарак, 384 жыхары, у складзе аграфірмы-калгаса «Патрыкі» (цэнтр — в. Андронава). У 2004 г. пасёлак далучаны да ААТ «Кобрынская птушкафабрыка». Ёсць б-ка, школа.

**ХАБОВІЧЫ** — вёска ў Дзівінскім с/с, на паўд.-зах. беразе Казацкага канала. За 18 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 63 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Дзівін. 242 гаспадаркі, 668 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. Хабовічы — сяло ў Кобрынскай эканоміі ВКЛ, 17 валок зямлі. У 1597 г. сяло Сялецкага войтаўства Кобрынскага староства, дзейнічала карчма. У 1724 г. сяло ў Брэсцкай эканоміі, 29 валок зямлі. У 1789 г. вёска, 29 валок 40 маргоў зямлі, 47 гаспадарак, 260 жыхароў, карчма; у складзе Дзівінскага ключа той жа эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. сяло — 2350 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі, царква; царк. прычт — 60 дзес. зямлі; у Блоцкай (Балоцкай) воласці. Пры сяле В.Дзембскі валодаў 4 дзес. зямлі. У 1888 г. Хабовіцкі праваслаўны прыход налічваў 1148 вернікаў. У 1897 г. сяло (пры ваенна-камунікацыйнай дарозе Кобрын—Дзівін), 76 двароў, 551 жыхар, дзейнічалі Пакроўская царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, піцейная ўстанова. У 1905 г. 670 жыхароў. У 1911 г. 607 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Балоцкай (Блоцкай) гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 143 дамы, 741 жыхар. У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 30.10.1959 г. — цэнтр сельсавета таго ж раёна, потым вёска ў складзе Кісялёвіцкага с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 184 двары, 852 жыхары, дзейнічалі пач. школа, магазін. На тэр. сельсавета налічваліся 3 населеныя пункты, 1431 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі на франтах загінулі 14 аднавяскоўцаў (у 1965 устаноўлены абеліск). У 1949 г. 22 гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас імя Молатава (старшыня М.С.Місюк). Паводле перапісу 1959 г. ў Хабовічах 448 жыхароў, у 1970 г. — 1048 жыхароў. У 1999 г. 255 гаспадарак, 713 жыхароў, цэнтр калгаса імя Кутузава (з 2004 СВК «Кутузаўскі»). Ёсць магазін, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, 8-гадовая і філіял муз. школы, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аддз. сувязі, ветучастак.



*Пакроўская царква ў в. Хабовічы.*

**ХАДЫНІЧЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 23 км на Пд ад горада і чыг. ст. Кобрын, 60 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Макраны. 104 гаспадаркі, 226 жыхароў (2005).

У 1567 г. Хадынічы — маёнтак, уладанне Рамана і Майка Кульневічаў (у 1565 Сямён і Дзям'ян Кульневічы), у Брэсцкім пав. Побач з маёнткам праходзіла мяжа Кобрынскага пав. Пазней Кандрат Хадыніцкі завяшчаў маёмасць Лепясоўскаму праваслаўнаму манастыру. У 1667 г. Ст.Табенскі на чале свайго

атрада здзейсніў набег на маёнтак, але быў паранены манахамі і памёр. Брэсцкі падсудак Пшаздзецкі апраўдаў манахаў, аднак у хуткім часе сам таксама разрабаваў маёнтак. Пасля хадайніцтва Кляменція Трызны, архімандрыта Віленскага Святадухаўскага манастыра, быў атрыманы каралеўскі ліст з загадам Пшаздзецкаму і Табенскім вярнуць маёмасць манахам. У 1679 г. Галоўны Літоўскі трыбунал вырашыў справу на карысць манастыра. З 1691 г. да 1740 г. маёнтак знаходзіўся ва ўладанні базыльян Лепясоўскіх. Пазней зноў узнікалі спрэчкі за маёмасць паміж манахамі і панамі Славакамі і Пухальскімі, і справа была вырашана на карысць апошніх. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Верхалескай вол., 1774 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: пасёлак, 179 $^1/_2$ дзес. зямлі, і 2 маёнткі, уладанні С.Мар'яновіча (399 $^1/_2$ дзес. зямлі) і А.Любімава (186 дзес. зямлі). У 1897 г. ў вёсцы 40 двароў, 274 жыхары, царква на могілках, хлебазапасны магазін; у аколіцы — 15 двароў, 76 жыхароў. Маёнткі налічвалі: Хадынічы-Шаўчука — 8 жыхароў, Хадынічы-Мар'яновіча — 10 жыхароў, Хадынічы-Мацюка — 14 жыхароў, меўся ветраны млын. У 1905 г. існавалі вёска (302 жыхары) і маёнтак (10 жыхароў). У 1911 г. ў складзе Навасёлкаўскай вол.; вёска — 374 жыхары; аколіца — 32 жыхары; маёнтак, уладанне А.Корсака — 43 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска, 59 двароў, 308 жыхароў, і 2 фальваркі, 3 двары, 26 жыхароў (разам). У 1930-я г. працавала школа. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Дзівінскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Верхалескім, з 30.10.1959 г. ў Навасёлкаўскім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. вёска, 95 двароў, 489 жыхароў, працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну Хадынічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 17 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Перамога» (старшыня Ул.П.Мікалаюк). Паводле перапісу 1959 г. 352 жыхары, у 1970 г. — 356 жыхароў. У 1999 г. 115 гаспадарак, 258 жыхароў, у складзе калгаса імя Чкалава (з 2004 СВК «Верхалескі»; цэнтр — в. Верхалессе). Ёсць магазін, клуб, бібліятэка.


*В.І.Іўчанкаў.*

У в. Хадынічы нарадзіліся бел. мастак І.В.Андрасюк, бел. лінгвіст, педагог, журналіст В.І.Іўчанкаў (з'яўляецца членам рэдкалегіі часопіса «Роднае слова»).

**ХІДРЫ** — вёска, цэнтр Хідрынскага с/с, за 10 км на Пд ад горада і чыг. ст. Кобрын, 56 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Дзівін. 295 гаспадарак, 773 жыхары (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. Хідры — сяло Патрыкаўскага войтаўства воласці Чаравачыцкага двара, 22 валокі зямлі, з якіх 1 вольная валока была нададзена войту, 21 — «на плаце»; 20 гаспадарак. Акрамя таго, сялянам належалі 15 лясных валок зямлі (на чыншу) і 7 валок на сенажаць і патрэбы замкавыя. У 1597 г. сяло, 22 валокі зямлі, мелася карчма. У 1642 г. адпаведна з уставай рэвізора Дз.Сапегі на павіннасць сяляне плацілі 55 грошаў з валокі. У 1786 г. засценкі сяла налічвалі 259 маргоў зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай


*Спартыўна-аздараўленчы комплекс у в. Хідры.*



губ. У 1890 г. Хідры — хутары (уладальнікі Скаўронскі і Задарноўскі), 124 $^1/_2$ дзес. зямлі, у Верхалескай вол. У 1897 г. вёска, 63 двары, 432 жыхары, дзейнічалі хлебазапасны магазін, штучная крама. У 1905 г. 413 жыхароў. У 1911 г. вёска Навасёлкаўскай вол. таго ж павета, 530 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 36 дамоў, 246 жыхароў, працавалі школа, вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. і з 18.12.1972 г. — цэнтр сельсавета таго ж раёна, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім с/с. У 1940 г. хутары, 99 двароў, 436 жыхароў, дзейнічалі магазін, хата-чытальня, пач. школа. На тэр. сельсавета налічваліся 23 населеныя пункты, 426 двароў, 2111 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. захопнікамі каля вёскі загінулі 2 воіны Сав. Арміі і партызан. У 1965 г. на магіле (на паўн.-зах. ускраіне вёскі) устаноўлены абеліск, які таксама ўшаноўвае памяць 37 аднавяскоўцаў, загінуўшых у баях з акупантамі. У 1949 г. створаны калгас імя Сталінскай канстытуцыі (аб'ядноўваў 40 гаспадарак). Паводле перапісу 1959 г. 503 жыхары, у 1970 г. — 515 жыхароў. У 1999 г. 284 гаспадаркі, 812 жыхароў, цэнтр калгаса «Зара» (з 2004 СВК «Узыходзячая зара»). Працуюць 2 магазіны, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, спарт. комплекс з басейнам, сярэдняя школа, сталовая, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання.

**ХУДЛІН** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 27 км на У ад г. Кобрын, 4 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 71 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Іванава. 49 гаспадарак, 108 жыхароў (2005).

У 1499—1500 гг. у лісце княгінь Ульяны і Ганны ўпамінаецца як в. Ходлін. У 1563 г. Ходлін — сяло Грушаўскага войтаўства воласці Гарадзецкага двара Кобрынскай эканоміі, 16 валок зямлі (якасць зямлі дрэнная), 13 гаспадарак, з іх 3 гаспадары-буднікі (на Палессі развозчыкі тавараў). У 1786 г. сяло ў Брэсцкай эканоміі, 16 валок зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. сяло, 360 $^1/_2$ дзес. зямлі; маёнтак, уладанне І.Мітрашэўскага, 276 дзес. зямлі; у Зелаўскай вол. У 1897 г. вёска (пры паштовым шляху Кобрын—Пінск і лініі Палескай чыгункі), 67 двароў, 420 жыхароў, працавалі школа граматы, хлебазапасны магазін. Маёнтак налічваў 11 дамоў, 72 жыхары. У 1905 г. ў вёсцы 483 жыхары. У 1911 г. вёска Гарадзецкай вол. таго ж павета, 544 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 31 дом, 192 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. — цэнтр сельсавета таго ж раёна, з 16.7.1954 г. ў Грушаўскім, з 21.1.1961 г. ў Гарадзецкім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 109 двароў, 372 жыхары, працавалі пач. школа, каап. магазін; арганізаваны калгас імя 6-й сесіі Вярх. Савета БССР (55 коней, 80 галоў буйной рагатай жывёлы). У Вял. Айч. вайну Худлін акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 52 гаспадаркі аб'ядналіся ў калгас імя Шверніка. Паводле перапісу 1959 г. 308 жыхароў, у 1970 г. — 235 жыхароў. У 1999 г. 51 гаспадарка, 116 жыхароў, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец). Дзейнічае магазін.

У в. Худлін нарадзіўся ўдзельнік рэв. руху ў Зах. Беларусі, адзін з арганізатараў партыз. руху на Кобрыншчыне ў гады Вял. Айч. вайны М.Ц.Шыш (у 1974 у цэнтры вёскі ўстаноўлена стэла).



*М.Ц.Шыш.*

**ЧАЛІШЧАВІЧЫ** — вёска ў Аніскавіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад г. Кобрын, 10 км ад чыг. ст. Гарадзец (на лініі Брэст—Гомель), 74 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Арэхаўскі—Балоты. 24 гаспадаркі, 53 жыхары (2005).

У 1546 г. згадваецца с. Чалішчавіцкае. У 1563 г. Чалішчавічы — сяло Вугольскага войтаўства Кобрынскай эканоміі, 14 валок зямлі, 9 гаспадарак. Сяло знаходзілася сярод балот і забалочаных месц, валокі даваліся сялянам астраўкамі па ўрочышчах ці «рэзанымі» валокамі. Інвентар адзначаў дрэнную якасць зямлі. У 1747 г. маёнтак Чалішчавічы, у Гарадзецкім ключы Кобрынскай эканоміі. У 1786 г. сяло ў Брэсцкай эканоміі, 15 валок зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска (складалася з 4 пасёлкаў: Забалацце, Вялічкавічы, Залескі і Добрае), 383 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі, 376 жыхароў (1885), у Гарадзецкай вол. У 1897 г. існавалі: выселак Чалішчавічы (Ляйцова), 5 жыхароў, дзейнічаў ветраны млын, і в. Чалішчавічы (Востра, Уміца, Пацы, Гальчыцы, Берынусы), 37 двароў, 239 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін. У 1905 г. ў вёсцы 418 жыхароў. У 1911 г. было 411 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Гарадзецкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 49 дамоў, 228 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа, вячэрнія курсы, праводзіліся нядзельныя чытанні. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Аніскавіцкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 277 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў Чалішчавічах 202 жыхары, у 1970 г. — 176 жыхароў. У 1999 г. 34 гаспадаркі, 68 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава (з 2004 ААТ «Аніскавічы»; цэнтр — в. Дубіны).

**ЧАРАВАЧЫЦЫ** — вёска ў Батчынскім с/с, каля р. Мухавец. За 8 км на З ад горада і чыг. ст. Кобрын, 45 км ад Брэста. На скрыжаванні аўтадарог на Жабінку, Брэст, Камянец, Кобрын. 27 гаспадарак, 62 жыхары (2005).

Вядомы з 15 ст. як уладанне князёў Кобрынскіх, у Кобрынскім княстве. У 1417 г. згадваецца царква Параскевы Пятніцы. У 1454 г. Чараваўчыцы — вотчынны маёнтак кобрынскага кн. Сямёна Раманавіча. Княгіня Ульяна (жонка князя) завяшчала свой дварэц Чаравачыцы і с. Грушава з сялянамі дачцэ Ганне (жонка Ф.Ул.Бельскага). 22.8.1945 г. вял. князь літ. Аляксандр сваім лістом пацвердзіў князёўне гэта ўладанне. З 1519 г., пасля смерці Ганны, Чаравачыцы — уладанне яе другога мужа В.Ст.Касцевіча; з 1532 г. ў Кобрынскай эканоміі, уладанне каралевы Боны. У 1563 г. Чаравачыцы — Двор, цэнтр Чаравачыцкай вол. (уваходзілі 4 войтаўствы), тэр. Патрыкаўскага войтаўства Кобрынскай эканоміі (войт Гацка Мешкавіч). Ворыва Двара Чаравачыцкага займала 37 валок зямлі. Размяшчаўся каля р. Мухавец — 2 вольныя валокі зямлі (дворны пляц, сад), меліся агарод, стайні, бровар. У дворным фальварку знаходзіліся гумно, агарод. Сенажаці займалі 4 валокі зямлі. Пры Двары дзейнічалі Пятніцкая царква (2 вольныя валокі зямлі), 2 млыны, налічваліся 20 агароднікаў (яны мелі па 13 маргоў зямлі), 15 гаспадарак дворных (сярод гаспадароў — 2 пекары, півавар, 3 ахоўнікі). У 1597 г. былі таксама памяшканні для жывёлы, збожжа, сена; пякарня, бровар, млыны, стайні, жылы дом, дом для чэлядзі, лазня і інш. пабудовы; сад, агароды, фальварак. Ворыва Двара Чаравачыцкага займала 30 валок зямлі. У 1724 г. Чаравачыцы — цэнтр аднайменнага ключа (уваходзілі Агароднікі Чаравачыцкія і 7 вёсак) Кобрынскай эканоміі.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1865 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. вёска Бендзюга (Чаравічыцы), 1 двор, 8 жыхароў, валаснное праўленне, у Прускаўскай вол. За 0,5 вярсты ад вёскі знаходзіліся 2 царквы праваслаўныя, капліца, школа. У 1888 г. Чаравачыцкі праваслаўны прыход налічваў 3228 вернікаў. У 1890 г. сядзіба Бендзюгі-Чаравачыцы, 499 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі; с. Чаравачыцы —



царк. прычт, 74 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі; маёнтак Чаравачыцы, уладанне Г.Смарагдавай, 93 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі (разам з маёнткам Анgоціна, 11 жыхароў у 1897). У 1897 г. існавалі: Чаравачыцы 1 — сяло, 5 двароў, 43 жыхары, царква, нар. вучылішча, царква на могілках, піцейная ўстанова; Бендзюга 1 (Чаравачыцы 2) — сядзіба Р.Кодла, 7 двароў; Бендзюга 2 (Чаравачыцы) — сядзіба Р.Глінскага, 13 жыхароў; Чаравачыцы 3 (Пад-Бендзюгі) — сядзіба Прускаўскага валаснога праўлення, 8 жыхароў; Чаравачыцы 4 — вартоўня пры пераправе цераз р. Мухавец, 1 жыхар. У нар. вучылішчы ў 1889/90 навуч. годзе займаліся 64 хлопчыкі, 4 дзяўчынкі; у 1892—93 гг. — 64 хлопчыкі, 10 дзяўчынак; у 1905—06 гг. — 40 хлопчыкаў, 13 дзяўчынак. У 1905 г. сяло, 30 жыхароў, і аднайменны маёнтак, 12 жыхароў. У 1911 г. сяло (царк. прычт, нар. вучылішча, валасное праўленне), 32 жыхары, і маёнтак, уладанне Мігуры, 15 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв.; вёска — 6 дамоў, 36 жыхароў, і фальварак — 12 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа і вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Батчынскім с/с. У 1940 г. хутары, 12 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў 1943 г. ням.-фаш. акупанты расстралялі 56 вяскоўцаў і спалілі вёску (18 двароў). Пасля вайны вёска адноўлена. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1975 г. ўстаноўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. Чаравачыцы налічвалі 64 жыхары, у 1970 г. — 90 жыхароў. У 1999 г. 27 гаспадарак, 67 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Ільіча» (з 2004 СВК «Батчы»; цэнтр — в. Батчы).

**ЧАРНІЧНАЕ** — вёска ў Тэвельскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 8 км ад чыг. ст. Тэўлі (на лініі Брэст—Баранавічы), 65 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе да шашы Кобрын—Высокае. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).



*Помнік воінам-землякам у в. Шамятоўка.*

У 1563 г. сяло ў Кобрынскай эканоміі. У 1890 г. існавалі ўрочышчы Чарнічна, Козі Брод і незаселеныя ўчасткі (99 дзес. зямлі), у Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. вёска Чарнічна, 60 жыхароў. З 1921 г. вёска Чарнічнае, ў складзе Польшчы, у Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 10 дамоў (6 з іх незаселеныя), 16 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Гарадзецкім с/с. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1970 г. вёска ў складзе Тэвельскага с/с, 28 жыхароў. У 1999 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе калгаса імя Гагарына (з 2004 СВК «Тэўлі»; цэнтр — в. Тэўлі).

**ШАМЯТОЎКА** — вёска ў Астроміцкім с/с, за 26 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 70 км ад Брэста. Каля шашы Мінск—Брэст. 101 гаспадарка, 271 жыхар (2005).

З 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 16.7. 1954 г. ў Іласкім с/с, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. 255 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 23 гаспадаркі аб'ядналіся ў кал-

гас імя Варашылава (старшыня М.Я.Селівончык). У 1965 г. на ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях з ням. акупантамі ў гады Вял. Айч. вайны, устаноўлены помнік. Паводле перапісу 1959 г. 109 жыхароў. У 1970 г. ў в. Шамятоўка (Вольная) 236 жыхароў, пабудаваны будынак праўлення калгаса. У 1999 г. 112 гаспадарак, 312 жыхароў, цэнтр калгаса «Праўда» (з 2004 СВК «Шамятоўка»). Працуюць сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад, Дом культуры, 2 магазіны, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб.


В.І.Іванюк.

**ШУРЫ** — вёска ў Гарадзецкім с/с, за 30 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 74 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Іванава. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

У 1847 г. Шуры — вёска аднайменнага маёнтка, уласнасць Грушаўскай праваслаўнай царквы, 2 двары, 28 жыхароў; на тэр. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Маёнтак налічваў 293 $^{1}/_{3}$ дзес. зямлі (з іх $^{1}/_{3}$ дзес. прыходзіліся на царк. прычт). У 1885 г. вёска ў Іласкай вол. таго ж павета, 60 жыхароў. У 1897 г. 11 двароў, 71 жыхар; 77 дзес. зямлі (на 1890). У 1905 г. ў вёсцы 69 жыхароў. У 1911 г. пасёлак, 59 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Іласкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 6 дамоў, 19 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Антопальскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзямідаўшчынскім, з 16.7.1954 г. ў Грушаўскім, з 21.1.1961 г. ў Гарадзецкім сельсаветах, з 8.8.1959 г. ў Кобрынскім р-не. У 1940 г. ў вёсцы 66 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. Шуры — хутары, 55 жыхароў; у 1970 г. — вёска, 48 жыхароў. У 1999 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе калгаса-камбіната імя Дзяржынскага (з 2004 ААТ «Гарадзец-Агра»; цэнтр — в. Гарадзец).

**ШЫПОВІЧЫ** — вёска ў Батчынскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад г. Кобрын, 5 км ад чыг. ст. Стаўпы (на лініі Брэст—Баранавічы), 50 км ад Брэста. 63 гаспадаркі, 163 жыхары (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв. ВКЛ. У 1563 г. Шыповічы — сяло Шыповіцкага войтаўства Кобрынскай эканоміі; 47 валок зямлі, з якіх 1 вольная валока была нададзена войту (Гардзей Бусловіч), 3 валокі — на асадзе (нададзены на 65 гадоў войту і М.Юшкавічу), 44 гаспадаркі. У 1597 г. сяло, 47 валок зямлі, засценак (11 маргоў зямлі), у Кобрынскім старостве. У 1679 г. сяло ў Чаравачыцкім ключы. Паводле прывілея вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Яна III Сабескага Францыск і Элеанора Умястоўскія атрымалі 8 $^{1}/_{4}$ пустыя валокі зямлі сяла. У 1744 г. Аўгуст III выдаў прывілей на 8 $^{1}/_{4}$ валокі зямлі на чыншу татарскаму харунжаму Мацвею Абрагімовічу. У 1786 г. сяло ў Кобрынскай эканоміі, 47 валок зямлі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска, 154 $^{1}/_{4}$ дзес. зямлі, і аднайменны маёнтак, уладанне Казіміра і Паўла Сцярпінскіх, 210 дзес. зямлі; у Прускаўскай вол. У 1897 г. ў вёсцы 51 двор, 381 жыхар, працавалі 2 хлебазапасныя магазіны; у маёнтку — 9 жыхароў. У 1905 г. вёска налічвала 425 жыхароў. У 1911 г. аднайменныя: вёска — 109 жыхароў, хутары — 379 жыхароў, 2 маёнткі (уладанні Міхалюка і Дудкі) — 11 і 12 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 26 дамоў, 155 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа, чытальня, харавы гурток. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. ў Батчынскім с/с. У 1940 г. хутары, 59 двароў, 284 жыхары. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. Шыповічы налічвалі 307 жыхароў, у 1970 г. — 169 жыхароў. У 1999 вёска, 64 гаспадаркі,



179 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Ільіча» (з 2004 СВК «Батчы»; цэнтр — в. Батчы).

У в. Шыповічы нарадзіўся В.І.Іванюк, дырэктар (з 1992) РУП «Кобрыннафтапрадукт».

**ЯГАЛКІ** — вёска ў Хідрынскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 48 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Макраны—Кобрын. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

У 1559 г. Ягалкі — маёнтак у Кобрынскім пав. ВКЛ, уладанне С.Слібоўскага, Федкі і Сідара Кісловічаў. Даследчык межаў і тэр. Кобрынскага пав. 16 ст. С.Віслаух лічыў Ягалкі «радавым гняздом» шляхецкага роду Кісловічаў. Як уладальнікі маёнтка Кісловічы ўпамінаюцца ў вайск. перапісе 1567 г. Пад 1588 г. маёнтак Ягальскі пазначаны ў дакументах Віленскага цэнтр. архіва. У 1631 г. маёнтак у Брэсцкім ваяв. У 1749 г. Ягалкі згадваюцца як Кіслыя, Верхава, Кружына і Хадынічы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Кобрынскім пав., з 1801 г. ў Гродзенскай губ. У 1890 г. вёска ў Прускаўскай вол., 66 дзес. зямлі. Побач знаходзіліся аднайменныя: маёнтак, уладанне Р.Кяскевіча, 130 дзес. зямлі, і аколіца, 329 $^{1}/_{2}$ дзес. зямлі (розныя ўладальнікі). У 1897 г. існавалі: в. Ягалкі 1 (пры балоце Лозэ), 11 двароў, 80 жыхароў; Ягалкі 2 — выселак Лейбы Рымлянда, 4 жыхары; маёнтак Ягалкі, 5 жыхароў; 3 аколіцы Ягалкі, 89 жыхароў. Дзве аколіцы знаходзіліся пры ўрочышчы Валока, трэцяя (самая вялікая, 46 жыхароў) — непасрэдна каля вёскі. У 1905 г. аколіца, 85 жыхароў. У 1911 г. аднайменныя вёска (68 жыхароў) і аколіца (82 жыхары) у Прускаўска-Раманаўскай вол. таго ж павета. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Прускаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 26 дамоў, 147 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Хідрынскім, з 16.7.1954 г. ў Пецькаўскім сельсаветах, з 18.12.1972 г. зноў у Хідрынскім с/с. У 1940 г. вёска, 35 двароў, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. ў в. Ягалкі 76 жыхароў, у 1970 г. — 25 жыхароў. У 1999 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе калгаса «Зара» (з 2004 СВК «Узыходзячая зара»; цэнтр — в. Хідры).

**ЯРОМІЧЫ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 58 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Кобрын—Івацэвічы. 263 гаспадаркі, 682 жыхары (2005).

У 1599 г. ўпамінаюцца Ерамічы. У 1886 г. Яромічы — вёска Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 11 двароў, 131 жыхар, 201 дзес. зямлі (на 1890); меліся Падалескае валаснoе праўленне, школа, царква, сінагога. У 1897 г. 29 двароў, 174 жыхары, дзейнічалі валаснoе праўленне, хлебазапасны магазін, кузня, піцейны дом, Падалескае нар. вучылішча, у якім у 1889/90 навуч. годзе займаліся 64 хлопчыкі, у 1892—93 гг. —



*Свята-Міхайлаўская царква ў в. Яромічы.*

63 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі, у 1905—06 гг. — 69 хлопчыкаў, 9 дзяўчынак. У 1911 г. 276 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 30 дамоў, 129 жыхароў. У 1905 г. 178 жыхароў. У 1930-я г. працавалі школа і вячэрнія курсы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. — цэнтр сельсавета тых жа раёна і вобласці, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім с/с. У 1940 г. ў в. Яромічы 60 двароў, 188 жыхароў, дзейнічалі МТС, няпоўная сярэдняя школа, сельпо, магазін, хата-чытальня, аддз. сувязі, амбулаторыя, сельсавет (меўся тэлефон). У склад Яроміцкага с/с уваходзілі 23 населеныя пункты, 2967 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У 1949 г. 30 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «Свабода» (старшыня Р.М.Давыдзюк). Паводле перапісу 1959 г. Яромічы налічвалі 206 жыхароў, у 1970 г. — 321 жыхара. У 1999 г. 271 гаспадарка, 840 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (з 2004 СВК «Пакроўскі»; цэнтр — в. Бухавічы). Ёсць магазін, дзіцячы сад, б-ка, амбулаторыя. Помнік архітэктуры — Свята-Міхайлаўская царква.

**ЯЎСІМАВІЧЫ** — вёска ў Бухавіцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Кобрын, 60 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе і далей па шашы Кобрын—Лунінец. 96 гаспадарак, 230 жыхароў (2005).

У 1707 г. згадваецца с. Яўхімавічы. У 1897 г. Яўсімавічы — вёска ў Падалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., 58 двароў, 393 жыхары, дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня; 380 дзес. зямлі (на 1890). Побач знаходзілася аколіца Яўсімавічы (Жукаўцы), 204 дзес. зямлі (на 1890, розныя ўладальнікі). У 1905 г. ў вёсцы 447 жыхароў. У 1911 г. 493 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Падалескай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 36 дамоў, 187 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Кобрынскім р-не Брэсцкай вобл., 12.10.1940 г. ў Яроміцкім, з 19.7.1976 г. ў Бухавіцкім сельсаветах. У 1940 г. Яўсімавічы налічвалі 63 двары, 298 жыхароў. У Вял. Айч. вайну вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Паводле перапісу 1959 г. 290 жыхароў, у 1970 г. — 275 жыхароў. У 1999 г. вёска, 93 гаспадаркі, 226 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (з 2004 СВК «Мінянскі»; цэнтр — в. Мінянка).

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 2124, 2307, 2312, 2317, 2487; воп. 28, спр. 228; ф. 30, воп. 5, спр. 6763; воп. 9, спр. 2267, 2378, 2387; ф. 96, воп. 1, спр. 84; ф. 242, воп. 1, спр. 3.

Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 14, воп. 1, спр. 86, 87, 205, 408, 419, 640, 659; ф. 31, воп. 3, спр. 163, 164, 204, 216; ф. 96, воп. 1, спр. 111, 392, 627; ф. 1829, воп. 1, спр. 205; ф. 1928, воп. 1, спр. 36—38, 132, 205.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 822, воп. 12, спр. 2943; ф. 1290, воп. 11, спр. 536, 540, 640.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 9, ч. 3. Гродненская губерния. СПб., 1849.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 1. СПб., 1863.

Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском..., составленная старостою мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 г. Вильна, 1867.

Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 6. Вильна, 1873; Т. 11. Вильна, 1880.



Ревизия Кобринской экономии, составленная в 1563 г. королевским ревизором Дмитрием Сапегою. Вильна, 1881.
Литовская метрика. Государственный отдел Великого княжества Литовского при Правительствующем Сенате: Грамоты и регестры из собрания «древних актов», писанных на пергаменте на литовско-русском, латинском, нижнегерманском, старочешском и польском языках / Сост. Л.М.Зельверович. Т. 1. Акты литовские 1487—1589. СПб., 1883.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 13—14. Вильна, 1886—87.
Памятная книжка Гродненской губернии на 1887 г. Гродно, 1887.
Памятная книжка Гродненской губернии на 1888 г. Гродно, 1888.
Памятная книжка Гродненской дирекции народных училищ на 1889/90 учебный год. Гродно, 1889.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 17. Вильна, 1890.
Список землевладений Гродненской губернии. Гродно, 1890.
Памятная книжка Гродненской дирекции народных училищ на 1892/93 учебный год. Гродно, 1892.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892].
Акты Литовской Метрики / Собр. Ф.И.Леонтовичем. Т. 1, в. 2. 1499—1507. Варшава, 1897.
Спрогис И. Виленский Центральный Архив древних актовых книг. Вильна, 1901.
Указатель населенным местностям Гродненской губернии. Гродно, 1905.
Памятная книжка Гродненской дирекции народных училищ на 1905/06 учебный год. Гродно, 1905.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 33. Вильна, 1908; Т. 35. Вильна, 1910.
Опись документов Виленского центрального архива древних актовых книг. Вып. 10. Вильна, 1913.
Майзель Л.Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей. Мн., 1934.
Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізму. № 1. Мн., 1934.
Газета «Труд», 10 марта 1946 г.; 1 янв., 3, 22 июня, 7 нояб. 1947 г.; 28 марта, 29 авг., 19, 23, 26 сент., 3, 7, 14, 24, 31 окт. 1948 г.; 27, 30 янв., 18 мая, 30 июня, 11, 14, 21, 25 авг., 1, 4, 8 сент., 20, 30 окт., 6, 20 нояб., 15 дек. 1949 г.; 6—12 февр., 8, 11, 16, 23 марта, 2, 9 апр., 15 июня 1950 г.
Газета «Перамога», 28 сак., 27 ліст. 1946 г.; 24 жн. 1947 г.; 29 лют., 5 вер. 1948 г.; 12, 17 лют., 20 сак., 16 чэрв., 1, 8, 18, 25 вер., 6, 9 кастр., 17 ліст., 21 снеж. 1949 г.; 8, 19 сак., 9, 24, 31 снеж. 1950 г.
Газета «Ленінскі прызыў», 12, 26 чэрв., 7 ліст. 1947 г.; 11, 16, 18 сак. 1948 г.; 28 ліп., 18, 22 вер., 9 кастр., 13, 17, 30 ліст., 21 снеж. 1949 г.; 15 студз., 25 чэрв., 7 вер. 1950 г.
Газета «Ленінскі шлях», 24 ліст. 1949 г.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1—4. Мн., 1959—79.
Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962.
Павлов Я.С. В суровом сорок первом. Мн., 1985.
Прамысловыя прадпрыемствы дарэвалюцыйнай Беларусі. Мн., 1988.
Цітоў А.К. Гарадская геральдыка Беларусі. Мн., 1989.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.
Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941—1945: Энцыкл. Мн., 1990.
Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.
Якимович Ю.А.Зодчество Белоруссии XVI — середины XVII в.: Справ. пособие. Мн., 1991.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мн., 1993—2003.
Нарбут А.Н. Генеалогия Белоруссии. Вып. 2 (XVI—XVIII вв.). М., 1994.
Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1994.
Литовская метрика. Кн. 11 (1518—1523). Книга записей 11 / Подготовил А.Дубонис. Вильнюс, 1997.
Памяць: Драгічынскі р-н. Мн., 1997.
Памяць: Жабінкаўскі р-н. Мн., 1999.





Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 2000.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 2001.
Памяць: Кобрынскі р-н. Мн., 2002.
Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2004.
Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 3—4. Warszawa, 1882—83; T. 12. Warszawa, 1892.
Maliszewski E. Przewodnik po Gubernii Grodzieńskiej. Zarys statystycznoopisowy. Warszawa, 1919.
Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 8. Województwo Poleskie. Warszawa, 1924.
Szkolnictwo Powszechne w roku szkolnym 1922/23. Warszawa, 1925.
[Sprogis I.] Inwentarz do akt Archiwum Akt Dawnych. Wilno, 1929.
Wysłouch S. Rozwój granic i terytorjum powiatu Kobryńskiego do połowy XVI wieku. Wilno, 1930.
Skorowidz gmin Rzeczypospolitej Polskiej. Warszawa, 1933.



ГАНЦАВІЦКІ РАЁН
МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
ПІНСКІ РАЁН
СТОЛІНСКІ РАЁН
Маштаб 1:500 000
52°30'
52°10'
26°30'
27°00'
27°30'
ЛУНІНЕЦ
МІКАШЭВІЧЫ
Мал. Чучавічы
Вял. Чучавічы
Перадзел
Луг
Кормуж
Навасёлкі
Баравікі
Велута
Люшча
Баранавічы
Ганцавічы
Тожава
Падбалоцце
Бастынь
Замошша
Занавінскае
Крывеч
Вышнія Дзятлавічы
Багданаўка
Галы Бор
Міжлессе
Чырв. Воля
Вулька 2
Засценак
Барсукова
Добрая Воля
Дзятлавічы
Купаўцы
Яварова
Лодзіна
Флярова
Брэст
Лобча
Лунін
Палескі
Мелясніца
Бараўцы
Бродніца
Сяродбор'е
Перынова
Баркі
Купаўшчына
Урэчча
Радзігерава
Азярніца
Поле
Дзятлы
Манасеева
Дубаўка
Вулька 1
Лоўча
Вітчын
Дварэц
Любачын
Абруб
Сасноўка
Язвінкі
Аборкі
Чарабасава
Сітніцкі Двор
Моршчынавічы
Яжаўкі
Цна
Падмарочнае
Дрэбск
Любажэрдзе
Ракітна
Лахва
Мокрава
Сінкевічы
Гомель
Пясчанікі
Любань
Кажан-Гарадок
Вострава
Лутавень
Ваган
Сітніца
Рачны порт Мікашэвічы
Запросе
Лахаўка
Бабы
Намакрава
Града
Прыпяць
Случ
Бобрык
Цна



# ЛУНІНЕЦКІ РАЁН

Размешчаны на У Брэсцкай вобл. Пл. 2,8 тыс. км², насельніцтва (без Лунінца) 53,1 тыс. чал. (2005). Цэнтр — г. Лунінец. Паверхня тэр. раёна нізінная, пераважаюць вышыні ў 130—145 м над узроўнем мора. Найвышэйшы пункт 154 м. Карысныя выкапні: 4 радовішчы торфу (107 млн. т), 2 радовішчы будаўнічага каменю (4324 млн. м³), радовішча кааліну сітніна (9,1 млн. т). Працякае р. Прыпяць з прытокамі Случ (з Валхвой), Лань, Смердзь, Цна, Бобрык-1 і інш. Возера Белае. Пад лесам 42% тэр. раёна. Праходзяць чыгункі Брэст—Калінкавічы, Баранавічы—Сарны, аўтадарогі Пінск—Жыткавічы, Ганцавічы—Лунінец. Чыг. вузел Лунінец. Рачны порт і пункт мытнага афармлення Мікашэвічы.

Раён утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Пінскай вобл. 12.10.1940 г. быў падзелены на 19 сельсаветаў: Бастынскі, Бродніцкі, Валуцкі, Вулькаўскі, Вулькаўскі-2, Гарадоцкі (Кажан-Гарадок), Гаўрыльчыцкі, Гоцкі, Дварэцкі, Дзятлавіцкі, Дрэбскі, Краснавольскі, Лаўганскі, Лахвенскі, Лугоўскі, Лунінскі, Любачынскі, Чучавіцкі, Язвінскі. Тэр. раёна напачатку мела пл. 1960,2 км², насельніцтва 56 788 чалавек. У горадзе было 10 566 жыхароў, 1475 жылых будынкаў. Прамсць раёна (за выключэннем Лунінца) налічвала 5 лесапільных з-даў (190 рабочых). У г. Лунінец працавалі электрастанцыя (167 кВт), 2 паравыя млыны. Аснову эканомікі складала сельская гаспадарка: 9863 гаспадаркі, у т.л. 959 хутароў. Ворнай зямлі было 21 500 га, лугоў і пашы — 48 325 га, лесу — 73 300 га, 38 школ, 1 амбулаторыя, у райцэнтры працавалі 2 няпоўныя сярэднія і 3 пач. школы, Дом культуры, бальніца, 2 амбулаторыі, ветлячэбніца, пошта, тэлеграф. Раней на тэр. раёна знаходзіліся 10 памешчыцкіх маёнткаў. У 1940 г. ў раёне распачалася калектывізацыя. Да 1.3.1940 г. дзейнічалі 2 калгасы (вёскі Дрэбск, Цна), Лунінецкая МТС. У ліп. 1940 г. было ўжо 5 калгасаў. З 17.10.1939 г. выдавалася газ. «Авангард» (рэдактар І.Х.Загальскі). З 10.7.1941 г. тэр. раёна акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі тут каля 16,6 тыс. чал., 2319 вывезлі ў Германію, спалілі 10 вёсак (в. Белае Возера не адрадзілася). Кантроль над акупіраванай тэр. забяспечвалі ням. гарнізоны і паліцэйскія ўчасткі. Гарнізон у Лунінцы налічваў не менш за 750 салдат і афіцэраў, у Мікашэвічах — 250, у Дрэбску і Кажан-Гарадку — да 100, Бастыні і Сітніцы — да 35 у кожнай з вёсак, у Вял. Чучавічах — 30 паліцэйскіх, Лахве — да 80 немцаў, Сінкевічах — 50 немцаў, 40 паліцэйскіх. У горадзе і наваколлі існавалі некалькі лагераў для ваеннапалонных, у якіх знішчаны 3242 чал. Месцамі масавага знішчэння жыхароў Лунінца сталі ўрочышчы Мачула, Бараўшчына, Баханова. Ад рук акупантаў і іх памагатых загінулі 5384 чал. гарадскога насельніцтва, у т.л. 4244 яўрэі. Ад карнікаў пацярпелі 19 населеных пунктаў раёна.

Барацьбу з акупантамі на тэр. Лунінецкага р-на вялі партыз. брыгады імя С.М.Кірава, партыз. атрады 200-ы, Лунінецкі, «Храбрацы», дзейнічалі Лунінецкія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, патрыятычныя падп. арг-цыі, выдавалася газ. «Авангард».



*Памятны знак у гонар заснавання г. Лунінец.*





*Помнік Я.Коласу ў г. Лунінец.*



*Сучасны герб г. Лунінец.*

Раён вызвалены 10.7.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту і Дняпроўскай ваеннай флатыліяй у ходзе наступлення на Баранавіцка-Брэсцкім напрамку. 7 вайск. часцям, што вызначыліся пры вызваленні горада і раёна, нададзены найменні «Лунінецкіх».

З 8.1.1954 г. раён у складзе Брэсцкай вобл. 20.7.1960 г. далучаны Любанскі, Мікашэвіцкі, Радзігераўскі, Сінкевіцкі сельсаветы і р.п. Мікашэвічы са скасаванага Ленінскага р-на. 14.8.1979 г. Гаўрыльчыцкі с/с перададзены Салігорскаму р-ну. На 1.1.2006 г. ў раёне 11 сельсаветаў: Багданаўскі, Бастынскі, Вулькаўскі, Гарадоцкі, Дварэцкі, Дзятлавіцкі, Лахвенскі, Лунінскі, Радзігераўскі, Сінкевіцкі, Чучавіцкі і Мікашэвіцкі гарсавет.





*Аўтастанцыя ў г. Лунінец.*

С.-г. ўгоддзі раёна займаюць 34% тэрыторыі. Развіты мяса-малочная жывёлагадоўля, свінагодоўля. Вырошчваюць зерневыя і кармавыя культуры. Рыбаводства. Прадпрыемствы будаўнічых матэрыялаў («Граніт», «Спецжалезабетон», «Кварц»), хімічнай («Палімер», «Кісларод-К»), лясной і дрэваапрацоўчай («Лунінецлес»), харч. прам-сці. У раёне дзейнічаюць: 16 калгасаў, саўгас, Палеская доследна-меліярацыйная станцыя, дзярж. прафес.-тэхнічны каледж с.-г. вытв-сці, ліцэі агульнаадукацыйны і прыборабудавання, 1 гімназія, 28 сярэдніх, 9 базавых, 3 пач., 7 муз. школ, 5 участковых, 1 раённая бальніца ў г. Луні-





нец (філіял у Мікашэвічах), вузлавая бальніца на чыг. ст. Лунінец, 2 паліклінікі, 10 урачэбных амбулаторый, абласны дзіцячы цэнтр медыцынскай рэабілітацыі «Лахва», 24 фельч.-акушэрскія пункты, 41 клубная і 46 бібліятэчных устаноў, 14 кінаўстановак, 37 аддз. сувязі. Выдаецца газ. «Лунінецкія навіны».

На тэр. раёна знаходзяцца археал. помнікі: селішча ранняга жал. веку (в. Лахва), гарадзішчы (в. Кажан-Гарадок). Брацкія магілы сав. воінаў і партызан у вёсках Бастынь, Вял. Чучавічы, Лунін, Мокрава, Сінкевічы; партыз. могілкі каля в. Сітніцкі Двор; магілы ахвяр фашызму ў вёсках Бастынь, Дзятлавічы, Кажан-Гарадок, Лахва, Ракітна, Сітніцкі Двор, Чарабасава; помнікі: ахвярам фашызму ў в. Мелясніца, на месцы спаленай в. Белае Возера, падпольшчыкам у в. Сінкевічы, у гонар Лунінецкіх падп. райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба партыз. брыгады імя С.М.Кірава (в. Сітніцкі Двор). Помнікі архітэктуры — цэрквы: Георгіеўская (каля 17—18 ст.) у в. Сінкевічы, Мікалаеўская (1818) у в. Кажан-Гарадок, Барысаглебская (1824) у в. Лунін, Пакроўская (1846—51) у в. Вял. Чучавічы, Праабражэнская (1910) у в. Язвінкі, лазня (1905) у пас. Палескі. Працуе раённы краязнаўчы музей (адкрыты ў 1986).

**ЛУНІНЕЦ** — горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. Вузел чыгунак на Брэст, Гомель, Баранавічы, Сарны. За 240 км на У ад Брэста, 262 км ад Мінска, Аўтадарогамі звязаны з Пінскам, Ганцавічамі, Калінкавічамі. 23,8 тыс. чалавек (2005).

Упершыню ўпамінаецца ў 1449 г. пад назвай Малы Лулін — сяло маёнтка Ішкалдзь у Навагрудскім пав. ВКЛ, уласнасць Мікалая Янавіча Няміры. Заснаваўшы ў маёнтку касцёл, ён вызначыў для яго 2 сям'і з с. Малы Лулін. У 1552 г. ўдава апошняга з Неміровічаў (Яна Пятровіча) Ганна з роду Сапегаў передала правы на маёнткі прыёмнаму сыну полацкаму ваяводу Станіславу Давойну. Каля 1571 г. Лулінец Малы — сяло Палескай вол. маёнтка Ішкалдзь, 43 дымы. З 1580 г. Лулінец Малы — двор, цэнтр маёнтка Навагрудскага пав., уласнасць кн. Паўла Янушавіча Друцкага-Любецкага, у

*Помнік землякам, якія загінулі ў Афганістане, у г. Лунінец.*

*Прывакзальная плошча ў г. Лунінец.*



*Вакзал чыгуначнай станцыі Лунінец.*





*Лунінецкая раённая паліклініка.*



*Крыжаўзвіжанская царква ў г. Лунінец.*

1588 г. — Барбары Кунцэвіч, жонкі падскарбія ВКЛ Мікалая Нарушэвіча. У Лулінцы тады налічвалася 75 дымоў, праваслаўная царква, палац. З пач. 16 ст. тут дзейнічала праваслаўнае брацтва. Пад 1620 г. сяло Малы Лулінец — уласнасць Канстанціна Багданавіча Долмата. У маёнтку 122 валокі. Паселішча Лулінец падзялялася на 3 часткі: Любазедзя, З'елы, Ясенаўка. Першая мела 62 валокі і 44 агароды (плыця), другая — 14 валок, трэцяя — 2 валокі і 9 агародаў. 5,5 валокі былі пустымі, 2 — належалі царкве. Усяго лічылася 127 двароў. У 1622 г. маёнткі Долмата, у т.л. Лулінец, перайшлі ва ўласнасць Дзятлавіцкага мужчынскага праваслаўнага манастыра паводле яго завяшчання. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Пінскім пав. Мінскай губ. У 1795 г. 75 двароў, 624 жыхары. У 1811 г. на сродкі прыхаджан пабудавана Крыжаўзвіжанская царква, пры ёй пазней склалася значная бібліятэка. Пазней на месцы старой царквы ўзведзена новая каменная той жа назвы (закладзена ў 1912). Пры яе аздабленні вял. майстэрствам вызначыліся мясц. майстры: рэзчык Сцяпан Ішчанка (рамы ківота алтара), яго сыны Міхаіл і Георгій, якія выканалі роспіс сцен і столі, напісалі шэраг абразоў. У 1845 г. 714 жыхароў, 90 цяглых і 2 бабыльскія двары, 375 душ мужчынскага полу і 412 жаночага сялян казённых падушных (былых манастырскіх). У 1870-я г. 5% адукаваных. На пач. 1880-х г. тут узнікла яўр. абшчына. Яе далейшы рост быў абумоўлены пракладкай праз Лунінец Палескіх чыгунак і будаўніцтвам вузлавой чыг. станцыі (1884—86). На пач. 20 ст. Лунінец — буйнейшае паселішча рэгіёна.

Паводле перапісу 1897 г. тут налічвалася 855 двароў, 3167 жыхароў. Дзейнічалі майстэрні па рамонце рухомага саставу і дэпо, у якіх у 1900 г. працавалі 239 рабочых. Існавалі царква і Свята-Міка-



*Камбінат бытавога абслугоўвання ў г. Лунінец.*



*Лунінецкі хлебазавод.*





*Плошча імя Леніна ў г. Лунінец.*

лаеўскае брацтва пры ёй, яўр. малітоўны дом, урачэбны прыёмны пакой, заезны двор, 3 харчэўні, 4 піцейныя дамы, 19 гандл. крам, 2 млыны, чыг. вучылішча. У 1860-я г. засн. нар. аднакласнае вучылішча (у 1891 навучаліся 38 хлопчыкаў, 7 дзяўчынак, настаўнік Ф.В.Шыш), у 1890 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа (20 дзяўчынак, 30 хлопчыкаў, настаўнік Л.Радзялоўскі). 1.1. 1906 г. вучылішча пераўтворана ў двухкласнае сельскае. У 1909 г. з яго выдзелена адна-, потым двухкласнае жаночае вучылішча (у 1915 мела 2 будынкі). Далей паселішча (пры станцыі ўзнік рабочы пасёлак) і яго прам. значэнне паспрыялі ўзняццю пытання аб наданні мяст. Лунінец статуса горада. 16.1.1901 г. сход сельскай абшчыны даў згоду на ўвядзенне ў Лунінцы гарадского ўпраўлення. Гэта не задавальняла яўр. абшчыну. Задобрыўшы неадукаванае сялянства і валаснога старшыню мізэрнай сумай грошаў (па 50 капеек) і гарэлкай (вядро з чвэрцю), яны сарвалі паўторнае галасаванне (12.8. 1901).

У 1902 г. пабудаваны шпалапрамочвальны з-д, разбураны палякамі ў 1920-я г.: частка цэглы была выкарыстана на касцёл, астатняе забралі яўрэі-домаўласнікі. Узрастала інтэнсіўнасць грузаабароту. У 1900 г. перавезена больш за 5,5 млн. пудоў, у 1904 г. каля 6,5 млн. пудоў хлебных і лясных грузаў. За перыяд з 1895 па 1908 гг. колькасць адпраўленых грузаў праз вузлавую ст. Лунінец узрасла ў 34,6 раза. У 1907 г. праведзена карэнная рэканструкцыя станцыі.

У 1905 г. вёска стала мястэчкам, у якім было каля 7 тыс. жыхароў. У кастр.—снеж. 1905 г. адбылася забастоўка чыгуначнікаў і тэлеграфістаў. Рэв. хваляванні адбываліся і ў 1911—12 гг. З ліст. 1911 г. да лютага 1912 г. ў Лунінцы жыў і працаваў Я.Колас, тут ён пачаў пісаць паэму «Сымон-музыка» (імем паэта названа вуліца). У 1916 г. ў Лунінцы быў М.Фрунзе, табельшчыкам 13-й інжынерна-будаўнічай дружыны 7 месяцаў працаваў на ўзвядзенні абарончых збудаванняў рус. паэт А.Блок (яго імем названа вуліца; у саўгасе «Парахонскі», у в. Колбы, дзе



*РУП «Палессеэлектрамаш» у г. Лунінец.*




*Цэнтральны рынак у г. Лунінец.*


*Панарама г. Лунінец.*

кватараваў Блок, створаны музей паэта). На тэр. Лунінца дзейнічала падп. бальшавіцкая арг-цыя (кіраўнік І.Любімаў). 28.10(10.11).1917 г. ў горадзе абвешчана сав. ўлада. У лістападзе адбыўся І з'езд Саветаў Пінскага пав. 18.2.1918 г. Лунінец акупіраваны герм. войскамі, вызвалены 9.1.1919 г. Чырвонай Арміяй і партызанамі. 10.7.1919 — 10.7.1920 гг. і з 3.10.1920 г. акупіраваны польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. цэнтр Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. Дзейнічаў падп. райком КПЗБ. З 1939 г. ў БССР, 8,3 тыс. жыхароў. З 15.1.1940 г. цэнтр Лунінецкага р-на Мінскай вобл.

У Вял. Айч. вайну з 10.7.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе і раёне 16 637 чал., вывезлі на катаргу ў Германію 2319 чал. У дэпо дзейнічала падп. група, якая ўзарвала радыёстанцыю, вадакачку, некалькі паравозаў.

З 7.3.1963 г. горад абласнога падпарадкавання. У 1970 г. 14,3 тыс. жыхароў. Прам. прадпрыемствы: з-ды «Палессеэлектрамаш», рамонтна-механічны, акц. т-вы «Лунінецкі малочны з-д», «Лунінецлес», дрэваапрацоўчы камбінат, лакаматыўнае дэпо (усяго каля 10 прадпрыемстваў). Дзейнічаюць прафес.-тэхнічны каледж с.-г. вытв-сці, ліцэі агульнаадукацыйны і прафесійны прыборабудавання, 4 сярэднія і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, школа мастацтваў, 7 дзіцячых садоў-ясляў, Цэнтр нар. творчасці, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, Дом культуры, 2 б-кі, Дом дзіцячай і юнацкай творчасці, кінатэатр, раённы краязнаўчы музей, 2 бальніцы, 2 паліклінікі, аўтавакзал, стадыён «Ураджай». Брацкія магілы сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, курган Бессмяротнасці. Помнік архітэктуры — Крыжаўзвіжанская царква (пач. 20 ст.).

У гады Паўн. вайны ў Лунінцы па загаду Пятра І працаваў вядомы гісторык В.М.Тацішчаў, які кіраваў пабудовай на

*Ансамбль балалаечнікаў Лунінецкай дзіцячай музычнай школы.*





р. Бобрык некалькіх рачных суднаў, адліўкай гармат (каля 300). Усё было перапраўлена ў Кіеў. Тут нарадзіўся філолаг і лінгвіст П.Ціхановіч, аўтар «Беларускай граматыкі». У 1918—20 гг. у чыг. вучылішчы выкладаў матэматыку выдатны авіяканструктар, двойчы Герой Сац. Працы П.В.Сухі.

**АБОРКІ** — вёска ў Гарадоцкім с/с. За 16 км на У ад Лунінца, 9 км ад чыг. ст. Лахва. 11 гаспадарак, 35 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 88 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 42 жыхары. Пасля 1986 г. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 11 гаспадарак, 35 жыхароў, у калгасе-аграфірме «Маяк».

**АБРУБ** — вёска ў Лахвенскім с/с. За 19 км на У ад Лунінца 5 км ад чыг. ст. Лахва, на р. Смердзь. 39 гаспадарак, 89 жыхароў (2005).

Узнікла ў 1908 г. на асушаных землях маёнтка Лахва (адруб), у Лахвенскай вол. Мазырскага пав. Пасля 1986 г. вёска знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 1994 г. 52 гаспадаркі, 144 жыхары, магазін. У 2002 г. 50 гаспадарак, 101 жыхар, у калгасе «Перамога».

**АЗЯРНІЦА** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 15 км на ПнУ ад Лунінца, 8 км ад чыг. ст. Лахва, на аўтадарозе Бродніца—Лахва, на р. Выдранка. 233 гаспадаркі, 609 жыхароў (2005).

З 16 ст. сяло маёнтка Лахва ў Навагрудскім пав. ВКЛ. Належала Радзівілам, Кішкам, потым Вітгенштэйнам. У 1626 г. налічвалася 38 валок зямлі, у 1743 г. было 44 дымы, сяляне мелі 84 валы, 17 коней. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 3.5.1975 г. ў Мінскім намесніцтве, з 12.12.1796 г. ў Мінскай губ., з 1861 г. ў Лахвенскай вол. Мазырскага пав. У 1870 г. вёска ў складзе маёнтка Любачын кн. Вітгенштэйна, 138 душ, адносілася да Лахвенскага праваслаўнага прыхода. 1.11.1885 г. адчынена царк.-прыходская школа (настаўнік К.Радкоўскі). У 1909 г. ў вёсцы было 115 двароў, 884 жыхары. З 18.3.1921 г. ў Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1923 г. было 140 двароў, 967 жыхароў. На пач. 1930-х г. працавалі цагельны з-д (2 рабочыя), млын (2 рабочыя). Вызвалена ў вер. 1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі.

З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Дварэцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл., створаны калгас «Зара». У ліп. 1941 г. Азярніца акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1943 г. хутары ў наваколлі вёскі спалены, загінулі 52 жыхары. Вызвалена войскамі 55-й



*Помнік авіяканструктару П.В.Сухому ў г. Лунінец.*



*Стадыён «Палессе» ў г. Лунінец.*


*Герб в. Багданаўка.*

стралк. дывізіі 61-й арміі 9.7.1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 60 жыхароў вёскі. Пасля вайны аднавіў працу калгас «Зара». З 1950 г. ў калгасе «Сацыялізм». З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 700 жыхароў. У 1960-я г. электрыфікавана, пабудаваны цагельны з-д міжкалгасбуда. З канца 1980-х г. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, базавая школа, клуб, 2 магазіны.

**БАБЫ** — вёска ў Гарадоцкім с/с. За 20 км на ПдУ ад Лунінца, 10 км ад чыг. ст. Лахва, на р. Цна. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2005). Паводле перапісу 1959 г. 57 жыхароў, у 1970 г. — 73 жыхары. У 2002 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў, у аграфірме «Маяк».

**БАГДАНАЎКА** — вёска, цэнтр Багданаўскага с/с. За 30 км на ПнЗ ад Лунінца, 18 км ад чыг. ст. Лоўча. 651 гаспадарка, 2004 жыхары (2005).

У 1800 г. фальварак і вёска ў Пінскім пав., 51 сял. двор, 2 двары чыншавай шляхты; 304 душы сялян, 11 — шляхты. Пасля 1861 г. ў Пагост-Загародскай вол. таго ж павета. У 1909 г. ў фальварку было 2 двары, 8 жыхароў; у вёсцы — 168 двароў, 1210 жыхароў. У 1886 г. сяло, 60 двароў, 589 жыхароў, дзейнічала праваслаўная царква.

7.7.1919—10.7.1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, з 6.12.1922 г. — Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1923 г. лічылася 211 двароў, 1321 жыхар. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лунінецкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У 1941 г. было 409 двароў, 1637 жыхароў. У пачатку ліп. 1941 г. Багданаўка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. ў раёне вёскі базіраваліся атрады партыз. брыгады імя С.М.Кірава Пінскага злучэння, існаваў сямейны лагер для мясц. жыхароў. У сярэдзіне крас. 1944 г. ў час блакады партызан атрада «За радзіму» карнікі спалілі 395 двароў, знішчылі 34 жыхароў, у Лунінецкі лагер быў вывезены 91 жыхар. Каля вёскі існаваў таксама лагер для італьянскіх ваеннапалонных. Вызвалена 10.7.1944 г. войскамі 55-й гв. стралк. дывізіі 28-й арміі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 65 жыхароў. Пасля вайны вёска адрадзілася. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. З 11.8.1980 г. — цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на. У 1970 г. 503 гаспадаркі, 2352 жыхары, дзейнічалі лясніцтва, філіял райкамбіната быт. абслугоўвання. У вёсцы 23 вуліцы. У 2002 г. 658 гаспадарак, 2047 жыхароў, цэнтр калгаса «Гігант». Працуюць лясніцтва, 2 участкі аб'яднання «Лунінецлес», машынны двор, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, амбулаторыя, 3 магазіны, клуб, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання, філіял «Беларусбанка», аддз. сувязі, АТС. Брацкая магіла 6 партызан (на могілках), праваслаўная царква (пабудавана з каменю ў канцы 1990-х г. на месцы былой драўлянай).

**БАРАВІКІ** — вёска ў Чучавіцкім с/с. За 41 км на ПдУ ад Лунінца, 23 км ад чыг. ст. Бастынь на лініі Лунінец—Баранавічы, на аўтадарозе Вял. Чучавічы—Вулька-2. 127 гаспадарак, 288 жыхароў (2005).

У 1626 г. сяло маёнтка Лахва, уласнасць Альбрэхта Уладзіслава Мікалаевіча Радзівіла. У 1785 г. было 8 двароў. У 1795 г. у сумесным валоданні Радзівіла (7 двароў) і Шчыта (10 двароў). Пасля 1861 г. ў Лунінецкай вол. Пінскага пав. У 1870 г. лічылася 38 душ сялян. У 1840-я г. у маёнтку былі праведзены асушальныя работы, што палепшыла шляхі зносін вёскі. Гэтыя работы працягваліся і ў канцы стагоддзя. На пач. 20 ст. ў вёсцы 26 двароў, 246 жыхароў, працавала пач. нар. вучылішча. З ліп. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з кастр. 1920 г. занята польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай (з 1928 Лунінецкай) гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. занатаваны фальварак Баравікі — 7 жыхароў і аднайменная вёска — 37 двароў, 218 жыхароў. З канца 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г.



ў Чучавіцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл., была школа. У 1941 г. 98 двароў, 627 жыхароў. У ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1942 г. ням. акупанты спалілі 92 двары, загубілі 3 жыхароў. Вызвалена ў ліп. 1944 г. У баях з гітлераўцамі загінулі 9 жыхароў. Пасля вайны ў 1949 г. створаны калгас імя Малянкова (з 1959 імя Леніна). Да пач. 1970-х г. электрыфікавана. У 1994 г. было 148 гаспадарак, 355 жыхароў, базавая школа. У 2002 г. 134 гаспадаркі, 314 жыхароў, у калгасе імя Леніна. Працуюць базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін, паштовае аддз., лясніцтва. Магіла партызана В.А.Жыбурта (абеліск устаноўлены ў 1980).

**БАРАЎЦЫ** — вёска ў Дзятлавіцкім с/с. За 10 км на ПдУ ад Лунінца, на р. Цна, 10 км ад чыг. ст. Дзятлавічы. 133 гаспадаркі, 363 жыхары (2005).

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) вёска ў Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав., адносілася да маёнтка Кажан-Гарадок памешчыка Шчыта. У 1800 г. вёска Бараўня, 8 двароў, 42 душы сялян. У 1870 г. было 35 душ сялян, вёска адносілася да Дзятлавіцкага праваслаўнага прыхода. На пач. 20 ст. ў вёсцы меўся 41 двор, 286 жыхароў (1908). У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1923 г. ў вёсцы было 48 двароў, 322 жыхары. З 23.3.1928 г. ў Лунінскай гміне таго ж павета. З канца 1939 г. ў БССР, было 407 жыхароў, працавала школа, у 1930 г. — 389 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Лунінецкім р-не Пінскай вобл. У ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя (6 чал.). Ад рук карнікаў загінулі 8 жыхароў, 22 — на франтах вайны. Бараўцы вызвалены ў пачатку ліп. 1944 г. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1949 г. створаны калгас «Камсамолец». У 1950-я г. меліся клуб, школа. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. З канца 1980-х г. у зоне радыяцыйнага кантролю. У 1994 г. было 150 гаспадарак, 422 жыхары. У 2002 г. 138 гаспадарак, 368 жыхароў, у калгасе імя Калініна, базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, магазін, лазня.

**БАРКІ** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 18 км на ПнУ ад горада і 20 км ад чыг. ст. Лунінец, на р. Выдранка. 70 гаспадарак, 305 жыхароў (2005).

Пасля 1986 г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 71 гаспадарка, 289 жыхароў, у калгасе «Сацыялізм». Працуюць пач. школа, магазін.

**БАРСУКОВА** — вёска ў Лахвенскім с/с. За 34 км на ПнУ ад Лунінца, 18 км ад чыг. ст. Лахва на лініі Гомель—Брэст. 78 гаспадарак, 185 жыхароў (2005).

Узнікла ў 1908 г. на асушаных землях маёнтка Лахва. Названа імем землеўпарадкавальніка. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав., калонія Барсукоўка, 85 двароў, 537 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Перыноўскім с/с Лунінскага р-на Пінскай вобл. З ліп. 1941 да ліп. 1944 г. Барсукоўка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 33 жыхары. У 1949 г. створаны калгас імя Дзяржынскага (з 1964 «Новае Палессе»). З канца 1980-х г. у зоне радыяцыйнага кантролю. У 1994 г. 102 гаспадаркі, 352 жыхары. У 2002 г. 90 гаспадарак, 211 жыхароў, у калгасе «Новае Палессе». Працуюць магазін, клуб.

**БАСТЫНЬ** — вёска, цэнтр Бастынскага с/с. За 18 км на ПдУ ад Лунінца, 4 км ад чыг. ст. Дзятлавічы, каля шашы Лунінец—Ганцавічы. 592 гаспадаркі, 1521 жыхар (2005).



*Герб в. Бастынь.*

У 1-й пал. 15 ст. сяло ў Бобрыцкай вол. Пінскага княства, дзярж. ўласнасць. У 1450-я г. падаравана Радзівілу Осцікавічу. У 1520 г. — сяло, уласнасць Я.М.Радзівіла, у 1545 г. — сяло маёнтка Ліпск. У 1550 г. — сяльцо і дварэц, уласнасць Мікалая Юр'евіча Радзівіла. З 1566 г. ў Навагрудскім пав. У 1588 г. ўласнасць віленскага кашталяна Яна Кішкі. У пач.

17 ст. — сяло маёнтка Люсіна Палескай вол. Навагрудскага пав., уласнасць Станіслава Кішкі. У 1613 г. ў складзе маёнтка Кажан-Гарадок, уласнасць Мікалая Кішкі, 67 валок зямлі, каля 130 двароў, царква. У 1750 г. арандатар вёскі памешчык Шчыт пабудаваў тут драўляную царкву ў імя святой вялікапакутніцы Параскевы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Давыд-Гарадоцкім, з 1796 г. ў Пінскім паветах Мінскай губ. У 1795 г. сяло ў складзе Кажан-Гарадоцкага маёнтка Іосіфа Шчыта, 87 двароў, царква. У 1805 г. пабудавана драўляная Нікадзімаўская царква. У 1870 г. 95 двароў, 392 жыхары мужчынскага полу, 408 жаночага, царква, вадзяны млын. У 1873 г. вёска ў Лунінецкай вол. Пінскага пав., 84 двары, у 1886 г. было 89 двароў, 806 жыхароў, царква, капліца. У 1894—97 гг. у маёнтку праведзены значныя работы па асушэнні балот (59 вёрст асушальных каналаў). Пасля 1884 г. на чыг. лініі Лунінец—Баранавічы ўзнік прыпынак, паўстанак, затым чыг. ст. Бастынь. У 1886 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа (у 1891 вучыліся 32 хлопчыкі, настаўнік Мікалай Зіміч). У 1908 г. 228 двароў, 1166 жыхароў, у маёнтку Бастынь — 34 жыхары, лесапільна-багарны з-д.

З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў в. Бастынь 300 двароў, 1697 жыхароў. Быў і аднайменны фальварак — 2 двары, 11 жыхароў. У вёсцы знаходзіўся паліцэйскі ўчастак (пастарунак). Лясы ў маёнтку Бастынь былі перададзены ва ўласнасць акц. т-ва «Дрэваапрацоўчая прамысловасць Вялікай Польшчы», дзейнічалі лесапільны з-д фірмы «Хейвуд», на якім працавалі 147 мужчын, 3 жанчыны (1933), млын (2 рабочыя). У 1930 г. ў вёсцы налічвалася 1477 жыхароў. 26—27.5.1930 г. на прадпрыемствах адбыліся масавыя забастоўкі (159 рабочых). У чэрв. 1930 г. быў створаны райком КПЗБ (сакратар Ян Кот), які меў сувязь з 5 ячэйкамі. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.1.1940 г. цэнтр Бастынскага с/с Лунінецкага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. — Брэсцкай абласцей. У 1939 г. ў вёсцы налічваўся 1141 жыхар мужчынскага полу і 1271 жаночага (усяго 2412), у 1941 г. было 483 двары, 2072 жыхары, школа.

У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут быў створаны ням. гарнізон. 18.7.1942 г. карнікі спалілі 196 двароў, загубілі 94 жыхароў. 25.8.1942 г. партызаны атрада імя М.Ц.Шыша пад камандаваннем М.І.Герасімава разграмілі ням. гарнізон (63 немцы і паліцаі), знішчылі 22 фашыстаў, лесапільны з-д, млын, сепаратарны пункт, мясц. ўправу, захапілі трафеі. У партыз. барацьбе і на франтах загінулі 93 жыха-

*Пахавальны склеп (1833) на могілках у в. Бастынь.*







ры. Пасля вайны ў 1947 г. створаны калгас «Шлях Леніна». У 1970 г. ў вёсцы было 706 гаспадарак, 2336 жыхароў, пільня камбіната быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, ветучастак, аддз. сувязі, 3 магазіны. У 2002 г. 650 гаспадарак, 1665 жыхароў, у калгасе імя Калініна. Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, амбулаторыя, аптэка, камбінат быт. абслугоўвання, лазня, ашчадны банк, 6 магазінаў, аддз. сувязі.

**БРОДНІЦА** — вёска ў Вулькаўскім с/с. За 13 км на ПнУ ад Лунінца, за 17 км ад чыг. ст. Лунінец. 336 гаспадарак, 1144 жыхары (2005).

У пач. 17 ст. сяло Навагрудскага пав., у 1613 г. — сяло маёнтка Кажан-Гарадок, уласнасць Мікалая Кішкі, 30 валок зямлі, каля 60 двароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав., былі 4 карчмы. У 1870 г. вёска маёнтка Новы Двор памешчыка Шчыта, 131 селянін-уласнік; адносілася да Вітчынскага праваслаўнага прыхода. У 1908 г. было 98 двароў, 590 жыхароў, працавала нар. вучылішча. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай, з 1928 г. ў Лунінецкай гмінах Лунінецкага пав. У 1923 г. 114 двароў, 680 жыхароў. У 1930 г. 731 жыхар. З канца 1939 г. ў БССР, налічвалася 699 жыхароў (вер. 1939). З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы было 144 двары, 977 жыхароў. У ліп. 1941 г. Бродніца акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1943 г. фашысты спалілі 97 двароў, загубілі 91 жыхара. Вызвалена ў ліп. 1944 г. войскамі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 23 жыхары вёскі. У 1947 г. створаны калгас імя Кірава, у якім аб'ядналіся 18 гаспадарак. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Дварэцкім с/с. Да 1970 г. Бродніца электрыфікавана, газіфікавана, працавалі школа, крама, з 1980-х г. клуб.

У 1995 г. 339 гаспадарак, 1140 жыхароў. З канца 1980-х г. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 334 гаспадаркі, 1112 жыхароў, у калгасе «Світанне». У вёсцы працуюць фельч.-акушэрскі пункт, базавая школа, клуб, 2 магазіны, лазня, аддз. сувязі. Помнік на месцы расстрэлу 7.7.1944 г. 35 жыхароў вёскі.

**ВЕЛУТА** — вёска ў Бастынскім с/с. За 28 км на Пн ад Лунінца, за 7 км ад чыг. ст. Люшча, на р. Цна. 430 гаспадарак, 1344 жыхары (2005).

У 1580-х г. сяло ў Навагрудскім пав. ВКЛ, уласнасць віленскага кашталяна Яна Кішкі. У 1613 г. — сяло маёнтка Кажан-Гарадок таго ж павета, уласнасць Мікалая Станіслававіча Кішкі, 30 валок зямлі, каля 60 двароў. У канцы 18 ст. ў Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав., 68 двароў, лесапільны з-д. У 1803 г. пабудавана Свята-Троіцкая царква, належала да Бастынскага прыхода (не захавалася). У 1870 г. вёска, уласнасць Друцкіх-Любецкіх, было 136 душ сялян. У 1886 г. — сяло Волуто, 46 двароў, 402 жыхары, адчынена школа граматы (у 1891 навучаліся 11 хлопчыкаў). У 1893 г. было каля 127 дзес. зямлі, 61 двор, 134 жыхары. Дзякуючы асушальным работам у маёнтку Бастынь

*Музей землякоў, якія загінулі ў Афганістане, у Бастынскай сярэдняй школе.*



(1894—97) вёска атрымала магчымасць дарожных зносін з вёскамі Навасёлкі і Чучавічы, пашырыліся яе с.-г. ўгоддзі. На пач. 20 ст. налічвалася 115 двароў, 775 жыхароў, працавала нар. пач. вучылішча (1913). У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. (з 1928 у Лунінецкай гміне). У 1923 г. ў вёсцы было 142 двары, 921 жыхар. Вызвалена ў вер. 1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі.

З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. — Брэсцкай абласцей. У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена войскамі 55-й гв. стралк. дывізіі. У Вял. Айч. вайну загінулі 60 жыхароў вёскі. У 1949 г. створаны (Волта і Навасёлкі) калгас «Зара». З 8.9.1959 г. ў Бастынскім с/с таго ж раёна. У 1994 г. было 438 гаспадарак, 1549 жыхароў. У 1970 г. мелася 447 гаспадарак, 1940 жыхароў, працавалі сярэдняя і 2 пач. школы, сталовая. У 2002 г. 444 гаспадаркі, 1427 жыхароў, цэнтр калгаса «Зара». Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, ашчадны банк, 2 магазіны, аддз. сувязі, лазня.

**ВІЛЬЧА** — хутар у Мікашэвіцкім гарсавеце. За 66 км на ПдУ ад Лунінца, 12 км ад чыг. ст. Мікашэвічы. 10 гаспадарак, 30 жыхароў (2005).

У 1493 г. сяло Вельча маёнтка Лахва, уласнасць троцкага ваяводы Мантыгірдавіча. У 16—18 ст. уласнасць Радзівілаў. У 1672 г. было 24 двары, 15,4 валокі зямлі. Паводле інвентара 1743 г. вёска маёнтка Лахва, 23 дымы, 33 валы, 4 кані, карчма, бровар, 2 стайні. З 2-й пал. 18 ст. уласнасць Віттенштэйнаў. У 1764 г. было 22 дымы, у 1785 г. — 19 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 1796 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ., з 1861 г. ў Ленінскай вол. таго ж павета. Пад 1870 г. вёска пазначана ў складзе маёнтка Сітніца кн. Віттенштэйна, адносілася да Сітніцкага прыхода, 29 рэвізскіх душ. На пач. 20 ст. вёска і фальварак у Ленінскай вол. Мазырскага пав. У вёсцы было 25 двароў, 250 жыхароў, у фальварку — 3 двары, 16 жыхароў. У 2002 г. 10 гаспадарак, 26 жыхароў, у калгасе «Дружба».

**ВІТЧЫН** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 8 км на ПнУ ад Лунінца, за 12 км ад чыг. ст. Лунінец, на р. Цна. 307 гаспадарак, 835 жыхароў (2005).

У 1493 г. — сяло маёнтка Лахва, уласнасць Пятра Янавіча Мантыгірдавіча, троцкага ваяводы. З 1566 г. ў Навагрудскім пав., у 1588 г. ўласнасць Яна Кішкі, у 1613 г. — сяло маёнтка Кажан-Гарадок, уласнасць Мікалая Кішкі, 30 валок зямлі, каля 60 двароў. У канцы 17 ст. сяло Віцына, 59 двароў. У 1756 г. на сродкі памешчыка Івана Шчыта пабудавана Свята-Троіцкая царква (драўляная). У канцы 18 ст. мітрапаліт растоўскі Дзмітрый падараваў царкве абраз Божай Маці. Мяркуецца, што праваслаўная царква існавала тут яшчэ ў 12 ст., Свята-Троіцкая была разбурана ў 1960-я г. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав. У 1870 г. — уласнасць памешчыка Шчыта, 42 двары, 360 жыхароў. У 1886 г. ў сяле 45 двароў, 380 жыхароў, у 1893 г. было 42 дамы, 376 жыхароў. Адзначана наяўнасць рамеснікаў, якія выраблялі на заказ драўляныя вёдры і цэбры (у 1889 — на 35 рублёў).

На пач. 20 ст. ў сяле 155 двароў, 991 жыхар, працавала царк.-прыходская школа. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1928 г. тут налічвалася 164 двары, 955 жыхароў. У 1930 г. было 1000 жыхароў, існаваў млын (у 1933 — 2 рабочыя). Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. Вітчын вызвалены ў вер. 1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі 23-га асобнага корпуса. З канца 1939 г. ў БССР, было 1085 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў



Дварэцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобласці. У ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў ліп. 1944 г. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 48 жыхароў. У 1948 г. створаны калгасы імя Калініна, «Савецкая Беларусь». З 1980 г. ў складзе калгаса «Расія». У 1994 г. было 330 гаспадарак, 946 жыхароў. З канца 1980-х г. у зоне радыяцыйнага кантролю. Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны.

**ВОСТРАВА** — вёска ў Сінкевіцкім с/с. За 37 км на У ад Лунінца, за 11 км ад чыг. ст. Лахва, на р. Лань. 82 гаспадаркі, 239 жыхароў (2005).

У 2002 г. 84 гаспадаркі, 241 жыхар, у калгасе «40 гадоў Кастрычніка». Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Пасля 1986 г. вёска ў зоне радыяцыйнага кантролю.

**ВУЛЬКА 1** — вёска ў Лунінскім с/с. За 7 км на ПнЗ ад Лунінца, за 9 км ад чыг. ст. Лунінец, за 9 км ад чыг. ст. Лунінец, на шашы Брэст—Лунінец. 430 гаспадарак, 1201 жыхар (2005).

Узнікла ў 2-й пал. 16 ст. на землях маёнтка Малы Лулінец. У 1595 г. сяло, маёнтак Волька ў Навагрудскім пав., уласнасць Ганны Харлінскай і яе сыноў. У 1600 г. ўласнасць Сымона Харлінскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Пінскім пав. Мінскай губ., праваслаўная царква Параскеўская, пабудаваная ў 1760 г. на могілках (не захавалася). У 1870 г. вёска ў Лунінскай вол. Пінскага пав., 141 душа сялян. У 1886 г. ў сяле было 39 двароў, 315 жыхароў, дзейнічала праваслаўная царква. Побач з вёскай пракладзена чыгунка Пінск—Лунінец, што спрыяла росту паселішча. У 1908 г. тут было 112 двароў, 447 жыхароў. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3. 1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. — 145 двароў, 864 жыхары, у 1930 г. — 901 жыхар. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У 1941 г. налічвалася 166 двароў, 747 жыхароў. З ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 20.7.1942 г. вёска часткова спалена, знішчаны 37 двароў, 43 жыхары. Вызвалена ў ліп. 1944 г. войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 46 жыхароў вёскі. Пасля вайны вёска адрадзілася, быў створаны калгас. Да 1970 г. Вулька 1 электрыфікавана, цэнтр саўгаса «Авангард», 322 гаспадаркі, 1342 жыхары (1970), сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. З 2-й пал. 1980-х г. у зоне радыяцыйнага забруджвання. У 1994 г. мелася 431 гаспадарка, 1332 жыхары. Працавалі Дом культуры, пры якім у 1987 г. створана аматарскае аб'яднанне «Жывіца» (з 1992 народнае), сярэдняя школа і пры ёй муз. школа (з 1985), школа нар. творчасці. У 2002 г. 445 гаспадарак, 1216 жыхароў, у калгасе «Авангард».



*Герб в. Вулька 2.*

**ВУЛЬКА 2** — вёска, цэнтр Вулькаўскага с/с. За 21 км на ПнЗ ад Лунінца, за 23 км ад чыг. ст. Лунінец, 337 гаспадарак, 1120 жыхароў (2005).

У 1613 г. Воля — сяло маёнтка Кажан-Гарадок Навагрудскага пав. ВКЛ, валоданне Мікалая Кішкі, 30 валок зямлі, каля 60 двароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Пінскім пав., у Кажан-Гарадоцкай вол. Пад 1870 г. пазначаны 82 душы, сяло адносілася да Дзятлавіцкага праваслаўнага прыхода. На пач. 20 ст. вёска ў Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав., было 70 двароў, 502 жыхары. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі, з 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв.; вёска і фальварак (Волька), дзе разам налічвалася 87 двароў, 566 жыхароў (1923). У 1930 г. 783 жыхары, працаваў паравы млын (3 рабочыя, 1933), лесапільны з-д. З канца 1939 г. ў складзе БССР, было 1473 жыхары. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў ліп. 1944 г. На франтах Вял. Айч. вайны

загінулі 39 вяскоўцаў. Ад рук карнікаў загінулі 54 жыхары. У 1949 г. створаны калгас імя Чапаева (з 1965 «Світанне»). Да пач. 1970-х г. вёска электрыфікавана і газіфікавана. У 1970 г. меліся 232 гаспадаркі, 1074 жыхары, працавалі філіял Лунінецкага камбіната быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, магазін, аддз. сувязі. У 1994 г. ў вёсцы было 363 гаспадаркі, 1149 жыхароў. З канца 1980-х г. у зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 337 гаспадарак, 1096 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне». Працуюць амбулаторыя, участак Палескай доследна-меліярацыйнай станцыі, лазнева-пральны камбінат, сярэдняя школа, Дом культуры, аддз. філіяла «Беларусбанка», аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад. На тэр. сельсавета 7 населеных пунктаў, 1501 гаспадарка, 5004 жыхары.



*Герб в. Вялікія Чучавічы.*

**ВЫШНІ** — вёска у Бастынскім с/с. За 15 км на Пн ад Лунінца, за 3 км ад чыг. ст. Дзятлавічы. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

Знаходзілася ў складзе калгаса «Шлях Леніна».

**ВЯЛІКІЯ ЧУЧАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Чучавіцкага с/с. За 48 км на Пн ад Лунінца, за 24 км ад чыг. ст. Люшча. 887 гаспадарак, 2338 жыхароў (2005).

У 1557 г. Чучавічы — сяло Навагрудскага пав., валоданне віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла. У 1626 г. згадваецца ў складзе маёнтка Лахва, мела 57 $^{1}/_{3}$ валокі зямлі, каля 115 двароў. У 1785 г. згадваецца Чучавіцкая вол., прыпісаная да Нясвіжскага маёнтка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяло зноў у складзе Лахвенскага маёнтка, было 55 двароў, уніяцкая царква. Пасля Радзівілаў перайшло ва ўласнасць кн. Пятра Вітгенштэйна. У 1851 г. на яго сродкі на месцы былой царквы (згарэла) пабудавана правасл. Пакроўская царква (драўляная). У 1840-я ў маёнтку праводзіліся значныя меліярацыйныя работы, што спрыяла росту паселішча. Пасля 1861 г. сяло стала цэнтрам Чучавіцкай вол. Мазырскага пав. У 1870 г. налічвалася 45 двароў, 387 жыхароў, у 1886 г. — 58 двароў, 530 жыхароў. Жыхары займаліся жывёлагадоўляй, бортніцтвам, рыбным промыслам. Смажаныя і сушаныя ўюны з Чучавіч карысталіся попытам на кірмашах у Слуцку, Наваградку, Мінску і Вільні. У 1880-я г. працавала царк.-прыходская школа.

У 1908 г. праз вёску ад ст. Люшча да тупіковага пункта Канал пракладзена вузкакалейка. Вёска стала чыг. станцыяй, праз якую вывозіўся лес у Расію і на Украіну, на шпалапрамочвальны з-д у Лунінец. У 1913 г. адчынена паштовае аддзяленне. У 1908 г. ў вёсцы было 128 двароў, 1029 жыхароў. З 1915 г. пры школе працавалі яслі для дзяцей-сірот, ахвяр вайны. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. вёска акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У Вял. Чучавічах быў створаны паліцэйскі пастарунак. У 1923 г. налічвалася 236 двароў, 1320 жыхароў, у т.л. 1190 беларусаў, 64 яўрэі, 55 палякаў. Чучавіцкія лясы перайшлі ва ўласнасць замежнай фірмы «Агахель» (55 тыс. га лясоў і балот), якая мела тут сваю кантору. На землях маёнтка «Чучавічы-Гоцк» была створана турысцка-паляўнічая база, дзе замежныя турысты маглі займацца паляваннем на мядзведзя і інш. звяроў. Для абслугоўвання турыстаў былі пабудаваны заезны двор, харч. і гарэлачная крамы. У маі 1922 г. і маі 1923 г. партыз. атрад К.П.Арлоўскага (каля 30 чал.) разграміў тут валасную ўправу, пастарунак, знішчыў склад фірмы з гатовай прадукцыяй. На пач. 1930-х г. у вёсцы меліся паштовае агенцтва, публічная аптэка, млын, працаваў урач. Дзейнічалі паляўнічыя гаспадаркі: фальварак Чырвоная Горка, «Дубіца».

З канца 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Лунінецкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр Чучавіцкага с/с Лунінецкага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. — Брэсцкай абласцей.



У 1941 г. ў вёсцы 311 двароў, 1952 жыхары, працавалі школа, млын, лесазавод. У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, быў створаны гарнізон. З пачатку вайны ў вёсцы дзейнічала падп. камсамольская-маладзёжная група. У 1942 г. чацвёра яе членаў расстраляны. У ліп. 1941 г. карнікі знішчылі ў вёсцы яўр. гета. У 1943 г. Вял. Чучавічы спалены (291 двор), ад рук ням. акупантаў загінулі 165 жыхароў, на фронце і ў партыз. барацьбе — 99 землякоў. Пасля вайны вёска адрадзілася. У 1949 г. створаны калгас імя Леніна. Да пач. 1970-х г. вёска электрыфікавана і газіфікавана. У 1970 г. 668 гаспадарак, 2590 жыхароў, пякарня, бальніца. У 1994 г. было 942 гаспадаркі, 2517 жыхароў. У 2002 г. 929 гаспадарак, 2412 жыхароў, цэнтр калгаса імя Леніна. Дзейнічаюць лясніцтва з тарным цэхам, лесапункт, гасцініца, аддз. ашчаднага банка, сельскі ўрачэбны ўчастак, аптэка, аддз. сувязі, сярэдняя школа з інтэрнатам, муз. школа пры ёй, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, 4 магазіны, кафэ, комплексны прыёмны пункт, механічны двор. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр гета. Малітоўны дом евангелістаў, Пакроўская царква.

**ГАЛЫ БОР** — вёска ў Вулькаўскім с/с. За 22 км на ПнЗ ад Лунінца, за 27 км ад чыг. ст. Лунінец, на р. Выдранка, на аўтадарозе Вял. Чучавічы—Дварэц. 130 гаспадарак, 409 жыхароў (2005).

У 1921—39 гг. вёска Бор і лясная асада Галы ў Чучавіцкай гміне Лунінецкага пав. ў складзе Польшчы. У 1923 г. было 19 двароў, 86 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Лунінецкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Вулькаўскім с/с таго ж раёна, з 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. У 2002 г. 132 гаспадаркі, 415 жыхароў, у калгасе «Рассвет». Працуюць базавая школа, магазін, лазня.

**ГРАДА** — вёска ў Мікашэвіцкім гарсавеце. За 42 км на У ад Лунінца, за 9 км ад чыг. ст. Мікашэвічы. 80 гаспадарак, 179 жыхароў (2005).

У 1909 выселак, 1 гаспадарка, 4 жыхары. У 1970 г. налічвалася 425 жыхароў.

**ДВАРЭЦ** — вёска, цэнтр Дварэцкага с/с. За 15 км на ПнУ ад Лунінца, за 17 км ад чыг. ст. Лунінец. 407 гаспадарак, 1284 жыхары (2005).

У 1558 г. — сяло Навагрудскага пав., уласнасць Яна Кішкі. У 1613 г. — сяло маёнтка Кажан-Гарадок, уласнасць Мікалая Кішкі, 40 валок зямлі, каля 80 двароў. У канцы 17 ст. 40 двароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав. У 1870 г. мелíся 160 сялян-уласнікаў, адносілася да Вітчынскага праваслаўнага прыхода. Праведзеныя ў 2-й пал. 19 ст. меліярацыйныя работы ў басейне р. Цна палепшылі ўмовы развіцця вёскі. На пач. 20 ст. вёска і маёнтак таго ж павета. У вёсцы было 127 двароў, 776 жыхароў, у маёнтку — 55 жыхароў, вінакурны з-д. У ліп. 1919 г., пад час польскага наступлення, у раёне вёскі цяжкія абарончыя баі вялі падраздзяленні 64-га стралк. палка 8-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі, з 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. было 145 двароў, 734 жыхары, у 1930 г. — 905 жыхароў, вадзяны млын (у Шчыта, у 1933 — 2



*Герб в. Дварэц.*

*Ансамбль народнай песні «Эмпрэза» Дома культуры в. Дварэц.*






рабочыя). Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. Дварэц вызвалены 18.9.1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі. У вёсцы на гэты час меліся 1075 жыхароў, школа.

З 12.10.1940 г. цэнтр Дварэцкага с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. ў час карнай акцыі фашысты спалілі 75 двароў. Дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя. 7.7.1944 г. ад рук гітлераўцаў загінулі 27 мірных жыхароў. Дварэц вызвалены 9.7. 1944 г. войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 57 жыхароў. Пасля вайны вёска адрадзілася. У 1948 г. створаны калгас імя Жданава (з 1980 — цэнтр калгаса «Расія»). У 1949 г. працавалі МТС, медпункт, 7-гадовая школа, хата-чытальня, магазін, паштовае аддзяленне. З 8.1. 1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. У 1960-я г. на тэр. сельсавета праведзены меліярацыйныя работы, што палепшыла эканам. стан гаспадаркі. У 1971 г. 370 гаспадарак, 1619 жыхароў, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветпункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. У 1978 г. пры Доме культуры быў створаны хор, які ў 1985 г. атрымаў званне народнага, а ў 1991 г. стаў лаўрэатам Усесаюзнага фестывалю нар. творчасці (кіраўнік Б.І.Шчур). У 1982 г. пры сярэдняй школе адкрыты этнаграфічны музей, у 1985 г. — муз. школа.


*Герб в. Дзятлавічы.*


*Спаса-Праабражэнская царква ў в. Дзятлавічы.*

З канца 1980-х г. вёска ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 1994 г. было 398 гаспадарак, 1307 жыхароў. У 2002 г. 411 гаспадарак, 1284 жыхары, цэнтр калгаса «Расія». Працуюць муз. школа, амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, ашчадны банк, 3 магазіны, аддз. сувязі. На тэр. сельсавета (2005) 15 паселішчаў, 2197 гаспадарак, 6721 жыхар.

**ДЗЯТЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Дзятлавіцкага с/с. За 13 км на Пн ад Лунінца, 1 км ад чыг. ст. Дзятлавічы на лініі Лунінец—Баранавічы, каля шашы Лунінец—Баранавічы. 799 гаспадарак, 2566 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 16 ст. сяло ў складзе Лунінска-Лунінецкага маёнтка Нёміровічаў у Навагрудскім пав. ВКЛ. У 1566 г. Станіслаў Андрэевіч Давойна прадаў с. Дзяцелавічы шляхціцу Паўлу Падарэўскаму. У 1567 г. было каля 40 двароў. Дзяцелавічы сталі першым шляхецкім маёнткам на Лунінеччыне. У 1580-х г. двор — цэнтр маёнтка Навагрудскага пав., меў 60 служб сялян-даннікаў, уласнасць Мікалая Падарэўскага. У 1599 г. мястэчка. У пач. 17 ст. ўласнасць Кунцэвічаў. З 1618 г. — Долмата. У 1620 г. было 68 валок зямлі. Стойкі прыхільнік праваслаўя Канстанцін Долмат ахвяраваў свае маёнткі Кіева-Пячэрскай лаўры з умовай пабудаваць у Дзяцелавічах мужчынскі манастыр. Да 1625 г. Новапячэрскі Дзяцелавіцкі Праабражэнскі мужчынскі манастыр быў узведзены. У 1676 г. яго правы на маёнтак Дзяцелавічы былі пацверджаны каралём Янам III. Манастыр меў 808 валок зямлі. У 1678 г. тут пахаваны мітрапалітам грэчаскім Макарыем Лігарытам бел. епіскап і слуцкі архімандрыт, ігумен Дзяцелавіцкага манастыра Феадосій Васілевіч, які памёр у Любліне. Манастыр быў культ. і асветніцкім цэнтрам Палесся. Мелася вял. б-ка стараж. рукапісных і друкаваных кніг, пераплётная майстэрня, майстэрні па рамонце і абнаўленні царк. посуду, іканапісная майстэрня, шпіталь, карчма, млын, пільня, кузня, пасека. Да 1786 г. ў валоданні Кіе-





*Жыхар в. Дзятлавічы А.М.Кацуба ў час службы ў Войску Польскім. 1934 г.*

ва-Пячэрскай лаўры. У канцы 18 ст. манастыр быў «адзіна багаты сярод мноста збяднеўшых».

У 1795 г. ў в. Дзяцелавічы 64 двары, лесапільны млын. У час вайны 1812 г. тут знаходзілі прытулак абрабаваныя жыхары, лячыліся рус. воіны. На ўтрыманні манастыра знаходзілася Слуцкая духоўная семінарыя. Да палавіны 19 ст. манастыр значна збяднеў і ў 1855 г. зачынены. З канца 1840-х г. Дзяцелавічы — казённая ўласнасць. У 1823 г. пабудавана Прабражэнская царква (на сродкі манастыра). У 1850 г. сяло Дзяцелавічы Лунінецкага сельскага ўпраўлення ў Пінскім пав., 80 двароў, 335 мужчынскіх і 340 жаночых душ сялян. З 1861 г. ў Кажан-Гарадоцкай вол. таго ж павета, у 1870 г. было 324 селяніна-уласніка. У 1879 г. адчынены вадамерны пост. Паводле інвентара 1845 г. ў Дзяцелавічах было 76 цяглых двароў, 4 агароднікі, 1 бабыль. У 1884 г. налічвала 114 двароў, 734 жыхары, дзейнічала праваслаўная царква. У 1870—90-я г. ў басейне р. Цна вяліся работы па асушэнні балот, пракладзены канал цераз сял. ўгоддзі Дзятлавіцкай казённай дачы. Узнікненне чыг. ст. Дзятлавічы (1884) і праведзеныя меліярацыйныя работы спрыялі хуткаму росту сяла. У 1897 г. тут створаны вадамерны пост Зах. меліярацыйнай экспедыцыі. На пач. 20 ст. ў сяле 232 двары, 1705 жыхароў (на 1908). 9.7.1919 г. каля Дзятлавіч цяжкія баі з палякамі вялі часці 1-й брыгады 8-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі, але вымушаны былі адысці. Да ліпеня і з кастр. 1920 г. сяло акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне (да 1928) Лунінецкага пав. У 1923 г. разам з чыг. станцыяй сяло налічвала 300 двароў, 1814 жыхароў. Працаваў цагельны з-д (3 двары, 35 жыхароў). У сяле быў створаны паліцэйскі пастарунак. У 1930 г. ў Дзятлавічах 1303 жыхары, працавалі 3 лесаапрацоўчыя прадпрыемствы (у 1933 — 36 рабочых), паравы млын Шарашэўскага, млын Мойшы Луцкага (2 рабочыя). З 1932 г. дзейнічала ячэйка КПЗБ. Вызвалены 18.9.1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі.

З канца 1939 г. ў складзе БССР, 1407 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска, цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Напярэдадні вайны было 570 двароў, 2250 жыхароў. У чэрв. 1942 г. карнікі расстралялі ў вёсцы 19 жыхароў. Усяго да гэтага часу з ліп. 1941 г. былі



*Жыхары в. Дзятлавічы. 1933 г.*

расстраляны 52 жыхары. 17.10.1943 г. ў час карнай акцыі ў навакольных хутарах спалены жывымі і расстраляны 216 жыхароў. Да 1943 г. тут быў створаны варожы гарнізон, фашысты ўзарвалі будынак станцыі. У Дзятлавічах дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя (сакратар А.А.Гопта), якая мела сувязь з партызанамі. Вызвалены 9.7.1944 г. войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. У партыз. барацьбе, падполлі і на франтах загінулі 115 жыхароў вёскі. Пасля Вял. Айч. вайны вёска хутка адрадзілася. У 1949 г. створаны калгас імя Молатава (пасля 1957 — імя Калініна). У 1960-я г. гаспадаркі калгаса газіфікаваны і электрыфікаваны. У 1971 г. было 607 гаспадарак, 2882 жыхары, дзейнічалі лясніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання. Да палавіны 1980-х г. працавалі сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, музей нар. творчасці (пры сярэдняй школе), у 1993 г. адчынены дзіцячы сад, амбулаторыя. У 1994 г. 803 гаспадаркі, 2549 жыхароў. З 1980 г. пры Доме культуры дзейнічае аматарскае аб'яднанне «Світанак» (з 1993 г. званне народнага).

З канца 1980-х г. вёска знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 805 гаспадарак, 2534 жыхары, цэнтр калгаса імя Калініна. Працуюць сярэдняя школа, амбулаторыя, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і ашчаднага банка, 4 магазіны, дзіцячы сад. Пры школе ёсць муз. школа. З 1968 г. пры Доме культуры дзейнічаюць хор, які з 1982 г. мае званне народнага, з 1980 г. — аматарскае аб'яднанне «Світанак», якое з 1992 г. мае званне народнага.

**ДЗЯТЛАВІЧЫ** — чыг. станцыя ў Дзятлавіцкім с/с, на лініі Баранавічы—Лунінец, за 15 км ад Лунінца. 167 гаспадарак, 453 жыхары (2005).

Узнікла ў 1880-я г. на лініі чыгункі Вільня—Лунінец, пракладзенай у 1884 г. На пач. 20 ст. ў Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 4 двары, 59 жыхароў. За перыяд з 1895 па 1908 гг. колькасць адпраўленых грузаў па станцыі ўзрасла ў 46 разоў. У 1909 г. праз станцыю пачаліся пасажырскія перавозкі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. З канца 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Лунінецкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Дзятлавіцкім с/с таго ж раёна. У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ноч на 9.8.1943 г. партызаны Пінскага злучэння напалі на станцыю з мэтай спыніць яе дзейнасць. У сак. 1944 г. партызаны 12-й кавалерыйскай брыгады імя І.В.Сталіна Мінскага злучэння пусцілі пад адхон каля станцыі варожы эшалон. Пасля Вя. Айч. вайны ў 1949 г. створаны калгас «Шлях да камунізму». З 1957 г. вёска ў калгасе імя Калініна. У 1994 г. было 177 гаспадарак, 546 жыхароў. У 2002 г. 174 гаспадаркі, 496 жыхароў. Дзейнічаюць цэх дрэваапрацоўкі, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, паштовае аддз., магазін.

**ДЗЯТЛЫ** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 18 км на У ад Лунінца, за 6 км ад чыг. ст. Лахва. 20 гаспадарак, 40 жыхароў (2005). Пасля 1986 г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. вёска, 21 гаспадарка, 43 жыхары, у калгасе «Сацыялізм».

**ДОБРАЯ ВОЛЯ** — вёска ў Вулькаўскім с/с. За 25 км на ПнУ ад Лунінца, 12 км ад чыг. ст. Дзятлавічы. 17 гаспадарак, 32 жыхары (2005).

У 1939 г. вёска ў Лунінецкай гміне Лунінецкага пав., у складзе Польшчы, налічвалася 796 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Вулькаўскім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну 16.3.1943 г. фашысты спалілі вёску, загубілі 59 яе жыхароў. На фронце загінулі 23 жыхары. Пасля вайны вёска адрадзілася. З 8.1.1954 г. у тым жа раёне Брэсцкай вобл. Знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага забруджвання і падлягае адсяленню. У 2002 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў, у калгасе «Рассвет».

**ДРЭБСК** — вёска ў Гарадоцкім с/с, на р. Цна. За 14 км на У ад Лунінца, за 9 км ад чыг. ст. Лахва. 394 гаспадаркі, 1114 жыхароў (2005).



У 1613 г. Жрэпская Даліна — сяло маёнтка Кажан-Гарадок Навагрудскага пав., уласнасць Мікалая Кішкі, 35 валок зямлі, каля 70 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., у складзе маёнтка Кажан-Гарадок памешчыка Х.О.Шчыта, 94 двары. У 1787 г. ім заснаваны тут цагельны з-д, які за сезон (жн.—кастр.) выпрацоўваў 10 тыс. штук цэглы (на 80 рублёў). У 1881 г. адкрыта школа граматы. На пач. 20 ст. быў 171 двор, 1149 жыхароў, царк.-прыходская школа. У канцы 19 ст. плошча с.-г. угоддзяў вёскі значна пашырылася ў выніку праведзеных меліярацыйных работ у маёнтку. Пад час ліпеньскага наступлення польскіх войскаў (1919) каля вёскі вялі баі часці 1-й брыгады 8-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі. З кастр. 1920 г. Добрая Воля канчаткова акупіравана палякамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. было 205 двароў, 1230 жыхароў. Вызвалена 18.9.1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай вобл. Быў створаны калгас «Чырвоны баец», працавала школа. У ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, быў створаны гарнізон. Вызвалена 9.7.1944 г. войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 70 жыхароў вёскі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960-я г. Добрая Воля электрыфікавана і газіфікавана, у калгасе («Маяк камунізму») працавала птушкафабрыка. У 1970-я г. дзейнічалі магазін, Дом культуры. У 1994 г. 404 гаспадаркі, 1259 жыхароў. З 1980-х г. вёска знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. Ёсць пач. школа-сад, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, магазін, аддз. сувязі.

**ДУБАЎКА** — вёска ў Лунінскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Лунінца, за 14 км ад чыг. ст. Лоўча, на р. Бобрык. 199 гаспадарак, 602 жыхары (2005).



*Басейн у в. Дубаўка.*

У канцы 17 ст. вёска ў Пінскім пав., 7 двароў. У 1800 г. вёска маёнтка Лунін, уласнасць Друцкага-Любецкага, 68 душ сялян. Пасля 1861 г. ў Лунінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Пад 1870 г. пазначана ў складзе Любчанскай сельскай грамады, у Парахонскім царк. прыходзе, 27 душ сялян. На пач. 20 ст. вёска той жа воласці і павета, налічвалася 25 двароў, 131 жыхар. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. было 28 двароў, 210 жыхароў.

З 1939 г. ў БССР, 277 жыхароў. З 8.1.1940 г. ў Лунінецкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Лаўчанскім с/с. Напярэдадні Вял. Айч. вайны было 58 двароў, 217 жыхароў. У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1943 г. карнікі спалілі 51 двор, загубілі 33 мірных жыхароў. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны араты» (вёскі Дубаўка, Лобча). З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Лунінскім с/с. З 1977 г. ў калгасе імя Фрунзе. У 1994 г. 40 гаспадарак, 123 жыхары. На могілках магілы ахвяр фашызму (у 1991 ўстаноўлена стэла). У 1991 г. створаны пасёлак для перасялення жыхароў з в. Добрая Воля, што знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага забруджвання. У 2002 г. 210 гаспадарак, 636 жыхароў, у аграфірме-калгасе «Маяк».

**ЗАМОШША** — хутар у Бастынскім с/с. За 16 км на ПнЗ ад Лунінца, за 8 км ад чыг. ст. Дзятлавічы. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

У 1897 г. 10 двароў, 65 жыхароў, у Лунінецкай вол. Пінскага пав. У 1921 г. калонія, 16 двароў, 97 жыхароў (паводле іншых звестак — 21 двор, 102 жыхары), у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. У 1940 г. 29 двароў, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты восенню 1943 г. поўнасцю спалілі Замошша і загубілі 15 жыхароў. Пасля вайны адрадзілася.

**ЗАНАВІНСКАЕ** — хутар у Бастынскім с/с. За 13 км на Пн ад Лунінца, за 8 км ад чыг. ст. Дзятлавічы, каля шашы Лунінец—Ганцавічы. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

**ЗАПРОССЕ** — вёска ў Мікашэвіцкім гарсавеце. За 58 км на ПдУ ад Лунінца, 5 км ад чыг. ст. Мікашэвічы. 124 гаспадаркі, 210 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. хутар у Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 22 двары, 155 жыхароў. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. вёска, 39 двароў, 239 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ленінскім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Мікашэвіцкім с/с таго ж раёна. У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 жыхароў вёскі. Пасля вайны ў 1951 г. створаны калгас «Сцяг Перамогі». Да пачатку 1970-х г. вёска электрыфікавана і газіфікавана. У 1960-я г. адкрыты Дом культуры. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 20.7.1960 г. ў Лунінецкім р-не. У 1994 г. налічвалася 137 гаспадарак, 301 жыхар. З канца 1980-х г. у зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 124 гаспадаркі, 302 жыхары, у калгасе «Дружба». Працуюць базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін.

**ЗАСЦЕНАК** — вёска ў Вулькаўскім с/с. За 24 км на ПнУ ад Лунінца, за 28 км ад чыг. ст. Лунінец, на аўтадарозе Міжлессе—Вулька 2, на р. Смердзь. 58 гаспадарак, 208 жыхароў (2005).

У 1921—39 гг. вёска ў Лахвенскай гміне Лунінецкага пав., у складзе Польшчы. У 1923 г. налічвалася 25 двароў, 155 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Лунінецкім р-не Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну ад рук карнікаў загінулі 7 жыхароў, 2 — на фронце. Пасля вайны ў 1949 г. створаны калгас імя Талбухіна, з 1951 г. ў калгасе «Чырвоны Кастрычнік», з 1991 г. ў саўгасе «Міжлескі». Да 16.7. 1954 г. ў Краснавольскім с/с, затым у Вулькаўскім с/с таго ж раёна Брэсцкай вобл. З канца 1980-х г. у зоне радыяцыйнага забруджвання. У 1994 г. было 74 гаспадаркі, 245 жыхароў. У 2002 г. 61 гаспадарка, 221 жыхар, у калгасе «Міжлескі». Працуюць магазін, б-ка, лазня.



*Герб в. Кажан-Гарадок.*

**КАЖАН-ГАРАДОК** — вёска, цэнтр Гарадоцкага с/с, на левым беразе р. Цна. За 18 км на ПдУ ад Лунінца, 7 км ад чыг. ст. Лахва. 686 гаспадарак, 1965 жыхароў (2005).

Упершыню ўпамінаецца ў 1493 г. як Гарадзец — сяло маёнтка Лахва, уласнасць троцкага ваяводы Пятра Янавіча Мантыгірдавіча. Ёсць меркаванне, што гэта вельмі стараж. мястэчка. Паблізу захаваліся дагістарычныя валы. У 1588 г. сяло, маёнтак Навагрудскага пав., уласнасць віленскага кашталяна Яна Кішкі. У 1594 г. двор, цэнтр маёнтка, уласнасць віцебскага ваяводзіча Станіслава Кішкі. У 1599 г. мястэчка ў Навагрудскім пав. У 1603—05 гг. за 11 тыс. коп грошаў С.Кішка заклаў гэты маёнтак брацлаўскаму маршалку Юрыю Самсону Падбярэзскаму. У 1613 г. двор, цэнтр маёнтка-воласці Навагрудскага пав., уласнасць Мікалая Станіслававіча Кішкі, які за 30 коп грошаў прадаў яго Падбярэзскаму. У мястэчку меліся праваслаўная царква, 116 дамоў, 33 валокі зямлі. Маёнтак налічваў увогуле 368 сял. валок, больш за 700 двароў (без мяшчанскіх пляцаў у Кажан-Гарадку). У 1635 г. пабудаваны кальвінскі збор. Пазней маёнтак перайшоў да польскіх магнатаў Тарнаўскіх, затым Шчытам. У 1655 г. ў час рус.-польскай вайны спалены. У 16 ст. тут сфарміравалася яўр. абшчына, была сінагога. У 1679 г. ўпамінаюцца яе грашовыя пазыкі



Лагішынскаму езуіцкаму манастыру. У Паўн. вайну ў 1702 г. атрад шведаў захапіў мястэчка, але быў разбіты жыхарамі, аб чым сведчаць магілы шведскіх салдат на ўскрайку мястэчка. У канцы 17 ст. налічвала 129 двароў. У 1744 г. памешчык Шчыт перадаў правасл. царкву уніятам.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) цэнтр воласці Пінскага пав. У мястэчку меліся 129 хрысціянскіх і 21 яўр. двор. У 1818 г. ўзведзена праваслаўная Мікалаеўская царква (драўляная), перабудавана ў 1876 г., арнаментальны скульптурны дэкор выкананы нар. майстрам-разьбяром І.Астапчыкам. У 1861 г. ў мястэчку 1239 жыхароў, у 1870 г. — 1764 жыхары, 245 дамоў, царква, яўр. малітоўны дом, 2 млыны (вадзяны і ветраны). У 1863 г. адчынена двухкласная царк.-прыходская школа (у 1886 вучыліся 36 хлопчыкаў). У 1897 г. налічвалася 3894 жыхары, у т.л. 1579 яўрэяў, дзейнічалі царква, каталіцкая капліца, сінагога, 2 яўр. малітоўныя дамы, штогод адбываліся 5 кірмашоў. Буйнейшым быў Сямёнаўскі кірмаш (1 верасня). У 1873 г. на ім былі прадстаўлены тавары на 25 тыс. рублёў і на 19 тыс. рублёў прададзены. Гандлявалі рыбай, харчамі, воскам, мёдам, ільном і пянькой, лесам, ганчарнымі вырабамі, жывёлай, збожжам, палатном, скурамі і абуткам. Былі і штотыднёвыя таргі па нядзелях. У 1897 г. у маёнтку пракладзены два асушальныя каналы ў 6 вёрст. У 1908 г. ў мястэчку 532 двары, 2963 жыхары, у маёнтку — 26 жыхароў, піваварны з-д. Было распаўсюджана сталярнае рамяство з выкарыстаннем такарнага станка. У гады 1-й сусветнай вайны адчынена паштовае аддзяленне. Мястэчка значна пацярпела ў пачатку польскай акупацыі (ліп. 1919 — ліп. 1920 і з кастр. 1920). З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны (да 1928) Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. налічвалася 465 двароў, 2706 жыхароў, у т.л. 1927 беларусаў, 745 яўрэяў; 1888 праваслаўных. Існавалі фальваркі: Кажан-Дварэц — 6 двароў, 76 жыхароў, Кажан-Гарадок — 11 жыхароў. У мястэчку польскімі ўладамі быў створаны паліцэйскі пастарунак; дзейнічаў млын (2 рабочыя, 1933). У 1920—30-я г. барацьбу з акупантамі ўзначальвала камуністычная ячэйка КПЗБ (разгромлена ў 1924, аднаўлена ў 1927). Восенню 1924 г. партызаны атрада К.П.Арлоўскага двойчы грамілі польскі пастарунак, а ў кастрычніку знішчылі гумно з нарабаваным у сялян збожжам.

З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. вёска, цэнтр Гарадоцкага с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. Напярэдадні вайны было 720 двароў, 3540 жыхароў, дзейнічаў маслазавод. У ліп. 1941 г. Кажан-Гарадок акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы быў створаны гарнізон (каля 100 немцаў і паліцаяў). У пачатку вер.





*Археалагічныя знаходкі з гарадзішча Кажан-Гарадок.*

1942 г. знішчана большасць яўр. насельніцтва, 4.9.1942 г. ў час карнай акцыі фашысты спалілі 152 двары, загубілі 975 жыхароў. Вызвалены ў ліп. 1944 г. войскамі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі. У снеж. 1948 г. ў вёсцы створаны калгасы «Новае жыццё» і імя Чкалава. У 1959 г. ў выніку другога аб'яднання створаны калгас «Маяк камунізму» (пазней «Маяк»). У 1971 г. 2416 жыхароў, 656 гаспадарак. Калгас-камбінат «Крыніца» спачатку дзейнічаў як міжкалгасная цяпліца па вырошчванні гародніны. У 1995 г. 693 гаспадаркі, 2021 жыхар. У 2002 г. вёска, 681 гаспадарка, 1958 жыхароў, цэнтр аграфірмы-калгаса «Маяк» і калгаса-камбіната «Крыніца». Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, сельская ўчастковая бальніца, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, кавярня, 4 магазіны. Магіла ахвяр фашызму. Помнікі: паселішча Кажан-Гарадок, Мікалаеўская царква (1814—18).

**КОРМУЖ** — вёска ў Чучавіцкім с/с. За 38 км на ПдУ ад Лунінца, за 27 км ад чыг. ст. Люшча. Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па аўтадарозе Вял. Чучавічы—Дварэц. 41 гаспадарка, 92 жыхары (2005).

У 1493 г. — урочышча маёнтка Лахва (Лахвенская вол.), які належаў троцкаму ваяводу Пятру Янавічу Мантыгірдавічу. З пач. 16 ст. ўласнасць паноў Кішкаў. У 1588 г. ў выніку падзелу маёнтка Лахва с. Кормуж увайшло ў склад маёнтка Кажан-Гарадок — уласнасці Яна Кішкі ў Навагрудскім пав. На пач. 17 ст. разам з гэтым маёнткам перайшло ва ўласнасць паноў Падбярэзскіх, затым польскіх магнатаў Тарнаўскіх, Шчытаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Давыд-Гарадоцкім, з 1796 г. Мазырскім, потым Пінскім паветах Мінскай губ. У канцы 17 ст. было 10 двароў. Пасля 1861 г. вёска ў Лунінскай вол. Пінскага пав., у складзе Баравікоўскай сельскай грамады. У 1870 г. налічвалася 12 двароў, 86 жыхароў. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. Кормуж акупіраваны польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы меліся 14 двароў, 97 жыхароў. З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Чучавіцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў ліп. 1944 г. У баях на фронце загінулі 9 жыхароў вёскі. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. У 1994 г. ў вёсцы налічвалася 47 гаспадарак, 120 жыхароў. У 2002 г. 43 гаспадаркі, 99 жыхароў, у калгасе імя Леніна.

**КРЫВЕЧ** — хутар у Бастынскім с/с. За 16 км на Пн ад Лунінца, за 8 км ад чыг. ст. Дзятлавічы. 1 гаспадарка, 5 жыхароў (2005).

**КУПАЎЦЫ** — вёска ў Дзятлавіцкім с/с. За 10 км на ПнУ ад Лунінца, за 15 км ад чыг. ст. Лунінец, на р. Цна. 117 гаспадарак, 340 жыхароў (2005).





*Агульны выгляд і фрагменты інтэр'ера Мікалаеўскай царквы ў в. Кажан-Гарадок.*



У 1800 г. вёска Купавіск у маёнтку Кажан-Гарадок, было 6 двароў, 27 жыхароў. Пасля 1861 г. ў Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав., адносілася да Дзятлавіцкага праваслаўнага прыхода. У 1870 г. налічвалася 34 душы сялян-уласнікаў. На пач. 20 ст. ў вёсцы 27 двароў, 186 жыхароў. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 37 двароў, 220 жыхароў. У 1930 г. было 209 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Лунінецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Дзятлавіцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У 1939 г. 676 жыхароў. У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук карнікаў загінулі 10 мірных жыхароў, яшчэ 10 загінулі на фронце. Пасля Вял. Айч. вайны ў 1949 г. створаны калгас імя Фрунзе (з 1957 у калгасе імя Калініна). З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. Да 1970-х г. вёска электрыфікавана і газіфікавана, дзейнічаў клуб. У 1994 г. 120 гаспадарак, 363 жыхары. З канца 1980-х г. вёска знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 119 гаспадарак, 334 жыхары, у калгасе імя Калініна. Ёсць лазнева-пральны камбінат, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін.

**ЛАХАЎКА** — вёска ў Лахвенскім с/с. За 26 км на У ад Лунінца, 1 км ад чыг. ст. Лахва. 231 гаспадарка, 545 жыхароў (2005).

У 1493 г. сяло Малая Лахаўка ў складзе маёнтка Лахва, належала троцкаму ваяводу Пятру Янавічу Мантыгірдавічу. У 16 ст. ўласнасць Радзівілаў. У 1672 г. меліся 30 двароў, 18,5 валок зямлі. Паводле інвентара Лахвенскага ключа 1743 г. ў вёсцы налічвалася 44 дымы, карчма, на ўтрыманні сялян было 95 валоў, 23 кані. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, з 12.12.1796 г. ў Мінскай губ., з 1861 г. ў Лахвенскай вол. Мазырскага пав. У 1795 г. 45 двароў. У 1870 г. вёска ў маёнтку Лахва кн. Вітгенштэйна, 85 душ сялян-уласнікаў, адносілася да Лахвенскага праваслаўнага прыхода. На пач. 20 ст. налічвалася 89 двароў, 602 жыхары. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 118 двароў, 662 жыхары (на 1923). У 1922 г. адкрыта польская пач. школа. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Лахвенскім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук карнікаў загінулі 33 вяскоўцы, 3 жыхары — у партыз. барацьбе. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Сцяг камунізму» (з 1964 у калгасе «Новае Палессе»). З 8.1.1954 г. ў Лунінскім р-не Брэсцкай вобл. У 1994 г. 283 двары, 740 жыхароў. З канца 1980-х г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 247 гаспадарак, 644 жыхары, у калгасе «Новае Палессе». Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, 2 магазіны.

**ЛАХВА** — вёска, цэнтр Лахвенскага с/с. На р. Смердзь, на шашы Лунінец—Мікашэвічы. За 25 км на У ад Лунінца, 2 км ад чыг. ст. Лахва на лініі Лунінец—Калінкавічы. 585 гаспадарак, 1465 жыхароў (2005).

У 1493 г. маёнтак, уласнасць троцкага ваяводы Пятра Янавіча Мартыгірдавіча, з 1518 г. Зафіі Мантыгірдаўны, земскай маршалкавай і троцкай ваяводзенкі. З 1521 г. маёнтак паводле завяшчання перайшоў да яе сына, полацкага ваяводы Пятра Станіслававіча Кішкі. У 1522—24 гг. двор, цэнтр маёнтка і сяло. У 1523 г.



*Новыя дамы ў в. Кажан-Гарадок.*





пры падзеле палова маёнтка, у т.л. двор і сяло Лахва, перададзены ўдаве Радзівілавай Кішчанцы, усяго 152 дымы. У 1567 г. ўласнасць віленскага ваяводзіча Мікалая Крыштофа Радзівіла, які выстаўляў у войска ВКЛ з гэтага маёнтка 15 коней. У 1581 г. Лахва — маёнтак-воласць Навагрудскага пав. У 1580-я г. на будаўніцтва езуіцкага калегіума і касцёла ў Нясвіжы Радзівілы з даходаў маёнтка выдаткавалі 12 тыс. коп грошаў. У 1589 г. — мястэчка, у 1594 г. згадваецца царква. У 1626 г. ў Лахве 169 двароў, у маёнтку — 800 двароў. У 1655 г. ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай спалена. У 1659 г. кашталян віленскі Міхаіл Казімір Радзівіл за пазыку ў 20 тыс. злотых перадаў частку маёнтка ў заставу архімандрыту слуцкаму і ігумену Дзяцелавіцкага манастыра Феадосію Васілевічу, але ў 1622 г. ўзброенай сілай гвалтоўна адабраў усю маёмасць архімандрыта, якая ацэньвалася ў 15 тыс. злотых. У 1672 г. ў Лахве 5 вуліц, рынкавая плошча, 166 двароў. Мяшчанам належалі 87 валок ворыва. У 1-й пал. 18 ст. Лахва перайшла да Вітгенштэйнаў. Паводле інвентара 1743 г. Лахвенскага ключа (адміністратар Пётр Жыхавіцкі) з «горада» Лахва да дварца быў уезд праз браму. Палац размяшчаўся ў цэнтры сядзібы. У апісанні двара занатаваны турма, піўніца, пякарня, бровар, гасп. пабудовы. У «горадзе» Лахва кірмаш, царква са звонніцай, яўр. школа, карчма. На вуліцы Любачынскай пражывалі рамеснікі (сталяры, кавалі), салдаты і млынар. У ліку вуліц згадваюцца Любачынская, Кажан-Гарадоцкая, Рыбунская, Цахлінская, Булатаўская, завулак Цахлінскі. Усяго ў «горадзе» — 126 пляцоў забудаваных, 68 пустых і 145 дымоў хрысціянскіх, 22 яўр., 9 зямянскіх; 53 кані, 198 валоў. У 1764 г. пляцоў забудаваных 131, пустых 73, дымоў хрысціянскіх 100, яўрэйскіх 22, зямянскіх 6. У 1785 г. ў Лахве 187 двароў, яўр. абшчына налічвала 157 душ, у 1788—92 гг. у Лахве і наваколлі было 6787 жыхароў, у т.л. 445 яўрэяў, мураваныя палац і Троіцкі парафіяльны касцёл (да 1854).

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1795 г. было 192 двары мяшчан-хрысціян, 17 яўр., 20 — чыншавай шляхты. У пач. 19 ст. ўзнікла ф-ка плеценай мэблі, вёўся ажыўлены гандаль лесам, рыбай, якія вывозіліся ў Мінск. З 1861 г. цэнтр Лахвенскай вол. Мазырскага пав. У 1824 г. пабудавана царква ў імя Раства Багародзіцы (драўляная), пры якой мелася вял. б-ка. У 1889 г. ўзведзена з цэглы Прачысценская царква, працавалі нар. школа і царк.-прыходскае папячыцельства. У 1863 г. з могілкавай капліцы на сродкі прыхаджан пабудавана царква Аляксандра Неўскага (не захавалася). У 1870 г. ў мястэчку 230 двароў, 1300 жыхароў, у 1879 г. былі 3 яўр. малітоўныя дамы. Штогод адбываліся кірмашы (23 крас., Георгіеўскі кірмаш), дзе гандлявалі конямі, іншай жывёлай, рамізным таварам, тканінай, абуткам і інш. Тавараабарот складаў да 1000 рублёў. У 1886 г. налічвалася 892 жыхары, 112 двароў, 2 праваслаўныя царквы, капліца, школа, 2 сінагогі, 2 крамы. У 1892—96 гг. у маёнтку праведзены меліярацыйныя работы: пракладзены 3 магістральныя каналы ў 45 вёрст. У 1897 г. 2426 жыхароў, у т.л. 1057 яўрэяў, паштовае аддз. (з 1910 паштова-тэлеграфнае).

На пач. 20 ст. занатаваны: мяст. Лахва (цэнтр воласці) — 2876 жыхароў, 455 двароў; маёнтак — 19 жыхароў; чыг. ст. Лахва (за 2 км ад мястэчка) — 183 жыхары, 17 двароў (на 1909). У 1912—15 гг. працавала доследная балотная станцыя на чале з У.Р.Рыдзігерам. У 1919 г. ў раёне Лахвы адбываліся баі чырвонаармейцаў з пятлюраўцамі і польскімі захопнікамі. У чэрв. 1919 г. на ст. Лахва базіраваўся авіяатрад (3 самалёты). У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Лунінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1923 г. ў мястэчку і аднайменнай вёсцы 543 двары, 3420 жыхароў, у т.л. 1818 беларусаў, 1126 яўрэяў, 441 паляк. Паводле веравызнання налічвалася 1875



праваслаўных, 418 католікаў. Дзейнічалі паліцэйскае аддз. (пастарунак), турма. У 1930 г. створана метэастанцыя, працавалі электрастанцыя (2 рабочыя ў 1933), публічная аптэка. У 1933 г. 3420 жыхароў, чыг. станцыя, валасное ўпраўленне, гар. суд, паштовае аддз., касцёл, царква, сінагога, млын, існаваў Лахаўскі перавоз цераз р. Прыпяць (паромная пераправа). У 1920—30-я г. дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ, якой кіраваў Яраховіч. У студз. 1930 г. згодна з паведамленнем палескага ваяводы ў дэпартамент паліцыі ў Лахве дзейнічаў райком КПЗБ (3 члены), якому падпарадкоўваліся 2 падраённыя к-ты КПЗБ і камсамола. Да 18.9.1939 г. вызвалена войскамі 52-й стралк. дывізіі (ген.-маёр І.М.Русіянаў). Былі адчынены бел. школа, бальніца, хата-чытальня, крама, паштовае аддз., карэспандэнцкі пункт газ. «Авангард».

З 1940 г. вёска, цэнтр Лахвенскага с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. БССР. З ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, быў створаны ням. гарнізон. У 1941 г. фашысты расстралялі частку мужчынскага насельніцтва мястэчка 18—60-гадовага ўзросту. Вясной 1942 г. створана гета (больш за 2,5 тыс. яўрэяў). 3.9.1942 г. ў час знішчэння гета тут адбылося паўстанне, выратавалася каля 600 вязняў. У Вял. Айч. вайну фашысты спалілі 186 двароў, знішчылі 1297 жыхароў і 283 сав. ваеннапалонных. Вёска вызвалена ў ліп. 1944 г. войскамі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі. У 1947 г. створаны калгас «Перамога», у якім аб'ядналіся 17 гаспадарак вёскі, у 1949 г. — калгас імя Варашылава (пасля аб'яднання ў 1950 г. — калгас «Перамога»). У 1951 г. дзейнічалі рыбгас «Лахва», дзіцячы дом для сірот, вінзавод, скурзавод, сельская бальніца. У 1972 г. 2374 жыхары, 675 гаспадарак. Пасля 1986 г. вёска знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага забруджвання. У 1994 г. 683 гаспадаркі, 1850 жыхароў. У 2002 г. 608 гаспадарак, 1510 жыхароў, цэнтр калгаса «Перамога». Працуюць рыбгас «Лахва», філіял Пінскай нафтабазы, вучэбна-вытворчы камбінат, участковая бальніца, абласны дзіцячы цэнтр медыцынскай рэабілітацыі «Лахва», сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, 4 магазіны, аддз. сувязі, філіял «Беларусбанка». Брацкая магіла 15 сав. воінаў і партызан; магіла ахвяр фашызму. Помнік архітэктуры — Прачысценская царква.

**ЛОБЧА** — вёска ў Лунінскім с/с. За 20 км на ПнУ ад Лунінца, за 7 км ад чыг. ст. Лоўча. 287 гаспадарак, 725 жыхароў (2005).

У канцы 15 ст. Лобча (Лоўча) — сяло Бобрыцкай вол. ВКЛ, уласнасць Мікалая Радзівіла, у 1539 г. — сяло маёнтка Бобрык, уласнасць Юрыя Мікалаевіча Радзівіла. У канцы 16 ст. Лоўча — сяло маёнтка Пагост (Юрыя Радзівіла). У 1613 г. сяло перайшло ў спадчыну Янушу і Крыштофу Радзівілам (маёнтак Пагост) у Навагрудскім пав. Пасля 1861 г. вёска Лобча ў Лунінскай вол. Пінскага пав., у 1870 г. ў маёнтку Хмельнік Друцкага-Любецкага, 109 сялян-уласнікаў. Вёска адносілася да Парахонскага царк. прыхода. У 1764 г. на могілках вёскі на сродкі Друцкага-Любецкага пабудавана Варварынская царква. У 1886 г. ў Лобчы 33 двары, 285 жыхароў, праваслаўная царква. Чыгунка Пінск — Лунінец, якая прайшла праз вёску, спрыяла хуткаму росту паселішча (1884). На пач. 20 ст. Лобча — паштовая станцыя на тракце Лунінец—Парахонск, чыг. станцыя на лініі Пінск—Лунінец. У 1908 г. вёска ў Лунінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 86 двароў, 544 жыхары. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў в. Лоўча было 107 двароў, 656 жыхароў; на чыг. ст. Лоўча — 12 двароў, 89 жыхароў. Ад ст. Лоўча да Лунінскага лесапільнага з-да, што належаў Ю.Бромбергу, была працягнута вузкакалейка.

З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Лунінецкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Лунінскім с/с таго ж раёна Пінскай вобл. У

1939 г. налічвалася 686 жыхароў. У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут быў створаны варожы гарнізон. У пачатку ліп. 1944 г. за чыг. ст. Лоўча вялі бой партызаны брыгады імя Куйбышава. Разам з часцямі 55-й стралк. дывізіі яны прымалі ўдзел у вызваленні вёскі і станцыі (12—14.7. 1944). У час Вял. Айч. вайны фашысты загубілі 17 мірных жыхароў, на франтах загінулі 42 жыхары. Пасля вайны створаны калгас «Чырвоны араты» (вёскі Любча і Дубаўка). З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл. Да канца 1960-х г. электрыфікавана і газіфікавана. У 1980-я г. меліся Дом культуры, сярэдняя і муз. школы. З 1992 г. ў саўгасе «Лунінскі». У 1994 г. 328 гаспадарак, 951 жыхар. Пры Доме культуры з 1984 г. працуе фальклорны калектыў, які ў 1991 г. атрымаў званне народнага. У 2002 г. 311 гаспадарак, 791 жыхар, у калгасе «Лунінскі».


*Герб в. Лунін.*

**ЛОДЗІНА** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 20 км на ПнУ ад Лунінца, за 54 км ад чыг. ст. Лунінец, на р. Смердзь. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

Пасля 1986 г. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 11 гаспадарак, 14 жыхароў, у калгасе «Сацыялізм».

**ЛУГІ** — вёска ў Чучавіцкім с/с. За 50 км на ПнУ ад Лунінца, за 54 км ад чыг. ст. Лунінец, на Заазерскім канале, 72 гаспадаркі, 139 жыхароў (2005).

На пач. 1830-х г. вёска фальварка Гаўрыльчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыка Івана Лычкоўскага, 18 двароў, 145 жыхароў, карчма. У 1853 г. кн. Л.Вітгенштэйн завяшчаў вёску сыну Пятру. На пач. 20 ст. вёска ў Вязнянскай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 37 двароў, 326 жыхароў. Меліярацыйныя работы, праведзеныя тут у канцы 19 ст., спрыялі далейшаму росту вёскі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Чучавіцкай гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. 59 двароў, 432 жыхары. З канца 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр Лугоўскага с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны было 107 двароў, 689 жыхароў. У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. Лугі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З восені 1942 г. ў Ленінскай партыз. зоне. У навакольных лясах вёскі базіраваліся атрады партыз. брагады імя Леніна Пінскага злучэння. Дзейнічала партыз. камендатура. Зімой 1943 г. праз вёску прайшло рэйдавае злучэнне С.А.Каўпака. 20.2.1943 г. ў час карнай аперацыі супраць партызан фашысты спалілі 106 двароў, расстралялі і спалілі жывымі 137 жыхароў. Пасля вайны вёска адрадзілася. У 1949 г. створаны калгас імя Кагановіча (з 1959 г. ў калгасе імя Леніна). З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 8.9.1959 г. ў Чучавіцкім с/с таго ж раёна. Працавала няпоўная сярэдняя школа. У 1994 г. ў вёсцы налічвалася 115 гаспадарак, 261 жыхар. З канца 1980-х г. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю.

У 2002 г. 88 гаспадарак, 165 жыхароў, у калгасе імя Леніна. Ёсць фельч.-акушэрскі пункт, магазін, б-ка, паштовае аддз. сувязі. Помнік землякам (абеліск устаноўлены ў 1979). Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**ЛУНІН** — вёска, цэнтр Лунінскага с/с. За 13 км на ПнЗ ад Лунінца, 1 км ад чыг. ст. Лоўча, на аўтадарозе Лунінец—Пінск. 656 гаспадарак, 1726 жыхароў (2005).

Да сярэдзіны 1430-х г. ў Пінскім княстве, уласнасць Аляксандра Носа, паплечніка Свідрыгайлы. У 1432 і 1440 гг. Лулін Вялікі, сяло Бобрыцкай вол., дзярж. ўласнасць. Пасля скасавання Пінскага княства падараваны прыхільнікам каталіцкіх колаў Нямірам, у складзе маёнтка Ішкалдзь (12 сем'яў сялян-даннікаў). У 1512 г. Лулін — маёнтак Яна Няміры (Пенка), з 1540 г. — яго ўдавы Барбары з роду Сапегаў. У 1552 г. паводле завяшчання апошняй маёнтак перайшлоў ва ўласнасць Давойнаў. Каля 1571 г. Лулін Вялікі — двор, цэнтр Палескай вол. маёнтка Ішкалдзь, 61 дым. У 1578 г. Лулін Вялікі — маёнтак у Навагрудскім пав., уласнасць княгіні Барбары





Барысаглебская царква ў в. Лунін.

Саламярэцкай і кн. Паўла Друцкага-Любецкага. Апошні ў 1580 г. прадаў яго за 2 тыс. коп грошаў віцебскаму кашталяну Мальхеру Сноўскаму-Граўжышскаму. З 1599 г. ўласнасць Радзівілаў, у складзе маёнтка Пагост. З 2-й пал. 17 ст. ўласнасць Друцкіх-Любецкіх, часова знаходзіўся ў закладзе ў маёнтку Дзяцелавіцкага манастыра за 50 тыс. злотых. На пач. 1760-х г. маёнтак у Пінскім пав., уласнасць Друцкіх-Любецкіх, была праваслаўная царква.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Давыд-Гарадоцкім, з 1796 г. ў Мазырскім паветах Мінскай губ. У 1-й чвэрці 19 ст. тут дзейнічаў вінакурны з-д. Першую прадукцыю выдаў у 1818 г. У 1887 г. на ім была паравая машына (2 к.с.), выраблена 97 300 вёдзер спірту на 34 668 рублёў, працавалі 10 рабочых. У 1795 г. сяло маёнтка Друцкага-Любецкага, 109 двароў, праваслаўная царква, касцёл. У 1824 г. пабудавана Барысаглебская царква, у 1825 г. — Мікалаеўская (на могілках). У 1820-я г. пры двары Друцкага-Любецкага ў Луніне працаваў настаўнікам графікі вядомы мастак Міхаіл Кулеша. Пасля 1861 г. цэнтр Лунінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Пад 1870 г. ў сяле пазначаны 314 сялян-уласнікаў. На гэты час у Барысаглебскай царкве служыў святаром П.М.Ціхановіч (1832—1922), бел. філолаг і лінгвіст, даследчык мовы Палескага краю, аўтар «Беларускай граматыкі». У канцы 19 ст. каля Луніна пракладзена чыгунка Лунінец—Пінск і створана чыг. ст. Лоўча на яго ўскраіне, што паспрыяла росту сяла. Працавала пач. нар. вучылішча (у 1891 вучыліся 69 хлопчыкаў, 21 дзяўчынка; настаўнік Т.Р.Карыцька). У 1886 г. ў сяле 110 двароў, 781 жыхар, праваслаўная царква, касцёл, капліца, школа. На пач. 20 ст. — 245 двароў, 1310 жыхароў, у маёнтку — 13 жыхароў. Быў развіты дрэваапрацоўчы промысел, прымяняўся такарны станок. З 1903 г. дзейнічаў лесапільны з-д, меў лакамабіль, у 1908 г. працавалі 25 рабочых, у 1913 г. было выпушчана прадукцыі на 45 тыс. рублёў. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Лунінскай гміны (да 1928) Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 310 двароў, 1686 жыхароў, у т.л. палякаў 184, яўрэяў 41. Было створана паліцэйскае аддзяленне (пастарунак). У 1930 г. ў сяле 1833 жыхары. Лесапільны з-д Ю.Бромберга вузкакалейкай быў злучаны з ст. Лоўча (350 м), адкуль лес на завод паступаў з Чучавіч і Люшчы. Тут жа былі пабудаваны маслабойня, мукамольны з-д, сяжарня. Лесаматэрыялы збываліся ў Германію і Англію. З 1932 г. дзейнічаў падп. райком КПЗБ (сакратар В.Ерамейчык).



Школьнае свята ў в. Лунін. 1950-я г.

З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У 1939 г. 2290 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, быў створаны гарнізон. У 1942 г. карнікі расстралялі тут 23 жыхары яўр. насельніцтва. У жніўні гэтага ж года партызаны атрадаў Пятровіча, імя Шыша, Камарова (В.З.Каржа) разграмілі варожы гарнізон. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 62 жыхары вёскі. У 1947 г. ў в. створаны калгасы «30 гадоў БССР», «За радзіму». Да 1949 г. створаны кола-абозны з-д, торфазавод, пазней з-д па вырабе цэглы, электрыфікаваны (1949) сядзібы калгаснікаў. З 8.1.1954 г. цэнтр сельсавета таго ж раёна Брэсцкай вобл. У 1960-я г. дзейнічалі сельская бальніца, Дом культуры, школа, на пач. 1970-х г. таксама — камбінат быт. абслугоўвання, шэраг магазінаў. Сядзібы вяскоўцаў былі газіфікаваны, радыёфікаваны і электрыфікаваны. У 1972 г. ў вёсцы 660 гаспадарак, 2522 жыхары, лясніцтва, кола-абозны цэх, бальніца, аптэка, ветучастак. У 1-й пал. 1980-х г. адкрыта муз. школа, дзейнічала мотабольная каманда «Ніва», якая ў 1988 г. стала чэмпіёнам Беларусі. У 1995 г. было 713 гаспадарак, 2051 жыхар. З канца 1980-х г. Лунін знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 723 гаспадаркі, 1868 жыхароў, цэнтр калгаса «Лунінскі». Ёсць камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, Дом культуры, 2 б-кі, аптэка, ветучастак, аддз. сувязі, сталовая, 6 магазінаў. Дзейнічае лясніцтва.

*Капліца на могілках каля в. Лунін.*



**ЛУТАВЕНЬ** — вёска ў Сінкевіцкім с/с. За 37 км на У ад Лунінца, за 14 км ад чыг. ст. Лахва. 102 гаспадаркі, 258 жыхароў (2005).

З 1986 г. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 96 гаспадарак, 257 жыхароў, у калгасе «40 гадоў Кастрычніка». Працуюць з-д «Палімер», 3 магазіны.

**ЛЮБАЖЭРДЗЕ** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 2 км на У ад Лунінца, за 4 км ад чыг. ст. Лунінец. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2005).

У 1-й чвэрці 17 ст. — частка паселішча Лунінец, 64 валокі і 44 агароды (пляцы), у Навагрудскім пав., у складзе маёнтка Канстанціна Долмата. На пач. 20 ст. фальварак у Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 11 жыхароў. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., фальварак — 3 двары, 20 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, 148 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Язвінскім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. З канца 1980-х г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 1994 г. 11 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2002 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў, у калгасе «Расія».

**ЛЮБАНЬ** — вёска ў Лахвенскім с/с. За 28 км на У ад Лунінца, 4 км ад чыг. ст. Лахва, на аўтадарозе Лунінец—Мікашэвічы. 338 гаспадарак, 888 жыхароў (2005).

У 1588 г. сяло маёнтка Лахва ў Навагрудскім пав. ВКЛ, меліся 29 валок зямлі. У 1672 г. было 22 двары, 28,5 валок зямлі. У 1743 г. вёска Лахвенскага



ключа, 32 дымы, 58 валоў, 28 коней. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 12.12.1796 г. ў Мінскай губ., з 1861 г. ў Лахвенскай вол. Мазырскага пав. У 1870 г. вёска ў маёнтку Лахва кн. Вітгенштэйна, 130 душ сялян-уласнікаў. У канцы 19 ст. ў наваколлі вёскі праведзены значныя меліярацыйныя работы, пракладзена чыгунка Лунінец—Гомель, што спрыяла росту паселішча. У 1908 г. ў Любані было 113 двароў, 790 жыхароў. У час ліпеньскага наступлення палякаў (1919) у раёне вёскі цяжкія баі вялі часці 1-й брыгады 8-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі. Да ліп. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. 145 двароў, 807 жыхароў. На пач. 1930-х г. меўся цагельны з-д (у 1933 г. — 8 рабочых), да 1921 г. працавала бел. пач. школа, у 1922 г. на яе базе адкрыта польская школа. У Любані дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ.

З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Ленінскага р-на Пінскай вобл. У пачатку ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6.8.1941 г. фашысты расстралялі ўсіх сав. актывістаў в. Лахва. Вызвалена 8.7. 1944 г. войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 34 жыхары вёскі. Пасля Вял. Айч. вайны вёска адбудавана, былі створаны 2 калгасы (1949): імя Панамарэнкі і імя Някрасава (пасля рэарганізацыі ў 1964 калгас «Новае Палессе»). З 8.1.1954 вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 20.10. 1960 г. Лунінецкага р-на. Да пач. 1970-х г. вёска электрыфікавана. У 1972 г. 306 гаспадарак, 1052 жыхары, у 1994 г. — 360 гаспадарак, 1137 жыхароў. У 2002 г. 314 гаспадарак, 939 жыхароў, цэнтр калгаса «Новае Палессе». Ёсць сярэдняя школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі. Пры Доме культуры ў 1975 г. створана агітбрыгада «Рытм», якая ў 1986 г. атрымала званне народнай. Брацкая магіла 6 сав. воінаў і партызан; помнік 102 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. З 1986 г. вёска знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю.

**ЛЮБАЧЫН** — вёска ў Дварэцкім с/с, на р. Смердзь. За 18 км ад Лунінца, 5 км ад чыг. ст. Лахва, на аўтадарозе Дзятлавічы—Лахва. 187 гаспадарак, 476 жыхароў (2005).

У 1589 г. сяло маёнтка Лахва, шляхецкая ўласнасць. У 1626 г. меліся 41 валока зямлі, 78 двароў, у 1672 г. — 56 двароў. У 1743 г. вёска і двор Лахвенскага ключа, 54 дымы, 102 валы, 21 конь. У двары Любачын размяшчаліся гасп. пабудовы, былі лесапільня, млын, карчма. У 1764 г. ў вёсцы 60 дымоў, 60 валоў, 13 коней. На гэты час быў і фальварак Любачын: бровар, абора, млын, агароды. У 1785 г. 45 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 1796 г. ў Мінскай губ., з 1861 г. ў Лахвенскай вол. Мазырскага пав. У 1870 г. маёнтак Любачын кн. Вітгенштэйна, 132 душы. 19.11. 1885 г. адкрыта царк.-прыходская школа (настаўнік Я.Рашэцкі). На пач. 20 ст. ў вёсцы налічвалася 102 двары, 742 жыхары. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. Любачын акупіраваны польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 114 двароў, 846 жыхароў. Дзейнічаў з-д па вырабе цэглы, які належаў Я.Ліфшыцу (у 1933 — 2 рабочыя). Барацьбу з акупац. рэжымам вяла падп. ячэйка КПЗБ. Вызвалена вёска ў вер. 1939 г.

З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Дварэцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. — Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 36 мірных жыхароў, на франтах і ў партыз. барацьбе — 48 жыхароў. Пасля вайны ў 1949 г. створаны калгас «Сацыялізм». У пач. 1970-х г. 276 гаспадарак, 995 жыхароў, меліся школа, Дом культуры. У 1994 г. 215 гаспадарак, 596 жыхароў. У 2002 г. 191 гаспадарка,

498 жыхароў, цэнтр калгаса «Сацыялізм». Працуюць камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, магазін.

**ЛЮШЧА** — вёска ў Бастынскм с/с. За 24 км на ПнЗ ад Лунінца, чыг. ст. на лініі Лунінец—Баранавічы. 153 гаспадаркі, 409 жыхароў (2005).

Паселішча ўзнікла як станцыйны прыпынак пасля будаўніцтва чыг. лініі Лунінец—Баранавічы (1884). У канцы 19 ст. вёска і чыг. станцыя ў Лунінскай вол. Пінскага пав. У 1908 г. 4 двары, 47 жыхароў. У гэтым жа годзе са станцыі было адпраўлена 13 814 пудовых грузаў, у асноўным лесаматэрыялаў. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. на станцыі 6 двароў, 69 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Бастынскім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны налічвалася 17 двароў, 58 жыхароў. У ліп. 1941 г. Люшча акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. карнікі спалілі тут 14 двароў, загубілі 5 жыхароў. У пачатку ліп. 1944 г. бой за станцыю вялі партызаны брыгады імя Леніна Пінскага злучэння. Яны дапамагалі войскам 55-й гв. стралк. дывізіі вызваліць яе. У 1994 г. 170 гаспадарак, 464 жыхары. У 2002 г. 166 гаспадарак, 434 жыхары, у калгасе «Зара». Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, тарны цэх, базавая школа, клуб, б-ка, 2 магазіны. Дзейнічаюць Бастынскае лясніцтва, лесапункт.

**МАЛЫЯ ЧУЧАВІЧЫ** — вёска ў Чучавіцкім с/с. За 51 км на Пн ад Лунінца, за 26 км ад чыг. ст. Люшча. 289 гаспадарак, 676 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 18 ст. сяло маёнтка Лахва, уласнасць Вітгенштэйнаў. У 1785 г. налічвала 33 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, з 1796 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1870 г. Малыя Чучавічы — сяло, уласнасць кн. Вітгенштэйна, у Чучавіцкай вол. Мазырскага пав., было 90 душ сялян, адносілася да Чучавіцкага праваслаўнага прыхода. На пач. 20 ст. налічвалася 10 двароў, 583 жыхары. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. сяло акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Чучавіцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. было 125 двароў, 649 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Чучавіцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны меліся 162 двары, 1290 жыхароў. У ліп. 1941 г. карнікі спалілі ў вёсцы 149 двароў, загубілі 5 жыхароў. У лютым 1943 г. каля вёскі цяжкія баі з ням.-фаш. захопнікамі вялі партызаны Пінскага і Слуцкага злучэнняў. У партыз. барацьбе і на фронце загінулі 48 жыхароў вёскі. Пасля вайны ў 1947 г. створаны калгас «Чырвоны партызан» (з 1959 у к-се імя Леніна). З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. У 1994 г. 317 гаспадарак, 837 жыхароў. У 2002 г. 311 гаспадарак, 709 жыхароў, у калгасе імя Леніна. Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі. Дзейнічае лясніцтва.

**МАНАСЕЕВА** — вёска ў Радзігераўскім с/с. За 37 км на ПнУ ад Лунінца, за 17 км ад чыг. ст. Лахва. 84 гаспадаркі, 234 жыхары (2005).

Узнікла ў 1907 г. на асушаных землях маёнтка Лахва. У 1912—15 гг. на яго тэрыторыі праводзяць даследчую працу, звязаную з праблемамі асушэння Палескіх балот, вяла доследна-балотная станцыя на чале з вядомым вучоным-меліяратарам У.Р.Рыдзігерам. Вёска ў Лахвенскай вол. Мазырскага пав. У 1923 г. калонія Манасееўка, 39 двароў, 237 жыхароў. З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10. 1940 г. ў Перыноўскім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Тут быў створаны паліцэйскі гарнізон. У студз.—крас. 1943 г. ў раёне вёскі цяжкія баі з карнікамі вялі партызаны брыгады імя С.М.Кірава (Пінскае партыз. злучэнне) і ратавалі жыхароў вёскі ад смерці. Вызва-



лена ў ліп. 1944 г. У час Вял. Айч. вайны загінулі 10 мірных жыхароў, 13 — на фронце. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас «За Радзіму». З 1953 г. ў калгасе «Запаветы Ільіча». З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Радзігераўскім с/с, з 20.7.1960 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл. З 1986 г. ў зоне радыяцыйнага забруджвання. У 1994 г. 99 гаспадарак, 266 жыхароў. У 2002 г. 92 гаспадаркі, 249 жыхароў, у калгасе «Запаветы Ільіча». Працуюць магазін, фельч.-акушэрскі пункт, лазня.

**МЕЛЯСНІЦА** — вёска ў Лунінскім с/с. За 5 км на ПнЗ ад Лунінца, за 8 км ад чыг. ст. Лунінец. 20 гаспадарак, 42 жыхары (2005).

У пач. 17 ст. ў маёнтку Дзяцелавічы ў Навагрудскім пав. ВКЛ, уласнасць Ганны Мікалаеўны Падарэўскай і яе мужа Крыштофа Коса, з 1618 г. Канстанціна Долмата. Паміж 1622 і 1625 гг. сяло стала ўласнасцю Дзяцелавіцкага мужчынскага манастыра. У канцы 17 ст. было 8 двароў, сяло ў Мазырскім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Пінскім пав. Мінскай губ. З 1798 г. здавалася манастыром у арэнднае трыманне. У 1800 г. вёска маёнтка Лунін Друцкага-Любецкага, 8 двароў, 24 мужчынскія і 16 жаночых душ сялян. У 1842 г. секвестравана ў казну, сяляне пераведзены ў катэгорыю дзяржаўных. У 1850 г. ў вёсцы 5 двароў, 24 мужчынскія і 23 жаночыя душы сялян. Пасля 1861 г. ў Лунінскай вол. Мазырскага пав. У 1870 г. 13 сялян-уласнікаў. У 1894 г. ў вёсцы створаны цагельны з-д (селяніна Івана Філіпава), які выраблуяў 25 тыс. штук чырвонай цэглы за сезон (з 15 мая па 15 жн.). 3 рабочыя абслугоўвалі 1 печ і 1 станок. На пач. 20 ст. заставалася ў шэрагу невял. паселішчаў. З ліп. 1919 г. да ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. было 35 двароў, 192 жыхары. У 1930 г. ў вёсцы 201 жыхар, дзейнічаў з-д па вырабе цэглы.

У вер. 1939 г. вызвалена войскамі 52-й стралк. дывізіі 23-га асобнага корпуса. На гэты час у вёсцы налічвалася 292 жыхары. У ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 1.10.1943 г. карнікі спалілі 74 двары (з 78), загубілі 114 жыхароў (напярэдадні вайны было 367). Вёска вызвалена ў ліп. 1944 г. У баях на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 12 жыхароў вёскі.

Пасля вайны адноўлена. З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў калгасе «40 гадоў Кастрычніка». У 1994 г. 23 гаспадаркі, 67 жыхароў. У 2002 г. 21 гаспадарка, 58 жыхароў, у складзе калгаса «Авангард». З канца 1980-х г. Мелясніца знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю.

**МІЖЛЕССЕ** — вёска ў Вулькаўскім с/с. За 28 км на ПнУ ад Лунінца, за 33 км ад чыг. ст. Лунінец, на р. Смердзь, на аўтадарозе Міжлессе—Дварэц. 323 гаспадаркі, 1119 жыхароў (2005).

Да 1901 г. вядома як хутар Андрушкова (Андрушкоўка), што ўзнік на асушаных землях б. маёнтка Лахва. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. занатавана як калонія Андрушоўка, налічваўся 41 двор, 219 жыхароў, у т.л. 181 рускі, 13 палякаў (203 праваслаўных, 16 католікаў). З канца 1939 г. ў БССР (хутар), з 15.1.1940 г. ў Лунінецкім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Краснавольскім с/с таго ж раёна, з 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Вулькаўскім с/с таго ж раёна і вобласці. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі 12 жыхароў вёскі. Пасля вайны адноўлены калгас «17 Верасня», адкрыта пач. школа (1948). У 1984 г. створаны саўгас «XXV з'езд КПСС», з 1991 г. мае сучасную назву. У 1994 г. было 235 гаспадарак, 1140 жыхароў. У 2002 г. 325 гаспадарак, 1145 жыхароў, у калгасе «Авангард». Ёсць фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры (з 1987 працуе хор нар. песні, які з 1994 г. мае званне народнага), сярэдняя школа (у ёй з 1990 г. дзейнічае музей нар. творчас-





ці), дзіцячы сад, гасцініца, кафэ, сталовая, 3 магазіны, аддз. сувязі.

**МІКАШЭВІЧЫ** — горад у Лунінецкім р-не, на р. Валхва (правы прыток Случы). За 54 км на У ад Лунінца, на аўтадарозе Мікашэвічы—Слуцк, чыг. станцыя на лініі Лунінец—Калінкавічы. 13,8 тыс. чалавек (2005).



*Герб г. Мікашэвічы.*

У 18 ст. сяло маёнтка Ленін у Слуцкім княстве ВКЛ, уласнасць Радзівілаў. У 1785 г. 3 двары. У 1796 г. мястэчка ў Мазырскім пав., дзейнічала жалезаапрацоўчая мануфактура, дзе выраблялі сашнікі для сох (да 500 пар), працавала каля 50 чал. Пасля 1861 г. ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пад 1870 г. вёска Мікашэвічы пазначана ў складзе маёнтка Сітніца кн. Віттенштэйна, 18 душ сялян. У 1880-я г. пасля пракладкі чыгункі Пінск—Жыткавічы ўзнікла чыг. ст. Мікашэвічы. З 1898 г. дзейнічаў лесапільна-фанерны з-д, засн. буйным землеўласнікам Д.С.Агаркавым. Выпускаў дошкі, фанеру, гонту, сталярныя і будаўнічыя матэрыялы, тару. З-д меў паравую машыну (60 к.с.). У 1908 г. ў вёсцы было 18 двароў, 146 жыхароў. Да гэтага часу ў 79,5 раза выраслі вытв. магутнасці лесаапрацоўчага прадпрыемства. Да 1913 г. на з-дзе меліся 3 паравыя рухавікі (200 к.с.), працавалі 250 рабочых (у 1908 — 23 рабочыя). Былі склады прадукцыі ў Адэсе, Харкаве, Маскве, Парыжы і Лондане. У гады 1-й сусветнай вайны ў Мікашэвічах адчынена паштовае аддзяленне. У 1913 г. працавала двухкласнае нар. вучылішча. У жн. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіраваны польскімі войскамі. 9.10—9.11.1919 г. ў мястэчку адбываліся перамовы польскага і савецкага бакоў аб умовах перамір'я (3-і этап сав.-польскіх перагавораў).

З 18.3.1921 г. мястэчка ў Ленінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1923 г. налічвалася 135 двароў, 994 жыхары, у т.л. праваслаўных 589, католікаў 184, яўрэяў 143. Было створана паліцэйскае аддз. (пастарунак). Дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы сталі ўласнасцю замежных фірм «Агахель» і «Ольза». У 1933 г. на фабрыцы першай з іх працавалі 134 рабочыя, на фанернай ф-цы «Ольза» — 267 мужчын і 68 жанчын, меліся млын (2 рабочыя), публічная аптэка, школа, касцёл. У маі 1924 г. на ф-цы «Ольза» (185 рабочых) адбылася забастоўка, якой кіраваў к-т на чале з Маслянкам. У снеж. 1931 г. становішча на фабрыцы (ад-



*Кар'ер прадпрыемства «Граніт» каля г. Мікашэвічы.*



міністратар Шыфрын) вымушана была разглядаць канферэнцыя прадстаўнікоў мясц. улады (у Брэсце). У 1939 г. адкрылася польская 7-гадовая школа, працавалі электрастанцыя, шэраг прыватных крам, рэстаран. Мікашэвічы вызвалены 17.9.1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі Чырвонай Арміі. З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. рабочы пасёлак, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Ленінскага р-на Пінскай вобл. У ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У пасёлку быў створаны ням. гарнізон (250 чал.). Летам 1941 г. тут расстраляны 10 жыхароў хутара Смалярны (ахвяры пахаваны каля могілак), летам 1942 г. акупанты і паліцаі знішчылі больш за 400 чалавек яўр. насельніцтва. У пачатку ліп. 1944 г. фашысты вывезлі найбольш каштоўнае станцыйнае абсталяванне, чыг. пуці (21 930 м рэек) і ўзарвалі пабудовы. У партыз. барацьбе і на франтах Вял. Айч. вайны загінулі 63 жыхары пасёлка. У 1944 г. створаны дзіцячы дом (17 дзяцей, у 1960 — 127 дзяцей-сірот). У сак. 1945 г. створаны калгас імя Сталіна, у якім аб'ядналіся таксама гаспадаркі вёсак Вільча, Маршчынавічы, Пясчанікі. У канцы 1950-х г. пабудаваны маслазавод, вакзал, кінатэатр, б-ка, лазня, чайная, 4-павярховы жылы дом. З 8.6.1950 г. — цэнтр Ленінскага р-на Пінскай, з 8.1. 1954 г. — Брэсцкай абласцей. З 20.1.1960 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл. У пач. 1970-х г. на разведаных залежах граніту ўзведзены драбільна-сартавальны з-д. У 1980 г. тут створана вытв. аб'яднанне «Граніт», пабудаваны першы 9-павярховы дом. У 1985 г. ў Мікашэвіцкім гарсавеце 3019 дзярж. кватэр, 29 магазінаў, камбінат быт. абслугоўвання, бальніца, 2 паліклінікі, санаторый-прафілакторый, Палац культуры, кінатэатр, 2 сярэднія і базавая школы, 6 дзіцячых садоў, некалькі АТС, 2 аптэкі, 2 фельч.-акушэрскія пункты і інш. Сёння Мікашэвічы — значны прам. асяродак на Палессі. У 1994 г. было 12 777 жыхароў. З 25.8.2005 г. — горад. Ёсць вытв. аб'яднанне «Граніт», каменеапрацоўчы і лінейна-механічны з-ды, з-д спец. жалезабетону, будаўнічае ўпраўленне, ПМК-22, камбінат быт. абслугоўвання, лясгас, рачны порт на Мікашэвіцкім канале, 3 сярэднія і муз. школы, 7 дашкольных устаноў, Палац культуры, кінатэатр, 2 б-кі, бальніца. Брацкая магіла



*Здабыча граніту ў кар'еры прадпрыемства «Граніт» каля г. Мікашэвічы.*





*Прадукцыя завода «Спецжалезабетон» у г. Мікашэвічы.*

сав. воінаў і партызан, магіла ахвяр фашызму, царква Іаана Хрысціцеля.

**МОКРАВА** — вёска ў Сінкевіцкім с/с. За 35 км на У ад Лунінца, 1 км ад чыг. ст. Сінкевічы, на р. Лань. 233 гаспадаркі, 539 жыхароў (2005).

У 1493 г. Мокрач — сяло маёнтка Лахва (Лахвенская вол.), уласнасць троцкага ваяводы Пятра Янавіча Мантыгірда. З пач. 16 ст. уласнасць паноў Кішкаў. У 2-й пал. 17—18 ст. ў складзе таго ж маёнтка Лахва, уласнасць Радзівілаў. У канцы 17 ст. сяло налічвала 70 двароў, была царква. Паводле інвентара 1764 г. тут было 68 дымоў, сяляне мелі 27 коней, 114 валоў, дзейнічалі карчма, бровар, млын. У 1782 г. на сродкі прыхаджан пабудавана Свята-Георгіеўская царква (згарэла ў 1980-я г.). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 12.12. 1795 г. ў Мінскай губ. З 1861 г. ў Лахвенскай вол. Мазырскага, затым Пінскага паветаў Мінскай губ. У 1870 г. сяло маёнтка Лахва кн. Вітгенштэйна, 150 душ сялян. У 1886 г. ў сяле 43 двары, 384 жыхары, 3 правасл. царквы, капліца. На пач. 20 ст. Мокрава — адно з буйнейшых паселішчаў Лунінеччыны. У 1908 г. 153 двары, 1017 жыхароў. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 200 двароў, 1111 жыхароў. На пач. 1930-х г. ў Мокраве працавалі з-д па вырабе цэглы, млын. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. Вёска вызвалена ў вер. 1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі. З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10. 1940 г. ў Сінкевіцкім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 9.7.1944 г. войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. У партыз. барацьбе і падполлі загінулі 23 жыхары, на франтах — 47 жыхароў. Пасля вайны ў 1948 г. створаны калгас «40 гадоў Кастрычніка». Да пач. 1970-х гг. вёска электрыфікавана і газіфікавана. У 1994 г. было 270 двароў, 687 жыхароў. Вёска знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. ў калгасе «40 гадоў Кастрычніка». Ёсць механічны двор, магазін.




*Уезд на тэрыторыю прадпрыемства «Граніт».*

**МОРШЧЫНАВІЧЫ** — вёска ў Мікашэвіцкім гарсавеце. За 4 км на У ад Лунінца, 6 км ад чыг. ст. Мікашэвічы, на р. Случ. 29 гаспадарак, 43 жыхары (2005).

У канцы 17 ст. сяло маёнтка Ленін у Слуцкім княстве ВКЛ, уласнасць Радзівілаў, 10 двароў, праваслаўная царква. Паводле інвентара 1785 г. сяло маёнтка Ленін, 11 двароў, рудня. На пач. 20 ст. хутар у Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., было 15 двароў, 132 жыхары. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы у Ленінскай гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. ў вёсцы 41 двор, 236 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Мікашэвіцкім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны налічвалася 30 двароў, 150 жыхароў. У ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З канца 1942 г. ў межах Ленінскай партыз. зоны Пінскай вобл. У студз. 1943 г. фашысты спалілі вёску, знішчылі 145 жыхароў. Вызвалена ў ліп. 1944 г. На франтах вайны загінулі 7 жыхароў. З 1945 г. ў калгасе імя Сталіна, з 1960 г. ў калгасе «Дружба». З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 20.7.1960 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл. З канца



1980-х гг. у зоне радыяцыйнага забруджвання. У 1994 г. было 33 гаспадаркі, 83 жыхары. У 2002 г. 32 гаспадаркі, 46 жыхароў, у калгасе «Дружба». Працуе магазін.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Бастынскім с/с. За 32 км на Пн ад Лунінца, на аўтадарозе Бастынь—Вял. Чучавічы, за 14 км ад чыг. ст. Люшча, каля вадасховішча Велута. 43 гаспадаркі, 132 жыхары (2005).

У 19 ст. маёнтак Навасёлкі, уласнасць Друцкіх-Любецкіх. У яго складзе занатаваны вёскі Велута і Ліпск (1870). Маёнтак знаходзіўся ў Лунінскай вол. Пінскага пав., меўся невял. вінакурны з-д. На пач. 20 ст. фальварак у той жа воласці і павеце, 21 жыхар. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лунінскай гміне Лунінецкага пав. (з 1928 у Лунінецкай гміне). У маёнтку Навасёлкі быў створаны паліцэйскі пастарунак (аддзяленне). Восенню 1922 г. ён разгромлены партыз. атрадам К.П.Арлоўскага, у палон узяты агент дэфензівы, які перапраўляў на сав. бок дыверсантаў і шпіёнаў. У баі загінуў партызан атрада М.Абрамчук. У снежні партызаны зноў захапілі маёнтак Навасёлкі і кантору фірмы «Лес», дзе знаходзіліся 20 паліцэйскіх. У 1920-я г. ў маёнтку дзейнічаў лесапільны з-д, на якім працавалі 14 рабочых (1933). 22.8.1923 г. тут адбылася забастоўка 50 рабочых. Падаўлена паліцыяй, 10 чал. былі арыштаваны, астатнія звольнены. Паводле матэрыялаў «Палескага ваяводскага весніка», у 1929 г. жыхары Навасёлак і навакольных хутароў звярнуліся да польскіх улад з просьбай арганізаваць мясц. грамаду — «хутар Навасёлкі». З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10. 1940 г. ў Лунінецкім р-не Пінскай вобл. Працавалі школа, маслазавод. У 1941 г. ў вёсцы 32 двары, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Былі расстраляны 7 жыхароў. Восенню 1942 г. ў час карнай акцыі фашысты знішчылі 26 двароў, загубілі 17 жыхароў. Вызвалена ў ліп. 1944 г. У 1949 г. створаны калгас (Велута і Навасёлкі) «Зара». У 1994 г. ў вёсцы 48 гаспадарак, 160 жыхароў. У 2002 г. 41 гаспадарка, 127 жыхароў, у калгасе «Зара». Працуюць клуб, магазін. Дзейнічае лясніцтва.

**НАМОКРАВА** — вёска ў Сінкевіцкім с/с. За 39 км на ПдУ ад Лунінца, за 17 км ад чыг. ст. Лахва, 23 гаспадаркі, 60 жыхароў (2005).

Пасля 1986 г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 25 гаспадарак, 67 жыхароў, у калгасе «40 гадоў Кастрычніка». Працуюць цагляны з-д, магазін.

**ПАДМАРОЧНАЕ** — вёска ў Гарадоцкім с/с. За 15 км на ПнУ ад Лунінца, за 8 км ад чыг. ст. Лахва. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

Пасля 1986 г. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 2 гаспадаркі, 8 жыхароў, у аграфірме-калгасе «Маяк».

**ПАЛЕСКІ** (да 1969 Красцінава) — пасёлак у Лунінскім с/с, цэнтр Палескай доследнай станцыі (засн. ў 1947). За 6 км на ПнЗ ад Лунінца, за 4 км ад чыг. ст. Лоўча, каля шашы Лунінец—Пінск. 369 гаспадарак, 1093 жыхары (2005).

У 1897 г. ў Лунінскай вол. Пінскага пав., 8 двароў, 116 жыхароў, сядзіба памешчыка Друцкага, паравы млын, віна-



*Будынак лазні (1905) у пас. Палескі.*

курня, аптовы вінны склад. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў, у 1970 г. — 544 жыхары.

**ПЕРАДЗЕЛ** — хутар у Чучавіцкім с/с. За 46 км на Пн ад Лунінца, за 49 км ад чыг. ст. Лунінец, на шашы Вял. Чучавічы—Лунінец. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2005).

У 1897 г. ўрочышча, у Чучавіцкай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 1 двор, 10 жыхароў, меўся дзягцярны з-д. Паводле перапісу 1959 г. 35 жыхароў.



*Герб в. Радзігерава.*

**ПЕРЫНОВА** — вёска ў Лахвенскім с/с. За 27 км на ПнУ ад Лунінца, за 15 км ад чыг. ст. Лахва, на аўтадарозе Любань—Барсукова. 105 гаспадарак, 250 жыхароў (2005).

Узнікла ў 1908 г. на асушаных землях маёнтка Лахва. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. калонія Пярынаўка, 56 двароў, 419 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ленінскім р-не Пінскай вобл., з 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета Ленінскага р-на той жа вобласці. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук акупантаў загінулі 20 мірных жыхароў вёскі, на фронце — 24 жыхары, 1 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны ў 1949 г. створаны калгас імя Чкалава, з 1950 г. — імя Дзяржынскага, з 1954 г. — калгас «Новае Палессе». З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Радзігераўскім с/с Ленінскага р-на, з 20.1.1960 г. — Лунінецкага р-на. У 1950-я г. адкрыты клуб, б-ка, на пач. 1970-х г. — школа. У 1994 г. ў вёсцы 137 гаспадарак, 360 жыхароў. З канца 1980-х г. вёска знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 120 гаспадарак, 283 жыхары, у калгасе «Новае Палессе». Ёсць базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Дзейнічае лясніцтва.

**ПОЛЕ** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 10 км на ПнУ ад Лунінца, за 13 км ад чыг. ст. Лунінец. 5 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

Пасля 1986 г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 6 гаспадарак, 16 жыхароў, у калгасе «Сацыялізм».

**ПЯСЧАНІКІ** — вёска ў Мікашэвіцкім гарсавеце. За 56 км на У ад Лунінца, 3 км ад чыг. ст. Мікашэвічы. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. хутар у Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., было 10 двароў, 36 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага пав., 15 двароў, 115 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ленінскім р-не Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Мікашэвіцкім с/с таго ж раёна. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы было 10 двароў, 40 жыхароў. З восені 1942 г. ў Ленінскай партыз. зоне. У час карнай аперацыі супраць партызан у сак. 1943 г. фашысты спалілі вёску, загубілі 38 жыхароў. Пасля вайны з 1945 г. ў калгасе імя Сталіна (цэнтр — пас. Мікашэвічы). З 8.1.1954 г. вёска таго жа раёна і вобласці, у калгасе «Дружба». У 1994 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў. З канца 1980-х гг. вёска ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў, у калгасе «Дружба».

**РАДЗІГЕРАВА** — вёска, цэнтр Радзігераўскага с/с. За 35 км на ПнУ ад Лунінца, за 15 км ад чыг. ст. Лахва. 225 гаспадарак, 635 жыхароў (2005).

Узнікла ў 1907 г. на асушаных землях урочышча Раі маёнтка Лахва. Названа імем начальніка доследна-балотнай станцыі У.Р.Рыдзігера. У канцы 19 — пач. 20 ст. на тэр. сучаснага сельсавета былі праведзены значныя работы па асушэнні вял. балотных абшараў (Грычынскіх балот). Гэтай справай з 1873 г. займалася Зах экспедыцыя на чале з ген.-лейт. І.І.Жылінскім. У 1907—15 гг. на балотным масіве Куцёлка каля Лахвы працавала доследна-балотная станцыя на чале з вучоным-меліяратарам Рыдзігерам. Узнікшыя тут хутары з цягам часу выраслі ў вёскі. З 18.3.1921 г. калонія Радзігераўка ў Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У



1923 г. было 86 двароў, 600 жыхароў. У пач. 1930-х гг. дзейнічаў млын (належаў Мураўчыку), на якім у 1933 г. працавалі 2 рабочыя. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Ленінскага р-на Пінскай вобл. У ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Зімой 1943 г. каля вёскі вялі баі з карнікамі партызаны атрада імя С.М.Кірава аднайменнай брыгады, каб выратаваць насельніцтва ад смерці. Вызвалена ў ліп. 1944 г. Ад рук ням. акупантаў загінулі 12 жыхароў, 25 — на франтах і ў партыз. барацьбе. У 1945 г. створаны калгас «Запаветы Ільіча». З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 20.7.1960 г. ў Лунінецкім р-не. Да пач. 1970-х гг. вёска электрыфікавана і газіфікавана. З канца 1980-х гг. у зоне радыяцыйнага забруджвання. У 1994 г. 218 гаспадарак, 622 жыхары. У 2002 г. 226 гаспадарак, 663 жыхары, цэнтр калгаса «Запаветы Ільіча». Працуюць малочнаперапрацоўчы цэх, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, магазін, лазня, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, спартклуб.

**РАКІТНА** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 6 км на ПдУ ад Лунінца, за 8 км ад чыг. ст. Лунінец. 337 гаспадарак, 1024 жыхары (2005).

На пач. 17 ст. сяло маёнтка Гарадзец (Кажан-Гарадок), уласнасць Мікалая Кішкі. У 1613 г. разам з маёнткам прададзена за 30 тыс. коп грошаў Ежы Самсону Падбярэзскаму. Сяло ў Навагрудскім пав. меліся 32 валокі зямлі, каля 64 двароў. У канцы 17 ст. было 39 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 1796 г. ў Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1870 г. вёска і маёнтак у Кажан-Гарадоцкай вол. Мазырскага пав., уласнасць памешчыка Шчыта, 124 душы сялян. Ракітна адносілася да Язвінскага праваслаўнага прыхода. У канцы 19 ст. ў наваколлі вёскі праведзены асушальныя работы. На пач. 20 ст. Ракітна — вёска і маёнтак (разам 104 двары, 590 жыхароў) у Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. 114 двароў, 714 жыхароў. У 1930 г. тут было 746 жыхароў. З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Гарадоцкім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У 1939 г. налічвалася 889 жыхароў. У 1940 г. створаны калгас імя Крупскай. У пачатку ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7.12.1942 г. карнікі расстраляны ў Ракітне 83 жыхары. Вызвалена ў ліп. 1944 г. войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 20 жыхароў вёскі. Пасля вайны аднавіў работу калгас (з 1961 калгас «Расія»). Да канца 1960-х г. вёска электрыфікавана і газіфікавана. На пач. 1980-х г. у Ракітне працавалі школа, Дом культуры, б-ка, магазін. У канцы 1980-х г. вёска апынулася ў зоне радыяцыйнага забруджвання. У 1994 г. 338 гаспадарак, 1126 жыхароў. У 2002 г. 336 гаспадарак, 1064 жыхары, у калгасе «Расія». Ёсць базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, клуб, магазін, аддз. сувязі.

**САСНОЎКА** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 2 км на У ад Лунінца, за 4 км ад чыг. ст. Лунінец, на аўтадарозе Лунінец—Язвінкі. 168 гаспадарак, 589 жыхароў (2005).

Пасля 1986 г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 1939 г. ў вёсцы налічвалася 397 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 10 жыхароў, ад рук карнікаў — 33 жыхары. У 2002 г. 168 гаспадарак, 602 жыхары, у калгасе «Расія». Працуе магазін.

**СІНКЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр Сінкевіцкага с/с, на р. Лань. За 36 км на У ад Лунінца, за 12 км ад чыг. ст. Лунінец, на аўтадарозе Лахва—Мікашэвічы. 321 гаспадарка, 980 жыхароў (2005).

У 1493 г. сяло маёнтка Лахва ў ВКЛ, уласнасць троцкага ваяводы Пятра Янавіча Мантыгірдавіча, у 1588 г. — Мікалая Крыштофа Радзівіла, у 1626 г. — Зыгмунда Караля Радзівіла, рыцара Мальтыйскага ордэна. У 1672 г. налічваліся 22 два-



*Герб в. Сінкевічы.*



*Георгіеўская царква ў в. Сінкевічы.*

ры, 28 валок зямлі. У 18 ст. ўласнасць Вітгенштэйнаў. У 1743 г. вёска таго ж маёнтка, 29 дымоў, 39 валоў, 15 коней, карчма, вінніца, стайня. У 1764 г. было 28 дымоў, 11 коней, 49 валоў, карчма, паташня, млын, невял. бровар. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1830 г. пабудавана Георгіеўская царква (драўляная). З 1861 г. ў Ленінскай вобл. Мазырскага пав. Мінскай губ. Пад 1870 г. пазначана як цэнтр сельскай грамады, 77 рэвізскіх душ. У 1887 г. на р. Лань уведзены ў эксплуатацыю вадзяны млын, у 1903 г. — паравы (абодва належалі Аўрааму Слуцкаму). Ён жа трымаў пілараму, маслабойку, ваўначоску. Адсюль па рацэ сплаўляўся лес, піламатэрыялы па чыгунцы адпраўлялі за мяжу; дзейнічаў магазін-крама прам. тавараў. У вёсцы існавала вял. яўр. абшчына. Асушэнне часткі Грычынскіх балот у 19 ст., пракладка ў 2-й пал. 1880-х г. чыгункі Лунінец—Гомель спрыялі хуткаму росту паселішча. Непадалёку ад вёскі ўзнікла чыг. ст. Сінкевічы. 12.7.1919 г. побач з вёскай вялі баі з палякамі часці 66-га палка 1-й брыгады 8-й стралк. дывізіі 16-й арміі. Атакі ворага былі адбіты з дапамогай бронецягніка. У 2-й пал. жніўня Сінкевічы акупіраваны польскімі войскамі. 18.6.1920 г. пасля цяжкага бою часці 57-й стралк. дывізіі вызвалілі вёску. У кастр. 1920 г. зноў акупіравана палякамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы 109 двароў, 667 жыхароў, 1 пач. польская школа, праваслаўная царква, касцёл, паліцэйскае аддз. (пастарунак). Дзейнічалі лесапільны з-д, на якім у 1933 г. працавалі 22 рабочыя, млын (1 рабочы). Вызвалена 17.9.1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі 23-га асобнага корпуса Чырвонай Арміі.

З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Ленінскага р-на Пінскай вобл. Працаваў фанерны з-д. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. Сінкевічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы быў створаны гарнізон (50 немцаў). 18.7.1941 г. фашысты расстралялі тут групу сав. і камсамольскіх актывістаў, у 1942 г. — 9 яўр. сем'яў. У вёсцы з першых месяцаў акупацыі дзейнічала падп. камсамольска-маладзёжная арг-цыя. У 1943 г. падпольшчыкі знішчылі лесапільню, пашкодзілі чыг. пуці. На пач. 1944 г. арг-цыя налічвала 13 членаў. 30.10.1942 г. партызаны атрадаў імя Кірава, імя Шыша (Пінскае партыз. злучэнне) разграмілі тут варожы гарнізон. У выніку аперацыі знішчаны чыг. станцыя, камендатура, паліцэйскі ўчастак, лесапільны і малочны з-ды, 6 мастоў, у т.л. 2 чыгуначныя, эшалон з боепрыпасамі (37 вагонаў). Вораг страціў забітымі 74, параненымі 14, у палон узяты 6 салдат. Сінкевічы вызвалены 9.7.1944 г. войскамі 55-й стралковай дывізіі 61-й арміі. У падполлі, партыз. барацьбе і на фронце ў гады Вял. Айч. вайны загінулі 65 жыхароў вёскі. У 1947 г. створаны калгас «1 Мая», з 1957 г. — калгас «40 гадоў Кастрычніка». У пач. 1960-х г. адкрыта бальніца, працаваў гароднінасушыльны з-д. У 1970-я г. на яго базе створаны цэх па перапрацоўцы пластычных мас (25 рабочых), з мая 1972 г. з-д пластмасавых тарных і ўпаковачных вырабаў «Палімер» (108 рабочых у 1994), меўся паркетны цэх райпрамкамбіната. Працавалі філіял Мікашэвіцкага камбіната быт. абслугоўвання, лясніцтва, сярэдняя школа імя Я.Коласа, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, 4 магазіны.

З 2-й пал. 1980-х г. вёска ў зоне радыяцыйнага забруджвання. У 2002 г. 318



гаспадарак, 969 жыхароў, цэнтр калгаса «40 гадоў Кастрычніка». Ёсць сярэдняя школа, дзіцячы сад, участковая бальніца, амбулаторыя, аптэка, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, 3 магазіны, лясніцтва, аддз. ашчаднага банка. Помнікі: 98 землякам, брацкая магіла 12 сав. воінаў, магіла 11 камсамольцаў-падпольшчыкаў, мемарыяльная дошка ў гонар партыз. атрада імя Кірава, які 30.10.1942 г. знішчыў мост на р. Лань і чыг. станцыі. Помнік драўлянага дойлідства 18 ст. — Георгіеўская царква.

**СІТНІЦА** — вёска ў Мікашэвіцкім гар. савеце. За 37 км на У ад Лунінца, за 8 км ад чыг. ст. Мікашэвічы, каля чыгункі Лунінец—Жыткавічы. 283 гаспадаркі, 648 жыхароў (2005).

У 1493 г. сяло маёнтка Лахва ў ВКЛ, уласнасць троцкага ваяводы Пятра Янавіча Мантыгірдавіча. У 1523 г. 8 службаў сяла належалі Ганне Станіслававай Кішчанцы, астатнія Пятру Кішцы, полацкаму ваяводу. У 1588 г. ўласнасць Мікалая Крыштофа Радзівіла. У 1626 г. меліся 36 валок зямлі, 71 двор, у 1672 г. — 44 валокі, 41 двор. Паводле інвентара 1743 г. ў в. Сітніца 28 дымоў, карчма. Сяляне трымалі 30 валоў, 9 коней. У 1764 г. налічвалася 23 дымы, карчма, «броварэк», 6 коней, 36 валоў. З 1-й пал. 18 ст. ўласнасць Вітгенштэйнаў. У 1862 г. пабудаваны хлебазапасны магазін, у 1884 г. ўзнікла чыг. ст. Сітніца на лініі Лунінец—Гомель. Пасля 1861 г. ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., сяло і маёнтак кн. Вітгенштэйна. У 1870 г. ў сяле 74 рэвізскія душы сялян, цэнтр Сітніцкай сельскай грамады, была царква. Пракладка чыгункі і меліярацыйныя работы ў канцы 19 ст. спрыяльна адбіліся на росце паселішча. У 1908 г. тут было 67 двароў, 460 жыхароў, у аднайменным фальварку — 10 двароў, 68 жыхароў. У ліп. 1919 г. пад час польскага наступлення вёску і чыг. станцыю абараняліі часці 8-й стралк. дывізіі 16-й арміі. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. Сітніца акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. ў вёсцы было 102 двары, 174 жыхары. Восенню 1924 г. партыз. атрад К.П.Арлоўскага разграміў тут паліцэйскі пастарунак і вызваліў арыштаваных сялян.

З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Сітніцкага с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ёй быў створаны ням. гарнізон. У першыя дні акупацыі фашысты арыштавалі сав. актывістаў вёскі (лёс іх невядомы). 19.11.1942 г. ў час карнай акцыі загінулі 12 жыхароў, яшчэ 4 былі расстраляны за сувязь з партызанамі. Вызвалена 9.7.1944 г. войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 41 жыхар вёскі. У 1949 г. створаны калгас «Перамога». З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мікашэвіцкім с/с, з 20.7. 1960 г. ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл., з 27.6.1961 г. ў Мікашэвіцкім пас. савеце таго ж раёна і вобласці. З 2005 г. ў Мікашэвіцкім гарсавеце. Да канца 1960-х гг. вёска электрыфікавана і газіфікавана. У 1994 г. меліся 332 гаспадаркі, 777 жыхароў. З канца 1970-х гг. вёска знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага забруджвання. У 2002 г. 278 гаспадарак, 729 жыхароў, у калгасе «Дружба». Працуюць сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін, аддз. сувязі. Дзейнічае лясніцтва.

**СІТНІЦКІ ДВОР** — вёска ў Сінкевіцкім с/с. За 33 км на ПнУ ад Лунінца, за 16 км ад чыг. ст. Мікашэвічы, на канале Глухая Лань. Аўтадарогай звязана з в. Сінкевічы. 80 гаспадарак, 212 жыхароў (2005).

Верагодна, узнікла на землях маёнтка Сітніца кн. Вітгенштэйна ў 2-й пал. 19 ст. На пач. 20 ст. ў Ленінскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., фальварак, 10 двароў, 68 жыхароў. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Ленінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. было 9 двароў, 174 жыхары. З канца

1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Сінкевіцкім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У 1941 г. 80 двароў, 490 жыхароў. У Вял. Айч. вайну 13.11.1942 г. Сітніцкі двор спалены гітлераўскімі карнікамі: знішчаны 74 двары, загублены 482 жыхары. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 6 жыхароў вёскі. У 1948 г. створаны калгас імя Малянкова. З 1957 г. ў калгасе «40 гадоў Кастрычніка». З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 20.1.1960 г. Лунінецкага р-на той жа вобласці. Да пач. 1970-х г. вёска электрыфікавана і газіфікавана. У 1994 г. налічвалася 83 гаспадаркі, 272 жыхары. З канца 1980-х г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 82 гаспадаркі, 226 жыхароў, у калгасе «40 гадоў Кастрычніка». Працуюць базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, магазін. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**СЯРОДБОР'Е** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 19 км на ПнУ ад Лунінца, за 22 км ад чыг. ст. Лунінец. 3 гаспадаркі, 9 жыхароў (2005).

Пасля 1986 г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 3 гаспадаркі, 9 жыхароў, у калгасе «Сацыялізм».

**ТОЖАВА** — хутар у Бастынскім с/с. За 15 км на Пн ад Лунінца, за 18 км ад чыг. ст. Лунінец. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

**ФЛЯРОВА** — вёска ў Радзігераўскім с/с. За 38 км на ПнУ ад Лунінца, за 18 км ад чыг. ст. Лахва. 54 гаспадаркі, 170 жыхароў (2005).

Узнікла ў 1907 г. на асушаных землях маёнтка Лахва Пінскага пав. Мінскай губ. Названа імем работніка доследна-балотнай станцыі А.Ф.Флярова (1872—1960). З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., калонія Флароўка, 43 двары, 254 жыхары. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Перыноўскім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 40 двароў, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну з восені 1942 г. ў Ленінскай партыз. зоне. 16.2.1943 г. карнікі спалілі вёску, загубілі 23 жыхароў. Вызвалена ў ліп. 1944 г. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 8 жыхароў вёскі. Пасля вайны вёска аднаўлена. У 1949 г. створаны калгас імя Суворава. З 1953 г. ў калгасе «Запаветы Ільіча». З 8.1.1954 г. ў тым жа раёне Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Радзігераўскім с/с таго ж раёна, з 20.7.1960 г. — Лунінецкага р-на. З 1986 г. Флярова знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага забруджвання. У 1994 г. было 56 гаспадарак, 171 жыхар. У 2002 г. 51 гаспадарка, 149 жыхароў, у



*Сустрэча ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны ў в. Сітніцкі Двор. 2005 г.*



калгасе «Запаветы Ільіча». Ёсць магазін, лазня.

**ЦНА** — вёска ў Гарадоцкім с/с. За 18 км на У ад горада і 20 км ад чыг. ст. Лунінец, на р. Цна. 254 гаспадаркі, 656 жыхароў (2005).

На пачатку 17 ст. сяло маёнтка Гарадзец (Кажан-Гарадок), уласнасць Мікалая Кішкі. У 1613 г. разам з маёнткам было прададзена Ежы Самсону Падбярэзскаму. Сяло мела 30 валок зямлі, каля 60 двароў. У канцы 17 ст. 73 двары. У 18—19 ст. уласнасць Тарнаўскіх, Істрыцкіх і затым Шчытаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Давыд-Гарадоцкім пав., з 1796 г. ў Мазырскім, потым Пінскім паветах Мінскай губ. У 1870 г. налічваўся 171 селян-уласнік, уласнасць Шчыта. Сяло знаходзілася ў складзе Кажан-Гарадоцкай вол., адносілася да Кажан-Гарадоцкага праваслаўнага прыхода. У 1882 г. Цна вёска ў Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав. Меліярацыйныя работы, праведзеныя ў басейне р. Цна ў канцы 19 ст. і пракладка чыгункі Лунінец—Гомель спрыялі росту паселішча. У пач. 20 ст. ў вёсцы меліся 109 двароў, 673 жыхары, у аднайменным маёнтку — 19 жыхароў, працавала школа. На пачатку ліп. 1919 г. каля вёскі адбываліся цяжкія баі 8-й стралк. дывізіі 16-й арміі з польскімі часцямі. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. акупіравана польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав. У 1923 г. 136 двароў, 772 жыхары. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Язвінскім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У 1940 г. створаны калгас «Іскра», у якім аб'ядналіся 38 двароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да ліп. 1944 гг. Цна акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19.1.1943 г. карнікі загубілі ў вёсцы 21 жыхара. На франтах вайны загінулі 24 жыхары. Вёска адбудавана, аднавіў работу калгас. Да пач. 1970-х гг. вёска электрыфікавана і газіфікавана, у 1970-я г. адкрыты Дом культуры. У 1994 г. 269 гаспадарак, 851 жыхар. З канца 1980-х гг. Цна знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 270 гаспадарак, 695 жыхароў, у аграфірме-калгасе «Маяк». Працуюць базавая школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, малітоўны дом баптыстаў.

**ЧАРАБАСАВА** — вёска ў Радзігераўскім с/с. За 26 км на ПнУ ад Лунінца, за 10 км ад чыг. ст. Лахва. 145 гаспадарак, 373 жыхары (2005).

Узнікла ў 1908 г. на асушаных землях маёнтка Лахва Пінскага пав. Мінскай губ. Напачатку тут быў шэраг хутароў пасяленцаў з Украіны, Гродзеншчыны. Пасля іх ссялення да сярэдзіны 1950-х г. склалася вёска. На пач. 20 ст. фальварак Чарабасава ў Лахвенскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 3 двары, 46 жыхароў. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. калонія Чарабасаўка, 88 двароў, 615 жыхароў. Дзейнічаў цагельны з-д, на якім у 1933 г. працавалі 6 рабочых. Барацьбу з польскім рэжымам вялі члены падп. ячэйкі КПЗБ, якая падпарадкоўвалася Лахвенскаму падраённаму к-ту КПЗБ на чале з М.Дунцом (родам з Чарабасава). З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Радзігераўскім с/с Ленінскага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з восені 1942 г. ў Ленінскай партыз. зоне. З першых месяцаў акупацыі ў вёсцы дзейнічала камсамольска-маладзёжная падп. арг-цыя. 14.10.1942 г. ў час карнай акцыі фашысты часткова спалілі вёску, загубілі дзесяткі жыхароў. Вызвалена да 10.7.1944 г. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 21 жыхар вёскі. Пасля вайны адноўлена. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны партызан». З 1953 г. ў калгасе «Запаветы Ільіча». Да канца 1960-х г. Чарабасава электрыфікавана і газіфікавана. З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 20.7.1960 г. ў Лунінецкім р-не. У 1994 г. 173 гаспадаркі, 450 жыхароў. Вёска з канца 1980-х гг. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 158 гаспадарак, 419 жыхароў, у калгасе «Запаветы Ільіча». Працуюць

базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, клуб, б-ка, лазня.

**ЧЫРВОНАЯ ВОЛЯ** — вёска ў Вулькаўскім с/с. За 26 км на ПнУ ад Лунінца, за 30 км ад чыг. ст. Лунінец, 300 гаспадарак, 972 жыхары (2005).

У 1626 г. сяло маёнтка Лахва ў Навагрудскім пав. ВКЛ, уласнасць Зыгмунта Радзівіла. У 1672 г. было 48 двароў, 32 валокі зямлі. Паводле інвентара 1743 г. вёска і двор Воля, 41 дым, 42 валы, 8 коней; карчма, вінніца, гумно, хлеў, студня. У 1764 г. вёска Чырвоная Воля ў тым жа маёнтку, 32 дымы, 7 коней, 54 валы; фальварак, у якім ужо быў бровар. У 1785 г. 36 двароў, уласнасць Вітгенштэйнаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, у Мазырскім пав. Мінскай губ. У 1764 г. пабудавана Троіцкая царква. У 1886 г. меліся 34 двары, 408 жыхароў, праваслаўная царква. На пач. 20 ст. занатаваны: в. Чырвоная Воля Лахвенскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. — 117 двароў, 934 жыхары; засценак той жа назвы — 17 двароў, 126 жыхароў. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 занята польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Лахвенскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. было 159 двароў, 1052 жыхары, дзейнічаў паліцэйскі пастарунак. У 1930 г. ў вёсцы 1297 жыхароў, працаваў млын (у 1933 — 2 рабочыя).



*Спаса-Праабражэнская царква ў в. Язвінкі.*

З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр Чырванавольскага с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук карнікаў загінулі 23 жыхары. У 1949 г. створаны калгас «Чырвоны Кастрычнік», у якім аб'ядналіся 48 сял. гаспадарак. З 8.1. 1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Вулькаўскім с/с. Да пач. 1970-х г. вёска электрыфікавана і газіфікавана. У 1970-я г. адкрыты Дом культуры, у 1990-я г. — амбулаторыя, працавала муз. школа. У 1994 г. ў вёсцы было 328 гаспадарак, 1060 жыхароў. У 2002 г. 312 гаспадарак, 988 жыхароў, у саўгасе «Міжлескі». Працуюць участковая сельская бальніца, амбулаторыя, аптэка, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа-сад, 2 лазні, 4 магазіны, аддз. сувязі. З 2-й пал. 1980-х г. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага забруджвання.

**ЯВАРОВА** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 23 км на ПнУ ад Лунінца, за 27 км ад чыг. ст. Лунінец. 8 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

Пасля 1986 г. ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 8 гаспадарак, 22 жыхары, у калгасе «Сацыялізм».

**ЯЖАЎКІ** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 4 км на У ад Лунінца, за 6 км ад чыг. ст. Лунінец. 147 гаспадарак, 474 жыхары (2005).

У 1800 г. вёска Язаўка, у складзе маёнтка Кажан-Гарадок, 24 двары, 149 душ сялян. На пач. 20 ст. вёска ў Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав., было 49 двароў, 336 жыхароў. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадоцкай гміне Лунінецкага пав., 59 двароў, 410 жыхароў (1923). У 1930 г. хутары Яжаўскія, разам налічвалі 112 жыхароў. З канца 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Язвінскім с/с Лунінецкага р-на Пінскай вобл. У 1939 г. ў вёсцы 315 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. У 1949 г. створаны калгас «Рэкорд». З 1961 г. ў



калгасе «Расія». З 8.1.1954 г. вёска таго ж раёна Брэсцкай вобл., з 11.8.1980 г. ў Дварэцкім с/с. З канца 1980-х г. Яжаўкі ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 147 гаспадарак, 474 жыхары, у калгасе «Расія». Ёсць б-ка, магазін.

**ЯЗВІНКІ** — вёска ў Дварэцкім с/с. За 8 км на У ад Лунінца, за 10 км ад чыг. ст. Лунінец. 287 гаспадарак, 998 жыхароў (2005).

У 1613 г. сяло маёнтка Кажан-Гарадок Навагрудскага пав. ВКЛ, уласнасць Мікалая Кішкі, меліся 23 валокі зямлі, каля 50 двароў (баяры). У 1759 г. пабудавана праваслаўная Праабражэнская царква на сродкі памешчыка Івана Шчыта. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Кажан-Гарадоцкай вол. Пінскага пав. У 1870 г. вёска, уласнасць Шчыта, 51 двор, 393 жыхары. У 1882 г. было 50 двароў, 468 жыхароў. У 1886 г. налічваўся 51 двор, 448 жыхароў. У 1910 г. на месцы старой царквы пабудавана новая (драўляная). У 1909 г. занатаваны: маёнтак Язвінкі — 10 жыхароў, с. Язвінкі — 115 двароў, 791 жыхар. Сяло на гэты час было адным з найбольш буйных. Гэтаму спрыялі значныя меліярацыйныя работы ў маёнтку, праведзеныя ў канцы 19 ст., і пракладка чыгункі Лунінец—Гомель. У ліп. 1919 — ліп. 1920 гг. і з кастр. 1920 г. Язвінкі акупіраваны польскімі войскамі. З 18.3.1921 г. ў складзе Польшчы, у Кажан-Гарадзецкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1923 г. вядомы вёска і фальварак Язвінкі — 139 двароў, 839 жыхароў; калонія Язвінкі, у якой налічвалася 9 двароў, 62 жыхары. У 1930 г. 775 жыхароў, меўся млын (2 рабочыя, 1933). Вёска вызвалена ў вер. 1939 г. войскамі 52-й стралк. дывізіі 23-га асобнага корпуса.

З канца 1939 г. ў складзе БССР, 656 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Лунінецкага р-на Пінскай вобл. Працавала школа. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 9.7.1944 г. войскамі 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі. Пасля вайны адноўлена. У 1948 г. створаны калгас імя Сталіна. Пасля рэарганізацыі з 1961 г. — калгас «Расія». Да пач. 1970-х гг. вёска электрыфікавана і газіфікавана. У 1981 г. і на пач. 1990-х г. працавалі сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, амбулаторыя, крама, клуб. У 1994 г. 269 гаспадарак, 855 жыхароў. Вёска з канца 1980-х г. знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. У 2002 г. 277 гаспадарак, 916 жыхароў, у калгасе «Расія». Ёсць амбулаторыя, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, магазін, б-ка, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі. Дзейнічае лясніцтва.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 2136, воп. 1, спр. 6, 7; ф. 2149, воп. 1, спр. 6.

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 33а, спр. 582;
ф. 3500, воп. 3, спр. 113; воп. 4, спр. 148, 280, 282, 283; ф. 4683, воп. 3, спр. 967; ф. 4691, воп. 1, спр. 1.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1379, 1380, 2172, 2173; ф. 333, воп. 9, спр. 686.

Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Мн., 1870.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Ярмолович В.С. Список населённых мест Минской губернии. Мн., 1909.

Газета «Авангард». 30 студз., 30 кастр. 1949 г.

Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг). Мн., 1966.

Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 8. Мн., 1975.

Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1. Мн., 1983.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобласць. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: Справ. Т. 1 (1917—1941 гг.). Мн., 1985.
Прамысловыя прадпрыемствы дарэвалюцыйнай Беларусі. Мн., 1988.
Малішэўскі У.А., Пабока П.М. Нашы гарады. Мн., 1991.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944): [Зб. дак. і матэрыялаў]. Мн., 1995.
Памяць: Лунінецкі р-н. Мн., 1995.
Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 7—8. Warszawa, 1923—24.



БАРАНАВІЦКІ РАЁН
НЯСВІЖСКІ РАЁН
МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
КЛЕЦКІ РАЁН
ГАНЦАВІЦКІ РАЁН
ІВАЦЭВІЦКІ РАЁН
ЛЯХАВІЧЫ
Гірыч-Поль
Адахаўшчына
Селявічы
Сваятычы
Гарбачы
ЦітKаўшчына
Макееўшчына
Навасёлкі
Пірштукі
Трабавічы
Дамашы
Мал. Падлессе
Пранчакі
Валасачы
Літва
Дарава
Дарава-Чыж
Краглі
Станчыкі
Рамашкі
Астрэйкі
Ураджайная
Бажкі
Каранеўшчына
Шавялі
Лабузы
Дайнякі
Тумашы
Улазавічы
Зарытава
Яцкаўшчына
Флар'янова
Падлессе
Карані
Кавалі
Дрэкі
Свісткоўшчына
Зарэчча
Цвыры
Федзюкі
Туркі
Жарабковічы
Салавачы
Конькі
Вял. Лотва
Зубелевічы
Гулічы
Сакуны
Патапавічы
Канюхі
26°30'
Нача
Вадзяціна
Петухоўшчына
Грушаўка
Перахрэсце
Гасцілавічы
Пад'язаўля
Задвор'е
Пашкоўцы
Шчаснавічы
Гаслаўшчына
53°00'
Гукова
Мыслабаж
Рачканы
Альхоўцы
Набярэжная
Райтанаў
Русінавічы
Літоўка
Залужжа
вдсх. Шчара
Жарскія
Крывое Сяло
Падбарочча
Ганчары
Нівішча
Волька
Мал. Гарадзішча
Гарадзішча
Тальмінавічы
Вял. Гарадзішча
Мінічы
Мазуркі
Нізкія
Завінне
Асосы
Ганцавічы
Мядзведзічы
Марынова
Шчэрбава
Гарадзішча
Савейкі
Падлаззе
Бярозкі
Бенькаўцы
Меляхі
Смаленікі
Гайнін
Стральцы
Галаўніцы
Малышы
Гайнінец
Гута
Вострава
Любейкі
Цыгань
Куршынавічы
Кулікі
Траццякоўцы
Заполле
Крывошын
Нов. Буды
Стараселле
Рагачы
Гашчын
Хацяж
Стар. Буды
Заліпенне
Нетчын
Ліпск
52°50'
Тухавічы
Забер'е
Залужжа
26°15'
Навасёлкі
Свяціца
Маштаб 1:300 000
52°40'
26°00'

# ЛЯХАВІЦКІ РАЁН

Размешчаны на ПнУ Брэсцкай вобл. Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Баранавіцкай вобл. 12.10.1940 г. падзелены на 18 сельсаветаў: Альхоўскі, Востраўскі, Дараўскі, Жарабковіцкі, Крывошынскі, Куршынавіцкі, Ліпскі, Ляхавіцкі, Малагарадзішчанскі, Мядзведзіцкі, Навасёлкаўскі, Падлескі, Пад'язаўлянскі, Перахрэсцкі, Сваятыцкі, Тальмінавіцкі, Федзюкоўскі, Цыганскі. 8.1.1954 г. раён увайшоў у склад Брэсцкай вобл. 22.4. 1957 г. ў раёне ліквідаваны Свяціцкі с/с, які быў перададзены са складу суседняга Ганцавіцкага р-на (1.6.1998 г. сельсавет адноўлены). 4.10. 1957 г. да раёна далучаны Гуцкі і Тухавіцкі с/с Быценскага р-на. 17.4. 1959 г. скасаваны Гуцкі, 17.11. 1959 г. – Ляхавіцкі і Перахрэсцкі с/с; створаны Рачканскі с/с. 25.12. 1962 г. да Ляхавіцкага р-на далучаны Дзяніскавіцкі, Любашаўскі, Люсінскі, Нацкі, Агарэвіцкі, Хатыніцкі, Чудзінскі сельсаветы скасаванага Ганцавіцкага р-на; 30.7.1966 г. названыя сельса-

*Фрагмент карты ВКЛ 1613 г. з пазначэннем Ляхавіч. Гравёр Т.Макоўскі.*

веты зноў перададзены аднаўленаму Ганцавіцкаму р-ну. У Ляхавіцкім р-не былі перайменаваны сельсаветы: 20.5.1968 г. Пад'язаўлянскі ў Альхоўскі, 3.7.1972 г. Падлескі ў Жарабковіцкі, 4.6.1979 г. Міціцкі ў Ганчароўскі, Рачканскі ў Начаўскі. У 2005 г. ў раёне 124 населеныя пункты. Адміністрацыйна ён падзелены на 11 сельсаветаў: Альхоўскі, Востраўскі, Ганчароўскі, Жарабковіцкі, Конькаўскі, Крывошынскі, Куршынавіцкі, Навасёлкаўскі, Начаўскі, Падлескі, Свяціцкі. Цэнтр раёна — г. Ляхавічы. Плошча раёна 1,3 тыс. км². Насельніцтва 33,2 тыс. чалавек (2005). Пераважаюць сельскія жыхары (65,1%). Гарадское насельніцтва складае 34,9%. Сярэдняя шчыльнасць 27 чалавек на 1 км².


*П.Ф.Бандарчук.*

Па тэр. раёна праходзяць чыгункі Баранавічы—Лунінец, Баранавічы—Асіповічы, аўтадарогі Брэст—Слуцк, Баранавічы—Ляхавічы—Клецк.

Ляхавіцкі р-н на Пд мяжуе з Ганцавіцкім, на З — з Баранавіцкім і Івацэвіцкім р-намі Брэсцкай вобл., на У — з Клецкім і Нясвіжскім р-намі Мінскай вобл. Паўд. частка раёна размешчана ў межах Прыпяцкага Палесся, паўн. — у межах Баранавіцкай і Клецкай раўнін, Капыльскай грады. Большая частка паверхні ўзгорыста-раўнінная, плоская, на поўдні з участкамі дзюнна-бугрыстых форм. 70% тэр. размешчана на вышыні 150—180 м. Найвышэйшыя пункты 218,5 м — за 2 км на З ад в. Канюхі, 253,3 м — каля в. Шчаснавічы. У раёне ёсць радовішчы торфу. Сярод іншых карысных выкапняў мел, гліны, суглінкі, пясок, пясчана-жвіровы матэрыял. Найбольшая рака, якая працякае на тэр. раёна, — Шчара з прытокамі Мышанка, Ліпнянка, Ведзьма. На ПнУ верхняе цячэнне р. Нача, на ПдУ — р. Бобрык. На мяжы з Івацэвіцкім р-нам размешчана Выганашчанскае воз. У раёне таксама знаходзіцца воз. Качайла. Створаны вадасховішчы Шчара, Нетчынскае, меліярацыйны Свяціцкі канал. Пад лесам знаходзіцца 37,6% тэр. раёна. Найбольш лясоў на Пд. Ляхавіцкі р-н — адзін з найбольш забалочаных раёнаў вобласці. Пад балотамі занята каля 46 тыс. га (35,4% плошчы). Амаль усе балоты нізінныя, частка іх асушана. Найбольшае балота — Выганашчанскае. На Пд раёна знаходзіцца частка гідралагічнага заказніка рэсп. значэння Выганашчанскае. У пойме р. Шчара, ад в. Хацяж да в. Дарава, створаны ландшафтна-гідралагічны заказнік мясц. значэння. У пойме р. Шчара знаходзіцца таксама гідралагічны заказнік мясц. значэння Ліпск.

Агульная пл. с.-г. угоддзяў раёна складае 46,4 тыс. га, з іх асушаны 20 тыс. га. Спецыялізацыя сельскай гаспадаркі — малочна-мясная жывёлагадоўля, свінагадоўля, авечкагадоўля і конегадоўля. Вырошчваюць збожжавыя і кармавыя культуры, а таксама лён, бульбу, лёндаўгунец на насенне. У 2005 г. на тэрыторыі раёна працавала 18 с.-г. прадпрыемстваў.

Працуюць ільнозавод, торфабрыкетны завод «Ляхавіцкі», прадпрыемствы харчовай, будаўнічай, лясной прам-сці.

У раёне дзейнічаюць 19 дзіцячых дашкольных устаноў, гімназія, 19 сярэдніх, 3 базавыя, 1 пач. школы, 4 комплексы школа-сад, аграрны каледж, працуюць 43 установы культуры, у ліку якіх 2 дамы народнай творчасці, 41 бібліятэка, 8 урачэбных амбулаторый, 19 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 4 аптэкі. Выдаецца газ. «Ляхавіцкі веснік».

**ЛЯХАВІЧЫ**. Горад раённага падпарадкавання, цэнтр Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл. на р. Ведзьма (прыток р. Шчара). За 225 км на ПнУ ад Брэста. Чыг. станцыя на лініі Баранавічы—Лунінец; аўтастанцыя на шашы Брэст—Русінавічы. 11,6 тыс. жыхароў (2005).

Вядомы з 15 ст. як цэнтр Ляхавіцкай вол., велікакняжацкае ўладанне, якое атрымалі ў «держанье» Гаштольды. У 1492 г. вял. кн. ВКЛ і кароль польскі Казімір дазволіў праводзіць у Ляхавічах кірмаш і трымаць корчмы. У 1533 г. Ляхавічы — горад і замак, цэнтр воласці,





*Старонка з успамінаў Ф.М.Еўлашоўскага.*

уладанне А.М.Гаштольда, які ў 1535 г. заснаваў тут касцёл. У 1537 г. горад з замкам у ліку іншых маёнткаў С.А.Гаштольд запісаў у пажыццёвае валоданне сваёй жонцы Барбары Радзівіл. У 1547 г. Барбара Радзівіл пабралася шлюбам з Жыгімонтам Аўгустам, сынам вял. кн. літ. і караля польскага Жыгімонта I Старога і яго жонкі Боны Сфорца. У 1548 г. Жыгімонт Аўгуст стаў вял. кн. ВКЛ і каралём Польшчы пад імем Жыгімонта II Аўгуста. Пасля смерці Б.Радзівіл з 1551 г. Ляхавічы з'яўляліся цэнтрам воласці-дзяржавы Навагрудскага пав. ВКЛ, асабістай уласнасцю караля Жыгімонта II Аўгуста. У 1550-я г. Ляхавічы і воласць знаходзіліся ў часовым валоданні (у «заставе») у Г.Г.Валовіча, у 1506—66 гг. — у залогу за 3 тыс. коп грошай у пана І.А.Солтана, з 1566 г. — у У.С.Забалоцкага і яго жонкі (пажыццёва, за 6 тыс. коп грошай). У 1546 г. ў Ляхавічах нарадзіўся Фёдар Міхайлавіч Еўлашоўскі (памёр пасля 1616 г.), грамадскі дзеяч, пісьменнік-мемуарыст. Яго бацька быў святаром Ляхавіцкай царквы св. Юр'я. У 1572 г. Ляхавічы і некаторыя іншыя асабістыя гаспадарскія (каралеўскія) маёнткі былі абменены на маёнтак Свіслач Ваўкавыскага пав. Яна Ераніма Хадкевіча і такім чынам трапілі ва ўладанне апошняга. У 1579 г. гетман ВКЛ Ян Караль Хадкевіч (сын Я.Е.Хадкевіча) побач з пасяленнем, на левым беразе р. Ведзьма, пабудаваў замест старога драўлянага магутны бастыённы замак. Так званая Ляхавіцкая фартэцыя лічылася самай моцнай сярод падобных збудаванняў на тэр. Рэчы Паспалітай. Пад аховаю замка ў 17 ст. значна вырасла і само мястэчка; у 1636 г. ў ім было 215 дымоў, мытны пункт, дзе купцы з усх. раёнаў Беларусі, якія накіроўваліся з таварам у Польшчу, плацілі мыта. Акрамя асн. ядра паселішча — «места», якое дзялілася на пасады і было абнесена ўмацаваннямі, у сярэдзіне 17 ст. па-за межамі фартэцыі размяшчаліся слабоды. Падчас ваенных дзеянняў іх жыхароў рабавалі і забівалі ў першую чаргу. Я.К.Хадкевіч, вядомы палкаводзец, хутка пачаў называць сябе ў дакументах «графам на Ляхавічах». Зімой 1595—96 гг. Ляхавіцкі замак беспаспяхова спрабавалі штурмаваць казацкія загоны С.Налівайкі і М.Шавулы. У 1621 г., пасля смерці Я.К.Хадкевіча, Ляхавічы адышлі ў спадчыну яго дачцэ Ганне, жонцы Яна Станіслававіча Сапегі, а з 1625 г.



*Ляхавіцкі замак. Рэканструкцыя паводле гравюры 17 ст.*

належалі роду Сапегаў. У перыяд антыфеадальнай вайны 1648—51 гг. тры разы паўстаўшыя сяляне і казакі беспаспяхова асаджалі замак. Мяст. Ляхавічы пры гэтым было разбурана. У гады вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг., у жн. 1655 г. войскі князя А.М.Трубяцкога зноў разбурылі наваколлі Ляхавіч. У сак. 1660 г. адбылася другая аблога Ляхавіцкага замка войскамі кн. І.А.Хаванскага, якая доўжылася некалькі месяцаў. Замкавы гарнізон на чале з камендантам С.Юдзіцкім здолеў адбіць усе атакі непрыяцеля, але Ляхавічы і наваколле былі зруйнаваны (у 1673 г. засталося 17 двароў). У 1661 г. сойм Рэчы Паспалітай вызваліў жыхароў «места» Ляхавічы і яго валасці ад падаткаў на 9 гадоў. Гетман ВКЛ Павел Сапега, уладальнік мястэчка, атрымаў дазвол мець гарнізон у 200 чал. пяхоты за кошт дзяржавы. Адначасова ў 1661 г. пастановай сойма Ляхавічы былі вызначаны месцам збору сойміка Мазырскага пав., занятага рус. войскамі. У Паўн. вайну 1700—21 гг. мястэчка і замак зноў апынуліся ў зоне ваенных дзеянняў. У 1706 г. пасля паўгадавой аблогі гарнізон замка здаў яго войскам Карла XII. Шведы разбурылі замкавыя ўмацаванні, фарны касцёл, амаль поўнасцю спалілі мястэчка. У 1709 г. замак і яго рус. гарнізон двойчы апынаtotal ў аблозе войск польскага караля Станіслава Ляшчынскага і ўкр. гетмана Мазепы. У 1760 г. дачка Е.Ф.Сапегі Мар'яна прадала Ляхавічы і навакольныя землі кн. Міхаілу Юзафу Масальскаму.




*Ляхавічы на карце 1772 г.*



Мястэчка паступова адбудоўвалася, на ахвяраванні Масальскага быў адноўлены касцёл (у 1870 г. пераабсталяваны пад царкву). У 1760 г. на месцы разбуранага Ляхавіцкага замка М.Ю. Масальскі пабудаваў палац, выгляд якога вядомы па малюнку, выкананым невядомым мастаком напярэдадні 1-й сусветнай вайны (палац Масальскіх не захаваўся). У 1775 г., згодна са спец. пастановай сойма Рэчы Паспалітай, які ўлічваў важнае стратэгічнае значэнне Ляхавіч і замка, мястэчка і аднайменнае графства перадаваліся ва ўладанне дзяржаве, а яго жыхары вызваляліся ад падаткаў на 10 гадоў. У 1789—90 гг. Ляхавічы заставаліся ў дзярж. старостве, у часовым валоданні навагрудскага ваяводы Юзафа Несялоўскага. Тут былі 142 дамы, у т.л. палац, дом ксяндза, 4 карчмы, уніяцкі прыход. З мая 1790 г. мястэчка вернута І.Масальскаму, з 1791 г. ўключана ў Случарэцкі павет Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, мястэчка. З 1795 г. цэнтр Ляхавіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ.; як дзярж. ўладанне ў 1793 г. перададзена вял. гетману літ.



*Памятны знак на месцы Ляхавіцкага замка.*



*Абарона Ляхавіцкага замка ў 1660 г. Гравюра 17 ст.*



Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у г. Ляхавічы.



Мемарыяльная капліца ў гонар заснавання г. Ляхавічы.

С.Касакоўскаму. У 1847 г. ў маёнтак Ляхавічы (Ляхавіцкае графства) уваходзілі мяст. Ляхавічы, 11 фальваркаў, 22 вёскі, 468 цяглых сял. двароў. Жыхары Ляхавіч паводле інвентара 1778 г. плацілі толькі чынш за свае пляцы і ворыва, іншых павіннасцей двару яны не выконвалі. У 1867 г. ў мястэчку былі 2072 жыхары. У 1884 г. праз Ляхавічы пракладзены ўчастак Палескіх чыгунак Баранавічы—Лунінец. У 1886 г. ў Ляхавічах 152 двары, 829 жыхароў, валасное праўленне, царква, 2 капліцы, сінагога, 6 яўр. малітоўных дамоў, бальніца, невялікі ганчарны завод, 3 карчмы, 30 крам; 3 разы на год праводзіліся кірмашы, базары па нядзелях. У 1889 г. маёнтак Ляхавічы — уласнасць графоў Касакоўскіх, налічваў 7794 дзес. зямлі. У 1897 г. — 5016 жыхароў, бальніца, царква, мячэць, нар. вучылішча (з 1862), 3 яўр. маліто ўныя школы, хлебазапасны магазін, 2 млыны, 4 піваварні, ганчарныя майстэрні, суконная фабрыка, 111 крам, чыг. станцыя (4 будынкі, 44 жыхары); праводзіліся штотыднёвыя базары, 3 кірмашы на год. У 1907 г. пабудаваны касцёл (паводле іншых звестак у 1906 г.). У 1-ю сусветную вайну мястэчка знаходзілася ў прыфрантавой паласе. У лют.—снеж. 1918 г. акупіравана герм., з чэрв. 1919 — польскімі войскамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора з 1921 г. Ляхавічы ўвайшлі ў склад Польшчы як горад Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 2819 жыхароў (1921). З верасня 1939 г. — у БССР, з 15.1.1940 г.



Касцёл у г. Ляхавічы.



горад, цэнтр Ляхавіцкага р-на Баранавіцкай вобл. У 1940 г. — 757 дамоў, 5114 жыхароў (паводле іншых звестак 764 дамы, 5600 жыхароў); электрастанцыя, 2 няпоўныя сярэднія школы, бальніца, млын, гарбарныя прадпрыемствы. У Вял. Айч. вайну з 26.6.1941 г. да 6.7.1944 г. Ляхавічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. За час акупацыі ў горадзе і раёне гітлераўскія карнікі знішчылі 4983 чал. На тэр. раёна дзейнічалі Ляхавіцкія падп. райкомы КП(б)Б (вер. 1943—10.7.1944) і ЛКСМБ (26.10.1943—10.7.1944), партыз. брыгада 19-я імя Молатава і атрад імя Кірава, асобны атрад «Сокалы»; выдавалася падп. газ. «Савецкі патрыёт». У 1950 г. створаны калгас «За Уладу Саветаў». З 8.1.1954 г. горад перададзены ў Брэсцкую вобл. У 1959 г. Ляхавічы налічвалі 4490, у 1965 г. — 6969 жыхароў. У сучасным горадзе працуюць райвыканком, райваенкамат, рэдакцыя раённай газ. «Ляхавіцкі веснік», 2 сярэднія і спартыўная школы, гімназія, школа мастацтваў, агр. каледж (да 2001 г. саўгас-тэхнікум), Дом культуры (пры Доме культуры ў 1990 г. створана нар. мастацкая студыя «Апалон»), 3 бібліятэкі, 4 дзіцячыя сады, аўтавакзал, аддз. сувязі, гасцініца, паліклініка, бальніца, раённая ветэрынарная станцыя, заводы: металапластмас і жалезабетонных вырабаў, кансервавы, малочны, хлебазавод, лясгас, будаўнічыя арг-цыі і іншыя ўстановы. Помнікі гісторыі: абеліск рус. воінам (у завулку Цітова, устаноўлены ў 1982 г.), 2 брацкія магілы сав. воінаў і партызан (на вуліцы Леніна і на пл. Перамогі; устаноўлены ў 1975 і 1955 гг.), мемарыяльная дошка супрацоўнікам міліцыі па вуліцы 17 Верасня, 7 (устаноўлена ў 1957 г.), памятны знак на замчышчы (устаноўлены ў 1999 г.), капліца ў гонар заснавання горада.

Ген. план Ляхавіч распрацаваны Мінскім філіялам Цэнтр. н.-д. і праектнага інстытута горадабудаўніцтва ў 1972 г., а ў 1973 г. распрацаваны праект дэталёвай планіроўкі і забудовы цэнтр. часткі горада. У аснове захавана развіццё горада ў напрамку да ракі. На галоўнай вуліцы горада (участак аўтадарогі Баранавічы—Русінавічы) размешчаны ўстановы культуры і гандлю, 4—5-павярховыя жылыя будынкі. 4—5-павярховымі дамамі забудоўваецца таксама мікрараён у ПдУ частцы горада. Пры гэтым пераважную частку складаюць аднапавярховыя драўляныя дамы. Радзіма бел. пісьменніка Ф.М.Еўлашоўскага, удзельніка рэв. і нац.-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі А.І.Багданчука.

**АДАХАЎШЧЫНА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, на р. Шчара. За 27 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 12 км ад чыг. ст. Крошын на лініі Баранавічы—Мінск, на аўтадаро-

*Забудова цэнтра г. Ляхавічы.*



*Юр'еўская царква ў г. Ляхавічы.*



зе Баранавічы—Нясвіж. 96 гаспадарак, 229 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. як «двор» Гарадзішча (Гарадышча) у Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1577 г. Андрэй і Барбара Лукашоўна (з Дароўскіх) Гастомскія, уладальнікі «добр» Дарава, Ведзьма і Гарадзішча пазычылі ў шляхціца Яна Адахоўскага пэўную суму грошай і аддалі яму ў заставу ад свайго маёнтка Дарава землі на правым беразе р. Шчара і «двор» Гарадзішча. Пастулова землі, што знаходзіліся ў заставе ў Я.Адахоўскага, пачалі называць Адахаўшчызнай. З прычыны таго, што нашчадкі Гастомскіх не змаглі вярнуць доўг, пасля 1592 г. пан Адахоўскі стаў уладальнікам маёнтка Гарадзішча, ці Адахаўшчызна. У 1613 г. ён прадаў маёмасць К.Хадкевічу, ад якога ў 1728 г. Адахаўшчызну набыў Антоній Рдултоўскі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) маёнтак у складзе Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1812—44 гг. губернскія судовыя органы разглядалі межавыя спрэчкі паміж Казімірам Рдултоўскім, які ў той час валодаў маёнткам Адахаўшчына, і ўладальнікамі маёнтка Дарава (у т.л. канонікамі рэгулярнымі слонімскімі). У 1845—51 гг. у маёнтку дзейнічала суконнае прадпрыемства. У 1852 г. Адахаўшчына — маёнтак і вёска, 234 рэвізскія душы, уласнасць К.Х. Рдултоўскага. У 1862 г. вяскоўцы скардзіліся ў Мінскую губ. па сял. справах установу на памешчыка Рдултоўскага, які адабраў у іх усе землі і ўгоддзі, якімі яны карысталіся да рэформы 1861 г. Нягледзячы на тое, што міравы з'езд пастанавіў гэтыя землі вярнуць сялянам, памешчык не выканаў рашэння суда. У 1876 г. маёнтак у Дараўскай вол., 1240 дзес. зямлі, карчма, ветраны млын, уласнасць Я.К.Рдултоўскага. У 1886 г. Адахаўшчызна — маёнтак і сяло, 63 двары, 580 жыхароў, 2 царквы (прыходская і на могілках), школа. У 1897 г. ў сяле 128 двароў, 758 жыхароў, 2 царквы (сядзіба Адахаўскага праваслаўнага прычта пры р. Шчара налічвала 2 двары, 13 жыхароў), нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 3 ветраныя млыны, кузня, піцейная ўстанова. Сядзіба Рдултоўскіх, якая размяшчалася побач з сялом каля р. Шчара, налічвала 56 жыхароў (у 1889 г. ў маёнтку 573 дзес. зямлі). У 1909 г. ў маёнтку 14 жыхароў, у сяле — 157 двароў, 1056 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; фальварак і вёска, 60 двароў, 275 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Баранавіцкай, з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай абласцях. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Адахаўшчына акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры сучаснай вёскі пахаваны 3 сав. воіны, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні Ляхавіцкага р-на ад ням.-фаш. акупантаў (у 1965 г. на магіле ўстаноўлены абеліск). У 1959 г. Адахаўшчына — цэнтр саўгаса, 123 жыхары, у Федзюкоўскім с/с Ляхавіцкага р-на. У 1970 г. вёска, 177 жыхароў. У 2002 г. 100 двароў, 253 жыхары. З 1991 г. вёска — цэнтр калгаса «Адахаўшчына», цяпер у складзе с.-г. прадпрыемства «Каранеўшчына». Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, школа-сад, б-ка, Дом культуры.

**АЛЬХОЎЦЫ** — вёска, цэнтр Альхоўскага с/с, за 9 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. на аўтадарозе Ляхавічы—Івацэвічы. 162 гаспадаркі, 419 жыхароў (2005).

У 1789 г. Альхоўцы — вёска фальварка Літоўка маёнтка Ляхавічы, у Навагрудскім павеце. З 1790 г. — валоданне Масальскіх (раней уласнасць Сапегаў, дзяржавы, Ю.Несялоўскага). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі населенымі пунктамі Ляхавіцкага маёнтка в. Альхоўцы трапіла ва ўладанне Касакоўскіх. У 1847 г. вёска фальварка Літоўка, $13^3/_4$ валокі зямлі, 19 двароў, 112 жыхароў, уласнасць графа С.М.Касакоўскага. У 1897 г. вёска ў Мя-



дзведзіцкай вол., 46 двароў, 312 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейная ўстанова. У 1909 г. — 60 двароў, 399 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; вёска, 52 двары, 263 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Альхоўскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пад'язаўлянскім с/с, які 20.5.1968 г. быў перайменаваны ў Альхоўскі. У 1940 г. вёска, 78 двароў, 512 жыхароў, пач. школа, гандлёвая кропка. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6.7.1941 г. ням.-фаш. акупанты расстралялі 10 вяскоўцаў (пахаваны на вясковых могілках; абеліск на магіле ўстаноўлены ў 1985 г.). У 1949 г. створаны калгас «Шлях да камунізму». У 1959 г. было 476, у 1970 г. 457 жыхароў. У 2002 г. 157 двароў, 460 жыхароў. З 1991 г. вёска — цэнтр калгаса «Альхоўскі» (раней саўгас; аб'ядноўваў 4 вёскі). Размешчаны комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна скадаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца з У кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АСОСЫ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Ляхавіч, 4 км ад чыг. прыпынку Куляні на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Савейкі—Ляхавічы. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

У 1844 г. Асосы — вёска фальварка і маёнтка Савейкі Слуцкага пав. Мінскай губ., уладанне Валерыі Рдултоўскай, 2 двары, 21 жыхар. У 1897 г. ў Мядзведзіцкай вол., 9 двароў, 71 жыхар. У 1909 г. — 15 двароў, 88 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 23 двары, 113 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Тальмінавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Куршынавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 45 двароў, 253 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 137, у 1970 г. 109 жыхароў. У 2002 г. 13 двароў, 15 жыхароў, у складзе аграфірмы «Іскра» (цэнтр — в. Тальмінавічы). Дзве кароткія Г-падобнай канфігурацыі вуліцы забудаваны драўлянымі сял. сядзібамі.



*Дзяўчына ў святочным убранні з в. Астрэйкі.*

**АСТРЭЙКІ** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Ляхавіч, 4 км ад чыг. ст. Жарабковічы на лініі Баранавічы—Асіповічы.

У 1789 г. Астрэйкі — шляхецкае уладанне ў Навагрудскім ваяв. Рэчы Паспалітай. З 1791 г. ў складзе новаўтворанага Случарэцкага пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. Астрэйкі — маёнтак, які складаўся з аднайменных вёскі

(6 двароў, 44 жыхары) і фальварка, уладанне Фёклы Плацынскай (да 1842 г. ўласнасць Клімашэўскіх). У 1876 г. маёнтак Ляхавіцкай вол., 155 дзес. зямлі, уласнасць С.А.Вільбікавай. У вёсцы было 17 рэвізскіх душ сялян-уласнікаў (1870). У 1889 г. Астрэйкі — маёнтак, 145 дзес. зямлі, уласнасць С.А.Вільбікавай, і фальварак, 23 дзес. зямлі, уладанне селяніна І.А.Субоцкага. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі: маёнтак, уладанне Баранцэвічаў, 2 будынкі, 13 жыхароў; фальварак Астрэйкі-Янава, уласнасць Субоцкага, 5 жыхароў; вёска, 10 двароў, 70 жыхароў. У 1909 г. вёска, 81 жыхар, і маёнтак, 5 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; фальварак, 11 жыхароў; калонія, 3 двары, 15 жыхароў, і вёска, 17 двароў, 78 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10. 1940 г. ў Жарабковіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Падлескім с/с, які 3.7.1972 г. перайменаваны ў Жарабковіцкі. У 1940 г. ў Астрэйках 25 двароў, 172 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя Кірава, з снеж. 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Сталіна; у 1961 г. гаспадарка перайменавана ў калгас «Беларусь» (цэнтр — в. Жарабковічы). У 1959 г. ў вёсцы 113, у 1970 г. 79 жыхароў.



*В.К.Мацюшка.*

**БАЖКІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 2,5 км ад чыг. прыпынку Кавалі на лініі Баранавічы—Асіповічы. 30 гаспадарак, 60 жыхароў (2005).

У 1897 г. Бажкі — вёска ў Дараўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 16 двароў, 128 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 25 двароў, 185 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 30 двароў, 172 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Ламаносава. У 1959 г. было 195, у 1970 г. 147 жыхароў. У 2002 г. 32 двары, 61 жыхар, у складзе калгаса імя Ламаносава (цэнтр — в. Флер'янова). Вёска — радзіма Героя Сацыяліст. Працы В.К. Мацюшкі.

**БЕНЬКАЎЦЫ** — вёска ў Крывошынскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 51 гаспадарка, 105 жыхароў (2005).

У 1844 г. Бенькаўцы — вёска фальварка Баканава маёнтка Рэпіхава ў Навагрудскім пав. Мінскай губ., уласнасць графіні І.Патоцкай, 8 гаспадарак, 67 жыхароў. У 1870 г. вёска, 35 рэвізскіх душ сялян. У 1897 г. — 26 двароў, 177 жыхароў, у Востраўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 30 двароў, 206 жыхароў, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 28 двароў, 144 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Востраўскім с/с. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1959 г. ў Крывошынскім с/с. У 1940 г. вёска, 70 двароў, 340 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ў вёсцы створаны калгас імя Мікаяна, які ў кастр. 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Будзённага. У 1959 г. было 344, у 1970 г. 292 жыхары. У 2002 г. 56 двароў, 107 жыхароў, у складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Галаўнінцы).

**БЯРОЗКІ** — вёска ў Востраўскім с/с, на р. Мышанка, за 23 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Івацэвічы—Слуцк. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2005).

У 1870 г. Бярозкі — вёска ў Востраўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 17 рэвізскіх душ былых дзярж. сялян. У 1897 г. ў вёсцы 14 двароў, 100 жыха-



роў. У 1909 г. 17 двароў, 108 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 12 двароў, 70 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Востраўскім с/с. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 42 двары, 93 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 73, у 1970 г. 60 жыхароў. У 2002 г. 9 двароў, 13 жыхароў, у складзе калгаса «Востраў» (цэнтр — в. Востраў).

**ВАДЗЯЦІНА** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 7 км на З ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 29 гаспадарак, 41 жыхар (2005).

У 1760 г. Вадзяцін (Вадзячын) — фальварак маёнтка Ляхавічы (Ляхавіцкага графства); разам з іншымі населенымі пунктамі маёнтка прададзены Мар'янай Казьмінскай, дачкой Е.Ф.Сапегі, князю М.Ю.Масальскаму. У 1775—90 гг. фальварак і графства ў складзе дзярж. староства (у 1789—90 гг. у часовым валоданні навагрудскага ваяводы Ю.Несялоўскага), з 6.5.1790 г. зноў у валоданні Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. Вадзяцін у складзе Ляхавіцкага маёнтка перададзены Шымону Касакоўскаму і яго нашчадкам. У 1847 г. вёска фальварка Галдавічы маёнтка Ляхавічы, уладанне С.М.Касакоўскага, 10 двароў, 74 жыхары. У 1897 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол., 25 двароў, 191 жыхар. У 1909 г. было 46 двароў, 234 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 39 двароў, 183 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Пад'язаўлянскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 20.5. 1968 г. ў Альхоўскім с/с (перайменаваны Пад'язаўлянскі с/с). У 1940 г. вёскі: Вялікае Вадзяціна (62 двары, 290 жыхароў) і Малое Вадзяціна (7 двароў, 41 жыхар). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёскі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Чкалава. У 1959 г. ў вёсцы (2 вёскі пасля 1950 г. зліліся ў адзін населены пункт) было 281, у 1970 г. 247 жыхароў. У 1967 г. на брацкай магіле сав. воінаў, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі ў 1944 г., устаноўлены абеліск. У 2002 г. 32 двары, 43 жыхары, у складзе калгаса «Альхоўскі» (раней саўгас; цэнтр — в. Альхоўцы). Вёска — радзіма бел. пісьменніка У.М.Дамашэвіча.



*У.М.Дамашэвіч.*

**ВАЛАСАЧЫ** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Ляхавіч, 6 км ад чыг. ст. Падлессе на лініі Баранавічы—Асіповічы. 23 гаспадаркі, 49 жыхароў (2005).

У 1728 г. Валасачы — вёска маёнтка Сваятычы ў Навагрудскім ваяв., уладанне Вольскіх і Дашкевічаў, 4 гаспадаркі, карчма з броварам. У 1776 г. вёска таго ж маёнтка, 12 гаспадарак, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1846 г. 14 двароў, 143 жыхары, уладанне графіні С.М.Чапскай. У 1867 г. уласнасць Чапскіх. У 1897 г. вёска Дараўскай вол., 22 двары, 162 жыхары. У 1909 г. тут 31 двор, 239 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 37 двароў, 197 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Сваятыцкім с/с. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Навасёлкаўскім, цяпер у Жарабковіцкім с/с. У 1940 г. 48 двароў, 236 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Чапаева, з 1952 г. вёска ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь». У 1959 г. было 166, у 1970 г. 140 жыхароў. У 2002 г. 25 двароў, 47 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Жарабковічы).

**ВОЛЬКА** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 66 гаспадарак, 118 жыхароў (2005).

У 1897 г. Волька — вёска Востраўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 90 двароў, 678 жыхароў, хлебазапасны магазін, крама. У 1909 г. ў вёсцы 137 двароў, 815 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 56 двароў, 404 жыхары (1921). З ліст. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Малагарадзішчанскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 15.5.1998 г. ў Альхоўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Калініна. У 1959 г. было 772, у 1970 г. 632 жыхары. У 1985 г. каля вясковага клуба на ўшанаванне памяці вяскоўцаў, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі ў 1941—45 гг., устаноўлены абеліск. У 2002 г. 81 двор, 146 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (цэнтр — в. Малое Гарадзішча). Ёсць клуб, б-ка, магазін.

**ВОСТРАЎ** — вёска, цэнтр Востраўскага с/с, каля р. Мышанка, за 26 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Брэст—Слуцк, якая праходзіць недалёка ад вёскі. 252 гаспадаркі, 531 жыхар (2005).

Вядома з 15 ст. ў ВКЛ. У 1482 г. Востраў — сяло, уласнасць шляхціцаў Я. і Ю. Багдановічаў, якія заклалі яго за 80 коп грошай пану М.Я.Гаштольду. У 1533 г. сяло Навагрудскага павета, уладанне шляхціца Я.М.Гайко. У 1591 г. — маёнтак таго ж павета, уласнасць Я.М.Гайко, які выстаўляў з усіх сваіх маёнткаў, у т.л. з Вострава, 42 конных воінаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. Востраў — сяло аднайменнага фальварка, які ўваходзіў у склад маёнтка Рэпіхава, уладанне графіні І.Патоцкай, 70 гаспадарак, 701 жыхар. У 1867 г. ў сяле 73 двары, 951 жыхар. У 1886 г. цэнтр Востраўскай вол., 74 двары, 1040 жыхароў, валасное праўленне, праваслаўная царква, капліца. За 1 км ад сяла знаходзілася сядзіба Востраў, дзе працавалі вадзяны млын і вінакурня. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі размяшчаліся: сяло, 195 двароў, 1287 жыхароў; царква (сядзіба прычта Востраўскай царквы налічвала 2 двары, 20 жыхароў); нар. вучылішча (з 1862 г.), хлебазапасны магазін, 3 крамы; сядзіба маёнтка графоў Патоцкіх (побач з дарогай з Вострава на Крывошын, каля р. Мышанка), 72 жыхары, вінакурня; карчма на зямлі Патоцкіх, 8 жыхароў. У 1909 г. сяло, 247 двароў, 1585 жыхароў; сядзіба, 2 двары, 17 жыхароў; маёнтак, 54 жыхары. У 1912 г. ў сяле была адчынена земская бальніца. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, цэнтр Востраўскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 139 двароў, 952 жыхары; у аднайменным фальварку 95 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Востраўскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 426 двароў, 2032 жыхары, выканком сельсавета, 2 тэлефоны, клуб, няпоўная сярэдняя школа, бальніца, аддз. сувязі, вадзяны млын, царква, касцёл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Шлях да камунізму». У 1959 г. было 1160, у 1970 г. 1113 жыхароў. З 28.10.1988 г. цэнтр саўгаса, з 1991 г. — калгаса «Востраў» (аб'ядноўваў 10 вёсак). У 2002 г. 267 двароў, 591 жыхар. Працуюць лясніцтва, сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, аптэка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Помнікі: на брацкай магіле чырвонаармейцаў (устаноўлены ў 1946 г. на паўн. ускраіне вёскі; пахаваны 6 чырвонаармейцаў, якія загінулі 25.3. 1919 г. ў баі з польскімі войскамі) і на брацкай магіле сав. воінаў і партызан



(устаноўлены ў 1957 г. на могілках; пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—45 г. у баях з ням.-фаш. захопнікамі).

**ВЯЛІКАЕ ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 55 гаспадарак, 180 жыхароў (2005).

Вядома з пач. 17 ст. ў Навагрудскім пав. ВКЛ. У 1616 г. сяло Вялікае (20,5 валок зямлі) маёнтка Гарадзішча (іншая назва Гарадзішча-Алдавіцкае), уладанне Хрыстафора Камінскага (у 1616 г. атрымаў «на вечнасць» ад Я.К.Хадкевіча), пазней Івана і Мар'яны (з Пуслоўскіх) Бухавецкіх. У склад маёнтка ў 1616 г. ўваходзілі двор Гарадзішча (размяшчаўся на З ад сучаснай вёскі), сёлы Гарадзішча (21 валока зямлі), Вялікае (пазней Вялікае Гарадзішча), Гасцілавічы, Задвор'е, некалькі засценкаў. На тэр. двара знаходзіліся брама, жылыя і гасп. пабудовы, у т.л. стайня і бровар. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У пач. 19 ст. маёнтак Гарадзішча належаў Фадзею Бухавецкаму і яго нашчадкам. З 1801 г. пачаліся судовыя разборы паміж Касакоўскімі, уладальнікамі маёнтка Ляхавічы, і Бухавецкімі па ўдакладненні межаў маёнткаў. У 1870 г. вёска Вялікае Гарадзішча знаходзілася ў складзе Крывошынскай вол. У 1876 г. маёнтак Гарадзішча налічваў 1888 дзес. зямлі, дзейнічалі 2 карчмы (адна з іх пабудавана ў канцы 18 — пач. 19 ст.), цагельня, шкіпінарны завод. У 1889 г. маёнтак называлі таксама Вялікае Гарадзішча (1109 дзес. зямлі). У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі і побач з ёю на тэр. Крывошынскай вол. знаходзіліся: вёска Вялікае Гарадзішча, 43 двары, 285 жыхароў, хлебазапасны магазін; аднайменны пасёлак на зямлі Бухавецкіх, 3 жыхары; маёнтак Гарадзішча (панская сядзіба каля шашы з мястэчка Сіняўка на Мілавіды Слонімскага павета Гродзенскай губ.), 12 пабудоў, 39 жыхароў; фальварак Гарадзішча, 2 пабудовы, 15 жыхароў; пасёлак, 7 двароў, 52 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы Вялікае Гарадзішча 57 двароў, 380 жыхароў, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; вёска Вялікае Гарадзішча, 56 двароў, 288 жыхароў, і калонія Гарадзішча (на месцы былога маёнтка), 54 двары, 329 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Малагарадзішчанскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 15.5.1998 г. ў Альхоўскім с/с. У 1940 г. вёска, 135 двароў, 452 жыхары; былы фальварак Гарадзішча налічваў 16 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Куйбышава. У 1959 г. было 466, у 1970 г. 389 жыхароў. У 2002 г. 84 двары, 188 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (цэнтр — в. Малое Гарадзішча). Ёсць Дом культуры, магазін.

**ВЯЛІКАЯ ЛОТВА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 1,5 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 255 гаспадарак, 616 жыхароў (2005).

У 1789 г. Вялікая Лотва — вёска маёнтка Ляхавічы (Ляхавіцкае графства), у Навагрудскім ваяв. ВКЛ, дзярж. уладанне (з мая 1790 г. валоданне І.Масальскага). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі населенымі пунктамі маёнтка вёска перададзена ва ўласнасць Касакоўскіх. У 1847 г. вёска фальварка Гажавічы маёнтка Ляхавічы, уласнасць С.М.Касакоўскага, 68 двароў, 428 жыхароў. У 1886 г. ў Ляхавіцкай вол., 63 двары, 522 жыхары. У 1897 г. тут 104 двары, 663 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. — 130 двароў, 872 жыхары, школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 214 двароў, 878 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з

15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Ляхавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 17.11. 1959 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 175 двароў, 826 жыхароў; у чэрв. 1940 г. створаны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941—45 гг. на франтах вайны і ў партыз. барацьбе загінуў 21 вясковец. У 1985 г. на ўшанаванне іх памяці каля клуба ўстаноўлены абеліск. У лютым 1950 г. аднаўлены даваенны калгас, які ў снежні 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «За Уладу Саветаў» Ляхавіцкага гарсавета. У 1970 г. было 937 жыхароў. У 2002 г. 258 двароў, 588 жыхароў, у складзе калгаса імя Ламаносава (цэнтр — в. Флар'янова). Размешчаны магазін, б-ка, клуб.

**ГАЙНІН** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Ляхавіч, 2 км ад чыг. прыпынку Куляні на лініі Баранавічы—Лунінец. 51 гаспадарка, 84 жыхары (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1552 г. «Хойнино» — сяло Мядзведзіцкай вол., уласнасць віленскага каталіцкага біскупства. У 1588 г. «Гуйнино» — сяло той жа воласці. У 1774 г. Гайнін — вёска Мядзведзіцкага ключа, уладанне каталіцкай царквы. З 1791 г. ў новаўтвораным Случарэцкім пав. Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. вёска фальварка і маёнтка Савейкі, 12 двароў, 81 жыхар, уладанне Валерыі Рдултоўскай. У 1897 г. вёска Мядзведзіцкай вол., 28 двароў, 184 жыхары. У 1909 г. — 39 двароў, 232 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 44 двары, 243 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Тальмінавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Куршынавіцкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 90 двароў, 499 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны партызан», які ў лютым 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Іскра». У 1959 г. было 345, у 1970 г. 316 жыхароў. У 2002 г. 56 двароў, 96 жыхароў, у складзе аграфірмы «Іскра» (цэнтр — в. Тальмінавічы). Ёсць магазін.

**ГАЙНІНЕЦ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Ляхавіч, 3 км ад чыг. прыпынку Куляні на лініі Баранавічы—Лунінец. 101 гаспадарка, 207 жыхароў (2005).

У 1774 г. Гайнінец — вёска ў складзе Мядзведзіцкага ключа, уласнасць каталіцкай царквы. З 1791 г. ў новаўтвораным Случарэцкім пав. Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. вёска фальварка і маёнтка Савейкі, 16 двароў, 111 жыхароў, уладанне Валерыі Рдултоўскай. У 1897 г. вёска Мядзведзіцкай вол., 33 двары, 259 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 48 двароў, 306 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 60 двароў, 337 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Куршынавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 84 двары, 469 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943—44 гг. у лесе побач з вёскай базіраваўся партыз. атрад імя С.Г.Лазо (створаны ў крас. 1943 г., знаходзіўся ў складзе 27-й партыз. брыгады імя Чапаева, з вер. 1943 г. да студз. 1944 г. дзейнічаў самастойна ў Ляхавіцкім р-не, пазней — у складзе 19-й брыгады імя Молатава Баранавіцкага партыз. злучэння). У 1960 г. ў гонар партызан на будынку былога клуба ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя М.Горкага, які ў крас. 1956 г. ўвайшоў у склад узбуйне-



нага калгаса «Іскра». У 1959 г. было 342, у 1970 г. 513 жыхароў. У 2002 г. 114 двароў, 241 жыхар, у складзе аграфірмы «Іскра» (цэнтр — в. Тальмінавічы). Працуюць пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, Дом нар. творчасці, магазін.

**ГАЛАВАЧЫ** — вёска ў Конькаўскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Баранавічы—Ляхавічы. 20 гаспадарак, 36 жыхароў (2005).

У 1836 г. Галавачы — вёска маёнтка Дарава Харунжэўскае Навагрудскага пав. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губ., уласнасць Керсноўскіх, 1 двор, 7 жыхароў. У 1844 г. ў вёсцы 2 двары, 15 сялян. У 1846 г. вёска маёнтка Дарава, уласнасць Г.І.Чарноўскага, 5 двароў, 50 жыхароў. У 1897 г. Дараўскай вол., 16 двароў, 110 жыхароў. У 1909 г. — 24 двары, 150 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 24 двары, 137 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 175, у 1970 г. 127 жыхароў. У 2002 г. 22 двары, 35 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Конькі). Вёска — радзіма Героя Сацыяліст. Працы В.А.Малышкі.

**ГАЛАЎНІНЦЫ** — вёска ў Крывошынскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы на лініі Баранавічы—Лунінец. 191 гаспадарка, 549 жыхароў (2005).

У 1789 г. Галаўнінцы — вёска Навагрудскага ваяв. ВКЛ, шляхецкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1870 г. вёска маёнтка Ліпніца (уласнасць Яганкоўскага), 83 рэвізскія душы.



*В.А.Малышка.*

У 1897 г. ў Крывошынскай вол., 47 двароў, 298 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны хутар (на зямлі памешчыка Яганкоўскага), 5 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 62 двары, 472 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 47 двароў, 267 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Крывошынскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 70 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя Будзённага. З 1951 г. вёска — цэнтр узбуйненага калгаса імя Будзённага (21.1.1958 г. перайменаваны ў калгас «Новае жыццё»). У 1959 г. было 525, у 1970 г. 508 жыхароў. У 2002 г. 194 двары, 578 жыхароў, цэнтр калгаса «Новае жыццё» (аб'ядноўваў 6 вёсак). Працуюць магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, школа-сад, б-ка, Дом культуры.

**ГАНЦАВІЧЫ** — вёска ў Ганчароўскім с/с, за 10 км на Пд ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 29 гаспадарак, 47 жыхароў (2005).

У канцы 18 ст. Ганцавічы — вёска фальварка Троіцкае (Троцкае) Ляхавіцкага графства, дзярж. ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас.

імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі населенымі пунктамі графства вёска перададзена вял. гетману літ. Ш.Касакоўскаму як леннае ўладанне. У 1847 г. ў Ганцавічах (уласнасць графа С.М.Касакоўскага) 6 двароў, 42 жыхары, 7 валок зямлі. У 1870 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол. Слуцкага пав., 24 рэвізскія душы сялян-уласнікаў. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі аднайменныя вёска (15 двароў, 120 жыхароў) і фальварак каля Маскоўска-Варшаўскай шашы, уладанне К.Трыбухоўскага (5 жыхароў). Побач з вёскай знаходзіліся казарма для рабочых на 843-й вярсце Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (41 чал.) і 2 ахоўныя памяшканні чыгункі (13 чал). У 1909 г. ў вёсцы было 30 двароў, 172 жыхары; у фальварку — 8 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; фальварак, 2 жыхары, і вёска, 30 будынкаў, 160 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Цыганскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мініцкім с/с (4.6.1979 г. перайменаваны ў Ганчароўскі с/с). У 1940 г. вёска, 41 двор, 293 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 22.8.1949 г. ў Ганцавічах створаны калгас «Зара камуны». Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. тут налічвалася 215 жыхароў, у 1970 г. 226 жыхароў. У 2002 г. 31 двор, 54 жыхары, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары).

**ГАНЧАРЫ** — вёска, цэнтр Ганчароўскага с/с і камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі»; за 10 км на ПдУ ад Ляхавіч, 2 км ад чыг. ст. Райтанаў на лініі Баранавічы—Лунінец, каля аўтадарогі Брэст—Мінск. 158 гаспадарак, 447 жыхароў (2005).

У 1845 г. Ганчары — маёнтак (складаўся з аднайменных фальварка і вёскі) Мядзведзіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 200 дзес. зямлі, уладанне Паўла Корчыца. У фальварку было 7 дваровых сялян, у вёсцы — 2 двары, 13 жыхароў. У 1876 г. маёнтак меў 170 дзес. зямлі (з 1868 г. — спадчыннае ўладанне Ф.П.Корчыца), у 1889 г. — 83 дзес. зямлі. У 1897 г. Ганчары — вёска (6 двароў, 33 жыхары) і маёнтак (3 будынкі, 15 жыхароў), знаходзіліся побач з Палескай чыгункай і Маскоўска-Варшаўскай шашой. У 1909 г. ў вёсцы 34 жыхары, у маёнтку 14 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; фальварак і калонія, 11 двароў, 79 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Мядзведзіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мініцкім с/с, з 4.6.1979 г. цэнтр Ганчароўскага с/с. У 1940 г. 10 двароў, 80 жыхароў. У студз. 1940 г. на базе былога маёнтка Ганчары была арганізавана МТС, якой перадаваліся 6 жылых і 3 гасп. будынкі. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. ў Ганчарах налічваліся 153 жыхары. З 1960 г. вёска — цэнтр саўгаса «Ганчароўскі» (цяпер камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі»). У 1970 г. 282 жыхары. У 2002 г. 172 двары, 471 жыхар. У вёсцы працуюць дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, лясніцтва, магазін, аддз. сувязі.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Ганчароўскім с/с, каля р. Свідроўка (прыток р. Шчара), за 11 км на ПдУ ад Ляхавіч, 4 км ад чыг. ст. Райтанаў на лініі Баранавічы—Лунінец, каля аўтадарогі Брэст—Мінск. 54 гаспадаркі, 106 жыхароў (2005).

Земляное ўмацаванне (мясц. назва Горад), якое знаходзіцца на левым беразе р. Свідроўка (прыток р. Шчара), за 0,25 км на ПдУ ад вёскі сведчыць аб засяленні тэр. сучаснага Гарадзішча ў перыяд позняга сярэднявечча.

Паводле пісьмовых крыніц, у 2-й пал. 18 ст. Гарадзішча — вёска ў складзе ма-



ёнтка Нядзведзічы (Мядзведзічы), належала Віленскаму каталіцкаму біскупству. З 1791 г. ў новаўтвораным Случарэцкім пав. Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1847 г. Гарадзішча — вёска казённага маёнтка Мядзведзічы, 16 гаспадарак, 124 жыхары, 15 жылых і 56 гасп. будынкаў, шынок. У 1854 г. — 114 жыхароў. У 1897 г. вёска Мядзведзіцкай вол., 51 двор, 288 жыхароў. Побач з вёскай, каля Маскоўска-Варшаўскай шашы, знаходзіўся будынак былой станцыі, 2 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Мядзведзіцкай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 71 двор, 377 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Мядзведзіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мініцкім с/с (4.6.1979 г. перайменаваны ў Ганчароўскі с/с). У 1940 г. было 104 двары, 568 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя А.С.Пушкіна, з 17.7.1952 г. вёска знаходзілася ў складзе калгаса «1 Мая», з 5.3.1960 г. ў саўгасе «Ганчароўскі» (цяпер камунальнае унітарнае с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі», цэнтр — в. Ганчары). У 1959 г. было 325, у 1970 г. 302 жыхары. У 2002 г. 73 двары, 127 жыхароў. Ёсць магазін.

**ГАРБАЧЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, на Пн ад вёскі меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Шчара, за 10 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 7 км ад чыг. прыпынку Кавалі на лініі Баранавічы—Асіповічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Баранавічы—Гайнін. 47 гаспадарак, 70 жыхароў (2005).

У 1789 г. Гарбачы — вёска, уласнасць каталіцкай царквы ў Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1833 г. вёска казённага маёнтка Дарава, 28 двароў, 270 жыхароў, шынок. У 1870 г. ў Дараўскай вол., 140 рэвізскіх душ. У 1889 г. побач з вёскай знаходзіліся 3 невялікія аднайменныя фальваркі, якія належалі В.М.Пашко (31 дзес. зямлі), В.І.Пашко (17 дзес. зямлі), Івану і Вікенцію Бубен (10 дзес. зямлі). У 1897 г. ў вёсцы 70 двароў, 449 жыхароў, ветраны млын, кузня. У 1909 г. — 93 двары, 648 жыхароў, школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 76 двароў, 386 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Дараўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1954 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. 70 двароў, 373 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Кутузава, які ў 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Сталінскі шлях» Навасёлкаўскага с/с. У 1959 г. было 382, у 1970 г. 311 жыхароў. У 2002 г. 55 двароў, 88 жыхароў, у складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Навасёлкі). Размешчаны б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з двух амаль прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАСЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Начаўскім с/с, за 6 км на ПдУ ад Ляхавіч, 1 км ад чыг. ст. Райтанаў на лініі Баранавічы—Лунінец. 40 гаспадарак, 88 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. як маёнтак Скубятоўшчына Ляхавіцкай вол., у Навагрудскім ваяв. Да 1567 г. маёнтак, асабістая ўласнасць вял. кн. літ. і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста, падараваны за службу ляхавіцкаму зямяніну-васалу С.Гаслаўскаму. У 1567 г. С.Гаслаўскі (паходжанне сучаснай назвы вёскі, відаць, звязана з гэтым прозвішчам) атрымаў пацвярджэнне на маёмасць. У 1586 г. маёнтак, у якім меліся панская сядзіба («двор») з рознымі жыллёвымі і гасп.




пабудовамі, фальварак, купіў Ф.М.Еўлашоўскі, навагрудскі і пінскі мастаўнічы, аўтар першых мемуараў на бел. мове. Пазней Гаслаўшчына належала Рэйтанам, з 1-й пал. 19 ст. — Чарноцкім. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1888 г. ўладанне А.Кабылінскага. У 1897 г. Гаслаўшчына — маёнтак, 15 жыхароў; 2 чыг. будкі (№ 50 і 51) Палескіх чыгунак, 7 і 9 жыхароў. У 1909 г. вёска Ляхавіцкай вол., 22 двары, 240 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 32 двары, 157 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Ляхавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 17.11.1959 г. ў Рачканскім с/с, які 4.6. 1979 г. перайменаваны ў Начаўскі. У 1940 г. ў Гаслаўшчыне 213 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Хрушчова, які ў студз. 1958 г. перайменаваны ў калгас «Росквіт», а ў 1959 г. ўвайшоў у склад саўгаса «Нача». У 1959 г. было 210, у 1970 г. 203 жыхары. У 2002 г. 33 двары, 82 жыхары, у складзе калгаса «Ляхавічы» (цэнтр — в. Русінавічы).

**ГАСЦІЛАВІЧЫ** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 20 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

У 1616 г. Гасцілавічы — сяло маёнтка Гарадзішча (іншая назва Гарадзішча-Алдавіцкае), $9^1/_2$ валокі зямлі, уладанне Я.К.Хадкевіча, Х.Камінскага (з 1616 г.), пазней Бухавецкіх; у Навагрудскім павеце. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1870 г. вёска маёнтка Дзянісаўшчына (уладанне Кабылінскага), у Мядзведзіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 55 рэвізскіх душ. Побач з вёскай праходзіла мяжа Слуцкага і Навагрудскага паветаў. На тэр. Крывошынскай вол. Навагрудскага пав. ў 1889 г. існавалі 3 засценкі Гасцілавічы, уладанні: В.С.Ласоўскага (96 дзес. зямлі), І.Ф.Стуцкага (48 дзес. зямлі), І.І.Якубоўскага (96 дзес. зямлі). У 1897 г. Гасцілавічы — вёска Мядзведзіцкай вол., 24 двары, 174 жыхары, і 2 засценкі (непадалёку ад вёскі) у Крывошынскай вол.: 3 двары, 28 жыхароў (уласнасць Ласоўскага, Стуцкага, Якубоўскага) і 8 двароў, 67 жыхароў (на зямлі Бухавецых). У 1909 г. ў вёсцы 37 двароў, 231 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Баранавіцкім пав. Навагрудскага ваяв.; вёска ў Мядзведзіцкай гміне, 38 двароў, 197 жыхароў, і засценак у Крывошынскай гміне, 57 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Пад'язаўлянскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 20.5.1968 г. ў Альхоўскім с/с (перайменаваны Пад'язаўлянскі с/с). У 1940 г. вёска, 61 двор, 283 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Свярдлова. У 1959 г. было 295, у 1970 г. 266 жыхароў. У 2002 г. 22 двары, 31 жыхар, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (цэнтр — в. Малое Гарадзішча).

**ГАШЧЫН** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, за 21 км на ПдУ ад Ляхавіч, 2 км ад чыг. прыпынку Буды на лініі Баранавічы—Лунінец. 24 гаспадаркі, 39 жыхароў (2005).

У 1897 г. Гашчын — фальварак Мядзведзіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 20 жыхароў, уладанне памешчыка Навіцкага. У 1909 г. тут 2 двары, 11 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; калонія, 11 двароў, 74 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Куршынавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 69 двароў, 457 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы стварылі калгас «Пераможац».



У 1959 г. было 162, у 1970 г. 141 жыхар. У 2002 г. 24 двары, 49 жыхароў, у складзе с.-г. прадпрыемства «Куршынавічы».

**ГІРЫЧ-ПОЛЬ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 13 км на Пн ад Ляхавіч, 11 км ад горада і чыг. ст. Баранавічы, 6 км ад чыг. прыпынку Перамога на лініі Баранавічы—Мінск. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2005).

У 1897 г. Гірыч-Поле — урочышча Дараўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 5 двароў, 31 жыхар. У 1909 г. вёска, 6 двароў, 41 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 4 двары, 32 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Дараўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1959 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 11 двароў, 54 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 38, у 1970 г. 28 жыхароў. У 2002 г. 4 двары, 8 жыхароў, у складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Навасёлкі).

**ГРУШАЎКА** — вёска ў Начаўскім с/с, за 5 км на У ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 38 гаспадарак, 84 жыхары (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. Да 1551 г. Грушаўка — маёнтак Ляхавіцкай вол., уласнасць Барбары Радзівіл, якая падаравала яго шляхціцу-васалу М.Залескаму. Пазней вял. кн. літ. і кароль Польшчы Жыгімонт II Аўгуст дадаў апошняму зямлі і людзей. Да 1567 г. маёнтак у Ляхавіцкай вол. Жыгімонт II Аўгуст падараваў на вечнасць гаспадарскаму двараніну П.Шлягеру 20 службаў людзей і 5 пустоўшчын. У 1567 г. вял. кн. літ. і кароль Польшчы пацвердзіў ранейшыя наданні ў маёнтку Грушаўка М.Залескаму, а таксама ўдаве і дзецям П.Шлягера. З канца 17 ст. маёнтак Грушаўка належаў Рэйтанам (паводле даследаванняў Л.М.Несцерчука, Рэйтаны гаспадарылі ў Грушаўцы ўжо ў сярэдзіне 17 ст.). Першым уладальнікам Грушаўкі з роду Рэйтанаў стаў Міхаіл Казімір, з 1705 г. маёнткам валодаў яго сын Дамінік, вядомы дзярж. і гасп. дзеяч Рэчы Паспалітай. У 2-й пал. 18 ст. тут сфарміраваўся панскі сядзібны комплекс (плошча 14 га; забудоўваўся ў 19 — пач. 20 ст.). На тэр. сядзібы захаваліся жылы дом, 2 флігелі, бровар, капліца, шэраг гасп. пабудоў, парк рэгулярнага тыпу планіроўкі і пладовы сад. Да канца 19 ст. ў сядзібе стаяў панскі мураваны дом, пабудаваны ў стылі класіцызму ў той час, калі маёнткам валодаў Тадэвуш Рэйтан (1741—80), пасол навагрудскай зямлі на Варшаўскі сейм, які вызначыўся супраціўленнем падзелам Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. Выгляд дома вядомы па акварэлі мастака Н.Орды, а яго апісанне зрабіла пляменніца Т.Рэйтана Ганна Герычова. Новы драўляны сядзібны дом (захаваўся) быў узведзены на фундаменце папярэдняга будынка ў канцы 19 — пач. 20 ст. У баку ад сядзібнага комплексу, на ўзлеску, знаходзіцца капліца-пахавальня, пабудаваная ў пач. 20 ст. ў стылі неаготыкі. У 1939 г. перад ёю быў устаноўлены помнік Т.Рэйтану (не захаваўся). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Грушаўка ў складзе Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1876 г. маёнтак, 1534 дзес. зямлі (у 1889 г. 1550 дзес. зямлі), уладанне Ю.С.Рэйтана (з 1863 г.). Працавала вінакурня (1875—1914). У 1885 і 1886 гг. высечку лесу ў





*Сядзібны палац і флігель (19 ст.) у в. Грушаўка.*


*Капліца ў в. Грушаўка.*

маёнтку вяло акцыянернае таварыства «Берлінская лясная кантора». У 1887 г. па р. Шчара яно сплавіла сасновых брусоў кантавага дрэва 6700 штук, шліфроў 660 штук і шпал 76 штук, а таксама сасновага дрэва 3036 штук. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў маёнтку Грушаўка (з 1910 г. уладанне Г.Грабоўскага) існавала прадпрыемства па вывядзенні коней англійскай пароды і буйной рагатай жывёлы галандскай і швейцарскай парод. У 1897 г. ў маёнтку (знаходзіўся на тэр. Ляхавіцкай вол.) 12 двароў, 125 жыхароў, вінакурны завод. У 1909 г. — 28 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., фальварак, 40 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Перахрэсцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 17.11.1959 г. ў Рачканскім с/с, які 4.6.1979 г. перайменаваны ў Начаўскі. У 1940 г. ў былым фальварку 3 двары, 10 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Ва ўсх. частцы вёскі пахаваны 40 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях з ворагам у 1941 і 1944 гг. (помнік на магіле ўстаноўлены ў 1960 г.). У 1959 г. было 116, у 1970 г. 141 жыхар. У 2002 г. 36 двароў, 91 жыхар, у складзе калгаса «Ляхавіцкі» (цэнтр — в. Русінавічы). Ёсць магазін. Помнік архітэктуры — Грушаўскі палацава-паркавы ансамбль. Забудова драўляная, пераважна сядзібнага тыпу, каля прасёлачнай дарогі.

**ГУКОВА** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 33 гаспадаркі, 53 жыхары (2005).

У 1789 г. Гукова — вёска ў Навагрудскім пав., шляхецкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1870 г. ў складзе маёнтка Дзянісаўшчына (уласнасць Кабылінскага), у Мядзведзіцкай вол., 52 рэвізскія душы. У 1897 г. ў вёсцы 34 двары, 249 жыхароў. У 1909 г. — 43 двары, 281 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 57 двароў, 337 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Альхоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пад'язаўлянскім с/с, які 20.5.1968 г. быў перайменаваны ў Альхоўскі. У 1940 г. вёска, 92 двары, 513 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Дзімітрова. У 1959 г. было 379, у 1970 г. 291 жыхар. У 2002 г. 37 двароў, 60 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (цэнтр — в. Малое Гарадзішча). Ёсць магазін.

**ГУЛІЧЫ** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Ляхавіч, 4 км ад чыг. прыпынку Жарабковічы на лініі Баранавічы—Асіповічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Клецк. 63 гаспадаркі, 111 жыхароў (2005).

Курганны могільнік (мясц. назва Капцы), што знаходзіцца за 1 км на ПнУ ад вёскі, сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці.

У пісьмовых крыніцах Гулічы ўпамінаюцца пад 1562 г. як сяло Ляхавіцкаай вол. ВКЛ, уласнасць вял. кн. ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста. У 1567 г. Гулічы — маёнтак Навагрудскага ваяв., уладанне шляхціцаў-васалаў Б.Гу-



ліча і А.Цішкевіча, якія выстаўлялі ў войска трох конных воінаў. З 1791 г. ў складзе новаўтворанага Случарэцкага пав. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі землямі Ляхавіцкага графства Гулічы трапілі ва ўласнасць графоў Касакоўскіх. У 1847 г. Гулічы — фальварак (складаўся з вёсак Гулічы, Жарабковічы і Яцкаўшчына; усяго 55 двароў, 430 жыхароў), звыш 50 валок зямлі, і вёска, 11 двароў, 97 жыхароў. Уваходзілі ў склад маёнтка Ляхавічы, уладанне С.М.Касакоўскага. У 1897 г. вёска (32 двары, 221 жыхар) і маёнтак (40 жыхароў) у Ляхавіцкай вол. У 1909 г. ў вёсцы 42 двары, 279 жыхароў; у маёнтку — 23 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; у фальварку, 40 жыхароў і ў вёсцы 54 двары, 275 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Жарабковіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Падлескім с/с, які 3.7.1972 г. зноў перайменаваны ў Жарабковіцкі. У 1940 г. ў вёсцы створаны калгас імя Варашылава (аб'ядналіся 40 гаспадарак), 409 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1947 г. адноўлены калгас, з 1950 г. вёска ў складзе калгаса імя Сталіна Жарабковіцкага с/с (цэнтр — в. Жарабковічы), 3.11.1961 г. гаспадарка перайменавана ў калгас «Беларусь». У 1959 г. было 394, у 1970 г. 338 жыхароў. У 2002 г. 69 двароў, 124 жыхары. У вёсцы ёсць магазін, б-ка, клуб.

**ГУТА** — вёска ў Востраўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Івацэвічы—Слуцк. 85 гаспадарак, 177 жыхароў (2005).

У 1789 г. Гута — дзярж. ўласнасць, вёска Навагрудскага пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска фальварка Востраў (уваходзіў у склад маёнтка Рэпіхава), 19 двароў, 163 жыхары, уласнасць графіні І.Патоцкай. У 1897 г. Гута — вёска Востраўскай вол., 54 двары, 339 жыхароў, і пасёлак пры вёсцы (уладанне Патоцкай), 1 двор, 4 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 70 двароў, 435 жыхароў; працавала нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 72 двары, 358 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. цэнтр Гутаўскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 4.10.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 17.4. 1959 г. ў Востраўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 162 двары, 651 жыхар, выканком сельсавета, пач. школа, клуб. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 543, у 1970 г. 542 жыхары. У 2002 г. 93 двары, 197 жыхароў, у складзе калгаса «Востраў» (цэнтр — в. Востраў). Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа, клуб, б-ка, магазін.

**ДАЙНЯКІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, каля аўтадарогі Баранавічы—Ляхавічы. 8 гаспадарак, 21 жыхар (2005).

У 1897 г. Дайнякі — вёска Дараўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 3 двары, 25 жыхароў. У 1909 г. вёска Карані-Дайнякі, 16 двароў, 88 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 7 двароў, 34 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1950-я г. вёска перададзена ў склад Навасёлкаўскага с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 69, у 1970 г. 57 жыхароў. У 2002 г. 12 двароў, 27 жыхароў, у складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Навасёлкі).



*М.Г.Мінкевіч.*





**ДАМАШЫ** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Ляхавіч, 6 км ад чыг. прыпынку Жарабковічы на лініі Баранавічы—Асіповічы. 50 гаспадарак, 90 жыхароў (2005).

У 1776 г. Дамашы — вёска маёнтка Сваятычы ў Навагрудскім ваяв., уладанне Вольскіх, Дашкевічаў, 17 гаспадарак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1846 г. ўласнасць графоў Чапскіх, 23 двары, 192 жыхары. У 1867 г. вёска Дараўскай вол., карчма. У 1897 г. ў вёсцы 45 двароў, 275 жыхароў, кузня, 2 ветраныя млыны. У 1909 г. — 55 двароў, 346 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 67 двароў, 370 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Сваятыцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Навасёлкаўскім, цяпер у Жарабковіцкім с/с. У 1940 г. 78 двароў, 391 жыхар. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 398, у 1970 г. 288 жыхароў. У 2002 г. 50 двароў, 99 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Жарабковічы). Ёсць магазін.

Вёска — радзіма бел. філосафа, доктара філасофскіх навук І.І.Антановіча, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі У.А.Пранько.



*У.А.Пранько.*

**ДАРАВА** — вёска ў Конькаўскім с/с, каля р. Шчара, за 10 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 5 км ад чыг. ст. Русіна на лініі Баранавічы—Лунінец, на аўтадарозе Баранавічы—Ляхавічы. 30 гаспадарак, 51 жыхар (2005).

Вядома з канца 15 ст. ў Навагрудскім пав. ВКЛ. У 1498 г. Дароў — панскі двор, валоданне шляхціцаў А.Малышчыча, А.Петкавіча, пазней, каля 1516 г. — М.Пецькавіча. У 1540 г. тут пабудаваны касцёл, заснавана каталіцкая парафія Віленскага біскупства. У 1561 г. Дароў — мястэчка Навагрудскага ваяв., уласнасць А.Я.Гастомскага, Б.Л.Дароўскай. У 16 ст. і пазней у раёне сучаснай вёскі і наваколлі акрамя мястэчка існавала група аднайменных маёнткаў, якія ў пісьмовых крыніцах сустракаюцца пад назвамі «Дарево», «Даров», «Доров». Яны на працягу 16 ст. належалі розным шляхціцам, сярод якіх былі Дароўскія, кн. Б.Т.Пузына, А.Гастомскі, В.Багдановіч і інш. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Дарава ў Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У сярэдзіне 19 ст. вядомы маёнткі: Дарава, уладанне Г.І.Чарноўскага (у 1846 г. складалася з 5 вёсак: Галавачы, Карані, Сакуны, Тумашова, Рэвіншчызна; усяго 207 сялян, 16 чал. дваровых, больш за 913 маргоў зямлі); Дарава, уладанне К.М.Куневіча (у 1844 г. ўваходзілі вёскі Дрэкі, Кавалі, Сакуны, Туркі; налічвалася 196 сялян, 22 чал. дваровых, 26 цяглых двароў, больш за 12 валок 386 маргоў зямлі); Дарава, уладанне І.І.Мержаеўскага (у 1844 г. ўваходзілі вёскі Конькі, Карані, Федзюкі; 357 сялян, 16 чал. дваровых, 53 цяглыя двары, 1110 дзес. зямлі); Дарава Харунжэўскае з фальваркам Зарэчча (ці Дарава Касцюшкаўскае), уладанне Керсноўскіх (у 1844 г. ўваходзілі вёскі Галавачы, Зарэчча, Карані, Лабузы, Нагорныя, Чвыры; 373 селяніны, 9 чал. дваровых, 46 цяглых двароў, 1198 дзес. зямлі); Стары Двор (ці Дарава, Старое Дарава), уладанне нашчадкаў Ідаліі (з Мержаеўскіх) Катар-



бінскай (у 1869 г. больш за 199 дзес. зямлі); казённы маёнтак Дарава (у 1853 г. складаўся з вёсак Гарбачова, Гіравы, Дарава, Літва, Макееўшчызна, Навасёлкі, Падлессе, Пірштукі, Ціткаўшчызна, засценка Навасёлкі, фальваркаў Ведзьмы, Дарава, Дараўка, Пірштукі; усяго 1498 сялян, 193 двары, 4 карчмы, 2 млыны, сад; з 1843 г. маёнтак знаходзіўся ў арэндзе). У в. Дарава (з казённага маёнтка Дарава; паводле іншых крыніц, сяло) 6 двароў, 36 жыхароў, царква, карчма, млын; у фальварку Дарава таго ж маёнтка месціліся жылыя і гасп. пабудовы, сельскі хлебазапасны магазін. У 1886 г. сяло Дарава (былое мястэчка) — цэнтр Дараўскай вол. (валаснае праўленне размяшчалася ў в. Літва), 12 двароў, 100 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы (прыходская і на могілках), касцёл, школа. У 1889 г. на тэр. воласці існавалі маёнткі: Стары Дараў, з 1858 г. спадчыннае ўладанне Ч.Л.Катарбінскага, 186 дзес. зямлі (у 1876 г. — 175 дзес.); Дарава-Устрань, з 1858 г. спадчыннае ўладанне М.К.Мержаеўскай, 179 дзес. зямлі, ветраны млын, карчма; Дарава Харунжэўскае, спадчыннае ўладанне У.Ф.Ражанскага, 210 дзес. зямлі, вадзяны млын; фальварак Дарава, уладанне І.М.Бусько, 2 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сяло Дарава знаходзілася пры ваенна-камунікацыйнай дарозе ў Нясвіж, побач з в. Літва, мела 19 двароў, 96 жыхароў; тут месціліся касцёл (у сядзібе каталіцкага храма былі 4 жыхары), праваслаўная капліца, 2 царквы (сядзіба прычта Дараўскай прыходскай праваслаўнай царквы мела 3 будынкі, 22 жыхары), нар. вучылішча, ветраны млын, кузня, піцейная ўстанова. На сядзібе Дараўскага валаснога праўлення размяшчаліся 3 пабудовы, пражывалі 17 чал. У 1897 г. сядзіба маёнтка Дарава Харунжэўскае (побач з в. Нагорнае) налічвала 19 чалавек; сядзіба маёнтка Дарава-Бжэзувка (каля сядзібы маёнтка Зарэчча) — 16 жыхароў; сядзіба маёнтка Стары Дараў пры ваенна-камунікацыйнай дарозе з Дарава ў Ляхавічы (каля сядзібы Дарава Чыжа) — 9 жыхароў; сядзіба маёнтка Дарава-Устрань (побач з в. Конькі) — 14 жыхароў. У 2-й пал. 19 ст. за 0,7 км на ПнЗ ад сучаснай в. Дарава ва ўрочышчы Бубнаўшчына (цяпер калгаснае поле) была закладзена сядзіба Бубнаўшчына, радавое гняздо Бубнаў (стары будынак сядзібы згарэў у 1-ю сусветную вайну, новы будынак, узведзены ў міжваенны час, захаваўся). У 1909 г. ў раёне сучаснай вёскі існавалі сяло Дарава і маёнткі: Дарава-Устрань, 33 жыхары; Дараў Стары, 9 жыхароў; Дарава-Бжэзувка, 15 жыхароў; Дарава-Гаслаўшчына, 48 жыхароў; Дарава Харунжэўскае, 24 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; вёска, 4 двары, 15 жыхароў;



*Братанне рускіх і нямецкіх салдат каля в. Дарава. 1917 г.*




*У ваколіцах в. Дарава.*

*Касцёл Успення Божай Маці ў в. Дарава.*





фальварак, 7 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10. 1940 г. цэнтр Дараўскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Федзюкоўскім, з 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У 1940 г. фальварак і сяльцо (побач з в. Літва), 26 двароў, 184 жыхары, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня, аддз. сувязі, касцёл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1944 г. ў баях за вызваленне вёскі загінулі 35 воінаў Чырв. Арміі, якія былі пахаваны на паўн. ускраіне вёскі каля шашы Ляхавічы—Баранавічы. У 1957 г. на ўшанаванне іх памяці на магіле ўстаноўлены помнік — скульптура салдата. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Прагрэс», які ў вер. 1951 г. быў уключаны ў склад узбуйненага калгаса імя Берыі (17.7.1953 г. перайменаваны ў калгас «Прагрэс»). У 1959 г. было 116, у 1970 г. 108 жыхароў. У 2002 г. — 33 двары, 61 жыхар, цэнтр калгаса «Прагрэс» (5 вёсак). Тут размешчаны адм. будынак гаспадаркі, сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, магазін. У 1985 г. на будынку школы на ўшанаванне памяці 6 жыхароў в. Літва, якія былі расстраляны каля школы гітлераўскімі карнікамі ў жн. 1941 г., устаноўлена мемарыяльная дошка. На вясковых могілках пахаваны філосаф Фларыян Бохвіц.

**ДАРАВА-ЧЫЖ** — вёска ў Конькаўскім с/с, за 9,5 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 5 км ад чыг. ст. Русіна на лініі Баранавічы—Лунінец. 142 гаспадаркі, 397 жыхароў (2005).

У 1876 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзіўся маёнтак Дарава Дараўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 600 дзес. зямлі, спадчынная ўласнасць Ю.К.Чыжа. У 1889 г. маёнткам (272 дзес. зямлі) валодаў Л.С.Чыж. У 1897 г. ў сядзібе маёнтка былі 3 пабудовы, 31 жыхар. Сядзіба знаходзілася побач з сядзібай маёнтка Стары Дараў (уласнасць Катарбінскага). У 1909 г. ў маёнтку 37 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10. 1940 г. цэнтр Дараўскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Федзюкоўскім, з 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 42 жыхары, у 1970 г. — 39 жыхароў. У 2002 г. 102 двары, 371 жыхар, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Дарава). Ёсць фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ДРЭКІ** — вёска ў Конькаўскім с/с, каля р. Шчара, за 8 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 1,5 км ад чыг. прыпынку Федзюкі на лініі Баранавічы—Асіповічы. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).



У 1844 г. Дрэкі — вёска маёнтка Дарава Навагрудскага пав. Мінскай губ., уладанне К.М.Куневіча, 3 двары, 21 жыхар. У 1870 г. вёска маёнтка Дарава Чыжова, былых дваровых — 12 рэвізскіх душ, аднадворцаў — 1 рэвізская душа. У 1897 г. вёска Дрэкі ў Дараўскай вол., 3 двары, 37 жыхароў. У 1909 г. — 10 двароў, 66 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 6 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 40 жыхароў, у 1970 г. — 45 жыхароў. У 2002 г. 7 двароў, 8 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Конькі).

**ЖАРАБКОВІЧЫ** — вёска, цэнтр Жарабковіцкага с/с, за 18 км на ПнУ ад Ляхавіч, чыг. прыпынак на лініі Баранавічы—Асіповічы, на аўтадарозе Баранавічы—Клецк. 237 гаспадарак, 620 жыхароў (2005).

Вядома з 15 ст. ў Новагародскім ваяв. ВКЛ. Да 1492 г. Жарабковічы — маёнтак Клецкай вол., які вял. кн. літ. і кароль Польшчы Казімір падараваў Г.Петрышчу. У 1532 г. чарговы ўладальнік двара Жарабковічы пан Я.Ю.Ільініч прадаў яго разам з сялом Малькавічы за 1500 коп грошай А.М.Гаштольду. У 1537 г. С.А.Гаштольд запісаў свой двор Жарабковічы Ляхавіцкай вол. разам з маёнткам Ляхавічы ў якасці вена жонцы. У 1572 г. Жарабковічы — асабістая ўласнасць вял. кн. літ. і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста, перададзены ў складзе Ляхавіцкай вол. ў якасці замены пану Я.Е.Хадкевічу за маёнтак Свіслач. Пазней Жарабковічы разам з маёнткам Ляхавічы належалі Сапегам (з 1625 г.), Масальскім (з 1760 г.), дзяржаве (з 1775 г.), зноў Масальскім (з 1790 г.). З 1791 г. ў новаўтвораным Случарэцкім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі землямі Ляхавіцкага графства фальварак Жарабковічы (уваходзілі вёскі Зарытава, Падлессе Жарабковіцкае) і в. Жарабковічы (уваходзіла ў склад суседняга фальварка Гулічы) трапілі ва ўладанне графаў Касакоўскіх. У 1847 г. ў фальварку 37,5 валок зямлі, 58 двароў, 521 жыхар; у вёсцы 37 двароў, 277 жыхароў, 27 валок зямлі. У 1897 г. Жарабковічы — вёска (72 двары, 532 жыхары, хлебазапасны магазін) і маёнтак (2 будынкі, 31 жыхар) у Ляхавіцкай вол. У 1909 г. ў вёсцы 108 двароў, 652 жыхары; у маёнтку 6 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; фальварак, 3 дамы, 30 жыхароў, і вёска, 119 двароў, 619 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. — цэнтр Жарабковіцкага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Падлескім с/с, які 3.7.1972 г. зноў перайменаваны ў Жарабковіцкі. У 1940 г. вёска, 127 двароў, 681 жыхар, пач. школа, клуб, медпункт, гандлёвая кропка, тэлефон. Былы фальварак налічваў 88 жыхароў. У 1940 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Сталіна (аб'ядноўваў 98 гаспадарак, 727 га ворыва). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Жарабковічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі пахаваны 14 воінаў Сав. Арміі, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. ў баях з ням.-фаш. акупантамі (у 1957 г. на магіле ўстаноўлены помнік — скульптура салдата). На могілках пахаваны 14 вяскоўцаў, расстраляных гітлераўцамі летам 1941 г. (у 1965 г. на магіле ўстаноўлены абеліск). У 1948 г. ў вёсцы быў адноўлены калгас; з 3.11.1961 г. гаспадарка перайменавана ў калгас «Беларусь». У 1959 г. было 519 жыхароў, у 1970 г. — 617 жыхароў. У 2002 г. 238 двароў, 670 жыхароў, цэнтр калгаса «Беларусь». У вёсцы размешчаны выканком сельсавета, філіял «Беларусбанка», дзіцячы сад, 2 магазіны, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя

школа, б-ка, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой, мерыдыянальных вуліц, да якіх з З далучаецца блізкая да шыротнай арыентацыі вуліца. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖАРСКІЯ** — вёска ў Начаўскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Ляхавіч, 3 км ад чыг. прыпынку Райтанаў на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Гайнін—Ляхавічы, якая праходзіць побач з вёскай. 41 гаспадарка, 60 жыхароў (2005).

У 1870 г. Жарскія — вёска, 65 рэвізскіх душ, раней уваходзіла ў склад маёнтка Паўлюкоўшчызна (да 1972 г. вёска Начаўскага с/с; вядома з 1535 г. як сяло ці фальварак, належала Гаштольдам, Хадкевічам, з 19 ст. Чарноцкім; у 19—20 ст. існавала сядзіба з драўляным палацам і паркам, не захавалася); у Мядзведзіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. У 1897 г. ў вёсцы 24 двары, 182 жыхары. У 1909 г. — 37 двароў, 195 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 41 двор, 187 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Тальмінавіцкім с/с (ліквідаваны 16.7.1954 г.). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 17.11.1959 г. ў Рачканскім с/с, які 4.6.1979 г. быў перайменаваны ў Начаўскі с/с. У 1940 г. вёска, 48 двароў, 227 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ў вёсцы створаны калгас імя Я.Купалы, які ў крас. 1953 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Хрушчова. У 1959 г. было 197 жыхароў, у 1970 г. — 248 жыхароў. У 2002 г. 42 двары, 84 жыхары, у складзе калгаса «Ляхавіцкі» (цэнтр — в. Русінавічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАБЕР'Е** — вёска ў Востраўскім с/с, за 39 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе, якая звязвае вёску з шашой Брэст—Слуцк. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2005).

У 1789 г. Забер'е — дзярж. вёска Навагрудскага пав. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска фальварка Тухавічы (уваходзіў у склад маёнтка Рэпіхава), 12 двароў, 107 жыхароў, уласнасць графіні І.Патоцкай. У 1897 г. вёска ў Крывошынскай вол., 21 двор, 154 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 18 двароў, 99 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Тухавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 4.10.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 6.4.1981 г. ў Востраўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 61 двор, 312 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 і 1970 гг. было 195 жыхароў. У 2002 г. 30 двароў, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Востраў» (цэнтр — в. Востраў).

**ЗАВІННЕ** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе, якая звязвае вёску з Ляхавічамі. 56 гаспадарак, 82 жыхары (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяленне ў Новагародскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1589 г. сяло ў складзе маёнтка Востраў. У 1789 г. Завінне — дзярж. вёска ў Навагрудскім пав. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска фальварка Баканава (уваходзіў у склад маёнтка Рэпіхава), 24 гаспадаркі, 197 жыхароў; уласнасць графіні І.Патоцкай. У 1870 г. — 115 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёс-



ка ў Вострраўскай вол., 63 двары, 434 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач знаходзілася ўрочышча Жвіры, дзе стаяў дом ахоўніка, 6 жыхароў. У 1909 г. — 76 двароў, 503 жыхары, нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 18 двароў, 157 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Востраўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл.; у 1950-я г. вёска перададзена ў Малагарадзішчанскі с/с, з 15.5.1998 г. ў Альхоўскім с/с. У 1940 г. 148 двароў, 598 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры і на ўсх. ускраіне вёскі ў 2 брацкіх магілах пахаваны 249 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. акупантамі ў 1941—44 гг. (помнікі на брацкіх магілах устаноўлены ў 1967 і 1985 гг.). У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Камсамолец», які ў 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Калініна Малагарадзішчанскага с/с. У 1959 г. было 492 жыхары, у 1970 г. — 399 жыхароў. У 2002 г. 68 двароў, 101 жыхар, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (цэнтр — в. Малое Гарадзішча).

**ЗАДВОР'Е** — вёска ў Альхоўскім с/с, каля р. Шчара, за 4 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе, якая звязвае Ляхавічы з шашой Брэст—Слуцк. 211 гаспадарак, 608 жыхароў (2005).

Два помнікі археалогіі (стаянкі), якія размешчаны за 1 км на ПнУ ад вёскі і адносяцца да эпохі мезаліту і бронзавага веку, сведчаць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці.

Паводле пісьмовых крыніц, у 1616 г. Задвор'е — сяло маёнтка Гарадзішча (іншая назва Гарадзішча-Алдавіцкае) у Навагрудскім пав., 9 валок зямлі, уладанне Я.К.Хадкевіча, Х.Камінскага (з 1616 г.), пазней Бухавецкіх. Побач з сялом размяшчаўся млын. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1847 г. Задвор'е — вёска фальварка Галдавічы маёнтка Ляхавічы, уласнасць графа С.М.Касакоўскага, $3^1/_2$ валокі зямлі, 5 двароў, 37 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Ляхавіцкай вол., 25 двароў, 152 жыхары. У 1909 г. — 34 двары, 181 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 16 двароў, 64 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Пад'язаўлянскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 20.5.1968 г. ў Альхоўскім с/с (перайменаваны Пад'язаўлянскі с/с). У 1940 г. ў вёсцы 50 двароў, 236 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях каля вёскі загінулі 3 сав. воіны (пахаваны ў брацкай магіле на тэр. ільнозавода). У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная зорка», які ў ліст. 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Зорка камунізму» Альхоўскага с/с. У 1959 г. было 223 жыхары, у 1970 г. — 254 жыхары. У 2002 г. 219 двароў, 691 жыхар, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (цэнтр — в. Малое Гарадзішча). Працуюць дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, магазін, льнозавод.

**ЗАЛІПЕННЕ** — вёска ў Крывошынскім с/с, на р. Ліпнянка, за 22 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Свяціца—Ляхавічы. 135 гаспадарак, 267 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1584 г. «Залипени» — сяло Ліпскай вол., якое ў ліку іншых населеных пунктаў валасці М.Радзівіл падараваў Нясвіжскай езуіцкай калегіі. У 1789 г. вёска, дзярж. ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска маёнтка Рэпіхава, 24 гаспадаркі, 200 жыхароў, уладанне графіні Патоцкай. У





1897 г. Заліпенне — вёска (47 двароў, 288 жыхароў) і пасёлак побач з вёскай (5 жыхароў) на зямлі Патоцкіх, у Крывошынскай вол. У 1909 г. вёска, 37 двароў, 369 жыхароў, школа граматы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 69 двароў, 287 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Ліпскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Крывошынскім с/с. У 1940 г. 118 двароў, 466 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Шлях Ільіча». У 1959 г. было 546 жыхароў, у 1970 г. — 705 жыхароў. У 2002 г. 148 двароў, 294 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Ліпск).

**ЗАЛУЖЖА** — вёска ў Ганчароўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Брэст—Слуцк. 21 гаспадарка, 44 жыхары (2005).

У канцы 18 ст. Залужжа — вёска фальварка Галдавічы Ляхавіцкага графства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1847 г. вёска таго ж фальварка, уладанне Касакоўскіх (з 1793 г.), 10 двароў, 65 жыхароў, 5 валок зямлі. У 1870 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол. Слуцкага пав., 36 рэвізскіх душ сялян-уласнікаў. У 1897 г. 17 двароў, 135 жыхароў. У 1909 г. — 25 двароў, 161 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 23 двары, 107 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Альхоўскім, з 16.7.1954 г. ў Пад'язаўлянскім, у 1959 г. ў Мініцкім сельсаветах. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., 4.6.1979 г. Мініцкі с/с перайменаваны ў Ганчароўскі. У 1940 г. ў вёсцы 29 двароў, 172 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. створаны калгас «Чырвоны Усход». У 1959 г. было 177 жыхароў, у 1970 г. — 151 жыхар. У 2002 г. 23 двары, 51 жыхар, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары).

**ЗАЛУЖЖА** — вёска ў Крывошынскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы на лініі Баранавічы—Лунінец. 79 гаспадарак, 116 жыхароў (2005).

За 2 км на Пд ад вёскі, на З ад дарогі на в. Свяціца знаходзіцца помнік археалогіі — стаянка эпохі мезаліту і бронзавага веку, якая сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці.

Паводле пісьмовых крыніц, у 1584 г. «Залужье» — сяло Ліпскай вол. Навагрудскага ваяв., якое ў ліку іншых населеных пунктаў воласці М.Радзівіл падараваў Нясвіжскай езуіцкай калегіі. У 1789 г. вёска, дзярж. уласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска маёнтка Рэпіхава, 25 гаспадарак, 221 жыхар, уладанне графіні І.Патоцкай. У 1897 г. вёска ў Крывошынскай вол., 68 двароў, 401 жыхар. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны пасёлак на зямлі графоў Патоцкіх, 1 двор, 7 жыхароў, піцейны дом. У 1909 г. ў вёсцы 82 двары, 538 жыхароў, школа граматы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 64 двары, 351 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Тухавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 14.10.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 22.4.1957 г. ў Крывошынскім с/с. У 1940 г. вёска і хутар, 146 двароў, 668 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 2 км на З ад вёскі, у лесе, у 1943—44 гг. дыслацыравалася 20-я брыгада імя В.С.Грызадубавай Баранавіцкага партыз. злучэння. У 1967 г. на месцы размяшчэння партыз. брыгады была адноўлена зямлянка; у



1975 г. ў цэнтры вёскі ў гонар партызан устаноўлена стэла. У 1941—45 гг. у баях з ням.-фаш. захопнікамі загінулі 60 вяскоўцаў. У Вял. Айч. вайну ням. карнікі ў маі 1942 г. загубілі 6 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму за 2 км на Пн ад вёскі), у сак. 1943 г. спалілі 106 двароў і загубілі 60 жыхароў. На ўшанаванне памяці землякоў у цэнтры вёскі ў 1968 г. ўстаноўлены абеліск. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новае жыццё». З 1957 г. вёска знаходзілася ў складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Ліпск). У 1959 г. было 622 жыхары, у 1970 г. — 600 жыхароў. У 2002 г. 96 двароў, 149 жыхароў. Ёсць б-ка, клуб.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Востраўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе, якая звязвае вёску з шашой Брэст—Слуцк. 90 гаспадарак, 170 жыхароў (2005).

У 1789 г. Заполле — дзярж. вёска Навагрудскага пав. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска фальварка Востраў (увагодзіў у склад маёнтка Рэпіхава), 20 двароў, 228 жыхароў, уласнасць графіні І.Патоцкай. У 1897 г. Заполле — вёска ў Востраўскай вол., 54 двары, 344 жыхары, хлебазапасны магазін, і пасёлак на зямлі Патоцкіх, 1 двор, 3 жыхары. У 1909 г. вёска, 71 двор, 399 жыхароў; працавала нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 64 двары, 357 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Гутаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 4.10.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 17.4.1959 г. ў Востраўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы і пасёлку 136 двароў, 656 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Бальшавік». У 1959 г. быў 681 жыхар, у 1970 г. — 567 жыхароў. У 2002 г. 98 двароў, 193 жыхары, у складзе калгаса «Востраў» (цэнтр — в. Востраў).

**ЗАРЫТАВА** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, на р. Шавялёўка, за 12 км на ПнУ ад Ляхавіч, 0,5 км ад чыг. прыпынку Жарабковічы на лініі Баранавічы—Асіповічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, затым аўтадарозе Баранавічы—Клецк. 149 гаспадарак, 319 жыхароў (2005).

У канцы 18 ст. Зарытава (Зарытаў) — вёска фальварка Жарабковічы Ляхавіцкага графства, дзярж. ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі землямі Ляхавіцкага графства Зарытава перададзена ва ўласнасць графоў Касакоўскіх. У 1847 г. вёска таго ж фальварка маёнтка Ляхавічы, 43 двары, 339 жыхароў, 24 валокі зямлі. У 1897 г. вёска Ляхавіцкай вол., 86 двароў, 646 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў вёсцы 103 двары, 725 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 113 двароў, 554 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Жарабковіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Падлескім с/с, які 3.7.1972 г. перайменаваны ў Жарабковіцкі. У 1940 г. вёска, 155 двароў, 671 жыхар. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Перамога», з 24.12.1950 г. вёска знаходзілася ў складзе калгаса імя Сталіна Жарабковіцкага с/с (з 3.11.1961 г. калгас «Беларусь»). У 1959 г. ў вёсцы 371 жыхар, у 1970 г. — 567 жыхароў. У 2002 г. 157 двароў, 340 жыхароў. У 1965 г. за 3 км ад вёскі на магіле героя грамадз. вайны, кіраўніка партыз. атрада, які дзейнічаў пад Ляхавічамі, М.А.Кухарчыка ўстаноўлены абеліск. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, двухбакова забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

*Помнік землякам, загінуўшым у Вялікую Айчынную вайну, у в. Зубелевічы.*

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Конькаўскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 2 км ад чыг. ст. Русіна на лініі Баранавічы—Лунінец. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У 1836 г. Зарэчча — вёска маёнтка Дарава Харунжэўскае Навагрудскага пав. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў, уладанне Керсноўскіх, 9 двароў. У 1844 г. ў вёсцы 9 двароў, 72 жыхары. У 1858 г. Зарэчча — вёска і маёнтак (фальварак, іншая назва Дарава Касцюшкаўскае), які набыў А.І.Парцыянка. У 1870 г. ў маёнтку 29 рэвізскіх душ, у 1876 г. — 71 дзес. зямлі. У 1897 г. побач з в. Зарэчча Дараўскай вол. (16 двароў, 113 жыхароў) размяшчаліся сядзіба маёнтка Зарэчча (3 будынкі, 18 жыхароў) і чыг. будка № 49 Палескіх чыгунак (6 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 22 двары, 146 жыхароў, у маёнтку — 8 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 15 двароў, 73 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 31 двор, 132 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвонае Зарэчча», які з студз. 1952 г. быў уключаны ў склад узбуйненага калгаса «Кастрычнік». У 1959 г. было 109 жыхароў, у 1970 г. — 89 жыхароў. У 2002 г. 17 двароў, 25 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Конькі).

**ЗУБЕЛЕВІЧЫ** — вёска ў Падлескім с/с, за 6 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. на аўтадарозе Ляхавічы—Клецк. 194 гаспадаркі, 461 жыхар (2005).

У 1760 г. Зубелевічы — фальварак і вёска маёнтка Ляхавічы (Ляхавіцкага графства) у Навагрудскім пав. Рэчы Паспалітай. Разам з іншымі населенымі пунктамі Ляхавіцкага маёнтка Зубелевічы прададзены Мар'янай Казьмінскай, дачкой Е.Ф.Сапегі, кн. М.Ю.Масальскаму. У 1775—90 гг. вёска і фальварак у



складзе дзярж. староства (у 1789—90 гг. у часовым валоданні навагрудскага ваяводы Ю.Несялоўскага), з 6.5.1790 г. зноў у валоданні Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. Зубелевічы ў складзе Ляхавіцкага маёнтка перададзены ва ўладанне Ш.Касакоўскаму і яго нашчадкам. У 1847 г. фальварак (уваходзілі вёскі Зубелевічы і Падлессе Зубелевіцкае) меў каля 50 валок зямлі, 40 двароў, 412 сялян; вёска — 32 валокі зямлі, 19 двароў, 248 жыхароў. У 1897 г. ў Ляхавіцкай вол. Зубелевічы: вёска пры ваенна-камунікацыйнай дарозе Ляхавічы—Клецк, 41 двор, 366 жыхароў, хлебазапасны магазін; засценак (прыватнаўласніцкі, часткай зямлі валодалі сяляне), 31 двор, 199 жыхароў; маёнтак Касакоўскіх, 2 будынкі, 12 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 59 двароў, 495 жыхароў; у маёнтку 7 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 83 двары, 416 жыхароў; фальварак, 6 двароў, 25 жыхароў; засценак, 44 двары, 258



жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Падлескім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 3.7.1972 г. сельсавет перайменаваны ў Жарабковіцкі, 1.5.1981 г. адноўлены. У 1940 г. вёска, 172 двары, 894 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 5.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1948 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «17 Верасня». У былым засценку Зубелевічы (іншыя назвы: в. Засценак Зубелевічы, Зубелевічы) у 1949 г. быў арганізаваны калгас імя Молатава, які 7.7.1951 г. зліўся з калгасам «17 Верасня». 10.7.1957 г. ўзбуйнены калгас імя Молатава атрымаў назву «40 год Кастрычніка» (цэнтр — в. Зубелевічы), 24.12.1969 г. ўвайшоў у склад Ляхавіцкага саўгаса-тэхнікума. У 1959 г. ў в. Засценак Зубелевічы 165 жыхароў, у в. Зубелевічы — 454 жыхары; у 1970 г. адпаведна 226 і 504 жыхары. Пазней 2 вёскі аб'ядналіся ў адну. У 1985 г. каля будынка Дома культуры на ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі ў 1941—45 гг., устаноўлены абеліск. У 2002 г. 200 двароў, 477 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Конькі). Працуюць дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, школа, б-ка, Дом культуры, магазін. Вёска — радзіма Героя Сацыяліст. Працы І.І.Плаўскага.

**КАВАЛІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, каля р. Ведзьма, за 5 км на Пн ад Ляхавіч, чыг. прыпынак на лініі Баранавічы—Асіповічы, на аўтадарозе Ляхавічы—Навасёлкі. 57 гаспадарак, 120 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1551 г. Кавалі — сяло маёнтка Ведзьма Ляхавіцкай вол., уласнасць вял. кн. ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста, якое ён падараваў С.Гзоўскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі; разам з іншымі населенымі пунктамі маёнтка вёска перададзена ва ўласнасць Касакоўскіх. У 1844 г. Кавалі — вёска маёнтка Дарава,



*І.І.Плаўскі.*

уладанне К.М.Куневіча, 3 двары, 14 жыхароў. У 1870 г. вёска ў Ляхавіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 33 рэвізскія душы. Побач знаходзілася аднайменная вёска Дараўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. (другая частка той жа вёскі), 25 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў вёсцы і аднаселлі Ляхавіцкай вол. было 14 двароў, 107 жыхароў; у в. Кавалі Дараўскай вол. — 10 двароў, 56 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 12 двароў, 91 жыхар; у аднаселлі 2 двары, 5 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 10 двароў, 61 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Ляхавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 17.11.1959 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. 43 двары, 272 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ў вёсцы створаны калгас «Крэмль», які ў 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Ламаносава Навасёлкаўскага с/с. У 1959 г. было 235 жыхароў, у 1970 г. — 238 жыхароў. У 2002 г. 61 двор, 122 жыхары, у складзе калгаса імя Ламаносава (цэнтр — в. Флар'янова). Ёсць магазін.

**КАНЮХІ** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, на р. Нача, за 10 км на ПнУ ад Ляха-

віч, 4 км ад чыг. прыпынку Жарабковічы на лініі Баранавічы—Асіповічы, на аўтадарозе Ляхавічы—Клецк. 99 гаспадарак, 282 жыхары (2005).

У 1592 г. Канюхі — сяло Ляхавіцкай вол., уладанне Я.К.Хадкевіча ў Навагрудскім ваяв. У 1789 г. ўласнасць каталіцкай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1948 г. Канюхі — казённы маёнтак (складаўся з аднайменных фальварка і вёскі), 33 двары, 454 жыхары, карчма, хлебазапасны магазін. У фальварку размяшчаліся жылы і гасп. будынкі. У 1870 г. вёска Ляхавіцкай вол., 118 душ дзярж. сялян. У 1897 г. вёска, 42 двары, 344 жыхары, і аднаселле, 12 жыхароў. У 1909 г. вёска налічвала 63 двары, 420 жыхароў, царк.-прыходская школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 74 двары, 391 жыхар (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Жарабковіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Падлескім с/с, які 3.7.1972 г. перайменаваны ў Жарабковіцкі. У 1940 г. — 87 двароў, 449 жыхароў. У 1941 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новае жыццё». У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. адноўлены даваенны калгас, са снеж. 1950 г. вёска ў складзе ўзбуйненага калгаса імя Сталіна. У 1959 г. было 334 жыхары, у 1970 г. — 304 жыхары. З 1974 г. — у складзе калгаса «Дружба». У 2002 г. 96 двароў, 270 жыхароў. Працуюць магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, школа-сад, б-ка, клуб. На вясковых могілках устаноўлены абеліск на магіле ўдзельніка грамадз. вайны М.Ю.Кічылы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма актыўнага ўдзельніка ўстанаўлення сав. улады ў Беларусі, парт. і дзярж. дзеяча БССР П.Ф.Равінскага.

*Палац (19 ст.) у в. Каранеўшчына.*



**КАРАНЕЎШЧЫНА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 77 гаспадарак, 233 жыхары (2005).

У 1876 г. Каранеўшчына — маёнтак Навагрудскага пав., 150 дзес. зямлі, уладанне Рамуальда Лопата (спадчына з 1847 г.). У 1889 г. маёнткам валодаў яго сын Вітольд. Р.Лопат пачаў будаўніцтва сядзібы, цэнтрам якой быў палац (захаваўся): двухпавярховы мураваны будынак асіметрычнай складанай канфігурацыі. Будынак палаца неаднаразова перабудоўваўся. Вакол палаца быў парк (захаваўся часткова). У 1897 г. маёнтак у Дараўскай вол., пры гандлёвым шляху Слонім—Клецк, 3 будынкі, 35 жыхароў. У 1909 г. ў маёнтку было 40 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 7 будынкаў, 40 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 11 двароў, 42 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. хутар Каранеўшчына, 27 жыхароў. У 2002 г. вёска, 82 двары, 252 жыхары, цэнтр с.-г. прадпрыемства «Каранеўшчына» (уключае 3 населеныя пункты). Ёсць магазін,



клуб (у былым будынку палаца), дзіцячы сад.

**КАРАНІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, каля аўтадарогі Баранавічы—Ляхавічы. 32 гаспадаркі, 55 жыхароў (2005).

У 1789 г. Карані — вёска Навагрудскага пав. Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. ў 3 суседніх маёнтках Дарава існавалі вёскі Карані: 3 двары, 23 жыхары, уладанне Г.І.Чарноўскага; 9 двароў, 55 жыхароў, уладанне І.І.Мержаеўскага; 2 двары, 17 жыхароў, уладанне Керсноўскіх (маёнтак Дарава Харунжаўскае). У 1870 г. ў Дараўскай вол. існавалі 2 вёскі: Карані 1 маёнтка Дарава-Галаўшчызна, 12 рэвізскіх душ, і Карані 2 маёнтка Зарэчча (уладанне Парцыянкавай), 10 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска Карані, 16 двароў, 130 жыхароў. У 1909 г. — 9 двароў, 124 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 28 двароў, 150 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10. 1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1950-я г. вёска перададзена ў склад Навасёлкаўскага с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. створаны калгас «Чырвоная ніва», які ў ліп. 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Ламаносава Навасёлкаўскага с/с. У 1959 г. было 186, у 1970 г. 185 жыхароў. У 2002 г. 32 двары, 59 жыхароў, у складзе калгаса імя Ламаносава (цэнтр — в. Флар'янова). Ёсць магазін.

**КАЎПАКІ** — вёска ў Крывошынскім с/с, каля р. Ліпнянка, за 16 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Ляхавічы—Сваціца. 30 гаспадарак, 59 жыхароў (2005).

У 1844 г. Каўпакі — вёска фальварка Шчарбінава маёнтка Рэпіхава, 5 двароў, 38 сялян, уладанне графіні І.Патоцкай, у Навагрудскім пав. Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Крывошынскай вол., 9 двароў, 108 жыхароў. Побач з вёскай знаходзілася сядзіба маёнтка Ліпніца, уласнасць памешчыка Яганкоўскага, 18 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 15 двароў, 145 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 20 двароў, 95 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Крывошынскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 72 двары, 355 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя Талбухіна. У 1959 г. было 146, у 1970 г. 148 жыхароў. У 2002 г. 30 двароў, 58 жыхароў, у складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Галаўнінцы).

**КОНЬКІ** — вёска, цэнтр Конькаўскага с/с, за 6 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Баранавічы—Ляхавічы. 133 гаспадаркі, 349 жыхароў (2005).

У 1844 г. Конькі — вёска маёнтка Дарава Навагрудскага пав. Мінскай губ., уладанне І.І.Мержаеўскага, 15 двароў, 27 жыхароў. У 1870 г. вёска ў Дараўскай вол., 16 рэвізскіх душ, з якіх 10 былыя дваровыя. У 1889 г. Конькі — вёска; хутар А.І.Герасімовіча, 40 дзес. зямлі; 2 фальваркі, уладанні: А.А.Іваноўскага, 40 дзес. зямлі, і І.А.Пагурскага, 14 дзес. зямлі. У 1897 г. ў вёсцы 22 двары, 132 жыхары. У 1909 г. 20 двароў, 148 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 34 двары, 162 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.3.1987 г. вёска — цэнтр Конькаўскага с/с (перайменаванага Федзюкоўскага с/с). У Вял. Айч. вайну з чэрв.

1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Кастрычнік». У 1959 г. было 258, у 1970 г. 265 жыхароў. У 2002 г. 128 двароў, 344 жыхары, цэнтр калгаса «Кастрычнік» (аб'ядноўваў 8 населеных пунктаў). Размешчаны будынкі выканкома сельсавета і калгаса, дзіцячы сад, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, магазін. Вёска — радзіма бел. мастака С.С.Свістуновіча.

**КРАГЛІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 7 км на Пн ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 34 гаспадаркі, 56 жыхароў (2005).

У 1551 г. Краглі — сяло маёнтка Ведзьма Ляхавіцкай вол., уласнасць вял. кн. ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста, якую ён падараваў С.Гзоўскаму. У 1789 г. Краглі — вёска Навагрудскага пав. Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1870 г. вёска Краглі 1 (раней уваходзіла ў склад маёнтка Каранеўшчына, уласнасць Р.М.Лопата), 44 рэвізскія душы, 10 былых дваровых сялян. У 1897 г. вёска ў Дараўскай вол., 31 двор, 180 жыхароў. У 1909 г. — 33 двары, 232 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 37 двароў, 211 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 44 двары, 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. створаны калгас «Радзіма», які ў ліп. 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Ламаносава. У 1959 г. было 177, у 1970 г. 196 жыхароў. У 2002 г. 41 двор, 69 жыхароў, у складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Навасёлкі). У вёсцы нарадзіўся партыйны і дзярж. дзеяч Беларусі П.Ф.Равінскі. Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.





*С.С.Свістуновіч.*

*П.Ф.Равінскі.*

**КРЫВОЕ СЯЛО** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Івацэвічы. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У 1844 г. Крывое Сяло — вёска фальварка Шчарбінава (уваходзіў у склад маёнтка Рэпіхава), уладанне графіні І.Патоцкай, 9 гаспадарак, 62 жыхары; у Навагрудскім пав. Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў Крывошынскай вол., 32 рэвізскія душы сялян. У 1897 г. вёска, 22 двары, 168 жыхароў. Побач, на зямлі Патоцкіх, знаходзіўся аднайменны пасёлак, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 28 двароў, 206 жыхароў, школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 31 двор, 135 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Малагарадзішчанскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 15.5.1998 г. ў Альхоўскім с/с. У 1940 г. 72 двары, 265 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Чарняхоўскага. У 1959 г. было 187, у 1970 г. 115 жыхароў. У 2002 г. 7 двароў, 8 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (цэнтр — в. Малое Гарадзішча).

**КРЫВОШЫН** — вёска, цэнтр Крывошынскага с/с, каля р. Ліпнянка, за 21 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая звязвае вёску з шашой Івацэвічы—Ляхавічы. 317 гаспадарак, 976 жыхароў (2005).

Помнікі археалогіі — 2 курганы (размешчаны за 0,6 км на Пн ад школы і 0,1 км на З ад дарогі Крывошын—Ляхавічы, у лесе) сведчаць аб засяленні тэрыторыі вёскі ў старажытнасці.

Гісторыя Крывошына цесна звязана з гісторыяй в. Рэпіхава, якая існавала по-









*Мемарыяльныя дошкі ў гонар Крывошынскага валаснога рэўкома.*

бач і была вядома з 1481 г. як двор Рэпіхаў, уладанне Ю.Гайцэвіча, Іллінічаў, Радзівілаў. У 1584 г. М.К.Радзівіл у ліку іншых наданняў падараваў маёнтак Рэпіхаў у Навагрудскім ваяв. манахам ордэна езуітаў, якія пры калоніі ў Крывошыне ў 1670 г. пабудавалі мураваны касцёл у стылі барока (у 1863 г. перабудаваны ў царкву). У 1789 г. Крывошын — дзярж. мястэчка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. Крывошын — мястэчка маёнтка Рэпіхава, 18 двароў, 127 жыхароў, уладанне графіні І.Патоцкай (спадчынніца графа Рудольфа Тызенгаўза). Непадалёку ад мястэчка (за 2 вярсты) размяшчалася сядзіба маёнтка Рэпіхава, дзе ў 2-й пал. 19 ст. вялося фарміраванне пейзажнага парку (пл. больш за 6 га; захаваўся). Паркава-сядзібны комплекс Рэпіхава ўключаў сядзібны дом (2-павярховы палац, не захаваўся), флігель фурмана і кухара, стайню, лядоўню, склеп, тэнісную пляцоўку, пляцоўку з кругам і бар'ерам для аб'язджання коней, псярню, сажалкі, агарод, цяпліцы і сад. У Рэпіхаве прайшлі дзіцячыя гады Я.Чачота, бел. і польскага паэта, сябра А.Міцкевіча. 9.6.1863 г., падчас паўстання 1863—64 гг., побач з Крывошынам, у Рэпіхаўскім лесе, адбыўся бой паміж царскімі войскамі і паўстанцамі, якія ў выніку бою панеслі вял. страты (у 1988 г. на месцы бою ўстаноўлены камень-валун з надпісам). У 1867 г. ў мястэчку Крывошын было 40 двароў, 275 жыхароў. У 1886 г. мястэчка — цэнтр Крывошынскай вол.; размяшчаліся валаснае праўленне, нар. вучылішча (з 1862 г.), Пакроўская царква (былы касцёл, захавалася), капліца, 18 двароў, 290 жыхароў. У сядзібе Рэпіхава, побач з мястэчкам, працавалі вінакурня, вадзяны млын. У 1897 г. ў мястэчку 64 будынкі, 376 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, піцейная ўстанова; 1 раз на год праводзіўся кірмаш. Сядзіба маёнтка Рэпіхава (часам называлі Крывошын; у маён-

*Свята-Пакроўская царква ў в. Крывошын.*




*А.К.Санько.*

тку было 22 462 дзес. зямлі), уласнасць графоў Патоцкіх, налічвала 14 пабудоў, 39 жыхароў; сядзіба прычта Пакроўскай царквы — 11 жыхароў. У 1909 г. ў мястэчку 75 двароў, 523 жыхары. З ліст. 1918 г. да вер. 1920 г. (з перапынкам) у Крывошыне дзейнічаў валасны рэўком (старшыня В.В.Варвашэвіч; у 1980 г. на доме, у цэнтры вёскі, дзе размяшчаўся рэўком, устаноўлена мемарыяльная дошка). З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр Крывошынскай гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; фальварак і вёска, 71 двор, 358 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Крывошынскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 135 двароў, 523 жыхары, станцыя вузкакалейнай чыгункі Баранавічы—Крывошын, выканком сельсавета (у будынку былой гміннай управы), аддз. сувязі, 3 тэлефоны, няпоўная сярэдняя школа, у былым маёнтку Рэпіхава працавалі бальніца і аптэка. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. Крывошын акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 21 студз. 1944 г. гітлераўскія карнікі расстралялі 2 вучняў Крывошынскай школы. Усяго за гады вайны ў барацьбе з ням.-фаш. акупантамі загінулі 5 вучняў школы (мемарыяльная дошка загінуўшым устаноўлена на будынку школы ў 1985 г.). У баях з ворагамі пры вызваленні вёскі загінулі 57 сав. воінаў і 2 партызаны (пахаваны ў цэнтры вёскі, у 1957 г. на магіле ўстаноўлены помнік). У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас «8-е Сакавіка», які ў 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Шлях Ільіча». У 1959 г. было 1114, у 1970 г. 1544 жыхары. У 1978 г. за 2 км на Пн ад вёскі на магіле 6 жыхароў вёскі Залужжа, якія былі расстраляны гітлераўцамі ў маі 1942 г., пастаўлена мемарыяльная пліта. У 1985 г. на будынку сярэдняй школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка ўраджэнцу Крывошына, Герою Сав. Саюза Г.С.Здановічу. У гонар 40-годдзя вызвалення Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў у скверы ўстаноўлены мемарыяльны знак. У 2002 г. 323 двары, 1142 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Ліпск). Працуюць комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, царква, аптэка, аддз. сувязі. Вёска — радзіма бел. кампазітара А.К.Санько, Героя Сав. Саюза генерал-маёра Г.С.Здановіча.

**КУЛІКІ** — вёска ў Востраўскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе, якая звязвае вёску з шашой Слуцк—Брэст. 66 гаспадарак, 106 жыхароў (2005).

У 1905 г. Кулікі — вёска (304 жыхары) і маёнтак (14 жыхароў) у Дабрамысльскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Дабрамысльскай гміны Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., 47 двароў, 251 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Гутаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 4.10.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 17.4.1959 г. ў Востраўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да



ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук карнікаў і ў партыз. барацьбе загінулі 11 вяскоўцаў. У 1959 г. было 398, у 1970 г. 412 жыхароў. У 2002 г. 72 двары, 113 жыхароў, у складзе калгаса «Востраў» (цэнтр — в. Востраў). Ёсць магазін.

**КУЛЯНІ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, чыг. прыпынак на лініі Баранавічы—Лунінец, за 14 км на ПдУ ад Ляхавіч.

У 1789 г. Куляні — уласнасць каталіцкай царквы ў Навагрудскім ваяв. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1847 г. вёска казённага падухоўнага маёнтка Мядзведзічы (Нядзведзічы), 5 двароў, 38 жыхароў. У 1853 г. — 47 жыхароў. У 1870 г. вёска Мядзведзіцкай вол., 20 рэвізскіх душ, 2 аднадворцы. У 1897 г. 12 двароў, 96 жыхароў. У 1909 г. 13 двароў, 104 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 20 двароў, 110 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Тальмінавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Куршынавіцкім с/с. У 1940 г. 52 двары, 246 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас «Шлях селяніна». У 1959 г. хутары Куляні налічвалі 131, у 1970 г. 77 жыхароў. У 2002 г. 2 двары, 2 жыхары.

**КУРШЫНАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Куршынавіцкага с/с, за 18 км на ПдУ ад Ляхавіч, 3 км ад чыг. прыпынку Буды на лініі Баранавічы—Лунінец, на аўтадарозе Ляхавічы—Ганцавічы. 190 гаспадарак, 434 жыхары (2005).

За 0,4 км ад вёскі, справа ад дарогі на в. Гайнінец, у лесе знаходзіцца помнік археалогіі — курганны могільнік (26 насыпаў), які сведчыць аб засяленні тэрыторыі вёскі ў старажытнасці.

У пісьмовых крыніцах звесткі пра вёску сустракаюцца з 16 ст. У 1552 г. Куршынавічы — сяло Мядзведзіцкай вол., уласнасць Віленскага каталіцкага біскупства ў Навагрудскім ваяв. У 1774 г. вёска Мядзведзіцкага ключа, уладанне каталіцкай царквы. З 1791 г. ў новаўтвораным Случарэцкім пав. Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. вёска фальварка Рудня маёнтка Савейкі, уладанне Валерыі Рдултоўскай, 23 двары, 153 жыхары. З 1860 г. ўласнасць памешчыка Навіцкага. У 1870 г. — 97 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол., 60 двароў, 439 жыхароў. У 1909 г. — 71 двор, 523 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 98 двароў, 550 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Куршынавіцкага с/с. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 150 двароў, 919 жыхароў, пач. школа, медпункт. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ад рук карнікаў і ў партыз. барацьбе загінулі 12 вяскоўцаў. У 1951 г. вяскоўцы стварылі калгас «За ўладу Саветаў». У 1959 г. было 647, у 1970 г. 666 жыхароў. У 2002 г. 208 двароў, 484 жыхары, цэнтр с.-г. прадпрыемства «Куршынавічы» (былы калгас «Пераможац»), якое аб'ядноўвае 4 вёскі. Працуюць магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт. Пліровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пд далучаецца з ПдЗ кароткая, прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.



*Г.С.Здановіч.*

**ЛАБУЗЫ** — вёска ў Конькаўскім с/с, на р. Шчара, за 8 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 2 км ад чыг. прыпынку Федзюкі на лініі Баранавічы—Асіповічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай дарозе, якая звязвае вёску з аўтадарогай Баранавічы—

Ляхавічы. 50 гаспадарак, 86 жыхароў (2005).

У 1836 г. Лабузы — вёска маёнтка Дарава Харунжэўскае Навагрудскага пав. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерні, уладанне Керсноўскіх, 19 двароў. У 1844 г. ў вёсцы 156 жыхароў. У 1897 г. ў Дараўскай вол., 38 двароў, 252 жыхары. У пач. 20 ст. адкрыта царк.-прыходская школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; вёска і фальварак, 23 двары, 101 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 42 двары, 223 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3.7.1944 г. акупанты спалілі 59 двароў. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Панамарэнкі. У 1959 г. было 221, у 1970 г. 258 жыхароў. У 2002 г. 51 двор, 89 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Дарава). На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі знаходзяцца рэшткі сядзібы, у агульны комплекс якой уваходзіў палац (мураваны, аднапавярховы, налічваў 8 пакояў), шэраг гасп. пабудоў. Адначасова з будаўніцтвам палаца ў 2-й пал. 19 ст. быў закладзены пейзажны парк.

**ЛІПСК** — вёска ў Крывошынскім с/с, каля р. Ліпнянка, за 24 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Ліпск—Крывошын. 458 гаспадарак, 1063 жыхары (2005).

*Сядзібны дом (19 ст.) у в. Лабузы.*



Помнік археалогіі — стаянка эпохі мезаліту (размешчана за 3 км на Пд ад вёскі, на хутары Шура) сведчыць аб засяленні тэрыторыі вёскі ў старажытнасці.

У пісьмовых крыніцах Ліпск згадваецца з канца 15 ст. ў Навагрудскім пав. ВКЛ. У 1492 г. сяло, цэнтр Ліпскай вол. (дзярж. ўласнасць), якая была аддадзена ва ўладанне М.Радзівілу. У 1528 г. сяло, цэнтр воласці, уласнасць Радзівілаў. У 1563 г. Ліпск — мястэчка, цэнтр воласці. У 1584 г. М.Радзівіл падараваў Ліпскую вол. з «местам» Ліпск, 6 вёскамі і маёнткам Рэпіхава Нясвіжскай езуіцкай калегіі. У 1589 г. «места» Ліпск — цэнтр воласці, уласнасць каталіцкага манаскага ордэна езуітаў. У 1789 г. дзярж. мястэчка Навагрудскага ваяв. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. Ліпск — мястэчка маёнтка Рэпіхава, 70 гаспадарак, 404 жыхары, уладанне графіні І.Патоцкай (атрымала маёмасць у спадчыну ад Р.Тызенгаўза). У 1867 г. мястэчка ў Крывошынскай вол., 556 жыхароў. У 1886 г. — 64 двары, 650 жыхароў. У 1897 г. Ліпск — мястэчка (143 двары, 920 жыхароў) і пасёлак (1 двор, 2 жыхары) на зямлі Патоцкіх, каля шляху з вёскі Залужжа ў Крывошын. У 1909 г. ў мястэчку 176 двароў, 1154 жыхары, школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 184 двары, 841 жыхар (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. цэнтр Ліпскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Крывошынскім с/с. У 1940 г. 280 двароў, 1600 жыхароў, няпоўная сярэдняя школа, урачэбны участак, выканком сельсавета. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14 студз. 1944 г. акупанты расстралялі 9 вяскоўцаў і 2 партызан, якія былі пахаваны ў цэнтры вёскі (помнік на магіле ўстаноўлены ў 1967 г.). У 1950 г. ў





Абарончыя збудаванні часоў 1-й сусветнай вайны каля в. Літва.

вёсцы створаны калгас імя Вярх. Савета СССР, які ў 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Шлях Ільіча». У 1959 г. было 1211, у 1970 г. 1549 жыхароў. У 1987 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах вайны і ў партыз. барацьбе, устаноўлены помнік (скульптар С.Шабека). У 2002 г. 458 двароў, 1152 жыхары, цэнтр калгаса «Шлях Ільіча», які аб'ядноўваў 5 вёсак. Працуюць магазін, сталовая, аддз. сувязі, сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт. Ліпск — радзіма кавалера ордэна Славы трох ступеняў А.І.Малевіча, генерал-маёра А.І.Бацкалевіча.

**ЛІТВА** — вёска ў Конькаўскім с/с, на р. Шчара, за 11 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 4 км ад чыг. ст. Русіна на лініі Баранавічы—Лунінец, каля аўтадарогі Баранавічы—Ляхавічы. 242 гаспадаркі, 581 жыхар (2005).

З 1760 г. в. Літва ў валоданні М.Ю.Масальскага. У 1789 г. вёска маёнтка Дараў, уласнасць каталіцкай царквы, у Навагрудскім ваяв. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1853 г. вёска казённага маёнтка Дарава, 63 двары, 521 жыхар, сельскі хлебазапасны магазін (на 9 вёсак), шынок. У 1886 г. ў вёсцы 101 двор, 830 жыхароў; размяшчалася валаснoе праўленне Дараўскай вол. У 1889 г. вёска і фальварак, 26 дзес. зямлі, уласнасць О.С.Кірэйчыка. У 1897 г. ў вёсцы 170 двароў, 982 жыхары, 2 сельскія хлебазапасныя магазіны, 3 ветраныя млыны, 2 кузні, піцейная ўстанова. У 1909 г. 205 двароў, 1223 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., вёска і фальварак, 154 двары, 690 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10. 1940 г. ў Дараўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Федзюкоўскім, з 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У 1940 г. 194 двары, 1209 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты загубілі 6 жыхароў, 11 вяскоўцаў загінулі ў партыз. барацьбе. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Берыі (17.7.1953 г. перайменаваны ў калгас «Прагрэс»). У 1959 г. было 898, у 1970 г. 804 жыхары. З крас. 1979 г. вёска знаходзілася ў складзе ўзбуйненага калгаса «Кастрычнік». У 2000 г. 230 двароў, 550 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Дарава). Вёска — радзіма Героя Сацыяліст. Працы, кандыдата с.-г. навук Г.М.Траццяка.

**ЛІТОЎКА** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У 1760 г. Літоўка — вёска аднайменнага фальварка маёнтка Ляхавічы (Ляхавіцкага графства); разам з іншымі населенымі пунктамі маёнтка прададзена Мар'янай Казьмінскай, дачкой Е.Ф.Са-





А.І.Малевіч.

А.І.Бацкалевіч.



Могілкі часоў 1-й сусветнай вайны каля в. Літва.

пегі, князю М.Ю.Масальскаму. У 1775—90 гг. фальварак і маёнтак у складзе дзярж. староства (у 1789—90 гг. у часовым валоданні навагрудскага ваяводы Ю.Несялоўскага), з 6.5.1790 г. зноў у валоданні Масальскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. Літоўка ў складзе Ляхавіцкага маёнтка перададзена Шымону Касакоўскаму і яго нашчадкам. У 1847 г. Літоўка — фальварак (складаўся з вёсак Літоўка і Альхоўцы; 27 валок 16 маргоў зямлі, 123 душы працаздольных сялян) і вёска ($8^1/_2$ валокі зямлі, 8 двароў, 53 жыхары) таго ж маёнтка. У 1897 г. фальварак, 8 жыхароў (уласнасць графоў Касакоўскіх), і вёска, 19 двароў, 126 жыхароў; у Мядзведзіцкай вол. Побач з вёскай знаходзіліся хутар Літоўка (3 будынкі, 14 жыхароў, уладанне памешчыка Гарцінга) і хутар Пад-Літоўка, уладанне Бухавецкіх (на тэр. суседняй Крывошынскай вол. Навагрудскага пав.). У 1909 г. ў фальварку 9 жыхароў; у вёсцы — 26 двароў, 162 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; фальварак і вёска, 32 двары, 181 жыхар (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Альхоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Пад'язаўлянскім с/с, які 20.5.1968 г. быў перайменаваны ў Альхоўскі. У 1940 г. вёска, 45 двароў, 267 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ў вёсцы створаны калгас імя А.Матросава. У 1959 г. было 271, у 1970 г. 191 жыхар. У 2000 г. 15 двароў, 19 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (цэнтр — в. Малое Гарадзішча).

**ЛЮБЕЙКІ** — вёска ў Востраўскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 61 гаспадарка, 100 жыхароў (2005).

У 1789 г. — дзярж. вёска Навагрудскага пав. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска фальварка Востраў (уваходзіў у склад маёнтка Рэпіхава), 6 двароў, 72 жыхары, уласнасць графіні І.Патоцкай. У 1897 г. вёска Востраўскай вол., 30 двароў, 193 жыхары. У 1909 г. — 38 двароў, 261 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 37 двароў, 183 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Востраўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 86 двароў, 427 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны сцяг». У 1959 г. было 407, у 1970 г. 417 жыхароў. У 2000 г. 72 двары, 113 жыхароў, у складзе калгаса «Востраў» (цэнтр — в. Востраў). Ёсць клуб, б-ка, магазін.

**МАЗУРКІ** — вёска ў Ганчароўскім с/с, за 11 км на Пд ад Ляхавіч, 4 км ад чыг. ст. Райтанаў на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Івацэвічы—Слуцк. 47 гаспадарак, 83 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца пад 1592 г. як Мазуркаўшчына — сяло Ляхавіцкай вол. Навагрудскага пав. ВКЛ, шляхецкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1836 г. Мазуркі — маёнтак, уласнасць І.Візгерда. У 1844 г. маёнтак меў 840 дзес. зямлі, 96 сялян (у т.л. 11 дваравых), складаўся з аднайменных фальварка і вёскі, 10 двароў, 88 жыхароў. У 1870 г. вёска, 46 сялян-уласнікаў, і фальварак, уладанне Крагельскіх, у складзе Мядзведзіцкай вол. У 1897 г. ў фальварку было 11 будынкаў, 40 жыхароў, вінакурня; у вёсцы — 14 двароў, 160 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. вёска, 27 двароў, 212 жыхароў, і маёнтак (выгляд мазуркаўскага сядзібнага дома



пач. 20 ст. вядомы паводле малюнка мастака Ю.Смалінскага; сядзіба не захавалася), 11 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., вёска, 36 двароў, 206 жыхароў, і фальварак, 20 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Мядзведзіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мініцкім с/с (4.6.1979 г. перайменаваны ў Ганчароўскі с/с). У 1940 г. вёска, 70 двароў, 418 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя Дзяржынскага. У 1959 г. было 316, у 1970 г. 337 жыхароў. У 2002 г. 55 двароў, 92 жыхары, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары). Працуе магазін.

**МАКЕЕЎШЧЫНА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

У 1853 г. Макееўшчына — вёска казённага маёнтка Дарава, у Навагрудскім пав. Мінскай губ., 4 двары, 12 жыхароў. У 1870 г. вёска ў Дараўскай вол., 26 рэвізскіх душ. У 1987 г. — 14 двароў, 85 жыхароў, ветраны млын. У 1909 г. вёска, 20 двароў, 123 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 18 двароў, 92 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Дараўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1954 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1940 г. вёска, 16 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 68, у 1970 г. 50 жыхароў. У 2002 г. 8 двароў, 10 жыхароў, у складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Навасёлкі).

**МАЛОЕ ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Малое Гарадзішча—Альхоўцы, за 2 км ад аўтадарогі Брэст—Слуцк. 115 гаспадарак, 300 жыхароў (2005).

У 1789 г. Малое Гарадзішча — вёска ў Навагрудскім пав., у складзе маёнтка Гарадзішча (іншыя назвы Гарадзішча-Алдавіцкае, Вялікае Гарадзішча), уладанне Бухавецкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1870 г. вёска ў Крывошынскай вол., 42 рэвізскія душы. У 1897 г. ў вёсцы 23 двары, 158 жыхароў. У 1909 г. — 39 двароў, 250 жыхароў, школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 19 двароў, 132 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Малагарадзішчанскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 132 двары, 484 жыхары, пач. школа, паравы млын, гандлёвая кропка. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Свярдлова. У 1959 г. было 332, у 1970 г. 292 жыхары. У 1980-я г. з'яўлялася цэнтрам саўгаса «Малагарадзішчанскі» (раней эксперыментальная база з той жа назвай). З 15.5.1998 г. ў Альхоўскім с/с. У 2002 г. 122 двары, 320 жыхароў, цэнтр камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (аб'ядноўвае 10 вёсак). Працуюць дзіцячы сад, аддз. сувязі, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да цэнтра якой далучаюцца два завулкі.

**МАЛОЕ ПАДЛЕССЕ** — вёска ў Конькаўскім с/с, каля р. Шчара, за 10 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 7 км ад чыг. ст. Русіна на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Баранавічы—Ляхавічы. 62 гаспадаркі, 105 жыхароў (2005).

У 1853 г. Падлессе — вёска ў Навагрудскім пав. Мінскай губ., у складзе




казённага маёнтка Дарава, 39 двароў, 340 жыхароў, карчма з шынком. У 1970 г. сяло Дараўскай вол., 162 рэвізскія душы. У 1886 г. 45 двароў, 370 жыхароў, царква. У 1889 г. побач з сялом знаходзіўся аднайменны фальварак, 16 дзес. зямлі, уласнасць сялян І.А.Бубена і В.Осіпава. У 1897 г. Падлессе — вёска, 178 двароў, 556 жыхароў, ветраны млын і кузня. У 1909 г. ў вёсцы 104 двары, 739 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 97 двароў, 455 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Дараўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Федзюкоўскім с/с. У 1940 г. 109 двароў, 593 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Лысенкі. У 1959 г. было 42, у 1970 г. 39 жыхароў. З 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У 2002 г. 72 двары, 125 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс» (цэнтр — в. Дарава). Ёсць магазін.

**МАЛЫШЫ** — вёска ў Крывошынскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 55 гаспадарак, 109 жыхароў (2005).

У 1789 г. Малышы — уласнасць каталіцкай царквы, у Навагрудскім ваяв. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. Малышы — вёска фальварка Берасневічы маёнтка Савейкі, 15 дварОў, 108 жыхароў, уласнасць Валерыі Рдултоўскай. Пазней уваходзіла ў склад маёнтка Берасневічы, уладанне Навіцкіх (панская сядзіба знаходзілася побач з вёскай Малышы; складалася з сядзібнага аднапавярховага дома, пабудаванага з дрэва ў канцы 19 ст., парку, гасп. пабудоў і саду; захаваліся асобныя элементы сядзібы). У 1870 г. ў вёсцы 59 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол., 28 дварОў, 215 жыхароў. У 1909 г. 42 двары, 282 жыхары, цагельня. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 47 дварОў, 242 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Крывошынскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 45 дварОў, 255 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас «Іскра». У 1959 г. было 390, у 1970 г. 186 жыхароў. У 2002 г. 60 дварОў, 118 жыхароў, у складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Галаўнінцы).

**МАРЫНОВА** — вёска ў Альхоўскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Брэст—Слуцк. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У 1870 г. Марынова (іншая назва Марынін) — вёска ў Востраўскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 27 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў вёсцы 10 дварОў, 107 жыхароў. У 1909 г. — 16 дварОў, 140 жыхароў, школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 10 дварОў, 49 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Востраўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1950-я г. вёска перададзена ў склад Малагарадзішчанскага с/с. У 1940 г. 35 дварОў, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы 24.6.1941 г. спалілі 16 дварОў, загубілі 3 жыхароў. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя В.І.Чапаева. У 1959 г. было 107, у 1970 г. 62 жыхары. З 15.5.1998 г. ў Альхоўскім с/с. У 2002 г. 12 дварОў, 20 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Малагарадзішча» (цэнтр — в. Малое Гарадзішча).

**МЕЛЯХІ** — вёска ў Ганчароўскім с/с, каля р. Шчара, за 15 км на Пд ад Ляхавіч, 8 км ад чыг. ст. Куляні на лініі Баранавічы—Ганцавічы, на аўтадарозе, якая звязвае вёску з шашой Брэст—Слуцк. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).



У канцы 18 ст. Меляхі — уладанне каталіцкай царквы, у Навагрудскім ваяв. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. Меляхі — засценак у складзе фальварка Рудня маёнтка Савейкі, уласнасць Валерыі Рдултоўскай. Тут былі 4 двары сялян, якія працавалі па вольнаму найму, і двор ляснога ахоўніка Ф.С.Равякі (яго сям'я налічвала 6 чалавек). У 1987 г. Меляхі — хутар Мядзведзіцкай вол., 4 будынкі, 45 жыхароў. У 1909 г. ўрочышча, 3 двары, 27 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., фальварак і калонія, 33 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Цыганскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Мініцкім с/с (4.6.1979 г. перайменаваны ў Ганчароўскі с/с). У 1940 г. 28 двароў, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Праўда». У 1959 г. было 134, у 1970 г. 104 жыхары. З 1960 г. вёска знаходзілася ў складзе саўгаса «Ганчароўскі». У 2002 г. 13 двароў, 18 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары).

**МІНІЧЫ** — вёска ў Ганчароўскім с/с, каля р. Шчара, за 10 км на Пд ад Ляхавіч, 6 км ад чыг. ст. Райтанаў на лініі Баранавічы—Ганцавічы, за 2 км ад шашы Брэст—Слуцк. 64 гаспадаркі, 126 жыхароў (2005).

У канцы 18 ст. Мінічы — шляхецкае ўладанне ў Навагрудскім пав. Рэчы Паспалітай. З 1791 г. ў Случарэцкім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. З 1844 г. Мінічы — маёнтак, уласнасць М.Д.Клімашэўскага, і вёска (у складзе маёнтка), 15 двароў, 78 жыхароў (у т.л. 10 дваровых сялян). З 1856 г. маёнтак (417 дзес.



*Курган Славы ў в. Мінічы.*

зямлі, карчма) належаў М.М.Навакові-чу (атрымаў у спадчыну). У 1870 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол., 56 сялян-уласнікаў. У 1897 г. ў вёсцы 39 двароў, 192 жыхары, хлебазапасны магазін; у маёнтку, уласнасці А.М.Наваковіча 26 жыхароў, 220 дзес. зямлі; ва ўрочышчы, уладанні Наваковіча, пры Маскоўска-Варшаўскай шашы, 12 жыхароў; на хутары на зямлі прычта Галдавіцкай царквы 2 будынкі, 13 жыхароў. Побач з Маскоўска-Варшаўскай шашой таксама знаходзіўся былы дом заставы Мінічы, 10 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 44 двары, 271 жыхар і ў маёнтку 10 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 30 двароў, 164 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Цыганскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. цэнтр Мініцкага с/с. У 1940 г. ў вёсцы 46 двароў, 324 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас

«Запаветы Ільіча». У 1959 г. было 352, у 1970 г. 347 жыхароў. З 1960 г. вёска знаходзілася ў складзе саўгаса «Ганчароўскі». 4.6.1979 г. сельскі Савет перайменаваны ў Ганчароўскі, цэнтр перанесены ў в. Ганчары. У 2002 г. 81 двор, 147 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі». Працуюць магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка. За 2 км на Пн ад вёскі, каля аўтадарогі Брэст—Бабруйск, на ўшанаванне памяці сав. воінаў і партызан, што загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі ў гады Вял. Айч. вайны, у 1967 г. насыпаны курган Славы і ўстаноўлены абеліск.

**МЫСЛАБАЖ** — вёска ў Начаўскім с/с, каля вадасховішча на р. Шчара, за 5 км на Пд ад горада і чыг. ст. Ляхавічы на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Русінавічы—Ляхавічы. 87 гаспадарак, 166 жыхароў (2005).

Помнік археалогіі — курганны могільнік (за 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на беразе вадасховішча, у лесе, ва ўрочышчы Шведскія магілы; 4 насыпы) сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1535 г. Мысломыш — сяло Ляхавіцкай вол., уласнасць А.М.Гаштольда. У 1561 г. Намыслобаж — урочышча ў той жа воласці, 6 валок зямлі, асабістае ўладанне вял. кн. літ. і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста, якое было дадзена баярыну-васалу М.З.Звераву. У 1570 г. Мыслібож — сяло, 6 валок зямлі, уладанне М.Зверава. У 1572 г. сяло (6 валок зямлі, 8 падданых, уладанне Я.Е.Хадкевіча) знаходзілася ў часовым валоданні зямяніна-васала Ф.М.Еўлашоўскага, аўтара першых мемуараў на бел. мове. У 1789 г. Мыслабаж — сяло маёнтка Ляхавічы, дзярж. ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1973 г. разам з іншымі населенымі пунктамі Ляхавіцкага графства сяло перададзена вял. гетману літ. Ш.Касакоўскаму як леннае ўладанне. У 1847 г. Мыслабаж — вёска аднайменнага фальварка маёнтка Ляхавічы, уласнасць графа С.М.Касакоўскага, 32 двары, 269 жыхароў, 12,5 валокі зямлі. Фальварак меў 22 валокі 15 маргоў зямлі, 162 душы сялян працаздольнага ўзросту. У 1870 г. вёска таго ж маёнтка, 118 рэвізскіх душ; у Ляхавіцкай вол. У 1897 г. Мыслабаж — вёска, 52 двары, 349 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак (у сядзібна-паркавы ансамбль да 1939 г. ўваходзілі аднапавярховы драўляны сядзібны дом, гасп. пабудовы, парк, сад; захаваўся толькі мураваны склеп і рэшткі пейзажнага парку агульнай пл. каля 6 га), 29 жыхароў, уласнасць графоў Касакоўскіх; аднаселле, 9 жыхароў, смалярна-шкіпінарны завод, таксама валоданне Касакоўскіх. У 1909 г. ў вёсцы 60 двароў, 423 жыхары; у маёнтку 29 жыхароў; у аднаселлі 13 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 66 двароў, 340 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Ляхавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 17.11.1959 г. ў Рачканскім с/с. У 1940 г. вёска, 48 двароў, 498 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 6.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Бальшавік», які ў 1953 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Хрушчова. У 1959 г. было 526, у 1970 г. 475 жыхароў. З 4.6.1979 г. вёска ў Начаўскім с/с. У 2002 г. 92 двары, 190 жыхароў, у складзе калгаса «Ляхавіцкі» (цэнтр — в. Русінавічы).

**МЯДЗВЕДЗІЧЫ** — вёска ў Ганчароўскім сельсавеце каля р. Свідраўка (прыток р. Шчара), за 18 км на Пд ад Ляхавіч, 5 км ад чыг. ст. Райтанаў на лініі Баранавічы—Ганцавічы, на аўтадарозе Ляхавічы — Ганцавічы. 101 двор, 197 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з канца 15 ст. ў ВКЛ. Да 1483 г. вядома як





*Тытульны ліст інвентара Мядзведзіцкага ключа. 1744 г.*

с. Нядзведзічы, уласнасць Віленскага біскупства. Тут быў пабудаваны старажытнейшы на Ляхаўшчыне касцёл. У 1552 сяло — цэнтр воласці (дзяржавы). У 1588 г. мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага пав., уладанне віленскага біскупа. У 1595 г. 31 дом. У 1774 г. цэнтр аднайменнага ключа, 53 дамы; меліся вуліцы Ляхавіцкая і Пінская, рынак, вакол якога стаялі 16 дамоў. З 1791 г. ў складзе Случарэцкага пав., цэнтр Мядзведзіцкай парафіі, якая ў 1792 г. налічвала 400 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі; мястэчка Нясвіжскага, з 1796 г. Слуцкага павета Мінскай губ., цэнтр воласці. У 1847 г. Мядзведзічы (Нядзведзічы) — мястэчка і казённы падухоўны маёнтак. Маёнтак складаўся з 4 дач ці адрубаў; сюды ўваходзілі: частка мястэчка (14 двароў, 92 жыхары, у тым ліку 16 жылых і 51 гаспадарчы будынкі), вёскі Гарадзішча і Куляні, фальварак Мядзведзічы (тут размяшчаліся гасп. і жылыя будынкі, у адным з якіх жыў каталіцкі святар Мядзведзіцкага касцёла), засценкі Халхуны і Міланоўшчына. У 1854 г. ў маёнтку (у дакументах называўся таксама Гарадзішча-Нядзведзічы) — мястэчка Мядзведзічы, 2 вёскі, 3 засценкі (Задвор'е, Міланоўшчына, Халхуны), 34 гаспадаркі, 247 жыхароў. У мястэчку дзейнічаў сельскі хлебазапасны магазін. У 1867 г. ў мястэчку 904 жыхары. Непадалёк ад яго знаходзілася аднайменнае сяло, уладанне В.Рдултоўскай (у 1870 г. ўласнасць Навіцкага), у якім у 1845 г. было 34 двары, 225 жыхароў. Сяло ўваходзіла ў склад фальварка Заполле маёнтка Савейкі (сядзіба знаходзілася за 6 вёрст ад мястэчка). У 1870 г. ў казённым маёнтку Мядзведзічы таксама вядома вёска з такой жа назвай, 38 рэвізскіх душ, 4 душы вольных сялян. Вёска ўваходзіла ў Гарадзішчанскае сельскае таварыства і адносілася да прыходу Падлескай праваслаўнай царквы. У 1886 г. ў мястэчку Мядзведзічы было 350 жыхароў, валасное праўленне, касцёл, капліца, яўр. малітоўны дом, школа, помнік у гонар адмены прыгоннага права, вадзяны млын, крама. Паводле перапісу 1897 г., Мядзведзічы — мястэчка каля Маскоўска-Варшаўскай шашы, за 2 вярсты ад Палескай чыгункі, 120 двароў, 918 жыхароў, праваслаўная капліца, яўр. малітоўная школа, нар. вучылішча (адчынена ў 1869 г.), сельскі хлебазапасны магазін, шынок, фабрыка па вырабе лясного матэрыялу для гнутай мэблі. У 1908 г. з цэглы пабудаваны Петрапаўлаўскі касцёл (захаваўся, архітэктар С.Шылер). У 1909 г. ў мястэчку 134 двары, 841 жыхар. З 1921 г. мястэчка ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 165 двароў, 949 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Мядзведзіцкага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мініцкім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 245 двароў, 1280 жыхароў, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня, урачэбны ўчастак, сельпо,

аптэка, аддз. сувязі, касцёл, сінагога, паравы млын, 2 брукаваныя вуліцы, 2 тэлефоны. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ў вёсцы створаны калгас «1 Мая». У 1959 г. ў Мядзведзічах налічвалася 720, у 1970 г. — 702 жыхары. З 5.3.1960 г. вёска знаходзілася ў складзе саўгаса «Ганчароўскі». З 4.6.1979 г. ў Ганчароўскім с/с. У 2002 г. — 121 двор, 236 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары). Працуюць сярэдняя школа, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца кароткая выгнутая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**НАБЯРЭЖНАЯ** (да 1971 г. Вонькі) — вёска ў Ганчароўскім с/с, каля вадасховішча на р. Шчара, за 6 км на Пд ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе, якая звязвае вёску з Ляхавічамі. 41 двор, 126 жыхароў (2005).

Гарадзішча раннефеадальнага перыяду (10—13 ст.), якое знаходзіцца на паўн. ускраіне вёскі, на мысе правага берага р. Шчара, сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці. Гарадзішча было ўмацавана валам (вышыня 1,5 м) і ровам (глыбіня 0,5 м). У З месцах вал быў разарваны ўваходамі.

Паводле пісьмовых крыніц, у канцы 18 ст. Вонькі — вёска фальварка Галдавічы Ляхавіцкага графства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1847 г. вёска таго ж фальварка, уладанне Касакоўскіх (з 1793 г.), 12 двароў, 82 жыхары, 8 валок зямлі. У 1870 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол., 48 рэвізскіх душ сялян-уласнікаў. У 1897 г. 28 двароў, 179 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 35 двароў, 214 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 24 двары, 114 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Альхоўскім, з 16.7.1954 г. ў Пад'язаўлянскім, у 1959 г. ў Мініцкім сельсаветах. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 31 двор, 224 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы стварылі калгас «Світанне». У 1959 г. было 223 жыхары, у 1970 г. — 266 жыхароў. З 4.6.1979 г. ў Ганчароўскім с/с. У 2002 г. — 52 двары, 91 жыхар, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары). Ёсць магазін.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска, цэнтр Навасёлкаўскага с/с, за 12 км на Пн ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на перакрыжаванні аўтадарог на Баранавічы і Ляхавічы. 164 двары, 391 жыхар (2005). У 1789 г. вёска Навагрудскага пав. Рэчы Паспалітай, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1853 г. вёска казённага маёнтка Дарава, 2 двары, 14 жыхароў. У 1897 г. ў Дараўскай вол., пры ваенна-камунікацыйным шляху ў Нясвіж, 63 двары, 380 жыхароў, ветраны млын. У 1909 г. — 71 двор, 554 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 87 двароў, 499 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. цэнтр Навасёлкаўскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 114 двароў, 511 жыхароў, выканком сельсавета, тэлефон, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня, 2 гандлёвыя кропкі. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. створаны калгас «Маяк камунізма». У 1959 г. было 330, у 1970 г. — 547 жыхароў. У 1965 г. ў цэнтры вёскі на брацкай магіле 58 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад ням.-фаш. захопнікаў у ліп. 1944 г., уста-



ноўлены помнік. У тым жа годзе ў вёсцы ўстаноўлены абеліск на ўшанаванне памяці 64 аднавяскоўцаў, што загінулі ў барацьбе з гітлераўцамі ў 1941—45 гг. У 2002 г. — 167 двароў, 389 жыхароў, цэнтр калгаса «Новы шлях» (аб'ядноўваў 8 вёсак). Працуюць 2 магазіны, няпоўная сярэдняя школа, аддз. сувязі, дзіцячы сад, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт.

У 1960-я г. да Навасёлак была далучана суседняя в. Ведзьма, якая па пісьмовых крыніцах вядома з 1498 г. як панскі двор, цэнтр маёнтка, уласнасць шляхціцаў А.Малышчыца, М.Петкавіча. У 16 ст. Ведзьма (іншыя назвы маёнтка «Ведма-Гафтаровшчына», «Ведьма-Гзовщина») належала А.М.Гаштольду (з 1525 г.), Барбары Радзівіл, В.Чаркоўскаму, каралю польскаму і вял. кн. літ. Жыгімонту ІІ Аўгусту, С.Гзоўскаму, Л.С.Дароўскаму, Б.Л.Дароўскай, А.Я.Гастомскаму. У 1921 г. Ведзьма — вёска, 28 двароў, 148 жыхароў, і фальварак, 21 жыхар. У 1940 г. былі вёскі Ведзьма 1 (35 двароў, 89 жыхароў) і Ведзьма 2 (10 двароў, 39 жыхароў), у Навасёлкаўскім с/с Ляхавіцкага р-на Баранавіцкай вобл. У 1959 г. ў вёсцы Ведзьма быў 251 жыхар.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Свяціцкім с/с, за 42 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 103 двары, 228 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ, уласнасць каталіцкай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, з 1795 г. ў Пінскім пав. Мінскага намесніцтва, з 1796 г. ў Мінскай губ. У 1870 г. вёска ў Хатыніцкай вол., 64 рэвізскія душы. У 1897 г. вёска, 13 двароў, 269 жыхароў, сельскі хлебазапасны магазін. Вакол вёскі былі балоты, уладанні графоў Патоцкіх. Побач з вёскай знаходзілася аднайменная сядзіба (2 двары, 14 жыхароў), якая ўваходзіла ў склад маёнтка Крывошын (уласнасць Патоцкіх). У 1909 г. ў вёсцы 47 двароў, 343 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Хатыніцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 60 двароў, 393 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл. З 12.10.1940 г. цэнтр Навасёлкаўскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 22.4.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 16.7.1954 і з 1.6.1998 г. ў Свяціцкім, з 22.4.1957 г. ў Крывошынскім сельсаветах. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 485 жыхароў, у 1970 г. — 581 жыхар. У 2002 г. — 123 двары, 258 жыхароў, у складзе калгаса «Усход» (цэнтр — в. Свяціца). Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, клуб, магазін.

**НАЧА** — вёска, цэнтр Начаўскага с/с, на р. Нача, за 10 км на У ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Ляхавічы—Нача. 264 двары, 662 жыхары (2005).

Вядома з 15 ст. як уладанне Неміровічаў у ВКЛ, з 1-й пал. 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. У якасці пасагу Ганны, дачкі Федзькі Неміровіча, Нача перайшла ў валоданне да Барташа Табаровіча. У 1509 г. належала іх сыну Яну Табаровічу, пазней — каралеўскае ўладанне. У 1566 г. сяло Ляхавіцкай вол., якое вял. кн. літ. і кароль Польшчы Жыгімонт ІІ Аўгуст перадаў у якасці залогу шляхціцу А.Брындзу. У 1567 г. навагрудскі войскі А.Брындза атрымаў сяло ва ўласнасць. Пазней гэта наданне было пацверджана яму, яго жонцы і дзецям. Пэўны час былы маёнтак пана Брындзы (ці Нача Брындзоўская) належаў ордэну езуітаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. Маёнтак перайшоў да князёў Масальскіх, якія ў 1798 г. пра-

*Сядзібны дом (19 ст.) у в. Нача.*



далі яго Францішку Ксаверыю Чарноцкаму для сына апошняга Міхала. У 1844 г. Нача Бryндзоўская — маёнтак, 80 валок зямлі, 42 двары, 337 сялян, уладанне М.К.Чарноцкага. Складаўся з фальварка Гадлеўшчызна і вёсак Буракоўцы, Перахрэсце, Шчасновічы. У 1810—15 гг. Чарноцкія пабудавалі ў маёнтку сядзібу (перабудавана ў 1910 г. архітэктарам А.Кжыжаноўскім, захавалася). Сядзібны комплекс уключаў мураваны палац, гасп. пабудовы (стайня, свіран, вінакурня, калодзеж і г.д.), пейзажны парк. Непадалёк ад маёнтка Чарноцкіх у 1844 г. знаходзіліся 7 аднайменных памешчыцкіх уладанняў: маёнтак Нача (уваходзіла вёска Юхімавічы, усяго 27 валок зямлі, 22 цяглыя двары, 192 жыхары), уласнасць Д.М.Рэйтана; фальварак Нача (уваходзіла вёска Клапытычы, 2 валокі 23 маргі зямлі, 31 жыхар, у тым ліку 13 дваровых сялян), валоданне Івана Ануфрыя, сына Гаштольда Букрабы; маёнтак Нача (уваходзіла вёска Заляшаны, усяго 445 дзес. зямлі, 13 двароў, 122 жыхары, у т.л. 10 дваровых сялян), уласнасць А.М.Фогта; маёнтак Нача Васілеўшчызна (складаўся з вёсак Карбоўцы і Заляшаны, усяго 284 дзес. зямлі, 8 двароў, 64 жыхары, 13 дваровых сялян), уласнасць М.І.Ланеўскага Ваўка; маёнтак Нача Жамойдзь (уваходзіла вёска Нача Жамойдзь, усяго 426 дзес. зямлі, 154 жыхары, у т.л. 10 дваровых сялян, меліся 3 карчмы на шляху з Пінска на Клецк, млын, мураваны бровар, іншыя гасп. пабудовы), уладанне Я.Янушкевіча (раней належаў Воўк-Ланеўскім); фальварак Нача ці Залессе (да фальварка належалі 6 сял. двароў вёскі Заляшаны, 65 жыхароў, усяго 325 маргоў зямлі, 23 дваравыя селяніны, драўляны панскі дом, вінакурня, млын, стайня, карчма), уласнасць В.С.Фальскага; маёнтак Ляхаўская Нача (уваходзілі аднайменны фальварак і вёскі паезуіцкая Гута і Востраў, усяго 2556 дзес. зямлі, 25 цяглых двароў, 290 жыхароў, сельскі хлебазапасны магазін, у фальварку меліся панскі дом, вінакурня, вадзяны млын, тартак на р. Нача), уласнасць графіні Фабіяны Чапскай, дачкі і спадчынніцы мінскага кашталяна Міхаіла Абуховіча. У 1876 г. існавалі маёнткі: Нача Брындзоўская (1308 дзес. зямлі, 2 карчмы), уласнасць Чарноцкіх; Нача Старая (176 дзес. зямлі), уласнасць В.А.Фогта; Нача Ляхоўская (2059 дзес. зямлі, 2 карчмы, вадзяны млын з лесапільняй), уладанне І.К.Чапскага (з 1846 г.); Нача (261 дзес. зямлі), уласнасць В.С.Рэйтана; Нача (139 дзес. зямлі), уласнасць І.І.Фальскага (з 1850 г.); Нача (178 дзес. зямлі), уласнасць Л.І.Пласкавіцкага (з 1861 г.). У 1897 г. маёнтак Нача Брындзоўская ў Ляхавіцкай вол. налічваў 8 пабудоў, 140 жыхароў. У 1909 г. тут 80 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; фальварак Нача Брындзоўская налічваў 10 двароў, 123 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў




*Фрагменты парку ў в. Нача.*





*Ляхавіцкі краявід каля в. Нача.*

Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Перахрэсцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 17.11.1959 г. ў Рачканскім с/с. 15.1.1940 г. на базе маёнтка Нача (Брындзоўская) быў арганізаваны саўгас, які меў 321 га зямлі (у т.л. 187 га ворыва, 88 га сенажаці, 54 га саду, 12 га гадавальніка), 2 двары для жывёлы, 2 стайні на 55 коней, 2 гумны, паравы млын, 13 коней, 90 свіней, 25 авечак, 31 карову і г.д. У крас. 1940 г. была зацверджана зямельная плошча новаўтворанага саўгаса «Нача» — 1167 га. Сюды ўваходзілі землі і пабудовы былых памешчыцкіх маёнткаў з тэр. Ляхавіцкага р-на: Нача — 637 га, Буракоўцы — 120 га, Гадлеўшчына — 100 га; з тэр. Клецкага р-на: Старая Нача — 80 га, Грыгаровічы — 80 га, Горкі — 150 га. У 1940 г. ў саўгасе было 50 двароў, 369 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны саўгас адноўлены (цэнтр — пасёлак, пазней в. Нача), у крас. 1957 г. ў яго склад увайшоў калгас «Новы шлях». У 1959 г. Нача — пасёлак, 343 жыхары, у 1970 г. — вёска, 755 жыхароў. З 4.6.1979 г. цэнтр Начаўскага с/с. У 2002 г. — 266 двароў, 637 жыхароў, цэнтр Рэспубліканскага с.-г. унітарнага прадпрыемства «Нача». Працуюць 2 магазіны, аддз. сувязі, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры. Радзіма бел. перакладчыка і публіцыста Н.К.Чарноцкага, выдаўца, перакладчыка, педагога праф. М.Фольскага.

**НЕТЧЫН** — вёска ў Крывошынскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Крывошын—Ляхавічы. 15 двароў, 32 жыхары (2005).

У 1897 г. Нетчын (Нечын) — фальварак, 1 жыхар, уладанне графоў Патоцкіх, і вёска, 60 жыхароў; у Крывошынскай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. ў фальварку 5 жыхароў, у вёсцы — 8 двароў, 71 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; фальварак і вёска, 9 двароў, 3 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Крывошынскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 24 двары, 166 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас «Новае жыццё», які ў 1952 г. быў уключаны ў склад узбуйненага калгаса «Шлях Ільіча» (цэнтр — в. Ліпск). У 1959 г. было 125 жыхароў, у 1970 — 135 жыхароў. У 2002 г. — 18 двароў, 35 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Ільіча».



*Н.К.Чарноцкі.*

**НІВІШЧА** — вёска ў Ганчароўскім с/с, каля вадасховішча на р. Шчара, за 8 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, каля шашы Брэст—Слуцк. 14 двароў, 18 жыхароў (2005).

У канцы 18 ст. Нівішча — вёска фальварка Троіцкае (Троцкае) Ляхавіцкага графства, дзярж. ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі вёскамі графства Нівішча перададзена ва ўласнасць Ш.Касакоўскаму як леннае ўладанне. У 1847 г. ў вёсцы 10 двароў, 62 жыхары, 10 валок зямлі. У 1870 г. — 32 рэвізскія душы сялян-уласнікаў. У 1897 г. Нівішча — вёска Мядзведзіцкай вол., 17 двароў, 139 жыхароў. У 1909 г. вёска, 21 двор, 163 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., асада і вёска, 25 двароў, 155 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіц-




кай вобл. З 12.10.1940 г. ў Альхоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Пад'язаўлянскім, у 1959 г. ў Мініцкім, з 4.6.1979 г. ў Ганчароўскім сельсаветах. У 1940 г. ў вёсцы 45 двароў, 267 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Кагановіча. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы 253 жыхары, у 1970 г. — 166 жыхароў. У 2002 г. — 18 двароў, 25 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары).

**НІЗКІЯ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад Ляхавіч, 4 км ад чыг. прыпынку Куляні на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Тальмінавічы—Ляхавічы. 5 двароў, 5 жыхароў (2005).

У 1774 г. Нізкія — засценак Мядзведзіцкага ключа, у Навагрудскім ваяв. Рэчы Паспалітай, уласнасць каталіцкай царквы. З 1791 г. ў Случарэцкім пав. Навагрудскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. засценак фальварка і маёнтка Савейкі, уладанне Валерыі Рдултоўскай, 5 двароў вольнанаёмнай шляхты. У 1897 г. засценак, уласнасць памешчыка Навіцкага, 5 двароў, 50 жыхароў. У 1909 г. — 20 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 2 двары, 16 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Тальмінавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Куршынавіцкім с/с. У 1940 г. вёска, 51 двор, 263 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Іскра». У 1959 г. хутар, 88 жыхароў, у 1970 г. — 84 жыхары. У 2002 г. — 6 двароў, 6 жыхароў, у складзе аграфірмы «Іскра» (цэнтр — в. Тальмінавічы).

**НОВЫЯ БУДЫ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад Ляхавіч, чыг. прыпынак Буды на лініі Баранавічы—Лунінец, на аўтадарозе Ганцавічы—Тальмінавічы. 25 двароў, 38 жыхароў (2005).

Узніклі ў канцы 19 — пач. 20 ст. як чыг. раз'езд Палескіх чыгунак і пасёлак лесапільнага завода (пабудаваны ў 1905 г. на землях маёнтка Савейкі, які належаў Навіцкім). У 1908 г. завод меў лакамабіль ў 20 конскіх сіл, а з 1910 г. — 2 лакаматыўныя рухавікі магутнасцю 35 конскіх сіл. Асн. прадукцыяй завода (40 рабочых) былі дошкі з хвойных і мяккіх лісцевых парод. У 1909 г. чыг. раз'езд і пасёлак у Мядзведзіцкай вол., 13 двароў, 55 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. У 1921 г. Буды — фальварак, вёска і чыг. станцыя, 22 двары, 206 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Куршынавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска Новыя Буды, 69 двароў, 390 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 178 жыхароў, у 1970 — 217 жыхароў. У 2002 г. — 26 двароў, 41 жыхар, у складзе аграфірмы «Іскра» (цэнтр — в. Тальмінавічы).

**ПАДБАРОЧЧА** — вёска ў Ганчароўскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Альхоўцы. 41 двор, 63 жыхары (2005).

У канцы 18 ст. Падбарочча — вёска фальварка Галдавічы Ляхавіцкага графства, дзярж. ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі вёскамі графства Падбарочча перададзена ва ўласнасць Касакоўскім. У 1847 г. ў вёсцы 16 двароў, 109 жыхароў, 14 валок зямлі. У 1870 г. вёска Мядзве-





*Ручнік з в. Падбарочча. 1913 г.*

дзіцкай вол., 73 рэвізскія душы сялян-уласнікаў. У 1897 г. — 34 двары, 220 жыхароў, шынок. У 1909 г. — 21 двор, 258 жыхароў. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 22 двары, 112 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Альхоўскім, з 16.7.1954 г. ў Пад'язаўлянскім, у 1959 г. ў Мініцкім, з 4.6.1979 г. ў Ганчароўскім сельсаветах. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 49 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Светлы шлях». У 1959 было 327 жыхароў, у 1970 г. — 325 жыхароў. У 2002 г. — 51 двор, 75 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары). Ёсць б-ка, магазін.

**ПАДЛАЗЗЕ** — вёска ў Вастраўскім с/с, каля шашы Брэст—Слуцк, за 25 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, каля шашы Брэст—Слуцк. 30 двароў, 38 жыхароў (2005).



У 1940 г. хутар Падлазок (пазней Падлаззе) Гутаўскага с/с Быценскага р-на Баранавіцкай вобл. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 4.10.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 17.4.1959 г. ў Востраўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. Падлаззе — хутар, 63 жыхары, у 1970 г. 167 жыхароў. У 2002 г. — 34 двары, 58 жыхароў, у складзе калгаса «Востраў» (цэнтр — в. Востраў).

**ПАДЛЕССЕ** (Вялікае Падлессе) — вёска, цэнтр Падлескага с/с, за 8 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, 0,5 км ад чыг. прыпынку Падлессе на лініі Баранавічы—Асіповічы, на аўтадарозе Падлессе—Ляхавічы. 347 двароў, 708 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім пав. ВКЛ. У пісьмовых крыніцах сустракаецца пад назвамі Подлешаны, Подлесье, Полесье, Вялікае Падлессе. У 1553 г. Подлешаны — сяло Ляхавіцкай вол., асабістая ўласнасць вял. кн. літ. і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста. У 1553 і 1561 гг. сяло згадваецца ў сувязі з валочнай памерай, якую праводзіў рэвізор А.А.Ільгоўскі. У 1637 г. па фундацыі мсціслаўскага ваяводы Г.Сапегі ў Падлессі пабудавана драўляная Свята-Духаўская царква (у 2-й пал. 18 ст. пабудаваны новы драўляны храм, які захаваўся да нашага



*Андарак з в. Падлессе.*

*Абрус з в. Падлессе.*







*Святадухаўская царква ў в. Падлессе.*

часу). У 2-й пал. 18 ст. Падлессе — сяло маёнтка Ляхавічы, з 1760 і з 1790 гг. належала Масальскім, у 1775—90 гг. уваходзіла разам з іншымі населенымі пунктамі маёнтка ў дзярж. староства (у 1789—90 гг. ў часовым валоданні Навагрудскага ваяводы Ю.Несялоўскага). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. Падлессе ў складзе Ляхавіцкага маёнтка перададзена графам Касакоўскім. У 1847 г. на месцы сучаснай вёскі і вакол яе на тэр. маёнтка Ляхавічы існавалі: сяло Падлессе Зубелевіцкае фальварка Зубелевічы, 21 двор, 412 жыхароў, Свята-Духаўская царква, каля 50 валок зямлі; вёска Падлессе Жарабковіцкае фальварка Жарабковічы, 15 двароў, 122 жыхары, $12^3/_4$ валокі зямлі; вёска Падлессе Свіскаўскае фальварка Свіскаўшчызна (Свіцкаўшчызна), 38 двароў, 317 жыхароў, больш як 26 валок зямлі. У 1886 г. Падлессе (Свіскоўскае, Зубелевіцкае, Жарабковіцкае) — сяло Ляхавіцкай вол., 70 двароў, 793 жыхары, 2 праваслаўныя царквы, капліца, ветраны млын. У 1897 г. ў сяле 149 двароў, 1025 жыхароў, царква, капліца, хлебазапасны магазін, піцейная ўстанова. Побач з сялом знаходзілася аднайменнае аднаселле, 2 будынкі, 13 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 196 двароў, 1161 жыхар, школа; у аднаселлі — 15 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 252 двары, 1251 жыхар (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Падлескага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. 3.7.1972 г. сельсавет перайменаваны ў Жарабковіцкі, з 1.5.1981 г. вёска — цэнтр адноўленага Падлескага с/с. У 1940 г. ў вёсцы 300 двароў, 878 жыхароў, маторны і ветраны млыны, маслазавод, будынак для апрацоўкі льновалакна, няпоўная сярэдняя школа, хата-чытальня, гандл. кропка, царква. У 1941 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Леніна. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У раёне вёскі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі ў 1941 і 1944 гг. загінулі 139 воінаў Чырвонай Арміі (пахаваны каля будынка Дома культуры, у 1957 г. на брацкай магіле ўстаноўлены помнік). У 1949 г. ў вёсцы адноўлены даваенны калгас. У 1959 г. было 1251, у 1970 г. — 1274 жыхары. У 2002 г. — 362 двары, 773 жыхары, цэнтр калгаса імя Леніна (аб'ядноўваў 4 вёскі). Працуюць дзіцячы сад, 4 магазіны, аддз. сувязі, медпункт, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт. У вёсцы

*Жанчыны ў святочным убранні з в. Падлессе. 1920-я г.*







*Званіца Святадухаўскай царквы ў в. Падлессе.*

нарадзіўся бел. спявак і музычны дзеяч М.М.Пігулеўскі.

**ПАД'ЯЗАЎЛЯ** – вёска ў Альхоўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе на Ляхавічы. 53 двары, 92 жыхары (2005 г.).

У 1789 г. Пад'язаўля – вёска Навагрудскага пав., шляхецкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1870 г. вёска маёнтка Дзянісаўшчызна (уладанне Кабылінскага), 105 рэвізскіх душ сялян; у Мядзведзіцкай вол. У 1897 г. 46 двароў, 326 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. – 62 двары, 412 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 63 двары, 328 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр Пад'язаўлянскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 20.5.1968 г. ў Альхоўскім с/с. У 1940 г. вёска, 94 двары, 481 жыхар, пач. школа, хата-чытальня, гандлёвая кропка; створаны калгас «17 Верасня». У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. ў вёсцы створаны калгас «Зорка камунізма». У 1959 г. было 287 жыхароў, у 1970 г. – 366 жыхароў. З 1991 г. вёска ў складзе калгаса «Альхоўскі» (цэнтр – в. Альхоўцы). У 2002 г. – 64 двары, 109 жыхароў. Ёсць магазін.

**ПАТАПАВІЧЫ** – вёска ў Падлескім с/с, за 4 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Ляхавічы–Клецк. 93 двары, 174 жыхары (2005).



*М.М.Пігулеўскі.*

У 1789 г. Патапавічы – вёска ў Навагрудскім пав., уласнасць каталіцкай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1870 г. дзярж. вёска ў Ляхавіцкай вол., 112 рэвізскіх душ. У 1897 г. 62 двары, 384 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны фальварак, які належаў прычту Ляхавіцкай царквы (1 будынак). У 1909 г. ў вёсцы 79 двароў, 466 жыхароў, школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., фальварак і вёска, 91 двор, 500 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Ляхавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1950-я г. вёска перададзена ў склад Падлескага с/с, які 3.7.1972 г. быў перайменаваны ў Жарабковіцкі с/с, з 1.5.1981 г. аднаўлены. У 1940 г. вёска, 120 двароў, 646 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліпеня 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Ф.Энгельса, які ў сак.



*Камяні з надпісам «1683 год» каля в. Патапавічы.*





1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Молатава. У 1959 г. было 414 жыхароў, у 1970 г. — 455 жыхароў. У 2002 г. — 98 двароў, 177 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Конькі). Ёсць магазін. На зах. ускраіне вёскі, каля паўн. ускраіны шляху на Ляхавічы знаходзяцца 10 пераважна апрацаваных шэрых камянёў (7 з іх пастаўлены ў адзін рад). На большасці камянёў высечаны каталіцкія і праваслаўныя крыжы і даты — 1683 г.

**ПАШКОЎЦЫ** — вёска ў Начаўскім с/с, за 7 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 48 двароў, 102 жыхары (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1586 г. Пашкоўцы (Пашкевічы) — сяло, уладанне шляхціца Я.Магільніцкага. У 1789 г. вёска, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1870 г. вёска маёнтка Грушаўка (належаў Рэйтанам) у Ляхавіцкай вол., 105 рэвізскіх душ, 8 дваровых сялян. У 1897 г. вёска, 46 двароў, 284 жыхары. У 1909 г. — 64 двары, 401 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 42 двары, 369 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Перахрэсцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 17.11.1959 г. ў Рачканскім с/с, які 4.6.1979 г. перайменаваны ў Начаўскі. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Жданава, які ў лют. 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Новы шлях». У 1959 г. быў 391 жыхар, у 1970 — 288 жыхароў. У 2002 г. — 46 двароў, 116 жыхароў, у складзе Рэспубліканскага с.-г. унітарнага прадпрыемства «Нача» (цэнтр — в. Нача).

**ПЕРАХРЭСЦЕ** — вёска ў Начаўскім с/с, за 10 км на У ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Ляхавічы—Нача. 41 двор, 87 жыхароў (2005).

У 1789 г. Перахрэсце — вёска ў Навагрудскім ваяв. Рэчы Паспалітай, шляхецкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. вёска маёнтка Нача Брындзоўская, уласнасць М.К.Чарноцкага, 22 двары, 150 жыхароў. У 1870 г. вёска таго ж маёнтка, у Ляхавіцкай вол., 175 рэвізскіх душ, 18 дваровых сялян. У 1897 г. 56 двароў, 378 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. — 67 двароў, 450 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 76 двароў, 425 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. цэнтр Перахрэсцкага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 17.11.1959 г. ў Рачканскім с/с, які 4.6.1979 г. перайменаваны ў Начаўскі. У 1940 г. 88 двароў, 571 жыхар, пач. школа, хата-чытальня, гандлёвая кропка. Выканком сельсавета размяшчаўся ў былым доме асадніка. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снежні 1948 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «30 год БССР», які ў лют. 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Новы шлях». У 1959 г. было 397 жыхароў, у 1970 г. — 353 жыхары. У 2002 г. — 54 двары, 98 жыхароў, у складзе Рэспубліканскага с.-г. унітарнага прадпрыемства «Нача» (цэнтр — в. Нача). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПЕТУХОЎШЧЫНА** — вёска ў Альхоўскім с/с, на р. Шчара, за 3 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, чыг. прыпынак на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Альхоўцы. 11 двароў, 19 жыхароў (2005).

У 1870 г. Петухоўшчына — вёска маёнтка Дзянісаўшчына (уласнасць Кабылінскага), 21 рэвізская душа; у Ляхавіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ. У



1897 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол. Навагрудскага пав. Мінскай губ., 11 двароў, 89 жыхароў (побач знаходзілася вёска Задвор'е Ляхавіцкай вол.). У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 112 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 14 двароў, 81 жыхар (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл., з 12.10.1940 г. ў Пад'язаўлянскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 20.5.1968 г. ў Альхоўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 24 двары, 116 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 92 жыхары, у 1970 г. — 102 жыхары. У 2002 г. — 20 двароў, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Альхоўскі» (цэнтр — в. Альхоўцы).

**ПІРШТУКІ** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Ляхавіч, 9 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 5 двароў, 6 жыхароў (2005).

У 1789 г. Пірштукі (іншая назва Перштукі) — уласнасць каталіцкай царквы ў Навагрудскім ваяв. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1833 г. фальварак і вёска казённага маёнтка Дарава. У фальварку меліся жылыя і гасп. пабудовы, у вёсцы — 9 двароў, 86 жыхароў, шынок. У 1897 г. вёска Дараўскай вол., 22 двары, 126 жыхароў. Побач з ёю пры ваенна-камунікацыйнай дарозе на Нясвіж стаяла карчма, было 5 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 28 двароў, 156 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 39 двароў, 204 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Сваятыцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Навасёлкаўскім с/с, цяпер у Жарабковіцкім с/с. У 1940 г. 45 двароў, 210 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. спалілі 15 двароў, загубілі 12 жыхароў. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Савецкая Беларусь», з 17.11.1980 г. вёска знаходзілася ў складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Жарабковічы). У 1959 г. 179 жыхароў, у 1970 г. — 95 жыхароў. У 2002 г. — 8 двароў, 9 жыхароў.

**ПРАНЧАКІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, на р. Ведзьма, за 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Ляхавічы—Навасёлкі. 74 двары, 157 жыхароў (2005).

У 1897 г. Пранчакі — вёска ў Дараўскай вол. Навагрудскага пав., 48 двароў, 298 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны. У 1909 г. — 63 двары, 354 жыхары, школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 68 двароў, 405 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 97 двароў, 449 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Калініна. У 1959 г. 456 жыхароў, у 1970 г. — 356 жыхароў. У 2002 г. — 81 двор, 170 жыхароў, у складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр — в. Навасёлкі). Працуюць сярэдняя школа, магазін. Вёска — радзіма, поўнага кавалера ордэна Славы Р.Ф.Нагорнага, бел. паэта Л.І.Пранчака. Планіровачна складаецца з невялікіх Г-падобнай канфігурацыі кароткіх вуліц. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.



*Р.Ф.Нагорны.*

**РАГАЧЫ** — вёска ў Востраўскім с/с, на р. Мышанка, за 34 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе, якая звязвае в. Тухавічы з шашой Брэст—Слуцк. 80 двароў, 185 жыхароў (2005).

У 1789 г. Рагачы — дзярж. вёска ў Навагрудскім пав. Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў.

У 1844 г. вёска фальварка Тухавічы (уваходзіў у склад маёнтка Рэпіхава), 15 гаспадарак, 120 жыхароў, уласнасць графіні І.Патоцкай. У 1897 г. вёска Крывошынскай вол., 44 двары, 281 жыхар, і хутар на зямлі Патоцкіх, каля р. Мышанка, 1 двор, 5 жыхароў. У 1909 г. — 51 двор, 379 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 51 двор, 250 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Тухавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 4.10.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не. У 1940 г. вёска і хутар, 49 двароў, 247 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. і чэрв. 1944 г. спалілі 63 двары, загубілі 15 жыхароў. У 1959 г. былі 531 жыхар, у 1970 г. — 464 жыхары, вёска знаходзілася ў складзе калгаса «Ленінскі шлях». У 2002 г. — 88 двароў, 191 жыхар, у складзе калгаса «Востраў» (цэнтр — в. Востраў). Ёсць б-ка, магазін.

**РАМАШКІ** — вёска ў Падлескім с/с, каля р. Шавялёўка (прыток р. Ведзьма), за 12 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Шавялі—Ляхавічы. 17 двароў, 24 жыхары (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім пав. ВКЛ. Да 1551 г. Рамашкі (у пісьмовых крыніцах Ромашковичи) — сяло Ляхавіцкай вол., Барбара Радзівіл падаравала яго ляхавіцкаму зямяніну-васалу В.Чаркоўскаму. У 1553 г. сяло маёнтка Ведзьма-Гафтароўшчызна той жа воласці, уласнасць В.Чаркоўскага. У 1567 г. сяло Ляхавіцкай вол., асабістая ўласнасць вял. кн. літ. і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста, які пацвердзіў наданне Б.Радзівіл гаспадарскаму земяніну-васалу В.Чаркоўскаму пад харугву, земскі і гродскі прысуд Навагрудскага пав. У 1789 г. вёска, шляхецкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1876 г. маёнтак і вёска ў Libраўскай вол., 59 дзес. зямлі, спадчыннае ўладанне І.А.Ральцэвіча. У 1870 г. вёска аднайменнага маёнтка, 19 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска, 10 двароў, 64 жыхары. Побач з вёскай знаходзіліся сядзіба маёнтка Рамашкі (уласнасць Ральцэвіча), 16 жыхароў, і фальварак Рамашкі, 12 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 14 двароў, 79 жыхароў; у сядзібе маёнтка — 6 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., вёска, 17 двароў, 93 жыхары, і 2 фальваркі, 3 будынкі, 14 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Сваятыцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Навасёлкаўскім с/с. У 1959 г. ў Падлескім с/с, які 3.7.1972 г. быў перайменаваны ў Жарабковіцкі с/с, 1.5.1981 г. Падлескі с/с адноўлены. У 1940 г. вёска, 24 двары, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас «Сталінскі шлях», які ў сак. 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Леніна. У 1959 г. ў вёсцы 101 жыхар, у 1970 г. — 89 жыхароў. У 2002 г. — 18 двароў, 27 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Падлессе). Кароткая шыротная вуліца забудавана драўлянымі сял. сядзібамі.

**РАЧКАНЫ** — вёска ў Начаўскім с/с, каля р. Свідроўка (прыток р. Шчара), за 10 км на ПдУ ад Ляхавіч, 3 км ад чыг. прыпынку Райтанаў на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Гайнін. 97 двароў, 201 жыхар (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1586 г. Рачканы (Рочкины) — сяло, уласнасць шляхціца Я.Магільніцкага. У 1798 г. вёска, шляхецкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1870 г. вёска маёнтка Грушаўка (належаў Рэйта-



нам), 152 рэвізскія душы, 23 дваровыя селяніны. У 1897 г. 72 двары, 498 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. вёска ў Ляхавіцкай вол., 90 двароў, 578 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 126 двароў, 675 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Перахрэсцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 17.11.1959 г. вёска — цэнтр Рачканскага с/с. З 4.6.1979 г. ў Начаўскім с/с. У 1940 г. 189 двароў, 957 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная зара», які ў лют. 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Новы шлях». У 1959 г. было 686 жыхароў, у 1970 г. — 539 жыхароў. У 2002 г. — 102 двары, 197 жыхароў, у складзе калгаса «Ляхавіцкі» (цэнтр — в. Русінавічы). Працуюць магазін, сярэдняя школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай на Пн кароткай шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэта і ўдзельніка камуністычнага падполля ў Зах. Беларусі Я.Чабора.

**РУСІНАВІЧЫ** — вёска ў Начаўскім с/с, каля р. Свідроўка (прыток р. Шчара), за 8 км на ПдУ ад Ляхавіч, 0,5 км ад чыг. прыпынку Райтанаў на лініі Баранавічы — Лунінец, на аўтадарозе Ляхавічы—Русінавічы. 242 двары, 654 жыхары (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1586 г. Русінавічы — сяло, уласнасць шляхціца Я.Магільніцкага. У 1789 г. вёска, шляхецкае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Расійскай імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1870 г. вёска (раней уваходзіла ў склад маёнтка Паўлюкоўшчызна, які належаў Марцынкевічу), 96 рэвізскіх душ. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі на тэр. Мядзведзіцкай вол. існавалі аднайменныя: вёска, 43 двары, 405 жыхароў, хлебазапасны магазін; пасёлак пры чыгунцы, 16 двароў, 123 жыхары, 4 крамы, 2 заезныя дамы, піцейная ўстанова; фальварак, уласнасць Марцынкевіча, 4 будынкі, 15 жыхароў, паравы млын. У 1909 г. ў вёсцы 85 двароў, 531 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 68 двароў, 515 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Ляхавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 17.11.1959 г. ў Рачканскім с/с, які 4.6.1979 г. перайменаваны ў Начаўскі. У 1940 г. вёска, 51 двор, 1109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы стварылі калгас «Маладая гвардыя», які ў крас. 1953 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Хрушчова. У 1959 г. было 530 жыхароў, у 1970 г. — 657 жыхароў. З 1991 г. вёска з'яўлялася цэнтрам калгаса «Ляхавіцкі» (аб'ядноўваў 6 вёсак). У 2002 г. — 235 двароў, 646 жыхароў. Працуюць дзіцячы сад, магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа, б-ка, Дом культуры. Планіровачна складаецца з трох паралельных паміж сабой вуліц, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пд шыротнай вуліцай. Забудова пераважна двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.



*Янка Чабор.*

**САВЕЙКІ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Ляхавіч, 6,5 км ад



*Фрагмент парку ў в. Савейкі.*




*Фрагмент сядзібнага дома (19 ст.) у в. Савейкі.*



*Сядзіба (19 ст.) у в. Савейкі. Галоўны фасад.*



чыг. прыпынку Буды на лініі Баранавічы—Лунінец. 53 двары, 110 жыхароў (2005).

У 1774 г. Савейкі — вёска Мядзведзіцкага ключа, у Навагрудскім ваяв. Рэчы Паспалітай, уласнасць каталіцкай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. Савейкі — маёнтак (складаўся з фальваркаў Берасневічы, Заполле, Савейкі, Рудня, уваходзіла 11 вёсак, 5 засценкаў), 177 цяглых двароў, 1266 сялян. Уладанне Валерыі Рдултоўскай (з 1835 г. жонка Канстанціна Фадзея Рдултоўскага, дачка Х.Незабытоўскага; раней маёнтак належаў Бенігсенам, С.Чапскаму, потым у пач. 19 ст. зноў Бенігсенам, Хрыстафору Незабытоўскаму). Фальварак Савейкі (уваходзілі вёскі Асосы, Гайнін, Гайнінец, Лапацічы, Тальмінавічы; засценкі Нізкія, Сінява, Цырпічы) налічваў 74 двары, 428 жыхароў. У 1876 г. маёнткі Савейкі і Заполле ў Мядзведзіцкай вол., уласнасць Г.Б.Навіцкага (купіў у Рдултоўскага ў 1860 г.), 7662 дзес. зямлі, вінакурня, шкіпінарны і смаляны з-ды, бровар, 2 вадзяныя млыны, паштовая станцыя. У 1850-я г. ў Савейках фарміруецца палацава-паркавы ансамбль (дакладная дата ўзвядзення палаца невядома; парк займае пл. каля 10 га; палац разбураны ў гады Вял. Айч. вайны, адбудаваны ў 1959 г. ў стылі неакласіцызму, тут размешчаны санаторый). У 1889 г. ў маёнтку (уласнасць Навіцкіх) 15 261 дзес. зямлі. У 1897 г. маёнтак, 7 будынкаў, 75 жыхароў. У 1909 г. тут 19 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 162 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Тальмінавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Куршынавіцкім с/с. У 1940 г. ў Савейках 28 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. 244 жыхары, у 1970 г. 429 жыхароў. У 2002 г. — 61 двор, 141 жыхар, у складзе аграфірмы «Іскра» (цэнтр — в. Тальмінавічы).

*Жылы дом у в. Савейкі.*



**САКУНЫ** — вёска ў Конькаўскім с/с, за 5 км на З ад горада і чыг. ст. Ляхавічы на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Баранавічы—Ляхавічы. 30 двароў, 49 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. некалькі вёсак Сакуны існавалі ў суседніх маёнтках Дара-



ва Навагрудскага пав. Мінскай губ. У 1844 г. вёска маёнтка Дарава, уласнасць К.М.Куневіча, 2 двары, 14 жыхароў. У 1846 г. ў вёсцы Сакуны маёнтка Дарава, які належаў Г.І.Чарноўскаму, быў 1 двор, 8 жыхароў. У 1870 г. ў вёсцы маёнтка Дарава Гаслаўшчына (уласнасць Кабылінскай) налічвалася 5 рэвізскіх душ; у вёсцы з маёнтка Дарава Устрань (належала Мержаеўскім) — 11 рэвізскіх душ; у вёсцы маёнтка Дарава Чыжавай — 9 рэвізскіх душ. У 1897 г. Сакуны — вёска Дараўскай вол., 19 двароў, 115 жыхароў; фальварак каля вёскі, 6 жыхароў (у 1889 г. 40 дзес. зямлі, уладальнік Э.А.Згірскі); чыг. будка, 6 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 20 двароў, 122 жыхары; у фальварку — 7 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 24 двары, 131 жыхар. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. было 196 жыхароў. З 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У 2002 г. — 31 двор, 57 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Конькі). Ёсць магазін.

**СВАЯТЫЧЫ** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, каля р. Ведзьма, за 13 км на ПнУ ад Ляхавіч, 8 км ад чыг. ст. Пагарэльцы на лініі Баранавічы—Мінск. 132 двары, 313 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім пав. ВКЛ. Да 1506 г. Сваятычы — мястэчка, цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць. Кароль польскі і вял. кн. літ. Аляксандр дазволіў С.М.Петкавічу Дукурне праводзіць тут кірмаш. У 1507 г. кароль польскі і вял. кн. літ. Жыгімонт І Стары пацвердзіў гэты прывілей нашчадкам Петкавіча. На працягу 16 ст. Сваятычы належалі Петкавічам, Я.М.Казноўскаму, Г.А.Давойнаўне, Я.Карыцкаму, Б.Кміцянцы Радзівонаўне, С.А.Давойну, Ш.Фурсу, Я.Пясецкаму, Я.Е.Хадкевічу, Я.Б.Пузыні. У 1557 г. ў мястэчку вядомы



*Званіца Юр'еўскага касцёла ў в. Сваятычы.*

корчмы. У 1728 г. маёнткам Сваятычы (Сваятычы Венцкаўшчызна) валодалі малалетнія Бенядзікт, Антоній і Іаанна з Вольскіх Дашкевічаў. Апекунамі малалетніх уладальнікаў з'яўляліся Міхаіл Плацыдаў і яго жонка. У склад маёнтка ў гэты час уваходзілі палова мястэчка Сваятычы (25 двароў, карчма з броварам), 9 вёсак, 2 карчмы з бровaрамі. У 1772 г. новымі ўладальнікамі маёнтка і мястэчка сталі Абуховічы, якія пабудавалі на беразе р. Ведзьма 2-павярховы мураваны палац ў стылі класіцызму (не захаваўся). Будынак палаца вядомы па акварэлі мастака Н.Орды 1876 г., фата-



*Краявід каля в. Сваятычы.*

графіях А.Вислоцкага і інш. Вакол палаца быў парк у пейзажным стылі (збярогся часткова). У парку знаходзілася капліца-пахавальня Абуховічаў, у яго паўн.-ўсх. частцы на р. Ведзьма была невялікая сажалка. У 1776 г. да маёнтка належалі 53 «дымы» і карчма ў мястэчку; двор Сваятычы (размяшчаліся жылыя і гасп. пабудовы), вёскі Валасачы, Грыцы, Дамашы, Кміты, Мацутаўшчына, Новікі, Руда Баярская, Станчыкі, Трабавічы. У мястэчку дзейнічаў касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1846 г. Сваятычамі валодала графіня Сафія Чапская (народжаная Абуховіч, памерла ў 1866 г. ў Дрэздэне). Маёнтак у гэты перыяд налічваў 1373 жыхары (з іх дваровых было 31 чалавек, вольнаадпушчаных — 17) і складаўся з мястэчка (84 двары, 478 жыхароў, пастаялы двор, касцёл, плябанія, дом фельчара, 2 ветраныя млыны), 2 фальваркаў (Сваятычы і Вяржбы; 2 вінакурні, цагельня для патрэб маёнтка), 6 вёсак (у вёсках меліся шынкі). У 1867 г. ў маёнтку размяшчаўся палац (мураваны), 2 флігелі (з іх 1 драўляны), гасп. пабудовы, у т.л. кузня, вадзяны млын пры англійскім агародзе на канале, 2 аранжарэі, ветраны млын. У 1873 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1876 г. Сваятычы — маёнтак у Дараўскай вол., 1100 дзес. зямлі, 5 корчмаў, 3 млыны; уласнасць малалетніх Фларыяна, Эдуарда, Марыі і Веранікі Чапскіх, кіраваўся апекуном. У 1886 г. у мястэчку было 75 двароў, 705 жыхароў, тут стаялі царква, капліца. У 1889 г. ў маёнтку (уладанне Э.С.Чапскага) 660 дзес. зямлі. У 1897 г. Сваятычы — сяло, якое таксама называлі мястэчкам, 103 двары, 603 жыхары, царква, капліца, хлебазапасны магазін, крама, ветраны млын, 4 кузні, піцейная ўстанова; сядзіба прычта Сваятыцкай царквы, 5 жыхароў; сядзіба маёнтка пры р. Ведзьма, 6 пабудоў, 71 жыхар. У канцы 19 — пач. 20 ст. маёнтак Сваятычы належаў Зіберг-Плятэрам. У 1909 г. сяло Сваятычы налічвала 112 двароў, 834 жыхары, дзейнічала школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., мястэчка, 130 двароў, 715 жыхароў; фальварак, 8 будынкаў, 142 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Сваятыцкага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Навасёлкаўскім с/с, цяпер ў Жарабковіцкім с/с. У 1940 г. — 154 двары, 707 жыхароў, выканком сельскага Савета, с.-г. тэхнікум, пач. школа, клуб, кантора сувязі, 2 тэлефоны, касцёл, гандл. кропка. На тэр. былога маёнтка (за 2,1 км ад вёскі) знаходзіліся 49 двароў, 245 жыхароў. У Вял Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За гады вайны ў баях з ворагамі загінулі 25 вяскоўцаў. На ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. ў цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас імя К.Маркса, які ў 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Савецкая Беларусь». У 1959 г. 566 жыхароў, у 1970 г. — 542 жыхары. У 2002 г. — 150 двароў, 341 жыхар, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Жарабковічы).

*Юр'еўскі касцёл у в. Сваятычы.*





Працуюць аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа, б-ка, клуб, 2 магазіны.

**СВІСТКОЎШЧЫНА** — вёска ў Падлескім с/с, за 4 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, каля чыгункі Баранавічы—Слуцк, на аўтадарозе Ляхавічы—Падлессе. 5 двароў, 6 жыхароў (2005).

У 1789 г. Свісткоўшчына (іншыя назвы Світкаўшчына, Свіскаўшчына) — фальварак маёнтка Ляхавічы (Ляхавіцкага графства) у Навагрудскім пав. З 1790 г. ўладанне І.Масальскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі населенымі пунктамі Ляхавіцкага маёнтка Свісткаўшчына перададзена ў валоданне Касакоўскім. У 1847 г. фальварак (уваходзіла вёска Падлессе Свіскоўскае) налічваў 35 валок 9 маргоў зямлі (паводле іншых даных больш за 26 валок зямлі), 38 двароў, 317 жыхароў. У 1897 г. фальварак у Ляхавіцкай вол., 2 будынкі, 32 жыхары. У 1909 г. — 5 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак у Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Падлескім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 3.7.1972 г. ў Жарабковіцкім с/с, з 1.5. 1981 г. зноў у Падлескім с/с. У 1940 г. ў былым фальварку налічваўся 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. створаны калгас імя Я.Коласа, які ў сак. 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Леніна. У 1959 г. ў вёсцы было 153 жыхары, у 1970 г. — 89 жыхароў. У 2002 г. — 6 двароў, 8 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Падлессе).

**СВЯЦІЦА** — вёска, цэнтр Свяціцкага с/с, Свяціцкім каналам злучана з р. Шчара, за 45 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Свяціца—Крывошын. 366 двароў, 875 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім пав. ВКЛ, уласнасць каталіцкай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, з 1795 г. ў Пінскім пав. Мінскага намесніцтва, з 1796 г. ў Мінскай губ. У 1897 г. вёска ў Хатыніцкай вол., 20 двароў, 427 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзілася аднайменная сядзіба (2 двары, 22 жыхары), якая ўваходзіла ў склад маёнтка Крывошын (уласнасць Патоцкіх). З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Хатыніцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 103 двары, 626 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ганцавіцкім р-не Пінскай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 22.4.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 16.7.1954 і з 1.6.1998 г. вёска — цэнтр Свяціцкага с/с, з 22.4.1957 г. да 1.6.1998 г. ў Крывошынскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 12 жыхароў. У лют.—ліп. 1944 г. ў лесе каля вёскі базіравалася 19-я партыз. брыгада імя Молатава (створана ў студз. 1944 г., камандзіры В.І.Каробкін, Я.П.Луцэнка). У 1975 г. ў гонар партызан брыгады ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У цэнтры вёскі пахаваны таксама 10 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў у гады вайны. У 1967 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік. У 1959 г. было 869 жыхароў, у 1970 г. — 999 жыхароў. З 1991 г. цэнтр калгаса «Усход» (аб'ядноўваў 2 вёскі). У 2002 г. — 385 двароў, 949 жыхароў. Працуюць аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, дзіця-

*У в. Сваятычы.*



чы сад, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, магазін.

**СМАЛЕНІКІ** — вёска ў Ганчароўскім с/с, за 14 км на Пд ад Ляхавіч, 6 км ад чыг. ст. Куляні на лініі Баранавічы—Ганцавічы. 47 двароў, 78 жыхароў (2005).

У 1588 г. Смаленікі — сяло ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ, уладанне віленскага каталіцкага біскупа. У 1789 г. вёска, уласнасць каталіцкай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. вёска фальварка Рудня (у складзе маёнтка Савейкі), уладанне Валерыі Рдултоўскай, 13 двароў, 102 жыхары. У 1897 г. ў Мядзведзіцкай вол., 29 двароў, 26 жыхароў. У 1909 г. 53 двары, 309 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 60 двароў, 296 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Мядзведзіцкім, з 16.7.1954 г. ў Мініцкім, з 4.6.1979 г. ў Ганчароўскім сельсаветах. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 80 двароў, 435 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Я.Купалы. У 1959 г. было 337 жыхароў, у 1970 г. — 315 жыхароў. З 1960 г. Смаленікі знаходзіліся ў складзе саўгаса «Ганчароўскі». У 2002 г. — 52 двары, 83 жыхары, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары). Ёсць магазін.

**СТАНЧЫКІ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, каля р. Ведзьма, за 8 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Навасёлкі. 15 двароў, 23 жыхары (2005).

У 1776 г. Станчыкі — вёска маёнтка Сваятычы, уладанне графіні Чапскай у Навагрудскім ваяв., 6 гаспадарак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1846 г. вёска таго ж маёнтка, 8 двароў, 66 жыхароў. У 1867 г. ў вёсцы, якая разам з маёнткам належала нашчадкам С.М.Чапскай, была карчма. У 1897 г. вёска ў Дараўскай вол., 19 двароў, 113 жыхароў. У 1909 г. — 22 двары, 149 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 25 двароў, 162 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 33 двары, 153 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 6.7.1944 г. спалілі 32 двары, загубілі 88 жыхароў. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас «Сталінскі шлях». У 1959 г. было 139 жыхароў, у 1970 г. — 105 жыхароў. У 2002 г. — 17 двароў, 24 жыхары, у складзе калгаса «Новы шлях» (цэнтр в. Навасёлкі).

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, за 20 км на Пд ад Ляхавіч, 6 км ад чыг. прыпынку Буды на лініі Баранавічы—Лунінец, транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Ганцавічы. 41 двор, 76 жыхароў (2005).

У 1789 г. Стараселле — уласнасць каталіцкай царквы ў Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. Стараселле — фальварак (320 дзес. зямлі, 79 сялян, уласнасць Мацвея Цэпрынскага Цекавага) і вёска таго ж фальварка (7 двароў, 59 жыхароў). З 1869 г. маёнтак належаў В.Генрыцы. У 1897 г. фальварак у Мядзведзіцкай вол., уладанне памешчыка Навіцкага, 13 жыхароў. У 1909 г. ў фальварку 3 двары, 26 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, калонія ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 7 двароў, 49 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Куршынавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У



1940 г. вёска, 8 двароў, 34 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Вышынскага. У 1959 г. было 162 жыхары, у 1970 г. — 195 жыхароў. У 2002 г. — 46 двароў, 94 жыхары, у складзе с.-х. прадпрыемства «Куршынавічы». Ёсць магазін.

**СТАРЫЯ БУДЫ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, каля р. Цна, за 24 км на ПдУ ад Ляхавіч, 4 км ад чыг. прыпынку Буды на лініі Баранавічы—Лунінец, на аўтадарозе Ляхавічы—Ганцавічы. 30 двароў, 50 жыхароў (2005).

У 1909 г. на месцы сучаснай вёскі знаходзілася ўрочышча Буда Клендвіцкая Мядзведзіцкай вол. Слуцкага пав. Мінскай губ., 2 двары, 2 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., леснічоўка Буды Старыя, 2 двары, 13 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Куршынавіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска Старыя Буды, 23 двары, 154 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жніўні 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Крыллі Саветаў». У 1959 г. было 211 жыхароў, у 1970 г. — 212 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра». У 2002 г. — 34 двары, 56 жыхароў, у складзе аграфірмы «Іскра» (цэнтр — в. Тальмінавічы).

**СТРАЛЬЦЫ** — вёска ў Крывошынскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Крывошын. 68 двароў, 110 жыхароў (2005).

У 1789 г. Стральцы — вёска ў Навагрудскім ваяв., дзярж. ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска фальварка Востраў маёнтка Рэпіхаў, 7 двароў, 80 жыхароў, уласнасць графіні І.Патоцкай. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кавальскім і іншымі промысламі. У 1870 г. вёска ў Востраўскай вол., 40 рэвізскіх душ. У 1897 г. — 23 двары, 208 жыхароў. У 1909 г. — 32 двары, 245 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 25 двароў, 165 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Востраўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Цяпер у Крывошынскім с/с. У 1940 г. 73 двары, 343 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. створаны калгас імя Андрэева, які ў 1952 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Шлях да камунізму». У 1959 г. было 363 жыхары, у 1970 — 411 жыхароў. У 2002 г. — 75 двароў, 142 жыхары, у складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Галаўнінцы).

**СЯЛЯВІЧЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 12 км на Пн ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, 8 двароў, 10 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім ваяв. ВКЛ. У 1579 г. Сялявічы — сяло маёнтка Чэрніхава, уладанне шляхціца П.С.Глябовіча-Палонскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1897 г. Сялявічы — маёнтак (3 пабудовы, 36 жыхароў) і ўрочышча (1 двор, 7 жыхароў, уласнасць Прапольскага) у Дараўскай вол. У 1909 г. ўрочышча налічвала 14 жыхароў, маёнтак — 12 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 3 будынкі, 42 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 13 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. было 66 жыхароў, у 1970 г. — 58 жыхароў. У 2002 г. — 11 двароў, 16 жыхароў, у складзе с.-г. прадпрыемства «Каранеўшчына».

**ТАЛЬМІНАВІЧЫ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Ляхавіч, 3 км ад чыг. прыпынку Куляні на лініі Баранавічы—Лунінец, на аўтадарозе Ляхавічы—Ганцавічы, 2 км ад шашы Брэст—Слуцк. 177 двароў, 454 жыхары (2005).

У 1789 г. Тальмінавічы — уласнасць каталіцкай царквы ў Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. вёска фальварка і маёнтка Савейкі, 25 двароў, 164 жыхары, уладанне Валерыі Рдултоўскай. У 1870 г. вёска маёнтка Савейкі, 116 рэвізскіх душ сялян, уласнасць памешчыка Навіцкага. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся апрацоўкай каменю для млыноў і помнікаў, кавальскім промыслам, вырабам кошыкаў і розных іншых бытавых рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол., 63 двары, 377 жыхароў. У 1909 г. 79 двароў, 440 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 109 двароў, 477 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Тальмінавіцкага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Куршынавіцкім с/с. У 1940 г. — 123 двары, 612 жыхароў, пач. школа, гандл. кропка. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1949 г. створаны калгас імя Маленкова. У 1959 было 217 жыхароў, у 1970 г. — 296 жыхароў, вёска ў складзе калгаса «Іскра». У 2002 г. — 184 двары, 507 жыхароў, цэнтр аграфірмы «Іскра» (9 вёсак). Працуюць дзіцячы сад, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры.

**ТРАБАВІЧЫ** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 13 двароў, 20 жыхароў (2005).

У 1590 г. Трабавічы — сяло маёнтка Сваятычы ў Навагрудскім ваяв., уласнасць Я.Пясецкага. У 1728 г. вёска таго ж маёнтка, уладанне Вольскіх- Дашкевічаў, 8 гаспадарак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1846 г. вёска маёнтка Сваятычы, уласнасць Чапскіх, 12 двароў, 94 жыхары. У 1867 г. пры вёсцы, якая ўваходзіла ў склад Дараўскай вол., існавала карчма. У 1897 г. вёска, 26 двароў, 125 жыхароў. У 1909 г. — 32 двары, 210 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 33 двары, 184 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вол. З 12.10.1940 г. ў Сваятыцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Навасёлкаўскім, цяпер у Жарабковіцкім с/с. У 1940 г. 52 двары, 247 жыхароў. У Вял. Айч.вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Фрунзе, які з студз. 1952 г. быў уключаны ў склад узбуйненага калгаса «Савецкая Беларусь». У 1959 г. 189 жыхароў, у 1970 г. — 121 жыхар. У 2002 г. — 15 двароў, 23 жыхары, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Жарабковічы).

**ТРАЦЦЯКОЎЦЫ** — вёска ў Востраўскім с/с, каля р. Мышанка, за 30 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Пухавічы—Мінавіды. 51 двор, 91 жыхар (2005).

У 1789 г. Траццякоўцы — дзярж. вёска ў Навагрудскім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска фальварка Востраў (уваходзіў у склад маёнтка Рэпіхава), 16 гаспадарак, 183 жыхары, уласнасць графіні І.Патоцкай. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кавальскім і іншымі промысламі. У 1897 г. Траццякоўцы — вёска Востраўскай вол., 48 двароў, 283 жыхары. У 1909 г. 62 двары, 350 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Востраўскай гміне Ба-



ранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 47 двароў, 262 жыхары (1921 г.). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Гутаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 4.10.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 17.4. 1959 г. ў Востраўскім с/с. У 1940 г. 93 двары, 455 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 18 вяскоўцаў загінулі ад рук карнікаў і ў партыз. барацьбе. У 1959 г. 399 жыхароў, у 1970 г. — 338 жыхароў. У 2002 г. — 55 двароў, 97 жыхароў, у складзе калгаса «Востраў» (цэнтр — в. Востраў).

**ТУМАШЫ** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Баранавічы—Ляхавічы. 35 двароў, 67 жыхароў (2005).

У 1789 г. Тумашы — вёска Навагрудскага пав., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1846 г. вёска маёнтка Дарава, 9 двароў, 77 жыхароў, уладанне Г.І.Чарноўскага. У 1897 г. вёска ў Дараўскай вол., 20 двароў, 124 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. — 27 двароў, 151 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 27 двароў, 145 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1950-я г. перададзена ў склад Навасёлкаўскага с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. — 197 жыхароў, у 1970 г. — 202 жыхары. У 2002 г. — 39 двароў, 68 жыхароў, у складзе калгаса імя Ламаносава (цэнтр — в. Флар'янова).

**ТУРКІ** — вёска ў Конькаўскім с/с, за 3 км на З ад горада і чыг. ст. Ляхавічы на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Баранавічы—Ляхавічы. 35 двароў, 58 жыхароў (2005).

У 1844 г. Туркі — вёска маёнтка Дарава Навагрудскага пав. Мінскай губ., уласнасць К.М.Куневіча, 18 двароў, 120 жыхароў. У 1889 г. вёска і фальварак ($5^1/_2$ дзес. зямлі, уладанне А.Х.Кукіса) у Дараўскай вол. У 1897 г. ў вёсцы 43 двары, 242 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. тут было 46 двароў, 313 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв.; 76 двароў, 250 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях з ням.-фаш. акупантамі ў 1941 г. і 1944 гг. каля вёскі загінулі 17 воінаў Чырвонай Арміі. У 1965 г. на брацкай магіле сав. воінаў (знаходзіцца ва ўсх. частцы вёскі) пастаўлены абеліск. У 1951 г. жыхары вёскі стварылі калгас «Чырвоны маяк». У 1959 г. — 223 жыхары, у 1970 г. — 229 жыхароў. У 2002 г. — 36 двароў, 61 жыхар, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Конькі).

**ТУХАВІЧЫ** — вёска ў Востраўскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Пухавічы—Востраў. 456 двароў, 1067 жыхароў (2005).

У 1789 г. Тухавічы — дзярж. вёска ў Навагрудскім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. вёска (31 гаспадарка, 217 жыхароў) і аднайменны фальварак маёнтка Рэпіхава, уласнасць графіні І.Патоцкай. У 1897 г. Тухавічы — вёска ў Крывошынскай вол., 82 двары, 552 жыхары, хлебазапасны магазін, карчма (на зямлі Патоцкіх, 7 жыхароў); маёнтак (побач з вёскай), 8 будынкаў, 31 жыхар, уладанне Патоцкіх; дом аховы (на зямлі Патоцкіх), 7 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 121 двор, 777 жыхароў, школа; у маёнтку — 14 жыхароў. З 1921 г. ў складзе

Польшчы, вёска і фальварак у Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 78 двароў, 387 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Быценскім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. цэнтр Тухавіцкага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 4.10.1957 г. ў Ляхавіцкім р-не, з 6.4.1981 г. ў Востраўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы і былым маёнтку 205 двароў, 869 жыхароў, працавала пач. школа (паводле іншых звестак, вёска налічвала 180 двароў, 943 жыхары). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі 106 двароў, загубілі 15 жыхароў. На вясковых могілках пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі (абеліск на магіле ўстаноўлены ў 1965 г.). У баях каля вёскі загінулі 12 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле). У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Ленінскі шлях», які ў 1981 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса «Шлях да камунізму», а 28.10. 1988 г. — у саўгас «Востраў». У 1959 г. 812 — жыхароў, у 1970 г. — 884 жыхары. У 2002 г. — 469 двароў, 1115 жыхароў. У вёсцы працуюць амбулаторыя, аддз. сувязі, сярэдняя і муз. школы, б-ка, Дом культуры, магазін, торфабрыкетны завод.

**УЛАЗАВІЧЫ** — вёска ў Падлескім с/с, за 8 км на Пн ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, 6 км ад чыг. ст. Кавалі на лініі Баранавічы—Слуцк. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Падлессе. 28 двароў, 59 жыхароў (2005).

У 1789 г. Улазавічы — шляхецкае ўладанне ў Навагрудскім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1796 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1847 г. Улазавічы — маёнтак і вёска, уладанне нашчадкаў Адама Хоміча. Маёнтак налічваў 64 дзес. зямлі, вёска — 2 двары, 15 жыхароў. У 1876 г. існавалі 2 аднайменныя маёнткі: 50 дзес. зямлі, уладанне К.С.Бародзіча (купіў у 1854 г.), і 62 дзес. зямлі, уласнасць К.А.Хоміча (спадчына з 1846 г.). У 1897 г. вёска ў Дараўскай вол., 24 двары, 137 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня. Побач з ёю размяшчаліся аднайменныя сядзібы маёнткаў памешчыкаў Хоміча і Бародзіча, 7 і 11 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 19 двароў, 106 жыхароў, у сядзібе маёнтка Бародзіча 7 жыхароў, у сядзібе маёнтка Хоміча — 9 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 32 двары, 189 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Падлескім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 45 двароў, 428 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На зах. ускраіне вёскі пахаваны 3 воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях з акупантамі ў гады вайны (помнік на брацкай магіле ўстаноўлены ў 1985 г.). У 1950 г. створаны калгас імя Леніна. У 1959 г. — 215 жыхароў, у 1970 г. — 192 жыхары. З 3.7.1972 г. ў Жарабковіцкім с/с, з 1.5.1981 г. зноў у Падлескім с/с. У 2002 г. — 30 двароў, 58 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр в. Падлессе). Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**УРАДЖАЙНАЯ** (да 1971 г. Вошкаўцы) — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, каля аўтадарогі Баранавічы—Ляхавічы. 149 двароў, 374 жыхары (2005).

Вядома з 16 ст. ў Навагрудскім пав. ВКЛ. У 1586 г. Вошкаўцы — сяло, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1838 г. Вошкаўцы — маёнтак, які набыў бел. філосаф Фларыян Бохвіц (1799—1856 гг.; пахаваны ў в. Дарава, быў жанаты з роднай сястрой маці Адама Міцкевіча — Паўлінай Маеўскай). Намаганнямі Фларыяна і яго сына Яна Отана Бохвіца ў 2-й пал. 19 ст. ў



Вошкаўцах быў пабудаваны аднапавярховы драўляны сядзібны дом і закладзены парк (захаваліся). У 1876 г. маёнтак, уласнасць Рамана і Отана Бохвіцаў, меў 167 дзес. зямлі (у 1889 г. — 147 дзес. зямлі). У 1897 г. Вошкаўцы — сядзіба, 13 жыхароў, і вёска, 47 двароў, 271 жыхар, кузня, хлебазапасны магазін; у Дараўскай вол. У 1909 г. ў вёсцы 53 двары, 416 жыхароў, школа; у сядзібе — 17 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., вёска (71 двор, 354 жыхары) і фальварак (34 жыхары). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 102 двары, 483 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы стварылі калгас «Бальшавік». У 1959 г. — 480 жыхароў, у 1970 г. — 504 жыхары. У 1968 г. ў вёсцы каля будынка Дома культуры на ўшанаванне памяці 40 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў 1941—45 гг., установлены абеліск. У 2002 г. — 158 двароў, 402 жыхары, у складзе калгаса імя Ламаносава (цэнтр — в. Флар'янова). Працуюць бальніца, магазін, аддз. сувязі, школа, б-ка, Дом культуры. Помнік архітэктуры — сядзібна-паркавы ансамбль.

**ФЕДЗЮКІ** — вёска ў Конькаўскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 0,5 км ад чыг. прыпынку Федзюкі на лініі Баранавічы—Асіповічы, каля аўтадарогі Баранавічы—Ляхавічы. 68 двароў, 128 жыхароў (2005).

У 1844 г. Федзюкі (Хведзюкі) — вёска маёнтка Дарава Навагрудскага пав. Мінскай губ., уласнасць Мержаеўскіх, 29 двароў, 199 жыхароў. У 1897 г. вёска ў Дараўскай вол., 44 двары, 314 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач з вёскай знаходзілася чыг. казарма для рабочых (6 чалавек). У пач. 20 ст. ў вёсцы пачала працаваць школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 54 двары, 308 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. цэнтр Федзюкоўскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У 1940 г. 84 двары, 469 жыхароў, пач. школа, хата-чытальня, гандл. кропка. Выканком сельсавета размяшчаўся ў прыватным доме, будаваліся новая школа і адм.будынак выканкома сельсавета. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Федзюкі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Вільямса, які ў 1952 г. быў уключаны ў склад узбуйненага калгаса «Кастрычнік». У 1959 г. — 425 жыхароў, у 1970 г. — 387 жыхароў. У 2002 г. — 73 двары, 136 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Конькі). Ёсць магазін, б-ка. Вёска — радзіма бел. кінарэжысёра М.М.Пташука.



*М.М.Пташук.*

**ФЛАР'ЯНОВА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 57 км на Пн ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, 4 км ад чыг. ст. Падлессе на лініі Баранавічы—Слуцк, каля аўтадарогі Падлессе—Ляхавічы. 24 двары, 54 жыхары (2005).

У 1876 г. Флар'янова (іншая назва Новыя Вошкаўцы) — маёнтак Навагрудскага пав. Мінскай губ., 172 дзес. зямлі, уладанне Бохвіцаў. Маёнтак названы Флар'янова ў гонар бел. філосафа Фларыяна Бохвіца, які з 1838 г. валодаў суседнім маёнткам Вошкаўцы. У 1889 г. ў маёнтку, які належаў Отану Фларыянавічу Бохвіцу, было 144 дзес. зямлі. У канцы 19 ст. тут сфарміравалася сядзіба, якая

*Сядзібны дом (19 ст.) у в. Ураджайная.*



ўключала сядзібны дом (палац) і пейзажны парк. Палац пабудаваны Янам Отанам Бохвіцам каля 1870 г. Будынак быў драўляны, на высокім падмурку, часткова аднапавярховы, часткова мансардны. З боку парку існавала веранда. Пазней да палаца з двух бакоў былі дабудаваны ў стылі неаготыкі мураваныя прыбудоўкі. Пасля заканчэння будоўлі і рэканструкцыі дом налічваў 19 пакояў (у тым ліку 4 на другім паверсе). У канцы 19 — пач. 20 ст. ў сядзібным доме існаваў пансіянат, які за памяркоўную плату прымаў улетку гасцей, сярод якіх былі такія дзеячы польскай літаратуры, як Эліза Ажэшка (наведвала Фларʼянова ў 1908—09 гг.), Уладзіслаў Рэймант, тэатральны дзеяч і літаратурны крытык Юзаф Катарбінскі і іншыя. У 1897 г. сядзіба знаходзілася на тэр. Дараўскай вол., налічвала 31 жыхара (3 будынкі). У 1909 г. тут было 12 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак у Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 58 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. — 8 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. цэнтр калгаса імя Ламаносава, 66 жыхароў. У 2002 г. — 27 двароў, 67 жыхароў, цэнтр калгаса імя Ламаносава (абʼядноўваў 8 вёсак). Ёсць магазін. Помнік архітэктуры — сядзіба.



*Памятны знак каля дуба Э.Ажэшкі ў парку сядзібы ў в. Фларʼянова.*

**ХАЦЯЖ** — вёска ў Куршынавіцкім с/с, каля р. Шчара, за 34 км на Пд ад Ляхавіч, 10 км ад чыг. прыпынку Буды на лініі Баранавічы—Лунінец. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Ганцавічы. 20 двароў, 28 жыхароў (2005).

У 1789 г. Хацяж — уласнасць каталіцкай царквы ў Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. засценак маёнтка Савейкі, 4 двары, 26 жыхароў, уладанне Валерыі Рдултоўскай. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі на тэр. Мядзведзіцкай вол. знаходзіліся вёска, 15 двароў, 128 жыхароў, і хутары: Хацяж (2 будынкі, 8 жыхароў) і Хацяжка (4 жыхары), уладанні памешчыка Навіцкага. У 1909 г. існавалі маёнтак Хацяжка, 10 жыхароў, і вёска Хацяж, 20 двароў, 162 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак і вёска ў Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 27 двароў, 172 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Цыганскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1959 г. ў Куршынавіцкім с/с. У 1940 г. вёска Хацяж, 33 двары, 180 жыхароў, і былы маёнтак Хацяжанка, 38 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў верасні 1943 г. спалілі 29 двароў. У 1951 г. створаны калгас імя Я.Коласа. У 1959 г. ў вёсцы 191 жыхар, у 1970 г. — 201 жыхар. У 2002 г. — 24 двары, 33 жыхары, у складзе с.-г. прадпрыемства «Куршынавічы». Ёсць магазін.

**ЦІТКАЎШЧЫНА** — вёска ў Навасёлкаўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад горада





*Сядзібны дом (19 ст.) у в. Флар'янова.*

і чыг. ст. Ляхавічы. 46 двароў, 113 жыхароў (2005).

У 1853 г. Ціткаўшчына — вёска казённага маёнтка Дарава, у Навагрудскім пав. Мінскай губ., 6 двароў, 60 жыхароў. У 1897 г. 12 двароў, 85 жыхароў. У 1909 г. — 20 двароў, 117 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 21 двор, 130 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Навасёлкаўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1940 г. 31 двор, 150 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы стварылі калгас імя Мічурына. У 1959 г. было 146 жыхароў, у 1970 г. — 134 жыхары. У 2002 г. — 45 двароў, 114 жыхароў, у складзе калгаса імя Ламаносава (цэнтр — в. Флар'янова).

**ЦЫГАНЬ** — вёска ў Ганчароўскім с/с, каля р. Шчара, за 16 км на Пд ад Ляхавіч, 9 км ад чыг. ст. Куляні на лініі Баранавічы—Ганцавічы, на аўтадарозе Цыгань—Ляхавічы. 54 двары, 85 жыхароў (2005).

У канцы 18 ст. Цыганы — уласнасць каталіцкай царквы ў Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. Цыгань — вёска фальварка Берасневічы ў складзе маёнтка Савейкі, уладанне Валерыі Рдултоўскай, 26 двароў, 184 жыхары. У 1870 г. вёска маёнтка Берасневічы, уласнасць памешчыка Навіцкага, 132 рэвізскія душы. У 1897 г. вёска ў Мядзведзіцкай вол., 50 двароў, 439 жыхароў, хлебазапасны магазін, шынок. У 1905 г. сяляне аказалі ўзбр. супраціўленне прадстаўнікам улады, якія пры размежаванні зямель абаранялі інтарэсы памешчыка. Выступленне сялян было падаўлена з дапамогай паліцыі і салдат. У 1909 г. тут 64 двары, 484 жыхары. З 1921 г. вёска ў складзе Польшчы, у Мядзведзіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 67 двароў, 356 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. цэнтр Цыганскага с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Мініцкім, з 4.6.1979 г. ў Ганчароўскім с/с. У 1940 г. было 113 двароў, 664 жыхары, працавалі ўрачэбны ўчастак, ветраны млын, выканком сельсавета размяшчаўся ў прыватным будынку. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Малады Бальшавік». У 1959 г. ў вёсцы было 725 жыхароў, у 1970 г. — 595 жыхароў. У 2002 г. — 66 двароў, 120 жыхароў, у складзе камунальнага унітарнага с.-г. прадпрыемства «Ганчароўскі» (цэнтр — в. Ганчары). Працуе б-ка, магазін.

**ЧВЫРЫ** — вёска ў Конькаўскім с/с, каля р. Шчара, за 7 км на ПнЗ ад Ляхавіч, 1 км ад чыг. прыпынку Федзюкі на лініі Баранавічы—Асіповічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Баранавічы—Ляхавічы. 20 двароў, 35 жыхароў (2005).

У 1836 г. вёска Чвыры, ці Хведзюкі, 3 двары, 23 жыхары, уваходзіла ў склад маёнтка Дарава Харунжэўскае Навагрудскага пав. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў, уласнасць Керсноўскіх. У 1844 г. 3 двары, 24 жыхары. У 1889 г. побач з вёскай знаходзіўся фальварак Чвыры, 27 дзес. зямлі, уладанне Ю.С.Дарожынскага. У 1897 г. ў суседніх вёсках Чвыры, Цыр, Нагорная Дараўскай вол. было 20 двароў, 139 жыхароў, меліся кузня, ветраны млын. Побач з Чвырамі праходзіла чыгунка, знаходзілася вёска




Федзюкі. У 1909 г. ў вёсцы Чвыры было 6 двароў, 46 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Дараўскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 23 двары, 111 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Федзюкоўскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.3.1987 г. ў Конькаўскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 35 двароў, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная зорка», які ў студз. 1952 г. быў уключаны ў склад узбуйненага калгаса «Кастрычнік». У 1959 г. было 174 жыхары, у 1970 г. — 131 жыхар. У 2002 г. — 22 двары, 38 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Конькі).

**ШАВЯЛІ** — вёска ў Падлескім с/с, каля р. Шавялёўка, за 1 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, 3 км ад чыг. ст. Падлессе на лініі Баранавічы—Асіповічы. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Ляхавічы—Падлессе. 94 двары, 190 жыхароў (2005).

У 1789 г. Шавялі — вёска маёнтка Ляхавічы ў Навагрудскім пав. З 6.5.1790 г. ўласнасць І.Масальскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. Шавялі разам з іншымі населенымі пунктамі Ляхавіцкага маёнтка перададзены ва ўладанне Ш.Касакоўскаму і яго нашчадкам. У 1847 г. вёска фальварка Старыя Ляхавічы таго ж маёнтка, уласнасць С.М.Касакоўскага, 50 двароў, 356 жыхароў, больш за 23 валокі зямлі. У 1897 г. вёска ў Ляхавіцкай вол., 84 двары, 522 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў вёсцы 98 двароў, 696 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 121 двор, 657 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Падлескім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 3.7.1972 г. ў Жарабковіцкім с/с, з 1.5.1981 г. зноў у Падлескім с/с. У 1940 г. 154 двары, 792 жыхары, створаны калгас «Зара». У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя Ракасоўскага. У 1959 г. было 695 жыхароў, у 1970 г. — 564 жыхары. У 2002 г. — 104 двары, 214 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Падлессе). Працуюць фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, перакрыжаванай па цэнтры прамалінейнай, амаль мерыдыянальнай вуліцай. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара юрыд. навук, праф. С.Ф.Сокала.

**ШЧАСНАВІЧЫ** — вёска ў Начаўскім с/с, за 12 км на У ад горада і чыг. ст. Ляхавічы. 52 двары, 85 жыхароў (2005).

У 1789 г. Шчаснавічы — вёска ў Навагрудскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1844 г. вёска маёнтка Нача Брындзоўская, уласнасць М.К.Чарноцкага, 16 двароў, 120 жыхароў. У 1897 г. ў Ляхавіцкай вол., 37 двароў, 247 жыхароў. У 1909 г. — 46 двароў, 288 жыхароў, школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 56 двароў, 296 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Перахрэсцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 17.11.1959 г. ў Рачканскім с/с, які 4.6.1979 г. перайменаваны ў Начаўскі. У 1940 г. вёска, 75 двароў, 398 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снежні 1948 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новы шлях», які ў крас. 1957 г. ўвайшоў у склад саўгаса «Нача». У 1959 г. было 408 жыхароў, у 1970 г. — 352 жыхары. У 2002 г. — 54 двары, 105 жыхароў, у складзе Рэспубліканскага с.-г. унітарнага прадпрыемтсва «Нача» (цэнтр — в. Нача). Працуюць магазін, б-ка, клуб. Пла-



ніровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**ШЧЭРБАВА** — вёска ў Крывошынскім с/с, каля р. Ліпнянка, за 16 км ад горада і чыг. ст. Ляхавічы, на аўтадарозе Ляхавічы—Крывошын. 83 двары, 199 жыхароў (2005).

У 1789 г. Шчэрбава (Шчарбінаў) — вёска, дзярж. ўласнасць у Навагрудскім ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Навагрудскім пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай, з 1842 г. Мінскай губерняў. У 1844 г. Шчарбінаў — вёска аднайменнага фальварка маёнтка Рэпіхава, 20 гаспадарак, 181 жыхар, уладанне графіні І.Патоцкай. У 1870 г. вёска таго ж маёнтка ў Крывошынскай вол., 61 рэвізская душа, 4 аднадворцы. У 1897 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі аднайменныя: вёска, 38 двароў, 264 жыхары, хлебазапасны магазін; маёнтак, 22 жыхары, уласнасць графоў Патоцкіх; былы піцейны дом (пры вёсцы) на зямлі, што належала Патоцкім, 15 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Крывошынскай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., фальварак, 57 жыхароў; вёска, 51 двор, 286 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Малагарадзішчанскім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1950 г. ў Крывошынскім с/с. У 1940 г. ў вёсцы 79 двароў, 315 жыхароў, у былым фальварку — 11 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгас «Парыжская камуна», які ў 1951 г. ўвайшоў у склад узбуйненага калгаса імя Будзённага. У 1959 г. было 406 жыхароў, у 1970 — 394 жыхары. У 2002 г. — 90 двароў, 198 жыхароў, у складзе калгаса «Новае жыццё» (цэнтр — в. Галаўнінцы). Працуе магазін.

**ЯЦКАЎШЧЫНА** — вёска ў Жарабковіцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Ляхавіч, 3 км ад чыг. ст. Жарабковічы, на лініі Баранавічы—Слуцк, каля аўтадарогі Ляхавічы—Клецк. 22 двары, 31 жыхар (2005).

За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі каля дарогі на г. Клецк знаходзіцца помнік археалогіі — курган, які сведчыць аб засяленні тэр. вёскі ў старажытнасці.

У пісьмовых крыніцах звесткі пра вёску сустракаюцца з 18 ст. У 1789 г. Яцкаўшчына — вёска фальварка Гулічы Ляхавіцкага графства Навагрудскага ваяв., дзярж. ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі, у Нясвіжскім, з 1796 г. ў Слуцкім паветах Мінскай губ. У 1793 г. разам з іншымі землямі Ляхавіцкага маёнтка вёска трапіла ва ўладанне графоў Касакоўскіх. У 1847 г. тут было 7 двароў, 56 жыхароў, $4^1/_4$ валокі зямлі. У 1897 г. вёска ў Ляхавіцкай вол., 13 двароў, 110 жыхароў. У 1909 г. — 15 двароў, 121 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ляхавіцкай гміне Баранавіцкага пав. Навагрудскага ваяв., 21 двор, 140 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ляхавіцкім р-не Баранавіцкай вобл. З 12.10.1940 г. ў Жарабковіцкім с/с. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 16.7.1954 г. ў Падлескім с/с. У 1940 г. 28 двароў, 146 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас «Ударнік», які ў снеж. 1950 г. ўвайшоў ў склад узбуйненага калгаса імя Сталіна. У 1970 г. было 106 жыхароў. З 3.7.1972 г. зноў у Жарабковіцкім с/с. У 2002 г. — 25 двароў, 37 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Жарабковічы).

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 2244, 2259; воп. 6, спр. 1640; воп. 28, спр. 972; ф. 30, воп. 5, спр. 6763; воп. 9, спр. 2387.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 27, воп. 5, спр. 243, 394, 397, 419; воп. 6, спр. 100;

ф. 142, воп. 1, спр. 1027, 1028, 1029, 1030, 1031, 1163, 1314, 1517, 1533, 1619, 1620, 1621, 1645, 1646, 1648, 1650, 1652, 1672, 1716, 1739; ф. 142, воп. 2, спр. 170; ф. 146, воп. 2, спр. 1351; ф. 147, воп. 2, спр. 147, 162; воп. 3, спр. 4522; ф. 148, воп. 1, спр. 1031; ф. 694, воп. 2, спр. 8248.
Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 233.
Занальны дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці ў г. Баранавічы, ф. 595, воп. 1, спр. 22; ф. 616, воп. 1, спр. 68; ф. 746, воп. 1, спр. 5; воп. 3, спр. 6; ф. 771, воп. 1, спр. 50; ф. 798, воп. 1, спр. 7; ф. 801, воп. 1, спр. 60; ф. 803, воп. 1, спр. 38; ф. 805, воп. 1, спр. 34; ф. 807, воп. 1, спр. 3, 22, 25, 31, 34, 35, 37, 38, 39, 40, 41, 42. 43, 44, 48, 50, 52, 53, 54, 55, 57, 60, 61, 64, 72, 118, 131, 133, 141, 145, 161, 167, 181, 257, 303, 667, 860, 923, 945; воп. 3, спр. 3; ф. 822, воп. 1, спр. 2, 53; ф. 1048, воп. 1, спр. 8; ф. 1125, воп. 1, спр. 10.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1011, 1102, 1106, 1322, 1336.
Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Мн., 1874.
Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Мн., 1877.
Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная Пинским Старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 г. Вильна, 1884.
Список землевладельцев Минской губернии: издание Минского губернского статистического комитета. Мн., 1889.
Русская историческая библиотека. Т. 20. СПб., 1903; Т. 33. Пг., 1915.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. М., 1915.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Материалы районирования западных областей Белорусской ССР. Мн., 1940.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861—1862 гг. М., 1964.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974.
Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975.
Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Исторические очерки. [М., 1982].
Еўлашоўскі Ф. Успаміны // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: Справ. Т. 2 (1944—1980 гг.). Мн., 1987.
Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Ляхавіцкага р-на. Мн., 1989.
Прамысловыя прадпрыемствы дарэвалюцыйнай Беларусі. Мн., 1989.
Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг. Энцыклапедыя. Мн., 1990.
Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.
Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. Мн., 1993.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мн., 1993—2003.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944): [Зб. дак. і матэрыялаў]. Мн., 1995.
Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. 2 выд. Мн., 2001.
Асветнікі зямлі Беларускай, X—пач. XX ст.: Энцыкл. давед. Мн., 2001.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 2001.
Рэспубліка Беларусь: Вобласці і раёны: Энцыкл. давед. Мн., 2004.
Несцярчук А.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стст. 2 выд. Мн., 2005.
Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2004.
Атлас гісторыі Беларусі: Ад старажытнасці да нашых дзён. 2 выд. Мн., 2006.
Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów slowiańskich. T. 11. Warszawa, 1890.
Sapiehowie. Materjały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 3. Pb., 1894.
Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi. Wilno, 1909.
Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 7. Cz. 1. Warszawa, 1923.
Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972.
Malczewska M. Latyfundium Radziwiłłów w XV do połowy XVI wieku. Warszawa; Poznań, 1985.


ЖАБІНКАЎСКІ Р-Н
КОБРЫНСКІ РАЁН
БРЭСЦКІ РАЁН
ВАЛЫНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
УКРАІНА
МАЛАРЫТА
Лясавец
Антанова
Субаты
Астроўе
Стары Двор
Шарашоўцы
Горы
Малінаўка
Звозы
Новы Двор
Чарняны
Вял. Паўлопаль
Мал. Паўлопаль
Печкі
Лешніца
Закруцін
Пажэжын
Велікарыта
Масевічы
Дарапеевічы
Мал. Дарапеевічы
Замошша
Струга
Гусак
Грушка
Нов. Забалацце
Нов. Раматова
Дубічна
Забалацце
Стар. Раматова
Высокае
Лукава
Ужова
Арлянка
Полікі
Боркі
Знаменка
Добрасава
Брадзяцін
Нов. Боркі
Язвін
Замшаны
Макраны
Асавая
Гвозніца
Кожух
Ляхаўцы
Багуслаўка
Отчын
Ацяты
Збураж
Карпін
Хмялёўка
Талочна
Мельнікі
Пяртышча
Гарохавішча
Зарычка
Галёўка
Лазіца
Сушытніца
Радзеж
Нікольскае
Дварышча
Хаціслаў
Яблачна
Навалессе
Ланская
Олтуш
Яміца
Заазёрная
Отчын
Добрае
Хмелішча
Тамашоўка
Зеляніца
Паравое
Арэхава
Паравісь
Дрочава
Брэст
Кобрын
Ковель
52°00'
51°50'
51°40'
24°00'
24°15'
Маштаб 1:300 000



# МАЛАРЫЦКІ РАЁН

Размешчаны на ПдЗ вобласці, у межах Брэсцкага Палесся. Пл. 1,4 тыс. км². Насельніцтва 16,3 тыс. чал. (2005), з іх 40,9% гарадскога. Цэнтр — г. Маларыта. Раён уключае 78 населеных пунктаў, 9 сельсаветаў: Арэхаўскі, Велікарыцкі, Гвозніцкі, Лукаўскі, Макранскі, Маларыцкі, Олтушскі, Хаціслаўскі, Чарнянскі.

Раён утвораны 15.1.1940 г. (цэнтр — г.п. Маларыта) у складзе Брэсцкай вобласці. 12.10.1940 г. быў падзелены на 11 сельсаветаў: Арэхаўскі, Велікарыцкі, Гвозніцкі, Збуражскі, Лукаўскі, Ляхавецкі, Масевіцкі, Макранскі, Олтушскі, Радзежскі, Хаціслаўскі. З пачатку ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У Маларыце і раёне акупанты загубілі 3349 чал., поўнасцю або часткова спалілі шэраг вёсак. На тэр. раёна дзейнічалі партыз. брыгады імя Леніна, імя Сталіна, «За Радзіму», імя А.К.Флегантава, асобныя атрады імя Варашылава, імя П.Л.Валькова, спецгрупа «Іскра», Маларыцка-Дамачоўскі падп. міжрайком КП(б)Б, падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. 16.7.1954 г. скасаваны Збуражскі, Ляхавецкі, Масевіцкі і Радзежскі сельсаветы. Да раёна 8.8.1959 г. далучаны Восаўскі і Чарнянскі сельсаветы Дзівінскага р-на. 25.12.1962 г. Маларыцкі р-н быў скасаваны; г.п. Маларыта, сельсаветы Арэхаўскі, Велікарыцкі, Гвозніцкі, Лукаўскі, Макранскі, Олтушскі і Хаціслаўскі ўвайшлі ў склад Брэсцкага р-на. Восаўскі і Чарнянскі сельсаветы былі перададзены Кобрынскаму р-ну. 6.1.1965 г. раён адноўлены. 23.12.1970 г. Маларыта пераўтворана ў горад раённага падпарадкавання.

99% тэр. раёна знаходзіцца на вышыні 150—170 м над узроўнем мора, найвышэйшы пункт 189 м (за 4 км на ПдЗ ад Маларыты). Паверхня — плоская раўніна з асобнымі ўчасткамі дзюнна-ўзгорыстых форм. Пераважаюць глебы дзярнова-карбанатныя забалочаныя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя. Ёсць карысныя выкапні: мел, торф, гліна, сапрапель, сілікатныя і будаўнічыя пяскі. Пра-



*Раённае святкаванне «Дажынак». 2005 г.*



*Маларыцкі раённы вузел электрасувязі.*





*Мікалаеўская царква ў г. Маларыта.*



*Маларыцкая раённая паліклініка.*





*Герб г. Маларыта.*

цякае найбольшая р. Рыта (прыток Мухаўца) з прытокам Маларыта.

Агульная плошча с.-г. угоддзяў складае 46,3 тыс. га, з іх 74% асушаных. Пад лесам знаходзіцца 45%, пад балотамі — каля 20% тэрыторыі. У раёне развіта мясамалочная жывёлагадоўля. Вырошчваюць збожжавыя і кармавыя культуры, бульбу, цукровыя буракі. Дзейнічаюць прадпрыемствы харч. і будаўнічых матэрыялаў прам-сці.

*Будынак Фонду сацыяльнай аховы насельніцтва ў г. Маларыта.*



Па тэр. Маларыцкага р-на праходзяць чыгунка Брэст—Ковель і аўтадарогі Кобрын—Уладава і Брэст—Ковель. У раёне працуюць 14 дашкольных устаноў, 1 пач., 2 базавыя і 12 сярэдніх школ, 5 устаноў тыпу сярэдняя школа-сад, сацыяльна-пед. цэнтр з прытулкам, вучэбна-метадычны кабінет, Цэнтр пазашкольнай працы, ПТВ-155 с.-г. вытворчасці, 2 муз. і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, школа мастацтваў. Дзейнічаюць 29 клубных устаноў, 27 б-к, 1 кінаўстаноўка. Ёсць 3 бальніцы на 200 ложкаў, паліклініка, 5 амбулаторый, 10 фельч.-акушэрскіх пунктаў.

**МАЛАРЫТА** — горад, цэнтр раёна Брэсцкай вобл. на р. Маларыта. За 52 км на ПдУ ад Брэста. Чыг. станцыя на лініі Брэст—Ковель (Украіна). Аўтамабільнымі дарогамі звязана з Брэстам і Ковелем. 11,3 тыс. жыхароў (2005).

Назва звязана з ракой Маларыта. Мясцовасць у наваколлі горада была заселена ў глыбокай старажытнасці, аб чым сведчаць шматлікія селішчы, курганы, гарадзішчы на тэр. раёна. У 1965 г. непадалёку ад горада быў знойдзены крамянёвы кінжал, які, на думку вучоных, датуецца 1800—1500 гг. да н.э.

Па пісьмовых крыніцах Маларыта вядома з сярэдзіны 16 ст. Упамінаецца ў 1546 г. пры апісанні мяжы паміж Каронай Польскай і ВКЛ. Згодна з рэвізіяй Берасцейскага староства, у 1566 г. сяло Рыта Малая ў Ляхавіцкім войтаўстве Палескай вол., 36 двароў, 59 сямей, працаваў вадзяны млын, 2 валокі зямлі належалі царкве, каралеўская (дзярж.) уласнасць. У 1668 г. ў складзе Рыцкага вой-







*Плошча Леніна ў г. Маларыта.*

*Будынак музычнай школы ў г. Маларыта.*

таўства (цэнтр — Рыта Вялікая) Палескай вол., 38 валок зямлі, 2 валокі належалі уніяцкай царкве, 8 валок — стольніку ашмянскаму А.Слізеню. У 1682 г. ў Маларыце налічваліся 42 аселыя гаспадаркі, 38 валок зямлі (2 валокі належалі царкве). Упамінаецца ў дакументах 1679 г. (рэвізорны ліст), 1724 і 1758 гг. (прывілей караля), 1786 г. (інвентар). У 1789 г. 49 гаспадарак, 166 валок, адносілася да Збуражскага ключа Палескай вол. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі, сяло, цэнтр воласці ў Брэсцкім пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. 20.11. 1795 г. Кацярына II падаравала сяло (136 мужчын, 124 жанчыны) ген.-лейт. Мікалаю Ланскому. У 1803 г. тут адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1860-я г. налічвалася 540 рэвізскіх душ (261 мужчынскага, 279 жаночага полу), Маларыта адносілася да маёнтка Збураж памешчыка Нефядовіча. Дзейнічала праваслаўная царква. У 1886 г. ў сяле 62 двары, 749 жыхароў, працавалі валаснoe праўленне, праваслаўная царква, 3 крамы, карчма, за 0,5 км ад сяла — чыг. станцыя. У нар. вучылішчы навучалася 29 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. Паводле перапісу 1897 г., 203 двары, 1275 жыхароў, дзейнічалі сельскае нар. вучылішча (60 навучэнцаў), 2 лесапільні (у 1914 г. — 41 рабочы), шпалапрапітны з-д (20 рабочых), цагельня (4 рабочыя), вятрак. У 1905 г. тут 1097 жыхароў, працавала аддз. сувязі. Побач знаходзіліся чыг. станцыя (18 жыхароў) і пас. Маларыта (381 жыхар). Акрамя земляробства, жыхары займаліся шавецкім, кравецкім, ткацкім, дрэваапрацоўчым, кавальскім і інш. промысламі. Частка насельніцтва — дробным гандлем, сплавам лесу. Дзейнічаў лесапільны з-д, які ў 1901 г. належаў мешчаніну С.Кагану (18 наёмных рабочых), з 1907 г. — М.Л.Апатоўскаму. Восенню 1915 г. сяло акупіра-



*Дзіцячы ансамбль музычных інструментаў г. Маларыта.*



*Будынак Маларыцкага чыгуначнага вакзала.*



*У Маларыцкім міжнародным марафоне прымаюць удзел і дзеці.*



*Аматарскі дзіцячы калектыў з г. Маларыта.*



*Л.А.Тараненка.*

вана герм. войскамі. Многія жыхары Маларыты сталі бежанцамі.

З 1921 г. ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. Паводле перапісу 1921 г., у мястэчку налічвалася 266 двароў, 1791 жыхар, з іх 939 праваслаўнага, 98 каталіцкага, 753 іудзейскага веравызнання. Дзейнічаў падп. райком КПЗБ. З 1924 г. тут працаваў санаторый для туберкулёзных хворых на 65 ложкаў. Пабудовы ў асноўным былі драўляныя. Працавала школа, з 1929 г. яна стала 5-гадовай. У маі 1930 г. меліся 2 школы. У 1932 г. дзейнічалі 3 лесапільныя з-ды, 2 цагельні, 2 млыны, маслабойня, каля 40 гандл. крам. У 1930 г. 400 двароў. 4.3.1935 г. адбылася забастоўка рабочых лесапільных з-даў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. — цэнтр Маларыцкага р-на (3748 жыхароў), з 12.10.1940 г. адначасова цэнтр Маларыцкага с/с. Працавалі 3 лесазаводы, 2 цагельныя і шкіпінарны з-ды, 2 маслабойні, маслазавод, хлебапякарня, няпоўная сярэдняя школа, санаторый, амбулаторыя, тэлеграф. З 22.6.1941 г. Маларыта акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў пасёлку і раёне загубілі 3349 жыхароў. Дзейнічала падп. антыфашысцкая група. 20.7.1944 г. вызвалена войскамі 70-й арміі 1-га Бел. фронту і партызанамі брыгады імя Леніна. На тэр. раёна ў час акупацыі дзейнічалі падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. З 1946 г. ў Маларыце працавала МТС. Выпускалася газ. «Авангард». У 1944 г. быў адкрыты дзіцячы дом (у 1962 г. пераўтвораны ў школу-інтэрнат, з 1976 г. — сярэдняя школа). 11.6.1950 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага. З 1952 г. працавала школа меліярацыі (у 1954 г. пераўтворана ў ПТВ-155), з 1955 г. — агароднінасушыльны з-д. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у Маларыце 3,4 тыс. жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. З 23.12.1970 г. горад раённага падпарадкавання. У 1998 г. тут было 11 130 жыхароў.

У горадзе працуюць прадпрыемствы харчовай (малаказавод, агароднінасушыльны з-д) і дрэваапрацоўчай галіны прам-сці, раённыя аб'яднанні сельгастэхнікі, аграпрамтэхнікі і аграхіміі, камбінаты кааператыўнай прам-сці і быт. абслугоўвання насельніцтва, лясгас, лясніцтва,

*Адкрыццё марафону з нагоды святкавання 440-годдзя горада. 2006 г.*





Прадукцыя Маларыцкага агароднінасушыльнага завода.



Выстаўка дзіцячых работ у Цэнтры народнай творчасці.

меліярацыйныя арг-цыі «Брэстсельбуд» і «Брэстводбуд». ДЭУ-179, цэнтр калгаса «Маларыцкі». Дзейнічаюць СПТВ механізацыі сельскай гаспадаркі, ліцэй, 3 сярэднія школы і пач. школа-сад, 4 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, школа мастацтваў. Ёсць 2 б-кі, Дом культуры, Цэнтр нар. творчасці, муз. школа, дзіцяча-юнацкі клуб фізічнай падрыхтоўкі, стадыён, камп'ютэрны клуб, раённая арг-цыя ДТСААФ. Працуюць бальніца, паліклініка, 2 аптэкі, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. У Маларыце гасцініца, лазня, кінатэатр, рэстаран, універмаг, шэраг магазінаў і гандл. кропак. Архітэктурны помнік 2-й пал. 19 ст. — драўляная Мікалаеўская царква. Выдаецца раённая газ. «Голас часу». На тэр. Маларыты знаходзяцца брацкая магіла сав. воінаў і партызан, курган Славы, магіла ахвяр фашызму.

Горад Маларыта — радзіма засл. майстра спорту міжнар. класа па цяжкай атлетыцы Л.А.Тараненкі.

**АНТОНАВА** (мясц. Антунова) — вёска ў Велікарыцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 39 км ад Брэста. На скрыжаванні аўтадарог на Брэст, Кобрын, Ковель (Украіна). 31 гаспадарка, 53 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Радваніцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут было 74 жыхары. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак Антанова, 11 жыхароў. Пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ў складзе Польшчы. У вер. 1921 г. тут было 20 двароў, 144 жыхары. Вёска Антанова ўваходзіла ў Радваніцкую гміну Брэсцкага павета Палескага ваяв. У 1930 г. 21 двор, 144 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР. У 1940 г. вёска (488 жыхароў) у Велікарыцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. З чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У Вял. Айч. вайну ў 1942 г. акупанты расстралялі 47 мірных жыхароў, якія пахаваны за 1,5 км на Пд ад вёскі. На

Выстаўка дзіцячых работ у Цэнтры народнай творчасці.



фронце загінулі і прапалі без вестак 16 жыхароў. 31.3.1950 г. арганізаваны калгас імя Панамарэнкі (старшыня К.В.СіліВонік). У 1962—65 гг. у складзе Велікарыцкага с/с уваходзіла ў Брэсцкі р-н. У 1998 г. ў вёсцы было 43 гаспадаркі, 76 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Працуе магазін. За 3 км на ПнЗ ад яе ва ўрочышчы Панскае археал. помнік — курганны могільнік.


*Л.П.Зяленін.*

**АРЛЯНКА** (мясц. Урлянка) — вёска ў Гвозніцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад г. Малырата, 19 км ад чыг. ст. Знаменка (на лініі Брэст—Тамашоўка), 44 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Гвозніца—Знаменка. 36 гаспадарак, 91 жыхар (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. У 1905 г. вёска і маёнтак Урляндка (належаў памешчыку Яскалоўскаму). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, адносілася да Мяднянскай гміны Брэсцкага пав. У 1921 г. тут 48 двароў, 256 жыхароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Гвозніцкім с/с. Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. 85 двароў, 439 жыхароў. Працавалі пач. школа, магазін. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Арлянка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. ў вёсцы фашыстамі спалена 79 двароў, загублена 46 жыхароў. 23.9. 1943 г. ў баі з гітлераўцамі каля вёскі загінуў камандзір партыз. брыгады імя Сталіна Леанід Пятровіч Зяленін і 5 партызан. У гады вайны на франтах загінулі і прапалі без вестак 72 жыхары. 21.2.1950 г. ў вёсцы арганізаваны калгас імя Шверніка (старшыня А.І.Нічыпарук). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., 241 жыхар, у 1970 г. — 175 жыхароў. У 1962—65 гг. у складзе Брэсцкага р-на. У 1998 г. ў в. Арлянка налічвалася 44 гаспадаркі, 109 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік». Працуе магазін. Помнік на месцы бою партызан.

**АРЭХАВА** — вёска, цэнтр Арэхаўскага с/с, на паўд.-ўсх. беразе Арэхаўскага возера. За 22 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 76 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Маларыта—Олтуш. 229 гаспадарак, 778 жыхароў (2005).

У наваколлі вёскі выяўлена група стаянак каменнага веку і археал. помнікі зарубінецкай культуры 7—10 ст., часоў Кіеўскай Русі. Гэта сведчыць аб тым, што людзі засяляліся тут з глыбокай старажытнасці. Паводле легенды, у мяст. Арэхава ўлады ссылалі катаржнікаў, нявольнікаў, якія выкапалі асушальны канал, рэшткі якога захаваліся да нашых дзён. Некаторыя катаржнікі, адбыўшы свой тэрмін няволі, заставаліся тут жыць, будавалі сціплыя сядзібы. Існуе некалькі меркаванняў наконт паходжання назвы паселішча. Магчыма, назва ўтворана ад наймення возера ці ад прозвішча памешчыка Арэхава, якому ў мінулым належалі тутэйшыя землі.

Па пісьмовых крыніцах Арэхава вядома з 16 ст. Першыя звесткі пра паселішча адносяцца да 1546 г. Паводле інвентара Берасцейскага старосства, сяло Олтушскага войтаўства Палескай вол., 22 населеныя ўчасткі, 42 сям'і, працаваў млын. У 1668 г. тут былі 23 валокі зямлі, 1 валока належала уніяцкай царкве, 35 аселых гаспадарак. Упамінаецца Арэхава ў інвентарах 1682 і 1786 гг. У 1789 г. 28 валок зямлі, 419 жыхароў. Звесткі пра царкву маюцца ў інвентарах 1668, 1724, 1742, 1786 гг. У 1769 г. ў ваколіцах вёскі адбыўся бой рус. войск на чале з А.В.Суворавым з польскімі канфедэратамі, у якім паўстанцы былі разгромлены (загінула каля 200 чал.). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Арэхава ў складзе Рас. імперыі, сяло Брэсцкага пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 1860 г. тут адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1860-я г. — 579 рэвізскіх душ (234 мужчынскага, 245 жаночага полу), адносіліся да маёнтка Арэхава, які належаў памешчыку Капшэўскаму. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Олтушскай вол. У 1886 г. 85 двароў, 1088 жыхароў. Працавалі праваслаўныя царква і капліца, земскае нар. вучылішча (60 вучняў, у т.л. 4 дзяўчынкі). У 1900 г. ў вучы-



лішчы было 50 навучэнцаў (з іх 2 дзяўчынкі), настаўнікам працаваў Андрэй Лапатка. Маёнтак Арэхава ў сярэдзіне 19 ст. належаў С.М.Капшэўскай. Складаўся з хутара Ліпа, с. Аржэхава, в. Очын (усяго 717 душ). Тут знаходзіліся жылы дом і флігель, ляднік, свіран, птушнік, вінакурня, валоўня, аўчарня, свінарнік, кузня, млын і інш. пабудовы, а таксама сад. За ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. М.Капшэўскага сяло і маёнтак у яго былі канфіскаваны. У 1905 г. ў сяле 1477 жыхароў, у маёнтку — 40, у фальварку — 6 жыхароў (уладальнік шляхціц Батс). Дзейнічалі царква, капліца, школа. Асн. заняткам насельніцтва былі земляробства і жывёлагадоўля. Сяляне валодалі 3307 дзес. зямлі, з іх 217 дзес. належалі царкве. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ў Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 99 двароў, 548 жыхароў, у аднайменным фальварку — 1 двор, 4 жыхары. У чэрв. 1932 г. ў маёнтку Арэхава адбываліся хваляванні, калі ўлады адбіралі ў сялян сервітутныя землі (агульнага карыстання). Працавала школа (у 1937 — 71 вучань). У 1930-я г. дзейнічаў малітоўны дом пяцідзесятнікаў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска (128 двароў, 624 жыхары) — цэнтр сельсавета Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Меліся паравы млын, пач. школа, каап. магазін.

З канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Арэхава акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі ў вёсцы 110 двароў, загубілі 46 жыхароў. На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 29 вяскоўцаў. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік». Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у Арэхаве было 529 жыхароў. У 1998 г. — 258 гаспадарак, 770 жыхароў, у складзе калгаса «Зара». Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін; вапнавы з-д, рамонтныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь». Непадалёку ад вёскі знаходзіцца радовішча мелу. Дзейнічае царква святой Параскевы (адноўлена ў 1996). Помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну; мемарыяльная дошка ў памяць пра старшыню Арэхаўскага с/с Я.А.Бягезу, які загінуў ад рук бандытаў у 1947 г.

**АСАВАЯ** — вёска ў Макранскім с/с, за 13 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 55 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Макраны—Маларыта і Брэст—Ковель (Украіна). 84 гаспадаркі, 148 жыхароў (2005).


*Я.А.Бягеза.*

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Згодна з гасп. інвентаром 1566 г., сяло ў Палескай вол. Берасцейскага староства ВКЛ, 25 двароў. Дзяржаўная (каралеўская) уласнасць. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі. У складзе Кобрынскага пав. ўваходзіла ў Слонімскую, Літоўскую (з 1797), Гродзенскую (з 1801) губерні. У 1860-я г. вёска ў складзе маёнтка Ляхаўцы, які належаў памешчыку Плюшчэўскаму, 19 двароў, 175 жыхароў. На пач. 20 ст. ў Макранскай вол. Кобрынскага павета Гродзенскай губ. У 1905 г. тут 279 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы. У 1921 г. было 48 двароў, 288 жыхароў, у Макранскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1930 г. 80 двароў, у 1931 г. 500 жыхароў, у 1939 г. 474 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Макранскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 26 вяскоўцаў. 12.7.1950 г. арганізаваны калгас імя Суворава (старшыня Р.М.Шаламай). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у в. Асавая было 326 жыхароў, у 1970 г. — 494 жыхары. У 1962—65 гг. у складзе Брэсцкага р-на. У 1998 г. тут налічвалася 107 гаспадарак, 221 жыхар, у складзе калгаса «Новы шлях». Працуюць магазін, бібліятэка.

**АСТРОЎЕ** — вёска ў Чарнянскім с/с, на ўсх. беразе р. Асіпоўка (прыток Му-

хаўца). За 28 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 70 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Маларыта. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. маёнтак Астравок у Верхалескай вол. Кобрынскага павета Гродзенскай губ. У 1905 г. тут 38 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Калонія (у 1921 — 7 двароў, 36 жыхароў) у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Чарнянскім с/с Дзівінскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў вёсцы налічваліся 22 двары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. Астроўе акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1942 г. і сакавіку 1944 г. вёска была спалена, у ёй загінулі 12 мірных жыхароў. Пасля вайны адбудавана. З 8.8.1959 г. ў Маларыцкім р-не. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы было 63 жыхары, у 1970 г. — 48 жыхароў. У 1998 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе калгаса імя Крупскай.

**АЦЯТЫ** — вёска ў Олтушскім с/с, за 27 км ад горада і чыг. ст. Маларыта, 61 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Маларыта—Гвозніца—Радзеж. 15 гаспадарак, 36 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. адносілася да маёнтка Мутвіца памешчыка Басаткі. Паводле перапісу насельніцтва 1897 г. — 9 душ мужчынскага і 10 жаночага полу. У 1905 г. ў вёсцы 30 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзілі ў Олтушскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. тут было 14 двароў, 81 жыхар. У 1939 г. — 291 жыхар. З 12.10.1940 г. Ацяты ў складзе Радзежскага, з 16.7.1954 г. — Олтушскага сельсаветаў Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавалі пач. школа, магазін. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікі. З першых месяцаў акупацыі тут дзейнічала падп. група, якая да лютага 1942 г. перарасла ў партыз. атрад імя К.Я.Варашылава. 7.10.1942 г. фаш. захопнікі расстралялі 34 жыхароў вёскі. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск. На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 5 вяскоўцаў. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у Ацятах было 78 жыхароў, у 1970 г. — 106 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. налічвалася 16 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая». Працуе магазін.

**БАГУСЛАЎКА** — вёска ў Гвозніцкім с/с, за 22 км на З ад Маларыты, 19 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 53 км ад Брэста. 40 гаспадарак, 77 жыхароў (2005).

Паводле мясц. легенды, населены пункт заснаваны ва ўрочышчы Прыброддзе жыхарамі з сяла Арэхава, якія былі высланы сюды памешчыкам за непакорнасць. Першапачаткова паселішча наз. Прыброддзем. Паступова людзі абжывалі гэты невялікі балоцісты кавалак зямлі. Так нібыта з'явілася новая назва вёскі.

У сярэдзіне 19 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1857 г. тут заснавана шкляная гута. У 1885 г. прадпрыемства належала Ф.Радзівілу, а арандаваў яго шляхціц Вікенцій Вількашэўскі, было 49 рабочых, працавалі дзве печы. У 1860-я г. вёска адносілася да маёнтка Мутвіца Навалескай сельскай грамады, 36 душ мужчынскага і 43 жаночага полу (уласнасць памешчыцы Каміліі Басатка). У 1905 г. налічвалася 250 жыхароў. Маёнтак Багуслаўка з 1907 г. належаў банку. У 1910 г. ліквідаваны, раздроблены на 52 хутары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Олтушскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 22 двары, 114 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся маёнтак Багуслаўка, у 1930-я г. яго плошча складала каля 100 га зямлі. Працавала пач. школа, у 1937 г. ў ёй займаўся 41 вучань. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гвозніцкім с/с. У 1940 г. 74 двары, 404 жыхары. Дзейнічалі пач. школа, магазін. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Багуслаўка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вёска была спалена, загінулі 28 жы-



хароў (ліст. 1942, 1943). На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 17 вяскоўцаў. 22.7.1950 г. арганізаваны калгас імя Малянкова (старшыня С.І.Барысюк). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., 247 жыхароў, у 1970 г. — 254 жыхары. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. было 47 гаспадарак, 98 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік». Працуюць сельскі Дом культуры, б-ка, магазін. Помнік на магіле ахвяр фашызму. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».

**БОРКІ** — вёска ў Макранскім с/с, за 22 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 60 км ад Брэста. Аўдарогамі звязана з Брэстам, Кобрынам, Маларытай. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Макранскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. адносілася да маёнтка Лепар, які належаў Непакайчыцкай і Байкоўскай (апошняя з роду Лепарскіх). Паводле рэвізіі 1857, тут было 125 душ мужчынскага і 134 жаночага полу. У 1905 г. ў Борках налічвалася 618 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзілі ў Макранскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. тут было 114 двароў, 576 жыхароў (з іх 571 праваслаўных і 5 іудзеяў). Дзейнічала польская аднакласная школа. У 1930 г. ў Борках 130 двароў. З 12.10.1940 г. вёска ў Макранскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл., 175 двароў, 814 жыхароў. У 1941 г. была адчынена школа па ліквідацыі непісьменнасці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. Боркі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 23.9.1942 г. ням. карнікі спалілі вёску, загубілі 711 мірных жыхароў. Сярод ахвяр — 372 жанчыны, 130 дзяцей, 47 чалавек з в. Барысаўка Кобрынскага р-на і населеных пунктаў Ратнаўскага р-на Валынскай вобл. На франтах загінулі і прапалі без вестак 11 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска адбудавана. 1.8.1950 г. арганізаваны калгас імя Радзіюка (старшыня С.С.Карнялюк). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у Борках 204 жыхары, у 1970 г. — 161 жыхар. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. — 31 гаспадарка, 65 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава. Працуюць 2 магазіны. У вёсцы знаходзіцца аздараўленчы лагер «Бярозка». Ёсць помнік ахвярам фашызму, брацкая магіла воінаў 160-й стралк. дывізіі. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».

**БРАДЗЯЦІН** — вёска ў Гвозніцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Маларыты, 16 км ад чыг. ст. Знаменка (на лініі Брэст—Тамашоўка), 41 км ад Брэста. На аўтадарозе Гвозніца—Знаменка. 76 гаспадарак, 155 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 16 ст. Паводле юрыд. актаў, у 1566 г. сяло ў складзе Гвозніцкага войтаўства Палескай вол. Берасцейскага староства ВКЛ, 18 двароў. 40 сем'яў. У 17 ст. цэнтр Брадзяцінскага войтаўства Палескага ключа Брэсцкага эканоміі. У 1668 г. — 21 валока зямлі, 26 аселых гаспадарак. Упамінаецца ў інвентарах 1724, 1742, 1786 гг. У 1789 г. вёска Рудскога ключа Брэсцкай эканоміі, 50 валок зямлі, 52 двары, 294 жыхары. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. 20.11.1795 г. Кацярына II падаравала вёску (205 душ мужчынскага і 192 жаночага полу) статс-даме графіні Скаўронскай. Уваходзіла ў Брэсцкі пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 1841 г. маёнтак Брадзяцін належаў Антону Яскалоўскаму. У маёнтку было 15 дваровых сялян, у вёсцы — 245 душ. Займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй. Побач з вёскай дзейнічалі цагельня, вінакурня, піцейны дом. У пач. 1860-х г. адносілася да маёнтка Ірляндка, 332 рэвізскія душы, уласнасць памешчыка Яскалоўскага. За ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. маёнтак уладамі канфіскаваны. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Мяднянскай вол. Брэсцкага павета. У 1905 г. 641 жыхар.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Мяднянскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 53 два-

ры, 372 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Гвозніцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. 121 гаспадарка, 579 жыхароў. Працавалі ветраны млын, магазін. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1942 г. вёска спалена, ням. акупанты загубілі у ёй 52 жыхароў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 55 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1948 г. арганізаваны калгас «Бальшавік» (старшыня П.П.Дзібук). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы было 522 жыхары, у 1970 г. — 429 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. 95 гаспадарак, 177 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік». У вёсцы працуюць пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Помнікі на магіле ахвяр фашызму і землякам. Вёска Брадзяцін увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».

**ВЕЛІКАРЫТА** — вёска, цэнтр Велікарыцкага с/с, на паўн.-зах. беразе р. Рыта. За 20 км на ПнЗ ад Маларыты, 9 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 34 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Брэст—Макраны. 145 гаспадарак, 351 жыхар (2005).

Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 16 ст., с. Рыта Вялікая Ляхаўскага войтаўства Палескай вол. Берасцейскага староства ВКЛ. У 1566 г. тут 30 зямельных участкаў, 59 сем'яў, працавалі вадзяны млын, Ільінская царква. Згодна з інвентаром 1682 г., сяло Рудскага войтаўства Палескага ключа Берасцейскай эканоміі, 34 валокі зямлі, 91 аселая гаспадарка. Сяляне выконвалі павіннасці Берасцейскаму замку. Звесткі пра царкву ёсць у дакументах 1668, 1724, 1786 гг. У 1768—1890 гг. непадалёку ад сяла ва ўрочышчы Руда дзейнічала металургічная мануфактура, заснаваная А.Тызенгаўзам. Побач працаваў завод па вытв-сці медных катлоў. У 1771 г. на тэр. металургічнага з-да былі ўведзены ў эксплуатацыю 2 вадзяныя млыны, валюшня, лесапільны і гарбарны з-ды. У 1789 г. 109 двароў, 700 жыхароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай



*Свята-Ільінская царква ў в. Велікарыта.*

(1795) у складзе Рас. імперыі. Сяло, цэнтр воласці Брэсцкага пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. 20.11.1795 г. Кацярына II падаравала вёску (425 душ мужчынскага і 430 жаночага полу) статс-даме графіні Скаўронскай. У 1864 г. было адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1857 г. 680 рэвізскіх душ (337 жанчын, 343 мужчыны), адносілася да маёнтка Руда памешчыка Ягміна. У вёсцы дзейнічала сельская грамада Велікарыцкая. У 1886 г. 68 двароў, 1022 жыхары, працавалі валаснoе праўленне, земскае нар. вучылішча, карчма, царква, паштовая станцыя, крама. Была цэнтрам праваслаўнага прыхода, у 1885 г. каля 1500 вернікаў. У 1886 г. ў вучылішчы навучалася 45 хлопчыкаў, у 1900 г. — 61 вучань (у іх ліку 1 дзяўчынка). У 1905 г. 901 жыхар. Бытавалі хатнія промыслы: ткацтва, збор лекавых траў, ягад, грыбоў, лоўля рыбы, сплаў лесу і інш.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска з'яўлялася цэнтрам гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 113 двароў, 648 жыхароў. У 1930-я г. тут працавалі с.-г. гурток, пажарная варта, камітэт грамадскай дапамогі, аднакласная школа. Дзейнічала ячэйка КПЗБ. У 1930 г. 137 двароў. З вер. 1939 г. вёска (1679 жыхароў) у складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр Велікарыцкага с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. З 1940 г. ў вёсцы працавала МТС, дзе меліся 4 трактары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінуў і прапаў без вестак 31 вясковец. 16.2.1949 г. аргані-



заваны калгас імя Сталіна (старшыня С.А.Хамічук). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы 432 жыхары, у 1970 г. — 486 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. 140 гаспадарак, 389 жыхароў, цэнтр калгаса імя XXII з'езда КПСС. У вёсцы захаваліся старадаўні парк і будынак паштовай станцыі 18 ст., Свята-Ільінская царква (адноўлена ў 1995). Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, участковая бальніца, 2 магазіны, Дом культуры, б-ка, ашчадны банк, аптэка, аддз. сувязі. Дзейнічае лясніцтва. Помнікі на брацкай магіле воінаў і партызан, мірных жыхароў. Каля мясц. школы пахавана ўраджэнка вёскі — падпольшчыца-камсамолка, удзельніца партыз. руху В.В.Абрамук, якая была расстраляна ням.-фаш. захопнікамі. На яе магіле ўстаноўлены помнік. Вёска Велікарыта — радзіма бел. мастака, жывапісца, графіка, майстра экслібрыса М.М.Селешчука.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Лукаўскім с/с, за 18 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 47 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Брэст—Ковель (Украіна). 66 гаспадарак, 123 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. выселак Высокае Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. 6 жыхароў. У 1921—39 гг. калонія ў складзе Польшчы. У 1921 г. 25 двароў, 123 жыхары. Уваходзіла ў Макранскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1930 г. 30 двароў. Працавала аднакласная школа. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Лукаўскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 13 вяскоўцаў. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. 258 жыхароў, у 1970 г. — 304 жыхары. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў вёсцы 70 гаспадарак, 145 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны партызан». Працуюць базавая школа, магазін.

**ВЯЛІКІ ПАЎЛОПАЛЬ** — вёска ў Чарнянскім с/с, каля канала Новая Асіпоўка. За 34 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 61 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бельск—Чарняны і далей па шашы Кобрын—Маларыта. 55 гаспадарак, 122 жыхары (2005)

Паселішча ўзнікла ў выніку ажыццяўлення Сталыпінскай рэформы. Пасля адмены прыгоннага права за 6 км на Пн ад в. Дарапеевічы з'явіўся невялікі маёнтак памешчыка Паўлава, дзе былі пабудаваны гута і вінакурны з-д. Маёнтак уваходзіў у Верхалескую вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. да маёнтка адносілася 265 рэвізскіх душ, валодаў ім памешчык Капшэўскі. У 1887 г. на шкляным з-дзе працавалі 44 рабочыя, было выраблена шкла на 9 тыс. рублёў. У 1883 г. Паўлопаль і суседнюю в. Дарапеевічы купіў ген.-маёр А.І.Тальма — 1200 га зямлі. Сам ён жыў у Познані, гаспадаркай кіраваў аканом Дзятлаў. У час агр. рэформы Тальма раздаў землі сялянам, а маёнтак прапанаваў выкупіць. Паступова землі пачалі засяляцца. Праз заселеныя землі праходзіла дарога. Хутары на У ад дарогі наз. Малы Паўлопаль, на З — Вялікі Паўлопаль. У 1905 г. ў Вялікім Паўлопалі 26 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу 1921 г., калонія ў Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 39 двароў, 283 жыхары. З 1924 г. дзейнічала ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. хутар Вялікі Паўлопаль (160 жыхароў) у Чарнянскім с/с Дзівінскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. быў створаны калгас «17 Верасня». У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 10 жыхароў вёскі. З 1959 г. ў Маларыцкім р-не. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1970 г. ў вёсцы было 211 жыхароў. У 1998 г. 107 гаспадарак, 278 жыхароў, у складзе калгаса «17 Верасня». Працуюць пач. школа, клуб, 2 магазіны.

**ГАЛЁЎКА** (мясц. Галіўка) — вёска ў Олтушскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 69 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Маларыта—Радзеж. 56 гаспадарак, 119 жыхароў (2005).





*В.В.Абрамук.*

*М.М.Селяшчук.*



*Помнік экіпажу самалёта ЛІ-2 у в. Галёўка.*

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. ў складзе маёнтка Радзеж, які належаў Бянецкай. Паводле рэвізіі 1857 г., у вёсцы было 35 душ мужчынскага і 51 душа жаночага полу. Паселішча адносілася да Арэхаўскай сельскай грамады. У 1905 г. 24 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ўваходзіла ў Олтушскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў Галёўцы 27 двароў, 135 жыхароў (усе праваслаўнага веравызнання). З 1939 г. ў БССР, 296 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Олтушскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў вёсцы створаны калгас імя Сталіна (старшыня Д.І.Канашук). Дзейнічалі пач. школа, магазін. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. Галёўка акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 76-й стралк. дывізіі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 13 жыхароў вёскі. 15.12.1949 г. ў вёсцы адноўлены калгас імя Сталіна (старшыня П.С.Бярчук). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., 293 жыхары, у 1970 г. — 292 жыхары. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. 66 гаспадарак, 140 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба». У вёсцы дзейнічаюць сельскі Дом культуры, б-ка, магазін. Помнік сав. лётчыкам, якія загінулі ў ліпені 1944 г.

**ГАРОХАВІШЧА** (мясц. Вылыёны, Вылыяны, Лазы) — вёска ў Маларыцкім с/с, за 11 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 63 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Маларыта—Радзеж. 21 гаспадарка, 30 жыхароў (2005).

Заснавалі хутар у канцы 19 ст. сяляне, якія купілі зямлю ў графіні А.М.Маркоўскай. У пач. 20 ст. вядома як урочышча Гарохава. У 1905 г. ў складзе Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., 13 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы, у Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў складзе Гвозніцкага с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. 21 двор, 109 жыхароў. У канцы чэрв. 1941 г. ў наваколлі вёскі вялі жорсткія баі з ням.-фаш. захопнікамі падраздзяленні 75-й стралк. дывізіі. У вер. 1943 г. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 яе жыхароў. Пасля вайны адбудавана. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., 60 жыхароў, у 1970 г. — 111 жыхароў. У 1998 г. налічвалася 28 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса «40 гадоў БССР».

**ГВОЗНІЦА** — вёска, цэнтр Гвозніцкага с/с, за 15 км на ПнЗ ад Маларыты, 12 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 46 км ад Брэста. На аўтадарозе Збураж—Брадзяцін. 230 гаспадарак, 617 жыхароў (2005).

З пакалення ў пакаленне перадаецца паданне, што некалі на месцы сучаснай вёскі была кузня, у якой кавалі, рабілі цвікі (мясц. гвозні). Магчыма, ад гэтага назва паселішча. Геалагічныя даследаванні паказваюць, што вёска знаходзіцца на беразе былога стараж. возера.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Паводле рэвізіі Берасцейскага староства ў 1556 г. сяло, цэнтр Гвозніцкага войтаўства Палескай вол., 29 двароў, 65 сем'яў, працавалі 2 вадзяныя млыны, 2 валокі зямлі належалі царкве. У 17 ст. Гвозніца ў складзе Брадзяцінскага войтаўства Па-



лескага ключа Брэсцкай эканоміі. У 1668 г. было 17 аселых гаспадарак, 32 валокі зямлі, 2 валокі належалі царкве, 2/3 — дзяку. Згодна з інвентаром 1682 г., меліся 32 гаспадаркі. Упамінаецца ў інвентарах 1724 і 1735 гг., у Гвозніцы 34 валокі, 39 маргоў. Звесткі пра мясц. царкву ў 1668, 1724, 1786 гг. У 1789 г. 35 валок зямлі, 47 двароў, 277 жыхароў, у складзе Рудскага ключа. У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. 20.11.1795 г. Кацярына II падаравала вёску (206 рэвізскіх душ мужчынскага і 201 жаночага полу) статс-даме графіні Скаўронскай. У 1854 г. ў Гвозніцы 26 цяглых двароў, 239 рэвізскіх душ. Сяло належала памешчыцы Высоцкай. У 1860-х г. адносілася да маёнтка Гвозніца, уладанне Высоцкай і Відацкага, 306 рэвізскіх душ. У 1875 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1886 г. 41 двор, 422 жыхары, дзейнічалі земскае нар. вучылішча, карчма, праваслаўная царква. У вучылішчы навучаліся 37 хлопчыкаў, у 1900 г. — 32 хлопчыкі. У канцы 19 ст. сяло ў Мяднянскай вол., належала памешчыку Камінскаму, маёнтак — Фрэеру (у 1822 брэсцкі маршалак). У 1905 г. ў сяле 721 жыхар, у маёнтку — 32 (належаў Ю.М.Бурс).

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., вёска ў Мяднянскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 93 двары, 526 жыхароў. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. У 1930 г. было 110 двароў. З вер. 1939 г. вёска (977 жыхароў) у БССР. З 12.10.1940 г. — цэнтр Гвозніцкага с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавалі ветраны млын, пач. школа, магазін. У 1940 г. 179 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад вёскі, ва ўрочышчы Клён, базіраваўся партыз. атрад імя Варашылава. Гвозніца была некалькі разоў спалена (167 двароў), загінуў 31 жыхар. На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 32 вяскоўцы. 2.8.1950 г. арганізаваны калгас імя Булганіна (старшыня Р.І.Сінчук). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы 715 жыхароў, у 1970 г. — 706 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. налічвалася 235 гаспадарак, 640 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік». Тут размешчаны сядзібы сельсавета і калгаса, рамонтныя майстэрні, Свята-Успенская царква (пабудавана ў 1992). Працуюць базавая школа, дзіцячы сад, комплексна-прыёмны пункт, аддз. сувязі, сельскі Дом культуры, б-ка, ашчадны банк, фельч.-акушэрскі пункт, пастваенізаванай пажарнай часці, магазін. Помнік на брацкай магіле сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму. Курган Славы ў гонар партызан.



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму ў в. Гвозніца.*

**ГОРЫ** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 26 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 56 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Кобрын—Маларыта. 34 гаспадаркі, 107 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. засценак у Кобрынскім пав. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, засценак у Азяцкай гміне





Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Згодна з перапісам насельніцтва 1921 г. — 22 двары, 127 жыхароў (123 праваслаўнага, 4 каталіцкага веравызнання). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. хутар у Чарнянскім с/с Дзівінскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1942 г. фаш. акупанты расстралялі 2 сям'і (16 жыхароў) хутара за 2 км ад паселішча. У 1975 г. астанкі ахвяр былі перапахаваны ў в. Чарняны. На месцы расстрэлу ў 1985 г. насыпаны курган Памяці. У 1950 г. жыхары паселішчаў Горы, Звозы, Лесавек аб'ядналіся ў калгас імя Вышынскага. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., хутар, 133 жыхары. З 8.8.1959 г. ў Маларыцкім р-не. У 1970 г. — вёска, 117 жыхароў. У 1998 г. было 39 гаспадарак, 110 жыхароў, у складзе калгаса імя Крупскай. Працуе магазін.

**ГРУШКА** — вёска ў Лукаўскім с/с, за 17 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 47 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Маларыта. 45 гаспадарак, 79 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. выселак Грушка ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут 27 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, калонія ў Макранскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Згодна з перапісам насельніцтва 1921 г. — 15 двароў, 73 жыхары. У 1930 г. 23 двары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска (33 двары) у Лукаўскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1941 г. ў вёсцы 33 двары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1943 г. ў Грушцы спалена 28 двароў. На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 15 жыхароў вёскі. 18.2. 1950 г. арганізаваны калгас імя М.С.Будзённага (старшыня П.К.Асіпук). У 1953 г. пабудавана пач. школа. У гэты час вёска ўваходзіла ў склад калгаса «Чырвоны партызан». Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы было 189 жыхароў, у 1970 г. — 267 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. 54 гаспадаркі, 91 жыхар, у складзе калгаса «Чырвоны партызан».

**ГУСАК** — вёска ў Велікарыцкім с/с, на р. Рыта. За 18 км на ПнЗ ад Маларыты, 8 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 36 км ад Брэста. На шашы Брэст—Макраны. 102 гаспадаркі, 226 жыхароў (2005).

У наваколлі вёскі захаваўся археал. помнік — селішча 8—10 ст. Паселішча з пачатку свайго існавання мела зігзагападобную планіроўку, якая нагадвала абрысам гусака (адсюль і назва вёскі). У 19 ст. паблізу вёскі, ва ўрочышчы Руда, працавалі металургічны і цагельны з-ды. У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска вядома як выселак у Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут 104 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска (у 1921 — 38 двароў, 244 жыхары) уваходзіла ў Велікарыцкую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1930 г. было 36 двароў. Да вёскі далучыўся б. хутар Беразіна (у 1930 — 9 двароў). У канцы 1939 г. ў в. Гусак налічвалася 187 жыхароў, дзейнічалі цагельны з-д, паравы млын. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Велікарыцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. ням. акупанты расстралялі 11 мірных жыхароў, якія пахаваны ў в. Велікарыта. На фран-



*Паштовая станцыя ў в. Гусак.*





Свята-Прачысценская царква ў в. Дарапеевічы.

тах вайны загінулі і прапалі без вестак 13 вяскоўцаў. 19.2.1949 г. арганізаваны калгас імя Молатава (старшыня К.І.Карпук). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у в. Гусак 203 жыхары, у 1970 г. — 432 жыхары. У 1998 г. было 111 гаспадарак, 236 жыхароў. Працуюць магазін, аддзяленне «Руда» рыбгаса «Сакалова», турыстычная база, база Брэсцкага т-ва «Дынама».

**ДАРАПЕЕВІЧЫ** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 30 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 60 км ад Брэста. Аўтадарогай звязана з Маларытай. 155 гаспадарак, 409 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах паселішча вядома з 16 ст. Сяло Дарапеевічы — цэнтр войтаўства Палескай вол. Берасцейскага староства ВКЛ. У 1566 г. тут 30 зямельных участкаў, 66 сем'яў, працавалі 2 млыны. Згодна з інвентаром 1668 г., сяло, цэнтр Дарапеевіцкага войтаўства, мелася 31 валока зямлі, было 25 сем'яў. У 1671 г. пабудавана драўляная Свята-Прачысценская царква, якая захавалася да цяперашняга часу. У 1682 г. сяло ў Чарнянскім войтаўстве Палескага ключа Брэсцкай эканоміі, налічвалася 38 аселых гаспадарак, 34 валокі зямлі, 2 валокі належалі царкве. Звесткі пра вёску ёсць у інвентарах за 1724, 1742, 1786 гг. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. Сяло ў Кобрынскім пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 1860-я г. адносілася да маёнтка Паўлопаль памешчыка Капшэўскага, 132 душы мужчынскага і 133 жаночага полу, у складзе Дарапеевіцкай сельскай грамады. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло ў Верхалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. было 29 двароў, 326 жыхароў, дзейнічалі царква, карчма. У 1905 г. тут 546 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы, у Навасёлкаўскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. налічвалася 119 двароў, 622 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска ў Чарнянскім с/с Дзівінскага р-на Брэсцкай вобл. Працавалі пач. школа, паравы і ветраны млыны, 2 магазіны. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Дарапеевічы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1944 г. акупанты загубілі 45 мірных жыхароў вёскі. 27.7.1949 г. арганізаваны калгас «Новы шлях». Першы старшыня гаспадаркі І.М.Швайко загінуў ад рук бандытаў 2.8.1949 г. На франтах загінулі і прапалі без вестак 14 жыхароў вёскі. У вайну тут базіраваўся партыз. атрад «Баявы». З 8.8.1959 г. вёска (599 жыхароў) у Маларыцкім р-не. У 1971 г. налічвалася 216 гаспадарак, 699 жыхароў. У 1998 г. 172 гаспадаркі, 435 жыхароў, цэнтр калгаса «17 Верасня». На тэр. вёскі знаходзяцца калгасная сядзіба, ветэрынарны ўчастак, рамонтныя майстэрні. Працуюць базавая школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ашчадны банк, 2 магазіны, царква. Помнік ахвярам фашызму і землякам, мемарыяльная дошка І.М.Швайко. Пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку ў Афганістане 29.7. 1985 г. загінуў ураджэнец вёскі І.Ф.Кіцель. На тэр. Дарапеевіч ёсць археал. помнік — вялікі камень, які нагадвае фігуру чалавека, вышыня каля 2 м. Адносіцца да эпохі жал. веку ці ранняга феадалізму.



І.Ф.Кіцель.

**ДВОРЫШЧА** — вёска ў Олтушскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 55 км ад Брэста. На аўтадарозе Олтуш—Маларыта. 128 гаспадарак, 408 жыхароў (2005).

Паводле мясц. легенды, у даўнія часы тут быў панскі маёнтак, каля яго стаяла царква. Аднойчы людзі ўбачылі на месцы

царквы возера. Паблізу сяляне пачалі высякаць лес, будаваць хаты. Так побач з маёнткам утварылася паселішча. На пач. 20 ст. ўяўляла сабой казённую лясную дачу ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут 6 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Олтушскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 10 двароў, 66 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Олтушскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 7 жыхароў вёскі. 18.1.1950 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь» (старшыня Г.К.Бабура). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., было 225 жыхароў, у 1970 г. — 266 жыхароў. У 1998 г. ў вёсцы 114 гаспадарак, 366 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога».

**ДОБРАЕ** — вёска ў Арэхаўскім с/с, за 18 км на Пд ад Маларыты, 11 км ад чыг. ст. Хаціслаў (на лініі Брэст—Ковель), 72 км ад Брэста. На аўтадарозе Хацілаў—Арэхава. 20 гаспадарак, 50 жыхароў (2005).

**ДОБРАСАВА** — вёска ў Макранскім с/с, за 24 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 52 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Брэст—Ковель (Украіна). 20 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

*Возера каля в. Дворышча.*



У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Макранскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1862 г. было 6 двароў, 55 жыхароў, у складзе маёнтка Макраны, які належаў Райскім. У 1905 г. ў вёсцы 81 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Макранскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 12 двароў, 49 жыхароў. У 1930 г. 22 двары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Макранскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 8 вяскоўцаў. 18.2.1949 г. арганізаваны калгас «Камсамолец» (старшыня С.І.Самасюк). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., было 133 жыхары, у 1970 г. — 128 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Добрасава налічвалася 25 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе калгаса імя С.М.Кірава.

**ДРОЧАВА** — вёска ў Арэхаўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Маларыты, 18 км ад чыг. ст. Хацілаў (на лініі Брэст—Ковель), 83 км ад Брэста. На аўтадарозе Хацілаў—Арэхава. 98 гаспадарак, 275 жыхароў (2005).

Утворана ў 1957 г. ў выніку ссялення суседніх хутароў Дрочава, Грані, Konішча, Шумы. У 1940 г. на хутарах налічвалася 60 двароў. У Вял. Айч. вайну ў 1944 г. было спалена 45 двароў, загінулі 27 жыхароў. У крас. 1950 г. арганізаваны калгас «Рассвет». Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы 171 жыхар, у 1970 г. — 391 жыхар. У 1998 г. было 102 гаспадаркі, 304 жыхары, у складзе калгаса «Зара». Працуюць пач. школа, клуб, б-ка, магазін.

**ДУБІЧНА** — вёска ў Велікарыцкім с/с, на зах. беразе р. Рыта. За 21 км на ПнЗ ад Маларыты, 5 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 37 км ад Брэста. 91 гаспадарка, 170 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. было 226 рэвізскіх душ (108 мужчынскага, 118 жаночага полу), адносілася да маёнтка Руда, уладан-



ня памешчыка Ягміна, сельская грамада Дубічанская. У 1885 г. ў маёнтку Дубічна засн. шклозавод, дзейнічаў паравы рухавік, працавалі 500 рабочых. Прадпрыемства належала І.Шульбергу. У 1905 г. налічвалася 593 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. 60 двароў, 384 жыхары. Вёска знаходзілася ў складзе Велікарыцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. Дзейнічала аднакласная школа, мелася чытальня. У 1930 г. 58 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска (561 жыхар) у Велікарыцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. Дубічна акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 22 жыхары вёскі. 1.8.1950 г. арганізаваны калгас імя Матросава (старшыня П.М.Кардзялюк). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы было 488 жыхароў, у 1970 г. — 555 жыхароў. У 1998 г. 110 гаспадарак, 203 жыхары, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. У наваколлі вёскі знаходзіцца цар-дуб, узрост якога каля 800 гадоў. Працуюць аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, магазін. Помнік археалогіі — стаянка жал. веку.

У в. Дубічна нарадзіўся М.І.Пекус, партызан, падпольшчык, удзельнік антыфаш. руху ў гады Вял. Айч. вайны.

**ЗААЗЁРНАЯ** (да 1964 г. Анна-Спаская) — вёска ў Олтушскім с/с, каля Олтушскага возера. За 18 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 61 км ад Брэста. Аўтадарогай звязана з Маларытай. 78 гаспадарак, 211 жыхароў (2005).

Узнікла паселішча ў 19 ст. Дачка памешчыка Сяргея Парошына Ганна выйшла замуж за кн. Спаскага і атрымала ў пасаг маёнтак, які быў названы Анна-Спаск. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1860-х г. адносілася да маёнтка Олтуш, Аннаспаскай сельскай грамады, 83 душы мужчынскага і 88 жаночага полу. У 1905 г. 410 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Згодна з перапісам насельніцтва 1921 г., у Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 21 двор, 140 жыхароў. З вер. 1939 г. вёска (288 жыхароў) у складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Олтушскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Дзейнічала пач. школа, магазін. З канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Заазёрная акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі і прапалі без вестак 13 жыхароў вёскі. У 1948 г. тут створаны калгас імя Леніна (старшыня Ф.М.Вакулюк). У 1959 г. было 286 жыхароў, у 1970 г. — 262 жыхары. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў вёсцы налічвалася 82 гаспадаркі, 229 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба».

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Лукаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 56 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая перакрыжоўвае шашу Брэст—Ковель (Украіна). 63 гаспадаркі, 120 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Дарапееўіцкім войтаўстве Палескай вол. Берасцейскага староства, 12 двароў, 20 сем'яў. Згодна з інвентаром Берасцейскай эканоміі, у 1668 г. сяло, меліся 10 аселых валок зямлі, 15 гаспадарак. У 1682 г. сяло ў Чарнянскім войтаўстве Палескага ключа Берасцейскай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. 20.11.1795 г. Кацярына II падаравала Забалацце (125 душ мужчынскага і 130 жаночага полу) статс-даме графіні Скаўронскай. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў складзе Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. адносілася да маёнтка Руда, які належаў памешчыку Ягміну, 92 душы мужчынскага і 97 жаночага полу. У 1886 г. было 18 двароў, 297 жыхароў. У 1905 г. ў сяле 531 жыхар. Побач знаходзіўся фальварак Забалацце (13 жыхароў) і выселак (6 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Працавала аднакласная школа. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г. вёска ў Макранскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 73 два-


*М.І.Пекус.*

*Помнік закатаваным мірным жыхарам і воінам-землякам у в. Забалацце.*

ры, 358 жыхароў. У 1930 г. налічваўся 81 двор. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска (124 двары, 816 жыхароў) і фальварак (1 двор, 4 жыхары) у Макранскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавала пач. школа. З канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. Забалацце акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23.9.1942 г. ням. акупанты спалілі вёску (151 двор), загубілі 323 жыхароў. Ахвяры фашызму пахаваны ў цэнтры вёскі. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі і прапалі без вестак 28 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска адбудавана. 30.7.1950 г. арганізаваны калгас імя Свярдлова (старшыня Р.С.Міхальчук). У 1959 г. вёска ў Лукаўскім с/с, 281 жыхар, у 1970 г. — 313 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Забалацце 75 гаспадарак, 164 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоны партызан». Працуюць базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. Помнік на магіле ахвяр фашызму. Забалацце ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь». На тэрыторыі вёскі знаходзіцца аздараўленчы лагер «Лукаўскі».

**ЗАМОШША** — хутар у Велікарыцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Маларыты, 6 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 35 км ад Брэста. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

У мінулым хутар уваходзіў у склад Велікарыцкай гміны. У 1930 г. былі 2 двары.

**ЗАМШАНЫ** — вёска ў Маларыцкім гар. Савеце, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Маларыта, 48 км ад Брэста. На шашы Кобрын—Маларыта. 225 гаспадарак, 585 жыхароў (2005).

По пісьмовых крыніцах Замшаны вядомы з 1566 г. ў складзе Ляхавіцкага войтаўства Палескай вол. Берасцейскага пав. Працаваў млын. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. Уваходзілі ў Слонімскую, Літоўскую, з 1801 г. ў Гродзенскую губерні. У пач. 1860-х г. дзярж. ўласнасць, 164 рэвізскія душы мужчынскага і 205 жаночага полу, у складзе Замшанскай сельскай грамады (раней



Пажэжынскай), дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1886 г. сяло ў Маларыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., было 32 двары, 431 жыхар, меліся праваслаўная царква, піцейны дом. У 1905 г. 782 жыхары. Акрамя земляробства, сяляне займаліся ткацтвам, прадзеннем, зборам ягад, грыбоў, лекавых траў, лоўляй рыбы, кавальскім промыслам і інш. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу 1921 г., вёска ў Маларыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 108 двароў, 546 жыхароў. У 1928 г. налічвалася 168 двароў. Працавала аднакласная школа. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. У 1939 г. ў Замшанах было 988 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Маларыцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавалі пач. школа, магазін, спажывецкае т-ва. З канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захоп-



нікамі. У чэрв. 1941 г. ў наваколлі вёскі вялі жорсткія баі воіны 75-й стралк. дывізіі. У 1948 г. арганізаваны калгас «Праўда» (старшыня С.М.Карабейка). На франтах Вял. Айч. вайны загінулі і прапалі без вестак 20 вяскоўцаў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1970 г. 798 жыхароў. У 1998 г. было 246 гаспарадак, 685 жыхароў. Працуюць базавая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, аддз. сувязі, б-ка, магазін. Помнік на магіле воінаў і партызан.

**ЗАОР'Е** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 42 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 62 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бельск—Чарняны і далей па шашы Кобрын—Маларыта. 46 гаспадарак, 103 жыхары (2005).

Бытуе мясц. легенда, што ўладальніца в. Хабовічы (цяпер у Кобрынскім р-не) Вольга Сушыльская ў 1840 г. выселіла пяць сял. сем'яў за хутар Ор на неабжытую мясцовасць і выдзеліла ім каля 18 дзес. зямлі. Перасяленцы жылі паасобку, на хутарах. З цягам часу ўзнікла в. Заор'е. У пач. 20 ст. вёска ў Верхалескай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. было 200 жыхароў. Побач з вёскай знаходзілася леснічоўка Заор'е, 8 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ўваходзіла ў Навасёлкаўскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. тут 26 двароў, 142 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска (37 двароў, 204 жыхары) у Восаўскім с/с Дзівінскага р-на Брэсцкай вобл. З канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Заор'е акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1950 г. арганізаваны калгас «Дружба» (старшыня В.А.Паліцыла). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., вёска (250 жыхароў) у Навасёлкаўскім с/с Кобрынскага р-на, пазней у Чарнянскім с/с Маларыцкага р-на. У 1970 г. 240 жыхароў. У 1998 г. налічвалася 59 гаспадарак, 123 жыхары, у складзе калгаса «17 Верасня». Працуе пач. школа.

**ЗАРЫЧКА** — хутар у Хацiслаўскім с/с, каля р. Рыта. За 15 км на ПдУ ад Маларыты, 5 км ад чыг. ст. Хацiслаў (на лініі Брэст—Ковель), 69 км ад Брэста. 7 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

**ЗБУРАЖ** — вёска ў Маларыцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 60 км ад Брэста. На аўтадарозе Маларыта—Радзеж. 280 гаспадарак, 650 жыхароў (2005).

Старажылы расказваюць, што паселішча заснавалі сяляне з іншых суседніх населеных пунктаў. Магчыма, яно было названа ад слова «збіраць». У дадзеным выпадку тэрмін азначае насельніцтва, якое сабрана з розных паселішчаў. Асобныя часткі ці вуліцы вёскі і зараз мясц. жыхары называюць Залессе (пасяленне за лесам), Выган (пасяленне на месцы колішняга выгана), Кацельня (месца, дзе капалі гліну і была кацельня), Сярэдзіна. Спачатку гэтыя паселішчы існавалі самастойна, а з цягам часу былі аб'яднаны ў адзін населены пункт з найменнем Збураж.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяло ў Гвозніцкім войтаўстве Палескай вол. Берасцейскага староства ВКЛ. У 1566 г. тут 39 зямельных участкаў, 40 сем'яў. Згодна з інвентаром 1668 г., сяло ў Брадзяцінскім войтаўстве, 40 валок, 12 аселых гаспадарак. У 1682 г. ў складзе Брадзяцінскага войтаўства Палескага ключа Брэсцкай эканоміі, 12 аселых гаспадарак, 40 валок зямлі, 2 валокі належалі царкве. У чэрв. 1758 г. кароль Аўгуст III сваім прывілеем перадаў 20 валок зямлі з забудовамі, сял. аселасцю і іх павіннасцямі, далінамі, сенажацямі, лясамі ў Збуражы Нямцэвічам, мужу і жонцы, падчашым берасцейскім. Да гэтага зямля належала капітану Р.Ляпарскаму. У 1789 г. — цэнтр ключа, 96 сем'яў. Звесткі пра царкву ў 1724, 1742, 1786 гг. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. 18.8.1795 г. Кацярына II падаравала Збураж (224 рэвізскія душы мужчынскага і 246 жаночага полу) ген.-маёру Мікалаю Ланскому. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло ў Маларыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле


*Р.С.Блізнюк.*

рэвізіі 1850 г., маёнтак Збураж належаў памешчыку Мікалаю Патулаву, 15 дваровых, 336 душ сялян. У 1861 г. па выкупным акце сяляне маёнтка Збураж атрымалі надзельную зямлю. У 1860-я г. ў сяле налічвалася 567 рэвізскіх душ (291 мужчынскага і 276 жаночага полу), яно адносілася да маёнтка Збураж памешчыка Нефядовіча. Гэтаму ж маёнтку належалі 1216 рэвізскіх душ з вёсак Маларыта, Збураж, Мельнікі. У 1886 г. было 74 двары, 750 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, карчма. Маёнткам валодалі Чычэрыны, ім належала 8500 дзес. зямлі, у т.л. 3600 дзес. лесу. У 1905 г. ў Збуражы 1398 жыхароў, у маёнтку — 39 жыхароў. Апрача земляробства і жывёлагадоўлі, сяляне займаліся шавецкім, ткацкім, кравецкім, кавальскім, дрэваапрацоўчым і інш. промысламі.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ўваходзіла ў Маларыцкую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. налічвалася 124 двары, 788 жыхароў. У 1930-я г. да збуражскага маёнтка адносілася 224 га угоддзяў. Царква мела пл. 139 га. Працавала двухкласная школа, дзейнічала ячэйка КПЗБ. У 1931 г. 1246 жыхароў. 16.6.1936 г. ў выніку пажару згарэлі 17 жылых будынкаў з гасп. пабудовамі. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр Збуражскага с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавала пач. школа. У 1940 г. было 312 гаспадарак, 1418 жыхароў. З канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. Збураж акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1942—44 гг. яны спалілі 306 двароў, загубілі 47 мірных жыхароў. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі і прапалі без вестак 72 вяскоўцы. У крас. 1946 г. створаны калгас «Перамога», у які першапачаткова ўступілі 12 гаспадарак. З 16.7.1954 г. вёска ў Гвозніцкім с/с. У 1959 г. налічвалася 1088 жыхароў, у 1970 г. — 1147 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. было 310 гаспадарак, 760 жыхароў, у складзе калгаса «40 гадоў БССР». На тэр. вёскі знаходзяцца механічныя майстэрні, цагельны з-д. Працуюць сярэдняя школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, б-ка, магазін. Ёсць Свята-Пакроўская царква (пабудавана ў 1993). Помнік жыхарам, якія загінулі ў час Вял. Айч. вайны. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь». Непадалёку знаходзяцца радовішчы мелу і цагельнай сыравіны. Адна з вуліц носіць імя Р.С.Блізнюка, ураджэнца вёскі, актыўнага ўдзельніка падп. барацьбы ў Зах. Беларусі.

**ЗВОЗЫ** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 28 км на Пн ад горада і чыг. ст. Маларыта, 58 км ад Брэста. Аўтадарогамі звязана з Кобрынам і Маларытай. 8 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. было 80 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Засценак у Азяцкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., налічвалася 8 двароў, 54 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Чарнянскім с/с Дзівінскага р-на Брэсцкай вобл. З канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Звозы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі і прапалі без вестак 5 вяскоўцаў. У 1950 г. жыхары вёскі аб'ядналіся ў калгас імя Вышынскага. З 8.8.1959 г. вёска (82 жыхары) у Маларыцкім р-не. У 1970 г. 70 жыхароў. У 1998 г. ў в. Звозы 16 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса імя Крупскай.

**ЗЕЛЯНІЦА** — вёска ў Арэхаўскім с/с, каля р. Маларыта. За 25 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 79 км ад Брэста. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. хутар у Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. у Польшчы. Паводле перапісу 1921 г., хутар Зеляніца ў Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 2 двары, 12 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Арэхаўскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загі-



нулі і прапалі без вестак 8 жыхароў вёскі. У крас. 1950 г. арганізаваны калгас «Змагар» (старшыня І.І.Жох). У 1959 г. было 92 жыхары, у 1970 г. — 163 жыхары. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Зеляніца налічвалася 28 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса «Зара».

**КАРПІН** — вёска ў Маларыцкім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Маларыты, 59 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Маларыта—Олтуш. 15 гаспадарак, 35 жыхароў (2005).

У 1930 г. былі 2 двары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Маларыцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1959 г. 53 жыхары. У 1998 г. ў в. Карпін налічвалася 18 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Маларыцкі».

**КОЖУХ** — вёска ў Макранскім с/с, за 16 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 51 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Ляхаўцы—Маларыта. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2005).

У 1930 г. былі 2 двары. У 1998 г. 1 двор, 3 жыхары.

**ЛАЗІЦА** — вёска ў Олтушскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 64 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Олтуш—Маларыта. 36 гаспадарак, 86 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Населены пункт утвораны шляхам ссялення хутароў Драпачы, Грыці, Глюмакі, Карніцы, Рабчуны, Цары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., вёска ў Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 17 двароў, 97 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Олтушскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Лазіца акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 14 жыхароў. 29.3.1949 г. створаны калгас «Зара» (старшыня І.С.Абрамчук). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы было 156 жыхароў, у 1970 г. — 193 жыхары. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. налічвалася 39 гаспадарак, 845 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога».

**ЛАНСКАЯ** (мясц. Кобрынка) — вёска ў Олтушскім с/с, на зах. беразе Олтушскага возера. За 16 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 67 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Маларыта—Олтуш. 175 гаспадарак, 510 жыхароў (2005).

Населены пункт узнік у пач. 19 ст. Уладальнік маёнтка Олтушскі ключ памешчык Сяргей Парошын перасяліў сюды сялян з в. Олтуш і назваў новае пасяленне прозвішчам свайго дзеда па лініі маці ген. Мікалая Ланскога, якому Кацярына II за ваенныя заслугі ў 1796 г. падаравала Олтушскі ключ. У 1852 г. адносілася да маёнтка Олтуш памешчыка Віктара Парошына, 184 душы мужчынскага і 184 жаночага полу. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1864 г. тут 310 рэвізскіх душ, у складзе маёнтка Олтуш памешчыка Маймескула. У 1895 г. мясц. свяшчэннік Мікалай Макарэвік адкрыў школу. Сяляне не жадалі браць школу на сваё ўтрыманне, але згадзіліся толькі плаціць настаўніку. На ўтрыманне школы ішлі сродкі з папячыцельных сум. У 1905 г. вёска наз. Ланская-Кобрынка, налічвалася 654 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска Ланская-Кобрынская ўваходзіла ў Олтушскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. тут было 52 двары, 220 жыхароў. Працавала аднакласная школа. У 1937 г. ў ёй вучылася 118 дзяцей. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ.

З вер. 1939 г. вёска (490 жыхароў) у БССР. З 12.10.1940 г. ў Олтушскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавалі пач. школа, магазін. З канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі і прапалі без вестак 24 жыхары вёскі. 2.3.1950 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг» (старшыня Г.А.Касцючык). У 1959 г. было 444 жыхары. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1972 г. ў в.

Ланская 111 гаспадарак, 449 жыхароў. У 1998 г. налічвалася 182 гаспадаркі, 498 жыхароў, цэнтр калгаса «Дружба». На тэр. вёскі размешчаны сядзіба калгаса, механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак. Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, аддз. сувязі, амбулаторыя, гандл. цэнтр. Помнікі землякам і сакратару Маларыцкага падп. райкома камсамола Ф.Я.Маруду, які загінуў каля вёскі 7.7.1944 г.





*Ф.Я.Маруда.*

*А.М.Кіжаватаў.*

**ЛЕШНІЦА** — вёска ў Велікарыцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Маларыты, 7 км ад чыг. ст. Закруцін (на лініі Брэст—Ковель), 31 км ад Брэста. 23 гаспадаркі, 41 жыхар (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Вёска ўваходзіла ў склад Ляхавіцкага войтаўства Берасцейскага староства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. Лешніца ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1860-х г. адносілася да казённага маёнтка Руда; паводле рэвізіі 1857 г. — 32 душы мужчынскага і 37 жаночага полу. У 1905 г. ў вёсцы было 172 жыхары. Пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. Лешніца ў складзе Польшчы. Уваходзіла ў Велікарыцкую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. тут налічвалася 14 двароў, 77 жыхароў, у 1930 г. — 27 двароў. З вер. 1939 г. вёска (189 жыхароў) у БССР. З 12.10. 1940 г. ў Велікарыцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы 28 двароў. З канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На пачатку вайны Лешніца спалена (26 двароў), загінулі 17 мірных жыхароў. За 1,5 км ад вёскі ў 2 магілах пахавана больш за 80 мірных жыхароў, а таксама 20 жанчын і дзяцей — членаў сем'яў абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Сярод іх сям'я Героя Сав. Саюза А.М.Кіжаватава: маці Н.І.Кіжаватава, жонка К.І.Кіжаватава, дачка Нюра (15 гадоў), сын Іван (10 гадоў) і дачка Галя (2 гады). На франтах загінулі і прапалі без вестак 8 вяскоўцаў. У 1959 г. было 129 жыхароў, у 1970 г. — 123 жыхары. У 1962—65 гг. Лешніца ў Брэсцкім р-не. У 1998 г. налічвалася 25 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС. Працуюць Дом сац.-бытавых паслуг, магазін.

**ЛУКАВА** — вёска, цэнтр Лукаўскага с/с, на беразе Лукаўскага вадасховішча. За 20 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 50 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Брэст—Ковель (Украіна) і Кобрын—Маларыта. 273 гаспадаркі, 683 жыхары (2005).

У наваколлі вёскі на ўзбярэжжы воз. Лукаўскае ёсць група першабытных стаянак, якія адносяцца да эпохі мезаліту і неаліту. Яны з'яўляюцца сведкамі жыцця і дзейнасці тут людзей у старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Сяло ў Ляхавіцкім войтаўстве Палескай вол. Берасцейскага староства ВКЛ. У 1566 г. ў Лукаве налічвалася 23 двары, 53 сям'і. У акце замены фальваркаў і ў яго пацвярджэнні Лукава згадваецца ў 1564 і 1589 гг. 21.11.1657 г. каралеўскі камісар Андрэй Катовіч выдаў Лукаўскай царкве ліст на 2 валокі зямлі — Лабачэўскую і Хамічаўскую, на чыншавай плаце па 10 злотых за кожную. 3.7.1659 г. кароль Ян Казімір пацвердзіў гэты ліст. Паводле рэвізіі Берасцейскай эканоміі, у 1668 г. 25 валок зямлі, 2 валокі належалі уніяцкай царкве, 22 аселыя гаспадаркі. У 1682 г. сяло ў складзе Рудскага войтаўства Палескага ключа, налічвалася 25 валок зямлі, 33 аселыя гаспадаркі. Лукава ўпамінаецца ў дакументах і інвентарах у 1717, 1724, 1742, 1786 гг., у апісанні «грунтаў» у 1792 г. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. 20.11.1795 г. Кацярына II падаравала сяло (256 душ мужчынскага і 244 жаночага полу) статс-даме графіні Скаўронскай. Уваходзіла ў Брэсцкі пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Велікарыцкай вол. У 1860-я г. адносілася да казённага маёнтка Руда памешчыка Ягміна. 336 рэвізскіх душ. У 1874 г. адкрыта



земскае нар. вучылішча, дзейнічалі вучылішча (25 вучняў, у т.л. 3 дзяўчынкі), царква, карчма. У 1900 г. ў нар. вучылішчы было 39 вучняў, у т.л. 5 дзяўчынак. Парафіяльная царква ў Лукаве адносілася да брэсцкага дэканата і налічвала 827 вернікаў. Да маёнтка Лукава (уладальнік Коншын) належаў фальварак Забалацце, а да вёскі — урочышча Высокае. У 1905 г. налічвалася 759 жыхароў, у аднайменнай сядзібе — 3, ва ўрочышчы — 21 жыхар. Акрамя земляробства значная колькасць сялян займалася рыбалоўным промыслам.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ўваходзіла ў Макранскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 93 двары, 489 жыхароў. Дзейнічалі аднакласная школа, пажарная варта. З вер. 1939 г. вёска (912 жыхароў) у складзе БССР. З 12.10.1940 г. — цэнтр Лукаўскага с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. акупанты загубілі 12 мірных жыхароў. На франтах вайны загінуў і прапаў без вестак 21 вясковец. У 1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан» (старшыня М.Д.Чырук). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. 513 жыхароў, у 1970 г. — 722 жыхары. У 1962—65 гг. Лукава ў Брэсцкім р-не. У 1999 г. 283 гаспадаркі, 744 жыхары, цэнтр калгаса «Чырвоны партызан». 14.7.1957 г. ў вёсцы прайшоў 1-ы з'езд калгаснікаў раёна. Цяпер тут працуюць ТАА «Вілія», механічныя майстэрні, паляўнічая гаспадарка, ветэрынарны пункт. Ёсць сярэдняя школа, Дом культуры, дзіцячы сад, б-ка, аддз. сувязі, урачэбная амбулаторыя, царква (адноўлена ў 1992), кафэ, магазін. Помнікі на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, землякам, ахвярам фашызму. Тут размешчаны біялагічны заказнік Лукава (засн. ў 1994, пл. 1523 га, мае рэсп. значэнне). Да вёскі далучаны б. хутары Беразіна і Выганы.

**ЛЯСАВЕЦ** — вёска ў Чарнянскім с/с, на паўд.-зах. беразе р. Асіпоўка. За 29 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 59 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе да шашы Кобрын—Маларыта. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Азяцкай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут 140 жыхароў. Непадалёку ад вёскі знаходзіўся аднайменны маёнтак, 30 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. было 13 двароў, 98 жыхароў, у Азяцкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Чарнянскім с/с Дзівінскага, з 8.8.1959 г. — Маларыцкага р-на ў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 7 жыхароў вёскі. У 1950 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя Вышынскага. У 1962—65 гг. у Кобрынскім р-не. Паводле перапісу насельніцтва 1970 г., налічвалася 99 жыхароў. У 1998 г. было 22 гаспадаркі, 42 жыхары, у складзе калгаса імя Крупскай.

**ЛЯХАЎЦЫ** — вёска ў Макранскім с/с, на р. Рыта. За 8 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 56 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Макраны—Маларыта. 403 гаспадаркі, 1040 жыхароў (2005).

Першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах пра Ляхаўцы адносіцца да 1546 г. У 16 ст. сяло, цэнтр Ляхаўскага войтаўства



*Лукаўскае вадасховішча.*



*Свята-Мікольская царква ў в. Ляхаўцы.*

Палескай вол. Берасцейскага пав. У склад войтаўства ўваходзіла амаль палова тэр. сучаснага Маларыцкага р-на. У 1566 г. ў Ляхаўцах 26 двароў, 53 сям'і, дзярж. уласнасць. Звесткі пра паселішча згадваюцца ў актах замены фальваркаў у 1589 г., у выдзяленні фундуша царкве ў 1575 г., у інвентарах 1668 і 1670 гг. Згодна з інвентаром 1668 г., сяло ў складзе Рудскага войтаўства Палескага ключа Брэсцкай эканоміі, мела 30 мерных валок, безгаспадарчых валок 17, аселых гаспадарак — 27. У 1682 г. сяло, 32 гаспадаркі, 1 валока зямлі належала царкве. У 1713 г. пабудавана драўляная царква (захавалася да нашага часу). Бытуе легенда, што царква тут існавала яшчэ ў 11 ст. Упамінаецца яна таксама ў інвентарах 1721, 1724 і 1742 гг., у 1755 г. (прывілей караля Аўгуста III Лабачэўскім на зямлю ў Ляхаўцах). У 1786 г. сяло ў Збуражскім ключы, налічвалася 30 валок, 89 моргаў, на царкву 1 валока. У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло ў Маларыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1835 г. пабудавана Свята-Мікольская царква на могілках. У 1860-я г. сяло адносілася да маёнтка Ляхаўцы, які належаў Красінскай, 529 рэвізскіх душ (261 мужчына, 268 жанчын), сельская грамада Ляхаўская, раней Маларыцкая. У 1886 г. 66 двароў, 776 жыхароў, 2 царквы, карчма, нар. вучылішча. У 1905 г. ў сяле 1233 жыхары, у аднайменным пасёлку (былы маёнтак) — 151 жыхар. Бытавалі ткацкі, дрэваапрацоўчы, кавальскі і інш. промыслы.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ў Маларыцкім гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 232 двары, 1155 жыхароў, у іх ліку 1130 праваслаўнага, 16 каталіцкага і 9 іудзейскага веравызнання; у аколіцы Ляхаўцы — 18 двароў, 98 жыхароў (15 праваслаўных, 83 каталікі). У 1930 г. царкве належалі 128 га зямлі. Працавала двухкласная школа, у 1931 г. ў вёсцы 1729 жыхароў. З вер. 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска (2236 жыхароў) — цэнтр Ляхаўскага с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Дзейнічалі калгас, магазін, спажывецкае таварыства. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы чэрв. 1941 г. ў ваколіцах вёскі вялі жорсткія абарончыя баі воіны 75-й стралк. дывізіі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 92 жыхары вёскі. 22.7.1949 г. арганізаваны калгас «Новы шлях» (старшыня І.К.Качанка). З 16.7.1954 г. Ляхаўцы ў Макранскім с/с. У 1959 г. было 1593 жыхары, у 1971 г. — 431 гаспадарка, 1518 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1999 г. налічвалася 440 гаспадарак, 1179 жыхароў, у складзе калгаса «Новы шлях». У вёсцы працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарная лячэбніца, аддз. сувязі, 3 магазіны, нарыхтоўчая крама. Ёсць цэрквы Свята-Раства-Багародзіцкая (1713), Свята-Мікольская (1835) на могілках. Помнік на брацкай магіле 116 сав. воінаў і партызан.

**МАКРАНЫ** — вёска, цэнтр Макранскага с/с, за 23 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 53 км ад Брэста. На шашы Брэст—Ковель (Украіна). 270 гаспадарак, 704 жыхары (2005).

Па пісьмовых крыніцах паселішча вядома з 16 ст. як прыватнае сяло ў Берасцейскім старостве ВКЛ. Урочышча Макранскае ўпамінаецца ў 1546 г. ў апісанні мяжы паміж ВКЛ і Каронай Польскай. У 1564 г. сяльцо Макраны, уладанне Міхаіла Збірозкага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі, сяло,



цэнтр воласці Кобрынскага пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 1863 г. адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1860-я г. ў Макранскай сельскай грамадзе, 637 рэвізскіх душ (307 мужчын, 330 жанчын), адносілася да маёнтка Макраны, уласнасць Райскіх. У 1886 г. ў сяле 36 двароў, 511 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы, нар. вучылішча, паштовая станцыя на тракце Брэст—Кіеў. У нар. вучылішчы навучаліся 32 хлопчыкі. У 1900 г. было 50 вучняў (у іх ліку 2 дзяўчынкі). У 1905 г. ў Макранах 897 жыхароў, у маёнтку — 52 жыхары. Акрамя земляробства і жывёлагадоўлі, сяляне займаліся ткацкім, прадзільным, кавальскім і інш. промысламі.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу насельніцтва, у 1921 г. вёска, цэнтр гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 135 двароў, 666 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак, 4 дамы, 23 жыхары, 665 га зямлі, належаў Раеўскім. Гаспадарка тут была добра тэхнічна аснашчана: меўся трактар «Фардзон», паравая малацілка, сеялка, культыватары і інш., было 40 кароў. Працавала пач. школа, пажарная варта, малочны кааператыў. Дзейнічала ячэйка КПЗБ. У 1930 г. было 217 двароў. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска (1427 жыхароў) — цэнтр Макранскага с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. З 1940 г. ў вёсцы дзейнічаў калгас імя Кірава, першапачаткова ў ім было 17 гаспадарак, 200 га зямлі. Працавалі паравы млын і маслазавод. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны атрада «Баявы» разграмілі ў Макранах гарнізон, захапілі зброю, спалілі млын, маслазавод, збожжасховішча. Вёска вызвалена воінамі 114-га стралк. корпуса 70-й арміі. У вер. 1944 г. адноўлены калгас, якому перададзены землі маёнткаў Макраны, Кухарава. Для МТС адведзены землі маёнтка Руда. У 1959 г. 916 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1972 г. ў Макранах налічвалася 279 падвор'яў, 831 жыхар. У



*Помнік закатаваным мірным жыхарам у в. Макраны.*

1999 г. 288 гаспадарак, 777 жыхароў, цэнтр калгаса імя Кірава. У вёсцы працуюць рамонтныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. Царква Раства Багародзіцы (адбудавана ў 1997). Помнікі на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, ахвяр фашызму. Курган Славы воінам і партызанам. За 1,5 км ад вёскі знаходзіцца рэсп. геамарфалагічны помнік прыроды — Макранская выдма.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Маларыты, 58 км ад Брэста. Каля шашы Кобрын—Маларыта. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вядома як пас. Малінаўка ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага павета Гродзенскай губ. У 1905 г. тут быў 51 жыхар. Пасля Рыжскага мірнага дагавора ў 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ўваходзіла ў Велікарыцкую

гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў ёй было 9 двароў, 58 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Чарнянскім с/с Дзівінскага, з 8.8.1959 г. Маларыцкага р-на ў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 2,5 км на З ад вёскі ў 1941—44 гг. акупанты расстралялі членаў сем'яў абаронцаў Брэсцкай крэпасці, партызан і сав. актывістаў. На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 3 вяскоўцы. У 1959 г. было 79 жыхароў, у 1970 г. — 62 жыхары. У 1962—65 гг. у Кобрынскім р-не. У 1998 г. налічвалася 15 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса імя Крупскай. Помнік ахвярам фашызму.

**МАЛЫ ПАЎЛОПАЛЬ** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Маларыты, 65 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бельск—Чарняны і далей па шашы Кобрын—Маларыта. 40 гаспадарак, 90 жыхароў (2005).

Населены пункт узнік у выніку ажыццяўлення Сталыпінскай агр. рэформы. Пасля адмены прыгоннага права за 6 км на Пн ад в. Дарапеевічы з'явіўся невялікі маёнтак памешчыка Паўлава, дзе былі пабудаваны шкляны і вінакурны з-ды. Маёнтак уваходзіў у Верхалескую вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. ім валодаў памешчык Капшэўскі, якому належалі таксама 265 рэвізскіх душ (132 мужчыны, 133 жанчыны). У 1887 г. на гуце працавалі 44 рабочыя, было выраблена шкла на 9 тыс. рублёў. У 1883 г. Паўлаполь і в. Дарапеевічы купіў ген.-маёр А.І.Тальма — 1200 га зямлі. Сам ён жыў у Познані, гаспадаркай кіраваў аканом Дзятлаў. У час агр. рэформы Тальма раздаў землі сялянам у Дарапеевічах, а маёнтак Паўлопаль прапанаваў выкупіць. Паступова землі засяляліся, праз іх у хуткім часе прайшла дарога. Хутары, што знаходзіліся на У ад дарогі, наз. Малы Паўлопаль, тыя, што на З, — Вялікі Паўлопаль. У 1905 г. ў Малым Паўлопалі 26 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., у Малым Паўлопалі было 39 двароў, 283 жыхары, з іх 275 праваслаўных, 8 католікаў. З 1939 г. ў БССР. У 1998 г. налічвалася 107 гаспадарак, 278 жыхароў, у складзе калгаса «17 Верасня». Ёсць пач. школа, Дом культуры, 2 магазіны.

**МАЛЫЯ ДАРАПЕЕВІЧЫ** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Маларыты, 63 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Бельск—Чарняны і далей па шашы Маларыта—Кобрын. 19 гаспадарак, 34 жыхары (2005).

Населены пункт утварыўся з хутароў у 1940—50-я г. У 1998 г. было 28 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе калгаса «17 Верасня».

**МАСЕВІЧЫ** — вёска ў Велікарыцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Маларыты, 3 км ад чыг. ст. Закруцін (на лініі Брэст—Ковель), за 30 км ад Брэста. 209 гаспадарак, 449 жыхароў (2005).

Мясцовасць у наваколлі была заселена яшчэ ў стараж. часы. За 2 км на ПдЗ ад вёскі захаваўся курганны могільнік.

Па пісьмовых крыніцах Масевічы вядомы з 16 ст. Паводле юрыд. актаў Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі Расіі, у 1566 г. сяло Масевічы ў Ляхавіцкім войтаўстве Палескай вол. Берасцейскага староства ВКЛ, было 2 двары, 4 сям'і. У 1668 г. эканамічна знаходзілася ў заняпадзе. Сума павіннасцей складала 113 рублёў. Паводле інвентара 1682 г., меліся 4 валокі зямлі, 18 аселых гаспадарак. У 1789 г. ў складзе Рудскага ключа Брэсцкай эканоміі, 5 валок зямлі, 62 двары, 371 жыхар. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. 20.11.1795 г. Кацярына II падаравала вёску (277 душ мужчынскага і 236 жаночага полу) статс-даме графіні Скаўронскай. Уваходзіла ў Брэсцкі пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. У 1860-я г. адносілася да маёнтка Руда, уладанне памешчыка Ягміна, 319 рэвізскіх душ, сельская грамада Пажэжынская. У 1905 г. ў вёсцы налічвалася 828 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Згодна з перапісам насельніцтва 1921 г., было



102 двары, 591 жыхар, у складзе Веліка-рыцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1930 г. 218 двароў.

З вер. 1939 г. вёска (1284 жыхары) у складзе БССР. З 12.10.1940 г. — цэнтр Масевіцкага с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 88 жыхароў вёсак Масевічы і Пажэжын. 28.1.1950 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё» (старшыня Х.Я.Федарук). З 16.7.1954 г. ў Вялікарыцкім с/с. У 1959 г. было 545 жыхароў, у 1970 г. — 915 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў Масевічах 221 гаспадарка, 495 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях да камунізму». Працуюць сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Помнік партызанам і мірным жыхарам, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Да Масевічаў далучылася былая в. Беражкі.

**МЕЛЬНІКІ** — вёска ў складзе Хаціслаўскага с/с, на р. Маларыта. За 8 км на ПдУ ад Маларыты, 62 км ад Брэста; чыг. станцыя на лініі Брэст—Ковель (Украіна). 289 гаспадарак, 859 жыхароў (2005).

Паводле падання, тут, на рэчцы Кубанка, стаяў вадзяны млын. Паступова вакол рэчкі сяліліся людзі, і такім чынам узнік населены пункт. Мясцовасць была заселена яшчэ з глыбокай старажытнасці. Аб гэтым сведчаць археал. знаходкі ў наваколлі вёскі.

У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. вёска ў Маларыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Паводле рэвізіі 1853 г., тут было 116 душ, вёска ў складзе маёнтка Збураж памешчыка М.Р.Патулава. У 1860-я г. Мельнікі ўваходзілі ў склад маёнтка Збураж памешчыка Нефядовіча, 214 рэвізскіх душ. У 1905 г. ў вёсцы 648 жыхароў. Дзейнічалі промыслы: лоўля рыбы і ракаў, збор ягад, грыбоў, працаваў млын. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. налічвалася 88 двароў, 443 жыхары, вёска ўваходзіла ў Маларыцкую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1931 г. было 737 жыхароў, у 1939 г. — 952 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Хаціслаўскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавалі пач. школа, магазін. У 1940 г. створаны калгас «8 Сакавіка». У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Мельнікі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 29 вяскоўцаў. Непадалёку ад вёскі 2 магілы партызан, якія загінулі ў жніўні 1943 г. 20.2.1950 г. адноўлены калгас «8 Сакавіка» (старшыня А.І.Гаўрылюк). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. , у вёсцы 733 жыхары, 1970 г. — 975 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў Мельніках налічвалася 306 гаспадарак, 930 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая». Працуюць базавая школа, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, ашчадны банк, магазін. Помнік на магіле партызан.

**НАВАЛЕССЕ** — вёска ў Олтушскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Маларыты, 16 км ад чыг. ст. Дамачава (на лініі Жабінка—Тамашоўка), 61 км ад Брэста. На аўтадарозе Радзеж—Дамачава. 75 гаспадарак, 144 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. адносілася да маёнтка Мутвіца памешчыка Басаткі, 282 рэвізскія душы (132 мужчыны, 150 жанчын), уваходзіла ў сельскую грамаду Навалеская. У 1905 г. ў вёсцы налічвалася 637 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы было 37 двароў, 273 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Радзежскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Дзейнічалі каап. магазін, спажывецкае т-ва. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў Навалессі налічвалася 110 двароў, 376 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. і лютым 1943 г. акупанты спалілі вёску дашчэнту, загубілі 68 жыхароў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 12 жыхароў вёскі. Пасля вайны Навалессе адбудавана. 5.11.1949 г. арганізаваны калгас «1 Мая» (старшыня І.Ф.Шульжык). З 16.7.1954 г. ў складзе Олтушскага с/с.

Паводле перапісу насельніцтва 1959 г. — 472 жыхары, у 1970 г. — 478 жыхароў. У 1998 г. 87 гаспадарак, 273 жыхары, у складзе калгаса «1 Мая». Працуе магазін. Помнік на магіле ахвяр фашызму. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь». Ураджэнец вёскі І.І.Такарчук, прапаршчык, загінуў 19.9.1988 г. ў Афганістане пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку.

**НІКОЛЬСКАЕ** — вёска ў Олтушскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта. Аўтадарогай звязана з Маларытай. 46 гаспадарак, 126 жыхароў (2005).

Непадалёку ад вёскі знаходзяцца рэшткі стараж. паселішча (2500—2300 гг. да н.э.).

Населены пункт засн. ў 1-й пал. 19 ст. Уладальнік маёнтка Олтушскі ключ Сяргей Парошын перасяліў сюды частку жыхароў в. Чапелькі і назваў паселішча Нікольскае ў памяць пра свайго дзеда па маці ген. Мікалая Ланскога. Сюды таксама была перасялена і частка сялян с. Олтуш. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна з інвентарным апісаннем маёнтка Олтуш, у 1852 г. в. Нікольская ў складзе гэтага маёнтка, 88 душ мужчынскага і 86 жаночага полу, уласнасць калежскага саветніка Віктара Парошына. У 1864 г. ў складзе маёнтка Олтуш памешчыка Маймескула, 160 рэвізскіх душ. У 1905 г. ў вёсцы 409 жыхароў. У 1921—39 гг. у Польшчы, у Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 33 двары, 163 жыхары. З вер. 1939 г. ў складзе БССР, 301 жыхар. З 12.10.1940 г. ў Олтушскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. З 1940 г. дзейнічаў калгас імя Леніна, працавалі школа, магазін. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1942 г. і ў 1943 г. ням. акупанты спалілі 39 двароў (было 74), загубілі 32 мірных жыхароў. 2.12.1949 г. арганізаваны калгас імя Чапаева (старшыня П.А.Мельянчук). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., налічвалася 278 жыхароў, у 1970 г. — 237 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Нікольскае было 58 гаспадарак, 136 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба». Працуе магазін. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь». Вёска — радзіма актыўнага ўдзельніка падп. барацьбы ў Зах. Беларусі А.Н.Алесіка (загінуў у 1942).





*І.І.Такарчук.*

*А.Н.Алесік.*

**НОВАЕ ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Макранскім с/с, за 29 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 59 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе, якая перасякае шашу Брэст—Ковель (Украіна). 39 гаспадарак, 69 жыхароў (2005).

Утворана ў 1950-я г. ў выніку перасялення навакольных хутароў. У 1998 г. ў вёсцы налічвалася 52 гаспадаркі, 99 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны партызан».

**НОВАЕ РАМАТОВА** (мясц. Пакупчыкі) — вёска ў Велікарыцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Маларыты, 1 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 41 км ад Брэста. 42 гаспадаркі, 79 жыхароў (2005).

Частку вёскі называюць Пакупчыкамі — сяляне на тых участках некалі купілі зямлю. Першыя пасяленцы былі родам з Белавежскай пушчы — жыхары Шарашова і Пружан. Мясц. памешчык нібыта выйграў гэтыя землі ў карты, а потым засяліў іх сваімі людзьмі.

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. выселак Раматова ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. было 120 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., вёска Новае Раматова ў Велікарыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 9 двароў, 50 жыхароў. З вер. 1939 г. вёска (198 жыхароў) у БССР. З 12.10. 1940 г. ў Велікарыцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Дзейнічалі ветраны млын, пач. школа. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Новае Раматова акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 12 жыхароў вёсак Новае і Старое Раматова. Да вайны ў вёсцы дзейнічаў калгас імя Варашылава. У сак. 1947 г. гаспадарка адноўлена (старшыня А.П.Жвалік). З 1948 г. працаваў Дзярж. сортавыпраба-



вальны ўчастак. У 1959 г. ў вёсцы 197 жыхароў, у 1970 г. — 213 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Новае Раматова налічвалася 46 гаспадарак, 102 жыхары, у складзе калгаса «Шлях да камунізму».

**НОВЫ ДВОР** — вёска ў Чарнянскім с/с, каля канала Новая Асіпоўка. За 27 км на ПнУ ад Маларыты, 57 км ад Брэста. Аўтадарогай звязана з шашой Маларыта—Кобрын. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. фальварак Чарняны—Новы Двор у Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут налічваўся 81 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Калонія ўваходзіла ў Велікарыцкую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 15 двароў, 105 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў складзе Чарнянскага с/с Дзівінскага, з 8.8.1959 г. Маларыцкага р-наў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Новы Двор акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 11 жыхароў вёсак Новы і Стары Двор. У 1962—65 гг. у Кобрынскім р-не. Паводле перапісу насельніцтва 1970 г., у вёсцы 192 жыхары. У 1998 г. тут налічвалася 25 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе калгаса імя Крупскай.

**НОВЫЯ БОРКІ** — вёска ў Макранскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Маларыты, 58 км ад Брэста. Каля шашы Брэст—Ковель (Украіна) і далей па аўтадарозе Макраны—Маларыта. 31 гаспадарка, 55 жыхароў (2005).

Вёска ўтварылася ў пасляваенны час. У 1998 г. было 37 гаспадарак, 79 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава.

**ОЛТУШ** — вёска, цэнтр Олтушскага с/с, на ўсх. беразе Олтушскага возера. За 15 км на Пд ад горада і чыг. ст. Маларыта, 67 км ад Брэста. На аўтадарозе Маларыта—Олтуш. 241 гаспадарка, 699 жыхароў (2005).

У ваколіцах вёскі ў 1930-я г. знаходзілі крамянёвыя наканечнікі коп'яў, мноства дробных апрацаваных крамянёў — разцы, нажы. Знаходкі сведчаць аб тым, што людзі пасяліліся ў гэтай мясцовасці ў стараж. часы.

Па пісьмовых крыніцах паселішча вядома з 16 ст. Упамінаецца ў 1546 г. ў юрыд. дакуменце пры апісанні мяжы паміж ВКЛ і Каронай Польскай. Згодна з рэвізіяй Берасцейскай эканоміі, у 1566 г. сяло, цэнтр Олтушскага войтаўства Палескай вол., 31 двор, 79 сем'яў. У 1668 г. налічвалася 32 валокі, 1 валока належала уніяцкай царкве, 19 безгаспадарчых валок, 45 аселых гаспадарак. 26.11.1679 г. быў афармлены рэвізорны ліст на Олтушскую царкву, 10.4.1685 г. — прывілей, які пацвярджае гэты ліст. Згодна з інвентаром 1682 г., сяло, цэнтр войтаўства Палескага ключа, 68 аселых гаспадарак, 32 валокі зямлі, 2 валокі належалі царкве. У 1792 г. прывілей караля Станіслава Аўгуста святару Сымону Паўловічу на каад'ютарыю царквы Праабражэння Гасподня ў Олтушы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. 18.8.1795 г. Кацярына II падаравала сяло (303 рэвізскія душы мужчынскага і 329 жаночага полу) у пажыццёвае валоданне ген.-маёру Мікалаю Ланскому. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло, цэнтр воласці Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1854 г. было 53 двары, 100 драўляных жылых будынкаў, 617 жыхароў. Дзейнічалі валаснoe праўленне, карчма, царква, капліца, працавалі запасны магазін, школа. У 1859 г. В.С.Парошын прадаў маёнтак Олтуш калежскаму саветніку А.К.Маймескулу. У 1860-я г. налічвалася 391 рэвізская душа (201 мужчына, 190 жанчын), сяло адносілася да маёнтка Ол-



*Бальніца ў в. Олтуш.*



*Олтушская Спаса-Праабражэнская царква.*

туш памешчыка Маймескула. Усяго маёнтак Олтуш у гэты час налічваў 1536 рэвізскіх душ. У 1862 г. было адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1878 г. сяляне в. Олтуш аказалі супраціўленне, адмовіліся плаціць штрафы за выпас жывёлы на панскіх лугах. Паводле рашэння суда апісана і прададзена жывёла. У 1886 г. ў Олтушы 53 двары, 572 жыхары, меліся валаснос праўленне, царква, капліца, земскае нар. вучылішча, карчма, млын. У школе вучылася 66 дзяцей (з іх 3 дзяўчынкі). У 1890 г. было 658 вучняў. У 1881 г. сяло моцна пацярпела ад пажараў. У 1905 г. — 815 жыхароў, у маёнтку — 30 жыхароў.

У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы, цэнтр гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 43 двары, 299 жыхароў, у 1930 г. 117 двароў. У 1930-я г. тут дзейнічаў Маларыцкі райком КПЗБ. Працавалі пач. школа (у 1937 — 79 вучняў), спажывецкае т-ва. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 22.6.1942 г. фашысты расстралялі 11 мірных жыхароў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 22 вяскоўцы. 21.10.1949 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У 1959 г. 485 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1970 г. ў Олтушы 501 жыхар. У 2000 г. налічвалася 250 гаспадарак, 739 жыхароў, цэнтр калгаса «Перамога». Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, бальніца, аптэка, 3 магазіны, ашчадны банк, кафэ, лясніцтва, ветучастак, Спаса-Праабражэнская царква (пабудавана ў 1783, абноўлена ў 1862 і 1879). Помнікі на брацкай магіле воінаў і партызан, ахвяр фашызму. Помнік археалогіі — стаянка жал. веку. Радовішча будаўнічых пяскоў.

**ОТЧЫН** — вёска ў Макранскім с/с, каля р. Рыта. За 13 км на У ад горада і чыг. ст. Маларыта, 63 км ад Брэста. Аўтадарогай звязана з Маларытай. 45 гаспадарак, 122 жыхары (2005).

**ОТЧЫН** — вёска ў Хацiслаўскім с/с, за 15 км на Пд ад Маларыты, 9 км ад чыг. ст. Хацiслаў (на лініі Брэст—Ковель), 69 км ад Брэста. На аўтадарозе Хацiслаў—Арэхава. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Арэхава. За ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. была канфіскавана ў М.Капшэўскага. У 1905 г. ў вёсцы 82 жыхары. Акрамя земляробства сяляне займаліся лоўляй рыбы, ракаў, зборам ягад і інш. промысламі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, калонія ў Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. налічвалася 10 двароў, 56 жыхароў. З вер. 1939 г. вёска (291 жыхар) у БССР. З 12.10.1940 г. вёска (22 двары) у Хацiслаўскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. Отчын акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У жн.—вер. 1943 г. вёска спалена, загінулі 9 мірных жыхароў. За 8 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Міхерава, у 1944 г. дзейнічаў партыз. аэрадром. У 1976 г. на гэтым месцы пастаўлены помнік. На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 3 жыхары вёсак. У 1959 г. было 109 жыхароў, у 1970 г. — 121 жыхар. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў складзе калгаса «Запаветы Леніна».

**ПАЖЭЖЫН** (мясц. Пужэжын) — вёска ў Велікарыцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Маларыты, 32 км ад Брэста; чыг. станцыя на лініі Брэст—Ковель (Украіна). 132 гаспадаркі, 319 жыхароў (2005).

Паводле падання, калісьці ў маёнтку, які існаваў на месцы сучаснай вёскі, здарыўся пажар («пажэжа»). Панскі дом і ўсе гасп. пабудовы згарэлі. З цягам часу



на папялішчы сяліліся людзі, а населены пункт атрымаў такую назву.

У пісьмовых крыніцах Пажэжын упершыню ўпамінаецца ў 1566 г. як дзярж. (каралеўская) уласнасць у складзе Ляхавіцкага войтаўства Палескай вол. Берасцейскага староства ВКЛ. Вядомы прывілей ад 9.11.1584 г. аб выдзяленні Лукашом Солтанам Станіславу і Альжбеце Брастоўскім $^1/6$ часткі падданых, будынкаў і ўгоддзяў маёнтка Пажэжын Берасцейскага ваяв. Захаваліся інвентары с. Пажэжын 1624 і 1679 гг., а таксама прывілей на парафію Пажэжынскай царквы святога Міхаіла Архангела святару Андрэю Паўловічу. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) сяло далучана да Рас. імперыі. Уваходзіла ў Слонімскую, з 1797 г. — у Літоўскую, з 1801 г. — у Гродзенскую губерні. У 1845 г. адкрыта земскае прыходскае вучылішча. У 1857 г. ў ім вучылася 30 дзяцей. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло Пажэжын у Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У пачатку 1860 г. адносілася да маёнтка Руда памешчыка Ягміна, 527 рэвізскіх душ (248 мужчын, 279 жанчын), у т.л. 409 дзярж. сялян (191 мужчына, 218 жанчын). Існавала сельская грамада Пажэжынская, дзейнічалі царква, вучылішча. У 1886 г. 60 двароў, 699 жыхароў, меліся царква, земскае нар. вучылішча, 2 карчмы, ветраны млын. У вучылішчы навучалася 46 дзяцей, у 1900 г. былі 54 вучні, з іх 2 дзяўчынкі. У 1905 г. ў Велікарыцкай вол. існавалі 4 населеныя пункты з назвай Пажэжын: вёска (230 жыхароў), сяло (1029 жыхароў), паўстанак паўд.-зах. чыгункі (8 жыхароў) і фальварак (6 жыхароў).

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Згодна з перапісам насельніцтва 1921 г. — 87 двароў, 445 жыхароў, у складзе Велікарыцкай гміны Брэсцкага пав. Палескага ваяв. Дзейнічала пач. школа. У 1930 г. 114 двароў. З вер. 1939 г. вёска (1116 жыхароў) у БССР. З 12.10.1940 г. ў Масевіцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Пажэжын акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 87 жыхароў



*Цар-дуб у Пажэжынскім лясніцтве.*

вёсак Масевічы і Пажэжын. 27.1.1950 г. створаны калгас «Шлях да камунізму» (старшыня В.Р.Вашчула). З 16.7.1954 г. вёска ў Велікарыцкім с/с. У 1959 г. налічвалася 674 жыхары, у 1970 г. — 570 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Пажэжын было 146 гаспадарак, 341 жыхар, у складзе калгаса «Новае жыццё». Працуюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, 2 магазіны, ашчадны банк. Царква святога Міхаіла (пабудавана ў 1995). У Пажэжынскім лясніцтве расце цар-дуб. Пад ім, паводле падання, адпачываў рус. палкаводзец А.В.Сувораў. Вышыня дрэва 46 м, дыяметр ствала больш за 2 м, узрост каля 800 гадоў. З 1963 г. з'яўляецца помнікам прыроды рэсп. значэння.

**ПЕРАВІСЬ** — вёска ў Арэхаўскім с/с, каля р. Рыта. За 21 км на Пд ад Маларыты, 14 км ад чыг. ст. Хаціслаў (на лініі Брэст—Ковель), 75 км ад Брэста. На аўтадарозе Хаціслаў—Арэхава. 21 гаспадарка, 49 жыхароў (2005).

У пісьмовых дакументах урочышча Перавіссе ўпамінаецца ў апісанні мяжы паміж ВКЛ і Каронай Польскай у жн. 1546 г. У канцы 19 — пач. 20 ст. вядома як

урочышча Перавессе ў Макранскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. было 10 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Макранскую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска, 32 двары, 117 жыхароў, у Арэхаўскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 4 жыхары вёскі. 22.8.1950 г. арганізаваны калгас імя Шаўчэнкі (старшыня М.Д.Аўдзяюк). У 1959 г. было 167 жыхароў, у 1970 г. — 169 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. налічвалася 28 гаспадарак, 65 жыхароў, у складзе калгаса «Зара».

**ПЕРАВОЕ** — вёска ў Арэхаўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 81 км ад Брэста. На З праходзіць дзярж. мяжа з Украінай. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей па аўтадарозе Арэхава—Маларыта. 41 гаспадарка, 123 жыхары (2005).

Вёска заснавана пасля Вял. Айч. вайны ў выніку ссялення некалькіх хутароў. Адзін з іх меў назву Перавое, якая пайшла ад прозвішча лесніка Перавога, што жыў на гэтым хутары. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 6 жыхароў. 25.8.1950 г. арганізаваны калгас «Авангард» (старшыня М.П.Бягеза). У 1959 г. вёска (167 жыхароў) у Арэхаўскім с/с Маларыцкага р-на, у 1970 г. — 197 жыхароў. Працуюць пач. школа, магазін. У 1998 г. было 48 гаспадарак, 137 жыхароў, у складзе калгаса «Зара».

**ПЕЧКІ** — вёска ў Велікарыцкім с/с, каля р. Рыта. За 23 км на ПнЗ ад Маларыты, 11 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 36 км ад Брэста. 75 гаспадарак, 151 жыхар (2005).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 16 ст. як угоддзе ў Ляхавіцкім войтаўстве Берасцейскага староства. У пач. 20 ст. ва ўрочышчы Печкаўскае (Печы) і Завоўчае сяляне з суседняй в. Велікарыта заснавалі хутары, з якіх пазней утварылася вёска. Уваходзіла ў Велікарыцкую вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Велікарыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1930 г. было 10 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Велікарыцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Печкі акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 18 жыхароў вёскі. У 1959 г. налічвалася 107 жыхароў, у 1970 г. — 411 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. было 86 гаспадарак, 178 жыхароў, у складзе калгаса імя XX з'езда КПСС.

**ПОЛІКІ** — вёска ў Макранскім с/с, за 27 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 55 км ад Брэста. Каля аўтадарогі Брэст—Ковель (Украіна). 33 гаспадаркі, 64 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Макранскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. ўваходзіла ў маёнтак Ляхаўцы, уласнасць памешчыка Плюшчэўскага. У 1905 г. тут 77 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Згодна з перапісам насельніцтва 1921 г., вёска ў Макранскай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 15 двароў, 66 жыхароў. У 1930 г. 22 двары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Макранскім с/с Маларыцкага р-на на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 7 жыхароў вёскі. 23.2.1949 г. арганізаваны калгас імя Жданава (старшыня А.Ф.Самасюк). У 1959 г. 166 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. 36 гаспадарак, 80 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава.

**ПЯРТЫШЧА** — вёска ў Олтушскім с/с, каля р. Серадовая Рэчка (прыток Буга). За 25 км на ПдЗ ад Маларыты, 24 км ад чыг. ст. Дамачава (на лініі Жабінка—Тамашоўка), 68 км ад Брэста. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2005).

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., хутар у Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Олтушскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вай-



ну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1970 г. было 155 жыхароў. У 1998 г. налічвалася 36 гаспадарак, 64 жыхары, у складзе калгаса «Перамога».

**РАДЗЕЖ** — вёска ў Олтушскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 64 км ад Брэста. На аўтадарозе Дамачава—Маларыта. 233 гаспадаркі, 584 жыхары (2005).

Назва ўтворана ад наймення ўрочышча, у якім заснавана паселішча. Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло Радзеж у Гвозніцкім войтаўстве Палескай вол. Берасцейскага староства ВКЛ. У 1566 г. тут налічвалася 14 зямельных надзелаў, 30 сем'яў. Упамінаецца ў дакументах аб размежаванні з фальваркам і сялом Дубком у 1578—79 гг. Паводле інвентара 1668 г., сяло Брадзяцінскага войтаўства Палескага ключа Брэсцкай эканоміі, 36 валок зямлі, 2 валокі належалі царкве, 32 аселыя гаспадаркі. У 1682 г. 26 аселых гаспадарак, 21 валока зямлі. Дзейнічала царква. У 1713 г. належала панам Якубоўскім. У 1789 г. налічвалася 30 валок зямлі, больш як 80 двароў. Пра царкву згадваецца ў дакументах у 1668, 1724 і 1786 гг. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) сяло ўвайшло ў склад Рас. імперыі, у Брэсцкім пав. Слонімскай, з 1797 г. — Літоўскай, з 1801 г. — Гродзенскай губерняў. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Олтушскай вол. У 1860-я г. сяло адносілася да маёнтка Радзеж, які належаў памешчыцы Бянецкай, 257 душ мужчынскага і 244 душы жаночага полу, сельская грамада Радзежская. Усяго за маёнткам лічылася 587 рэвізскіх душ з вёсак Радзеж і Галёўка. У 1875 г. было адкрыта земскае нар. вучылішча. У 1886 г. ў сяле 63 двары, 743 жыхары, меліся царква, капліца, нар. вучылішча, карчма. У вучылішчы ў 1886 г. 50 вучняў (з іх 1 дзяўчынка). У 1900 г. ў ім налічвалася 70 дзяцей (у т.л. 5 дзяўчынак). У 1905 г. ў Радзежы 1110 жыхароў, у аднайменным маёнтку — 51 жыхар (належаў двараніну М.М.Ярогіну). Бытавалі розныя промыслы: ткацтва, кавальства, збор лекавых траў, ягад, грыбоў і інш.



*Абеліск на месцы партызанскага бою ў в. Радзеж.*

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., вёска ў Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 86 двароў, 687 жыхароў. З 1924 г. ў вёсцы дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. Радзеж у складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр Радзежскага с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. было 185 двароў, 740 жыхароў. Дзейнічалі паравы млын, пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У раёне в. Радзеж у вайну вялі баявыя дзеянні партызаны брыгады імя Сталіна. У чэрв. 1943 г. партызаны атрада імя Варашылава разграмілі ням. абоз нарабаванай у мясц. насельніцтва маёмасці. У выніку гэтай аперацыі партызаны захапілі шмат зброі, вярнулі жыхарам вёскі іх маёмасць. У час вайны акупанты некалькі разоў палілі вёску, загубілі 157 яе жыхароў. На франтах загінулі і прапалі без вестак 29 вяскоўцаў. 18.1.1950 г. ство-

раны калгас «Верны шлях» (старшыня І.С.Супрунюк). Пасля вайны вёска адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Олтушскім с/с. У 1959 г. было 837 жыхароў, у 1970 г. — 911 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Радзеж налічвалася 262 гаспадаркі, 647 жыхароў, цэнтр калгаса «1 Мая». Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, ашчадны банк, аддз. сувязі, 3 магазіны. Помнікі на магілах воінаў і ахвяр фашызму. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь». У наваколлі вёскі знаходзяцца 2 курганныя могільнікі, якія датуюцца 10—13 ст.

**СТАРОЕ РАМАТОВА** — вёска ў Велікарыцкім с/с, каля р. Замшанка. За 26 км на ПнЗ ад Маларыты, 1 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 40 км ад Брэста. 40 гаспадарак, 65 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. Паводле апісання Берасцейскага староства, у 1566 г. сяло Раматова, 20 двароў, 38 сем'яў, у складзе Ляхавіцкага войтаўства Палескай вол. З'яўлялася дзярж. (каралеўскай) уласнасцю. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у Рас. імперыі, сяло ў Слонімскай, з 1797 г. — у Літоўскай, з 1801 г. — у Гродзенскай губернях. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. У пачатку 1860-х г. Старое Раматова адносілася да казённага маёнтка Руда, налічвалася 16 душ мужчынскага і 25 жаночага полу. У 1905 г. 123 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Велікарыцкую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 19 двароў, 140 жыхароў. Працавала аднакласная школа. У 1930 г. 52 двары. У вер. 1939 г. вёска (237 жыхароў) у БССР. З 12.10.1940 г. ў Масевіцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 12 жыхароў вёсак Новае і Старое Раматова. 17.2.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Армія» (старшыня М.П.Юхімук). У 1959 г. ў вёсцы было 195 жыхароў, у 1970 г. — 238 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Старое Раматова 54 гаспадаркі, 92 жыхары, у складзе калгаса «Шлях да камунізму». Працуюць пач. школа, 2 магазіны, лясніцтва.

**СТАРЫ ДВОР** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 31 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 61 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Макраны. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Велікарыцкай гміне Брэсцкага пав. Пінскага ваяв. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., было 14 двароў, 100 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Чарнянскім с/с Дзівінскага, з 8.8.1959 г. Маларыцкага р-наў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 11 жыхароў вёсак Новы і Стары Двор. У 1950 г. жыхары вёсак Стары Двор і Малінаўка аб'ядналіся ў калгас імя XIX партз'езда. У 1962—65 гг. у Кобрынскім р-не. Згодна з перапісам насельніцтва 1970 г., у вёсцы было 77 жыхароў. У 1998 г. налічвалася 9 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе калгаса імя Крупскай.

**СТРУГА** — вёска ў Велікарыцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Маларыты, 3 км ад чыг. ст. Закруцін (на лініі Брэст—Ковель), 32 км ад Брэста. 66 гаспадарак, 145 жыхароў (2005).

За 8 км на З ад вёскі, у лясным урочышчы Крыж, знаходзіцца курганны могільнік (мясц. назва «Швецкія магілы»), які датуецца 9—10 ст.

Паселішча засн. ў лясістай мясцовасці, дзе нарыхтоўвалі лес і ачышчалі яго ад кары, стругалі. Магчыма, ад слова «стругаць» і ўтворана назва вёскі.

У канцы 19 — пач. 20 ст. выселак Стругі ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут было 11 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы. Уваходзіла ў Велікарыцкую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. налічвалася 17 двароў, 109 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Маларыц-



кім р-не Брэсцкай вобл. У 1930 г. 35 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Струга акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 9 вяскоўцаў. 3.3.1950 г. арганізаваны калгас «Сцяг Перамогі» (старшыня Н.П.Лысюк). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у в. Струга было 267 жыхароў, у 1970 г. — 279 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. налічвалася 72 гаспадаркі, 153 жыхары, у складзе калгаса «Шлях да камунізму».

**СУБАТЫ** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 28 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 58 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па шашы Кобрын—Маларыта. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. сяло Субаты ў Імянскай вол. Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. У 1860-я г. налічвалася 15 двароў, 173 жыхары. Дзейнічалі праваслаўная царква, нар. вучылішча і піцейны дом. У 1905 г. было 342 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ўваходзіла ў Азяцкую гміну Кобрынскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 12 двароў, 49 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска (23 двары, 103 жыхары) у Чарнянскім с/с Дзівінскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Субаты акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1942 г. вёска была спалена дашчэнту, загінулі 12 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., у вёсцы налічвалася 53 жыхары, у 1970 г. — 52 жыхары. У 1962—65 гг. у Кобрынскім р-не. У 1998 г. ў Субатах 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе калгаса імя Крупскай.

**СУШЫТНІЦА** — вёска ў Хацісլаўскім с/с, за 16 км на Пд ад Маларыты, 64 км ад Брэста, чыг. ст. Хацісլаў (на лініі Брэст—Ковель). 106 гаспадарак, 380 жыхароў (2005).

Паводле легенды, населены пункт узнік на астраўку сярод балот. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., хутар у Маларыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Хацісլаўскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. Сушытніца акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 3 жыхары. У 1959 г. было 117 жыхароў, у 1970 г. — 169 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Сушытніца налічвалася 108 гаспадарак, 373 жыхары, у складзе калгаса «Запаветы Леніна». Каля вёскі знаходзіцца радовішча мелу пл. больш за 200 га.

Ураджэнец вёскі В.М.Пішчык 25 гадоў узначальваў паляводчую брыгаду калгаса. Узнагароджаны ордэнамі Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга.



*В.М.Пішчык.*

**ТАЛОЧНА** — вёска ў Маларыцкім гарсавеце, за 6 км на ПдЗ ад райцэнтра і чыг. ст. Маларыта, 59 км ад Брэста. На аўтадарозе Маларыта—Олтуш. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вядома як сядзіба Талочна ў Маларыцкай вобл. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут было 45 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Згодна з перапісам насельніцтва 1921 г., смалярня ў Маларыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 2 двары, 11 жыхароў. У 1930 г. 3 двары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Маларыцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы было 27 двароў; з чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943—44 гг. яна спалена, загінулі 8 вяскоўцаў. На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 7 жыхароў. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1970 г. налічвалася 75 жыхароў. У 1998 г. ў в. Талочна 12 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Маларыцкі».

**УЖОВА** — вёска ў Лукаўскім с/с, за 15 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 45 км ад Брэста. На шашы Брэст—Ковель (Украіна). 71 гаспадарка, 156 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. выселак Ужова ў Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут было 16 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. — калонія Макранскай гміны Кобрынскага пав. Палескага ваяв., 13 два-





роў, 76 жыхароў. У 1930 г. 16 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. — хутар у Лукаўскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 16 вяскоўцаў. У сак. 1950 г. жыхары Ужова аб'ядналіся ў калгас імя М.Горкага. Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., хутар, 57 жыхароў. У выніку аб'яднання хутароў Ужова, Агародцы, Караньці, Мяндора, Струга, Язавіца ўтварылася в. Ужова. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1970 г. 332 жыхары. У 1998 г. 88 гаспадарак, 187 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны партызан». У вёсцы працуюць пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Дзейнічае лясніцтва.

**ХАЦІСЛАЎ** — вёска, цэнтр Хацілаўскага с/с, за 10 км на Пд ад Маларыты, 4 км ад чыг. ст. Хацілаў (на лініі Брэст—Ковель), 62 км ад Брэста. 360 гаспадарак, 1033 жыхары (2005).

По пісьмовых крыніцах Хацілаў вядомы з 16 ст. Упамінаецца ў апісанні мяжы паміж ВКЛ і Каронай Польскай у 1546 г. Паводле юрыд. актаў 1566 г., сяло Хацілаў Олтушскага войтаўства Палескай вол. Берасцейскага староства, было 13 двароў, 34 сям'і, меўся вадзяны млын. Паводле інвентароў Брэсцкай эканоміі, у 1668 г. — сяло, 24 валокі зямлі, 1 валока належала новапабудаванай царкве, 35 аселых гаспадарак; у 1682 г. — 24 валокі зямлі, 2 належалі царкве, 56 аселых гаспадарак. Паводле прывілея Аўгуста III у 1759 г. 2 валокі зямлі ў Хацілаве падараваны Міхаілу і Сафіі Здзітавецкім. У 1782 г. кароль Станіслаў Аўгуст даў прывілей на парафію Хацілаўскай царквы святару Васілю ХарлампоВічу. У 1789 г. сяло Збуражскага ключа Брэсцкай эканоміі, 65 аселых гаспадарак. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. 18.8.1795 г. Кацярына II падаравала сяло (223 душы мужчынскага і 175 жаночага полу) ген.-маёру Мікалаю Ланскому. У 1799 г. пабудавана Спаса-Праабражэнская царква. У 2-й пал. 19 ст. сяло ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Згодна з рэвізіяй 1850 г., с. Хацілаў у складзе маёнтка Олтуш, 362 душы мужчынскага і 377 жаночага полу. У 1860-я г. адносілася да маёнтка Олтуш, Хацілаўскай сельскай грамады, 504 рэвізскія душы. У 1874 г. адкрыта земскае нар. вучылішча (у 1886 — 46 вучняў, у т.л. 11 дзяўчынак, у 1900 — 50 вучняў). У 1886 г. налічвалася 63 двары, 688 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, земскае нар. вучылішча, капліца, карчма. У 1905 г. 1016 жыхароў. Апрача земляробства і жывёлагадоўлі жыхары займаліся ткацтвам, кавальскім, кравецкім і інш. промысламі.



*Спаса-Праабражэнская царква ў в. Хацілаў.*

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ў Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. тут 83 двары, 432 жыхары. Працавала пач. школа (у 1937 — 80 вучняў). Дзейнічала ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. было 140 двароў, 560 жыхароў, працавалі пач. школа і магазін. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да 20.7.1944 г. Хацілаў акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Вёска спалена ў 1941 г., загінулі 42 мірныя жыхары. На франтах загінулі і прапалі без вестак 22 вяскоўцы. 20.1.1950 г. арганізаваны калгас «Запаветы Леніна». У 1959 г. налічвалася 1742 жыхары, у 1970 г. — 646 жыхароў. У 1962—65 гг. вёска ў Брэсцкім р-не. У 1998 г. было 360 гаспадарак, 1080 жыхароў, цэнтр калгаса «Запаветы Леніна». Працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, муз. школа, кафэ, аддз. сувязі, ашчадны банк, магазін.



Помнік землякам і сав. актывістам, курган Славы ў гонар воінаў 75-й стралк. дывізіі. Мемарыяльная дошка ў гонар старшыні Хаціслаўскага с/с Я.Г.Бенесюка і яго намесніка І.М.Лук'янчука, якія загінулі ад рук бандытаў у 1946 і 1948 гг. Дзейнічае царква. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь».

**ХМЕЛІШЧА** — вёска ў Олтушскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Маларыты, 22 км ад чыг. ст. Дамачава (на лініі Жабінка—Тамашоўка), 67 км ад Брэста. Прасёлачнай дарогай звязана з аўтадарогамі Олтуш—Маларыта і Радзеж—Дамачава. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. стража Хмелішча ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. Адносілася да маёнтка Олтуш, уласнасць калежскага саветніка Віктара Парошына. Паводле рэвізіі 1850 г., тут 32 рэвізскія душы (18 мужчын, 14 жанчын). У 1905 г. было 119 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ўваходзіла ў Олтушскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. налічвалася 14 двароў, 85 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска (315 жыхароў) у Радзежскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. 39 двароў. Працавала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Хмелішча акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23.10.1942 г. акупанты спалілі вёску, загубілі 128 мірных жыхароў, на франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 9 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Олтушскім с/с. У 1959 г. было 22 жыхары, у 1970 г. — 74 жыхары. У 1998 г. ў в. Хмелішча налічвалася 12 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса «1 Мая».

**ХМЯЛЁЎКА** (мясц. Свінорыя) — вёска ў Олтушскім с/с, на паўд.-ўсх. беразе Серадовай Рэчкі (прыток Буга). За 25 км на ПдЗ ад Маларыты, 24 км ад чыг. ст. Дамачава (на лініі Жабінка—Тамашоўка), 68 км ад Брэста. 59 гаспадарак, 146 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. вёска ў Олтушскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1862 г. адносілася да маёнтка Мутвіца памешчыцы Каміліі Басатка, 11 душ мужчынскага і 9 жаночага полу. У 1905 г. 82 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Уваходзіла ў Олтушскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. налічвалася 11 двароў, 79 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Радзежскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. Працавалі пач. школа, магазін. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы 39 двароў, звыш 300 жыхароў. З чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі і прапалі без вестак 6 жыхароў вёскі. 2.2.1950 г. арганізаваны калгас «Ленінская іскра» (старшыня Т.Т.Касьянік). З 16.7.1954 г. ў Олтушскім с/с. У 1959 г. было 203 жыхары, у 1970 г. — 254 жыхары. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Хмялёўка налічвалася 45 гаспадарак, 110 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая». Працуе базавая школа, магазін.

**ЧАРНЯНЫ** — вёска, цэнтр Чарнянскага с/с, на р. Асіпоўка. За 23 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Маларыта, 53 км ад Брэста. На шашы Маларыта—Кобрын. 289 гаспадарак, 748 жыхароў (2005).

Паводле легенды, тут знаходзілася шкляная гута, на якой працавалі «чорныя людзі», ці «чэрнь» (адсюль і назва паселішча).

*Свята-Прачысценская царква ў в. Чарняны.*






*Асколкі шклянога посуду Чарнянскага шклозавода.*

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. Згодна з інвентаром 1566 г., сяло Чарняны Дарапеевіцкага войтаўства Палескай вол. Берасцейскага староства, было 37 валок, 2 валокі належалі уніяцкай царкве, 24 аселыя гаспадаркі, працаваў млын. У 1682 г. сяло — цэнтр войтаўства Палескага ключа Брэсцкай эканоміі, 39 аселых гаспадарак, 37 валок зямлі. Звесткі пра Чарняны ёсць у пісьмовых крыніцах 18 ст.: 1702 г. (прывілей Яна III Людвіку Урбанчыку на 9 валок зямлі), 1703 г. (кансэнс Аўгуста III мужу і жонцы Урбанскім на ўступку 9 валок Райскім), 1708 г. (запіс Соф'і Райскай Аляксандру і Феафіле Райскім на 10 валок зямлі), 1759 г. (прывілей Аўгуста III Аляксандру Унроху на 9 валок зямлі), 1761 г. (прывілей на 9 валок зямлі Бухавецкім). Згодна з інвентаром 1789 г., сяло Рудскага ключа, налічвалася 37 валок зямлі, 53 двары, 290 жыхароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. 20.11. 1795 г. Кацярына II падаравала сяло (162 душы мужчынскага і 143 жаночага полу) статс-даме графіні Скаўронскай. У 1860-я г. адносілася да маёнтка Руда памешчыка Ягміна, сельская грамада Пажэжынская; паводле рэвізіі, 265 душ, з іх 31 душа — дзярж. сяляне. Дзейнічалі царква, нар. вучылішча. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло Велікарыцкай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1870 г. пачалося будаўніцтва новай царквы. У 1886 г. 24 двары, 351 жыхар, працавалі кузня, карчма. У 1887 г. непадалёку быў засн. шклозавод, які ў 1888 г. належаў шляхціцу Мікалаю Коншыну. Дзейнічалі 2 печы, працавалі 56 рабочых. На з-дзе выраблялі аконнае шкло, піўныя бутэлькі. У 1896 г. ён належаў Міхаілу Голабаву, налічваўся 71 рабочы. У 1895 г. была ўстаноўлена паравая машына — лакамабіль. У 1910 г. з-д лічыўся адным з буйнейшых на Беларусі. У 1905 г. ў Чарнянах 657 жыхароў.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ў Велікарыцкай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. тут 105 двароў, 704 жыхары. Побач з вёскай знаходзілася калонія Чарняны, 22 двары, 122 жыхары. Дзейнічала ячэйка КПЗБ. У 1930 г. 145 двароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска (244 двары, 1120 жыхароў) — цэнтр сельсавета Дзівінскага р-на Брэсцкай вобл. Працавалі пач. школа, клуб, пажарнае дэпо, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, лазня. З чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Чарняны акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі і прапалі без вестак 33 жыхары вёскі. У 1943 г. партызаны разграмілі тут паліцэйскі гарнізон. У вайну акупанты загубілі 13 жыхароў вёсак Чарняны і Горы. У 1949 г. арганізаваны калгас імя Крупскай. З 8.8.1959 г. вёска (1010 жыхароў) у Маларыцкім с/с. У 1998 г. ў Чарнянах налічвалася 321 гаспадарка, 787 жыхароў, цэнтр калгаса імя Крупскай. У вёсцы працуюць механічныя майстэрні, ветэрынарны ўчастак, лясніцтва, аддз. сувязі, ашчадны банк, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, муз. школа, фельч.-акушэрскі пункт, кафэ, магазін. Помнік нар. дойлідства — Свята-Прачысценская царква (канец 19 ст.). Помнікі Н.К.Крупскай, на магіле ахвяр фашызму, землякам. Пры Доме культуры з 1987 г. дзейнічае ансамбль нар. песні «Чарнянач-





Помнік закатаваным мірным жыхарам у в. Язвін.

ка». Вёска — радзіма Ю.М.Шалягейкі, загінуўшага ў Афганістане ў 1984 г. пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку.

**ШАРАШОЎЦЫ** — вёска ў Чарнянскім с/с, за 27 км на Пн ад горада і чыг. ст. Маларыта, 57 км ад Брэста. Аўтадарогамі звязана з Кобрынам, Маларытай. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2005).

Ёсць меркаванне, што паселішча заснавалі сяляне-перасяленцы з сучаснага г.п. Шарашова, што на Пружаншчыне. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу насельніцтва 1921 г., засценак у Азяцкай гміне Кобрынскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Чарнянскім с/с Дзівінскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Шарашоўцы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1959 г. ў складзе Маларыцкага р-на, 57 жыхароў. У 1962—65 гг. у Кобрынскім р-не. У 1998 г. ў вёсцы налічваліся 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе калгаса імя Крупскай.

**ЯБЛАЧНА** — вёска ў Олтушскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Маларыты, 67 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Олтуш—Маларыта. 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2005)

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу 1921 г., в. Яблачная ў Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв., 16 двароў, 93 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. ў Маларыцкім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 6 вяскоўцаў. Паводле перапісаў насельніцтва 1959 г., было 124 жыхары, у 1970 г. — 148 жыхароў. У 1962—65 гг. у складзе Брэсцкага р-на. У 1998 г. ў в. Яблачна налічвалася 29 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе калгаса «1 Мая».

**ЯЗВІН** — вёска ў Гвозніцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Маларыты, 13 км ад чыг. ст. Раматова (на лініі Брэст—Ковель), 49 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Гвозніца—Маларыта. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).



Ю.М.Шалягейка.

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска ў Мяднянскай вол. Брэсцкага пав. Гродзенскай губ. У 1905 г. тут 312 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Вёска ўваходзіла ў Мяднянскую гміну Брэсцкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. тут быў 51 двор, 260 жыхароў, з іх 148 праваслаўных, 87 католікаў, 16 евангелістаў, 9 іудзеяў. У 1930 г. налічвалася 70 двароў. У 1939 г. 542 жыхары, працавалі цагельны з-д, магазін. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Гвозніцкім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. было 107 двароў. Дзейнічаў магазін. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 21.7.1944 г. Язвін акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1942 г. ням. акупанты спалілі ў вёсцы 95 двароў, загубілі 17 жыхароў. Ахвяры пахаваны на вясковых могілках, на магіле ўстаноўлены помнік. На франтах загінулі і прапалі без вестак 15 жыхароў вёскі. 11.3.1949 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка» (старшыня М.Т.Тарасевіч). Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., было 164 жыхары, у 1970 г. — 59 жыхароў. У 1998 г. ў в. Язвін налічвалася 12 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса «Бальшавік».




**ЯМІЦА** — вёска ў Олтушскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад райцэнтра і чыг. ст. Маларыта, 61 км ад Брэста. На аўтадарозе Олтуш—Дамачава. 23 гаспадаркі, 46 жыхароў (2005).

У 1921 г. вядома як хутар у Олтушскай гміне Брэсцкага пав. Палескага ваяв. Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. вёска ў Олтушскім с/с Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. У гады Вял. Айч. вайны на франтах загінулі і прапалі без вестак 6 жыхароў вёскі. У 1948 г. арганізаваны калгас «Чырвоны гай». Паводле перапісу насельніцтва 1959 г., налічвалася 135 жыхароў, у 1970 г. — 141 жыхар. У 1962—65 гг. у Брэсцкім р-не. У 1998 г. ў в. Яміца было 30 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе калгаса «Дружба».

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Літвы, ф. 378, воп. 5, спр. 9, ч. 1.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 2124, 2312; ф. 30, воп. 5, спр. 2124, 2312, 6753, 6773; воп. 9, спр. 2387.
Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1, воп. 11, спр. 1352; ф. 10, воп. 3, спр. 45; ф. 1298, воп. 1, спр. 37, 205; ф. 1741, воп. 1, спр. 47; ф. 1928, воп. 1, спр. 25, 36, 37, 205, 305.
Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. Т. 1. Вильна, 1867.
Список населенных мест Минской губернии с указанием волостей, сельских обществ и церковных приходов. Мн., 1870.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 6. Вильна, 1873.
Описание староства Берестейского 1566 г. // Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897.
Довнар-Запольский М.В. Берестейское староство в 16 в. // Университетские известия. 1898. № 12, ч. 2.
Указатель населенным местностям Гродненской губернии... Гродно, 1905.
Фабрично-заводские предприятия Российской империи. СПб., 1914.
Богданович А.В., Сидоров П.А. Города Белоруссии: Крат. эконом. очерк. Мн., 1967.
Яніцкая М.М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.). Мн., 1977.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1984.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.
Памяць: Маларыцкі р-н. Мн., 1998.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мн., 1993—2003.
Республиканская книга памяти воинов-интернационалистов. Мн., 1999.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 2001.
Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 8. Województwo Poleskie. Warszawa, 1924.

Для напісання раёна аўтарам выкарыстаны таксама матэрыялы Брэсцкага краязнаўчага музея і абласнога архіва.



ГАНЦАВІЦКІ РАЁН
ІВАЦЭВІЦКІ РАЁН
ЛУНІНЕЦКІ РАЁН
СТОЛІНСКІ РАЁН
ІВАНАЎСКІ РАЁН
РОВЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
УКРАІНА
52°30'
52°20'
52°10'
52°00'
25°45'
26°00'
26°15'
26°30'
Забярэззе
Ліпнікі
Бобрык
Мал. Плотніца
Пласкінь
Церабень
Чамля
Канатоп
Клятная
Азарычы
Хваросна
Вулька Лаўская
Пучыны
Валішча
Сакалоўка
Забараўцы
Дабраслаўка
Трасцянка
Паўлінова
Круглае
Шпанаўкі
Лышча
Мокрая Дубрава
Боркі
Лагішын
Юзафіны
Кауняцін
Ботава
Чухава
Камень
Пагост-Загародскі
Сташаны
Чамярын
Альшанка
Новы Двор
Вяз
Цвярдоўка
Табулкі
Бакінічы
Парэчча
Рудка
Мерчыцы
Іванісаўка
Дубнавічы
Велясніца
Масевічы
Сінін
Сошна
Лісяцічы
Падбалоцце
Асніца
Парахонск
Мал. Халажын
Крыўчыцы
Любаль Поль
Ермакі
Бастыны
Наваселле
Стараселле
Вял. Халажын
Палтаранавічы
Вылазы
Чэнчыцы
Рудавін
Вулька-Гарадзішчанская
Баяры
Выжлавічы
Ахова
Туляцін
Аснежыцы
Любель
Грады
Селішча
Ганькавічы
Красіева
Ставок
Ганчары
Дружны
Клін
Калодзеевічы
Пасенічы
Бярдуны
Новы Дварэц
Кашэвічы
Купяцічы
Сушыцк
Ясельда
Бярозавічы
Цепянец
Добрая Воля
Гарадзішча
Астравічы
Таргошыцы
Заполле
Высокае
Заазер'е
Брэст
Богушава
Чарнеевічы
Галева
Пачапава
Залессе
Садовы
Пінкавічы
Маладзельчыцы
Беразцы
Вішавічы
Крывічы
Кудрычы
Паняцічы
Жабчыцы
Плошчава
Берназы
Малоткавічы
ПІНСК
Курадава
Качановічы
Прыпяць
Дубай
Дамашычы
Цераб...
Хрысцібалавічы
Тупчыцы
Асобавічы
Стахавічы
Горнава
Балгары
Паросцы
Гальцы
Сасновічы
Лемяшэвічы
Лазічы
Плешчыцы
Чорнава-2
Шаломічы
Калавуравічы
Кончыцы
Жытнавічы
Стытычава
Сярнічкі
Мясяцічы
Барычавічы
Завідчыцы
Кнубава
Крывое Сяло
Вуйвічы
Сачкавічы
Хлябы
Полхава
Біжаравічы
Ізін
Іванікі
Красава
Маразавічы
Каўбы
Месткавічы
Вял. Вулька
Вяляцічы
Лапаціна
Канюхі
Тырвовічы
Лосічы
Грыўковічы
Мал. Дзіковічы
Вял. Дзіковічы
Вял. Дворцы
Перахрэсце
Мал. Вулька
Мал. Дворцы
Стыр
Хойна
Жыдча
Стайкі
Семяховічы
Невель
Столін
Востраў
Ласіцк
Ладараж
Вешня
Жоўкіна
Парэ
Боркі
Трушава
Гомель, Лунінец
Маштаб 1:450 000



# ПІНСКІ РАЁН

Размешчаны на Пд Брэсцкай вобласці. Утвораны 15.1.1940 г. з былых Лемяшэвіцкай, частак Хоінскай, Пінкавіцкай, Пагост-Загародскай, Жабчыцкай валасцей. Займаў плошчу 1272 км², насельніцтва 47867 чал. (беларусаў 35 046, яўрэяў 3505, рускіх 2628, украінцаў 1314, палякаў 1314). У раёне было 7088 двароў, у т.л. 1241 хутар; зямельных угоддзяў 127 274 га, у т.л. ворыва 27 090 га. Працавалі: фанерная ф-ка (Гарадзішча), 3 лесапільныя, 6 цагляных, 1 вінакурны заводы, 4 млыны; 61 школа. У канцы 1940 г. было 16 калгасаў. 12.10.1940 г. падзелены на 16 сельсаветаў: Біжаравіцкі, Востраўскі, Высакоўскі, Вяляціцкі, Гарадзішчанскі, Дубнавіцкі, Качановіцкі, Лапацінскі, Ласіцкі, Лемяшэвіцкі, Пасяніцкі, Парахонскі, Пінкавіцкі, Плешчыцкі, Сошненскі, Ставоцкі. У Вял. Айч. вайну з 4.7.1941 г. да 14.7. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У горадзе Пінску і раёне фашысты знішчылі 108 тыс. чал., вывезлі на прымусовыя работы ў Германію 6373 жыхароў. Месцамі масавых расстрэлаў былі ваколіцы вёсак Пасянічы, Казляковічы, Добрая Воля, яўрэйскія могілкі ў Пінску. Акупанты спалілі разам з жыхарамі вёскі Вулька, Дубнавічы, Любель-Поль, Невель, Пагост-Загародск. На тэр. раёна дзейнічалі Пінскае антыфашысцкае падполле, партыз. брыгады імя Молатава, Пінская, 208-ы партыз. полк імя Сталіна, Пінскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Выдавалася падп. газета «Палеская праўда». Раён вызвалены ў сярэдзіне ліп. 1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту з удзелам 208-га партыз. палка ў ходзе Беларускай аперацыі. 18 часцям і злучэнням Чырвонай Арміі былі нададзены найменні «Пінскіх». Пасля вайны да 1950 работа прадпрыемстваў была адноўлена, дзейнічалі 168 калгасаў. З 8.1.1954 г. ў складзе Брэсцкай вобл. У сучасных межах з 1962. 14.10.1957 г. да раёна далучаны Ахоўскі, Вулькаўскі, Дубайскі, Малоткавіцкі, Невельскі, Паршавіцкі сельсаветы Жабчыцкага р-на; 25.12.1962 г. — Бобрыкаўскі, Загародскі, Лышчанскі, Масевіцкі, Навадворскі, Парэцкі сельсаветы і г. п. Лагішын Лагішынскага р-на. Пл. 3,2 тыс. км². Насельніцтва 56347 чал. (2005). Уключае г.п. Лагішын, 179 сельскіх населеных пунктаў, Лагішынскі пас. Савет, 24 сельсаветы: Аснежыцкі, Ахоўскі, Барычавіцкі, Бобрыкаўскі, Бярозавіцкі, Валішчанскі, Гарадзішчанскі, Дубайскі, Загародскі, Калавуравіцкі, Лапацінскі, Ласіцкі, Лемяшэвіцкі, Лышчанскі, Малоткавіцкі, Мерчыцкі, Навадворскі, Парахонскі, Парэцкі, Пінкавіцкі, Плешчыцкі, Сошненскі, Ставоцкі, Хойнаўскі. Паўд. частка раёна пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Большая частка тэр. ў межах Прыпяцкага Палесся, зах.— узвышанай раўніны Загароддзе. Паверхня пераважна плоская, забалочаная, 75%



*Ручнік з Пінскага раёна. 1960-я г.*



*Краявід Піншчыны.*

*Мост цераз р. Прыпяць у Пінскім раёне.*



*Агінскі канал у Пінскім раёне.*



*Прадукцыя рыбгаса «Палессе»*



яе ніжэй за 150 м. Найвышэйшы пункт 174 м (за 2 км на Пд ад в. Мерчыцы). Карысныя выкапні: торф і гліны, суглінкі, пяскі, мел. Сярэдняя тэмпература студз. -5,2°С, ліп. 18,6°С. Ападкаў 573 мм за год. Вегетацыйны перыяд 201 суткі. Найбольшая р. Прыпяць і яе прытокі Піна, Ясельда з Мерачанкай і Мышшу, Бобрык 1-ы з Вісліцай, Стыр. Найбольшыя азёры: Палескае (Гарадзішча), Пагосцкае, Кончыцкае, Семяховічы, Вылазскае; вадасховішча Пагост, Жыдча; каналы: частка Дняпроўска-Бугскага, Агінскага, Ясельдаўскага, Дубайскі. Пераважаюць глебы: тарфяна-балотныя (38,2%), дзярнова-падзолістыя забалочаныя (18,3%), дзярновыя, дзярнова-карбанатныя забалочаныя (18,2%), поймавыя (алювіяльныя) забалочаныя (13,4%), дзярнова-падзолістыя (11,7%). Пад лесам 32% тэр. раёна; пераважаюць хваёвыя, ёсць бяроза, дуб, чорная вольха, граб, асіна, ясень. Пад балотамі 43 520 га (13,6%). Найбольшыя балоты: Хварашчанскае, Гарадзішчанскае, Дубнік, Жук, Дамашыцы, Панцялеева (частка з іх уваходзіць у Пінскія балоты). На тэр. раёна заказнікі рэсп. значэння: ландшафтныя — Прастыр, Сярэдняя Прыпяць (часткова), біял. Тырвовічы; мясц. значэння: біялагічны Ступскае, мікразаказнікі біялагічныя — Ізін, Кончыцы, Падмосце, Тур, Ермакі; ахоўныя тарфянікі: Булгары, Вуйвічы, Гарадзішчанскае, Дамашыцы, Дубнік, Сляпоўскае. Помнікі прыроды рэсп. значэння: парк у в. Парэчча, насаджэнне піхты белай у парку в. Дубай.

Агульная пл. с.-г. угоддзяў 130,1 тыс. га, з іх асушаных 81,7 тыс. га. У раёне 20 с.-г. вытворчых кааператываў, камунальнае унітарнае с.-г. прадпрыемства «Агракамбінат Палессе» і 6 яго філіялаў, 2 ААТ, рыбгас «Палессе», зверагаспадарка Белкаапсаюза, с.-г. прадпрыемства «Беларускія журавіны», Пінскае дзярж. прадпрыемства па будаўніцтве і эксплу-

*Свята «Зажынкі» ў Пінскім раёне. 2006 г.*









*Рака Прыпяць у Пінскім раёне.*

*Птушкаферма пінскага аб'яднання «Райаграсэрвіс».*

*Дошка гонару Пінскага раёна. 2007 г.*

атацыі меліярацыйных і воднагасп. сістэм. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, вытв-сці збожжа, цукровых буракоў, вырошчванні кармавых культур, бульбы, лёну, агародніны. Працуюць прадпрыемствы харч. (лікёра-гарэлачныя вырабы, віны, вінныя і безалкагольныя напоі, піва, кандытарскія вырабы, кісель, крухмал), металаапрацоўчай, каап., швейнай прам-сці, лясгас, вытворча-гандлёвае прадпрыемства «Медтэхніка». Па тэр. раёна праходзяць чыгунка Брэст—Лунінец, аўтадарогі Брэст—Гомель, Брэст—Пінск—Лунінец, Івацэвічы—Лагішын—Пінск—Столін, Гомель—Пінск. У раёне 29 сярэдніх, 19 базавых, 2 пач. школы, 30 дашкольных устаноў, 3 школы-сады, 12 муз. школ, спарт. школа, спец. школа-інтэрнат, завочная школа, с.-г. каледж, СПТВ № 161, 68 клубных устаноў, 15 дамоў нар. творчасці, 66 бібліятэк, 8 бальніц, 4 урачэбныя амбулаторыі, 56 фельч.-акушэрскіх пунктаў, 9 аптэк, 170 магазінаў, 25 комплексна-прыёмных пунктаў, 750 лазняў, 49 аддз. сувязі, 30 аддз. «Беларусбанка»; дзіцячая турбаза (в. Ставок), дзіцячыя аздараўленчыя лагеры «Парэчча», «Кончыцы», рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр «Світанак». Музеі літаратурныя: А.Блока (в. Лапаціна, 1980, з 1991 — народны), Я.Янішчыц (в. Парэчча, 1998), Я.Коласа (в. Пінкавічы, 1962); этнаграфіі (в. Жабчыцы, 1992), гісторыка-краязнаўчы (г.п. Лагішын, 1995), музей пад адкрытым небам «Сядзіба палешука канца 19 — пач. 20 ст.» (Парэчча, 2000), музей Працоўнай славы калгаса




«Аснежыцкі» (в. Аснежыцы, 2002). Арх. помнікі: цэрквы — Раства Багародзіцы (в. Ахова, 1758), Ушэсця (в. Боркі, канец 18 ст.), Пакроўская (в. Бярозавічы, 1878), Прачысценская (в. Востраў, 1720), Ільінская (в. Вуйвічы, 1788), Раства Багародзіцы (в. Вылазы, 1787), Раства Ба-

*Свята «Дажынкі» ў Пінскім раёне. 2006 г.*



*Фрагмент сярэбранага бранзалета з Пінска. 12 ст.*



*Абразок з выявай Спаса Эмануіла з Пінска. 12 ст.*



гародзіцы (в. Вяляцічы, 1826), Троіцкая (в. Дабраслаўка, 18 ст.), Раства Багародзіцы (в. Дубай, 1811), Параскевы Пятніцы (в. Жабчыцы, 1788), Мікалаеўская (в. Камень, сяр. 19 ст.), Мікалаеўская (в. Купяцічы, 1892), Раства Багародзіцы (в. Лемяшэвічы, 1885), Троіцкая (в. Месткавічы, 1875), Параскевы Пятніцы (в. Мясяцічы, 1794), св. Кірылы і Мяфодзія (Пагост-Загародскі, 2-я пал. 19 ст.), Раства Багародзіцы (в. Парахонск, 1888), Раства Багародзіцы (в. Парэчча, 1912), Пакроўская (в. Пінкавічы, 1830), Ушэсця (в. Ставок, 1855), Пакроўская (в. Тырвовічы, 1856), манастырскі будынак (в. Гарадзішча, канец 18 ст.), касцёл Узвіжання Св. Крыжа (Дубай, 18 ст.); капліцы ў в. Балгары (19 ст.), в. Дубай, в. Каўбы, в. Ласіцк, в. Чухава і цэрквы канца 20 ст.: Георгіеўская (в. Ботава, 1989), царква (в. Жытнавічы, 1990-я г.), Міхайлаўская (в. Забароўцы, 1996), Аляксандра Неўскага (в. Лышча, 1995), Успенская (в. Новы Двор, 1992), Святой Вольгі (в. Сошна, 1996). У Пінску ў 2001 г. патрыярх маскоўскі Аляксій асвяціў Свята-Федараўскі праваслаўны сабор; сядзіба (в. Заполле, 1920-я г.); паркі сяр. 18 ст. ў в. Дубай, 1-й пал. 19 ст. ў в. Парэчча, 19 ст. ў в. Сташаны і сядзібныя дамы канца 19 — пач. 20 ст. ў в. Заполле, Паўтаранавічы; сінагога і будынак Талмуд-Торы (пач. 20 ст., в. Пагост-Загародскі). Выдаецца газ. «Полесская правда».

**ПІНСК** — горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Пінскага р-на Брэсцкай вобл., у сутоку рэк Піна і Прыпяць, чыг. ст. на лініі Пінск—Лунінец, вузел аўтадарог на Іванава, Івацэвічы, Лунінец, Столін. Рачны порт. За 180 км на У ад Брэста, 130 268 жыхароў (2005). Старажытнае славянскае паселішча эпохі Кіеўскай Русі. Летапісны Пінеск, Піньск упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1097 г.: уладзімірскі кн. Давыд Ігаравіч папярэджвае вял. кн. кіеўскага Святаполка Ізяславіча аб намеры цerабоў-

*Рачны вакзал у Пінску.*







*Выгляд г. Пінск з боку Піны.*



*Набярэжная р. Піна ў Пінску.*

льскага кн. Васілька Расціславіча захапіць велікакняжацкія ўладанні, у т.л. Пінск. Паводле археал. даследаванняў, гарадзішча стараж. Пінска размяшчалася на левым узвышаным беразе р. Піна. Уключала дзядзінец пл. больш за 1,5 га, вакольны горад і гарадскі пасад. Вакольны горад быў умацаваны равамі і валамі з драўлянымі навальнымі пабудовамі, меў радыяльна-кальцавую планіроўку, зрубныя аднакамерныя пабудовы з драўлянай падлогай і глінабітнымі печамі. Жыхары займаліся земляробствам, паляваннем, рыбалоўствам і рамёствамі. Ёсць сведчанне пра пашыраныя гандлёвыя сувязі з Валынню, Кіевам, Паўн. Прычарнамор'ем. Да пал. 12 ст. ў складзе Турава-Пінскага княства, кіраваўся тураўскімі князямі. У 1132 г. вял. кн. Яраполк Уладзіміравіч далучыў Пінск разам з Туравам да Мінскага княства пад уладу князя Ізяслава. З 1157 г. ў самастойным удзельным Тураўскім княстве. У 2-й пал. 12 ст. пры тураўскім князю Юрыю Яраславічу (праўнук Ізяслава Яраславіча з роду Рурыкавічаў) пінскі ўдзел выдзеліўся ў самастойнае княства. Першым яго кня-



*Панарама г. Пінск.*

зем стаў Ярослаў Юр'евіч, заснавальнік лініі пінскіх князёў Рурыкавічаў. У 12—13 ст. Пінскае княства знаходзілася пад уплывам Уладзіміра-Валынскага і Кіеўскага княстваў, прымала ўдзел у барацьбе Галіцка-Валынскіх князёў з Літвой за землі Заходняй Русі. У 1183 г. «Ярослав князь Пиньский» удзельнічаў у паходзе князя кіеўскага Святаслава на полаўцаў. У 1247 г. аб'яднаныя сілы пінскага кн. Міхаіла, Данілы Галіцкага і Васілька Валынскага адбілі наступ на Пінск літоўскіх дружын, а ў 1274 г. пінскія дружыны прынялі ўдзел у паходзе галіцкага князя на Літву. Пад 1263 г. ў летапісе згадваецца Успенская праваслаўная царква (прадмесце Лешча), якая, паводле падання, заснавана яшчэ ў часы кн. кіеўскага Уладзіміра Святога. Пасля мангола-татарскага нашэсця Тураў канчаткова страціў сваё значэнне і Пінск стаў цэнтрам эканам. і духоўнага жыцця Тураўскай зямлі. У 13 ст. ўтворана Пінская праваслаўная епархія. З пач. 14 ст. ў складзе ВКЛ, у Трокскім ваяв. У 1316—22 гг. Пінскам і княствам завалодаў князь Гедзімін, які перадаў іх пад уладу сыну Нарымунту. Пасля яго гібелі ў 1348 г. (пры абароне Пінска ад крыжакоў) Пінскам валодалі яго нашчадкі: Міхаіл, Васіль, Юрый, Аляксандр. У 1386 г. ўнук Нарымунта Васіль Міхайлавіч прысягнуў каралю Ягайлу. Юрый Нос, намеснік Вітаўта, на чале пінскага атрада прымаў удзел у Грунвальдскай бітве 1410 г. У канцы 14 ст. Пінскам часова валодаў Жыгімонт Кейстутавіч, які канфіскаваў землі Юрыя Носа і ўтварыў староства — буйны дзярж. маёнтак у ВКЛ. У 1396 г. ён пасяліў у Пінску францысканцаў і фундаваў для іх манастыр. Пасля 1440 г. Пінск — уласнасць вял. кн. літ. Казіміра Ягайлавіча, які перадаў пінскі ўдзел пад кіраванне намесніка князя Юрыя Сямёнавіча Нарымунтавіча, а ў 1471 г. — удаве кн. Сямёна Алелькавіча Мар'і Сямёнавай (з Гаштольдаў) «в хлебокормление». У канцы 15 ст. княства перайшло да кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча пасля шлюбу яго з дачкой Мар'і Аленай (1498—1521). Пры іх двары ў замку жыў вядомы рэзчык па дрэве Ананія. У 1519—56 гг. Пінск — уласнасць каралевы Боны Сфорца («пинская пани дедичка», «пани отчычка пинская»). Адм. і судовую ўладу ў старостве з 1521 г. ажыццяўлялі старосты (намеснікі). Першым з іх у Боны быў Іван Міхайлавіч Харэвіч (1524—1543) — дзяржаўца і староста пінскі. У 1-й пал. 16 ст. ў Пінску 680 двароў, каля 5,1 тыс. жыхароў, 27 вуліц, 4 брамы, Траецкі мост, гандлёвая плошча з крамамі, былі манапольная і саляная мытныя каморы; 17 праваслаўных храмаў (2 мураваныя), у т.л. 2 манастыры; пры цэрквах працавалі прыходскія школы, касцёлы і кляштары францысканцаў і дамініканцаў (засн. ў 1542). На месцы стараж. дзядзінца размяшчаўся замак. Працавалі 177 рамеснікаў прыватных і замкавых, у т.л. 48 займаліся апрацоўкай металаў (кавалі, слесары, пушкары, залатары), кажэўнікаў — 31, шаўцоў-краўцоў — 7, 30 мяшчан займаліся гандлем. Багатыя купцы і ліхвяры арандавалі ў Боны мытныя каморы, корчмы, рыбны промысел (азёры), скуплялі ў горадзе пляцы і дамы. На ўтрыманні замкавага «ўрада» жылі 2 пушкары (згадваецца знатны майстар зброі Васка Бакуновіч), дойліды Занко і П.Радзівонавіч, півавар, мернік. Згадваюцца 4 лекары, 5 музыкантаў і скамарохаў (1 арганіст). Будаўніцтвам і рамонтам абарончых збудаванняў кіравалі «гараднічы» Іван Кгадзебскі і «мастоўнічы» Якуб Тукальскі. У Лешчанскім манастыры жыў вядомы летапісец манах Мітрафан. Там была вялікая б-ка рукапісных кніг, у т.л. Апостал 14 ст. на пергаменце. На пач. 16 ст. складваецца яўрэйская абшчына. Каля 1518 г. кн. пінскі Фёдар Іванавіч Яраславіч вымяняў у епіскапа Іоны 3 двары на сяліцьбу «жидам нашим пинским» за іх грашовыя пазыкі. У пал. 16 ст. яны мелі ўжо каля 100 пляцаў (5% агульнагарадской плошчы) і займалі асобны квартал, была сінагога. У ліку вуліц згадваецца Жыдоўская. На пач. 1560-х г. яны



плацілі ў казну 600 коп грошаў. У 1566 г. Пінскае княства скасавана. З 1569 г. Пінск стаў цэнтрам павета Берасцейскага ваяв. У 1581 г. горад атрымаў магдэбургскае права і герб — у чырвоным полі залаты лук са стралой і нацягнутай цецівой. У канцы 16 ст. ўзнікла Пінска-Тураўская уніяцкая епархія. У адказ на ганенні праваслаўнага насельніцтва тады ж узнікла пінскае богаяўленскае брацтва, у якое ўвайшлі члены гар. магістрата, рамеснікі, купцы. Былі адкрыты школа, багадзельня. У 1614 г. намаганнямі шляхцянкі Яніны Макараўны Гарабурдзінай, жонкі слонімскага суддзі, на беразе Піны, за вонкавым валам замка, у дварышчы Полазаўскім, была пабудавана Богаяўленская царква, куды сабраліся праваслаўныя іерэі і манахі Лешчанскага манастыра. Узнік Богаяўленскі манастыр. Уніяты на чале з біскупам Паісіем Сахноўскім разрабавалі царкву, забралі яе ўгоддзі. У 1633 г. кароль Уладзіслаў IV вярнуў братчыкам іх правы і манастыр быў адноўлены. Пры ім дзейнічалі 2 пач. школы, шпіталь, збіраліся сродкі на аднаўленне праваслаўных цэркваў. У вучылішчы выкладалі беларускую, лацінскую, грэчаскую і польскую мовы, 7 вольных мастацтваў. На пач. 17 ст. Пінск стаў зборным пунктам польска-літоўскіх войск падчас іх паходу на Маскву. У 1633 г. староста пінскі кн. Альбрыхт Радзівіл пасяліў у Пінску езуітаў і пабудаваў для іх касцёл і калегіум, пры якім працавалі друкарня (з 1729 г.), аптэка. У канцы жніўня 1648 г. ў адказ на эканам. прыгнёт шляхты, знявагу праваслаўнай веры ў Пінскім пав. пачалося сял. паўстанне, гарэлі шляхецкія маёнткі, фальваркі каталіцка-уніяцкага кліра. Спроба Уладзіслава Валовіча задушыць паўстанне была сарвана казацка-сял. атрадамі Гладкага. Паўстанне падтрымалі мяшчане і рамеснікі Пінска. У канцы вер. яны выбілі з горада жаўнераў і шляхту на чале з войтам палкоўнікам Лукашом Ельскім. Гетман літ. Януш Радзівіл паслаў на горад харугву стражніка Юрыя Мірскага.



*Могілкі часоў 1-й сусветнай вайны ў г. Пінск.*

Бурмістры і ратманы горада запрасілі на дапамогу казацкі атрад А.Нябабы. 7 кастр. да горада падыйшоў Мірскі з артылерыяй і атрад наёмнікаў-немцаў палкоўніка Шварца. У час штурму (2 дні) казакі і жыхары горада змагаліся да апошняга. 10.10.1648 г. горад быў узяты. Карнікі знішчылі 14 тыс. жыхароў, больш за 5 тыс. дамоў. Згарэлі 2 касцёлы, 5 уніяцкіх цэркваў, праваслаўныя манастыр і царква. У сярэдзіне 17 ст. ў горадзе каля 10 тыс. жыхароў, у т.л. 280 купцоў. У 1706 г. пінскі староста кн. Вішнявецкі умацаваў горад: быў узведзены новы мураваны замак з байніцамі і падземнымі хадамі. 5.5.1706 г. ў ходзе Паўночнай вайны Карл XII авалодаў горадам, а пакідаючы яго, спаліў палац Вішнявецкага і разбурыў замак. У 1710 г. ў Пінск прыбыў пасланец Пятра I з мэтай падрыхтоўкі паходу рус. войск на Азоў. На р. Бобрык ён арганізаваў будоўлю суднаў, у горадзе адлівалі гарматы, навучалі салдат-рэкрутаў і матросаў. У жн. 1706 г. падрыхтоўка была закончана і атрад на суднах адплыў у Кіеў.

У 17—18 ст. склалася квартальная планіроўка горада. Вылучаліся 2 раёны: паблізу замка і па р. Ясельда ў паўночнай частцы. Воссю горада была Вялікая Спаская вуліца, што цягнулася ўздоўж р. Піна. Тут былі 143 сядзібныя пляцы, кляштар францысканцаў, карчма, агароды. Цэнтрам з'яўляўся замак з земляным валам, за ім гандлёвая плошча з крамамі і каморамі, важніцай, гандлёвымі радамі. Да пал. 18 ст. пабудаваны касцёлы і кляштары францысканцаў, кармелітаў





*Свята-Варварынская царква ў г. Пінск.*


*Будынкі Пінскага езуіцкага калегіума.*


*Пінскі касцёл і манастыр францысканцаў.*

(1734), марыявітак (1746), бернардзінцаў, камунітаў, дамініканцаў (1668). У 2-й пал. 17—18 ст. самым значным і багатым быў Богаяўленскі праваслаўны манастыр. Яму былі вернуты дамы, пляцы і сёлы і падначалены 20 прыходскіх цэркваў (Давыд-Гарадоцкая пратапопія). У 1794 г. ў горадзе 548 дамоў, 3716 жыхароў. Большасць дамоў і пляцаў належала католікам і яўрэям. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (з 1793) Пінск у складзе Рас. імперыі, з 1795 г. ў Мінскім намесніцтве, потым Мінскай губ., павятовы горад. Указам Кацярыны II Пінска-Тураўская уніяцкая епархія скасавана (1795). У 1811 г. ў Пінску 2415 жыхароў, у 1825 г. — 722 дамы. У 1865—2155 жылых дамоў, 12 963 жыхары, з іх 9160 яўрэяў (каля 71%), мяшчан — 8418; купцоў — 360. Працавалі 17 прадпрыемстваў: мылаварнае, 3 гарбарныя, 4 ганчарныя, 6 маслабойных, 2 бровары, медаварня. Рамяством займаліся 956 жыхароў (выраб адзення, абутку, прадметаў хатняга і гасп. ўжытку). У 1832 г. заснавана прыходскае вучылішча, у 1834 г. — 5-класнае дваранскае вучылішча (з 1858 г. — 7-класная гімназія, з 1865 г. — рэальная гімназія, з 1872 г. — рэальнае вучылішча, у 1914 г. было 308 вучняў), жаночая 4-класная гімназія (1860), павятовае духоўнае вучылішча з падрыхтоўчым класам (у 1861, займаліся 265 вучняў); працавалі 17 прадпрыемстваў, у т.л.: па вытворчасці медных вырабаў, свечак і мыла, 3 гарбарныя, 4 ганчарныя, 6 маслабойных, 2 бровары, медаварня, паравы млын, 3 праваслаўныя царквы, 2 манастыры, касцёл, 2 капліцы, 3 сінагогі, 24 малітоўныя школы (хедэры); бальніца, багадзельня. У горадзе праводзіліся 3 штогадовыя кірмашы, 3 штотыднёвыя базары; 245 крам, кафейня, 2 пастаялыя двары; паштовая станцыя (5 экіпажаў, 12 коней) і кантора. У 1864 г. ўстаноўлена тэлеграфная сувязь Пінск—Гродна. Вялікую ролю ў міжнародным транзітным гандлі адыгрываў порт. У 1875 г. тут грузілася і разгружалася больш за 300 суднаў. З 1882 чыг. стан-


*Палац Бутрымовіча ў г. Пінск.*







*Будынак сінагогі ў г. Пінск.*

*Свята-Фёдараўская царква ў г. Пінск.*



*Забудова г. Пінск.*



*У Дзень Перамогі ў Пінску. 2006 г.*

цыя на лініі Жабінка—Пінск Палескіх чыгунак. У 1884 г. адкрыты рух на лініі Пінск—Лунінец. У Пінску размясціліся галоўныя майстэрні Палескіх чыгунак (160 рабочых). У 1897 г. ў Пінску 28 368 жыхароў (46,4% пісьменных). На пач. 20 ст. было 29 500 жыхароў, 20 гасцініц, 5 корчмаў, 8 рэстаранаў і шынкоў, 12 сталовак, 7 піўных і вінных крам, склад с.-г. машын і прылад. Пінск — буйны транзітны порт, горад з развітой фабрычна-заводскай прам-сцю. У 1904 г. тут 32 960 жыхароў, 21 прадпрыемства (1654 рабочыя), 6360 жылых будынкаў (469 мураваных). Найбуйнейшыя прадпрыемствы: майстэрні Палескіх чыгунак (у 1908 г. — 230 рабочых) з цэхамі ліцейным, калёсным, кацельным; фанерна-лесапільны з-д, цвіковая, запалкавая ф-кі (500 рабочых), суднабудаўнічы з-д (160 рабочых), 3 тытунёвыя ф-кі (180 рабочых), чыгунасталеліцейны з-д (35 рабочых), ф-ка хімпрадуктаў (16 рабочых), 3 гарбарныя заводы, 6 млыноў, ф-ка па вырабе струн і інш. Пры чыг. майстэрнях працавалі вячэрнія курсы з выкладаннем арыфметыкі, фізікі, чарчэння, тэхналогіі, чыг. майстэрства. У 1904 г. прамысловасць горада выпрабляла прадукцыі на 1 180 тыс. руб., працавалі 3 бальніцы, 10 урачоў, 1 сярэдняя навуч. ўстанова і 9 пач. школ. З 1898 г. працавала класнае прыватнае яўр. вучылішча (у 1914 г. займаліся 63 вучні). Выдаваліся: «Пинский листок» (1910—11), «Пинский голос» (1912), «Тэлеграмы» (1914—1915), «Объединение» (1915). У 1910 г. было 3129 дамоў (249 мураваных), 36 409 жыхароў; 104 вуліцы асвятлялі 320 газавых ліхтароў, было 5 сярэдніх навуч. устаноў (1324 вучні), 13 ніжэйшых (2256 вучняў). У 1914 г. было 3766 рамеснікаў, з іх 1508 майстроў. З 5.9.1915 г. да 25.1.1919 г. Пінск акупіраваны германскімі войскамі, з 15.3.1919 г. — польскімі войскамі. У 1921—39 гг. Пінск у складзе Польшчы, цэнтр павета Палескага ваяводства. У 1921 г. было 23 468, у 1931 г. — 33 517 жыхароў; 6233 будынкі (512 мураваных), 147 вуліц. У 1931 г. было 3,5 тыс. беспрацоўных. З 1924 г. дзейнічалі акру-

говы і гарадскі камітэты КПЗБ і КСМЗБ. У 1923—24 гг. і ў 1928 г. адбываліся стачкі, у 1930 г. — хваляванні беспрацоўных. У 1939 г. дзейнічаў паўстанцкі штаб, паўстанцкія атрады на чале з М.Г.Піскуном і А.І.Прыступам. 20.9. 1939 г. Пінск вызвалены Чырвонай Арміяй. З 4.12. 1939 г. цэнтр Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. цэнтр раёна, горад абласнога падпарадкавання. У 1939 г. 35,9 тыс. жыхароў. Працавалі суднарамонтны, 2 фанерныя з-ды, запалкавая ф-ка «17 Верасня» і інш. Усяго да пач. 1941 г. было 15 дзярж. прадпрыемстваў, 16 прам. каап. арцеляў (усяго 4,2 тыс. рабочых); 3718 дамоў, 44 560 жыхароў. Працавалі 16 школ, у т.л. фельч.-акушэрская і муз., 2 школы фабрычна-заводскага навучання; заснаваны настаўніцкі ін-т, педвучылішча, рамеснае вучылішча, рачнога флоту; Дом піянераў, Дом нар. творчасці, Пінскі тэатр, станцыя юных натуралістаў. Дзейнічалі 2-месячныя курсы трактарыстаў (150 навучэнцаў). З 26.9.1939 г. выдавалася газета «Палеская праўда». У Вял. Айч. вайну 4.7.1941 г. Пінск акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 22.6.1941 г. створаны пінскі знішчальны атрад на чале з В.З.Каржом, які стаў першым партыз. атрадам («Камарова») у вобласці. Дзейнічалі Пінскае антыфашысцкае падполле, падп. абкомы і райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, выдавалася падп. газ. «Палеская праўда». 7.8.1941 г. фашысты знішчылі вязняў яўр. гета — 8 тыс. чалавек. За час акупацыі было знішчана больш за 59 тыс. жыхароў і ваеннапалонных, 2356 дамоў. Вызвалены 14.7.1944 г. войскамі 28-й і 61-й армій 1-га Бел. фронту пры падтрымцы Дняпроўскай ваеннай флатыліі і партызан Пінскага партыз. злучэння. 18 часцей і злучэнняў Чырвонай Арміі атрымалі ганаровае найменне «Пінскіх», 11 воінаў сталі Героямі Савецкага Саюза. У першыя пасляваенныя гады аднавілі работу хлебазавод, малочны з-д, мясакамбінат, фанерны з-д, запалкавая ф-ка, навуч. ўстановы. Адчынены ўлікова-крэдытны тэхнікум, электратэхнікум сувязі, гідрамеліярацыйны тэхнікум, тэхнікум мяса-малочнай прам-сці; пачалі работу драмтэатр імя Я.Купалы, абласны краязнаўчы музей і інш. З 8.1.1954 г. цэнтр раёна ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. — 41,5 тыс. жыхароў. У 1970 г. — 61,8 тыс. жыхароў; у 1963 г. дзейнічалі 25 прамысловых прадпрыемстваў. У 1968 г. пушчаны камбінат верхняга трыкатажу, пазней прам.-гандл. аб'яднанне «Палессе», адно з буйнейшых у Еўропе па выпуску верхняга трыкатажу. У 1986 г. 112,6 тыс. жыхароў. У 1998 г. ў Пінску 12 грамадскіх музеяў, у т.л. музей этнаграфіі Піншчыны; музей этнаграфіі Палесся. У канцы 20 ст. працавалі суднабудаўніча-суднарамонтны з-д, ліцейна-механічны з-д, заводы доследна-механічны, сродкаў малой механізацыі і металаканструкцый, з-д штучных скур, ф-ка мастацкіх вырабаў «Крыніца Палесся», ільнозавод, запалкавая ф-ка, фанерны з-д, з-д будматэрыялаў, з-ды кармавых вітамінаў; кансервавы, хлебазавод, прам.-гандл. трыкатажнае прадпрыемства «Дынама», мясакамбінат і інш.; гідрамеліярацыйны тэхнікум, індустр.-пед. каледж, с.-г. каледж, тэхнікум мясной і малочнай прам-сці, банкаўскі каледж, вучылішча мастацтваў; музей Беларускага Палесся. У 2006 г. адчынены Палескі дзярж. ун-т. Помнікі: мемарыяльны комплекс вызваліцелям, помнік ахвярам фашызму, маракам, помнік і мемарыяльная дошка В.З.Харужай, мемарыяльная дошка ў гонар штаба Дняпроўскай ваеннай флатыліі, на месцы стварэння партыз. атрада В.З.Каржа; брацкая магіла 155 сав. воінаў, маракоў і партызан, у т.л. Герояў Сав. Саюза Ц.І.Калініна, А.Ц.Кулікова.

Вядзецца гарадское і раённае радыёвяшчанне, выдаецца раённая газ. «Полесская правда». Радзіма архітэктара, акадэміка архітэктуры, сапраўднага члена Акадэміі архітэктуры СССР, Акадэміі будаўніцтва і архітэктуры СССР, ганаровага акадэміка АН БССР, засл. дзеяча навукі і мастацтва РСФСР, засл. дзеяча мастацтваў БССР І.В.Жалтоўскага, Героя Сав. Саюза П.Ю.Корбута, польскага



гісторыка і паэта А.С.Нарушэвіча (1733–96), удзельніка барацьбы за сав. ўладу на Гомельшчыне М.С.Бастынца, удзельніка рэв. і нац.-вызв. руху ў Зах. Беларусі І.Г.Бернштэйна, бел. мастакоў С.Г.Наздрыной-Плотніцкай, Я.С.Шатохіна, М.Р.Казлоўскага, бел. паэта В.Ф.Грышкаўца, засл. трэнера Рэспублікі Беларусь А.Ф.Шыпіціеўскага, засл. ўрача П.А.Рудзіка, доктара эканам. навук В.І.Букаты, доктара с.-г. навук, праф. Б.М.Гута, доктара фізіка-матэматычных навук М.І.Ерамца, доктара медыцынскіх навук Г.К.Нядзведзя, доктара хімічных навук А.А.Шэра, члена-карэспандэнта Акадэміі медыцынскіх навук СССР, доктара медыцынскіх навук, праф. Ш.Д.Машкоўскага, архітэктара В.Б.Васіленкі.

**АЗАРЫЧЫ** – вёска ў Валішчанскім с/с, за 44 км на ПнЗ ад Пінска, 232 км ад Брэста, каля шашы Пінск–Івацэвічы. 193 гаспадаркі, 46 жыхароў (2005).

У пал. 16 ст. каралеўскае сяло ў Пінскім старостве ВКЛ, потым уласнасць Завішаў, Тарнаўскіх. У 1557 г. Сцяпан Танаўскі прадаў маёнтак войскаму кобрынскаму Макару Марціновічу. У 18 ст. ўласнасць Агінскіх. У канцы 18 ст. на сродкі Міхаіла Агінскага пабудавана уніяцкая царква, якой даў 4 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім павеце Мінскай губерні. У 1860-я г. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Целяханскай воласці, уласнасць Пуслоўскіх, 40 двароў, 463 жыхары. У 1866 г. пабудавана Пакроўская царква (драўляная). У 1880-я г. 45 двароў, 475 жыхароў. У 1897 г. былі 102 двары, 704 жыхары, царква, прыходская школа, хлебазапасны магазін; сядзіба на паштовым тракце Пінск–Целяханы – 2 двары, 14 жыхароў, царква. На пач. 20 ст. 114 двароў, 1028 жыхароў. У 1921–39 гг. вёска ў Целяханскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. 52 двары, 385 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Калонскім с/с Целяханскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай вобл. У 1941 г. было 160 двароў, 630 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў лют. 1944 г. ням. фашысты знішчылі 16 двароў, загубілі 17 жыхароў. З 8.8.1959 г. ў Лагішынскім, з 25.12.1962 г. ў Пінскім р-нах. У 1960 г. ў вёсцы 847 жыхароў. У 1969 г. 227 двароў, 935 жыхароў (цэнтр калгаса імя Жданава); за 2 км Хварашчанскае торфапрадпрыемства; сярэдняя школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. – цэнтр СВК «Азарычы», 201 двор, 479 жыхароў, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Магіла ахвяр фашызму з в. Азарычы, Клятная Сакалоўка; помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.



*Агінскі канал каля в. Азарычы.*

**АЛЬШАНКА** – вёска ў Парэцкім с/с, за 31 км на ПнЗ ад Пінска, 209 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст–Гомель. Транспартныя сувязі па дарозе Альшанка–Велясніца, з перапраўай цераз р. Ясельда. 69 гаспадарак, 109 жыхароў (2005).

У інвентары 1671 г. ўпамінаецца як сяло Волька Альшанка ў Каўняцінскім войтаўстве Пінскага пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1770-х г. у Каўняцінскім старостве, уласнасць Скірмунтаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Парэцкай вол., у складзе маёнтка Кажанёва Караліны Скірмунтавай, 68 рэвізскіх душ. У 1897 г. было 37 двароў, 261 жыхар. На пач. 20 ст. 52 двары, 257 жыхароў. У 1921–39 гг. у скла-


*Новыя дамы ў аграгарадку Аснежыцы.*

дзе Польшчы, вёска ў Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 33 двары, 236 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. сяло ў Парэцкім с/с, 75 двароў, 413 жыхароў, створаны калгас імя Кірава (40 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну ў баях з ворагам загінулі 9 землякоў вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 441 жыхар, у 1970 г. 519 жыхароў, у складзе калгаса «Праца». У 2000 г. 75 двароў, 122 жыхары. Помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай дзвюма кароткімі шыротнымі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**АСНЕЖЫЦЫ** — вёска, цэнтр Аснежыцкага с/с, за 10 км на Пн ад Пінска, 195 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Пінск, каля шашы Брэст—Гомель. 416 гаспадарак, 1290 жыхароў (2005).

У 1-й пал. 16 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім старостве ВКЛ, уласнасць Завішаў у складзе іх маёнтка Даўгердзішкі. У 1540 г. Ян Юр'евіч Завіша завяшчаў Аснежыцы жонцы Ганне Васільеўне, княгіні Палубінскай, што пацвердзіў кароль Жыгімонт І Стары (1540). Да 1557 г. маёнтак Сцяпана Тарнаўскага, потым па купчай перайшоў да войскага кобрынскага Макара Марціновіча «...двор Оснежичи, з будованьем дворным, с челядью невольною, с пашнею дворною..., с слугами путными и со всеми людми тяглыми...». З 1592 г. ўласнасць Ежы Карэнгі, з 17 ст. — пінскіх езуітаў. У 18 ст. паводле прывілея караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага маёнтак перайшоў да суддзі гродскага пінскага Адама Скірмунта з гадавым прыбыткам у 800 злотых польскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-х г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Ставоцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 167 душ. У 1880-я г. складалася з 2 частак у 36 і 16 двароў. У 1897 г. былі вёска — 77 двароў, 585 жыхароў, ваколіца — 55 двары, 398 жыхароў, капліца-калона св. Яна Хрысціцеля; сядзіба — 2 двары, 16 жыхароў. На пач. 20 ст. 97 двароў, 1067 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. вёска ў Ставоцкай, з 1928 у Пінкаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. 85 двароў, 409 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пасяніцкім с/с, 146 двароў, 787 жыхароў (1940); створаны калгас імя Сталіна (136 гаспадарак), працаваў мех. млын. У Вял. Айч. вайну ў 1941—44 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 23 жыхары вёскі. У 1948 г. арганізаваны калгас «Аснежыцкі». З 3.6.1957 г. цэнтр сельсавета і калгаса імя Сталіна, у якім у 1954 г. былі 381 гаспадарка, 1076 жыхароў; у 1960 г. — 722 жыхары. У 1970 г. — 708 жыхароў, 215 двароў, цэнтр калгаса «Аснежыцкі», 8-гадовая школа, Дом культуры. У 2000 г. — 381 двор, 1235 жыхароў, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом рамёстваў, муз. школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз.

*Сярэдняя школа аграгарадка Аснежыцы.*





сувязі і Беларусбанка, нафтаперапампоўвальная ст. «Пінск» нафтаправода «Дружба». У 2002 г. створаны Музей Працоўнай славы калгаса «Аснежыцкі», у якім працаваў двойчы Герой Сацыяліст. Працы У.А.Ралько. У 2004 г. цэнтр ААТ «Аснежыцкае». На тэр. сельсавета 9 вёсак, 1701 гаспадарка, 5253 жыхары. Важную частку вёскі займае забудова адм. і культурна-бытавога цэнтра сельсавета разам з пасёлкам нафтавікоў, якія абслугоўваюць нафтаправод «Дружба». Аснову забудовы складае вуліца ў выглядзе бульвара, забудаваная 3-павярховымі 18-кватэрнымі дамамі. Тут знаходзіцца Дом культуры, гандл. комплекс, адм. будынкі, спарт. комплекс, дзіцячы сад, школа. Радзіма Герояў Сац. Працы Л.М.Журбілы, Л.Ц.Мазоль, К.П.Ляснічай.

**АСНІЦА** — вёска ў Парахонскім с/с, за 28 км на ПнУ ад Пінска, 203 км ад Брэста, 1 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец, каля р. Бобрык. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Пінск—Лунінец. 33 гаспадаркі, 58 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. згадваецца як урочышча ў Пінскім старостве ВКЛ, у складзе маёнткаў каралевы Боны Сфорца. У 17 ст. кароль польскі і вял. кн. ВКЛ Ян III Сабескі падараваў яго за ваенныя заслугі шляхціцу, ротмістру Мірону Літвіновічу. З часам узнікла паселішча. На пач. 20 ст. ўрочышча ў Пагост-Загародскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 5 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, калонія ў Хатыніцкай гміне Лунінецкага пав. У 1921 г. 36 двароў, 177 жыхароў, хутар, млын, лесапільны завод. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Парахонскім с/с Пінскага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 77 жыхароў; у 1970 — 208 жыхароў, у складзе саўгаса «Парахонскі». У 2000 г. — 44 гаспадаркі, 75 жыхароў. Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.



*Аўтастаянка ў в. Аснежыцы.*

**АСОБАВІЧЫ** — вёска ў Калавуравіцкім с/с, за 45 км на У ад Пінска, 225 км ад Брэста, 45 км ад чыг. ст. Пінск. Транспартныя сувязі па дарозе Асабовічы—Качановічы. 17 гаспадарак, 32 жыхары (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім старостве ВКЛ. Каля 1520 г. кн. Фёдар Іванавіч Яраславіч запісаў пінскаму Варварынскаму манастыру базыліянак дварышча Піскалаўшчыну ў Асобавічах. У сярэдзіне 16 ст. сяло гаспадарскага дварца Стытычава, у складзе войтаўства Хрысцібалоцкага. Паводле рэвізіі Л.Войны, складалася з 3 дварышчаў: Харытановічы, Койданавічы, Місюкоўшчына, якія ўзялі ў арэнду каралеўскія сяляне Харытановічы і Койданавічы, усяго 3 валокі 2 маргі 8 прутоў непрыдатнай зямлі, за якую плацілі «па старыне» 4 капы 23 гро-

*Выстаўка народнай творчасці ў Цэнтры культуры і адпачынку аграгарадка Аснежыцы.*





*Крыжаўзвіжанская царква ў в. Ахова.*

шы 4 пенязі. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав., уласнасць Скірмунта, 4 двары, 34 селяніны-уласнікі. У 1897 г. 18 двароў, 28 жыхароў; у маёнтку 3 двары, 7 жыхароў, капліца. На пач. 20 ст. 27 двароў, 121 жыхар; у маёнтку 9 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1921 г. 34 двары, 208 жыхароў. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с, 45 двароў, 278 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 10 жыхароў вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 304 жыхары, у 1970 г. 180 жыхароў, у складзе калгаса «Сцяг». У 2000 г. 28 двароў, 46 жыхароў.

**АСТРАВІЧЫ** — вёска ў Парахонскім с/с, каля р. Ясельда, за 20 км на У ад Пінска, 220 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Астравічы—Гарадзішча. 75 гаспадарак, 143 жыхары (2005).

Селішча жал. веку за 0,3 км на ПдЗ ад вёскі сведчыць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах у глыбокай старажытнасці. У сярэдзіне 16 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім старостве ВКЛ, у 1559 г. ўласнасць Піліпа Жыжэмскага, у 1560-я г. кн. Андрэя Жыжэмскага — ляснічага кобрынскага. Пазней маёнтак перайшоў Радзівілам, потым Друцкім-Любецкім. Пасля 1566 г. ў складзе Пінскага пав. Берасцейскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1848 г. маёнтак Тэрэзіі і Юрыя Асмалоўскіх, 21 цяглы двор, 163 рэвізскія душы, у т.л. 130 рабочых і 15 дваровых. На сял. двор прыпадала па 15 маргоў ворыва. Усяго сяляне мелі 38 коней, 55 валоў, 54 каровы, 89 вулляў. У 1860-я г. цэнтр сельскай грамады ў Пінкавіцкай вол. У маёнтку 65 сялян-уласнікаў. У 1886 г. сяло, 21 двор, 250 жыхароў, праваслаўная царква. У 1894 г. на могілках пабудавана Міхайлаўская царква (не захавалася). У канцы 19 ст. ў вёсцы 38 двароў, 291 жыхар, хлебазапасны магазін, у маёнтку (Асмалоўскага) 3 жыхары, нар. вучылішча. На пач. 20 ст. ў вёсцы 51 двор, 387 жыхароў, у маёнтку — 9 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 63 двары, 403 жыхары. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Сошненскім с/с, 40 двароў, 498 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на фронце загінулі ці прапалі без вестак 20 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Гарадзішчанскім с/с. У 1960 г. 629 жыхароў, у 1970 г. — 450 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба народаў». У канцы 20 ст. 85 двароў, 148 жыхароў, вёска ў Парахонскім с/с, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Брацкая магіла сав. воінаў, загінуўшых у Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных шыротных вуліц, забудаваных рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**АХОВА** — вёска, цэнтр Ахоўскага с/с, за 20 км на ПнЗ ад Пінска, 177 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Гомель. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Кобрын—Лунінец. 269 гаспадарак, 599 жыхароў (2005).



Упамінаецца пад назвай Тохава ў 1495 г. ў прывілеі караля Казіміра Ягелончыка Пінскаму францысканскаму манастыру. З 1560 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, сяло кляштарнае. У 1639 г. згадваецца царква. У 1758 г. францысканцамі заснаваны касцёл (з 1798 г. Троіцкі касцёл), які быў перададзены уніятам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У канцы 1850-х г. сяло падухоўнае, цэнтр сельскай грамады, у якой 1149 дзярж. сялян, 130 аднадворцаў на сваёй зямлі і 6 на дзярж. (старшыня грамады Гаўрыла Мініч). У сяле 48 двароў, 375 жыхароў. У 1860-я г. дзярж. сяло ў Жабчыцкай вол. Пінскага пав., 46 двароў, 531 жыхар. У 1865 г. заснавана Крыжаўзвіжанская царква, у 1897 г. 104 двары, 615 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 113 двароў, 349 жыхароў, нар. вучылішча, працавалі 50 мясц. рамеснікаў (колы, абады, сані і г.д.); у сядзібе 3 двары, 15 жыхароў. У 1914—41 гг. працаваў кааператыў «Дольнік». У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 157 двароў, 822 жыхары, касцёл. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 200 двароў, 971 жыхар, лесазавод, мех. млын. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 144 вяскоўцы. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Сталіна, аб'ядноўваў 724 гаспадаркі, 1861 члена. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 988, у 1970 г. — 1023 жыхары, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка». У пач. 1990-х г. пабудаваны 2 капліцы. У канцы 20 ст. 279 гаспадарак, 640 жыхароў; сярэдняя школа, бальніца, аптэка, дзіцячы сад, аддз. сувязі і «Беларусбанка», Дом культуры, б-ка. У 2004 г. цэнтр СВК «Ахова». На тэр. сельсавета 2 сярэднія школы, 2 дзіцячыя сады, 2 клубныя ўстановы, Дом народнай творчасці, 2 бібліятэкі, участковая бальніца, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, 9 крам, комплексны прыёмны пункт, 4 лазні, 2 аддз. сувязі, 2 аддз. «Беларусбанка», царква Раства Багародзіцы. Помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну (устаноўлены ў 1969). Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**БАКІНІЧЫ** — вёска ў Сошненскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Пінска, 215 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец, на аўтадарозе Парахонск—Дабраслаўка. 123 гаспадаркі, 225 жыхароў (2005).

У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў княгіні Мар'і Сямёнавай. У 1495 г. згадваецца ў яе дарчай грамаце зямяніну Алехну Рыгоравічу на 2 дварышчы і чалавека ў Бакінічах. У 1524 г. пацверджана каралевай Бонай Сфорца нашчадку Івану Аляхновічу: «А мает он нам и его потомки служити службою военною, часу войны...» З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1757 г. згадваюцца як маёнтак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-х г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Пагост-Загародскай вол., у складзе аднайменнага маёнтка Скірмунта, 131 рэвізская душа. У 1886 г. згадваецца вінакурны з-д. У 1897 г. вёска — 211 двароў, 508 жыхароў, царква (на могілках), хлебазапасны магазін; у сядзібе Скірмунта — царква, капліца (на могілках); у маёнтку (Скірмунта) — 2 двары, 10 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 89 двароў, 656 жыхароў; маёнтак — 2 двары, 12 жыхароў; нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, з 4.12.1922 г. Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1924 г. 123 двары, 708 жыхароў, царква. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г.

ў Дубнавіцкім с/с, 145 двароў, 916 жыхароў (1940). Напярэдадні Вял. Айч. вайны 154 двары, 785 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупірававы ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 г. знішчылі 140 двароў, 9 жыхароў. У 1960 г. вёска ў Парахонскім с/с, 871 жыхар, у 1970 г. 803 жыхары, у складзе калгаса імя Калініна. У канцы 20 ст. ў Сошненскім с/с, 140 двароў, 262 жыхары, пач. школа, б-ка. Археал. помнік — стаянка 5 — 3-га тысячагоддзяў да н.э. Арх. помнік — капліца Божай Маці. Пахаванні воінаў рус. арміі часу 1-й сусветнай вайны. Забудова бессістэмная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРЫЧАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Барычавіцкага с/с, за 35 км ад Пінска, 215 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Пінск, на аўтадарозе Калавуравічы—Біжаравічы. 110 гаспадарак, 300 жыхароў (2005). У канцы 15 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім старостве ВКЛ. Згадваецца ў дарчых граматах караля Казіміра Ягайлавіча, Жыгімонта I Старога баярыну Мікалаю Ляху Сырапяту дварышча Сыткоўскае ў сяле «Боричевичох». У 1524 і 1558 гг. каралева Бона Сфорца пацвердзіла згаданыя прывілеі яго нашчадку, войскаму пінскаму Марціну Янавічу Шырме. У 1560-я г. складалася з 5 дварышчаў і адышло пад заменную зямлю зямяніну Сямёну Ордзе. У 1567 г. ў ліку землеўласнікаў тут названы зямяне Вайцяховічы, якія ставілі ў войска «з дыму кляча» і каня; Іван і Мацвей Яцкевічы «з дыму кляча і мерын», Халецкі-Радкевіч — конь, Войцех Сянькевіч «з Боричевич» — конь. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1840-я г. ўласнасць Вітольда Орды, 9 двароў, 47 рэвізскіх душ, 156 дзес. зямлі. У 1860-я г. вёска ў Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 107 душ. У канцы 19 ст. былі вёска, 24 двары, 124 жыхары; ваколіца — 47 двароў, 270 жыхароў; ветраны млын, крама, капліца. На пач. 20 ст. ў вёсцы 24 двары, 160 жыхароў; у ваколіцы 42 двары, 276 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 83 двары, 443 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Біжаравіцкім с/с, 90 двароў, 617 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 446 жыхароў. З 16.4.1973 г. цэнтр сельсавета. У 1970 г. 110 двароў, 362 жыхары, цэнтр калгаса «Звязда»; швейная і шавецкая майстэрні, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, ветучастак, Дом культуры, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. 117 двароў, 301 жыхар; сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і Беларусбанка. У 2004 г. вёска — цэнтр СВК «Барычавічы». У сельсавеце 8 вёсак, 452 гаспадаркі, 978 жыхароў; сярэдняя і базавая школы, дзіцячы сад, Дом культуры, 2 клубы, 2 дамы нар. творчасці, 2 б-кі, 3 фельч.-акушэрскія пункты, 7 магазінаў, комплексны прыёмны пункт, 6 лазняў, аддз. сувязі і «Беларусбанка».

**БАСТЫЧЫ** — вёска ў Мерчыцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Пінска, 183 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Лунінец, на аўтадарозе Лагішын—Ахова. 29 гаспадарак, 36 жыхароў (2005).

У люстрацыі С.Хвальчэўскага (1552—55) згадваецца як сяло Бачычы ў Пінскім старостве ВКЛ. У канцы 16 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1561 г. ў межавай спрэчцы Макара Марціновіча і Марыны Кміцінай з Фалькай Грычынай згадваецца Басціцкая дарога. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска ў Крыўчыцкай сельскай грамадзе Ставоцкай вол., уласнасць Пуслоўскіх, 111 душ сялян. У 1897 г. вёска — 59 двароў, 365 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзіба — 7 жыхароў. На пач. 20 ст. 77 двароў, 627 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Ставоцкай, з 1929 г. ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 69 двароў, 417 жыха-



роў. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Масевіцкім с/с, 120 двароў, 528 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі 28 двароў, забілі 2 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Лагішынскім, з 1962 г. ў Пінскім р-нах. У 1960 г. 490 жыхароў, у 1970 — 287 жыхароў, у складзе саўгаса «Палескі». З 1973 г. ў Мерчыцкім с/с. У канцы 20 ст. 48 двароў, 56 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на З далучаецца з Пн кароткая, рэдка забудаваная вуліца. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БАЯРЫ** — вёска ў Аснежыцкім с/с, каля р. Ясельда, за 11 км на Пн ад Пінска, 196 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Пінск, аўтадарогай звязана з Пінскам. 69 гаспадарак, 169 жыхароў (2005).

Былое шляхецкае паселішча. У канцы 19 ст. вёска ў Ставоцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 55 двароў, 398 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ставоцкай, з 1928 г. ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 29 двароў, 275 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Пасеніцкім с/с, 74 двары, 384 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1957 г. ў Аснежыцкім с/с Пінскага р-на Брэсцкай вобл. У 1960 г. 375 жыхароў. У 1970 г. — 342 жыхары, у складзе калгаса «Аснежыцкі». У 2000 г. на тэр. ААТ «Аснежыцкае». 73 двары, 179 жыхароў, царква (1999), малое прадпрыемства «Спадарожнік». Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх, шыротнай арыентацыі вуліц (адна прамалінейная, другая крыху выгнутая), забудаваных двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЕРАЗЦЫ** — вёска ў Парахонскім с/с, на р. Прыпяць, за 60 км на У ад Пінска, 220 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Беразцы—Астравічы. 159 гаспадарак, 300 жыхароў (2005).

У пал. 16 ст. сяло ў складзе маёнткаў каралевы Боны Сфорца ў Пінскім старостве ВКЛ. У 1548 г. староста пінскі Пётр Кірдзеевіч Мыльскі даў у сяле дварышча «на хлебокормленье» баярыну пінскаму Федару Гусаіму (Гараіну) Буту з умовай «службу военну земскую конем служити». Паводле інвентара 1671 г., сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., мела 4 валокі 20 маргоў зямлі. У 1768 і 1739 гг. згадваецца ў прывілеях караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага Адаму Скірмунту. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 1850-х г. вёска, 10 двароў, 102 душы дзярж. сялян. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Плотніцкай вол., 164 жыхары. У канцы 19 ст. 25 двароў, 230 жыхароў; у ваколіцы 7 двароў, 47 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў ваколіцы Беражцы 132 двары, 887 жыхароў, нар. вучылішча, царква Макавеяў (1906). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Пінскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Столінскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 205 двароў, 825 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 203 двары, знішчылі 25 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1970 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. ў вёсцы 238 двароў, 966 жыхароў; сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, швейная майстэрня; прыстань на р. Прыпяць. У канцы 20 ст. 18 двароў, 390 жыхароў, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Царква Макавеяў, брацкая магіла сав. воінаў і партызан, загінуўшых у Вял. Айч. вайну.

**БЕРКАЗЫ** — вёска ў Дубайскім с/с, за 19 км на З ад Пінска, 156 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст, на аўтадарозе Па-

няцічы—Дубай. 43 гаспадаркі, 63 жыхары (2005).

Каля пал. 17 ст. згадваецца «двор у Берказах» у сувязі з пагромам казакамі тут каталіцкай шляхты. З 1760-х г. уласнасць пінскіх езуітаў, фальварак і карчма. Пазней уласнасць Ігнацыя Кужанецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1850-я г. дзярж. вёска, 13 двароў, 134 жыхары; фальварак маёнтка Дубай Іосіфа Купчанецкага. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Дубайскай вол. У канцы 20 ст. ў вёсцы 33 двары, 224 жыхары; у сядзібе 2 двары, 7 жыхароў; цагляным з-дзе 3 двары, 34 жыхары. На пач. 20 ст. было 38 двароў, 311 жыхароў; на хутары 9 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 21 двор, 195 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Дубайскім с/с, 80 двароў, 414 жыхароў, цагельны з-д. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 13 жыхароў вёскі (пахаваны ў в. Паняцічы). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 320 жыхароў, у 1970 — 261 жыхар, у складзе калгаса «Іскра». У канцы 20 ст. 45 двароў, 66 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі В.А.Ворана.

**БІЖАРАВІЧЫ** — вёска ў Барычавіцкім с/с, за 33 км на У ад Пінска, 213 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Пінск, на аўтадарозе Плотніца—Лемяшэвічы. 51 гаспадарка, 97 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча. Паводле яго прывілея дварышча ў сяле атрымаў баярын пінскі Міхна Валасовіч. Наданне пацвердзіла ў 1527 г. каралева Бона Сфорца зямяніну Васке Шпаковічу. У пал. 16 ст. сяло ў войтаўстве Хрысцібалоцкім Пінскага староства ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лемяшэвіцкай вол., маёнтак Орды — 48 душ сялян. У 1897 г. ў вёсцы 26 двароў, 151 жыхар, хлебазапасны магазін; у маёнтку 2 двары, 5 жыхароў. На пач. 20 ст. 34 двары, 209 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 42 двары, 239 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 52 двары, 322 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. знішчылі 10 двароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 290 жыхароў, у 1970 г. — 253 жыхары, у складзе калгаса «Зорка». З 1973 г. ў Барычавіцкім с/с. У канцы 20 ст. 60 двароў, 116 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**БОБРЫК** — вёска, цэнтр Бобрыкаўскага с/с, на р. Бобрык Верхні (прыток Прыпяці), за 60 км на ПнУ ад Пінска, 235 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Малькавічы на лініі Ганцавічы—Лунінец, на шашы Ганцавічы—Лагішын. 202 гаспадаркі, 471 жыхар (2005).

У 1559 г. сяло ў Пінскім старостве ВКЛ, на р. Бобрык, уласнасць «пана воеводы Троцкого». Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1797 г. падараваны імператарам Паўлам І за ваенныя заслугі Маеру Бунацэма Нагелю. Пазней перайшла да яго сястры Капіталіны Нагелевай і яе дзяцей Міхаіла і Восіпа. Паводле інвентара за 1844 г., маёнтак складаўся з вёсак Чамлі, Бобрык, Задуб'е, 45 двароў, 158 рэвізскіх



душ мужскога полу, у т.л. ў в. Бобрык 21 двор, 70 рэвізскіх душ. У маёнтку было 1600 валок зямлі. На сял. двор прыпадала па 15 дзес. ворыва. Промыслы: мядовы, лесаплаў. У 1860-х г. маёнтак Бартноўскіх у Дабраслаўскай сельскай грамадзе і валасці, 60 рэвізскіх душ; згадваецца паштовая станцыя на тракце Мінск–Пінск (9 коней, 4 экіпажы). У 1897 г. ў вёсцы 47 двароў, 287 жыхароў, піцейны дом, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 49 двароў, 344 жыхары, нар. вучылішча. У 1921–39 гг. ў складзе Польшчы, вёска і фальварак у Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 68 двароў, 413 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. сяло ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 100 двароў, 474 жыхароў. У 1941 г. ў вёсцы 88 двароў, 352 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 – ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. знішчылі 77 двароў. У барацьбе з ворагам загінулі 106 землякоў. Пасля вайны створаны калгас імя Калініна (у 1954 г. 393 гаспадаркі, 1247 жыхароў). З 25.12.1962 г. ў Пінскім р-не Брэсцкай вобл. У 1970 г. ў складзе калгаса імя Чапаева, 172 двары, 698 жыхароў, бальніца, амбулаторыя, аптэка, сярэдняя школа, камбінат бытавога абслугоўвання, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. 204 двары, 496 жыхароў, участковая бальніца, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка». У 2005 г. ў вёсцы сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, участковая бальніца, дзіцячы сад, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт, крама, аддз. сувязі і «Беларусбанка», лазня. Помнік В.І.Чапаеву, помнік 106 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (устаноўлены ў 1966). Радзіма бел. мастачкі Г.М.Сідарэвіч.

**БОГУШАВА** – вёска ў Бярозавіцкім с/с, за 23 км на З ад Пінска, 167 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст–Гомель, каля шашы Брэст–Гомель. 87 гаспадарак, 145 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. гаспадарскае сяло ў Купяціцкім войтаўстве Пінскага староства ВКЛ. З 1566 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Жабчыцкай вол., у складзе маёнтка Аброва памешчыка Пуслоўскага, 82 селяніны-ўласнікі. У 1897 г. вёска – 53 двары, 316 жыхароў, хлебазапасны магазін; паселішча на землях маёнтка Аброва, 8 двароў, 50 жыхароў. На пач. 20 ст. 72 двары, 497 жыхароў. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 92 двары, 472 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Паршавіцкім с/с, 111 двароў, 617 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 13 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. – 576, у 1970 г. – 535 жыхароў, у складзе саўгаса імя Кутузава. У 2000 г. вёска ў Бярозавіцкім с/с, 105 двароў, 209 жыхароў, магазін, б-ка. Радзіма укр. археолага Ф.А.Казубоўскага (1895–1939), аднаго з арганізатараў Палескага паўстання 1918–19 гг. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**БОЛГАРЫ** – вёска ў Лемяшэвіцкім с/с, на правым беразе р. Прыпяць, за 20 км на У ад Пінска, 195 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Пінск, на аўтадарозе Плешчыцы–Плотніца. 30 гаспадарак, 50 жыхароў (2005).

У пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве, у ліку маёнткаў кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча. Вядома з часоў вял. кн. Вітаўта. Да пал. 16 ст. зямельныя наданні ў сяле мелі пінскія зямяне Ордзічы, Дамановічы, Вяляціцкія, Лемешы. Пацверджаны каралевай Бонай Сфорца (1524, 1546, 1551). У 1543 г. згадваецца ў камісарскім дэкрэце па межавой спрэчцы, ся-



*Свята-Ушэсцеўская царква ў в. Боркі.*

ло ген. Жыжэмскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 — пач. 20 ст. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У канцы 1840-х г. сяло, уласнасць Колбаў, 9 двароў, 47 жыхароў, 223 дзес. зямлі. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лемяшэвіцкай вол., уласнасць Колбаў, 52 душы. У 1897 г. было 17 двароў, 164 жыхароў, ветраны млын, хлебазапасны магазін, капліца; у маёнтку — 4 двары, 46 жыхароў. На пач. 20 ст. 30 двароў, 179 жыхароў; у маёнтку — 8 двароў, 68 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёскі Булгары-1 і Булгары-2 у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы Булгары-1 27 двароў, 156 жыхароў; Булгары-2 8 двароў, 85 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лемяшэвіцкім с/с, 65 двароў, 277 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 239 жыхароў; у 1970 г. — 174 жыхары, у складзе калгаса «Прыпяць». У канцы 20 ст. 35 двароў, 63 жыхары. Каля вёскі 2 пасяленні ранняга жал. веку (7—6 ст. да н.э.). Помнік архітэктуры — капліца на могілках (канец 19 ст.). Планіровачна складаецца з крыху выгнутай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.



*Краявід Піншчыны каля в. Боркі.*

**БОРКІ** — вёска ў Загародскім с/с, каля р. Бобрык, за 38 км на ПнУ ад Пінска, 215 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец. 270 гаспадарак, 477 жыхароў (2005).

У 18 ст. вёска ў складзе маёнтка Пагост-Загародскі кн. Друцкага-Любецкага. Да 2-й чвэрці 19 ст. фундушавую ўласнасць тут мелі францысканцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1835 г. пабудавана Вазнясенская царква. Паводле інвентара 1846 г., вёска ў складзе маёнтка кн. Ксаверыя Друцкага-Любецкага, 63 двары, 253 душы сялян, у валоданні якіх было 607 маргоў ворыва, 243 маргі сенакосаў; 12 коней, 121 вол, 91 карова. У 1860-х г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Пагост-Загародскай вол., у складзе таго ж маёнтка, было 144 душы сялян-уласнікаў. У 1886 г. дзярж. сяло той жа валасці, 46 двароў, 418 жыхароў, царква. У 1897 г. 320 двароў, 630 жыхароў, хлебазапасны магазін, драўляная царква на могілках. На пач. 20 ст. вёска 123 двары, 327 жыхароў, згадваюцца 8 бондараў, 5 цагельнікаў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 121 двор, 801 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Пагост-Загародскім с/с, 186 двароў, 1200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны створаны



калгас імя Сталіна (у 1954 г. 283 гаспадаркі, 557 жыхароў). З 25.12.1962 г. ў Пінскім р-не Брэсцкай вобл. У 1960 г. 782 жыхары. У канцы 20 ст. 232 двары, 497 жыхароў, сельскі клуб, б-ка. Помнік архітэктуры — Вазнясенская царква. Помнік на магіле ахвяр фашызму (устаноўлены ў 1995 г.).

**БОРКІ** — вёска ў Ласіцкім с/с, за 45 км на ПдУ ад Пінска, 200 км ад Брэста, 49 км ад чыг. ст. Пінск. Транспартныя сувязі па дарозе Боркі—Ласіцк і далей па шашы Пінск—Столін. 36 гаспадарак, 59 жыхароў (2005).

Узнікла ў канцы 19 ст. на месцы хутара Бельскі Барок. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР. З 12.10. 1940 г. ў Ласіцкім с/с Пінскага р-на. З 1954 г. ў складзе Брэсцкай вобл. У 1960 г. на хутары Вялікія Боркі 159 жыхароў, Малыя Боркі — 74 жыхары, якія ў далейшым аб'ядналіся. У 1970 г. ў вёсцы Боркі 233 жыхары, у складзе калгаса «Маяк». У канцы 20 ст. 44 двары, 80 жыхароў.

**БОТАВА** — вёска ў Навадворскім с/с, на вадасховішчы Пагост, за 46 км на ПнУ ад Пінска, 221 км ад Брэста, 50 км ад чыг. ст. Пінск, транспартныя сувязі па аўтамабільнай дарозе Ботава—Новы Двор. 194 гаспадаркі, 378 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 17 ст. шляхецкая ўласнасць Вярэнічаў, потым Сцяцкевічаў, з 18 ст. Друцкіх-Любецкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. пабудавана капліца. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-х г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Пагост-Загародскай вол., у складзе маёнтка Плянта Мураваная Тукальскага-Нелюбовіча, 197 рэвізскіх душ. У 1886 г. было 56 двароў, 557 жыхароў, царква. У канцы 19 ст. вёскі Ботава-1, 272 двары, 67 жыхароў, хлебазапасны магазін; Ботава-2 — 22 двары, 156 жыхароў, Георгіеўская царква, капліца, піцейны дом. Вядома бандарнае рамяство (17 рамеснікаў). На пач. 20 ст. вёска — 147 двароў 1012 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, з 6.12.1922 г. ў Пінскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 177 двароў, 1001 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. сяло ў Чухаўскім с/с, 246 двароў, 1268 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сакавіку 1944 г. спалілі 40 двароў, загубілі 2 жыхароў. У ноч на 23.6.1944 г. 208-ы імя Сталіна партыз. полк (камандзір Я.М.Беспаясаў) разграміў у вёсцы варожы гарнізон. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 637 жыхароў. У 1970 г. ў Навадворскім с/с, 1039 жыхароў, у складзе калгаса «Прагрэс». У канцы 20 ст. 222 двары, 461 жыхар; базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка. Помнікі археалогіі — стаянка-1 эпохі неаліту (4—3-у тыс. да н.э.); стаянка-2 эпохі неаліту і бронзавага веку. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да якіх на У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца, а па цэнтры гал. вуліцу перакрыжоўвае пад прамым вуглом прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**БЕРДУНЫ** — вёска ў Ахоўскім с/с, за 5 км на Пн ад Пінска, 193 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Пінск, на шашы Пінск—Івацэвічы. 44 гаспадаркі, 72 жыхары (2005).

Паводле інвентара 1847 г., маёнтак нашчадкаў памешчыка Сейфарта: Марыі (па шлюбе Скірмунтавай), Гелены і Генавефы Сейфартавых. У 1841—1847 гг. маёнтак быў пад апекай памешчыка Будзецкага. У маёнтку 8 цяглых двароў, 80 рэвізскіх душ, 139 дзес. 1600 сажняў зямлі, з іх 81 дзес. ворыва. У сялян на кожны двор пад сядзібай і агародам было па 1600 сажняў, пад ворывам па 5 дзес. 800 сажняў; 10 коней, 16 валоў, 28 кароў; карчма, хлебазапасны магазін. У 1860-я г. ў складзе Красіеўскай сельскай грамады, Ставоцкай вол., 32 селяніны-ўласнікі, уласнасць (з 1850-х г.) Кліяноўскага. Да


*Свята-Пакроўская царква ў в. Бярозавічы.*

1861 г. існавала капліца. У 1897 г. ў вёсцы было 19 двароў, 155 жыхароў; у пасёлку 7 двароў, 40 жыхароў, валасное праўленне Ставоцкай вол.; у маёнтку Кліяноўскай 4 двары, 12 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 31 двор, 193 жыхары; маёнтак — 2 двары, 14 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Ставоцкай гміне, з 1928 г. ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 31 двор, 150 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Пасеніцкім с/с, 50 двароў, 229 жыхароў (1940). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 3.6.1957 г. ў Аснежыцкім с/с. У 1960 г. 287 жыхароў; у 1970 г. 265 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. У канцы 20 ст. 50 двароў, 84 жыхары. Існавала сядзіба, якая ў 1920-я г. была аб'яўлена помнікам мастацтва і культуры і ахоўвалася дзяржавай. Захаваліся фрагменты старога парку, дуброва. Раней дзейнічала сістэма каналаў і сажалак. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**БЯРОЗАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Бярозавіцкага с/с, за 20 км на З ад Пінска, 170 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст, каля шашы Брэст—Гомель. 307 гаспадарак, 686 жыхароў (2005).

Да 1964 г. в. Паршавічы. Вядома з 15 ст. як сяло ў складзе маёнткаў пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай у Пінскім княстве. Упамінаецца ў 1492 г. ў яе дарчай грамаце на дварышча Фурсу Іванавічу. У 1502 г. фундушавае наданне ў сяле ад кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча атрымалі пінскі Дзмітрыеўскі праваслаўны сабор, падчашы, пазней харунжы пінскі Венядзікт Фурсавіч (1515). У сярэдзіне 16 ст. ў Пінскім старостве каралевы Боны Сфорца, цэнтр войтаўства, у складзе Ставецкага двара; да 45 валок зямлі. Пінскі ўладыка Макарый меў у сяле 3 валокі 3 маргі зямлі. З 1596 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, цэнтр войтаўства. Налічвала 5 сёл, 34 цяглыя і 33 чыншавыя валокі; 2 валокі, вольныя ад чыншу, меў пінскі замкавы дойлід П.Радзівановіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Жабчыцкай вол. з маёнткамі Пуслоўскага (147 душ), пінскага Дзмітрыеўскага сабора (26 душ); францысканцаў — 270 душ; у сяле — 33 двары, 366 жыхароў. У 1865 г. пабудавана Пакроўская царква. У 1886 г. было 42 двары, 431 жыхар. У канцы 19 ст. 82 двары, 594 жыхары, хлебазапасны магазін, царква. На пач. 20 ст. сяло — 101 двор, 701 жыхар; сядзіба — 3 двары, 9 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 750 жыхароў, царква. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 199 двароў, 1048 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 14.10.1957 г. ў Пінскім р-не Брэсцкай вобл. Працаваў калгас імя Леніна, у якім 809 гаспадарак, 1833 жыхары. З 1.8.1964 г. сельсавет перайменаваны ў Бярозавіцкі. У 1970 г. было 275 двароў, 1042 жыхары, сярэдняя школа, клуб, урачэбны ўчастак, 2 крамы, аддз. сувязі. Цэнтр калгаса імя



Кутузава. У канцы 20 ст. 303 двары, 718 жыхароў, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Арх. помнік — Пакроўская царква (1878). Помнікі: землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну (устаноўлены ў 1990), ахвярам фашызму, магіла сав. воіна І.А.Хаменкі (загінуў у 1944). У 2004 г. вёска — цэнтр КУСП «Бярозавічы». У сельсавеце 6 вёсак, 774 гаспадаркі, 1855 жыхароў, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, клуб, Дом нар. творчасці, б-ка, урачэбная амбулаторыя, 5 магазінаў, комплексны прыёмны пункт, 15 лазняў, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Радзіма засл. настаўніка А.С.Якубчыка.

**ВАЛІШЧА** — вёска, цэнтр Валішчанскага с/с, за 38 км на ПнЗ ад Пінска, 285 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Пінск, каля аўтадарогі Пінск—Івацэвічы. 330 гаспадарак, 709 жыхароў (2005).

У 1550-я г. ўрочышча ў Пінскай пушчы Пінскага староства. З 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. У 17 ст. сяло ў Пінскай эканоміі. У 1691 г. згадваецца ў прывілеі караля польскага і вял. кн. ВКЛ Яна III Сабескага Канстанціну Малішэўскаму на 1 валоку зямлі ў сяле. У 1614 г. ўпамінаецца ў грамаце Януша Радзівіла з абмежаваннем земляў сяла. Паводле інвентара 1671 г., сяло ў Каўняцінскім войтаўстве, 33 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У пач. 19 ст. ўласнасць Друцкіх-Любецкіх, затым часткова Статкевічаў, у складзе маёнтка Хворасна. У 1847 г. 6 двароў, 41 рэвізская душа, 10 коней, 20 валоў, 135 маргоў зямлі. У 1860-я г. цэнтр сельскай грамады ў Лагішынскай вол. вёскі: Валішча 1-е — 38 душ; Валішча 2-е — 41 душа (у маёнтку Валішча памешчыка Краскоўскага); Валішча 3 -е ў маёнтку Хворасна памешчыка Статкоўскага, 22 душы. У 1897 г. вёска — 79 двароў, 526 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак — 4 рэвізскія душы. На пач. 20 ст. вёска — 93 двары, 672 жыхары; маёнтак — 3 жыхары, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 103 двары, 642 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Хвindependentаснoўскім с/с, сяло, 165 двароў, 910 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 76 землякоў. Пасля вайны створаны калгас імя Леніна (у 1954 г. — 435 гаспадарак, 1027 жыхароў). З 19.1.1965 г. цэнтр сельсавета ў Пінскім р-не Брэсцкай вобл. У 1970 г. 351 гаспадарка, 1667 жыхароў, сярэдняя школа, камбінат бытавога абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, краязнаўчы музей. У канцы 20 ст. 337 двароў, 740 жыхароў; сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну (устаноўлены ў 1971 г.).

**ВЕЛЯСНІЦА** — вёска ў Мерчыцкім с/с, на правым беразе р. Ясельда, за 25 км на ПнЗ ад Пінска, 203 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Пінск—Моталь. 65 гаспадарак, 138 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве. У 1503 г. згадваецца ў дарчай грамаце кн. Фёдара ІванавічаЯраславіча баярыну Фёдару Шчэпу на дварышча «ў Велясніцы». У 1524 г. наданне пацвердзіла каралева Бона Сфорца. У 1550-х г. каралеўскае сяло ў Чэрнічыцкай пушчы і войтаўстве Пінскага староства. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. У 1582 г. ў лісце караля Стафана Баторыя згадваецца як уласнасць Куранецкага і Шчэпаў. З сярэдзіны 17 ст. ўласнасць пінскіх езуітаў. Паводле інвентара 1671 г. ў сяле 7 валок зямлі, сяло ў Каўняцінскім войтаўстве, у 18 ст. ў Каўняцінскім старостве. У 1648 г. згадваецца Свята-Мікалаеўская царква. У 1780 г. па купчай сяло перайшло ва ўласнасць ген. Пятра Твардоўскага, потым яго нашчадкаў. У сваім маёнтку

Твардоўскі пабудаваў велічны палац у стылі класіцызму: аднапавярховы, драўляны, моцна выцягнуты будынак на нізкім фундаменце з высокім ІІІ-схільным дахам. Фасады ўпрыгожвалі масіўныя порцікі, увенчаныя трохвугольнымі франтонамі. У маёнтку захоўваліся шматлікія прадметы мастацтва, у т.л. партрэты Віленскай школы жывапісу пач. 19 ст., багатая бібліятэка і архіў. Па-над Ясельдай месціўся вялікі сад і пейзажны парк. З канца 18 ст. існаваў уніяцкі храм. У 1-й пал. 19 ст. пабудавана Мікалаеўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска і маёнтак, цэнтр сельскай грамады ў Парэцкай вол., уласнасць Твардоўскіх, 77 душ сялян. У 1897 г. ў вёсцы 46 двароў, 305 жыхароў; царква, хлебазапасны магазін. У маёнтку 6 двароў, 51 жыхар, ветраны млын, карчма. У фальварку Ордаў — 4 душы сялян, капліца. На пач. 20 ст. ў вёсцы 70 двароў; у маёнтку 34 жыхары, нар. вучылішча. Падчас 1-й сусветнай вайны праз вёску праходзіла лінія фронту, маёнтак і палац Твардоўскага, Мікалаеўская царква былі разбураны. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 31 двор, 180 жыхароў; у фальварку — 50 двароў, 217 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 4.12. 1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не, з 12.10. 1940 г. ў Масевіцкім с/с, 52 двары, 215 жыхароў. Працаваў калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. знішчылі 46 двароў, 6 мірных жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1957 г. ў Лагішынскім р-не, з 1962 г. ў Пінскім р-не, з 1973 г. ў Мерчыцкім с/с. У 1960 г. было 286 жыхароў, у 1970 — 269 жыхароў, у складзе саўгаса «Палескі». У канцы 20 ст. 63 двары, 128 жыхароў, клуб, б-ка. Помнік спаленым вёскам (Велясніца, Рудка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, нячыльна, драўлянымі сядзібнымі дамамі.

**ВЕШНЯ** — вёска ў Ласіцкім с/с, на правым беразе р. Стыр, за 41 км на ПдУ ад Пінска, 196 км ад Брэста, 45 км ад чыг. ст. Пінск. Транспартныя сувязі па дарозе Вешня—Ласіцк і далей па шашы Пінск—Столін. 44 гаспадаркі, 86 жыхароў (2005).

Згадваецца ў 1524 г. ў грамаце каралевы Боны Сфорца, сяло Вешная ў Пінскім старостве з даўняй выслугай Анцушковічаў (2 дварышчы), затым І.Ф.Шчэпы. У 1550-х г. згадваецца карчма (Вешняя), сяло Вешняе ў Кіроўскім войтаўстве Пінскага староства. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1647 г. ў акце продажу ўпамінаецца як маёнтак, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска і маёнтак у Ласіцкай сельскай грамадзе Радчыцкай вол., уласнасць Федаровіча, 48 душ сялян. У 1897 г. вёска 20 двароў, 159 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзіба 2 двары, 5 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска ў Вітчаўскай воласці, 26 двароў, 228 жыхароў; маёнтак, 5 жыхароў, У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Вічоўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 37 двароў, 218 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ласіцкім с/с, 86 двароў, 345 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За вызваленне вёскі аддалі жыццё 11 сав. воінаў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. было 370 жыхароў, у 1970 284 жыхары, у складзе калгаса «Маяк». У канцы 20 ст. 52 двары, 100 жыхароў. Помнік на брацкай магіле 11 сав. воінаў, загінуўшых у Вял. Айч. вайну.

**ВІШАВІЧЫ** — вёска ў Пінкавіцкім с/с, на р. Піна, за 2 км на У ад Пінска, 5 км ад чыг. ст. Пінск, 185 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Лунінец. 377 гаспадарак, 1002 жыхары (2005).



Згадваюцца ў фундушавых запісах Жыгімонта Кейстутавіча (1432—40) Пінскаму францысканскаму манастыру, які ён заснаваў у 1396 г. У 1502 г. зямельныя наданні ў сяле атрымаў ад кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча пінскі Дзмітрыеўскі сабор: «...а дьякону дворыще в селе нашом Вовишевичох Сивковское». Гэтай царкве «люди церковные... з Вышевич здавна дань и поплаты давали...». Фундуш у сяле меў пінскі Лешчанскі манастыр. Да сярэдзіны 16 ст. выслугу тут меў зямянін Іван Полаз — войскі пінскі. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. У 2-й пал. 18 ст. маёнтак полацкага кашталяна Адама Бжастоўскага, у 1778 г. згадваецца ў прывілеі Ф.Качаноўскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1850-х г. вёска, дзярж. ўласнасць, 39 двароў, 236 жыхароў, у Пінкавіцкай сельскай грамадзе. З 1860-х г. ў Пінкавіцкай вол. У 1897 г. вёска — 73 двары, 549 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін; дзярж. ферма — 4 жыхары. На пач. 20 ст. вёска — 106 двароў, 806 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 87 двароў, 505 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Пінкавіцкім с/с, 189 двароў, 935 жыхароў (1940). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 26 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Аснежыцкім с/с, 970 жыхароў. У 1970 г. — 1475 жыхароў, у складзе калгаса «Аснежыцкі». У канцы 20 ст. 390 двароў, 1012 жыхароў, рознічна-гандл. прадпрыемства «Надзея», навукова-вытв. камерцыйная фірма «Чайка». Планіровачна складаецца з 4 кароткіх вуліц блізкай да шыротнай арыентацыі. Забудова драўляная і мураваная, пераважна сядзібнага тыпу. Радзіма лаўрэата прэміі Савета Міністраў БССР Л.Р.Панады.

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Ласіцкім с/с, на левым беразе р. Стыр, каля воз. Уструп'е, за 43 км на Пд ад Пінска, 198 км ад Брэста, 47 км ад чыг. ст. Пінск, на аўтадарозе Парэ—Фядоры. 61 гаспадарка. 119 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Пінскім старостве ў складзе гаспадарскага маёнтка Стытычава ў войтаўстве Хрысцібалоцкім. Упамінаецца ў 1555 г., вотчына шляхецкага роду Астроўскіх. У 1720 г. пабудавана Прачысценская (уніяцкая) царква. Паводле рэвізіі Л.Войны (1561—66), гаспадарскае сяло з дварышчам Пераральчычы, якое заснавалі гаспадарскія сяляне Перавальчычы (1 валока 12 моргоў 4 пруты непрыдатнай зямлі). Усяго зямлі лічылася 8 валок, 13 маргоў 9 прутоў, за якія браўся чынш у 9 коп 28 грошаў. З 4 двароў дадаткова давалі яшчэ 8 бочак аўса. У 1567 г. ў ліку зямян, што мелі тут выслугу, Дзяніс Івановіч, Іван Некрашэвіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. сяло ў Стаецка-Астроўскай грамадзе Радчыцкай вол., уласнасць Яроцкага, 28 двароў, 243 жыхары. У 1729 г. пабудавана Багародзіцкая царква. У 1897 г. былі: сяло — 56 двароў, 408 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін; ваколіца — 29 двароў, 194 жыхары, сядзіба — 6 жыхароў; царк. сядзіба, капліца — 2 двары, 7 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пінскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 180 двароў, 855 жыхароў. У сельсавеце 537 двароў, 2699 жыхароў; 2 пач. і няпоўная сярэдняя школы, развіта жывёлагадоўля, рыбны промысел. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі 8 двароў, загубілі 10 жыхароў. 19 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Ласіцкім с/с. У 1960 г. — 641 жыхар, у 1970 г. 524 жыхары, у складзе кал-





гаса «Ударнік». У канцы 20 ст. 76 двароў, 139 жыхароў, клуб, б-ка, Прачысценская царква, капліца на могілках (канец 19 ст.). Помнікі археалогіі 5—2-га тысячагоддзяў да н.э. і больш позніх часоў. Радзіма бел. пісьменніка М.Ф.Дубянецкага.

**ВУЙВІЧЫ** — вёска ў Барычавіцкім с/с, на р. Стыр, за 38 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск, 218 км ад Брэста, на аўтадарозе в. Сіціцк—Лемяшэвічы. 68 гаспадарак, 118 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча. У 1518 г. згадваецца ў дарчай грамаце княгіні Алены (жонкі Фёдара Іванавіча Яраславіча) Успенскай праваслаўнай царкве Лешчанскага манастыра, якой манастыру дадзена дварышча Гардовіч (5 дымоў). Сяляне плацілі манастыру ў год 1 капу 52 грошы, дзякла. З кожнага дыма — 2 дні талакі для будоўлі і сплаву лесу; быў бровар, перавоз на р. Стыр (1588). У 2-й пал. 16 ст. сяло ў Пінскім старостве, 1 валока, 2 маргі, 26 1/2 прэнта зямлі гаспадарскіх сялян, за якую плацілі «по старине»: палюддзя 7 грошаў 4 пенязі; пабору — 2 грошы, пасошнага — 10 грошаў, 4 бочкі аўса. Была царква, якой сяляне каралеўскія падаравалі 5 маргоў 13 прутоў зямлі. У 1788 г. пабудавана Ільінская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1840-х г. сяло з маёнткамі: Шаламіцкіх — 1 двор, 5 жыхароў, 5 дзес. зямлі; Нарэйкаў — 2 двары, 8 жыхароў, 55 дзес. У 1860-я г. сяло ў Біжарэвіцкай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол., уласнасць Нарэйкі і Шаламіцкай, 40 душ сялян. У 1897 г. сяло, 21 двор, 200 жыхароў, царква, штогадовы кірмаш; ваколіца — 47 двароў, 329 жыхароў, піцейны дом, ваўначоска, 2 крамы. На пач. 20 ст. сяло, 25 двароў, 186 жыхароў; ваколіца — 33 двары, 202 жыхары, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 96 двароў, 541 жыхар, царква. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Біжарэвіцкім с/с, 118 двароў, 678 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў верасні 1942 г. знішчылі 112 двароў, 9 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас «Зорка», аб'ядноўваў 496 гаспадарак, 1105 жыхароў. У 1960 г. — 567 жыхароў; у 1970 г. — 360 жыхароў. У канцы 20 ст. 82 двары, 156 жыхароў; б-ка. Свята-Ільінская царква (перабудоўвалася ў 1870-я г. і рэканструявалася ў 1930-я г.).

**ВУЛЬКА-ГАРАДЗІШЧАНСКАЯ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Пінска, 195 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Ясельда на лініі Брэст—Гомель, 2 км ад аўтадарогі Пінск—Лунінец. 154 гаспадаркі, 320 жыхароў (2005).

З 1667 г. вёска адносілася да Гарадзішчанскага бенедыкцінскага манастыра. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Пінкавіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 162 жыхары. У 1897 г. 79 двароў, 610 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 125 двароў, 800 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 138 двароў, 735 жыхароў, царква. З 1939 г. ў БССР, з 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Гарадзішчанскім с/с, 178 двароў, 1020 жыхароў (1940). У Вял. Айч вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. загубілі 275 жыхароў, спалілі 174 двары. Пасля вайны вёска адбудавана. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас «Чырвоны партызан», аб'ядноўваў 157 гаспадарак, 350 членаў. У 1960 г. ў вёсцы 899 жыхароў; у 1970 — 819 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба народаў». У канцы 20 ст. 152 двары, 328 жыхароў; міжгаспадарчае прадпрыемства «Паўднёвае», базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік археалогіі — паселішча 4—3-га тысячагоддзяў да н.э. Забудова бессістэмная,



драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. работніка транспарту С.Я.Сачкоўскага.

**ВЫЖЛАВІЧЫ** — вёска ў Бярозавіцкім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Пінска, км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Выжлавічы—Беразовічы. 117 гаспадарак, 221 жыхар (2005).

У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве, уласнасць княгіні Мар'і Сямёнавай. У 1495 г. згадваецца ў яе наданні «три чоловеки у Выжловичах» зямяніну Алехне Рыгоравічу Курэйшу. У 1524 г. наданне пацвердзіла каралева Бона Сфорца. У сярэдзіне 16 ст. вотчына Івана Алехнавіча Курэйшы, у Чэрнчыцкім войтаўстве Пінскага староства ВКЛ. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв.; уласнасць Курэйшаў, потым Васіля і Эльжбеты з Пясецкіх-Гадзебскіх, падсудкаў пінскіх. У 1691 г. ў заставе ў Самуіла Грахольскага — войскага навагрудскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Жабчыцкай вол., уласнасць Хржаноўскага, 180 душ сялян. У 1897 г. — 81 двор, 586 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзіба Міхаіла Васільева — 6 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 93 двары, 651 жыхар; маёнтак — 6 двароў, 46 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 113 двароў, 603 жыхары. Зімой 1934 г. ў вёсцы жыў бел. пісьменнік Піліп Пестрак, які быў накіраваны сюды ЦК КПЗБ для арганізацыі падп. работы. З 1939 г. ў БССР. З 4.12. 1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10. 1940 г. ў Паршавіцкім с/с, 193 двары, 1040 жыхароў; калгас «17 Верасня». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 16 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 755 жыхароў. З 1965 г. ў Бярозавіцкім с/с., у 1970 г. 673 жыхары, у складзе саўгаса імя Кутузава. У канцы 20 ст. 129 двароў, 236 жыхароў, клуб, б-ка. Помнік 38 землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, шыротнай вуліцы, да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЫЛАЗЫ** — вёска ў Парахонскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Пінска, 222 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Парахонск, на лініі Брэст—Гомель. 45 гаспадарак, 69 жыхароў (2005).

Вядома з 15 ст. як сяло Вылаз (Улаз, Вызла) у Пінскім княстве. У часы княжання ў ВКЛ Жыгімонта I Старога (1506—48) зямяне за наданні ў гэтым сяле неслі ваенную павіннасць. У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Купяціцкай вол. ў складзе Ставецкага маёнтка Боны Сфорца. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. Выслугу ў сяле меў Уладзіслаў Гарагляд (Сашанецкі). У 1556 г. прывілей на выслугу ў Вылазах пацверджаны Бонай Сфорца Марціну Янавічу Гарагляду. У сярэдзіне 18 ст. сяло, ваколіца і маёнтак у Купяціцкай вол. Пінскага пав., была праваслаўная царква (у ваколіцы). Маёнтак належаў Гараглядам. У 1753 г. Гараглядава-Вылазская фундавала ў маёнтку філіяльную капліцу Гарадзішчанскага бенедыкцінскага мужчынскага манастыра. Філіі дадзены 2 часткі маёнтка і «коляция с землями Вылазской церкви». У 1759 г. ўзнік касцёл, якому ў 1760 г. пацвердзіў фундуш Ян Фадзей Гарагляд. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1897 г. ваколіца ў Пагост-Загародскай вол., 76 двароў, 487 жыхароў, царква Раства Багародзіцы (1787). На пач. 20 ст. 85 двароў, 491 жыхар, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, з 4.12.1922 г. Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 85 двароў, 465 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г.

ў Сашнянскім с/с, 84 двары, 489 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12.7.1944 г. ў баі за вёску загінулі 3 сав. воіны. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1960 г. вёска ў Парахонскім с/с, 460 жыхароў; у 1970 г. — 290 жыхароў, у складзе саўгаса «Парахонскі». У канцы 20 ст. 48 двароў, 80 жыхароў. У наваколлі група курганоў («шведскія магілы»), курганны могільнік мілаградскай культуры (7—3 ст. да н.э.). Царква Раства Багародзіцы. Брацкая магіла 3 сав. воінаў, якія загінулі 12.7.1944 г. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, на левым беразе р. Піна, за 5 км на ПнУ ад Пінска, 185 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст Пінск, на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Пінск—Лунінец. 196 гаспадарак, 529 жыхароў (2005).

У пач. 16 ст. ўрочышча ў Сялецкай вол. Пінскага княства, вотчына Паца, у часы кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча на чыншы ў Андрэя Караневіча, «...на семидесят грошей держал... у Высоком...». Да сярэдзіны 16 ст. зямельныя наданні ў сяле мелі зямяне Андрэевічы, Пачаноўскія, Пінскі Варварынскі манастыр. У 1563 г. баяры Караневічы мелі ў сяле 2 валокі зямлі. З 17 ст. ўласнасць манастыра базыльянак, з 1759 г. — полацкага кашталяна Адама Бжастоўскага. Зямельную маёмасць тут мелі Каршановічы, Гарагляды, Лазіцкія, Дваранінавічы і інш. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1850-я г. дзярж. вёска ў Пінкавіцкай вол., 16 двароў, 30 жыхароў. У 1897 г. — 28 двароў, 233 жыхары, капліца. На пач. 20 ст. 49 двароў, 350 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 81 двор, 423 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр Высакоўскага с/с, 132 двары, 667 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12.7.1944 г. пры высадцы дэсанта каля в. Высокае і Почапава загінуў экіпаж бранякатэра БК-154 Дняпроўскай ваеннай флатыліі (6 чалавек). З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Пінкавіцкім с/с, працаваў калгас, з 1957 г. ў Аснежыцкім с/с. З 1960 г. вёска ў Гарадзішчанскім с/с, 654 жыхары, у 1970 — 699 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба народаў». У канцы 20 ст. 192 двары, 556 жыхароў; сярэдняя школа, клуб, б-ка. Капліца на могілках (пач. 20 ст., перабудавана ў 1950—60-я г.). Мемарыяльная дошка ў гонар высадкі дэсанта ў ліп. 1944 г. Планіровачна складаецца з трох шчыльна паміж сабой пракладзеных, выгнутых вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных драўлянымі і муравымі дамамі пераважна сядзібнага тыпу.

**ВУЛЬКА ЛАЎСКАЯ** — вёска ў Валішчанскім с/с, за 42 км на Пн ад горада і чыг. ст. Пінск, 289 км ад Брэста, на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Хворасна—Вулька Лаўская. 55 гаспадарак, 95 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лагішынскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 24 жыхары. У канцы 19 ст. ваколіца — 14 двароў, 100 жыхароў. На пач. 20 ст. 19 двароў, 107 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1924 г. 19 двароў, 145 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Хварасноўскім с/с, 39 двароў, 185 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1943 г. знішчылі 19 двароў, загубілі 4 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. вёска ў Валішчанскім с/с, 348 жыхароў. У канцы 20 ст. 60 двароў, 125 жыхароў.



**ВЯЗ** — вёска ў Навадворскім с/с, каля вадасховішча Пагост, за 19 км на ПнУ ад Пінска, 207 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Пінск, на лініі Брэст—Гомель, каля шашы Брэст—Гомель (4 км). 161 гаспадарка, 374 жыхары (2005).

У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Пінскім старостве ВКЛ. У 1737 г. згадваецца як маёнтак Вязь у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 — пач. 20 ст. сяло ў Лагішынскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1897 г. паселішча Вязы ў Лагішынскай вол., 4 жыхары. На пач. 20 ст. ўрочышча — 5 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, хутар у Пагост-Загародскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Пагост-Загародскім с/с, пасёлак, 67 двароў, 198 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1962 г. ў Пінскім р-не, 413 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Навадворскім с/с, 445 жыхароў, у складзе калгаса «Камунар». У канцы 20 ст. 152 двары, 415 жыхароў; дзейнічае рыбгас «Палессе», пач. школа, дзіцячы сад. Археал. помнік — стаянка-1 эпохі неаліту (5—4-е тысячагоддзі да н.э.), стаянка-2 эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н.э.). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая на З раздвойваецца. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЯ ВУЛЬКА** — вёска ў Малоткавіцкім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Пінска, 198 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст, на аўтадарозе Хойна—Дамашыцы. 31 гаспадарка, 54 жыхары (2005).

У 19 ст. вёска ў складзе Хойнаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., у Хойнаўскай сельскай грамадзе. Паводле інвентара 1845 г. ў складзе маёнтка Хойна, уласнасць стацкага саветніка, камандора І.Жабы, 15 двароў. У 1860-х г. уласнасць Орды, 58 душ. У канцы 19 ст. ў вёсцы 44 двары, 237 жыхароў. У пач. 20 ст. — вёска ў Хойнаўскай вол., 55 двароў, 335 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 45 двароў, 213 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Хойнаўскім с/с, 89 двароў, 402 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. вёска ў Малоткавіцкім с/с, 293 жыхары. У 1970 г. — 233 жыхары, у складзе саўгаса «Малоткавічы». У канцы 20 ст. 39 двароў, 68 жыхароў. Планіровачна складаецца з двюх кароткіх шыротных вуліц, шчыльна забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЯЛІКІ ХАЛАЖЫН** — вёска ў Ахоўскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Пінска, 180 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Гомель, аўтадарогай злучана з шашой Пінск—Івацэвічы (3 км). 38 гаспадарак, 47 жыхароў (2005).

Вядома з 15 ст. як сяло ў Пінскім княстве, у складзе валасцей княгіні Мар'і Сямёнавай. Упамінаецца ў 1492 г., 1495 г. ў яе дарчых граматах баярыну, намесніку пінскаму Фурсу Іванавічу на дварышча ў Халожыне. З 1521 г. ў Пінскім старостве, з 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле інвентара 1622 г. ў складзе маёнтка Жабчыцы, 2 валокі, з кожнай плацілі чынш па 30 грошаў, давалі дзякла: бочку аўса, 2 курыцы, гусь, 10 яек, па дзесятку «лну». Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 — пач. 20 ст. ў складзе Пінскага пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска Халажын-1, цэнтр сельскай грамады, у складзе маёнтка Кажанева памешчыцы Скірмунтавай, у Парэцкай вол., 95 душ. У 1897 г. было 38 двароў, 260 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. вёска — 55 двароў, 330 жыхароў. У 1921 —

39 гг. у складзе Польшчы, у Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 50 двароў, 244 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ахоўскім с/с, 78 двароў, 375 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі 134 жыхары. З 14.10.1957 г. ў Пінскім р-не Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 372 жыхары. У 1970 г. — 299 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка». У канцы 20 ст. 42 двары, 70 жыхароў. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЯЛІКІЯ ДВОРЦЫ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 20 км на ПдУ ад Пінска, 189 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Пінск—Лунінец, на аўтадарозе Вялікія Дворцы—Плешчыцы. 52 гаспадаркі, 115 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Хойнаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., Вяляціцкай сельскай грамадзе, уласнасць Скірмунта, 75 душ сялян. У 1897 г. ў Лемяшэвіцкай вол., 41 двор, 280 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 46 двароў, 263 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 65 двароў, 379 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Вяляціцкім с/с, 100 двароў, 504 жыхары. У 1941 г. 139 двароў, 526 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. знішчылі 138 двароў. Пасля вайны вёска адрадзілася. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас «Шлях да камунізму», аб'ядноўваў 252 гаспадаркі, 546 членаў. У 1960 г. — 430, у 1970 — 356 жыхароў, у складзе калгаса імя Горкага. У канцы 20 ст. 63 двары, 118 жыхароў. Дзейнічае фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай мерыдыянальнай і кароткай прамалінейнай вуліц, злучаных завулкам і рэдка забудаваных, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ВЯЛІКІЯ ДЗІКОВІЧЫ** — вёска ў Хойнаўскім с/с, на левым беразе р. Прыпяць, за 19 км на Пд ад Пінска, 194 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Хойна—Месткавічы. 47 гаспадарак, 105 жыхароў (2005).

У 16 ст. сяло ў Пінскім пав. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Дварышчы ў сяле мелі зямяне Дамановічы, вядомыя пазней як Дзікавіцкія. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Хоінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1839 г. ўласнасць Панятоўскіх, з канца 19 ст. — графа Артура Кравіцкага. У 1860-я г. ваколіца ў Вяляціцкай сельскай грамадзе, 7 душ аднадворцаў. У 1897 г. ваколіца — 68 двароў, 466 жыхароў, ветраны і валовы млыны. На пач. 20 ст. 71 двор, 504 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 21 двор, 245 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Хойнаўскім с/с, 97 двароў, 471 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 жыхароў. З 14.10. 1957 г. ў Пінскім р-не Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 422 жыхары. У 1970 г. — 391 жыхар, у складзе калгаса імя Свярдлова. У канцы 20 ст. 58 двароў, 111 жыхароў. Планіроўка квартальная, асноўная накіраванасць галоўных вуліц блізкая да мерыдыянальнай. Забудова шчыльная, мураваная і драўляная, пераважна сядзібнага тыпу.

**ВЯЛЯЦІЧЫ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Пінска, 186 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Малыя Дворцы—Кнубава. 20 гаспадарак, 42 жыхары (2005).



У 15 ст. сяло, гаспадарская ўласнасць у Пінскім княстве. Згадваецца ў прывілеях вял. князей Вітаўта і Казіміра Ягайлавічаў баярам Вяляціцкім на іх выслугу (маёнткі). У 1524 г. каралева Бона Сфорца пацвердзіла былыя прывілеі Івану і Сямёну Вяляціцкім «...иж они мают именье, отчизну свою, в повете Пинском, напервей двор у Велятычох...», за што павінны «служити службою военного...», у сярэдзіне 16 ст. ў сумесным валоданні Дамановічаў, Ясковічаў, Петрашковічаў. У 1551 г. маёнтак падзелены паміж згаданымі ўласнікамі. У пацвярджальнай грамаце Боны Сфорца (1551) Івану Сямёнавічу Дамановічу згадваецца Вяляціцкая царква, млын, царкоўныя наданні (фундушы). У 1580 г. паводле завяшчання Таццяны Іванаўны Вяляціцкай маёнтак Вяляцічы перайшоў да яе дачкі Ганны Ванкевічавай — жонкі старосты Азярніцкага Васіля Ванкевіча, частка маёнтка паводле духоўнага завяшчання — Марціну Ступінскаму. У канцы 16 ст. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 18 ст. згадваецца ў прывілеі Тышкевічам (1764), маёнтак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1826 г. пабудавана Багародзіцкая царква. У 1860-я г. сяло і маёнтак, цэнтр сельскай грамады ў Хойнаўскай вол., уласнасць Скірмунтаў, 78 сялян-уласнікаў. У 1897 г. сяло ў Лемяшэвіцкай вол., 38 двароў, 258 жыхароў, царква; сядзіба — 5 двароў, 10 жыхароў. На пач. 20 ст. сяло — 58 двароў, 231 жыхар; маёнтак — 25 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 47 двароў, 261 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 75 двароў, 333 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. знішчылі 62 двары. Пасля вайны адбудавана. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Плешчыцкім с/с, 183 жыхары. У 1970 г. — 131 жыхар, у складзе калгаса імя Горкага. У канцы 20 ст. 25 двароў, 38 жыхароў. Царква Раства Багародзіцы (рэканструявана ў 1980 — пач. 1990-х г.); мемарыяльная дошка Ф.Савічу (1815—45) — паэту і публіцысту, які нарадзіўся ў Вяляцічах. Планіровачна складаецца з двюх паралельных паміж сабой вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ГАЛЕВА** — вёска ў Аснежыцкім с/с, за 2 км на Пн ад Пінска, 192 км ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Пінск—Івацэвічы. 602 гаспадаркі, 2011 жыхароў (2005).

У 17 ст. вёска, уласнасць Пінскага базыльянскага манастыра, потым праваслаўнага кафедральнага сабора. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, у Пінскім пав. Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Ставоцкай вол., у маёнтку Заполле Пуслоўскіх, 137 сялян-уласнікаў. У 1897 г. вёска — 69 двароў, 217 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзіба — 8 жыхароў. На пач. 20 ст. 187 двароў, 1012 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Ставоцкай, з 1928 г. ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 79 двароў,




*Магазін у в. Галева.*




*Помнік землякам, загінуўшым у Вялікую Айчынную вайну, у в. Гальцы.*

487 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Пасеніцкім с/с, 122 двары, 656 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4.7.1941 г. Пінскі партыз. атрад пад камандаваннем В.З.Каржа правёў каля вёскі адзін з першых баёў: знішчыў 2 варожыя танкеткі і 17 ням. коннікаў варожага эскадрона. У баі загінуў член Пінскага гаркома КП(б)Б С.Г.Карнілаў. На франтах загінулі 11 жыхароў вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Аснежыцкім с/с, 569 жыхароў. У 1970 г. — 998 жыхароў, у складзе калгаса «Аснежыцкі». У канцы 20 ст. 443 двары, 1311 жыхароў; пінскае аддзяленне дзярж. канцэрна «Белмеліярацыя», будаўніча-мантажнае ўпраўленне-1 «Белсельэлектрасеткабуд», Пінскі с.-г. каледж, пач. школа, дзіцячы сад, Дом культуры, аддз. сувязі, мураваная капліца. Помнік на месцы бою партызан 4.7.1941 г. Планіровачна складаецца з двух шыротных вуліц, забудаваных мураванымі і драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сац. Працы А.І.Кананові, засл. работніка гандлю і грамадскага харчавання Т.М.Цябрук.

**ГАЛЬЦЫ** — вёска ў Калавуравіцкім с/с, за 2 км ад р. Прыпяць, 41 км на У ад Пінска, 221 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Лунінец на лініі Брэст—Гомель, 2 км ад прыстані Асобавічы на р. Прыпяць, на аўтадарозе Гальцы—Калавуравічы. 153 гаспадаркі, 315 жыхароў (2005).

Упамінаецца ў ВКЛ у 1533 г., сяло ў Пінскім старостве з фундушавымі землямі пінскага Варварынскага жаночага манастыра, пазней вотчына Дамброўскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1840-х г. Андрэй Дамброўскі меў тут 3 двары, 8 рэвізскіх душ, 37 дзес. зямлі. У канцы 1850-х г. дзярж. вёска, 30 двароў, 260 жыхароў. У канцы 19 ст. вёска ў Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 55 двароў, 573 жыхары, хлебазапасны магазін; пасёлак — 2 двары, 5 жыхароў. На пач. 20 ст. 91 двор, 687 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Плотніцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. — 112 двароў, 669 жыхароў; фальварак — 7 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Столінскім р-не, у Беразцоўскім с/с. У 1970 г. было 222 двары, 902 жыхары, цэнтр калгаса «Бальшавік». Сярэдняя школа, радзільны дом, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. 181 двор, 404 жыхары; базавая школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт. Капліца на могілках (19 ст.). Помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну.

**ГАНЧАРЫ** — вёска ў Ахоўскім с/с, на правым беразе р. Марачанка, за 5 км на ПнЗ ад Пінска, 186 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на шашы Брэст—Гомель. 135 гаспадарак, 325 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло гаспадарскае ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў пінскага кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча. У 1502 г. згадваецца ў яго дарчай грамаце баярыну Несвяцілу на дварышча (Бедрычынскае) у Ганчарах «А с того дворыща мает конем служити». У гэтым жа годзе фундушавае наданне ў сяле атрымаў пінскі Дзмітрыеўскі сабор. У 1518 г. наданні пацвердзіў кароль Жыгімонт І Стары. У 1517 г. ў якасці пасагу за служэбніцай жонкі кн. Фёдара (Алены) Агрэнкай Калавураўнай 2 дварышчы ў сяле атрымаў падчашы пінскі (пазней харунжы пінскі) Венядзікт Фурсавіч. З 1521 г. ў



Пінскім старостве каралевы Боны Сфорца. Частка зямлі была ўласнасцю пінскага Варварынскага манастыра, пазней базыльянак. У 18 ст. ў складзе маёнтка Гай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-х г. вёска ў Крайновіцкай сельскай грамадзе Жабчыцкай-1 воласці, у складзе маёнтка Гай Маўрыцыя Былеўскага, 25 рэвізскіх душ. Частка вёскі належала пінскаму Богаяўленскаму манастыру. На пач. 1880-х г. — 34 жыхары. У 1897 г. вёска — 20 двароў, 118 жыхароў; 2 панскія сядзібы — 26 жыхароў; фальварак і сядзіба Пінскага Богаяўленскага манастыра — 4 двары, 34 жыхары. На пач. 20 ст. 24 двары, 166 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 36 двароў, 165 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Кашэвіцкім с/с, 78 двароў, 374 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 8 жыхароў вёскі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не, у Ахоўскім с/с. У 1960 г. — 302 жыхары. У 1970 г. — 287 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. У канцы 20 ст. 132 двары, 295 жыхароў. У Ганчарах нарадзілася і жыла член Саюза пісьменнікаў Расіі Т.Г.Цяценькіна. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд і Пн далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАНЬКАВІЧЫ** — вёска ў Ахоўскім с/с, на левым беразе р. Мерачанка, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск, 185 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Палтаранавічы—Ганчары. 107 гаспадарак, 194 жыхары (2005).

У 1770-х г. згадваецца як маёнтак Скірмунта ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.



*Царква ў в. Ганчары.*

З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1850-х г. вёска, дзярж. маёнтак, цэнтр сельскай грамады ў Жабчыцкай вол., 20 двароў, 199 жыхароў. У канцы 19 ст. вёска, 66 двароў, 359 жыхароў. На пач. 20 ст. 113 двароў, 420 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 84 двары, 372 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Кашэвіцкім с/с, 97 двароў, 479 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 17 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Ахоўскім с/с Пінскага р-на. У 1960 г. — 578 жыхароў. У 1970 г. 537 жыхароў, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. У канцы 20 ст. 115 двароў, 229 жыхароў. Помнік Ф.Э.Дзяржынскаму. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, да якой з Пд і Пн далучаюцца завулкі. Забудова двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска, цэнтр Гарадзішчанскага с/с, на левым беразе р. Ясельда, у складзе СВК «Почапава», за 12 км на ПнУ ад Пінска, 190 км ад Брэста, 0,5 км ад чыг. ст. Ясельда на лініі Брэст—Гомель, на шашы Пінск—Лунінец. 144 гаспадаркі, 436 жыхароў (2005).

Паводле археал. даследаванняў, паселішча ўзнікла каля 7-га тысячагоддзя да н.э. У 8 ст. н.э. склалася слав. паселішча,

якое знаходзілася на высокім выступе воз. Гарадзішчанскае, злучанага з р. Ясельда. Умацаваная частка паселішча размяшчалася на мысе над возерам, тыльная была абнесена валам з драўлянай сцяной. У 9 — пач. 11 ст. — значны гандл., рамесніцкі і палітычны цэнтр Палесся на гандл. шляху ў Польшчу і Зах. Еўропу. У пач. 11 ст. прыйшло ў заняпад і аднавілася ў 1-й пал. 15 ст. Пісьмовыя згадкі адносяцца да часоў Вітаўта і Казіміра Ягайлавіча. На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве. У 1501 г. ўпамінаецца ў дарчай грамаце кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча служэбніцы Багдане на падвор'е «в месте нашом на Городыщи». У сярэдзіне 16 ст. сяло гаспадарскае ў Купяціцкім войтаўстве Пінскага староства, з 1566 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1575 г. згадваецца як уласнасць Каспара Дзямбінскага, у 1642 г. — у прывілеі караля Уладзіслава IV Яну Дзежку, маёнтак. У 1-й чвэрці 17 ст. заснаваны мужчынскі кляштар бенедыкцінцаў. Напачатку сюды з Монтэ-Касіна прыбылі першыя 30 манахаў і заснавалі сваю рэзідэнцыю — сховішча за глухой агароджай. У 2-й пал. 17 ст. на сродкі полацкага ваяводы Караля Капца пабудаваны касцёл св. Ганны (закончаны ў 1668 г.). У 1662 г. Ян Капец запісаў яму багатыя фундушы зямлёй і сёламі, у т.л. сяло Гарадзішча. Касцёл уяўляў сабой збудаванне ў стылі барока, у плане меў форму крыжа. У 18 ст. інтэр'ер яго ўпрыгожаны фрэскамі на сюжэты біблейскай гісторыі, гісторыі Рэчы Паспалітай, якія выканаў Караль Хюбель. У 2-й пал. 18 ст. пабудаваны кляштар францысканцаў, які абкружала крапасная сцяна, шмат'ярусная званіца ў стылі ампір, што злучалася з манастыром каменнай аркадай. У канцы 18 ст. манастыру належалі 14 вёсак, 5 фальваркаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Пад 1858 г. сяло ў складзе Купяціцкай сельскай грамады, 36 двароў, 219 душ дзярж. сялян. У манастыры да 1820 г. дзейнічала парафіяльная школа. У 1864 г. за падтрымку антырасійскага паўстання 1863—64 гг. манастыр скасаваны, яго маёмасць канфіскавана і распрададзена. Маёнтак набыў Дэля Гардзі. Пазней намаганнямі памешчыкаў-католікаў і парафіян будынак манастыра і касцёл выкуплены (да 1910) і вернуты вернікам. У 1897 г. вёска ў Пінкавіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 81 двор, 502 жыхары; царква, капліца, хлебазапасны магазін, карчма; маёнтак Марыі фон Гогер — піцейны дом. На пач. 20 ст. ў вёсцы 101 двор, 779 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 96 двароў, 567 жыхароў. Пабудовы манастыра былі рэканструяваны паводле праекта архітэктара Казіміра Пшыбылоўскага і аб'яўлены дзярж. помнікам гісторыі і культуры. Працавалі лесапільны з-д, фанерная ф-ка, прадпрыемствы «Пляцуўка», «Будулес» і інш., 2 б-кі, Дом турыстаў, касцёл, сінагога, капліца. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 179 двароў, 1014 жыхароў (1940). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. знішчылі 200 двароў, загубілі 10 жыхароў. У ліп. 1944 г. касцёл узарваны. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у 1960 г. 478 жыхароў; у 1970 г. — 151 двор, 590 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба народаў», фанерны цэх Пінскага фанерна-запалкавага камбіната, швейная майстэрня, філіял раённай завочнай сярэдняй школы, яслі-сад, аптэка, аддз. сувязі, сталовая. У канцы 20 ст. 129 двароў, 676 жыхароў. У вёсцы помнікі археалогіі — гарадзішча і селішча 7—11 ст. Манастырскі будынак (18 ст.) — помнік архітэктуры з элементамі позняга барока. Планіровачна складаецца з падзеленых возерам двюх частак: паўночнай (чатыры кароткія, шчыльна паміж сабой пракладзеныя вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, на поўначы чыг. станцыя) і паўднёвай (кароткія, злучаныя паміж сабой вуліцы



ўтвараюць А-падобную канфігурацыю). Забудова драўляная і мураваная, пераважна сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗІШЧА** — пасёлак у Гарадзішчанскім с/с, на левым беразе р. Ясельда, за 16 км на ПнУ ад Пінска, 191 км ад Брэста, чыг. ст. Ясельда на лініі Брэст—Пінск, каля шашы Пінск—Лунінец. 303 гаспадаркі, 959 жыхароў (2005).

Узнік на месцы былой вёскі-спадарожніка (належала Алешам) як рабочы пасёлак мэблевай ф-кі. У 1960 г. было 288 жыхароў, ў 1970 г. чыг. ст. Ясельда, 617 жыхароў. У канцы 20 ст. 320 двароў, 938 жыхароў; мэблевая ф-ка ЗАТ «Пінскдрэў», вытворчая фірма «Анастасія», лячэбна-вытворчыя майстэрні «Гарадзішча», Брэсцкая абласная псіхіятрычная бальніца «Гарадзішча», аптэка, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і Беларусбанка.

**ГОРНАВА** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Пінска, 182 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Пінск, каля аўтадарогі Пінск—Столін (2 км). 41 гаспадарка, 131 жыхар (2005).

Згадваецца ў 1577 г. як маёнтак Гарноўскіх у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, былі царква, млын. Застаўным лістом Леў Марцінавіч Заранка Гарноўскі за 200 коп грошаў прадаў маёнтак В.І.Гарноўскаму — суддзі гродскаму Берасцейскаму. У 1631 г. Каспер Гарноўскі за 2050 злотых заклаў сваю частку маёнтка Андрэю Віткоўскаму і яго жонцы Магдаліне Гарноўскай. У 1632 г. ўдава Васіля Гарноўскага Ганна Адамава перадала сваю частку пляменніку мужа Я.І.Гарноўскаму. У 1586 г. паводле рэестра лічылася 30 маргоў 15 прутоў зямлі ў сяле Г. З 1719 г. маёнтак у закладзе ў Антакольскага базыльянскага манастыра. Пазней — уласнасць Агінскіх, затым пінскага падстаросты Бутрымовіча. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1840-я г. сяло, уласнасць Ксаверыя Бутрымовіча, 13 двароў, 57 жыхароў, 175 дзес. зямлі. У 1860-я г. вёска ў Болгарскай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Бутрымовіча, 57 сялян-уласнікаў. У 1897 г. ў маёнтку 4 двары, 10 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 37 двароў, 325 жыхароў; маёнтак — 5 жыхароў, паштовая станцыя. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 38 двароў, 289 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Плешчыцкім с/с, 99 двароў, 329 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў кастр. 1943 г. знішчылі 12 двароў, 16 жыхароў вёскі загінулі на франтах. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 625 жыхароў. У 1970 г. — 133 жыхары, у складзе калгаса імя Горкага. У канцы 20 ст. 42 двары, 129 жыхароў. У наваколлі вёскі помнік археалогіі — паселішча эпохі жал. веку і ранняга сярэднявечча. Планіровачна складаецца з двюх кароткіх, шчыльна пракладзеных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ГРАДЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, каля воз. Вылазскае, за 19 км на ПнУ ад Пінска, 197 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Ясельда на лініі Брэст—Гомель. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

У 1960 г. пасёлак торфапрадпрыемства «Сушыцкае», 58 жыхароў. У 1970 г. — 64 жыхары, у канцы 20 ст. 7 двароў, 13 жыхароў.

**ГРЫЎКАВІЧЫ** — вёска ў Барычавіцкім с/с, на р. Стыр, за 48 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск, 228 км ад Брэста, на дарозе, што злучае вёску з аўтадарогай Плотніца—Лемяшэвічы. 54 гаспадаркі, 125 жыхароў (2005).

У 15 ст. сяло ў Пінскім княстве. Згадваецца ў прывілеях Жыгімонта І Старога і Казіміра Мікалаю Ляху Сырапяту на дварышчы і людзей, у т.л. «в селе Гривковичох дворищо Гривковское». Наданне пацвердзіла ў 1524 г. ка-

ралева Бона Сфорца ўнуку Марціну Шырме, войскаму пінскаму. У канцы 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 17—18 ст. шляхецкая ваколіца, маёнтак. У 1644 г. згадваецца як уласнасць Малышчынскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1840-х г. у складзе маёнтка Тырвовічы, 7 цяглых двароў, 54 рэвізскія душы, уласнасць Віктара Орды. У 1858 было 17 аднадворцаў. У 1860-х г. вёска таго ж маёнтка, у сельскай грамадзе Тырвовічы Лемяшэвіцкай вол., 5 аднадворцаў. У 1897 г. вёска, 10 двароў, 54 жыхары; ваколіца — 32 двары, 223 жыхары, вадзяны млын. На пач. 20 ст. вёска — 12 двароў, 69 жыхароў; ваколіца — 25 двароў, 153 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 58 двароў, 358 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Біжаравіцкім с/с, 75 двароў, 511 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. знішчылі 35 двароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 402 жыхары. У 1970 г. — 310 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда». У канцы 20 ст. 64 двары, 151 жыхар. Помнік археалогіі — селішча эпохі неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н.э.).



*Свята-Троіцкая царква ў в. Дабраслаўка.*

**ДАБРАСЛАЎКА** — вёска ў Бобрыкаўскім с/с, за 50 км на Пн ад Пінска, 225 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Малькавічы на лініі Ганцавічы—Лунінец, на шашы Ганцавічы—Лагішын. 220 гаспадарак, 429 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 17 ст. ўпамінаецца маёнтак Дабраслаўская Слабада (1657) у Пінскім пав. ВКЛ. На пач. 18 ст. маёнтак Дабраслаўка ў складзе сёл Дабраслаўка і Ліпнікі, уласнасць Друцкіх—Любецкіх. У 1769 г. яны фундавалі тут Троіцкую царкву з нададнем 1 валокі зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ., уласнасць Бутрымовічаў. У 1840-х г. маёнтак Н.І.Бутрымовіч з сялом Д. і часткай в. Чухава (7 двароў). У маёнтку 51 цяглы двор, 424 рэвізскія душы, 906 дзес. сядзібнай і ворнай зямлі; 10 коней, 240 валоў, 103 каровы, 27 вульляў. У сяле Д. было 44 двары, 368 душ. У 1860-х г. вёска і маёнтак, цэнтр сельскай грамады і валасці, 129 душ, царква, валаснoе праўленне, нар. вучылішча (36 хлопчыкаў, 9 дзяўчынак, 1867). У 1886 г. сяло, 44 двары, 379 жыхароў, вінзавод. У 1897 г. 90 двароў, 692 жыхары, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін; сядзіба — 10 жыхароў. На пач. 20 ст. сяло — 106 двароў, 708 жыхароў; маёнтак — 11 жыхароў. У 1913 г. — урачэбны пункт, нар. вучылішча, паштовая станцыя. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак, цэнтр гміны ў Лунінецкім, з 4.12.1922 г. ў Пінскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 105 двароў, 657 жыхароў, паштовае агенцтва, царква, млын; у фальварку — 2 двары, 13 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, вёска, 75



двароў, 605 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. знішчылі 67 двароў, загубілі 16 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Лышчаўскім с/с. Працаваў калгас «Адраджэнне» (194 гаспадаркі, 410 жыхароў). У 1960 г. вёска ў Бобрыкаўскім с/с, 1018 жыхароў. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. 1066 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны араты». У канцы 20 ст. 239 двароў, 467 жыхароў. У 2005 г. у складзе СВК «Пласкінь», базавая школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт, крама, аддз. «Беларусбанка», лясніцтва. Помнік архітэктуры — Троіцкая царква (18 ст.).

**ДАМАШЫЦЫ** — вёска ў Малоткавіцкім с/с, каля р. Піна, за 5 км на З ад Пінска, 168 км ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст, на аўтадарозе Пінск—Дубай. 318 гаспадарак, 757 жыхароў (2005).

Вядома з часоў вял. кн. літ. Вітаўта і Жыгімонта, дзедзічына Марыны Юркаўны Анцушковіч. Паводле граматы каралевы Боны Сфорца (1524) у ліку іншых былых наданняў яна атрымала ў спадчыну «у Домашычах дворыщо», якое прывілеем Боны перайшло да сына (ад зяняніна Фёдара Шчэпы) Івана Фёдаравіча. У канцы 16 ст. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1775 г. ўпамінаецца як маёнтак у прывілеі Станіслава Аўгуста Панятоўскага Каранеўскаму. Пазней уласнасць Гарбачэўскіх, потым Красіцкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Жабчыцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 143 душы сялян, у 1880-я г. было 138 жыхароў. На пач. 20 ст. 108 двароў, 737 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 84 двары, 490 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12. 1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10. 1940 г. ў Жабчыцкім с/с, 197 двароў, 927 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. знішчылі 50 двароў. З 1954 г. ў Малоткавіцкім с/с таго ж р-на Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. — 1070 жыхароў. У 1970 г. ў Хойнаўскім с/с, 631 жыхар. У канцы 20 ст. ў Малоткавіцкім с/с, 344 двары, 783 жыхары; рачны порт «Пінск», базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі. Помнік археалогіі — селішча эпохі бронзавага веку. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з трох прамалінейных, шчыльна паміж сабой пракладзеных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх з ПнЗ далучаюцца тры кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДОБРАЯ ВОЛЯ** — вёска ў Аснежыцкім с/с, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Пінск, 181 км ад Брэста, каля шашы Пінск—Івацэвічы. 63 двары, 166 жыхароў (2005).

У 19 ст. складалася з фальваркаў Добрая Воля і Добрая Вулька. У канцы 19 ст. ў Добрай Волі, уласнасць кн. Цэзарыя Масальскага, 3 двары, 28 жыхароў, у Добрай Вульцы — 6 жыхароў; у Ставоцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1920—30-я г. ў складзе маёнтка Пясечна, потым эканоміі Іванісаўка, уласнасць графоў Бройль-Плятэраў. Добрая Вулька — уласнасць Юзафа Вандалоўскага. У 1930-х г. каля вёскі вялося будаўніцтва аэрадрома. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Пасеніцкім с/с Пінскага р-на, з 1957 г. ў Аснежыцкім с/с. У Вял. Айч. вайну восенню 1942 г. фашысты знішчылі тут вязняў Пінскага яўрэйскага гета. На працягу вайны — месца масавых расстрэлаў. У 1960 г. 104 жыхары. У 1971 г. 45 гаспадарак, 185 жыхароў, цэнтр саўгаса «Добрая Воля», б-ка, магазін. У канцы 20 ст. 65 двароў, 191 жыхар, цэнтр ААТ «Добрая Воля». Помнік ахвярам фашызму. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.


*Алея ў парку в. Дубай.*

**ДРУЖНЫ** — пасёлак у Аснежыцкім с/с, за 5 км на Пн ад Пінска, 200 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Лунінец, на аўтадарозе Аснежыцы—Пінск. 29 гаспадарак, 93 жыхары (2005).

Узнік як паселішча будаўнікоў і эксплуатацыйнікаў нафтаперапамповачнай станцыі нафтаправода «Дружба». У 1970 г. 107 жыхароў. У канцы 20 ст. 30 двароў, 84 жыхары. Будынкі пераважна мураваныя.

**ДУБАЙ** — вёска, цэнтр Дубайскага с/с, каля р. Піна, за 25 км на ПдЗ ад Пінска, 152 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Юхнавічы на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Пінск—Яечкавічы. 168 гаспадарак, 411 жыхароў (2005).


*Судаходны шлюз гідравузла №1 «Дубай» на р. Піна.*

У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве. У 1495 г. ўпамінаецца ў прывілеі пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай яе канюшаму Сенку «на две дворища в Дубой». У 1550-х г. сяло з падданымі гаспадарскімі, ігуменскімі і баярскімі: «полдворища в Дубой» меў зямянін Леў Некрашэвіч — харунжы кобрынскі, паўдварышча — зямяне гаспадарскія Качановічы (Качаноўскія), якія ставілі ў войска 2 кані, 2 дварышчы меў Ежы Урбан. Паводле рэвізіі Л.Войны (1561—66) у сяле 2 валокі 15 маргоў зямлі, з якіх плацілі 3 капы 4 грошы, давалі 6 бочак аўса і інш. Пазней уласнасць Полазаў і Агінскіх. У 1-й трэці 17 ст. сяло і маёнтак Слуцкага і Віленскага Святадухаўскага праваслаўных брацтваў. Маёнтак набыў пінскі староста Альбрыхт Ст. Радзівіл і ў 1638 г. перадаў яго Пінскаму езуіцкаму калегіуму. У сяле існаваў праваслаўны манастыр (ігумен Афанасій Філіповіч). Езуіты заснавалі ў маёнтку сваю летнюю рэзідэнцыю, пабудавалі палац у стылі барока (1-я пал. 18 ст.), дваровую капліцу, якая стала касцёлам Св. Крыжа. Палац меў скляпеністыя тунэльныя калідоры, патайныя ходы. Да яго прымыкаў рэгулярны парк з аранжарэяй і цяпліцай. У 2-й пал. 18 ст. маёнтак атрымаў Ігнацій Кужанецкі, палац набыў новыя рысы: бальная зала ўпрыгожана фрэскавай размалёўкай, каміны з чыгуннымі рашоткамі мастацкага ліцця, аздобленыя кафляй печы. У 1620 г. згадваецца Спаская царква, у якой завяшчала пахаваць сябе Раіна Гарабурдзіна (у другім шлюбе Гаўрылава-Гоская, кіеўская харунжына). Царква мела падданых і ў сяле Лясковічы. У сярэдзіне 18 ст. сяло, каралеўская дзяржава, цэнтр воласці. У 1784 г. яго наведаў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1811 г. ў сяле пабудавана царква Раства Багародзіцы. У 1845 г. ў маёнтку 2





*Крыжаўзвіжанскі касцёл у в. Дубай.*

двары, 8 рэвізскіх душ, 56 $^1/_2$ дзес. зямлі належалі Антону Комару. У 1860-я г. сяло, цэнтр сельскай грамады і воласці, 23 двары, 208 жыхароў, царква, нар. вучылішча, паштовая станцыя (5 экіпажаў, 11 коней). У 1886 г. 31 двор, 241 жыхар, царква, капліца, 2 вадзяныя млыны. У 1897 г. сёлы: Дубай-1 — 12 двароў, 93 жыхары, Багародзіцкая царква, прыходская школа, млын, тракцір; Дубай-2 — 53 двары, 309 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом; маёнтак — вінзавод, падвал для аптовага гандлю спіртам. На пач. 20 ст. ў сяле 66 двароў, 466 жыхароў. Маёнтак набыў прамысловец з Лодзі Караль Шлейнкер, потым Марыя Выджга. У 1913 г. працавалі ўрачэбны пункт, нар. вучылішча. Каля 1916 г. — царква, касцёл, малатарня, лакамабільны млын, пякарня, крамы. У 1-ю сусветную вайну частка вёскі згарэла. Пасля вайны палац і парк перайшлі пад сядзібу заснаванай тут земляробчай школы (існавала да 1944 г.), у якой працаваў вядомы польскі селекцыянер, прафесар Р.Прускі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 47 двароў, 277 жыхароў; фальварак — 3 двары, 37 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Жабчыцкага р-на Пінскай вобл., 116 двароў, 586 жыхароў, механічны млын. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы размяшчаўся варожы гарнізон, разгромлены ў ліст. 1942 г. партызанамі Пінскай брыгады. У 1944 г. фашысты ўзарвалі палац. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Жданава (398 гаспадарак, 825 членаў). З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 626 жыхароў. Існаваў пасёлак гідравузла, 18 жыхароў. У 1970 г. 701 жыхар, цэнтр калгаса «Іскра». У канцы 20 ст. 183 двары, 436 жыхароў; філіял рыбгаса «Палессе», базавая школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, філіял «Беларусбанка». У 2004 г. ў складзе СВК «Малоткавічы». У сельсавеце 6 паселішчаў, 707 гаспадарак,





*Свята-Мікалаеўская царква ў в. Дубай.*



*Могілкі часоў 1-й сусветнай вайны каля в. Дубай.*

1472 жыхары; сярэдняя і базавая школы, дзіцячы сад, 2 дамы культуры, 2 б-кі, 2 фельч.-акушэрскія пункты, 6 магазінаў, комплексны прыёмны пункт, 16 лазняў, 2 аддз. сувязі, філіял «Беларусбанка», 4 прадпрыемствы бытавога абслугоўвання (2004). Помнікі: царква Раства Багародзіцы, касцёл (18 ст.), капліца на могілках (канец 19 ст.), крыж у напамінак пра былы праваслаўны манастыр; воінскія могілкі часоў 1-й сусветнай вайны; помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну; парк. Мемарыяльныя дошкі гісторыку і паэту А.Нарушэвічу і А.Філіповічу. Помнік прыроды — піхта белая ў вясковым парку. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых аўтадарогай частак: паўночнай (2 кароткія мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, злучаны кароткімі шыротнымі вуліцамі) і паўднёвай (2 кароткія вуліцы пачынаюцца каля дарогі і на Пд злучаюцца). Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБНАВІЧЫ** — вёска ў Сошненскім с/с, на р. Бобрык, за 38 км на ПнУ ад Пінска, 218 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец. 147 гаспадарак, 291 жыхар (2005).

Згадваецца ў прывілеі вял. кн. літ. Аляксандра баярыну Алізару Мурашку. У 1546 г. ўпамінаецца ў фундушавым запісе дубнаўскіх баяр на пабудову тут царквы. У канцы 16 ст. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Да 18 ст. ўласнасць Жыжэмскіх, Сцяткевічаў, з 18 ст. — Друцкіх-Любецкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1841 г. пабудавана царква Параскевы Пятніцы. У 1860-я г. цэнтр сельскай грамады ў Пагост-Загародскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., вёска і маёнтак, 64 двары, 8 аднадворцаў. У 1886 г. 24 двары, 217 жыхароў, праваслаўная царква, 2 ветраныя млыны. У 1897 г. сяло, 82 двары, 280 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом, крама; маёнтак Друцкіх-Любецкіх, 9 рэвізскіх душ. На пач. 20 ст. сяло, 144 двары, 883 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Пагост-Загародскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 166 двароў, 960 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 264 двары, 1561 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 г. знішчылі вёску, загубілі 23 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Калініна (453 гаспадаркі, 1022 жыхары). У 1960 г. 1222 жыхары, вёска ў Парахонскім с/с (з 1959); у 1970 г. 981 жыхар. У канцы 20 ст. 173 двары, 343 жыхары; базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўночнай (крывалінейная мерыдыянальная вуліца, да якой з У далучаюцца кароткія шыротныя вуліцы) і паўднёвай (крыху выгнутая вуліца блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЕРМАКІ** — вёска ў Сошненскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Пінска, 195 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец, на аўтадарозе Пінск—Лунінец. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

У 1630 г. ўпамінаецца ў інвентары Купяціцкага базыльянскага манастыра як яго маёнтак. У 1757 г. сяло на межах з маёнткам Бакінічы, уласнасць Гарадзішчанскага (Гарадзецкага) бенедыкцінскага мужчынскага манастыра. У 1779 г. прывілей на маёнтак у сяле ад караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага атрымаў Пляскавіцкі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. ім-



перыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. На пач. 20 ст. фальварак у Пагост-Загародскай вол., 3 двары, 26 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, фальварак у Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, затым з 1922 г. Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. 4 двары, 34 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сошненскім с/с. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да ліп.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў Парахонскім с/с, 63 жыхары. У 1970 г. 59 жыхароў. У канцы 20 ст. 10 двароў, 14 жыхароў, у Сошненскім с/с. Забудова безсістэмная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖАБЧЫЦЫ** — вёска ў Малоткавіцкім с/с, за 5 км на З ад Пінска, 172 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Пінск. 204 гаспадаркі, 670 жыхароў (2005).

Вядомы з канца 14 ст. У лісце каралевы Боны Сфорца (1534) згадваюцца як «именье», «властная отчизна и дедицство» продкаў Алізара і Івана Дзмітровічаў, якую яны выслужылі «за великого князя Витовта и за Жигимонта... Казимера и Александра королей их... и великих князей». Выслугу тых жа часоў мелі ў сяле Анцушковічы і Федкавічы. У 1503 г. людзей-даннікаў ад кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча атрымаў тут член яго рады Фёдар Пятровіч Шчэпа. Паводле попісу войска ВКЛ 1567 г., Д.Федкавіч выстаўляў у войска 3 коней, М.І.Шчэпа, «дворянин короля двору господарского» — 3 коней збройна. На гэты ж час згадваецца ўладанне служэбніка ваяводзіча віленскага Астафея Страмілы, які ставіў 1 каня. У канцы 16 ст. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, сяло, шляхецкая ўласнасць У канцы 1630-х г. пан Шчэпа прадаў маёнтак Рыгору Валадковічу. Паводле інвентара 1622 г., у сяле 4 валокі зямлі, з кожнай плацілі па паўкапы грошаў і дзякла. Пасля сваёй смерці Р.Валадковіч завяшчаў маёнтак Купяціцкай і Грозаўскай цэрквам, Пінскім манастырам. З 1660-х г. Жабчыцы трымаў чашнік пінскі Самуэль Брэсцкі. У 18 ст. перайшлі да Красіцкіх. Сядзіба Красіцкага (18 ст.) уяўляла сабой аднапавярховую пабудову ў стылі класіцызму з гладкім 4-схільным дахам. У сядзібе захоўваліся шматлікія старадаўнія рэчы, прадметы мастацтва. Пабудову абкружаў жывапісны парк. У 1788 г. пабудавана Параскевіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1869-я г. сяло, цэнтр Сольскай грамады і воласці, маёнтак графа Красіцкага. У сяле 18 двароў, 200 жыхароў, царква. У 1886 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ., 14 двароў, 183 жыхары, нар. вучылішча, царква. У 1897 г. 32 двары, 191 жыхар, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. сяло — 98 двароў, 309 жыхароў; маёнтак — 5 двароў, 27 жыхароў, нар. вучылішча, вінзавод. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак, цэнтр гміны ў Пінскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 53 двары, 359 жыхароў, царква; у фальварку 6 двароў, 46 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. цэнтр Жабчыцкага р-на. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 117 двароў, 672 жыхары, вінаробчы з-д. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. знішчылі 70 двароў, загубілі 26 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Малоткавіцкім с/с, з 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 539 жыхароў. У 1970 г. 719 жыхароў, у складзе саўгаса «Малоткавічы». У канцы 20 ст. 232 двары, 690 жыхароў. Унітарнае вытв. прадпрыемства «Прамень надзеі», ААТ «Дарожнік», б-ка, аддз. сувязі, у 1992 г. адчынены этнаграфічны музей, магазін. Царква Параскевы Пятніцы. Планіровачна складаецца з двух прамалінейных, паралельных і шчыльна пракладзеных паміж сабой шыротных вуліц. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖОЎКІНА** — вёска ў Ласіцкім с/с, на р. Стубла, за 38 км на ПдУ ад горада і




чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 193 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Парэ—Фядоры і далей па шашы Пінск—Столін. 80 гаспадарак, 145 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім княстве. Выслугу ў сяле меў Марцін Шырма, што пацвердзіў Жыгімонт II Аўгуст (1548—78). У 1548 г. каралева Бона Сфорца пацвердзіла ранейшы прывілей зямяніну Філазафовічу на пустку ў сяле Золкіні (Жолкино). У 1570 г. паселішча перайшло Ганне Ратамскай, потым Блохам. З 1626 г. дварышчы ў сяле мелі Гадзебскія і Зашчынскія. У 18 ст. згадваюцца землеўласнікі Скірмунты. У 1774 г. паводле прывілея Станіслава Аўгуста Панятоўскага надзелы тут атрымаў Лявон Кужанецкі. У 1560-я г. ў сяле было 18 дварышчаў, у якіх 18 валок 18 маргоў 27 прутоў зямлі, у т.л. чыншавых — 16 валок 10 маргоў. Чынш складаў 19 коп 23 грошы 4 пенязі. З 4 дварышчаў давалі дзякла — 8 бочак аўса. У сяле царква св. Спаса мела надзел 2 валокі 14 маргоў 21 прут. Пазней маёнткі тут мелі Скірмунты і Кужанецкія. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1797 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. дзярж. сяло, цэнтр сельскай грамады, у Радчыцкай вол., 24 двары, 135 жыхароў. У 1886 г. было 34 двары, 204 жыхары. У 1897 г. сяло, 51 двор, 301 жыхар, хлебазапасны магазін, Спаса-Праабражэнская царква. На пач. 20 ст. — 102 двары, 743 жыхары, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Вічоўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 145 двароў, 815 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ласіцкім с/с, 296 двароў, 1400 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. знішчылі 78 двароў, загубілі 15 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 595 жыхароў. У 1970 г. 633 жыхары, у складзе калгаса «Маяк». У канцы 20 ст. 91 двор, 169 жыхароў. Пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. Брацкія магілы сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму. У 1996 г. адбудавана царква.

**ЖЫДЧА** — вёска ў Хоінскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 200 км ад Брэста, транспартныя сувязі па аўтадарозе Стытычава—Невель. 212 гаспадарак, 590 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве. Князь Ф.І.Яраслававіч даў у сяле залатару пінскаму Цімошку Дмітровічу зямлю «в селе в Жыдчы, на имя Крывечовщыну». У 1525 г. наданне пацвердзіла сваёй граматай каралева Бона Сфорца «... бачечы того ремесника нам и месту нашому быть потребного... абы он и его дети и его потомкове нам... служили.. службою золотарскою». У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Хаенскім войтаўстве Пінскага староства, 2 дварышчы, 3 валокі 26 моргаў зямлі. Падатак з дварышчаў складаў 2 капы 6 грошаў. У канцы 16 ст. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 17 ст. і да 1878 г. ўласнасць Кужанецкіх. У 1664 г. яны пабудавалі тут царкву Святога Міхаіла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. сяло ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Хойнаўскай вол., уласнасць Куржанецкага, 136 душ сялян. У 1897 г. вёска — 72 двары, 489 жыхароў, ветраны млын, хлебазапасны магазін; сядзіба маёнтка — 3 жыхары. На пач. 20 ст. 80 двароў, 649 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хоінскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 53 двары, 323 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.40 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Хоінскім с/с, 143 двары, 694 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 12 жыхароў. З 1954 г. ў Вулькаўскім с/с Жабчыцкага р-на Брэсцкай вобл. З 1959 г. ў Хойнаўскім с/с



Пінскага р-на. У 1960 г. 593 жыхары. У 1970 г. — 425 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк». У канцы 20 ст. 229 двароў, 642 жыхары. Сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, урачэбная амбул., аптэка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Планіровачна складаецца з двух крывалінейных шыротных вуліц, злучаных кароткімі вуліцамі. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЖЫТНАВІЧЫ** — вёска ў Малоткавіцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Пінска, 176 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст, на аўтадарозе Дамашыцы—Хойна. 98 гаспадарак, 164 жыхары (2005).

Вядома з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў княгіні пінскай Мар'і Сямёнавай. У 1495 г. згадваецца ў дарчай грамаце яе на наданне баярыну Сенку Галаўку дворышча ў Жытнавічах. З 1501 г. ў складзе валасцей кн. Ф.І.Яраславіча і княгіні Алены, з 1521 г. — каралевы Боны Сфорца, сяло ў Пінскім старостве. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле валочнай памеры сяло ў складзе гаспадарскага дварца Стытычава, у войтаўстве Хаенскім, 2 чыншавыя дварышчы. У ліку землеўласнікаў — гаспадарскія сяляне Фёдар Іванавіч, Сцяпан і Ждан Праневічы, Багдан Мацвяевіч «с своими помощниками»; 7 валок, 9 маргоў непрыдатнай зямлі. Плоцяць чыншу 7 коп 42 грошы, 7 бочак аўса. Усёй зямлі ў сяле 14 валок, 23 моргі. Паводле інвентару 1671 г. ў сяле 13 валок зямлі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. Пасля 2-гя падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады Хоінскай вол., уласнасць Радзіеўскага, 124 душы сялян. У 1880-я г. 33 двары, 325 жыхароў, царква, капліца. У 1897 г. вёска — 62 двары, 422 жыхары, царква, хлебазапасны магазін; сядзіба — 3 двары, 29 жыхароў. У пач. 20 ст. ў вёсцы — 101 двор, 627 жыхароў; у маёнтку — 20 жыхароў, лесапільны з-д. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска і фальварак у Хоінскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 89 двароў, 379 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Палескага ваяв., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Завідчыцкім с/с, 160 двароў, 836 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінулі 14 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Вулькаўскім с/с, працаваў калгас імя Панамарэнкі, 298 гаспадарак, 578 жыхароў. З 1957 г. ў Пінскім р-не, у Малоткавіцкім с/с. У 1960 г. 728 жыхароў. У 1970 г. — 658 жыхароў, у складзе саўгаса «Малоткавічы». У канцы 20 ст. 118 двароў, 190 жыхароў. Лясніцтва, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, б-ка, аддз. сувязі. Вайсковыя могілкі часоў 1-й сусветнай вайны і помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. У 1995 г. адбудавана царква. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Паралельна да галоўнай праходзяць дзве кароценькія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗААЗЕР'Е** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Пінска, 192 км ад Брэста, 1 км ад чыг. ст. Ясельда на лініі Брэст—Гомель, на р. Ясельда, каля воз. Гарадзішчанскае. 90 гаспадарак, 214 жыхароў (2005).

У 1-й пал. 16 ст. належала Гарадзішчанскаму бенедыкцінскаму манастыру. У канцы 16 ст. маёнтак, уласнасць праваслаўнай царквы, у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1610 г. згадваецца як сяло, уласнасць Кіева-Пячэрскага манастыра. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1858 было 17 двароў, 127 жыхароў. У 1860-я г. вёска ў Гарадзішчанскай сельскай грамадзе Пінкавіцкай вол., 63 дзярж. сялян. У 1897 г. — 33 двары, 205 жыхароў, часоўня. На пач. 20 ст. вёска — 47 двароў, 321 жыхар; чыг. платформа — 4

двары, 22 жыхары; нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і чыг. ст. ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. У 1921 г. 46 двароў, 251 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Гарадзішчанскім с/с, 74 двары, 409 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 356 жыхароў, у 1970 — 290 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба народаў». У канцы 20 ст. 95 двароў, 222 жыхары. Помнікі археалогіі — селішчы каменнага і бронзавага вякоў. Планіровачна складаецца з трох кароценькіх вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, шчыльна паміж сабой пастаўленых, забудаваных муравымі і драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАРАЎЦЫ** — вёска ў Лышчанскім с/с, за 44 км на Пн ад Пінска, 219 км ад Брэста, 34 км ад чыг. ст. Парахонек на лініі Пінск—Лунінец Транспартныя сувязі па аўтадарозе в. Пучыны — в. Лышча. 206 гаспадарак, 405 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве, уласнасць кн. Ф.І.Яраслававіча. Упамінаецца ў 1517 г. ў камісарскім дэкрэце з нагоды памежнай спрэчкі кн. Фёдара з Завішамі (двор Забароўцы). У 1550-х г. гаспадарскае сяло ў Пінскім старостве. У рэвізіі Л.Войны згадваюцца ловішчы Забаровіцкія. З 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 17 ст. сяло ў Каўняцінскім войтаўстве. Паводле інвентара за 1671 г. было 7 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лагішынскай вол., у маёнтку Мокрая Дуброва, уласнасць Сташэвіча, 122 жыхары. У 1897 г. вёска, 82 двары, 481 жыхар, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 98 двароў, 648 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 104 двары, 629 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 134 двары, 786 жыхароў. Плошча сельсавета — 7191 га, 3 вёскі, 15 хутароў, усяго 420 гаспадарак, 2441 жыхар; паравы млын, 3 кааперацыйныя крамы, 3 пач. школы. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17 жыхароў загінулі на фронце. З 1954 г. ў Лышчанскім с/с Брэсцкай вобл. У 1959 г. — 1071 жыхар. З 1962 г. ў Пінскім р-не, працаваў цагляны з-д. У 1970 г. — 1265 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава. У канцы 20 ст. 738 двароў, 1600 жыхароў. Базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, магазін, аддз. сувязі. У 1996 г. пабудавана Міхайлаўская царква. Радзіма Героя Сав. Саюза І.М.Сярэдзіча, поўнага кавалера ордэна Славы П.Ф.Бандарчука. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і перакрыжаванай двумя кароткімі вуліцамі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.


*Царква ў в. Забараўцы.*

**ЗАБЯРЭЗЗЕ** — вёска ў Бобрыкаўскім с/с, за 70 км на ПнУ ад Пінска, 250 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Малькавічы на лініі Ганцавічы—Лунінец, каля шашы Ганцавічы—Лагішын. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

Паселішча ўзнікла ў 19 ст. на месцы фальварка Бартноўскіх, у Дабраслаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., які адносіўся да маёнтка Бобрык. З часам



фальварак пераходзіў да Гутоўскіх, Масаў, Манькоўскіх, Адахоўскіх. У 1897 г. ў фальварку было 5 двароў, 9 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, калонія ў Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. — Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. было 8 двароў, 34 жыхары. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Бобрыкаўскім с/с, хутар, 27 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1962 г. ў Пінскім р-не, 93 жыхары (1960). У 1970 г. было 89 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева. У канцы 20 ст. — 10 двароў, 17 жыхароў, у складзе СВК «Бобрык».

**ЗАВІДЧЫЦЫ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 11 км на Пд ад Пінска, 186 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Жытнавічы—Стытычава. 109 гаспадарак, 224 жыхары (2005).

Вядомы з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве. Упамінаецца ў 1495 г. ў дарчай грамаце пінскай княгіні Мар'і Сяменавай «Слузе» Сенку Галоўцы на 4-х чалавек «в Завидчичох». У 1510 г. князь Ф.І.Яраслававіч падараваў дварышча ў сяле Афанасію Камайловічу, які за 20 коп грошаў аддаў яго ў заставу зямяніну гаспадарскаму Фёдару Галоўцы, і якое ў 1547 г. па купчай канчаткова перайшло да апошняга. Паводле попісу войска ВКЛ 1528 г. Андрэй і Фёдар Галоўкі ставілі ў войска 1 каня. З 1595 г. зямлю і сялян у сяле меў Пінскі Варварынскі жаночы манастыр. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ., была Троіцкая царква. У 1840-я г. 9 двароў, 29 рэвізскіх душ мелі Чахоускія (300 дзесяцін зямлі). У канцы 1850-х г. 25 двароў, 201 жыхар (дзярж. сялян) і 4 двары, 25 жыхароў аселых аднадворцаў. У канцы 19 ст. вёска і ваколіца ў Пінкавіцкай вол., 106 двароў, 641 жыхар, хлебазапасны магазін. У маёнтку 2 двары, 9 душ. У пач. 20 ст. ў Хоінскай вол.; у вёсцы 131 двор і 789 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска і фальварак у Хоінскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы было 120 двароў, 582 жыхары; у фальварку 2 двары, 14 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 521 двор, 1172 жыхары. Плошча сельсавета — 6800 га, ворыва — 2133 га, 5 вёсак, 50 хутароў, 603 двары, 2853 жыхары, паравы і газагенератарны млыны, лесазавод, смолзавод, няпоўная сярэдняя школа, 2 пач. школы. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 22 жыхары. З 1954 г. ў Вулькаўскім с/с Жабчыцкага р-на Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Калініна, 339 гаспадарак, 836 жыхароў. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1959—60 гг. цэнтр сельсавета. У 1960 г. 879 жыхароў. У 1970 г. ў Плешчыцкім с/с, 643 жыхары, у складзе калгаса імя Катоўскага. У канцы 20 ст. 118 двароў, 234 жыхары. Размешчаны фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая на Пн раздвойваецца. Паралельна да галоўнай праходзяць тры і перпендыкулярна — две кароценькія вуліцы. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Малоткавіцкім с/с, за 15 км на З ад Пінска, 168 км ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст. Транспартныя сувязі па дарозе Залессе—Малоткавічы. 51 гаспадарка, 82 жыхары (2005).

У 1550-х г. урочышча ў Пінскім старостве, з 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. ВКЛ (10 прутоў зямлі) і дварышча (12 прутоў). Паводле інвентара 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Жабчыцы, якім валодалі Шчэпы, затым па купчай Валадковічы (17 ст.) — адна валока аселая чыншавая, з якой плацілі 30 грошаў і давалі дзякла. З 18 ст. ў Красіцкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас.

*Сядзібны дом у в. Заполле.*



імперыі. З 1976 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска ў Цепянецкай сельскай грамадзе Жабчыцкай вол., 38 душ сялян; у 1880-я г. было 7 двароў. У 1897 г. ў вёсцы 19 двароў, 131 жыхар; 2 сядзібы графа Красіцкага — 10 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 23 двары, 126 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 16 двароў, 102 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Жабчыцкім с/с, 41 двор, 220 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая» (192 гаспадаркі). У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Малоткавіцкім с/с Жабчыцкага р-на Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 246 жыхароў. У 1970 г. — 257 жыхароў, у складзе саўгаса «Малоткавічы». У канцы 20 ст. 52 двары, 89 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Аснежыцкім с/с, за 2 км на Пн ад Пінска, 192 ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Пінск—Івацэвічы. 295 гаспадарак, 931 жыхар (2005).

У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве. Згадваецца у 1496 г. ў грамаце княгіні пінскай Мар'і Сямёнавай на продаж дварышча ў сяле мешчанінам Іванам Разбееевічам баярыну «слузе» Фёдару Цішкавічу за 10 коп. «грошей широких». У сярэдзіне 16 ст. сяло старасцінскае (Запольскі двор) у Пінскім старостве, з 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ., фальварак Друцкіх-Любецкіх у складзе іх маёнтка Парахонск. У 1860-я г. маёнтак Пуслоўскага, у Ставоцкай вол. У 1872 г. фальварак па шлюбу перайшоў да графа Бройль-Плятэра. У верас. 1784 г. Запольскі двор наведаў кароль Станіслаў Аугуст Панятоўскі. На полі быў праведзены агляд войскаў, вечарам у жывапісным парку адбыўся баль з ілюмінацыяй. У 1897 г. ў фальварку 3 двары, 53 жыхары. На пач. 20 ст. было 24 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, фальварак у Ставоцкай, з 1928 г. у Жабчыцкай гмінах Пінскага пав. У 1921 г. — 3 двары, 56 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.40 г. ў Пасеніцкім с/с Пінскага р-на. З 1957 г. ў Аснежыцкім с/с Пінскага р-на Брэсцкай вобл. У 1960 г. 131 жыхар. У 1970 г. — 1118 жыхароў, працаваў вучгас «Заполле». У канцы 20 ст. 338 двароў, 1318 жыхароў. Лабараторыя ветлячэбніца, Дом быту, АТ «Піна-Лада», райбыткамбінат, прыватнае унітарнапрам. прадпрыемства «Радон», фірмы «Ясельда Палеская», «Артаудыт», «Вараг». Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены хаатычна. Вылучаецца сядзібны дом, узведзены ў 1920-х г. на паўн. ускраіне (помнік драўлянай архітэктуры).

**ІВАНІКІ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 13 км на Пд ад Пінска, 188 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Жыткавічы—Месткавічы. 18 гаспадарак, 40 жыхароў (2005).

У Пінскіх актах 16 ст. вядома пад назвай Іванкевічы, у сярэдзіне 16 ст. гаспадарскае сяло ў Хоінскім войтаўстве Пінскага староства. У 1560-х г. зямлі было 3 валокі 27 прутаў, на якіх «сядзелі» падданыя зямян Анцушковічаў, каралеўскія сяляне Іванкевічы; 1 валоку пасреднай і 2 валокі 4 пруты непрыдатнай зямлі «знялі» на чынш Апанасовіч «с братией» і Якаў Андрэевіч «с братией», з якіх плацілі 3 капы 9 грошаў, давалі 6 бочак аўса. З канца 1560-х г. сяло ў Пінскім пав.



Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1668 г. згадваецца ў прывілеі Яна Казіміра Казіміру Гедройцу. У 1671 г. было 2 валокі зямлі. У 60-х г. 18 ст. каралеўская дзяржава. У 1765 г. згадваецца кансэнсус Станіслава Панятоўскага Гедройцу на ўступку сяла Яну Арэшку, у 1768 г. — Міхаілу Зэйферту. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска ў складзе мястковіцкай сельскай грамады Хойнаўскай вол., адносілася да маёнтка Стытычава, уласнасць Радзіеўскага, 26 душ сялян. У 1897 г. было 22 двары, 122 жыхары. На пач. 20 ст. — 23 двары, 157 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Хоінскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 29 двароў, 104 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. Завідчыцкім с/с, 37 двароў, 144 жыхароў (1940). У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. — 161 жыхар, у 1970 г. — у Плешчыцкім с/с, 129 жыхароў, у складзе калгаса імя Катоўскага. У канцы 20 ст. 19 двароў, 39 жыхароў. Забудова безсістэмная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ІВАНІСАЎКА** — вёска ў Лагішынскім пав. Савеце, за 26 км на Пн ад Пінска, 213 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2005).

Паводле інвентару 1671 г. сяло ў каралеўскай дзяржаве Іванікі, 4 валокі зямлі. Паводле кансэнсусаў Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1765, 1766) у складзе дзяржавы перадавалася Фадзею Гедройцу, Яну Арэшку, Міхаілу Зэйферту. У канцы 18 ст. частка маёнтка Пясечна. У сярэдзіне 19 ст. была паштовая станцыя на дарозе Пінск—Нясвіж. У 1897 г. лясная старожа, 3 двары, 35 жыхароў. На пач. 20 ст. хутар у Ставоцкай вол. — 6 двароў, 35 жыхароў; урочышча — 3 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., уласнасць графа Стафана Бройль-Плятэра. У 1921 г. 8 двароў, 53 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лагішынскім с/с, хутар, 12 двароў, 95 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. — 48 жыхароў. У 1970 г. — 52 жыхары, у складзе саўгаса-тэхнікума. У канцы 20 ст. 3 двары, 4 жыхары.



*Батанічны заказнік Ізін.*

**ІЗІН** — вёска ў Малоткавіцкім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Пінска, 165 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Кончыцы—Жытнавічы. 32 гаспадаркі, 65 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска ў складзе Парскай сельскай грамады, у Хоінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. (Іжын) — 24 жыхары. У 1897 г. вёска Ізін — 16 двароў, 109 жыхароў. На пач. 20 ст. 24 двары, 179 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Хоінскай гміне Пінскага пав. У 1921 г. 26 двароў, 160 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Завідчыцкім с/с, 63 двары, 271 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жніўні 1943 г. спалілі вёску. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. ў Малоткавіцкім с/с, 238 жыхароў. У 1970 г. — 246 жыхароў, у складзе саўгаса «Малоткавічы». У канцы 20 ст. 43 двары, 80 жыхароў. Планіровачна складаецца з




прамалінейнай шыротнай вуліцы, перакрыжаванай па цэнтру кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЛАВУРАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельвавета, за 39 км на У ад Пінска, 225 км ад Брэста, 43 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Пінск—Лунінец, на аўтадарозе Калавуравічы—Лемяшэвічы. 96 гаспадарак, 280 жыхароў (2005).

Па некаторых звестках ранняя назва Купічы. Упамінаецца ў 1524 г., вотчына роду Калавураў. У гэтым жа годзе згадваецца ў прывілеі Жыгімонта І Старога баярыну Мацею Ів. Пратасовічу. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. Паводле інвентару 1847 г. маёнтак і вёска, вотчына Пратасавіцкіх. У вёсцы 5 двароў цяглых, 23 рэвізскіх душы, 40 дзес. зямлі пад сядзібай і ворывам, 6 коней, 8 валоў, 11 кароў, 18 вульляў. У панскім фальварку конны млын, карчма (здавалася ў арэнду), рыбныя ловы. У 1860-х г. у Біжарэвіцкай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол., 10 сялян-уласнікаў і 15 былой шляхты. У канцы 19 ст. вёска — 2 двары, 12 жыхароў; ваколіца — 47 двароў, 299 жыхароў, ветраны млын, кузня, ваўначоска, часоўня. На пач. 20 ст. вёска, 4 двары, 15 жыхароў; ваколіца — 40 двароў, 209 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 57 двароў, 385 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Біжаравіцкім с/с, 62 двары, 466 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 15 жыхароў не вярнуліся з фронту.

З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас «Перамога», у якім 441 гаспадарка, 1060 жыхароў. У 1960 г. вёска ў Качановіцкім с/с, 388 жыхароў. У 1971 г. цэнтр калгаса «Сцяг», 83 двары, 319 жыхароў. З 1973 г. цэнтр сельсавета. У канцы 20 ст. 97 двароў, 296 жыхароў. У сельсавеце 1 сярэдняя школа, дзіцячы сад, 2 клубных установы, 2 бібліятэкі, 3 фельч.-акушэрскіх пункта, 3 крамы, 6 лазняў, 2 аддз. сувязі, філіял «Беларусбанка». У 2005 г. цэнтр СВК «Калавуравічы». Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін.

**КАЛАДЗЕЕВІЧЫ** — вёска ў Ахоўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Пінска, 175 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Пінск, на левым беразе р. Мерачанка. 90 гаспадарак, 141 жыхар (2005).

У канцы 15 ст. сяло ў складзе маёнткаў кн. Мар'і Сямёнавай у Пінскім старостве. У 1524 г. згадваецца ў пацвярджальнай грамаце каралевы Боны Сфорца зямяніну Івану Алехнавічу Курэйшы на былыя наданні. У сярэдзіне 16 ст. гаспадарскае сяло з вотчынай Івана Курэйшы і фундушовымі землямі пінскага францысканскага манастыра, у Чэрнчыцкім войтаўстве. На гэты час тут згадваюцца зямельныя ўладанні пінскіх замкавых майстроў-рамеснікаў: бондары мелі 3 валокі, калеснік 1 валоку (вольныя ад чыншу). З 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1976 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-х г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Жабчыцкай вол., у складзе маёнтка Выпеловічы Хржаноўскага, 94 рэвізскіх душы. У 1897 г. ў вёсцы 56 двароў, 310 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. вёска — 67 двароў, 467 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 46 двароў, 322 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.40 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ахоўскім с/с, 95 двароў, 503 жыхары; калгас «Чырвоная Зорка». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 18 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. —



560 жыхароў. У 1970 г. — 564 жыхары, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка». У канцы 20 ст. 107 двароў, 166 жыхароў, бібліятэка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАМЕНЬ** — вёска ў Загародскім с/с, за 38 км на ПнУ ад Пінска, 213 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец, на р. Бобрык, каля аўтадарогі Парахонск—Дабраслаўка. 383 гаспадаркі, 976 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. ўрочышча ў Пінскім старостве. На пач. 17 ст. згадваецца маёнтак К., уласнасць Кірдзеевай Фядоры Чапленкі. У 1631 г. занатаваны як уласнасць Яроша Верашчакі, які за 2 тыс. злотых перадаў у арэнду маёнтак Софіі Нарушэвічавай. Пазней уласнасць Сцяткевічаў, затым Друцкіх-Любецкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Паводле інвентару 1846 г. вёска ў складзе маёнтка Пагост—Загародскі кн. Ксаверыя Друцкага-Любецкага, 47 двароў, 213 душ сялян абоега пола, у якіх 607 моргаў ворыва, 106 валоў, 75 кароў. У сярэдзіне 19 ст. на могілках пабудавана Мікалаеўская царква, капліца ў цэнтры. У 1860-х г. ў Каменскай сельскай грамадзе, у Пагост-Загародскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. вёскі: Камень-1 — 177 рэвізскіх душ, уласнасць Друцкага-Любецкага; Камень-2 у складзе маёнтка Пагост-Загародскі (Скірмунта), 31 рэвізская душа. У 1886 г. сяло, уласнасць сельскай грамады, 60 двароў. 582 жыхары, царква, 3 ветраныя млыны. У 1897 г. ў в. Камень-1 — 291 двор, 842 жыхары, царква (на могілках), часоўня; Камень-2, у якой 9 двароў, 115 жыхароў, царква, часоўня. На пач. 20 ст. 172 двары, 1128 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. 215 двароў, 1254 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав.



*Фрагменты глінянага гаршка з археалагічнай стаянкі Камень.*

Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Пагост-Загародскім с/с, 297 двароў, 1489 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 44 жыхары не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас «Перамога», у якім 336 гаспадарак, 696 жыхароў. У 1960 г. — 1408 жыхароў. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. — 1412 жыхароў. У канцы 20 ст. 405 двароў, 1025 жыхароў; Дом культуры, бібліятэка, аддз. сувязі, магазін. У 2005 г. філіал КУСП «Агракамбінат «Палессе».

Помнікі: стаянкі эпохі мезаліта (8—5-е тыс. да н.э.) і часоў раннеславянскіх паселішчаў (6—8 ст.); помнік на магіле ахвяр фашызма; памятная дошка А.Блоку, які бываў тут у 1916 г. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з У далучаюцца дзве прамалінейныя вуліцы. На Пн і З, за ракой, адасобленыя ўчасткі забудовы. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, няшчыльна.

**КАНАТОП** — вёска ў Бобрыкаўскім с/с, за 50 км на ПнУ ад Пінска, 230 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Малькавічы на лініі Ганцавічы—Лунінец, на аўтадарозе Малая Плотніца—Канатоп. 18 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

У сярэдзіне 16 ст. згадваецца як урочышча Канатоп'е ў Пінскім старостве. У 18—19 ст. уласнасць Друцкіх-Любецкіх, затым Пуслоўскіх, вёска ў Мала-Плотніцкай сельскай грамадзе Дабраслаўскай вол. Пінскага пав. На пач. 1880-х г. было 78 жыхароў. У канцы 19 ст. вёска — 48

двароў, 291 жыхар, піцейны дом, нар. вучылішча; сядзіба — 5 двароў, 19 жыхароў, карчма; фальварак (Пуслоўскага) — 12 душ. На пач. 20 ст. вёска — 7 двароў, 52 жыхары; маёнтак — 35 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 14 двароў, 69 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Багданаўскім с/с, вёска, 28 двароў, 149 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 жыхары. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Бобрыкаўскім с/с. З 1962 г. ў Пінскім р-не, 170 жыхароў (1960). У 1970 г. — 160 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева. У канцы 20 ст. 21 двор, 38 жыхароў. У 2005 г. ў складзе СВК «Бобрык».

**КАНЮХІ** — вёска ў Лапацінскім с/с, на правым беразе р. Стыр, за 28 км на ПдУ ад Пінска, 198 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, каля аўтадарогі Пінск—Столін. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (2005).

Вядома з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве. Згадваецца ў наданні караля польскага і вял. кн. літ. Казіміра Ягайлавіча (1440—92) баярыну Мікалаю Ляху Сырапяту, які збудаваў «дворац» «другій в Конюсех». У 1524 г. каралева Бона Сфорца пацвердзіла прывілей на «другій двор в конюсех» войскаму пінскаму Марціну Шырмічу. У 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, з гаспадарскімі бабровымі ловамі, шляхецкая ўласнасць. У 1546 г. зямельнае наданне ў сяле атрымаў за конную службу Іван Мацкавіч (3 валокі). Сяло адносілася да ўладанняў Віленскага Прачысценскага сабора. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска ў складзе Лапацінскай сельскай грамады Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 25 жыхароў, у т.л. 20 сялян-уласнікаў. У 1897 г. вёска — 18 двароў, 110 жыхароў; сядзіба — 6 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 27 двароў, 196 жыхароў; хутар — 7 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 39 двароў, 196 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лапацінскім с/с, 47 двароў, 268 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 229 жыхароў. У 1970 г. 135 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У канцы 20 ст. 21 двор, 37 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЎБЫ** — вёска ў Лапацінскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Пінска, 196 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на левым беразе р. Стыр, каля аўтадарогі Пінск—Столін. 55 гаспадарак, 124 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах 15 ст. вядома пад назвай Сялец (Сяльцы). Пазнейшая назва паходзіць ад імя былых уладальнікаў Колб-Сялецкіх. У 2-й пал. 15 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім княстве. У часы караля Казіміра Ягайлавіча (1440—92) выслугу ад яго ў сяле атрымаў зямянін Мікалай Лях Сырапят. У 1515 г. згадваюцца ў прывілеі кн. Ф.І.Яраслававіча Калбовічам, у якім быў пацверджаны іх зямянскі статус. У 1561 г. згадваецца маёнтак Сялецкі Антона Калбовіча, дадзены ў заставу. У 1558 г. кароль Жыгімонт II Аўгуст пацвердзіў дзедзічыну Сырапяты пінскаму войскаму Марціну Янавічу Шырме. У 1514 г. зямельнае наданне «Селецкую пашню» ад кн. Ф.І.Яраслававіча атрымала Успенская царква Ляшчанскага манастыра. Паводле попісу войска ВКЛ 1567 г. Маціяс Колб выстаўляў у войска 1 каня, Ждан Колб «з дыму мерин», Крыштаф Шырма з маёнтка Сялец — 1 каня. Паводле валочнай памеры пры Сялецкім дварцы меў 18 моргаў, 24



пруты зямлі, вольнай ад чыншу, пінскі замкавы піварар. У 18 ст. ваколіца ў Пінскім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска ў Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., маёнтак Алявінскага. У 1897 г. ў вёсцы 11 двароў, 82 жыхары; ваколіца — 36 двароў, 252 жыхары; сядзіба — 4 двары, 10 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 14 двароў, 75 жыхароў; ваколіца — 269 двароў, 175 жыхароў. У 1916 г. з 14 жн. па 3 вер. тут жыў паэт А.Блок. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 60 двароў, 358 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лапацінскім с/с, 74 двары, 404 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 9 чэрв. 1943 знішчылі 2 двары, 3 жыхары. 7 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 у Брэсцкай вобл., працаваў калгас «Шлях Леніна» — 310 гаспадарак, 1280 жыхароў. У 1960 г. — 352 жыхары. У 1970 г. — 273 жыхары. У канцы 20 ст. 66 двароў, 148 жыхароў. Помнік архітэктуры — праваслаўная капліца (19 ст.) з рысамі барока і класіцызму. Планіровачна складаецца з невялікіх кварталаў, утвораных трыма кароткімі вуліцамі мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаванымі завулкамі. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАЎНЯЦІН** — вёска ў Лагішынскім пас. Савеце. за 31 км на Пн ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 211 км ад Брэста, каля аўдатарогі Лагішын—Ганцавічы. 282 гаспадаркі, 773 жыхары (2005).

У канцы 15 ст. сяло ў складзе маёнткаў пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай, у Пінскім княстве. У 1517 г. ўпамінаецца ў акце размежавання яго з с. Сташаны. У сярэдзіне 16 ст. гаспадарскае сяло ў Чэрнічыцкім войтаўстве Пінскага староства. З 1566 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 17 ст. сяло, цэнтр войтаўства. Паводле інвентара за 1671 г. было 35 валок зямлі. У складзе войтаўства лічылася 13 сел. На пач. 70-х г. 18 ст. згадваецца як дзяржава Міхаіла Радзевіча, які паводле кансенсуса караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1770) уступіў яе Івану Булгаку. У 1772 г. згадваецца як цэнтр староства з нагоды замены яго зямель на землі Лагішынскага войтаўства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лагішынскай вол., уласнасць Сташэвічаў, 118 сялян-уласнікаў. У 1880-я г. было 113 душ, 3537 дзес. зямлі, капальня вапны. У 1897 г. ў вёсцы 67 двароў, 480 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак — 10 двароў, 26 жыхароў; сядзіба — 3 двары, 25 жыхароў, ветраны млын. На пач. 20 ст. вёска — 85 двароў, 575 жыхароў; маёнтак — 31 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 83 двары, 480 жыхароў; у фальварку 3 двары, 21 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.4.1940 г. ў Лагішынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Дубраўскім (Мокра-Дубраўскім) с/с, 110 двароў, 651 жыхар. У былым маёнтку — МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 20 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. у Брэсцкай вобл., у Лагішынскім с/с, працаваў калгас «Шлях да камунізму», у якім 294 гаспадаркі, 584 жыхары. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1971 г. — 199 двароў, 934 жыхары, пач. школа; за 1 км — вапнавы з-д. У канцы 20 ст. 293 двары, 811 жыхароў. ААТ «Райаб'яднанне «Сельгасхімія», пач. школа, дзіцячы сад, б-ка, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з двух прамалінейных вуліц (адна працяглая, другая — кароткая), злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова, няшчыльна. драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАЧАНОВІЧЫ** — вёска ў Калавуравіцкім с/с, за 38 км на У ад горада і чыг.



*Плаціна на р. Прыпяць каля в. Качановічы.*

ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 218 км ад Брэста, на правым беразе р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Качановічы—Лемяшэвічы. 16 гаспадарак, 46 жыхароў (2005).

У 16 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім пав. Згадваецца ў 1556 г. ў апісанні яго межаў. У ліку землеўласнікаў названы земяне гаспадарскія Леў Некрашэвіч, харужы кобрынскі, Грыцко Пацэвіч, Міхно Матвеевіч, Федкавічы і інш. У попісе войска ВКЛ 1567 г. згадваюцца «баяры пінскія «Григорий Кочановский с Коганович» і Алізар Качаноўскі, якія выстаўлялі ў войска па 1 каню. У 1782 г. пабудавана Параскевіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. сяло ў Асабовіцкай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол., уласнасць Вабішчэвіча і Асмалоўскага — сялян-уласнікаў і 35 чал. былой шляхты. У 1897 г. сяло і ваколіца — 69 двароў, 390 жыхароў, царква, 2 капліцы, 2 ветраныя млыны, крама, піцейны дом, прыходская школа. На пач. 20 ст. сяло і ваколіца, 47 двароў, 525 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 73 двары, 418 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 90 двароў, 45 жыхароў. У сельсавеце 504 двары, 2906 жыхароў, 2 млыны, у т.л. ў Качановічах, 6 пач. школ, сяльпо, развіты жывёлагадоўля, агародніцтва, рыбны промысел. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1973 г. ў Калавуравіцкім с/с. У 1960 г. — 480 жыхароў. У 1971 г. — 80 двароў, 273 жыхары, сярэдняя школа, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. 26 двароў, 52 жыхары, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, б-ка. Параскевіцкая царква разбурана ў 1960 г. Планіровачна складаецца з трох кароценькіх шыротных вуліц, пастаўленых шчыльна паміж сабой і забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі.

**КАШЭВІЧЫ** — вёска ў Ахоўскім с/с, на правым бер. р. Марачанка, за 8 км на ПнЗ ад Пінска, 186 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст, каля шашы Брэст—Гомель. 166 двароў, 389 жыхароў (2005).

У канцы 15 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім княстве. Упамінаецца ў 1492 г. і 1495 г. ў дарчых граматах княгіні пінскай Мар'і Сямёнавай члену яе рады, намесніку пінскаму Фурсу Іванавічу на даннікаў і дварышчы ў К. У 1498 і 1501 гг. «дворища в Кошевичох на имя Ластовское и Карнауховскос» ад кн. Ф.І.Яраславіча атрымала служэбніца яго жонкі Алены Святохна Шэпіна з Грычынаў. У 1515 г. дварышча ад кн. Ф.І.Яраславіча атрымаў Венядзікт Фурсовіч (пазней харужы пінскі). У 1518 г. наданні пацвердзіў кароль Жыгімонт І Стары, у 1542 г. каралева Бона Сфорца. З 1521 г. ў Пінскім старостве, у складзе гаспадарскага двара Ставецкага. У канцы 16 ст. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць з землямі зямянскімі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1842 г. маёнтак Тэрэзіі Скірмунтавай. Паводле інвентара складаўся з вёсак Кашэвічы і Попасы. У маёнтку 34 цяглыя двары, 248 рэвізскіх душ абоега пола, з іх рабочых — 164. Пры сядзібе дваровых — 24 душы, зямлі ў маёнтку 973 дзес., з іх 657 дзес. ворыва. У сял. 392 дзес. ворыва і 34 кані, 80 валоў, 55 вульляў. Павіннасці: 208 дзён прыгону, па



12 дзён з рабочай душы гвалтаў першых, 48 з вупражжу (на год). У в. Кашэвічы былі 31 двор, 242 душы абоега пола. У 1860-х г. вёска і маёнтак, цэнтр сельскай грамады ў Ставоцкай вол., уласнасць Скірмунтавай, 104 душы сялян. У 1897 г. вёска, 61 двор, 337 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін; сядзіба Аляксандра Скірмунта — 6 двароў, 22 жыхары, касцёл, капліца. На пач. 20 ст. вёска — 70 двароў, 372 жыхары; маёнтак — 2 двары, 17 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак ў Ставоцкай, з 1928 г. ў Жабчыцкай гмінах Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 73 двары, 345 жыхароў; у фальварку 2 двары, 14 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 95 двароў, 502 жыхары. Плошча сельсавета 8400 га, ворыва — 3009 га, 5 вёсак, 65 хутароў, торфазавод, няпоўная сярэдняя школа, 3 пач. школы; усяго 438 двароў, 2196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Ахоўскім с/с Жабчыцкага р-на Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Андрэева, у якім 569 двароў, 1114 жыхароў. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. — 442 жыхары. У 1970 г. — 417 жыхароў, цэнтр калгаса імя Дзяржынскага. У канцы 20 ст. 148 двароў, 373 жыхары, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Планіровачна складаецца з працяглай шыротнай вуліцы (уздоўж ракі), забудаванай няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**КЛІН** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, на левым беразе р. Ясельда, за 14 км на ПнУ ад Пінска, 192 км ад Брэста, 2 км ад чыг. ст. Ясельда на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Сушыцк—Гарадзішча. 11 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

Утворана як хутар на мяжы 19—20 ст. у 1960 г. вёска ў Гарадзішчанскім с/с, 62 жыхары. У 1970 г. — 64 жыхары, у складзе калгаса «Дружба». У канцы 20 ст. 14 двароў, 38 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КЛЯТНАЯ** — вёска ў Валішчанскім с/с, за 50 км на ПнЗ ад Пінска, 223 км ад Брэста, 50 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, размешчана каля Ясельдаўскага канала, транспартныя сувязі па прасёлку Клятная—Калонск і аўтадарозе Клятная—Сакалоўка—Азарычы і далей па шашы Івацэвічы—Пінск. 156 гаспадарак, 324 жыхары (2005).

На пач. 17 ст. уласнасць Цярлецкіх, потым Скірмунтаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-х г. вёска і маёнтак у Парэцкай вол., цэнтр сельскай грамады, уласнасць Скірмунтаў, 96 душ сялян. У 1897 г. сядзіба Сямёна Скірмунта, 3 двары, 12 жыхароў; вёска — 58 двароў, 408 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. вёска — 80 двароў, 479 жыхароў; маёнтак — 7 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 87 дароў, 477 жыхароў; у фальварку — 3 двары, 22 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.40 г. цэнтр сельсавета, 105 двароў, 605 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жніўні 1941 г. расстралялі тут 12 актывістаў калгаса імя К.Маркса, у крас. 1944 г. спалілі 32 двары, загубілі 12 жыхароў. У 1960 г. вёска ў Калонскім с/с Лагішынскага р-на Брэсцкай вобл., 763 жыхары. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. вёска ў Валішчанскім с/с, 812 жыхароў, у складзе калгаса імя Жданава. У канцы 20 ст. 156 двароў, 361 жыхар.

**КНУБАВА** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 7 км на ПдУ ад Пінска, 182 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, каля аўтадарогі Пінск—Столін. 96 гаспадарак, 258 жыхароў (2005).

Упамінаецца ў 1555 г. ў прывілеі каралевы Боны Сфорца зямяніну пінскаму Ежы Урбану. Сяло ў Пінскім старостве. Раней была заселена батракамі нявольнымі, якія адносіліся да Пінскага замка і яго дварца (фальварка) Стытычава. У 1560-я г. сяло ў Стытычаўскім войтаўстве Пінскага пав., заселена агароднікамі, якія выконвалі павіннасці пінскаму замку: 3 дні пешых мужчыны (на тыдзень) «с чем прикажут», а жанчыны 12 талок «на жниве и полотье». Паводле рэвізіі Л.Войны тут — 9 двароў агароднікаў з надзелам у 3 валокі 13 моргаў і 12 прутоў зямлі. Яны ж пастаўлялі замку 8 плытоў дроў. Побач з сялом згадваецца «приселенье Кнубовое» — сяло «Красный Берег» — 2 дварышчы. У канцы 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У канцы 1860-х г. дзярж. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лемяшэвіцкай вол., 72 душы сялян-уласнікаў. У 1853 г. было 18 участкаў зямлі (у складзе маёнтка Марозавічы). У 1886 г. было 19 двароў, 260 жыхароў, царква, помнік 1000-годдзю Расіі. У канцы 19 ст. 55 двароў, 370 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, 2 помнікі. У 1909 г. — 51 двор, 492 жыхары, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 56 двароў, 461 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Плешчыцкім с/с, 117 двароў, 567 жыхароў. Напярэдадні вайны 153 двары, 588 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія у 1944 знішчылі 107 двароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 471 жыхар. У 1972 г. — 106 гаспадарак, 434 жыхары; пач. школа, у складзе калгаса імя Горкага. У канцы 20 ст. 105 двароў, 275 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай вуліцы, перакрыжаванай па цэнтру кароценькай шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КОНЧЫЦЫ** — вёска ў Дубайскім с/с, за 28 км на З ад Пінска, 155 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Юхнавічы на лініі Пінск—Брэст, на правым беразе р. Піна, на паўночным беразе воз. Кончыцкае, на аўтадарозе Дубай—Стытычава. 319 гаспадарак, 728 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім старостве. Згадваецца ў 1554 г. ў апісанні ўваходаў у Пінскую пушчу з маёнткаў Полазавых — «... уход у пусчу з людьми его милости господарскими села Кончицкого...». Паводле рэестра сяло складалася з дварышча Кончыцкага, мела 12 валок 20 маргоў 15 прутаў зямлі. Па старыне плацілі: палюддзя — 7 грошаў 4 пенязі, пасошнага — 80 грошаў, прыбору — 1 капу 11 грошаў, пісчага 46 грошаў, давалі 16 бочак аўса. Усяго 7 коп 15 грошаў 4 пенязі. Паводле рэвізіі Л.Войны (1561—66) у дварышчы 21 валока 22 маргі зямлі. «Сняли» Васіль Івашковіч і Трахім Іванавіч «со всею братией и помощниками с 23 дымами». Сялянам загадана падзяліць землі пароўну і несці аднолькавыя павіннасці і плату. Агульная плата з дварышча — 63 капы 20 грошаў, 12 бочак аўса (з 1564 г.). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Дубайскай вол., уласнасць Пуслоўскіх, 204 жыхары. З 1873 г. Аляксандра-Неўская царква. У 1880-я г. 52 двары, 644 жыхары. У 1897 г. было 118 двароў, 717 жыхароў, 2 ветраных млыны, піцейны дом. На пач. 20 ст. вёска ў Бродніцкай вол., 150 двароў, 907 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 56 двароў, 258 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Дубайскім с/с, 286 двароў, 1325 жыхароў. У Вял. Айч. вайну



ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 37 вяскоўцаў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас, 337 гаспадарак, 710 наяўных членаў, абслугоўваўся Жабчыцкай МТС. У 1972 г. вёска, цэнтр калгаса «Усход», 466 гаспадарак, 1396 жыхароў, лясніцтва, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, магазін, б-ка. У канцы 20 ст. 355 двароў, 794 жыхары. Помнік жыхарам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з выгнутай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У далучаюцца тры кароткія вуліцы. Забудова пераважна двухбаковая, рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРАСАВА** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 10 км на Пд ад Пінска, 185 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на прасёлку Месткавічы—Сачкавічы. 13 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве, уласнасць кн. Ф.І.Яраслававіча. Упамінаецца ў 1503 г. ў дарчай грамаце яго войту пінскаму Фёдару Копцевічу на дварышча ў Красаве. Згадваюцца бабровыя ловы і баброўнік. Паводле рэвізіі Л.Войны ў Хрысцібалоцкім войтаўстве, сяло Красава — зямля «красавскіх бояр» з дварышчам Пашуцінскім, якім «владеет пинский мещанин Борис Копцевич». Паводле валочнай памеры ў ім было 13 моргаў 15 прутоў зямлі. У канцы 16 ст. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле рэестра 1773 г. сяло і фальварак. У канцы 17 — пач. 1-й пал. 19 ст. ўласнасць каталіцкай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 19 ст. ваколіца ў Хойнаўскай вол., 34 двары, 229 жыхароў, ветраны млын. На пач. 20 ст. ваколіца — 43 двары, 271 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Хоінскай гміне Пінскага пав. У 1921 г. 23 двары, 187 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Вяляціцкім с/с, 58 двароў, 240 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі.

З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1958 г. ў Плешчыцкім с/с. У 1960 г. — 183 жыхары. У 1970 г. — 131 жыхар. У канцы 20 ст. 17 двароў, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРАСІЕВА** — вёска ў Ставоцкім с/с, за 11 км на Пн ад Пінска, 186 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на левым беразе р. Мерачанка, на аўтадарозе Пінск—Івацэвічы. 110 гаспадарак, 258 жыхароў (2005).

Вядома з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве, у ліку валасцей пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай і сына кн. Васіля. У 1492 г. згадваецца ў дарчай грамаце слузе Фурсу Іванавічу маёнтак са ставам у Красіеве. З 1500 г. ў складзе валасцей кн. Фёдара Іванавіча Яраслававіча і княгіні Алены (Аляксандры). З 1521 г. сяло і маёнтак Фурсовічаў у Пінскім старостве каралевы Боны Сфорцы. З 1569 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле попісу войска 1528 г., Фурсовічы ставілі ў войска з маёнткаў 8 коней. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Ставоцкай вол., уласнасць К.Орды, 113 сялян-уласнікаў. У канцы 19 ст. ў вёсцы 60 двароў, 375 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзібы (2) — 6 двароў, 43 жыхары. На пач. 20 ст. вёска — 75 двароў, 451 жыхар; маёнтак — 3 двары, 33 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Ставоцкай, з 1928 г. ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Плескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 63 двары, 351 жыхар; у фальварку 11 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ставоцкім с/с, 119 двароў, 627 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 637 жыхароў.




У 1970 г. — 545 жыхароў, у складзе саўгаса-тэхнікума. У канцы 20 ст. 110 двароў, 271 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРУГЛАЕ** — вёска ў Загародскім с/с, за 45 км на ПнУ ад Пінска, 220 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец, на аўтадарозе Парахонск—Дабраслаўка. 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. згадваецца дварышча Круглевічы сяла Пагост (Хвальчэўскі). У канцы 19 ст. ўрочышча, лясная старожа ў Пагост-Загародскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць кн. Друцкага-Любецкага, 4 жыхары. На пач. 20 ст. ўрочышча — 1 двор, 4 жыхары. У 1960 г. вёска ў Пагост-Загародскім с/с Лагішынскага р-на Брэсцкай вобл., 301 жыхар. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. — 209 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога». У канцы 20 ст. 28 двароў, 43 жыхары.

**КРЫВІЧЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, на левым беразе р. Прыпяць, за 27 км на У ад Пінска, 207 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Ясельда на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Плотніца—Заазер'е. 16 гаспадарак, 20 жыхароў (2005).

Вядома з 15 ст., гаспадарскае сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў княгіні Мар'і Сямёнавай. Упамінаецца ў 1496 г. ў дарчай грамаце яе баярыну І.Ф.Полазу («Ивашку Полозовичу») — «... ему пожаловали, дали три человека в Кривичох». У 1502 г. наданне пацвердзіў кн. Ф.І.Яраславіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска ў Плошчаўскай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол., уласнасць Орды, 65 душ сялян; у 1880-я г. — 65 душ сялян. У 1897 г. было 32 двары, 280 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска, 52 двары, 276 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 40 двароў, 287 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лемяшэвіцкім с/с, 80 двароў, 356 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 349 жыхароў. У 1970 г. — 214 жыхароў, у складзе калгаса «Прыпяць». У канцы 20 ст. вёска ў Гарадзішчанскім с/с, 26 двароў, 34 жыхары. Планіровачна складаецца з дзвюх кароткіх мерыдыянальных вуліц, якія на Пд далучаюцца да кароткай шыротнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КРЫВОЕ СЯЛО** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад Пінска, 197 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, каля аўтадарогі Пінск—Столін. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2005).

Вядома з часоў Вітаўта (1392—1430) і Казіміра (1440—92). У гаспадарскім сяле выслугу ад іх мелі Анцушковічы. У 1-й чвэрці 16 ст. вотчына Марыны Юркаўны Анцушковіч, затым, па шлюбе, перайшла да баярына клецкага Фёдара Пятровіча Шчэпы і сына Івана. Іх наданне ў 1524 г. пацвердзіла каралева Бона Сфорца — «... А мает он нам и его дети служити службою военного... А люди его ... замок наш Пинский оправляти водле давного обычая». У 1551 г. згадваецца частка маёнтка «отчызного» баярына Сямёна Вяляцікага — дворышча «у Кривом селе, на имя Былужинское», якое ён прадаў (1551) баярыну пінскаму Івану Рыгоравічу. У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Хрысцібалоцкай вол. Пінскага староства. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле рэвізіі Л.Войны ў сяле 2 дварышчы, у якіх 2 валокі 10 маргоў зямлі, за якую плата 3 капы 11 грошаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1840-я г. вёска з маёнткам К.Бутрымовіча, 4 душы сялян. У канцы 19 ст. ваколіца ў Лемяшэвіцкай вол., 11 двароў, 68 жыхароў. У пач. 20 ст. — 14 двароў, 133 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінска-



га пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 11 двароў, 73 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Плешчыцкім с/с (в. Крывое), 11 двароў, 30 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. спалілі вёску. З 1954 г. у Брэсцкай вобл., у складзе калгаса імя Мічурына. У 1960 г. вёска ў Лапацінскім с/с, 47 жыхароў. У 1970 г. — 21 жыхар, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У канцы 20 ст. вёска ў Плешчыцкім с/с, 3 двары, 4 жыхары.

**КРЫЎЧЫЦЫ** — вёска ў Ставоцкім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Пінска, 192 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на шашы Пінск—Івацэвічы. 120 гаспадарак, 277 жыхароў (2005).

У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў княгіні Мар'і Сямёнавай. Раней пры кн. Юрыю тут згадваюцца землеўласнікі Крывецкія. У 1498 г. княгіня Мар'я вярнула «слузе» Заранку Крывецкаму (Дзмітровічу) 2 даннікаў, якіх забраў кн. Юрый да замка пінскага. Сенка Дзмітровіч Крывецкі атрымаў ад яе 3 дварышчы (с. Чорнае, Плотніца, Дубоя); Сцяпан у 1503 г. атрымаў дварышча ў Моталі ад кн. Ф.І.Яраславіча. Ад каралевы Боны Сфорца дварышчы атрымаў Фёдар Сцяпанавіч Крывецкі, у т.л. вотчынны маёнтак Крыўчыцы (Крывіцкі). З 1521 г. ў Пінскім старостве. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Фундушовыя наданні ў сяле мелі да канца 17 ст. пінскія езуіты. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Ставоцкай вол., у складзе маёнтка Падгацце Пуслоўскіх — 76 душ сялян. На пач. 1880-х г. было 80 жыхароў. У 1897 г. — 50 двароў, 364 жыхары. На пач. 20 ст. вёска — 65 двароў, 348 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Ставоцкай, з 1928 г. ў Пінкавіцкай гмінах Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 16 двароў, 237 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ставоцкім с/с, вёска, 95 двароў, 424 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 7 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 543 жыхары. У 1970 г. — 493 жыхары, у складзе саўгаса-тэхнікума. У канцы 20 ст. 119 двароў, 270 жыхароў, базавая школа, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай, шыротнай вуліцы, да якой з ПнЗ далучаецца другая прамалінейная, кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУДРЫЧЫ** — вёска ў Калавуравіцкім с/с, за 40 км на У ад Пінска, 120 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на р. Ясельда. Транспартныя сувязі па дарозе Кудрычы—Плошчава і паромнай пераправе праз р. Прыпяць на в. Качановічы. 19 гаспадарак, 29 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Хрысцібалоцкім войтаўстве Пінскага староства, належала Пінскаму францысканскаму манастыру. Мела 2 валокі 5 маргоў 22 пруты зямлі. У 1788 г., па іншых звестках у 1796 г., пабудавана Петра-Паўлаўская царква (не захавалася). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1850-я г. было 22 двары, 150 душ дзярж. сялян. У 1860-я г. вёска, дзярж. ўласнасць, у Асабовіцкай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 22 двары, 150 жыхароў. У 1880-я г. сяло, 16 двароў, 184 жыхароў, праваслаўная царква. У 1897 г. — 27 двароў, 245 жыхароў. На пач. 20 ст. 23 двары, 241 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 59 двароў, 371 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Кагановіцкім с/с, 78 двароў, 429 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў

ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 19 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 450 жыхароў. З 1973 г. ў Калавуравіцкім с/с. У 1970 г. — 326 жыхароў, цэнтр калгаса «Сцяг». У канцы 20 ст. 26 двароў, 44 жыхары. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу, размешчаная ўздоўж ракі.

**КУПЯЦІЧЫ** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, каля р. Ясельда, за 9 км на ПнУ ад Пінска, 184 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, каля аўтадарогі Пінск—Лунінец. 347 гаспадарак, 906 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 15 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім княстве, з 1470-х г. ў ліку маёнткаў пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай і сына кн. Васіля Сямёнавіча. У 1492 і 1495 гг. паводле іх дарчых грамат землі (дварышчы) і людзей у сяле атрымалі баяры Пачапоўскія, Любельскія, Федка Цішкавіч, якому наследавалі Васіль Фядзюшка і зяць яго Міхаіл Барзабагаты. У гэты ж час у сяле згадваецца праваслаўная Багародзіцкая царква, якая атрымала тут дварышча. З 1500 г. уласнасць кн. Ф.І.Яраславіча, ад якога наданні атрымалі Багародзіцкая царква: дварышча «лес лору», «ез на Ясолде», штогадовую грашовую даніну. У 1519 г. дварышча (Акунеўшчыну) атрымаў зямянін Рыгор Зенкавіч, за што быў павінен «с той земле на коне на добром служити». У 1515 г. 3 дварышчы атрымала пінская Фёдараўская праваслаўная царква. У 1524 г. гэтыя наданні пацвердзіў кароль Жыгімонт I Стары. З 1521 г. ў Пінскім старостве, у складзе маёнткаў каралевы Боны Сфорца. У 1522 г. 2 дварышчы ў сяле атрымалі баяры пінскія Пархвяновічы. У сярэдзіне 16 ст. сяло, цэнтр Купяціцкага войтаўства ў складзе гаспадарскага двара (маёнтка) Ставецкага, мела да 25 валок прыдатнай зямлі з зямянскімі і царкоўнымі наданнямі. У войтаўства ўваходзілі 7 сел, у якіх былі 34 валокі цяглыя і 54 чыншавыя. Значная іх частка належала праваслаўнай царкве, у т.л. Пінскі ўладыка епіскап Макарый меў 1 валоку 1 морг 6 прутоў; настаяцель Купяціцскай царквы Марцін Хведаровіч — 1 валоку 9 маргоў 15 прутоў. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць, цэнтр войтаўства. У 1568 г. прывілей ад караля на зямельную маёмасць тут атрымаў Рыгор Война. У 1-й пал. 17 ст. згадваецца Купяціцкі базыльянскі манастыр. У 1630 г. яму дадзены маёнтак Сошна (Ермакі). Манастыр неаднаразова цярпеў ад наездаў каралеўскіх войскаў, а у 1651 г. разрабавана яго залатое і сярэбранае начынне. У інвентары 1694 г. згадваецца каралеўскае сяло — 25 валок; маёнтак з сёламі: Гарадзішча, Вулька, Любель. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. сяло, цэнтр сельскай грамады, 45 двароў, 349 душ дзярж. сялян. Частка сяла адносілася да маёнтка Почапава, уласнасці Свяжынскага (28 душ). У 1867 г. пабудавана Мікалаеўская царква, працавала нар. вучылішча: 1 настаўнік, 46 хлопчыкаў, 6 дзяўчынак. У 1886 г. — 56 двароў, 533 жыхары, сяло ў Пінкавіцкай вол. У канцы 19 ст. 121 двор. 826 жыхароў, 2 царквы, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. сяло, 151 двор, 970 жыхароў; вёска — 24 двары, 245 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 50 двароў, 579 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Высакоўскім с/с, 218 двароў, 1061 жыхар; паравы млын. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія у сак. 1943 г. знішчылі 160 двароў, загубілі 41 жыхара. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., вёска ў Гарадзішчанскім с/с. У 1960 г. — 1131 жыхар. У 1972 г. — 1247 жыхароў, 350 гаспадарак, цэнтр калгаса «Дружба народаў», 8-гадовая школа, б-ка, Дом культуры, 2 магазіны. У канцы 20 ст. 333 двары, 878 жыхароў. Планіровачна скла-



даецца з 3 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Грамадскі цэнтр на ПнУ вёскі.

**КУРАДАВА** — вёска ў Лемяшэвіцкім с/с, за 25 км на У ад Пінска, 200 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на левым беразе р. Прыпяць. Транспартныя сувязі праз паромную пераправу на р. Прыпяць і па аўтадарозе Лемяшэвічы—Плотніца, прасёлачнай дарогай звязана з вёскамі Плошчава, Кудрычы. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2005).

У канцы 15 ст. ў складзе маёнткаў пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай. Упамінаецца ў яе дарчай грамаце баярыну Данілу Русановічу ў 1495 г. Пасля 1566 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У попісе войска 1567 г. згадваецца маёнтак у сяле Солтана Курадаўскага, які выстаўляў у войска 1 каня. У 1704 г. згадваецца як маёнтак у запісе фундуша Пінскаму францысканскаму манастыру. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З сярэдзіны 19 ст. уласнасць Ордаў. У 1860-я г. вёска і маёнтак у Плошчаўскай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Ордаў — 6 душ былой шляхты, 1 аднадворац. У 1897 г. вёска, 23 двары, 121 жыхар; ваколіца — 8 двароў, 67 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 19 двароў, 136 жыхароў; ваколіца — 10 двароў, 103 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёскі Курадава-1 і Курадава-2 у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў в. Курадава-1 было 30 двароў, 203 жыхары; Курадава-2 — 13 двароў, 69 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лемяшэвіцкім с/с в. Курадова-1, 54 двары, 276 жыхароў; в. Курадава-2 у Качановіцкім с/с, 16 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Вышынскага, 423 гаспадаркі. У 1960 г. ў Лемяшэвіцкім с/с вёскі Курадава-1, 332 жыхары; Курадава-2, 119 жыхароў. У 1970 г. в. Курадава, 283 жыхары. У канцы 20 ст. 21 двор, 33 жыхары. Помнікі археалогіі — паселішчы 7—4-га тысячагоддзяў да н.э. і ранняга сярэднявечча. Планіровачна складаецца з кароткай паўвыгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.



*Спаса-Праабражэнская царква ў г.п. Лагішын.*

**ЛАГІШЫН** — гар. пасёлак, цэнтр пас. Савета і СВК «Лагішын», за 28 км на ПнЗ ад раённага цэнтра і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 175 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Івацэвічы. 2610 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. ўрочышча с. Каўняцін, у складзе гаспадарскага двара Стытычава ў Купяціцкім войтаўстве. Упамінаецца ў 1552 г. У 17 ст. мястэчка, цэнтр староства, уласнасць Радзівілаў, потым Агінскіх, Друцкіх-Любецкіх. У 1634 г. пабудаваны касцёл. У 1643 г. кароль Уладзіслаў IV даў мястэчку магдэбургскае права, заснаваў ратушу, зацвердзіў


*Петрапаўлаўскі касцёл у г.п.Лагішын.*

герб: у блакітным полі воўк на ласіных нагах (да 1776 г.). У 1670 г. ў мястэчку абаснавалася місія езуітаў, быў заснаваны шпіталь. З 1795 г. ў складзе Расіі, за падтрымку каталіцкім клірам антырасійскага паўстання 1863—64 гг. касцёл быў зачынены. У 1771 г. пабудавана Прачысценская царква (у 1842 г. згарэла). На пач. 1860-х г. казённае мястэчка, 358 двароў, 11 530 жыхароў, сінагога, малітоўны дом, адбываліся 3 штогадовыя кірмашы з абаротам 2—3 тыс. руб. У 1880-я г. цэнтр воласці Пінскага пав. Мінскай губ., 400 двароў, 2800 жыхароў, 5 млыноў, маслабойня, гарбарны з-д, каменныя гандлёвыя рады, 10 крам. У 1897 г. 467 двароў, 3105 жыхароў, Спаса-Праабражэнская царква (з 1892), мужчынская і жаночая прыходскія школы, сінагога, 2 малітоўныя дамы, прыемны пакой, паштова-тэлеграфнае аддз., паштовая станцыя, нар. вучылішча, 20 крам, 5 піцейных дамоў. У 1907—10 гг. на месцы былога касцёла (згарэў у 1897 г.) пабудаваны касцёл Пятра і Паўла. У 1-ю сусветную вайну ў раёне мястэчка адбываліся крывапралітныя баі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, цэнтр гміны Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. — 930 двароў, 5633 жыхары, касцёл, царква, паштовае агенцтва, гар. сад. Дзейнічала падп. арг-цыя КПЗБ. З 1939 г. у складзе БССР. З 15.1.1940 г. да 25.12.1962 гг. цэнтр Лагішынскага р-на Пінскай вобл. З 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета, з 1959 г. цэнтр гар. пас. Савета. У 1940 г. ў вёсцы Лагішын 500 двароў, 3500 жыхароў, млын, 2 цагляныя з-ды, пач. школа, нар. дом, бальніца (25 ложкаў), медпункт, ветлячэбніца, аптэка, паштова-тэлеграфнае аддз. У раёне 54 вёскі, 1527 хутароў, усяго 4760 двароў, 35256 жыхароў, з іх 2821 яурэяў, 1058 украінцаў, 1057 палякаў; працавалі 49 школ, 2 смолзаводы, 2 вапнавых, 3 цагляныя, 3 лесапільныя з-ды. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 15.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічаў падп. райком КП(б)Б (1943—44). Ад рук акупантаў у Лагішыне і раёне загінулі каля 2 тыс. чалавек. Да 1950 г. работа прадпрыемстваў адноўлена, працаваў калгас «Беларусь», у якім аб'ядналіся 234 гаспадаркі, 552 члены. З 8.1. 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 22.12.1959 г. гар. пасёлак. У 1959 г. 2319 жыхароў, у 1970 г. — 2617 жыхароў. У 2003 г. 1065 двароў, 2859 жыхароў, механічны з-д, птушкафабры-


*Жылы дом у г.п. Лагішын.*


*Пратэстанцкі малітоўны дом у г.п. Лагішын.*



ка, гандл. прадпрыемства «Бурштын», бальніца, аптэка, Дом міласэрнасці, сярэдняя школа, 2 дзіцячыя сады, муз. школа, вучэбна-курсавы к-т, Дом культуры, мастацкія майстэрні, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Помнікі: Спаса-Праабражэнская царква, Петрапаўлаўскі касцёл, Аляксандра-Неўская капліца (сярэдзіна 19 ст.), капліца на могілках (1904); воінскія пахаванні 1919—20 гг., брацкая магіла сав. воінаў і партызан, месцы пахаванняў ахвяр фашызму. У 1995 г. адчынены гіст.-краязнаўчы музей. Планіровачная структура гарадскога пасёлка характарызуецца прамавугольнай сістэмай вуліц і развіваецца ў паўднёвым накірунку. Пасёлак падзяляецца на 4 жылыя раёны з квартальнай сістэмай планіроўкі. Ансамбль цэнтра ўключае кінатэатр, Дом культуры, Петрапаўлаўскі касцёл і Троіцкую царкву. На вул. Ленінскай сярод мураванай двухпаярховых жылых дамоў размешчаны магазіны, гасцініца, універмаг, кафе, камбінат бытавога абслугоўвання. Планіровачна складаецца з двух, падзеленых аўтадарогай частак: усходняй (чатыры амаль прамалінейныя вуліцы шыротнай арыентацыі, злучаныя мерыдыянальнай вуліцай і завулкамі) і заходняй (тры мерыдыянальныя вуліцы, злучаныя завулкамі). Забудова мураваная і драўляная, шчыльна пастаўленая. Радзіма гісторыка, паэта, асветніка А.Т.С.Нарушэвіча.

**ЛАДАРАЖ** — вёска ў Ласіцкім с/с, каля р. Стыр, за 44 км на Пд ад Пінска, 219 км ад Брэста, 48 км ад чыг. ст. Пінск, траспартныя сувязі па аўтадарозе в. Парэ — в. Фядоры і далей па шашы Пінск—Столін. 147 гаспадарак, 270 жыхароў (2005).

Вядома з часоў Казіміра Ягайлавіча (1427—92). У пач. 16 ст. ў складзе маёнткаў пінскага кн. Ф.І.Яраславіча. З 18 ст. ўласнасць Зямецкіх, Рыхтарскіх, Нелюбовічаў. Жыхары займаліся рыбным промыслам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Хоінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1858 г. 13 двароў, 154 душы дзярж. сялян. У 1897 г. 43 двары, 344 жыхары, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 46 двароў, 346 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Вічоўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 87 двароў, 486 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Востраўскім с/с, 150 двароў, 730 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях з ворагам загінулі 14 землякоў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Ласіцкім с/с. Працаваў калгас (582 гаспадаркі, 1379 жыхароў), абслугоўваўся Пінскай МТС. У 1960 г. — 834 жыхары. У 1972 г. 212 двароў, 696 жыхароў, цэнтр калгаса «Ударнік», сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. 162 двары, 298 жыхароў. Базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (1968).

**ЛАЗІЧЫ** — вёска ў Барычавіцкім с/с, за 33 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 213 км ад Брэста, транспартныя сувязі па аўтадарозе Лазічы—Калбы і далей на дарозе Фядоры—Пінск. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2005).

У 1556 г. згадваюцца пры апісанні межаў маёнтка Качановічы. Даўняя вотчына баяр Лозіцкіх. У попісе войска 1567 г. згадваюцца Федко Андрэевіч (1 конь), Сава Максімавіч («з дыму кляча»), якія мелі ў сяле свае выслугі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска ў Біжарэвіцкай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол., 3 былыя шляхціцы. У 1897 г. ваколіца — 27 двароў, 188 жыхароў, ветраны млын. У пач. 20 ст. — 20 двароў, 136 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 35 двароў, 174

жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с, 38 двароў, 207 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Біжаравіцкім с/с, 186 жыхароў. У 1970 г. — 146 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда». У канцы 20 ст. 21 двор, 27 жыхароў. Забудова бессістэмная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛАПАЦІНА** — вёска, цэнтр Лапацінскага с/с і СВК «Лапаціна», на левым беразе р. Стыр, за 24 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 194 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Столін. 150 гаспадарак, 412 жыхароў (2005).

Вядома з часоў Казіміра (1440—92) і Жыгімонта І Старога (1507—48). Паводле іх прывілеяў зямянін Мікалай Лях Сырапят атрымаў «в селе Лопатине две дворища». Пазней «отчизна и дедецство» войскага пінскага Марціна Шырмы (1558). У 1-й чвэрці 16 ст. паводле прывілея кн. Ф.І.Яраславіча, дварышча ў Лапаціне мелі баяры Бакушы, Палхоўскі, Патрыкіевіч, Грыневічы, Калбовічы і інш. У 1526 г. правы іх пацвердзіла Бона Сфорца, з умовай «службу земскую одним конем служивати...». Паводле рэвізіі Л.Войны (1561—66) у сяле 5 дварышчаў, з якіх 4 належалі гаспадарскім сялянам і 1 святару царквы св. Пятніцы. Усёй зямлі было 5 валок 8 $^1/_2$ пруты (былых чыншавых). Царкве належалі 18 маргоў 22 пруты. У 1564 г. паводле прывілея караля Жыгімонта ІІ Аўгуста 4 дварышчы «со всеми от них доходами и повинностями» перайшлі да войскага пінскага Шырмы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ., сяло, уласнасць К.Бутрымовіча, 25 двароў, 141 жыхароў, 310 дзес. зямлі, суконная ф-ка. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лемяшэвіцкай вол., у складзе маёнтка Крысцінова, уласнасць Бутрымовіча, 10 двароў, 133 душы сялян. У 1880-я г. сяло, 25 двароў, 290 жыхароў, Параскевіцкая царква (з 1775 г.). У 1897 г. ў сяле 57 двароў, 495 жыхароў, нар. вучылішча; сядзіба — 5 жыхароў. На пач. 20 ст. 54 двары, 422 жыхары; у маёнтку — 7 жыхароў. У 1921 —39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 86 двароў, 495 жыхароў. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 121 двор, 593 жыхары. У сельсавеце 456 двароў, 2350 жыхароў, сярэдняя школа, 5 пач. школ, сяльпо, развіты рыбны промысел. У 1940 г. было 140 двароў, 489 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. знішчылі 125 двароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 540 жыхароў. У 1972 г. 101 двор, 360 жыхароў, цэнтр калгаса «Шлях Леніна»; 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, сталовая, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. 147 двароў, 432 жыхары, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, музей А.Блока, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Помнікі: стаянка 3—2-га тысячагоддзяў г. да н.э.; брацкая магіла сав. воінаў і помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну, мемарыяльная дошка А.Блоку, які жыў ў вёсцы ў 1916 г. ў час службы ў рус. арміі. У сельсавеце сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 4 крамы, комплексны прыёмны пункт, 3 лазні, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пд далучаюцца дзве кароценькія вуліцы. Забудова двухбаковая, нешчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛАСІЦК** — вёска, цэнтр Ласіцкага с/с і СВК «Ласіцк», на правым беразе р. Стыр, за 37 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 192 км ад Брэста, на аўтадарозе Фядоры—Парэ. 254 гаспадаркі, 673 жыхары (2005).

Стаянка 5—4-га тысячагоддзяў да н.э. (1 км на Пн ад вёскі) і пасяленне эпохі



неаліту і ранняга жалезнага веку (2 км на З ад вёскі) сведчаць аб дзейнасці чалавека ў гэтых месцах у глыбокай старажытнасці. У 15—16 ст. сяленне ў Пінскім пав. Трокскага, з 1566 г. Берсцейскага ваяводстваў ВКЛ. Вядома з 15 ст., згадваецца ў прывілеях Жыгімонта I Старога і Казіміра на даннікаў і землі зямяніну Мікалаю Ляху Сырапяту, у т.л. «у селе Ласицку дворище Халимоновское». У 1558 г. гэтыя наданні пацвердзіў сваёй граматай Жыгімонт II Аўгуст нашчадку Сырапяты Марціну Шырму, войскаму пінскаму. У сярэдзіне 16 ст. згадваюцца 2 дварышчы «в Лашыцку» баярына Сямёна Вяляціцкага, якія ў 1551 г. былі прададзены баярыну Івану Рыгоравічу. Паводле рэвізіі Л.Войны ў сяле 10 дварышчаў, з якіх заселены 6 дварышчаў, у т.л. Харашкоўшчына (урочнае), Юркаўшчына (чыншавае). У заселеных дварышчах 9 валок 17 маргоў 6 прутоў зямлі, з якіх плата 10 коп 59 грошаў. Апроч чыншу з 4 дварышчаў давалі дзякла — 7 бочак аўса і інш. Землі трымалі пінская зямянка Шырміна, Фёдар і Пётр Перавалкі, Іван Літвіновіч, Ясяневічы і інш. Пазней уласнасць пінскага жаночага манастыра базыльянак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1858 г. дзярж. вёска ў Маразовіцкай сельскай грамадзе, 19 двароў, 142 жыхары. У 1860-я г. — цэнтр сельскай грамады Радчыцкай вол., маёнтак, уласнасць Загорскіх, Блашчынскіх і Свяжынскіх, 169 душ сялян-уласнікаў. На пач. 1880-х г. было 167 жыхароў, 9 $^1/_2$ валок ворнай зямлі. У 1897 г. вёска — 46 двароў, 551 жыхар, хлебазапасны магазін, піцейны дом; сядзіба — 5 двароў, 30 жыхароў, вадзяны млын, піцейны дом. На пач. 20 ст. ў вёсцы 125 двароў, 778 жыхароў, нар. вучылішча; маёнтак Блашчынскага — 2 жыхары і маёнтак Загорскага — 4 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Вічоўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 155 двароў, 919 жыхароў, царква. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 310 двароў, 1500 жыхароў. У сельсавеце 692 двары, 3245 жыхароў, млын, ветпункт, медпункт, сяльпо; развіта жывёлагадоўля, лясны промысел. У 1940 г. 270 двароў, 1200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. знішчылі 92 двары, 31 жыхара. У ліп. 1944 г. вызвалены войскамі 212-й стралк. дывізіі 61-й арміі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Працаваў калгас імя Кірава (622 гаспадаркі, 1194 жыхары). У 1960 г. — 1343 жыхары. У 1972 г. — 367 гаспадарак, 1209 жыхароў, цэнтр калгаса «Маяк»; лясніцтва, сярэдняя школа, швейная і шавецкая майстэрні, бальніца, аптэка, сталовая, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. 291 двор, 712 жыхароў. У сельсавеце сярэдняя і базавая школы, дзіцячы сад, 2 клубныя установы, 2 Дамы нар. творчасці, бібліятэка, участковая бальніца, 3 фельч.-акушэрскія пункты, аптэка, 8 крам, комплексны прыёмны пункт, 17 лазняў, 2 аддз. сувязі, 2 аддз. «Беларусбанка» (2004). Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партыз. руху на Палессі ў гады грамадзянскай вайны М.С.Кавалевіча (яго імем названа вуліца ў вёсцы).

**ЛЕМЯШЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр Лемяшэвіцкага с/с і СВК «Лемяшэвічы», на правым беразе р. Прыпяць, за 19 км на У ад Пінска, 194 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Плешчыцы—Плотніца. 152 гаспадаркі, 410 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве. У час княжання Ф.І.Яраславіча (1501—20) дварышча ў Лемяшэвічах атрымаў баярын Орда. У 1528 г. каралева Бона Сфорца пацвердзіла «выслуги предков своих» баярыну, служэбніку кашталяна і старосты Кракаўскага, канцлера Крыштафа Шыдлавецкага Сямёну Юхнавічу Ордзічу. У 1546 г. пацвердзіла наданне «на землю пустовскую» (Гольчычы) «в селе Лемешевичах» зямянам Лукашу і

Івану Лемешам. У рэвізіі Л.Войны (1561—66) згадваецца дварышча Лемяшэвічы — уласнасць Багдана і Івана Лемяшэвічаў, у якім 1 валока 15 маргоў 2 пруты зямлі з платай у 1 капу 21 грош. У 1681 г. пабудавана царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1840-х г. сяло з маёнткам Платніцкіх, 3 двары, 11 жыхароў, 36 дзес. зямлі. У 1860-х г. сяло ў Болгарскай сельскай грамадзе, цэнтр воласці, маёнтак Платніцкага, 73 рэвізскія душы. На пач. 1880-х г. фальварак і сяло, школа з рамесным класам, крама. У 1894 г. пабудавана Багародзіцкая царква. У 1897 г. былі: сяло — 4 двары, 50 жыхароў, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа; ваколіца — 70 двароў, 433 жыхары, царква, часоўня, 2 млыны, 5 ваўначосак, 2 кузні, піцейны дом, 3 крамы, лазня. На пач. 20 ст. ваколіца — 40 двароў, 369 жыхароў; сяло — 8 двароў, 56 жыхароў. У 1913 г. — урачэбны пункт, паштовая станцыя, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны ў Пінскім пав. У 1921 г. вёска, 81 двор, 438 жыхароў, паштовае агенцтва, царква; асада — 4 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 110 двароў, 603 жыхары. У сельсавеце 583 двары, 2870 жыхароў, млын, ветпункт, фельч.-акушэрскі пункт, сельпо, аддз. сувязі (Лемяшэвічы), няпоўная сярэдняя і 5 пач. школ. Развіты жывёлагадоўля, рыбны промысел. У Вял. Айч. вайну ў чэрв. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалены войскамі 415-й стралк. дывізіі 61-й арміі. У ліп. 1944 г. фашысты знішчылі 9 двароў, 13 жыхароў. Не вярнуліся з фронту 14 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Працаваў калгас «Зара камунізму», 451 гаспадарка, 941 жыхар. У 1960 г. — 442 жыхары. У 1972 г. — 110 двароў, 345 жыхароў, цэнтр калгаса «Прыпяць», сярэдняя школа, швейная майстэрня, бальніца, аптэка, ветучастак, аддз. сувязі, сталовая. У канцы 20 ст. 161 двор, 468 жыхароў, сярэдняя школа, Дом культуры, участковая бальніца, аптэка, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Помнікі археалогіі і стаянка 5—3-га тысячагоддзяў да н.э.; паселішча 6—4-га тысячагоддзяў да н.э., курганны могільнік 7—3 ст. да н.э. Царква Раства Багародзіцы (19 ст.); скульптура Хрыста-Збавіцеля (устаноўлена ў 1943 г.). Брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У сельсавеце 1 сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, участковая бальніца, аптэка, 2 крамы, 4 лазні, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ (уздоўж ракі), ад цэнтра якой веерам разыходзяцца кароценькія вуліцы на У, Пд і З. Будынкі пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЛІПНІКІ** — вёска ў Бобрыкаўскім с/с, у СВК «Пласкінь», за 64 км на Пн ад Пінска, 239 км ад Брэста, 56 км ад чыг. ст. Малькавічы на чыг. участку Ганцавічы—Лунінец, на аўтадарозе Ліпнікі—Пласкінь. 122 гаспадаркі, 258 жыхароў (2005).

У 17 ст. ўпамінаюцца як уласнасць Марыі Лукрэцыі Капец з роду маркграфаў Строзі, якая падаравала паселішча Пінскаму дамініканскаму манастыру. На пач. 18 ст. згадваецца ў складзе маёнтка Дабраслаўка Друцкага-Любецкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 ст. ўласнасць Скірмунтаў. У 1860-я г. вёска ў складзе Пучынскай сельскай грамады Дабраслаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., адносілася да маёнтка Пласкінь Скірмунтаў, 23 душы. У 1897 г. вёска, 21 двор, 165 жыхароў, школа граматы; хутар — 6 жыхароў. У 1909 г. 27 двароў, 155 жыхароў. У 1921—39 вёска гг. у складзе Польшчы, у Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. 45 двароў. 261 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Даб-



раслаўскім с/с, 94 двары, 664 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. знішчылі 31 двор, 7 жыхароў. У раёне вёскі з кастр. 1943 г. да чэрв. 1944 г. базіраваўся партыз. атрад «Храбрацы». З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. вёска ў Бобрыкаўскім с/с, 448 жыхароў. У 1970 г. — 590 жыхароў. У канцы 20 ст. 136 двароў, 298 жыхароў, базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, крама, мемарыяльная дошка ў гонар партыз. атрада «Храбрацы». Планіровачна складаецца з 2 падзеленых прасёлачнай дарогай частак: паўднёвай (да кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы з Пн далучаюцца 2 кароценькія вуліцы, злучаныя на Пн завулкам) і паўночнай (2 прамалінейныя мерыдыянальныя вуліцы). Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЛІСЯЦІЧЫ** — вёска ў Мерчыцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Пінска, 203 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Гомель, каля шашы Пінск—Моталь. 21 гаспадарка, 40 жыхароў (2005).

Згадваюцца ў 1556 г. з нагоды продажу часткі Крыўчыцкага маёнтка зямянінам гаспадарскім І.В.Булгакам суддзі Пінскага пав. І.В.Пратасовічу, у т.л. «...у Лисятичох дворищо одно...». Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. Да 19 ст. ўласнасць Крывецкіх, затым Пуслоўскіх. У 1880-я г. было 14 двароў, 148 жыхароў, вёска ў Ставоцкай вол. У 1897 г. вёска — 17 двароў, 141 жыхар; фальварак — 7 жыхароў. У 1909 г. ваколіца, 32 двары, 221 жыхар; фальварак — 2 двары, 21 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Ставецкай, з 1928 г. ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 30 двароў, 175 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Масевіцкім с/с, 35 двароў, 175 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. знішчылі 34 двары. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. — 187 жыхароў, у 1970 — 133 жыхары, у складзе саўгаса «Палескі». У канцы 20 ст. 25 двароў, 39 жыхароў. Помнік спаленай вёсцы. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай, шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛОСІЧЫ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Пінска, 187 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на прасёлачнай дарозе в. Лосічы — в. Кнубава. 165 гаспадарак, 466 жыхароў (2005).

Вядома з часоў Казіміра Ягайлавіча (1427—92). Згадваюцца ў прывілеі Жыгімонта І Старога (1467—1548) зямяніну Мікалаю Сырапяту на 2 дварышчы «в селе Лосичах». У 1524 г. «отчизну и дедецство» каралева Бона Сфорца пацвердзіла нашчадку Сырапяты, войскаму пінскаму Марціну Шырму. Выслугу ў сяле мелі і зямяне Вяляціцкія. У 1560-я г. гаспадарскае сяло з зямянскімі землямі. Паводле рэвізіі Л.Войны ў сяле 4 дварышчы: Юрыновічы («дворище на полазницкой слузбе»), Кулікоўшчана, Севасцьянавічы, Місевічы. Усяго зямлі 6 валок 3 маргі, за якія плацяць 7 коп 38 грошаў. У 1567 г. згадваецца зямянін Раман Цянюка, які «зименья женнаго з Лосич» ставіў у войска каня. У 17—18 ст. землі ў сяле мелі пінскія дамініканцы. У 1775 г. вёска перайшла Адаму Скірмунту. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1840-я г. 3 двары тут належалі Ганне Сурэвічавай. У 1858 г., паводле рэвізіі, у вёсцы 14 двароў, 127 дзярж. сялян і 6 двароў, 52 жыхары аселых аднадворцаў. У 1860-я г. дзярж. вёска ў Кнубаўскай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол., 62 рэвізскія душы; 35 душ адносіліся да маёнтка Вяляцічы Скірмунта. У канцы 19 ст. вёска — 70 двароў, 466 жыхароў; ваколіца — 16 двароў, 90 жыхароў, капліца. На пач. 20 ст. — 77 двароў, 622 жыхары. У 1921—39 гг. у

складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 108 двароў, 718 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Вяляціцкім с/с, 200 двароў, 912 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 – ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. знішчылі 186 двароў, загубілі 5 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Працаваў калгас імя Чарнышэўскага, у якім 211 гаспадарак, 461 жыхары. З 1958 г. ў Плешчыцкім с/с. У 1960 г. ў Лапацінскім с/с, 903 жыхары. У 1970 г. – 350 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У канцы 20 ст. 186 двароў, 497 жыхароў. Планіровачна складаецца з крываліне́йных вуліц мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі, забудаваных рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.



*Будынак пошты ў в. Лышча.*

**ЛЫШЧА** – вёска, цэнтр сельсавета і СВК «Лышча», на р. Вісліца, за 40 км на Пн ад Пінска, 215 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Пінск–Лунінец, на аўтадарозе г.п. Лагішын – г.п. Ганцавічы. 223 гаспадаркі, 494 жыхары (2005).



*Царква ў в. Лышча.*

Упамінаецца ў 1817 г. ў сувязі з перадачай паселішча Лаўрышынскаму манастыру св. Васіля. Пазней уласнасць Любанскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лагішынскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Частка двароў адносілася да маёнтка Эльяшова памешчыцы Скірмунтавай (105 душ), другая – да маёнтка Паўлінава Чахоўскай (34 душы). Была паштовая станцыя (4 экіпажы, 9 коней). У канцы 19 ст. 91 двор, 534 жыхары, царква, хлебазапасны магазін, карчма, паштовая станцыя. На пач. 20 ст. 107 двароў, 657 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921–39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 97 двароў, 604 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Забароўскім с/с, 151 двор, 824 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 – ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе з ворагам загінулі 40 аднавяскоўцаў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Кірава, у якім аб'ядналіся 622 гаспадаркі, 1863 жыхары. У 1960 г. вёска, цэнтр сельсавета, 927 жыхароў. У 1972 г. – 252 гаспадаркі, 960 жыхароў, сярэдняя школа, швейная майстэрня, фельч.-акушэрскі пункт, ветучастак, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. 242 двары, 529 жыхароў. У сельсавеце сярэдняя і базавая школы, дзіцячы сад, Дом культуры, клуб, Дом нар. творчасці, муз. школа, 3



б-кі, 3 фельч.-акушэрскія пункты, 4 крамы, 2 комплексныя прыёмныя пункты, 43 лазні, 2 аддз. сувязі, аддз. «Беларусбанка». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЛЮБЕЛЬ** — вёска ў Аснежыцкім с/с, каля р. Ясельда, за 11 км на ПнУ ад Пінска, 196 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель. 83 гаспадаркі, 213 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 15 ст. сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў княгіні Мар'і Сямёнавай. Упамінаецца ў 1495 г. ў яе дарчай грамаце слузе свайму баярыну Цімафею Любельскаму на дварышча і чалавека. У гэты ж час «выслугу» ад яе атрымаў тут Война Грычына. У 1506—09 гг. супольнае ўладанне Любельскіх і Грычынаў. У 1509 г. «пашни дворную» у сяле атрымаў ад пінскага кн. Ф.І.Яраславіча баярын Алізар Іванавіч Любельскі. Фундушовыя наданні ў сяле да сярэдзіны 16 ст. мелі пінскія цэрквы, у т.л. архімандрыт Ляшчанскага манастыра Ануфрый Паўловіч «Любельское дворище». З 1650 г. ўласнасць Дзежкаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе Купяціцкай сельскай грамады Пінкавіцкай вол., 25 двароў, 194 жыхары (дзярж. сяляне). У 1897 г. 48 двароў, 267 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 56 двароў, 379 жыхароў; нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 28 двароў, 327 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Пасеніцкім с/с, 94 двары, 476 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія расстралялі 18 вяскоўцаў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1957 г. ў Аснежыцкім с/с. У 1960 г. 476 жыхароў. У 1970 г. — 367 жыхароў, у складзе калгаса «Аснежыцкі». У канцы 20 ст. 96 двароў, 228 жыхароў. Малое прадпрыемства «Гарант». Помнік ахвярам фашызму. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма лаўрэата Дзярж. прэміі БССР І.І.Жылевіча.

**ЛЮБЯЛЬ-ПОЛЬ** — вёска ў Аснежыцкім с/с, за 18 км на Пн ад горада і чыг. ст. Пінск, на лініі Брэст—Гомель, 214 км ад Брэста, на левым беразе р. Ясельда, каля шашы Брэст—Гомель. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

З сярэдзіны 17 ст. згадваецца як уласнасць Дзежкаў, потым Гарадзішчанскага манастыра бенедыкцінцаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1865 г. землі манастыра канфіскаваны дзяржавай і раскуплены шляхецкімі сялянамі Калавураў і Гаваглядаў. У 1897 г. ў маёнтку 7 двароў, 84 жыхары. На пач. 20 ст. ў Пінкавіцкай вол., фальварак, 19 двароў, 138 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 16 двароў, 120 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 5.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Гарадзішчанскім с/с, 26 двароў, 164 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. знішчылі вёску разам з жыхарамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Аснежыцкім с/с. У 1960 г. — 113 жыхароў. У 1970 г. — 75 жыхароў, у складзе калгаса «Аснежыцкі». У канцы 20 ст. 12 двароў, 15 жыхароў. Магіла ахвяр фашызму. Радзіма рэвалюцыянера-народніка А.С.Барэйшы. Забудова бессістэмная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛАДЗЕЛЬЧЫЦЫ** — вёска ў Парахонскім с/с, за 30 км на У ад Пінска, 210 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Гомель. Транспартныя сувязі па дарозе Маладзельчыцы—Вылазы. 94 гаспадаркі, 170 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім княстве, з 1521 г. ў складзе маёнткаў

каралевы Боны Сфорца ў Пінскім старостве. Два дварышчы ў сяле мелі Сямён і Яцко Пратасовічы, баяры пінскія. У 1530 г. Яцко Пратасовіч прадаў частку дварышча («Савчынского») Станьку Пратасовічу, «войту места Пинского, за пятнадцать коп грошей». У тым жа годзе Сямён Пратасовіч прадаў «землю свою отчызную у молодильчичох дворыще, на имя Балуковское...» Станьку Пугачэвічу, «войту места Пинского, за двадцать коп грошей...». У 1540 г. «мещанин места Пинского Марцін Станькавіч Пугачэвіч прадаў частку маёнтка «Городецкому враднику» Васілю Пілецкаму. У 1546 г. Сямён і Іван Пратасовічы прадалі таму ж Пілецкаму яшчэ паўдварышча «на имя Андрусовского...». У 1550-я г. згадваецца маёмасць Ганны Жданаўны — «...в селе Молодильчичех полдворища». У сярэдзіне 16 ст. сяло, дзярж. ўласнасць, з 1560-я г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле рэвізіі Л.Войны, складалася з 3 дварышчаў: Гутковічы, Шчуровічы, Талкавічы, на якіх сядзелі гаспадарскія сяляне і плацілі за валокі чынш. У 1-м дварышчы было 1 валока, 1 морг 15 прутоў, плата — 1 капа 37 грошаў; у 2-м — 21 морг 3 пруты, плата — 1 капа 28 грошаў 4 пенязі; у 3-м былі 1 валока 15 моргаў 7 прутоў, плацілі 3 капы 16 грошаў 4 пенязі. Павіннасцю гэтых сялян былі бабровыя ловы на карысць пінскага замка (баброўнікі). З 1775 г. ўласнасць Адама Скірмунта. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 91 чал. дзярж. сялян, 15 аднадворцаў, 6 чал. былой шляхты. У 1897 г. — 31 двор, 227 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 37 двароў, 288 жыхароў; ваколіца — 16 двароў, 92 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 82 двары, 507 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с, 100 двароў, 595 жыхароў. У 1940 г. — 117 двароў, 498 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія у ліст. 1943 г. знішчылі102 двары, загубілі 12 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. — 709 жыхароў. У 1970 г. — 612 жыхароў, у складзе калгаса «Сцяг». У канцы 20 ст. 103 двары, 197 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, на тэр. біялагічнага заказніка «Нізоўе Ясельды».

**МАЛАЯ ВУЛЬКА** — вёска ў Хойнаўнскім с/с, за 19 км на Пд ад Пінска, 195 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Жыдча—Стытычава. 63 гаспадаркі, 158 жыхароў (2005).

У 1840-я г. вёска ў складзе маёнтка Хойна, уласнасць Івана Жабы, 14 двароў. У 1860-х г. у складзе таго ж маёнтка, уласнасць Ордаў, 47 душ сялян, вёска ў Хойнаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1897 г. — 31 двор, 241 жыхар, ветраны млын. На пач. 20 ст. 39 двароў, 251 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 32 двары, 201 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Хойнаўскім с/с, 76 двароў, 316 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. — 326 жыхароў. У 1970 г. — 268 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова. У канцы 20 ст. — 71 двор, 168 жыхароў. Магазін. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, паралельных паміж сабой вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі і злучаных 3 кароценькімі вуліцамі. Забудова пераважна двухбаковая, шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ ПЛОТНІЦА** — вёска ў Бобрыкаўскім с/с і СВК «Бобрык», за 65 км на ПнУ ад Пінска, 245 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Малькавічы на чыг. участку







*Царква (злева) і капліца ў в. Малоткавічы.*

Ганцавічы—Лунінец, на аўтадарозе Бобрык—Малая Плотніца. 106 гаспадарак, 243 жыхары (2005).

Даўняя вотчына роду Завадскіх. У 1860-я г. сяло і маёнтак, цэнтр сельскай грамады ў Дабраслаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Завадскіх, 66 душ сялян. У сяле 19 двароў, 183 жыхары. З 1853 г. існавала царква Раства Багародзіцы. У 1897 г. сяло — 43 двары, 348 жыхароў, царква, лесапільны з-д, піцейны дом, хлебазапасны магазін; сядзіба маёнтка — 22 двары, 129 жыхароў. У в. Задуб'е, якая была ў складзе маёнтка — 9 двароў, 95 жыхароў, тракцір. З 1842 г. ў маёнтку дзейнічаў шклозавод, на якім выраблялі ліставое шкло, бутэлькі і інш. посуд. У 1866 г. працавала 16 чал., выпушчана прадукцыі на 4,4 тыс. руб. У 1879 г. працавала 16 чал., выпушчана 90 скрынак ліставога шкла, 100 тыс. бутэлек, інш. посуду на 2700 руб. У 1898 г. працавала 80 чал. На пач. 20 ст. 22 двары, 67 жыхароў, нар. вучылішча, 2 рамесныя школы, царква. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і калонія ў Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 102 двары, 657 жыхароў, царква. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. сяло ў Бобрыкаўскім с/с, 153 двары, 668 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі 131 двор, загубілі 11 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Працаваў калгас «70 год Сталіна», 185 гаспадарак, 423 жыхары. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 786 жыхароў. У 1970 г. — 789 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева. У канцы 20 ст. 137 двароў, 291 жыхар. У 2005 г. базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», клуб, б-ка, крама, лясніцтва.

**МАЛОТКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Малоткавіцкага с/с, чыг. станцыя на лініі Пінск—Брэст, за 12 км на З ад Пінска, 165 км ад Брэста. 684 гаспадаркі, 200 жыхароў (2005).

У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве, уласнасць княгіні Мар'і Сямёнавай. Упамінаецца ў 1495 г. ў яе дарчай грамаце Фёдару (Федку) Цішкавічу, баярыну, на 2 дварышчы ў сяле Міалоткавічы (Мотковічі, Мутковічі). У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Купяціцкім войтаўстве Пінскага староства, гаспадарская ўласнасць з «имениями земянскими». З 2-й пал 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, уласнасць Шчэпаў, потым Валадковічаў. Паводле інвентара 1622 г. сяло ў складзе маёнтка Жабчыцы, 9 валок, з кожнай плацілі чынш па 30 грошаў і дзякла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ., у складзе маёнтка Жабчыцы, уласнасць Красіцкіх. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Жаб-


*Жылы дом у в. Малоткавічы.*

чыцкай вол., адносілася да маёнтка Жабчыцы, уласнасць Красіцкага, 120 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска, 66 двароў, 410 жыхароў, капліца; сядзіба Красіцкага — 2 двары, 9 жыхароў. У 1880-я г. было 27 двароў, 112 жыхароў. На пач. 20 ст. — 84 двары, 517 жыхароў; чыг. платформа — 3 двары, 18 жыхароў; нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска з Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 35 двароў, 340 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Жабчыцкім с/с, 154 двары, 606 жыхароў; калгас імя Молатава. У Вял. Айч. вайну 22.6.1941 г. пры бамбёжцы згарэла палова вёскі, у ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Працаваў калгас імя Молатава, цэнтр сельсавета, 482 гаспадаркі, 1271 жыхар. У 1955—57 гг. цэнтр Жабчыцкага р-на. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. — 1366 жыхароў. У 1972 г. вёска, цэнтр сельсавета і саўгаса «Малоткавічы», 419 двароў, 1880 жыхароў; лясніцтва, зверагаспадарка, сярэдняя школа, камбінат быт. абслугоўвання, школа-інтэрнат, яслі-сад, Дом культуры, цэнтр. раённая бальніца, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, 7 магазінаў. У канцы 20 ст. 694 двары, 2072 жыхары, Пінская зверагаспадарка, лясніцтва, ДРБУ-104, гандл. прадпрыемства «Белая Русь» Пінскага райспажыўтаварыства, Пінская інфекцыйная бальніца, аптэка, спецшкола, інтэрнат, сярэдняя школа, дзіцячы сад, вучэбна-вытв. камбінат, муз. школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, малое прадпрыемства «РОМ». Помнік на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, загінуўшых у Вял. Айч. вайну. У сельсавеце 9 вёсак, 1838 гаспадарак, 5016 жыхароў, сярэдняя і базавая школы, школа-сад, дзіцячы сад, Дом культуры, клуб, 2 дамы нар. творчасці, 4 б-кі, муз. школа, амбулаторыя, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, 11 магазінаў, 15 лазняў, 4 аддз. сувязі, філіял «Беларусбанка». Планіровачна складаецца з 2 падзеленых чыгункай частак: паўночнай (2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы) і паўднёвай (квартальная забудова). Будынкі драўляныя і мураваныя, пастаўлены шчыльна, пераважна сядзібнага тыпу.

**МАЛЫ ХАЛАЖЫН** — вёска Ахоўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Пінска, 180 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Кобрын, 69 гаспадарак, 107 жыхароў (2005).

У 17 ст. ўласнасць Цярлецкіх, затым пінскіх езуітаў. У 19 ст. ўласнасць Корсакаў. Склалася на базе іх маёнтка Халажын. У 1860-я г. вёска Халажын-2 у Парэцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 81 рэвізская душа. У 1897 г. вёска — 35 двароў, 300 жыхароў; сядзіба Герарда Корсака — 3 двары, 15 жыхароў, карчма. На пач. 20 ст. вёска — 64 двары, 373 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 70 двароў, 388 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ахоўскім с/с, 89 двароў, 522 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 577 жыхароў. У 1970 г. — 535 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка». У канцы 20 ст. 83 двары, 128 жыхароў. Планіровачна складаецца з Г-падобнай вуліцы, да якой на У далучаецца кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.



**МАЛЫЯ ДВОРЦЫ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Пінска, 190 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Малыя Дворцы—Плешчыцы. 12 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Вяляціцкай сельскай грамадзе Хойнаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Скірмунта, 30 душ сялян. У 1897 г. ў вёсцы 23 двары, 133 жыхары. На пач. 20 ст. 25 двароў, 146 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 35 двароў, 186 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Вяляціцкім с/с, 42 двары, 287 жыхароў. У 1940 г. 61 двор, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. спалілі вёску. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Плешчыцкім с/с, 161 жыхар. У 1970 г. — 114 жыхароў, у складзе калгаса імя Горкага. У канцы 20 ст. 15 двароў, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароценькай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Будынкі драўляныя, сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ ДЗІКОВІЧЫ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 17 км на Пд ад Пінска, 192 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на правым беразе р. Прыпяць, каля аўтадарогі Малыя Дворцы—Кнубава. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

У 1726 г. згадваюцца як маёнтак Дзіковічы на мяжы з маёнткам Вяляцічы. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Вяляціцкай сельскай грамадзе Хойнаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыка Красніцкага — 18 душ сялян. У 1897 г. вёска, 4 двары, 42 жыхары; ваколіца, 25 двароў, 154 жыхары. На пач. 20 ст. вёска, 4 двары, 30 жыхароў; ваколіца, 18 двароў, 126 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г.



26 двароў, 125 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Вяляціцкім с/с (в. Малыя Дзіканавічы), 36 двароў, 280 жыхароў. У 1940 г. 40 двароў, 178 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. знішчылі вёску. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Плешчыцкім с/с, 120 жыхароў. У 1970 г. — 82 жыхары, у складзе калгаса імя Горкага. У канцы 20 ст. 13 двароў, 20 жыхароў.

**МАРАЗОВІЧЫ** — вёска ў Лапацінскім с/с, за 18 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 88 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Столін. 63 гаспадаркі, 134 жыхары (2005).

Згадваюцца ў пач. 16 ст. ў дарчай грамаце кн. Ф.І.Яраславіча баярыну Наздрыну, у 1546 г. ў грамаце каралевы Боны Сфорца зямянам Лукашу і Івану Лемешам на «две земли пустовских, в селе Морозовичах...». У 1550-я г. згадваюцца ўгоддзі ў сяле біскупа Луцкага, кн. Цярлецкага. У 2-й пал. 16 ст. сяло з землямі гаспадарскімі, зямянскімі і царкоўнымі. Усёй зямлі — 8 валок 12 маргоў 11 прутоў, за якую плацілі 11 коп 29 грошаў 4 пенязі. У ліку каралеўскіх дварышчаў: Малышчычы, Копцевічы, Купрасоўшчына, Палчынічы, Кішчычы. Назвы паходзяць ад прозвішчаў каралеўскіх сялян, якія «знялі» тут гаспадарскія землі. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1840-я





г. сяло і маёнтак Осіпа Піера, у якім 2 двары, 6 душ сялян, 34 дзес. зямлі. У канцы 1850-я г. цэнтр Маразовіцкай сельскай грамады, якая налічвала 1558 душ абоега пола, у т.л. 1349 дзярж. сялян, аднадворцаў на сваёй зямлі 152 чал., неаседлых на дзярж. зямлі — 7 чал. Старшынёй грамады быў Сямён Блізнюковіч. У вёсцы 11 двароў, 91 чал. дзярж. сялян. У канцы 19 ст. вёска і маёнтак у Лемяшэвіцкай вол.; у вёсцы 49 двароў, 345 жыхароў; у маёнтку 24 жыхары; нар. вучылішча (у 1867 г. — 26 хлопчыкаў, 6 дзяўчынак). На пач. 20 ст. 59 двароў, 345 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 80 двароў, 443 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лапацінскім с/с, 99 двароў, 455 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. знішчылі 32 двары, 2 жыхары. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. Працаваў калгас імя Мічурына, які аб'ядноўваў 214 гаспадарак, 514 членаў. У 1959 г. — 440 жыхароў. У 1970 г. — 350 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У канцы 20 ст. 71 двор, 146 жыхароў, магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з Пн і Пд далучаюцца кароценькія прамалінейныя вуліцы. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Засл. настаўніка Беларусі У.І.Кудзеліча.

**МАСЕВІЧЫ** — вёска ў Мерчыцкім с/с, на правым беразе р. Ясельда, за 18 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 20 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Моталь. 42 гаспадаркі, 78 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. дварышча ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў князя Ф.І.Яраславіча. Згадваецца ў 1503 г. ў яго наданні 2 даннікаў зямяніну Ф.Дз.Крывецкаму ў Масевічах. У 1523 г. наданне пацвердзіў кароль Жыгімонт I Стары. З 1521 г. ў Пінскім старостве. У 1560-х г. дварышча ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, 2 валокі 28 маргоў зямлі. Зямельную уласнасць тут набылі Раман, Пац, Сямён і Даніла Місевічы, якія плацілі 2 капы 34 грошы, 2 бочкі аўса. У 1-й чвэрці 17 ст. фальварак у складзе маёнтка Крыўчыцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. З 1860-х г. цэнтр сельскай грамады ў Ставоцкай вол., вёска і маёнтак, уласнасць Пуслоўскага, 92 рэвізскія душы. У 1897 г. ў вёсцы 47 двароў, 320 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзіба — 7 жыхароў, ветраны млын. На пач. 20 ст. вёска, 68 двароў, 422 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ставоцкай, з 1928 г. ў Жабчыцкай гмінах Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 20 двароў, 240 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не, з 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета, 90 двароў, 422 жыхары; у складзе калгаса імя Кірава. У сельсавеце 5300 га зямлі, з іх ворыва — 2142 га, 7 вёсак, 74 хутары, 533 гаспадаркі, 2917 жыхароў, 3 калгасы, няпоўная сярэдняя школа, 2 пач. школы, развіта жывёлагадоўля, паляводства. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. знішчылі 10 двароў, загубілі 2 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Кірава (360 гаспадарак, 881 чалавек). З 1957 г. ў Лагішынскім р-не, з 1962 г. ў Пінскім р-не. З 1973 г. ў Мерчыцкім с/с. У 1960 г. — 386 жыхароў. У 1970 г. — 253 жыхары, у складзе саўгаса «Палескі». У канцы 20 ст. 46 двароў, 77 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, шыротнай вуліцы, перакрыжаванай па цэнтры кароткай мерыдыянальнай вуліцай. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЕРЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Мерчыцкага с/с і СВК «Палескі», на правым беразе р. Ясельда, за 22 км на ПнЗ ад Пінска, 198 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст.



Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст, на аўтадарозе Пінск—Моталь. 167 гаспадарак, 429 жыхароў (2005).

Выяўленае археолагамі селішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі, дзе раней была стаянка каменнага веку (0,3 км на З ад вёскі, на правым беразе р. Ясельда), сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім старостве, у складзе маёнткаў кн. Ф.І.Яраславіча. Згадваецца ў 1503 г. ў яго дарчай грамаце баярыну, члену яго рады, Фёдару Шэпе на людзей даннікаў: «... а другій человек у Мерчичох...». У 1514 г. прывілей на даннікаў атрымаў ад яго зямянін Кірыл Грычын. У 1524 г. каралева Бона Сфорца пацвердзіла гэтыя наданні. У 1550-я г. Мікалай Шчэпа меў у сяле дварышча. У канцы 16 ст. гаспадарскае сяло з зямянскімі землямі, у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле інвентара 1671 г. было 8 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Парэцкай вол., у складзе маёнтка Велясніца, уласнасць Твардоўскага, 161 рэвізская душа. У 1897 г. вёска, 86 двароў, 570 жыхароў, карчма. На пач. 20 ст. 120 двароў, 657 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 16 двароў, 132 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Масевіцкім с/с, 90 двароў, 422 жыхары; калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 88 двароў, загубілі 7 жыхароў. У баях з ворагам загінулі 48 вяскоўцаў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у калгасе «Бальшавік», 333 гаспадаркі, 739 жыхароў. З 1957 г. ў Лагішынскім, з 1962 г. ў Пінскім раёнах. З 1973 г. цэнтр сельсавета і саўгаса «Палескі», 440 жыхароў; сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У канцы 20 ст. 158 двароў, 413 жыхароў. У сельсавеце сярэдняя школа, дзіцячы сад, 2 клубныя ўстановы, 2 б-кі, фельч.-акушэрскі пункт, 6 крам, комплексны прыёмны пункт, 27 лазняў, аддз. сувязі і «Беларусбанка». У вёсцы — магазін, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Помнік археалогіі — паселішча 3—1-га тысячагоддзяў да н.э. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

**МЕСТКАВІЧЫ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, каля р. Прыпяць, за 14 км на Пд ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 229 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Невель. 70 гаспадарак, 177 жыхароў (2005).

У 2-й пал.15 ст. сяло ў Пінскім княстве, гаспадарская ўласнасць. Паводле прывілеяў Казіміра Ягайлавіча (1427—92) і Жыгімонта І Старога (1467—92) выслугу ў сяле меў баярын Мікалай Лях Сырапята. У 1-й чвэрці 16 ст. наданне перайшло войскаму пінскаму, нашчадку Сырапяты, Марціну Янавічу Шырму. У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Купяціцкім войтаўстве Пінскага староства. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць Дзікавіцкіх, Сачкоўскіх, Астроўскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1840-я г. сяло, маёнтак Эйсманта, 11 двароў, 155 жыхароў, 237 дзес. зямлі. З 1860-х г. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Хоінскай вол., маёнтак Эйсманта, 55 сялян-уласнікаў. У 1886 г. 15 двароў, 156 жыхароў, царква. У 1897 г. сяло і ваколіца, 96 двароў, 370 жыхароў, Троіцкая царква (драўляная з 1898). На пач. 20 ст. 36 двароў, 43 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 44 двары, 246 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім



*Могілкі салдат расійскай арміі, загінуўшых у 1-ю сусветную вайну, каля в. Мокрая Дубрава.*



пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. з Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Завідчыцкім с/с, 92 двары, 419 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. З 1960 г. ў Плешчыцкім с/с, 351 жыхар. У 1970 г. — 287 жыхароў, у складзе калгаса імя Катоўскага. У канцы 20 ст. 80 двароў, 201 жыхар. Базавая школа, клуб, б-ка. Свята-Троіцкая царква. Планіровачна складаецца з 2 кароценькіх прамалінейных, мерыдыянальных вуліц (уздоўж дарогі) і на Пд невялікага квартала. Забудова шчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МОКРАЯ ДУБРАВА** — вёска ў Лагішынскім пас. Савеце, за 33 км на Пн ад горада і чыг. ст. Пінск, 208 км ад Брэста, на аўтадарозе г.п. Лагішын — г.п. Ганцавічы. 174 гаспадаркі, 391 жыхар (2005).

Даўняя каралеўская ўласнасць, пазней вотчына Сташэвічаў. У сярэдзіне 16 ст. згадваецца як урочышча сяла Каўняцін у Купяціцкім войтаўстве Пінскага староства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лагішынскай вол., маёнтак памешчыка Сташэвіча, 92 душы сялян-уласнікаў. У 1886 г. 26 двароў, 268 жыхароў, цэнтр Лагішынскай вол., школа. У 1897 г. ў вёсцы 60 двароў, 341 жыхар, Лагішынскае валаснае праўленне, нар. вучылішча, піцейны дом, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. вёска, 75 двароў, 421 жыхар; маёнтак — 29 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска — 82 двары, 399 жыхароў; фальварак — 4 двары, 50 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. сяло ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 103 двары, 717 жыхароў. У былым маёнтку — 46 двароў, 224 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. знішчылі 3 двары, загубілі 4 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. вёска ў Лагішынскім с/с, 886 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях да камунізму». У канцы 20 ст. 193 двары, 408 жыхароў. Базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Вайск. могілкі часоў 1-й сусветнай вайны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на З далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**МЯСЯЦІЧЫ** — вёска ў Барычавіцкім с/с, за 30 км на ПдУ ад горада і чыг. ст.



Пінск на лініі Брэст—Гомель, 210 км ад Брэста, на аўтадарозе Плотніца—Лемяшэвічы. 62 гаспадаркі, 130 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча. У 1516 г. згадваецца ў яго прывілеі зямянам Літвіновічам на дварышча ў сяле Мясяцічы. У 1524 г. каралева Бона Сфорца пацвердзіла гэта наданне. Паводле прывілея Жыгімонта II Аўгуста (1548—78) Мясяцічы сталі іх вотчынным маёнткам. У 1794 г. пабудавана Параскевіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1860-х г. сяло ў Біжарэвіцкай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1897 г. ваколіца, 79 двароў, 568 жыхароў, кузня, ваўначоска, крама, піцейны дом, царква. На пач. 20 ст. 54 двары, 534 жыхары, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 66 двароў, 345 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Біжаравіцкім с/с, 75 двароў, 465 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1973 г. у Барычавіцкім с/с. У 1954 г. працаваў калгас імя Андрэева, у якім 205 гаспадарак, 569 членаў. У 1960 г. ў вёсцы 461 жыхар. У 1970 г. — 342 жыхары, у складзе калгаса «Звязда». У канцы 20 ст. 67 двароў, 132 жыхары, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт. Помнікі археалогіі — селішчы каменнага, бронзавага і жал. вякоў. Царква Параскевы Пятніцы (1794). Планіровачна вёска складаецца з кампактнай забудовы драўлянымі будынкамі сядзібнага тыпу. Радзіма літаратуразнаўца І.С. Шпакоўскага.

**НАВАСЕЛЛЕ** — вёска ў Ставоцкім с/с, на левым беразе р. Мерачанка, за 14 км на Пн ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 195 км ад Брэста, каля шашы Пінск—Івацэвічы. 80 гаспадарак, 192 жыхары (2005).

Паводле інвентара 1847 г. вёска, часткова ў складзе маёнтка Хворасна Ігната Статкоўскага, 2 двары, 15 рэвізскіх душ, 40 маргоў зямлі, 3 кані, 4 валы. У 1860-я г. цэнтр сельскай грамады ў Ставоцкай вол. Пінскага пав. Палескага ваяв., вёскі Наваселле-1 — уласнасць Пуслоўскіх, 57 рэвізскіх душ; Наваселле-2 і Наваселле-3, у якіх памешчыцам Пласкавіцкай і Будзіцкай належалі 26 душ. У 1897 г. былі: вёска — 47 двароў, 349 жыхароў; хутар — 4 двары, 24 жыхары, ветраны млын. На пач. 20 ст. хутар — 4 двары, 35 жыхароў, пач. школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Ставоцкай, з 1928 г. Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска — 53 двары, 255 жыхароў; фальварак — 3 двары, 31 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ставоцкім с/с, 94 двары, 472 жыхары (1940). Створаны калгас імя 1 Мая (56 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас «1 мая», аб'ядноўваў 562 гаспадаркі, 1221 чалавека. У 1960 г. 498 жыхароў. У 1970 г. 429 жыхароў, у складзе саўгаса-тэхнікума. У канцы 20 ст. 91 двор, 198 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**НЕВЕЛЬ** — вёска ў Хойнаўскім с/с, цэнтр КУСП «Невель», каля р. Стаход, за 31 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 207 км ад Брэста, на аўтадарозе Невель—Стытычава. 87 гаспадарак, 157 жыхароў (2005).

Старажытнае паселішча ў Пінскім княстве. Згадваецца ў прывілеях Вітаўта, Казіміра і Жыгімонта баярам Вяляціцкім. У 1524 г. Бона Сфорца пацвердзіла правы на «именье, отчызну» Багдану

Васільевічу Вяляціцкаму у «Велятичох и Невле и к ним дворища, люди тяглые и данники... всего 15 дворищ и огородники». Нашчадкі Іван і Сямён Вяляціцкія ставілі ў войска 2 коней (1528). Анісся Вяляціцкая была да пач. 1550-х г. ігуменняй Пінскага Варварынскага жаночага манастыра. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18 — 19 ст. уласнасць Кужанецкіх. У час паўстання 1830—31 гг. 8.9.1831 г. каля вёскі атрадам палкоўніка Ільінскага быў разгромлены атрад паўстанцаў на чале з Цітусам Пуслоўскім, які страціў 400 чалавек забітымі і параненымі, 87 трапілі ў палон. Уладальнік сядзібы Віктар Кужанецкі за садзейнічанне паўстанцам быў зняволены ў турму. У 1860-я г. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Пінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., маёнтак Лапаціцкага, 42 двары, 349 жыхароў, царква, ветраны млын. У 1897 г. дзярж. сяло, 87 двароў, 570 жыхароў, Крыжаўзвіжанская царква, прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 ветраныя млыны, піцейны дом. Сядзіба — 2 двары, 7 жыхароў. На пач. 20 ст. сяло, 121 двор, 730 жыхароў; маёнтак — 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 74 двары, 462 жыхары; у фальварку 2 двары, 15 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 171 двор, 856 жыхароў. У 1941 г. 153 двары, 633 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў снежні 1942 г. і ў маі 1943 г. знішчылі 150 двароў, загубілі 214 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас «Чырвоны баец», у якім было 257 гаспадарак, 708 членаў. З 1957 г. ў Пінскім р-не. З 1959 г. у Хойнаўскім с/с, 574 жыхары (1960). У 1970 г. 508 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова. У канцы 20 ст. 109 двароў, 181 жыхар, фельч.-акушэрскі пункт, мытня. Помнік археалогіі — стаянкі 7—3-га тысячагоддзяў да н.э., вайск. могілкі часоў 1-й сусветнай вайны, магіла ахвяр фашызму, помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных шыротных вуліц, забудаваных аднабакова і двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВЫ ДВАРЭЦ** — вёска ў Бярозавіцкім с/с, за 16 км на З ад Пінска, 174 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст, на р. Мерачанка, аўтадарогамі злучаны з вёскамі Бярозавічы і Цепянец. 70 гаспадарак, 454 жыхары (2005).

Паводле граматы каралевы Боны Сфорца (1524) вядомы як сяло Новы Двор з часоў вял. кн. літ. Вітаўта, які даў тут выслугу продку Марыны Анцушковіч: «...в Новом Дворе полчетверта дворышча...». У канцы 15 ст. ў складзе маёнткаў Мар'і Сямёнавай. На пач. 16 ст. ў складзе маёнткаў пінскага князя Фёдара Іванавіча Яраславіча і кн. Алены (жонкі). У 1503 г. па дарчай грамаце Фёдара людзей-даннікаў у сяле атрымаў член яго рады баярын Фёдар Пятровіч Шчэпа, муж Марыны Анцушковіч. Княгіня Алена запісала фундушавай граматай Ставецкай праваслаўнай царкве св. Акіма і Ганны ў сяле Новы Дварэц «дворец Кропотчицкий... а з Нового Двора нашого прыдали... десятину и з жыта и с каждого ярыва...», з млына Навадворскага — 2 меркі вымелкаў. З 1521 г. ў Пінскім старостве. У сяр. 16 ст. сяло з маёнткамі зямян Шчэпаў і Завішаў. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1567 г. гаспадаркія «поборы малые» (млыновае, шынковае, жорнавае) на 3 гады здадзены ў арэнду за 300 коп грошаў. У 1631 г. згадваецца як маёнтак пінскага земскага суддзі Пятра Нарушэвіча (здадзены ў арэнду зямяніну Мацею Ярахоўскаму), потым Рыгору Валадковічу. Апошні да сярэдзіны 17 ст. заснаваў тут праваслаўны Успенскі мужчынскі манастыр, прыпісаны да Віленскага Святадухаўскага манастыра. Манастыру Валадковіч запісаў 2 час-



ткі маёнтка. У 18 ст. манастыр разам з часткай сяла (фундуш) належаў пінскім уніяцкім біскупам і быў зачынены ў 1817 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1844 г. маёнтак па купчай перайшоў да Івана Паўлавіча Орды. У 1846 г. 13 двароў, 105 рэвізскіх душ, 389 дзес. зямлі. На кожны сялянскі двор даводзілася па 10 дзес. угоддзяў; была карчма, хлебазапасны магазін. З 1855 г. уласнасць Аніхімоўскіх, 23 валокі зямлі. У 1860-я г. вёска і маёнтак у складзе Каладзеевіцкай сельскай грамады Жабчыцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Марыі Аніхімоўскай, 46 рэвізскіх душ. У 1880 г. 194 жыхары. У 1897 г. было 20 двароў, 143 жыхары, хлебазапасны магазін; сядзіба памешчыка Іванова (0,5 км ад вёскі), карчма. На пач. 20 ст. вёска — 30 двароў, 152 жыхары; маёнтак — 3 двары, 18 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 9 двароў, 88 жыхароў; у фальварку 2 двары, 31 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12. 1939 г. ў Пінскім пав., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Паршавіцкім с/с, 46 двароў, 243 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 346 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Бярозавіцкім с/с, 404 жыхары, у складзе саўгаса імя Кутузава. У канцы 20 ст. 73 двары, 474 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫ ДВОР** — вёска, цэнтр Навадворскага с/с, філіял КУСП «Агракамбінат «Палессе», на зах. беразе вадасховішча Пагост, за 42 км на ПнУ ад Пінска, 217 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Пінск—Лунінец. 378 гаспадарак, 981 жыхар (2005).

Упершыню узгадваецца ў 1518 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. 57 двароў, 403 душы дзярж. сялян. У 1860-я г. дзярж. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Лагішынскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 50 двароў, 530 жыхароў. У 1862 г. пабудавана Успенская царква. У 1886 г. 76 двароў, 558 жыхароў. У канцы 19 ст. сяло, 121 двор, 835 жыхароў, хлебазапасны магазін, прыходская школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска, 1161 жыхар, царква. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Чухаўскім с/с, сяло, 202 двары, 1190 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Жданава, у якім аб'ядналіся 285 гаспадарак, 620 жыхароў. З 1960 г. цэнтр сельсавета. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. было 770 жыхароў. У 1970 г. — 1140 жыхароў, цэнтр сельсавета і калгаса «Камунар», 8-гадовая школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт. У 1992 г. на месцы былой царквы пабудавана новая. У канцы 20 ст. 412 двароў, 1083 жыхары; базавая школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Помнікі археалогіі — стаянкі 9—3-га тысячагоддзяў да н.э.; Успенская царква. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; магілы камсамольцаў В.Я.Кахаўца, М.А.Гузарэвіча; сав. лётчыка М.М.Максіменкі, які загінуў у баі каля вёскі ў 1944 г. Планіровачна складаецца з дзвюх падзеленых меліярацыйным каналам частак: паўночнай (крывалінейная, шыротнай арыентацыі вуліца, якая на З раздвойваецца, а на У да яе далучаюцца завулкі) і паўднёвай (прамалінейная, мерыдыянальная вуліца). Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма Героя Сацыяліст. Працы М.П.Кухаўца.

**ПАГОСТ-ЗАГАРОДСКІ** — вёска ў Загародскім с/с і КУСП «Агракамбінат «Палессе», за 37 км на ПнУ ад Пінска, 212 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Гомель, на паўн. беразе воз. Пагосцкае, на аўтадарозе Парахонск—Дабраслаўка. 156 гаспадарак, 392 жыхары (2005).

У 1-й чвэрці 16 ст. сяло ў Пінскім старостве, даўняя выслуга продкаў Ордаў. Упамінаецца ў 1528 г., калі каралева Бона Сфорца пацвердзіла правы на 2 дварышчы ў с. Пагост (Якушоўскае, Бацечкаўскае) Сямёну Юр'евічу Ордзе, харунжаму пінскаму. Да сярэдзіны 16 ст. выслугі ў сяле мелі Шчэпы, Завішы, Тарнаўскія. У 1550 г. была царква. У 1557 г. Сцяпан Тарнаўскі прадаў сваю выслугу войскаму кобрынскаму Макару Марціновічу. У 1560-я г. гаспадарскае сяло ў Хойнаўскім войтаўстве Пінскага пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ з землямі зямянскімі і царкоўнымі. Паводле рэвізіі Л.Войны, тут 5 дварышчаў, 8 валок 10 маргоў 4 пруты зямлі з платай у 6 коп 47 грошаў 5 пенязяў. З 1-й пал. 17 ст. мястэчка, уладанне Сцяцкевічаў, потым Нелюбовічаў, у 18 ст. — Друцкіх-Любецкіх. У 1769 г. пабудавана Пакроўская царква (драўляная). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1840-я г. ўласнасць кн. Ксаверыя Друцкага-Любецкага, 89 двароў, 833 рэвізскія душы абодвух полаў, 9 палясоўшчыкаў, 2 кавалі. У сялян 73 кані, 227 валоў, 166 кароў, 79 вулляў. У 1860-я г. мястэчка, цэнтр воласці і сельскай грамады, 46 двароў, 378 жыхароў, праваслаўная царква, касцёл, яўр. малітоўны дом, вінзавод, штогадовы кірмаш. На пач. 1870-х г. было 100 двароў, 508 жыхароў, нар. вучылішча, фельч. пункт, вадзяны і ветраны млыны. Рамёствы: ганчарства, ткацтва, суднабудаванне. У 1897 г. ў мястэчку 119 двароў, 821 жыхар, 2 царквы, малітоўны дом, хлебазапасны магазін, піцейны дом, вінны аптовы склад, 16 крам, аптэка, паштовае аддз., нар. вучылішча, валаснoе праўленне, мяшчанская ўправа, 4 кірмашы штогод. На пач. 20 ст. мястэчка, 105 двароў, 668 жыхароў; маёнтак — 3 двары, 15 жыхароў. У 1913 г. ўчастковая бальніца, паштовая станцыя, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны ў Лунінецкім, з 1922 г. ў Пінскім паветах Палескага ваяв. У 1921 г. мястэчка — 115 двароў, 748 жыхароў; фальварак — 10 двароў, 49 жыхароў; млын — 9 жыхароў. У мястэчку паштовае агенцтва. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр Загародскага с/с, мястэчка, 155 двароў, 1083 жыхары. З ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 і пры ліквідацыі гета ў 1942 г. яўрэйскае насельніцтва знішчана, спалены 15 двароў. На пач. ліп. 1944 г. партыз. полк 208-ы (камандзір Е.М.Бяспоясаў) ва ўзаемадзеянні з часцямі Чырвонай Арміі разграміў у вёсцы варожы гарнізон. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. — 701 жыхар. У 1970 г. — цэнтр калгаса «Перамога», 456


*Свята-Кірыламяфодзіеўская царква ў в. Пагост-Загародскі.*





*Вадасховішча Пагост каля в. Пагост-Загародскі.*

жыхароў, сярэдняя школа, хлебапякарня, бальніца, ветучастак, камбінат быт. абслугоўвання, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сталовая, 5 магазінаў. У канцы 20 ст. 171 двор, 453 жыхары; сярэдняя школа, дзіцячы сад, участковая бальніца, аптэка, дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр «Світанак», аддз. сувязі, гандл. прадпрыемства «Ветразь» Пінскага райспажыўтаварыства. Брацкая магіла сав. воінаў і партызан; помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Месца жыцця А.А.Блока ў ліпені 1916 г. Помнікі археалогіі — 4 стаянкі, у т.л. нёманскай культуры (5—3-е тысячагоддзі да н.э.) і ранняга жал. веку, эпохі мезаліту. Царква. Планіровачна складаецца з 4 кароткіх, прамалінейных вуліц блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якія злучаны завулкамі і забудаваны двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАДБАЛОЦЦЕ** — вёска ў Ставоцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск, 193 км ад Брэста, на правым беразе р. Ясельда, на шашы Пінск—Івацэвічы. 57 гаспадарак, 109 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Крыўчыцкай сельскай грамадзе Ставоцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., у складзе маёнтка Падгацце памешчыка Пуслоўскага, 23 жыхары. У 1897 г. вёскі: Падбалоцце-1, — 12 двароў, 82 жыхары; Падбалоцце-2 — 32 двары, 210 жыхароў, капліца. На пач. 20 ст. вёска, 58 двароў, 376 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Ставоцкай, з 1928 г. ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 23 двары, 248 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Ставоцкім с/с, вёска, 78 двароў, 342 жыхары (1940). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 329 жыхароў, у 1970 г. 301 жыхар, у складзе саўгаса-тэхнікума. У канцы 20 ст. 61 двор, 118 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж аўтадарогі) і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАЛТАРАНАВІЧЫ** — вёска ў Ахоўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 180 км ад Брэста, на шашы Пінск—Івацэвічы. 43 гаспадаркі, 69 жыхароў (2005).

У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай. У сярэдзіне 16 ст. сяло ў складзе Ставецкага маёнтка каралевы Боны Сфорца ў Пінскім старостве. У 1550-я г. згадваюцца сяло з «поддаными его милости господарскими Полторановцы» і праваслаўнай царквы. З 1560-х г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле інвентара 1671 г., сяло ў Каўняцінскім войтаўстве, 18 валок зямлі. Пазней у Каўняцінскім старостве. У 18 ст. землі належалі пінскім езуітам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Жабчыцкай вол., 69 жыхароў. У канцы 19 ст. вёска — 40 двароў, 271 жыхар, нар. вучылішча. Сядзіба Віктара Сабалеўскага, 2 жыхары. На пач. 20 ст. вёска, 51 двор, 377 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 69 двароў, 378 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ахоўскім с/с, 104 двары, 416 жыхароў, калгас імя Сталіна. У Вял. Айч. вайну з ліп.

1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. вёска ў Ахоўскім с/с, 590 жыхароў. У 1970 392 жыхары, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка». У канцы 20 ст. 53 двары, 84 жыхары. Сядзіба канца 19 — пач. 20 ст. Вайск. могілкі часоў 1-й сусветнай вайны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма засл. настаўніка Беларусі А.П.Дзяжуркі.

**ПАНЯЦІЧЫ** — вёска ў Бярозавіцкім с/с, за 18 км на З ад Пінска, 171 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст. 88 гаспадарак, 139 жыхароў (2005).

У 1550-я г. «село короля его милости Понятичи». Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска ў Багушэўскай сельскай грамадзе Жабчыцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Пуслоўскага, 79 душ сялян. У канцы 19 ст. вёска — 50 двароў, 355 жыхароў; пасёлак у маёнтку Аброва Герасіма Гусева — 9 двароў, 44 жыхары. На пач. 20 ст. вёска, 59 двароў, 400 жыхароў, у 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 85 двароў, 430 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Паршавіцкім с/с, 120 двароў, 571 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. ў вёсцы 665 жыхароў. У 1970 г. — вёска ў Бярозавіцкім с/с, 601 жыхар, у складзе саўгаса імя Кутузава. У канцы 20 ст. 94 двары, 165 жыхароў. Помнік на месцы расстрэлу жыхароў в. Берказы ў гады Вял. Айч. вайны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой на У і З далучаюцца кароценькія вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. рацыяналізатара Беларусі І.П.Кабрынца.

*Забудова в. Парахонск.*



**ПАРАХОНСК** — вёска, цэнтр Парахонскага с/с, філіял СВК «Ахова», каля р. Бобрык, за 32 км на ПнУ ад Пінска, 212 км ад Брэста, 3 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Гомель. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Парахонск—Дабраслаўка і шашы Пінск—Лунінец. 714 гаспадарак, 2094 жыхары (2005).

У 1550-я г. сяло ў Пінскай валасці, на мяжы Купяціцкай пушчы і войтаўства: «... село пана воеводы Троцкого Порохонско...». Было ва ўласнасці Жыжэмскіх, потым Радзівілаў. У 18 ст. маёнтак набыў кн. Францішак Друцкі-Любецкі. У 1771 г. пабудавана прыходская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Пагост-Загародскай вол., уласнасць Друцкіх-Любецкіх, 42 двары, 335 жыхароў. У 1886 г. сяло, 34 двары, 322 жыхары, 2 ветраныя млыны. З 1888 г. царква Раства Багародзіцы. У канцы 19 ст. сяло — 152 двары, 452 жыхары, царква, прыходская школа на 25 вучняў, хлебазапасны магазін; сяло на зямлі кн. Друцкага-Любецкага — 22 двары, 173 жыхары, цагельны з-д; маёнтак — 6 двароў, 42 жыхары; чыг. ст. Парахонск — 4 двары, 49 жыхароў. На пач. 20 ст. сяло — 105 двароў, 726 жыхароў; маёнтак — 4 двары, 25 жыхароў; чыг. станцыя — 4 двары, 61 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пагост-Загарод-



скай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска — 138 двароў, 901 жыхар, паштовае агенцтва; чыг. ст. Парахонск — 2 двары, 44 жыхары; фальварак — 5 двароў, 32 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска і чыг. ст. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 250 двароў, 1334 жыхары; на чыг. станцыі — 35 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. знішчылі 126 двароў, загубілі 9 жыхароў. У пач. ліп. 1944 г. партыз. полк 208-ы імя Сталіна ва ўзаемадзеянні з часцямі Чырв. Арміі разграміў тут варожы гарнізон; партызаны авалодалі чыг. станцыяй і ўтрымлівалі яе да прыходу 12.7.1944 г. Чырв. Арміі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Маляанкова, аб'ядноўваў 425 гаспадарак, 633 членаў. У 1960 г. ў вёсцы 1288 жыхароў; чыг. ст. Парахонск — 192 жыхары. У 1970 г. 1186 жыхароў, цэнтр саўгаса «Парахонск». У канцы 20 ст. 708 двароў, 2219 жыхароў, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, муз. школа, участковая бальніца, аптэка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», б-ка. У сельсавеце былі базавая школа, 3 клубы, 2 б-кі, 3 фельч.-акушэрскіх пункты, 9 крам, 2 комплексных прыёмных пункта, 5 лазняў, 2 аддз. сувязі, філіял «Беларусбанка». Помнікі: царква Раства Багародзіцы, мемарыяльная дошка на будынку чыг. станцыі ў гонар 208-га партыз. палка імя Сталіна, які 7.7.1944 г. штурмам авалодаў станцыяй; мемарыяльная дошка рус. паэту А.Блоку, які жыў тут пад час службы ў арміі ў жн. 1916 г. і студз. 1917 г. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, на Пн якой — чыг. станцыя. Забудова двухбаковая, драўляная, пераважна сядзібнага тыпу.

**ПАРОСЦЫ** — вёска ў Калавуравіцкім с/с, за 43 км на У ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 223 км ад Брэста, на аўтадарозе Асабовічы—Качановічы. 23 гаспадаркі, 48 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. Згадваюцца ў прывілеі каралевы Боны Сфорца ў 1548 г. зямяніну Дашку Гладкаму, якому пацвердзіла ранейшае наданне ў 3 $^1/_2$ дварышчы



*Дзіцячы сад-яслі ў в. Парахонск.*

і яшчэ «дали 2 дворища замку нашого пиньского у селе Поросцах» у трыманне. У сярэдзіне 16 ст. сяло ў Хрысцібалоцкім войтаўстве, у складзе дварца Стытычава. Паводле рэвізіі Л.Войны (1561—66), частку сяла трымалі сяляне пінскага ўладыкі (Сабановічы) — 1 валоку 2 маргі, за якую плацілі 1 капу 6 грошаў; другую частку трымаў зямянін Гладкі — 1 валоку 2 маргі. У пач. 18 ст. ўласнасць Нагужэўскіх. У 1763 г. па купчай перайшлі Ігнацію Жахоўскаму, 10 двароў, 57 жыхароў. У 1788 г. маёнтак перайшоў да Скірмунтаў, з 1825 г. належаў Бартноўскім. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1840-я г. было 9 двароў, 28 жыхароў, 258 дзес. зямлі. У 1860-я г. вёска ў Асабовіцкай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Бартноўскага, 30 душ сялян-уласнікаў. У канцы 19 ст. вёска — 14 двароў, 127 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак — 3 двары, 26 жыхароў, капліца. На пач. 20 ст. вёска — 25 двароў, 140 жыхароў; маёнтак — 6 жыхароў. У 1921 — 39 гг. у скла-





*Знешні выгляд і галоўны алтар царквы Раства Багародзіцы ў в. Парэчча.*

дзе Польшчы, у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 34 двары, 194 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с, 42 двары, 311 жыхароў, млын. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 6 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 260 жыхароў. У 1970 г. 191 жыхар, у складзе калгаса «Сцяг». У канцы 20 ст. 28 двароў, 63 жыхары. Каплічка (1936).

**ПАРЭ** — вёска ў Ласіцкім с/с, за 46 км на Пд ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 221 км ад Брэста, на правым беразе р. Прастыр (прыток Прыпяці), на аўтадарозе Парэ—Фядоры. 122 двары, 204 жыхары (2005).

У сярэдзіне 16 ст. гаспадарскае сяло ў Кіроўскім войтаўстве Пінскага староства. У 1560-я г. мела 7 дварышчаў у 8 валок 7 маргоў 3 пруты зямлі, з якіх плацілі чынш 11 коп 40 грошаў 6 пенязяў. З 5 дварышчаў дадаткова давалі 8 бочак аўса. У канцы 16 ст. сяло з землямі зямянскімі ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1840-я г. вёска ў маёнтку Хойна, уласнасць Івана Жабы, 31 двор. У 1860-я г. цэнтр сельскай грамады ў Хойнаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Ордаў, 135 душ. У 1897 г. 82 двары, 637 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 147 двароў, 752 жыхары, нар. вучылішча, каменная капліца (1906). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 128 двароў, 791 жыхар. З 1939 гг. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Востраўскім с/с, 207 двароў, 1114 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. знішчылі 150 двароў, загубілі 11 жыхароў. У баях з ворагам загінулі 44 землякі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобласці. У 1960 г. вёска ў Ласіцкім с/с, 990 жыхароў. У 1970 г. 972 жыхары, у складзе калгаса «Ударнік». У канцы 20 ст. 146 двароў, 267 жыхароў. Сельскі клуб, б-ка, магазін. Помнік археалогіі — паселішча эпохі ранняга жал. веку. Капліца, помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ПАРЭЧЧА** — вёска ў Парэцкім с/с, на правым беразе р. Ясельда, за 36 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 211 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—в. Моталь. 264 гаспадаркі, 584 жыхары (2005).

У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў пінскай княгіні



Мар'і Сямёнавай. Упамінаецца ў 1495 г. ў дарчай грамаце яе баярыну Алехне Рыгоравічу Курэйшы на дварышча і даннікаў. Два дварышчы атрымаў член яе рады Мацвей Грычына. У 1520 г. кн. Фёдар Іванавіч Яраславіч запісаў фундушавае наданне ў сяле Парэчча Багародзіцкай царкве Лешчанскага праваслаўнага манастыра. З 1521 г. ў складзе маёнткаў каралевы Боны Сфорца, у Пінскім старостве. У сярэдзіне 16 ст. выслугі ў сяле мелі Грычыны, Полазы, Туры. З 1560-х г. сяло, шляхецкая ўласнасць у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 17—18 ст. сяло і маёнтак. Паводле інвентара 1653 г. ў маёнтак уваходзілі сёлы Парэчча (24 валокі), Харомцы (16 валок), Заталочча (21 валока). У 1711 г. згадваецца царква. Маёнтак належаў Агінскім, затым па купчай перайшоў да Скірмунтаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1836 г. Аляксандр Скірмунт заснаваў тут суконную фабрыку. Выпускала трыко, тонкую шэрсць, двайное сукно. Напачатку працавалі 258 рабочых. У 1860 г. дзейнічала 50 ткацкіх, 48 іншых станкоў і машын. Кошт прадукцыі склаў у 1865 г. 213 840 руб. У 1868 г. працавала 375 рабочых, 83 механічныя ткацкія станкі, 2 паравыя машыны (120 к.с.), 166 інш. машын і механізмаў. У 1860-я г. сяло і маёнтак, цэнтр сельскай грамады і воласці ў Пінскім пав. Мінскай губ., 68 двароў, 1457 жыхароў. У 1866 г. пабудавана царква Раства Багародзіцы. У 1860—79 гг. працаваў цукровы з-д, у 1862 г. на ім 152 рабочыя, 2 паравыя рухавікі, 2 лакамабілі (40 к.с.), 40 паравых катлоў. Выраблялі да 10,5 тыс. пудоў цукру. Размяшчаўся ў 4-павярховым мураваным будынку на беразе р. Ясельда. У канцы 19 ст. сяло — 118 двароў, 1196 жыхароў, прыходская царква, нар. вучылішча, 2 крамы, хлебазапасны магазін, піцейны дом; сядзіба і фальварак — 7 двароў, 42 жыхары. У пасёлку суконнай фабрыкі 531 жыхар, рамонтная майстэрня, хлебазапасны магазін. У 1885 г. на фабрыцы 359 рабочых, з іх 35 падлеткаў, 207 жанчын. Большасць рабочых жылі ў 4 казармах і 4 інтэрнатах. Дзейнічалі бальніца (12 ложкаў), вучылішча з рамесным ухілам. На пач. 20 ст. сяло, 201 двор, 1097 жыхароў, маёнтак — 10 двароў, 492 жыхары. Рабочыя суконнай фабрыкі пад кіраўніцтвам мясц. арг-цыі РСДРП удзельнічалі ў рэвалюцыі 1905—07 гг. У 1913 г. вытворчасць склала 200 тыс. руб. Прадукцыю збывалі ў Пецярбургу, Маскве, Варшаве і інш. У 1878 г. вырабы фабрыкі адзначаны сярэбраным медалём на Парыжскай выстаўцы, у 1882 г. — залатым на Маскоўскай. У 1916 г. ням. акупанты разрабавалі абсталяванне, ф-ку спалілі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Пінскім пав. Палескага ваяв., цэнтр гміны. У 1921 г. вёска — 193 двары, 1156 жыхароў; фальварак — 39 двароў, 196 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г.



*Гаспадарчая пабудова ў в. Парэчча.*



*На тэрыторыі этнаграфічнага музея «Сядзіба палешука канца 19 — пачатку 20 ст.» у в. Парэчча.*



*Фрагмент парку ў в. Парэчча.*

ў Пінскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 363 двары, 1129 жыхароў. У былым маёнтку 55 двароў, 222 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі 20 двароў, загубілі 20 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Молатава, аб'ядноўваў 472 гаспадаркі, 1037 членаў. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 1428 жыхароў. У 1970 г. 1204 жыхары, у складзе калгаса «Праца», крухмалапатачны з-д, механічная, швейная і шавецкая майстэрні, лясніцтва, сярэдняя школа, бальніца, аптэка, ветучастак, аддз. сувязі, дзіцячыя яслі, 2 магазіны, клуб, б-ка. У канцы 20 ст. 277 двароў, 628 жыхароў. У 1998 г. ў Парэччы адчынены літаратурны музей Я.Янішчыц. У 2000 г. на тэр. дзіцячага аздараўленчага лагера «Парэчча» створаны музей пад адкрытым небам «Сядзіба палешука канца 19 — пач. 20 ст.». Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных завулкамі, да якіх на З далучаецца кароткая мерыдыянальная вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАСЕНІЧЫ** — вёска ў Аснежыцкім с/с, за 4 км на Пн ад Пінска, 7 км ад чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 193 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Моталь, 160 гаспадарак, 446 жыхароў (2005).

Вядомы з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве. У 1497 г. згадваюцца ў дарчай грамаце пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай на наданне Васілю Алехнавічу Пратасовічу. У 1503 г. кн. Фёдар Іванавіч Яраславіч даў у сяле 3 валокі баярыну Севасцьяну Валадзьку з умовай ваеннай службы. Пазней (1533) яго ўнукі Федка і Дзяніс Іванавічы Валадкевічы перадалі ў залог за даўгі ў 20 коп грошаў частку вотчыны «Марку Ескавичу жыду пинскому». У 1515 г. наданні ў сяле на дварышчы атрымалі ад кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча баяры Іван Даніловіч, Андрэй Кміта і падчашы, потым харунжы пінскі Венядзікт Фурсовіч. З 1521 г. ў Пінскім старостве, у складзе валасцей каралевы Боны Сфорца. З 1569 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле валочнай памеры 1 валоку зямлі, вольную ад чыншу, меў тут замкавы пінскі дойлід П.Радзівановіч. Паводле інвентара 1671 г., у сяле 31 валока 37 маргоў зямлі. Згадваецца Пасінскі дамініканскі манастыр, якому Жыгімонт пацвердзіў ранейшы фундуш на 3 валокі 12 маргоў. У 1750 г. фундуш манастыру запісалі Перасветы-Солтаны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. ў Аснежыцкай сельскай грамадзе Ставоцкай вол. вёскі Пасенічы-1, уласнасць Пуслоўскага, 45 душ; Пасенічы-2, уласнасць Орды, 13 душ; Пасенічы-3, уласнасць Юліі Спірыдонавай, 20 душ сялян. У канцы 19 ст. вёска Пасенічы, 52 двары, 333 жыхары; сядзіба Багуміла Шміта — 2 двары, 8 жыхароў; карчма — 5 жыхароў. На пач. 20 ст. 76 двароў, 477 жыхароў, нар. вучылішча, каменная капліца. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Ставоцкай, з 1928 г. ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 77 двароў, 341 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 114 двароў, 554 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паблізу вёскі 26.6.1941 г. партызаны правялі засадны бой, у выніку якога



падбілі танк, захапілі палонных і трафеі. У жн. 1941 г. і кастр. 1942 г. ням. акупанты правялі масавыя расстрэлы жыхароў вёскі ў Пінскім канцэнтрацыйным лагеры. На фронце загінулі 12 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Аснежыцкім с/с, 564 жыхары. У 1970 г. 525 жыхароў, у складзе калгаса «Аснежыцкі». У канцы 20 ст. 170 двароў, 451 жыхар. Базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Пінскі цэх радыёвяшчальных сістэм, раённае вытв. аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Капліца канца 19 — пач. 20 ст. Магіла ахвяр фашызму; памятны знак у гонар першага партыз. бою ў гады Вял. Айч. вайны. Планіровачна складаецца з працяглай, шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПАЎЛІНАВА** — вёска ў Лышчанскім с/с, за 42 км на Пн ад Пінска, 217 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Гомель. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Пучыны—Лышча. 14 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска і маёнтак у Лышчанскай сельскай грамадзе Лагішынскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Чахоўскай, 34 жыхары. У канцы 19 ст. 2 двары, 7 жыхароў. На пач. 20 ст. маёнтак, 6 двароў, 62 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, фальварак у Лагішынскай гміне Пінскага пав. У 1921 г. было 9 двароў, 59 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Забароўскім с/с, 20 двароў, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1962 г. ў Пінскім р-не, пасёлак, 85 жыхароў. У 1970 г. вёска ў Лышчанскім с/с, 79 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава. У канцы 20 ст. 18 двароў, 28 жыхароў. Драўляная, сядзібнага тыпу забудова каля прасёлачнай дарогі.

**ПЕРАХРЭСЦЕ** — вёска ў Дубайскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Пінска, 164 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Юхнавічы на лініі Пінск—Брэст, на аўтадарозе Дубай—Невель. 15 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. хутар сялян Кананчукоў, 3 двары, 57 жыхароў, у Дубайскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. На пач. 20 ст. хутар, 14 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, калонія ў Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 14 двароў, 79 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Невельскім с/с, 30 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. вёска ў Дубайскім с/с, 125 жыхароў. У 1970 г. 121 жыхар, у складзе калгаса «Усход». У канцы 20 ст. 22 двары, 35 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПІНКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Пінкавіцкага с/с, на левым беразе р. Піна, за 7 км на ПнУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 187 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Лунінец. 1274 гаспадаркі, 4036 жыхароў (2005).

У канцы 15 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім княстве. У 1499 г. ўпамінаюцца ў прывілеі вял. кн. літ. Аляксандра на выслугу Андрэевічаў. У 1528 г. згадваюцца ўладанні Курцэвічаў, нашчадкаў пінскага князя Міхаіла Канстанцінавіча (жыў у 1-й пал. 15 ст.). З 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. На гэты час згадваюцца зямельныя ўладанні Вайцяховічаў (1561), Таццяны Сапяжанкі, Сокала Войны. У 17 ст. маёнтак пінскага падстаросты Мікалая Ельскага, потым Агінскіх. З 1759 г. ўласнасць полацкага кашталяна Бжастоўскага, у канцы 18 ст. — Скірмунтаў. У 1830 г. пабудавана Пакроўская праваслаўная царква (драўляная). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у


Машынна-трактарны двор у СВК «Плешчыцы».


Магазін у аграгарадку Плешчыцы.

складзе Рас. імперыі. Паводле інвентара 1847 г., вёска ў складзе маёнтка Альбрыхтова камер-юнкера двара яго імператарскай вялікасці Аляксандра Сямёнавіча Скірмунта, 44 двары, 238 душ сялян. У 1860-я г. сяло, цэнтр воласці і сельскай грамады, уласнасць Скірмунта, 36 двароў, 312 душ сялян, нар. вучылішча (1863), у 1867 г. — 1 настаўнік, 30 хлопчыкаў, 18 дзяўчынак. У 1886 г. было 32 двары, 290 жыхароў, валаснoе праўленне, 2 праваслаўныя царквы (1 на могілках), нар. вучылішча. У 1897 г. — 74 двары, 457 жыхароў, прыёмны пакой, хлебазапасны магазін, карчма. На пач. 20 ст. сяло, 96 двароў, 1120 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны ў Пінскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 78 двароў, 518 жыхароў, 2 царквы, нар. вучылішча. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 168 двароў, 863 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, вызвалены войскамі 55-й гв. стралковай дывізіі 28-й арміі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Молатава, аб'ядноўваў 364 гаспадаркі, 512 членаў. У 1960 г. — 1306 жыхароў, вёска ў Аснежыцкім с/с. У 1970 г. 2921 жыхар, у складзе калгаса «Аснежыцкі». У канцы 20 ст. 1186 двароў, 3896 жыхароў, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, раённая дзіцячая бальніца, муз. школа, цэнтр пазашкольнай работы, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. «Беларусбанка», Пінскі неўралагічны інтэрнат, ПМК-58, цэнтр. рамонтныя майстэрні трэста «Пінскваднбуд», ААТ «Пінскэлектрамашсервіс», шматпрофільнае прадпрыемства «Рубін», пінскае вытв. аб'яднанне «Медтэхніка», стадыён. Помнікі: Пакроўская царква (1830); помнік на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, мемарыяльная дошка Якубу Коласу, які працаваў ў 1904—06 гг. настаўнікам у мясц. школе. Дзейнічае літаратурна-этнаграфічны музей Я.Коласа. Планіровачна складаецца з кароткіх мерыдыянальных вуліц, пракладзеных шчыльна, на Пд шыротныя прамалінейная і крывалінейная вуліцы. Грамадскі цэнтр на У. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. паэтэсы і літаратуразнаўцы Л.К.Тарасюк, засл. настаўніка В.К.Кісяля.

**ПЛАСКІНЬ** — вёска ў Бобрыкаўскім с/с, цэнтр СВК «Пласкінь», за 56 км на Пн ад Пінска, 231 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Малькавічы на чыг. участку Ганцавічы—Лунінец, аўтадарогамі злучана з Пінскам, Лагішынам, Целяханамі, Ганцавічамі. 234 гаспадаркі, 519 жыхароў (2005).

Даўняя вотчына Скірмунтаў. У 2-й пал. 19 ст. вёска ў Дабраслаўскай вол., маёнтак Скірмунта, 66 душ сялян. У 1897 г. 51 двор, 410 жыхароў, царква, школа, хлебазапасны магазін, карчма. На пач. 20 ст. вёска, 57 двароў, 458 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага павятаў Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 77 двароў, 567 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Дабраслаўскім с/с, 132



двары, 890 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. знішчылі 123 двары, загубілі 6 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 64 вяскоўцы. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Бобрыкаўскім с/с працаваў калгас «Чырвоны араты», аб'ядноўваў 269 гаспадарак, 689 жыхароў. У 1960 г. 856 жыхароў. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. 960 жыхароў, лясніцтва, 8-гадовая школа, аддз. сувязі, клуб. У 2005 г. 234 двары, 519 жыхароў, базавая школа, клуб, аддз. сувязі, сталовая, крама, дзіцячы сад. Мікалаеўская царква (не дзейнічае). Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Мемарыяльная пліта на месцы гібелі 18.5.1944 г. сав. лётчыкаў А.А.Аліева, М.Я.Дорфмана, В.А.Францава.



*Свята-Міхайлаўская царква ў в. Плешчыцы.*

**ПЛЕШЧЫЦЫ** — вёска, цэнтр Плешчыцкага с/с і СВК «Плешчыцы», за 9 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 189 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Столін. 305 гаспадарак, 943 жыхары (2005).

Вядомы з 16 ст., сяло ў Пінскім старостве. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, цэнтр староства. У 18 ст. уласнасць Скірмунтаў. Паводле рэвізіі Л.Войны (1561—66), у сяле 1 дварышча — Плешчыцкае, «где сидят крестьяне своими дворами». Паводле валочнай памеры, было 6 валок 22 маргі 17 прутоў зямлі. З 23 дымоў «платили по старине», у т.л. палюддзя 7 грошаў 4 пенязі, за прыгон 1 капу, на кіраванне 1 грош; 12 бочак аўса, усяго 5 коп 38 грошаў 4 пенязі. У 1560-я г. тут чынш — 6 коп 36 грошаў (па 1 капе 6 грошаў з валокі). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. На пач. 1850-х г. вёска ў складзе дзярж. маёнтка Маразовічы, 25 участкаў зямлі. У 1860-я г. вёска ў складзе Кнубаўскай сельскай грамады Лемяшэвіцкай вол., 109 душ дзярж. сялян. У канцы 19 ст. ў вёсцы 76 двароў, 520 жыхароў, ветраны млын, мураваная капліца. У 1909 г. 76 двароў, 320 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 106 двароў, 541 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 162 двары, 786 жыхароў, млын. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. спалілі 61 двор. 16 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Максіма Горкага, аб'ядноўваў 414 гаспадарак, 909 членаў. У 1960 г. 625 жыхароў. У 1970 г. 491 жыхар. У канцы 20 ст. 299 двароў, 910 жыхароў, сярэдняя

*Будынак Цэнтра культуры і адпачынку ў аграгарадку Плешчыцы.*



школа, дзіцячы сад, філіял муз. школы, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Магіла М.Я.Шапялевіча, жыхара вёскі, расстралянага фашыстамі ў Вял. Айч. вайну. Каменная капліца 18 — 19 ст. з элементамі барока. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, шчыльна паміж сабой пастаўленых вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма бел. мастака А.І.Шахновіча.

**ПЛОШЧАВА** — вёска ў Калавуравіцкім с/с, на левым беразе р. Прыпяць, за 39 км на У ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 220 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па дарозе Кудрычы—Плошчава і паромнай пераправе цераз р. Прыпяць. 38 гаспадарак, 65 жыхароў (2005).

Упамінаецца ў 1516 г. ў дэкрэце кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча. У 1550-я г. сяло ў Пінскім старостве с «поддаными его милости господарскими и владычиными...». У 1560-я г. складалася з 2 дварышчаў: Дзюрдзевічы і Караевічы. У першым жылі Позныя і іх «потужники», у 2-м — Караевічы (гаспадарскія сяляне). Усяго зямлі — 3 валокі 14 маргоў 23 пруты чыншавыя, за якія плацілі 3 капы 7 грошаў. У 1563 г. ворная зямля гэтых дварышчаў адышла пад замену Івану Владыточычу за землі ў с. Паршавічы. Сяляне атрымалі права пераходу на іншыя каралеўскія землі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Лемяшэвіцкай вол., уласнасць Ордаў. У канцы 19 ст. вёска, 30 двароў, 270 жыхароў. На пач. 20 ст. 33 двары, 279 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 60 двароў, 392 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Качановіцкім с/с, 95 двароў, 505 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліст. 1943 г. знішчылі 90 двароў, загубілі 3 жыхароў. Дзейнічала камсамольска-маладзёжнае падполле. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 490 жыхароў. У 1970 г. 387 жыхароў, у складзе калгаса «Сцяг». З 1973 г. ў Калавуравіцкім с/с. У канцы 20 ст. 48 двароў, 72 жыхары. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял Айч. вайну. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх выгнутых шыротных вуліц, забудаваных двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПОЛХАВА** — вёска ў Лапацінскім с/с, за 27 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 197 км ад Брэста, на аўтадарозе Мясяцічы—Каўбы. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2005).

У пач. 16 ст. сяло ў Пінскім старостве ВКЛ. У 1526 г. ўпамінаецца як дзедзічына Палхоўскіх. У 2-й пал. 16 ст. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. У попісе войска ВКЛ 1567 г. ў ліку баяр пінскіх, абавязаных службай, згадваюцца Бакушэвіч, Васко Поўх, Іван Грыцкевіч, Марк Бакуновіч, Мацвей Сцепановіч, Дзяніс Івановіч. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 19 ст. ваколіца, 25 двароў, 194 жыхары. На пач. 20 ст. 25 двароў, 176 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 35 двароў, 190 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. у Лапацінскім с/с, 41 двор, 225 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 201 жыхар, у 1970 г. 158 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У канцы 20 ст. 26 двароў, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ПОЧАПАВА** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, цэнтр СВК «Почапава», на левым беразе р. Піна, за 5 км на ПнУ ад го-



рада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Пінск—Лунінец. 281 гаспадарка, 937 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. сяло і ўрочышча Пачапаў у Пінскім старостве. З канца 15 ст. вотчына зямян Пачапоўскіх, затым, пасля шлюбу з Соф'яй Юхнаўнай Пачапоўскай, перайшла да Васіля Пілецкага. Паводле попісу войска 1528 г., Пачапоўскія ставілі ў войска ВКЛ 3 коней. Да сярэдзіны 16 ст. быў жаночы манастыр. З 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1680-я г. згадваюцца ўладанні Святаслава Крывецкага. З 1759 г. уласнасць полацкага кашталяна Адама Бжастоўскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Пінкавіцкай вол., уласнасць Свяжынскага, 47 душ сялян. У канцы 19 ст. вёска — 30 двароў, 233 жыхары, хлебазапасны магазін; маёнтак — 3 двары, 13 жыхароў. На пач. 20 ст. 51 двор, 284 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. вёска і фальварак — 40 двароў, 244 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Высакоўскім с/с, 64 двары, 374 жыхары, у былым маёнтку створана МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Гарадзішчанскім с/с, 455 жыхароў, у 1970 г. — 406 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба народаў». У канцы 20 ст. 276 двароў, 880 жыхароў. Клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, санаторый «Ясельда», падсобная гаспадарка «Почапава», ААТ «Санта». Захавалася гасп. пабудова сядзібы Свяжынскіх (пач. 20 ст.). Планіровачна складаецца з шыротнай прамалінейнай вуліцы, забудаванай пераважна аднабакова, драўлянымі сял. хатамі.

**ПУЧЫНЫ** — вёска у Лышчанскім с/с, за 50 км на Пн ад Пінска, 225 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Гомель, транспартныя сувязі па аўтадарозе в. Пучыны—Лышча. 221 гаспадарка, 555 жыхароў (2005).

Паводле інвентара 1671 г. сяло ў Каўняцінскім войтаўстве Пінскага пав. ВКЛ, 12 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Дабраслаўскай вол., маёнтак памешчыка Абрамоўскага, 48 душ сялян. У канцы 19 ст. вёска — 38 двароў, 269 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін; сядзіба маёнтка Эміліі Абрамоўскай — 2 двары, 13 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 49 двароў, 430 жыхароў; маёнтак — 10 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. 69 двароў, 412 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Забароўскім с/с, 70 двароў, 437 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 5 жыхароў. З 1962 г. ў Пінскім р-не, 764 жыхары (1960), у 1970 г. 1108 жыхароў, у складзе калгаса імя Кірава. У канцы 20 ст. 237 двароў, 567 жыхароў. Базавая школа, аддз. сувязі, магазін. Магіла невядомага воіна, які загінуў у Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы і паралельнай ёй кароткай прамалінейнай вуліцы. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**РУДАВІН** — вёска ў Ставоцкім с/с, на правым беразе р. Мерачанка, за 6 км на Пн ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 186 км ад Брэста, каля шашы Брэст—Гомель. 80 гаспадарак, 201 жыхар (2005).

У 1860-я г. вёска ў Ставоцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., ў складзе маёнтка Пясочна памешчыка Пуслоўскага, 92 жыхары. У канцы 19 ст. вёска — 55 двароў, 391 жыхар, валасная аптэка,

хлебазапасны магазін; сядзіба — 9 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска, 71 двор, 469 жыхароў. У 1921—39 гг. вёска ў Ставоцкай, з 1928 г. Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 38 двароў, 265 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ставоцкім с/с, 94 двары, 415 жыхароў, створаны калгас імя Варашылава (83 гаспадаркі). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 8 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Варашылава, аб'ядноўваў 256 гаспадарак, 669 членаў. У 1960 г. 415 жыхароў, у 1970 г. — 344 жыхары, у складзе саўгаса-тэхнікума. У канцы 20 ст. 83 двары, 226 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, шчыльна паміж сабой пастаўленых вуліц, блізкіх да мерыдыянальнай арыентацыі і забудаваных пераважна драўлянымі сял. сядзібамі.



*Крынічка ў в. Рудка.*

**РУДКА** — вёска ў Мерчыцкім с/с, на правым беразе р. Ясельда, за 26 км на ПнЗ ад Пінска, 202 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Пінск—Моталь. 66 гаспадарак, 130 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 16 ст. сяло і двор пінскіх францысканцаў. У 17—18 ст. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1779 г. згадваецца ў прывілеі Станіслава Аўгуста Панятоўскага Фаме Арэшку. Каралеўскае сяло, потым уласнасць суддзі пінскага Леапольда Ажэшкі (с. Рутkоўскія Валокі). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. вёска ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Парэцкай вол., уласнасць Твардоўскага, 89 душ сялян. У канцы 19 ст. вёска 52 двары, 344 жыхары. На пач. 20 ст. 68 двароў, 395 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 37 двароў, 234 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Масевіцкім с/с, 79 двароў, 413 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. знішчылі 37 двароў, загубілі 6 жыхароў. З 1954 г. Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Лагішынскім, з 1962 г. ў Пінскім р-нах. У 1960 г. 362 жыхары. У 1970 г. 350 жыхароў, у складзе саўгаса «Пінскі». З 1973 г. ў Мерчыцкім с/с. У канцы 20 ст. 70 двароў, 120 жыхароў. Помнік археалогіі — селішча жал. веку і ранняга сярэднявечча. Радзіма бел. паэтэсы Яўгеніі Янішчыц. На доме, у якім яна нарадзілася, устаноўлена мемарыяльная дошка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на З раздвайваецца. Забудова двухбаковая, драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**САДОВЫ** — пасёлак у Малоткавіцкім с/с, за 5 км на З ад Пінска, 176 км ад Брэста, 2 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст. 316 гаспадарак, 969 жыхароў (2005).

Утвораны на месцы былога маёнтка Жабчыцы памешчыкаў Красіцкіх. Да 1940 г. тут працаваў плодавінны з-д, склаўся пасёлак у Малоткавіцкім с/с Жабчыцкага р-на. Пазней узнік з-д кандытарскіх вырабаў. З 1957 г. ў Пінскім р-не, пасёлак вінзавода. У 1960 г. 94 жыхары. У 1970 г. пасёлак Садовы, 193 жыхары. У канцы 20 ст. 270 двароў, аддз. су-



вязі і «Беларусбанка», Пінскі з-д кандытарскіх вырабаў, ААТ «Пінская «Сельгастэхніка», ПМК райсельгасхарча.

**САКАЛОЎКА** — вёска ў Валішчанскім с/с, за 46 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 234 км ад Брэста, каля шашы Івацэвічы—Пінск. 123 гаспадаркі, 281 жыхар (2005).

З 16 ст. каралеўскія землі ў складзе Азарыцкага староства ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска ў Азарыцкай сельскай грамадзе Целяханскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., у складзе маёнтка Клятная памешчыка Пуслоўскага, 53 рэвізскія душы. У пач. 20 ст. 50 двароў, 414 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Целяханскай гміне Косаўскага, з 5.2.1927 г. ў Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 52 двары, 267 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Клятнянскім с/с, 75 двароў, 454 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 544 жыхары. У 1970 г. вёска ў Валішчанскім с/с, 589 жыхароў, у складзе калгаса імя Жданава. У канцы 20 ст. 133 двары, 349 жыхароў, магазін.

**САСНОВІЧЫ** — вёска ў Дубайскім с/с, на левым беразе р. Піна, за 18 км на ПдЗ ад Пінска, 157 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Юхнавічы на лініі Брэст—Гомель. 53 гаспадаркі, 76 жыхароў (2005).

Да 1964 г. вёска Бясхлебічы. У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве. Згадваюцца ў 1498 г. ў акце продажу 2 ніў Алехнам Курэйшавым Ходару Драбішэвічу. У 17—18 ст. у складзе маёнтка Дубай, вёска, уласнасць праваслаўнай царквы, Пінскага езуіцкага калегіума. Паводле інвентара 1774 г., вёска ў Дубайскай вол. Пінскага староства. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. вёска ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 2-й пал. 19 ст. цэнтр сельскай грамады ў Дубайскай вол., 186 жыхароў. У канцы 19 ст. вёска, 56 двароў, 335 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. вёска ў Бродніцкай вол., 72 двары, 367 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Бродніцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 66 двароў, 307 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не, з 12.10.1940 г. ў Дубайскім с/с, 98 двароў, 458 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 5 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. 366 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай шыротнай вуліцы з завулкамі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**САЧКАВІЧЫ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, на левым беразе р. Прыпяць, за 10 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 178 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Месткаві-



*Царква ў пас. Садовы.*



*Краявід на Піншчыне каля пас. Садовы.*

чы—Стытычава. 39 гаспадарак, 64 жыхары (2005).

У 1-й пал. 16 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім старостве. Згадваюцца ў прывілеі каралевы Боны Сфорца Стафану Сачкавічу, які меў тут дварышча Галавачавічы (Голавачевичи) у 1 морг 15 прутоў. Пазней да «ніў баяр Сачкавіцкіх» куплена дварышча Кухцічы. Паводле рэвізіі Л.Войны (1561—66), усёй зямлі пад с. Сачкавічы ў 2 дварышчах лічылася 2 валокі 15 маргоў. Баяры Сцяпан і Гаўрыла Сачкавічы плацілі з валокі 1 капу 23 грошы. З 1560-х г. сяло ў Хрысцібалоцкім войтаўстве ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, вотчына шляхціцаў Сачкоўскіх. Паводле інвентара 1648 г., сяло ў Пінскім пав., 2 валокі. У прывілеі 1751 г. Аўгуста III на ўступку Яну Пулкоўскаму згадваецца як дзярж. ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Маразовічы, 6 зямельных участкаў, 8 двароў, 54 душы дзярж. сялян. У канцы 1860-х г. вёска і маёнтак у Сернікаўскай сельскай грамадзе Хойнаўскай вол., уласнасць Сурэвічава, 26 душ былых дзярж. сялян. У канцы 19 ст. вёска і ваколіца ў Стытычаўскай сельскай грамадзе Хойнаўскай вол., 68 двароў, 414 жыхароў. У 1909 г. вёска, 49 двароў, 482 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 46 двароў, 342 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 ў Пінскім р-не. З 12.0.1940 г. у Вяляціцкім с/с, 110 двароў, 492 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 16 жыхароў не вярнуліся з фронту.

З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Завідчыцкім с/с, 381 жыхар, у 1970 г. ў Пляшчыцкім с/с, 309 жыхароў, у складзе калгаса імя Катоўскага. У канцы 20 ст. 47 двароў, 78 жыхароў, базавая школа. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, прамалінейных, шчыльна паміж сабой пастаўленых шыротных вуліц, забудаваных рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Парахонскім с/с, за 38 км на ПнУ ад Пінска, 218 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Пінск—Лунінец, на аўтадарозе Селішча—Парахонск. 124 гаспадаркі, 321 жыхар (2005).

На пач. 16 ст. ўрочышча і сяло ў Пінскім старостве ВКЛ. Згадваецца у 1513 г. у адменнай грамаце пінскага князя Фёдара Іванавіча Яраславіча баярам Дамановічам: «... дали сомо им нашое земли на отмену на Селицы нива...». У сярэдзіне 16 ст. сяло з падданымі баярскімі і зямянскімі. У канцы 16 ст. сяло, дзярж. ўласнасць у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1642 г. у прывілеі Уладзіслава IV Яну Дзежку згадваецца як каралеўскае сяло. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. 16 двароў, 111 жыхароў. У 1860-х г. вёска і маёнтак у Дубравіцкай сельскай грамадзе Пагост-Загародскай вол. У маёнтку (Дваракоўскага) — 30 душ сялян. У канцы 19 ст. ў вёсцы было 24 двары; у маёнтку — 2 двары, 13 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 78 двароў, 443 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак ў Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. 89 двароў, 515 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Парахонскім с/с, 114 двароў, 754 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 20 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 696 жыхароў. У 1970 г. 500 жыхароў, у складзе саўгаса «Парахонскі». У канцы 20 ст. 134 двары, 324 жыхары, базавая школа, клуб, б-ка, дзярж. с.-г. прадпрыемства «Беларускія журавіны», магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудава-



най пераважна двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЕМЯХОВІЧЫ** — вёска ў Хойнаўскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 214 км ад Брэста, на аўтадарозе Семяховічы—Невель. 46 гаспадарак 86 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве, уласнасць кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча. Згадваецца ў яго фундушавым наданні Купяціцкай царкве: «... по две копы грошей на каждый рок». У 1551 г. наданне пацвердзіла каралева Бона Сфорца. У сярэдзіне 16 ст. сяло, гаспадарская ўласнасць у Кіроўскім войтаўстве Пінскага староства. З 1566 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. Паводле інвентара 1671 г., у сяле 19 валок зямлі. У 1721 г. ў фундушавым запісе ўпамінаецца царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска ў Хойнаўскай вол., цэнтр сельскай грамады, у маёнтку Кужалічын памешчыка Пуслоўскага, 13 двароў, 117 жыхароў, царква. У 1880-я г. было 16 двароў, 179 жыхароў, царква, капліца. У канцы 19 ст. вёска ў Хойнаўскай вол., 40 двароў, 253 жыхары, ветраны млын, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 54 двары, 370 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 45 двароў, 234 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Невельскім с/с, 99 двароў, 449 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. знішчылі 41 двор, загубілі 4 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1959 г. 399 жыхароў. У 1970 г. 317 жыхароў, вёска ў Хойнаўскім с/с, у складзе калгаса імя Свярдлова. У канцы 20 ст. 62 двары, 110 жыхароў, фельч.-акушэрскі пункт.

**СІНІН** — вёска ў Мерчыцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Пінска, 184 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Лагішын—Ахова. 41 гаспадарка, 89 жыхароў (2005).

На пач. 16 ст. ўрочышча ў Пінскім княстве. Пінскі кн. Ф.І.Яраславіч даў тут дварышча «на Синине» слузе Фёдару Крывецкаму. У 1523 г. наданне пацвердзіў кароль Жыгімонт I Стары. У канцы 16 ст. шляхецкая ўласнасць з землямі Ф.Крывецкага, І.Полаза, Дз.Заранкі. Пазней — уласнасць пінскіх езуітаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1850-я г. вёска ў складзе паезуіцкага маёнтка Падгаще, 18 двароў, 135 душ дзярж. сялян. У 1860-я г. вёска у Масевіцкай сельскай грамадзе Ставоцкай вол., 60 душ сялян-уласнікаў. У 1897 г. вёска, 31 двор, 194 жыхары. На пач. 20 ст. вёска Сенін, 38 двароў, 248 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска ў Ставоцкай, з 1928 г. ў Жабчыцкай гмінах Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 23 двары, 142 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Масевіцкім с/с, 84 двары, 325 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі двор, загубілі 4 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Лагішынскім р-не, з 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 280 жыхароў. У 1970 г. 237 жыхароў, у складзе саўгаса «Палескі». З 16.4.1973 г. ў Мерчыцкім с/с. У канцы 20 ст. 61 двор, 99 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай, блізкай да шыротнай арыентацыі вуліцы, да якой на З далучаецца з Пн кароценькая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, рэдкая, сядзібнага тыпу.

**СОШНА** — вёска, цэнтр Сошненскага с/с і філіяла КУСП «Агракамбінат «Палессе», за 23 км на ПнУ ад Пінска, 198 км ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец, на аўтадарозе Пінск—Лунінец. 273 гаспадаркі, 746 жыхароў (2005).

*Царква ў в. Сошна.*



Паводле А.Грушэўскага, вядома з часоў Вітаўта (1392—1430). На пач. 16 ст. сяло ў Пінскім княстве, уласнасць Фёдара Іванавіча Яраславіча. Часткай сяла валодаў кн. М.І.Жыжэмскі. У 1512 г. ў сяле 5 дварышчаў. Да 1516 г. зямельныя наданні тут атрымалі ад кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча зямяне І.Ф.Палазовіч (1500), Алізар Любяльскі (1508), пінская Афанасьеўская царква (1516). З 1560-х г., сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Паводле попісу войска 1567 г., князі Анікей і Піліп Жыжэмскія выстаўлялі ў войска па 2 кані. У пач. 17 ст. сяло пінскага замка. У сярэдзіне 17 ст. сяло Вялікае Сошна і маёнтак Сошна, якія згадваецца ў прывілеі караля Яна Казіміра Альбрыхту Радзівілу на ўступку маёнтка Ельскім (1651). Зямельны фундуш і падданых у сяле меў Гарадзішчанскі бенедыкцінскі манастыр, быў пабудаваны касцёл (драўляны). Пасля скасавання манастыра яго маёнтак Сошна купіў Дэля Гардзі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У сярэдзіне 19 ст. сяло, 60 двароў, 405 дзярж. сялян. У 2-й пал. 19 ст. сяло, цэнтр сельскай грамады Пагост-Загародскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 63 двары, 412 жыхароў (дзярж. сялян), царква. У 1886 г. было 56 двароў, 484 жыхары, царква, млын. У 1897 г. вёска — 160 двароў. 718 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін; сяло — царк. сядзіба, 5 жыхароў, прыходская школа; маёнтак Марыі Фальгоер — 8 жыхароў. На пач. 20 ст. 152 двары, 280 жыхароў, цагельны з-д. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак ў Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. 156 двароў, 922 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 228 двароў, 1159 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. ліп. 1944 г. 208-ы партыз. полк імя Сталіна ва ўзаемадзеянні з часцямі Чырвонай Арміі разграміў у вёсцы варожы гарнізон. 60 вяскоўцаў загінулі ў барацьбе з фашызмам. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 16.7.1954 г. ў Парахонскім с/с, працаваў калгас імя Талбухіна, аб'ядноўваў 337 гаспадарак, 594 члены. У 1960 г. 987 жыхароў. У 1970 г. 949 жыхароў, цэнтр калгаса імя Калініна, працавалі цагельны з-д, лясніцтва, сярэдняя школа, Дом культуры, 2 магазіны. У канцы 20 ст. цэнтр Сошненскага с/с, 278 двароў, 765 жыхароў, сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, лясніцтва, аддз. сувязі і «Беларусбанка». Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (уздоўж дарогі) і забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАВОК** — вёска, цэнтр Ставоцкага с/с і СВК «Ставоцкі», на правым беразе р. Мерачанка, за 10 км на Пн ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 185 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Івацэвічы. 157 гаспадарак, 384 жыхары (2005).

На пач. 16 ст. сяло ў складзе маёнткаў кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча. Упамінаецца ў 1503 г. з нагоды заснавання кн. Фёдарам і яго жонкай Аленай праваслаўнай царквы: «Поставили у дворе нашом у Ставку церковь...». У іх фундушавых запісах (1503, 1512) царкве дадзены дварышчы ў Стаўку і Новым Двары (Кічалаўшчына і Крапотчыцы) «... и з



озеры.. и озеро наше, на имя Мороченское», дзесяціну «с жыта і с каждого ярыва з млыноў Ставецкага і Навадворскага па 2 маркі вымелкаў», грашовая даніна. З 1521 г. буйны маёнтак каралевы Боны Сфорца ў Пінскім старостве. У сярэдзіне 16 ст. ў Стаўку 12 валок ворыва дворнага, 22 душы сялян-парабкаў са сваімі надзеламі. Паводле валочнай памеры замест парабкаў тут ужо 12 агароднікаў. У настаяцеля царквы 2 валокі зямлі. У канцы 16 ст. сяло, дзярж. ўласнасць у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 17 ст. ў Каўняцінскім войтаўстве. У 1770-я г. у Каўняцінскім старостве. У 1648 г. згадваецца Ставоцкая уніяцкая царква, якая паводле інвентара 1671 г. мела 1 валоку зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. сяло, цэнтр воласці і сельскай грамады, 29 двароў, 218 жыхароў. Частка сяла адносілася да маёнтка Заполле памешчыка Пуслоўскага (147 душ). У 1853—55 гг. пабудавана Вазнясенская царква. У 1865 г. адчынена нар. вучылішча (у 1867 г. — 1 настаўнік, 44 хлопчыкі). У 1886 г. 30 двароў, 345 жыхароў, царква, 4 яўр. малітоўныя дамы, школа, вінзавод, конны млын. У 1897 г. 74 двары, 501 жыхар, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. сяло — 98 двароў, 530 жыхароў. У 1913 г. ўрачэбны пункт, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска, да 1928 г. цэнтр гміны, затым ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 89 двароў, 501 жыхар, царква. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 138 двароў, 651 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінуў 51 вясковец. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 731 жыхар, у 1970 г. 623 жыхары, сярэдняя школа, аддз. сувязі, 2 магазіны, цэнтр сельсавета і саўгаса-тэхнікума. У канцы 20 ст. 169 гаспадарак, 458



*Свята-Вазнясенская царква ў в. Ставок.*

жыхароў. У 2004 г. сярэдняя школа, дзіцячая турбаза, філіял муз. школы, аддз. сувязі і «Беларусбанка», б-ка, урачэбная амбулаторыя. Свята-Вазнясенская царква. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр на Пд, каля аўтадарогі. Радзіма бел. мастака М.П.Балюка.

**СТАЙКІ** — вёска ў Хойнаўскім с/с, за 27 км на Пд ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 207 км ад Брэста, каля р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Стайкі—Жыдча, Стайкі—Хойна. 18 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

Упамінаюцца ў 1551 г. ў грамаце каралевы Боны Сфорца зямяніну І.С.Дамановічу як дварэц Стайскі. У 1524 г. Бона пацвердзіла наданне Івану і Сямёну Вяляціцкім, якія мелі выслугу ў Стайках. Пасля падзелу маёнтка Вяляціцкіх у «дворцы Стайском» наданні мелі Петрашковічы і Дамановічы, пазней Гарбачэўскія, Палхоўскія і інш. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1976 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1840-я г. маёнтак (уключаў в. Каморы) Дубянецкіх і А.Клімовіча, 13 двароў, 109 рэвізскіх душ, 45 валок 7 1/2 маргоў зямлі; ваколіца Стайкі (Дубянецкіх). У маёнтку 2 карчмы, хлебазапасны

магазін. У 1860-я г. ваколіца ў Хойнаўскай вол., 13 душ былых аднадворцаў. У 1897 г. 40 двароў, 346 жыхароў, мураваная капліца, 2 ветраныя млыны. На пач. 20 ст. 48 двароў, 367 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 22 двары, 143 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Хойнаўскім с/с, 70 двароў, 297 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 11 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1959 г. 279 жыхароў. У 1970 г. 186 жыхароў, у складзе калгаса імя Свярдлова. У канцы 20 ст. 22 двары, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з ПнУ далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Сошненскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Пінска, 196 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Лунінец, на аўтадарозе Пінск—Лунінец. 24 гаспадаркі, 50 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах вядома пад назвай Малое Сошачна. Да сярэдзіны 16 ст. ў складзе гаспадарскіх зямель Купяціцкага войтаўства з уладаннямі Гараглядаў, у 18 ст. Свяжынскіх і Дваракоўскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. маёнтак у складзе фальварка і вёскі Стараселле, уласнасць павятовага суддзі, адстаўнога паручніка Ксаверыя Свяжынскага. У вёсцы 9 двароў, 82 рэвізскія душы, з іх 52 цяглыя. У маёнтку 1600 дзес. зямлі, з іх 228 ворыва, у сялян было па 18 дзес. на двор; млын, карчма, вінакурня (да 300 вёдраў). Піцейная справа здавалася на водкуп за 30 руб. серабром у год. У 1860-я г. ў складзе сельскай грамады Бакінічы Пагост-Загародскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., маёнтак, 42 рэвізскія душы. У 1897 г. вёскі Стараселле-1 — 21 двор, 83 жыхары, хлебазапасны магазін; Стараселле-2 — 5 двароў, 18 жыхароў. У пач. 20 ст. ў маёнтку (Свяжынскіх) 2 двары, 8 рэвізскіх душ, быў цагельны з-д. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак ў Пагост-Загародскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. ў Пінскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 20 двароў, 110 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не, з 12.10.1940 г. ў Сошненскім с/с, 42 двары, 181 жыхар, створаны калгас імя Варашылава (42 гаспадаркі), быў цагельны з-д. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Парахонскім с/с, 163 жыхары. У 1970 г. 143 жыхары, у складзе калгаса імя Калініна. У канцы 20 ст. ў Сошненскім с/с, 26 двароў, 54 жыхары. Радавыя могілкі Свяжынскіх-Дваракоўскіх. Планіровачна складаецца з кароценькай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**СТАХАВІЧЫ** — вёска ў Дубайскім с/с, на левым беразе р. Піна, за 14 км на ПдЗ ад Пінска, 170 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Юхнавічы на лініі Пінск—Брэст, на аўтадарозе Пінск—Дубай. 85 гаспадарак, 154 жыхары (2005).

У 1550-я г. згадваецца сяло Стахавіцкае «именья его королевское милости». У 1569 г. згадваецца ў прывілеі Жыгімонта II Аўгуста Л.Войну як сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. вёска і маёнтак, цэнтр сельскай грамады ў Жабчыцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыка Рачынскага, 52 душы сялян. У канцы 19 ст. вёска — 35 двароў, 207 жыхароў, хлебазапасны магазін; сядзіба Фёдара Тэадаровіча — 2 двары, 13 жыхароў, карчма; пасёлак — 1 двор, 8 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска, 39 двароў, 297 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жабчыцкай гміне Пінска-



га пав. Палескага ваяв., вёска і фальварак. У 1921 г. 61 двор, 294 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Дубайскім с/с, 78 двароў, 493 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 9 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 515 жыхароў. У 1970 г. 486 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра». У канцы 20 ст. 99 двароў, 17 жыхароў, пач. школа, б-ка, магазін. Помнік археалогіі — селішча эпохі жал. веку. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд і Пн далучаюцца завулкі. Забудова драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. мастака А.М.Хвісевіча.

**СТАШАНЫ** — вёска ў Навадворскім с/с, за 49 км на ПнУ ад Пінска, 224 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Пінск—Лунінец. 198 гаспадарак, 371 жыхар (2005).

Упамінаецца пад 1220 г. (па інш. звестках пад 1160 г.) у сувязі з бітвай літоўскіх і ўладзіміра-валынскіх князёў ва ўрочышчы Пабоішча (Пабойні?) у ваколіцах вёскі. З 15 ст. ўласнасць князёў Завішаў. У 1550-я г. сяло ў Пінскім старостве (Сташанічы), 4 службы (дворышчы). З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1680-я г. ў пінскіх езуітаў. У сярэдзіне 18 ст. згадваецца як фальварак Пінскага езуіцкага калегіума. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1850-я г. 41 двор, 246 дзярж. сялян. З 1860-х г. вёска ў Дабраслаўскай вол., цэнтр сельскай грамады, у фальварку Корсакаў, 120 рэвізскіх душ. У 1897 г. 74 двары, 552 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін; маёнтак Эдуарда Корсака, 7 двароў, 42 рэвізскія душы, 870 дзес. зямлі. На пач. 20 ст. ў вёсцы 96 двароў, 681 жыхар; у маёнтку 17 душ. У 1-ю сусветную вайну тут размяшчаўся штаб рус. арміі, шпіталь. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 122 двары, 731 жыхар; у фальварку — 7 двароў, 61 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. вёска ў Дубраўскім с/с, 191 двор, 958 жыхароў; у былым маёнтку — 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 34 жыхары не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Лышчанскім с/с, працаваў калгас «Камунар», 241 гаспадарка, 488 членаў. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. вёска ў Навадворскім с/с, 1114 жыхароў, у складзе калгаса «Камунар». У канцы 20 ст. 216 двароў, 406 жыхароў, базавая школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Сядзіба з некалькімі ўцалелымі пабудовамі і паркам. Воінскае пахаванне часоў 1-й сусветнай вайны. Храмы розных хрысціянскіх абшчын (1990-я г.). Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 3 завулкі. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СТЫТЫЧАВА** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 6 км на Пд ад горада і чыг. ст. Пінск, 181 км ад Брэста, каля р. Прыпяць, на аўтадарозе Пінск—Столін. 231 гаспадарка, 684 жыхары (2005).

На пач. 16 ст. маёнтак (двор) кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча ў Пінскім княстве. Упамінаецца ў 1513 г. ў яго грамаце баярыну Сенку Дамановічу «на тры островы двора своего Стытычовского...». Наданне пацвердзіў кароль Жыгімонт І Стары. З 1521 г. ў складзе маёнткаў Боны Сфорца, дворац замкавы з прыпісанымі да яго батракамі (с. Кнубава). У 1560-я г. цэнтр войтаўства ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, фальварак «управителя»; пад сядзібай і агародам 2 маргі 7 прутоў, пад ворывам 3 валокі 4 маргі зям-

лі. Батракі заменены агароднікамі, якіх 18 двароў з надзелам у 7 валок 3 маргі 3 пруты. З кожных 10 маргоў выконвалі павіннасці: мужчыны — 3 дні пешых, «с чем прикажут» (на тыдзень), жанчыны — 12 талок «на жнитве и полотье». У гэтым жа сяле зарэчны войт Юшка Гарэвіч «снял к своим уволокам» 20 маргоў непрыдатнай зямлі, за якія з 1564 г. плаціў па 30 грошаў. У ліку прыпісаных да «дварца» — ткач Аляксей Ждан, які атрымаў 3 маргі зямлі ва ўрочышчы Красоўка. Паводле інвентара 1671 г. ў сяле 11 валок зямлі. З сярэдзіны 18 ст. ўласнасць гетмана Міхаіла Агінскага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. сяло, цэнтр сельскай грамады ў Хойнаўскай вол., уласнасць Рудзіеўскіх, 29 двароў, 107 жыхароў. У 1897 г. вёска, 77 двароў, 500 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 92 двары, 599 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хойнаўскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 84 двары, 427 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Плешчыцкім с/с, 141 двор, 665 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. знішчылі 4 двары, загубілі 3 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінулі 74 вяскоўцы. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Вяляціцкім с/с. Працаваў калгас імя Катоўскага, у які ўваходзілі вёскі Сачкавічы, Красава, усяго 217 двароў, 485 жыхароў. З 1959 г. ў Завідчыцкім, з 18.10.1960 г. ў Плешчыцкім сельсаветах. У 1960 г. 567 жыхароў. У 1970 г. 555 жыхароў, цэнтр калгаса імя Катоўскага, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, б-ка, магазін. У канцы 20 ст. 238 двароў, 671 жыхар, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі і «Беларусбанка», фельч.-акушэрскі пункт. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, якая на Пд далучаецца да кароценькай крывалінейнай вуліцы (уздоўж дарогі). Забудова няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**СУШЫЦК** — вёска ў Гарадзішчанскім с/с, на левым беразе р. Ясельда, за 20 км на ПнУ ад Пінска, 202 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Ясельда на лініі Брэст—Гомель. 99 гаспадарак, 226 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1495 г. ў дарчай грамаце пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай баярыну Цімафею Любельскаму, продку Война Грычыны, на «человека Римшича и дворище Клишковцина за его верную службу». У 1524 г. наданне пацвердзіў кароль Жыгімонт І Стары. З 1560-х г. сяло, дзярж. ўласнасць з выслугамі Любельскіх, Ордаў, Полазаў і царк. землямі ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1580-я г. Пінскі Лешчанскі манастыр меў тут 4 1/2 валокі зямлі, якія давалі 2 капы 20 грошаў, было 7 дымоў. З 1614 г. валоданне Дуброўскіх, Рушкевічаў, Фурсаў. У 1712 г. ў прывілеі Аўгуста II Антону Пашыцу згадваецца як маёнтак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. ў вёсцы 13 двароў, 111 жыхароў. У 1860-я г. вёска ў Астравіцкай сельскай грамадзе Пінскай вол., 53 жыхары. У 1897 г. 25 двароў, 177 жыхароў, капліца. На пач. 20 ст. 62 двары, 426 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 75 двароў, 414 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Гарадзішчанскім с/с, 110 двароў, 564 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 12 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас «Сцяг перамогі», аб'ядноўваў 318 гаспадарак, 739 жыхароў. У 1960 г. ў вёсцы было 553, у пасёлку — 58 жыхароў. У 1970 г. вёска.



526 жыхароў, у складзе калгаса «Дружба народаў». У канцы 20 ст. 130 двароў, 223 жыхары, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. Помнікі археалогіі — стаянкі эпохі неаліту, бронзавага і ранняга жал. вякоў. Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**СЯРНІЧКІ** — вёска ў Плешчыцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 194 км ад Брэста, каля аўтадарогі Пінск—Столін. 33 гаспадаркі, 85 жыхароў (2005).

Старажытнае сяло, у 15 ст. згадваецца пад назвай Сернікі. У прывілеях Вітаўта і Казіміра ўпамінаецца ў сяле выслуга баяр Вяляціцкіх. У 1524 г. каралева Бона Сфорца пацвердзіла былыя наданні баярам Івану і Сямёну Вяляціцкім, у т.л. «в Серниках дворыщо Махнович». Да сярэдзіны 16 ст. ад Тамілы Вяляціцкай перайшло І.С.Дамановічу. Пацверджана граматай каралевы Боны ў 1551 г. (дварышчы Сідараўшчына, Сенюкоўскае «в селе Серниках»). Кн. Фёдар Іванавіч Яраславіч у свой час даў у сяле 2 дварышчы маляру пінскаму Навошы. У 1525 г. каралева Бона, «бачечы того ремесника нам и месту нашому быть потребного», пацвердзіла яго выслугу. Палову дварышча з часоў Фёдара Іванавіча Яраславіча меў тут і Лук'ян Памаховіч з братамі. У 1537 г. Бона Сфорца перавяляла яго са службы цяглай у ваенную. Паводле рэвізіі Л.Войны (1561—66), сяло складалася з сял. дварышчаў: Каханоўскае (знялі зямлю Яўстафій Плешчыц, Філімон Сурыновіч — 1 валока 12 маргоў), Зеткавічы (зняў Максім Зеткавіч — 1 валока 7 маргоў). У 1564 г. палову дварышча «снял» пінскі баярын Мацвей Івановіч. Усяго было зямлі 2 валокі 19 маргоў, за якія плацілі 3 капы 6 грошаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1845 г. фальварак і вёска, уласнасць Генрыха Скірмунта, 31 цяглы двор, 204 рэвізскія душы, якія мелі 310 дзес. ворыва, 33 кані, 96 валоў, 79 кароў. У 1860-я г. вёска Малыя Сернікі ў складзе Хойнаўскай вол., цэнтр сельскай грамады, уласнасць Скірмунта, 36 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска Малыя Сернічкі — 26 двароў, 132 жыхары і 2 аднайменныя фальваркі — 9 двароў, 54 жыхары; у 1909 г. ў Лемяшэвіцкай вол., вёска — 28 двароў, 192 жыхары; фальварак — 7 двароў, 64 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 35 двароў, 205 жыхароў; фальварак — 10 двароў, 56 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Плешчыцкім с/с, 66 двароў, 314 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 17 жыхароў не вярнуліся з фронту З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 281 жыхар. У 1970 г. 149 жыхароў, у складзе калгаса імя Горкага. У канцы 20 ст. 34 двары, 110 жыхароў. Магіла ахвяр фашызму. Планіровачна складаецца з дзвюх кароценькіх прамалінейных шчыльна паміж сабой пастаўленых шыротных вуліц, забудаваных драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза А.І.Барычэўскага, бел. мастака У.А.Шапялевіча.

**ТАБУЛКІ** — вёска ў Парэцкім с/с, за 38 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на ліні Брэст—Гомель, 159 км ад Брэста, каля р. Ясельда, на аўтадарозе Пінск—Моталь. 229 гаспадарак, 554 жыхары (2005).

У 17 ст. ўласнасць Цярлецкіх. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Парэцкай вол. Пінскага пав. 125 сялян-уласнікаў. У канцы 19 ст. вёска, 74 двары, 551 жыхар, хлебазапасны магазін, піцейны дом; сядзіба — 2 двары, 22 жыхары, карчма. На пач. 20 ст. 119 двароў, 524 жыхары. нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 128 двароў, 663 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г.

ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Чамярынскім с/с, 185 двароў, 950 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі 2 двары, загубілі 3 жыхароў. На франтах і ў партыз. барацьбе загінуў 21 вясковец. 16 жыхароў не вярнуліся з фронту. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Парэцкім с/с, існаваў калгас «Праца», аб'ядноўваў 403 гаспадаркі, 958 членаў. У 1959 г. 954 жыхары. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. 1021 жыхар, цэнтр калгаса «Праца», сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін. У канцы 20 ст. 241 двор, 538 жыхароў. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, да якой з Пд далучаюцца 2, а з З 4 кароткія вуліцы. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ТАРГОШЫЦЫ** — вёска ў Ахоўскім с/с, за 9 км на З ад Пінска, 182 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Пінск—Брэст, каля шашы Брэст—Гомель. 66 гаспадарак, 108 жыхароў (2005).

Вядомы з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве. Згадваюцца ў прывілеях Вітаўта і Казіміра продкам Анцушковічаў. Паводле вена ад Марыны Анцушковіч наданне перайшло да яе першага мужа, клецкага баярына Фёдара Шчэпы і сына Івана, што пацвердзіла Бона Сфорца ў грамаце ад 1524 г. У сярэдзіне 16 ст. сяло ў складзе Ставецкага маёнтка Боны. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1709 г. ўпамінаецца як маёнтак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска ў Жабчыцкай сельскай грамадзе і воласць Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Красіцкага, 72 рэвізскія душы. У 1897 г. вёска — 32 двары, 243 жыхары; фальварак графа Красіцкага — 2 двары, 16 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 46 двароў, 323 жыхары; фальварак — 2 двары, 9 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 60 двароў, 354 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Кашэвіцкім с/с, 92 двары, 455 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. вёска ў Ахоўскім с/с, 459 жыхароў. У 1970 г. — 402 жыхары, у складзе калгаса імя Дзяржынскага. У канцы 20 ст. 74 двары, 129 жыхароў. Працуе малое прадпрыемства «Самара». Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, паралельных паміж сабой шыротных вуліц, злучаных кароценькай вуліцай і забудаваных двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ТРАСЦЯНКА** — вёска ў Лагішынскім пас. Савеце, за 33 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 198 км ад Брэста, на шашы Пінск—Івацэвічы. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў (2005).

У канцы 19 ст. хутар. На пач. 20 ст. фальварак у Лагішынскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 2 двары, 18 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, калонія ў Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 3 двары, 23 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лагішынскім с/с, хутар, 8 двароў, 36 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. 105 жыхароў. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. 126 жыхароў, у складзе саўгаса «Беларусь». У канцы 20 ст. 28 двароў, 51 жыхар.

**ТРУШАВА** — вёска ў Ласіцкім с/с, за 41 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 221 км ад Брэста, транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Пінск—Фядоры. 47 двароў, 132 жыхары (2005).

З канца 19 в. вядома як хутар у Радчыцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Пінскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў



БССР. З 4.12.1939 г. у Пінскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. у Пінскім р-не, з 12.101940 г. у складзе Ласіцкага с/с. У 1940 г. вёска, 51 двор, 243 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 — ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. знішчылі 22 двары, загубілі 1 жыхара. З 1954 г. у Брэсцкай вобл. У 1959 г. 255 жыхароў. У 1970 г. — 261 жыхар, у складзе калгаса «Маяк». У 2000 г. 54 двары, 135 жыхароў.

**ТУЛЯЦІН** — вёска ў Ахоўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 186 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, далей — па аўтадарозе Парэчча—Пінск. 47 гаспадарак, 70 жыхароў (2005).

Да сярэдзіны 18 ст. маёнтак Радзевічаў, затым уласнасць Агінскіх, А.Бжастоўскага, Скірмунтаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1845 г. вёска і маёнтак, уласнасць Іосіфа Міхалоўскага, 18 двароў, 164 рэвізскіх душы, у т.л. 189 дзес. ворыва. У 1860-я г. ў складзе Кашэвіцкай сельскай грамады Ставоцкай вол., 73 рэвізскія душы. У 1897 г. маёнтак — уласнасць Івана Міхалоўскага, 3 двары, 14 рэвізскіх душ; вёска — 35 двароў, 233 жыхары, хлебазапасны магазін; сядзіба — 9 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 49 двароў, 295 жыхароў; маёнтак — 3 двары, 24 жыхары, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Ставоцкай, з 1928 г. ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 35 двароў, 239 жыхароў; у фальварку — 4 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Кашэвіцкім с/с, 76 двароў, 386 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 10 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не, у Ахоўскім с/с. У 1960 г. 383 жыхары. У 1970 г. 367 жыхароў, у складзе саўгаса імя Дзяржынскага. У канцы 20 ст. 59 двароў, 91 жыхар. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, перакрыжаванай па цэнтру кароткай шыротнай вуліцай. Забудова двухбаковая, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**ТУПЧЫЦЫ** — вёска ў Лемяшэвіцкім с/с, за 24 км на У ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 199 км ад Брэста, на правым беразе р. Прыпяць, на аўтадарозе Чарнова-2—Гальцы. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

Згадваюцца ў 1536 г. ў дарчай грамаце каралевы Боны Сфорца баярам Караневічам, якія атрымалі «землицу пустовскую в Пинской волости, в селе в Тупчычох...». У 1560-х г. была 1 валока 9 маргоў 8 прутоў непрыдатнай зямлі, якой валодалі зямяне Караневічы і гаспадарскія сяляне Трусовічы (мелі 19 маргоў, за якія плацілі чынш 42 $^{1}/_{2}$ грошы). Палова ўсіх зямель перададзена пад замену Івану Фурсу. У 18 ст. згадваецца як ваколіца ў Пінскім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Каля сярэдзіны 19 ст. сяло ў Біжаровіцкай вол., з уладаннямі Юльяна Колба (4 двары, 20 душ, 33 дзес. зямлі) і Качаноўскіх. У 1860-я г. вёска ў Асабовіцкай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Колбаў, 32 рэвізскія душы. У канцы 19 ст. вёска — 16 двароў, 216 жыхароў; ваколіца — 18 двароў, 92 жыхары; маёнтак — 2 двары, 8 жыхароў. На пач. 20 ст. ў вёсцы 19 двароў, 122 жыхары, у маёнтку 7 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 44 двары, 221 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1. 1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лемяшэвіцкім с/с, 52 двары, 287 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 284 жыхары. У 1970 г. 216 жыхароў, у складзе калгаса «Прыпяць». У канцы 20 ст. 23 двары, 35 жыхароў. Планіровач-

на складаецца з прамалінейнай вуліцы блізкай да шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, рэдка драўлянымі сял. сядзібамі.

**ТЫРВОВІЧЫ** — вёска ў Барычавіцкім с/с, за 45 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 225 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па дарозе, што злучае вёску з аўтадарогай Плотніца—Лемяшэвічы. 55 гаспадарак, 109 жыхароў (2005).

Вядомы з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве, гаспадарская ўласнасць. Згадваюцца прывілеі Вітаўта і Казіміра на выслугу ў сяле баярыну Мікалаю Ляху Сырапяту. Да сярэдзіны 16 ст. наданне перайшло яго нашчадку, войскаму пінскаму Марціну Янавічу Шырме. У 1532 г. ад каралевы Боны Сфорца атрымаў 4 пустыя дварышчы харунжы Пінскага пав. Сямён Юхнавіч Орда. Фундушавыя наданні ў сяле меў Пінскі Лешчанскі манастыр. Паводле інвентара 1588 г. ў сяле 100 дварышчаў, манастыру належала дварышча Ананіцкае. З 1560-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. Паводле інвентара 1846 г., маёнтак Віктара Дамінікавіча Орды, у складзе вёсак Тырвовічы і Грыўкавічы — 16 цяглых двароў, 140 рэвізскіх душ, у т.л. ў Тырвовічах — 9 двароў, 86 рэвізскіх душ. Былі вадзяны млын на р. Стыр, 3 карчмы (на водкупе ў 80 руб. серабром у год). Сяляне ў маёнтку мелі 17 коней, 72 валы, 30 вулляў, 14 валок 17,5 маргоў зямлі, быў касцёл. У канцы 1860-х г. вёска і маёнтак Орды, цэнтр сельскай грамады ў Лемяшэвіцкай вол., 73 рэвізскія душы, з іх 48 сялян-уласнікаў. У 1886 г. было 9 двароў, 158 жыхароў, царква. У канцы 19 ст. 25 двароў, 116 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа. На пач. 20 ст. ў вёсцы 31 двор, 221 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 56 двароў, 286 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Біжаравіцкім с/с, 82 двары, 448 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 12 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 432 жыхары. У 1970 г. 387 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда». У канцы 20 ст. 68 двароў, 139 жыхароў. Царква Пакрова Багародзіцы.

**ХВОРАСНА** — вёска ў Валішчанскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 218 км ад Брэста, аўтадарогамі звязана з вёскамі Вулька Лаўская, Валішча і шашой Івацэвічы—Пінск. 137 гаспадарак, 281 жыхар (2005).

Былое каралеўскае сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, затым маёнтак Друцкіх-Любецкіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1818 г. і 1828 г. за даўгі і па купчых лістах маёнтак часткамі перайшоў Статкоўскім і Куранецкім. Паводле інвентара 1847 г., уласнасць Ігната Статкоўскага, складаўся з фальварка і 3 вёсак, усяго 25 цяглых двароў, 230 рэвізскіх душ, 7,5 тыс. маргоў зямлі, у т.л. ворыва 885 маргоў; 4 карчмы, вінакурня (да 800 вёдраў), 2 млыны (ветраны і валовы); 31 конь, 70 валоў, 14 вуллёў. У в. Хворасна 17 двароў, 110 рэвізскіх душ, 8 коней, 52 валы. Частка двароў належала Лагішынскаму касцёлу. У ліку рамеснікаў у маёнтку згадваюцца сталяры, бондары, калеснікі, смалакуры; рабілі сані, дугі і інш. У 1860-я г. вёскі Хворасна-1 і Хворасна-2 у складзе Валішчанскай сельскай грамады Лагішынскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У Хворасна-1 — 75 рэвізскіх душ належалі Статкоўскім; у Хворасна-2 13 душ — памешчыку Сташэвічу (маёнтак Наваземля). У 1897 г. вёска, 57 двароў, 339 жыхароў, хлебазапасны магазін; маёнтак Няхаеўскага — 3 двары, 12 душ. На пач. 20 ст. ў вёсцы 57 двароў, 402 жыхары; у маёнтку — 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Лагішынскай гміне Пінска-



га пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 50 двароў, 294 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 88 двароў, 448 жыхароў, пач. школа, хата-чытальня, фельч.-акушэрскі пункт. Пл. сельсавета 6650 га, 7 паселішчаў, у т.л. 4 хутары, усяго 327 гаспадарак, 1738 жыхароў, 3 пач. школы, 2 крамы. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 17 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1959 г. ў Лагішынскім с/с, 612 жыхароў. З 1962 г. ў Пінскім р-не. З 1965 г. ў Валішчанскім с/с. У 1970 г. 670 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна. У канцы 20 ст. 135 двароў, 285 жыхароў. Базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.

**ХЛЯБЫ** — вёска ў Лапацінскім с/с, за 20 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 191 км ад Брэста, на аўтадарозе Пінск—Столін. 31 гаспадарка, 59 жыхароў (2005).

Вядомы з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве, гаспадарская ўласнасць. Згадваецца ў прывілеях Вітаўта і Казіміра на выслугу «в селе Хлябех чотыри дворища...» баярына Мікалая Ляха Сырапяты. Да сярэдзіны 16 ст. наданне перайшло яго нашчадку, войскаму пінскаму Марціну Янавічу Шырму. У 1524 г. пацверджана каралевай Бонай Сфорца. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1840-я г. сяло, уласнасць Ксаверыя Бутрымовіча, 16 двароў, 68 жыхароў, 186 дзес. зямлі. У 1860-я г. вёска ў складзе Лапацінскай сельскай грамады Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 77 сялян-уласнікаў і 5 дваровых людзей. У 1897 г. 37 двароў, 275 жыхароў. На пач. 20 ст. ў вёсцы 14 двароў, 238 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 62 двары, 343 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл. З 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лапацінскім с/с, 74 двары, 405 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 10 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 326 жыхароў. У 1970 г. 158 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна». У канцы 20 ст. 32 двары, 64 жыхары.

**ХОЙНА** — вёска, цэнтр Хойнаўскага с/с і СВК «Хойнаўскі», за 25 км на Пд ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 200 км ад Брэста, 2 км ад левага берага р. Прыпяць. Транспартныя сувязі па аўтадарогах Хойна—Месткавічы, Хойна—Дамашыцы. 175 гаспадарак, 440 жыхароў (2005).

Упамінаецца ў 1554 г. як сяло, дзярж. ўласнасць, цэнтр войтаўства Пінскага староства ВКЛ. Паводле рэвізіі Л.Война (1561—66), складалася з 6 дварышчаў, мела 17 валок 11 $^{1}/_{2}$ маргоў зямлі, у т.л. войтаўскіх 2 $^{1}/_{2}$ марга. На чыншы з агульнага ліку было 15 валок 19 маргоў, за якія плацілі 14 коп 33 грошы 4 пенязі, давалі 12 бочак аўса. У дварышчы Батыеўскім, якое заснавалі гаспадарскія сяляне Батыевічы са сваімі «потужниками», паводле рэестра лічылася 1 валока 28 маргоў 28 прутоў зямлі. Па «старыне» плацілі: палюддзя 7 грошаў 4 пенязі, пасошнага 20 грошаў, «лагвіцы» 21 грош, пісчага 12 грошаў, давалі 4 бочкі аўса, усяго платы было 1 капа 57 грошаў 4 пенязі. Па валочнай памеры тут было 2 валокі 25 маргоў «земли подлой» з платай у 2 капы 49 $^{1}/_{2}$ грошаў, 3 бочкі аўса. З канца 1560-х г. дзярж. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, затым уласнасць Марцынкевічаў, Жабаў, Ордаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав., Мінскай губ. У 1840-я г. ўласнасць камандора Івана Жабы. Маёнтак уключаў 5 вёсак, 110 цяглых двароў, 852 рэвізскія душы. Паводле плана 1808 г. было 12 валок 16 маргоў зямлі (фальварак), у сялян 98 валок 18 маргоў. У 1845 г. ў маёнтку 5 корчмаў, паравая вінакурня (да

2,2 тыс. вёдраў), вадзяны млын. У вёсцы — 33 двары. У 1860-я г. сяло, цэнтр сельскай грамады і воласці, 33 двары, 296 дзярж. сялян, вінакурны з-д, ветраны млын; маёнтак Орды, 160 душ. У 1872 г. Васкрасенская царква. У 1880 г. было 255 жыхароў, нар. вучылішча. У 1897 г. сяло, 115 двароў, 676 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, піцейны дом, нар. вучылішча; маёнтак Орды — 5 двароў, 16 душ сялян, валовы млын. На пач. 20 ст. сяло — 141 двор, 873 жыхары; маёнтак — 16 двароў, паштовая станцыя, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны, і фальварак у Пінскім пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 74 двары, 401 жыхар, паштовае агенцтва. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 182 двары, 868 жыхароў, 7-гадовая школа, медпункт, хата-чытальня, паштовае аддзяленне. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 16 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., працаваў калгас імя Свярдлова, аб'ядноўваў 568 гаспадарак, 1760 членаў. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1959 г. 818 жыхароў. У 1970 г. 631 жыхар; цэнтр калгаса імя Свярдлова, лесапільня, млын, швейная і шавецкая майстэрні, сярэдняя школа, урачэбны і ветучасткі, аптэка, аддз. сувязі, 2 магазіны, клуб, б-ка. У канцы 20 ст. 189 двароў, 472 жыхары, сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, аддзяленні сувязі і «Беларусбанка», фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 блізкіх да шыротнай арыентацыі вуліц. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХРЫСЦІБАЛАВІЧЫ** — вёска ў Лемяшэвіцкім с/с, за 27 км на У ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 202 км ад Брэста, на аўтадарозе Чарнова-2—Плотніца. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2005).

У дакументах 16 ст. вядомы падназвамі Хрысціболатава, Хрыстабалота. Паводле рэвізіі С.Хвальчэўскага (1553—55), гаспадарскае сяло, цэнтр войтаўства ў Зарэчнай вол. Пінскага староства. Заселена каралеўскімі сялянамі, у якіх 1 валока 15 маргоў зямлі, плацілі чынш 2 капы 22 грошы. У 1560-я г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, у трыманні войта: «снял Мартин Христиболото с братией...», быў млын. У апісанні зямель 1784 г. згадваецца як ваколіца. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Маразовічы, 8 двароў, 67 дзярж. сялян. У 1860-я г. вёска ў складзе Асабовіцкай сельскай грамады Лемяшэвіцкай вол., 35 рэвізскіх душ дзярж. сялян. У 1897 г. вёска, 17 двароў, 104 жыхары; сядзіба — 1 двор, 2 жыхары. На пач. 20 ст. ў вёсцы 20 двароў, 110 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 30 двароў, 147 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лемяшэвіцкім с/с, 40 двароў, 214 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 179 жыхароў. У 1970 г. 144 жыхары, у складзе калгаса «Прыпяць». У канцы 20 ст. 18 двароў, 27 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароценькай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЦВЯРОЎКА** — вёска ў Мерчыцкім с/с, на левым беразе р. Ясельды, каля Агінскага канала, за 22 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 200 км ад Брэста. 37 гаспадарак, 67 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Парэцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыка Твардоўскага, 75 душ сялян-уласнікаў. У канцы 19 ст. вёска — 41 двор, 297 жыхароў; маёнтак каля вёскі пад назвай Мартынаўка памешчыцы Веры фон Гільдэб-



рант, 4 двары, 15 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска, 53 двары, 321 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 17 двароў, 187 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. сяло ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Парэцкім с/с, 65 двароў, 317 жыхароў, створаны калгас імя Кірава (60 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 5 жыхароў. З фронту не вярнуліся 15 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў Масевіцкім с/с, 331 жыхар. У 1970 г. 301 жыхар, у складзе саўгаса «Палескі». З 1973 г. ў Мерчыцкім с/с. У 2000 г. 47 двароў, 79 жыхароў. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з мерыдыянальнай вуліцы (уздоўж канала), перакрыжаванай на Пд кароценькай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЦЕПЯНЕЦ** — вёска ў Бярозавіцкім с/с, за 12 км на З ад Пінска, 175 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Малоткавічы на лініі Брэст—Гомель. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, далей аўтадарозе Бярозавічы—Пінск. 82 гаспадаркі, 211 жыхароў (2005).

На пач. 1620-х г. сяло ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, у складзе маёнтка Жабчыцы, 8 валок, з якіх плацілі чынш па 30 грошаў, давалі дзякла. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 2-й пал. 19 ст. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Жабчыцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць графа Красіцкага, 59 душ сялян. У канцы 19 ст. вёска — 31 двор, 193 жыхары, капліца на могілках; сядзіба маёнтка — 2 двары, 11 жыхароў. На пач. 20 ст. 48 двароў, 259 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 55 двароў, 282 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Паршавіцкім с/с, 75 двароў, 374 жыхары; створаны калгас «Новае жыццё». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1957 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 389 жыхароў. У 1970 г. 390 жыхароў, у складзе саўгаса імя Кутузава. У канцы 20 ст. 98 двароў, 221 жыхар. Размешчаны псіханеўралагічны інтэрнат, магазін. Планіровачна складаецца з крыху скрыўленай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЦЕРАБЕНЬ** — вёска ў Бобрыкаўскім с/с, каля р. Бобрык, за 60 км на ПнУ ад Пінска, 235 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Малькавічы на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Бобрык— Малая Плотніца. 171 гаспадарка, 331 жыхар (2005).

Даўняя вотчына Скірмунтаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Дабраслаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., маёнтак Скірмунта, 78 душ сялян. У 1886 г. 31 двор, 243 жыхары, царква, ветраны млын. У канцы 19 ст. 49 двароў, 437 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква. На пач. 20 ст. вёска — 61 двор, 557 жыхароў; маёнтак — 14 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. вёска — 98 двароў, 541 жыхар, царква. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 12.10.1940 г. ў Бобрыкаўскім с/с Лагішынскага р-на, сяло, 31 двор, 197 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. знішчылі 89 двароў, загубілі 13 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 841 жыхар. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. 884 жыхары, у складзе калгаса імя Чапаева. У канцы 20 ст. 194 двары, 397 жыхароў. У 2005 г. вёска ў СВК «Бобрык», 171 двор, 331 жыхар; базавая

школа, клуб, крама, царква. На могілках 2-павярховая званіца (1869). Існавала Свята-Увядзенская царква, зруйнавана пасля вайны.

**ЦЕРАБЕНЬ** — вёска ў Лемяшэвіцкім с/с, на правым беразе р. Прыпяць, за 21 км на У ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Пінск—Лунінец, 197 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па аўтадарозе Церабень—Плотніца. 12 гаспадарак, 16 жыхароў (2005).

Вядома з 15 ст., гаспадарскае сяло ў Пінскім княстве, у складзе маёнткаў княгіні Мар'і Сямёнавай. У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1495 г. ў яе дарчай грамаце баярыну сваёй рады Івану Фёдаравічу Полазу на «именейцо Теребенское... и с тым озером, што под Теребнем». У 1498 г. наданне пацвердзіў вял. кн. ВКЛ Аляксандр, у 1522 г. — Жыгімонт I Стары. Паводле попісу войска 1528 г. Полаз са сваіх маёнткаў выстаўляў у войска 7 коней. Прывілеем Жыгімонта I маёнтак Церабень перайшоў да Льва Іванавіча Полаза. Праз шлюб яго дачкі Соф'і Львоўны ў якасці пасагу ўласнікам маёнтка стаў шляхціц, пінскі гараднічы Іван Кгадзебскі, сын Васіля Кгадзебскага, які ў 1540 г. атрымаў шляхецтва і радавы герб ад караля Жыгімонта I. Пасля прыняцця манаства пад імем Васіян у 1549 г. ўзначаліў Пінскую епіскапскую кафедру па прызначэнні каралевы Боны Сфорца. Пазней маёнтак пераходзіць да Агінскіх, з 1759 г. — полацкаму кашталяну Адаму Бжастоўскаму па шлюбе з Ганавефай з Агінскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З пач. 19 ст. ўласнасць Ордаў. У 1860-я г. вёска і маёнтак у Лемяшэвіцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 29 сялянуласнікаў. У канцы 19 ст. ў вёсцы 22 двары, 123 жыхары, хлебазапасны магазін; у маёнтку — 5 двароў, 21 жыхар. На пач. 20 ст. 20 двароў, 134 жыхары, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і фальварак у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 39 двароў, 212 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лемяшэвіцкім с/с, 57 двароў, 288 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі 89 двароў, загубілі 13 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 205 жыхароў. У 1970 г. 159 жыхароў, у складзе калгаса «Прыпяць». У канцы 20 ст. 20 двароў, 29 жыхароў. Помнікі археалогіі — селішчы 4—1-га тысячагоддзяў да н.э.; стаянкі позняга неаліту, бронзавага і жал. вякоў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧАМЛЯ** — вёска ў Бобрыкаўскім с/с, на р. Бобрык, за 63 км на ПнУ ад Пінска, 238 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Малькавічы на лініі Брэст—Гомель, на аўтадарозе Бобрык—Малая Плотніца. 83 гаспадаркі, 171 жыхар (2005).

У канцы 18 ст. вёска ў Пінскім пав. Мінскай губ., у складзе маёнтка Бобрык Нагеляў. У 1840-я г. 10 двароў, 29 рэвізскіх душ мужчынскага полу. У 1860-я г. ў маёнтку памешчыка Бартноўскага, у складзе Церабенскай сельскай грамады Дабраслаўскай вол., 58 рэвізскіх душ, 10 двароў. У 1897 г. ў вёсцы 16 двароў, 139 жыхароў. На пач. 20 ст. 20 двароў, 168 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 35 двароў, 211 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. сяло ў Бобрыкаўскім с/с, 22 двары, 113 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 14 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёскі Старая Чамля (207 жыхароў), Новая Чамля (168 жыхароў), якія ў хуткім часе аб'ядналіся. У 1970 г. 441 жыхар, у складзе калгаса імя Чапаева. У канцы 20 ст. 90 двароў, 184 жыхары. У 2005 г. ў СВК



«Бобрык», 83 двары, 171 жыхар; клуб, магазін.

**ЧАМЯРЫН** — вёска ў Парэцкім с/с, на правым беразе р. Ясельда, за 38 км на ПнЗ ад горада і чыг ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 209 км ад Брэста, на аўтадарозе Чамярын—Табулкі. 166 гаспадарак, 354 жыхары (2005).

Вядома з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве. У 1495 г. пінская княгіня Мар'я Сямёнава падаравала маёнтак Чамярын слузе Фёдару Цішковічу. Пазней ён перайшоў да ўнука Васіля Фядзюшкі. У 1522 г. правы на маёнтак пацвердзіў кароль польскі і вял. кн. ВКЛ Жыгімонт І Стары на імя Фёдара Федзюшковіча. Быў заселены сялянамі-даннікамі. З 1521 г. ў Пінскім старостве Падляшскага ваяв. ВКЛ. У сярэдзіне 16 ст. сяло, шляхецкая ўласнасць. З канца 16 ст. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. У 1646 г. двор і маёнтак Багумілы Немяровічаўны Цярлецкай. Частка маёнтка была прададзена Войнам, потым другую частку набыў Вінцэнт Орда. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска, цэнтр сельскай грамады ў Парэцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 134 сялян-уласнікаў. У 1880-я г. ўласнасць Скірмунтаў, 131 жыхар, 425 дзес. зямлі. У 1897 г. былі 71 двор, 508 жыхароў, хлебазапасны магазін, крама, піцейны дом. У 1909 г. вёска, 103 двары, 578 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Парэцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. было 115 двароў, 609 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 180 двароў, 868 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 18 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. вёска ў Парэцкім с/с, 891 жыхар. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. 901 жыхар, у складзе калгаса «Праца». У канцы 20 ст. 181 двор, 392 жыхары, сельскі клуб, б-ка, магазін. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Планіровачна складаецца з двух крывалінейных шыротных вуліц, перакрыжаваных 2 прамалінейнымі, блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**ЧАРНЕЕВІЧЫ** — вёска ў Малоткавіцкім с/с, за 6 км на З ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 179 км ад Брэста, за 3 км ад шашы Брэст—Гомель. 108 гаспадарак, 249 жыхароў (2005)

Вядома з 15 ст., сяло ў Пінскім княстве, у складзе валасцей пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай і яе сына, кн. Васіля. Згадваецца ў 1492 г. ў яе дарчай грамаце баярыну, намесніку пінскаму Фурсу Іванавічу на два дварышчы ў Чарнеевічах (Домнескае і Баганаўшчына). У 1515 г. кн. Фёдар Іванавіч Яраслвіч даў тут зямельныя наданні свайму служэбніку, падчашаму Венядзікту Фурсовічу (4 дварышчы). У 1518 г. наданне пацвердзіў кароль польскі і вял. кн. ВКЛ Жыгімонт І Стары. З 1521 г. ў Пінскім старостве, у складзе валасцей каралевы Боны Сфорца. Зямельныя фундушы ў сяле дадзены пінскай Нікольскай царкве. У сярэдзіне 16 ст. сяло, цэнтр войтаўства ў Пінскім старостве. Паводле валочнай памеры ў войтаўстве было больш за 30 валок зямлі. У 1579 г. згадваецца як маёнтак Чарнеўскіх у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1677 г. згадваецца як уласнасць Рыгора Алехнавіча Бурца, пазней Нелюбовічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1860-я г. вёска і маёнтак у складзе Крайновіцкай сельскай грамады Жабчыцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Вікенція Скірмунта, 59 душ сялян. У 1880-я г. было 57 жыхароў, 425 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска, 30 двароў, 250 жыхароў, капліца на могілках, ветраны млын, кузня; маёнтак Ж.Скірмунтавай — 3 двары, 4 жыхары, карчма; маёнтак Я.Скірмунта — 2 двары, 14 жыхароў. На пач. 20 ст. вёска — 46 двароў, 260 жыхароў; маёнтак — 2 двары, 14 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска і 2

фальваркі ў Жабчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 46 двароў, 239 жыхароў; у фальварках 24 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Жабчыцкім р-не. З 12.10.1940 г. ў Жабчыцкім с/с, 80 двароў, 376 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 9 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл., у Малоткавіцкім с/с. З 1954 г. ў Пінскім р-не. У 1960 г. 358 жыхароў. У 1970 г. 326 жыхароў; у Пінскім саўгасе-тэхнікуме. У канцы 20 ст. 103 двары, 222 жыхары. ААТ «Пінскі сельгасхарч», магазін. Планіровачна складаецца з крыху выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧОРНАВА-1** — вёска ў Лемяшэвіцкім с/с, за 27 км на У ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 202 км ад Брэста, на аўтадарозе Чарнова-2—Плотніца. 38 гаспадарак, 60 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 15 ст. гаспадарскае сяло ў Пінскім старостве. Згадваецца ў прывілеі караля польскага і вял. кн. ВКЛ Казіміра Ягайлавіча баярыну Мікалаю Ляху Сырапяту. У 1498 г. дварышча ў Чорнаве атрымаў ад князіні Мар'і Сямёнавай канюшы пінскі Сянько Дзмітравіч Крывецкі. Вотчына Сырапяты ў 16 ст. перайшла войскаму пінскаму Марціну Янавічу Шырмічу, што было пацверджана ў 1524 г. каралевай Бонай Сфорца і Жыгімонтам II Аўгустам (1558). У 1560-я г. згадваецца зямянская ўласнасць Івана Фурса — дварышча Цітовічы. Паводле рэвізіі Л.Войны, у сяле Чорнава лічылася 1 валока 15 прутоў зямлі. У сярэдзіне 16 ст. гаспадарскае сяло ў Хрысцібалоцкім войтаўстве, у складзе гаспадарскага дварца Стытычава. З 1560-х г. у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 1739 г. ўпамінаецца як маёнтак. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1844 г. ў маёнтку Адама Неслухоўскага. У в. Чорнава 18 двароў, 159 рэвізскіх душ; у маёнтку Чорнава 37 валок 14 маргоў зямлі. У сялян было па 20 маргоў на двор, 33 кані, 53 валы. У маёнтку 2 агароднікі, 12 дваровых, у т.л. ткач. У 1860-я г. ў вёсцы Чорнава-1 (уласнасць Неслухоўскай) 74 рэвізскія душы, у сельскай грамадзе Болгары Лемяшэвіцкай вол. У 1897 г. вёска, цэнтр сельскай грамады, 30 двароў, 240 жыхароў, хлебазапасны магазін; у маёнтку 4 рэвізскія душы. На пач. 20 ст. вёска, 31 двор, 286 жыхароў; у маёнтку — 7 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Чорнава-1 і фальварак у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. ў вёсцы 58 двароў, 282 жыхары; у фальварку 2 двары, 10 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лемяшэвіцкім с/с, 84 двары, 352 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Не вярнуліся з фронту 13 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. ў вёсцы 432 жыхары. У 1970 г. 317 жыхароў, у складзе калгаса «Прыпяць». У канцы 20 ст. 45 двароў, 70 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧОРНАВА-2** — вёска ў Лемяшэвіцкім с/с, за 27 км на У ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Пінск—Лунінец, 202 км ад Брэста. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У 19 ст. вёска, уласнасць Неслухоўскіх, у Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. было 5 двароў. У канцы 19 ст. ваколіца, 34 двары, 207 жыхароў, капліца, кузня. На пач. 20 ст. 28 двароў, 161 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 40 двароў, 201 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Лемяшэвіцкім с/с, 41 двор, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся



7 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 144 жыхары. У 1970 г. 105 жыхароў, у складзе калгаса «Прыпяць». У канцы 20 ст. 17 двароў, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з кароценькай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЧУХАВА** — вёска ў Навадворскім с/с, каля вадасховішча Пагост, за 44 км на ПнУ ад Пінска, 219 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Пінск—Лунінец. 443 гаспадаркі, 1159 жыхароў (2005).

У 17 ст. ўласнасць Сцяткевічаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1844 г. вёска ў складзе маёнтка Дабраслаўка, уласнасць Німфы Бутрымовічавай, 56 душ сялян, 7 двароў. У 1860-я г. цэнтр сельскай грамады ў Дабраслаўскай вол., вёскі: Чухава-1 — 142 душы, уласнасць Нелюбовіча, у складзе маёнтка Плянта-Мураваная; Чухава-2, 78 сялян і 8 аднадворцаў маёнтка Юзэфін Скірмунта; Чухава-3 — 22 душы, у маёнтку Дабраслаўка памешчыка Бутрымовіча; Чухава-4, у маёнтку Добрая Вулька — 4 душы, уласнасць Будзіцкай. У 1886 г. сяло, 65 двароў, 668 жыхароў, праваслаўная царква. У 1897 г. вёска, 121 двор, 844 жыхары, царква, хлебазапасны магазін; сядзіба ў маёнтку Плянты памешчыка Нелюбовіча, 10 двароў, 110 душ сялян. У вёсцы нар. вучылішча. На пач. 20 ст. 167 двароў, 1055 жыхароў, нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Дабраслаўскай гміне Лунінецкага, з 1922 г. Пінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. 194 двары, 1115 жыхароў, царква. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. у Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, сяло, 288 двароў, 1512 жыхароў, пач. школа, хатачытальня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 43 жыхары. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл, працаваў калгас «Шлях Леніна», 596 двароў, 1547 жыхароў. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. вёска ў Навадворскім с/с, 1713 жыхароў, цэнтр калгаса «Прагрэс», сярэдняя школа, Дом культуры, 2 б-кі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. У канцы 20 ст. 452 двары, 1267 жыхароў, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі і «Беларусбанка», магазін. Праваслаўная капліца і царква. Брацкая магіла чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1919 г. ў баі супраць польскіх войск. Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Помнік археалогіі — стаянка 4—3-га тысячагоддзяў да н.э. Планіровачна складаецца з 2 шыротных крывалінейных і 1 прамалінейнай вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі. Астатняя забудова не носіць сістэмнага характару. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма доктара філалагічных навук А.М.Ненадаўца.

**ЧЭНЧЫЦЫ** — вёска ў Ставоцкім с/с, на левым беразе р. Мерачанка, за 11 км на Пн ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 186 км ад Брэста, каля шашы Пінск—Івацэвічы. 74 гаспадаркі, 222 жыхары (2005).

Паводле Г.Б.Валовіча, у сярэдзіне 16 ст. сяло Чэрнчычы, цэнтр войтаўства ў Пінскім пав. ВКЛ. Па валочнай памеры лічылася больш за 30 валок зямлі. Фундушавыя землі ў сяле мела Ставоцкая царква святых Іакіма і Ганны (у 1642 г. — 14 маргоў). Паводле інвентара 1671 г., сяло ў Каўняцінскім войтаўстве, 13 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска ў Навасельскай сельскай грамадзе Ставоцкай вол., у складзе маёнтка Заполле Пуслоўскага, 54 жыхары. У 1897 г. вёска — 26 двароў, 210 жыхароў; пасёлак — 7 двароў, 40 жыхароў. На пач. 20 ст. 33 двары, 263 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Ставоцкай, з 1928 г. ў Пінкавіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 31 двор, 185 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г.

ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Ставоцкім с/с, 60 двароў, 314 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 319 жыхароў. У 1970 г. 269 жыхароў, у складзе саўгаса-тэхнікума. У канцы 20 ст. 63 двары, 164 жыхары, магазін. Планіровачна складаецца з паўкруглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай рэдка, драўлянымі сял. сядзібамі.

**ШАЛОМІЧЫ** — вёска ў Барычавіцкім с/с, за 34 км на ПдУ ад горада і чыг. ст. Пінск на лініі Брэст—Гомель, 214 км ад Брэста. Транспартныя сувязі па дарозе Шаломічы—Лапацін і далей па аўтадарозе Столін—Пінск. 25 гаспадарак, 43 жыхары (2005).

Даўняя вотчына Шаламіцкіх. У канцы 15 ст. сяло ў Пінскім княстве. Згадваецца ў прывілеях пінскай княгіні Мар'і Сямёнавай, пазней кн. Ф.І.Яраславіча. У 1572 г. згадваецца выслуга Рыгора Шаламіцкага. Паводле попісу войска 1567 г. зямельную ўласнасць у сяле мелі зямяне Герман Сцяцэвіч, Янка Міхнавіч Шалома «з дому Шоломічъ», якія выстаўлялі па 1 кані; дымнікі Лявон Федкавіч і Грыц Дзенісовіч — ставілі адпаведна «клячу» і «мерина». Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ. У 1860-я г. вёска і маёнтак у Біжаравіцкай сельскай грамадзе Лемяшэвіцкай вол., уласнасць Пратасавіцкага, 23 душы сялян. У канцы 19 ст. ваколіца — 23 двары, 187 жыхароў. У 1909 г. было 23 двары, 118 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лемяшэвіцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 23 двары, 157 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. вёска ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Пінскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Біжаравіцкім с/с, 37 двароў, 292 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 13 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 г. 203 жыхары. У 1970 г. 158 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда». У канцы 20 ст. 30 двароў, 54 жыхары, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з кароценькай мерыдыянальнай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ШПАНАЎКІ** — вёска ў Лагішынскім пас. Савеце, за 33 км на ПнЗ ад горада і чыг. ст. Пінск, 202 км ад Брэста, каля аўтадарогі Лагішын—Івацэвічы. 12 гаспадарак, 23 жыхары (2005).

У 1631 г. згадваецца с. Шпанавічы з падданымі уніяцкага мітрапаліта Іосіфа Руцкага. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1796 г. ў Пінскім пав. Мінскай губ., уласнасць Друцкіх-Любецкіх, затым Статкоўскіх, у складзе маёнтка Хворасна. У 1860-я г. вёска ў Валішчанскай сельскай грамадзе Лагішынскай вол., уласнасць Статкоўскага, 11 рэвізскіх душ. У 1897 г. вёска і фальварак у маёнтку Хворасна, 10 двароў, 68 душ сялян. На пач. 20 ст. ў вёсцы 10 двароў, 65 жыхароў і ў фальварку 2 двары, 15 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 12 двароў, 69 жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1. 1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10. 1940 г. вёска ў Лагішынскім с/с, 34 двары, 195 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З фронту не вярнуліся 2 жыхары. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. 93 жыхары, у складзе калгаса «Беларусь». У канцы 20 ст. 14 двароў, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай мерыдыянальнай вуліцы, двухбакова забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЮЗАФІНЫ** — вёска ў Лышчанскім с/с, каля р. Вісліца, за 42 км на Пн ад Пінска, 217 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Парахонск на лініі Брэст—Гомель. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2005).

Каля сярэдзіны 19 ст. маёнтак Пятра Чахоўскага ў 2-м стане Пінскага пав. Мін-



скай губ., 24 двары (22 цяглыя), 156 рэвізскіх душ, у т.л. ткач-агароднік, аднадворац, 10 дваровых людзей. У ліку рамеснікаў згадваюцца каваль, бондар, калёснік, таксама выраблялiся сані, дугі. У маёнтку 1 тыс. дзес. угоддзяў, з іх у сялян 486, у т.л. 360 ворнай зямлі, 67 галоў рабочай жывёлы. Былі 2 млыны (ветраны, валовы), конны з-д (9 галоў), карчма, якая здавалася ў арэнду яўрэям-сядзельцам за 75 руб. серабром у год. З 1860-х г. у Дабраслаўскай вол. Пінскага пав. (Юзафовічы). У 1897 г. 4 двары, 24 жыхары, уласнасць Скірмунта. На пач. 20 ст. маёнтак Юзэфін, было 49 двароў, 95 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, калонія ў Лагішынскай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 8 двароў, 81 жыхар. З 1939 г. ў БССР. З 4.12.1939 г. ў Пінскім пав. Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. ў Лагішынскім р-не. З 12.10.1940 г. ў Дубраўскім с/с, хутар, 14 двароў, 92 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1960 пасёлак у Лышчанскім с/с, 78 жыхароў. З 1962 г. ў Пінскім р-не. У 1970 г. 64 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава. У канцы 20 ст. 13 двароў, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з кароценькай вуліцы, забудаванай драўлянымі сял. сядзібамі.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4 п, воп. 5, спр. 2126, 2240, 2330, 2335, 2338; ф. 30, воп. 5, спр. 6760, 6763; воп. 9, спр. 2378, 2380.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 21, воп. 1, спр. 74, 75; ф. 142, воп. 1, спр. 916, 1234, 1236, 1239, 1258, 1274, 1277, 1283, 1287, 1289, 1311, 1317, 1327, 1338, 1345, 1351, 1353, 1354, 1355, 1356, 1364, 1365, 1377; ф. 333, воп. 9, спр. 673, 674, 678, 684, 1133, 1134; ф. 1430, воп. 1, спр. 8429, 8475; ф. 2502, воп. 1, спр. 145, 149.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 536, 1328, ч. 1.

Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці. Справочник административно-территориального деления Брестской области в границах 1921—1939 г. Брест, 1974; ф. 1016, воп. 1, спр. 536, 542, 547.

Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. Т. 1—5. СПб., 1846—53.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Минская губерния. Т. 9, ч. 4. СПб., 1848.

Зеленский И. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. Составил И.Зеленский. Ч. 1—2. СПб., 1864.

Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 1—39. Вильна, 1865-1915.

Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа. Т. 3. Вильна, 1867.

Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском..., составленная старостою мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 г. Вильна, 1867.

Труды Минского губернского статистического комитета. Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии. Вып. 1. Мн., 1870.

Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Мн., 1870.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Составил И.Зелинский. СПб., 1873.

Писцовая книга бывшего Пинского Староства, составленная по повелению короля Сигизмунда Августа в 1561—1566 годах пинским и кобринским старостою Лаврином Войною (с переводом на русский язык). Ч. 1. Вильна, 1874.

Бершадский С.А. Литовские евреи: История их юридического и общественного положения в Литве от Витовта до Люблинской унии, 1388—1569 г. СПб., 1883.

Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 г. Издание Виленской археографической комиссии. Вильна, 1884.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.




Архив Юго-Западной России. Ч. 7. Т. 1. Киев, 1886; Ч. 7. Т. 2. Киев, 1890.
Документы Московского архива Министерства юстиции / Подготовил М.В.Довнар-Запольский. Т. 1. М., 1897.
Памятная книжка Минской губернии на 1898 год. [Сост. А.П.Смородский]. Мн., 1897.
Памятная книжка Минской губернии на 1901 год. Мн., 1900.
Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901.
Грушевский А.С. Пинское Полесье XIV—XVI вв. Ист. очерки. Туров, Городок и Пинск в составе В.К.Литовского. Пинское староство К.Боны, XIV—XVI вв. Киев, 1903.
Товаров А.В. Историко-статистическая справочная книжка Минской епархии. Мн., 1903.
Памятная книжка Минской губернии на 1906 год. Мн., 1905.
Довгялло Д.И. Пинский Лещинский монастырь в 1588 году. Мн., 1909.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Опись документов Виленского центрального архива древних актовых книг. Вып. 10. Вильна, 1913.
Отчет Пинской уездной земской управы за 1913 год. Пинск, 1913.
Русская историческая библиотека. Т. 33. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3. Книги публичных дел. Т. 1. Переписи войска литовского. Пг., 1915.
Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1 (IX—XVIII ст.). Мн., 1936.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1—3. Мн., 1959—61.
Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1966.
Прамысловыя прадпрыемствы дарэвалюцыйнай Беларусі. Мн., 1988.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.
Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.
Живописная Россия. Мн., 1994.
Лысенко П.Ф. Древний Пинск, XI—XIII вв. Мн., 1997.
Памяць: Гіст.-дак. хроніка Пінска. Мн., 1998.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 5. Мн., 1999.
Беларуская энцыклапедыя. Т. 12. Мн., 2001.
Памяць: Пінскі р-н. Мн., 2003.




Маштаб 1:550 000

Лічбамі пазначаны:

1 Ярашэвічы
2 Калазубы
3 Выброды
4 Мал. Краснік
5 Пасталова
6 Нямковічы
7 Шаняўцы
8 Навадворцы
9 Сілічы
10 Ражковічы
11 Піняны
12 Наскі
13 Грыневічы
14 Янаўшчызна
15 Вял. Якавічы
16 Мал. Якавічы
17 Палінова
18 Засімавічы
19 Шубічы
20 Сланімцы
21 Палоннае Забалацце
22 Слабудка
23 Хіцёўшчына
24 Сасноўка



# ПРУЖАНСКІ РАЁН

Размешчаны на ПнЗ Брэсцкай вобл. Утвораны 15.1.1940 г. Пл. складае 2,8 тыс. км², насельніцтва 60,1 тыс. чал. (2005). Пераважаюць сельскія жыхары, гар. насельніцтва 25 тыс. чал. Сярэдняя шчыльнасць 21 чал. на 1 км². Цэнтр раёна — г. Пружаны. На тэр. раёна размешчаны гар. пасёлкі Ружаны і Шарашова, 243 сельскія населеныя пункты. Адміністрацыйна падзяляецца на 14 сельсаветаў: Варанілавіцкі, Велікасельскі, Гарадзечанскі, Зеляневіцкі, Ліноўскі, Мокраўскі, Новазасімавіцкі, Пружанскі, Ружанскі, Старавольскі, Сухопальскі, Хараўскі, Шаняўскі, Шчарчоўскі, а таксама Ружанскі і Шарашоўскі пас. саветы.

Праз тэр. раёна праходзяць чыгункі Брэст—Масква, аўтадарогі Слонім—Высокае, Пружаны—Бяроза, Свіслач—Поразава—Пружаны, Ваўкавыск—Івацэвічы, Пружаны—Кобрын.

Большая частка тэр. раёна знаходзіцца ў межах Прыбугскай раўніны. Паверхня раўнінная, на асобных участках спадзістахвалістая. 80% яе знаходзіцца на вышынях 150—170 м. Найвышэйшы пункт раёна 202 м за 6 км на ПнУ ад г.п.



*Стары дуб на лясной паляне каля в. Шакуны.*



*Пружаншчына — край пагранічны: чарговы нарад заступіў на ахову дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь.*





*На вадасховішчы Гута.*

Ружаны. З карысных выкапняў ёсць торф, пяскі, гліны і суглінкі. На тэр. Пружанскага р-на цякуць рэкі Ясельда, Зальвянка, Нараў, Нараўка, Левая Лясная. Створаны вадасховішчы Гута, Паперня, Руднікі, Залессе. Пракладзены каналы Вінец і Мухавец. Пад лесам знаходзіцца 43,6% тэр. раёна. Найбольшыя лясныя масівы — Белавежская і Ружанская пушчы. Балотамі занята 3,3% пл. (найбуйнейшае балота — Дзікае).

На тэр. раёна знаходзіцца частка Нац. парку «Белавежская пушча», а таксама заказнікі рэсп. значэння: біялагічныя Міхалінска-Бярозаўскі лекавых раслін, Ружанская пушча, Буслаўка (частка), гідралагічны Дзікае (частка). Тут створаны заказнікі мясц.а значэння: біялагічны Выдранка, гідралагічны Зальвянка. У раёне ёсць ахоўныя тарфянікі: Гай, Лібярполь, Парасліна, Ясенец.



Краявід у Пружанскім раёне.



Рака Ясельда ў Пружанскім раёне.



Скульптурная кампазіцыя ў сутоку рэк Муха і Вец у г. Пружаны.

Агульная пл. с.-г. угоддзяў складае 131,2 тыс. га, з іх асушаных 47,6 тыс. га. Сельская гаспадарка раёна спецыялізуецца пераважна на малочна-мясной жывёлагадоўлі. Вырошчваюць збожжавыя і кармавыя культуры, бульбу, лён. Працуюць адкрытыя акцыянерныя аб'яднанні, унітарныя с.-г. прадпрыемствы, фермерскія гаспадаркі. Прам. прадпрыемствы выпускаюць сыр, масла, цэльнамалочныя прадукты, сухое абястлушчанае малако, плодаагародніннья кансервы, крухмал, безалкагольныя напіткі і інш. Ёсць прадпрыемствы па вырабе мэблевай фурнітуры, будаўнічых матэрыялаў, ільноваламна.

**ПРУЖАНЫ** — горад, цэнтр раёна і сельсавета. На р. Мухавец, за 89 км на У ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. Вузел аўтадарог на Брэст, Высокае, Шарашова, Слонім, Кобрын, Ваўкавыск і Ружаны. 19 570 чалавек (2005).

У канцы 13 — 1-й пал. 14 ст. Пружаншчына ў складзе ВКЛ, з 1569 г. — у Рэчы Паспалітай. У 1433 г. упершыню ўпамінаецца Прушанская вол. Існуе паданне, што паселішча на месцы сучасных Пружан заснавалі балцкія плямёны прусы, з





Алея парку ў Пружанах.

якімі звязана першасная назва паселішча Прусаны і назва Прушанская вол. Іншае паданне пра паходжанне назвы горада звязвае яе з «просам», якое ў далёкім мінулым было тут галоўнай с.-г. культурай.

У 1487—1589 гг. Пружаны былі вядомы пад назвай Дабучын. Да 1519 г. горад і ўсе пружанскія землі ўваходзілі ў склад Кобрынскага княства. У 2-й пал. 15 ст. тут існавалі княжацкі двор, псарня, 2 вуліцы — Сялецкая і Задворная. Двор служыў рэзідэнцыяй кобрынскіх князёў пад час іх палявання ў Ружанскай і Белавежскай пушчах. У 1473 г. была фундавана царква. Пасля смерці (каля 1490) апошняга прадстаўніка князёў Кобрынскіх па мужчынскай лініі Івана Сямёнавіча Пружанамі валодала некаторы час яго жонка Фядора. У 1501—18 гг. горад належаў сястры кн. Івана Сямёнавіча Ганне, жонцы маршалка польскага сейма Вацлава Косцевіча. Паводле прывілея, нададзенага ў 1519 г. вял. князем літ. Жыгімонтам I Старым, Вацлаў Косцевіч пасля смерці жонкі стаў пажыццёвым уладальнікам Пружан, якія з гэтага часу ўваходзілі ў склад Кобрынскага староства.

З 1520 г. Пружаны ў складзе Кобрынскага пав. Падляшскага ваяв., з 1566 г. ў Брэсцкім пав. Брэсцкага ваяв. З 1532 г. належалі каралеве Рэчы Паспалітай Боне Сфорца, якая дала гораду герб: на сярэбраным полі шчыта звілісты блакітны вуж паглынае малое дзіця. Бона Сфорца заахвочвала развіццё рамёстваў, гандлю і земляробства. Дзякуючы яе падтрымцы Пружаны сталі цэнтрам рамяства і гандлю. У 1563 г. тут было 7 вуліц: Кобрынская, Хватка, Загор'е, Дзярэчын, Сялецкая, Шырокая, Задворная; 347 дваровых участкаў, 278 дамоў; гар. насельніцтва 1250 чал. Гал. вуліцай лічылася Сялецкая (цяпер Р.Шырмы), на якой знаходзіліся рынак, царква і касцёл (пабудаваны ў 1522). У горадзе таксама існаваў каралеўскі двор, які служыў рэзідэнцыяй польскіх каралёў пад час іх палявання у Ружанскай і Белавежскай пушчах. Двор уяўляў з сябе драўляны комплекс, у які ўвахо-



Будынак Пружанскага раённага выканаўчага камітэта.



Ветэраны вайны і працы Пружанскага раёна.



*Аляксандра-Неўскі сабор (1857—80) у г. Пружаны.*



*Каталіцкая капліца (1852) на могілках у г. Пружаны.*

дзілі аднапавярховы палац на мураваным фундаменце, 2 флігелі, гасп. пабудовы (у т.л. млын). Уязджалі ў двор праз браму з двухсхільным дахам.

Пасля смерці каралевы Боны Пружаны перайшлі ва ўладанне да яе дачкі Ганны, якая ў 1588 г. дазволіла праводзіць тут 2 кірмашы на год. У 1589 г. Пружаны атрымалі магдэбургскае права. Шматлікія натуральныя павіннасці былі заменены грашовым падаткам. Пружанскія купцы вялі актыўны гандаль воскам і футрам з Польшчай. Пружаны славіліся вытворчасцю глінянага посуду і кафлі. У час войнаў сярэдзіны 17 — 1-й пал. 18 ст. горад быў моцна разбураны. У 1661 г. тут налічвася толькі 91 дым. У выніку разбурэнняў Пружаны перасталі прыносіць даход дзярж. казне і ў 1776 г. былі пазбаўлены магдэбургскага права. Да канца 18 ст. эканоміка горада была адноўлена. У 1791 г. тут 351 дым, 2094 жыхароў, працавалі рамесныя майстэрні. Пружаны з'яўляліся цэнтрам гандлю збожжам, жывёлай і гарэлкай.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Пружаны ўвайшлі ў склад Рас. імперыі, сталі цэнтрам павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1795 г. Кацярына II падаравала горад ген. П.А.Румянцаву. Пазней Пружаны належалі князям Трубяцкім, Булгарыным і інш. Пад час вайны 1812 г. горад быў разбураны. У 1817 г. тут меліся толькі 245 дамоў (усе драўляныя) і 824 жыхары. Паступова горад адбудоўваўся. Да 1825 г. адкрыта ваенная аптэка.



1



2

*Мемарыялы ахвярам фашызму: на брацкай магіле ў Белавежскай пушчы (2), спаленым вёскам раёна ў Пружанах (1).*







*Сквер памяці ўраджэнцаў Пружанскага раёна, якія загінулі ў Афганістане, у г. Пружаны.*

*Могілкі часоў 1-й сусветнай вайны ў Пружанах, дзе пахаваны загінуўшыя ці памерлыя ад ран ваеннаслужачыя Германіі, Аўстра-Венгрыі і Расіі.*

У 1836 г. засн. мяшчанскае вучылішча. У 1838 г. Пружаны мелі пл. 1398 дзес., 562 драўляныя і 3 мураваныя дамы, 3 забрукаваныя вуліцы: Новасялецкую, Рынчную, Кобрынскую. На цэнтр. плошчы горада знаходзіліся гаўптвахта, казначэйства, пажарная ахова, гасціны двор, які меў 44 крамы. Жыхары займаліся гандлем палатнянымі і суконнымі таварамі, с.-г. прадуктамі, але пераважаў гандаль вінам і гарэлкай. Праводзіліся 4 кірмашы на год, на якіх гандлявалі збожжам, сенам, дровамі, драўляным і гліняным посудам. Насельніцтва ў 1838 г. было 3908 чал. У 1838 г. адкрыта дваранскае вучылішча (замест мяшчанскага; 130 вучняў, 10 настаўнікаў); мелася бальніца на 12—20 месц. У 1842 г. адбыліся 2 кірмашы. У 1845 г. горад атрымаў новы герб: на жоўтым полі зялёная елка і паляўнічы ражок, што сімвалізавала сувязь горада з яго наваколлем — лесам, пушчай. Пазней, у 1861 г. на гербе з'явілася таксама выява зубра. У 1857 г. насельніцтва 5655 чал. У сярэдзіне 19 ст. дзейнічалі гарбарны, цукровы, маслабойны, тытунёвы з-ды, на кожным з іх працавалі ад 2 да 15 рабочых. Пружаны з'яўляліся гандлёвым і рамесным цэнтрам, сярод жыхароў налічвалася 22 купцы, больш за 200 ганчароў, 40 краўцоў, каля 40 шаўцоў, 10 кавалёў, 20 цесляроў; працавалі 44 крамы. Большая частка Пружан у 2-й пал. 19 ст.





*Знак «Нулявы кіламетр» у г. Пружаны.*

*Старажытны каменны ідал у г. Пружаны.*











*Фрагменты гістарычнай забудовы г. Пружаны.*

размяшчалася на правым беразе р. Мухавец. Гал. вуліца праходзіла па Кобрынскім шляху (цяпер вул. Савецкая).

Пад час паўстання 1863—64 гг. у наваколлі Пружан дзейнічалі атрады Р.Рагінскага, С.Сангіна, Б.Рыльскага. 13.2.1863 г. атрад пад камандаваннем Сангіна і Рагінскага колькасцю 100 чал. захапіў горад. Паўстанцы забралі з цэйхгауза ўсю зброю, амуніцыю, порах, шмат патронаў; у казначэйстве ўзялі каля 11 тыс. рублёў, выпусцілі з турмы ўсіх вязняў і напалі на кватэру гараднічага. Гар. ўлады не змаглі даць адпор паўстанцам. Начальнік каманды Пружанскай унутранай варты ўцёк з горада, пераапрануўшыся ў сял. адзенне. Да пач. 1864 г. паўстанне на Пружаншчыне бы-



*Праваслаўная капліца на могілках у г. Пружаны.*



*Гасцініца «Мухавец» у г. Пружаны.*





*Будынак гандлёвых радоў (1866) у г.Пружаны.*

ло жорстка падаўлена царскімі войскамі. Многія паўстанцы былі адпраўлены на катаргу ў Сібір, а найбольш актыўныя з іх прыгавораны да смяротнага пакарання.

Адмена прыгоннага права станоўча адбілася на эканам. і культ. развіцці Пружан. Калі ў 1860 г. тут было 577 дамоў і 5665 жыхароў, то ў 1878 г. — 7044 жыхароў, працавала 2 праваслаўныя царквы (адна з іх прыходская), каталіцкія касцёл і капліца, паштовая станцыя, павятовая школа, шпіталь, тытунёвая і 2 запалкавыя ф-кі, 2 бровары, паравы млын. У 1881 г. на месцы старога пабудаваны мураваны касцёл. У 1888 г. 983 дамы (з іх 64 мураваныя), 7291 жыхароў, працаваў тэлеграф. Паводле перапісу 1897 г. ў Пружанах 769 дамоў, 7633 жыхары (з іх 43,4% пісьменныя), 14 дробных прадпрыемстваў, павятовае вучылішча. У 1904 г. 9231 жыхар, 1157 дамоў (з іх 71 мураваны); 2 бальніцы (на 27 ложкаў), аптэка, 4 урачы, 3 акушэркі, 5 фельчараў; 5 навуч. устаноў (8 настаўнікаў, 153 вучні); 2 друкарні, бібліятэка-чытальня; 13 фабрык і з-даў; праводзіліся 5 кірмашоў на год.





*Помнік савецкаму лётчыку С.М.Гудзімаву ў г. Пружаны.*

*Польскія ваенныя могілкі 1920-х г. у Пружанах.*



1



2

*Сядзіба сярэдзіны 19 ст. ў Пружанах: палац і аранжарэя.*

У 1905—07 гг. у Пружанах адбыліся забастоўкі рабочых тытунёвых фабрык. З жн. 1915 г. горад быў акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі, з студз. 1919 г. да ліп. 1920 г. і з вер. 1920 г. — польскімі войскамі. З канца ліп. да сярэдзіны вер. 1920 г. тут існавала сав. ўлада, дзейнічаў Пружанскі павятовы ваеннарэв. к-т. Паводле Рыжскага мірнага дагавора ад 18.3.1921 г. Пружаны і Пружанскі пав. увайшлі ў склад Польшчы, горад стаў цэнтрам павета Палескага ваяв. Дзейнічалі падп. арг-цыі КПЗБ і КСМЗБ, арг-цыя Беларускай сял.-рабочай грамады. У 1924 г. горад наведала і вяла ў ім палітычную работу член ЦК КПЗБ В.Харужая. У 1931 г. ў Пружанах створаны гурток аматараў сцэны, у 1933 г. — нар. тэатр, які ў гэтым жа годзе паставіў 18 спектакляў.


*Капліца-пахавальня на могілках у г. Пружаны.*


*Тэатр танца «Ойра» Палаца культуры г. Пружаны.*


*Эстрадны аркестр Палаца культуры г. Пружаны.*

З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. цэнтр раёна Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў Пружанах каля 10 тыс. жыхароў, 1385 дамоў, працавалі электрастанцыя, 6 механічных млыноў, 2 маслабойныя, кафельны з-ды, 2 слясарныя майстэрні; усяго на прадпрыемствах працавала 900 рабочых. Выходзіла газ. «Новы шлях» (зараз газ. «Раённыя будні»). У пач. Вял. Айч. вайны 22.6.1941 г. ў раёне Пружан здзейсніў паветр. таран сав. лётчык лейтэнант С.М.Гудзімаў. 23 чэрв. тут адбыўся буйны сустрэчны бой паміж сав. 30-й танкавай дывізіяй і 2 ням. танкавымі дывізіямі. 23.6.1941 г. Пружаны акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1942 г. ў раёне дзейнічаў Пружанскі падп. антыфашысцкі к-т, з ліст. 1943 г. — Пружанскі падп. райком КП(б)Б, з вер. 1943 г. — Пружанскі падп. райком ЛКСМБ. Пружаны вызвалены 17.7.1944 г. войскамі 28-й арміі 1-га Бел. фронту. Акупанты нанеслі гораду вял. страты, на 70% разбурылі жылы фонд; толькі ў гета знішчылі больш за 4 тыс. чал. Пасля вайны ў Пружанах налічвалася 5 тыс. жыхароў. У 1944 г. поўнасцю адноўлены райпрамкамбінат, харчовы камбінат, масласырзавод, скураны і мылаварны цэхі, вузел сувязі, 2 сярэднія школы. У 1945 г. адкрыты дзіцячы дом, у





1



2

*Агульны выгляд і фрагмент інтэр'ера касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў г. Пружаны.*

1956 г. — школа-інтэрнат. У пасляваенны час горад вырас,ператварыўся ў прамысл. і культ. цэнтр. Паводле перапісу 1959 г. тут налічваўся 7061 жыхар.

У горадзе працуюць з-ды: кансервавы, радыёдэталей, ільнозавод, масласырзавод; камбінаты будаўнічых матэрыялаў і плодакансервавы, друкарня, лясгас, шэраг будаўнічых арганізацый і с.-г. прадпрыемстваў. Дзейнічаюць Пружанскі агр.-тэхн. каледж, Палац культуры, Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, 2 б-кі, бальніца, камбінат быт. абслугоўвання, паліклініка, школа мастацтва імя Р.Р.Шырмы, 5 сярэдніх, дзіцяча-юнацкая спарт. і вячэрняя школы, цэнтр дзіцяча-юнацкай творчасці, 8 дзіцячых садоў. Выдаецца газ. «Раённыя будні». На тэр. горада знаходзяцца помнікі: В.З.Харужай, сав. лётчыкам, лётчыку-знішчальніку С.М.Гудзімаву, на брацкай магіле сав. воінаў і 1 партызана, што загінулі ў Вял. Айч. вайну, на брацкай магіле чырвонаармейцаў, што загінулі ў 1920 г. і інш. Захаваліся помнікі архітэктуры: сабор Аляксандра Неўскага (1861—66), гар. сядзіба 2-й пал. 19 ст., на тэр. якой цяпер размешчаны Дзярж. краязнаўчы музей «Пружанскі палацык» (уключае сядзібны дом, 2 флігелі і парк пейзажнага тыпу), гандл. рады (узведзены ў 1896).

Пружаны — радзіма бел. філосафа, логіка і матэматыка С.А.Яноўскай; удзельніка паўстання 1863—64 гг., мастака Л. Крашэўскага, бел. мастацтвазнаўцы, дырэктара Дзярж маст. музея у 1944—77 А.В.Аладавай.

На тэр. Пружанскага с/с знаходзяцца вёскі: Агароднікі, Арабнікі, Белавусаўшчына, Бузуны, Вялікія Якавічы, Гарадняны, Жадзены, Каштанаўка, Ляхі, Малыя Якавічы, Парасляны, Плябаны, Семянча, Слабудка, Сланімцы; пас. Сонечны.



*Выступленне ўдзельнікаў народнай студыі моды і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Папараць-кветка».*



*Пружанская кераміка.*

**АБРУБ** — вёска ў Старавольскім с/с, за 10 км на З ад Пружан, 96 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Велікасельскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 30 двароў, 172 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. — 145 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Шарашоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 20 дамоў, 71 жыхар (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ў баях ці прапалі без вестак 6 аднавяскоўцаў. З 1956 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 160 жыхароў, у 1970 г. — 138 жыхароў. У 2003 г. 25 гаспадарак, 52 жыхары.

**АГАРОДНІКІ** — вёска ў Пружанскім с/с, за 4 км на Пн ад Пружан, 98 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2005).

У 1886 г. вёска ў Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 20 двароў, 204 жыхары, піцейны дом, валасное праўленне. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Дабучынскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 48 дамоў, 123 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17 ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 10 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 105 жыхароў.

**АКОЛЬНІК** — вёска ў Шарашоўскім пас. савеце, за 35 км на ПнЗ ад Пружан, 124 км ад Брэста, 47 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 19 гаспадарак, 34 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Бялоў-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 180 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. У 1940—56 г. ў Шарашоўскім, пасля ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах прапалі без вестак 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 90 жыхароў.

**АЛІШЭВІЧЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 10 км на У ад Пружан, 12 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 99 км ад Брэста. 20 гаспадарак, 32 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. 2 вёскі ў Мікіцінскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 311 жыхароў, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. вёска, 250 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, пасля ў БССР. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі ў баях ці прапалі без вестак 10 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. вёска налічвала 143 жыхары. У 2003 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў.

**АЛЬШАНЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Пружан, 72 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 39 гаспадарак, 60 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Мікіцінскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 75 двароў, 422 жыхары, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 293 жыхары. У 1921—39 гг. у Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-



фаш. захопнікамі; у баях загінулі 10 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 320 жыхароў. У 1970 г. — 256 жыхароў. У 2003 г. 41 гаспадарка, 66 жыхароў.

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Пружан, 67 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Баранавічы—Брэст. 18 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 161 жыхар. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 25 двароў, 103 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1941 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена ў сярэдзіне ліп. 1944 г. На франтах загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 153 жыхары, у 1970 г. — 123 жыхары. У 2003 г. 17 гаспадарак, 33 жыхары.

**АНДРЫЯНАЎКА** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Пружан, 117 км ад Брэста, 45 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст, каля аўтадарогі Сухопаль—Роўбіцк. 43 гаспадаркі, 94 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. пасёлак у Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 129 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі ці прапалі без вестак 8 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. вёска налічвала 235 жыхароў. У 2003 г. 43 гаспадаркі, 89 жыхароў.

**АПЯЛЯНАВІЧЫ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 60 км на ПнУ ад Пружан, 160 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач, на аўтадарозе Пружаны—Клепачы. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Лыскаўскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 150 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі 9 аднавяскоўцаў. У вёсцы дзейнічала падп. маладзёжная антыфаш. арг-цыя. Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары, у 1970 г. — 93 жыхары. У 2003 г. 16 гаспадарак, 21 жыхар.

**АРАБНІКІ** — вёска ў Пружанскім с/с, за 5 км на Пн ад Пружан, 97 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 110 гаспадарак, 210 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 87 двароў, 540 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Дабучынскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 93 дамы, 408 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 25 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 832 жыхары. У 2003 г. працаваў магазін.

**АРАБ'І** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 14 км на Пд ад Пружан, 87 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 115 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Байкоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 6 дамоў, 36 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР. З 1941 г. да сярэдзіны 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 115 жыхароў, у 1970 г. — 59 жыхароў.

**АРАНЧЫЦЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, цэнтр птушкагадоўчай ф-кі «Аранчыцкая», за 13 км на Пд ад Пружан, 75 км ад Брэста, на аўтадарозе Пружаны—Кобрын, за 1 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 369 гаспадарак, 907 жыхароў (2005).

У 1886 г. сяло ў Літоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 38 двароў, 384 жыхары, праваслаўная царква, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. — маёнтак (2 двары, 11 жыхароў, праваслаўная царква) і вёска (73 двары, 523 жыхары, хлебазапасны магазін). У пач. 20 ст. сяло (429 жыхароў) і маёнтак (19 чал.). У 1906 г. адбылося хваляванне сялян Аранчыц і навакольных вёсак, якое было жорстка падаўлена ўладамі, 20 чалавек пасаджаны ў турму. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Ліноўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., вёска (71 дом, 371 жыхар) і фальварак (4 дамы, 35 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ў баях ці прапалі без вестак 24 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 645 жыхароў, у 1969 г. — 215 двароў, 682 жыхары. У 2003 г. 375 гаспадарак, 900 жыхароў. Працуюць магазін, бібліятэка. Захаваўся помнік архітэктуры — царква (пач. 20 ст.). На могілках знаходзіцца магіла ахвяр фашызму — 50 мірных жыхароў Аранчыц і навакольных вёсак, якіх загубілі гітлераўцы ў 1941—44 гг. На магіле пастаўлены абеліск (1975).



*Крыжаўзвіжанская царква (1914) у в. Аранчыцы.*

**АСОШНІКІ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 60 км на ПнУ ад Пружан, 160 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач, на аўтадарозе Ружаны—Лыскава. 158 гаспадарак, 327 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Лысаўскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 350 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 8 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 452 жыхары, у 1970 г. — 652 жыхары. У 2003 г. 162 гаспадаркі, 370 жыхароў, магазін. Радзіма заслужанага работніка культуры Беларусі журналіста П.П.Суцько.

**АСТРАВОК** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 135 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 34 гаспадаркі, 61 жыхар (2005).

З 15.1.1940 г. вёска ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл). У 1940 г. 56 двароў, 586 жыхароў, арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; супраць гітлераўцаў дзейнічала падп. арг-цыя. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 14 аднавяскоўцаў. У ліп. 1944 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску і загубілі 19 жыхароў. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1970 г. 197 жыхароў. У 2003 г. 37 гаспадарак, 69 жыхароў.

**АСЯТНІЦА** — вёска ў Хараўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Пружан, 114 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. хутар у Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 3







*Мемарыял ахвярам фашызму ў в. Аранчыцы.*

жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 вясковец. Паводле перапісу 1959 г. хутар, 154 жыхары. У 2003 г. вёска, 14 гаспадарак, 24 жыхары.

**БАБІНЕЦ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 37 км на ПнЗ ад Пружан, 146 км ад Брэста, 49 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. ўрочышча Бялоў-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 75 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 25.12.1956 г. ў Пружанскім р-не. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы 32 жыхары. У 2003 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў.

**БАЙКІ** — вёска ў Ружанскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Пружан, 130 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст, на аўтадарозе Пружаны—Ружаны. 56 гаспадарак, 113 жыхароў (2005).

У 17 ст. вёска належала Сапегам. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У час паўстанняў 1830—31 гг. і 1863—64 гг. каля вёскі адбыліся баі паўстанцаў з царскімі карнікамі. У 19 — пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У пач. 20 ст. 634 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім р-не Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У 1940 г. 120 двароў, 1011 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 аднавяскоўцаў, 2 прапалі без вестак. У перыяд гітлераўскай акупацыі на сядзібе селяніна-патрыёта М.І.Барана ў зямлянцы працавала друкарня Брэсцкага абласнога антыфаш. к-та. У ёй надрукавана 168 тыс. экзэмпляраў газет, лістовак і інш. Жыхары вёскі падтрымлівалі сувязь з партызанамі брыгады імя Панамарэнкі. 22.1.1944 г. гітлераўцы акружылі вёску, сагналі ўсіх жыхароў у хлеў, мужчын забілі, а жанчын спалілі жывымі. Усяго было загублена 987 жыхароў, спалена 120 двароў. У гэты дзень у вёсцы знаходзіўся юны партызан-піянер Ціхан Баран. Карнікі захапілі

*Чыгуначны вакзал станцыі Аранчыцы.*





*Помнік на магіле жыхароў в. Байкі, знішчаных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 22.1.1944 г.*

яго ў палон і загадалі паказаць месца базіравання партызан. Хлопчык паўтарыў подзвіг Івана Сусаніна — завёў карнікаў у непраходнае балота. Фашысты расстралялі Ціхана. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

Пасля вайны Байкі адноўлены. Паводле перапісу 1959 г. 179 жыхароў. З 25.12.1962 г. ў складзе Пружанскага р-на. Паводле перапісу 1970 г. 248 жыхароў. У 2003 г. 62 гаспадаркі, 120 жыхароў. Помнікі гісторыі — зямлянка, дзе была падп. друкарня; абеліскі на 2 магілах ахвяр фашызму (1957). На доме, у якім нарадзіўся і жыў піянер-герой Ціхан Баран, устаноўлена мемарыяльная дошка (1967). Каля вёскі ёсць археал. помнік — курган.

**БАКУНЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 2 км ад канала Вінец, 12 км на Пд ад Пружан, 85 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 119 гаспадарак, 338 жыхароў (2005).

У 1886 г. сяло ў Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 13 двароў, 152 жыхары, дзейнічалі праваслаўная царква, школа. На пач. 20 ст. сяло (207 чал.) і фальварак (9 жыхароў) тых жа воласці і павета. З сак. 1921 ў складзе Польшчы, вёска Байкоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв. (25 дамоў, 133 жыхары) і аднайменны фальварак (2 дамы, 213 жыхароў; 1921). Дзейнічалі падп. ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не. З 12.10. 1940 г. да 12.8.1957 г. і з 15.8.1974 да 18.11.2005 цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. Бакуны акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4, без вестак прапалі 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 263 жыхары, у 1970 г. 257 жыхароў. Працуюць Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, магазін. Помнікі: на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў у Вял. Айч. вайну, і герою грамадз. вайны В.І.Чапаеву. Радзіма аднаго з кіраўнікоў антыфаш. падполля на Брэстчыне ў Вял. Айч. вайну сакратара Шарашоўскага раённага антыфаш. к-та І.У.Лабуды.

**БАКУНЫ** — вёска ў Велікасельскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Пружан, 110 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 127 гаспадарак, 310 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Велікасельскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 57 двароў, 401 жыхар, хлебазапасны магазін, кузня, крама. На пач. 20 ст. — 495 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Котранскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 37 дамоў, 218 жыхароў (1921). Тут дзейнічалі падп. ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 16.4.1973 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі ці прапалі без вес-



так 28 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 527 жыхароў, 1970 г. — 439 жыхароў. У 2003 г. цэнтр калгаса «Чырвоны партызан», 140 гаспадарак, 420 жыхароў. Працуюць с.-г. майстэрні, ветпункт, аддз. сувязі, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У цэнтры вёскі брацкая магіла 77 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1941—44 гг. На магіле ўзведзены (1968) мемарыяльны комплекс. Дамінантай комплексу з'яўляецца скульптурная група: жанчына ў жалобе і воін, справа ад скульптурнай групы стэла з надпісам-прысвячэннем, злева — Сцяна памяці з імёнамі загінуўшых землякоў.

**БАРАВІКІ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 20 км на Пн ад Пружан, 115 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 37 гаспадарак, 66 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 60 двароў, 403 жыхары, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 472 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1970 г. 230 жыхароў. У 2003 г. 39 гаспадарак, 72 жыхары.

Вёска — радзіма ўдзельніка Вял. Айч. вайны, параду Перамогі на Чырвонай плошчы ў Маскве 24.6.1945 г. У.Р.Неміровіча.

**БАРЫСІКІ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 128 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 20 гаспадарак, 36 жыхароў.

У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 10 аднавяскоўцаў. Да 25.12.1962 г. ў складзе Ружанскага, потым Пружанскага р-наў Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). Паводле перапісу 1959 г. 115 жыхароў, 1970 г. — каля 100 жыхароў. У 2003 г. 18 гапспадарак, 33 жыхары. Брацкая магіла 80 сав. воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На магіле пастаўлены абеліск (1980).

**БАЯРЫ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 56 км на ПнУ ад Пружан, 156 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач, каля аўтадарогі Ружаны—Лыскава. 32 гаспадаркі, 51 жыхар (2005).

У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 7 аднавяскоўцаў. Да 25.12.1962 г. ў складзе Ружанскага р-на, потым у Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). Паводле перапісу 1959 г. 94 жыхары, у 1970 г. — 178 жыхароў. У 2003 г. 32 гаспадаркі, 56 жыхароў.

**БЕЛАВУСАЎШЧЫНА** — вёска ў Пружанскім с/с, цэнтр эксперыментальнай базы «Белавусаўшчына», за 5 км на ПнУ ад Пружан, 94 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст, каля аўтадарогі Пружаны—Ружаны. 201 гаспадарка, 497 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. маёнтак Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 9 двароў, 55 жыхароў, працаваў вінакурны з-д. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, фальварак. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., вёска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 10 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. пасёлак, 454 жыхары. Дзейнічаюць магазін, клуб, б-ка, аддз. сувязі.

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы Я.А.Мелісевіч.

**БЕЛЬЧЫЦЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 19 км на Пн ад Пружан, 114 км ад Брэста, 31 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 50 гаспадарак, 105 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав.





Гродзенскай губ., 45 двароў, 270 жыхароў, працавала кузня. У пач. 20 ст. 268 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Бельчыцы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 216 жыхароў. У 2003 г. 49 гаспадарак, 123 жыхары.

**БЕЛЫ ЛЯСОК** — вёска ў Шарашоўскім пас. савеце, за 35 км на ПнЗ ад Пружан, 124 км ад Брэста, 45 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 61 гаспадарка, 147 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1959 г. вёска, 168 жыхароў, у 1970 г. — 210 жыхароў.

**БЛАЖКІ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, каля р. Лясная Левая, за 30 км ПдЗ ад Пружан, 70 км ад Брэста, 42 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 11 двароў, 75 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 83 жыхары. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 15 дамоў, 59 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы, 4 прапалі без вестак. У вёсцы дзейнічала падп. маладзёжная арг-цыя. З 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1970 г. вёска, 44 жыхары. У 2003 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў.

**БЛІЗНАЯ** — вёска ў Ружанскім с/с, за 55 км на ПнУ ад Пружан, 150 км ад Брэста. 107 гаспадарак, 180 жыхароў (2005).

У 1886 г. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 53 двары, 402 жыхары, піцейны дом. На пач. 20 ст. 834 жыхары, царква. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Дзейнічалі ячэйкі КПЗБ, КСМЗБ, гурток Таварыства бел. школы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.10.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл., (8.1.—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі і прапалі без вестак 22 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 807 жыхароў, у 1970 г. — 672 жыхары. У 2003 г. 62 гаспадаркі, 202 жыхары, магазін. Помнікі: абеліск на брацкай магіле сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні вёскі; абеліск на магіле ахвяр фашызму — мірных жыхароў, загубленых гітлераўцамі ў 1941—44 гг. Царква — помнік архітэктуры 19 ст.

**БОРКІ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Пружан, 121 км ад Брэста, 49 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 53 гаспадаркі, 76 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 472 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. 131 двор, 546 жыхароў. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 12 аднавяскоўцаў. У жн. 1941 г. ням.-фаш. акупанты спалілі Боркі. Пасля вайны вёска адноўлена. Паводле перапісу 1970 г. 433 жыхары. У 2003 г. 61 гаспадарка, 85 жыхароў. Працуе магазін.

**БОР-ЛІПЫ** — вёска ў Ружанскім с/с, за 47 км на ПнУ ад Пружан, 142 км ад Брэста, 39 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. ўрочышча ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 39 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР, вёска. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; на фронце ў баі загінуў 1 вясковец. У 2003 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў.



**БОРТНАВІЧЫ** — вёска ў Хараўскім с/с, за 9 км на У ад Пружан, 99 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 55 двароў, 270 жыхароў, дзейнічала школа граматы. Каля вёскі знаходзілася ваколіца Бортнавічы, 19 двароў, 102 жыхары. У пач. 20 ст. ў вёсцы 272 жыхары, у ваколіцы — 144 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы (дзейнічала ячэйка Бел. сял.-рабочай грамады), потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 10 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. У 2003 г. 18 гаспадарак, 31 жыхар.

**БРАДЫ** — вёска Шчарчоўскага с/с, цэнтр ААТ «Пушчанскае» і камунальнага унітарнага вытв. прадпрыемства «Пушчанка», за 30 км на ПнЗ ад Пружан, 70 км ад Брэста, 45 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст, на аўтадарозе Шарашова—Шчарчава. 101 гаспадарка, 233 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Старуноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 74 двары, 575 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін, кузня. У пач. 20 ст. 592 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 53 дамы (1921). Дзейнічалі падп. ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ. З 1939 г. ў БССР, з 12. 10.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12. 1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17 ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 аднавяскоўцаў, 7 прапалі без вестак. Паводле перапісу 1959 г. цэнтр сельсавета, 537 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. — 436 жыхароў, у Шчарчоўскім с/с. У 2003 г. 107 гаспадарак, 232 жыхары. Працуюць базавая школа-сад, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, рамонтна-механічныя майстэрні. У цэнтры вёскі брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў Вял. Айч. вайну. Сярод пахаваных нач. штаба партыз. атрада імя В.Чкалава брыгады «Савецкая Беларусь» Брэсцкай вобл. М.Храбрых. У 1970 г. на магіле ўстаноўлена стэла з выявамі воіна, партызана і жанчыны-маці.

**БРАНТАЎЦЫ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 54 км на ПнУ ад Пружан, 143 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 8 аднавяскоўцаў. З 15.1.1940 г. вёска ў складзе Ружанскага р-на Брэсцкай вобл., з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-не той жа вобласці (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл). Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 149 жыхароў, у 1970 г. — 128 жыхароў. У 2003 г. 21 гаспадарка, 30 жыхароў.

**БУЗУНЫ** — вёска ў Пружанскім с/с, за 9 км на Пн ад Пружан, 98 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 21 гаспадарка, 31 жыхар (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 5 двароў, 340 жыхароў, хлебазапасны магазін. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Дабучынскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 44 дамы, 154 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 141 жыхар.

**БУЦЬКІ** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 135 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 263

жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл., (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі ці прапалі без вестак 4 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 96 жыхароў. У 2003 г. 13 гаспадарак, 25 жыхароў. Каля вёскі знаходзіцца антрапаморфная фігура ідала, высечаная з валуна ў часы язычніцтва.

**БУШНЯКІ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 50 км на ПдУ ад Пружан, 140 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 13 гаспадарак, 31 жыхар (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Лыскаўскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 130 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.196 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; дзейнічала антыфаш. маладзёжная падп. арг-цыя. На франтах вайны без вестак прапалі 4 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 72 жыхары, у 1970 г. — 54 жыхары. У 2003 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Хараўскім с/с, за 15 км на Пн ад Пружан, 104 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 10 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. выселак у Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 2 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР, вёска. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2003 г. 13 гаспадарак, 42 жыхары.

**БЯРЭЗНІЦА** — вёска ў Ружанскім пас. савеце, за 52 км на ПнУ ад Пружан, 147 км ад Брэста, 39 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 78 гаспадарак, 121 жыхар (2005).

У 1886 г. сяло ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 33 двары, 402 жыхары, праваслаўная царква, піцейны дом. У пач. 20 ст. 727 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска. Дзейнічалі падп. арг-цыі КПЗБ і КСМЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У 1940—54 гг. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; дзейнічала антыфаш. маладзёжная падп. арг-цыя, якая налічвала больш за 40 чал. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 40 аднавяскоўцаў. У 2003 г. 89 гаспадарак, 142 жыхары. Працуе магазін. Каля вёскі знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік, які мае 11 насыпаў. Радзіма аднаго з кіраўнікоў антыфаш. падполля на Брэстчыне ў Вял. Айч. вайну сакратара Ружанскага раённага антыфаш. к-та А.М.Дурэйкі.

**ВАРАНІЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтрВаранілавіцкага с/с і с.-г. прадпрыемства «Варанілавічы», за 45 км на ПнУ ад Пружан, 140 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 127 гаспадарак, 300 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. сяло ці вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. сяло, 27 двароў, 310 жыхароў, праваслаўная царква, школа, піцейны дом. На пач. 20 ст. вёска, 478 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). Цэнтр сельсавета з 12.10.1940 г. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі 17 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 408 жыхароў. У 2003 г. 130 гаспадарак, 322 жыхары. Дзейнічаюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, ся-



рэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, пункт быт. абслугоўвання. Побач з вёскай знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941—44 гг. На магіле пастаўлены (1960) абеліск.

Акрамя Варанілавічаў на тэр. сельсавета знаходзяцца вёскі: Астравок, Буцькі, Вітараж, Верчыц, Калазубы, Клепачы, Каплі, Еськавічы, Ласасін, Таўцвілы, Шчытна.

**ВАРОТНАЕ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 13 км на Пд ад Пружан, 74 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 47 гаспадарак, 84 жыхары (2005).

У 1886 г. вёска ў Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 42 двары, 565 жыхароў, піцейны дом. У пач. 20 ст. 455 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны выселак, 16 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Байкоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 77 дамоў, 385 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах прапалі без вестак 26 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. ў вёсцы налічвалася 360 чалавек. У 2003 г. 53 гаспадаркі, 91 жыхар. Працуюць магазін, клуб.

**ВАСЬКІ** — вёска ў Шарашоўскім пас. савеце, за 22 км на З ад Пружан, 98 км ад Брэста, 34 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 17 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

У канцы 19 ст. вёска ў Шарашоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 30 дамоў, 180 жыхароў. У пач. 20 ст. 150 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Шарашоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 22 дамы, 118 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.10.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 99 жыхароў.

**ВАШЧЫНІЧЫ** — вёска ў Хараўскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Пружан, 101 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст, каля шашы Пружаны—Ружаны. 94 гаспадаркі, 228 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 51 двор, 527 жыхароў. У пач. 20 ст. 595 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 16 аднавяскоўцаў. У 1949 г. створаны калгас імя Жданава. Паводле перапісу 1959 г. 501 жыхар, у 1970 г. — 425 жыхароў. У 2003 г. 102 гаспадаркі, 252 жыхары. Працуе магазін.

**ВЕРЧЫЦЫ** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, за 44 км на ПнУ ад Пружан, 139 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 38 гаспадарак, 55 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 207 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі На франтах загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 313 жыхароў. У 2003 г. — 45 гаспадарак, 69 жыхароў.

**ВІЛЬЯНАВА** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 130 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 41 гаспадарка, 75 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Лыскаўскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 320 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах, Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 да ліп. 1944 г. акупірава-

на ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 269 жыхароў, у 1970 г. — 233 жыхары. У 2003 г. 43 гаспадаркі, 80 жыхароў.

**ВІНЕЦ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 14 км на Пд ад Пружан, 87 км ад Брэста, каля аўтадарогі Пружаны—Сялец і кан. Вінец, 12 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 41 гаспадарка, 86 жыхароў (2005).

З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Пружанскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы, 1 памёр ад ран. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 248 жыхароў, у 1970 г. — 174 жыхары.

**ВІСКУЛІ** — хутар у Шарашоўскім пас. савеце, у Белавежскай пушчы, за 34 км на ПнЗ ад Пружан, 123 км ад Брэста, 34 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 7 гаспадарак, 18 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. ўрочышча ў Бялоў-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 11 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1956 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1970 г. 30 жыхароў.

Каля в. Віскулі ў Белавежскай пушчы знаходзіцца бел. ўрадавая рэзідэнцыя, дзе 8.12.1991 г. былі падпісаны Белавежскія пагадненні 1991 г. Іх падпісалі кіраўнікі Беларусі (С.Шушкевіч і В.Кебіч), Расіі (Б.Ельцын і Г.Бурбуліс), Украіны (Л.Краўчук і В.Фокін). Ад імя дзяржаў яны канстатавалі, што СССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне, падпісалі Пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД) у складзе Рэспублікі Беларусь, Рас. Федэрацыі і Украіны. СНД абвяшчалася адкрытай для далучэння іншых дзяржаў. Вярх. Савет Рэспублікі Беларусь ратыфікаваў Пагадненне аб стварэнні СНД 10.12.1991 г.

**ВІТАРАЖ** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, за 46 км на ПнУ ад Пружан, 141 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 22 гаспадаркі, 45 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 131 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінуў ці прапаў без вестак 21 жыхар. Паводле перапісу 1970 г. вёска налічвала 97 жыхароў. У 2003 г. 26 гаспадарак, 58 жыхароў.

**ВІШНЯ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Пружан, 72 км ад Брэста, 42 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. выселак Старуноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 5 двароў, 41 жыхар. У пач. 20 ст. пасёлак, 58 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав., 25 дамоў, 150 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.121956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах без вестак прапалі 2 вяскоўцы, 1 загінуў у баі. Паводле перапісу 1970 г. 70 жыхароў. У 2003 г. 6 гаспадарак, 7 жыхароў.

**ВОЛЯ** — вёска ў Ружанскім с/с, за 46 км на ПнУ ад Пружан, 140 км ад Брэста, 39 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст, каля шашы Ружаны—Пружаны. 74 гаспадаркі, 156 жыхароў (2005).



На пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 310 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 12.7.1963 г. да 16.4.1973 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1970 г. 371 жыхар. У 2003 г. 81 гаспадарка, 167 жыхароў, працаваў магазін.

Вёска — радзіма бел. вучонага ў галіне фізіялогіі А.І.Кубаркі.

**ВЫБРАДЫ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Пружан, 119 км ад Брэста, 47 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 3 гаспадаркі, 3 жыхара (2005).

У пач. 20 ст. фальварак, у Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. вёска Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. У 1940 г. 10 двароў, 51 жыхар. У Вял. Айч. вайну у жн. 1941 г. спалены ням.-фаш. акупантамі. Пасля вайны адноўлены. Паводле перапісу 1970 г. 30 жыхароў. У 2003 г. 5 гаспадарак, 5 жыхароў.

**ВЯЖНОЕ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Пружан, 72 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст.

У 1886 г. пагост у Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., працавала школа. Паводле перапісу 1897 г. маёнтак і сяло тых жа воласці і павета, разам налічвалі 2 двары, 14 жыхароў; меліся нар. вучылішча, прыходская праваслаўная царква, ветраны млын, піцейны дом. На пач. 20 ст. сяло, 50 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 4 дамы, 10 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2003 г. 40 гаспадарак, 85 жыхароў. У паўд.-зах. частцы вёскі знаходзіцца царква (1791) — помнік архітэктуры з элементамі нар. дойлідства.

**ВЯЛІКАЕ СЯЛО** — вёска, цэнтр Вялікасельскага с/с і ААТ «Вялікасельскае — Агра», за 18 км на ПнЗ ад Пружан, 102 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 195 гаспадарак, 447 жыхароў (2005).

У 1886 г. сяло, цэнтр воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 97 двароў, 1558 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, валасное праўленне, кузня, 2 ветраныя млыны, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 184 двары, 1035 жыхароў, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Котранскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 134 дамы, 633 жыхары (1921). Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінуў ці прапаў без вестак 21 вясковец. Паводле перапісу 1959 г. 892, у 1970 г. — 719 жыхароў. З 16.4.1973 г. цэнтр сельсавета. Дзейнічаюць базавая школа, рамонтна-механічныя майстэрні, вет-

*Святая крыніца ў в. Вяжное.*





*Касцёл у в. Вялікае Сяло.*

пункт, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У цэнтры вёскі знаходзіцца брацкая магіла 56 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях у Вял. Айч. вайну. На магіле ў 1967 г. пастаўлены абеліск.

Апрача Вялікага Сяла на тэр. сельсавета знаходзяцца вёскі: Бакуны, Залессе, Ліхасельцы, Радзецк, Юхнавічы, Ялова.

**ВЯЛІКІ КРАСНІК** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Пружан, 119 км ад Брэста, 47 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 33 гаспадаркі, 59 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай вобл., 54 двары, 314 жыхароў, быў хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 332 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 232 жыхары. У 2003 г. 34 гаспадаркі, 69 жыхароў.

**ВЯЛІКІЯ ЯКАВІЧЫ** — вёска ў Пружанскім с/с, за 4 км на Пн ад Пружан, 97 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 73 гаспадаркі, 156 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска Якавічы ў Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 760 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. вёска Вялікія Якавічы, 350 жыхароў.

**ГАЛАСЯЦІНА** — вёска Шчарчоўскага с/с, цэнтр ААТ «Шчарчова», на р. Левая Лясная, за 35 км на ПдЗ ад Пружан, 67 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Баранавічы—Брэст. 49 гаспадарак, 132 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Стаpуноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 35 двароў, 241 жыхар, кузня. На пач. 20 ст. 258 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 19 дамоў, 140 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінула 7 аднавяскоўцаў. У 1950 г. створаны калгас «Барэц». Паводле перапісу 1970 г. вёска налічвала 152 жыхары. У 2003 г. цэнтр калгаса імя Кірава, 54 гаспадаркі, 146 жыхароў. Дзейнічаюць магазін, рамонтна-механічныя майстэрні, аддз. сувязі.

**ГАЛЕНЫ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Пружан, 116 км ад Брэста, 44 км ад чыг ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 58 гаспадарак, 118 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 1641 г. ў складзе Рэчы Паспалітай. З 1795 г. ў Рас. імперыі, вёска ў Пружанскім пав., з 1801 г. ў Сухопальскай вол., 46 двароў, 297 жыхароў, карчма, крама, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загі-



нулі ці прапалі без вестак 16 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 297 жыхароў. У 2003 г. 62 гаспадаркі, 135 жыхароў.

**ГАЛОЎЧЫЦЫ** — вёска Зеляновіцкага с/с, за 57 км на ПнУ ад Пружан, 156 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач, каля шашы Ваўкавыск—Ружаны. 63 гаспадаркі, 90 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Зельзінскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 610 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім р-не, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. Галоўчыцы акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 18 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 402 жыхары, у 1970 г. — 357 жыхароў. У 2003 г. 70 гаспадарак, 109 жыхароў. Працуе магазін.

**ГАНЧАРЫ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Пружан, 67 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. выселак у Старуноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 6 двароў, 43 жыхары. На пач. 20 ст. вёска, 54 жыхары. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 8 дамоў, 55 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 64 жыхары. У 2003 г. 8 гаспадарак, 18 жыхароў.

**ГАРАДЗЕЧНА** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Пружан, 77 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 73 гаспадаркі, 201 жыхар (2005).

У 19 — пач. 20 ст. сяло ці сядзіба, цэнтр воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У вайну 1812 г. 31 ліп. каля Гарадзечна адбылася жорсткая бітва паміж 3-й рус. арміяй ген. А.П.Тармасава (каля 18 тыс. чал.) і французскім войскам (каля 40 тыс. чал.). Нягледзячы на перавагу сіл ворага, рус. войскі ўтрымлівалі пазіцыі 10 гадзін да вечара, а ноччу адступілі да Кобрына. У Гарадзечанскай бітве вораг страціў 6 тыс. салдат і афіцэраў. У 1886 г. Гарадзечна — сяло, дзейнічалі паштовая станцыя, валаснoе праўленне, праваслаўная царква, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. меліся царква, нар. вучылішча. На пач. 20 ст. 40 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., вёска, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 195 жыхароў. У 2003 г. цэнтр сельсавета і калгаса імя Дзяржынскага, 74 гаспадаркі, 214 жыхароў. Працуюць сярэдняя школа, аддз. сувязі, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. Помнікі: Ф.Э.Дзяржынскаму, абеліск (1957) на брацкай магіле 133 сав. воінаў, якія загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі, і 28 мірных жыхароў, загубленых акупантамі ў Вял. Айч. вайну. Царква — помнік архітэктуры 19 ст.

**ГАРАДНЯНЫ** — вёска ў Пружанскім с/с, за 10 км на Пд ад Пружан, 80 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 92 гаспадаркі, 229 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Ліноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 70 двароў, 486 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, карчма. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Ліноўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 32 дамы, 213 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 18 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 303 жыхары.

**ГЛУШЭЦ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 38 км на ПнЗ ад Пружан, 147 км ад Брэста, 50 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лі-




ніі Баранавічы—Брэст, на аўтадарозе Роўбіцк—Чадзель. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 10 двароў, 58 жыхароў. На пач. 20 ст. 35 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак, 8 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 130 жыхароў, у 1970 г. — 143 жыхары. У 2003 г. 20 гаспадарак, 33 жыхары.

**ГЛЫБОКІ КУТ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Пружан, 122 км ад Брэста, 50 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 1641 г. ў складзе Рэчы Паспалітай. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 1886 г. 2 аднайменныя вёскі ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ, разам налічвалі 58 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсках 120 двароў, 478 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны, кузня, крама. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 40 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 795 жыхароў. У 2003 г. 22 гаспадаркі, 37 жыхароў. Працуе магазін.

**ГРУСК** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 39 км на ПнУ ад Пружан, 128 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 54 гаспадаркі, 109 жыхароў (2005).

На месцы сучаснай вёскі ў пач. 20 ст. знаходзіліся маёнтак (10 жыхароў) і ўрочышча Груск (4 жыхары). У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, потым у БССР, вёска. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім раёнах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 11 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 320 жыхароў, у 1970 г. — 297 жыхароў. У 2003 г. 55 гаспадарак, 114 жыхароў.

**ГРЫНЯВІЧЫ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Пружан, 114 км ад Брэста, 42 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 38 гаспадарак, 68 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 32 двары, 181 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 177 жыхароў. У 2003 г. 41 гаспадарка, 72 жыхары.

**ГУТА** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 129 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 27 гаспадарак, 42 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Лыскаўскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 160 жыхароў. У 1939 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 169 жыхароў, у 1970 г. — 152 жыхары. У 2003 г. 30 гаспадарак, 50 жыхароў.

**ДАБУЧЫН** — вёска ў Хараўскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Пружан, 94 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст, на шашы Пружаны—Ружаны. 87 гаспадарак, 196 жыхароў (2005).

У 1886 г. сяло ў Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 72 двары, 390 жыхароў, меліся праваслаўная



царква, школа, карчма. Паводле перапісу 1897 г. 151 двор, 1042 жыхары, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, кузня. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Дабучынскай гміны Пружанскага пав., 139 дамоў, 969 жыхароў (1921). Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10.1940 г. да 1954 г. цэнтр сельсавета. У 1940 г. створаны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 32 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 541 жыхар. У 2003 г. 97 гаспадарак, 203 жыхары. Працуе магазін.

Вёска — радзіма вядомага журналіста А.В.Пліскі.

**ДАЛКІ** — вёска ў Ружанскім пас. савеце, за 45 км на ПнУ ад Пружан, 140 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст, на шашы Ружаны—Івацэвічы. 69 гаспадарак, 174 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 121 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 9 аднавяскоўцаў. У 2003 г. 77 гаспадарак, 187 жыхароў. Працуе магазін.

**ДЗЕДАЎКА** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Пружан, 70 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Тэўля на лініі Баранавічы—Брэст. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2005).

У 1940 г. вёска ў Шарашоўскім р-не Брэсцкай вобл., 55 двароў, 196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1941 г. спалілі вёску. Пасля вайны адноўлена. На франтах загінуў 1 вясковец, 7 чал. прапалі без вестак, 2 чал. памерлі ад ран. З 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 109 жыхароў, у 1970 г. — 123 жыхары. У 2003 г. 8 гаспадарак, 9 жыхароў.

**ДЗЕТАВЕТЧЫНА** — вёска ў Сухапальскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Пружан, 125 км ад Брэста, 52 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст, 35 гаспадарак, 50 жыхароў (2005).

З 12.10.1940 г. ў Сухопальскім с/с Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. БССР. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі і прапалі без вестак 6 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 188 жыхароў. У 2003 г. 39 гаспадарак, 60 жыхароў. Радзіма ген.-лейт., міністра абароны Беларусі ў 1992—94 П.П.Казлоўскага.

**ДОЎГАЕ** — вёска ў Шарашоўскім пас. савеце, за 30 км на ПнЗ ад Пружан, 119 км ад Брэста, 42 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст, 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1959 г. 121 жыхар, у 1970 г. — 95 жыхароў.

**ДОЎГАЕ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 10 км на У ад Пружан, 99 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 34 гаспадаркі, 61 жыхар (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 276 жыхароў. 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Шарашоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 12 дамоў, 42 жыхары (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17 ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 12 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 132 жыхары. У 2003 г. 39 гаспадарак, 72 жыхары.

**ЕСЬКАЎЦЫ** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 135 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 49 гаспадаркі, 115 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 398





жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 12 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 201 жыхар. У 2003 г. 54 гаспадаркі, 116 жыхароў.

**ЖАБІН** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Пружан, 81 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 44 гаспадаркі, 85 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 47 двароў, 322 жыхары, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 340 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 17 дамоў, 78 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. 59 двароў, 325 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўскія карнікі амаль поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. На франтах загінулі, памерлі ад ран ці прапалі без вестак 13 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 259 жыхароў. У 2003 г. 46 гаспадарак, 88 жыхароў. Працуе магазін. У цэнтры вёскі помнік Ф.Э. Дзяржынскаму.

**ЖАДЗЕНЫ** — вёска ў Пружанскім с/с, за 8 км на Пн ад Пружан, 94 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст, на аўтадарозе Пружаны—Клепачы. 102 гаспадаркі, 192 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 92 двары, 628 жыхароў, капліца, кузня. З 1921 г. у складзе Польшчы, вёска Дабучынскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 123 дамы, 557 жыхароў (1921). З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. На франтах Вял. Айч. вайны загінулі ці прапалі без вестак 33 вяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 443 жыхары. Працуе магазін.

**ЖОГАЛЫ** — вёска ў Хараўскім с/с, за 19 км на У ад Пружан, 108 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 31 гаспадарка, 65 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. 2 вёскі, у якіх разам налічвалася 13 двароў. 122 жыхары. Пазней аб'яднаны ў адну вёску. У пач. 20 ст. вёска, 145 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 5 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 159 жыхароў, у 1970 г. — 175 жыхароў. У 2003 г. 35 гаспадарак, 71 жыхар.

**ЗАГАЛІЧЫ** — вёска ў Ружанскім пас. савеце, за 46 км на ПнУ ад Пружан, 141 км ад Брэста, 39 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст, каля шашы Ружаны—Івацэвічы. 66 гаспадарак, 118 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 416 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 10 аднавяскоўцаў. У 2003 г. 70 гаспадарак, 128 жыхароў.

**ЗАГОР'Е** — вёска ў Ліноўскім с/с, каля канала Вінец, за 9 км на У ад Пружан, 98 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 59 гаспадарак, 113 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Мікіцінскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 83 двары, 472 жыхары, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 466 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім



р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 7.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 22 аднавяскоўцы. У 1970 г. 351 жыхар. У 2003 г. 68 гаспадарак, 143 жыхары.

**ЗАДВАРАНЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 10 км на У ад Пружан, 109 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 17 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Мікіцінскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 26 двароў, 171 жыхар, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 155 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 5 аднавяскоўцаў. У 1948 г. створаны калгасы «Радзіма» і імя Сталіна. Паводле перапісу 1970 г. 94 жыхары. У 2003 г. цэнтр калгаса «Дружба», 18 гаспадарак, 26 жыхароў. Працуе магазін.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Велікасельскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Пружан, 106 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. маёнтак Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 23 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў складзе Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінуў 1 жыхар, 1 прапаў без вестак.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 17 км на Пн ад Пружан, 106 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 28 гаспадарак, 47 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Рудніκоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 35 двароў, 299 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 300 жыхароў. У 2003 г. 29 гаспадарак, 50 жыхароў.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Хараўскім с/с, за 10 км на Пн ад Пружан, 99 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 25 гаспадарак, 61 жыхар (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 273 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 208 жыхароў, у 1970 г. — 145 жыхароў. У 2003 г. 29 гаспадарак, 68 жыхароў.

**ЗАМОШША** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 16 км на Пн ад Пружан, 106 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 27 гаспадарак, 52 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Рудніκоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 63 двары, 328 жыхароў, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 362 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2003 г. 29 гаспадарак, 54 жыхары.

**ЗАНЯВІЧЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 14 км на Пд ад Пружан, 88 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 17 гаспадарак, 40 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 37 жыхароў. З сак. 1921 г. у складзе Польшчы, вёска Пружанскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў складзе Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да

сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў, 1 памёр ад ран, 1 прапаў без вестак. Паводле перапісу 1959 г. 112 жыхароў у 1970 г. — 131 жыхар.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Ружанскім с/с, каля р. Зальвянка, за 50 км на ПнУ ад Пружан, 145 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 45 гаспадарак, 82 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 297 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 11 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 266 жыхароў. У 2003 г. 53 гаспадаркі, 84 жыхары. Працуе магазін. На могілках знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў баях у 1941—44 гг. У 1967 г. на магіле ўстаноўлены абеліск. У 1975 г. ўстаноўлены абеліск на ўшанаванне памяці камсамольцаў-падпольшчыкаў, якія змагаліся супраць акупантаў у Вял. Айч. вайну.

*Мікалаеўская царква (1811) у в. Засімавічы.*



**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Старавольскім с/с, за 12 км на З ад Пружан, 98 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 58 гаспадарак, 90 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 30.9.1921 г. вёска Шарашоўскай гміны Пружанскага пав. Польшчы, 50 дамоў, 292 жыхары. З 1939 г. у складзе БССР. З 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 28 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 421 жыхара, у 1970 г. — 366 жыхароў. У 2003 г. 62 гаспадаркі, 95 жыхароў.

**ЗАСІМАВІЧЫ** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Пружан, 74 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 47 гаспадарак, 107 жыхароў (2005).

У 1886 г. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., дзейнічала праваслаўная царква. У пач. 20 ст. вёска (19 жыхароў) і маёнтак (1 жыхар). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Шанёўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 26 дамоў, 128 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 280 жыхароў, у1970 г. — 249 жыхароў. У 2003 г. гаспадарак 48 гаспадарак, 102 жыхары, меўся дзіцячы сад. Захаваўся помнік архітэктуры — Мікалаеўская царква (1811).

**ЗАСІМЫ** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Пружан, 83 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).



На пач. 20 ст. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 27 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны хутар, 3 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17 ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 5 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 55 жыхароў. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.

**ЗЕЛЬЗІН** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, на аўтадарозе Зіновічы—Лыскава, за 60 км на ПнУ ад Пружан, 160 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 48 гаспадарак, 94 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. сяло, цэнтр воласці Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 253 жыхары. Побач размяшчаўся маёнтак Зельзін, 27 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. у Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі 6 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 258 жыхароў, у 1970 г. — 232 жыхары. У 2003 г. 53 гаспадаркі, 106 жыхароў. Працуе магазін. Крыжаўзвіжанская царква — помнік архітэктуры 19 ст.

**ЗЕЛЯНЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр Зеляневіцкага с/с, каля шашы Ваўкавыск—Ружаны, за 63 км на ПнЗ ад Пружан, 136 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 57 гаспадарак, 107 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Зельзінскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 315 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). Цэнтр сельсавета з 12.10.1940 г. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінулі 10 аднавяскоўцаў. У 1959 г. 228 жыхароў, у 1970 г. — 279 жыхароў. У 2003 г. 90 гаспадарак, 320 жыхароў. Працуюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, дзіцячыя яслі-сад, 2 магазіны, сярэдняя школа, амбулаторыя, б-ка, клуб. Каля клуба ўстаноўлены (1972) помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЗІНОВІЧЫ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, на шашы Ваўкавыск—Ружаны, за 58 км на ПнУ ад Пружан, 158 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Брэст. 105 гаспадарак, 245 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Зельзінскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 380 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 274 жыхары, у 1970 г. — 301 жыхара. У 2003 г. 105 гаспадарак, 258 жыхароў.

**ЗОСІН ВЯЛІКІ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Пружан, 69 км ад Брэста, 44 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 15 гаспадарак, 33 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска Зосін у Гарадзішчанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 32 двары, 227 жыхароў. У пач. 20 ст. в. Вялікі Зосін, 243 жыхары. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 41 двор, 134 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалены ў сярэдзіне ліп. 1944 г. На франтах загінулі 4 вяскоўцы, 2 памерлі ад ран, 7 прапалі без

вестак. Паводле перапісу 1959 г. 191 жыхар, у 1970 г. — 143 жыхары. У 2003 г. 18 гаспадарак, 40 жыхароў.

**ЗОСІН МАЛЫ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Пружан, 68 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. маёнтак Зосін, у Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 83 жыхары. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак Зосін Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 14 дамоў, 71 жыхар (1921). У 1939 г. далучаны да БССР і пераўтвораны ў вёску Зосін Малы. З 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобласці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 вяскоўцы, 2 жыхары прапалі без вестак. Паводле перапісу 1970 г. 98 жыхароў. У 2003 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў.

**ІЗБІЦЫ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Пружан, 118 км ад Брэста, 46 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 32 гаспадаркі, 75 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 177 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 7 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 163 жыхары. У 2003 г. 30 гаспадарак, 70 жыхароў.

**ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫ** — пасёлак у Ліноўскім с/с, за 12 км на Пд ад Пружан, 73 км ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 56 гаспадарак, 130 жыхароў (2005).

Узнік у пасляваенны перыяд. Паводле перапісу 1970 г. пасёлак, 146 жыхароў. У 2003 г. 56 гаспадарак, 126 жыхароў.

**КАБЫЛАЎКА** — вёска ў Хараўскім с/с, цэнтр с.-г. прадпрыемства «Айчына», каля шашы Пружаны—Ружаны, за 11 км на Пн ад Пружан, 100 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 138 гаспадарак, 466 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. маёнтак у Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 16 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на фронце загінуў 1 вясковец. Паводле перапісу 1970 г. 103 жыхары. У 2003 г. 141 гаспадарка, 459 жыхароў. Працуюць сярэдняя школа-сад, магазін.

**КАВАЛІ** — вёска ў Ружанскім с/с, за 50 км на ПнУ ад Пружан, 145 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 81 гаспадарка, 164 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 622 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі ці прапалі без вестак 20 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 409 жы-



*Вучэбна-педагагічны комплекс Навасёлкаўскі дзіцячы сад—сярэдняя школа з фізкультурна-эстэтычным ухілам у в. Кабылаўка.*



хароў. У 2003 г. цэнтр саўгаса «Кавалі». 96 гаспадарак, 168 жыхароў. Дзейнічаюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, клуб, аддз. сувязі, магазін, базавая школа-сад. У цэнтры вёскі знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г. ў баях з гітлераўцамі. На магіле ўстаноўлены абеліск (1967).

**КАЗАКІ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 29 км ад Пружан, 61 км ад Брэста, 31 км ад чыг. ст. Жабінка на лініі Баранавічы—Брэст. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 8 двароў, 67 жыхароў. У пач. 20 ст. 79 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 18 дамоў, 109 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 64 жыхары. У 2003 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў.

**КАЗЛЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 22 км на Пн ад Пружан, 117 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 56 гаспадарак, 95 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 141 двор, 850 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, піцейны дом, кузня. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі 2 аднавяскоўцы; у ліп. 1942 г. гітлераўскія карнікі загубілі 180 мірных жыхароў. У 2003 г. ў вёсцы 62 гаспадаркі, 105 жыхароў. Працуе магазін. Абеліск на магіле ахвяр фашызму.

**КАЛАЗУБЫ** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, цэнтр ААТ «Маеўскае», за 55 км на ПнУ ад Пружан, 160 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 117 гаспадарак, 270 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 627 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Дзейнічалі падп. арг-цыі КПЗБ і КСМЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У 1940—63 гг. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. антыфашысцкая арг-цыя. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 15 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. вёска налічвала 425 жыхароў. У 2003 г. цэнтр калгаса «1 Мая», 120 гаспадарак, 280 жыхароў. Дзейнічаюць базавая школа, рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, базавая школа-сад. У цэнтры вёскі ўстаноўлены (1967) абеліск землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы В.П.Шапавала.

**КАЛЕДЗІЗНА** — хутар у Сухопальскім с/с. У 2005 г. пастаянных жыхароў не было.

У 1940 г. 11 гаспадарак, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў вер. 1941 г. поўнасцю спалілі хутар.

**КАЛЯДЗІЧЫ** — вёска ў Хараўскім с/с, цэнтр ААТ «Агра-Калядзічы», на шашы Пружаны—Ружаны, за 10 км на ПнУ ад Пружан, 106 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 234 гаспадаркі, 632 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 111 двароў, 742 жыхары, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. — 742 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. Сяляне-лесарубы прымалі ўдзел у забастоўцы ў Ружанскай пушчы (1932—33). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў





Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. створаны калгас імя Будзённага. Паводле перапісу 1959 г. 762 жыхары, у 1970 г. — 658 жыхароў. У 2003 г. цэнтр калгаса «Світанне», 238 гаспадарак, 631 жыхар. Працуюць клуб, б-ка, ветпункт, магазін.

Вёска — радзіма дзеяча рэв. руху ў Зах. Беларусі П.П.Буцько і аднаго з кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну С.П.Пацярухі.

**КАПЛІ** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, на шашы Ружаны—Івацэвічы, за 42 км на ПнЗ ад Пружан, 137 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 18 гаспадарак, 32 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 448 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. антыфашысцкая арг-цыя; на франтах загінулі ці прапалі без вестак 6 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 85 жыхароў. У 2003 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў.

**КАРАСІ** — вёска ў Ружанскім с/с, каля шашы Пружаны—Ружаны, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 135 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 29 гаспадарак, 52 жыхары.

У пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 185 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 197 жыхароў, у 1970 г. — 154 жыхары. У 2003 г. 33 гаспадаркі, 62 жыхары.

**КАСІНШЧЫНА** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 16 км на Пн ад Пружан, 111 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ваколіца ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 11 двароў, 57 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 15 гаспадарак, 45 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. Паводле перапісу 1970 г. 39 жыхароў. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.

**КАТЫЛЫ** — вёска Шчарчоўскага с/с, за 29 км на ПдЗ ад Пружан, за 69 км ад Брэста, 39 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. Катылі — вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 6 двароў, 50 жыхароў. У пач. 20 ст. 57 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 43 жыхары (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 5.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. У 2003 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў.

**КАЦЁЛКІ** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Пружан, 82 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 103 гаспадаркі, 249 жыхароў (2005).

У 1886 г. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 45 двароў, 504 жыхары, піцейны дом. У пач. 20 ст. 48 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Шанёўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 168



двароў, 419 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 30 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 610 жыхароў, у 1970 г. — 502 жыхары. У 2003 г. 110 гаспадарак, 257 жыхароў. Працуе магазін. Каля вёскі знаходзяцца 2 археал. помнікі — курганныя могільнікі.

Вёска — радзіма бел. танцоўшчыка, заслужанага работніка культуры, балетмайстра І.М.Хвораста.

**КАШТАНАЎКА** — вёска ў Пружанскім с/с, за 7 км на Пд ад Пружан, 82 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 39 гаспадарак, 73 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1970 г. вёска ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., 193 жыхары.

**КВАСОЎШЧЫНА** — хутар у Шаняўскім с/с, за 11 км на З ад Пружан, 85 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2005).

**КІВАЧЫНА** — вёска ў Шарашоўскім пас. савеце, за 35 км на ПнЗ ад Пружан, 125 км ад Брэста, 47 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 35 гаспадарак, 61 жыхар (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Бялоў-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 963 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. У 1940—56 гг. у Шарашоўскім, потым у Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінулі ці прапалі без вестак 15 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 212 жыхароў, у 1970 г. — 199 жыхароў.

Вёска — радзіма ген.-лейт. С.П.Мікульскага.

**КЛЕПАЧЫ** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, цэнтр ААТ «Жураўлінае», за 50 км на ПнЗ ад Пружан, 145 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 72 гаспадаркі, 120 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 325 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 15 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 451 жыхар. У 2003 г. 49 гаспадарак, 130 жыхароў. Працуюць магазін, дзіцячы сад, сярэдняя школа.

**КЛЕПАЧЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 19 км на Пн ад Пружан, 114 км ад Брэста, 31 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 474 гаспадаркі, 304 жыхары (2005).

У канцы 17 — пач. 18 ст. ў складзе ВКЛ. У 1700 г. тут адбылося хваляванне сялян, якія адмовіліся выконваць павіннасці. Выступленне было жорстка падаўлена войскамі. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, вёска Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 248 жыхароў, ветраны млын, хлебазапасны магазін; у Котранскай вол. тых жа павета і губерні. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 123 двары, 617 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску, загубілі 77 жыхароў. Вызвалены 17 ліп. 1944 г. часцямі 50-й гв. стралк. дывізіі. Пасля вайны адноўлены. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 215 жыхароў. У 2003 г. 480 гаспадарак, 1375 жыхароў. Дзейнічаюць дзіцячы сад, магазін, сярэдняя школа.

**КЛЕТНАЕ** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Пружан, 79 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 40 гаспадарак, 64 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 117 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 141 жыхар, у 1970 г. — 182 жыхары. У 2003 г. 44 гаспадаркі, 69 жыхароў.

**КЛЯТНОЕ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Пружан, 115 км ад Брэста, 43 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 47 гаспадарак, 82 жыхары (2005).

Вядома як вёска з 1641 г. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 79 двароў, 512 жыхароў, працавалі кузня, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 7 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 338 жыхароў. У 2003 г. 49 гаспадарак, 83 жыхары.

**КОЗІ БРОД** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Пружан, 70 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага р-на Гродзенскай вобл., 11 двароў, 82 жыхары, ветраны млын. У пач. 20 ст. 83 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 33 жыхары (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. антыфашысцкая арг-цыя; у 1943—44 гг. у вёсцы базіраваўся партыз. атрад імя Чкалава брыгады імя Панамарэнкі (потым у складзе брыгады «Савецкая Беларусь»).

**КОМЛІШЧА** — вёска ў Хараўскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Пружан, 99 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 40 гаспадарак, 83 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 27 двароў, 202 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. вёска, 257 жыхароў, у 1970 г. — 234 жыхары. У 2003 г. 43 гаспадаркі, 87 жыхароў.

**КОНЦЫКІ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Пружан, 88 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 69 жыхароў; каля вёскі працаваў цагельны з-д. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, асада (зямельнае ўладанне) Байкоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 3 дамы, 17 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сяр. ліп. 1944 г. акупіраваны

*Турыстычная сядзіба ў в. Клетнае.*





ням.-фаш. захопнікамі. На фронце прапаў без вестак 1 вясковец. Паводле перапісу 1970 г. 37 жыхароў.

**КОТРА** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 18 км на Пн ад Пружан, 107 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 38 гаспадарак, 57 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. сяло, цэнтр воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 31 двор, 206 жыхароў, дзейнічалі нар. вучылішча, валаснае праўленне, хлебазапасны магазін, 2 царквы (адна з іх прыходская). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 21 дом, 127 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940—54 гг. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі ці прапалі без вестак 11 аднавяскоўцаў. У 2003 г. 39 гаспадарак, 63 жыхары.

**КРАСНАЕ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 15 км на Пн ад Пружан, 110 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 43 гаспадаркі, 83 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. сяло ў Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 470 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Котранскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 30 дамоў, 135 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940—62 гг. цэнтр сельсавета. У 1940 г. 85 двароў, 360 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 93 жыхароў. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 5 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 221 жыхар. У 2003 г. 48 гаспадарак, 89 жыхароў. Помнік на магіле ахвяр фашызму — 224 мірных жыхароў вёсак Клепачы, Краснае, Ліхачы, Ліхасельцы, якіх загубілі гітлераўцы ў ліп. 1942 г.

**КРУГЛАЕ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 6 км на У ад Пружан, за 95 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 40 гаспадарак, 61 жыхар (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 370 жыхароў. У вер. 1906 г. тут адбылося сял. хваляванне, падчас якога натоўп сялян збіў 2 жандараў за тое, што яны несправядліва абаранялі інтарэсы мясц. памешчыка. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 10 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 271 жыхар. У 2003 г. цэнтр калгаса імя Жданава, 44 гаспадаркі, 63 жыхары. Працуюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, клуб, магазін, аддз. сувязі. Захаваўся архіт. помнік — Прачысценская царква (1834).

**КРУПА** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, на аўтадарозе Ружаны—Лыскава, за 55 км на ПнУ ад Пружан, 144 км ад Брэста, 39 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 65 гаспадарак, 117 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Зельзінскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай, 730 жыхароў. Каля вёскі размяшчаўся аднайменны фальварак Крупа, 8 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 11 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 512 жыхароў, у 1970 г. — 440 жыхароў. У 2003 г. 71 двор, 134 жыхары.

**КРЫНІЦА** — вёска ў Шарашоўскім пас. савеце, каля шашы Пружаны — мяжа Польшчы, за 32 км на ПнЗ ад Пружан, 21 км ад Брэста, 44 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 99 гаспадарак, 297 жыхароў (2005).

У 1886 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 19 двароў, 334 жыхары, праваслаўная царква, млын, карчма. Паводле перапісу 1897 г. 64 двары, 428 жыхароў, капліца, карчма, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Дзейнічалі Крыніцка-Белавежскія райкомы КПЗБ і КСМЗБ, пад кіраўніцтвам якіх у 1932—33 адбылася буйная забастоўка рабочых — лесарубаў Белавежскай пушчы. З ліст. 1939 у БССР. У 1920—30-я г. у Крыніцы працавала паштовая станцыя на дарозе Пружаны—Белавеж. У 1940—56 гг. у Шарашоўскім, потым у Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл., цэнтр сельсавета з 12.10.1940 г. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1941 цалкам спалілі вёску. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 18 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. вёска, 230 жыхароў. У 2003 г. цэнтр сельсавета і калгаса «Новая Крыніца», 70 гаспадарак, 230 жыхароў. Працуюць Дом культуры, б-ка, базавая школа, рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. На паўд. ускраіне вёскі брацкая магіла 12 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў баі супраць польскіх інтэрвентаў у ліп. 1920 г. каля Крыніцы. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла. За 13 км на ПнЗ ад вёскі, у Белавежскай пушчы пастаўлены (1972) помнік сав. пагранічніку Р.І.Кафанаву, які загінуў у 1939 г. пры ахове дзярж. граніцы. За 13 км на З ад вёскі, у Белавежскай пушчы знаходзіцца магіла ахвяр фашызму — каля 120 жыхароў навакольных вёсак, якіх загубілі тут у 1941 г. гітлераўскія карнікі. На магіле пастаўлены абеліск.

**КУЗЕВІЧЫ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, на шашы Ваўкавыск—Ружаны, за 48 км на ПнУ ад Пружан, 146 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 62 гаспадаркі, 121 жыхар (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Зельзінскай вол. Ваўкавыскага пав., 354 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 321 жыхар, у 1970 г. — 330 жыхароў. У 2003 г. 67 гаспадарак, 136 жыхароў, працаваў магазін.

**КУЛІКІ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 11 км на У ад Пружан, 100 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. У 2005 г. ў вёсцы не было пастаянных жыхароў.

На пач. 20 ст. фальварак у Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 4 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 58 жыхароў.

**КУЛЯНЫ** — вёска ў Ружанскім с/с, за 60 км на ПнУ ад Пружан, 155 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 75 гаспадарак, 130 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 316 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала маладзёжная антыфаш. падп. арг-цыя. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 49 аднавяскоўцаў. У 1954—63 гг. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1970 г. 452 жыхары. У 2003 г. 79 гаспадарак, 139 жыхароў. Працуе магазін. У цэнтры вёскі брацкая магіла 744 воінаў і 1 партызана, якія загінулі ў баях у 1941—44 гг. На магіле ў 1954 г. ўстаноўлены абеліск. На могілках магіла ахвяр фашызму — 14 мірных жыхароў вёскі, якіх загубілі



акупанты ў 1944 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**КУПІЧЫ** — вёска ў Шарашоўскім пас. Савеце, на шашы Пружаны—мяжа Польшчы, за 28 км на ПнЗ ад Пружан, 117 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 90 гаспадарак, 192 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 87 двароў, 540 жыхароў, працавалі цагельны з-д, кузня, хлебазапасны магазін. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Шарашоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 71 дом, 436 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР. У 1940—56 гг. у Шарашоўскім, потым у Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі ці прапалі без вестак 23 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 546 жыхароў, у 1970 г. — 447 жыхароў. Працуе магазін. У цэнтры вёскі брацкая магіла 39 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. Помнік ушаноўвае таксама памяць землякоў, што загінулі ў 1941—45 гг.

**КУПЛІН** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 2 км на У ад Пружан, 101 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 48 гаспадарак, 79 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Мікіцінскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 54 двары, 403 жыхары, меліся піцейны дом, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 400 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак, 47 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 22 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 236 жыхароў. У 2003 г. 53 гаспадаркі, 93 жыхары.

Вёска — радзіма ўдзельніка рэв. руху ў Зах. Беларусі А.П.Ільяшука.

**КУТНЯВІЧЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 13 км на Пд ад Пружан, 86 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 17 гаспадарак, 43 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вёска Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 164 жыхары. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Бакунскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 64 жыхары. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў складзе Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінуў 1 вясковец, без вестак прапалі 4 ураджэнцы вёскі. Паводле перапісу 1959 г. 245 жыхароў. У 1970 г. 185 жыхароў. Дзейнічае магазін. У цэнтры вёскі брацкая магіла 50 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў Вял. Айч. вайну. У 1946 г. на магіле ўстаноўлены абеліскі.

**КУШЛІ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 15 км на У ад Пружан, 104 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 14 двароў, 60 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска, 7 дамоў, 37 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 2003 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары.

**ЛАЗОЎКА** — вёска ў Старавольскім с/с, за 13 км на З ад Пружан, 99 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 15 гаспадарак, 21 жыхар (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 119 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Шарашоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 40 да-

моў, 205 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 10 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 259 жыхароў, 1970 г. — 206 жыхароў. У 2003 г. 20 гаспадарак, 25 жыхароў.

**ЛАСАСІН** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, на р. Муцьвіца, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 135 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 106 гаспадарак, 209 жыхароў (2005).

У 19 — пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У час паўстання 1863—64 гг. каля Ласасіна ў 1863 г. адбыўся жорсткі бой паміж паўстанцамі і царскімі войскамі. Паўстанцы былі разбіты. Загінуўшыя былі пахаваны на месцы бою, за 4 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Гантарыя. У 1886 г. ў вёсцы працавалі суконная ф-ка, 2 вадзяныя млыны. У пач. 20 ст. вёска, 415 жыхароў. Побач размяшчаўся маёнтак Ласасіна (32 жыхары). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17 ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 15 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 642 жыхары. У 2003 г. 117 гаспадарак, 235 жыхароў. Працуе магазін. Каля вёскі, на магіле паўстанцаў, якія загінулі ў баі 1863 г., устаноўлены помнік.

*Сядзібны дом (канец 18 — пач. 20 ст.) каля в. Лінова.*



**ЛІБІЯ** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Пружан, 80 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 12 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 158 жыхароў, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 163 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 23 дамы, 77 жыхароў (1921). З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. 19 двароў, 75 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. акупанты спалілі вёску і загубілі 20 яе жыхароў. На франтах загінулі 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 70 жыхароў. У 2003 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ЛІБЯРПОЛЬ** — хутар у Зеляневіцкім с/с, у Ружанскай пушчы, за 34 км на ПнУ ад Пружан, 123 км ад Брэста, 47 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар. У 1970 г. 69 жыхароў.

**ЛІНОВА 2** — былая вёска ў Ліноўскім с/с, за 13 км на Пд ад Пружан, 74 км ад Брэста, за 3 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст.

У 1886 г. Лінова — сядзіба ў Ліноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., працавалі цагельны і вінакурны з-ды. У пач. 20 ст. тут існавалі 2 маёнткі з назвай Лінова, якія разам налічвалі 78 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; вёска Ліноўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 41 дом, 197 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп.







*Дзіцячы ансамбль «Ліноўскія музыкі» Дома культуры в. Лінова.*

1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 14 аднавяскоўцаў. У 1949 г. створаны калгас «30 гадоў БССР». Паводле перапісу 1959 г. 714 жыхароў, у 1970 г. — 580 жыхароў. У 2004 г. аб'яднана з в. Лінова 1 у адзіную в. Лінова.

**ЛІНОВА** — вёска, цэнтр Ліноўскага с/с і ААТ «Ліноўскае», за 12 км на Пд ад Пружан, 73 км ад Брэста, на аўтадарозе Пружаны—Мачульнікі. У вёсцы чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 689 гаспадарак, 1763 жыхары (2005).

У 1886 г. Лінова (Лінёва) — вёска, цэнтр воласці. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 52 двары, 751 жыхар; дзейнічалі валаснoе праўленне, станцыя чыгункі Лінова (за 3 вярсты). Паводле перапісу 1897 г. вёска (162 двары, 985 жыхароў, нар. вучылішча, валаснoе праўленне, хлебазапасны магазін, паштовая станцыя, карчма), і чыг. ст. Лінова (5 двароў, 60 жыхароў). Летам 1906 г. ў Лінове адбылося хваляванне сялян, якое быдо падаўлена ўрадавымі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 20 дамоў, 145 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. вёска, цэнтр сельсавета Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 3 аднавяскоўцы. Жыхары Ліноўскага с/с ў 1945 г. сабралі для будаўніцтва танкаў 120 тыс. рублёў; адзін з танкаў быў названы «Лінова». Паводле перапісу 1970 г. вёска Лінова 1, 1268 жыхароў. У 2003 г. 370 гаспадарак, 1120 жыхароў, лясніцтва, рамонтныя с.-г. майстэрні, ветпункт, Дом культуры, амбулаторыя, дзіцячы сад, аддз. сувязі, сярэдняя школа, 4 магазіны, пункт быт. абслугоўвання. Помнікі гісторыі: 2 абеліскі на брацкай магіле каля 400 сав. ваеннапалонных і ахвяр фашызму, якіх загубілі гітлераўцы ў Вял. Айч. вайну. Помнік архітэктуры — касцёл 19 ст.

Апрача Лінова на тэр. сельсавета знаходзяцца вёскі: Альшаны, Аранчыцы, Варотнае, Млынок; пас. Інтэрнацыянальны. У 2004 г. вёска Лінова 1 аб'яднана з в. Лінова 2 у в. Лінова.

**ЛІХАСЕЛЬЦЫ** — вёска ў Велікасельскім с/с, за 22 ам на ПнЗ ад Пружан, 106 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 65 гаспадарак, 124 жыхары (2005).

У 1886 г. вёска Велікасельскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 54 двары, 469 жыхароў, дзейнічалі валаснoе праўленне, капліца, кузня, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. 105 двароў, 665 жыхароў, хлебазапасны магазін, кузня, піцейны дом. У пач. 20 ст. 715 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Котранскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 35 дамоў, 160 жыхароў (1921). З 1921 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінулі ці прапалі без вестак 24 аднавяскоўцы. Паводле перапісу





*Кляштар місіянераў у в. Лыскава: Троіцкі касцёл (1785) і жылы корпус (2-я пал. 18 ст.).*

1959 г. 505 жыхароў, у 1970 г. — 413 жыхароў. Дзейнічае магазін.

**ЛІХАЧЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 16 км на Пн ад Пружан, 111 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 15 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 65 двароў, 527 жыхароў, працавала кузня. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. 56 двароў, 226 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ням.-фаш. акупанты ў ліп. 1942 г. спалілі вёску і загубілі 45 яе жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 175 жыхароў. У 2003 г. 16 гаспадарак, 24 жыхары.

**ЛЫСКАВА** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, цэнтр ААТ «Радзіма», за 43 км на ПнУ ад Пружан, 132 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 191 гаспадарка, 401 жыхар (2005).

У пісьмовых крыніцах узгадваецца з 15 ст. У 15—17 ст. тут існаваў замак. У 19 — пач. 20 ст. мястэчка, цэнтр воласці Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. У пач. 20 ст. 1617 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім р-не Брэсцкай вобл. (з 12.10.1940 цэнтр сельсавета), з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-не той жа вобласці (8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). У 1940 г. 290 двароў, 1250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17 ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1944 г. гітлераўскія карнікі спалілі 90 двароў і загубілі 535 жыхароў. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 22 аднавяскоўцы. У 1949 г. ў вёсцы створаны калгасы «Радзіма» і імя Ракасоўскага. Паводле перапісу 1959 г. 596 жыхароў, у 1970 г. — 622 жыхары. У 2003 г. цэнтр калгаса «Радзіма», 200 гаспадарак, 400 жыхароў. Са снеж. 2006 у Зеляневіцкім с/с. Дзейнічаюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, лясніцтва, сярэдняя школа, клуб, б-ка, 3 магазіны, пункт быт. абслугоўвання, дзіцячы сад. Захаваліся помнікі архітэктуры: кляштар місіянераў, які ўключае Троіцкі касцёл і жылы корпус (18—19 ст.); царква Раства Багародзіцы (1930), рэшткі каралеўскага замка (15—17 ст.). У цэнтры вёскі брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў баях у 1941—44 гг. На магіле ў 1965 г. ўстаноўлены скульптура воіна і абеліск. Помнік таксама ўшаноўвае памяць землякоў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. Каля касцёла пахаваны польскі паэт і драматург Ф.Карпінскі.

**ЛЯЖАЙКА** — вёска ў Мокраўскім с/с, на аўтадарозе Пружаны—Клепачы, за 13 км на Пн ад Пружан, 102 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 24 гаспадаркі, 53 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. ваколіца ў Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 85 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, ваколіца Котранскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 21 дом, 237 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загі-



нулі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 141 жыхар. У 2003 г. 26 гаспадарак, 59 жыхароў.

**ЛЯЎКІ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 36 км на ПнЗ ад Пружан, 146 км ад Брэста, 46 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 9 двароў, 62 жыхары. У пач. 20 ст. ўрочышча, 70 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР, вёска. З 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 12 двароў, 50 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. спалілі вёску. Пасля вайны адноўлены. Паводле перапісу 1959 г. 85 жыхароў, у 1970 г. — 72 жыхары. У 2003 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў.

**ЛЯХІ** — вёска ў Пружанскім с/с, за 1 км на Пд ад Пружан, 77 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 34 гаспадаркі, 69 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска (9 жыхароў), ваколіца (10 жыхароў) і 2 маёнткі (разам 22 жыхары) у складзе Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у





*Магіла пісьменніка Ф.Карпінскага каля Троіцкага касцёла ў в. Лыскава.*

БССР. З 15.1.1940 г. вёска Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінулі ці прапалі без вестак 8 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 188 жыхароў.

**МАГІЛЁЎЦЫ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 54 км на ПнУ ад Пружан, 143 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 257 гаспадарак, 619 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска і маёнтак у Лыскаўскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. У пач. 20 ст. вёска налічвала 1130 жыхароў, маёнтак — 97 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 12.10.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17 ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала антыфаш. падп. арг-цыя. У маі 1942 г. гітлераўскія карнікі загубілі 68 жыхароў Магілёўцаў і навакольных вёсак. 20 аднавяскоўцаў загінулі ў баях ці прапалі без вестак на франтах вайны. Паводле перапісу 1970 г. 1124 жыхары. У 2003 г. 255 гаспадарак, 675 жыхароў. Працуюць магазін, сярэдняя школа, б-ка, бальніца, дзіцячы сад, аддз. сувязі, 3 магазіны, сярэдняя школа, ветпункт, рамонтна-механічныя майстэрні. Каля вёскі археал. помнік — курганны могільнік.

*Царква Раства Багародзіцы (1833) у в. Лыскава.*

**МАЗАЛІ** — вёска ў Зяленевіцкім с/с, на шашы Ваўкавыск—Ружаны, за 52 км

на ПнУ ад Пружан, 140 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 29 гаспадарак, 43 жыхары (2005).

У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 аднавяскоўцаў. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). Паводле перапісу 1970 г. каля 160 жыхароў. У 2003 г. 31 гаспадарка, 48 жыхароў.

**МАЛОЧКІ** — вёска ў Ружанскім с/с, каля шашы Пружаны—Ружаны, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 135 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 77 гаспадарак, 167 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. сяло ці вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. сяло, 35 двароў, 357 жыхароў, дзейнічалі царква і піцейны дом. У пач. 20 ст. вёска, 437 жыхароў. З 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). У 1948—54 гг. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 13.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінуў і прапаў без вестак 21 аднавясковец. У 1970 г. ў вёсцы 386 жыхароў. У 2003 г. 85 гаспадарак, 175 жыхароў. Працуе магазін. У цэнтры вёскі знаходзіцца брацкая магіла 187 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1941—44 гг. У 1955 г. на магіле ўстаноўлены абеліск.

**МАЛЫ КРАСНІК** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 31 км на ПнУ ад Пружан, 120 км ад Брэста, 48 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 20 гаспадарак, 39 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 8 двароў, 60 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. 16 двароў, 61 жыхар. У Вял. Айч. вайну на франтах прапалі без вестак 2 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 122 жыхары. У 2003 г. 23 гаспадаркі, 46 жыхароў.

**МАЛЫЯ ЯКАВІЧЫ** — вёска ў Пружанскім с/с, за 2 км на Пн ад Пружан, 101 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 29 гаспадарак, 61 жыхар (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 73 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 121 жыхар.

**МАНЦЫ** — вёска ў Шарашоўскім пас. Савеце, за 19 км на З ад Пружан, 100 км ад Брэста, 31 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Шарашоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай вол., 120 жыхароў. З 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Шарашоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 да 17.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1970 г. 38 жыхароў. У 2003 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў.

**МАНЧЫКІ** — вёска ў Ружанскім с/с, на шашы Пружаны—Ружаны, за 38 км на ПнУ ад Пружан, 133 ам ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 53 гаспадаркі, 100 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 270 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у



Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 9 вяскоўцаў, 2 прапалі без вестак. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 276 жыхароў. У 2003 г. 57 гаспадарак, 113 жыхароў. Дзейнічае магазін. На могілках знаходзіцца магіла ахвяр фашызму — 15 мірных жыхароў вёскі, якіх загубілі гітлераўцы у 1941—44 гг. На магіле ў 1965 г. ўстаноўлены абеліск.

**МАСЕВІЧЫ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 128 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 56 гаспадарак, 100 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Лыскаўскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 325 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 18 аднавяскоўцаў. У 1949 г. створаны калгас «Радзіма». Паводле перапісу 1959 г. 382 жыхары, у 1970 г. — 337 жыхароў. У 2003 г. 61 гаспадарка, 115 жыхароў.

**МІКАЛАЕВІЧЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 16 км на Пд ад Пружан, 89 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 17 гаспадарак, 43 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 21 жыхар. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Байкоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 8 дамоў, 37 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў складзе Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы, 2 памерлі ад ран, 1 прапаў без вестак. Паводле перапісу 1970 г. 89 жыхароў.

**МІКІЦІЧЫ** — хутар у Ружанскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Пружан, 138 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. маёнтак у Мікіцінскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 68 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, вёска. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. ( 8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 7 аднавяскоўцаў. У 2003 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары.

**МЛЫНОК** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Пружан, 75 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. маёнтак у Ліноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 4 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. У 1950 г. створаны калгас імя Талбухіна. Паводле перапісу 1970 г. 114 жыхароў. У 2003 г. 16 гаспадарак, 31 жыхар.

**МОКРАЕ** — вёска, цэнтр Мокраўскага с/с, за 13 км на Пн ад Пружан, 102 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 96 гаспадарак, 265 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 25 двароў, 194 жыхары, хлебазапасны магазін, прыходская царква, капліца. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Котранскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 19 дамоў, 98 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., з 1962 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 13 аднавяскоўцаў. Паводле



*Петрапаўлаўская царква ў в. Мокрае.*

перапісу 1970 г. 195 жыхароў. У 2003 г. цэнтр калгаса «Чырвоны Маяк», 100 гаспадарак, 285 жыхароў. Дзейнічаюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, клуб, сярэдняя школа-сад, б-ка, магазін. Помнік гісторыі: скульптура воіна на брацкай магіле 46 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941—44 гг. Помнік архітэктуры 19 ст. — Петрапаўлаўская царква.

Апрача в. Мокрае на тэр. сельсавета знаходзяцца вёскі: Баравікі, Бельчыцы,



*Набажэнства ў Петрапаўлаўскай царкве ў в. Мокрае.*

Залессе, Замошша, Казлы, Касіншчына, Клепачы, Котра, Краснае, Кушлі, Ліхачы, Ляжайка, Навадворцы, Несцяркі, Нямковічы, Пескі, Пасталова, Руднікі, Сілічы, Стаі, Труханавічы, Шаняўцы, Янаўцы; пас. Клепачы.

**МУРАВА** — вёска ў Сухопальскім с/с, цэнтр ААТ «Мурава», за 25 км на ПнЗ ад Пружан, 114 км ад Брэста, 42 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 230 гаспадарак, 599 жыхароў (2005).

У 1886 г. сяло ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., дзейнічалі праваслаўная царква, капліца, школа, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 187 двароў, 1236 жыхароў, нар. вучылішча, праваслаўная царква, кузня, крама, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., у 1940—54 гг. вёска, цэнтр сельсавета таго ж раёна. У 1940 г. створаны калгас «Чырвоная Мурава». У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 24 аднавяскоўцы. У 1941—42 гг. гітлераўскія карнікі расстралялі 32 першых членаў калгаса. Паводле перапісу 1970 г. 817 жыхароў. У 2003 г. цэнтр калгаса імя Калініна, 239 гаспадарак, 593 жыхары. Працуюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, дзіцячы сад, магазін. На Доме культуры на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**МЫЛЬНІСК** — вёска ў Шарашоўскім пас. Савеце, за 29 км на З ад Пружан, 118 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Шарашоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 86 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. да 1956 г. ў Шарашоўскім, потым у Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г.



акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў, у 1970 г. — 97 жыхароў.

**НАВАДВОРЦЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 23 км на Пн ад Пружан, 120 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 30 гаспадарак, 64 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав., 38 двароў, 224 жыхары. У пач. 20 ст. 227 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1946 г. створаны калгас «1 Мая». Паводле перапісу 1970 г. 126 жыхароў. У 2003 г. 30 гаспадарак, 60 жыхароў.

**НАВАСАДЫ** — вёска ў Ружанскім пас. Савеце, за 47 км на ПнУ ад Пружан, 141 км ад Брэста, 39 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 37 гаспадарак, 54 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Масевіцкай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 566 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 17 аднавяскоўцаў. У 2003 г. 39 гаспадарак, 61 жыхар. Працуе магазін.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Пружан, 114 км ад Брэста, 42 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 37 гаспадарак, 54 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 134 двары, 831 жыхар, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 13 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 471 жыхар. У 2003 г. 108 гаспадарак, 212 жыхароў. Працуе магазін.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Хараўскім с/с, за 9 км на Пн ад Пружан, 98 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 44 гаспадаркі, 78 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 41 двор, 273 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 277 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 19 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 343 жыхары, у 1970 г. — 316 жыхароў. У 2003 г. 48 гаспадарак, 89 жыхароў.



*Царква ў в. Мурава.*

**НЕПАМАЦЫНАЎКА** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Пружан, 116 км ад Брэста, 44 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 39 гаспадарак, 86 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гро-

дзенскай губ., 27 двароў, 179 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 7 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 212 жыхароў. У 2003 г. 41 гаспадарка, 84 жыхары.

Вёска — радзіма бел. гісторыка П.П.Droня.

**НЕСЦЯРКІ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 18 км на Пн ад Пружан, 107 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 23 гаспадаркі, 42 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., меўся хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 291 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 167 жыхароў. У 2003 г. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў.

**НОВЫЯ ЗАСІМАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Новазасімавіцкага с/с, які складаецца з адной гэтай вёскі, за 5 км на Пн ад Пружан, 94 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 1212 гаспадарак, 3497 жыхароў (2005).

Узнікла ў 1990-я г. на месцы былой воінскай часці, назву атрымала ад суседняй в. Засімавічы Шаняўскага с/с. Дзейнічаюць аддз. сувязі, б-ка, Дом культуры, дзіцячы сад, камбінат быт. абслугоўвання, сярэдняя і муз. школа, сталовая, амбулаторыя, некалькі магазінаў.

**НОСКІ (НАСКІ)** — вёска ў Хараўскім с/с, за 10 км на Пн ад Пружан, 99 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 36 гаспадарак, 83 жыхары (2005).

У 1886 г. вёска, цэнтр воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 18 двароў, 193 жыхары, дзейнічалі валаснoe праўленне, школа. У пач. 20 ст. 260 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, пазней у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 12 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 204 жыхары, у 1970 г. — 186 жыхароў. У 2003 г. 38 гаспадарак, 69 жыхароў.

**НЯМКОВІЧЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 15 км на Пн ад Пружан, 110 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 16 двароў, 98 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. 31 двор, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 25 яе жыхароў. Пасля вайны адноўлена. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 55 жыхароў. У 2003 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. Каля вёскі, у лесе, знаходзіцца магіла ахвяр фашызму — 58 мірных жыхароў вёсак Нямковічы і Пасталова, загубленых гітлераўцамі ў ліп. 1942 г. На магіле пастаўлены абеліск.

**ОБЕЧ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 22 км на Пд ад Пружан, 85 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 41 гаспадарка, 82 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 444 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Пружанскага пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1944 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш.



захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў, 1 памёр ад ран, 8 прапалі без вестак. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 376 жыхароў, у 1970 г. — 278 жыхароў.

**ПАДАЛЕССЕ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Пружан, 68 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Баранавічы—Брэст. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча ў Старуноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 5 двароў, 33 жыхары. На пач. 20 ст. сядзіба, 39 чал. З 1921 г. ў складзе Польшчы, калонія Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 5 дамоў, 10 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, вёска. З 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 гг. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 55 жыхароў, у 1970 г. — 50 жыхароў.

**ПАДДУБНА** — вёска ў Шаняўскім с/с, на шашы Пружаны—Высокае, за 21 км на ПдЗ ад Пружан, 77 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 29 гаспадарак, 53 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 81 двор, 467 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У пач. 20 ст. 478 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Гарадзечанскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 66 дамоў, 130 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 8 жыхароў вёскі. Паводле перапісу 1970 г. 256 жыхароў. У 2003 г. 33 гаспадаркі, 60 жыхароў. Помнік Ф.Э.Дзяржынскаму (1970). У памяць Гарадзечанскай бітвы 1812 г. (паміж вёскамі Паддубна і Гарадзечна) каля вёскі пастаўлены мемарыяльная капліца (1912—14, адноўлена ў 1999) і абеліск (1962).

**ПАЛІНОВА** — хутар у Пружанскім с/с. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

У 1886 г. ў Дабучынскай вол. Пружанскага пав., дзейнічалі вінакурня, піваварны і цагельны з-ды, ветраны і конны млыны.

**ПАПЯЛЁВА** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 43 км на ПнЗ ад Пружан, на мяжы Белавежскай пушчы, 132 км ад Брэста, 56 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 101 гаспадарка, 251 жыхар (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ўрочышча ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 13 двароў, 133 жыхары, працаваў спіртзавод. На пач. 20 ст. 128 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР, вёска. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., у 1940—62 гг. цэнтр сельсавета. У 1940 г. 40 двароў, 156 жыхароў. У Вял. Айч. вайну акупіравана ням.-фаш. захопнікамі з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. У вер. 1941 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску і загубілі 25 яе жыхароў. Пасля вайны адноўлена. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 12 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. вёска налічвала 256 жыхароў. У 1999 г. ў склад в. Папялёва ўвайшла в.






*Мемарыяльная капліца ў гонар герояў Гарадзічанскай бітвы 1812 г. у в. Паддубна.*

Пяняжкі, жыхары якой за ўдзел у паўстанні 1863—64 гг. былі сасланы, а сама вёска спалена. У 2003 г. цэнтр калгаса «Савецкі пагранічнік», 115 гаспадарак, 291 жыхар. Працуюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, сярэдняя школа, клуб, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт. Помнік гісторыі: брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На магіле ўстаноўлена стэла.

**ПАРАСЛЯНЫ** — вёска ў Пружанскім с/с, на аўтадарозе Пружаны—Клепачы, за 7 км на Пн ад Пружан, 99 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 93 гаспадаркі, 185 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 98 двароў, 688 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Дабучынскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 112 дамоў, 520 жыхароў. З 1921 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940—60 гг. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 32 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 860 жыхароў. Дзейнічае магазін. У цэнтры вёскі знаходзіцца брацкая магіла 61 сав. воіна і партызана, якія загінулі ў баях з гітлераўцамі ў 1941—44 гг. На магіле ўстаноўлены (1965) абеліск.

*Сядзібны дом у в. Парасляны.*



**ПАЎЛАВА** — вёска ў Ружанскім пас. Савеце, на шашы Ружаны—Івацэвічы, за 45 км на ПнУ ад Пружан, 140 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 108 гаспадарак, 244 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. калонія ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. 25 двароў, 373 жыхары, дзейнічалі малітоўны дом, школа, піцейны дом. У пач. 20 ст. 390 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.), з 1954 г. вёска, цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; на франтах загінулі ці прапалі без вестак 6 жыхароў вёскі. У 2003 г. 105 гаспадарак. 230 жыхароў. Працуюць аддз. сувязі, клуб, магазін, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа. Помнік гісторыі: брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях у 1941—44 гг. На магіле ўстаноўлены абеліск.

**ПАЛОННАЕ-ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Ліноўскім с/с, на аўтадарозе Пружаны—Бяроза, за 13 км на У ад Пружан, 102 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 25 гаспадарак, 39 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. Палонка-Забалацце — вёска ў Мікіценскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 45 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, затым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 16 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 259 жыхароў, у 1970 г. — 181 жыхар. У 2003 г. 25 гаспадарак, 42 жыхары.

**ПАСТАЛОВА** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 20 км на Пн ад Пружан, 115 км ад



Брэста, 32 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2005).

У 1940 г. вёска Пружанскага р-на Брэсцкай вобл., 21 двор, 90 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. спалілі вёску і загубілі яе 22 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. На франтах загінулі 2 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 48 жыхароў. У 2003 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў.

**ПАЦЫНІЧЫ** — вёска ў Шарашоўскім пас. Савеце, за 18 км на З ад Пружан, за 97 км ад Брэста, за 30 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 45 гаспадарак, 76 жыхароў (2005).

У 1-й пал. 1880-х г. вёска ў Шарашоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 50 двароў, 200 жыхароў. На пач. 20 ст. 199 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Шарашоўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 62 дамы, 277 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 189 жыхароў. У 2003 г. 45 гаспадарак, 80 жыхароў.

**ПЕРАДЗЕЛЬСК** — вёска ў Старавольскім с/с, за 13 км на З ад Пружан, 99 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 85 гаспадарак, 175 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав., 64 двары, 487 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1939 г. 528 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 461 жыхар, у 1970 г. — 510 жыхароў.

**ПЕРАРОВА** — хутар у Шарашоўскім пас. Савеце, у Белавежскай пушчы, каля шашы Пружаны—мяжа Польшчы, за 34 км на ПнЗ ад Пружан, 123 км ад Брэста, 45 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. ўрочышча ў Бялоў-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 15 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. да 1956 г. ў Шарашоўскім, потым у Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі; на фронце загінуў 1 вясковец. Паводле перапісу 1970 г. 16 жыхароў.

**ПЕРАСАДЗІЧЫ** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, за 48 км на ПнУ ад Пружан, 143 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2005).

У 1921 г. ў Ружанскай гміне Косаўскага пав. Палескага ваяв., 9 двароў, 33 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 104 жыхары, у 1970 г. — 77 жыхароў.

**ПЕСКІ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 14 км на Пн ад Пружан, 103 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 13 гаспадарак, 31 жыхар (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 23 двары, 147 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. 18 двароў, 73 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. Пасля вайны адноўлены. У 2003 г. 13 гаспадарак, 20 жыхароў.

**ПІНЯНЫ** — вёска ў Хараўскім с/с, за 20 км на Пн ад Пружан, 109 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 44 гаспадаркі, 83 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 348 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 11 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу

1970 г. 129 жыхароў. У 2003 г. 47 гаспадарак, 97 жыхароў.

Вёска — радзіма аднаго з кіраўнікоў падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну М.Е.Крыштафовіча.

**ПЛЯБАНЦЫ** — вёска ў Пружанскім с/с, за 1 км на ПдЗ ад Пружан, 78 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 84 гаспадаркі, 184 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 123 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 13 аднавяскоўцаў. У 1940 г. створаны калгас «Чырвоны сцяг». Паводле перапісу 1970 г. 235 жыхароў. На тэр. вёскі знаходзіцца абеліск (1977) сав. воінам-танкістам 30-й танкавай дывізіі, якія 23 чэрв. 1941 г. вялі тут цяжкія абаронныя баі з пераўзыходзячымі сіламі гітлераўцаў, стрымлівалі яго наступленне, адбілі шмат атак праціўніка, нанеслі ворагу вял. страты.

**ПОЛАНСК** — вёска ў Ружанскім с/с, на аўтадарозе Ружаны—Зэльва, за 43 км на ПнУ ад Пружан, 138 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 78 гаспадарак, 158 жыхароў (2005).

У 1886 г. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 46 двароў, 488 жыхароў, дзейнічалі школа, піцейны дом. У пач. 20 ст. — 560 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1. — 9.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). З 12.10.1940 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала антыфаш. маладзёжная арг-цыя. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 23 жыхары. Паводле перапісу 1959 г. 486 жыхароў, у 1970 г. — 379 жыхароў. У 2003 г. 83 гаспадаркі, 151 жыхар. Працуе магазін.

**ПРЫКАЛЕСЬ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Пружан, 115 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 61 гаспадарка, 90 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 43 двары, 367 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12. 1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 70 двароў, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў кастр. 1941 г. гітлераўцы спалілі 60 вясковых двароў, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны вёска адноўлена. На франтах загінулі 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 303 жыхары. У 2003 г. 60 гаспадарак, 100 жыхароў.

**ПРЫЛУЧЧЫНА** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 13 км на Пд ад Пружан, 80 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1959 г. 39 жыхароў, у 1970 г. — 83 жыхары.

**РАДЗЕЦК** — вёска ў Велікасельскім с/с, за 20 км на Пнз ад Пружан, 104 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 39 гаспадарак, 65 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 46 двароў, 317 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня. У пач. 20 ст. 350 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска Котранскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 36 дамоў, 177 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. ў вёсцы 65 двароў, 209 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 13 жыхароў. Пасля вайны адноўлены. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 14 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 24 жы-



хары, у 1970 г. — 230 жыхароў. Дзейнічае магазін.

**РАЖКОВІЧЫ** — вёска ў Хараўскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Пружан, 103 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 75 гаспадарак, 163 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 84 двары, 546 жыхароў, дзейнічалі піцейны дом, кузня, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 524 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 18 аднавяскоўцаў. У 1949 г. створаны калгас «Новае жыццё». Паводле перапісу 1959 г. 431 жыхар, у 1970 г. — 369 жыхароў. У 2003 г. 74 гаспадаркі, 160 жыхароў. Працуе магазін.

**РАПЯХІ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Пружан, 84 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 27 гаспадарак, 47 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 229 жыхароў. З 1921 г. у складзе Польшчы, вёска Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 35 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў, 2 прапалі без вестак. Паводле перапісу 1970 г. 161 жыхар.

**РАЧКІ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 60 км на ПнУ ад Пружан, 160 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Свіслач. 16 гаспадарак, 24 жыхары (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Казлоўскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 28 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, вёска, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у складзе Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 5 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў, у 1970 г. — 108 жыхароў. У 2003 г. 16 гаспадарак, 25 жыхароў.

**РАССОХІ (РОСАХІ)** — вёска ў Хараўскім с/с, за 11 км на Пн ад Пружан, 100 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 114 гаспадарак, 229 жыхароў (2005).

У 1886 г. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 34 двары, 480 жыхароў, былі школа, піцейны дом. У пач. 20 ст. 648 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 27 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 696 жыхароў, у 1970 г. — 552 жыхары. У 2003 г. 121 гаспадарка, 244 жыхары. Працуе магазін.

**РОЎБІЦК** — вёска ў Сухопальскім с/с, цэнтр ААТ «Роўбіцкае» за 38 км на ПнЗ ад Пружан, у рэгіёне Белавежскай пушчы, 148 км ад Брэста, 50 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 293 гаспадаркі, 655 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ, жыхары займаліся падрыхтоўкай вялікакняжацкіх і каралеўскіх паляванняў. Пад 1559 г. згадваецца ў «Рэвізіі пушчаў і звярыных пераходаў» ВКЛ, уваходзіла ў Берасцейскае ваяв. У 1759 г. вёска, 57 двароў, 191 жыхар. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі. У 1863 г. ў Роўбіцку была база паўстанцаў, якія адсюль наступалі на Шарашова і Пружаны. У 1886 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 60 двароў, 762 жыхары, кузня, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. 150 двароў, 963 жыхары, хлебазапасны магазін, кузня, карчма. У пач. 20 ст. 328 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1930-я г. дзейнічалі падп. ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ. З вер. 1939 г. ў


*Царква ў в. Руднікі.*

БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 да 7.12.2006 г. цэнтр сельсавета, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-не той жа вобласці. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 20 аднавяскоўцаў. У 1949 г. створаны калгас імя Горкага, першым старшынёй якога быў П.А.Клімец (трагічна загінуў 25.7. 1953). Паводле перапісу 1970 г. 1116 жыхароў. У 2003 г. цэнтр калгаса «Шлях Леніна», 295 гаспадарак, 684 жыхары. Працуюць рамонтна-механічныя майстэрні, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. Дзейнічае Георгіеўская царква. У цэнтры вёскі брацкая магіла сав. воінаў, помнік землякам (1969), якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На будынку праўлення ААТ «Роўбіцкае» ўстаноўлена мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці П.А.Клімца, на былым будынку выканкома сельсавета — мемарыяльная дошка, якая ўшаноўвае памяць першых дэпутатаў сельсавета А.А.Брытуна і І.Шчэрбы, забітых гітлераўцамі ў 1941 г.

Вёска — радзіма М.П.Клімца, бел. краязнаўца, ганаровага краязнаўца Рэспублікі Беларусь (1988).

**РУДАЎКА** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 40 км на ПнЗ ад Пружан, 139 км ад Брэста, 53 км ад чыг. ст. на лініі Баранавічы—Брэст. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

Паводле перапісу 1959 г. вёска Пружанскага р-на Брэсцкай вобл., 67 жыхароў.

**РУДНІКІ** — вёска ў Мокраўскім с/с, цэнтр ААТ«Рудніकі», за 18 км на Пн ад Пружан, 113 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавчы—Брэст. 70 гаспадарак, 198 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. цэнтр воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 27 двароў, 196 жыхароў; дзейнічалі валаснoе праўленне, праваслаўная царква, нар. вучылішча, лячэбніца, лаўка, карчма. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. вёска, цэнтр сельсавета таго ж раёна (да 1962). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 5 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 125 жыхароў. У 2003 г. цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь», 63 гаспадаркі, 184 жыхары. Працуюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, 2 магазіны, ветпункт. Помнік гісторыі: брацкая магіла 168 сав. воінаў і 1 партызана, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На магіле ўстаноўлена скульптура воіна. Помнік археалогіі — курганны могільнік, які мае каля 50 насыпаў.

*Тэхналагічная лінія Ружанскай мэблевай фабрыкі.*





**РУЖАНЫ** — гар. пасёлак, цэнтр Ружанскага пас. Савета і сельсавета, а таксама ААТ «Ружаны-агра» і КСУП «Ружанскае», на р. Ружанка, на скрыжаванні аўтадарог Брэст—Слонім і Ваўкавыск—Косава, за 45 км на ПнУ ад Пружан, 130 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 3326 жыхароў (2005).

Лічыцца, што назва паселішча паходзіць ад р. Ружанкі, на якой яно было заснавана. Да нашага часу захавалася і другое паданне аб паходжанні назвы пасёлка. Згодна з ім, у даўнія часы ўладальнік паселішча назваў яго імем сваёй дачкі — прыгажуні Ружы. Доўгі час паселішча называлася то Ружана, то Ражана, пакуль не зацвердзілася сучасная назва Ружаны. Першае пісьмовае ўпамінанне аб Ружанах (Ражанах) адносіцца да 1552 г. Належалі магнатам Тышкевічам, з 1598 г. ўладанне Сапегаў. Уваходзілі ў Слонімскі пав. Навагрудскага ваяв. ВКЛ, з 1569 г. Рэчы Паспалітай. У 1569 г. пабудаваны драўляны касцёл Св. Тройцы. На яго месцы ў 1617 г. Леў Сапега фундаваў будаўніцтва новага мураванага касцёла. У 1637 г. Ружаны атрымалі магдэбургскае права і герб. У 17 ст. Сапегі пабудавалі тут палацавы комплекс. Мураваны двухпавярховы палац уключаў жылыя пакоі, кабінеты, б-ку, архіў. У 17 ст. ў Ружанах налічвалася больш за 400 дамоў; размяшчаліся царква, касцёл з невял. шпіталем пры ім (на 12 месцаў; заснаваў Леў Сапега ў 1650), палацавы комплекс, базыльянскі манастыр, кляштары дамініканцаў і кармелітаў, базыльянская школа, кафельны і цагляны з-ды. Палац Сапегаў славіўся сваёй раскошай, тут прымалі польскіх каралёў. У 1698 г. Ружаны былі значна спустошаны войскамі канфедэратаў. У Паўн. вайну 1700—21 гг. мястэчка было зноў разбурана, у т.л. пацярпеў і палацавы комплекс Сапегаў (адноўлены ў 1-й пал. 18 ст.). У 1706 г. ў Ружанах спыняўся шведскі кароль Карл XII. У 18 ст. дзейнічалі тэатр Сапегаў, паперня, скураная і палатняная мануфактуры, карэтная ф-ка; 3 разы на год праводзіліся кірмашы, штотыднёва адбываліся таржкі.



*Памятны знак аб заснаванні мястэчка Ружаны.*

У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Ружаны ўвайшлі ў склад Рас. імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Слонімскага пав. і губ., з 1797 г. ў складзе



*Дзіцячы санаторый «Ружанскі» Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь у г.п. Ружаны.*



*Помнік-танк і Курган Славы на брацкай магіле савецкіх воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. каля г.п. Ружаны.*




*Комплекс былога манастыра базыльян у г.п. Ружаны: Петрапаўлаўская царква (1778) і жылы корпус (1788).*

Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. Вял. разбурэнні Ружанам прынесла вайна 1812 г. Французскія войскі спустошылі і разрабавалі мястэчка. У 1831 г. за ўдзел Сапегаў у паўстанні 1830—31 гг. Ружаны былі канфіскаваны і перададзены ў казну. У 1842 г. ў мястэчку адбылося 2 кірмашы. Працавалі 3 суконныя ф-кі. У час паўстання 1863—64 гг. у наваколлі Ружан дзейнічалі паўстанцы. У 1863 г. побач з мястэчкам адбыўся бой паўстанцаў з царскімі войскамі. У 1886 г. ў мястэчку дзейнічалі валасное праўленне, 2 праваслаўныя царквы, школа, касцёл, 2 вадзяныя млыны, адбываліся 3 кірмашы на год. Паводле перапісу 1897 г. 5016 жыхароў, 769 дамоў, 5 дробных прадпрыемстваў (у т.л. 2 вадзяныя млыны), нар. вучылішча, прыёмны пакой. У пач. 20 ст. 5 тыс. жыхароў. У рэвалюцыю 1905—07 гг., у 1908 і ў 1910 г. ў Ружанах адбыліся забастоўкі рабочых, якія дамагаліся павышэння заработнай платы, паляпшэння ўмоў працы і быту. У 1914 г. ў мястэчку 6815 жыхароў, 26 прадпрыемстваў (341 рабочы). Здаўна Ружаны з'яўляліся цэнтрам ганчарнага рамяства, якое дасягнула найбольшага росквіту ў

*Палацавы комплекс 17—18 ст. (уязная брама, галоўны корпус, аркада) у г.п. Ружаны.*







канцы 19 — пач. 20 ст. У 1915—18 гг. мястэчка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919—20 гг. польскімі войскамі. Пасля вызвалення ад польскіх акупантаў у ліп. 1920 г. тут была ўстаноўлена Сав. ўлада. З вер. 1920 г. Ружаны зноў акупіраваны палякамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора ад 18.3.1921 г. далучаны да Польшчы, цэнтр гміны Косаўскага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 3622 жыхары. Дзейнічалі Ружанскія падп. райкомы КПЗБ і КСМЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. гар. пасёлак, цэнтр Ружанскага р-на Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). 25.12.1962 г. раён скасаваны, большая частка яго тэр. разам з Ружанамі перададзена ў Пружанскі р-н. У 1940 г. ў Ружанах 4250 жыхароў, 678 жылых пабудоў, працавалі электрастанцыя, 2 прадзільныя ф-кі, 2 гарбарныя кустарныя прадпрыемствы, 6 лесазаводаў, 4 млыны, 4 цагельныя, 2 бетонныя, 2 шкіпінарныя з-ды, 2 ф-кі калёснай мазі, кустарная вытворчасць глінянага і драўлянага посуду; на ўсіх прадпрыемствах працавалі 254 рабочыя; дзейнічалі 2 школы, клуб, амбулаторыя, аптэка, кінатэатр, лазня, пошта, тэлеграф. У Вял. Айч. вайну з 23.6. 1941 г. да 13.7.1944 г. Ружаны акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў гар. пасёлку і раёне 5491 чал. Супраць акупантаў на тэр. раёна дзейнічалі Ружанскі антыфаш. к-т і райком ЛКСМБ, а таксама Пружанскі падп. райком КП(б)Б. Вызвалены 28-й арміяй 1-га Бел. фронту. Паводле перапісу 1959 г. 2875 жыхароў. У 2003 г. 3,4 тыс. жыхароў. Працуюць мэблевая ф-ка, вытв.-харчовы з-д, вытв.-гандлёвы камбінат, сярэдняя, муз. і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, 2 дашкольныя дзіцячыя ўстановы, Дом культуры, бальніца, 2 б-кі, амбулаторыя, камбінат быт. абслугоўвання, касцёл, станцыя турызму і краязнаўства. На тэр. гар. пасёлка знаходзяцца гіст. помнікі: брацкая магіла сав. воінаў і партызана, брацкая магіла сав. воінаў і Курган Славы (за 20 км ад Ружан, каля шашы на Ваўкавыск); помнік аднаму з арганізатараў падп. барацьбы і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну, былому старшыні Ружанскага пас. Савета (1939—41) І.П.Урбановічу. Помнікі архітэктуры — палацавы комплекс Сапегаў, Петра-Паўлаўская царква і манастыр базыльян (1772—78), Троіцкі касцёл (1615—17),



*Троіцкі касцёл (17—18 ст.) у г.п. Ружаны.*



*Ружанская кераміка. Цацкі-свістулькі.*



*Гліняныя цацкі (свісцёлкі) з г.п. Ружаны.*

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. 43 двары, 484 жыхары, піцейны дом, яўр. малітоўны дом. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 141 жыхар, меліся 2 лазні, 2 кузні, ветраны млын, піцейны дом. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны фальварак, 2 двары, 13 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 21 двор, 168 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 8 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 287 жыхароў. У 2003 г. 44 гаспадаркі, 81 жыхар. У цэнтры вёскі помнік Ф.Э.Дзяржынскаму (1970).

*Ганчарны посуд з г.п. Ружаны.*

**СЕМЯНЧА** — былая вёска ў Пружанскім с/с, за 9 км на Пд ад Пружан, 80 км ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст.

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Ліноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 22 двары, 213 жыхароў. У пач. 20 ст. 224 жыхары. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ліноўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 16 дамоў, 89 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. З чэрв. 1941 г. да 17 ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 225 жыхароў. Паводле рэестра 2005 г. існуюць 2 вёскі — Семянча 1 (22 гаспадаркі, 32 жыхары) і Семянча 2 (19 гаспадарак, 44 жыхары).

**СІЛІЧЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 16 км на Пн ад Пружан, 111 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 36 гаспадарак, 69 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 30 двароў, 213 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Котранскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 29 дамоў, 137 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. 48 двароў, 144 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1942 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску і загубілі 44 жыхары. На франтах ад ран памерлі ці прапалі без вестак 4 жыхары. Паводле перапісу 1970 г. 102 жыхары. У 2003 г. 36 гаспадарак, 63 жыхары.

**СКОРЦЫ** — вёска ў Хараўскім с/с, каля р. Ясельда, за 15 км на ПнУ ад Пружан, 104 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 64 гаспадаркі, 127 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 71 двор, 500 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст.





552 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 1959 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 22 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 470 жыхароў, у 1970 г. — 392 жыхары. У 2003 г. 65 гаспадарак, 130 жыхароў. Працуе магазін.

**СЛАБОДКА** — вёска ў Пружанскім с/с, за 10 км на Пн ад Пружан, 99 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 475 гаспадарак, 1244 жыхары (2005).

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 12 аднавяскоўцаў. У гады акупацыі гітлераўскія карнікі расстралялі больш за 3000 сав. ваеннапалонных, падпольшчыкаў і мірных жыхароў, якія пахаваны на месцы іх загубы, у 1965 г. тут пастаўлены абеліск. У вёсцы таксама знаходзіцца брацкая магіла 180 сав. воінаў, якія загінулі ў баях з акупантамі ў 1941—1944 гг., на магіле пастаўлены (1965) абеліск. Паводле перапісу 1970 г. 156 жыхароў.

**СЛАНІМЦЫ** — вёска ў Пружанскім с/с, цэнтр ААТ «Пружанскае», за 5 км на Пд ад Пружан, 94 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 207 гаспадарак, 511 жыхароў (2005).

Вядома з 1566 г. як сяло ў ВКЛ. Уваходзіла ў склад Пружанскай эканоміі, пазней прададзена Трубяцкому. З 1795 г. ў складзе Рас. імперыі, у Пружанскім пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. вёска ў Ліноўскай вол., 50 двароў, 590 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 94 двары, 650 жыхароў, хлебазапасны магазін, царк. школа. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Ліноўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 38 дамоў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. да 1960 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну загінулі на франтах ці прапалі без вестак 23 вяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 552 жыхары. Дзейнічае магазін. Помнік-абеліск (1972) землякам, якія загінулі ў 1941—45 гг.

**СМАЛЯНІЦА** — вёска ў Хараўскім с/с, каля Ружанскай пушчы, за 20 км на ПнУ ад Пружан, 109 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 148 гаспадарак, 345 жыхароў (2005).

У 1886 г. сяло ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 50



*Помнік на могілках нямецкіх солдат часоў 1-й сусветнай вайны ў в. Слабодка.*



*Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў, загінуўшых у 1941 і 1944 гг., у в. Слабодка.*

двароў, 616 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, школа, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. 114 двароў, 860 жыхароў, царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін. З 1921 г. ў складзе Польшчы; дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. У 1924 г. ў вёсцы адбыўся шматлюдны мітынг, на якім выступала з прамовай удзельніца рэв. руху ў Зах. Беларусі В.З.Харужая. З 1939 г. ў БССР, з 15.1. 1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 32 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 818 жыхароў, у 1970 г. 615 жыхароў. У 2003 г. 147 гаспадарак, 344 жыхары. Працуе магазін. Помнікі: абеліск (1950) на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях у 1941—44 гг.; стэла у гонар В.З.Харужай (1970); царква — помнік архітэкуры 19 ст. За 5 км на У ад вёскі, у Ружанскай пушчы, устаноўлены абеліск (1975) у памяць аб дзейнасці Брэсцкага абласнога антыфаш. к-та, Пружанскага падп. райкома КП(б)Б і штаба партыз. брыгады імя Панамарэнкі, якая базіравалася тут у гады Вял. Айч. вайны.

**СМАЛЯНЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 8 км на У ад Пружан, 97 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 72 гаспадаркі, 177 жыхароў (2005).

*Перазахаванне савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на брацкіх могілках у в. Слабодка. 2006 г.*



У 1886 г. вёска ў Мікіцінскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 45 двароў, 455 жыхароў, былі 2 піцейныя ўстановы, валасное праўленне. Паводле перапісу 1897 г. 65 двароў, 518 жыхароў, працавалі нар. вучылішча, 2 хлебазапасныя магазіны. На пач. 20 ст. 425 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., цэнтр сельсавета да 1990 г. У Вял. Айч. вайну з 23.6.1941 г. да 17.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 18 жыхароў вёскі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 17 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. вёска налічвала 200 жыхароў. У 2003 г. 73 гаспадаркі, 182 жыхары. Працуюць магазін, аддз. сувязі, клуб. Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў баях у Вял. Айч. вайну, і ахвяр фашызму — мірных жыхароў, загубленых гітлераўцамі ў 1941—44 гг. На магіле помнік — скульптура воіна (1957).

**СОНЕЧНЫ** — пасёлак у Пружанскім с/с, цэнтр ААТ «Пружанскі райаграсервіс», на аўтадарозе Пружаны—Клепачы, за 1 км на Пн ад Пружан, 99 км ад Брэста, 23 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 186 гаспадарак, 495 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. на месцы сучаснага пасёлка існаваў маёнтак Каралін Дабучынскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 13 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1970 г. 247 жыхароў.

**СТАІ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 17 км на Пн ад Пружан, 112 км ад Брэста, 29 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 10 двароў, 75 жыхароў. У пач. 20 ст. 63 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загі-



нулі 4 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1970 г. 87 жыхароў. У 2003 г. 8 гаспадарак, 16 жыхароў.

**СТАРАВОЛЯ** — вёска, цэнтр Старавольскага с/с, і ААТ «Старавольскае», на шашы Пружаны—мяжа з Польшчай, за 10 км на З ад Пружан, 96 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 251 гаспадарка, 657 жыхароў (2005).

Упершыню ўпамінаецца ў судовых актах у 1589 г. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі, вёска Пружанскага пав. Гродзенскай губ. (з 1801). У 1886 г. на месцы сучаснага паселішча ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. існавалі 2 вёскі — Стараволя 1 і Стараволя 2; разам налічвалі 64 двары, 646 жыхароў, працаваў ветраны млын. У пач. 20 ст. ў вёсках 982 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Шанёўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 187 двароў, 947 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 55 аднавяскоўцаў. Падчас акупацыі гітлераўцы забілі 62 жыхароў вёскі. З 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-не. Паводле перапісу 1959 г. 1036 жыхароў, паводле перапісу 1970 г. — 952 жыхары. У 2003 г. 255 гаспадарак, 652 жыхары. Працуюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, аддз. сувязі, клуб, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. Помнік — брацкая магіла 35 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях у Вял. Айч. вайну. На магіле пастаўлены (1969) абеліск, які таксама ўшаноўвае памяць загінуўшых землякоў. На будынку сельсавета ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць старшыні сельсавета М.В.Вазнішчыка, якога забілі бандыты ў 1947 г.

Апрача Старавалі на тэр. сельсавета знаходзяцца вёскі: Абруб, Зарэчча, Лазоўка, Перадзельск.

**СТАРУНЫ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Пружан, 70 км ад Брэста, 44 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска, цэнтр воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 24 двары, 166 жыхароў. На пач. 20 ст. 177 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска ў Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 21 дом, 168 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 7 вяскоўцаў, 1 памёр ад ран, 2 прапалі без вестак.

**СТАСЮКІ** — вёска ў Хараўскім с/с, за 10 км на Пн ад Пружан, 99 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 22 двары, 19 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 144 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах прапалі без вестак 4 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў, у 1970 г. — 60 жыхароў. У 2003 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары.

**СТОЙЛЫ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Пружан, 73 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Старуноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 31 двор, 204 жыхары. У пач. 20 ст. 126 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска, 28 дамоў, 92 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп.

1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы, 1 памёр ад ран. Паводле перапісу 1959 г. 119 жыхароў, паводле перапісу 1970 г. — 62 жыхары. У 2003 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў.

Радзіма нар. майстра Брэстчыны па драўлянай скульптуры (1989) М.В.Тарасюка.

**СУХАЎШЧЫНА** — вёска ў Шарашоўскім пас. Савеце, за 30 км на З ад Пружан, 119 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 26 гаспадарак, 38 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Шарашоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 126 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. да 1956 г. ў Шарашоўскім, потым у Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на франтах прапалі без вестак 3 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 174 жыхары.

**СУХОПАЛЬ** — вёска, цэнтр Сухопальскага с/с і ААТ «Сухопаль», за 31 км на ПнЗ ад Пружан, 120 км ад Брэста, 45 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 157 гаспадарак, 420 жыхароў (2005).

Вядомы з 1641 г. ў складзе Берасцейскага (Брэсцкага) ваяв. ВКЛ. У 1680 г. дзярж. вёска; жыхары ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы каралеўскіх паляванняў у Белавежскай пушчы. У 1759 г. 21 двор, 86 жыхароў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі; у ліку іншых імператрыца Кацярына II падаравала вёску П.А.Румянцаву-Задунайскаму. У вайну 1812 г. праз Сухопаль праходзілі французскія войскі, якія рабавалі мясц. насельніцтва, разрабавалі царкву. У пач. 19 ст. вёска належала Энгельгарту. У 1886 г. сяло, цэнтр воласці Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 20 двароў, 227 жыхароў; дзейнічалі валасное праўленне, праваслаўная царква, школа, кузня, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 267 жыхароў, царква, валасное праўленне, нар. вучылішча, карчма. У 1906 г. тут адбылося хваляванне сялян. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 20 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 494 жыхары. У 2003 г. 163 гаспадаркі, 417 жыхароў. Працуюць рамонтна-механічная майстэрня, ветпункт, клуб, сярэдняя школа, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, магазін. У цэнтры вёскі Крыжаўзвіжанская царква — помнік архітэктуры пач. 20 ст. — і брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. На магіле ў 1956 г. ўстаноўлены помнік — скульптура воіна.


*Крыжаўзвіжанская царква (1903) у в. Сухопаль.*

Вёска — радзіма Героя Сац. Працы А.І.Прытульчык.

На тэр. сельсавета апрача Сухопаля знаходзяцца вёскі: Андрыянаўка, Боркі, Выбрады, Вялікі Краснік, Галены, Глыбокі Кут, Грынявічы, Дзетаветчына, Ізбіцы, Каледзіна, Клятное, Малы Краснік, Мурава, Навасёлкі, Непамацынаўка, Папялёва, Рудаўка, Хвалява, Чапялі, Янаўшчызна.

**СЯРЭДНЯЕ** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Пружан, 76 км ад Брэс-



та, 15 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 85 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 10 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 41 жыхар, у 1970 г. — 69 жыхароў.

**ТАРАСЫ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Пружан, 70 км ад Брэста, 45 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 133 жыхары, працаваў хлебазапасны магазін. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 18 дамоў, 75 жыхароў (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы, 1 памёр ад ран. Паводле перапісу 1959 г. 93 жыхары, у 1970 г. — 56 жыхароў. У 2003 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў.

**ТАЎЦВІЛЫ** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, на шашы Ружаны—Івацэвічы, за 43 км на ПнУ ад Пружан, 138 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў (2005).

З 15.5.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12. 1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 4 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 158 жыхароў, у 1970 г. — 111 жыхароў. У 2003 г. 25 гаспадарак, 45 жыхароў.

**ТКАЧЫ** — вёска ў Ліноўскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Пружан, 87 км ад Брэста, 13 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 55 гаспадарак. 112 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Байкоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 360 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Байкоўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 38 дамоў, 183 жыхары. З канца 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6, памёр ад ран 1, без вестак прапалі 3 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 276 жыхароў, у 1970 г. — 273 жыхары. Працуе магазін.

**ТРУХАНАВІЧЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 21 км на Пн ад Пружан, 116 км ад Брэста, 33 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 51 двор, 328 жыхароў, дзейнічала кузня. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не. У 1940 г. 65 двароў. У Вял. Айч. вайну з чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. спалілі 55 двароў вёскі і загубілі 24 жыхароў. Вызвалены 13.7.1944 г. воінамі 5-й гв. стралк. дывізіі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 6 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 125 жыхароў. У 2003 г. 20 гаспадарак, 32 жыхары. Каля вёскі дзіцячы аздараўленчы лагер.

**ТУЛОЎШЧЫНА** — вёска ў Ліноўскім с/с, каля канала Вінец, за 14 км на У ад Пружан, 103 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 26 гаспадарак, 44 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Мікіцінскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 54 двары, 344 жыхары, хлеба-

запасны магазін. У пач. 20 ст. 286 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 6 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 201 жыхар. У 2003 г. 28 гаспадарак, 47 жыхароў.

**УЛАСАВІЧЫ** — вёска ў Ружанскім с/с, за 44 км на ПнУ ад Пружан, 139 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Ружанскай вол. Слонімскага пав. Гродзенскай губ., 120 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У 1940 г. 18 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1941 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску. На франтах загінулі 2 вяскоўцы, 1 прапаў без вестак. Паводле перапісу 1959 г. 110 жыхароў, паводле перапісу 1970 г. — 117 жыхароў. У 2003 г. 26 гаспадарак, 43 жыхары.

**ХАРАВА** — вёска, цэнтр Хараўскага с/с, каля р. Ясельда і шашы Пружаны—Ружаны, за 12 км на ПнУ ад Пружан, 101 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 205 гаспадарак, 491 жыхар (2005).

У пач. 20 ст. сяло ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 705 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Дзейнічала падп. ячэйка КПЗБ. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940 г. створаны калгас імя Леніна. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 13 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 752 жыхары, паводле перапісу 1970 г. — 629 жыхароў. У 2003 г. цэнтр калгаса імя Леніна, 212 гаспадарак, 509 жыхароў. Працуюць рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, комплексны пункт быт. абслугоўвання, дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, амбулаторыя, аддз. сувязі, 4 магазіны. У цэнтры вёскі пастаўлены (1974) помнік на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну; на адным з будынкаў устаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць аб першым старшыні калгаса імя Леніна В.Е.Крыштафовічу, якога загубілі гітлераўцы ў 1942 г. У цэнтры вёскі таксама знаходзіцца помнік — скульптура воіна (1957) у гонар воінаў 28-й арміі 1-га Бел. фронту, якія вызвалілі вёску ад гітлераўскіх акупантаў у ліп. 1944 г.

Апрача Харавы на тэр. сельсавета знаходзяцца вёскі: Асятніца, Бортнавічы, Бярозаўка, Вашчаніцы, Дабучын, Жогалы, Залессе, Кабалаўка, Калядзічы, Комлішча, Навасёлкі, Носкі, Піняны, Ражковічы, Росахі, Скорцы, Смаляніца, Станюкі, Хвалявічы.

**ХАРКІ** — вёска ў Шаняўскім с/с, каля чыг. прыпыначнага пункта Лясы, за 24 км на ПдЗ ад Пружан, 74 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 57 гаспадарак, 101 жыхар (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага р-на Гродзенскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 68 двароў, 473 жыхары, меліся хлебазапасны магазін, лаўка, ветраны млын. У пач. 20 ст. 483 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 51 двор, 236 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ці прапалі без вестак 11 жыхароў вёскі. Паводле перапісу 1970 г. 291 жыхар. У 2003 г. 60 гаспадарак, 105 жыхароў. Помнік Ф.Э.Дзяржынскаму.

**ХВАЛАВА** — вёска ў Сухапальскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Пружан, 123 км ад



Брэста, 50 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 144 гаспадаркі, 295 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 21 двор, 133 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. вёска была спалена акупантамі. Пасля вайны адноўлена. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 5 жыхароў. У 2003 г. 154 гаспадаркі, 325 жыхароў.

**ХВАЛЯВІЧЫ** — вёска ў Хараўскім с/с, за 10 км на У ад Пружан, 99 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 18 гаспадарак, 28 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Наскоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 48 двароў, 276 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 4 аднавяскоўцы. У 1950 г. створаны калгас «Чырвоны барэц». Паводле перапісу 1959 г. 174 жыхары, паводле перапісу 1970 г. — 155 жыхароў. У 2003 г. 19 гаспадарак, 30 жыхароў.

**ХВОЙНІКІ** — вёска ў Сухопальскім с/с, на тэр. Нац. парку «Белавежская пушча», за 41 км на ПнЗ ад Пружан, 130 км ад Брэста, 52 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 18 гаспадарак, 47 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. фальварак (1 двор, 9 жыхароў) у Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Паводле перапісу 1959 г. 49 жыхароў, у 1970 г. — 55 жыхароў.

**ХІДРЫ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Пружан, 42 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

З 15.1.1940 г. вёска ў складзе Шарашоўскага р-на Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 6 вяскоўцаў, 2 прапалі без вестак. З 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. на месцы сучаснай вёскі існавалі 2 вёскі — Вялікія Хідры і Малыя Хідры, у якіх разам налічвалася 141 жыхар. Паводле перапісу 1970 г. ў 2 вёсках каля 40 жыхароў. У 2003 г. вёска Хідры, 11 гаспадарак, 16 жыхароў.

**ХІЦЁЎШЧЫНА** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Пружан, 69 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Баранавічы—Брэст. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Старуноўскай вол. Пружанскага пав., 38 двароў, 259 жыхароў, працавала кузня. У 1905 г. 270 жыхароў. У 1921 г. ў Гродзенскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 35 двароў, 170 жыхароў. У 1939 г. 166 жыхароў.

**ХОМНА** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 11 км на Пд ад Пружан, 78 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 10 гаспадарак, 12 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. ўрочышча ў Ліноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 3 жыхары. У 1921—39 г. у складзе Польшчы, калонія Ліноўскай вол. Пружанскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 79 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, вёска, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 6 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 123 жыхары. У 2003 г. 12 гаспадарак, 18 жыхароў.

**ЦІМАХОЎШЧЫНА-ГРУШКА** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Пружан, 70 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 1 гаспадарка, 5 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. Цімахоўшчына — вёска ў Старуноўскай вол.

Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 15 двароў. На пач. 20 ст. 116 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 16 дамоў, 56 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 45 жыхароў. У 2003 г. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў.

**ЧАБАХІ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Пружан, 68 км ад Брэста, 43 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 28 гаспадарак, 46 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Старуноўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 40 двароў. На пач. 20 ст. 363 жыхары. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, у Пружанскім пав. Палескага ваяв. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 202 жыхары. У 2003 г. 30 гаспадарак, 52 жыхары.

**ЧАДЗЕЛЬ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Пружан, 145 км ад Брэста, на мяжы Белавежскай пушчы, 47 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 55 гаспадарак, 94 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. фальваракк (2 двары, 17 жыхароў) і пасёлак (працаваў шкіпінарны з-д) у Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У пач. 20 ст. лясная ахова (24 жыхары) і пасёлак (95 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім, з 17.12.1956 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У 1940 г. вёска, 93 двары, 372 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1941 г. спалілі вёску і загубілі 38 жыхароў. Пасля вайны вёска адноўлена. Паводле перапісу 1970 г. 292 жыхары. У 2003 г. 57 гаспадарак, 105 жыхароў. У вёсцы ўстаноўлены 3 памятныя дошкі ў гонар сав. воінаў і вязняў фашызму, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЧАПЯЛІ** — вёска ў Сухопальскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Пружан, 117 км ад Брэста, 42 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 113 гаспадарак, 247 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 87 двароў, 577 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, кузня. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну на франтах загінулі ці прапалі без вестак 11 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1970 г. 474 жыхары. У 2003 г. 114 гаспадарак, 240 жыхароў.

**ЧАХЕЦ** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 18 км на Пд ад Пружан, 70 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 55 гаспадарак, 148 жыхароў (2005).

У 1886 г. сядзіба ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., працавалі вінакурны з-д і ветраны млын. За 5 вёрст ад сядзібы размяшчаўся пагост Чахец. У пач. 20 ст. вёска, 68 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся аднайменны маёнтак (10 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Шанёўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 63 дамы, 258 жыхароў (1921). У 1924 г. тут адбыўся мітынг сялян в. Шані і навакольных вёсак, на якім з прамовай выступіла сакратар ЦК КСМЗБ В.З.Харужая. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., у 1940—54 гг. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 27 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 425 жыхароў, у 1970 г. — 339 жыхароў. У 2003 г. 62 гаспадаркі, 145 жыхароў. Працуе магазін. На адным з дамоў устаноўлена мемарыяль-



ная дошка (1970) у памяць аб мітынгу сялян 1924 г.

**ШАКУНЫ** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Пружан, 75 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 15 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 156 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Шанёўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 9 дамоў, 32 жыхары. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 67 жыхароў, у 1970 г. — 72 жыхары. У 2003 г. 15 гаспадарак, 19 жыхароў.

Вёска — радзіма нар. артыста СССР, бел. фалькларыста, харавога дырыжора, Героя Сац. Працы Р.Р.Шырмы.

**ШАНІ** — вёска, цэнтр сельсавета і ААТ «Шані-аграпрадукт», на шашы Пружаны—Брэст, за 7 км на ПдЗ ад Пружан, 82 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 165 гаспадарак, 469 жыхароў (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ. У 1886 г. 66 двароў, 755 жыхароў, працавалі валаснoе праўленне, школа, 6 ветраных млыноў, піцейны дом. У пач. 20 ст. 670 жыхароў. У лютым 1906 г. адбылося хваляванне сялян. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска, цэнтр Шаняўскай гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв., 112 дамоў, 539 жыхароў (1921). Дзейнічалі падп. ячэйка КПЗБ і гурток Таварыства бел. мовы (ТБМ). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл., цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17 ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 27 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 560 жыхароў, у 1970 г. — 502 жыхары. У




*Памятны знак на радзіме Р.Р.Шырмы ў в. Шакуны.*



*Званіца (1799) Прачысценскай царквы ў г.п. Шарашова.*

2003 г. цэнтр калгаса імя Леніна, 163 гаспадаркі, 436 жыхароў. Працуюць рамонтна-механічныя майстэрні, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, ветпункт, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У скверы на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, устаноўлена (1969) стэла. Каля шашы Пружаны—Ружаны, за 4 км ад вёскі пастаўлены (1975) абеліск камандуючаму 9-га танкавага корпуса, ген.-маёру танкавых войск Б.С.Бахараву, які загінуў у баі на гэтым месцы 16.7.1944 г. (пахаваны ў Бабруйску). На будынку сельсавета мемарыяльная дошка на ўшанаванне першага старшыні сельсавета І.М.Дыбы, якога загубілі гітлераўцы ў 1942 г.

Шані — радзіма бел. паэта М.А.Засімы. У сярэдняй школе музей яго памяці.

На тэр. сельсавета апрача в. Шані знаходзяцца вёскі: Засімавічы, Засімы, Кацёлкі, Клетнае, Козі Брод, Сярэдняе, Хомна, Чахец, Шакуны, Шубічы.

**ШАНЯЎЦЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 18 км на Пн ад Пружан, 107 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Руднікоўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 9 двароў, 59 жыхароў. У пач. 20 ст. 63 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 35 жыхароў.

**ШАРАШОВА** — гар. пасёлак, цэнтр Шарашоўскага пас. Савета Пружанскага р-на Брэсцкай вобл., на р. Левая Лясная (басейн Буга), непадалёк ад Белавежскай Пушчы, за 20 км на З ад Пружан, 97 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 2143 жыхары (2005).

Вядома з 1380 г. як вёска ў складзе ВКЛ, з 1569 г. ў складзе Рэчы Паспалітай. У пач. 16 ст. ўладанне берасцейскага старосты Ю.Ілініча. У 1536 г. Шарашова купіла каралева Бона Сфорца і надала яму гар. правы. Уваходзіла ў склад Камянецкага, з 1566 г. Берасцейскага паветаў. З канца 16 ст. мястэчка. У 1760 г. тут пабудавана Прачысценская царква (не захавалася). У час войнаў 17—18 ст. мястэчка неаднаразова спустошана і разбурана. У 1776 г. яно пазбаўлена гар. правоў і пераведзена ў дзярж. маёнткі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай

*Фрагмент забудовы г.п. Шарашова.*





(1795) у складзе Рас. імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Пружанскага пав. Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1790-я г. ў мястэчку 561 двор, 3366 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. дзейнічалі 3 гарбарныя з-ды і 2 суконныя мануфактуры (57 рабочых). У 1886 г. 399 двароў, 2132 жыхары, працавалі валаснoе праўленне, 3 царквы, капліца, касцёл, сінагога, 9 малітоўных дамоў, багадзельня, школа, піўная лаўка, піваварны, 2 гарбарныя з-ды, 2 сукнавальні, 18 піцейных дамоў. Паводле перапісу 1897 г. ў Шарашове 814 двароў, 5274 жыхары, дзейнічалі 3 царквы, касцёл, сінагога, 8 малітоўных дамоў, валаснoе праўленне, нар. вучылішча, паштовае аддз., 56 лавак, хлебазапасны магазін, тракцір. У пач. 20 ст. насельніцтва мястэчка складала 2325 чал. З 1915 г. Шарашова было акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919—20 гг. — польскімі войскамі. У ліп.—вер. 1920 г. тут існавала сав. ўлада. З 1921 г. ў складзе Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Пружанскага пав. Палескага ваяв. У 1935 г. 3570 жыхароў. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. гар. пасёлак, цэнтр раёна Брэсцкай вобл. У 1940 г. 3486 жыхароў, 686 жылых пабудоў, працавалі электрастанцыя, млын, лазня, пошта, тэлеграф, клуб, амбулаторыя, аптэка, 2 школы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічалі Шарашоўскія раённы падп. антыфаш. к-т і райком ЛКСМБ. Вызвалена 17.7.1944 г. На франтах загінулі і прапалі без вестак каля 50 жыхароў Шарашова. Многія пасялкоўцы былі расстраляны акупантамі. У 1947—57 гг. у Шарашове працаваў дзіцячы дом для дзяцей, чыі бацькі загінулі ў вайну. З 17.12.1956 г. ў складзе Пружанскага р-на. Паводле перапісу 1959 г. 3431 жыхар. У 2003 г. 2200 жыхароў. Працуюць мэблевы цэх Брэсцкай мэблевай ф-кі, смолзавод, камбінат быт. абслугоўвання, пякарня, лясніцтва, сярэдняя школа, вучэбны вытв. камбінат, муз. школа, дзіцячы сад, Дом культуры, 2 б-кі, бальніца. Помнікі: на брацкай магіле партызан і ахвяр фашызму, на брацкай магіле сав. воінаў і партызан. Захаваліся помнікі архітэктуры: Мікалаеўская царква (1872), Петрапаўлаўская царква (1824), Троіцкі касцёл (1848), званіца былой Прачысценскай царквы (1799).



*Прыдарожная капліца ў г.п. Шарашова.*



*Мікалаеўская царква (1872) у г.п. Шарашова.*

Шарашова — радзіма Героя Сав. Саюза М.В.Хоцімскага.

**ШПАКІ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, за 59 км на ПнУ ад Пружан, 159 км ад Брэста, 36 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Брэст. 22 гаспадаркі, 41 жыхар (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Зельзінскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 175 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. антыфаш. арг-цыя. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 9 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары, у 1970 г. — 139 жыхароў. У 2003 г. 25 гаспадарак, 47 жыхароў.

*Агульны выгляд і фрагменты інтэр'ера Троіцкага касцёла (1848) у г.п. Шарашова.*







**ШУБІЧЫ** — вёска ў Шаняўскім с/с, за 5 км на З ад Пружан, 79 км ад Брэста, 17 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 48 гаспадарак, 89 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. вёска ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 224 жыхары. Каля вёскі знаходзіўся аднайменны маёнтак, 6 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска ў Шанёўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 61 двор, 244 жыхары (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 16 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў, у 1970 г. — 296 жыхароў. У 2003 г. 49 гаспадарак, 94 жыхары.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза С.А.Бабрука.

**ШЧАРЧОВА** — вёска, цэнтр Шчарчоўскага с/с, за 30 км на ПдЗ ад Пружан, 60 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 163 гаспадаркі, 464 жыхары (2005).

У 1886 г. вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 50 двароў, 513 жыхароў, працавалі піцейны дом, вінакурны з-д (каля вёскі). Паводле перапісу 1897 г. 102 двары, 686 жыхароў, ветраны млын, хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 536 жыхароў. З сак. 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 139 дамоў, 548 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Шарашоўскім р-не Брэсцкай вобл., з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета (першы старшыня П.А.Кавальчук, забіты гітлераўцамі ў 1941). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіра-



вана ням.-фаш. захопнікамі. З 17.12.1956 г. ў складзе Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1970 г. 291 жыхар. У 2003 г. 165 гаспадарак, 486 жыхароў. Дзейнічаюць аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа-сад, рамонтна-механічныя майстэрні, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання. У цэнтры вёскі знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у Вял. Айч. вайну. У 1969 г. на магіле ўстаноўлены абеліск. На будынку выканкома сельсавета ўстаноўлена мемарыяльная дошка П.Кавальчуку.

На тэр. сельсавета апрача Шчарчова знаходзяцца вёскі: Александраўка, Блажкі, Брады, Вішня, Вялікі Зосін, Галасяціна, Ганчары, Дзедаўка, Казакі, Катылы, Малы Зосін, Падалессе, Старуны, Стойлы, Тарасы, Хідры, Цімохаўшчына, Чабахі, Шчэрбы; хутар Вяжное.

**ШЧЫТНА** — вёска ў Варанілавіцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Пружан, 135 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 38 гаспадарак, 48 жыхароў (2005).

З вер. 1939 г. вёска ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У 1940 г. 79 двароў, 313 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. антыфаш. група. У ліп. 1944 г. гітлераўцы спалілі вёску і загубілі 11 яе жыхароў. Пасля вайны адноўлена. На франтах вайны загінулі ці прапалі без вестак 8 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 310 жыхароў, у 1970 г. — 248 жыхароў. У 2003 г. 41 гаспадарка, 53 жыхары.

**ШЧЭРБЫ** — вёска ў Шчарчоўскім с/с, за 36 км на ПдЗ ад Пружан, 68 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Тэўлі на лініі Баранавічы—Брэст. 40 гаспадарак, 58 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. Шчэрбы — вёска ў Гарадзечанскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 46 двароў, 383 жыхары. У пач. 20 ст. 406 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, вёска ў Гарадзечанскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв., 54 дамы, 232 жыхары (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы, 9 прапалі без вестак. Паводле перапісу 1959 г. 283 жыхары, паводле перапісу 1970 г. — 291 жыхар. У 2003 г. 45 гаспадарак, 69 жыхароў. Працуе магазін.





*Памятны знак на радзіме М.І.Забэйды-Суміцкага ў в. Шэйпічы.*

**ШЭЙПІЧЫ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, на шашы Ваўкавыск—Ружаны, за 48 км на ПнУ ад Пружан, 147 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Брэст. 77 гаспадарак, 126 жыхароў (2005).

З вер. 1939 г. вёска ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 ў Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Дзейнічала падп. антыфаш. арг-цыя. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 13 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 306 жыхароў, паводле перапісу 1970 г. — 353 жыхары. У вёсцы знаходзіцца брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 2003 г. 81 гаспадарка, 143 жыхары. Працуе магазін.

Вёска — радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху ў Брэсцкай вобл. ў гады Вял. Айч. вайны І.П.Урбановіча, а таксама сусветна вядомага спевака М.І.Забэйды-Суміцкага.

**ЮЗАФІН** — хутар у Велікасельскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Пружан, 107 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. У 2005 г. пастаянных жыхароў не было.

У 1905 г. ў Котранскай вол., 27 жыхароў. У 1921 г. ў Котранскай гміне Пружанскага пав., 2 двары, 23 жыхары,

**ЮБІЛЕЙНЫ** — пасёлак у Шарашоўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Пружан, 118 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

Засн. ў пасляваенны час пры торфапрадпрыемстве. Паводле перапісу 1970 г. 83 жыхары. Працуе магазін.

**ЮНДЗІЛЫ** — вёска ў Ружанскім с/с, за 48 км на ПнУ ад Пружан, 143 км ад Брэста, 37 км ад чыг. ст. Івацэвічы на лініі Баранавічы—Брэст. 148 гаспадарак, 344 жыхары (2005).

З вер. 1939 г. вёска ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах вайны загінулі ці прапалі без вестак 37 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 625 жыхароў. У 2003 г. 150 гаспадарак, 381 жыхар. Працуе магазін.

**ЮХНАВІЧЫ** — вёска ў Велікасельскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Пружан, 103 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 17 гаспадарак, 29 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Велікасельскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 20 двароў, 185 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. 157 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі ці прапалі без вестак 6 аднавяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 136 жыхароў, у 1970 г. — 113 жыхароў.

**ЯЛОВА** — вёска ў Велікасельскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Ружан, 104 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 123 гаспадаркі, 252 жыхары (2005).

У канцы 19 — пач. 20 ст. сяло ці вёска ў Сухопальскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 67 двароў, 611 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная царква, кузня, піцейны дом. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 98 двароў, 653 жыхары, капліца, хлебазапасны магазін, кузня. У пач. 20 ст. 721 чалавек. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР. З 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У 1940—54 гг. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінуў і прапаў без вестак 31 аднавясковец. Паводле перапісу 1959 г. 654 жыхары. Працуе магазін.

**ЯНАЎЦЫ** — вёска ў Мокраўскім с/с, за 12 км на Пн ад Пружан, 101 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 23 гаспадаркі, 40 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Котранскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 32 двары, 184 жыхары, меліся хлебазапасны магазін, ветраны млын. У пач. 20 ст. 138 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, 26 дамоў, 134 жыхары (1921). З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Пружанскім р-не Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. 138 жыхароў. У 2003 г. 25 гаспадарак, 62 жыхары.

**ЯНАЎШЧЫЗНА** — хутар у Сухопальскім с/с, Шарашоўскі дом-інтэрнат, за 18 км на З ад Пружан, 104 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі





*Царква (18 ст.) у в. Ялова.*

Баранавічы—Брэст. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).

У 1905 г. 38 жыхароў.

**ЯРАШЭВІЧЫ** — вёска ў Зеляневіцкім с/с, на р. Зальвянка, каля шашы Ваўкавыск—Ружаны, за 60 км на ПдУ ад Пружан, 160 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Ваўкавыск на лініі Баранавічы—Брэст. 29 гаспадарак, 57 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска ў Зельзінскай вол. Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., 175 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З вер. 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Ружанскім, з 25.12.1962 г. ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. (8.1—19.6.1954 у Гродзенскай вобл.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На франтах без вестак прапалі 2 аднавяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 151 жыхар, у 1970 г. — 127 жыхароў. У 2003 г. 30 гаспадарак, 60 жыхароў.

**ЯСЕНЬ** — вёска ў Шарашоўскім пас. Савеце, за 35 км на З ад Пружан, 124 км ад Брэста, 47 км ад чыг. ст. Аранчыцы на лініі Баранавічы—Брэст. 22 гаспадаркі, 49 жыхароў (2005).

На пач. 20 ст. ўрочышча ў Бялоў-Аляксандраўскай вол. Пружанскага пав. Гродзенскай губ., 55 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, потым у БССР, вёска. З 15.1.1940 г. да 1956 г. ў Шарашоўскім, пасля ў Пружанскім р-нах Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 76 жыхароў, у 1970 г. — 87 жыхароў.

**ЯЦЫ** — хутар у Пружанскім с/с, у складзе Пружанскага агр.-тэхнічнага каледжа. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

Паводле перапісу 1897 г. ў Міхайлаўскай вол. Пружанскага пав., 10 гаспадарак, 77 жыхароў. У 1905 г. 80 жыхароў. У 1921 г. ў Шанёўскай гміне Пружанскага пав. Палескага ваяв. Польшчы. У 1939 г. 59 жыхароў.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 30, воп. 5, спр. 6753, 6760; воп. 9, спр. 2378.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 540.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 г. XI. Гродненская губерния. СПб., 1904.
Указатель населенным местностям Гродненской губернии... Гродно, 1905.
Города России в 1904 году. СПб., 1906.
Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2 (1772—1903 гг.). Мн., 1940.
Материалы районирования западных областей БССР. Мн., 1940.
Сообщения Советского Информбюро. Т. 7. М., 1945.
Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг. Документы и материалы. Мн., 1955.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.
Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1. Мн., 1969.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1984.

Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1 (1917—1941 гг.). Мн., 1985.
Революционное движение в Белоруссии, июнь 1907 — февраль 1917: Документы и материалы. Мн., 1987.
Памяць: Гіст.-дак. хроніка Пружанскага р-на. Мн., 1992.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 5. Мн., 1999.
Рэспубліка Беларусь: Вобласці і раёны: Энцыкл. давед. Мн., 2004.
Skorowidz miejsowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 8. Warszawa, 1924.
Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 8—9. Warszawa, 1887—88; Warszawa, 1893.



ЛУНІНЕЦКІ РАЁН

ПІНСКІ РАЁН

РОВЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

УКРАІНА

ЛЕЛЬЧЫЦКІ РАЁН

ЖЫТКАВІЦКІ РАЁН

ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

СТОЛІН

ДАВЫД-ГАРАДОК

Рэчыца

Лунінец
Кораб'е
Прыпяць
Ястрабель
Хорск
Сямігосцічы
Тураў
Альшаны
Высокае
Вял. Малешава
Альгомель
Стахава
Бродча
Сіціцк
Плотніца
Магільнае
Вял.-
Арлы
Лядзец
Туры
Гарадзец
Мал.-
Асаўцы
Асаўая
Дубай
Дубенец
Вугалец
Харомск
Лісовічы
Турскае
Рамель
Талмачава
Варсынь
Відзіборац
Новабережное
Альпень
Велямічы
Мачуль
Цераблічы
Аздамічы
Кароцічы
Луткі
Камарнікі
Церабішча
Бор-Дубенец
Рухча 2
Рухча 1
Аўсямірава
Кострава
Вулька-Арая
Бережное
Старына
Пінск
Стубла
Цмень 1
Цмень 2
Відзібор
Паніжжа
Крушын
Рубель
Федоры
Радчыцк
Юнішча
Рыбнікі
Ласіцк
Калоднае
Першамайск
Белавуша
Хотамель
Нячатава
Вял. Лес
Крушын
Атвержычы
Пясова
Лука
Глінка
Зубкова
Манькавічы
Лісцянкі
Лучыца
Нов. Пасёлак
Гарадная
Лясны
Вікаравічы
Калонія
Гарынь
Вял.-
Мал.-
Вусцімле
Верх. Церабяжоў
Ніж. Церабяжоў
Струга
Ямнае
Узляжжа
Кашара
Дзераўная
Варані
Альманы
бал. Краснае
Бухлічы
Востраў
Капані
Люты Бор
Сарны
Новы Бор
бал. Гало
26°30'
27°00'
27°30'
52°00'
51°40'

Маштаб 1:550 000

# СТОЛІНСКІ РАЁН

Размешчаны на ПдУ Брэсцкай вобл. Утвораны 15.1.1940 г. ў складзе Пінскай вобл. З 8.1.1954 г. уключаны ў Брэсцкую вобл. У сучасных межах з 19.1.1961 г. Пл. 3,4 тыс.км$^2$. Насельніцтва 60,3 тыс. чал. (2005). Гарадское складае 30%. Сярэдняя шчыльнасць 26 чал. на 1 км$^2$. Цэнтр — г. Столін. На тэр. раёна знаходзяцца г. Давыд-Гарадок, р.п. Рэчыца, 95 сельскіх населеных пунктаў. Адміністрацыйна падзяляецца на 18 сельсаветаў: Альшанскі, Белавушскі, Беражноўскі, Веляміцкі, Відзіборскі, Вялікамалешаўскі, Гараднянскі, Глінкаўскі, Лядзецкі, Манькавіцкі, Плотніцкі, Радчыцкі, Рамельскі, Рубельскі, Рухчанскі, Стружскі, Фядорскі, Харомскі, а таксама Давыд-Гарадоцкі гарсавет і Рэчыцкі пас. Савет. Па тэр. раёна праходзяць чыгунка Лунінец—Сарны (Украіна), аўтадарогі Пінск—Жыткавічы, Дубровіца (Украіна)—Жыткавічы. Мяжуе на Пд з Украінай, на У — з Лельчыцкім і Жыткавіцкім р-намі Гомельскай вобл., на Пн — з Лунінецкім, на З — з Пінскім р-намі.

Раён моцна пацярпеў у 1986 г. ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, большая частка яго тэр. забруджана радыенуклідамі да 5 Кu/км$^2$, асобныя ўчасткі — да 15 Кu/км$^2$.

Столінскі р-н знаходзіцца ў межах Прыпяцкага Палесся. Паверхня плоская, забалочаная, ёсць участкі градава-ўзгорыстыя, дзюннага рэльефу з астанцамі надпоймавых тэрас. На 80% тэр. пераважныя вышыні 130—140 м. Найвышэйшы пункт — 168 м (каля в. Гарадная). Карысныя выкапні: торф, будаўнічыя і кварцавыя пяскі, тугаплаўкія і легкаплаўкія гліны (радовішчы Глінка, Столінскія Хутары), а таксама суглінкі, гаручыя сланцы (частка Тураўскага радовішча гаручых сланцаў), буры вугаль. Найбуйнейшая рака на Століншчыне — Прыпяць з прытокамі Стыр, Гарынь, Сцвіга з Маствой (Львой). Воз. Вялікае Засамінае. Створаны вадасховішчы Дубянецкае і Марочна. Пад лесам знаходзіцца 38,4% тэр. раёна. Найбольш адметныя масівы — Беражноўская і Сцесінская лясныя дачы.



*Паляшучка.*



*Палескі пейзаж.*





*Трэніруюцца юныя весляры. Рака Гарынь.*

*Будынак райвыканкома ў Століне.*

Балотамі занята 21,7% пл. раёна. На тэр. Століншчыны знаходзяцца заказнікі рэсп. значэння: ландшафтныя Альманскія Балоты і Сярэдняя Прыпяць. Створаны таксама заказнікі мясц. значэння: ландшафтны Рухчанскі, біялагічны Церабяжова-Каладнянскі, гідралагічны Ястрабель (частка), батанічны мікразаказнік Столінскі.

Агульная пл. с.-г. угоддзяў 114 тыс. га, з іх асушаных 51,6 тыс. га. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, свінагадоўлі, птушкагадоўлі. Вырочшваюць збожжавыя і кармавыя культуры, бульбу, лён, цукровыя буракі, зялёны гарошак, развіта садаводства. Працуюць прадпрыемствы харч. прам-сці, будаўнічых матэрыялаў, металаапрацоўчыя, дрэваапрацоўчыя, а таксама электрамеханічны з-д, торфапрадпрыемства «Глінка». На Століншчыне створаны і працуюць Столінскі краязнаўчы музей, нар. этнаграфічны музей у в. Цераблічы, Музей нар. славы ў р.п. Рэчыца. У раёне ёсць помнік прыроды рэсп. значэння — парк Манькавічы. Помнікі прыроды мясц. значэння: парк Навабережное каля в. Беражное, парк и дуб чарэшчаты ў в. Ніжні Церабяжоў.

На тэр. раёна знаходзіцца шмат помнікаў археалогіі. Сярод іх: гарадзішчы каля вёсак Белавуша, Гарадная, Харомск, Хотамель, стаянкі і селішчы каля вёсак Аздамічы, Велямічы, Верхні Церабяжоў, Вікаравічы, Кашара, Мачуль, Ніжні Церабяжоў, Рубель, Струга, Фядоры, Хотамель, Бухліцкі Хутар, курганныя могільнікі ў вёсках Атвержычы, Дубай і інш. Гарадзішча, селішча і бескурганны могільнік ёсць у Давыд-Гарадку.

Помнікі архітэктуры: цэрквы Васкрасенская 1817 г. ў в. Альгомель, Успенская 1888 г. ў в. Альпень, Троіцкая 1905 г. ў в. Белавуша, Параскевы Пятніцы (пабудавана каля 1884 на падмурку царквы 18 ст., перабудавана ў 20 ст.) у в. Беражное, Ільінская 1881 г. ў в. Велямічы, Троіцкая (пабудавана ў 18 ст., перабудавана ў 1930-я г.) у в. Гарадная, Георгіеўская 1724 г. ў Давыд-Гарадку, Раства Багародзіцы 1718—20 гг. у в. Дубенец, Пакроўская 1875 г. ў в. Плотніца, царква сярэдзіны 19 ст. ў в. Радчыцк, Міхайлаўская 18 ст. ў в. Рамель, Міхайлаўская 1796 г. ў в. Рубель, Раства Багародзіцы 1730 г. ў в. Рухча 1, Пакроўская канца 19 ст. ў в. Стахава. У Давыд-Гарадку пастаўлены помнік кн. Давыду; каля в. Верхні Церабяжоў, на мяжы Беларусі і Украіны — помнік Дружбы. Выдаецца газ. «Навіны Палесся». Дзейнічаюць 2 пункты пропуску праз дзярж. граніцу Рэспублікі Беларусь: Верхні Церабяжоў—Гарадзішча і Гарынь—Удрыцк.

*Традыцыйны галаўны ўбор мяшчанкі — галовачка з Давыд-Гарадка. Канец 19 ст. Вясельная галовачка з в. Альшаны. Канец 19 ст.*











*Мемарыяльны знак у гонар заснавання Століна.*

*Мемарыял загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны ў Століне.*

**СТОЛІН** — горад, цэнтр Столінскага р-на, на р. Гарынь, за 245 км на У ад Брэста, за 7 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Пінск—Давыд-Гарадок. 12,5 тыс. чалавек (2005).

Столін адносіцца да найбольш стараж. паселішчаў Столінскага р-на. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах сярод гарадоў 12—13 ст. З 16 ст. Столін — мястэчка, якім у розны час валодалі Саламярэцкія, Вішнявецкія, Пацеі, Солтаны, Скірмунты, Стахоўскія. Уваходзіў у склад Берасцейскага ваяв. ВКЛ. З 17 ст. горад. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. пад Століным рус. войскі пад камандаваннем кн. Валконскага разгр=мілі ў 1655 г. войскі Рэчы Паспалітай, авалодалі горадам і некалькі гадоў утрымлівалі яго. З 1792 г. цэнтр Запінскага пав. Брэсцкага ваяв. З даўніх часоў тут існавала царква.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. мястэчка, цэнтр воласці Пінскага пав. Мінскай губ. У 1800 г. каля мястэчка працаваў цагельны з-д. У 1816 г. адкрыта



*Панарама новай забудовы Століна.*




*Уязны знак у Столін.*

першая на Беларусі школа ўзаемнага навучання, дзе выкладаліся асновы агранаміі. У 1815 г. на сродкі сялян пабудавана мураваная царква, якая была пераўтворана ў каталіцкі касцёл, а пазней пераблена (1840) і асвячона (1846) як праваслаўная Троіцкая царква. У 1829 г. ў Століне праводзіліся 2 кірмашы, у 1844 г. — 5 кірмашоў. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1874 г. на сродкі прыхаджан капітальна адрамантавана праваслаўная царква. У 1879 г. ёй належалі 32 дзес. зямлі, у т.л. 23 дзес. ворыва, 8 дзес. сенажаці. У 1885 г. паблізу Століна, у маёнтку Радзівілаў, закладзены пейзажны парк Манькавічы пл. 50 га (захаваліся 28 га, цяпер гар. парк культуры і адпачынку). У 1886 г. 121 двор, 815 жыхароў, працавалі валаснoе праўленне, праваслаўная прыходская царква, царк.-прыходскае папячыцельства (пры царкве), сінагога, 4 яўр. малітоўныя дамы, нар. вучылішча, вінакурны і гарбарны з-ды, 20 крам, піцейны дом. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, рыбнай лоўляй, сплавам лесу, вырабам дзёгцю, дробным гандлем. Паводле перапісу 1897 г. ў Століне было 250 двароў, 3,3 тыс. чал.

На пач. 20 ст. 471 двор, каля 4,7 тыс. чал. Побач з мястэчкам знаходзіўся маёнтак Столін (1 гаспадарка, 15 жыхароў). У ліст. 1917 г. ўстаноўлена сав. ўлада. У лютым-снеж. 1918 г. Столін акупіраваны германскімі, а ў ліп. 1919 г. — жн. 1920 г. польскімі войскамі. На Століншчыне супраць акупантаў разгарнуўся партыз. рух, быў створаны рэв. валасны к-т, які кіраваў барацьбой паўстанцкіх атрадаў. У канцы 1918 г. атрады былі аб'яднаны ў палкі. 25.12.1918 г. ў Століне адбыўся з'езд старшынь валасных рэв. к-таў і камандзіраў партыз. фарміраванняў. Летам 1920 г. сав. ўлада адноўлена.

У 1921—39 гг. Столін знаходзіўся ў складзе Польшчы. Паводле перапісу 1921 г. — мястэчка Палескага ваяв., 497 дамоў, 4763 жыхары. З 1939 г. ў БССР, 7033 жыхары. Местачкоўцы займаліся рамяством і рыбнай лоўляй, сярод іх налічваліся 120 сталяроў, 250 краўцоў, 80 шаўцоў. Дзейнічалі 2 паравыя млыны,

*Новы будынак паліклінікі ў Століне.*



*Алімпійская чэмпіёнка Надзея Астапчук — ураджэнка г. Столін.*









*Аграрна-эканамічны каледж у Століне.*

*Вазнясенская царква ў Століне.*

масларобчы з-д, друкарня, 2 школы, меліся 1126 дамоў, з іх 16 камунальных, астатнія прыватныя, бальніца на 50 ложкаў , амбулаторыя, радзільны дом на 20 ложкаў, 2 пякарні. З 15.1.1940 г. Столін — цэнтр Столінскага р-на Пінскай, з 1954 г. Брэсцкай абласцей.

У Вял. Айч. вайну 12.7.1941 г. Столін акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе і раёне 9309 чал. На тэр. раёна супраць акупантаў разгарнуліся партыз. рух і падп. барацьба, дзейнічалі партыз. брыгады «Савецкая Беларусь» і спецпрызначэння пад камандаваннем С.Каплуна, укр. злучэнні С.Каўпака і А.Сабурава. 16.1.1943 г. і 9.1.1944 г. ўкр. і бел. партызаны грамілі гарнізон праціўніка. Барацьбу з акупантамі ўзначальваў столінскі падп. райком КП(б)Б (1943—44), дзейнічаў падп. райком ЛКСМБ (1943—44). 7.7.1944 г. Столін вызвалены воінамі 397-й стралк. дывізіі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення сав. войск на Баранавіцка-Брэсцкім напрамку ў час Бел. аперацыі 1944 г. У 1959 г. ў Століне 5,8 тыс. чал., у 1970 г. — 7,1 тыс. чал.





*Фрагменты гістарычнай забудовы г. Столін.*

У горадзе пераважае квартальная планіроўка. Жылая забудова размешчана ўздоўж р. Гарынь. Паводле ген. плана,





*Парк «Манькавічы» ў Століне.*

*Сінагога ў г. Столін.*



*Свята Перамогі ў Століне. 2006 г.*



*Знак у памяць 10-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Століне.*

распрацаванага ў 1970 г. ін-там «Белдзяржпраект», вядзецца рэканструкцыя вулічнай сеткі, узбуйняюцца жылыя кварталы, фарміруецца грамадскі цэнтр. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр Століна забудоўваецца згодна з праектам дэталёвай планіроўкі цэнтра, распрацаваным у 1973 г. Мінскім філіялам Цэнтр. н.-д. і праектнага ін-та горадабудаўніцтва. Цэнтр Століна склаўся на вуліцы Савецкай і створаных на ёй плошчах (Леніна, Камсамольская).



*У выставачнай зале метадычнага цэнтра аддзела культуры Столінскага райвыканкома.*

Гасп. зона размешчана ў заходняй і ўсх. частках Століна. Гал. прам. прадпрыемствы: камбінат будаўнічых матэрыялаў, масласырзавод, спіртзавод, кансервавы з-д.

Працуюць аграрна-эканам. каледж, ПТВ, гімназія, спарт. і 2 сярэднія школы, школа мастацтваў, 4 дашкольныя дзіцячыя ўстановы, Дом дзіцячай творчасці, Дом культуры, Дом быту, кінатэатр, краязнаўчы музей, 2 б-кі, бальніца, паліклініка, аптэка, гасцініца, шэраг магазінаў і гандл. кропак. Выдаецца газ. «Навіны Палесся».

У Століне ўстаноўлены помнікі: на брацкай магіле сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму, у гонар 40-годдзя вызвалення горада ад ням.-фаш. акупантаў. Некаторыя дамы адзначаны мемарыяльнымі дошкамі. Захаваліся помнікі архітэктуры — сінагога 18 ст. і Вазнясенская царква 1-й пал. 20 ст.

Зона адпачынку парк Манькавічы знаходзіцца на паўд.-ўсх. ускраіне горада, на левым беразе р. Гарынь, каля аўтадарогі Столін—Давыд-Гарадок. Парк







*У працэдурным кабінеце Столінскай раённай цэнтральнай бальніцы.*

*Адзін з маляўнічых куткоў парку «Манькавічы».*

закладзены ў маёнтку Радзівілаў у 1885 г. як сядзібны на пл. 50 га. Захаваліся 28 га. Цяпер гар. парк культуры і адпачынку. Мастацка-стылёвая трактоўка палацава-паркавага комплекса Манькавічы падобная да Нясвіжскай замкавай рэзідэнцыі Радзівілаў. Аснову яго кампазіцыі складае палац, пабудаваны ў 1905 г. паводле праекта берлінскага архітэктара Венцэля. Палац разбураны ў 1-ю сусветную вайну, адноўлены ў 1922 г. варшаўскім архітэктарам Нагурскім. Другі раз разбураны ў Вял. Айч. вайну. У архітэктуры манум. Г-абразнай у плане пабудовы выкарыстаны рэтраспектыўныя формы Нясвіжскага замка: арачны праезд, відавая башня, мансардны дах. Палац размяшчаўся на высокім берагавым адхоне на насыпной тэрасе, абкружанай земляным валам вышынёй да 1,5 м, адкуль адкрываліся далёкія перспектывы на маляўнічую зарэчную пойму. Партэр, што прымыкаў да палаца, меў сажалкі і фантаны, быў дэкарыраваны паркавай скульптурай. Парк складаўся з цэнтр. пейзажнай часткі са звілістымі алеямі і перыметральнага натуральнага дрэвавага масіву. Алеі радыяльна сыходзіліся да палаца і былі арыентаваны на яго вежу-дамінанту. У парку больш за 35 відаў дрэў і кустоў, у т.л. елкі канадская і Энгельмана, лістоўніца еўрапейская, піхта каўказская. Сярод экзотаў — ліпы лямцавая, серабрыстая і буйналістая, вярба белая залацістая, дуб чырвоны, каштан конскі і інш. На цэнтр. паляне ўстаноўлены мемарыяльны закладны камень. Пры ўездзе ў парк размяшчаліся каваная брама і дом брамніка, выкананы ў адзіным з палацам стылі (не захаваліся).

*Заслужаны аматарскі калектыў «Выцінанка» Столінскага Дома культуры.*









*Царква ў в. Аздамічы.*

Парк Манькавічы — помнік садова-паркавага мастацтва перыяду рамантызму.

Столін — Радзіма засл. настаўніка Беларусі А.І.Барэкі.

**АЗДАМІЧЫ** — вёска ў Рамельскім с/с, за 57 км на ПнУ ад Століна, 300 км ад Брэста, 64 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 447 гаспадарак, 1134 жыхары (2005).

Вядомы з канца 18 ст. як сяло Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., уласнасць Салагубаў. Паводле рэвізскіх казак 1795 г. ў сяле каля 50 двароў, 400 жыхароў. У 1811 г. ў складзе казённага Тураўскага маёнтка. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. сяло, 55 двароў, 321 жыхар, Троіцкая праваслаўная царква, прыходская царква, нар. вучылішча (25 вучняў), 2 млыны. Вучылішча і царква ўтрымліваліся ў асн. на сродкі мясц. сялян. На пач. 20 ст. ў сяле 102 двары, 788 жыхароў, дзейнічалі нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, лясніцтва, царква. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу 30.9.1921 г. вёска Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 132 дамы, 832 жыхары (з іх 780 беларусаў). З 1939 г. ў БССР, 163 дамы, 983 жыхары. З 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета, потым у Рамельскім с/с. Да 9.11.1961 г. ў Давыд-Гарадоцкім, потым у Столінскім (да 8.1.1954) р-нах Пінскай, затым Брэсцкай абласцей. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы было 170 двароў, 750 жыхароў. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі тут 70 двароў. Пасля вайны адноўлена. У 1969 г. ў калгасе «Праўда», 329 гаспадарак, 1251 жыхар, дзейнічалі млын, рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, б-ка, Дом культуры, аддз. сувязі, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, ашчадны банк, магазін. У цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск (1970) на ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць ням.-фаш. акупантаў у Вял. Айч. вайну.

Каля вёскі, ва ўрочышчы Селішча, знаходзяцца 2 археал. помнікі — могільнік і паселішча. У 1986 г. іх абследавала В.С.Вяргей. Паселішча адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага і жал. вякоў, могільнік — да паморскай культуры ранняга жал. веку; раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі.

**АЛЬГОМЕЛЬ** — вёска ў Вялікамалешаўскім с/с, на р. Маства, у калгасе «Палессе», за 4,5 км на ПнУ ад Століна, 290 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 360 гаспадарак, 988 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв., уласнасць праваслаўнай царквы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 — пач. 20 ст. сяло Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1816 г. 20 двароў, 110 жыхароў. У 1817 г. тут пабудавана драўляная Васкрасенская праваслаўная царква, якая захавалася да нашага часу. У 1886 г. 26 двароў, 167 жыхароў, дзейнічаў праваслаўны прыход, да якога адносілася каля



300 вернікаў. У пач. 20 ст. вёска, 56 двароў, 363 жыхары. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак (1 гаспадарка, 17 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу 30.9.1921 г. вёска Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 70 дамоў, 446 жыхароў (з іх 434 беларусы). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. Альгомель з'яўляўся цэнтрам сельсавета, потым аднесены да Вялікамалешаўскага с/с. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Працуе магазін. У цэнтры вёскі знаходзіцца царква — помнік драўлянага нар. дойлідства 19 ст.

Вёска Альгомель — радзіма бел. гісторыка, доктара гіст. навук, праф. А.Ф.Вішнеўскага.

**АЛЬМАНЫ** — вёска ў Стружскім с/с, на р. Мышанка (прыток р. Льва), за 20 км на ПдУ ад Століна, 265 км ад Брэста, 27 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 340 гаспадарак, 1216 жыхароў (2005).

У 19 — пач. 20 ст. сяло, цэнтр праваслаўнага прыхода Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў. На 1816 г. каля 100 двароў. Паводле царк. звестак у 1879 г. Альманскі прыход налічваў каля 680 вернікаў. Пры царкве працавала папячыцельства. Побач з вёскай быў аднайменны маёнтак, 827 валок зямлі, уладанне Радзівілаў. Паводле перапісу 1897 г. Альманы — сяло Церабяжоўскай вол. Пінскага пав., 80 двароў, 519 жыхароў, дзейнічалі праваслаўная прыходская царква, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 85 двароў, 650 жыхароў, царк.-прыходская школа. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. На 30.9.1921 г. вёска Церабяжоўскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 128 дамоў, 827 жыхароў (пераважна праваслаўныя беларусы). З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. ў Стружскім с/с Пінскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы 202 двары, 1312 жыхароў. Ням.-фаш. акупанты ў ліп. 1944 г. спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. Паводле перапісу 1959 г. 1177 жыхароў. У 1969 г. 375 гаспадарак, 1728 жыхароў, цэнтр калгаса «Беларусь». На тэр. сучаснай вёскі знаходзяцца млын, рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, клуб, ашчадны банк, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, Дом быту. Помнік-абеліск (1965) 79 землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, помнік (1975) на магіле ахвяр фашызму.



*Свята вёскі Альманы. 2006 г.*



*Васкрасенская (1817; на заднім плане) і новая праваслаўная царквы ў в. Альгомель.*



*Параскеўская царква (1990-я г.) у в. Альшаны.*

Каля вёскі ва ўрочышчах Лысуха і Фёдарава (Пятрова) ёсць 2 археал. помнікі — стараж. стаянкі, якія выявіла і абследавала ў 1886 г. В.С.Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**АЛЬПЕНЬ** — вёска ў Веляміцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Століна, 285 км ад Брэста, 38 км ад чыг. ст. Гарынь, на лініі Лунінец—Сарны. 305 гаспадарак, 592 жыхары (2005).

Вядома з 16 ст. як сяленне ў Пінскім пав. ВКЛ. Пазначана пад 1513 г. у жалаванай грамаце кн. Ф.І.Яраславіча і пад 1544 г. у наказе каралевы Боны старосце Пінскаму. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1795 г. сяла, уласнасць памешчыкаў Наркускіх. У 19 — пач. 20 ст. сяло ці ваколіца Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1888 г. тут пабудавана драўляная праваслаўная Успенская царква, якая захавалася да нашага часу. На пач. 20 ст. Альпень вядома як ваколіца. У 1909 г. 175 двароў, 1150 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, у Веляміцкім с/с Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай вобл., 170 двароў, 1470 жыхароў. З 1954 г. ў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі дзейнічалі партызаны брыгады «Савецкая Беларусь» Пінскай вобл. У 1969 г. ў калгасе «За Радзіму». Працуе магазін. У цэнтры вёскі Успенская царква — помнік традыц. нар. драўлянага дойлідства.

*Панарама в. Альшаны.*



**АЛЬШАНЫ** — вёска, цэнтр Альшанскага с/с, на р. Гарынь, за 44 км на ПнУ ад Століна, 286 км ад Брэста, 51 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Столін—Тураў. 1750 двароў, 6615 жыхароў (2005).

Вядомы па пісьмовых крыніцах з 14 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1975 г. сяло Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., належала князям Радзівілам і ўваходзіла ў склад іх маёнтка Высокае. У 1869 г. тут адчынена нар. вучылішча. У 1886 г. 70 двароў, 873 жыхары, працавалі прыходская Пятніцкая царква (каля 630 прыхаджан і 1,5 валокі зямлі), конная паштовая станцыя, нар. вучылішча. У 1886/87 навуч. годзе займаліся 26 дзяцей (усе хлопчыкі). Вучылішча ўтрымлівалася на сродкі мясц. сельскай грамады і дзярж. казначэйства. У 1902 г. ў Альшанах адбыліся сял. хваляванні супраць мясц. памешчыка Радзівіла, якія былі падаўлены паліцыяй, 6 удзельнікаў выступлення былі арыштаваны і зняволены. У 1909 г. ў сяле 303 двары, 1848 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв.



У 1921 г. 256 дамоў, 1962 жыхары. З 1939 г. ў БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай вобл., 514 двароў, 2810 жыхароў, паравы млын, 7-гадовая школа, бальніца, магазін. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 7.7.1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 75-й стралк. дывізіі і 6-й асобнай роты марской пяхоты Пінскай ваеннай флатыліі ў выніку жорсткага бою з пераўзыходзячымі сіламі праціўніка. За 2,5 км на У ад Альшан гітлераўскія карнікі восенню 1942 г. расстралялі 685 жыхароў, у 1944 г. спалілі ў вёсцы 126 двароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не. У 1969 г. цэнтр калгаса, 992 двары, 4223 жыхары. Згодна з перапісам 1970 г. 1749 жыхароў. На тэр. вёскі знаходзяцца ветпункт, рамонтна-механічныя майстэрні, млын, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, сярэдняя школа, магазін.

У вёсцы размешчаны помнікі: на брацкай магіле 16 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні Альшан у пач. ліп. 1944 г.; на ўшанаванне памяці 87 землякоў, што загінулі ў баях з ням.-фаш. захопнікамі ў Вял. Айч. вайну; на магіле ахвяр фашызму (каля вёскі). За 1,5 км на З ад Альшан, на краі надпойменнай тэрасы р. Гарынь, знаходзіцца археал. помнік — селішча. Выявілі і абследавалі ў 1986 г. В.С.Вяргей і А.А.Ягарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.



*Пратэстанцкі малітоўны дом у в. Альшаны.*

**АСАВАЯ** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Століна, 266 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 76 гаспадарак, 189 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1503 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Па-



*Фермер і прадпрымальнік М.І.Грыцук з в. Альшаны.*



*Касцёл Успення Прасвятой Дзевы Марыі ў в. Асавая.*

водле перапісу 1897 г. вёска, 8 двароў, 58 жыхароў; побач з вёскай знаходзілася ваколіца Асавая, 53 двары, 328 жыхароў, дзейнічаў касцёл. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. 11 двароў, 78 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Плотніцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 67 дамоў, 345 жыхароў (з іх 339 палякаў і 4 беларусы; па веравызнанні 223 католікі і 115 праваслаўных). З 1939 г. ў БССР, цэнтр сельсавета, 665 жыхароў, 128 двароў. З 12.10. 1940 г. ў Столінскім р-не Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, 77 двароў, 665 жыхароў, пач. школа. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 229 жыхароў, у 1970 г. ў калгасе «ХІХ партз'езд», 235 жыхароў. Працуе магазін.

**АСАЎЦЫ** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Століна, 262 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 100 гаспадрак, 231 жыхар (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст., у розныя часы з'яўляліся ўласнасцю Міхайлоўскіх, Скірмунтаў. У 19 — пач. 20 ст. вёска Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1886 г. ў вёсцы налічваліся 13 двароў, 62 жыхары, дзейнічала царква, якая была прыпісана да Плотніцкага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 224 жыхары, працаваў хлебазапасны магазін. На пач. 20 ст. вёска — 34 двары, 280 жыхароў ; аднайменны маёнтак — 1 гаспадарка, 7 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 47 дамоў, 260 жыхароў (усе беларусы, большасць з іх праваслаўныя).

З 1939 г. ў БССР, 97 двароў, 453 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска Плотніцкага с/с Столінскага р-на Пінскай вобл. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У Вял. Айч. вайну 30 вяскоўцаў загінулі ў баях. Паводле перапісу 1959 г. 435 жыхароў. У 1969 г. цэнтр калгаса «ХІХ партз'езд», 122 гаспадаркі, 408 жыхароў; у 1970 г. 401 жыхар. На тэр. вёскі знаходзяцца рамонтна-механічныя майстэрні, млын, ветпункт, магазін, клуб, б-ка, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання. У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса, знаходзіцца помнік на ўшанаванне памяці вяскоўцаў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну (1971).

**АТВЕРЖЫЧЫ** — вёска ў Манькавіцкім с/с, каля р. Гарынь, за 6 км на ПнУ ад Століна, 21 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Атвержычы—Столін. 239 гаспадарак, 696 жыхароў (2005).

Упамінаюцца ў дакументах у 1536 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 — пач. 20 ст. вёска Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў. У 1886 г. 16 двароў, 79 жыхароў, вёска адносілася да Белавушскага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 407 жыхароў. У пач. 20 ст. ў вёсцы 46 двароў, 565 жыхароў. Апрача земляробства і жывёлагадоўлі займаліся збіраннем ягад, грыбоў, лекавых траў, арэхаў, лоўляй рыбы і ракаў, пляценнем кошыкаў, ткацтвам і інш. Сяляне найамаліся да памешчыкаў і прамыслоўцаў рубіць лес, вязаць плыты, праўляць лес па рэках. У 1921—39 гг. вёска ў складзе Польшчы. паводле перапісу 1921 г. вёска Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 58 дамоў, 603 жыхары (з іх 599 беларусаў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. вёска Манькавіцкага с/с Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 962 жыхары. У 1970 г. 1982 жыхары, у складзе саўгаса «Манькавіцкі». Працуе магазін.

Размешчаны 2 археал. помнікі — курганны могільнік і могільнік. Курганны



могільнік (25 курганаў) знаходзіцца на правым беразе р. Гарынь. Належаў дрыгавічам (10—11 ст.). Адкрыў у 1953 г. Б.В.Міралюбаў, даследаваў у 1955 і 1957 гг. Ю.В.Кухарэнка. Могільнік, які належыць плямёнам зарубінецкай культуры, знаходзіцца на паўн. ускраіне вёскі, часткова на могілках. Раскопкі праведзены ў 1955, 1957 і 1962 гг. Ю.В.Кухарэнкам, у 1963 і 1965 гг. — К.В.Каспаравай. Знойдзены посуд, розныя ўпрыгожанні. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Столінскім краязнаўчым музеі і Эрмітажы (С.-Пецярбург).

**АЎСЯМІРАВА** — вёска ў Радчыцкім с/с, на р. Стыр (прыток Прыпяці), за 33 км на З ад Століна, 220 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 174 гаспадаркі, 344 жыхары (2005).

Вядома з 16 ст. ў складзе ВКЛ. Дзяржаўная, а потым манастырская ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. вёска Пінскага пав. Мінскай губ., дзейнічала царква, прыпісаная да Радчыцкага праваслаўнага прыхода. У 1886 г. сяло Радчыцкай вол. Пінскага пав., 35 двароў, 158 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска Радчыцкай вол. Пінскага пав., 26 двароў, 189 жыхароў. У пач. 20 ст. ў Вітчаўскай вол. Пінскага пав., 122 двары, 705 жыхароў, праваслаўная царква. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Радчыцкай гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., 133 дамы, 720 жыхароў (сярод іх 691 праваслаўны беларус). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Радчыцкім с/с Столінскага р-на пінскай вобл. У 1940 г. 182 двары, 933 жыхары. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1959 г. 1049 жыхароў, у 1970 г. 1070 жыхароў, у складзе калгаса «Мір». На тэр. вёскі працуе магазін.

**БЕЛАВУША** — вёска, цэнтр Белавушскага с/с, на р. Гарынь (прыток Прыпяці), за 7 км на ПнУ ад Століна, 254 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі



*Троіцкая царква (1905) у в. Белавуша.*

Лунінец—Сарны. 976 гаспадарак, 2876 жыхароў (2005).

Вядома з 16 ст. як Белагуша. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, сяло, з 1795 г. ў Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1886 г. 61 двор, 457 жыхароў, праваслаўная царква, млын. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 187 двароў, 827 жыхароў, піцейны дом, царк.-прыходская школа, прыходская праваслаўная царква, крама і ваколіца (134 двары, 760 жыхароў, крама, царква). У 1905 г. пабудавана новая царква з дрэва, якая захавалася да нашага часу. У 1909 г. сяло, 167 двароў, 920 жыхароў. Бытавалі промыслы — сплаў лесу, лоўля рыбы і ракаў, дрэваапрацоўчыя.

У 1921—39 гг. У складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 345 дамоў, 2229 жыхароў (з іх 2035 беларусаў, 165 яўрэяў, 20 палякаў, пераважная большасць праваслаўныя). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, 491 двор, 3136 жыхароў. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы налічваліся 535 гаспадарак, 2524 жыхары, працаваў лесазавод, меліся млын, 2 школы, аддз. сувязі, б-ка. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 356 двароў, загубілі 112 жыхароў. Пасля вайны вёска адноўлена. У 1970 г. цэнтр калгаса «Перамога», 881 гаспадарка, каля 3,5 тыс. жыхароў. На тэр. вёскі знаходзяцца рамонтна-


*Параскева-Пятніцкая царква (1816) у в. Беражное.*

механічныя майстэрні, млын, ветучастак, Дом быту, клуб, б-ка, ашчадны банк, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сярэдняя школа, 5 магазінаў.

У цэнтры вёскі знаходзіцца Троіцкая праваслаўная царква — помнік эклектычнай архітэктуры пач. 20 ст. Помнік гісторыі — брацкая магіла 5 воінаў 297-й стралк. дывізіі 89-й стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні тэр. Белавушскага с/с ад ням.-фаш. акупантаў. У 1957 г. на магіле ўстаноўлены абеліск, якія ўшаноўвае таксама памяць 41 земляка, што загінулі ў Вял. Айч. вайну. Каля вёскі, на правым беразе р. Гарынь, помнік археалогіі — гарадзішча (мясц. назвы Акап, Замак).

**БЕРАЖНОЕ** — вёска, цэнтр Бережноўскага с/с і СВК «Бережноўскі», каля р. Гарынь, за 18 км на ПнУ ад Століна, 263 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Столін—Давыд-Гарадок. 780 гаспадарак, 2080 жыхароў (2005).

*Новая забудова ў СВК «Беражноўскі».*



Упершыню ўпамінаецца ў 1508 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 18 ст. тут існавала царква. З 1795 г. вёска Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў Алешаў. Паводле інвентара 1846 г. ў вёсцы 203 душы мужчынскага і 206 душ жаночага полу. Насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай, агародніцтвам, сплавам лесу па Гарыні. У 1880 г. вёска пры дарозе Столін—Давыд-Гарадок і аднайменны маёнтак (уладанне Чарнецкіх). Каля 1884 г. тут пабудавана з дрэва праваслаўная царква Параскевы Пятніцы на фундаменце разабранай царквы 18 ст. Была прыпісана да Дубянецкага праваслаўнага прыхода; захавалася да нашых дзён. Паводле перапісу 1897 г. 137 двароў, 976 жыхароў, царква, хлебазапасны магазін, піцейны дом, вінакурны з-д.

У 1906 г. сяляне в. Бережное напісалі цару Мікалаю II пісьмо, у якім скардзіліся на прыгнёт з боку памешчыкаў Алешаў, уладальнікаў суседняга маёнтка, якія самавольна захапілі 87 дзес. сял. пашы. Падпісалася 50 вяскоўцаў. У 1909 г. ў Столінскай вол., 161 двор, 1180 жыхароў. У жн. 1914 г. вяскоўцы самавольна пасвілі свой скот на сенакосах памешчыкаў Алешаў, прагналі памешчыцкіх вартаўнікоў. Сяляне вёскі Мікіта Ахрэмчык, Міхаіл Вачук, Іван Гарбар, Мікалай Дзянісчыц, Міхаіл Клімучук і Піліп Карповіч заклікалі батракоў маёнтка Бережное да забастоўкі, перашкаджалі праводзіць палявыя работы. У час выступлення адбылася сутычка сялян з памешчыцкай вартай.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. Паводле перапісу 30.9.1921 г. вёска Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 234 дамы, 1315 жыхароў (пераважная большасць праваслаўныя). Побач з вёскай знаходзіліся 2 фальваркі — Новае Бережное (9 дамоў, 52 жыхары) і Ста-



рое Бережное (10 дамоў, 87 жыхароў). З 1939 г. ў БССР. У 1939 г. 2094 жыхары, 342 двары. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Столінскага р-на Пінскай вобл. У ліп. 1941 г. Беражное акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 7.7.1944 г. воінамі 397-й стралк. дывізіі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту. Паводле перапісу 1959 г. 2226 жыхароў (1064 мужчыны, 1162 жанчыны). У 1970 г. 2523 жыхары. На тэр. вёскі дзейнічаюць рамонтна-механічныя майстэрні, млын, ветпункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, амбулаторыя, аптэка, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, сярэдняя і муз. школы, ашчадны банк.

На мясц. могілках пахаваны ўраджэнец в. Беражное, удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, штурму Зімняга палаца М.Ц.Лазнуха. У час акупацыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі, а пазней палякамі Лазнуха ўзначальваў на радзіме партыз. барацьбу. 14.8.1919 г. ён быў схоплены польскімі інтэрвентамі і пасля катаванняў расстраляны. Яго імем названа вуліца ў Беражным. На магіле Лазнухі ў 1966 г. ўстаноўлены абеліск. У цэнтры вёскі знаходзіцца брацкая магіла 21 сав. воіна 397-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў пач. ліп. 1944 г. пры вызваленні вёскі. У 1951 г. на магіле ўстаноўлены помнік (скульптура воіна), які ўшаноўвае таксама памяць 87 землякоў, загінуўшых у барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі.

Захаваўся помнік нар. архітэктуры 19 ст. — царква Параскевы Пятніцы. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Дубраўка, злева ад дарогі на Столін знаходзіцца археал. помнік — курганны могільнік, які мае 10 насыпаў. Абследаваны ў 1956 г. Ю.В.Кухарэнкам, у 1958 г. В.С.Вяргей. Раскопкі не праводзіліся. За 1 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Гарынь, справа ад аўтадарогі Столін—Давыд-Гарадок размешчаны другі археал. помнік — селішча. Абследаваны ў 1986 г. В.С.Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.



*Па працы і пашана. СВК «Беражноўскі».*

Вёска Беражное — радзіма Героя Сац. Працы В.С.Шыкунец, бел. літаратуразнаўца І.Ф.Штэйнера.

**БОР-ДУБЕНЕЦ** — вёска ў, у Беражноўскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Століна, 263 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 184 гаспадаркі, 486 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 44 двары, 335 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, Плотніцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 77 дамоў, 470 жыхароў (усе праваслаўныя беларусы). У 1939 г. ў БССР, 154 двары, 597 жыхароў. З 12.10. 1940 г. ў Беражкоўскім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія поўнасцю спалілі вёску і загубілі 25 яе жыхароў. У баі каля вёскі загінулі 10 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 759 жыхароў. У 1970 г. 769 жыхароў, у аграфірме імя Леніна. Працуе магазін.

Каля вёскі размешчаны 3 археал. помнікі — гарадзішча і 2 селішчы. Гарадзішча знаходзіцца за 5 км на ПдЗ ад вёскі, мясц. назва Княжацкае. Абследаваў у 1957 г. Ю.В.Кухарэнка. Раскопкі не праводзіліся. Селішча-1 за 0,7 км на ПнУ ад вёскі, паблізу дарогі на Беражное, ва ўрочышчы Чэхі. Селішча-2 размешчана за 0,9 км на П ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча. Абодва выявілі ў 1986 г. В.С.Вяргей і А.А.Ягарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**БРОДЧА** — вёска ў Плотніцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Століна, 266 км ад Брэста, 16 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 83 гаспадаркі, 148 жыхароў (2005).

Упамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1572 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. Належала ў розныя гады Радзівілам, Жалтоўскім. Паводле перапісу 1897 г. вёска Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ.; 28 двароў, 192 жыхары, хлебазапасны магазін. Уваходзіла ў склад аднайменнага маёнтка, які з'яўляўся ўласнасцю Жалтоўскіх. На пач. 20 ст. ў вёсцы меліся 26 двароў, 193 жыхары (у маёнтку Бродча — 92 жыхары). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 49 дамоў, 254 жыхары (усе беларусы і праваслаўныя). З 1939 г. ў БССР. 63 двары, 383 жыхары. З 12.10.1940 г. ў Плотніцкім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана гітлераўцамі. Паводле перапісу 1959 г. 335 жыхароў (160 мужчын, 175 жанчын). У 1970 г. ў калгасе «Запаветы Ільіча», 399 жыхароў. Працуе магазін.

**БУХЛІЧЫ** — вёска у Рэчыцкім пас. Савеце, на р. Гарынь (прыток Прыпяці), за 11 км на ПдЗ ад Століна, 256 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 181 гаспадарка, 399 жыхароў (2005).

Вядомы з 17 ст. як сяло ў складзе Рэчы Паспалітай. У вайну 1648—54 гг. тут адбылося антыфеад. сял. выступленне. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі, сяло, з 1795 г. ў Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1886 г. 26 двароў, 286 жыхароў, працавала царква, прыпісаная да Стружскага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 57 двароў, 416 жыхароў, праваслаўная царква, хлебазапасны магазін, ветраны млын. У пач. 20 ст. 520 жыхароў. У 1921—39 гг. Бухлічы ў складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Церабяжоўскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 132 дамы, 771 жыхар. З 1939 г. ў БССР, 1304 жыхары, 207 двароў. З 12.10.1940 г. ў Вараняўскім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл., з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў Бухлічах 129 гаспадарак, 643 жыхары. З ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. спалілі 56 двароў, загубілі 12 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 650 жыхароў, у Рэчыцкім с/с. У 1970 г. ў складзе калгаса «Ленінскі шлях», 810 жыхароў. Працуе магазін.

Каля вёскі знаходзіцца археал. помнік — селішча. Выявілі і абследавалі ў 1886 г. В.С.Вяргей і А.А.Ягарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся.

**ВАРАНІ** — вёска ў Рэчыцкім пас. Савеце, за 12 км на Пд ад Століна, 277 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, каля р. Гарынь (3 км). 361 гаспадарка, 869 жыхароў (2005).

Вядомы з 17 ст. як вёска ў складзе Рэчы Паспалітай. У вайну 1648—54 гг. тут адбылося выступленне сялян. З 1793 г. ў складзе Рас. імперыі. З 1795 г. вёска Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 437 жыхароў, праваслаўная царква, хлебазапасны магазін, ветраны млын. У пач. 20 ст. 79 двароў, каля 610 жыхароў, дзейнічала Мікалаеўская царква. Каля вёскі знаходзіўся маёнтак Варані (1 гаспадарка, 20 жыхароў). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. Варані — вёска (99 двароў, 599 жыхароў, пераважная большасць беларусы і праваслаўныя) і фальварак (7 дамоў, 35 жыхароў, у т.л. 32 беларусы, 3 палякі). Адносіліся да Церабяжоўскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв.

З 1939 г. ў БССР, вёска, 256 двароў, 1308 жыхароў. З 12.10.1940 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр сельсавета Столінскага р-на Пінскай вобл. (з 8.1.1954 ў Брэсцкай вобл.). Напярэдадні Вял. Айч. вайны 143 двары, 802 жыхары. З ліп. 1941 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія



27.9.1942 г. расстралялі тут 10 сав. актывістаў. 14.2.1943 г. гітлераўскія карнікі загубілі 35 вяскоўцаў. Усяго за гады акупацыі гітлераўцы спалілі 138 двароў і знішчылі 87 жыхароў вёскі. Варані ўвекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Пасля вайны адноўлены. Паводле перапісу 1959 г. вёска Рэчыцкага с/с, 1228 жыхароў (569 мужчын, 659 жанчын). У 1970 г. цэнтр калгаса «Ленінскі шлях», 420 двароў, 1501 жыхар. На тэр. вёскі размешчаны рамонтна-механічныя майстэрні, млын, ветпункт, магазін, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа, ашчадны банк, дзіцячы сад, помнікі на 2 магілах ахвяр фашызму. У цэнтры вёскі ў 1975 г. ўстаноўлены абеліск на ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі ў барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі ў Вял. Айч. вайну.

Каля вёскі знаходзяцца 3 археал. помнікі — селішчы, у 1886 г. выявіла і абследавала В.С.Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**ВАРСЫНЬ** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Століна, 267 км ад Брэста, за 11 км ад чыг. ст. Відзібор, на лініі Лунінец—Сарны. 31 гаспадарка, 60 жыхароў (2005).

У 1879 г. Варсынь — вёска Плотніцкага праваслаўнага прыхода і Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У пач. 20 ст. хутар. У 1909 г. 21 двор, 188 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 34 дамы, 230 жыхароў (усе беларусы, 226 праваслаўных, 4 католікі). З 1939 г. ў БССР; вёска, 62 двары, 313 жыхароў. З 12.10.1940 г. ў Асавецкім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл., з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. Варсынь акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. вёска ў Асавецкім с/с, 292 жыхары (139 мужчын, 153 жанчыны). У 1970 г. ў калгасе «XIX партз'езд», 219 жыхароў. Працуе магазін.

**ВЕЛЯМІЧЫ** — вёска на беразе воз. Селішча, цэнтр Веляміцкага с/с, за 39 км на ПнУ ад Століна, 284 км ад Брэста, 46 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 711 гаспадарак, 1782 жыхары (2005).

Упамінаецца ў дакументах пад 1519 г. У 1724 г. тут пабудавана Ільінская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі; сяло Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., уласнасць

*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, ў в. Велямічы.*



Радзівілаў. У сярэдзіне 19 ст. Велямічы ўваходзілі ў склад маёнтка Давыд-Гарадок. У 1881 г. на месцы старой царквы пабудавана новая драўляная (захавалася). У 1886 г. сяло, 95 двароў, 530 жыхароў, дзейнічала праваслаўная царква. У пач. 20 ст. 218 двароў, 1,5 тыс. жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 240 дамоў, 1557 жыхароў. З 1939 г. ў БССР; 288 двароў, 2504 жыхары (на 1939). З 12.10.1940 г. вёска, цэнтр сельсавета Давыд-Гарадоцкага, з 19.1.1961 г. Столінскага р-наў Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У 1940 г. 419 двароў, 1676 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. спалілі яе і загубілі 16 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. У 1970 г. цэнтр калгаса «За Радзіму», 566 двароў,




2037 жыхароў. На тэр. вёскі знаходзяцца рамонтныя с.-г. майстэрні, ветпункт, млын, Дом быту, ашчадны банк, клуб, б-ка, аддз. сувязі, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт.

У цэнтры вёскі, каля клуба, знаходзіцца помнік (1975) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі ў Вял. Айч. вайну. Ва ўсх. частцы вёскі размешчаны помнік Палескай школы драўлянага нар. дойлідства з рысамі барока — Ільінская царква (2-я пал. 19 ст.). Каля вёскі размешчаны археал. помнікі — 3 селішчы. На адным з іх праводзіў раскопкі ў 1953—57 гг. Ю.В.Кухарэнка, у 1957—62 гг. — К.В.Каспарава. Выяўлены рэшткі 3 жылых пабудоў і вял. колькасць ям гасп. прызначэння. Знойдзены абломкі глінянага посуду, каменны жорнаў, жал. серп і інш. Селішча належала плямёнам зарубінецкай культуры. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Бел. дзярж. музеі пераўтварэння Палесся (Пінск), Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, а таксама ў Эрмітажы (С.-Пецярбург) і Рас. гіст. музеі (Масква).

**ВЕРХНІ ЦЕРАБЯЖОЎ** — вёска ў Рэчыцкім пас. Савеце, на р. Гарынь (прыток Прыпяці), за 12 км на ПдЗ ад Століна, 235 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 265 гаспадарак, 736 жыхароў (2005).

Церабяжоў упамінаецца ў дакументах 1558 г. Належаў спачатку дзяржаве, потым князям Саламярэцкім. У 18 ст. ўласнасць памешчыкаў Каржанеўскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) адышоў да Рас. імперыі, сяло ці мястэчка, цэнтр Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1795 г. сяло Церабяжоў, уласнасць памешчыкаў Шырмаў, 42 двары, каля 300 жыхароў. У 1837 г. мястэчка, 3 кірмашы (2 летам, 1 восенню, кожны кірмаш працягваўся 1 дзень). Паводле інвентара 1848 г. ўласнасць Солтанаў, у 1856 г. — Алешаў. Да 1865 г. тут адкрыта нар. вучылішча. Да 1872 г. пабудавана новая праваслаўная прыходская царква з дрэва на мураваным фундаменце. Прыход налічваў каля 1,7 тыс. прыхаджан. Пры царкве працавала папячыцельства. У 1886 г. сяло, 39 двароў, 332 жыхары, дзейнічалі праваслаўная царква, валасное праўленне, нар. вучылішча (34 вучні). Паводле перапісу 1897 г. сяло, 81 двор, 505 жыхароў, валасное праўленне, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, ветраны млын, прыходская праваслаўная царква, каля сяла — вінакурны з-д. У 1909 г. 87 двароў, 620 жыхароў.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 72 дамы, 497 жыхароў (у т.л. 493 беларусы). З 1939 г. вёска Верхні Церабяжоў у складзе БССР. З 12.10.1940 г. ў Столінскім р-не. З ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 397-й стралк. дывізіяй 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту. Паводле перапісу 1959 г. вёска ў Рэчыцкім с/с, 612 жыхароў (267 мужчын, 345 жанчын), у 1970 г. цэнтр калгаса «Сцяг Перамогі», 760 жыхароў. Працуюць майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ветпункт, млын, магазін, Дом быту, дзіцячы сад, ашчадны банк, сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка.

На паўд. ускраіне вёскі знаходзіцца брацкая магіла 12 сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні вёскі ад ням.-фаш. акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск. Каля вёскі, на мяжы Беларусі і Украіны, устаноўлены ў 1967 г. Помнік дружбы паміж укр. і бел. народамі. Ён уяўляе сабой стэлу з барэльефнымі выявамі дзярж. гербаў БССР і УССР. Помнік вянчаюць дзярж. флагі СССР, БССР і УССР. Каля вёскі захаваліся 3 археал. помнікі: 2 паселішчы і селішча. Усе іх выявіла і абследавала ў 1986 г. В.С.Вяргей. На месцы былых паселішчаў знойдзена ляпная кераміка бронзавага і жал. вякоў, апрацаваны крэмень. На тэр. селішча знойдзена вял. колькасць абломкаў ляпнога посуду, пераважна зарубінецкай культуры. Матэрыялы абследа-



вання захоўваюцца ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі.

**ВІДЗІБОР** — вёска, цэнтр Відзіборскага с/с; чыг. станцыя на лініі Лунінец—Сарны, за 15 км на ПнЗ ад Століна, 260 км ад Брэста. 224 гаспадаркі, 529 жыхароў (2005).

40 курганоў 11—12 ст., што захаваліся каля вёскі, сведчаць аб засяленні гэтых месц з глыбокай старажытнасці.

Відзібор упамінаецца ў дакументах 1503 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. сяло ці вёска Столінскай вол. і Столінскага праваслаўнага прыхода Пінскага пав. Мінскай губ., належала спачатку Шырмам, потым Харневічам. Апошнімі ўладальнікамі паселішча былі Мальшчыцкія. У 1879 г. ўпамінаецца як вёска. Паводле перапісу 1897 г. вёска Столінскай вол. Пінскага пав., 39 двароў, 275 жыхароў, меліся званіца, хлебазапасны магазін; каля вёскі — чыг. ст. Відзібор, 1 двор, 5 жыхароў. На пач. 20 ст. пад назвай Відзбор пры безыменнай рэчцы існавалі 3 паселішчы: вёска (59 двароў, 320 жыхароў), маёнтак (1 гаспадарка, 4 жыхары), чыг. станцыя Палескіх чыгунак (3 двары, 31 жыхар). Усе яны адносіліся да Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Станцыя штогод адгружала да 50 тыс. пудоў лясных і хлебных грузаў.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. ў Столінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. з назвай Відзбор існавалі побач: вёска (81 дом, 441 жыхар, з іх 435 беларусаў) і фальварак (1 дом, 7 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, вёска. З 12.10.1940 г. ў Асавецкім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. З 31.3.1959 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1959 г. вёска налічвала 337 жыхароў (164 мужчыны, 123 жанчыны). У 1970 г. ў калгасе «XIX партз'езд», 754 жыхары. На тэр. сучаснай вёскі дзейнічаюць чыг. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі, б-ка, сярэдняя школа, 3 магазіны, Дом быту, ашчадны банк.



*Царква ў в. Відзібор.*

**ВІДЗІБОРАЦ** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Століна, 235 км ад Брэста, 9 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 27 гаспадарак, 53 жыхары (2005).

Паселішча ўпамінаецца ў дакументах у 1431 г. У 1879 г. вёска Плотніцкага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. ваколіца Плотніцкай вол. Пінскага пав., 19 двароў, 136 жыхароў. У пач. 20 ст. ваколіца Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 14 двароў, каля 100 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 30 дамоў, 189 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, вёска. З 12.10.1940 г. ў Столінскім р-не Пінскай, з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай абласцей. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 178 жыхароў. У 1970 г. ў калгасе «XIX партз'езд», 147 жыхароў.

**ВОСТРАЎ** — вёска, у Стружскім с/с, за 5 км на Пд ад Століна, 250 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 5 гаспадарак, 11 жыхароў (2005).

Паводле інвентара 1846 г. хутар у складзе маёнтка Бярэжнае, уласнасць памешчыкаў Алешаў. У пач. 20 ст. ўпамінаецца як фальварак Церабяжоўскай вол.




Пінскага пав. Мінскай губ., 1 гаспадарка, 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. фальварак Церабяжоўскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 4 дамы, 6 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, вёска. З 12.10.1940 г. ў Стружскім с/с Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. З 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. хутар у складзе калгаса імя Чапаева, 99 жыхароў (50 мужчын, 49 жанчын).

**ВУГАЛЕЦ** — вёска ў Харомскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Століна, 285 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 131 гаспадарка, 308 жыхароў (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца пад 1509 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі; у 1795 г. сяло Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 16 двароў, каля 170 жыхароў, уласнасць памешчыкаў Юневічаў. У сярэдзіне 19 ст. вёска ў складзе маёнтка Гарадзец, належала Кіневічам. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 51 двор, 371 жыхароў, хлебазапасны магазін, карчма. У пач. 20 ст. 67 двароў, 460 жыхароў. Побач з вёскай размяшчаўся маёнтак Вугалец, 2 гаспадаркі.

У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, у Хорскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв.; вёска, 76 дамоў, 512 жыхароў (з іх 506 праваслаўных беларусаў; 1921), і аднайменны фальварак, 2 дамы, 10 жыхароў. З 1939 г. вёска ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Харомскім с/с Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай вобл.; 65 двароў, 663 жыхары. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1970 г. ў калгасе імя Кірава, 593 жыхары. Працуе магазін.

**ВУЛЬКА-АРАЯ** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Століна, 265 км ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 102 гаспадаркі, 230 жыхароў (2005).

Вядома з пач. 20 ст. як фальварак Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 1 гаспадарка, 10 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. калонія Плотніцкай гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., 18 дамоў, 127 жыхароў (з іх 107 беларусаў, 20 палякаў). З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. вёска Асавецкага с/с Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. вёска Відзіборскага с/с, 503 жыхары. У 1970 г. ў калгасе «Світанне», 396 жыхароў.

**ВУСЦІМЛЕ** — вёска ў Стружскім с/с, за 10 км на Пд ад Століна, 245 км ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1970 г. Вусцімле — хутар у калгасе імя Чапаева Стружскага с/с, 107 жыхароў (52 мужчыны, 55 жанчын).

**ВЫСОКАЕ** — вёска ў Альшанскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Століна, 285 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 97 гаспадарак, 340 жыхароў (2005).

У дакументах пач. 19 ст. ўпамінаецца як сяло Мазырскага пав. Мінскай губ., уласнасць Навалоўскіх. У 1816 г. ў сяле каля 30 двароў. У сярэдзіне 19 ст. тут было 2 маёнткі з назвай Высокае. Адзін маёнтак належаў Жавіцкім, другі — Радзівілам. У маёнтку Жавіцкіх працавалі смалакурны з-д і карчма. На пач. 20 ст. маёнтак Хорскай вол. Мазырскага пав., 4 дамы, 107 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, фальварак Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 9 дамоў, 55 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. ў Давыд-Гарадоцкім с/с Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. З 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не Брэсцкай вобл., у складзе калгаса «40 гадоў Кастрычніка».

**ВЯЛІКАЕ МАЛЕШАВА** — вёска, цэнтр Вялікамалешаўскага с/с, за 57 км



на ПнУ ад Століна, 305 км ад Брэста, 64 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 569 гаспадарак, 1791 жыхар (2005).

У 1691 г. сяло Малежава, 11 дымоў, у складзе маёнтка Лахва, уладанне Радзівілаў. У канцы 18 — пач. 19 ст. сяло. У 1795 г. тут налічвалася каля 6 двароў, 50 жыхароў. У 1816 г. — 36 двароў. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. вёска Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У розныя часы ўладанні памешчыкаў Калантаяў, Наркускіх, Рамультаў, Герловічаў, Каморніцкіх. У 1885 г. 28 двароў, дзейнічала царква. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 387 жыхароў, цэнтр воласці Мазырскага пав. На пач. 20 ст. ў вёсцы 71 двор, 560 жыхароў. Каля вёскі размяшчаўся аднайменны маёнтак, 1 гаспадарка, 13 жыхароў.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска ў Хорскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 113 дамоў, 690 жыхароў (з іх каля 540 беларусаў). З 1939 г. ў складзе БССР. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не. З ліп. 1941 г. да сярэдзіны ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. цэнтр калгаса «Чырвоны сцяг», 373 гаспадаркі, 1750 жыхароў. На тэр. вёскі ёсць млын, с.-г. майстэрні, ашчадны банк, аддз. сувязі, клуб, б-ка, 2 магазіны, дзіцячы сад. У цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск (1974) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ВЯЛІКІ ЛЕС** — вёска ў Радчыцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Століна, 225 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 65 гаспадарак, 126 жыхароў (2005).

Напярэдадні Вял. Айч. вайны вёска Радчыцкага с/с Столінскага р-на Пінскай вобл., 46 двароў, 189 жыхароў. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў студз. 1944 г. спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адноўлена. З 8.1.1954 г. ў складзе Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. вёска ў Радчыцкім с/с, у складзе калгаса «XXII партз'езд», 269 жыхароў. У 1970 г. — 416 жыхароў, у калгасе «Мір». Працуе магазін.

**ВЯЛІКІЯ АРЛЫ** — вёска ў Лядзецкім с/с, на р. Вятліца, каля аўтадарогі Столін—Давыд-Гарадок, за 22 км на ПнУ ад Століна, 27 км ад Брэста, 25 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 344 гаспадаркі, 881 жыхар (2005).

Вядомы з 16 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 — пач. 20 ст. вёска Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў. У 1880-я г. 33 двары, каля 150 жыхароў. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, больш за 1 тыс. дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. 83 двары, 635 жыхароў, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. вёска (99 двароў, каля 730 жыхароў) і маёнтак (1 гаспадарка, 25 жыхароў).

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 161 дом, 1003 жыхары (у т.л. 935 беларусаў, 66 яўрэяў, 2 палякі), і фальварак, 2 дамы, 25 жыхароў (15 палякаў, 10 беларусаў). З 1939 г. ў БССР, вёска, 1258 жыхароў, 200 двароў. З 12.10.1940 г. ў Лядзецкім с/с Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгады «Савецкая Беларусь». Паводле перапісу 1970 г. 1265 жыхароў, цэнтр калгаса імя Суворава. На тэр. вёскі знаходзяцца рамонтна-механічныя майстэрні, ветпункт, млын, Дом культуры, б-ка, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, ашчадны банк, дзіцячы сад, 2 магазіны. Каля будынка клуба ў 1970 г. ўстаноўлены помнік (скульптура воіна) на ўшанаванне памяці 97 землякоў, якія загінулі ў Вял.

*Ганчар І.Генбіцкі з в. Гарадная.*

Айч. вайну. Вёска Вял. Арлы — радзіма бел. мастака У.В.Уродніча.

**ВЯЛІКІЯ ВІКАРАВІЧЫ** — вёска ў Стружскім с/с, за 5 км на ПдУ ад Століна, 250 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 217 гаспадарак, 823 жыхары (2005).

Вядомы з 16 ст. як сяленне Вікарэвічы ў Трокскім ваяв., з 1565 г. ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 17 ст. вёска ў складзе Рэчы Паспалітай. У пач. вайны 1648—54 гг. тут адбылося антыфеад. сял. выступленне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, вёска, з 1795 г. Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., належала Радзівілам. У 1879 г. вёска Стружскага праваслаўнага прыхода. У 1893 г. 16 двароў, 60 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска Вікаравічы ў Столінскай вол. Пінскага пав., 44 двары, 269 жыхароў. У пач. 20 ст. 44 двары, каля 370 жыхароў. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, хатнімі промысламі (ткацтва, прадзенне, лоўля рыбы і інш.).

З 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 65 дамоў, 437 жыхароў (422 беларусы, 5 яўрэяў, 10 палякаў, 422 праваслаўныя; 1921). З 1939 г. ў складзе БССР; 701 жыхар, 124 дамы. З 12.10.1940 г. вёска Стружскага с/с Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. Напярэдадні Вял. Айч. вайны 142 гаспадаркі, 862 жыхары. Ням.-фаш. захопнікі ў ліп. 1944 г. спалілі 113 двароў, загубілі 9 жыхароў. Вёска адноўлена пасля вайны. Паводле перапісу 1959 г. 815 жыхароў (378 мужчын, 437 жанчын). У 1970 г. ў калгасе імя Чапаева, 1083 жыхароў. Працуе магазін.

Побач з вёскай знаходзяцца 2 археал. помнікі — селішчы, якія выявіла і абследавала ў 1986 г. В.С.Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**ГАРАДЗЕЦ** — вёска ў Лядзецкім с/с, за 50 км на ПнУ ад Століна, 290 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 123 гаспадаркі, 261 жыхар (2005).



У канцы 18 ст. сяло, 10 двароў, належала Паньхоўскім, Хількевічам, Часлаўскім (па частках). У сярэдзіне 19 ст. вёска, уваходзіла ў склад аднайменнага маёнтка памешчыкаў Кіневічаў. У пач. 20 ст. вёска Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 44 двары, 360 жыхароў, царква, капліца. Побач знаходзіўся фальварак Гарадзец, 1 гаспадарка, 12 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 69 дамоў, 417 жыхароў (з іх 409 беларусаў). З 1939 г. ў БССР, 456 жыхароў, 75 дамоў. З 12.10.1940 г. ў Лядзецкім с/с Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 541 жыхар, у калгасе імя Леніна, затым у складзе калгаса «Лядзецкі».

**ГАРАДНАЯ** — вёска, цэнтр Гараднянскага с/с, за 28 км на З ад Століна, 229 км ад Брэста, 21 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 464 гаспадаркі, 1190 жыхароў (2005).

У 12 ст. цэнтр удзельнага княства, у сутоку рэк Гарынь і Стыр. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах 1448 г. З 17 ст. вядома як мястэчка, якое пацярпела ў вайну 1648—54 гг. У 1670—1772 гг. мястэчка мела магдэбургскае права і свой герб. У 18 ст. пабудавана новая царква з дрэва (захавалася). Пасля 2-га падзелу



Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1795 г. ў Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1803 г. сяляне Гарадной дамагаліся вызвалення ад прыгоннай залежнасці, былі пераведзены ў разрад дзярж. сялян. У 1879 г. цэнтр праваслаўнага прыхода, драўляная Троіцкая царква, пры ёй школа. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 419 двароў, 2271 жыхар, малітоўны дом, 6 крам, 2 піцейныя дамы, праваслаўная прыходская царква, царк.-прыходская школа, 40 горнаў для вырабу глінянага посуду. У пач. 20 ст. ў мястэчку 1330 двароў, каля 6280 жыхароў (большая частка з іх мяшчане). Побач з ім знаходзіўся аднайменны маёнтак, 1 гаспадарка, 6 жыхароў. Гарадная з'яўлялася цэнтрам ганчарнага промыслу.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у 1921 г. мястэчка Лунінецкага пав., 459 дамоў, каля 2,6 тыс. жыхароў. З 1939 г. ў БССР, 425 дамоў, 3874 жыхары. З 12.10. 1940 г. цэнтр сельсавета Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы 405 двароў, каля 1,8 тыс. жыхароў. З ліп. 1941 г. да 12.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. гітлераўцы загубілі 400 мірных жыхароў Гарадной. Вызвалена 212-й стралк. дывізіяй 9-га гв. стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 1540 жыхароў (702 мужчыны, 838 жанчын). У 1970 г. ў калгасе «Зара», 470 гаспадарак, больш за 1,8 тыс. жыхароў. На тэр. сучаснай вёскі ёсць рамонтныя майстэрні, млын, ветпункт, Дом быту, Дом культуры, б-ка, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, ашчадны банк, дзіцячы сад, 2 магазіны, сярэдняя школа. Помнік і абеліск на брацкай магіле 76 сав. воінаў (1959), якія загінулі 12.7.1944 г. пры вызваленні вёскі; абеліск на магіле ахвяр фашызму (1986); абеліск на магіле партызана А.М.Клімчука (загінуў у баі ў 1943). Помнік традыц. нар. драўлянага дойлідства 18 ст. — царква.

Каля вёскі знаходзяцца 2 археал. помнікі — гарадзішча і паселішча. Выявіў у 1955 г. Ю.В.Кухарэнка. Паселішча абследаваў у 1962 г. П.Ф.Лысенка. Гарадзішча было ўмацавана 2 валамі, равамі. На месцы былога паселішча знойдзены фрагменты ляпной керамікі бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўва-



*Цэнтр ганчарства ў в. Гарадная.*





*Ганчарныя вырабы майстроў з в. Гарадная.*


*Ганчарны посуд з в. Гарадная. 1987.*

юцца ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі. Каля вёскі размешчаны радовішчы цагельнай сыравіны і фармовачнага пяску.

**ГАРЫНЬ** — чыг. станцыя на лініі Лунінец—Сарны, у Рэчыцкім пас. Савеце, за 5 км на З ад Століна, 245 км ад Брэста. Назва ад р. Гарынь.


*Троіцкая царква ў в. Гарадная.*

Станцыя Гарынь засн. ў канцы 19 ст., адносілася да Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У пач. 20 ст. 5 двароў, 27 жыхароў. Станцыя Гарынь у гэты час адгружала каля 530 тыс. т грузаў. Пры ёй працаваў лесапільны з-д. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. чыг. станцыя Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 15 дамоў, каля 100 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 15.1.1940 г. ў Столінскім р-не Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны ў складзе калгаса «Сцяг Перамогі». Працуе магазін.

**ГЛІНКА** — вёска, цэнтр Глінкаўскага с/с, за 12 км на ПнЗ ад Століна, 230 км ад Брэста, 8 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Столін—Гарадная. 469 гаспадарак, 1267 жыхароў (2005).

Вядома з канца 18 ст. як вёска, уласнасць памешчыкаў Шырмаў. У 1795 г. 37 двароў, 253 жыхары. У сярэдзіне 19 ст. належала Солтанам і ўваходзіла ў склад іх маёнтка Столін. У царк. дакументах упамінаецца ў 1879 г. як в. Церабяжоўскіх воласці і праваслаўнага прыхода Пінскага пав. Мінскай губ. У 1881 г. 30 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 54 двары, 386 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін і ветраны млын. У 1909 г. 87 двароў, 519 жыхароў. Сумежна з вёскай знаходзіўся маёнтак Глінка, 1 двор, 6 жыхароў. У 1921 г. пад назвай Глінка былі вёска і фальварак, у якіх разам налічвалася 120 двароў, 709 жыхароў. Адносіліся да Церабяжоўскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв.

З 1939 г. ў складзе БССР, 202 двары, 1016 жыхароў, дзейнічалі пач. школа, бандарная арцель. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У 1970 г. 384 гаспадаркі, 1630 жыхароў. Сярэдняя школа, магазін, цэнтр. Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 1980 г. 1593 жыхары. На 1.1.2002 г. 489 гаспадарак, 1349 жыхароў, цэнтр калгаса «1 Мая». Абеліск (1965) землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.





*Помнік князю Давыду ў Давыд-Гарадку.*



*Георгіеўская царква ў Давыд-Гарадку.*

**ДАВЫД-ГАРАДОК** — горад, за 35 км на ПнУ ад Століна, 280 км ад Брэста, 41 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. Прыстань на р. Гарынь. Аўтадарогамі звязаны з гарадамі Брэст, Драгічын, Кобрын, Пінск, Столін.

Паводле археал. звестак, Давыд-Гарадок узнік у пач. 12 ст. як горад Кіеўскай Русі. Даследчыкі мяркуюць, што яго заснаваў унук кіеўскага кн. Яраслава Мудрага, валынскі кн. Давыд Ігаравіч, які ў 1100 г. атрымаў ва ўладанне Пагарынне (тэрыторыі пры р. Гарынь) узамен адабранага ў яго княства. Мабыць, назва гэтага паселішча і паходзіць ад імя князя.

Давыд-Гарадок засн. пры зліцці рэк Гарынь і Няпраўда (упадала ў Гарынь, перасохла) на мысе, якому штучна была прыдадзена форма амаль правільнага круга (дыяметр 100—110 м). Горад быў шчыльна забудаваны драўлянымі дамамі, рубленымі вуглом з астаткам, вуліцы з драўлянымі маставымі праходзілі з ПнЗ на ПдУ і з ПнУ на ПдЗ. Сярод жылой забудовы знаходзілася драўляная царква. Горад быў умацаваны ровам, валам і драўлянымі абарончымі сценамі. Аб развіцці рамёстваў сведчаць знойдзеныя пры раскопках упрыгажэннні прадметы працы, хатняе начынне, упрыгажэнні. Давыд-Гарадок меў сталыя гандлёвыя і культ. сувязі з Кіевам, Валынню, Паўночным Прычарнамор'ем, Прыбалтыкай.

Першае ўпамінанне аб Давыд-Гарадку ў гіст. дакументах адносіцца да канца 14 ст. Спачатку быў уладаннем вял. князя ВКЛ, з 1523 г. — каралевы Боны, з 1551 г. — Радзівілаў. Меў магдэбургскае права. З 1579 г. цэнтр ардынацыі, потым у нясвіжскай ардынацыі, з канца 19 ст. зноў цэнтр ардынацыі. Жыхары горада ўдзельнічалі ў вайне 1648—54 гг., пад сваім кантролем утрымлівалі Гарадоцкую вол. і суседнюю частку Пінскага пав. У перыяд рус.-польскай вайны 1654—67 гг.



*Юр'еўская царква (каля 1890) у г. Давыд-Гарадок.*

Давыд-Гарадок у 1655 г. быў разбураны і спалены. У 2-й пал. 17—18 ст. прыйшоў у эканам. ўпадак. Паводле інвентара 1631 г. ў Давыд-Гарадку 365 двароў, меліся гандл. плошча і 12 вуліц. Шчыльнасць забудовы высокая, на кожны двор у сярэднім прыходзіўся ўчастак у 0,7 плаца. Горад размяшчаўся на правым беразе Гарыні. На месце гарадзішча ў зліцці Гарыні і Няпраўды стаяў Верхні замак, умацаваны драўлянымі сценамі і 3 баявымі вежамі. Гандл. плошча спачатку знаходзілася на беразе р. Гарынь. Верагодна, магістральны характар мела Берасцейская вуліца. Замак з перыферыйнай часткай горада звязвала Замкавая вуліца, да ракі (ці ўздоўж яе) ішла вуліца Парэчная; вуліца Баніцкая была пракладзена ў забалочанай мясцовасці. Некаторыя вуліцы (напрыклад, Фасовіча Кут і Пагнацкі Кут) з'яўляліся тупіковымі. Вуліцы Давыд-Гарадка былі невялікімі, па 30—40 двароў на кожнай. Мелася сажалка, якая злучалася з Гарынню. На Гарыні працавалі 3 вадзяныя млыны. Каля горада знаходзіўся замкавы фальварак.

Паводле інвентара 1653 г. ў горадзе 348 двароў, згодна з інвентаром 1675 г. — 235 двароў. Замак у гэты час складаўся з Верхняга замка (даўжыня сцен 443,2 м) і передзамкавага ўмацавання. Перад замкам стаяў драўляны касцёл Божага Цела (пабудаваны ў 1649, у 1811 згарэў). На гандл. плошчы месціліся праваслаўная Васкрасенская царква, 2 школы. За горадам, па дарозе да фальварка Высокае знаходзілася Георгіеўская царква (захавалася ў перабудаваным выглядзе). Дзейнічала таксама сінагога і багадзельня. На левым беразе р. Няпраўда размяшчаўся сядзібны комплекс: вял. сядзібны дом, гасп. пабудовы, пры ўездзе — двухярусная брама.

У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Давыд-Гарадок увайшоў у склад Рас. імперыі. З 1795 г. цэнтр павета Мінскай губ. У 1836 г. жыхары Давыд-Гарадка былі пераведзены ў саслоўе мяшчан. У сувязі з гэтым ажывілася эканам. жыццё мястэчка. Пачала дзейнічаць суднаверф, пашырыліся гандл. сувязі з Вільняй, Варшавай, гарадамі Валыні і Бесарабіі. Згодна з інвентаром 1846 г. побач з мяст. Давыд-Гарадок знаходзіліся аднайменныя маёнтак і фальварак, якія належалі кн. Льву Радзівілу. У 1860 г. ў мястэчку працаваў піваварны з-д. У 1886 г. мястэчка Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., працавалі 35 крам, каталіцкі касцёл, 3 сінагогі, праваслаўная царква, нар. вучылішча (98 вучняў), паштовая станцыя. Згодна з перапісам 1897 г. 7815 жыхароў. У 19 ст. рэканструявана планіроўка мястэчка. Давыд-Гарадок развіваўся на Пн і У стараж. замчышча і займаў правабярэжжа Гарыні. Яго цэнтрам з'яўлялася гандл. плошча. У выніку рэканструкцыі планіроўкі былі выпрамлены вуліцы, якія стварылі прамавугольныя кварталы. Галоўнымі былі 2 вуліцы: адна вяла на У ад гандл. плошчы, а другая на Пн і злучалася з дарогамі на Тураў і Слуцк. Мост цераз Гарынь (у зах. частцы) злучаў мястэчка з дарогамі на Пінск і Лахву. У пач. 20 ст. ў Давыд-Гарадку налічваліся 1386 двароў, 1327 жыхароў, існавала рачная прыстань. Насельніцтва займалася дробным гандлем, сельскай гаспадаркай, сплавам лесу, шавецкім, дрэваапрацоўчым промысламі, многія жыхары вэндзілі рыбу ў т. зв. курніцах. Вяндліну і каўбасу вазілі прадаваць у Варшаву і Вільню. Ад мясц.

*На стадыёне ў Давыд-Гарадку.*





прыстані штогод адпраўлялася каля 100 тыс. пудоў, а прыбывала 55 тыс. пудоў грузаў. Некаторыя жыхары працавалі на мясц. верфі па вытв-сці непаравых суднаў, служылі лоцманамі на караблях.

Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. У лютым—снеж. 1918 г. Давыд-Гарадок акупіраваны германскімі, у 1919—20 гг. польскімі войскамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ўключаны ў склад Польшчы. У 1921 г. мястэчка Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 1678 дамоў, каля 9,9 тыс. жыхароў. Дзейнічаў падп. райком КПЗБ. З 1939 г. ў складзе БССР, 2428 дамоў, 11,7 тыс. жыхароў, 2 конезаводы, лесапільны з-д, цагельня. З 15.1.1940 г. горад, цэнтр раёна Пінскай вобл., працавалі суднаверф, 2 млыны, электрастанцыя, леса- і маслазаводы, 3 кожзаводы, 3 сямігадовыя школы, 3 б-кі, Дом культуры, кінатэатр, бальніца, ветлячэбніца, прыстань на р. Гарынь. У Вял. Айч. вайну 7.7.1941 г. Давыд-Гарадок акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў горадзе больш за 400 чал., у т.л. ў канцэнтрацыйным лагеры для грамадз. насельніцтва. На тэр. горада і раёна дзейнічалі падп. Давыд-Гарадоцкія райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, якія базіраваліся пры партыз. брыгадзе «Савецкая Беларусь». Партызаны некалькі разоў у 1943 г. грамілі размешчаны ў Давыд-Гарадку буйны гітлераўскі гарнізон. Вызвалены 9.7.1944 г. воінамі 397-й стралк. дывізіі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе наступлення на Лунінецка-Пінскім напрамку ў перыяд Бел. аперацыі 1944 г. З 8.1.1954 г. ў складзе Брэсцкай вобл. З 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не.

Сучасны горад размешчаны на абодвух берагах р. Гарынь, якая перасякае яго тэр. з Пд на Пн і дзеліць на 3 планіровачныя раёны: цэнтральны (правабярэжжа), заходні (левабярэжжа) і ўсходні, якія звязаны паміж сабой мастамі. Асаблівасці планіроўкі таксама вызначаюць прытокі Гарыні Хорст і Сежка. Сучасны горад развіваецца паводле ген. плана, распрацаванага ў 1974 г. Мінскім філіялам Цэнтр. н.-д. і праектнага ін-та горадабудаўніцтва. Гал. вось горада — вуліца Савецкая (аўтамабільная шаша Пінск—Тураў) у правабярэжнай частцы праходзіць перпендыкулярна рацэ. На ёй сфарміраваўся адм. цэнтр. Тут знаходзяцца адм. будынкі, узведзены двухпавярховыя дамы. Тут жа знаходзіцца і гіст. цэнтр — гарадзішча 12 ст., вакол якога захавалася радыяльная кальцавая планіроўка. Пераважае аднапавярховая забудова сядзібнага тыпу. Асн. прадпрыемствы размешчаны ў зах. (левабярэжным) раёне: філіял Кобрынскага інструментальнага з-да, хлебазавод і электрамеханічны з-д. Працуюць Дом быту, 2 сярэднія, муз., дзіцяча-юнацкая спарт. школы, Дом дзіцячай творчасці, яслі-сад, Дом культуры, кінатэатр, бальніца, аптэка, гасцініца, паліклініка, 2 б-кі, шэраг магазінаў і гандл. кропак.

Устаноўлены помнікі: на брацкай магіле сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў баях з ням.-фаш. акупантамі; у гонар 40-годдзя сав. улады; на магіле камандзіра Чырвонай Арміі Я.У.Юрчанкі, што загінуў у 1944 г. пры вызваленні Зах. Беларусі. Захаваліся: помнік архітэктуры 2-й пал. 17 ст. — Георгіеўская царква; помнікі археалогіі: гарадзішча 12—14 ст., 3 селішчы, бескурганны могільнік. Зона адпачынку, размешчаная па абодва бакі р. Гарынь.

Давыд-Гарадок — радзіма бел. пісьменнікаў Л.В.Драньно-Майсюка і Г.В.Марчука, доктара фізіка-матэматычных навук А.М.Самсона.

**ДЗЕРАЎНАЯ** — вёска ў Гараднянскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Століна, 250 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, аўтадарогай звязана з в. Гарадная. 91 гаспадарка, 198 жыхароў (2005).

Вядома з канца 18 ст. У 1795 г. прыватная вёска, уласнасць памешчыкаў Шырмаў, 47 двароў, 250 жыхароў. Упамінаецца ў 1879 г. ў царк. дакументах як вёска Гараднянскага праваслаўнага прыхода. У пач. 20 ст. ў Церабяжоўскай вол.





Пінскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. 72 двары, 412 жыхароў, працавалі земскае нар. вучылішча і праваслаўная царква. Паблізу вёскі знаходзіўся аднайменны маёнтак памешчыка Шаўчэнкі, 2 двары, 5 жыхароў. У 1912 г. тут адбылося сял. хваляванне. У 1921 г. вёска ў Церабяжоўскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 76 двароў, 469 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, 142 двары, 632 жыхары. Паводле перапісаў 1959 г. 508 жыхароў, 1970 г. — 492 жыхары. Магазін, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1980 г. 407 жыхароў. На 1.1.2002 г. 97 гаспадарак, 213 жыхароў, у складзе СВК «Гарадная».

**ДУБАЙ** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 20 км на Пн ад Століна, 260 км ад Брэста, 10 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, аўтадарогай звязана з Столінам. 427 гаспадарак, 892 жыхары (2005).

Упамінаецца ў дакументах у 1503 г. Належала роду Карповічаў. У 1675 г. прададзена памешчыку Кіневічу. У 1795 г. сяло, 55 двароў, 360 жыхароў, належала памешчыкам Комарам і Шырмам. Паводле царк. дакументаў 1879 г. Дубай — вёска, якая адносілася да Дубенецкага прыхода Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1886 г. ўпамінаецца як сядзіба Дубай-Зарэчны, дзе дзейнічалі вінакурны і цагельны з-ды, млын. Паводле перапісу 1897 г. вёска, мела 2 назвы — Дубай і Дубай-Зарэчны, 89 двароў, 585 жыхароў, працавалі праваслаўная царква і хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. на месцы сучаснай вёскі знаходзіліся 2 самастойныя паселішчы: вял. ваколіца Дубай-Зарэчны, 1 двор, 20 жыхароў. Адносіліся да Плотніцкай вол. Пінскага пав. Бытавалі промыслы: калёсны, бандарны, плотніцкі, адыходніцкі (высечка, тралёўка, сплаў лесу). У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. На 30.9.1921 г. вёска, 191 двор, 1045 жыхароў, і аднайменны фальварак, 5 двароў, 61 жыхар, уваходзілі ў склад Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв.

У 1939 г. 381 двор, 2079 жыхароў. З 12.10.1940 г. да 31.3.1959 г. цэнтр сельсавета. У Вял. Айч. вайну тут дзейнічала падп. антыфаш. арг-цыя. Паводле перапісу 1959 г. 1213 жыхароў. У 1971 г. 533 двары, 1832 жыхары. Лясніцтва, аддз. сувязі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, магазіны. У 1980 г. 1472 жыхары. На 1.1.2002 г. 417 гаспадарак, 951 жыхар, цэнтр калгаса «Рассвет». Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, царква — помнік драўлянай архітэктуры пач. 20 ст.

**ДУБЕНЕЦ** — вёска ў Бяражноўскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Століна, 265 км ад Брэста, 20 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Давыд-Гарадок—Столін. 144 гаспадаркі, 362 жыхары (2005).

Вядома з пач. 18 ст. як сяло ў складзе Рэчы Паспалітай, уласнасць памешчыка Колб-Сялецкага. У 1718 г. на сродкі гэтага памешчыка была пабудавана Багародзіцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, сяло, цэнтр праваслаўнага прыхода. З 1795 г. ў Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Уласнасць памешчыкаў Шчытоў, потым Кіневічаў. У 1795 г. 25 двароў, 195 жыхароў. Узначальваў царк. прыход з 1867 г. святар Міхаіл Латоцкі, царкве належала каля 50 дзес. ворыўнай і сенакоснай зямлі. У 1886 г. 38 двароў, 240 жыхароў, працавалі царква і земскае нар. вучылішча. У пач. 20 ст. 50 двароў, 439 жыхароў. Побач з сялом знаходзіўся маёнтак Дубенец, 1 двор, 19 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 348 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, вінакурны з-д.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. На 30.9.1921 г. ў Плотніцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 83 двары, 502 жыхары. Паблізу вёскі знаходзіўся аднайменны фальварак, 5 двароў, 49 жыхароў. У 1939 г. ў вёсцы 123 двары, 795 жыхароў, працавала школа. З 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1970 г. 646 жыхароў. У 1980 г. 512 жыхароў. Базавая школа, клуб, б-ка, аддз.



сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. На 1.1.2002 г. 155 гаспадарак, 378 жыхароў, у складзе аграфірмы імя Леніна.

Царква — помнік архітэктуры 18 ст.

**ЗУБКОВА** — вёска ў Глінкаўскім с/с, за 14 км на З ад Століна, 234 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Глінка—Гарадная. 12 гаспадарак, 31 жыхар (2005).

На паўн. ускраіне торфабалотнага масіву «Марочна» ў 1940 г. ўзнік торфазавод (з 1952 торфапрадпрыемства «Глінка»). У 1969 г. населены пункт побач з торфапрадпрыемствам назвалі Зубкова. У 1980 г. 90 жыхароў. На 1.1.2002 г. 12 гаспадарак, 31 жыхар.

**КАЛОДНАЕ** — вёска ў Радчыцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Століна, 220 км ад Брэста, 22 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Столін—Фядоры. 266 гаспадарак, 564 жыхары (2005).

Вядома ў 19 ст. як вёска, уласнасць Скірмунтаў і Гарцінгаў. Пад час паўстання 1863—64 гг. у наваколлі Калоднага вялі баі з царскімі войскамі паўстанцкія атрады Р.Траўгута і Я.Ваньковіча. Паводле перапісу 1897 г. 47 двароў, 333 жыхары, працаваў паравы млын. У пач. 20 ст. вёска ў Вітчаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 112 двароў, 780 жыхароў, працавала земскае нар. вучылішча. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. На 30.9.1921 г. ў Радчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 120 двароў, 907 жыхароў. У 1939 г. 218 двароў, 1290 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 1114 жыхароў. У 1980 г. 918 жыхароў. Кантора лясніцтва, магазін, базавая школа-сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. На 1.1.2002 г. 278 гаспадарак, 583 жыхары, у складзе калгаса «Мір». Помнікі: землякам (1974), якія загінулі ў барацьбе з гітлераўцамі ў Вял. Айч. вайну, і ўдзельнікам паўстання 1863—64 гг.

**КАЛОНІЯ** — вёска ў Гараднянскім с/с, за 22 км на З ад Століна, 225 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гарадная—Столін. 25 гаспадарак, 61 жыхар (2005).

Паводле сведчанняў старажылаў, вёска з'явілася ў выніку перасялення ў гэту мясцовасць каланістаў з цяперашняй Івана-Франкоўскай вобл. Украіны. Перад Вял. Айч. вайной 173 двары, 692 жыхары. У 1944 г. гітлераўскія карнікі знішчылі вёску і загубілі 240 жыхароў. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Паводле перапісу 1959 г. 146 жыхароў. У 1980 г. 552 жыхары. На 1.1.2002 г. 31 гаспадарка, 69 жыхароў, у складзе СВК «Гарадная».

**КАМАРНІКІ** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Століна, 260 км ад Брэста, 6 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Стахава—Столін. 14 гаспадарак, 35 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. паселішча вядома як ваколіца Плотніцкай вол. Пінскага пав., 7 двароў, 38 жыхароў. У пач. 20 ст. хутар, у якім 8 двароў, 60 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 30.9.1921 г. ў Плотніцкай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 9 двароў, 60 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 107 жыхароў, у 1980 г. 59 жыхароў. На 1.1.2002 г. 16 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе калгаса «XIX партз'езд».

**КАПАНІ** — вёска ў Рэчыцкім пас. Савеце, за 22 км на Пд ад Століна, 267 км ад Брэста, 6 км ад чыг. прыпынку Бухлічы на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бухлічы—Столін. 62 гаспадаркі, 119 жыхароў (2005).

З 2.3.1940 г. па 16.7.1954 г. ў Варанёўскім с/с. Перад Вял. Айч. вайной 35 двароў, 143 жыхары. У вайну вёска была амаль поўнасцю (31 двор) спалена ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны адрадзілася. Клуб і б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1980 г. 273 жыхары. На 1.1.12002 г. 62 гаспадаркі, 130 жыхароў, у складзе СВК «Гарадная».

**КАРОЦІЧЫ** — вёска ў Вялікамалешаўскім с/с, на р. Сцвіга, за 65 км на ПнУ

ад Століна, 310 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Мікашэвічы на лініі Лунінец—Гомель. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Аздамічы—Вялікае Малешава. 370 гаспадарак, 1008 жыхароў (2005).

Упамінаецца ў пісьмовых крыніцах з пач. 20 ст. як прыватнае сяло, уласнасць памешчыкаў Мастоўскіх. У 1816 г. 20 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 58 двароў, 404 жыхары, працавалі капліца, вадзяны млын, кузня. У пач. 20 ст. ўпамінаецца як вёска Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 69 двароў, 470 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Хорскай гміне Лунінецкага, затым Столінскага паветаў Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 88 двароў, 562 жыхары. У 1939 г. 110 двароў, 734 жыхары. У гады Вял. Айч. вайны спалена гітлераўцамі. Паводле перапісу 1970 г. 1217 жыхароў. Кантора лясніцтва, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, 2 магазіны. На 1.1.2002 г. 376 гаспадарак, 992 жыхары, цэнтр калгаса «Новае жыццё».

**КАШАРА** (да 1980-х г. Альманская Кашара) — вёска ў Стружскім с/с, на левым беразе р. Льва, за 16 км на ПдУ ад Століна, 260 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Струга—Альманы. 24 гаспадаркі, 61 жыхар (2005).

У пач. 20 ст. вядома як пасёлак Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. 8 двароў, 109 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. На 30.9.1921 г. 23 двары, 145 жыхароў. З 1.1.1923 г. ў Церабяжоўскай, а пасля яе скасавання 23.3.1928 г. ў Столінскай гмінах Столінскага пав. Палескага ваяв. У 1980 г. 173 жыхары. Кантора і вытв. база лясніцтва, магазін. На 1.1.2002 г. 29 гаспадарак, 70 жыхароў.

**КОРАБ'Е** — вёска ў Плотніцкім с/с, на р. Прыпяць, за 40 км на Пн ад Століна, 253 км ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Прыпяць на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Прыпяць—Столін. 22 гаспадаркі, 42 жыхары (2005).

У 1921 г. Кораб'е ўяўляла сабой калонію Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 6 двароў, 42 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, вёска. Перад Вял. Айч. вайной 18 двароў, 53 жыхары. Спалена ў 1943 г. фашыстамі. Паводле перапісаў: 1959 г. — 126 жыхароў, 1970 г. — 131 жыхар. У 1980 г. 70 жыхароў. На 1.1.2002 г. 24 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра».

**КОСТРАВА** — вёска ў Рухчанскім с/с, за 28 км на ПнЗ ад Століна, 225 км ад Брэста, 25 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Відзібор—Столін. 50 гаспадарак, 123 жыхары (2005).

Вядома ў канцы 18 ст. як сяло, уласнасць памешчыкаў Радзевічаў, потым Гарцінгаў і Скірмунтаў. У 1795 г. 5 двароў, 40 жыхароў. У 1879 г. ўпамінаецца як вёска Радчыцкага праваслаўнага прыхода. У 1883 г. 42 жыхары. У пач. 20 ст. ў Вітчаўскай вол. Пінскага пав., 48 двароў, 300 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. ў Радчыцкай гміне Пінскага пав. Палескага ваяв., 57 двароў, 349 жыхароў. Паводле перапісаў: 1959 г. — 386 жыхароў, 1970 г. — 410 жыхароў. Магазін, фельч.-акушэрскі пункт, клуб. У 1980 г. 293 жыхары. На 1.1.2002 г. 66 гаспадарак, 97 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна.

**КРУШЫН** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Століна, 235 км ад Брэста, 6 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Відзібор—Столін. 50 гаспадарак, 123 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вядома як засценак Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. 9 двароў, 60 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Столінскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., існавалі хутар Падкрушын, 2 двары, 15 жыхароў, і Крушынскія хутары, 21 двор, 156 жыхароў. З 1923 г. ў складзе Столінскай гміны Столінскага пав. Палескага ваяв.



Пасля ўз'яднання з БССР да 1953 г. вёска і хутары знаходзіліся ў складзе Глінкаўскага с/с. У 1953 г. Крушын і Крушынскія хутары перайшлі ў склад Столінскага гарсавета, дзе знаходзіліся да яго скасавання (1995). Магазін. У 1980 г. 249 жыхароў. На 1.1.2002 г. 47 гаспадарак, 128 жыхароў, у складзе калгаса «Столінскі».

**КРУШЫН** — вёска ў Рухчанскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Століна, 265 км ад Брэста, 20 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рухча—Столін. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2005).

З 1921 г. ў складзе Польшчы. З 1.1. 1923 г. ў складзе Радчыцкай, а пасля яе скасавання 23.3.1928 г. ў Плотніцкай гмінах Столінскага пав. Палескага ваяв. У 1980 г. 76 жыхароў. На 1.1.2002 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна.

**ЛІСОВІЧЫ** — вёска ў Харомскім с/с, на р. Гарынь, за 30 км на ПнУ ад Століна, 275 км ад Брэста, 35 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Столін—Давыд-Гарадок. 90 гаспадарак, 214 жыхароў (2005).

Упамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1536 г. У пач. 20 ст. маёнтак Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 3 двары, 37 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 4 двары, 20 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 397 жыхароў. У 1980 г. 346 жыхароў. На 1.1.2002 г. 96 гаспадарак, 242 жыхары, у складзе калгаса імя Кірава. Магазін, клуб, бібліятэка.

**ЛІСЦЯНКІ** — вёска ў Гараднянскім с/с, за 25 км на З ад Століна, 220 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Гарадная—Глінка. 33 гаспадаркі, 92 жыхары (2005).

Паводле перапісаў: 1959 г. — 218 жыхароў, 1970 г. — 211 жыхароў. У 1974 г. 211 жыхароў. На 1.1.2002 г. 37 гаспадарак, 100 жыхароў, у складзе СВК «Гарадная».

**ЛУКА** — вёска ў Глінкаўскім с/с, за 21 км на З ад Століна, 225 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гарадная—Глінка. 158 гаспадарак, 403 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. фальварак Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 1 двор, 5 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, фальварак Церабяжоўскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 1 двор, 3 жыхары. З 1939 г. ў складзе БССР, вёска. Паводле перапісу 1959 г. 472 жыхары. У 1980 г. 646 жыхароў. Базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. На 1.1.2002 г. 164 гаспадаркі, 435 жыхароў, у складзе калгаса «1 Мая».



*Дзяўчаты ў святочных уборах з в. Луткі.*

**ЛУТКІ** — вёска ў Вялікамалешаўскім с/с, за 69 км на ПнУ ад Століна, 315 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Мікашэвічы на лініі Лунінец—Гомель, аўтадарогай звязана з в. Вялікае Малешава. 150 гаспадарак, 413 жыхароў (2005).

Вядома з канца 18 ст. як сяло, уласнасць памешчыкаў Наркускіх. У 1795 г. 9 двароў, 80 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 26 двароў, 199 жыхароў, працавала школа граматы. У пач. 20 ст. ў Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 34 двары, 300 жыхароў. Побач з вёскай размяшчаўся аднайменны маёнтак, 1



*Георгіеўская царква (2-я пал. 19 ст.) у в. Лядзец.*

двор, 11 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. аднайменныя вёска і фальварак Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 53 двары, 295 жыхароў. У 1939 г. вёска, 53 двары, 373 жыхары. Паводле перапісу 1970 г. 468 жыхароў. У 1980 г. 494 жыхары. На 1.1.2002 г. 150 гаспадарак, 428 жыхароў, у складзе калгаса «Новае жыццё».

**ЛУЧЫЦА** — вёска ў Гараднянскім с/с, за 25 км на З ад Століна, 220 км ад Брэста, 28 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Гарадная—Глінка. 65 гаспадарак, 131 жыхар (2005).

У 1980 г. 348 жыхароў. На 1.1.2002 г. 69 гаспадарак, 135 жыхароў, у складзе СВК «Гарадная».

**ЛЮТЫ БОР** — вёска ў Рэчыцкім пас. Савеце, за 26 км на Пд ад Століна, 270 км ад Брэста, 9 км ад чыг. прыпынку Бухлічы на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Бухлічы—Столін. 29 гаспадарак, 63 жыхары (2005).

Паселішча было заснавана сярод лесу (бору), які мясц. жыхары называлі лютым (страшным, суровым). Адсюль і назва. Перад Вял. Айч. вайной 15 двароў, 38 жыхароў. У студз. 1943 г. ням.-фаш. акупанты спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 137 жыхароў. У 1980 г. 119 жыхароў. На 1.1.2002 г. 23 гаспадаркі, 63 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях».

**ЛЯДЗЕЦ** — вёска, цэнтр Лядзецкага с/с, на р. Вятліца, за 33 км на ПнУ ад Століна, 278 км ад Брэста, 40 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, аўтадарогай звязаны з Столінам. 369 гаспадарак, 862 жыхары (2005).

У пач. 20 ст. вёска, уласнасць князёў Радзівілаў, уваходзіла ў склад іх маёнтка Давыд-Гарадок. У 1816 г. 40 двароў. У 1886 г. ўпамінаецца як сяло пад назвай Лядзізь Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 36 двароў, 406 жыхароў, працавалі праваслаўная царква і земскае нар. вучылішча. У 1886/87 навуч. годзе ў ім налічваліся 34 вучні (з іх толькі 1 дзяўчынка), настаўнікам працаваў Іван Сцяпанавіч Беразоўскі, які закончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Ён атрымліваў 150 руб. жалавання з дзярж. казны і кватэру. На ўтрыманне вучылішча было выдаткавана 175 руб. з казны і 451 руб. ад сельскай грамады. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 95 двароў, 730 жыхароў, працавалі царква, нар. вучылішча, хлебазапасны магазін, крама, каваль, шавец. У 1909 г. 129 двароў, 976 жыхароў.

З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Хорскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 171 двор, 1063 жыхароў, працавалі лесазавод, паравы млын, ветпункт, няпоўная сярэдняя школа, сельпо, магазін. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета. У 1972 г. 395 гаспадарак, 1474 жыхары. У 1980 г. 1203 жыхары. Лясніцтва, 2 магазіны, цэнтр. Дом культуры, б-ка, урачэбная амбулаторыя, аптэка, аддз. сувязі, сярэдняя школа. На 1.1.2002 г. 399 гаспадарак, 864 жыхары, цэнтр калгаса «Лядзецкі». Помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ЛЯСНЫ** — пасёлак у Рэчыцкім пас. Савеце, за 10 км на ПдЗ ад Століна, 255 км ад Брэста, 4 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Рэчыца—Столін. 19 гаспадарак, 48 жыхароў (2005).



Пачаў складвацца ў час будаўніцтва цагельнага з-да «Звязда» Столінскага райпрамкамбіната. Назва з'явілася ў 1969 г. У 1998 г. 22 гаспадаркі, 70 жыхароў. Магазін. На 1.1.2002 г. 19 гаспадарак, 62 жыхары.

**МАГІЛЬНАЕ** — вёска ў Бережноўскім с/с, за 47 км на Пн ад Століна, 290 км ад Брэста, 19 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, аўтадарогай звязана з в. Беражное. 43 гаспадаркі, 87 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць Кіневічаў. Упамінаецца ў царк. дакументах 1879 г. як вёска Дубянецкага праваслаўнага прыхода Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1885 г. 7 двароў, 27 жыхароў. У пач. 20 ст. 16 двароў, 170 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Плотніцкай гміне Лунінецкага, затым Столінскага паветаў Палескага ваяв. У 1921 г. 32 двары, 171 жыхар. У 1939 г. 58 двароў, 237 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 234 жыхары. У 1959 г. 58 двароў, 237 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 234 жыхары. У 1980 г. 157 жыхароў. На 1.1.2002 г. 49 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе аграфірмы імя Леніна.

**МАЛЫЯ АРЛЫ** — вёска ў Лядзецкім с/с, на р. Вятліца, за 24 км на ПнУ ад Століна, 289 км ад Брэста, 30 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, аўтадарогай звязаны з Столінам. 232 гаспадаркі, 544 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. былі вядомы в. Малыя Арлы і аднайменны маёнтак, уласнасць Кіневічаў. У 1887 г. вёска, 31 двор, 117 жыхароў. Маёнтак меў 807 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 82 двары, 576 жыхароў, пітны дом. У пач. 20 ст. 88 двароў, 660 жыхароў, працавала земскае нар. вучылішча; у маёнтку 1 двор, 15 жыхароў. Адносіліся да Плотніцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. З 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска, 128 двароў, 707 жыхароў, і фальварак, 1 двор, 8 жыхароў. Адносіліся да Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1939 г. ў вёсцы 165 двароў, 923 жыхары. Паводле перапісу 1970 г. 826 жыхароў. У 1980 г. 708 жыхароў. Магазін. На 1.1.2002 г. 243 гаспадаркі, 548 жыхароў, у складзе калгаса імя Суворава.

**МАЛЫЯ ВІКАРАВІЧЫ** — вёска ў Стружскім с/с, на р. Гарынь, за 5 км на ПдУ ад Століна, 250 км ад Брэста, 12 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Струга—Столін. 126 гаспадарак, 452 жыхары (2005).

У сярэдзіне 19 ст. вёска Вікаравічы, уласнасць Катарніцкіх. У 1893 г. 8 двароў, 42 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 176 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска Малыя Вікаравічы ў Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 40 двароў, 247 жыхароў. Адносілася да Стружскага праваслаўнага прыхода. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Столінскай гміне Лунінецкага, затым Столінскага паветаў Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 64 двары, 384 жыхары. У 1939 г. 97 двароў, 620 жыхароў. Перад Вял. Айч. вайной 115 двароў, 565 жыхароў. У ліп. 1944 г. ням.-фаш. акупанты спалілі Малыя Вікаравічы і загубілі 10 жыхароў. На 1.1.2002 г. 131 гаспадарка, 449 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева.

**МАНЬКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Манькавіцкага с/с, на р. Гарынь, за 4 км на ПнУ ад Століна, 249 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Давыд-Гарадок. 944 гаспадаркі, 3191 жыхар (2005).

У 19 — пач. 20 ст. пад назвай Манькавічы былі вядомы вёска і маёнтак, уваходзілі ў склад Столінскай вол. Пін-



*Царква ў в. Манькавічы.*

скага пав. Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў. Упамінаюцца ў царк. дакументах у 1879 г. як вёска Плотніцкага праваслаўнага прыхода. У 1885 г. 39 двароў, 209 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 98 двароў, 649 жыхароў, працавалі хлебазапасны магазін, пітны дом; у маёнтку — вінакурны з-д і вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 110 двароў, 730 жыхароў, працавала земскае нар. вучылішча; у маёнтку 1 двор, 18 жыхароў.



*Панарама в. Манькавічы.*



*У цэху спіртзавода в. Манькавічы.*

З 1921 г. ў складзе Польшчы; вёска, 162 двары, 1056 жыхароў. Працавалі школа, спіртзавод, цагельны і маслазаводы, у 1940 г. с.-г. тэхнікум. З 12.10. 1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. Перад Вял. Айч. вайной 340 двароў, 1700 жыхароў. У вайну гітлераўцы спалілі Манькавічы і загубілі 20 жыхароў. Увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь. Паводле перапісу 1970 г. 1892 жыхары. Працуюць 3 магазіны, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 1980 г. 2252 жыхары. На 1.1.2002 г. 654 гаспадаркі, 2369 жыхароў, цэнтр камунальнага унітарнага вытворчага прадпрыемства «Манькавічы». Помнік землякам (1966), якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**МАЧУЛЬ** — вёска ў Рамельскім с/с, на р. Маства, за 60 км на ПнУ ад Століна, 305 км ад Брэста, 50 км ад чыг. ст. Мікашэвічы на лініі Лунінец—Гомель, аўтадарогай звязаны з в. Рамель. 221 гаспадарка, 578 жыхароў (2005).

Вядома з 1514 г. У 1795 г. вёска, уласнасць памешчыкаў Гараглядаў, Каморніцкіх, Коравых, Наркускіх, Рамультаў; у 1816 г. сяло, уласнасць Наркускіх, 3 двары. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 58 двароў, 329 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. 70 двароў, 470 жыхароў. Існавалі рыбалоўны і сплаўны промыслы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Хорскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв. На 30.9.1921 г. 81 двор, 504 жыхары. Перад Вял. Айч. вайной 95 двароў, 320 жыхароў. Ням.-фаш. захопнікі ў ліп. 1944 г. знішчылі 85 двароў і загубілі 5 жыхароў. Паводле перапісу 1970 г. 926 жыхароў. У 1980 г. 780 жыхароў. Базавая школа, магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. На 1.1.2002 г. 226 гаспадарак, 619 жыхароў, у складзе калгаса «Беларуская ніва».

**НІЖНІ ЦЕРАБЯЖОЎ** — вёска ў Рэчыцкім пас. Савеце, за 11 км на ПдЗ ад Століна, 256 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны, аўтада-



рогай звязаны з Столінам. 192 гаспадаркі, 572 жыхары (2005).

У ВКЛ паселішча спачатку з'яўлялася дзярж. уласнасцю, а потым належала князям Саламярэцкім. Упершыню ўпамінаецца ў 1558 г. У сярэдзіне 16 ст. нанесены на карту ВКЛ пад назвай Церабяжоў, сяло. З 1569 г. ў складзе Рэчы Паспалітай, у 18 ст. ўласнасць памешчыкаў Каржанеўскіх. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, цэнтр воласці Пінскага пав. Мінскай губ. У 1795 г. ўласнасць памешчыкаў Шырмаў, 42 двары, 300 жыхароў. Паводле інвентароў у 1848 г. ўласнасць Солтанаў. У 1856 г. маёнтак Церабяжоў пл. 8 тыс. га набыў Цэзарый Алеша. У 1886 г. 39 двароў, 332 жыхары, валасное праўленне, царква, земскае нар. вучылішча. У 1886/87 навуч. годзе ў вучылішчы 34 вучні (усе хлопчыкі), настаўнікам працаваў Антон Мазюк, які атрымліваў 185 руб. жалавання і кватэру. На ўтрыманне вучылішча было зрасходавана за гэты навуч. год 657 руб. У дакументах 19 — пач. 20 ст. маёнтак Церабяжоў адносіцца да Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. ў маёнтку 1 двор, 31 жыхар, у сяле 97 двароў, 621 жыхар.

З 1921 г. ў складзе Польшчы. Паводле перапісу 1921 г. пад назвай Церабяжоў існавалі 2 паселішчы: вёска, 72 двары, 497 жыхароў, і фальварак, 9 двароў, 79 жыхароў. Вёска была цэнтрам Церабяжоўскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. З 2.3.1940 г. ў складзе Рэчыцкага с/с. У час ням.-фаш. акупацыі ў Ніжнім Церабяжове дзейнічала антыфаш. падп. група. У 1980 г. 555 жыхароў, Дом культуры, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. На 1.1.2002 г. 183 гаспадаркі, 522 жыхары, у складзе калгаса «Сцяг Перамогі».

**НОВАБЕРАЖНОЕ** — пасёлак у Бережноўскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Століна, 267 км ад Брэста, 30 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, аўтадарогай звязана з в. Беражное. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2005).



*Сядзібны дом і парк у пас. Новабережное.*

Гісторыя населенага пункта цесна звязана з тутэйшай сядзібай памешчыкаў Алешаў, якія некалькі стагоддзяў валодалі мясц. землямі. Каля 1890 г. за 1,5 км на ПнЗ ад в. Беражное (маёнтак Старое Беражное) памешчыкам Ц.Алешам былі закладзены сад і пейзажны парк (сённяшняя пл. 6 га), а ў ім пачалося будаўніцтва панскай сядзібы з двухпавярховым мураваным палацам, гасп. дваром і вінакурным з-дам. Так узнік маёнтак, якому ў адрозненне ад Старога Беражнога далі назву Новае Беражное.

З 1921 г. фальварак Новабережное Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 9 двароў, 52 жыхары. З 1.1.1923 г. ў складзе Столінскай гміны Столінскага пав. Палескага ваяв. Маёнткам Новае Беражное валодаў памешчык Канстанцін Алеша. Пасля ўз'яднання з БССР маёнтак, палацавы сад, парк і ўсе гасп. пабудовы былі нацыяналізаваны. Цяпер ужо б. фальварак Новабережное стаў звычайным хутарам. З 2.3.1940 г. ў складзе Беражноўскага с/с. Пасля Вял. Айч. вайны Новабережное афіцыйна назвы не мела і ў статыстычнай справаздачы праходзіла як населены пункт пры Беражноўскім спіртзаводзе, а з пач. 1960-х г. пры Новабережноўскім сока-вінным з-дзе. Сучасная назва нададзена ў 1969 г. У 1980 г. 36 жыхароў. На 1.1.2002 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе аграфірмы імя Леніна. Помнік прыроды абласнога значэння — пейзажны парк.

**НОВЫ БОР** — вёска ў Стружскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Століна, 275 км ад Брэста, 25 км ад чыг. прыпынку Бухлічы на лініі Лунінец—Сарны. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2005).

Першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах адносіцца да пач. 1920-х г. Паводле перапісу 1921 г. лясніцтва (асада) Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 1 двор, 5 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў гэтых мясцінах дзейнічалі партызаны Ровенскага злучэння № 1 і брыгады № 2 спец. прызначэння пад кіраўніцтвам С.П.Каплуна. У 1974 г. 35 жыхароў. На 1.1.2002 г. 5 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе калгаса імя Чапаева.

**НОВЫ ПАСЁЛАК** — вёска ў Гараднянскім с/с, за 28 км на З ад Століна, 245 км ад Брэста, 24 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гарадная—Глінка. 79 гаспадарак, 197 жыхароў (2005).

Новы Пасёлак з'явіўся ў выніку ссялення хутароў у 2-й пал. 1950-х г., забудоўваўся і засяляўся першапачаткова былымі хутаранамі. Спачатку меў назву Пасёлак. У 1974 г. 564 жыхары. На 1.1.2002 г. 82 двары, 210 жыхароў, у складзе СВК «Гарадная».

**НЯЧАТАВА** — вёска ў Фядорскім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Століна, 220 км ад Брэста, 26 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Фядоры—Глінка. 148 гаспадарак, 298 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў Пінскім пав. Мінскай губ., уласнасць Гарцінгаў. У 1886 г. 24 двары, 104 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. 60 двароў, 506 жыхароў, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 88 двароў, 715 жыхароў, працавала земскае нар. вучылішча. З 1921 г. ў складзе Польшчы. На 30.9.1921 г. 130 двароў, 826 жыхароў. У 1959 г. 337 жыхароў, у 1970 г. 873 жыхары. Магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, клуб, б-ка. У 1980 г. 562 жыхары. На 1.1.2002 г. 162 гаспадаркі, 1322 жыхары, у складзе калгаса «Прагрэс».

**ПАНІЖЖА** — вёска ў Радчыцкім с/с, за 24 км на ПнЗ ад Століна, 230 км ад Брэста, 20 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Радчыцк—Глінка. 38 гаспадарак, 67 жыхароў (2005).

Назва адлюстроўвае асаблівасці мясцовасці (паніжанае ў ваколіцы месца). У 1970 г. 152 жыхары, у 1980 г. 180 жыхароў. На 1.1.2002 г. 39 гаспадарак, 75 жыхароў, у складзе калгаса «Мір».

**ПЕРШАМАЙСК** — вёска ў Глінкаўскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Століна, 250 км ад Брэста, 12 км ад чыг. прыпынку Відзібор на лініі Лунінец—Сарны, на аўтадарозе Глінка—Столін. 65 гаспадарак, 121 жыхар (2005).

Населены пункт узнік як пас. Першамайскі ў выніку ссялення хутароў у 2-й пал. 1950-х г. Назва дадзена ў канцы 1958 — пач. 1959 гг. У 1970 г. пасёлак, 543 жыхары. Магазін, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 1980 г. 357 жыхароў. На 1.1.2002 г. 78 гаспадарак, 134 жыхары, у складзе калгаса «1 Мая».

**ПЛОТНІЦА** — вёска, цэнтр Плотніцкага с/с, на р. Стыр (прыток Прыпяці) і аўтадарозе Столін—Пінск, за 27 км на ПнЗ ад Століна, 218 км ад Брэста, 14 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 507 гаспадарак, 1138 жыхароў (2005).

Упамінаецца ў дакументах пад 1503 г. як сяло ў складзе ВКЛ. У сярэдзіне 16 ст. належала Скірмунтам, з 1-й пал. 18 ст. Яцынічу, а ў 1793 г. сяло зноў перайшло да Скірмунтаў. З 1672 г. з'яўлялася цэнтрам 2 прыходаў — праваслаўнага і уніяцкага. У 1748 г. праваслаўны прыход быў зачынены, а царква ў праваслаўных вернікаў адабрана. У 1791—92 гг. Плотніца — цэнтр Пінска-Зарэчнага пав. Брэсцкага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, сяло, ваколіца ці вёска. З 1795 г. цэнтр воласці Пінскага пав. Мінскай губ. Пасля далучэння да Расіі праваслаўны Плотніцкі прыход быў адноўлены.

У 1-й пал. 19 ст. тут працавала гута. У 1867 г. адкрыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў грамадскім будынку і ўтрымлівалася за кошт мясц. насельніц-



тва і часткова дзярж. казначэйства. У 1872 г. згарэла прыходская праваслаўная царква, і на яе месцы ў 1875 г. на сродкі прыхаджан і дзяржавы пабудавана новая царква з дрэва на мураваным фундаменце (захавалася). У 1879 г. Плотніцкі праваслаўны прыход налічваў каля 3 тыс. прыхаджан, з якіх было да 20% пісьменных. Большасць прыхаджан належала да мяшчанскага саслоўя. Царква мела 16 дзес. ворыва, 26 дзес. сенакосу. Пры ёй працавала царк.-прыходскае папячыцельства. У 1886 г. сяло, 34 двары, 230 жыхароў, дзейнічалі валаснoе праўленне, царква, нар. вучылішча (у 1886 — 52 вучні). Паводле перапісу 1897 г. сяло (43 двары, 259 жыхароў, валаснoе праўленне, нар. вучылішча, прыёмны пакой, хлебазапасны магазін, таржок 1 кастр.) і ваколіца (2 малітоўныя дамы, лазня, 6 крам, царква, 2 ветраныя млыны, ваўначоска, 2 піцейныя дамы, таржок 1 кастр.). У 1909 г. ваколіца, цэнтр Плотніцкай вол., 321 двор, 2203 жыхары.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска, цэнтр гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. У 1921 г. 376 дамоў, 2080 жыхароў (у т.л. 1802 беларусы, 224 яўрэі, 49 палякаў, большасць насельніцтва праваслаўныя). З 1939 г. ў БССР, вёска, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Столінскага р-на, 568 двароў, 2911 жыхароў. Да 8.1.1954 г. ў Пінскай, потым у Брэсцкай абласцях. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959 г. — 2336 жыхароў, у 1970 г. цэнтр калгаса «Запаветы Ільіча», 2153 жыхары. Працуюць млын, с.-г. майстэрні, лесапілка, ветпункт, аддз. сувязі, амбулаторыя, ашчадны банк, сярэдняя школа, б-ка, магазіны.

У цэнтры вёскі знаходзіцца брацкая магіла 25 воінаў 397-й і 415-й стралк. дывізій, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні ад ням.-фаш. акупантаў тэр. Плотніцкага с/с. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура смуткуючай жанчыны. У 1970 г. ўстаноўлены абеліск на ўшанаванне памяці землякоў, загінуўшых у Вял. Айч. вайну. Захаваўся помнік драўлянага нар. дойлідства 19 ст. — Пакроўская царква (у цэнтры вёскі).

Вёска Плотніца — радзіма бел. паэта і кінадраматурга М.М.Шэлехава.

**ПЯСОВА** — вёска ў Гараднянскім с/с, за 23 км на З ад Століна, 240 км ад Брэста, 19 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Гарадная—Глінка. 55 гаспадарак, 133 жыхары (2005).

У 1970 г. 317 жыхароў, у 1980 г. 357 жыхароў. Магазін, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом сац. паслуг. На 1.1.2002 г. 59 гаспадарак, 166 жыхароў, у складзе СВК «Гарадная».

**РАДЧЫЦК** — вёска, цэнтр Радчыцкага с/с, на аўтадарозе Столін—Фядоры, за 23 км на З ад Століна, 220 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 265 гаспадарак, 601 жыхар (2005).

У 18 ст. Радчыцк — сяло, уладанне Млоцкіх, мелася царква (згарэла). У 1760 г. на сродкі прыхаджан пабудавана новая драўляная царква (не захавалася). У сярэдзіне 19 ст. ўладанне Гарцінгаў; узведзена мураваная царква (захавалася), пры якой працавала папячыцельства. У 1863 г. адкрыта нар. вучылішча. У 1886 г. сяло, цэнтр воласці Пінскага пав. Мінскай губ., 66 двароў, 792 жыхары, дзейнічалі нар. вучылішча, вінакурны з-д, млын. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 176 двароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, царква, піцейны дом. У 1909 г. сяло Вітчаўскай вол. Пінскага пав., 246 двароў, 1329 жыхароў.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска, цэнтр гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., 274 дамы, 1544 жыхары (у т.л. 1063 беларусы, 429 палякаў, 51 яўрэй). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Столінскага р-на Пінскай вобл. (470 двароў, 2373 жыхары). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У



*Мікалаеўская царква (1762) у в. Рамель.*

1959 г. цэнтр сельсавета, 660 жыхароў. У 1970 г. цэнтр калгаса «XXII партз'езд», 1233 жыхары. Пазней вёска стала цэнтрам калгаса «Мір». Дзейнічаюць млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ветпункт, магазін, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, аддз. сувязі, амбулаторыя, ашчадны банк. У цэнтры вёскі размешчаны помнік на ўшанаванне памяці 53 землякоў (1969), якія загінулі ў Вял. Айч. вайну . Помнік архітэктуры класіцызму — царква 19 ст.



*Царква (канец 20 ст.) у в. Рамель.*

**РАМЕЛЬ** — вёска на р. Маства (прыток Сцвігі), цэнтр Рамельскага с/с, за 46 км на ПнУ ад Століна, 294 км ад Брэста, 52 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 413 гаспадарак, 1185 жыхароў (2005).

Упершыню згадваецца ў дакументах пад 1452 г. у складзе ВКЛ. У 18 ст. тут пабудавана драўляная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 19 — пач. 20 ст. сяло ці вёска Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., уласнасць Рамультаў, Шпігановічаў, Транскоўскіх. У 1886 г. 22 двары, 260 жыхароў, дзейнічала праваслаўная царква. У пач. 20 ст. вёска, 127 двароў, 801 жыхар. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска і калонія Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 117 дамоў, 656 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Давыд-Гарадоцкага р-на, 151 двор, 1145 жыхароў. З 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не. Да 8.1.1954 г. ў Пінскай, потым у Брэсцкай абласцях. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі.

У 1970 г. Рамель — цэнтр калгаса «Беларуская ніва». На тэр. вёскі працуюць ветпункт, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, магазін, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, Дом быту, дзіцячы сад, аддз. сувязі, ашчадны банк, магазін. У цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік (1975) на ўшанаванне памяці 77 землякоў, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. На мясц. могілках пахаваны ўдзельнік рэв. руху ў Зах. Беларусі і падп. барацьбы супраць ням.-фаш. акупантаў П.Д.Дзямко, якога гітлераўцы закатавалі ў ліп. 1941 г. (у 1970 пастаўлены абеліск). У цэнтры вёскі пахаваны партызан В.М.Уроднічаў, які загінуў у баі з ням.-фаш. захопнікамі ў ліст. 1943 г. (у 1968 пастаўлены абеліск). У паўн. частцы вёскі размешчана Міхайлаўская царква — помнік традыц. драўлянага нар. дойлідства 18 ст.

Ва ўрочышчы Ляшча каля могілак знаходзіцца археал. помнік — могільнік.





Пратэстанцкі малітоўны дом у в. Рамель.



Дуб-волат у в. Рамель.

Абследаваў у 1954—55 гг. Ю.В.Кухарэнка. Могільнік належаў плямёнам зарубінецкай культуры. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў музеі Палесся (Пінск).

Вёска Рамель — радзіма Героя Сац. Працы М.В.Седляра.

**РУБЕЛЬ** — вёска на р. Гарынь (прыток Прыпяці), цэнтр Рубельскага с/с, за 24 км на ПнУ ад Століна, 269 км ад Брэста, 31 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 1453 гаспадаркі, 4034 жыхары (2005).

Вядомы з сярэдзіны 16 ст. Належаў Зышчынічам, Пашкевічам, Разановічам. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) далучаны да Расіі; сяло Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1796 г. тут пабудавана з дрэва Міхайлаўская праваслаўная царква (захавалася). У 1886 г. сяло Рубель (яно ж Любра), 46 двароў, 450 жыхароў, дзейнічала прыходская царква (каля 1250 прыхаджан). Паводле перапісу 1897 г. сяло, 38 дамоў, 250 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа, 3 крамы, карчма. У пач. 20 ст. 448 двароў, больш за 3,2 тыс. жыхароў, працавалі царква і царк.-прыходская школа.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, у Хорскай гміне Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 457 дамоў, больш за 2,8 тыс. жыхароў. З 1939 г. ў БССР. З 1940 г. цэнтр сельсавета Давыд-Гарадоцкага р-на, 541 двор, 3887 жыхароў. З 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. Напярэдадні Вял. Айч. вайны 730 двароў, 3680 жыхароў. У маі 1944 г. гітлераўскія карнікі знішчылі вёску і загубілі 122 жыхары. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. У 1970 г. ў калгасе «Сцяг камунізму», 5524 жыхары. Пазней в. Рубель стала цэнтрам калгаса «Рубельскі». Ёсць ветпункт, млын, магазін, клуб, б-ка, аддз. сувязі, ашчадны банк, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад. Помнік (1965) на ўшанаванне памяці 45 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Міхайлаўская царква — архітэктурны помнік канца 18 ст.

Археал. помнікі: курганны могільнік і 2 селішчы. Курганны могільнік знаходзіц-



На будаўніцтве аграгарадка ў в. Рубель.



*Царква (канец 20 ст.) у в. Рубель.*



*Пратэстанцкі малітоўны дом у в. Рубель.*



*Міхайлаўская царква (1796) у в. Рубель.*

ца на правым беразе р. Гарынь, на мясц. могілках, мае больш за 30 дзярновых курганоў. Выявіў у 1956 г. Ю.В.Кухарэнка. Курганы размешчаны блізка адзін да аднаго, амаль усе пашкоджаны сучаснымі захаваннямі. Раскопкі не праводзіліся. Селішча-1 (за 3 км на Пн ад вёскі ва ўрочышчы Прысава) абследаваў у 1956 г. Ю.В.Кухарэнка, у 1962 г. К.В.Каспарава. Выяўлены астаткі паўзямлянaчнага жылля, абломкі глінянага ляпнога посуду. Селішча належала плямёнам зарубінецкай культуры. Селішча-2 размешчана за 35 км на ПнУ ад вёскі на тэрасе правага берага Гарыні. Выявілі і абследавалі В.С.Вяргей і А.А.Ягарэйчанка. Знойдзены абломкі ляпнога посуду мілаградскай культуры ранняга жал. веку, кавалкі абпаленай гліны. Матэрыялы раскопак абодвух селішчаў захоўваюцца ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі.

**РУХЧА 1** — вёска, цэнтр Рухчанскага с/с, на аўтадарозе Столін—Плотніца, за 21 км на ПнЗ ад Століна, 233 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 139 гаспадарак, 282 жыхары (2005).

Вядома з 17 ст. як сяленне пры дарозе Столін—Вуйвічы. У пісьмовых крыніцах сярэдзіны 19 ст. ўпамінаецца як в. Рухча Пінскага пав. Мінскай губ., дзейнічала царква (пабудавана ў 1730 з дрэва), якая да 1853 г. была прыходскай, а потым прыпісана да Радчыцкага праваслаўнага прыхода. Маёнтак да 1868 г. належаў Скірмунтам, затым Гарцінгам. У 1888 г. 25 двароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска Рухча Старая Радчыцкай вол. Пінскага пав., 37 двароў, 290 жыхароў, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. вёска Вітчаўскай вол. таго ж павета, 106 двароў, каля 620 жыхароў, працавала нар. вучылішча.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Рухча 1 Радчыцкай гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., 117 дамоў, 729 жыхароў. З 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Столінскага р-на Пінскай вобл. БССР (187 двароў, 873 жыхары). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. цэнтр сельсавета, 745 жыхароў. У 1970 г. цэнтр калгаса імя Калініна, 633 жыхары. На тэр. сучаснай вёскі размешчаны рамонтна-механічныя майстэрні, млын, ветпункт, аддз. сувязі, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт, ашчадны банк, дзіцячы сад, магазін. Абеліск (1969) 31 земляку, што загінулі ў Вял. Айч. вайне. Царква — помнік драўлянай архітэктуры 1-й пал. 18 ст., якой уласцівы рысы нар. дойлідства і барока.



Вёска Рухча 1 — радзіма Н.М.Яшчука, падпольшчыка, закатаванага акупантамі. Яго імем названа вуліца ў вёсцы.

**РУХЧА 2** — вёска ў Рухчанскім с/с, на аўтадарозе Столін—Плотніца, за 20 км на ПнЗ ад Століна, 233 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 151 гаспадарка, 418 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска Рухча Новая Радчыцкай вол. Пінскага пав., 23 двары, 168 жыхароў, праваслаўная царква, піцейны дом. У пач. 20 ст. маёнтак (таварыства) Рухча Вітчаўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 49 двароў, каля 380 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Рухча 2 Радчыцкай гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., 63 дамы, 422 жыхары (385 беларусаў, 21 паляк, 16 яўрэяў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Рухчанскім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл., 153 двары, 754 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 424 жыхары. У 1970 г. ў калгасе імя Калініна, 33 жыхары. Працуе магазін.

Вёска Рухча 2 — радзіма доктара эканам. навук І.М.Лемяшэўскага.

**РЫБНІКІ** — вёска ў Белавушскім с/с, на р. Гарынь, за 12 км на ПнУ ад Століна, 260 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. Транспартныя сувязі па прасёлачнай, потым аўтадарозе Столін—Беражное. 20 гаспадарак, 44 жыхары (2005).

Раней паселішча было вядома пад назвай Дуброва. У пач. 20 ст. фальварак Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 1 гаспадарка, 27 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Белавушскім с/с Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. пас. Дуброва акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вайны пераўтвораны ў в. Рыбнікі. З 1963 г. размясціўся рыбагадавальнік «Дуброва» рыбгаса «Лахва» Лунінецкага р-на, які дзейнічае і сёння. У 1969 г. населены пункт атрымаў цяперашні статус і назву. На 1.1.2002 г. 20 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе калгаса «Перамога». Працуе магазін. У цэнтры вёскі ў 1968 г. ўстаноўлены абеліск у памяць аб камандзіры Столінскага партыз. атрада В.Е.Ключнікава, які загінуў у барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі ў жн. 1941 г. (пахаваны ў Століне ў брацкай магіле сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму).



*У цэху кансервавага завода ААТ «Тарынскі» ў рабочым пасёлку Рэчыца.*

**РЭЧЫЦА** — рабочы пасёлак, цэнтр Рэчыцкага пас. Савета, на р. Гарынь (прыток Прыпяці); чыг. станцыя на лініі Лунінец—Сарны, за 7 км на ПдЗ ад Століна, 246 км ад Брэста. 6671 жыхар (2005).

Паводле інвентара сярэдзіны 19 ст. Рэчыца — прыватная вёска Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уладанне памешчыкаў Солтанаў. У 1886 г. сяло, 31 двор, 332 жыхары, дзейнічала праваслаўная царква, прыпісаная да Столінскага праваслаўнага прыхода. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 76 двароў, 495 жыхароў, царква, крамы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 89 двароў, 440 жыхароў, працавалі нар. вучылішча, царква, паштова-тэлегр. аддзяленне. Сумежна з вёскай размяшчаўся аднайменны маёнтак, 1 гаспадарка, 13 жыхароў. З 1921 г. ў складзе Польшчы, у Столінскай гміне Лунінецкага пав. Па-

лескага ваяв.; вёска (172 дамы, 948 жыхароў, у т.л. 812 беларусаў, 83 палякі, 32 яўрэі) і фальварак (5 дамоў, 30 жыхароў). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета, 318 двароў, 1613 жыхароў. З 6.7.1960 г. рабочы пасёлак і цэнтр пас. Савета Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з 12.7.1941 г. да 7.7.1944 г. Рэчыца акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. вёска, цэнтр сельсавета і калгаса «Сцяг Перамогі», 1840 жыхароў. У сучасным пасёлку размешчаны раённае аб'яднанне «Сельгастэхнікі», Дом быту, з-ды — кансервавы, цагельны, абліцовачнай керамікі, дрэнажных труб, лесазавод, сталовая, аддз. сувязі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячыя яслі-сад, некалькі магазінаў.

У цэнтры пасёлка знаходзіцца помнік — скульптура воіна (1960) на брацкай магіле 101 воіна 397-й стралк. дывізіі 89-га стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту, якія загінулі ў пач. ліп. 1944 г. пры вызваленні Рэчыцы ад ням.-фаш. акупантаў. На мясц. могілках пахаваны Н.Х.Якімаў, камісар партыз. атрада імя Кірава брыгады спецпрызначэння пад камандаваннем С.Каплуна, які загінуў у баі ў 1943 г. (у 1984 пастаўлены абеліск).

**СІЦІЦК** — вёска ў Плотніцкім с/с, за 33 км на ПнЗ ад Століна, 270 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 100 гаспадарак, 181 жыхар (2005).

У 19 — пач. 20 ст. вёска Плотніцкай вол. і Плотніцкага праваслаўнага прыхода Пінскага пав. Мінскай губ., якая належала памешчыкам Скірмунтам. У 1890 г. тут было 69 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. 46 двароў, 434 жыхары. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 64 дамы, 391 жыхар (з іх 383 беларусы, 8 палякаў); па веравызнанні ўсе праваслаўныя. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. вёска Плотніцкага с/с Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў вёсцы 589 жыхароў. У 1970 г. ў калгасе «Запаветы Ільіча», 567 жыхароў. Працуе магазін. У цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік на ўшанаванне памяці 20 аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**СТАРЫНА** — вёска ў Веляміцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Століна, 275 км ад Брэста, 35 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 90 гаспадарак, 252 жыхары (2005).

У 1943 г. ням.-фаш. акупанты поўнасцю спалілі сяло і загубілі 2 жыхароў. Пасля Вял. Айч. вайны Старына паступова аднаўлялася. Паводле перапісу 1959 г. хутар, 53 жыхары, у калгасе «За Радзіму».

**СТАХАВА** — вёска ў Плотніцкім с/с, на р. Прыпяць, за 37 км на ПнЗ ад Століна, 248 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Прыпяць на лініі Лунінец—Сарны. 448 гаспадарак, 1021 жыхар (2005).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 16 ст. Пад 1661 г. згадваецца як сяло. З'яўлялася ўласнасцю Яневічаў, потым Скірмунтаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, ваколіца ці сяло, цэнтр праваслаўнага прыхода Радчыцкай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. У 1857 г. на сродкі прыхаджан (3700 руб.) тут пабудавана новая праваслаўная царква на каменным фундаменце з гонтавым дахам. У 1879 г. праваслаўны прыход налічваў каля 12 тыс. прыхаджан, пры царкве мелася папячыцельства. У 1886 г. сяло, 32 двары, 151 жыхар. У 1890 г. 162 двары, 1123 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 267 двароў, 1703 жыхары, 5 крам, 2 ветраныя млыны, царква, піцейны дом, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 2 малітоўныя дамы, лазня. У пач. 20 ст. ваколіца, 341 двор, 2187 жыхароў. Апрача земляробства, жывёлагадоўлі насельніцтва займалася рыбалоўствам, вырабам лодак і байдарак, сплавам лесу.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы. У 1921 г. вёска Плотніцкай гміны Лунінец-



кага пав. Палескага ваяв., 360 дамоў, больш за 1,6 тыс. жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета, потым у Плотніцкім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл. У 1939 г. 446 двароў, 2674 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 2598 жыхароў. У 1970 г. цэнтр калгаса «Іскра», 1275 жыхароў. Пазней Стахава — цэнтр міжгаспадарчага прадпрыемства «Палескае». Дзейнічаюць с.-г. рамонтныя майстэрні, ветучастак, млын, магазін, клуб, б-ка, аддз. сувязі, сярэдняя школа, ашчадны банк, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, Дом быту, 3 магазіны. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 76 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1967 г. ўстаноўлены абеліск. Помнік архітэктуры псеўдарус. стылю — царква 19 ст.

Вёска Стахава — радзіма акадэміка Акадэміі навук БССР, доктара вет. навук, праф., засл. дзеяча навукі Беларусі Х.С.Гарагляда, засл. работніка транспарту С.І.Комара.

**СТРУГА** — вёска, цэнтр Стружскага с/с, на р. Гарынь (прыток Прыпяці), за 8 км на Пд ад Століна, 254 км ад Брэста, 15 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 306 гаспадарак, 958 жыхароў (2005).

У 17 ст. сяло ў складзе Рэчы Паспалітай. У 1648 г. тут адбылося антыфеад. сял. выступленне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, сяло, цэнтр праваслаўнага прыхода Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ. Уласнасць Алізаравых, пазней Камарніцкіх. У 1876 г. на месцы знесенай царквы на сродкі прыхаджан пабудавана новая драўляная царква. У 1879 г. прыход налічваў каля 1,4 тыс. прыхаджан. У 1886 г. сяло, 29 двароў, 290 жыхароў, праваслаўная царква і ветраны млын. Паводле перапісу 1897 г. 57 двароў, 485 жыхароў, царква, вадзяны млын, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 81 двор, 638 жыхароў. Сумежна з сялом у гэты час знаходзіўся маёнтак Струга, 1 гаспадарка, 17 жыхароў.



*Пакроўская царква ў в. Стахава.*



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Струга.*

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 104 дамы, 856 жыхароў (з іх 830 беларусаў, 483 праваслаўныя). Побач размяшчаўся аднайменны фальварак, 3 дамы, 28 жыхароў. З 1.12.1940 г. вёска — цэнтр сельсавета Столінскага р-на Пінскай вобл. БССР, 215 двароў, 1654 жыхары. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы 179 двароў, 919 жыхароў. З 12.7.1941 г. да 7.7.1944 г. Струга акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1944 г. гітлераўцы спалілі тут 144 двары, загубілі 15 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. 940 жыхароў. У 1970 г. цэнтр калгаса імя Чапаева, 1086 чалавек. Працуюць рамонтна-механічная майстэрня, ветпункт, млын, клуб, Дом быту, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, ашчадны банк, 2 магазіны, амбулаторыя. Помнікі: скульптура воіна (1964) на брацкай магіле 85 сав. воінаў

397-й і 415-й стралк. дывізій 61-й арміі 1-га Бел. фронту, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні Стругі і навакольных населеных пунктаў ад ням.-фаш. акупантаў; на мясц. могілках пахаваны дэп. Вярх. Савета БССР Я.Е.Мароз, расстраляны гітлераўцамі ў лютым 1943 г. (у 1984 пастаўлены абеліск).

Каля вёскі, ва ўрочышчы Асоўе, знаходзіцца брацкая магіла 5 чырвонаармейцаў, якія ў 1920 г. загінулі ў баях з бандамі Булак-Балаховіча (у 1984 устаноўлены абеліск). Каля вёскі, на надпойменнай тэрасе правага берага р. Гарынь, размешчаны 2 археал. помнікі: селішча-1 і селішча-2. Селішча-1 адкрыў у 1968 г. О.В.Апановіч. Абследавала і правяла раскопкі ў 1986—87 гг. В.С.Вяргей. Выяўлены рэшткі жылля, печы. Знойдзены фрагменты керамікі бронзавага веку, мілаградскай і зарубінецкай культур жал. веку. Сярод знаходак абломкі посуду, гліняная прасліца і інш. Селішча-2 выявілі, абследавалі ў 1986 г. В.С.Вяргей і А.А.Ягарэйчанка. На пл. каля 10 га знойдзены апрацаваны крэмень і абломкі ляпнога посуда зарубінецкай і пражскай культур. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі.

**СЯМІГОСЦІЧЫ** — вёска ў Альшанскім с/с, за 5 км ад р. Прыпяць, 51 км на ПнУ ад Століна, 206 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Прыпяць на лініі Лунінец—Сарны. 525 гаспадарак, 1500 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як сяленне ў складзе ВКЛ. Паводле інвентара 1730 г. сяло Сямігоцічы, 13 дымоў, 5 валок зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У канцы 18—19 ст. сяло, уласнасць памешчыкаў Рамультаў, потым Кіневічаў. У 1795 г. сяло, 7 двароў, каля 40 жыхароў. У 1816 г. 25 двароў. У 1886 г. — 35 двароў, 414 жыхароў, праваслаўная царква. Паводле перапісу 1897 г. Сямігосцічы — вёска, 89 двароў, 665 жыхароў, царква, магазін. У пач. 20 ст. вёска Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., 140 двароў, 989 жыхароў.

У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 166 дамоў, больш за 1 тыс. жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў калгасе «17 Верасня» Альшанскага с/с Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У гады вайны ў наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгады «Савецкая Беларусь» Пінскай вобл. Паводле перапісу 1970 г. 1856 жыхароў, цэнтр калгаса «XVII партз'езд». У сучаснай вёсцы ёсць млын, с.-г. рамонтныя майстэрні, ветпункт, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, Дом быту, ашчадны банк, 2 магазіны. У цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік (1985) на ўшанаванне памяці 56 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну.

**ТАЛМАЧАВА** — вёска ў Вялікамалешаўскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Століна, 285 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Жыткавічы на лініі Брэст—Гомель. 180 гаспадарак, 527 жыхароў (2005).

У пач. 20 ст. вёска Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1909 г. 30 двароў, 389 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; вёска Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 42 дамы, 294 жыхары (1921). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Вялікамалешаўскім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл. У 1939 г. ў вёсцы 53 двары, 373 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19 вяскоўцаў загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск (1971). З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1970 г. ў калгасе «Дружба» Аздаміцкага с/с 1305 жыхароў. Пазней в. Талмачава ўвайшла ў склад калгаса «Новае жыццё». Працуе магазін.

**ТУРСКОЕ** — вёска ў Веляміцкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Століна, 285 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 186 гаспадарак, 422 жыхары (2005).



Пасля вайны вёска ў складзе калгаса «За Радзіму». Працуюць клуб, магазін. У цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск (1975) на ўшанаванне памяці 15 землякоў, якія загінулі ў барацьбе з гітлераўцамі ў Вял. Айч. вайну. Захаваліся археал. помнікі — могільнікі. Могільнік-1 знаходзіцца ў вёсцы. У літаратуры вядомы як могільнік Велямічы. Выяўлены 136 пахаванняў (11 з іх адносяцца да 3—4 ст. н.э.). Могільнік-2 знаходзіцца каля вёскі, ва ўрочышчы Пугачэнск. Выяўлена больш за 100 пахаванняў, 2 з іх адносяцца да 3—4 ст. Раскопкі могільнікаў праводзілі ў 1953—57 гг. Ю.В.Кухарэнка, у 1957—62 гг. К.В.Каспарава. Знойдзены гліняны ляпны посуд, упрыгажэнні (шкляныя пацеркі, жал. і бронзавыя пярсцёнкі і інш.), жал. нажы, тачыльныя брускі і інш. Абодва могільнікі адносяцца да зарубінецкай культуры і да кола вельбарска-чарняхоўскіх старажытнасцей. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Гіст. Расійскім музеі (Масква), Эрмітажы (С.-Пецярбург), Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі і Бел. музеіператварэння Палесся (Пінск).

**ТУРЫ** — вёска ў Харомскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Століна, 285 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 392 гаспадаркі, 1021 жыхар (2005).

Назва ад прозвішча Тур ці Тураў. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. вёска маёнтка Давыд-Гарадок, уладанне Радзівілаў, у Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 57 дамоў, 368 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 83 двары, 571 жыхар. Бытавалі промыслы — сплаў лесу, дрэваапрацоўчыя і інш. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 102 дамы, каля 630 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. ў Харомскім с/с Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай вобл., 112 двароў, 801 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1844 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У 1970 г. цэнтр калгаса «17 Верасня», 1296 жыхароў. Працуюць млын, с.-г. майстэрні, ветпункт, 2 магазіны, Дом быту, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, ашчадны банк.

У цэнтры вёскі ўстаноўлены помнік (1971) на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Каля вёскі, ва ўрочышчы Барок, размешчаны археал. помнік — гарадзішча (мясц. назва Замчышча). Адкрыў у 1953 г. Б.В.Міралюбаў, абследаваў у 1980 г. Г.М.Залашка. Раскопкі не праводзіліся.



*Панарама аграгарадка ў в. Фядоры.*

**УЗЛЯЖЖА** — вёска ў Стружскім с/с, за 10 км на Пд ад Століна, 6 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 65 гаспадарак, 177 жыхароў (2005).

У 1921 г. фальварак Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 1 гаспадарка, 16 жыхароў. З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Стружскім с/с Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. Узляжжа акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. пасёлак у складзе калгаса імя Чапаева, 272 жыхары.

**ФЯДОРЫ** — вёска, цэнтр Фядорскага с/с на р. Стыр (прыток Прыпяці), за 36 км на З ад Століна, 280 км ад Брэста,

24 км ад чыг. ст. Тарынь на лініі Лунінец—Сарны. 410 гаспадарак, 1140 жыхароў (2005).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 15 ст. як сяленне ў Трокскім ваяв., пазней у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. ВКЛ. У 19 — пач. 20 ст. вёска Радчыцкага праваслаўнага прыхода Пінскага пав. Мінскай губ., належала Скірмунтам і Гарцінгам. У 1880 г. 116 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска Вітчаўскай вол. таго ж павета, 102 двары, каля 740 жыхароў. Існавалі сплаўны, рыбалоўны і інш. промыслы. У 1921—39 гг. Фядоры знаходзіліся ў складзе Польшчы; вёска Радчыцкай гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., 129 дамоў, каля 800 жыхароў (пераважная большасць беларусы). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. цэнтр сельсавета Столінскага р-на Пінскай вобл., 136 двароў, 1211 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны 266 двароў, 1205 жыхароў. З ліп. 1941 г. да 12.7.1944 г. Фядоры акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. спалілі 125 двароў і загубілі 3 жыхароў. Вёска вызвалена воінамі 212-й стралк. дывізіі 9-га гв. стралк. корпуса 61-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адноўлена. Паводле перапісу 1959 г. 630 жыхароў. У 1970 г. ў калгасе імя Шчарбакова, 1214 жыхароў. Пазней вёска стала цэнтрам калгаса «Прагрэс». Дзейнічаюць ветпункт, рамонтныя майстэрні, млын, Дом быту, магазін, ашчадны банк, аддз. сувязі, дзіцячы сад, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. У цэнтры Фядор устаноўлены помнік (1971) на брацкай магіле 146 сав. воінаў, якія загінулі ў ліп. 1944 г. пры вызваленні вёскі.

На зах. ускраіне вёскі размешчаны археал. помнік — паселішча. Выявіў і абследаваў у 1987 г. А.А.Ягарэйчанка. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання ахоўваюцца ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі.

*Хлебная ніва СВК «Фядоры».*





*Жывёлагадоўчы комплекс у в. Фядоры.*

**ХАРОМСК** — вёска, цэнтр Харомскага с/с, на р. Гарынь (прыток Прыпяці) і аўтадарозе Давыд-Гарадок—Столін, за 26 км на ПнУ ад Століна, 271 км ад Брэста, 32 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 311 гаспадарак, 778 жыхароў (2005).

Вядомы з 16 ст. як сяло ў Пінскім пав. ВКЛ. У 1811 г. 41 двор, 168 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Радзівілаў, у 1816 г. — Кіневіча. У 19 — пач. 20 ст. вёска Хорскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ., уласнасць Радзівілаў, уваходзіла ў склад маёнтка Давыд-Гарадок. У 1816 г. каля 30 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 85 двароў, 680 жыхароў, капліца, хлебазапасны магазін, карчма. У пач. 20 ст. 131 двор, 927 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы, вёска Хорскай



гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 164 дамы, каля 970 жыхароў (з іх 927 беларусы; 1921). З 1939 г. ў БССР, 202 двары, 1342 жыхары. З 12.10.1940 г. вёска, цэнтр сельсавета Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай вобл., з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі вёскі дзейнічалі партызаны брыгады «Савецкая Беларусь» Пінскай вобл. У 1970 г. 1150 жыхароў. На тэр. сучаснай вёскі працуюць ветпункт, млын, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сярэдняя школа, Дом быту, аддз. сувязі, ашчадны банк, Дом культуры, б-ка, 3 магазіны. У цэнтры вёскі ўстаноўлены абеліск (1965) на ўшанаванне памяці 51 земляка, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны ў барацьбе з ням.-фаш. захопнікамі.

Побач з Харомскам знаходзіцца археал. помнік — гарадзішча (мясц. назва Чортава Гара). Абследаваў у 1961 г. П.А.Рапапорт, раскопкі праводзіў у 1980 г. Г.М.Заламна. Знойдзены астаткі жал. нажа, ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі, фрагменты ляпнога посуду ранняга жал. веку. Гарадзішча адносіцца да зарубінецкай культуры і да стараж.-рускага перыяду. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Столінскім краязнаўчым музеі і ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі.

**ХОРСК** — вёска ў Харомскім с/с, на р. Гарынь (прыток Прыпяці), за 40 км на ПнУ ад Століна, 285 км ад Брэста, 40 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 427 гаспадарак, 1087 жыхароў (2005).

У 19 — пач. 20 ст. вёска, цэнтр воласці і праваслаўнага прыхода Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1816 г. тут каля 30 двароў. У сярэдзіне 19 ст. ўласнасць Радзівілаў, у складзе маёнтка Давыд-Гарадок. У 1886 г. 28 двароў, 319 жыхароў, працавалі валасное праўленне, конная паштовая станцыя, праваслаўная прыходская царква. Паводле перапісу 1897 г. 78 двароў, 548 жыхароў, капліца, прыёмны пакой, валасное праўленне, царк.-прыходская школа, карчма, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. ў вёсцы 111 двароў, 712 жыхароў. Бытаваў сплаўны промысел. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; вёска, цэнтр гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 131 дом, больш за 800 жыхароў (1921). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Давыд-Гарадоцкага р-на Пінскай вобл., з 16.7.1954 г. ў Харомскім с/с, з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не. У 1939 г. — 153 гаспадаркі, 1224 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. ў складзе калгаса «17 Верасня», 1414 жыхароў. Працуе магазін.

**ХОТАМЕЛЬ** — вёска ў Рубельскім с/с, на р. Гарынь (прыток Прыпяці), за 5 км на ПнУ ад Століна, 250 км ад Брэста, 30 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 436 гаспадарак, 1114 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 43 двары, 312 жыхароў. У пач. 20 ст. 46 двароў, 395 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; вёска Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 94 дамы, 593 жыхары (у т.л. 564 беларусы і праваслаўныя; 1921). З 1939 г. ў БССР, 132 двары, 898 жыхароў. З 15.1.1940 г. ў Давыд-Гарадоцкім р-не Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей, з 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не. Напярэдадні Вял. Айч. вайны ў вёсцы 174 двары, 913 жыхароў. З ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У сак. 1944 г. гітлераўскія карнікі спалілі вёску, загубілі 7 яе жыхароў. Пасля вайны адноўлена, у складзе калгаса «Сцяг камунізму». Пазней в.Хотамель увайшла ў склад калгаса «Рубельскі». Працуе магазін.

Каля вёскі знаходзяцца 3 археал. помнікі: гарадзішча, селішча і могільнік. Гарадзішча ўмацавана валамі і равамі. Раскопкі праводзілі ў 1954—57 гг. Ю.В.Кухарэнка, у 1964 г. — К.К.Каспарава, І.П.Русанава. Гарадзішча датуецца 8 — пач. 10 ст. (верхні гарызонт) і 7 ст. (ніж-



*Помнік землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у в. Цераблічы.*

ні). Пастаянна не было заселена; верагодна, з'яўлялася сховішчам на выпадак ваеннай небяспекі. Селішча прымыкае да гарадзішча з паўд.-ўсходняга і зах. бакоў. Могільнік за 200 м на ПдУ ад гарадзішча. Адкрыты ў 1937 г. ў час земляных работ. Археал. комплекс каля Хотамля — адзін з першых раннеславянскіх помнікаў 2-й пал. 1-га тыс. н.э., даследаваных на Пд Беларусі. Для комплекса характэрна спалучэнне жылога селішча, гарадзішча-сховішча і могільніка пражскай культуры. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі Беларусі, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, у Эрмітажы (С.-Пецярбург) і Бел. музеі Палесся (Пінск).

**ЦЕРАБІШЧА** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 5 км на Пн ад Століна, 250 км ад Брэста, 6 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 58 гаспадарак, 138 жыхароў (2005).

У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. вёска Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў Малячыцкіх. У 1829 г. 9 двароў, 31 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. 21 двор, 134 жыхары. На пач. 20 ст. — 30 двароў, 280 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; вёска Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 31 дом, 213 жыхароў (з іх 205 беларусаў, , астатнія палякі і католікі; 1921). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Столінскім р-не Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай абласцей. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. ў складзе калгаса «XIX партз'езд», 281 жыхар. Працуе магазін.

**ЦЕРАБЛІЧЫ** — вёска ў Рамельскім с/с, на р. Маства (прыток Сцвігі), за 45 км на ПнУ ад Століна, 290 км ад Брэста, 50 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 379 гаспадарак, 1032 жыхары (2005).

У 19 — пач. 20 ст. сяло ці вёска Тураўскай вол. Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1816 г. сяло, якое належала Масоўскім, каля 30 двароў. У пач. 20 ст. вёска, 576 жыхароў. Існаваў сплаўны промысел. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; вёска Хорскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 201 дом, каля 570 жыхароў (у т.л. 541 беларус; 1921). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Давыд-Гарадоцкім р-не Пінскай вобл., з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл., з 19.1.1961 г. ў Столінскім р-не, у складзе калгаса «Праўда». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. ў Аздаміцкім с/с, 1305 жыхароў. Пазней в. Цераблічы увайшла ў склад калгаса «Колас». Працуе магазін. У цэнтры вёскі ўстаноўлены (1984) помнік (скульптура жанчыны ў жалобе; 1984) на ўшанаванне памяці 41 жыхара вёскі, якія загінулі ў барацьбе з гітлераўцамі ў гады Вял. Айч. вайны.

**ЦМЕНЬ 1** — вёска ў Рухчанскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Століна, 225 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў (2005).

У 19 — пач. 20 ст. Цмень 1 — вёска Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў Скірмунтаў, Гарцінгаў. Тут дзейнічала праваслаўная царква, прыпісаная да Радчыцкага праваслаўнага прыходу. У 1892 г. 14 двароў, 83 жыхары. Паводле перапісу 1897 г. вёска



Радчыцкай вол. Пінскага пав., 26 двароў, 225 жыхароў, хлебазапасны магазін. У пач. 20 ст. 44 двары, каля 300 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; вёска Радчыцкай гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., 71 гаспадарка, 435 жыхароў (у т.л. 415 беларусаў, 414 праваслаўных; 1921). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Рухчанскім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл., з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 292 жыхары. У 1970 г. ў калгасе імя Калініна, 167 жыхароў. Працуе магазін.

**ЦМЕНЬ 2** — вёска ў Рухчанскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Століна, 220 км ад Брэста, 10 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 13 гаспадарак, 25 жыхароў (2005).

Паводле перапісу 1897 г. Цмень 2 — ваколіца Радчыцкай вол. Пінскага пав., 11 двароў, 81 жыхар, праваслаўная царква. У пач. 20 ст. маёнтак Цмень Церабяжоўскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., 15 дамоў, 98 жыхароў. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; вёска Радчыцкай гміны Пінскага пав. Палескага ваяв., 22 дамы, 131 жыхар (у т.л. 128 беларусаў, 131 праваслаўны; 1921). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Рухчанскім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл., з 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 187 жыхароў. У 1970 г. ў калгасе імя Калініна, 154 жыхары. Каля вёскі пахаваны 9 жыхароў вёсак Цмень 1 і Цмень 2, якіх загубілі гітлераўскія карнікі ў 1942 г. На магіле ахвяр фашызму ў 1974 г. ўстаноўлены абеліск.

**ЮНІШЧА** — вёска ў Відзіборскім с/с, за 5 км на Пн ад Століна, 250 км ад Брэста, 5 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 134 гаспадаркі, 298 жыхароў (2005).

У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. вёска Столінскай вол. Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць Солтанаў, уваходзіла ў склад маёнтка Столін. У 1880-я г. 24 двары; дзейнічалі млын, вінакурны з-д і царква. Паводле перапісу 1897 г. вёска, 44 двары, 298 жыхароў, хлебазапасны магазін, царква, піцейны дом. У 1909 г. 61 двор, 362 жыхары. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак Юнішча, 1 гаспадарка, 45 жыхароў. У 1921—39 гг. ў складзе Польшчы, вёска Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 67 дамоў, 347 жыхароў (у т.л. 346 праваслаўных беларусаў, 1 паляк; 1921). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Столінскім р-не Пінскай, з 8.1.1954 г. Брэсцкай. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. вёска акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. ў складзе калгаса «Шлях да камунізму», 367 жыхароў. Пазней в. Юнішча ўступіла ў калгас «Столінскі». Працуе магазін. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі размешчаны археал. помнік — гарадзішча (мясц. назвы Акоп, Малое Гарадзішча). Абследавалі ў 1955 г. Ю.В.Кухарэнка, у 1970 г. В.Б.Караткевіч, у 1980 г. Г.М.Залашка. Раскопкі не праводзіліся.



*У народным этнаграфічным музеі в. Цераблічы.*

**ЯМНАЕ** — вёска ў Стружскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Століна, 252 км ад Брэста, 11 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец—Сарны. 84 гаспадаркі, 240 жыхароў (2005).

Пад 1631 г. маёнтак Ямнае пазначаны ў дакументах Віленскага цэнтр. архіва. У 1921 г. калонія Столінскай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв. Польшчы, 19 дамоў, 113 жыхароў. З 1939 г. ў складзе БССР, з 12.10.1940 г. вёска Стружскага с/с Столінскага р-на Пінскай, з 8.1.1954 Брэсцкай абласцей. Напярэда-

дні Вял. Айч. вайны 18 двароў, 91 жыхар. З ліп. 1941 г. да ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. спалілі яе і загубілі 2 жыхароў. Адноўлена пасля вайны. Паводле перапісу 1959 г. хутар, 371 жыхар. У 1970 г. вёска ў калгасе імя Чапаева, 458 жыхароў. Побач ёсць археал. помнік — паселішча, якое ў 1986 г. выявіла і абследавала В.С.Вяргей. Знойдзены крамянёвыя вырабы, абломкі посуду бронзавага веку, ляпная кераміка мілаградскай, зарубінецкай і пражскай культур. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Ін-це гісторыі Нац. акадэміі навук Беларусі.

**ЯСТРАБЕЛЬ** — вёска ў Беражноўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Століна, 275 км ад Брэста, 18 км ад чыг. ст. Відзібор на лініі Лунінец—Сарны. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2005).

У пісьмовых крыніцах згадваецца з 18 ст. як вёска ў складзе Рэчы Паспалітай. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, з 1795 г. вёска Пінскага пав. Мінскай губ., уласнасць памешчыкаў Шчытаў. Паводле перапісу 1897 г. 4 двары, 45 жыхароў. У пач. 20 ст. вёска Плотніцкай вол. Пінскага пав., 7 двароў, 65 жыхароў. Адносілася да Дубенецкага праваслаўнага прыхода. У 1921—39 гг. у складзе Польшчы; вёска Плотніцкай гміны Лунінецкага пав. Палескага ваяв., 13 дамоў, 71 жыхар (1921). З 1939 г. ў БССР, з 12.10.1940 г. ў Беражноўскім с/с Столінскага р-на Пінскай вобл. Напярэдадні Вял. Айч. вайны 15 двароў, 45 жыхароў. З ліп. 1941 г. да пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1943 г. спалілі вёску і загубілі 2 жыхароў. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл. Паводле перапісу 1959 г. хутар, 70 жыхароў. У 1970 г. Ястрабель у аграфірме імя Леніна. Працуе магазін.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 5, спр. 2126, 2326, 2328, 2329, 2330, 2336; ф. 30, воп. 5, спр. 6753, 6759, 6760; воп. 9, спр. 2378, 2387.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 142, воп. 1, спр. 846; ф. 333, воп. 9, спр. 49, 60, 61, 63, 122, 381, 583, 585; ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2171.

Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 233.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 1290, воп. 11, спр. 1318, 1319, 1328.

Філіял Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці ў г. Пінск, ф. 3, воп. 2, спр. 211.

Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском..., составленная старостою мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 г. Вильна, 1867.

Список волостей, обществ и селений Минской губернии на 1.1.1870 г. Мн., 1870.

Ординация королевских пущ в лесничествах бывшего Великого княжества Литовского, составленная по инструкции... в 1641-м году. Вильна, 1871.

Писцовая книга бывшего Пинского Староства, составленная по повелению короля Сигизмунда Августа в 1561—1566 годах пинским и кобринским старостою Лаврином Войною (с переводом на русский язык). Ч. 2. Вильна, 1874.

Список землевладельцев Минской губернии за 1876 г. Мн., 1877.

Описание церквей и приходов Минской епархии. Вып. 6. Пинский уезд. Мн., 1879.

Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная Пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 г. Издание Виленской археографической комиссии. Вильна, 1884.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Список землевладельцев Минской губернии: издание Минского губернского статистического комитета. Мн., 1889.

Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 24. Вильна, 1897.

Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Ист. очерки. [М., 1892].



Россия. Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 33. Вильна, 1908.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Русская историческая библиотека. Т. 27. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 1. Книги записей. Т. 1. СПб., 1910.
Опись документов Виленского центрального архива древних актовых книг. Вып. 10. Вильна, 1913.
Русская историческая библиотека. Т. 33. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3. Книги публичных дел. Т. 1. Переписи войска литовского. Пг., 1915.
Русская историческая библиотека. Т. 20. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 2. Книги судных дел. Т. 1. СПб., 1903.
Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. М., 1915.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Материалы районирования западных областей БССР. Мн., 1940.
Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1—3. Мн., 1959—61.
Революционный подъём в Литве и Белоруссии в 1861—1862 гг. М., 1964.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974.
Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975.
Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—44). Мн., 1975.
Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1976.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Брэсцкая вобл. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: Справ. Т. 1—2. Мн., 1985—87.
Прамысловыя прадпрыемствы дарэвалюцыйнай Беларусі. Мн., 1988.
Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941—1945: Энцыкл. Мн., 1990.
Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990.
Свод памятников истории и культуры Белоруссии: Брестская обл. Мн., 1990.
Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.
Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. Мн., 1993.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1—6. Мн., 1993—2003.
Нямецка-фашысцкі генацыд на Беларусі (1941—1944): [Зб. дак. і матэрыялаў]. Мн., 1995.
Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. 2 выд. Мн., 2001.
Литовская метрика. Кн. 51 (1566—1574). Книга записей 51/ Подготовили А.Балюлис, Р.Рагаускене. Вильнюс, 2000.
Асветнікі зямлі Беларускай, X — пач. XX ст.: Энцыкл. давед. Мн., 2001.
Кулагін А.М. Праваслаўныя храмы на Беларусі: Энцыкл. давед. Мн., 2001.
Беларуская энцыклапедыя. Т. 15. Мн., 2002.
Памяць: Столінскі р-н. Мн., 2003.
Рэспубліка Беларусь: Вобласці і раёны: Энцыкл. давед. Мн., 2004.
Несцярчук Л.М. Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стст. 2 выд. Мн., 2005.
Федорук А.Т. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2004.
Атлас гісторыі Беларусі: Ад старажытнасці да нашых дзён: (Дадат. да 6-томнай «Энцыкл. гісторыі Беларусі»). 2 выд. Мн., 2006.
Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 11. Warszawa, 1890.
Przewodnik po Litwie i Białejrusi / Zebrał i opracował N.Rouba. 3 wyd. Wilno, 1908.
Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 7. Cz. 1. Warszawa, 1923; T. 8. 1924.
Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński (Notatki historyczne). Brześć nad Bugiem, 1930.
Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972.
Malczewska M. Latyfundium Radziwiłłów w XV do połowy XVI wieku. Warszawa; Poznań, 1985.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ НА КАРТАХ РАЁНАЎ

### НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

Паводле адміністрацыйнага значэння


Цэнтр вобласці


Цэнтры раёнаў


Цэнтры сельсаветаў

Паводле тыпу паселішча

| | |
|---|---|
| КОБРЫН | Гарады |
| Лагішын | Пасёлкі гарадскога тыпу |
| *Войская* | Сельскія населеныя пункты |

### МЕЖЫ


дзяржаў


абласцей


раёнаў


нацыянальных паркаў і запаведнікаў

### ШЛЯХІ ЗНОСІН


Чыгункі

Аўтамабільныя дарогі


Аўтамагістралі


з удасканаленым пакрыццём


з пакрыццём


без пакрыцця


грунтавыя дарогі

Скарачэнні, прынятыя на картах раёнаў

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| вдсх | вадасховішча | Вял. | Вялікі | Нов. | Новы |
| Верх. | Верхні | запав. | запаведнік | р-н | раён |
| вобл. | вобласць | кан. | канал,канава | Стар. | Стары |
| воз | возера | Ніж. | Ніжні | Чырв. | Чырвоны |

абл. — абласны
агр. — аграрны
агульнаадукац. — агульнаадукацыйны
аддз. — аддзяленне
адм. — адміністрацыйны
адм.-гасп. — адміністрацыйна-гаспадарчы
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
акупац. — акупацыйны
акц. т-ва — акцыянернае таварыства
арг-цыя — арганізацыя
артыл. — артылерыйскі
арх. — архітэктурны
археал. — археалагічны
асн. — асноўны
афіц. — афіцыйны
аўтадарога — аўтамабільная дарога
б. — былы (пры назве)
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел. — беларускі
біягр. — біяграфічны
б-ка — бібліятэка
быт. — бытавы
в. — вёска (пры назве, у адзіночным ліку)
вайск. — вайсковы
вал. — валасны
ваяв. — ваяводства
вер. — верасень

ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць (пры назве)
воз. — возера (пры назве)
вол. — воласць (пры назве)
выд. — выданне
выд-ва — выдавецтва
вытв. — вытворчы
вытв-сць — вытворчасць
выяўл. — выяўленчы
вял. — вялікі
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
вярх. — вярхоўны
Вярх. Савет — Вярхоўны Савет
г. — горад/гара (пры назве ў адз. ліку)
г. — год (1921 г.), гады (1950-я г.)
гг. — гады (1830—31 гг., 1935 і 1937 гг.)
газ. — газета
гал. — галоўны
гандл. — гандлёвы
гар. — гарадскі
гарсавет — гарадскі савет
гасп. — гаспадарчы
гв. — гвардзейскі
геагр. — геаграфічны
ген. — генеральны
ген. — генерал (пры імені)
ген.-лейт. — генерал-лейтэнант
ген.-маёр — генерал-маёр
ген.-палкоўнік — генерал-палкоўнік
герм. — германскі
гіст. — гістарычны
г.п. — гарадскі пасёлак (пры назве)
грамадз. — грамадзянскі
губ. — губернскі
губ. — губерня (пры назве у адз. л.)
дакум. — дакументальны
дзярж. — дзяржаўны
дзес. — дзесяціна
дэп. — дэпутат
еўрап. — еўрапейскі
жал. — жалезны
жн. — жнівень
З — захад (напрамак)
засл. — заслужаны
засн. — заснаваны
зах. — заходні
з-д — завод
індустр. — індустрыяльны
ін-т — інстытут
каап. — кааператыўны
каап. — кааперацыйны
калект. — калектыўны
кастр. — кастрычнік
кн. — кніга (пры назве)
кн. — князь (пры імені)
крас. — красавік
к-т — камітэт
культ. — культурны
культ.-асв. — культурна-асветны
ліп. — ліпень
літ. — літоўскі
ліст. — лістапад
л-ра — літаратура
манум. — манументальны
маш.-буд. — машынабудаўнічы
МТС — машынна-трактарная станцыя
муз. — музычны
мяст. — мястэчка (пры назве)
мясц. — мясцовы
н. — нарадзіўся
найб. — найбольш(ы)
навук. — навуковы
навуч. — навучальны
надрук. — надрукавана
наз. — называецца
нам. — намеснік
нар. — народны
нар.-гасп. — народна-гаспадарчы
нац. — нацыянальны
нац.-вызв. — нацыянальна-вызваленчы
нач. — начальнік
н.-д. — навукова-даследчы
н. с. — новы стыль
н.э. — наша эра
ням. — нямецкі
ням.-фаш. — нямецка-фашысцкі
пав. — павятовы
паветр. — паветраны
падп. — падпольны
пал. — палавіна
пам. — памочнік
парт. — партыйны
партыз. — партызанскі
патрыят. — патрыятычны
пас. — пасёлак (пры назве)
пас. — пасялковы

паўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
пач. — пачатак
пач. — пачатковы
Пд — поўдзень (напрамак)
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед. — педагагічны
перыяд. — перыядычны
пл. — плошча
Пн — поўнач (напрамак)
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
правадз. — правадзейны
прам. — прамысловы
прам-сць — прамысловасць
праф. — прафесар
прафес. — прафесійны
прафс. — прафсаюзны
прац. — працоўны
пях. — пяхотны
р. — рака (пры назве)
р-н — раён
р.п. — рабочы пасёлак (пры назве)
рас. — расійскі
рус. — рускі
рэв. — рэвалюцыйны
рэліг. — рэлігійны
рэсп. — рэспубліканскі
с. — старонка
с. — сяло (пры назве, у адз. л.)
сав. — савецкі
Сав. Армія — Савецкая Армія
сак. — сакавік
сапр. — сапраўдны
сац. — сацыяльны
сацыяліст. — сацыялістычны
с.-г. — сельскагаспадарчы
СВК — сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў
СВП — сельскагаспадарчае вытворчае прадпрыемства
с.-д. — сацыял-дэмакратычны
слав. — славянскі
снеж. — снежань
спец. — спецыяльны
спарт. — спартыўны
с/с — сельсавет (пры назве, у адз. ліку)
с. ст. — стары стыль
ст. — стагоддзе (пры лічбе)
ст. — станцыя (пры назве)
стараж. — старажытны
стралк. — стралковы
студз. — студзень
сухап. — сухапутны
сял. — сялянскі
т-ва — таварыства
традыц. — традыцыйны
тэлегр. — тэлеграфны
тэлеф. — тэлефонны
тэр. — тэрыторыя
тэхн. — тэхнічны
У — усход (напрамак)
узбр. — узброены
укл. — уключна
укр. — украінскі
ун-т — універсітэт
унутр. — унутраны
усх. — усходні
фаш. — фашысцкі
феад. — феадальны
ф-ка — фабрыка
ф-т — факультэт
фельч.-акушэрскі — фельчарска-акушэрскі
харч. — харчовы
царк. — царкоўны
цэнтр. — цэнтральны
чал. — чалавек (пры колькасных паказчыках)
чл. — член
чл.-кар. — член-карэспандэнт
чыг. — чыгуначны
чыг. пст. — чыгуначны паўстанак (пры назве)
чыг. ст. — чыгуначная станцыя (пры назве)
чэрв. — чэрвень
шматнац. — шматнацыянальны
эканам. — эканамічны
юрыд. — юрыдычны
яўр. — яўрэйскі

## ЗМЕСТ

КАМЯНЕЦКІ РАЁН (*Бянько У.У.*) .......... 5

КОБРЫНСКІ РАЁН (*Князева В.М.*) .......... 103

ЛУНІНЕЦКІ РАЁН (*Удальцоў В.М.*) .......... 201

ЛЯХАВІЦКІ РАЁН (*Князева В.М.*) .......... 247

МАЛАРЫЦКІ РАЁН (*Бянько У.У.*) .......... 321

ПІНСКІ РАЁН (*Удальцоў В.М.*) .......... 363

ПРУЖАНСКІ РАЁН (*Дулеба Г.І., Новікава Г.М.*) .......... 477

СТОЛІНСКІ РАЁН (*Новікава Г.М.*) .......... 551

